АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА» МІНСК 1973

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ЧАРАДЗЕЙНЫЯ КАЗКІ



## Частка І

ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА» МІНСК 1973

Рэдакцыйная калегія:

В. К. Бандарчык, М. Я. Грынблат,
К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік,
В. І. Ялатаў

Складальнікі:

К. П. Кабашнікаў, Г. А. Барташэвіч

Рэдактар тома

В. К. Бандарчык

Ч 20 **Чарадзейныя** казкі, ч. 1. Рэд. В. К. Бандарчык Мн., «Навука і тэхніка», 1973.

648 с. (АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Беларус. нар. творчасць). У перапл.

Кніга з'яўляецца працягам выдання беларускіх казак, пачатак якому быў пакладзены папярэднім томам «Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі». У том уключаны характэрныя для беларускага казачнага эпасу творы пра асілкаў, на былінныя сюжэты і іншыя. Матэрыялы ўзяты з друкаваных крыніц, большасць якіх зараз практычна недаступна шырокаму колу чытачоў, і з архіваў. Пры адборы тэкстаў улічваліся іх мастацкія вартасці і навуковая каштоўнасць. Ва ўступным артыкуле і каментарыях да тэкстаў раскрываюцца ідэйныя і мастацкія асаблівасці чарадзейных казак, вызначаецца іх месца сярод адпаведных твораў іншых народаў, даюцца ўсходнеславянскія варыянты.

Бел Ф

Ч $\frac{0733\text{-}076}{М316\text{-}73}$ 41-73

# ЧАРАДЗЕЙНЫЯ КАЗКІ

У буйнейшых зборніках беларускага казачнага эпасу[1] чарадзейныя казкі займаюць цэнтральнае месца. Гэта абумоўлена перш за ўсё распаўсюджанасцю твораў, якія складалі аснову рэпертуару многіх казачнікаў. Акрамя таго, чарадзейныя казкі як адзін са старажытнейшых відаў казачнага эпасу карысталіся павышанай увагай і збіральнікаў, і даследчыкаў фальклору розных школ і напрамкаў у навуцы, асабліва паслядоўнікаў так званай міфалагічнай школы, што таксама адбілася на змесце многіх публікацый.

Але, вылучаючы чарадзейныя казкі як асобны від народнай прозы, мы да гэтага часу не маем такіх крытэрыяў, такіх азначэнняў, якія б дазволілі больш-менш дакладна аднесці той ці іншы фальклорны апавядальны твор да пэўнага віду казак, у прыватнасці да чарадзейных. Па сутнасці і зараз класіфікацыя народных казак, як і класіфікацыя ўсёй народнай прозы, вядзецца інтуітыўна, што пакідае месца суб'ектыўным ацэнкам. Такое становішча тлумачыцца ў першую чаргу тым, што ў кожным з відаў казачнага эпасу за многія стагоддзі бытавання пастаянна адбываліся вялікія ўнутраныя змены, ішло пераасэнсаванне старога ў святле новага мастацкага мыслення, напластоўваліся новыя ідэі, вобразы. Узаемадзеянне і ўзаемаўплыў жанравых форм таксама вялі да размывання міжжанравых межаў, да стварэння пераходных форм.

Калі мы гаворым аб чарадзейных казках, мы маем на ўвазе такія апавядальныя творы, дзе абавязкова прысутнічае чарадзейства, дзе дзейнічаюць незвычайныя героі або незвычайныя іх памочнікі, дзе казачная фантастыка стварае свой непаўторны свет, у якім, як і ў сапраўдным жыцці, змагаюцца сілы дабра і зла, дзе заўсёды перамагае справядлівасць. Такая вельмі агульная характарыстыка чарадзейных казак патрабуе пэўнай канкрэтызацыі, выяўлення адметных рыс у параўнанні з іншымі казкамі. Як

---

[1] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. III. Витебск, 1887; вып. IV, Витебск, 1891; вып. VI, Могилев, 1901; В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. I. СПб, 1891; П. В. Шейн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. II. СПб, 1893; M. Federowski. Lud białoruski, т. I—III. Kraków, 1897, 1902, 1903.

вядома, характар казкі, яе спецыфіка ў значнай ступені абумоўлены характарам казачнай фантастыкі, казачнай выдумкі, якая ў сваю чаргу вызначаецца пануючым на пэўным гістарычным этапе светапоглядам працоўных мас, асаблівасцямі іх мастацкага мыслення.

Фарміраванне чарадзейных казак вучоныя звязваюць з дакласавым грамадствам, якое характарызуецца нізкай ступенню развіцця вытворчых сіл, моцнай залежнасцю чалавека ад навакольнай прыроды. На ранніх этапах развіцця чалавецтва грамадскай свядомасці розных народаў уласціва міфалагізаванне, г. зн. бессвядома-мастацкая перапрацоўка прыроды і грамадскіх адносін у фантазіі і пры дапамозе фантазіі. Гэта быў час у гісторыі грамадства і грамадскай свядомасці, калі, па словах К. Маркса, *«уяўленне,* гэты вялікі дар, які так многа садзейнічаў развіццю чалавецтва, пачало *цяпер ствараць няпісаную літаратуру міфаў, легенд і паданняў...»* [2]

Фантастыка чарадзейных казак, неаддзельная ад жыцця, адлюстроўвала яго ў мастацкіх формах, адпаведных агульнаму ўзроўню грамадскай свядомасці, не толькі не выключаючы, але і прадугледжваючы элементы міфалагізавання з'яў прыроды і грамадскіх адносін, элементы татэмізму, анімізму і іншых скажоных уяўленняў аб навакольным свеце. Далейшае развіццё чарадзейных казак прыводзіла да мастацкага пераасэнсавання асобных вобразаў, ідэй, але гэты працэс да пары не парушаў адзінства формы і зместу. Калі ж эстэтычныя прынцыпы, на якіх былі заснаваны чарадзейныя казкі і характар іх фантастыкі, прыйшлі ў супярэчнасць з новым мастацкім асэнсаваннем рэчаіснасці, якое выключала ўсякае міфалагізаванне прыроды і грамадскіх адносін, адмаўляла ці ва ўсякім разе ставіла пад сумненне існаванне розных звышнатуральных сіл, глеба для развіцця чарадзейных казак знікла. Яны паступова затухаюць, становяцца здабыткам дзіцячай аўдыторыі, у свядомасці якой старажытная фантастыка чарадзейных казак па-ранейшаму знаходзіць водгук.

Характар канфлікту, як і асаблівасці мастацкай выдумкі, таксама ў значнай ступені вызначае адметнасць чарадзейнай казкі. Фарміраванне гэтага віду казачнага эпасу ў грамадстве, якое яшчэ не ведала класавых супярэчнасцей, было звязана з барацьбой за падпарадкаванне сіл прыроды. Побач з гэтым у сувязі са зменамі ў розных сацыяльных інстытутах дакласавага грамадства, у прыватнасці са зменамі форм сям'і, парадку наследавання і г. д., што ставіла асобных членаў грамадства ў няроўнае становішча, істотна закранала іх інтарэсы, узнікаюць канфлікты маральна-этычнага плана: барацьба дабра і зла, справядлівасці і несправядлівасці. У класавым грамадстве гэтыя канфлікты пераасэнсоўваюцца, набываюць сацыяльную вастрыню, але ў пераважнай большасці выпадкаў не пераха-

---

[2] К. Маркс и Ф. Энгельс об искусстве, т. 1. М., 1967, стар. 248.

дзяць тую мяжу, за якой адлюстраванне класавых супярэчнасцей набывае якасна новы характар, як гэта мы бачым у сацыяльна-бытавых казках.

Характару канфлікту і асаблівасцям фантастыкі ў чарадзейнай казцы адпавядае сістэма вобразаў і мастацкі стыль. Яе героі — волаты, асілкі, царэвічы, каралевічы або звычайныя людзі, якім дапамагаюць розныя чарадзейныя памочнікі. Ім супрацьстаяць таксама незвычайныя істоты, надзеленыя звышнатуральнымі здольнасцямі: шматгаловы змей Паганы Цмок, Кашчэй Бессмяротны, розныя чараўнікі і інш. Стварэнне гэтых вобразаў патрабуе адпаведных выяўленчых сродкаў, сярод якіх немалаважная роля належыць мастацкай гіпербале. У чарадзейных казках выпрацоўваецца свой адметны стыль, замацоўваецца так званая казачная абраднасць, якую складаюць пачатковыя прыказкі і канцоўкі, трохразовыя паўторы, мастацкія формулы-апісанні знешняга падабенства герояў, іх незвычайна хуткага росту, багатырскага каня і іншыя агульныя месцы.

Адзначаныя вышэй асаблівасці мастацкай выдумкі, характар канфлікту, адметныя рысы вобразнай сістэмы і стылю і з'яўляюцца для нас тымі агульнымі крытэрыямі, якія дапамагаюць вылучаць з разнастайнай народна-паэтычнай апавядальнай спадчыны чарадзейныя казкі як самастойны від казачнага эпасу.

Паходжанне чарадзейных казак, адной з найбольш ранніх форм мастацтва слова, здаўна прыцягвала да сябе ўвагу даследчыкаў. Гэта праблема набывае тым большую важнасць, што непасрэдна звязана з праблемай паходжання мастацтва і яе вырашэннем з ідэалістычных або матэрыялістычных пазіцый. Яшчэ ў мінулым стагоддзі прадстаўнікі міфалагічнай школы сцвярджалі, а зараз гэты пункт гледжання падзяляюць неаміфолагі, што народныя казкі ўзніклі на глебе міфалогіі, а самі міфы не што іншае, як адлюстраванне рэлігійных поглядаў нашых далёкіх продкаў. З ідэалістычных пазіцый вырашалі праблему паходжання чарадзейных казак паслядоўнікі антрапалагічнай і псіхалагічнай школ, а таксама кампаратывісты. Апошнія распрацавалі тэорыю вандроўных сюжэтаў, згодна з якой узнікненне казак адносіцца да перыяду індаеўрапейскай агульнасці, а ўсё далейшае развіццё — запазычанне некалі ўзнікшых сюжэтаў рознымі народамі.

Відавочна, што ўсе гэтыя тэорыі адрываюць казку ад гісторыі яе стваральнікаў, ігнаруюць тую канкрэтную сацыяльна-гістарычную глебу, на якой вырастала і развівалася паэтычнае мастацтва розных народаў. Савецкая фалькларыстыка, грунтуючыся на марксісцка-ленінскай тэорыі развіцця прыроды і грамадства, вывучае генезіс і развіццё казачнага эпасу і чарадзейнай казкі ў непарыўнай сувязі з сацыяльна-гістарычнымі ўмовамі, з гісторыяй працоўных мас, з развіццём прадукцыйных сіл і вытворчых адносін. На працоўную аснову народнага мастацтва наогул і чарадзейных казак у прыватнасці неаднаразова звяртаў увагу А. М. Горкі. Ён пісаў,

што «пад кожным узлётам старажытнай фантазіі лёгка адкрыць яе ўзбуджальніка, а гэты ўзбуджальнік заўсёды — імкненне людзей зрабіць сваю працу больш лёгкай»[3]. Асноўны сэнс старажытных казак, міфаў і легенд А. М. Горкі бачыў у тым жа імкненні людзей зрабіць сваю працу больш лёгкай. Палемізуючы з буржуазнымі вучонымі, якія даследавалі гісторыю першабытнай культуры ў адрыве ад матэрыяльнай асновы развіцця грамадства, А. М. Горкі пісаў: «Рэальнае ператварылася ў ідэальнае» якраз так, як аб гэтым здагадаўся універсальны розум Маркса: пад уплывам працэсаў працы»[4].

Калі мы падкрэсліваем сувязь фальклору з матэрыяльнай асновай жыцця грамадства, з вытворчасцю, неабходна заўважыць, што такая сувязь не з'яўляецца непасрэднай і прамалінейнай, і чым больш аддаляецца казка ад сваіх вытокаў, тым больш апасродкаваны характар набывае яна. Першыя прыказкі непасрэдна замацоўвалі, абагульнялі працоўны вопыт, першыя працоўныя песні аб'ядноўвалі фізічныя намаганні працоўнага калектыву, у першых казках мы «чуем водгукі працы над прыручэннем жывёл, над адкрыццём лекавых траў, вынаходніцтвам прылад працы»[5]. На наступным этапе развіцця фальклору на першае месца выходзіць сувязь чарадзейных казак з грамадскімі ідэямі, рознымі сацыяльнымі інстытутамі, звычаямі, абрадамі, якія самі з'яўляюцца вынікам развіцця матэрыяльнай асновы жыцця грамадства. Гэтыя фактары неабходна вывучаць, але калі разглядаць узнікненне і развіццё казкі толькі ў залежнасці ад вытворных з'яў пэўнай эпохі, губляючы з поля зроку аснову, можна прыйсці да памылковых палажэнняў і вывадаў. Так, у адной з найбольш грунтоўных у савецкай фалькларыстыцы прац, прысвечаных генезісу чарадзейных казак, У. Я. Проп прыходзіць да вываду, што самай старажытнай асновай казкі з'яўляецца цыкл ініцыяцыі[6]. «Другім цыклам, кругам, які выяўляе адпаведнасць з казкамі, з'яўляецца цыкл уяўленняў аб смерці»[7].

Можна згаджацца або не згаджацца з даследчыкам у ацэнцы той ролі, якую ён адводзіць цыклу ініцыяцыі і цыклу ўяўленняў аб смерці ў генезісе чарадзейнай казкі, але і самі гэтыя цыклы, калі прызнаць іх значэнне, патрабуюць сацыяльна-гістарычных тлумачэнняў.

Такім чынам, падкрэсліваючы працоўную аснову чарадзейных казак, мы і ў далейшым павінны разглядаць іх у сувязі з развіццём матэрыяльнай асновы жыцця грамадства і тымі з'явамі сацыяльна-эканамічнага і духоўнага побыту, якія вырастаюць з гэтай асновы.

---

[3] М. Горький. О литературе. М., 1953, стар. 694.
[4] Там жа, стар. 636.
[5] Там жа, стар. 693.
[6] В. Я. Пропп. Исторические корни волшебной сказки. Л., 1946, стар. 329.
[7] Там жа.

Чарадзейныя казкі з усімі іх адметнымі рысамі сфарміраваліся не адразу. Ім папярэднічалі першасныя апавяданні, прасякнутыя пафасам барацьбы нашых продкаў з рознымі таямнічымі сіламі прыроды: апавяданні паляўнічых, аб здабыванні і захаванні агню, аб стыхійных бедствах і да т. п. На гэтай глебе і выраслі чарадзейныя казкі, у якіх былі створаны мастацкія вобразы незвычайных паляўнічых, пераможцаў розных стыхій. У беларускім фальклоры гэта вобразы Дубін-багатыра, або Вярнідуба, Гарын-багатыра, або Гарыні, Ламікаменя, Усыні і г. д., якія, хаця і прайшлі пэўную эвалюцыю, аднак захавалі сваю першааснову [8]. Аб моцнай сувязі з працоўнай дзейнасцю чалавека, з яго марамі аб падпарадкаванні сіл прыроды сведчаць казкі, у якіх народная фантазія стварыла ў дапамогу чалавеку дыван-самалёт і боты-скараходы, самапітны збан і тапор-самасек і мноства іншых незвычайных памочнікаў.

Аднак не заўсёды сувязь з жыццём, з працоўнай дзейнасцю ў чарадзейных казках праяўлялася так выразна і зразумела. Нямала вобразаў, створаных народнай фантазіяй, увабралі ў сябе побач з рацыянальнымі зернямі некаторыя рысы, што ідуць ад татэмізму, культу продкаў, магіі. У беларускіх чарадзейных казках, дзе старажытны пласт з выразнай працоўнай асновай, а таксама з водгукамі першабытных вераванняў захаваўся паўней, чым у творчасці іншых усходнеславянскіх народаў, можна знайсці нямала падобных прыкладаў. Шматлікія варыянты казкі «Івашка Мядзведжае вушка» і іншыя творы, што апавядаюць аб подзвігах асілка, бацькам якога быў мядзведзь, носяць выразныя адбіткі пакланення славянскіх плямёнаў татэму — мядзведзю, культ якога, на думку многіх даследчыкаў першабытнай культуры, быў распаўсюджаны таксама на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Рэшткі татэмістычных уяўленняў можна заўважыць таксама ў некаторых вобразах чарадзейных памочнікаў — жывёл.

Многім чарадзейным казкам усходніх славян, у тым ліку і беларускім, уласцівы наступны эпізод: стары бацька, паміраючы, загадвае сваім сынам прыходзіць да яго на магілу, каб атрымаць сваю долю спадчыны. Аналізуючы гэты казачны матыў, У. Проп [9] і Е. Мяляцінскі [10] падкрэсліваюць, што ў ім можна заўважыць рэшткі культу продкаў. Малодшы сын, які адзін выконвае бацькоўскі загад і за гэта шчодра ўзнагароджаны бацькам, з'яўляецца асноўным захавальнікам гэтага культу.

---

[8] У. Я. Проп лічыць, што Гарыня — дух гор, што Усыня, Гарыня і Дубыня «могуць быць вызначаны як гаспадары стыхій» (Исторические корни волшебной сказки, стар. 166—167). Аднак у казках гэтыя персанажы выступаюць не столькі як гаспадары стыхій, колькі як іх утаймавальнікі, змагары з гэтымі сіламі прыроды.

[9] В. Я. Пропп. Исторические корни волшебной сказки, стар. 137.

[10] Е. М. Мелетинский. Герой волшебной сказки. М., 1958, стар. 139.

Вытокі многіх беларускіх чарадзейных казак ляжаць не толькі ў працоўнай дзейнасці нашых продкаў, у іх вераваннях і звычаях, але і ў сацыяльным жыцці, сацыяльных адносінах, уласцівых пэўным эпохам. Распад класічнага мацярынскага роду, пераход ад матрыярхату да патрыярхату, новыя тэндэнцыі ў наследаванні маёмасці і іншыя змены ў сацыяльным жыцці закранаді інтарэсы многіх членаў першабытнага грамадства. Жыццё патрабавала перагляду існаваўшых раней прынцыпаў народна-звычаёвага права, маральна-этычных норм. А ў сувязі з тым што фальклор заўсёды быў не толькі мастацкім адлюстраваннем жыцця народа, але і яго «маральна-практычнай філасофіяй» (І. Насовіч), у мастацкіх вобразах чарадзейных казак знайшлі шырокі водгук усе гэтыя з'явы. Вобразы сіраты, падчаркі, абяздоленага малодшага сына і іншых пакутнікаў, якія набылі асаблівы сэнс і значэнне ў пазнейшыя часы, генетычна звязаны з адзначанымі вышэй сацыяльнымі зрухамі.

Зараджэнне феадальных адносін, узнікненне Кіеўскай дзяржавы, у якой аб'ядналіся ўсходнеславянскія народы, вызначылі новы этап у развіцці чарадзейных казак. Яны напаўняюцца новым ідэйным зместам, ствараюцца новыя мастацкія вобразы, ідзе інтэнсіўны працэс пераасэнсавання мастацкіх здабыткаў мінулага. Узнікшыя раней чарадзейныя казкі пра змеяборцаў, захоўваючы традыцыйную сістэму вобразаў, апавядаюць ужо аб барацьбе народа супраць іншаземных захопнікаў. Можна меркаваць, што якраз у гэты час на першае месца сярод матываў барацьбы асілкаў з рознымі пачварамі выходзяць не «сямейныя» — пошукі выкрадзенай змеем нявесты або жонкі, а «дзяржаўныя» — барацьба з Паганым Цмокам, які «людзей паядае», «родную зямлю нішчыць». Аднак па-ранейшаму адлюстраванне рэчаіснасці ў чарадзейных казках адбываецца ў традыцыйным плане, што прынцыпова не пярэчыла мастацкаму асэнсаванню рэчаіснасці ў той час. Дзякуючы гэтаму чарадзейныя казкі адыгралі важную ролю ў развіцці вуснапаэтычнай творчасці Кіеўскай Русі. Думаецца, што іменна яны, маючы ў сваім арсенале адпаведныя вобразы і мастацкія сродкі, падрыхтавалі глебу для зараджэння і развіцця былпіннага эпасу.

Кожнае стагоддзе накладвала свой адбітак на чарадзейныя казкі. Паступова ў іх усё больш увагі надавалася адлюстраванню класавых супярэчнасцей, усё мацней гучаў голас сацыяльнага пратэсту. Канфлікт у казках атрымаў новы сэнс: ужо не барацьба чалавека з сіламі прыроды, з варожымі плямёнамі, захопнікамі, а барацьба супраць класавых ворагаў, прыгнятальнікаў-паноў вызначае змест многіх чарадзейных казак. Гэта агульнапрызнаная з'ява дала падставу некаторым даследчыкам зрабіць вывад, што «сацыяльная рэчаіснасць XIX — пачатку XX ст. атрымала ў фантастычных беларускіх казках вельмі яскравае адлюстраванне. Яна цалкам спалучалася з іх старажытнай мастацкай асновай, так што водгукі глы-

бокай даўніны не заглушалі сучаснасці ў тварэннях народнай фантазіі»[11]. Але ці так гэта на самай справе, ці такі быў шчаслівы лёс чарадзейнай казкі? Можна цалкам пагадзіцца, што характар канфлікту ў многіх чарадзейных казках істотна змяняецца, што не толькі барацьба чалавека за падпарадкаванне сіл прыроды, але і барацьба супраць прыгнёту вызначала асаблівасці ідэйна-тэматычнага зместу і вобразнай сістэмы чарадзейных казак. Але варта высветліць, як гэтыя агульныя палажэнні рэалізаваліся ў мастацкай практыцы працоўных мас.

Вядома, што светапогляд мас, іх грамадска-палітычныя ідэалы, мастацкае мысленне заўсёды ў руху, у зменах. Адпаведныя змены адбываюцца ў ідэйнай накіраванасці вуснапаэтычнай творчасці, яе жанравым складзе, спосабе мастацкага адлюстравання рэчаіснасці. І калі ўважліва паглядзець, ці паспявала за жыццём, за яго хуткім рухам, асабліва ў канцы XIX — пачатку XX ст., беларуская чарадзейная казка, ці адпавядала яна прынцыпам мастацкага мыслення працоўных мас, то можна заўважыць, што магчымасці гэтага віду казачнага эпасу ў адлюстраванні новых ідэй, новых з'яў жыцця былі ў пэўнай ступені абмежаваныя. У чарадзейных казках адбіліся класавыя супярэчнасці паміж селянінам і панам, выказана спрадвечнае імкненне да волі, да сацыяльнай справядлівасці — г. зн. тыя ідэі, якія жылі ў сялянскім асяроддзі яшчэ задоўга да скасавання прыгону. Дзякуючы гэтым якасцям многія чарадзейныя казкі актыўна бытавалі ў народзе. Але ў ходзе класавай барацьбы сярод перадавых прадстаўнікоў сялянства пашыраліся новыя ідэі: яны пачалі, напрыклад, усведамляць непрымірымасць інтарэсаў працоўных і цара, эксплуататарскую сутнасць царквы. Падобныя ідэі не знайшлі ў чарадзейных казках «яскравага адлюстравання», а больш поўна адбіліся ў сацыяльна-бытавых казках і іншых жанрах вуснапаэтычнай творчасці. Відаць, старая форма не давала ўсіх магчымасцей для мастацкага асэнсавання новай рэчаіснасці, а калі да яе звярталіся казачнікі, схільныя да сацыяльна-філасофскіх разважанняў, як напрыклад Рэдкі, то многія іх творы, у тым ліку і казку «Асілак», чарадзейнымі можна назваць даволі ўмоўна. Невыпадкова многія дарэвалюцыйныя збіральнікі і даследчыкі беларускага казачнага эпасу: Е. Р. Раманаў, М. Федароўскі, Я. Ф. Карскі — адзначалі паступовае затуханне чарадзейных казак, якія ўсё менш цікавілі слухача. Раманаў, напрыклад, пісаў, што па сведчанню старых казачнікаў — прыхільнікаў традыцыйных чарадзейна-фантастычных твораў — «сучасная моладзь адмаўляе «старыя» казкі (міфічныя, зразумела), асмейвае іх і ва ўсякім разе няздольна ацаніць належным чынам перлы беларускай паэзіі, цешыцца дробнымі, «смешнымі» (г. зн. гумарыстычнымі і сатырычнымі) казкамі»[12]. Аналагічныя думкі выказаны

---

[11] Л. Бараг. Беларуская казка. Мінск, 1969, стар. 27.
[12] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. III, стар. XI.

М. Федароўскім[13]. Усё гэта дае падставы канстатаваць, што чарадзейныя казкі, нягледзячы на сацыяльную вастрыню многіх з іх, з другой палавіны XIX ст. паступова страчвалі свае пазіцыі, што з'явілася вынікам відавочнай неадпаведнасці ўласцівага ім характару мастацкай выдумкі, метаду мастацкага адлюстравання рэчаіснасці сацыяльна-эстэтычным ідэалам новага часу.

Працэс гэты ішоў рознымі шляхамі: некаторыя творы зусім зніклі з рэпертуару казачнікаў і былі забыты, большая ж частка трывала захоўвалася ў памяці народа, але страціла сваіх дарослых слухачоў і стала здабыткам дзіцячай аўдыторыі. У гэтай аўдыторыі чарадзейныя казкі і зараз карыстаюцца вялікай папулярнасцю і любоўю, адыгрываючы важную ролю ў ідэйна-эстэтычным выхаванні дзяцей. Значная колькасць чарадзейных казак была запісана Л. Барагам у 1945—1948 гг. Частку з іх ён надрукаваў у зборніку «Беларускія казкі», які выйшаў на нямецкай мове ў ГДР. У апошняе дзесяцігоддзе чарадзейныя казкі запісваліся фальклорнымі экспедыцыямі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, філалагічнага факультэта БДУ, студэнтамі Гродзенскага педінстытута. Папярэдні аналіз сабраных матэрыялаў і непасрэдныя назіранні над жыццём твораў яшчэ раз пераконваюць у тым, што чарадзейная казка трывала замацавалася іменна ў дзіцячым асяроддзі, што трансфармацыя некаторых сюжэтаў у творчасці асобных казачнікаў адбываецца свядома і абумоўлена тымі канкрэтнымі выхаваўчымі мэтамі, якія ставіць казачнік перад сабой.

Чарадзейныя казкі аказваюць прыкметны ўплыў на развіццё сучаснага фальклору. Іх лепшыя традыцыі творча выкарыстаны ў такіх творах, як «Вялікі багатыр», «Пяць зярнят», «Ленінская праўда» і іншых беларускіх народных казках.

Сюжэтны рэпертуар беларускіх чарадзейных казак з дастатковай паўнатой даследаваны Л. Р. Барагам у манаграфіі «Беларуская казка». Аўтар адзначае, што гэты від беларускага казачнага эпасу налічвае звыш 200 сюжэтных тыпаў.[14] Найбольш папулярныя сюжэты беларускіх чарадзейных казак: «Тры царствы» АА 301, які налічвае 31 варыянт, «Бой на калінавым мосце» АА 300В — 23 варыянты, «Дзівосныя дзеці» АА 707 — 25 варыянтаў, «Марка Багаты» АА 461 — 22 варыянты, «Звярынае малако» АА 315А — 21 варыянт, «Канёк-гарбунок» АА 531 — 18 варыянтаў, «Дзівосная кароўка» АА 511 — 17 варыянтаў. Вельмі шырока прадстаўлены таксама казкі «Пераможац змея» АА 300А, «Салдат і смерць» АА 330В, «Праўда і крыўда» АА 613, «Сіўка-Бурка» АА 530 і інш. Некаторыя сюжэты ў беларускім фальклоры прадстаўлены большай колькасцю варыянтаў,

---

[13] M. Federowski. Lud białoruski, т. II, стар. XI.

[14] Л. Бараг. Беларуская казка, стар. 144.

чым у рускім і ўкраінскім, а каля 50 сюжэтных тыпаў беларускіх казак не маюць адпаведнікаў у міжнародных паказальніках казачных сюжэтаў Аарнэ—Томпсана, Андрэева і Кржыжаноўскага [15].

Характарыстыка сюжэтнага рэпертуару беларускіх чарадзейных казак была б недакладнай, калі б мы не падкрэслілі такую вельмі важную і распаўсюджаную ў гэтым відзе казачнага эпасу з'яву, як кантамінацыя. Бадай-што палавіна беларускіх чарадзейных казак арганічна аб'ядноўвае два ці больш сюжэтных тыпаў. Пры гэтым кантамінацыя можа быць самай разнастайнай. Асноўны сюжэт пра змеяборцаў часам ускладняецца матывамі АА 513А «Цудоўныя памочнікі», АА 530А «Сіўка-Бурка» і інш. У той жа час матыў змеяборства ўключаецца як эпізод у казкі АА 400А «Муж шукае знікшую жонку», АА 313В «Цудоўныя ўцёкі» і інш.

Адзін і той жа сюжэтны тып часта кантамінуецца з рознымі іншымі сюжэтамі. Напрыклад, сюжэтны тып 511 «Аднавочка, Двухвочка, Трохвочка» ў адным выпадку кантамінуецца з тыпам 409 «Матка-рысь», у другім — з тыпам 510В «Свіны чахол»; сюжэт 531 «Канёк-гарбунок» распрацаваны самастойна і кантамінуецца з тыпам 327В «Мальчык з пальчык у велікана», з тыпам 328 «Хлопчык выкрадае ў нячыстага (велікана) скарб» і г. д. Можна прывесці прыклады кантамінацыі, якая сустракаецца ў беларускім фальклоры (тып 559 «Несмяяна царэўна»+530В «Свінка — залатая шчацінка»), але невядома рускаму і ўкраінскаму казачнаму эпасу. Шырокае спалучэнне разнастайных сюжэтных тыпаў у чарадзейных казках у пераважнай большасці выпадкаў дае арганічна цэласны, мастацкі завершаны твор, усе сюжэтныя звенні якога падпарадкаваны адзінай задуме, адзінай мастацкай мэце.

У беларускім фальклоры шырока прадстаўлены казкі пра пераможцаў змея, асілкаў. У цэнтры іх вобразы Івашкі Мядзведжага вушка, Кацігарошка, Івана Кабыліна сына і інш. Генетычна гэта вобразы розныя: адны з іх звязаны з татэмістычнымі ўяўленнямі, другія з'яўляюцца мастацкім адлюстраваннем барацьбы мінарата і маярата, але ідэйна змест гэтых вобразаў у вядомых нам зараз казках вельмі блізкі: і Івашка Мядзведжае вушка, і Кацігарошак, і Іван Кабылін сын выступаюць як змагары за праўду, справядлівасць супраць розных варожых людзям сіл. Так, у вельмі распаўсюджаных на Беларусі чарадзейных казках, якія ў паказальніках казачных сюжэтаў аб'ядноўваюцца ў групу казак пра тры царствы, героі ў пошуках Кашчэя або шматгаловага змея трапляюць спачатку ў меднае, потым у срэбранае і нарэшце ў залатое царства, дзе перамагаюць ворага і вызваляюць захопленых ім у палон царскіх дачок. У некаторых варыянтах разам з царэўнамі яны вызваляюць і іншых людзей, захопленых у палон ворагам. Казкі аб асілках услаўляюць подзвігі, гераізм, у іх створаны вобраз муж-

[15] Л. Бараг. Беларуская казка, стар. 153.

нага, смелага і дужага чалавека, здольнага перамагчы і пераадолець усе перашкоды на шляху да шчаслівага жыцця. Сярод мастацкіх сродкаў, пры дапамозе якіх ствараюцца вобразы асілкаў, галоўная роля належыць гіпербалізацыі. Казачны герой валодае велізарнай сілай: ён з карэннем вырывае стогадовыя дубы, падкідвае вышэй воблакаў шматпудовую булаву, адзін перамагае шматгаловага змея або незлічонае варожае войска. Ён заўсёды вылучаецца высакародствам, пачуццём справядлівасці, абараняе пакрыўджаных, і гэта прыносіць яму павагу, удзячнасць і любоў простых людзей.

Каб яшчэ больш падкрэсліць незвычайную сілу свайго героя, народ гіпербалізаваў таксама і яго ворагаў, надаючы ім не толькі велізарную сілу, але і здольнасць зноў і зноў папаўняць яе. Дужы Кашчэй становіцца яшчэ дужэйшы ў сваім царстве, ссечаныя галовы Паганага Цмока могуць зноў адрастаць і паліць героя полымем, калі ён не паспее абясшкодзіць іх. Для перамогі над такім ворагам неабходна не толькі багатырская сіла, але і незвычайная вынаходлівасць, кемлівасць, спрыт. Шматвяковая мастацкая практыка пераканальна паказала, што без такога захавання рэальных суадносін сіл, калі перад станоўчым героем паўстаюць сапраўдныя цяжкасці, не можа быць паўнацэннага мастацкага твора.

Вучоных даўно цікавіла пытанне, чаму ў чарадзейных казках народныя героі-асілкі звычайна змагаюцца супраць розных незвычайных істот, адкуль у казках з'явіліся вобразы змея, Кашчэя, Бабы Ягі і іншых страшыдлаў. Яшчэ міфолагі спрабавалі высветліць іх генезіс, звязваючы іх з міфічнымі ўяўленнямі нашых продкаў аб розных стыхіях прыроды. Некалькі даследаванняў апошніх год разглядаюць паходжанне вобраза Кашчэя.

У. Анікін піша: «Носьбітам усяго сацыяльна несправядлівага і антыгуманнага чарадзейнае апавяданне выбрала пачвар накшталт Кашчэя»[16]. Канкрэтызуючы гэта палажэнне, даследчык адзначае, што «Кашчэй ёсць увасабленне той сацыяльнай сілы, якая парушыла старажытныя радавыя парадкі раўнапраўя і адабрала ў жанчыны яе ранейшую сацыяльную ўладу»[17]. Кашчэй — абаронца бацькоўскага права здзірства і гвалту; у гэтым вобразе народ асуджаў духа — заступніка патрыярхальнай сям'і.

Гэты погляд на генезіс і эвалюцыю вобраза Кашчэя аспрэчвае другі даследчык усходнеславянскіх казак М. Новікаў. Ён лічыць, што канцэпцыя Анікіна мадэрнізуе вобраз Кашчэя, у якім «вельмі ўстойліва захоўваюцца яго міфалагічныя і дэманічныя рысы, што ідуць з глыбінь старажытнасці. Аднак вобраз яго — насуперак міфалагічнай творы — не статычны. Ён развіваецца, у сваім развіцці становіцца ўвасабленнем не толькі стыхійных сіл прыроды, але і ў нейкай ступені сацыяльных сіл грамадства, варожых

---

[16] В. П. Аникин. Русская народная сказка. М., 1959, стар. 143.
[17] Там жа, стар. 145.

працоўнаму чалавеку, хаця, канечне, не ў такім гіпербалізаваным маштабе, як гэта ўяўляецца У. П. Анікіну»[18].

Усебаковы аналіз гэтага вобраза сапраўды дае падставы звязваць яго генезіс са старажытным пластом народнай фантастыкі (Кашчэй валодае жывой і мёртвай вадой, ён часам выступае як чараўнік і г. д.). Увасабленне ў ім той сацыяльнай сілы, якая разбурыла старыя радавыя парадкі, адбылося ў выніку развіцця вобраза. Далейшая яго эвалюцыя звязана з паглыбленнем сацыяльных матываў у казках.

Яшчэ больш складаным у чарадзейных казках з'яўляецца вобраз змея, які таксама прыцягваў увагу многіх даследчыкаў. Вынікі пошукаў вучоных розных напрамкаў падводзіць у сваёй працы У. Я. Проп. Ён падкрэслівае, што вобраз змея шматгранны і супярэчлівы і не можа быць растлумачаны нейкай адной з'явай у матэрыяльным або духоўным жыцці людзей. Проп лічыць, што матыў змеяборства развіваецца з матыву паглынання, якое першапачаткова было абрадам і абавязкова выконвалася ў час пасвячэння. Ён паказвае сувязі гэтага вобраза з абрадамі ініцыяцыі, ахвярапрынашэнняў бажаствам урадлівасці, з уяўленнямі чалавека аб смерці і інш. Проп прасачыў эвалюцыю гэтага вобраза, які стаў сваёй уласнай супрацьлегласцю, аднак лічыць патрэбным далейшае вывучэнне пастаўленай праблемы.

Больш проста да яе вырашэння падыходзіць У. Анікін, які на падставе этымалагічнага аналізу мянушкі змея Гарыніч і некаторых казачных эпізодаў, звязаных з гэтым персанажам, выказаў думку аб рэальнай аснове вобраза змея як фантастычнага ўвасаблення агнявых з'яў у прыродзе і быце. «Калі змей — агонь,— піша Анікін,— тады не цяжка зразумець, чаму казачны змей надзяляецца мноствам галоў: гэта шматлікія вогненныя языкі. На месцы зрубленых галоў вырастае мноства іншых. Гэта таксама, бясспрэчна, зусім рэальная з'ява: агонь, дрэнна затушаны ў адным месцы, зноў разгараўся»[19].

Трэба згадзіцца з тым, што ў генезісе і развіцці вобраза змея вялікую ролю адыграў вядомы многім народам культ агню, аднак вобраз змея звязаны таксама і з іншымі з'явамі сацыяльнага і духоўнага жыцця, частка якіх вызначана Пропам, хаця апошні, на нашу думку, нярэдка пераўвялічвае значэнне абрадаў ініцыяцыі і ўяўленняў аб смерці ў развіцці чарадзейных казак.

Беларускі казачны матэрыял дазваляе зрабіць вывад, што вобраз змея ў значна большай ступені, чым вобраз Кашчэя, увабраў у сябе сацыяльныя ідэі, што сацыяльнае пераасэнсаванне гэтага вобраза і яго мастацкая трансфармацыя не спыняліся да апошніх перадрэвалюцыйных запісаў беларускіх

---

[18] Н. В. Новиков. О специфике образа в восточнославянской сказке (Кащей Бессмертный). У кн.: Русский фольклор, т. X. М.—Л., 1966, стар. 173.

[19] В. П. Аникин. Русская народная сказка, стар. 134.

чарадзейных казак. *Яркі* прыклад таму запісаная на мяжы двух стагоддзяў А. К. Сержпутоўскім казка «Іванка-прастачок», дзе ў вобразе змея і яго памагатых увасоблены варожыя працоўным людзям сілы прыгнёту, гвалту, рабаўніцтва, супроць якіх і выступае казачны герой.

Сярод беларускіх чарадзейных казак пра асілкаў асобную групу складаюць творы на быліннныя сюжэты. Казкі на быліннныя сюжэты ўласцівы фальклору ўсіх усходніх славян і многіх іншых народаў, і кожны з іх адлюстраваў у сваёй творчасці асобныя матывы, эпізоды, страчаныя казачным эпасам сваіх суседзяў ці зусім невядомыя ім. Беларускія казкі на быліннныя сюжэты прыцягвалі ўвагу яшчэ дарэвалюцыйных фалькларыстаў. Найбольш грунтоўна іх даследаваў Я. Ф. Карскі, які ўважліва прааналізаваў вялікі фактычны матэрыял і сістэматызаваў яго, размясціўшы па сюжэтах беларускія казкі і іншыя творы, звязаныя з былінным эпасам[20]. Над гэтай праблемай працавалі таксама савецкія фалькларысты, у выніку чаго была створана калектыўная праца «Беларускі эпас» (1959), дзе сабраны і шырока пракаменціраваны старыя і новыя запісы беларускіх твораў розных жанраў на быліннныя сюжэты. Казкі аб героях рускага эпасу, якія шырока бытуюць у розных народаў СССР, даследавала А. М. Астахава[21]. У яе кнізе асвятляецца таксама і беларускі матэрыял.

У беларускіх казках адлюстраваны многія эпізоды з былін пра Ілью Мурамца, а таксама пра Потака, Дабрыню, Васіля Буслаева, Данілу Лаўчаніна і інш. Найбольш шырока прадстаўлены казкі пра Ілью Мурамца. Адна з іх «Праз Іллюшку», запісаная Е. Раманавым, даволі поўна перадае асноўныя падзеі жыцця гэтага героя, захоўваючы сюжэт, ідэйную накіраванасць і нават некаторыя мастацкія прыёмы быліннага эпасу. Па сутнасці ў казцы аб'яднаны дзве быліны: «Першая паездка Ільі Мурамца» і «Ілья Мурамец і Ідалішча». Вылячэнне Ільі, карчаванне ляда, выбар каня — усё гэта вядомыя эпізоды з былін. Але ў казцы ёсць і свае асаблівасці: Ілья едзе не ў Кіеў, а ў царства Пражора, які вельмі нагадвае Ідалішча паганае. Па дарозе ён сустракае нягіднага Сокала, што сядзеў на дванаццаці дубах, і перамагае яго. Вобраз нягіднага Сокала, які забіваў людзей свістам, мае шмат агульных рыс з вобразам Салаўя-разбойніка. Ілья Мурамец перамагае таксама і цара Пражора, прычым у гэтай сцэне назіраецца амаль літаральнае падабенства з былінай пра Ілью Мурамца і Ідалішча. Ілья забівае ворага сваёй шапкай. Вызваліўшы свет, Ілья дапамагае людзям будаваць млын, лёгка кладзе на месца вялікія жорны. У гэтым эпізодзе, якога няма ў былінах, Ілья нагадвае асілкаў, якія таксама падымалі і перакідалі велізарныя каменні.

---

[20] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, ч. 1. М., 1916, стар. 485—495.

[21] А. М. Астахова. Народные сказки о богатырях русского эпоса. М.—Л., 1962.

Найбольш поўны варыянт беларускай казкі пра Ілью Мурамца быў запісаны ў 1949 г. на Гомельшчыне ад 79-гадовага казачніка Пятра Гулевіча. Гэты варыянт апавядае пра Ілью Мурамца з дня яго нараджэння і да апошніх дзён і арганічна аб'ядноўвае эпізоды трох былін: «Першая паездка Ільі Мурамца», «Ілья і Ідалішча паганае», «Святагор».

У казцы «Бязногі багатыр», запісанай А. Сержпутоўскім, таксама можна знайсці нямала агульнага з былінамі пра Ілью Мурамца, «Дабрыня і Змей», «Алёша Паповіч жэніцца», «Дабрыня і Алёша». Героі казкі «Іван Пракрасны і князь Ладымер» вельмі нагадваюць герояў былін кіеўскага цыкла. У гэтым творы Я. Карскі бачыў водгук старын пра князя Уладзіміра і Івана Гадзінавіча ці хутчэй Данілу Лаўчаніна [22].

Варта адзначыць і некаторыя іншыя паралелі паміж беларускімі чарадзейнымі казкамі і былінным эпасам. Так, у казцы «Аб Ігры Ігравічы, аб старыку Палугрыме» вобраз Абжоры падобны да быліннага вобраза Ідалішча паганага. Сцэна сустрэчы галоўнага героя Ігры Ігравіча з Абжорам вельмі блізкая да такой жа сцэны з быліны аб Ільі Мурамцу, калі той, як і герой чарадзейнай казкі, кажа Ідалішчу: «Была карова — абжора... да патом аб'елась і абпілась... Акалееш і ты». Рысы быліннага Ідалішча паганага можна заўважыць і ў персанажах іншых беларускіх казак. У казцы «Пра Івана-Дарагана» Кашчэю, як і Ідалішчу ў асобных варыянтах былін, вейкі падымае ўнучка Анціпка. Рысы абжорства, ненажэрнасці, уласцівыя Ідалішчу паганаму, можна заўважыць у персанажу казкі «Кабылін сын»: баба-змяіха выпіла ўсю рэчку і лопнула.

Персанажы беларускіх чарадзейных казак маюць таксама некаторае падабенства з былінным вобразам Салаўя-разбойніка. Не звяртаючыся да казак пра Ілью Мурамца, дзе падабенства з былiннымі вобразамі відавочнае, прыгадаем іншыя творы. У адным з іх Дзядок з кагаток сядзіць на сасне ў трыццаць абхватаў, у яго пушка-свістушка-смалянушка, якой ён на вялікай адлегласці забівае ворага. Многія казкі, напрыклад «Іскаркапарубак Дзевічы сын», можна параўнаць з вядомай былінай аб змаганні Дабрыні Нікіціча са змеем.

Падабенства паміж такімі казкамі і былінамі ў большасці выпадкаў не абмяжоўваецца агульнымі эпізодамі і вобразамі. Яно адчуваецца ў ідэйным напаўненні вобраза, у агульнай ідэйнай накіраванасці твораў. Многія казкі на былінныя сюжэты ўслаўляюць абаронцаў радзімы, і ў гэтым яны сугучны былінам.

Пры параўнанні гэтых беларускіх казак з казкамі іншых славянскіх народаў можна знайсці падобныя эпізоды, мастацкія прыёмы. Так, у сербскай казцы «Мядзведжы прыёмыш» герой, каб выпрабаваць сваю сілу, вырывае з коранем дрэва; ён просіць каваля зрабіць булаву абавязкова са

---

[22] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, ч. 1, стар. 492.

свайго жалеза (з плугоў); каб выпрабаваць булаву, кідае яе за аблокі, а потым падстаўляе спіну (калена) і г. д. Аднак генетычна гэтыя эпізоды і мастацкія прыёмы не звязаны з былінным эпасам, як гэта можна назіраць у казках усходніх славян. Імелна ідэйная і мастацкая сувязь з былінным эпасам, сфера распаўсюджання якога ў асноўным абмяжоўвалася тэрыторыяй рассялення ўсходніх славян, надае своеасаблівасць многім беларускім казкам.

Устанавіўшы сувязь групы беларускіх чарадзейных казак з былінным эпасам, неабходна паказаць вытокі гэтай з'явы. Відаць, перш за ўсё трэба падкрэсліць, што былінны эпас, які, па сведчанню буйнейшых даследчыкаў гэтага жанру, узнік у эпоху Кіеўскай Русі,— агульная спадчына трох братніх усходнеславянскіх народаў. Пра далейшы лёс былін сведчаць дакументы, з якіх вынікае, што на тэрыторыі Беларусі быліны былі добра вядомы ў XVI ст. Аб гэтым гаворыць ліст Кміты Чарнабыльскага, аўтар якога шырока спасылаўся на быліну пра Ілью Мурамца як на твор агульнавядомы, змест якога не патрабуе тлумачэнняў. Аб тым, што быліны былі вядомы на тэрыторыі Беларусі і адгукаліся на падзеі гістарычнага жыцця у перыяд складвання беларускай народнасці, сведчаць дэталі рускага эпасу, на якія звярталі ўвагу яшчэ дарэвалюцыйныя даследчыкі. У канцы мінулага стагоддзя У. Мілер надрукаваў нарыс «Ілья Мурамец і Себеж»[23], у якім пераканальна паказаў, што назва горада Себеж невыпадкова з'явілася ў былінах, яна трапіла ў гэтыя мастацкія творы ў сувязі з тым, што ў іх адлюстравана барацьба на заходніх межах Маскоўскай дзяржавы ў XVI—XVII стст. На сувязь былін з гістарычнымі падзеямі, што адбываліся на тэрыторыі Беларусі, указваў у свой час і С. Шамбінага[24]. З падзеямі, што адбываліся на граніцах заходнерускіх зямель, звязваюцца асобныя эпізоды з былін «Каралевічы з Кракава», «Браты Лівікі» і інш.

Бясспрэчна, гэтыя фактары ўплывалі на развіццё беларускіх казак. Але трэба ўлічыць яшчэ адну акалічнасць, аб якой гаварылася вышэй: у свой час чарадзейныя казкі падрыхтавалі глебу для развіцця быліннага эпасу, і гэта першасная сувязь спрыяла ўзаемадзеянню двух жанравых форм на розных этапах развіцця вуснапаэтычнай творчасці.

З казкамі аб пераможцах змея вельмі моцна звязаны чарадзейныя казкі пра цудоўных памочнікаў. Па сутнасці паміж імі ў многіх выпадках цяжка правесці выразную мяжу, хаця ў творах першай групы актыўны пачатак належыць звычайна самому герою, а ў творах другой — яго цудоўным памочнікам. Апрача таго, казкі, у якіх асноўная роля адводзіцца вобразам цудоўных памочнікаў, маюць найбольш характэрныя для гэтай

---

[23] Гл.: В. Ф. Миллер. Очерки русской народной словесности. М., 1897, стар. 391—401.

[24] С. Шамбінага. Аб бытаванні народнага эпасу ў Беларусі. «Беларусь», 1945, № 1.

групы сюжэты, а вобразы — адметныя, уласцівыя ў большасці толькі ім функцыі. Чарадзейнымі памочнікамі ў казках выступаюць незвычайныя па сваіх здольнасцях людзі: мудрая дзяўчына, парады якой выратоўваюць асілка, старэнькі дзядок, што дае герою чароўныя прадметы (збан, абрус, рог, торбу-саматруску, тапор-самасек, дыван-самалёт), а таксама жывёлы: карова, конь, кот і інш. Як мы ўжо бачылі, цудоўным памочнікам у асобных казках выступае нават Баба Яга.

Цудоўныя памочнікі дапамагаюць герою ажаніцца, высватаць царскую дачку, выканаць самыя цяжкія даручэнні, пазбавіцца галечы, дасягнуць дабрабыту. Каб вызначыць прыроду гэтых вобразаў, трэба ўсебакова прааналізаваць іх функцыі ў казках, а таксама ўлічваць іх сувязь са старажытнымі ўяўленнямі людзей. Як вышэй адзначалася, і тапор-самасек, і дыван-самалёт, і жывая вада, і многае іншае ў чарадзейных казках — вынік «вобразнага гіпатэтычнага, але ўжо тэхналагічнага мыслення» нашых продкаў. Бясспрэчна працоўную аснову маюць вобразы Кораба Карабанавіча, які малоціць збожжа, Сяўбіта, які сее, Вярнідуба, Ламікаменя і іншых працаўнікоў і змагароў са стыхіямі. Аднак не выключана, што на некаторых вобразах цудоўных памочнікаў адбіліся рэшткі старажытных вераванняў. У пэўнай сувязі з татэмістычнымі ўяўленнямі і культам продкаў знаходзіцца, напрыклад, вобраз багатырскага каня, які не толькі дае свайму гаспадару мудрыя парады, але і дапамагае яму ў змаганні з ворагам. Д. К. Зяленін, У. Я. Проп звязваюць з татэмістычнымі ўяўленнямі многія вобразы ўдзячных жывёл, жывёл-памочнікаў, у тым ліку і вядомы славянскім казкам вобраз Бурэні [25].

Гэты вобраз каровы-выратавальніцы вельмі пашыраны ў творах яшчэ адной тэматычнай групы беларускіх чарадзейных казак, якія ўмоўна можна было б назваць сямейнымі. Да іх можна аднесці шматлікія варыянты казак пра мачаху і падчарку, пра верную жонку, пра жонку-здрадніцу, пра незвычайных супругаў («Царэўна-лягушка», тып 402, «Царэвіч-воўк», тып 428 і інш.). Да гэтай групы ў пэўнай ступені прымыкаюць і казкі пра дзяцей, якія трапляюць да ведзьмы або велікана (тып 327). Зразумела, прырода разнастайных вобразаў гэтых казак неаднолькавая, генетычна яны звязаны з рознымі з'явамі ў жыцці людзей, з рознымі ўяўленнямі і рознымі гістарычнымі эпохамі. Але за доўгі час бытавання гэтых казак у народзе першапачатковы сэнс іх быў страчаны, адбылося пераасэнсаванне.

Амаль усе гэтыя казкі, у аснове якіх ляжаць канфлікты са сферы сямейных адносін, распрацоўваюць праблемы маральна-этычнага плана. Барацьба дабра і зла, праўды і маны, справядлівасці і несправядлівасці складае іх асноўны змест.

---

[25] В. Я. Пропп. Исторические корни волшебной сказки, стар. 138—141.

Аналізуючы казачныя вобразы выгнаных і заведзеных у лес дзяцей, У. Я. Проп звязвае іх паходжанне з абрадам пасвячэння, калі бацька павінен быў адвесці свайго сына ў лес для выпрабаванняў. Далейшае развіццё вобраза даследчык уяўляе наступным чынам: «Гістарычна ініцыятарам увода быў бацька ці, калі яго не было, старэйшы брат, брат маці і г. д. Але варожасць бацькі да сына казачніку незразумела, яна не адпавядае яго сямейным ідэалам. Каб апраўдаць гэту варожасць, казка ідзе па дзвюх лініях: з аднаго боку, яна чарніць і прыніжае сына... Значна часцей гэта варожасць падганяецца пад умовы сямейнай варожасці, вядомай рускай вёсцы з сапраўднай рэчаіснасці. Варожасць з'яўляецца з уступленнем у сям'ю новай асобы, носьбіта гэтай варожасці: гэта — другія жонкі або мужы пры наяўнасці дзяцей ад першага шлюбу. Так, у казцы з'яўляецца мачаха, і яе гістарычная роля — узяць на сябе гэту «варожасць», якая некалі належала бацьку. Яна і ёсць галоўны ініцыятар выгнання дзяцей у лес, да Ягі і г. д.» [26]

Пазіцыя Е. Мелляцінскага па тэтаму пытанню, на наш погляд, прынцыпова не пярэчыць вывадам У. Пропа, але істотна іх удакладняе: «Мачаха і падчарка з'яўляюцца, калі род адступае перад сям'ёй, у якой дзеці — гэта дзеці толькі сваіх бацькоў, а не роду цалкам, узнікаюць адначасова з вылучэннем малой сям'і, незалежнай ад роду» [27]. Можна дапусціць, што распаўсюджаны ў многіх народаў звычай пасвячэння, які меў важнае значэнне ў жыцці асобнага чалавека і грамадства ў цэлым, быў адным з вытокаў мастацкага вобраза сіраты, заведзенага ў лес. Калі ж глянуць на гэтыя вобразы больш шырока, не абмяжоўваючыся адной сюжэтнай сітуацыяй завядзення дзяцей у лес, то стане відавочным, што вобразы мачахі і падчаркі, вобразы нявінна пакрыўджанай маці і яе дзяцей, вобраз сіраты ёсць вынік мастацкага адлюстравання сацыяльнай няроўнасці і сваімі вытокамі звязаны не столькі з абраднасцю, колькі з сацыяльнымі зрухамі ў грамадстве.

Ідэйны змест гэтых вобразаў вызначыў тыя эстэтычныя крытэрыі, той эстэтычны напрамак, у якіх у далейшым яны распрацоўваліся казачнікамі. Супрацьпастаўленне мачахі і падчаркі, бабінай дачкі і дзедавай дачкі паступова ўзмацнялася і ў маральна-этычным і ў эстэтычным плане. Крыўдзіцелі — мачаха, яе дачка — надзяляліся рысамі несправядлівасці, зайздрасці, жорсткасці, скнарнасці, лянотай, нядбальствам. У той жа час вобраз сіраты — гэта ўвасабленне дабраты, справядлівасці, сціпласці, працавітасці, сумленнасці, умельства. Маральным якасцям героя адпавядае і яго знешняе аблічча. Мачаха і яе дачка ў казках малююцца непрыгожымі, часам пачварнымі; прыгажосцю заўсёды вылучаецца сірата. У перамозе дабра над злом, у перамозе справядлівасці яскрава праявіліся ідэалы працоўных мас.

---

[26] В. Я. Пропп. Исторические корни волшебной сказки, стар. 70.
[27] Е. М. Мелетинский. Герой волшебной сказки, стар. 181.

Сярод іншых груп беларускіх чарадзейных казак увагу прыцягваюць творы пра лёс, долю, гора, шчасце. Гэтыя абстрактныя паняцці персаніфікуюцца, набываюць бачныя абрысы жывых істот. У гэтым плане чарадзейныя казкі цікава параўнаць з адным са старажытнейшых жанраў фальклору — замовамі, а таксама з песнямі.

У замовах людзі ўяўлялі розныя хваробы, долю, шчасце ў выглядзе жывых істот. Каб пазбавіцца хваробы, нашы продкі прасілі яе пакінуць чалавека, пагражалі ёй, выманьвалі, запрашаючы перайсці ў іншае месца. Звяртаючыся, напрыклад, да ліхаманкі, каб яна выйшла «з касцей, з машчэй, з жыл і з суставаў, з буйнай галавы і ясных вачэй», ёй прапанавалі «выхадзіць у пуховыя пярыны к гаспадам: там вам чай, кахвяі і стулле мяккае» [28].

Падобная персаніфікацыя ў замовах і казках бярэ пачатак з увасаблення нашымі далёкімі продкамі розных з'яў і стыхій прыроды, але казачныя вобразы долі, гора маюць ужо прыкметнае сацыяльнае напаўненне. У свой час А. М. Горкі падкрэсліваў, што гэтыя фальклорныя вобразы даюць каштоўнейшы матэрыял для характарыстыкі народных ідэалаў і ўяўленняў, і заклікаў усебакова даследаваць вобраз долі ў народнай творчасці.

Звычайна ў беларускім фальклоры гора, доля, шчасце, бяда неадступна спадарожнічаюць людзям: за адным усё жыццё ідзе гора, за другім — шчасце. Але калі ў песнях аб долі гаворыцца пераважна як аб нечым цяжкім і непазбежным, героі казак імкнуцца пазбавіцца ад гора і знаходзяць сваё шчасце. Спакутаваны бядняк бярэ дубіну і прымушае сваю долю дапамагчы яму пазбавіцца гора і галечы. Казачны герой выманьвае з-пад печы злыдняў, заганяе ў костку сваю бяду і закапвае іх, каб яны не перашкаджалі яму ў жыцці. Гэты актыўны пачатак, няскоранасць — адметная рыса беларускіх чарадзейных казак пра долю.

Казкі заўсёды моцна былі звязаны з жыццём і заўсёды адгукаліся на тое новае, што яно ўносіла ў быт і свядомасць працоўных. Гэта тлумачыцца самой мастацкай прыродай жанру, у якім важную ролю адыгрывала імправізацыя і досыць ярка праяўляліся індывідуальны пачатак, творчае аблічча казачніка, яго светапогляд, грамадскія і эстэтычныя ідэалы. Зразумела, што кожны сапраўдны казачнік у працэсе творчасці заўсёды ў большай ці меншай ступені прытрымліваецца здаўна склаўшыхся традыцый, творчае выкарыстанне якіх таксама з'яўляецца адной з неабходных умоў мастацкага працэсу, але развівае і паглыбляе іх.

Сказаным вышэй тлумачацца тыя вялікія змены, што адбываліся ў ідэйным змесце і мастацкай форме чарадзейных казак, асабліва прыкметныя з сярэдзіны XIX ст. Амаль ва ўсіх пералічаных вышэй тэматычных групах чарадзейных казак узнікаюць творы сацыяльнага пратэсту: «Няшчасны

---

[28] В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. I, стар. 168.

егар», «Сірата Іван, дзявіца-чараўніца і пан», «Муж багаданы» і інш. Яны апавядаюць аб тым, як просты селянін з дапамогай незвычайных памочнікаў — мудрай дзяўчыны, старэнькага дзеда, цудоўнай жонкі — пазбаўляецца панскага прыгнёту і дабіваецца шчаслівага жыцця. Герой гэтых казак змагаецца супраць рэальнага ворага — прыгняталыніка-пана.

Аналагічныя па ідэйнай накіраванасці некаторыя казкі пра цудоўных памочнікаў: «Жораваў кашалёк», «Як віхар і вецер даравалі мужыку жаронцы» і інш. У казцы «Жораваў кашалёк» старэнькі дзед атрымаў ад незвычайнага жорава чарадзейны кашалёк, але кашалёк забраў у яго пан. Пайшоў стары да жорава зноў, паскардзіўся на пана. Жораў даў яму бочачку з дванаццаццю малайцамі і загадаў паклікаць «пана з паняй, войтаў і ўсіх дваран». Запрасіў іх да сябе дзед, а потым клікнуў дванаццаць малайцоў, якія расправіліся з прыгняталынікамі, адпомсціўшы за пакуты сялян. Тэма помсты за пакуты, тэма вызвалення ад прыгону ўласціва і некаторым іншым беларускім чарадзейным казкам, у якіх на змену традыцыйным вобразам прыходзяць новыя героі, рэальныя і ў многім звычайныя людзі.

Новыя рысы ў вобразнай сістэме чарадзейных казак — яркае праяўленне агульнай тэндэнцыі ў развіцці казачнага эпасу, тэндэнцыі да больш глыбокага мастацкага адлюстравання важнейшых з'яў рэчаіснасці. Аднак поўная рэалізацыя гэтых тэндэнцый у чарадзейных казках аказалася немагчымай. Новыя ідэі не ўкладваліся ў вузкія рамкі старой формы, што прыводзіла да парушэння адзінства зместу і формы і абумовіла паступовае затуханне чарадзейных казак. Толькі асобныя творы, расказаныя таленавітымі казачнікамі, захоўваючы многае з традыцыйнай спадчыны, здолелі ўзняцца да глыбокага адлюстравання новых з'яў рэчаіснасці і новых ідэй, але яны ў значнай ступені адыходзяць ад класічных узораў чарадзейнай казкі, нямала бяруць з літаратурных традыцый і сацыяльна-бытавых казак. Як прыклад можна было б назваць казкі «Асілак» і асабліва «З чаго ліха на свеце».

Герой казкі «Асілак» захоўвае многія рысы традыцыйных казачных герояў. Цудоўнае нараджэнне, незвычайна хуткі рост, велізарная сіла радняць яго з вобразамі асілкаў — пераможцаў змея і з вобразамі былінных багатыроў. Але ў казцы Асілак не б'ецца з ворагамі, ён ходзіць і навучае людзей, заклікае іх да згуртавання і барацьбы, ён — трыбун, агітатар. Новая трактоўка вобраза выклікала значныя змены ў мастацкай тканіне твора. Зніклі абавязковыя для гэтага тыпу чарадзейных казак эпізоды змагання з ворагам (апрача бойкі з разбойнікамі), не адчуваецца традыцыйнай казачнай абраднасці, вялікую ролю ў кампазіцыі адыгрывае не дзеянне, а маналог.

Яшчэ больш новага ў змесце і форме казкі «З чаго ліха на свеце». Казка вылучаецца сілай і трапнасцю крытыкі існаваўшых парадкаў і, нягледзячы на супярэчлівасць і непаслядоўнасць, наяўнасць тыповых для

дробнабуржуазнага светапогляду ідэй ураўняльнасці, была накіравана супраць самадзяржаўна-прыгонніцкага ладу і афіцыйнай ідэалогіі.

Цікавы гэты твор і з мастацкага боку. У казцы створана вельмі выразная алегарычная карціна падзеленага на антаганістычныя класы грамадства, якое казачнік малюе ў выглядзе велізарнай кучы камення, дзе знізу ляжаць маленькія каменьчыкі, вышэй — большыя, а зверху іх прыціскае адзін вялізны камень. Развіваючы свае думкі, выказваючы надзеі на хуткае вызваленне ад прыгнёту, казачнік зноў звяртаецца да гэтага алегарычнага малюнку. «Трашчыць куча, трэ каменне, на жарству іх трэ на доле; трашчыць і хутка асядае ніжэй, ніжэй да ўсё ніжыцца да долу. Мабыць, скора затрашчаць падпоркі і рассыплецца ўся куча»[29],— гаворыцца ў казцы. Увесь яе змест падводзіў да вываду, што за лепшую долю трэба змагацца самім працоўным, што ніхто другі не прынясе ім вызвалення.

Перавага элементаў філасофскага разважання над дзеяннем адбілася на кампазіцыі, сістэме вобразаў і іншых мастацкіх асаблівасцях гэтага твора. Казка «З чаго ліха на свеце» — адзін з яркіх твораў беларускай народнай паэзіі рэалістычнага напрамку.

Чарадзейныя казкі вабяць слухача прыгодамі сваіх герояў, дасканаласцю мастацкай формы. Незвычайныя істоты і цудоўныя чарадзейныя прадметы, як і неверагодныя подзвігі герояў захапляюць слухача, пераносяць яго ў нейкі незнаёмы, крыху страшны, але вельмі цікавы свет. Такому ўспрыманню казак садзейнічаюць характэрныя для іх эпізоды пераўвасаблення чалавека ў розных жывёл, птушак, каменне, што надае гэтым творам яшчэ больш таямнічасці і чараўнічай прыгажосці. Большасць прыёмаў мастацкага адлюстравання рэчаіснасці агульная для ўсіх відаў казачнага эпасу, і ў той жа час кожны від беларускіх казак мае свае асаблівасці. Нават адны і тыя ж мастацкія сродкі ў розных казках выкарыстоўваюцца па-рознаму.

Асабліва багатыя беларускія чарадзейныя казкі на сталыя эпітэты, якія надаюць ім спецыфічны каларыт, ствараюць адпаведны настрой. Многія з эпітэтаў, напрыклад *белы* свет, *калінавы* мост, *шаўковая* трава, *чыстая* вада, *добры* моладзец, *цёмны* лес і іншыя звязваюць беларускі казачны эпас з былыннымі традыцыямі і пераносяць слухачоў або ў сівую старажытнасць, або ў невядомыя і поўныя таямнічасці краіны. Некаторыя пастаянныя эпітэты пераўтварыліся ў мянушкі персанажаў або сталі непадзельнай часткай іх імёнаў: *Паганы* Цмок, Кашчэй *Бессмяротны*, Настася-*Прекрасная* і інш. Часта ўжо самі імёны герояў з'яўляюцца іх характарыстыкамі, напрыклад: Вярнідуб, Вярнігара, Сяўбіт і інш. Мова некаторых персанажаў поўнасцю ці часткова рыфмуецца. Характэрна ў гэтых адносінах прамова Асілка: «Браткі, калі б паноў чорт узяў, тады б свет бяды не знаў, а без гарапашнікаў-мужыкоў не было б ні хлеба, ні асьмакоў. А каб гэтае ліха зла-

[29] А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков. СПб, 1911, стар. 126.

маць, трэба ўсім, як адзін чалавек стаць, не грызціся паміж сабою, ды ад ворага бараніцца гурбою».

Чарадзейныя казкі ў большасці сваёй вылучаюцца цэласнай пабудовай, захоўваючы ўсе асноўныя элементы кампазіцыі. Некаторыя казкі маюць рыфмаваныя прыказкі і канцоўкі. Экспазіцыя казак звычайна пераносіць слухача ў трыдзесятае царства, у невядомыя краіны, хаця асобныя творы пачынаюцца малюнкамі жабрацкага існавання старога са старой. Завязкай дзеяння многіх чарадзейных казак служыць адлучка аднаго з дзеючых персанажаў, або парушэнне ім забароны, або першае і другое разам. У развіцці дзеяння ўжываюцца такія характэрныя для чарадзейных казак прыёмы, як рэтардацыя, трохразовае паўтарэнне дзеяння, а таксама так званыя агульныя месцы: тоесныя апісанні багатырскага каня, поля боя, паэтычныя формулы для перадачы падабенства («волас у волас, голас у голас, паходка ў паходку, гаворка ў гаворку»), незвычайна хуткага росту і інш.

У мастацкую тканіну некаторых чарадзейных казак арганічна ўваходзяць прыказкі і прымаўкі, загадкі, прыпеўкі і нават песні, якія заўсёды выконваюць пэўную ролю ў развіцці сюжэта, у раскрыцці ідэйнай задумы твора або характарыстыцы дзеючых асоб.

Беларускія чарадзейныя казкі, маючы шмат агульных рыс з казкамі ўсіх славянскіх народаў і многіх іншых народаў свету, уносяць нямала свайго адметнага ў скарбніцу народнай паэзіі славян. Як адзначалася вышэй, сюжэтны рэпертуар беларускіх чарадзейных казак мае свае асаблівасці ў параўнанні з рускім і ўкраінскім. Нацыянальнай спецыфікай вылучаюцца таксама казкі пра волатаў і асілкаў. Волаты і асілкі маюць агульныя рысы з багатырамі рускіх, украінскіх, балгарскіх казак, а таксама казак іншых народаў, і ў той жа час у гэтых мастацкіх вобразах шмат сваіх, непаўторных рыс. Прычына іх адметнасці — у сувязі гэтых вобразаў са старажытнымі паданнямі і легендамі пра заснавальнікаў родаў, пра першапраходцаў гэтых земляў, пра заснавальнікаў старажытных паселішчаў на Беларусі, у сувязі з уяўленнямі і мастацкім мысленнем непасрэдных нашых продкаў, з іх гісторыяй, бытам. Натуральна, вобразы мясцовых легенд і паданняў у казачным эпасе значна трансфармаваліся, іх эвалюцыя ніколі не спынялася, аднак першааснова, якая надавала гэтым вобразам спецыфічны каларыт, захавалася. Волаты і асілкі не толькі здзяйсняюць ратныя подзвігі, яны таксама і будаўнікі: будуюць млыны, масты, вёскі. Уплыў гэтай традыцыі ў трактоўцы гераічных вобразаў адбіўся нават у казках на былінныя сюжэты: у адным з варыянтаў Ілья Мурамец дапамагае людзям будаваць млын.

Важнай адметнай рысай беларускага казачнага эпасу, на якую звярталі ўвагу многія фалькларысты, з'яўляецца захаванне ў ім старажытных пластоў. Асабліва гэта датычыць чарадзейных казак, якія данеслі да нас многія рысы быту і светапогляду мінулых эпох, што страчаны ў фальклоры іншых славянскіх народаў. Прычыну гэтай і іншых асаблівасцей беларускіх

казак многія даследчыкі бачаць у наяўнасці ў Беларусі глухіх куткоў, адасобленых ад знешняга свету, куды не пранікаў разбуральны для казачнага эпасу ўплыў цывілізацыі. Аднак гэта палажэнне ўяўляецца нам спрэчным.

Геаграфічнае асяроддзе — немалаважны фактар эканамічнага і культурнага развіцця грамадства, які ўплывае на быт народа, яго паэзію, на фальклорны працэс і ў пэўнай ступені вызначае магчымасці ўзаемадзеяння і ўзаемаўплыву вуснапаэтычнай творчасці розных народаў. У дадзеным выпадку можна згадзіцца з тым, што наяўнасць глухіх куткоў спрыяла больш працягламу захаванню старажытных пластоў народнай паэзіі. Але гэта толькі адзін і далёка не галоўны фактар, тым больш што гутарка ідзе не пра адно захаванне, але і пра ўмовы развіцця беларускіх казак наогул. Асноўныя прычыны нацыянальнай спецыфікі беларускіх казак трэба шукаць перш за ўсё ў асаблівасцях грамадска-палітычнага жыцця Беларусі.

Нацыянальную адметнасць беларускім чарадзейным казкам надаюць не толькі захаваныя да нашых дзён старажытныя творы, але і казкі, якія ўзніклі ў XIX ст. як водгук на масавы сялянскі рух і адлюстравалі пошукі шляхоў да вызвалення ад прыгнёту. Гэта перш за ўсё казкі «Асілак» і «З чаго ліха на свеце», аб ідэйных і мастацкіх асаблівасцях якіх было сказана вышэй.

Беларускія чарадзейныя казкі — яркае сведчанне паэтычнага генія нашага народа, мастацкі помнік, у якім увасоблены гісторыя і духоўны свет беларусаў, магутны сродак выхавання.

* * *

Прапануемы чытачу том па сутнасці з'яўляецца працягам тома «Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі». Аднак гэтай кнігай не вычэрпваецца ўсё багацце беларускіх чарадзейных казак, працяг публікацыі якіх прадугледжаны планам шматтомнага выдання. Цэнтральнае месца ў дадзеным томе займаюць казкі аб асілках, казкі на былінныя сюжэты, а таксама творы пра цудоўных памочнікаў і пра розныя сямейныя калізіі. Прымаючы пад увагу навуковы характар выдання, складальнікі палічылі неабходным большасць сюжэтных тыпаў прадставіць некалькімі варыянтамі. Пры выбары варыянта для публікацыі ўлічваліся паўната сюжэта, ідэйна-тэматычны змест, паэтычнае майстэрства, каштоўнасць твора як гістарычнай крыніцы і іншыя крытэрыі, аднак не заўсёды твор адпавядае ўсім пастаўленым патрабаванням. Часам казка з разгорнутым сюжэтам запісана невыразнай, шэрай мовай, а твор з цікавай гістарычнай асновай аказваецца засмечаным пазнейшымі рэлігійнымі наслаеннямі. Усё гэта ў асобных выпадках прымушала лічыцца з такімі акалічнасцямі.

Вялікія цяжкасці заўсёды выклікае ўнутрывідавая класіфікацыя чарадзейных казак. Кіруючыся агульнапрызнаным у савецкай навуцы прынцыпам гістарызму, складальнікі імкнуліся змясціць спачатку творы, што генетычна ўзыходзяць да часоў дакласавага грамадства, у аснове канфлікту

якіх ляжала барацьба чалавека з сіламі прыроды: казкі пра асілкаў — утаймавальнікаў стыхій і іх цудоўных памочнікаў. Затым пададзены казкі, асноўны канфлікт якіх закранае сферу сямейных і сацыяльных адносін. Вядома, што кожная эпоха накладвала на вуснапаэтычныя творы свой адбітак, пераасэнсоўваліся канфлікты, набывалі новыя фарбы вобразы, і таму паслядоўнае правядзенне прынцыпу гістарызму ў радзе выпадкаў аказалася немагчымым. Практычнае рашэнне гэтага пытання ўскладняецца наяўнасцю шматлікіх кантамінацый, у выніку чаго ў адной казцы аб'ядноўваюцца вобразы і матывы, генетычна звязаныя з рознымі эпохамі. У сувязі з гэтым складальнікі не вылучаюць асобных раздзелаў, хаця ў аснове размеркавання матэрыялу ляжыць гісторыка-тэматычны прынцып, і творы аб'ядноўваюцца па групах вакол пэўных мастацкіх вобразаў.

Сярод тых тэарэтычных і практычных пытанняў, якія ўзнікаюць перад складальнікамі шматтомнага выдання беларускага фальклору, важнае месца займаюць праблемы тэксталогіі. Вядомы фалькларыст, буйны спецыяліст у галіне эпічных жанраў і тэксталогіі У. Я. Проп адзначаў, што не можа быць адзіных, прыдатных на ўсе выпадкі прынцыпаў тэксталагічнай работы. Характар тэксталагічнай работы ў кожным выпадку залежыць ад мэт выдання і яго тыпу, а таксама ад характару і якасці запісаў, якімі карыстаюцца складальнікі. Асноўная мэта прапануемага фальклорнага выдання — даць чытачу творы нацыянальнай мастацкай культуры, узоры мастацкага слова, якія б захоўвалі і подых часу, калі яны былі запісаны, і асноўныя мясцовыя асаблівасці мовы, дзе вяліся запісы. Што ж датычыць крыніц, якія выкарыстаны пры падрыхтоўцы тома, то яны не толькі істотна розняцца якасцю запісаў, але і выкананы ў розных графічных сістэмах. Непаслядоўнасць у правядзенні пэўных прынцыпаў, асабліва непаслядоўнасць у перадачы націскаў, дзеяслоўных канчаткаў і г. д. значна ўскладняла тэксталагічную работу. Складальнікі прытрымліваліся агульных для шматтомнага выдання правіл, згодна з якімі тэксты падаюцца ў адпаведнасці з сучаснымі нормамі правапісу, але ў той жа час захоўваюцца лексічныя і асноўныя марфалагічныя асаблівасці першакрыніц.

*К. Кабашнікаў*

# 1. ЯК ТРЫ ЗМЯІ ТРЫ КРАЛЕЎНЫ НА ТОЙ СВЕТ ПАХВАТАЛІ

Было ў аднаго кроля тры дачкі і адзін сын. Аднаго разу пайшлі яны ў лес па ягады, ажно надышла хмара, спусцілася на зямлю і забрала найстаршу сястру. А на той хмары быў змей з дванаццацьма галавамі. Так прыбеглі яны чуць жывы на кралеўскі двор і расказалі бацьку, што так і так, так і так. На другі дзень зноў яны пайшлі ў лес, ажно як дайшлі да таго месца, так зноў хмара спусцілася і забрала серадольшую сястру. А на той хмары быў другі змей з дзевяцьма галавамі. Яны зноў як без духу папрыбягалі да палаца і ўсё расказалі бацьку. На трэці дзень зноў пайшлі брат з сястрою ў лес. Аж пад лесам надышла раптам хмара, а на той хмары быў змей з шасцьма галавамі і ўхапіў астатню сястру. Так кралевіч, прыбегшы да бацька, расказаў аба ўсём і кажа:

— Я пойда ў свят шукаць своіх сёстр, тылько проша мне даць рэнчніка і сломка.

Так кроль даў яму ручнік і саломку і кажа:

— Добра, сынку, ідзі з богам і шукай

Ідзе, так ідзе, аж стаіць рэчка, так ён палажыў саломінку на верх ручніка і па том, як па мосце, перайшоў шчасліва. Ідзе, так ідзе, аж глядзіць — у гнездачку птушачкі маленькія. Так хацеў іх пазабіваць, аж іх маці кажа:

— Кролю-кралевічу, не бі нас, то мы табе станем у велькай прыгодзе.

Ён паглядзеў на іх і пайшоў далей. Ідзе, так ідзе, аж глядзіць, стаіць улей з пшчолмі, так ён хацеў дастаць мёду і параскідаць вашчыну. Аж пшчолы кажуць:

— Кролю-кралевічу, не зачапай нас, то мы табе станем у велькай прыгодзе.

Ён, паглядзеўшы на іх, пайшоў далей. Ідзе, так ідзе, аж пад пнём мурашнік, так ён іх хацеў параскідаць, а яны кажуць:

— Кролю-кралевічу, не зачапай нас, то мы табе станем у велькай прыгодзе.

Ён пакінуў іх і пайшоў далей. Ідзе, так ідзе, аж глядзіць — стаіць двор на граніцы другога свету. А ў том дварэ жыла слуга змяёў, старая ведзьма, і без яе пазвалення не можна было перайсці на той свет. А было ў яе два велькіх сівых кані, і, бало, хто хоча іці на той свет, то яна выпускае тыя коні, і калі зловіць, то яго перапусціць, а калі не дасць рады, то голаў сцінае. Так да тае ведзьмы зайшоў кралевіч, бо не было іншай радачкі: краз той двор анно адна дарога ішла на той свет. Так яна кажа:

— Выпушчу коні, а калі назад прыжанеш іх да стайні, то пушчу, а як не — голаў затну.

Ён падумаў і кажа:

— Добра.

Яна гэта зара зайшла, выпусціла коні, а яны, хвасты пазадзіраўшы, калі ні пабягуць у лясы! Беглі, беглі, ажно прыбеглі і наступілі на той мурашнік, а мурашкі і пшчолы як стануць іх кусаць, так самі прыбеглі да стайні. Тады ведзьма паглядзела, што няма рады, і пусціла яго на той свет. Ідзе, так ідзе, аж глядзіць — стаіць залаты замак. А ў том замку жыў змей з дванаццацьма галавамі з найстаршаю яго сястрою. Як ён вайшоў у сярэдзіну, так сястра яго адразу пазнала да і кажа:

— Чаго ты, братко, прыйшоў? Як змей прыйдзе, то ён цябе і мяне з'есць.

А кралевіч:

— Не бойся,— кажа,— анно мяне схавай у шапу.

Так яна дала яму такіх кропель, што як чалавек вып'е, то надта дуж зробіцца, і схавала яго ў шапу. Ажно прыходзіць змей. Як анно ўвайшоў у хату, так кажа:

— Не слыхана, не відана, людскім духам смярдзіць!

А жонка:

— Э,— кажа,— дзе? Тут нат птушачка не пераляцела, не то людскі дух. Ну, а жэбы і быў, то цо ты яму зрабіў бы?

— Накарміў бы, напаіў бы, срэбра, злота насыпаў бы і адправіў бы б.

А яна кажа:

— Ну, то ест тут мой брат, прыйшоў да нас у гасціну.

Так змей кажа:

— Пакажы!

Тады ён вылез з шапы, а змей:

— Як се маеш, пане швагжэ?

— Як се маеш, змей?

— Біцца,— кажа змей,— ці гадзіцца?

— Не, біцца!

І давай жа біцца. Кралевіч як сціснуў змея, аж косці затраскацелі, ледзьва змей вымавіў: «Падай вады!». Так жонка дала яму слабае вады, а брату моцнае, так кралевіч яшчэ дужайшы зрабіўся, а змей чыста аслабеў. Так кралевіч не забавіўся ўжо і змея забіў. После паадрэзваў дванаццаць языкоў, за пояс заткнуў, пажагнаўся з сястрою і пайшоў далей. Ідзе, так ідзе, аж стаіць цэлы з срэбра замак. Уходзіць ён у сярэдзіну, аж там сядзіць серадольша яго сястра. Як угледзела, так зара яго пазнала і кажа:

— Братко мой наймілейшы, а мой ты саколіку, чаго ты прыйшоў? А то ж як прыбяжыць змей, то ён і цябе і мяне з'есць.

— Не бойся, анно схавай мяне, сястронко, у шапу.

Так яна дала мацуюшчых кропель і схавала. Аж уходзіць змей.

— Не слыхана, не відана, людскім духам смярдзіць!

А жонка:

— Э,— кажа,— дзе? Тут нат птушачка не пераляцела, не то людскі дух. Ну, а жэбы і быў, то цо ты яму зрабіў бы?

— Накарміў бы, напаіў бы, срэбра, злота насыпаў бы і адправіў бы б.

А яна кажа:

— Ну, то ест тут мой брат, прыйшоў да нас у гасціну.

Так змей кажа:

— Пакажы!

Тады ён вылез з шапы, а змей:

— Як се маеш, пане швагжэ?

— Як се маеш, змей?

— Біцца,— кажа змей,— ці гадзіцца?

— Не, біцца!

І давай зноў лупіцца, і кралевіч так прыціснуў змея, што ён ледзьва мог вымавіць: «Падай вады!». Яна дала змею слабае, а брату моцнае вады. Тады кралевіч яго да рэшты забіў, дзевяць языкоў адрэзаў, за пояс іх заткнуў, а пажагнаўшыся з сястрою, пайшоў далей. Ідзе, так ідзе, аж стаіць медзяны замак. Як увайшоў у сярэдзіну, глядзіць, ажно сястра яго тамака. Так ужо сардэчна прывіталіся! После яна кажа:

— Мой ты братко, дзе я цябе схаваю? Бо як прыляціць змей, то ён нас паесць.

— Не бойся, схаваеш мяне ў шапу.

Так яна яму дала мацуюшчых кропель і схавала. Аж уходзіць змей з шасцьма галавамі. Так зара знюхаў чалавека і кажа:

— Не відана, не слыхана, людскім духам смярдзіць!

А жонка:

— Э,— кажа,— дзе? Тут нат птушачка не пераляцела, не то людскі дух. Ну а жэбы і быў, то цо ты яму зрабіў бы?

— Накарміў бы, напаіў бы, срэбра, злота насыпаў бы і адправіў бы б.

А яна кажа:

— Ну, то ест тут мой брат, прыйшоў да нас у гасціну.

Так змей кажа:

— Пакажы!

Тады ён вылез з шапы, а змей:

— Як се маеш, пане швагжэ?

— Як се маеш, змей?

— Біцца,— кажа змей,— ці гадзіцца?

— Не, біцца!

І давай ламатацца: біліся, біліся, аж кралевіч і гэтага змея забіў. Тады, адрэзаўшы языкі, за пояс пазатыкаў, да і пайшлі з сястрою да тых сёстраў. Як анно выйшлі на дарогу, так яна кажа:

— Нічога мне не шкада, толькі гэтых палацаў і багацтва.

Так ён узяў ручніка і як замахнуў, так як бач усей палац у клубок скруціўся. Тады ён улажыў у кішэнь і пайшлі. Як прыйшлі да срэбнага замка, так забралі туюю сястру і ідуць. Ажно яна кажа:

— Нічога мне не шкада, толькі гэтых палацаў і багацтва.

Так кралевіч замахнуў ручніком, той палац таксама ў клубок скруціўся, ён яго ў кішэнь, і ідуць да найстаршае. Ішлі, ішлі, аж прыйшлі да залатога замка і забралі сястру. Выходзяць на надворак, ажно і той шкада было пакідаць багацтва. Так кралевіч махнуў ручніком, палац скруціўся, ён яго ў кішэнь. Ішлі, ішлі, аж прыйшлі пад туюю самую рэчку, краз катору ён калісьціць на саломінцы і ручніку пераходзіў. Аж там разбойнікі назмысне быта тапіліся. Паўлазілі яны ў рэчку і просяць, каб ён іх ратаваў, а ён ведама, што быў добрага серца, так стаў іх выцягаць, а яны яго ўцягнулі ў ваду і ўтапілі. После сёстрам казалі прысягнуць, што яны іх ад змяёў выратавалі, і пайшлі на кралеўскі двор. Як анно адышліся, так прылятае над рэчку тая самая птушачка, што кралевіч ёй жыццё даравау, і прыносіць яму есці. Так кралевіч кажа:

— Вазьмі ты дзве пляшачкі і прынясі мне вады жывушчае і мацуюшчае.

Так птушачка як бач і прынесла. Тады кралевіч як выпіў, так зара падужаў, вылез з рэчкі, пайшоў да аднаго краўца на

кралеўскі двор і згадзіўся за чалядніка. Ажно ў гэтым самым часе кроль выдаваў найстаршу дачку за аднаго з разбойнікаў. Так яна казала таму краўцу зрабіць дыхтар такое ўвабранне, у якім яна хадзіла ў змея:

— Як зробіш,—кажа,—такую, то дам сто рублёў, а як не, то голаў кажу зняць.

Так той небарака прышоўшы дахаты стаў плакаць, а кралевіч, даведаўшыся прычыны:

— Не плач,— кажа,— мой пане гаспадару, я табе сукню пашыю, а ты паложся спаць.

Як той анно лёг спаць, так кралевіч выйшаў на двор, выняў залаты клубочак, палажыў на зямлі і як размахнуў ручнікам, так як бач зрабіўся залаты замак. Тады ён убег у сярэдзіну, ухапіў сукню найстаршай сястры, после выбег, замахнуў ручнікам, так замак зноў у клубочак звінуўся. Ён гэта ўлажыў яго ў кішэнь і пайшоў дахаты. Назаўтра, як кравец угледзеў тую сукню, так проста не мог выдзівіцца: дзякуе яму, плача з радасці, такі ўжо кантэтны! Сукня надта кралеўне спадабалася, так утрахтавала краўца і дала яму сто рублёў. На другі дзень кроль серадольшую дачку выдаваў за другога разбойніка. Так і тая краўцу заказала, каб пашыў ёй якраз такую сукню, у якой яна ў змея хадзіла:

— Зробіш,— кажа,— то заплачу дзвесце рублёў, а як не, то голаў кажу сцяць.

Так і тым разам кралевіч стаў яму ў памочы, бо надта прасіў яго. Як анно ноч настала, так узяў срэбнага клубка, палажыў на зямлі і як размахнуў ручнікам, так як бач зрабіўся срэбны замак. Тады ён убег у сярэдзіну, ухапіў сукню серадольшай сястры, после выбег, замахнуў ручнікам, так замак зноў у клубочак звіўся. Ён яго ўлажыў у кішэнь і пайшоў дахаты. Назаўтра, як кравец угледзеў тую сукню, так проста не мог выдзівіцца: дзякуе яму, плача з радасці, такі ўжо кантэтны! Сукня надта кралеўне спадабалася, так утрахтавала краўца і дала яму дзвесце рублёў. На трэці дзень кроль аддаваў наймельшу дачку за трэцяга разбойніка, так і тая таксама зазвала краўца да се і казала яму зрабіць сукню, як у змея хадзіла. І кажа:

— Калі зробіш, то дам трыста рублёў, а як не, то голаў кажу сцяць.

Так і тым разам кралевіч стаў яму ў памочы, бо надта прасіў яго. Як анно ноч настала, так узяў медзянога клубка, палажыў на зямлі і як размахнуў ручнікам, так як бач зрабіўся медзяны замак. Тады ён убег у сярэдзіну, ухапіў сукню наймельшай сястры,

пасля выбег, замахнуў ручніком, так замак зноў у клубочак звіўся. Ён яго ўлажыў у кішэнь і пайшоў дахаты. Назаўтра, як кравец угледзеў тую сукню, так проста не мог выдзівіцца: дзякуе яму, плача ад радасці, такі ўжо кантэтны! Сукня надта кралеўне спадабалася, так утрахтавала краўца і дала яму трыста рублёў.

Як настаў вечар, кралевіч пайшоў на кралеўскі двор, усе тры клубкі паклаў на надворку і як размахнуў ручніком, так зрабілася ў вока мгнені тры замкі: залаты, срэбны і медзяны. Тады ўвайшоў, у каждым акне пазапаліваў свечкі, да і сам у залатом замку сеў і стаў на ксёнжцы чытаць. Як служба анно такое дзіва ўгледзела, так зара кролю данясла. Так кроль з усімі гасцьмі выйшаў. Усе надта дзівіліся, што гэта такое, і давай абходзіць тыя палацы, а кроль, угледзеўшы, што нехта сядзіць у залатом замку, увайшоў і пытае:

— Хто тут?

— Я!

— Хто?

— Твой сын!

Так абняліся і сталі вітацца, і кралевіч зара ўсё чыста расказаў, як там было. Тады кроль казаў усіх разбойнікаў на жалезныя бораны парасцягаць, а сына ажаніў і справіў вялікае вяселле.

## 2. БРАТЫ-БАГАТЫРЫ

У некаторым царстве, у некаторым гасударстве, а іменна ў том, у якім мы цяпер жывём, жылі-былі два браты: голас у голас, волас у волас, так што цяжка было адрозніць іх. Бацька іх памёр. Рашыў тут старэйшы брат, што нечага яму рабіць дома, і пачаў збірацца ў пуць-дарогу.

Пайшлі браты на ярмалак купіць коней. Сустрэлі прадаўца.

Старэйшы брат і кажа:

— Гаспадар, калі выдзержыць мяне твой конь, то я плачу табе пяцьсот рублей, а не — то ты мне плаціш тысячу і каня аддаеш.

Стаў ён садзіцца на каня, паклаў на яго руку — упаў конь на ногі. Выйграў старэйшы сын каня і тысячу рублей удабавак.

Прыходзяць сыны дамоў, маці пытае іх:

— Дзе вы каня ўзялі?

— Мы выйгралі яго і тысячу рублей у купца.

Доўга лаяла іх матка:

— Машэннікі вы, зладзеі, бацька памёр, дык вы красці пайшлі!

Многа дзён прайшло з таго часу. Аднойчы збіраюцца браты зноў на ярмалак. Назаўтра ўсталі рана, пайшлі туды і знайшлі коней.

Старэйшы брат і кажа купцу:

— Гаспадар, калі выдзержыць мяне твой конь, я дам табе пяцьсот рублей, а не — ты мне аддаеш тысячу рублей і каня свайго.

Стаў ён садзіцца на каня — не вытрымаў конь, упаў на ногі. А конь быў добры, увесь гарыць. Узялі браты каня, тысячу рублей наверх і паехалі дамоў. Прыехалі яны дамоў, паставілі каня ў хляве, а ён увесь гарыць.

Прачнулася матка, глядзіць, як быццам пажар на двarэ. Яна крычыць:

— Людзі! Ратуйце!

— Дык гэта ж конь, мама! Мы выйгралі яго ў купцоў.

— Машэннікі вы, зладзеі, бацька памёр, дык вы красці пайшлі!

Вось адпраўляецца старэйшы брат у пуць-дарогу. Развітаўся з маткаю, з малодшым братам, дае яму платочак і карты і кажа:

— Калі карты будуць тасавацца, знай, што ■ жывы, калі на платочку з'явіцца кроў, лічы мяне мёртвым.

І пусціўся брат у пуць-дарогу. Скора казка кажацца, ды не скора дзела дзелаецца. Ішоў ён, ішоў ні доўга, ні мала, дзень, два, тры, паўгода, а можа і больш. Падыходзіць к лесу — на ўскраіне яго стаіць хатка на курыных ножках. Звяртаецца ён да хаткі:

— Хатка, хатка, стань ка мне перадам, к лесу задам!

Хатка перавярнулася. Выходзіць з хаткі бабка і пытае:

— Што табе трэба, добры маладзец?

— Бабка, шукаю каня,— адказвае ён.

— Будзеш ісці, конюх падгоніць да вадапою коней, выбірай лепшага, ударыш яму па храпе і пад нагу і садзіся.

Так ён і зрабіў. Падыходзіць да вадапою, а тут конюх гоніць коней паіць. Падбег да маладца самы лепшы конь. Вядома ж, моцныя коні і людзей моцных любяць. Узяў ён каня за храпу, ударыў пад нагу, сеў на яго і паімчаўся, толькі пыл закурэў. Праехаў царства, праехаў другое і бачыць каля дарогі хатку на курыных ножках. Звярнуўся маладзец да яе:

— Хатка, хатка, стань ка мне перадам, к лесу задам!

Хатка перавярнулася.

Выходзіць з хаткі бабка і кажа:

— Эй ты, слаўны багатыр, добры маладзец, куды цябе бог нясе?

— Еду ў белы свет.

— Глядзі,— кажа бабка,— тут будзе везці вадавоз дачку цара змею на паед.

— Добра,— кажа маладзец,— я з ім спраўлюся.

І паімчаўся ён далей, прама ў палац цара. А ў цара было тры дачкі. Адна з дачок і кажа:

— Чым змея любіць, лепей утапіцца.

А другая кажа:

— Я лепш задаўлюся.

А трэцяя кажа:

— Ён маім мужам будзе.

Прачнуўся маладзец, паснедаў, развітаўся і паімчаўся туды, дзе будзе царскую дачку вадавоз везці на паед змею.

А малодшы брат глядзіць дома ў платочак — платочак белы, карты тасуюцца. Значыць, брат жывы дзесьці.

Вось пад'язджае старэйшы брат да гары, дзе вадавоз дачку царскую везці павінен. Пад'язджае да гары і бачыць: вадавоз дачку вязе, а насустрач, з-пад гары, змей трохгаловы едзе.

— Го-го-го! Я думаў, цар адну дачку дасць, ажно яшчэ вадавоза і багатыра мне на паед удабавак прыслаў!

— Не, нячыстая сіла, падавішся!— кажа багатыр.

— Ну што ж, будзем біцца ці мірыцца?— спытаў змей.

— Біцца,— кажа багатыр.

— Дзьмі ток!— прыказаў змей.

— Не, дзьмі ты, у цябе тры галавы. Мне і на ламаччы добра будзе.

І пачалі яны біцца. Доўга біліся ці мала — невядома, але ссек багатыр змею адну за другой тры галавы. Затым адсек палец змея і кінуў у кішэню. А вадавозу кажа:

— Едзь дадому. Скажы, што я выратаваў царэўну ад смерці.

Паглядзеў на платочак і карты малодшы брат дома і бачыць: платочак белы, карты тасуюцца. Значыць, брат дзесьці жывы.

На другую раніцу цар пасылае змею на паед сярэднюю дачку. Старэйшы брат ідзе зноў пад гару біцца са змеем.

Вось едзе вадавоз з другой дачкой цара. Выходзіць насустрач ім шасцігаловы змей і крычыць:

— Го-го-го! Я думаў, цар мне адну дачку на паед дасць, а ён вадавоза і багатыра ўдабавак прыслаў.

— Не, нячыстая сіла, падавішся! — кажа багатыр.

— Ну, дык што, будзем біцца ці мірыцца?

— Біцца!

— Дзьмі ток! — кажа змей.

— Ты дзьмі ток. Мне і на ламаччы добра будзе.

Дунуў шасцігаловы змей — адразу чыста стала навокал. Пачалі яны біцца. Ударыў адзін раз багатыр — ссек адну галаву змея. Ударыў змей — загнаў багатыра ў зямлю па пяты. Ударыў другі раз багатыр — ссек другую галаву змея. А змей ударыў, дык і загнаў багатыра ледзь не па калена ў зямлю. Ударыў багатыр трэці раз — ссек трэцюю галаву змея. Змей усё слабеў і слабеў, а багатыру сама зямля-маці сілы прыбаўляла. Забіў багатыр і гэтага змея, адсек яго палец, паклаў у кішэню. А вадавозу і царавай дачцы кажа:

— Едзьце дамоў і скажыце, што я вас выратаваў.

Паглядзеў малодшы брат на платочак і карты: платочак белы, карты тасуюцца. Значыць, брат яшчэ жывы дзесьці.

На трэцюю ноч шле цар сваю меншую дачку на паед змею. А багатыр стаў пад гарой і чакае. Выходзіць насустрач змей і крычыць:

— Го-го-го! Я думаў, цар мне адну дачку на паед дасць, а ён вадавоза і багатыра ўдабавак прыслаў.

— Не, нячыстая сіла, падавішся! — кажа багатыр.

— Ну, дык што? Будзем біцца ці мірыцца?

— Біцца!

А змей гэты быў сільны, з дзевяццю галовамі — самы сільны з усіх сваіх братоў.

І пачалі яны біцца. Доўга біліся. Збіў маладзец змею восем галоў, засталася дзевятая. Ахапіў змей воласам гэтай галавы шыю багатыра і хацеў задушыць. А царэўна стаіць і заліваецца горкімі слязамі.

— Ратуй мяне, царэўна, — просіць багатыр, — бяры нож і пераразай змею волас.

Выняла яна нож, перарэзала змею волас. Змей зароў і ўпаў мёртвы. Адсек багатыр палец змеяў, паклаў у кішэню, а вадавоза з царэўнай адправіў дамоў:

— Скажаце цару, што я вас вызваліў.

А сам пайшоў нанач. Вось пераначаваў ён, устаў уранні, глядзіць, аж старэйшая змяя-матка збірае косці свайго сына.

Падыходзіць багатыр да змяі, а яна так дыхнула, што ён упаў у агняны калодзеж.

Паглядзеў малодшы брат на платочак — з яго кроў цячэ, а карты не тасуюцца. Бяда са старэйшым братам, значыцца. Загінуў ён недзе ў дарозе.

Сабраўся малодшы брат у пуць-дарогу, прасціўся з адзінай маткаю і паехаў у свет белы шукаць брата. Скора казка сказваецца, ды не скора дзела дзелаецца. Паімчаўся малодшы брат-багатыр у белы свет. Ехаў ён, ехаў, аж бачыць, хатка на курыных ножках на ўскраіне лесу стаіць. Пад'язджае да гэтай хаткі і кажа:

— Хатка, хатка, стань ка мне перадам, к лесу задам!

Хатка павярнулася. Выходзіць з яе старушка:

— Што табе трэба, добры маладзец, слаўны багатыр?

— Бабка, я брата свайго шукаю...

— Яго ж змяя забіла. Глядзі, сынок, як паедзеш, будзе на тваёй дарозе старая змяя-маці збіраць косці свайго сына. Дык ты не кажы ёй нічога, а хапай за плечы і кідай у агняны калодзеж. Пакліча яна варана. Воран прыляціць, дастане косці твайго брата, кіне ў жывучы калодзеж — ажывіць.

Пагаварыў багатыр са старушкай і пусціўся далей у белы свет. Ехаў ён, ехаў. Скора казка сказваецца, ды не скора дзела дзелаецца. Вось прыязджае да цара ў палац і лажыцца спаць. Тут царэўна кладзе на яго руку. І кажа ёй малодшы брат:

— Хто пакладзе на мяне руку — рука прэч, хто нагу — нага прэч.

Заплакала царэўна горкімі слязамі; не ведала яна, што гэта малодшы брат, бо браты вельмі былі падобны адзін на аднаго: волас у волас, голас у голас. Цяжка царэўне на сэрцы стала, што ён так сказаў.

Раніцой развітаўся малодшы брат і пусціўся далей у свет белы. Ехаў ён, ехаў, бачыць — змяя старая збірае косці сына. Схапіў ён змяю і хацеў кінуць у агняны калодзеж. І сказала старая змяя:

— Добры маладзец, не губі ты мяне. Я ажыўлю твайго брата.

Паклікала яна варана. Прыляцеў чорны воран, дастаў косці старэйшага брата з агнянага калодзежа, апусціў у жывую ваду — ажывіў яго.

Вылез з калодзежа старэйшы брат, уздыхнуў і кажа:

— Ох, і заснуў жа я, братка.

А тым часам малодшы брат узяў змяю-маці, кінуў яе ў агняны калодзеж — яна і згарэла.

Свіснуў малодшы брат коням багатырскім голасам. Пачулі яны, прыскакалі на яго свіст. Уселіся браты на сваіх добрых коней і паімчаліся ў палац да цара. Тут пусцілі яны коней, перадзеліся ў жабрацкую адзежу, заходзяць у царскі палац. А ў цара якраз гуляюць вяселле — тры вадавозы жэняцца на царскіх дочках. П'юць вадавозы ды хваляцца.

Першы кажа:

— Я выратаваў адну дачку цара.

Другі кажа:

— Я выратаваў другую дачку цара.

Трэці кажа:

— Я выратаваў трэцюю дачку цара.

А старэйшы багатыр і гаворыць:

— Ваша вялікасць гасудар, вось вам тыя пальцы, што я паадсякаў у змеяў.

Пазнала малодшая царская дачка старэйшага брата, падышла к цару і кажа:

— Праўда, тата, гэта ён выратаваў мяне. Ён мой муж.

А вадавозаў цар загадаў пакараць. Прывязалі іх к хвастам коней і пусцілі ў чыстае поле.

І пачаўся ў царскім палацы пір на ўвесь мір. І я там быў, мёд-віно піў, па барадзе цякло, а ў рот не папала.

## 3. КАБЫЛІН СЫН

Было сабе ў дзесятым царстве, на дзесятым гасударстве, жыў сабе купец з жаною. І не было ў іх дзяцей. І зажалаў ён дзяцей: што ўсё маець, усім светам купцуець, а няма дзяцей. Тады нехта нараіў яму, што ёсць такая рыба, што як уловіць яе і з'есць, дык будуць дзеці. Гэта яму нараена. Ну, ён прызывае рыбака:

— А што, рыбак, ці ўловіш ты такую і такую рыбу?

— Не ведаю,— кажа,— ці ўлаўлю, ці не. Калі злаўлю, тады прынясу!

Ну, пайшоў лавіць. І паказалася яму тая рыбіна, ён і злавіў. Прынёс яму, тэй узяў, заплаціў яму. Дык хадзяйка і служанка ўзялі яе чысціць, вымылі ды ваду тую пад вугол вылілі. А кабыла хадзіла па двару, тую ваду і выпіла. Як выпіла, так і зацяжарыла. Тады служэбка тая гатове рыбу і каштуе, вядома, кухарскае дзела. Як пакаштавала, дык і зацяжарыла. А тады згата-

ваўшы, панесла да сталу хадзяйцы, як з'ела хадзяйка, і хадзяйка зацяжарыла — усе ўтрох зацяжарылі. Ну, дык тады, як выйшаў срок, дык служэбка першая паспытала, першая і абрадзілася і сына радзіла. Купец тэй і рад. І хадзяйка ўцяжку. Ну, тады зноў жа сама хадзяйка зноў жа сына радзіла. А тады пасля хадзяйкі зноў жа кабыла сына радзіла — усе тры па сыну радзілі. І яны гадуюцца не па гадах, але па часах Ну, мы гэта не знаем — прайшло там колькі ўрэмя, купец тэй уцяшаецца на іх і аддаў іх у навуку — Служэбкінага сына і свайго, а таго Кабылінага — падслужываць ім у навуцы, падаваць к сталу, як тэй кажа, вядома. Сколькі ўрэмя, дык тыя вучацца, а тэй Кабылін сын дык больш іх панімае — тыя добра знаюць навуку, а тэй шчэ лепш паняўся. Як гляне ў кніжку ці ў пісьмо, дак і знае: ніхто не вуча, не паказуе, а ён больш іх ведае. Ну, павучыліся сколькі там урэмя, скора выйшлі з навукі, дак ён і больш іх ведае, тэй то ўжэ, значыцца, Кабылін сын. Ну, сталі яны тады з бацькам жыць. Жылі, жылі, тады Кабылін сын кажа:

— А што, татка, каб вы здзелалі нам прыпас на прагулянне схадзіць, па [а]хвоце, значыцца, пахадзіць, во ўсё роўна як з ружжом.

Ну, дак ён на тое кажа:

— Які жа,— гаворыць,— прыпас?

А ён адказуе:

— А які жа, татулька, прыпас? Іскуй Служэбкінаму сыну булдаву з зялеза ў тры пуды, а свайму ў чатыры, а мне ў пяць пудоў!

Ну, ці ў купца зялеза няма, ці што. Ну, бацька, атвяшчаў і стаў каваць булдовы, так, з зялеза. Тады падзелалі тыя булдовы тры, тады Кабылін сын узяў тую наймітчага, Служэбкінага сына булдаву, выйшаў на вуліцу, пакруціў, пакруціў, раскрыў ладоню і пусціў яе пад нябессе. Тая булдава як паляцела, ён выставіў ладоню, яна як ударылась, дык і рассыпалась. А тады ўзноў так жа сама другога брата ўзноў жа выспробаваў булдаву, ці крэпка яна.

Вынес, размахнуў, размахнуў і пусціў пад небяса. Яна як ляцела, ён выставіў калена, яна і рассыпалася — таго ўжэ бацькінае жонкі сына. Ну, а тады ўжэ сваю стаў выспробаваць. Выйшаў у поле, як кінуў — і падставіў лоб. Яна як ляцела, прама на лоб: як ударылась, дык і рассыпалась.

Ну, тады ён узноў:

— Што,— кажа,— татка, паламалі мы свой прыпас і на прагулянку не пайшлі. Трэба прыбавіць, татка, зялеза.

Стаў, бач, надакучаць яму:

— Ну, які ж вам,— кажа,— сынок, прыпас трэба, колькі прыбаўляць?

А ён кажа:

— А Служэбкінаму сыну пяць пудоў, а Купецкаму сыну шэсць, а мне, тата, у восем пудоў.

Ну, цяперка пакаваў ён гэты булдовы, сталі яны ўзнова выспрабаваць. Выйшаў ён на поле, паважыў, паважыў тую Служэбкінага сына булдаву, ды як пусціў — дык немаведама, дзе яна і дзелась, толькі пыл да дым па полю — паляцела немаведама куды і што. Ну, а тады другога брата тож сабе паважыў, паважыў, як пусціў — дык і немаведама, куды і што яна дзелась, толькі пыл да дым. Ну, а тады ўслед і сваю пусціў, услед за імі. Ну, а патом ён хоць і пасля пусціў, а патом яна пойдзе мо на край света, прыпас тэй яго перанясе абадвых братоў булдовы. Тады ён атвяшчае — папусціў прыпасы — тады пабылі там колькі:

— Што ж,— кажа,— татка, прыпасы нам падзелалі, трэба ж нам ісці шукаць прыпасаў тых сваіх.

Тады тэй татка стаў ужэ і самуцён, стаў ужэ і плакаць, і маткі і таго, і таго, што як жа, як тэй казаў, дождалі трох сыноў, і тыя ў свет пойдуць, немаведама куды, што дзе найдуць, дзе пазнаходзяць. Сталі адраіваць і таго, і таго.

— Не,— кажа,— татка, трэба ісці.

І не паслухалі і пайшлі, папрашчаліся, павіталіся і адправіліся.

— Калі будуць,— кажа,— татка, браты мяне слухаць, дык мо шчэ й убачымся і ўзвернемся, а як не будуць слухаць, дык бог знае.

І ўвабраліся ўсе і пайшлі. Ішлі-ішлі — не так жа скора дзеецца, як кажацца, — ішлі сколькі там урэмя і найшлі таго Служэбчынага сына прыпас.

— Вот,— кажа,— братцы, і ёсць аднаго брата прыпас. Ну,— кажа,— аднаго брата найшлі прыпас, пойдзем жа,— кажа,— другога брата шукаць!

І пайшлі. І ўсё так ідуць і самі сабе разгаваруюць, пакуль знайдуць. Ну, і тож сабе — сколькі ўрэмя ішлі, находзяць другога брата [тэй] прыпас.

— Ну, во,— кажа,— хваліць бога, і другога брата знайшлі.

Тэй Кабылін сын:

— А маю,— кажа,— бог ведае калі да яе дайсці і дзе яе знайсці.

Ну, ізноў жа тож пайшлі далей. Ішлі, ішлі і бачаць здалека на дзесятым царстве, у дзесятым гасударстве, на паганага цара доме стаіць тая булдава.

— Вот,— кажа,— братцы, як нам яе дастаць адтуль? Каб самі галовы не паклалі там!

Тады яны цераз сколькі там урэмя дабраліся, прыйшлі к таму дому. Тады тэй Кабылін сын узлез на тэй дом і дастаў [тэй] свой прыпас. Тады ў тэй дом — і гуляюць там, і п'юць, і ў карты гуляюць. Яны завідна гэта прыйшлі, во як ба і цяпер. Там парожні тады быў дом тэй. Тады яны тое, даў бог ноч, тады Кабылін сын пасылае Служэбкінага сына на варту на шлях, вярстоў за пяць, шлях такі быў, во як ба цяпер цыгунка. Паслаў яго ў лазню:

— Ідзі ж,— кажа,— брацік, на варту, ды не спі,— кажа,— а то як заснеш, дык мы тут галовы зложым.

Ну, тэй пайшоў. Прыйшоў у лазню да на палок, ведама адзін, лёг і заснуў. Нічога сабе і не знае і не ведае. А тэй [Кабылін сын] таго другога брата, жаночага сына, хадзяйкінага, пакінуў, а сам тэй жа справай к лазні ды пад мост. На [а]гнянной рацэ быў, вот як ба ў Бялынічах, мост такі. Толькі ён сеў, аж і едзе паганы цар — Смок з шасцьма галавамі. Сычас сабакі забрахалі, свісцялі засвісталі.

— Чаго брэшаце, чаго свішчаце, не к чужому двору едзем, к свойму. Ёсць на дзесятым царстве, на дзесятым гасударстве Кабылін сын, дык яго сюды воран косці не занясе, а больш мы нікога не баемся.

А ён з-пад моста сыў:

— Не то воран косці заносе, а моладзец сам заходзе. Дзьмі,— кажа,— поле!

Як дунуў тэй да з шасці галоў на шэсць міль выдуў. А ён [Кабылін сын] як дунуў, дык і пазлаціў. А цяпер:

— Ну, што,— кажа,— Кабылін сын, ці будзем біцца, ці мірыцца?

Ну, а Кабылін сын кажа:

— Не, Паганы Смок, будзем біцца.

Тэй Кабылін сын як хапіў меч, як трахнуў, дык тры галавы і сцяў. У другі як трахнуў — шэсць галоў сцяў. А тэй яму нічога не зрабіў, не пасіліў. Тады ўзяў шасцярык коней, у дом у тэй прыехаў, у стайню коней тых зачыніў і павозку ўкаціў, па парадкам, так як і ўсюдых. Ну, а тады сам у комлату і к таму брату. Даў бог дзень, тады тэй брат і прыходзе з варты, з лазні з тэй. Тады ён пытаецца:

— А што,— кажа,— братка, ці бачыў што, ці было дзе што табе?

Ён тады кажа:

— Не, братка, нічога не бачыў. Як прыйшоў, дык лёг на палку. Аб поўнач нешта як загрымела, як застучэла, дык з палка зваліўся ды ўдарыўся, дык во на лісыне гуз ускочыў!

Ну, тэй яму нічога не сказаў, толькі ўсміхнуўся. Ну, тады яны ўзнова дзень тэй гуляюць, п'юць, ядзяць, у карты гуляюць, а даў бог ноч, тады ўвечары кажа на другога ўжэ брата:

— Ну, браціку, ідзі,— кажа,— у такую і такую,— кажа,— лазню на варту, да толькі ж,— гавора,— глядзі, брацец, не спі, а то як заснеш, дык мы тут і галавы свае паложым, ніхто нас і знаць,— кажа,— не будзе.

Ну, тэй пайшоў. Прыйшоў у лазню, так жа сама на палок сеў, сядзеў, сядзеў і заснуў. Ну, тэй Кабылін сын пад поўнач пакінуў таго там у доме том, а сам пайшоў узнова пад мост пад тэй і сядзіць. Толькі прыйшоў, сеў, аж Смок зараз і едзе — сем галоў. І сабакі забрахалі і свісцялі засвісталі.

— Чаго брэшаце, чаго свішчаце, не к чужому двору едзем, а к свойму. Ёсць на дзесятым царстве, на дзесятым гасударстве Кабылін сын, дык яго сюды воран косці не занясе!

А ён з-пад моста:

— Не то воран косці заносе, моладзец і сам заходзе. Дзьмі поле!

Ён поле як дунуў, дык на сем міль і выдуў. А ён [Кабылін сын] тады як дунуў, дык і пазлаціў. Ён, бач, сільней іх быў. Што то наш дух, а што непрыяцельскі,— мы ўсё-ткі больш панімаем. Як тая прыказка.

— Ну, што,— кажа,— Кабылін сын, ці будзем біцца, ці мірыцца?

— Не,— кажа,— нячыстая сіла, не таго я заходзіў, каб мірыцца, будзем біцца!

І сталі біцца. Колькі — раз, ці два, ці тры махнуў і сцяў тыя сем галоў. Ну, і семяро коней і павозку ўзяў і паехаў у дом у тэй іх. Коней у стайню зачыніў і павозку ўкаціў. Асобенна ўсё зачыняе, ад начы таго брата і таго. Аж скора і дзень бог даў. Прыходзе тэй ужэ брат з варты тэй.

— А што,— кажа,— братка, ці бачыў што, ці было дзе што табе?

Ён тады кажа:

— Не, братка, нічога не бачыў. Як прыйшоў, дык лёг на палку. Аб поўнач нешта як застучэла, як загрымела з гары, дык

зляknuўся і зваліўся з палка, дык патыліцу разбіў дужа. Гуз з кулак набег.

От яны і гуляюць знова да вечара, п'юць, жывяцца. Яму ўжэ і рупіцца. Як прыйшоў вечар, дык трэба яму тых тут пакінуць, а самому на варту ісці. Тады даў бог вечар, ён узяў, павесіў рушнічок, во як бы гэта (занавесь) вісіць, тады паставіў пад рушнічком стакан, што чай п'юць.

— Глядзіце ж, братцы, не засніце тут. Як будзе з гэтага рушнічка кроў капаць, бяжыце як дужа ка мне да памоцы. Трудна, я пакладу сваю галаву, дык вам і класці нечага!

І пайшоў пад мост. Толькі прыйшоў, сеў, аж Смок і едзе — дзевяць галоў. І сычас сабакі забрахалі, а свісцялі засвісталі.

— Чаго брэшаце, чаго свішчаце, не к чужому двору едзем, а к свойму. Ёсць на дзесятым царстве, на дзесятым гасударстве Кабылін сын, дык яго сюды воран косці не занясе, а больш нікога мы не баемся.

А ён з-пад моста сыў:

— Не то воран косці заносе, а моладзец сам заходзе. Дзьмі,— кажа,— поле!

Як дунуў тэй, да з дзевяці галоў на дзевяць міль і выдуў. А ён як дунуў, дык і пазлаціў. А цяпер:

— Ну, што,— кажа,— Кабылін сын, ці будзем біцца, ці мірыцца?

Ну, а Кабылін сын кажа:

— Не, Паганы Смок, будзем біцца.

І пачалі біцца. Як зачаў біцца, як зачаў, дык восем галоў сцяў, а дзевятая галава — ужэ выбіўся з моцы — не пасіляе, дзевятая галава ўжэ яго дастае, ужэ за лоб, хоча яго змагчы. А тыя сядзелі гэта, забыліся да й заснулі.

Ну, тая дзевятая галава з тым водзіцца, а яны ўсхапіліся — аж з рушнічка кроў цячэ, ужэ й з стакана цераз ільецца.

— Ай, брат, прапалі!

Ды туды барджэй к масту.

— Стой, брат, не ўлякайся!

А тая галава ўжэ зусім за лоб яго схапіла. Як хапілі, так і сцялі тую галаву, і не пра што яна была. Ну, як сцялі, тады ён ужэ атвяшчае:

— Ну, братцы, троху мы галоў не пастаўлялі! Вы,— кажа,— заснулі там. Ну, а цяпер,— кажа,— дасць бог, жывы будзем, папераводзілі,— кажа,— усіх, мо к бацьку вернамся!

Узяў ён коней тых дзевяцера, павозку і паехалі. І паставіў у стайні, асобенна. І даў бог дзень. Ну, яны прабылі там колькі

ўрэмя, бог іх ведае, мы таго не знаем, аддыхнулі, ну тады ён выводзе шэсць тых коней і павозку:

— Ну,— кажа на Служэбчынага,— во гэта,— кажа,— братка, твае коні і павозка.

К бацьку, бач, ужэ сабраліся. А тады вывеў семяро коней і павозку.

— Во, гэта, брат, твае коні і павозка,— на другога ўжэ брата.

А тады трэцюю павозку сваю:

— А гэта, братцы, мае коні.

Тады яны селі і паехалі, к бацьку ўжэ. І колькі там урэмя ці колькі вёрст, ці міль яны ад'ехалі, тады тэй Кабылін сын забыўся ў тым доме, ды, гэта, пальчатак, на кручку на сцяне віселі: дак забыўся пальчатак сваіх.

— Ну, пастойце, братцы, я,— кажа,— забыўся там сваіх пальчатак, шкода пакінуць.

Злез з павозкі і пайшоў туды. Дык ён і мушачкай скідаўся, і пчолачкай, і птушачкай скідаўся; прыскочыў і сеў на доме на том, а тады скінуўся мурашачкай ды ўпоўз у тэй дом. Ажно тамацька тры бабы сядзяць — дзве жонкі тых, а трэцця матка — ды радзяцца.

— А, папераводзілі,— кажа,— нашых мужыкоў і бацьку, каб,— кажа,— іх перавесць,— радзяцца, бач.

Ён тыя пальчаткі чапае і ўсё гэта чуе. Ну, адна баба кажа:

— Што я,— кажа,— здзелаю? Яны,— кажа,— не спалі, дык скінуся я пасцеллю. Яны як лягуць, дык мы іх і перавядзём, паморым усіх.

А другая кажа:

— Не,— кажа,— я шчэ лучча здзелаю. Здзелаю,— кажа,— скінуся,— кажа,— крыніцай, і залаты кубак і сярэбраны, і ля крынічкі яблана, залаты яблак і сярэбраны. Дык яны як будуць ехаць, паморацца, піць захочуць і бацьку на гасцінец па яблачку вышчыкнуць. Як нап'юцца да па яблачку вышчыкнуць, дык яны там і пагінуць усе тры.

А трэццяя ўжэ, матка:

— Не,— кажа,— дзеткі, вы нічога,— кажа,— не здзелаеце. Я,— кажа,— як разіну рот, дык адну зяпу пастаўлю на зямлю, а другую пад небяса. Дык яны як будуць ехаць, ка мне ў рот уедуць, я іх і праглыну, іх і не будзе,— кажа.

Тады ён выслухаў гэта, пальчаткі тыя вычапаў, як-небудзь, мушачкай — да барджэй драла адтуль, даганяць братоў.

Скідаўся і мушачкай, і пчолачкай, і птушачкай, пакуль дагнаў братоў. Як дагнаў братоў, узяў, нічога ім не кажучы, лепшага самага каня выбраў, сеў вярхом і паехаў, а браты ў павозках за ім, кожан у сваёй павозцы, усе і едуць к бацьку. Дык ён і паверх лесу ехаў, і ў паўлеса ехаў, і па зямлі ехаў, спробаваў каня таго, ля тэй прычыны ўсё. Едуць яны дык едуць колькі там — не так скора дзеецца, як кажацца. Ажно стаіць пасцелі тры. Спаць тыя браты — дык ай-яй! Сон іх зусім клоне, не можна вытрымаць. А пасцелі тыя дык аж капае, стройныя вельмі.

— Ах, брат, сколькі мы начэй не спалі,— кажа,— страдалі, ляжам мы, троху аддышам!

А ён кажа, саскочыў скарэй:

— Гэта, братцы,— кажа,— зрада!

Да скарэй па адной пасцелі, алі па другой, алі па трэцяй — усіх іх паперасякаў, дак яны паплылі кроў'ю.

— Во, братцы, во, бачыце, якая зрада.

Сеў на каня і паехалі. Як ехаць дык ехаць, як ехаць дык ехаць, як ехаць дык ехаць, і прыязджаюць зноў жа к такому, тожа ж сабе здалека бачаць: стаіць яблана, сучок залаты, сучок срабраны, яблакі залатыя, яблакі срабраныя, тож і крынічка — кубак залаты, кубак срабраны. Дык яны як нап'юцца, яблачкам закусяць, дык і папрагаюцца. Едуць яны, вот браты: — Вышчыкнем мы па яблачку, а то к бацьку едзем,— кажа,— дамоў, а на гасцінец няма нічога!

Не ўправіўся з каня злезці, а яны ўжэ абадвы саскочылі з павозак да навыперадкі адзін перад другім кябланьцы к тэй.

— Стойце,— кажа,— братцы, гэта зрада!

А яны ўжэ па яблачку і схапілі, а ён не ўправіўся саскочыць, яго кочь перанёс. Ну, як схапілі, тут ім і амін, і квіт ім, і па яблачку ў руцэ дзяржаць. Ну, ён тады саскочыў да па ябланьцы трах — яна кроўю скіпела, па крыніцы трах — і яна кроўю скіпела — усё нейдзе дзелась. А тады ўзяў аднаго брата ў павозку і другога брата ў павозку мяртвых, нажывых і сам сеў і паехаў, і коні тыя за ім ідуць. Ну, дзве прычыны пераехаў, а трэцяе баіцца, на сілу надзеецца на сваю і на розум, але што браты няжывыя і коней столькі, дык ён і апасуецца, абдумляецца, як што зрабіць, засуміўся. Як ехаць дык ехаць, як ехаць дык ехаць, як ехаць дык ехаць, ажно пад'язджае — стаіць тая баба, рот разінуўшы — адна зяпа на зямлі, а другая пад небяса. Тады ён як разагнаў коней, падняўся ў паўсвета, як размахнуўся, дак так верхнюю зяпу і сцяў. І пакаціў паверху, і сам і коні тыя за ім павярху.

— Ну, дзякуй, — кажа, — богу, перажыў сваё гора. Бог ведае, што дальш будзе!

А шчэ да бацькі далёка дабрацца. Як ехаць дык ехаць, троху ад'ехаў, а яна там справіўшыся да за ім у пагоні.

— Хоць ты,— кажа,— зяпу маю адну сцяў,— кажа,— а потым я цябе,— кажа,— адной зяпай з'ем,—кажа.

Ён сабе едзе, а яна яго даганяе, ён сабе едзе, а яна яго даганяе, ён сабе едзе, а яна яго даганяе. Тады ён ускочыў — во так ба, як у Бялынічах ці ў сяле кавалі куюць,— ускочыў у кузню.

— Ай, брат,— кажа,— каваль, грэй клешчы!

Ён ускочыў у кузню, а яна прыбягае. Як прыбегла, так раз лізнула сцяну, другі лізнула, а за трэцім пралізала сцяну і яго дастае. Толькі б яго дастаць.

— Ай,— кажа,— каваль, хапай яе за язык!

Каваль узяў клешчы да яе за язык.

— Дзяржы,— кажа,— язык,— на каваля.

А ён узяў булдаву, як зачаў біць: біў-біў, біў-біў, біў-біў і не забіў яе. Што біў, із моцы выбіўся і паламаў тэй увесь прыпас свой і не забіў. І каваль тэй то ж самае — абадвы яны паўмарыліся і не забілі. Пусцілі яе. Ну, тады яна кажа:

— Стой-ка,— кажа,— я на цябе ўссяду і паеду і будзем свае песні пець, калі я цябе перапяю, дык усё-ткі з'ем.

Гэтак зміргаваліся — ні тэй, бач, не падоляе, ні тэй — абая сільныя. Ну, ён падаўся. Яна на яго ўссела, ён ракам паўзець, яна едзець і песні пяець. І коні тыя за ім ідуць.

— Ага,— кажа,— я цябе потам змару,— кажа.

Дык яна — ведама, баба-сарока — і тую пачне, і тую — шчабеча, во як і ў нас бабы на хрэсьбінах ці на вяселлі, пела, пела там усякія песні да й змоўкла. Няма, бач, у яе болей песень, усе перапела. Ён тады пытаецца:

— Ці ўсе?

Яна кажа:

— Усе!

— Ну, калі ж,— кажа,— усе, цяпер дай-тка я буду пець, дай-тка я на цябе ўссяду!

Ну, тады ён на яе ўссеў, і коні тыя за ім. Гэта ўсё па дарозе што далей, то к бацьку бліжай.

Тады ён зачаў песні пець. Ён ніякія песні не пеў, толькі ўсё шабуняе:

— Да-гу дак да-гу,— вядзець да ўсё на ёй едзе.

Ехалі, ехалі.

— Ці ўсе?

— Не,— кажа,— і ў пол яшчэ не ўбіўся.

У яе свой рашчот, каб яго як, а ў яго свой. Ведама: то ж ураг, а то такі чалавек, хрышчоны, як трэба быць. Як ехаць дык ехаць, як ехаць дык ехаць, і прыехаў вот так ба, як у Бялынічах, к рацэ. Дык яна ўжэ асмягла: як к рацэ, дык і стала піць. Як стала ваду піць, як стала ваду піць, як стала ваду піць, дык усю раку выпіла, і ён на ёй сядзіць, і павозкі тыя стаяць, і коні, і браты. Як выпіла ўсю раку, дык тады пад ім лоп — ад вады ад тыя лопнула, і рака тая як была, так і пабегла ўзноў, а яна там і апраглася. Тады ён у павозку на сваіх коней да й прыехаў к бацьку. К бацьку прыехаў, дык бацька і ўлякнуўся. Дык ён за бацьку:

— Татулька, не ўлякайся.

І паказуе заслугу і ўсё:

— Гэта маіх братоў, а тваіх сыноў заслуга, а гэта мая. І гэтых сваіх сыноў, татка, хавайце памерпшых.

Ну, ён сабраў людзей, падзелаў дамы і пахаваў. А тэй Кабылін сын і жывець там. І я там быў, мёд, віно піў, і ў роце не было, і па барадзе не цякло.

## 4. ІВАН СУЧКІН СЫН ЗАЛАТЫЯ ПУГАВІЦЫ

Жыў-быў цар. Ды не меў ён дзяцей. І дужа ён аб гэтым сасмуціўся. Вот ідзець ён раз па гораду і думаець: «Каму пасля мяне дастанецца мае царствіе?» Ідзець старая баба:

— Аб чым ты, цар, так задумаўся?

— А ўвазнай, бабка, аб чым я думаю!

Падняла баба галаву, паглядзела на цара ды гаворыць:

— Ты думаеш аб дзяцей. Ты бяздзетны і ты думаеш, што пасля сябе некаму царствіе аставіць!

— Ну вот і памажы гэтаму гору, бабка!

— Гэтаму гору памагчы нятрудна. Ёсць у моры рыба з адным вокам, з адным бокам. Калі яе ўловіш, ды зжарыш, ды аддасі жонцы — няхай з'есць — тады народзіцца ў цябе сын.

Пайшоў цар скарэй дамоў, прызваў сваіх рыбаловаў — у цара, канешне, усякіх слуг ня нет — і прыказаў ім, каб улавілі ў моры рыбіну з адным вокам, з адным бокам. Узялі рыбаловы свае сеці і пайшлі к мору. Раз закінулі сетку — не ўлавілі нічога; другі закінулі — так жа сама не ўлавілі нічога; а на трэці раз як

закінулі сетку, дык і ўлавілі рыбіну з адным вокам, з адным бокам. Прыняслі тую рыбіну к цару. Цар узяў рыбіну і аддаў кухарцы, каб яна яе зжарыла і падала царыцы. Як прыказана, так і здзелана. Узяла кухарка рыбіну і стала жарыць. Жарачы, яна вазьмі ды й паспытай рыбіны. Вядома, кухар заўсёды раней паноў спытаець стравы. Ну, як паспытала, так і забрухацела. Панясла яна, зжарыўшы, рыбіну к царыцы. Тая з'ела — і так жа сама забрухацела. Ды была ў царыцы ў пакоях сучоначка. Царыца аддала ёй з'есць рыб'і костачкі. З'ела сучка — і тая забрухацела. Чэраз год усе трое радзілі па сыну: уперад радзіла сына кухарка, тады радзіла сына царыца, а затым радзіла сына і сучка. Царыцын сын пушчэй за ўсіх і слабей, а сучкін сын прыгажэй за ўсіх і крапчэй. Ну, сталі яны рэсць, усе трое на царскім двары. Растуць не па гадах, ды па часах. Чэраз тры гады сталі яны ўжо вялікімі і падзелаліся сільнымі багатырамі. Стаў тады Сучкін сын Залатыя пугавіцы прасіць Царыцынага сына, каб яго бацька вялеў сваім кавалям здзелаць яму ляску ў дзесяць пудоў. Як ён прасіў, так яму і было здзелана. Пайшлі яны тады ўтрох на пальгаванне: Царыцын сын і Кухаркін з ружжамі, а Сучкін з ляскай. Прыйшлі к лесу і змовілісь, што дзе ні хадзіць, дзе ні хадзіць, а к вечару сабірацца на гэту праталіну. Царыцын сын і Кухаркін пайшлі разам, а Сучкін сын астаўся адзін. Як толькі тых не стала відна, ён падшыбнуў сваю ляску ўгару. Пакуль яна назад узвярнулася, прайшло часы два. Падставіў ён пад ляску сваю ладоню. Яна як ляцела, ударылася аб ладоню і рассыпалася на мелкія крошачкі. Стала прымяркаць, і сабраліся ўсе на гэту праталіну. Сучкін сын і стаў жаліцца:

— Вот, — кажа, — скаваў мне цар ляску. Ляцеў верабей, я кінуў, каб яго забіць, а ляска як ляцела назад, дык ударылася аб гэтую травінку і разбілась. Так я сянні і не забіў нічога!

І стаў ён прасіць Царыцынага сына, каб яго бацька сказаў кавалям сваім здзелаць ляску ў дваццаць пяць пудоў. Як было сказана, так было і здзелана. Пайшлі яны тады зноў у той лес і змовіліся так жа сама, як у першы раз: дзе ні хадзіць, дзе ні хадзіць, а к вечару сабірацца на гэту праталінку. Царыцын жа сын і Кухаркін пайшлі ізнова ўдвох, а Сучкін сын астаўся адзін. Як толькі тых не стала відна, ён і шыбнуў сваю ляску ўгару. Пакуль яна назад узвярнулася, ён ждаў чатыры часы. Наставіў ён пад яе калена, яна як ударылась аб калена — і разбілась на крошачкі. Стаў ён тады ждаць вечара. Стала змяркацца, сталі ўсе на праталінку сабірацца. Сучкін сын узнова пачаў жаліцца:

— Якую гэта ляску скаваў мне цар! Кінуў я яе ў варону, ляцела яна назад, ударылася аб гэты сук — і рассыпалась! Так я і не забіў нічога!

І стаў узнова прасіць Царыцынага сына, каб яго бацька вялеў сваім кавалям скаваць ляску ў пяцьдзесят пудоў да каб і вызлачана была. Расказаў Царыцын сын бацьку, як усё было. Пайшоў цару сам у кузню:

— Ну, калі вы цяпер не здзелаеце ляскі ў пяцьдзесят пудоў, не вызлаціце, дык калі яна разаб'ецца — дык мой меч, а вам галава з плеч!

Здзелалі кавалі ляску і пазлацілі. Узяў яе Сучкін сын Залатыя пугавіцы, і пайшлі ўзнова на пальгаванне. Прыйшлі к таму самаму лесу, на тую самую на праталінку і змовілісь так, як у першыя разы: дзе ні хадзіць, дзе ні шляцца, а к вечару сабірацца на гэту праталінку, каб дамоў іці разам. Царыцын жа сын і Кухаркін пайшлі ўдвох, а Сучкін сын астаўся адзін. Як толькі тых не стала відна, ён і шыбнуў сваю ляску ўгару. Пакуль яна назад узвярнулась, ён ждаў шэсць часоў. Наставіў ён ладоню — ляска ўдарылась і адскочыла. Шыбнуў ён яе яшчэ крапчэй: пакуль узвярнулась, прайшло дванаццаць часоў. Наставіў пад ляску калена — яна ўдарылась і адскочыла. Шыбнуў ён тады яе з усяе сілы, а сам лёг. Выспаўшысь, устаў і наставіў пад ляску лысіну. Яна ўдарылась і адскочыла, толькі трошку сагнулась. Вот ён з тою ляскаю пайшоў у лес, і каго ні ўбачыць — ці звера, ці пціцу — заб'ець беспрыменна: трэба толькі ляску ўгару падшыбнуць. Набіў ён так многа і звяроў і пціц. Выйшаў на праталінку, абклаўся ваўкамі, мядзведзямі, лісіцамі, зайцамі, ласямі, арламі, ястрабамі — разнымі-разнымі пціцамі і звярмі і ляжыць сам пасярод іх. Стала змяркацца, сталі ўсе на праталінку сабірацца. Прыйшлі Царыцын і Кухаркін сын і ніздзівіліся, што ў яго так многа звярыны.

Ну, прайшло ці многа, ці не — сталі яны прасіцца ў цара, каб пусціў іх агледзець сваё царствіе. Цар стаў іх адгаварваць:

— Куды вы пойдзеце, вы шчэ молады!

— Аб гэта ты не тўжысь, што мы молады, толькі блаславі нас!

Дзелаць нечага: блаславіў іх цар, даў кожнаму па каню, па харту, па мячу-кладзянцу. Вот яны і паехалі. Ехалі, ехалі, ехалі, ехалі — і прыехалі ў такі стэп, што толькі й відна неба ды зямля. Тады Царыцын сын і Кухаркін гавораць:

— Вот мы едзем, а начаваць дзе будзем?

А Сучкін сын гаворыць:

— Вот, братцы, не ўсё ж падарожныя ў хаце начуюць. Вот прыйдзецца і нам так начаваць, калі не знайдзем якой хацёнкі!

Праехалі яшчэ трошку, ажно стаіць дом на тры вянцы. Увайшлі яны туды, паглядзелі — пакоі чысты, для начлега места ёсць. Тады Сучкін сын і гаворыць:

— Ну, вы тут згатуйце абедаць, а я пайду абгледжу места, якаво яно!

І пайшоў. Прайшоў трошку, відзіць быстру раку, а на рацэ калінавы мост. Яго масціла нячыстая сіла. Даявалы ў поўнач прыходзілі ў тэй дом і пажыралі людзей. Усё гэта Сучкін сын і ўвазнаў. Вярнуўся ён у дом. Тыя браты абед згатовілі. Па[а]бедалі. Аж во і вечар. Сучкін сын і гаворыць:

— Ну, братцы, некатораму з нас прыйдзецца сеначы іці на калінавы мост калавурыць!

Кінулі яны жэрабя: первы жэраб дастаўся Царыцынаму сыну. Сучкін сын яму і гаворыць:

— Глядзі ж, хадзі ля калінава маста ды не спі. А то сам сабе і нам бяду наспіш!

Пайшоў Царыцын сын к масту; хадзіў-хадзіў, як толькі пад поўнач — спаць захацеў, меч пад галаву і заснуў. А Сучкін сын сядзеў, сядзеў дома ды думаець:

— Дай-ка пайду пагляджу, ці не спіць ён?

Узяў ляску і пайшоў. Прыходзіць к масту, а ён спіць. Ну, Сучкін сын сам стаў ля калінава маста. У самую поўнач прылятаець трыглавы змей:

— Хто тут?

— Я, Іван Залатыя пугавіцы!

— Што ж ты, Іван Залатыя пугавіцы, на чужую старану свае косці занёс?

— А ўвідзім: ці я свае косці прынёс, ці ты галовы свае зложыш!

— Ах, ты які дзерзкі! Мы сколькі гадоў жылі, ніхто з намі не грубіў, толькі ты такі знайшоўся. Дзьмі-ка ток!

— Ах ты, нячыстая сіла! У цябе тры рылы, а ў мяне адно. Ты дзьмі!

Змей як дунуў — дзе былі імхі, балоты, аржавінні, патопы, стала гладка, як яйцо, на тры вярсты. Сучкін сын Залатыя пугавіцы як дунуў — усё пазалаціў, беражкі пазавараціў і на бітву стаў. Сталі яны біцца. Біліся, біліся — Сучкін сын змею дзве галавы збіў, а змей яго па забарасні ў зямлю ўвагнаў. Сучкін сын як замахнець ляскай — паследнюю галаву збіў. Усе голавы на асінавых дравах спаліў, а попел на быстру рэчку пусціў. Сам

вярнууся дамоў, узбудзіў Кухаркінага сына, сказаў яму, каб гатаваў абед, а сам лёг спаць. Уранні прыходзіць Царыцын сын. Сучкін сын устаў і пытаець:

— Ну, што, ці не чуў чаго, ці не быў які шум і крык?

— Не, нічога не чуў, ніхто не йшоў, не ехаў — усё было спакойна!

Згатаваўся абед; селі яны, па[а]бедалі і сталі вечара дажыдацца. Увечары Сучкін сын і Кухаркін кінулі жэрабя — жэраб выпаў Кухаркінаму сыну.

— Глядзі ж,— кажаць Сучкін сын,— не спі, а то і сам сабе і нам бяду наспіш!

Пайшоў ён к калінаву масту; хадзіў, хадзіў, а як пад поўнач — спаць захацеў. Узяў меч пад галавы падклаў і заснуў крэпкім сном. Сучкін сын узнова пайшоў к калінаву масту: што дзелаець калавурны? Прыйшоў, а ён спіць. Стаў ён сам калавурыць. Хадзіў, хадзіў, у самую поўнач ляціць шасціглавы змей.

— Хто тут?

— Я, Іван Залатыя пугавіцы!

— Што ж ты, Іван Залатыя пугавіцы, на чужую старану свае косці прынёс?

— А вот памераемся, ці я косці прынёс, ці ты голавы зложыш!

— Ды што мне з табой мерацца: пасаджу на руку, другой удару — і здзелаю мяккі блін ды з'ем!

— Ну, а можа й падавішся!

— Дзьмі ток!— крычыць змей.

— У цябе шэсць рыл, нячыстая сіла, а ў мяне адно: ты і дзьмі!

Змей як дунуў — дзе былі імхі, балоты, аржава, патопы, стала гладка, як яйцо, на цэлых шэсць вёрст. Дунуў тады Сучкін сын Залатыя пугавіцы — усё чыста пазалаціў, беражкі пазаваpаціў і на бітву стаў. Схваціліся біцца. Біліся, біліся — Сучкін сын збіў змею тры галавы, а змей яго па калены ў зямлю ўвагнаў. Тады Сучкін сын гаворыць:

— Паглядзі, вунь жонка ідзець ды сквырыць!

Адвярнууся змей, а Іван як свіснець — шчэ дзве галавы збіў. Змей тады гаворыць:

— Слухай, Сучкін сын Залатыя пугавіцы: цары, каралі б'юцца, а й то оддых меюць, а мы сколькі б'ёмся і не аддыхаем?

А Іван гаворыць:

— Цары, каралі на канях з'язджаюцца, а нас з табой чорт знёс!

Ды як свіснець ляскай! Пасследнюю галаву збіў! Убіўшы змея, ён пасабраў галовы ды на асінавых дравах папаліў, а попел на быстру рэчку пусціў. Тады пайшоў дамоў, узбудзіў Царыцынага сына:

— Тапі-тку ты печ, а я трошку аддыхну!

Ён лёг спаць, а Царыцын сын усяго наварыў, нажарыў. Як стаў дзень, прыходзіць калавурны дамоў. Іван устаў і пытаець:

— Ну, што, ці не чуў чаго, ці не быў які шум і крык?

— Не, не чуў нічога, не было ніякага шуму, усё было спакойна!

Ну, селі яны, па[а]бедалі і сталі ждаць вечара. Увечары прыходзіцца іці на калінавы мост Сучкіну сыну. Сабраўся ён іці і кажаць братам:

— Ну, братцы, вот я іду, а вы не спіце ўсю ноч, а то мне будзець дужа трудна!

— Як жа ж мы будзем ведаць, што табе трудна?

— А я дам вам знак вот які: у столю ўткну нож, а на стале пастаўлю стакан з вадою. Як толькі капнець кроў з ножыка ў стакан, дык вы ўбірайцесь і едзьце ка мне як можна скарэй!

Здзелаўшы так, Сучкін сын пайшоў на калінаў мост. А браты заселі ў карты іграць. Ігралі-ігралі, як толькі пад поўнач, спаць захацелі. Яны яшчэ пайгралі і заснулі крэпкім сном. А Сучкін сын ходзіць ля калінава маста. У самую поўнач прылятаець дванаццаціглавы змей.

— Ну, што, Сучкін сын Залатыя пугавіцы, на чужую старану свае косці прынёс? Будзець мне чым па[а]бедаць!

— Пагадзі, нячыстая сіла, шчэ можа ўдавішся!

— Ды не, я табе не здам! Ты думаеш, што братоў маіх забіў, дык і мяне заб'еш? Не, вот я цябе січас уб'ю!

— Ну, што ж, давай памераемся!

— Дзьмі ток!— крычыць змей.

— У цябе дванаццаць рыл, а ў мяне адно: ты і дзьмі!..

Тады змей як дунуў — дзе былі імхі, балоты, аржавы, патопы, стала гладка, як яйцо, на дванаццаць вёрст. Сучкін сын як дунуў — усё пазалаціў, беражкі пазаварацыў і на бітву стаў. Схваціліся біцца. Біліся, біліся... Іван збіў тры галавы змею, а змей яго па костачкі ў зямлю ўвагнаў. Тады змей гаворыць:

— Цары-каралі б'юцца, а й то оддых меюць, а мы скольк і б'ёмся, а не аддыхаем?

— Цары-каралі на канях з'язджаюцца, а нас з табой чорт знёс!..

Ды як свіснець — збіў яшчэ тры галавы, а змей яго па калены ў зямлю ўбіў. Тады Сучкін сын гаворыць:

— Паглядзі-тка, вун жонка твая йдзець і сквырыць!

Змей абярнуўся, а Сучкін сын схапіў шапку ды як пусціць у хату, дзе спалі яго браты,— крышу ўсю збіў, а таварышы спяць. А кроў з стакана чэраз палілась на стол. Сталі ўзноў біцца. Біліся, біліся... Змей кажаць:

— Дай аддыхнуць, як воласу згарэць!

— Ну, аддыхай!

Пакуль змей вырваў волас ды спаліў, дык Іван зняў сапог з нагі і пусціў у хату — так верхні вянец і збіў. А таварышы спяць... Сталі ўзноў біцца. У змея, пакуль ён аддыхаў, сілы ўбыло, а ў Сучкінага сына прыбыло. Біліся, біліся... Збіў Іван змею яшчэ тры галавы, а змей яго па повяс у зямлю ўбіў.

— Стой! — крычыць змей. —Дай аддыхнуць, як саломінке згарэць!

— Ну, аддыхай!

Пакуль саломінка гарэла, Іван зняў другі сапог ды як пусціць у хату — усю хату зарыў сапагом. Прачхнуліся браты, бачаць — кроў чэраз бяжыць! Селі скарэй на коней і паехалі. Прыязджаюць ік калінаву масту, а змей яго па шыю ў зямлю ўбіў, а ён змею дзесяць галоў адсек. Ну, браты як наскочылі, адсеклі і паследнія галовы. Убіўшы змея, выцягнулі яны Іваньку з зямлі. Ён дужа рассердзіўся на іх, хацеў іх забіць. Сталі яны тады прасіцца ў яго. Ён зміласаваўся і прасціў. Сабралі яны ўсе галовы, спалілі на асінавых дравах, а попел на быстру рэчку пусцілі. Вот стаў тады Сучкін сын расказываць:

— Як хадзіў першую ноч Царыцын сын, дык ён заснуў, а я прыйшоў і быў на калавуры і ўбіў трыглавага змея. Як хадзіў па другой начы Кухаркін сын, і ён заснуў. А я прыйшоў і быў на калавуры і ўбіў шасціглавага змея. І ўсё гэта вам не ўзвяшчаў. І вот як на маёй чарадзе прыляцеў самы старшы брат іх, я і запрасціў вам спаць.

Пайшлі яны к хаце, а Сучкін сын і гаворыць:

— Добра! Мы змяёў убілі, а ёсць жа нейдзе іхныя жонкі. Яны нас могуць яшчэ загубіць! Ідзіце-тку вы састанавіце хату так, як яна была, а я пайду разышчу іхных жонак!

Тыя пайшлі к хаце, а Сучкін сын сеў на каня і паехаў. Ехаў-ехаў, відзіць — хатка. Ён з каня злез, каня паставіў водалі, а сам коцікам абраціўся, пад вакошка падкаціўся, стаў каўкаць.

Выйшла к яму баба; выйшла, узяла яго на рукі і панясла ў хату. Прынясла і гаворыць:

— Коцічак-каток, сeранькі лабок! Ці не знаеш ты, ці не ведаеш Сучкінага сына, разбойніка? Ён майго мужа забіў. Каб я знала, куды ён пойдзець алі куды паедзець, абярнулася б я зялёным лугам, і на тым ба лугу стаяла караваць. Як бы ўз'ехаў ён на гэты луг, яму б захацелася спаць, так што ён валіўся б з каня. Ну, як бы ён лёг на гэту караваць, век ба ён не прачхнуўся...

Коцік прыг у акно — і выскачыў. Тады яна гаворыць:

— Ох, галоўка бедная! Мусіць, гэта ён быў, увазнаў пра сваю напасць. Нічога ж я яму цяпер не здзелаю!

А Сучкін сын прыйшоў к каню, сеў на яго і паехаў далі. Ехаў, ехаў ён, відзіць апяць хатку. Паставіў ён каня, сам коцікам абраціўся, пад вакошка падкаціўся, стаў каўкаць. Выйшла к яму баба, узяла яго на рукі, панясла ў хату. Прынясла і гаворыць:

— Коцічак-каток, сeранькі лабок! Ці не чуў ты, ці не відзеў, дзе тэй разбойнік Сучкін сын? Ён майго мужа забіў. Каб я знала, куды ён пойдзець алі паедзець — абярнулася б я зялёным садам, у тым садзе была б яблыня з залатымі яблыкамі. Як бы прыехаў ён к таму саду, так бы захацеў ён яблык. Ну, як бы паспытаў ён яблык, тут бы ўмёр!

Коцік прыг у вакно — і ўцёк. Яна й гаворыць:

— Галоўка бедная! Мусіць, гэта сам ён быў і ўсё ўвазнаў. Цяпер нічога я яму не здзелаю!

А Сучкін сын прыйшоў к каню, сеў на яго і паехаў. Ехаў ён, ехаў, відзіць яшчэ хатку. Ён узноў каня паставіў, коцікам абраціўся, пад вакошка падкаціўся, стаў каўкаць. Выйшла баба, узяла яго на рукі, панясла ў хату. Прынясла і гаворыць:

— Коцічак-каток, сeранькі лабок! Ці не чуў ты, ці не відзеў дзе Сучкінага сына? Ён майго мужа забіў. Каб я знала, дзе ён знаходзіцца алі куды ён паедзець, абярнулася б я ключавой крынічкай. Як бы ён яе ўвідзеў, захацелася б яму піць. Ну, як бы толькі выпіў ён тэй вады, так бы тойчас і ўмёр!

Коцік прыг у вакно — і пабег.

— Галоўка бедная! Мусіць, гэта ён сам быў і ўсё маё разазнаў! Цяпер я яму нічога не здзелаю!

А Сучкін сын прыйшоў к каню, сеў на яго і паехаў далі. Ехаў, ехаў ён, відзіць яшчэ хатку. Ён апяць каня пастнавіў, сам коцікам абраціўся, пад вакошка падкаціўся, стаў каўкаць. Выйшла к яму баба сівая, старая, узяла яго на рукі і панясла ў хату. Прынясла і гаворыць:

— Коцічак мой, каток, серанькі твой лабок! Ці не знаеш ты, ці не ведаеш, дзе тэй разбойнік — Сучкін сын! Ён мне нанёс бальшую скуку: забіў маіх трох сынкоў як сакалкоў. Каб я знала, каб я ведала, куды ён пойдзець алі паедзець — абярнулась бы я лютай змяёю, пражрала б яго і з канём разам!

Коцік прыг у вакошка, вакно разбіў і сам уцёк. Баба і гаворыць:

— Мусіць, гэта ён сам быў!

А Сучкін сын прыйшоў к каню, сеў на яго і паехаў к братам. Аддыхнуўшы, селі яны ўсе на коней і паехалі. Ехалі, ехалі, відзяць яны зялёны луг. Уз'ехалі на луг — так ім спаць захацелась! А трава, трава на лугу, дужа харошая! Кухаркін сын і гаворыць:

— А! Як жа спаць хочацца! Во тут і трава добрая: пусцім коней сваіх, а самі трошку заснём!

— Не, братцы,— гаворыць Сучкін сын,— як мы тут будзем спаць? Нямашацькі ні караваці, ні нечага паслаці. Паедзем-ка далі, можа хто каравацъ паставіў, пасцелю паслаў!

Праехалі яны яшчэ трошку, ажно стаіць каравацъ. Пад'ехалі пабліжэй, Сучкін сын і гаворыць:

— Пайду-тка я пагляджу, ці крэпка каравацъ.

Падышоў к ёй, узяў меч-кладзянец ды як свіснець — так кроў з караваці і палілась... Разам усё і прапала: і луг, і трава, і каравацъ.

— Вот відзіце, братцы, якая гэта каравацъ. Гэта была жонка трыглавага змея: яна хацела загубіць нас за свайго мужыка!

Не стала ім хацецца спаць, паехалі яны дальшы. Ехалі, ехалі, відзяць зялёны сад. А яблыкі, яблыкі харошыя! Царыцын сын гаворыць:

— Вот каб паспытаць, што ў іх за смак?

— А вот,— гаворыць Сучкін сын,— я січас іх паспытаю; калі смашны, і вам дам!

Пайшоў ён у сад, хадзіў, хадзіў — усё шукаў бальшэя яблыні з залатымі яблыкамі. Ажно яна пасярод сада. Ён падышоў, выняў меч-кладзянец, як свіснець — толькі кроў палілася! Усё й прапала. І не стала ім яблык хацецца.

— Вот жа, братцы,— кажаць Сучкін сын,— гэта была жонка шасціглавага змея. Яна хацела нас загубіць за свайго мужыка!

Паехалі яны дальшы. Ехалі, ехалі, відзяць крыніцу. Як толькі ўвідзелі ваду, так і захацелі піць. Сучкін сын гаворыць:

— Пастойце, я паспытаю, ці смашная вада?

Падышоў к крыніцы, аж там плаваець па вадзе кубачак. Ён як секанець па кубачку мячом-кладзянцом — толькі kpoў палілась. I ўсё прапала. I піць не стала хацецца.

— Ну, ці ведаеце, братцы, гэта ж была жонка дванаццацігалавага змея. Яна хацела нас загубіць за свайго мужыка! Цяпер мы пабілі ўсіх змяіных жонак. Вы сабе едзьце дамоў, а я паеду дальшы!

Тыя паехалі дамоў, а Сучкін сын паехаў іскаць змяіную матку. Ехаў ён, ехаў, відзіць — хатка. Зайшоў ён туды, ажно там жывець Баба Юга.

— Што, Іван Сучкін сын Залатыя пугавіцы, куды бог нясець?

— Так і так, бабуля: ішчу змяіныя маткі!

I расказаў ёй усё, як было. Бага Юга ўзяла палавіну солі, палавіну мукі, замясіла цеста, спякла тры бухоны і дала Івану:

— Вот, Іван Сучкін сын Залатыя пугавіцы! Як будзеш ты ехаць, нападзець на цябе лютая змяя, захочаць цябе пражраць. А ты скажы: «Паеш упярод маю хлеб-соль, а тады ўжо еш мяне!» I кінь ёй у рот бухон!

Узяў Сучкін сын хлеб, падзякаваў бабе і выправіўся далі. Ехаў, ехаў, аж відзіць, ляціць на яго лютая змяя:

— Ага, — кажаць, — вот калі я цябе з'ем! Ты забіў маіх трох сынкоў як сакалкоў, трох дачушак як зязюлек!

— Ну, што ж, паеш упярод маю хлеб-соль, а тады еш і мяне!

Кінуў ёй бухон хлеба ў мяліцу, а сам давай скарэй уцякаць. З'ела змяя хлеб-соль, яе й разабрала. А яны не п'юць такей вады, якую п'юць людзі; дык яна і пабегла ў сваю старану. Там было такое вазяро, адкуль усе яны бралі ваду. Вот яна піла, піла адтуль ваду, піла-піла, выпіла палавіну вазяра. Тады ўзнова пагналась за Сучкіным сынам. Гналась, гналась — вот даганяець!

— Ага, вот калі я цябе з'ем! Ты забіў трох маіх сынкоў як сакалкоў, трох дачушак як зязюлек!

— З'еш упярод, — кажаць Сучкін сын, — маю хлеб-соль, а тады ўжо мяне з'ясі!

I кінуў ёй другі бухон у мяліцу. З'ела змяя хлеб і разабрала яе апяць соль. Пабегла яна ў сваю старану, выпіла ўсю ваду ў вазяры — толькі дзе-нідзе асталась ў ямачках — і кінулась апяць за Іванам. Дагнаўшы яго, змяя разявіла ўжо мяліцу, каб яго пражраць, а ён кінуў ёй пасследні бухон:

— З'еш упярод маю хлеб-соль, тады мяне з'ясі!

Разабрала змяю соль, пабегла яна ўзноў у сваю старану. Павыпіла ўсю ваду да капелькі і кінулась за Йванам. Вот-вот дагоніць. Відзіць Іван — стаіць кузня. Ён туды:

— Братцы,— кажаць,— запірайце скарэй кузню: за мной змяя гоніцца, хочыць мяне з'есць!

Тут січас дзверы запёрлі; каваль узяў свае клешчы ў пяцьдзесят пудоў і стаў іх распальваць. А тут і змяя прыляцела і крычыць на каваля:

— Падай мне Сучкінага сына! А калі не падасі, я й цябе з'ем, і яго!

А каваль кажаць:

— Праліжы дзверы ды высунь сюды язык, я пасаджу яго табе на язык!

Змяя як лізнула раз-другі-трэці — так дзверы і пралізала. Толькі яна высунула язык скрозь дзверы, а каваль узяў свае абцугі — ды за язык! Схваціў і дзяржыць. А другія за малаткі ды давай змяю біць па галаве. Прыбілі трошку, тады ўзялі і ўкінулі ў горан ды й давай у два мяхі дуць. Як толькі змяя разгарэлась, палажылі яе на кувадла і сталі ўзноў каваць. Узяў тут і Сучкін сын молат у пяцьдзесят пудоў. Кавалі яны, кавалі і выйшаў з яе конь. Каваль і гаворыць:

— Ну, Сучкін сын Залатыя пугавіцы! На табе жменьку лёну, садзісь на гэтага каня, запалі лён і едзь кругом света. Калі аб'едзеш, пакуль лён згарыць, дык паязджай з богам, а не аб'едзеш — дык назад ка мне варачайся!

Сеў Сучкін сын на каня, запаліў жменьку лёну і паехаў кругом света. Паўсвета не аб'ехаў, а лён ужо згарэў. Вярнуўся ён назад к кавалю. Улажылі яны каня ў горан, сталі дуць у два мяхі, разагрэўшы, сталі каваць, ногі папраўляць. Кавалі, кавалі.

— Ну, садзісь-ка цяпер!

Сеў Сучкін сын на каня, запаліў жменьку лёну і паехаў кругом света. Увесь свет аб'ехаў, а лёну згарэла толькі палавіна жменькі. Прыехаў Сучкін сын к кавалю, стаў дзякаваць. Каваль і гаворыць:

— Ну, цяпер ты ездзі на гэтым кані, і ніхто цябе на ім не падолеець у бітве. Ну, толькі сцеражысь: будзеш ехаць чэраз такое і такое места, будзець там бальшы кірмаш: глядзі, не сустанаўлівайся, а то пападзешся ў плен!

Падзякаваў ён шчэ раз каваля і паехаў. Ехаў, ехаў, відзіць— гарадок стаіць, а ў ім бальшы кірмаш, народу многа. Сучкін сын

і думаець: «Ну, як жа мне не сустанавіцца? Тут людзі ўсе хрысціяне. Пайду і пахаджу троху па рынку!».

Як сказаў, так і здзелаў: каня пастнавіў, а сам стаў хадзіць па гарадку. Хадзіў-хадзіў, аж відзіць — падыходзіць к яму стар-старычок, сам з кокаць, барада з локаць, вусы па сажню, вочы па ложке не відзяць ні крошкі. Як падышоў к Сучкінаму сыну, так у вусы і ўматаў:

— Ага, вот калі я цябе задаўлю! Ты забіў маіх трох сынкоў як сакалкоў, трох дачушак як зязюлек, і жонку маю канём здзелаў ды едзеш на ёй!

Ды так сціснуў вусамі, што й дыхнуць не можна. Што тут рабіць? Во напасць! Але-ткі Сучкін сын надумаўся.

— Ці ведаеш, дзед, што я табе скажу? Не губі-тка ты мяне: усё [а]дно не вернеш ты сваіх ні сыноў, ні дачок, ні жонку. А луччы скажы, куды ў сваты схадзіць: я за цябе высватаю шчэ лепшую жонку, чымся твая была!

Дзед гэтым дужа ўзрадаваўся:

— Ну, калі высватаеш мне дачку цара Пабягая — дзеда Сівавая, Мар'ю-царэўну, дык пушчу ўжо. Але ўсё-ткі на жонцы не дам ехаць, так ідзі!

Пусціў ён з вусоў Сучкінага сына, тэй і пайшоў. Ідзець ды пытаець, дзе тэй цар Пабягай — дзед Сівавай. Ідзі-ідзі, ідзі-ідзі, сустрачаець нейкага чалавека. Паздароўкаліся і разгаварыліся:

— Хто ты такі ёсць?

— Іван. Сучкін сын! А цябе як завуць?

— Мяне Сямёнам. Куды ж ты йдзеш?

— Ды іду я к цару Пабягаю — дзеду Сіваваю, ды вот дарогі не ведаю!

— Ох, худа табе дайці да яго! Там дужа многа сабак і нікога не падпускаюць: за тры вярсты к чалавеку бягуць і за кління ірвуць!

— А хто ж іх можаць адагнаць?

— Я!

— Ну, хадзі са мной!

Ішлі, ішлі, відзяць яшчэ чалавека. Паздароўкаліся, разгаварыліся. Сямён спрашыець:

— Як цябе завуць?

— Грышкам. А цябе?

— Мяне Сямёнам!

— Куды ж вы йдзяцё?

— К цару Пабягаю — дзеду Сіваваю ў сваты.

— Ну, як вы прыйдзеце к яму, ён упярод за ўсяго пашлець вас у лазню памыцца. А ў тую лазню ніхто не можаць увайці: яшчэ як падходзіш, дык за тры вярсты валасы скварупца.

— А хто ж яе можаць атушыць?

— Я!

— Ну, хадзі з намі!

Пайшлі ўграіх. Ішлі, ішлі, відзяць яшчэ чалавека. Паздароўкаліся, разгаварыліся. Звалі яго Іванам.

— Пасля лазні,— кажаць Іван,— дадуць вам піць і есць, каб усё паелі, што ён ад дванаццаці гадоў сабіраець — поўныя свірны з хлебам, поўныя скляпы з піццём!

— А хто ж гэта можаць здзелаць?— спрашыець Грышка.

— Я!

— Ну, хадзі з намі!

Пайшлі ўчацвярых. Ішлі, ішлі, відзяць яшчэ чалавека — Міркуху. Паздароўкаліся, разгаварыліся. Міркуха і гаворыць:

— Пасля абеда выведуць іх вам усіх узнаваць, каторая старшая. Вы й не спазнаеце, бо яны ўсе аднаго ліца!

— А хто ж яе можаць спазнаць? — спрашыець Іван.

— Я!

— Ну, хадзі з намі!

І пайшлі ўпяцярых. Ішлі, ішлі, сталі падходзіць к цару Пабягаю — дзеду Сіваваю. Аж яшчэ за тры вярсты прыбеглі сабакі і сталі за кління ірваць. Сучкін сын і гаворыць:

— Ну, хто абіраўся ўцішыць іх?

Сямён кажаць:

— Я!

Ды ўзяў сабак палавіў, ды хвасты пазвязаў, ды ўсіх сабе на плячо ўсклаў і панёс к цару Пабягаю — дзеду Сіваваю. Прыйшлі к цару. Ён і гаворыць:

— Ну, верна, табе ўзяць маю дачку! Ідзіце-тка ж памыйцесь у лазні, а то вы падарожныя людзі, можа нечысць якая забралася!

Яны і пайшлі. Як толькі сталі падходзіць к лазні — яшчэ не дахадзя вярсты тры стала жарка. Сучкін сын і гаворыць:

— Ну, хто абіраўся атушыць лазню?

Грышка кажаць:

— Я!

Ды як дунець, у лазні ўвесь жар прапаў, стала ажно інея! Вярнуліся яны к цару Пабягаю — дзеду Сіваваю і гавораць:

— Зачым ты нас абмануў? Прыйшлі мы ў лазню, а там не толькі дух — а ажно печка ўся заінела!

Цар і гаворыць:

— Ну, верна, табе ўзяць маю дачку! Ну, хадзіце ж з дарогі падкрапіцесь!

Вялеў ім падаць ядзення-піцення, што ад дванаццаці гадоў сабраў.

— Ну, калі ўсё пададзенае паясцё, пап'яцё, дык аддам дачку!

Сталі яны піць-есць: наеліся, паўпіліся, а ні адной бочкі не выпілі. Сучкін сын і гаворыць:

— А хто абіраўся ўсё папіць-паесць?

Іван кажаць:

— Я!

Ды як стаў абручы збіваць з бочак ды піць! Есць ды п'ець, есць ды п'ець. А піў ён бочку гарэлкі так усё адно, як прасты чалавек лыжку вады. Усё папіў, усё паеў ды яшчэ крычыць:

— Мала! Шчэ большы падайце!

— Ну,— гаворыць тады цар,— дзелаць нечага: аддам табе дачку, толькі ўгадай, каторая старшая!

І вывеў усіх дванаццаць дачок: усе роўныя і з ліца, і з росту. Сучкін сын і гаворыць:

— Ну, хто абіраўся спазнаць, ідзі!

Міркуха гаворыць:

— Я!

Прайшоў каля іх раз, другі, трэці ды ўзяў адну за руку і гаворыць:

— Во яна!

Сказалі цару. Ён прыходзіць:

— Ну, маладзец ты, Сучкін сын Залатыя пугавіцы! Сколькі ў мяне ні сваталі — вот ужо дванаццаць гадоў — ну ніхто не змог яе высватаць!

Стаў Пабягай — дзед Сівавай гатовіцца к вяселлю. І не стаў так гатовіць па-своему, але стаў гатовіць па-наську, па-чалавечы. Ну, згулялі яны вяселле, бацька блаславіў нявесту і адправіў яе з Сучкіным сынам.

Пайшлі яны. Ішлі-ішлі, ішлі-ішлі, стала яна гаварыць:

— Скажы, мой мілы друг, за каго ты мяне высватаў? Ці за сябе, ці шчэ за каго?

Ён кажаць:

— Не, не за сябе, а за дзеда сівага, што сам з кокаць, барада з локаць, вусы па сажню, вочы па ложке, не відзяць ні крошкі!

Як сказаў ён ёй гэта, дужа яна сасмуцілась. Прайшлі трошку — яна абярнулася месячкам і давай уцякаць. Сучкін сын Залатыя пугавіцы абярнуўся зорачкай і дагнаў яе. Тады яна абярнулась лябёдкай і стала ўцякаць, а ён абярнуўся сокалам і дагнаў яе. Тады яна абярнулась рыссю і пабегла ўцякаць, а ён абярнуўся шэрым воўкам і ўзноў яе не пусціў. Тады ўжо пайшлі яны к дзеду. Прыходзяць к яму, а ён кажаць:

— А хто цябе ведаець, за каго ты яе высватаў: можа не за мяне! Калі ты ад шчырага сэрца сватаў за мяне, дык перайдзі чэраз гэту пропасць па спрунжыне!

Сучкін сын пераксціўся і пайшоў чэраз і перайшоў.

— Ну, ты, дзевачка! Можа ты будзеш на другіх заглядацца, а мной гардаваць? Перайдзі-тка й ты!

Пераксцілася яна і пайшла, і так жа сама перайшла чэраз пропасць па спрунжыне. Тады Сучкін сын і Мар'я-царэўна гаворацьяму:

— Ну, мы перайшлі: мы ні ў чым не вінны проці цябе. Перайдзі-ка ты: можа, і ты тут знайшоў сабе другую, можа, на каго заглядаўся!

— Куды мне заглядацца на другіх! Я ўжо стар чалавек!

— Нічога, з старых усяго бываець! Ідзі-ка, ідзі!

Толькі ён стаў іці, а спрунжына дрыганулася — ён і паляцеў у пропасць! І костачкі яго там рассыпаліс!

Знайшоў тады Сучкін сын Залатыя пугавіцы свайго каня, што адабраў гэты дзед, пажаніліся яны з Мар'яй-царэўнай і сталі жыць ды пажываць ды дабра нажываць.

## 5. СУЧЧЫ СЫН

Жыла пані, і не было ў яе дзяцей. Яна жыла з кухаркай удзвюх. Прыйшоў да іх старык, і там у сажалку ён упусціў шчуку. Ён зайшоў к гэтае пані і бачыць, пані бядуе. Ён кажа:

— У сажалцы ёсць шчука, схвацi яе і з'еш, і будзеш бярэменна.

Улавілі шчуку, значыць, яны з кухаркай і забярэменелі, і сучка забярэменела, а кабыла памыі выпіла, і радзілі яны па сыну: сучка, і кухарка, і пані, а кабыла жарабца. Раслі яны не па днях, а па часах і не зналі, хто старшы, каму падчыняцца.

Выехалі ў поле ўсе трое і пусцілі па страле: чыя страла далей паляціць, той і будзе старшы. Паніч стрэліў, Кухаркін сын далей, а Суччы — далей за ўсіх; яны яму і падчыніліся. Паехалі ў свет усе трое. На дарозе стаяла карчма і ў той карчме надпіс: «Ёсць мост на рацэ», і хадзілі начаваць па вочарадзі на гэты мост. Пад гэтым мастом астанаўліваліся. Тут у карчме паніч павесіў рукавічкі на сцяне, а Суччы сын паставіў кубак на стол і адправіўся пад мост і кажа:

— Як будзе з кубка кроў, а з рукавіц шум, то бяжыце бараніць.

Ён пайшоў, сеў пад калінавым мастом, пад смуродавым кустом, каня свайго запёр за трыдзевяць дзвярэй. І вось, калі сядзеў, прыйшоў змей трохгаловы. Сабака забрахаў, сакол засвістаў і конь заржаў.

— Чаго, сакол, свішчаш? Чаго, конь, іржэш, чаго, сабака, брэшаш? Можа, якога непрыяцеля чуеш?

Ён гаворыць:

— Тут ёсць.

— Ну, вылязай, айды,— гаворыць змей.— Ці будзем біцца, ці будзем гадзіцца, ці лучшы вінца напіцца?

Суччы сын:

— Вінца напіцца — уп'ёмся, а будзем гадзіцца — вы мяне адурыце, лепш будзем біцца.

Ён яму, змею, тры галавы зняў, а змей па калені ў зямлю яго ўвагнаў. Суччы сын вылез, прыйшоў на кватэру к сваім браццям: яны спяць. З рукавіц шум, а з кубка кроў, а яны не чуюць.

— Ах, спіцё вы, а чуць не чуеце, будзець і вам гэта.

Тады нада на гэту ноч Кухаркінаму сыну ісці, ён просіць Суччага сына, каб ішоў за яго. Ён сагласіўся:

— Як будзе з кубка кроў ісці, як сіла мага бяжыце бараніць,— і тады сеў пад калінавым мастом.

Паляцеў змей шасцігаловы. Сабака забрахаў, сакол засвістаў, конь заржаў. Змей гаворыць:

— Чаго, сабака, брэшаш? Чаго, сакол, свішчаш? Чаго, конь, ржэш? Можа, якога непрыяцеля чуеш?

Суччы сын сказаў:

Ён тут ёсць.

— Ці будзем біцца, ці будзем гадзіцца, ці лучшы вінца напіцца?

— Вінца вып'ем — уп'ёмся, гадзючыся, вы мяне адурыце, а лепш будзем біцца.

І сталі біцца. Ён змею тры галавы зняў, змей яго па калена ў зямлю ўвагнаў, ён яму яшчэ тры галавы зняў, ён яго па пояс у зямлю ўвагнаў. Тады ён, значыць, вылез з гэтай зямлі і пайшоў на кватэру да сваіх братоў. У кватэры па калені крыві, поўна кватэра шуму.

— Ах, братцы, спіцё, не чуеце, я чуць не прапаў галавой, будзець і вам гэта, што мне.

На трэцюю ноч Панінаму сыну нада ісці. Пачаў ён прасіць, каб за яго схадзіць, ну Суччы сын і сагласіўся.

— Але калі будзе з кубка кроў, як сіла мага бяжыце бараніць.

І пайшоў, сеў пад калінавым мастом, пад смуродавым кустом. Прыляцеў змей дзевяцігаловы. Сабака забрахаў, сакол засвістаў і конь заржаў. Змей і гаворыць:

— Чаго, сабака, брэшаш? Чаго, сакол, свішчаш? Чаго, конь, ржэш? Можа, якога непрыяцеля чуеце?

А Суччы сын:

— Я тут ёсць.

— Ну, вылязай сюды.

Ён вылез, змей і гаворыць яму:

— Ці будзем біцца, ці будзем гадзіцца, ці луччы вінца напіцца?

— Вінца вып'ем — уп'ёмся, гадзючыся, вы мяне адурыце, а лепш будзем біцца.

Суччы сын зняў яму тры галавы, змей яго па калені ў зямлю ўвагнаў. Ён змею яшчэ тры галавы зняў, змей яго па пояс у зямлю ўвагнаў. Суччы сын гаворыць:

— Аддыхнём цяпер і што пагаворым, разрашы мне тры разы свіснуць.

— А нашто? — гаворыць змей.

— Каб чэрці па маю душу скарэй ляцелі.

Ён яму разрашыў свістаць. Першы раз свіснуў — конь трое дзвярэй прабіў, ён свіснуў яшчэ і яшчэ раз — конь прабіў дзевяць дзвярэй.

— Што гэта гручыць?

— Гэта чэрці па маю душу лятуць.

Трэці раз як свісне — конь астатнія дзверы прабіў, капытамі змею тры галавы зняў, выратаваў Суччага сына з зямлі. Пайшлі на кватэру із сваім канём, і сказаў Суччы сын сваім брацням:

— Вы тут спіцё, каб не выратаваў конь верны, я б прапаў; ужо сабірайцесь, паедзем адгэтуль.

І яны сабраліся і паехалі. Едуць цераз мост, ажно каток такі красівы. Панін сын:

— Вось красівы коцік, мы возьмем і павядзём дамоў.

А Суччы сын:

— Гэта не коцік, а вораг наш,— шашкай адсек яму галаву.

Едуць далей, ажно луг такі харошы і рэчка бяжыць. Вот Панін сын гаворыць:

— Мы тут аддыхнём і лашадзей падпасём, і мы аддыхнём і свежай вадзіцы пап'ём.

А ён:

— Папробую, што гэта, — і па гэтай вадзе шашкаю секануў, стала не вада — кроў.

— Засек,— кажа,— жану другога змея.

Тады едуць далей, а Суччы сын кажа:

— Бачыце змея, ён нас праглынець.

Бросіў ён назад шчотку, і вырас лес, такі гушчар, што невазможна прайсці. Жонка змея давай грызці гэты лес і прагрызла дарогу, апяць даганяе іх. Тады ён бросіў скавараду назад. Абразавалася возера. Яна пачала піць гэту ваду, Суччы сын далёка паехаў, і па дарозе стала кузня. Ён кавалю гаворыць:

— Кладзі ў гарон дванаццаць кляшчэй.

Пачаў грэць гэтыя кляшчы, а кузню запёр жалезнымі дзвярыма. Жонка змея прыляцела:

— Ці тут Суччы сын?

Кузнец кажа:

— Тут.

— Падай мне яго сюды.

Кузнец кажа:

— Ліжы дзверы.

Яна як лізнула тры разы, пралізала дзверы.

— Ну, давай мне Суччага сына сюды.

— Выстаў,— кажа кузнец,— язык.

Яна выставіла язык, а ён кляшчамі гарачымі яе за язык і давай яго па кавадлу. Яна тады варочалася ва ўсякія звяры, якія ёсць на зямлі, і патом перавярнулась на жанчыну і так стала красіва, што ва ўсім свеце не было. І тады яны з Суччым сынам пажаніліся.

Вось і казцы канец, і я там быў, мёд-піва піў, па барадзе цякло, а ў рот не папала. Як далі мне барану, я адтуль як смаргану, аж на гэта месца. Вось і казкі канец, а старыны гэтай вянец.

## 6. ПРА ІВАНА-ДАРАГАНА

Гэта было з пачатку света. Жыў Кашчэй Бяссмертны, і багатыроў усіх пабіў, і валшэбнікаў усіх пагубіў, і ўкраў сонца, і месячка, і зорачкі, і стала цёмна людзям. Тут людзі сабіраюцца кучкамі:

— Што будзем рабіць?

Радзяцца. Давай на шляхі з'язджаць і старажаваць. Хто ні будзе ісці ці ехаць, то аглядаць кожнага, можа і знойдзем у каго. У адной вёсцы ў бацькі было тры сыны: два разумных, а трэці Іван-Дараган, дурань зваўся. Вось яны сабіраюцца ехаць, два вумныя, аглядаць на шлях, а Іван-Дараган гаворыць:

— Тата, і я паеду з імі.

Тыя і гавораць:

— Куды ён паедзе, хай ён сядзіць дома.

— А не, тата, калі не дасцё мне каня, дык я пайду пешкам за імі.

Бацька прыказвае:

— Не кідайце яго, хай і ён едзе.

Даў ім па каню, усім тром, вось яны і паехалі. Тыя ўдвух селі на коней сваіх, а Іван у руках вядзець. Яны гавораць:

— Што ты не садзішся?

— Выведу за вёску, там сяду, — кажа Іван.

Выехалі яны за вёску, ён свайго каня ўзяў за хвост і трухнуў яго, усё выскачыла, толькі кожа асталася ў руках. Свіснуў багатырскім свістам. Ляціць да яго конь з экіпажам, з наздзёр полымя ідзе, а з-пад капыцця іскры ідуць. Ён гаворыць:

— Стой, конь, перада мной, як ліст перад травой!

Гаворыць на братоў:

— Пускайце сваіх каней дамоў.

Тыя бачаць, што брат не просты, не дурны. Яны сваіх каней пусцілі.

— Садзімась-ка на майго каня, можа чаго-небудзь і знойдзем.

Селі і паехалі. Ехалі яны доўга, прыязджаюць к мору. У лесаапушкі і стаіць дом белы, аграмадны-аграмадны. Астанавіліся яны ў гэтай апушкі. Ён узяў лесу наламаў, зложыў хату сабе і печ склаў. А конь у яго стаіць, трое дзвярэй у павозцы гэтай, і зачыняе яго туды і корме. Вось і гаворыць братам:

— Вось, браты! Будзем па старшынству хадзіць пад гэты мост і сцерагчы пад ім. Хто ні будзе ісці, будзем асматрываць, можа што і знойдзем.

На першую ноч большаму брату трэба ісці сцерагчы. Большы брат пайшоў, выйшаў на двор і чакурдык пад вугал, баіцца туды ісці. Іван-Дараган устаў пасярод начы і пайшоў пад гэты мост, вырваў шпалу жалезную і як запусціў у гэты дом, аж дом гэты затрося, а ў самым даму жыў Кашчэй Бяссмертны, і ў яго было тры сыны. Вось ускаквае большы сын:

— Вось, папаша, нейкае непрыяства!

Ён і гаворыць:

— Якое можа быць непрыяства, мы ж багатырэй усіх адбілі і валшэбнікаў усіх пагубілі, ёсць Іван-Дараган на свеце багатыр, дык ён яшчэ малалетны, ён сюды не павінен прыйсці. Ну, потым, едзь мой сын, аглядзі, што там ёсць.

Ён бярэ харла і сакала, садзіцца на харла, сакол асвяшчае, а харол чуе. Вось пад'язджаюць к масту, харол цуп і стаў. Вось сын і пытае:

— Што вы, харол і сакол, найшлі? Мой жа папаша гаварыў, што ніякага непрыяства не павінна быць. Багатырэй мы ўсіх адбілі, валшэбнікаў усіх пагубілі, а ёсць Іван-Дараган багатыр, дык ён яшчэ малалетны, ён не павінен сюды прыходзіць.

А Іван гаворыць:

— Не, я ўжо тут.

Вырваў шпалу жалезную і ўдарыў сына старшага і ўбіў.

Ён бярэць харла і сакала гэтага і прыходзіць у сваю хату. Браты спяць, старэйшы пад вуглом, а сярэдні ў хаце. Ён іх пусціў (харла і сакала), сам лёг спаць. Вось большы брат прасынаецца, увайшоў у хату, паглядзіць, што гэта такое відна. Ён будзіць Івана-Дарагана:

— Эй, вы спіце, а паглядзі-ка, што я дастаў.

Іван падняў галаву і пахваліў яго.

— О, брацец, маладзец, дастаў. Хоць відна ў хаце.

Ну, пераначавалі гэту ноч і пераднявалі. Ідзіць сярэдняму брату. І гэты баіцца туды ісці. Выйшаў на двор ды пад вугал. Іван устаў сярод ночы і пайшоў пад той мост, вырваў зноў шпалу жалезную і запусціў у белы дом зноў. Зноў дом аж загрымеў. Ускаквае сярэдні Кашчэеў сын:

— Вось, папаша, ё нейкае непрыяства.

— Ну, ды не даўжно быць. Ну, едзь, аглядзі.

Бярэ гэты харла і сакала і едзе. Прыехаў к масту, харол астанавіўся, не ідзе блізка.

Ён і гаворыць (сярэдні сын):

— Што вы ўчуствавалі, харол і сакол, ніякага непрыяства не даўжно быць, айцец сказаў, што мы ўсіх багатыроў адбілі,

усіх валшэбнікаў пагубілі, ёсць Іван-Дараган на свеце, ён яшчэ малалетны, і не даўжно яму яшчэ сюды прыцізь.

Ён вылажуе (Іван) з-пад маста:

— Не, я ўжо тут.

Вырваў шпалу жалезную і ўдарыў гэтага і ўбіў. За харла, за сакала ды ў сваю ізбу. Вось і гэтых пусціў, сам лажыцца спаць. Вось і сярэдні брат праспаўся пад вуглом, бача ўжо чатыры вешчы такіх: два харлы і два сакалы. Будзе ён братоў сваіх:

— Устаньце-ка паглядзіце, што я дастаў.

Іван падымае галаву і гэтага пахваліў.

— Во мае браты маладцы. Дасталі, хоць у хаце нам відна.

Пераначавалі, перадневалі — ісці Івану-Дарагану сцярэгці. Вось ён вынімае карты, кладзе іх на стол. Вынімае дзве жмені золата, адну жменю кладзе на адзін рог, другую — на другі, нож — у паталок і кажа:

— Вот, братцы! Прашу я вас, штоб вы гэту ноч не спалі, а гулялі ў карты на золата; хто каму прайграе, гэтаму яшчэ дам, хто прайграецца. Як пакапае кроў з нажа, дык каня майго яшчэ не адмыкайце, а як пацячэ цурком, тады каня адмыкніце.

Сам пайшоў пад мост. А ў Кашчэя меншы сын яшчэ сільней чуць не за яго, Івана. Вось Іван вырваў шпалу і запусціў у гэты дом зноў, аж дом затросся. Ускаквае меншы сын.

— Вось, папаша, гэта Іван-Дараган тут.

Кашчэй адказвае:

— Вядома, гэта Іван-Дараган тут. Ну, едзь, мой сын, я надзеюсь, што ты можа і мацней за яго будзеш. Ну, толькі не ашыбайся, глядзі.

Прыляцеў і гэты.

— А ну-ка, Іван-Дараган, вылазь на бой.

А Іван узяў булаву дванаццаці пудоў.

— А вось,— гаворыць,— і лезу.

— Ну, ідзем на медны ток біцца, тут нам не бітва.

Сышлі на медны ток, як ударыліся па разу, дык па пояс і паехалі на медным таку. Кашчэеў сын крычыць:

— А ну-ка, Іван-Дараган, і тут нам не бітва. Ідзем-ка на сярэбраны ток.

Сышлі яны на сярэбраны ток, ударыліся разы па тры, уехалі па калены. Кашчэеў сын крычыць:

— А ну-ка, Іван-Дараган, і тут нам не бітва, ідзем-ка на залаты ток, во там мы пабіваемся.

Вось і пайшлі.

Прыйшлі на залаты ток, біліся, біліся доўга: Іван-Дараган пачуставаў, штоб не замог, крычыць Іван-Дараган:

— А ну-ка, пёссе мяса, давай-ка аддыхнем.

А браты гулялі, гулялі ў карты ды й заснулі. Адзін лёг пад прыпек, адзін лёг на лаўкі.

Ён, Іван, здзеў з нагі сапог аддыхаючы і запусціў ім у хіжыну, каб разбудзіць братоў, бо ведаў, што яны паснулі. Нячутна нічога. Кашчэеў сын падымаецца:

— А ну, уставай, Іван-Дараган, на бой.

І зноў пачалі мясіцца.

Біліся, біліся, чуствуе Іван-Дараган, што замагае, зноў ён крычыць:

— Давай яшчэ, пёссе мяса, аддыхнем.

— Давай.

Ён здзеў другі сапог з нагі і запусціў у сваю хіжыну і папаў у грубу. Груба разваліласяся, старшаму брату ўдарыла кірпічамі па назе. Гэты прахваціўся, глядзіць — кроў на палу і па хаце пацякла, не то што з нажа. Ён скарэй за ключы і пабег каня адмыкаць. А Кашчэеў сын крыкнуў:

— Уставай, Іван, на бой!

Конь крычыць:

— Скарэй адмыкай, а то гаспадар пагібае.

Адмыкнуў ён каня, конь ляціць і крычыць:

— Іван-Дараган, астараніся!

Як прыляцеў, так Кашчэевага сына на капусту пасек сваімі капытамі. Іван сеў, умарыўся б'ючыся, аддыхае. Аддыхнуў, хацеў дамоў ісці, а дай-ка, думае, пагляджу, што ў іхніх карманах ёсць. Вось ён палез у карман, ляжыць у кармане кніжачка і насавы платочак, клубочкам звязаны. Ён за гэту кніжачку, сабе ў карман. Насавы платок развязаў, сонца пырх — паляцела з яго, ён і к першым падышоў, што першых пабіў, у аднаго цап — насавы платок тожа завязан. Ён развязаў, месячка пырх — паляцела. Ён у трэцяга сына ў карман — выцягвае адтуль тожа насавы платок звязаны. Зорачкі пырх — паляцелі. Вось ён прыходзіць у сваю хіжыну к сваім братам.

— Ну, вось, братцы. Вось я найшоў віднае, ды вы трохі вінаваты, чаго вы лажыліся спаць? Я чуць не пагіб, як бы не ўзбудзіў вас, то і пагіб бы. Садзіцесь-ка на майго каня і едзьце дамоў, ну каня не ганяйце, ён сам вас прывядзець на тое месца, ён сам пойдзе на тое месца, дзе я бацькавага каня вытрусіў, а вы пойдзеце дамоў, а я тут астануся, мне дзела ё, а можа вас і даганю.

Як узяў ён тую кніжачку ў яго і прачытаў яе, дык ён найшоў у ёй тое, што можна чым хочаш зрабіцца. Ён адзеўся галубком, узляцеў на вакно дома, дзе Кашчэй Бяссмертны, і слухае, што тут будуць за разгаворы. Ускаквае дачка Кашчэева і гаворыць:

— Ну, папаша, калі мае браты яго не перавялі, дык я яго перавяду. Забягу наперад і зраблюся хрустальнай крыніцай, і яны як нап'юцца вады, дык і палопаюцца.

Ускаквае другая:

— Ну, мая сястра, калі ты не перавядзеш, дык я перавяду. Я забягу далей наперад і зраблюся яблынай. Будуць на ёй залатыя яблыкі і сярэбраныя, як з'ядуць, дык і палопаюцца.

Ускаквае сама змяя, Кашчэева жонка.

— Ну, мае дочкі, калі вы не перавядзеце, дык я даганю і цалкам іх пакаўтаю.

Ён, Іван, паслухаў, больш нічога не чутна болей. Дагнаў сваіх братоў, ударыўся аб зямлю і зрабіўся зноў Іванам.

Ну, і едуць. Наперадзе паяўляецца крыніца хрустальная. Браты пасаскаквалі, хацелі вады напіцца, а Іван-Дараган іх не пусціў, а ўзяў кол, як ударыў па той крыніцы, толькі багна палучылася. Гэту забіў. Едуць далей. Вось паяўляецца яблына, залатыя яблыкі і сярэбраныя. Браты пасаскаквалі і хацелі яблыкаў нарваць, а Іван іх не пусціў. Як ударыў зноў колікам па яблыні, тожа багна атрымалася. Браты і гавораць:

— Што ты нас не пускаеш ні піць, ні есці. Мы з табой не хочам ехаць, калі ты такі.

— А вы, братцы, са мной і не паедзеце. Едзьце адны, конь вас прывязе, куды я і казаў.

А сам чуствуе, што змяя скора будзе ляцець, Кашчэева гэта жонка. Браты паехалі адны. А ён шагнуў багатырскімі шагамі ў Кіеў-горад. Ён знаў, можа там і спасуся. Там ёсць тры багатыры; зялезная кузня ў іх, яны куюць у ёй, трое дзвярэй у ёй зялезных. Вось ён прыбягае ў Кіеў. Чуе, ляціць змяя. Ой, бачыць наганяе, а кузня яшчэ далёка. Дык ён забягае ў склад, дзе солі кулі, хватае па дзесяць мяхоў зразу і шыбануў ёй у рот. Напоўніў яе кулямі з соллю, яна абажралася. Паляцела ў Днябро вады піць, а ён у гэты час скок к кузні.

— Эх, братцы, пусцеце, паратуйце.

— Мы пусцім цябе, толькі паслужыш у нас год.

А змяя ўслед, як толькі яны яго ўпусцілі ў кузню. Хлоп на кузню, аж кузня зялезная затрашчала. Вось яна і гаворыць:

— Падайце мне машэнніка, а то і кузню вашу разару.

Яны адказваюць ёй:

— У чым мы вінаваты, мы ж не знаді, хто гэта такі. Мы баімся кузні адчыняць, а ты вазьмі трое дзвярэй пралізні, у цябе язык большы, дык мы табе яго на язык пасадзім і цягні сабе.

Яна як лізнула, дык язык тырчыць да сцяны. Іван-Дараган за клешчы ды на кавадла язык гэты, а тыя ў тры малаты як пачалі біць, аж кузня ходырам хадзіла. Адрубілі, пакуль чуюць ужо слабка — ходзіць па павадку. Выходзяць з кузні, там ляжала зелязяка семдзесят пудоў. Дык Іван-Дараган цэпам прычапіў зелязяку тую ды на шыю ёй гэты цэп, а тыя ўсё душаць па галаве, а Іван-Дараган як запароў гэту зелязяку ў зямлю, дык і зрабілі канаву цераз увесь Кіеў да Дняпра і кінулі змяю ў Дняпро з зелязякай, і не праплыла метраў дзесяць, там ёй і душа вон.

Іван служыць год. Адслужыў год, яны яго напаілі, накармілі харашэнька і на дарогу далі. Пайшоў ён к двару дабірацца, дамоў. Вось ідзе па шляху, шлях той праз ясакарнік, дык ён як крыкнуў песні, дык аж лісце сыпалася з ясакарніку. Вось бачыць: наперадзе едзе, як на мацыклеце, дзяўчынка і крычыць:

— Астаранісь, а то ўшыбу.

Ён думае: «Такая малая ды мяне ўшыбець». Вось ляціць прама на яго, ён нагой як таўхануў яе, дык нага і прыліпла, ён другой — і тая прыліпла. Ён рукамі — і рукі прыліплі, і пацягнула яго як ташчыла, ды ў Кашчэеў дом.

— Дзедка! Вось я табе яго прывезла!

То звалася дзяўчына Анціпка, каторая яму вейкі падымала, Кашчэю. Ён загадвае:

— Падымі-ка ж вейку.

Яна падняла (а ў Кашчэя вейкі былі па пяць пудоў).

— О, галубчык, тут я цябе зразу не буду ні біць, ні казніць.

А Кашчэй як пагядзіць на каго, то ад яго ўжо не адыдзеш, хоць і пусціць, то ўсё роўна к яму прыйдзеш. Ён і гаворыць яму (Івану):

— Сыночкаў пабіў, дачок пабіў і жонку ўбіў, дык вось табе загадка: па гэтаму мору ўніз пяцьдзесят вёрст ідзі, там жывець на востраве на моры вось такі стары, штоб ты мне яго дачку прывёў на жонку, а не прывядзеш — мая меч, твая галава з плеч.

Ну, ён і пайшоў. Прайшоў вёрст дзесяць, выскакуе к яму чалавек з лесу і пытае:

— Куды ідзеш, чалавек?

— А іду ў сваты.
— І я з табой пайду.
— А ты што за чалавек?
— Па ўсём свету бачу.
— Ну, і ідзем разам.
Пайшлі далей. Выскакуе яшчэ адзін.
— Куды, хлопцы, ідзеце?
— А ідзем у сваты.
— І я з вамі пайду.
— А ты што за чалавек?
— У адзін час усё царства аббягу.
— Ну, і ідзем разам.
Прайшлі далей. Выскакуе трэці.
— Куды, хлопцы, ідзеце?
— У сваты.
— Ну, і я з вамі пайду.
— А ты што за чалавек?
— А я такі, што многа п'ю, вып'ю ўсё мора.
— Ну, ідзем разам.
Прайшлі дальш. Выскакуе чацвёрты.
— Куды, хлопцы, ідзеце?
— У сваты.
— І я з вамі пайду.
— А ты што за чалавек?
— Колькі мне ні дай, я ўсё паем.
— Ну, ідзем разам.
Прайшлі далей. Выскакуе пяты з зялезнымі вілкамі.
— Куды, хлопцы, ідзеце?
— У сваты.
— І я з вамі пайду.
— А ты што за чалавек?
— А вось гэта мора ў копы складу за пяць мінут і мора перайду.
— Ну, ідзем разам.

Вось падыходзяць і бачаць той востраў. Выскакуе шосты. З рагожкай пад пахай.

— Куды, хлопцы, едзеце?
— Ды вось к гэтаму ў сваты на востраў.
— Дык вось садзімася на гэту рагожку, яна нас і перавязе.

Яны селі і пераехалі. Там аграда, ніхто не ўвойдзе туды. То жывець валшэбнік, што і Кашчэй яму рады не даў. Вось па

аградзе тысячы градзін і на кожнай аградзіне чалавечая галава тарчыць, а сем аградзін пустых. Яны і гавораць, хлопцы:

— Гэта для нашых галоў.

Падыходзяць к варотам, замкі самі адчыняюцца на варотах, і вароты самі расчыняюцца. Яны ўвайшлі, вароты самі хляп на замкі. Яны падыходзяць к дому. Дзверы адчыняюцца самі. Уваходзяць у дом, сядзіць там стары, з ног да галавы касамі аброс:

— Што вы, хлопцы, прыйшлі?

— У сваты к бабе.

— За каго ж вы будзеце сватаць?

Паказваюць на Івана.

— Дачка, хадзі-ка сюды.

Дачка прыйшла з другога пакою.

— Вы бачыце, якая мая дачка прыгожая. А вы ж мурзатыя. Дык вось вам загадка: «У такім-та царстве ёсць два калодцы, дык хто той вадой памыецца, дык будзе прыгожы, як і дачка мая. Дык вам, калі мая слуга наперад прынясе, за вас скарэй, то мая меч, вам галаву з плеч. А калі вы прынясеце, то будзем гаманіць».

Стары паслаў бабулю Ягу Касцяную нагу. Вось хлопцы пасылаюць таго, хто ўсё царства аббягае. Вось ён як дунуў, дагнаў тую Бабу Ягу, набок яе тауханнуў нагой, а сам далей. Набраў вады. Бяжыць назад. Сярод дарогі сустракаецца зноў із ёй. Яна тут яго задзяліла і сароку на галаву пасадзіла, і ён спіць, заснуў. Яна за бутылку ад яго і бяжыць. Іван-Дараган гаворыць:

— Да павінен ужо быць.

Узлезлі на балкон з хлопцам, што па ўсім свеце бачыць. Ён і гаворыць:

— Сядзіць сарока на галаве, і ён сядзіць і спіць.

Іван-Дараган як крыкнуў багатырскім голасам, так ён і падхваціўся. Дагнаў зноў бабу гэту, нагой таўхануў, бутылку адабраў, прыбег, а бабе трэба яшчэ пяць гадзін бегчы. Іван узяў памыўся гэтай вадой і стаў красавец. Ён загадвае, стары той:

— Ну, цяпер будам свадзебку гуляць. У мяне ёсць амбарык бачонкаў віна, ёсць і амбарык хлеба печанага, пухованага, дык вось каб вы папілі гэта ўсё, гэта за раз, і паелі. А не пап'еце і не паясце — мая меч, вам галовы з плеч.

Гэты, што многа п'е, к бачонкам у амбар, а гэты, што многа есць, к хлебу, папілі і паелі ўсё. Крычаць:

— Дай-ка шчэ, калі ёсць, а то мала.

Ён гаворыць:

— Не, даволі, хлопцы! Вось, хлопцы, цяпер што: твар-то вы памылі, прыгожыя, а цела ваша бруднае, дык ідзіце ў баню, памыйцеся, а калі не памыецеся ў маёй бані, то мая меч, ваша галава з плеч.

Яны пайшлі.

А баня ўжо двое сутак топіцца, зрабілася, як жар, чырвоная. К бані падышоўшы, гэты, што папіў многа, як пусціў у яе ваду, поўную баню наліў і затушыў яе. Яны параздзяваліся, давай купацца ў ёй, як у ванне. Ну, ён пасылае дачку:

— Бяры-ка, мая дачка, качаргу да ідзі павыграбай попел, што пагарэлі ў ёй.

Яна за качаргу і пабегла. Падбягае к бані, а яны там купаюцца.

— Э,— гавораць,— што вы так кепска натапілі, мы ўжо пакалелі.

Яна круць назад, бяжыць плачучы к бацьку і гаворыць:

— Татачка, яны ўжо там купаюцца.

— Ну, мая дачка, пойдзеш. Гэта хлопцы не простыя. Больш я ім загадваць не буду, а то яны мяне перавядуць.

Прыйшлі яны.

— Ну, што ж, бярыце дачку, вядзіце.

Узялі і павялі. Вось прыводзяць к мору, расцілаюць рагожку, паселі ўсе на яе, паехалі. Толькі праз мора ўплылі, так яна боўць у мора. Гэты, што ў копы складае, шарах, марах, а той, што далёка бачыць, граб яе сюды, на рагожку. Іван-Дараган дзяржыць яе, яна і гаворыць:

— Як бы за цябе, Іван-Дараган, дык бы я згодна з дарагой душой, а то ты мяне павядзеш к Кашчэю.

— Да,— гаворыць,— павяду к Кашчэю.

Пераехалі. Той, адкуль выходзіў, на сваё месца пайшоў, а Іван яе павёў к Кашчэю. Прывёў.

— Ну, вось прывёў табе жану.

— Анцыпка, падымі-ка вейку.

Тая аж крэкча, падымаючы вейку. Глянуў.

— Ну цяпер, Іван, гуляй у мяне.

Пабыў ён нядзелю, а Кашчэй знаў не такую шчэ красавіцу марскую, на дне мора жыве. Прыказвае Івану:

— Вось табе дастаць марскую красавіцу мне, а не дастанеш — мая меч, твая галава з плеч, а дастанеш, куды хочаш пушчу. Вось яна ўверх па мору за семдзесят вёрст, там каля яе красівыя кусты па берагу, яна кожнай раніцы на паверхнасць

выплывае да сонца і песенькі распявае; як запяе песні, дык аж мора калышацца. Дык вось, як сабе хочаш, а мне яе дастань.

Пайшоў ён у горад, заказаў слесару зрабіць такую карапашку, дзверы штоб былі раздзвіжныя, каб не было відна, каб я сядзеў і не відзен быў. Разукрась рознымі кветкамі. Ён набраў напітак, наедак, наняў у горадзе звозчыка і павёз яго з карапашкай.

Ну, прыехалі туды, ён астанавіў у тых кусціках недалёка ад берагоў, а звозчык паехаў дамоў. Ён сеў у яе і сядзіць, чакае раніцы. Вось настала раніца, і яна выплывае, плыве сюды к берагу і стала па пахі ў вадзе і размаўляе:

— Эх, што гэта за такое, відна, штось смачнае. Ці не хоча хто злавіць мяне? Не пайду.

Боўць у мора. Сядзіць Іван да другой раніцы. Вось яна зноў выплывае, зноў плыве к берагу, выйшла на сушу, шагі на тры не дайшла да яе, стаяла, стаяла.

— Не, каб хто не злавіў мяне.

Апяць зноў боўць у мора. Ён сядзіць да трэцяй раніцы. Вось на трэцюю раніцу зноў яна плыве, выйшла на сушу і падышла к карапашцы, стала піць і есці і гаворыць:

— Эх, і смачнае, і няма тут нікога.

Іван дзверцы дзвіг і граб за яе. Яна рвалася, рвалася, ён гаворыць:

— Не, не вырвешся з рук.

Такая яна красавіца, што ні ў казцы казаць, ні пяром не апісаць. Вось Іван як глянуў на яе з карапашкі вылязшы і падумаў: «Вось каб такая жонка мне!»

Абняла яго, пацалавала і прыгаварвае:

— Ты мяне к Кашчэю павядзеш.

— Да,— гаворыць,— к Кашчэю.

— Дык вось давай мы з табою пакладомсь, каб ты быў мой муж, а я твая жонка. Я яму не падамсь, а як гляне ён на мяне, дык усю праўду мне скажа. Я ў яго дапытаюся, дзе яго смерць, а ты як добры маладзец можа і дастанеш.

Так з гэтым і пайшлі. Прыходзяць к яму. Іван гаворыць:

— Ну, прывёў.

— Анціпка, падымі-ка вейку!

Падымае вейку. Як глянуў на яе, гаворыць Івану:

— Куды цяпер хочаш, хочаш дамоў едзь, а хочаш — у мяне будзь за сына.

— О, так і быць,— гаворыць Іван,— я ўжо ў вас прывык, бацька, і буду за сына за вашага.

— Во, во, мой сынок родны, вунь табе будзе тая жонка, што ты ўперад прывёў, бяры ключы на сцяне, ідзі ў інбар, адмыкай, там маіх сыноў ружжы, ты бяры сабе любое, па свету пахаджвай, гуляй, еш, пі.

Ён пайшоў, адамкнуў, узяў ружжо і пайшоў, а яна Кашчэя прыгалубіла і гаворыць:

— Ой, міленькі мой, які вы прыгажун і жывяцё ўжо доўга, мой бацька расказваў, што дзед наш пражыў трыста лет і вы жывяцё, дзедка вас знаў, і бацька мой пражыў дзвесце гадоў, а вы ўсё жывяцё і маладыя такія.

— Э, мая родненькая, я ж пражыў семсот гадоў, яшчэ буду жыць сто, мне смерці няма, я бяссмертны, і ты памрэш, а я буду жыць.

— Ой, міленькі, ой, любенькі, як жа ты так жывеш? Раскажы.

— Э, як была перша, я не прызнаваўся, як была другая, не прызнаваўся, ну табе, як крэпка палюбіў, дык раскажу. Вунь востраў на моры, бачыш?

— Бачу.

— Бачыш, там дуб стаіць аграмадны, пад тым дубам тры касых сажні ў зямлі сундук незгараемы, незгніваемы, а ў том сундуку заяц, а ў том зайцы вутка, а ў той вутцы яйцо, а ў том яйцы мая смерць.

Яна яго прыгалубіла, ён і заснуў. А Іван з ружжом на ахоту пайшоў.

Ідзець — бяжыць гончы сабака, ён хацеў у яго стрэліць, сабака крычыць:

— Іван-Дараган, не бі мяне, не губі мяне, я табе ў большай прыгодзе зпанадаблюсь.

Пайшоў далей. Ляціць арол. Ён хацеў тожа стрэліць. Арол крычыць:

— Іван-Дараган, не бі мяне, не губі мяне, я табе ў большай прыгодзе зпанадаблюсь.

Ён і гэтага не біў. Ідзе паўз мора паўз гэта, заплуталася шчука ў язу, крычыць:

— Іван-Дараган, вырві кол і вывалакі мяне адсюль і выпусці на мора. Я табе ў большай прыгодзе зпанадаблюсь.

Ён вывалачыў яе і пусціў на мора. Сам пайшоў дамоў. Прыходзіць дамоў, яна ўзрадавалася, вывела яго на балкон і паказвае:

— Вунь востраў, вунь і дуб там стаіць аграмадны, пад тым дубам у тры касых сажні сундук, неэгніваемы, незгараемы, а ў

том сундуку заяц, а ў зайцы вутка, а ў вутцы яйцо, а ў яйцы смерць яго.

Ён кінуўся ў плынь, прыплыў туды, як іртануў тога дуба з карэннем, капнуў там, дастаў сундук, узяў яго, падумаў так:

— Як удару аб дуба, усяму канец.

Вось і ўдарыў. Заяц прыг і пабег. Адкуль узяўся гончы сабака, дзёрг зайца тога, вутка пырх — паляцела, адкуль узяўся арол, вутку дзёрг, а яйцо чмяк у мора. Стаіць і думае. Праз некалькі часу нясе шчука яйцо ў зубах:

— На, Іван-Дараган, я табе казала.

Узяў ён яйцо і паплыў зноў назад, а Кашчэй ужо сядзіць, праснуўся:

— Ну-ка, дзяржысь, пёссе мяса,— кажа Іван.

— Што, што, машэннік. Анціпка, падымі-ка мне вейку.

Падняла.

— Іван-Дараган, не бі мяне, не губі мяне, век не буду чапаць нікога, толькі буду адной рыбай харчавацца.

Іван як шлопнуў у лысіну яму яйцом гэтым, дык Кашчэй і ногі задраў, і капут. Сам выйшаў на двор, свіснуў багатырскім голасам, прыляцеў к яму конь, ну, і селі ўсе ўтрох і паехалі дамоў.

Прыехаў дамоў, з гэтай марской сам ажаніўся, а тую брату аддаў, і сталі жыць і пажываць і дабра нажываць.

## 7. ІВАН-ДУРАК

От так, быў сабе цар. У яго былі тры сыны: два вумных, а трэці дурак. Цяпер, у вадзін дзень царыца выйшла гуляць. Адкуль узяўся змей, [у]хваціў царыцу і панёс. Усшукаліся царыцы: туды, сюды — няма царыцы! Падаждалі колькі ўрэмя — разумныя сыны кажуць бацьку:

— Багаславіце нас, бацюшка, паедам шукаць маткі!

— Як жа вы паедзеце? Вы не едзьце, а йдзіце пешкам лучччы!

Багаславіў сыноў, уваружыў і адправіў у пуць. Сыны пайшлі. Прыходзяць у цёмны лес, знайшлі сцежачку ў лесе і пайшлі гэтай сцежачкай. Трошкі прайшлі, бачаць — стаіць дом. Бальшы-бальшы дом! Яны прыходзяць у дом, бачаць — сядзіць дзявіца, нешта шые.

— Здрастуй, красная дзяўчына!
— Здрастуй, здрастуй, добрыя малайцы! Куды вас бог нясе?
— Ідом шукаць маткі!
— А вот, матка ваша тут!
— А дзе ж яна?
— А вот,— гавора,— у склепе!
Адчыніла дзверы:
— Лезьце сюды.
Яны ўзялі і палезлі. Яна ўзяла і зачыніла іх.
— Тут вам прападаць!
Цяпер дурань той давай прасіць бацьку:
— Багаславі, бацюшка, і мяне!
— А куды ты, дурань, пойдзеш?
— Пайду і я маткі шукаць.
Бацьку нечага дзелаць, багаславіў яго і пусціў у свет. Пайшоў дурань гэтым самым следам, кудой ішлі разумныя. Прыходзе к гэтаму дому самаму. Уходзе ў хату:
— Здрастуй, красная дзяўчына!
— Здрастуй, здрастуй, добры маладзец! Куды цябе бог нясе?
— Іду маткі шукаць.
— А дзе ж ты яе знайдзеш?
— А дзе-небудзь знайду.
— Твая матка тут.
— А дзе яна?
— А ў склепе!
Адчыніла склеп і пасылае яго туды. А ён кажа ёй:
— Нешта матка мая сюды залезе? Лезь сама сюды!
Узяў яе за каўнер і пхнуў у гэту ямку. А браты пачулі:
— Эй, брат,— кажуць,— ратуй нас!
— А чаго вы сюда зайшлі?
— А гэта нас гэта дзеўка ўсадзіла.
— А шчэ вумныя браты! Паслухалі дзеўкі, палезлі ў склеп!
Узяў іх, выцяг. Тады дзеўка пачала прасіцца:
— Добры маладзец, выцягні мяне адсюль, я табе нараю каня, які можа служыць па гроб твае жысці.
Ён тады яе выпусціў і кажа братам:
— Хадзем, браты! Калі ж няпраўды яна нам скажа, тады прыйдзем і ўкінем яе ў ямку! Якога ж ты каня мне нараіш?
— А ідзі от гэтай самай дарожкай і будзе стаяць бальшы дуб, і ты прыйдзі к гэтаму дубу і ўбачыш зялезныя дзверы. Ты

адчыніш — выскача к табе конь. Ты садзіся і едзь, куды знаеш!

Браты ўзялі і пайшлі. Прыходзяць к гэтаму дубу. Адчыніў дурань дзверы — выскачыў конь. Дурань сеў на каня і паехаў, а браты ідуць. Ехалі яны дзень-другі, не пападала ім нічога наўстрэч. Ідуць далей — і стаіць мост на пяць вёрст, і напісана табліца, і сказана ў табліцы: «Хто гэты мост не пераедзе ў пяць мінут, таму жывому не быць».

Дурак і сказуе на братоў:

— Вы ідзіце пешкам, а я паеду!

Сцёбнуў каня пугай, пераехаў цераз пяць мінут. Злез ён з каня, пусціў каня на луг, сам пайшоў шукаць вутак. Убіў вутачку, абдзелаў яе як трэба, спёк і дажыдае братоў. Прыходзяць браты. Пад'елі. Ён ім і кажа:

— Будзьце вы тут, аддыхніце трошкі, а я паеду, праедуся.

Сеў на каня і паехаў. Трошкі праехаў, гоні дзве-тры, бача — едзе змей з дзвюма галавамі.

— Ну, што, Іван-дурань, ці будзем біцца, ці мірыцца?

— Не, змей, не на тое я ехаў, каб мірыцца, а на тое я ехаў, каб біцца!

Раз'ехаліся. Іван секанеў — і ссек абее галавы. Узяў каня змеевага і паехаў к братам.

— Ну, братцы, уставайце! От табе, большы брат, дастаў каня. Садзіся, ты едзь, а ты, сярэдні, ідзі так!

Паехалі далей. Ехалі мала ўрэмя, прыязджаюць ізноў к масту. Стаіць мост на дзесяць вёрст, і табліца напісана: «Хто гэты мост не пераедзе ў дзесяць мінут, таму жывому не быць!»

Іван сказуе большаму брату:

— Злезь з каня і вядзі ў руках, а я паеду!

Сцёбнуў каня пугай, пераехаў у дзесяць мінут. Пусціў каня на луг, сам убіў вутачку, абдзелаў яе як трэба, іспёк, сам пад'еў, тады палажыў сядло пад галаву і лёг аддыхнуць. Прыходзяць браты.

— Ну, здароў, брат! Як цябе бог перанёс?

— Слава богу. Ну, садзіцеся да з'ешце чаго-небудзь!

Селі яны, укусілі хлеба, вутачкі.

— Ну, вы, братцы, аддыхайце, а я паеду, праедуся!

Праехаў нямнога дарогі і бача — едзе змей з трымя галавамі.

— Ну што, Іван-дурак, будзем біцца ці мірыцца?

— Не, нячыстая сіла, не на то я іду, каб мірыцца, а на то іду, каб біцца.

Раз'ехаліся яны. Іван-дурак як махнуў шабляй і ссек усе тры галавы. Тады ўзяў яго парубіў на кавалкі, пасек і спаліў і попел за ветрам пусціў.

— Не ўжо, нячыстая сіла, так не [а]стаўлю, як першага. Можа, ты той самы!

Узяў змеевага каня і павёў. Прыязджае к братам:

— Ну, братцы, будзе спаць. На і табе, сярэдні брат, каня!

Паехалі ўтрох. Праехалі трошкі, стаіць мост на пятнаццаць вёрст, і табліца напісана: «Хто гэты мост не пераедзе ў пятнаццаць мінут, таму жывому не быць».

Тады Іван сказуе на братоў:

— Злезце із коней, ідзіце пешкам.

Сцёбнуў каня пугай і пераехаў у пятнаццаць мінут. Пераехаўшы, падаждаў братоў і кажа на іх:

— Вы аддыхніце, а я паеду, праедуся. І вот вам два стаканы: адзін з вадой, а другі нясчымны. І калі з гэтага, з нясчымнага, будзе бегці кроў, едзьце ка мне на помач, а калі не будзе нічога бегці, то не едзьце!

Сам паехаў. Едзе наўстрэчу змей шасцігалоўны.

— Ну, што, Іван-дурак, будзем біцца ці мірыцца?

— Не на то я ехаў, каб мірыцца, а на то, каб пабіцца!

І раз'ехаліся яны. Змей яго збіў з каня і зусім ужо ўбівае ў зямлю. Тады ён на гэтага на свайго каня і кажа:

— Конь мой верны, што ж ты стаіш? Чаму ты мне не паможаш?

Конь раскіпіўся і пусціўся на змея. Убіў яго ў прах! Усталі браты і бачаць — із стакана бяжыць кроў.

— Ну,— кажуць,— няхай яго там уб'юць, а то бацька аддасць яму ўсё царства!

Прыязджае дурак:

— Ну, будзе спаць вам!

Яны ўсталі і кажуць:

— А, брат, як мы спалі доўга. Нічога й не бачылі!

Паехалі яны далей. Прыязджаюць к балшэннай гары, што няльга́ ніякім родам узлезці на яе. Ён на свайго каня папытаў:

— Ці ўзнясеш ты мяне на гэту гару?

— Не!

Ён на другога, якога адабраў у змея ў двухгалоўнага:

— Ці ўзнясеш ты?

— Не,— кажа,— не ўзнясу, палавіну ўзнясу!

Ён у трэцяга каня папытаў, якога адабраў у трохгалоўнага змея:

— Ці ўзнясеш ты мяне на гэту гару?

— Узнясу!

Сеў ён на каня і паехаў. Уз'ехаў на гару і бача два шкляныя дамы. У першы дом зайшоў, бача — сядзіць дзеўка.

— Здрастуй, дзявіца!

— Здрастуй, добры маладзец! Куды цябе бог нясе?

— Іду маткі шукаць.

— А дзе ж ты яе найдзеш?

— А можа, бог дасць, тут найду! Хадзем, дзеўка, са мной!

— Не, я не пайду, у мяне шчэ ё другая сястра.

— А дзе ж яна?

— А ў тым доме.

Ён узяў і пайшоў у той дом. Прыходзе — і там дзеўка сядзіць.

— Здрастуй, дзявіца!

— Здрастуй, добры маладзец! Куды цябе бог нясець?

— Іду маткі шукаць.

— А дзе ты яе найдзеш?

— А можа тут знайду!

— Можа тут знайдзеш: матка твая тут!

Матка пачула ў васобеннай комнаце і выйшла к яму.

— Здрастуй, маменька!

— Здрастуй, сынок, здрастуй! Як цябе бог сюды прынёс?

— Прыехаў я з братамі.

— А дзе ж яны?

— А там засталіся ля гары!

— Ну, хоць ты прыйшоў сюды, ды каб цябе не ўбілі змяі.

— Не, я іх пабіў. Ну, хадзем, маменька!

Узялі і пайшлі. Забралі з сабой і дзеўку. Прыйшлі к той, к меншай. Забралі і меншую. Прыйшлі на тое месца, дзе ён узлазіў.

— Ну, як тут іспусціць вас далоў? Пастой-ка, мам, я пашукаю вяроўкі.

Пайшоў у гэтыя хаты шукаць вяроўкі. Знайшоў вяроўку, навязаў паперад маць, пусціў далоў, а тады дзеўку адну і другую. Тады браты кажуць:

— Давай шмурганом вяроўку, каб ён там застаўся!

Шмурганулі — вяроўка і вышмургнула з рук: ён там і астаўся. Цяпер яны кажуць на дзевак і на мацеру:

— Прыедам мы дамоў, дык не кажыце, што ён вас дастаў, а кажыце, што мы, а то бацька не дасць нам нічога — аддасць яму ўсё царства. І толькі не плачце, а то як убачым, дык зарэжам!

Дзеўкі скучаюць па тым, што застаўся на гары, а іх воўсе яны не любяць, гэтых двох. Меншая дзеўка і думае:

— Каб ён пайшоў у мой дом, ён ба б найшоў там піпку. Каб тую піпку ўзяў, дык бы ўперад нас дома быў!

А той там хадзіў, хадзіў, хадзіў, хадзіў па той гары і пайшоў у гэты дом, у меншае дзеўкі. Пад'есці яму няма нічога, табакі няма, каб пакурыць, дзе прыйдзе — к якому замку — не ламаецца. Ён глянуў на вакно, убачыў піпку: палавіна табакі наложана і ляжаць сярнічкі. Узяў ён і закурыў — ніяк не курыцца. Як сярнічка гарыць, дык курыцца, а як сярнічка патухне, дык не курыцца.

— Ай, каб цябе агні спалілі! Што ж ты не курышся?

Узяў яе ды аб мост! Выскачыла дванаццаць малайцоў:

— Што ты, хадзяін, нас жарка так трэбуеш?

— Нясіце мяне ў такі-та горад!

Так сабе сказаць, хоць і ў Чарнігаў. Прынеслі яны яго ў горад. Ён трошкі аддыхнуў, пераmяніў другую адзежу, [пераадзеў] і выйшаў на вуліцу. Ідуць браты.

— Здароў, купцы!

— Здароў, здароў, мужык!

— Дзе вас бог насіў?

— Маткі ездзілі шукаць.

— Ці найшлі ж?

— Найшлі.

— Ну, слава богу, калі найшлі!

Браты паехалі сабе далей, а дурак піпку вытнуў аб зямлю. Выскачыла дванаццаць малайцоў:

— На што, хадзяін, жарка нас трэбуеш?

— Нясіце мяне ў такі-та горад, дзе жыве мой бацька!

Малайцы падхвацілі і панеслі дурака ў той горад, дзе жыў бацька. Стаў ён там думаць: «Што дзелаць? Пайду я к таму шаўцу, які шыў нам чобаты».

Прыйшоў у хату:

— Здрастуй, дзядзька!

— Здароў, здароў, маладзец! Ну, ча ж прыйшоў ка мне?

— Я прыйшоў, дзядзька, прымі мяне за кусок хлеба!

— А што ж ты будзеш дзелаць у мяне?

— Эй, дзядзька, што загадаеш! Хоць буду дратву сукаць!

— Ну, сучы!

А браты хочуць ужо жаніцца на гэтых прыгожых дзеўках. А дзеўкі кажуць:

— Мы, бацюшка, не будзем жаніцца. Нам трэба такія чаравікі, каб не мераны, не кроены, не шыты і якраз прыйшлісь нам!

Цар ім сказуе:

— Хто такія здзелае чаравікі? У нас адзін е шавец, хіба той здзелае такія чаравікі!

Пазваў свайго слугу:

— Ідзі, прывядзі таго шаўца!

Слуга пайшоў, прывёў шаўца. Шавец прыходзе:

— Здрастуйце, ваша анпяратарства! Навошта вы мяне завяцё?

— Паслухай, шавец. Ісшый мне чаравікі такія, каб не мераны і не кроены і каб якраз прыйшлісь!

— Ваша анпяратарства! Я не дзелаю такіх чаравікаў.

— Ну, ну. Кажы болей, ды ідзі шый!

Шавец заплакаў і пайшоў дамоў. Іван-дурак пытаецца:

— Чаго ты, дзядзька, плачаш?

— Адыдзі ад мяне, дурань!

— Чаго ж ты, дзядзька, сердзішся? Што табе цар сказаў?

— Што сказаў? Сказаў чаравікі пашыць, ды такія мудрыя, што я не ведаю, што сказаць: каб не мераны, не кроены і каб якраз прыйшлісь...

— Дзядзька, не журысь — пашыем чаравікі!

— А, ідзі ты, дурань. Я не ўмею шыць, а то ён пашые.

— Дзядзька, дай мне шкуры: я буду шыць чаравікі. Толькі каб ніхто не бачыў!

Шавец даў яму шкуры, казаў шаўцам выйсці вон із хаты, а дурак стаў шыць чаравікі. Выняў ён з кармана піпку, вытнуў яе аб мост. Выскакуе дванаццаць малайцоў:

— Што ты, хадзяін, нас трэбуеш?

— Прынясіце мне гэтых дзевак чаравікі!

А сам лёг спаць. Трошкі заснуў, прыносяць малайцы чаравікі ў шкляной скрыначцы і паставілі яму. Ён устаў, узяў скрыначку і панёс к шаўцу:

— Дзядзька, на чаравікі!

Шавец паглядзеў на чаравікі і думае:

— Я зроду гэткіх не шыў.

Узяў чаравікі і панёс к цару. Аддаў цару чаравікі, цар панёс дзеўкам. Яны глянулі на чаравікі і засмяяліся:

— Гэта нашы чаравікі!

Назаўтра захацелі браты жаніцца. Узноў яны [дзеўкі] сказалі:

— Мы, бацюшка, не будзем жаніцца. Нам трэба такія спадніцы, каб не мераны, не кроены і якраз нам прыйшліся.

— А хто ж такія здзелае спадніцы?

— Ах, бацюшка, гэты самы шавец здзелае.

Паслаў цар слугу:

— Ідзі, пазаві шаўца.

Прыйшоў шавец.

— Здрастуйце, ваша анпяратарства!

— Здрастуй, здрастуй! Слухай, шавец: пашый мне спадніцы тры.

— Я не ўмею, цар, шыць спадніцы, я не кравец.

— Ну, ну, гавары, а спадніцы прынясі!

Шавец заплакаў і пайшоў дамоў. Прыходзіць дамоў, дурак і пытаецца:

— Чаго ты, дзядзька, плачаш?

— Як жа мне не плакаць? Сказаў цар пашыць спадніцы, такія, што я і не ўмею.

— Маўчы, дзядзька, ды дыш! Пашыем і спадніцы. Ідзі мне вазьмі на сотню рублёў сітцу!

Шавец набраў на сотню рублёў сітцу і аддаў дураку. Дурак схаваўся ў другую хату і стаў шыць спадніцу. Рэзаў, рэзаў ножнямі сіцец і выкінуў за акно. Дастаў піпку з кармана, вытнуў яе аб мост — выскачыла дванаццаць малайцоў:

— Што, хадзяін, нас трэбуеш?

— Схадзіце, прынясіце гэтых дзевак спадніцы!

А сам лёг спаць. Трошкі паспаў, прыносяць малайцы спадніцы. Ён узяў спадніцы і панёс к шаўцу. Панёс шавец к цару. Аддаў цару, а цар аддаў дзеўкам. Дзеўкі глянулі на спадніцы і засмяяліся:

— Гэта нашы спадніцы!

Брацця ўзноў захацелі жаніцца. Тады дзеўкі кажуць:

— Пусціце нас ехаць пагуляць!

Цар сказаў кучару запрэгці коней у калёсы і назначыў людзей, каб ехалі з імі.

— Куды нам ехаць? — пытаюцца людзі.

— А едзьце, дзе шавец жыве!

Прыехалі яны і сустанавіліся проці шаўца.

— Гукнуць нам шаўца, які шыў нам чаравікі і спадніцы!

Людзі гукаюць шаўца, а шавец не ідзець, пасылае дурака, дае яму добрую світку. А дурак не бярэ світкі ды прыйшоў

к печцы, усадзіў руку ў комін і ўмазаў увесь від у сажу. Ідзець ён к дзеўкам, а людзі не пускаюць, што ён такі чорны. Дзеўкі ўбачылі і кажуць:

— Пусціце!

Людзі расхінуліся, дзеўкі і прыхінуліся к яму, к дураку, і пацалавалі кожная па разу, і кажуць:

— Прыйдзі ўвечары дамоў, браты будуць жаніцца!

А самі вярнуліся дамоў. Іванька-дурак надзеў добрую адзежу і пайшоў у царскі дварэц. А браты ўжо сабіраюцца ехаць вянчацца. Толькі Іван увайшоў у хату — глянула маць на Івана, пала на ўколенцы і заплакала:

— Вот хто даставаў нас, а не тыя сыны даставалі!

Цар усердзіўся, сказаў кучару вывесці пару добрых коней і прывязаць іх к хвасту і пусціць у чыста поле, каб коні разнеслі іхнія косці. А дурака жаніў на меншай дзеўцы, а большую аддаў замуж. Дурак стаў жыць-пажываць ды дабро нажываць.

Жыў сабе цар і царыца, і была ў іх на дварэ крыніца, а ў крыніцы курэц — маёй казцы канец.

## 8. ІСКАРКА-ПАРУБАК ДЗЕВІЧЫ СЫН

Вот было ў бацькі тры сына — два вумных, а трэці дурак. І была ў ватца на стайні кабыла. Вумныя сыны паехалі ў лес, а дурань застаўся дома. Дзве нявесткі затапілі печку, напяклі бліноў. Патом просяць яго, дурака гэтага.

— Ах,— гавораць,— прынясі нам вады, мы табе блін памаслім.

Ён узяў вёдры і пайшоў. Прыйшоў к калодзежу, калодзеж быў убліз ад ракі, кала моста. І ў масту ўвязла шчука. Атвячаець голасам, што чалавек гаворыць:

— Вызваль мяне з гэтага места, што для цябе будзець нужна, усё садзействуецца.

Патом таго ён вызваліў і пусціў яе ў ваду. Так і [а]твячаець:

— Па шчучаму павяленню, па матушкіным паражджэнню, па бацюшкіным благаславенню, нуце-ка, вёдры, чарпайцесь самі і ідзіце дамой самі!

Удруг гэтыя вёдры зачэрпаліс і пайшлі ўпярод яго. Так нявесткі ўвідалі ў акно і ўказыець адна другой:

— Во,— гаворыць,— мы ўсё дурнем яго ўзываем, а што ў ём дзействуецца, сваіх мужоў знуджыім, а ён у нас усё за дурня сядзіць!

Прыехалі браццexamples з лесу, пазаўтракалі і нуждаюць яго з сабой ехаць у лес. Ён атвячаець:

— Кагда дасцё бацькаву лошадзь, то й паеду, а не дасцё, і не паеду!

Дазволілі запрэч. Выехаў за гумны, гэта лошадзь пачала яго тарзаць, разнашаваць. Ён зайшоў, кулаком ударыў у лоб — гэта лошадзь звалілася з ног. Ён за хвост узяў, траханув, з кожы ўсю гавядзіну вытрас, а кожу ўзбросіў на гумно. Сам узяў агложлі звязаў, сеў на сані і гаворыць:

— Па шчучаму павяленню, па матушкіным паражджэнню, па бацюшкіным благаславенню, нуце-ка, сані, едзьце ў лес самі!

Гэтыя сані засмычэлі, заскрыпелі, за браццямі паляцелі. Чудзяцца браты, што ён без лошадзі прыехаў.

— А дзе ж ты, брат, дзеў бацькаву лошадзь?

Атвеціў ён, што ўбіў і кожу ўзбросіў на бацькава гумно — не будзець цеч, гаворыць. Браццяя нарубілі дроў і паехалі, а яго зацяюць:

— Чаму ты не сячэш?

Ну, не так ім ахота, што ён насячэць воз дроў, а большы таго пасматрэць, як ён будзець сеч — што з атрада́ тапара не дзяржаў у руках.

Ён сказаў:

— Па шчучаму павяленню, па матушкіным паражджэнню, па бацюшкіным благаславенню, нуце-ка, дровы, сячыцеся самі і кладзіцеся самі!

Дровы гэтыя пазахрапаталі, воздухам пачалі ламіцца і на сані валіцца. Наваліліся на сані з цэлы сажань.

Ну, браты тыя паехалі. Ён узяў узлез на воз на гэты, і сеў, і гаворыць:

— Па шчучаму павяленню, па матушкіным паражджэнню, па бацюшкіным благаславенню, нуце-ка, сані, едзьце дамой самі!

Пераязджаець чэраз возера. Там рыбаловы ловяць рыбу і выцягнулі адну толькі рыбінку. Так ён увідзеў гэту рыбіну і атвячаець:

— Вот рыбіна дарагая. Хто яе будзець есць, тэй сына родзіць, і хто косці абассець, тэй сына родзіць, а хто косці паесць, і тэй сына родзіць. Будуць тры сыны і ўсе багатыры.

Дасталась тая рыбка царэўне. Зжарыла яе і з'ела. Костачкі на блюдзечка адлажыла. Прыйшла яе доч і давай абсасаць косці гэтыя і барсаць пад стол. І атвячаець:

— Ах, мамінька,— гаворыць,— якая гэта ўкусная рыбіна.

Костачкі [а]бассала і бросіла пад стол. Сучэнка, быўшы пад сталом, косці гэтыя і паела. Удруг яны ўсе ўтрох і забрэменелі. Сколькі ўрэмя прайшло, радзілі ўсе тры па сыну — царыца, і доч яе, і сучэнка гэта. Так растуць яны, гэты сынаўя — чыстыя рабяты. Выраслі яны лет да семнаццаці. Патом і гаворыць:

— Бацюшка наш, міласцівейшы гасудар, спраў нам тры мячы па пятнаццаці пудоў. Ёсць у таком-та царстве, у таком-та гасударстве змей — тры галавы, утарой — шэсць галоў, трэці — дванаццаць. Канчаюць народ!

Міласцівейшы гасудар не аставіў іх просьбы. Здзелаў ім тры мячы па пятнаццаці пудоў. Быў у яго серадзі двара камень з бальшую хароміну. Так яны міжда сябе і гавораць:

— Ну, што,— гаворань,— браццяі каторы мы і катораму будзем падчыняцца — хто з нас старшы будзіць? Сячыце камень. Ад каго камень раскоціцца надвая, таго будзем слушаць.

Суччы сын секануў камень — толькі намеціў; Царыцын сын секануў камень — ды ў полу ўбіў; Дзевічы сын як секануў — так ён і пакаціўся надвая. Вот і гаварыць:

— Сматрыце, браццяі мяне слушайце і павінуйцеся! Паедзем на трыдзесятае царства, на трыдзесятую землю.

Пад'язджаюць к таму памесцю вёрст за дванаццаць, састроілі сабе комлату і астанавіліся ў ёй хваціраваць. Патом і гаворыць Іскарка-парубак Дзевічы сын:

— Слушалі мяне і слушайце. Вот,— гаворыць,— Суччы сын, ідзі на мост на стражу. Мост бальшой. Будзець ехаць,— гаворыць, — Юда з трымя галавамі, штоб ты яго страбіў!

Гэты брат не [а]тказаў. Пайшоў к масту і лёг і заснуў. Іскарка-парубак Дзевічы сын прыспаў Царыцына сына, а сам удруг стралой паляцеў к масту. І стаў на масту, не відзіць памошніка сваяго. Так пад поўнач чуець бальшэй грукат — едзець Юда з трымя галавамі. Так яго лошадзі ўзбеглі на мост, астанавілісь і зарзалі. Быўшы з ім сабакі голасам пазавылі. Быўшы пры ём петухі, і тыя пазапелі. Ён улякнуўся, Юда, і гаворыць на лашадзей:

— Ах вы,— гаворыць,— песся мяса,— гаворыць,— аб чом рагочыце?

І на сабак:

— А вы, псы, аб чом скігочыце?

Так і на петухоў:

А вы, ястрабінае пер'я, аб чом голас адкрываеце? Нам раўняг тут нету. Есць тры брата на трыдзесятым царстве, на трыдзесятай зямлі, дак не то што яны сюды зайдуць, дак і воран косці не занясець!

Іскарка-парубак Дзевічы сын атвячаець:

— Ды не воран косці заносіць, а сам добры маладзец на вараным кані заязджаець!

Юда атвяшчаець:

— Ці ты йздзесь?

— А йздзесь.

—Ну, пачанём біцца!

Ну й пачалі. Іскарка-парубак галаву збіў Юдзе. Юда атвяшчаець:

— Іскарка-парубак Дзевічы сын, стой,— гаворыць,— царыкаралі б'юцца, тож заміраюцца — замірымся й мы,— гаворыць,— хоць на малае ўрэмя.

Іскарка атвяшчаець:

— Можна,— гаворыць.

— Іскарка-парубак Дзевічы сын, укажы ты сваю сілу, учом ты б'еш так сілна? Якая твая сіла?

— А мая сіла,— гаворыць,— як лебядзінае пяро!

Выняў сваю сілу і дунуў ветрам угару. Пяро паляцела. Ен дыхнуў — яно назад ускочыла ў рот. Спрашуець Іскарка-парубак:

— А ты, Юда, укажы сваю сілу — чым ты так сілён, якая твая сіла?

Гэты атвяшчаець:

— Мая сіла з бабіну ростам.

Бросіў на мост — яна й пакацілась.

Іскарка-парубак схваціў у рот і гэту з'еў. Ен не з цярпення бросіўся біцца з ім. Іскарка-парубак пабіў яго і парубаў і лашадзей, і сабак, і пеўняў і змёў з маста. Сам скорым поспехам паляцеў у сваю комлату і лёг спаць, бытта ён і не быў там.

Суччы сын устаў, даждаўшы вутра. Пасматрэў на мост: што такое — увесь мост у крыві і ў пер'і. Прыходзіць у сваю комлату. Іскарка-парубак у яго й пытаець:

— Што чуў, што відзеў?

Суччы сын атвяшчаець:

— Не чуў нічога і не бачыў. Толькі, устаўшы, відзеў кроў, косці і пер'я.

Іскарка-парубак і гаворыць:

— Вот які ты ў мяне верны! Ну, ладна,— гаворыць.
Дажыдаець другея ночы і пасылаець Царыцына сына:
— Глядзі ж ты як мажней строга.
Гэты пайшоў.
— Ну, я так, — гаворыць, — не здзелаю!
Іскарка-парубак Дзевічы сын прыспаў Суччага сына і апяць туды на стражу. А гэты Царыцын сын падлез пад мост і лёг на брусах і заснуў.
Іскарка-парубак прыйшоў узноў, стаў на масту. Патом пад поўнач падходзіць — чуець грукат і калаколы звіняць. Так січас едзець Юда шэсць галоў. Толькі на мост уз'язджаець, так січас лошадзі гэты і пазарзалі, сабакі пазаскігаталі, пеўні пазапелі. Ён і гаворыць, Юда:
— Што вы мяне ўстрашчаеце? Мне раўнягі нету. Есць раўняга на трыдзесятым царстве Іскарка-парубак, ды й яго воран сюды і косці не занясець,— гаворыць.
Іскарка-парубак атвяшчаець:
— Нет, Юда,— гаворыць,— не воран чалавечыцкую косць заносіць, а сам добры маладзец на вараным кані заязджаець.
Юда гаворыць:
— А ці ты здзесь?
— Здзесь!
— Ну, што ж ты сюды прыйшоў, ці біцца, ці кала мяне пачудзіцца? Ай будзем чэсна расходзіцца?
Іскарка [а]твяшчаець:
— Не за тым я йшоў сюды тры гады. Табе не дам ходу і на тры шагі!
— Ну, пачнём ваявацца!
Білісь, білісь, ён яму тры голавы збіў, а тры асталось.
— Іскарка-парубак Дзевічы сын, стой,— гаворыць.— Цары-каралі б'юцца і тыя заміріваюцца; здзелаем воддых хоць на тры мінуты!
— Можна,— атвячаець Іскарка-парубак.
Юда гаворыць:
— Іскарка-парубак Дзевічы сын, укажы ты мне сваю сілу, што ты так быстра б'еш?
Гэты атвяшчаець:
— Мая сіла,— гаворыць,— небальшая, як лебядзінае пяро. Дунуў — яно паляцела. Духнуў к сабе — апяць на месце села.
Іскарка-парубак спрашуець:
— Юда,— гаворыць,— укажыце мне сваю сілу!

— Мая сіла,— гаворыць,— тож небальшая — як валоўскі арэх.

Бросіў на мост, яна пакацілась. Іскарка-парубак схваціў і гэту з'еў. Юда ўзліўся — давай біцца. Іскарка-парубак узяў пасек, парубаў і яго, і лашадзей, і сабак, і пеўняў і змёў з маста. А сам пайшоў у сваю комлату, узяў і лёг і спіць, бытта і не быў ён там. Даў бог дзень, прыходзіць Царыцын сын. Ён у яго й пытаець:

— Што чуў, што відзеў?

Гэты атвяшчаець:

— А што,— гаворыць,— не чуў нічога і не відзеў, толькі ўстаў, дык кроў з моста дайжа і мяне абкапала пад мастом!

— Ох, браты, от як вы верна мне служыце!

Трэцяе ночы дажыдаюць, трэба іці самому. Іскарка-парубак гаворыць:

— Ну, брацця,— гаворыць,— наце вам калоду картаў і прашу я вас не спаць усю ноч і наце вам парожні стукан. Кагда гэты стукан сухей кроўю набяжыць, то як сіла ваша падбягайце ка мне на мост.

Вот яны кон ілі два ў карты згулялі і на стол галовы паклалі. Свечы гараць, і яны спяць. Іскарка-парубак стаіць на масту. Як пад поўнач, чуець грукат і калакалы звіняць. Едзець Юда — дванаццаць галоў і дванаццаць коней. Як уз'ехаў на мост, так січас лошадзі зарзалі, сабакі заскігаталі, пеўні запелі, зязюлі закукавалі. Ён і гаворыць:

— Што вы, пецся мяса, рагочыце? — на лашадзей. — А вы, псы люты, што вы скігочыце? Мне тут раўнягі нету, вы мяне не ўлякайце. Ёсць роўны на трыдзесятым царстве Іскарка-парубак, дык яго воран сюды і косці не занясець,— гаворыць.

Іскарка-парубак атвяшчаець:

— Нет, Юда,— гаворыць,— не воран чалавечыцкую косць заносіць, а сам добры маладзец на вараным кані заязджаець.

Юда гаворыць:

— А ці ты здзесь?

— Здзесь!

— Ну што ж,— гаворыць,— ці ваявацца, ці толькі друг на друга палюбавацца ты сюды заехаў?

Іскарка-парубак гаворыць:

— Не так любавацца, як ваявацца.

— Ну,— гаворыць,— пачанём.

Білісь, білісь — дзве голавы збіў. Тут гэты стукан кроўю спаўніўся. А яны спяць. Потым Юда гаворыць:

— Іскарка-парубак Дзевічы сын, цары, каралі б'юцца і тыя заміраюцца, здзелаем воддых хоць на тры мінуты!

Замірыліс. Так ён і гаворыць:

— Іскарка-парубак, укажы мне сваю сілу, што ты так быстра б'еш. Якая твая сіла?

— Мая сіла,— гаворыць,— не большы, як лебядзінае пяро. Дунуў, яно палящела. Духнуў к сабе, апяць на месце села.

— А што,— гаворыць,— я табе паказаў сваю сілу, пакажы і ты мне сваю, якая ў цябе сіла?

Гэты гаворыць:

— Мая сіла як хунтовае яблыка.

Выняў яе і брасіў на мост. Іскарка-парубак падхваціў і гэта з'еў. Юда разазліўся, што ён абідзеў яго. А Іскарка-парубак з правае нагі схваціў сапог і запусціў на гэту комлату, і збіў яе па вокны. Усхваціліся гэтыя яго браты — па зямлі са стукана па калені наплыла кроў. Удруг яны пабеглі к яму — ён шэсць галоў збіў адзін. Узялі гэтага Юду парубілі і пасеклі і змялі яго косці ў раку.

Іскарка-парубак і гаворыць:

— Ну, братцы, дайце мне аддыхі троя сутак!

А браццы ад радасці спяшаць дамой. Ён атвяшчаець:

— Не, я сілна збіўся. Аддыхнём троя сутак, тады будзем ехаць.

Первыя ночы дажыдаюць, так ён братоў прыспаў, скінуўся голубам і паляцеў к Юдзінай жане, каторая з трымя галавамі. Сеў на вакно і забрукаваў. Жана Юдзіна паслышала і гаворыць:

— Юда мой, беззаконны мой. Аслязіў цябе Іскарка-парубак Дзевічы сын, асляжу і я яго,— думаець, гэта душа Юдзіна прыляцела.— Будзець ехаць к свайму дому, пажалаець піць. Я стану крыніцаю кала дарогі і пушчу разныя стуканы і напушчу разных ядаў. Як глынець, то трох мінут не выбудзець.

Іскарка ўзяў у замячанне і паляцеў к браццам. Браты гэтага не зналі. Назаўтрага браты рупяцца дамоў, ён іх просіць падаждаць. Дажыдаець другія ночы, ён скінуўся голубам і паляцеў к Юдзінай жане, каторая мела шэсць галоў. Сеў на вакно, загуркаваў. Яна пачула і гаворыць:

— Юда мой, мілы мой! Аскорбіў цябе Іскарка-парубак Дзевічы сын, аскорблю і я яго. Будзець ехаць да свайго дому, я стану яблынай і пушчу воздух на сорак вёрст. Пачуець ён воздух і пажалаець яблык. Я павешу разныя і насычу ядамі. Толькі ён яблыка вазмець, дык яго на скольکі часцей разарвець!

Вот ён узяў у замячанне і паляцеў к браццям сваім. Лёг, бытта і не быў нідзе. Назаўтрага браты ўстаюць і руляцца дамой. Апяць ён іх упрашыець:

— Аддыхнём хоць адны суткі.

Дажыдаець ён трэцяе ночы. Так узяў братоў прыспаў, скінуўся голубам і паляцеў к Юдзінай жане, што дванаццаць галоў. Сеў на вакне і забуркаваў. Пачула Юдзіна жана і гаворыць:

— Юда мой, мілы мой, аскорбіў ця Іскарка-парубак Дзевічы сын, аскорблю і я яго. Будзець ён ехаць к свайму дому, а я лягу на яго дарозе змяёю і займу абшырнасці на дваццаць пяць вёрст, длінніку на сорак пяць,— не [а]быдзець і не [а]б'едзець. Як будзець ехаць, так я на жала яго і схвачу!

Ён гэта ўслышаў, у памяць узяў і паляцеў к браццям к сваім. Чуць на зару, будзіць браццяў сваіх:

— Ну вот, рабяты, цяпер паедзем!

Выбраліcь ехаць, сколькі праехалі, жалаюць міжда сабой піць, Суччы сын і Царыцын сын, і ён жалаець. Ён ім і адказыець:

— А ці змяцілі,— гаворыць,— во, кала дарогі крыніцу, вот й відаў яе, а вы не. Праедзем і нап'ёмся.

Увідзелі гэты браццы крыніцу, навыгонкі пабяжалі. Ён ім атвячаець:

— Стойце, я ўпярод буду піць.

Перацягнуў нахрысць мечам — пераўраціласъ вада ўся кроўю. Ён заціяець:

— Нуце, браты, піце ваду гэту!

Яны не ўзялі. Сколькі праехалі, пачулі яблышны воздух — пажалалі яблыка. Іскарка атвячаець:

— Няўжлі вы не відалі кала дарогі яблыны? А я ехаў і відзеў яе! Вот мы,— гаворыць,— даедзем да яе, здзелаем аддышку і яблык натрасём.

Замецілі браты гэту яблынь і замецілі яго замячанне ля крыніцы. Былі бросіліcь, а патом назад:

— Ну-тка, ты ўпярод,— гаворaць,— пакушай яблык!

Ён узяў секанyў нахрысць меччу — пацякла з яе кроў, і закрычала громкім голасам, што яго браты паўлякнуліcь. Ён атвяшчаець ім:

— Гэта шчэ нам не загадка. А вот пад'едзем к загадцы!

Сколькі там праехалі і відзяць нейкую бальшую гару і сказуюць міжда сабою:

— Тады не было гэтай гары, не туды мы едзем!

— А вот жа ўсе тыя прыметы, уся тая дарога!

Пад'язджаюць бліжы. Яна разінула пасць, выцягнула жала на вярсту. Пад'ехалі к ёй. Іскарка-парубак сілна скочыў прама ёй у пасць. І давай яе з языка сеч мечам і кавалкамі выкідываць. І сказаў на братоў:

— Як скрозь прарублю, як сіла праязджайце скрозь яе. І маю лошадзь не [а]стаўляйце!

Увідалі браты скрозны ход, як сіла скрозь праляцелі і правялі скрозь яго лошадзь, а яго і прыстанавілі. Ён астаўся. А змяя гэта пераварацілась назад услед за ім. Ён стралою ляціць уцякаць, а яна за ім. Во, кала дарогі стаіць кавальскі дом; ён і гаворыць:

— Каваль, кавальскі сын, прыкрый мяне ад нагалнай смерці!

А яго дом увесь чугунны! Дайжа й дзенніка нет, і сонца не свеціць туды. Ён яго ўпусціў у вароты — вароты чугунныя — і захвацілі яе на вуліцы. Яна ўзяла, кругом дому абвілась у тры рэдзі і пачала пралізываць крышу. Ад трох раз прагрызла крышу і гаворыць:

— Каваль, кавальскі сын! Падай мне вінаватага!

Каваль узяў клешчы, распёк ды яе за качкі праняў кляшчамі наскрозь і дзяржыць, і крычыць:

— Іскарка-парубак! Ідзі,— гаворыць,— рубі мечам з хваста і да галавы!

Гэты ўзяў яе, пачаў рубіць. Дарубіў да галавы. Во яны ўзялі ды яе ў кацёл. Пачалі пераварываць і дзелаць яму кабылу. Здзелалі кабылу; ён за яе жыў тры гады ў каваля.

— Ну,— гаворыць,— едзь жа ты на гэтай кабыле ды нійдзе,— гаворыць,— не астанаўляйся. Калі дзе астановішся, то тры гады праслужыш апяць.

Вот сколькі-та ён праехаў, ураніў кнут, там кала дарогі тожа самае жыў каваль. І ўзнаў, што не простая кабыла гэта. Падняў яму пугу і ўзяў за руку, зачараваў кабылу гэту, што яна не можаць із места саступіць.

— Ну, Іскарка-парубак, калі тры гады пражывеш, паедзеш на ёй апяць. Толькі ты не хадзі на Ўсіянскую гару, не глядзі на сваю старану!

Ён зачаў апяць жыць тры гады. Выйшаў на Усіянскую гару, глянуў на сваю старану. Бытта памеў замячанне, што матка ваду носіць, а бацька рубіць дровы. Заліўся слязамі. Узышоў на двор, каваль зацяміў яго:

— Што,— гаворыць,— схадзіў на Ўсіянскую гару, палядзеў на сваю старану?

Ён адказываецъ:

— Нет,— гаворыць,— не хадзіў, гэта я йшоў па камышавай лазе, камышава лаза каланула ў глаза і пакацілася з глаз сляза.

Вот гэты Іскарка-парубак пражыў тры гады і тут. Потым едзець на гэтай кабыле, даязджаець да трэцяга дома да царскага. Тэй цар залажыў пуці і заняў яго на савет:

— Што,— гаворыць,— высватаеш мне там і там дзявіцу,— гаворыць,— то ты паедзеш дамой, а не высватаеш, то ты й павякуеш у мяне,— гаворыць.— Сабяры,— гаворыць,— сабе дванаццаць малайцоў і [а]дпраўляйся ў пуць.

Едзець ён па дарозе, пераязджаець ён чэраз раку, там сядзіць на раке Абпівала: у рот вада бяжыць, а з яго нідзе не відаць — ніжы яго рака суха — і крычыць:

— Ай, піць хачу!

Ён сказыецъ:

— Здрастуй, Абпівала!

— Здрастуй, Іскарка-парубак.

— Пайдзі са мною ў свет!

— Ну, пойдзем!

Нямнога прайшлі, стаіць кала дарогі хлебапёшня ўбліз горада, на дванаццаць пячэй хлеб пякуць і аднаго Аб'ядалу кормуць. А ён крычыць:

— Ай, есць хачу!

— Здрастуй, Аб'ядала!— гаворыць Іскарка.

— Здрастуй, Іскарка-парубак!

— Пайдзі, Аб'ядала, са мной у свет!

— Што ж, пайдзём!

Яшчэ прайшоў — гарыць горад. Наскочыў Гунька, як ляцеў, наскочыў на [а]гонь, лёг у агонь, у самы сілны, і кожаю накрыўся і крычыць:

— Ай, змёрз!

Агонь патушыў і крычыць:

— Ай, змёрз!

Іскарка-парубак гаворыць:

— Здрастуй, Гунька, пайдзём са мной у сваты.

Гунька адказыецъ:

— Пайдзём.

Нямножка прайшлі — стаіць Даўгашост кала дарогі.

— Здрастуй, Даўгашост!

— Здрастуй, Іскарка-парубак. Куды бог нясець?

— Ідзём у сваты.

— Вазьміце і мяне!

— А хадзі, пойдзем, нам гэтакія людзі і нада.

Сколькі там урэмя прайшлі, сядзіць Лысая Муха кала дарогі.

— Здрастуй, Лысая Муха.

— А здрастуй, Іскарка-парубак Дзевічы сын! Куды бог нясець?

— А ў сваты!

— Вазьміце і мяне!

— А хадзіце, нам гэтакія нада.

Ну, пайшлі яны. (Набраў ён сабе дванаццаць малайцоў). Прыйшлі яны к гэтаму цару ў сваты пракраснай дзявіцы. Так сват і гаворыць:

— Мае сваты.

Паставіў дванаццаць бочак віна і палажыў ім дванаццаць пудоў хлеба і гаворыць:

— Еслі гэта за нач,— гаворыць,— не распарадзіце, то й не мае сваты!

Пайшлі яны ў сарай у гэты і началі піць віно. Гэтыя выпілі па трэбе па сваей. Абпівала выпіў усе бочкі і ў кучу скаціў. І сам на бочкі сеў і крычыць:

— Піць хачу!

А Аб'ядала ўвесь хлеб паеў і крычыць:

— Есць хачу!

Відзіць ён назаўтрага, што віно папіта і хлеб паедзен, нада аддаць гэта ўжо доч яму, потым гаворыць:

— Ну, еслі,— гаворыць,— зяць мой будзеш, вот я яшчэ табе закажу загадку на нач! Еслі сатворыш гэта, то доч будзець за вамі.

Узяў, напаліў яму вугалля жару ў яме:

— Еслі ноч гэту пераначуеце ў яме ў гэтай, то доч за вамі будзець!

Січас гэты Гунька лажыцца ў агонь, накрыўся кожаю, і па кожы іні пайшлі зімныя. Ляглі яны ўсе ўкрыўшысь і пакрахтуюць, што дужа холадна. Назаўтрага ўстаў гэты цар і гаворыць:

— Ідзіце,— гаворыць,— хоць косці іх павыкідайце адтуль.

Прыйшлі слугі сматрэць, а яны крахцяць:

— Дайце нам хоць пагрэцца!

Уходзіць ён у комлату — без адказу нада доч аддаць. Доч гэта адказываець:

— Пазвольце нам у саду прагуляцца!

Пайшлі ў сад, і давай яна ў яго сматрэць у галаве. Накінула сон, ён і заснуў. А сама скінулась галубкай і паляцела, каб і саўсім адляцець ад яго. Так січас Муха ўкусіла яго за ж..., ён усхваціўся — дзявіцы нету. Спрасіў у таварышаў:

— А дзе яна дзелась, у каторую старану паляцела? Даўгашост, відзеў ты? Змець хоць глазам!

Даўгашост схваціў яго сабе на хвост, два разы пераварацiўся і яе паперадзілі. Узялі яе, не [а]дпушчая к айцу, і павялі па сваёй дарозе. Прыязджаюць к гэтаму цару, а гэты цар акружыў свой дом і пакапаў канавы і напаліў агнём бальшым. Потым і гаворыць:

— А што, Іскарка-парубак, жыў ты з гэтай дзявіцаю, пакуль давёў сюды?

— Не,— каець,— не жыў.

— Ну, калі не жыў,— палажыў сухую быліну,— дык пярэйдзеш чэраз быліну, а калі жыў, дык і не пярэйдзеш!

А дзявіца ўзяла ды й дроціну ўткнула ў быліну, і ён не замеціў. Ён і перайшоў.

Іскарка-парубак сказуець:

— А ты, цар, ездзіў на маёй лошадзі?

— Не, не ездзіў.

— Ну, калі не ездзіў — перайдзі ты па гэтай быліне. І пярэйдзеш, калі не ездзіў.

Ён узяў і пайшоў — надзеецца, што не ездзіў. Толькі ўступіў серадзі канавы, а дзявіца гэту дроціну сморг к сабе—быліна папалам, а ён у канаву і ўпаў. А Іскарка-парубак з гэтай дзявіцай і звянчаліся, і паехалі ў сваё царства. Ды якое было вяселле: віно ракою лілося, і мне дайжа выпіць прыйшлося. У роце то не було і па губах не цякло.

## 9. ТАРАТУРКА

Як жыў цар Васіль, і век у яго дзяцей не было. Занімаўся ён ахвотай-рыбалоўляй, імеў ён дванаццаць рыбакоў. І вывязалі яны невад шаўковы, работалі тры годы. Паехалі яны на мора рыбу лавіць. Пралавілі трое сутак, улавілі тры рыбінкі, тры вокуні. Прыносяць к цару Васілю гэты тры рыбінкі, тры вокуні. Тады думшыя, райшыя і гадшыя савет празняслі: іскушаць гэты тры рыбінкі, тры вокуні царыцы, і родзіць яна сына —

сільнага магучага багатыра. Тады царыца ўзяла гэты тры рыбінкі, тры вокуні, дала ізгатаваць кухарке. Кухарка абмыла, шалуху і вантробы бросіла на зямлю, а сука, падбегшы, паела шалуху і вантробы. І забярэменела. Кухарка, абгатаваўшы, нейдзе з сярэдзіны кусочак адарвала і сама ціхенька паспытала, штобы царыца не ўвазнала, і забярэменела. Тады падалі гэтыя тры рыбінкі, тры вокуні царыцы. І царыца гэты тры рыбінкі, тры вокуні іскушала. І забярэменела царыца. Пранасілі яны ўсе тры годы. Тады перва сука радзіла: увесь чалавек, толькі вуха сабачае. І далажылі цару, што сука радзіла мальчыка. Вялеў гасудар яго прыняць ад сукі і перахрысціць. Наракли яму ймё Таратурак Сабачы сын. Тады радзіла старуха-кухарка, тож мальчыка. І гэтаму ймё наракли Іван Кухаркін сын. Тады радзіла царыца мальчыка, і яму наракли ймё Васілій Васільевіч Царскі сын.

Тады яны січас пасядзелі дзве нядзелі і сталі хадзіць, і пабяжалі на волю іграць. Таратурак Сабачы сын сільней усіх. Каторага ірванець алі скубанець — яны плачуць, к цару Васілію ідуць на жалабу. І ўсе тры завуць айцом:

— Абідзеў— гавораць,— нас Таратурак Сабачы сын!

Ну, гасудар ім і гаворыць:

— Вы з ім не йграйце, калі ён вас абіжаець; ну, цялеснага наказання яму не давайце!

Ну, споўнілась ім па месяцу ад раждзення, і савет яны друг со другам празносяць:

— Пойдзем к айцу свайму, штобы ён вялеў кузняцам скаваць нам цацкі-паліцы-булавіцы, маладзецкія забавіцы, штобы ён нам пакаваў і золатам паблітаваў!

Яны пайшлі к цару савет празнесці. У іх спрашываець цар:

— Што жа вам нада, дзеці мае вазлюблённыя?

Таратурак Сабачы сын за іх смялей, байчэй, цару атвячаець:

— Цяцінька наймілейшы, цяцінька найлюбейшы! Нам нада,— гаворыць айцу Васілію,— паліцы-булавіцы, маладзецкія забавіцы!

— А па сколькі вам нужна фунцікаў?

— Не, цяцінька, вы не спрашывайце фунцікі, а спрашывайце пудзікі!

— Ну, многа лі ж вам нада пудзікаў?

— А мне,— гаворыць,— цяцінька, нада дванаццаць пудзікаў!

— Ну табе, Іван Кухаркін сын, сколькі нужна?

— Мне восем,— гаворыць,— пудзікаў.

— Ну табе, Васілій Васільевіч, многа лі нужна?

— А мне, цяцінька, шэсць пудзікаў нужна!

Ну, у цара, праўду баюць, ні піва варыць, ні віно курыць, жалеза не пакупаць і па кузніцах не хлапатаць. Вялеў гасудар пакавацъ ім паліцы-булавіцы і золатам паблітавацъ і ім на рукі падаць. Яны ўзялі гэты паліцы-булавіцы і пабяжалі ў чыстае поле, у зялёную дуброву пагуляць. Тады Таратурак Сабачы сын размахнуў-размахнуў і бросіў гэту паліцу-булавіцу ўверх і ўскінуў з віду вон. Тады ляціць яна зверху, ён узяў падставіў лоб, і ўдарылась паліца-булавіца аб ягоны лоб і рассыпалась па макаваму зярну — усе дванаццаць пудзікаў. Тады, на яго глядзя, бросіў і Кухаркін сын з віду вон сваю паліцу-булавіцу. Гэты падставіў калена, і ў яго тожа разляцелась паліца-булавіца на многа-многа часцей, толькі крупней. Тады бросіў і Васілій Васільевіч: забросіў сваю паліцу-булавіцу з віду вон. І падстанавіў калена, і яна рассыпалась на многа доляў. Узялі яны гэты кускі і паняслі к цару, зачым цар зделаў малыя паліцы-булавіцы.

— Дзеці мае! Многа ж вам нада прыбаўкі?

Таратурак Сабачы сын [а]пяць жа атвячаець упрэд сваіх братоў:

— Мне,— гаворыць,— нада дваццаць чатыры пуда!

Кухаркін сын гаворыць:

— Мне дванаццаць пудоў нужна!

— А мне,— гаворыць Васілій Васільевіч Царскі сын,— нада дзесяць пудзікаў, і будзець з мяне досіць!

[А]пяць жа пакавалі паліцы-булавіцы: Таратуркі дваццаць чатыры пуда, Кухаркінаму сыну — дванаццаць пудоў, а Васілію Васільевічу дзесяць пудоў; золатам паблітавалі і ім на рукі падавалі. Яны [а]пяць жа ўзялі паліцы-булавіцы і пабяжалі ў чыстае поле, у зялёную дуброву пагуляць. Тады Таратурак Сабачы сын [а]пяць жа размахнуў і забросіў паліцу з віду вон; ляціць яна ўзад, ён падставіў калена, паліца-булавіца толькі ўвагнулась, а не разляцелась. Вось яны тады як пабяжалі і ўсё брасаюць паліцы ўверх і бягуць усё дальшы і дальшы ў чыстае поле, у зялёную дуброву. І збеглі яны на трэцяе царства, на чацвёртае гасударства. Убягаюць у зямлю Юды-анцііоды Беззаконнай галавы, у царства яго.

Убеглі яны ў горад. Ёсць і піцяннё і едзяннё, ну народу нетуці. Яны дзень з вутра да вечара пілі-гулялі, у карты ігралі, на сабе нічаго не спадзяваліся. Быў дзень, даець бог ноч. Таратурак Сабачы сын давай жэраб'я мятаць, каму быць большым

братам і к калінаваму мосту, к агнянай рацэ на каравул іці. Упаў жэраб самым малодшым братам быць Кухаркінаму Івану, і на первую ноч на каравул іці к калінаваму масту к [а]гнянай рацэ. На другую ноч Васілю Васільевічу сярэднім братам быць і на каравул іці к агнянай рацэ, на трэцюю ноч Таратурку Сабачаму сыну на каравул іці і быць старшым братам.

Увечары Іван Кухаркін сын пайшоў на каравул к калінаваму мосту, к [а]гнянай рацэ, стаў нямножка каля мосту пастаяў, каля агнянай ракі. І хто-та тамка тропнуў алі лопнуў пад мастом. Ну, Кухаркін сын гэтага дзела спугаўся і адтулька ўцёк і ў яслі ў стадоле ў сена зарыўся і праспаў усю ноч. А ён жа, Таратурак Сабачы сын, узяў паліцу-булавіцу і пайшоў к калінаваму масту, к [а]гнянай рацэ, пабачыць, ці ёсць гэта Іван Кухаркін сын на каравуле. Прыйшоў жа ён к масту і не найшоў малодшага брата Івана Кухаркінага сына. І стаў ён каля маста, каля [а]гнянай ракі.

Вось ён Таратурак Сабачы сын слышыць: едзець Юда-анціюда Беззаконная галава ў втарым часу ўночы, на водных плячах дзевяць галоў. Січас коні яго зарзалі, харты забрахалі, сакалы засвісталі. Ён на іх крыкнуў громкім голасам і свіснуў маладзецкім посвістам з усіх дзевяці вустоў:

— Воўчае мяса, чаго вы ржэце? Пессе мяса, чаго вы брэшаце? Арлінае пер'е, чаго вы свішчаце? Проціў мяне ў белым свеце нетуці супраціўніка. Толькі ёсць у трэцім царстве, у чацвёртым гасударстве Таратурак Сабачы сын; ну ён млод, яму нет трох год, не то што трох год — і трох месяцоў нет, яго сюды воран косці не занясець!

Ну, Таратурак із падмосця выскачыў і з паліцай-булавіцай, маладзецкай забавіцай:

— Не воран, — гаворыць, — косці заносіць, а сам добры маладзец заходзіць.

— А, ты, — гаворыць, — ёсць?

— Ёсць.

— На абед к заўтраму паспееш.

— Не,— гаворыць,— падавішся.

— Выразай,— гаворыць,— Таратурак Сабачы сын, ток, выраўняй горы і рвы, штобы было роўна на пяцьдзесят вёрст, а я буду пазалачываць!

Таратурак Сабачы сын як фукнуў — на шэсцьдзесят пяць вёрст выразаў ток.

— Ну, Юда-анціюда Беззаконная галава, пазалачывай ток на шэсцьдзесят пяць вёрст!

Юда-анціюда як фукнуў — вызалаціў ток на шэсцьдзесят вёрст, ■ на пяць вёрст сілы ў яго не хваціла, з усіх дзевяці вустоў. Тады гаворыць Таратурак:

— Ну, што нам так спірацца? Урэмя,— гаворыць,— нам з табой ужо драцца!

Вот яны біся-дзярыся, біся-дзярыся, і Таратурак Сабачы сын зняў Юды-анціюды дзевяць галоў сваёй паліцай-булавіцай і збіў каней, хартоў і сакалоў, і ў агняную раку пасадзіў. Тады Юды-анціюды галовы па[а]трубіў, ад тулава пасарваў, камень узвараціў і пад камень палажыў. Тады апяць пайшоў у комнату і лёг на сваё места. Зара занімаецца, Кухаркін сын абчынаецца ў стадоле, у яслях, у сене і ідзець к старшаму брату, як бы ўродзе з каравула. Ну, Таратурак і спрашываець у яго:

— Ну, што,— гаворыць,— Іван младшы брат, ці быў ты на каравуле каля калінавага мо́ста, каля [а]гнянай ракі?

— Быў, брацец.

— Ці не відаў ты каго, ці не слыхаў чаго? Можа, пяшой прайшоў, алі на кані хто праехаў?

— Не, брат, ні відом не відаў, ні слыхом не слыхаў, і пціца і тая не праляцела.

— Вот гэта харашо, ды не дужа, а худа, ды не зусім!

Ну, яны гэты жа самы дзень пілі, гулялі, у карты гралі, на сябе нічаго не спадзяваліcь. Быў дзень, даець жа [а]пяць бог ноч. Таратурак Сабачы сын пасылаець сярэдняга брата, Васілія Васільевіча Царскага сына к калінаваму мосту, к [а]гнянай рацэ на каравул. Пайшоў Васілій Васільевіч к калінаваму мосту, к агнянай рацэ і стаў пад мастом. І хто-та там тропнуў алі лопнуў, ну, Васілій Васільевіч ахці спугаўся і ўцёк адтуль у стадоль.

— Што, — гаворыць, — мне, Царскаму сыну, прыйшлося стаяць на каравуле каля калінавага моста, каля [а]гнянай ракі?

Тады ён пайшоў у тоя стадоля і ў тыя яслі і лёг у сене спаць. Ну, Таратурак Сабачы сын [а]пяць жа захацеў узнаць, ці ёсць гэта сярэдні брат на каравуле каля калінавага моста, каля [а]гнянай ракі. Узяў паліцу-булавіцу і пайшоў туды. І нетуці сярэдняга брата на каравуле. Ну, ён і стаў пад мастом. Прастаяў ён да трэцяга часу ў ночы і слышыць — едзець другі Юда-анціюда Беззаконная галава, на [а]дных плячах дванаццаць галоў. Січас яго коні зарзалі, харты забрахалі, сакалы засвісталі. Ён на іх крыкнуў громкім голасам, свіснуў маладзецкім посвістам з усіх дванаццаці вустоў:

— Воўча мяса, чаго ржэце, пессе мяса, чаго вы брэшаце, арлінае пер'е, чаго вы свішчаце? Проціў мяне ў белым свеце нетуці супраціўніка! Толькі ёсць у трэцім царстве, у чацвёртым гасударстве Таратурак Сабачы сын; ну ён млод, яму нет трох год, не толькі трох год — трох месяцоў нет, яго воран косці сюда не занясець, не то што ён сам зайдзець.

Ну, Таратурак із падмосця выскачыў з паліцай-булавіцай і гаворыць:

— Не воран косці заносіць, а сам добры маладзец заходзіць.

— Ці ты,— гаворыць,— ёсць?

— Ёсць.

— На абед к заўтраму паспееш!

— Не, падавішся.

— Выразай, Таратурак Сабачы сын, ток на семдзесят пяць вёрст, а я буду пазалачываць.

Вот Таратурак як фукнуў, выразаў ток на сто дваццаць пяць вёрст!

— Ну, Юда-анціюда Беззаконная галава, вызалачывай ток на сто дваццаць пяць вёрст.

Юда-анціюда як фукнуў, вызалаціў ток на сто вёрст, а на дваццаць пяць вёрст сілы ў яго не хваціла.

— Што,— гаворыць Таратурак,— мы будзем з табой спірацца, урэмя нам драцца!

Тады яны біся-дзярыся, біся-дзярыся, і збіў Таратурак Сабачы сын Юды-анціюды ўсе дванаццаць галоў і ўзвярнуў камень, палажыў іх пад камень; тады пабіў ягоных каней, хартоў і сакалоў і брасіў усіх у агняную раку, а сам пайшоў дамоў і лёг спаць на сваём месце. Зара занімаецца, сярэдні брат абчынаецца ў стадоле, у яслях на сене і ідзець к старшаму брату як бы ўродзе з каравула. Таратурак у яго спрашываець:

— Ці быў ты, брат, на каравуле?

— Быў,— баіць ён.

— Ці не відзеў ты каго? Ці не слышаў чаго? Можа, пешы прайшоў алі конны праехаў?

— Не, брат, ні слыхом не слыхаў, ні відом не відаў.

— Ну, гэта харашо, ды не дужа, худа, ды не зусім!

Яны гэты жа самы дзень пілі, гулялі, у карты ігралі, на сябе нічаго не спадзяваліся. Быў дзень, даець бог ноч. Прыходзіцца іці на гэту ноч самому Таратурку Сабачаму сыну. Тады ён увечары стаўляець на вакне стакан водкі і стакан вады і свечку васковую ставіць на стале, і свечку сальную тожа ставіць на

стале, а ім кладзець дванаццаць калод карт і іх просіць і прыказываець:

— Сматрыце, братцы, піце-гуляйце, прахлаждайцесь, на сябе нічаго не спадзявайцесь, ну спаць не ўкладайцесь, на гэты вешчы пасматрывайце, што я на стале паснавіў! Вам я аб'ясню яственнай праўдай: калі пайдзець із гарэлкі кроў, тады мы толькі будзем мець свіданне з Юдай-анціюдай Беззаконнай галавой; калі з сальнай свечкі пайдзець кроў, тады пайдзём з ім драцца; калі пайдзець кроў з вады, тады ён станець мяне асіліваць; калі пайдзець кроў з васковай свечкі, тады ён мяне ўб'ець! І да тых вы пор не бяжыце, пакуль кроў з вады не ўвідзіце; ну, калі ўвідзіце кроў з вады, тады бяжыце з паліцай-булавіцай к [а]гнянай рацэ, к калінаваму масту, бяжыце на вадбарону мяне, на сахраненне душы маёй!

І сам пайшоў. Прабыў жа ён урэмя каля сем часоў каля калінавага маста, каля [а]гнянай ракі, ажыдаўшы Юду-анціюду Беззаконную галаву. А яго ўсё нетуці. Яны толькі здзеся гралі чатыры гадзіны і ўляглiся спаць крэпкім багатырскім сном без жаднай апаскі. І слышыць Таратурак Суччы сын, што едзець Юда-анціюда Беззаконная галава, зямля стонець, лес вянець, з дуба лісця валюцца — вужась шыбка ездзець — на [а]дных плячах пятнаццаць галоў, самы на́бальшы брат, і дзве галавы па бальшушчаму піўному катлу. Коні зарзалі, харты забрахалі, сакалы засвісталі; ён на іх крыкнуў:

— Воўча мяса, чаго вы ржэце, песся мяса, чаго вы брэшаце, арліныя пер'я, чаго вы свішчаце? На ўсім белым свеце проціў мяне нетуці супраціўніка, толькі ёсць равен мне ў трэцім царстве, у чацвёртым гасударстве Таратурак Сабачы сын; но ён млод, яму нетуці трох год, дажа і трох месяцоў; яго воран касцей сюды не занясець!

Таратурак Суччы сын із падмосця выбег і баіць:

— Не воран косці заносіць, а добры маладзец сам заходзіць. Здарова, Юда-анціюда Беззаконная галава! Я ўчара з тваім[і] браццям[і] вітаўся, а сянні з табою павітаюсь!

— Ці ты тутка ёсць?

— Ёсць,— баіць Таратурак.

— На абед мне паспееш!

— Не, падавішся.

— Выразай, — гаворыць Юда-анціюда, — ток на дзвесце пяцьдзесят вёрст.

Таратурак Сабачы сын як фукнуў, выразаў ток на дзвесце дваццаць пяць вёрст.

— Ага,— гаворыць,— мал, Таратурак, ток.

— Будзець з нас, не дзеці ў нас, а дзеці будуць, самі дабудуць.

Тады Юда-анціюда пазалаціў ток на дзвесце семдзесят пяць вёрст — на пяцьдзесят большы Таратуркі. Вось яны тады ўзяліся біцца: біся-дзярыся, біся-дзярыся, Таратурак адрубіў яму пяць галоў з плеч, а Юда-анціюда ўбіў Таратурку ў зямлю па калена.

— Ну што,— гаворыць Таратурак,— Юда-анціюда! Цары-каралі дзяруцца і аддышку маюць, будзем і мы аддыхаць.

— Ну, колькі ні аддыхай, а на абед паспееш!

— Ну, паспею, а будзем аддыхаць.

Тады ён вылез з зямлі, узяў з левай нагі сапог здзеў і як фукнець у гэты дом, дзе яго браты Іван і Васілій; увесь дом звараціў да паталка, на паталок сапог узляцеў — браты не сачнуліcь.

— Ну,— гаворыць Юда-анціюда,— досыць нам аддыхаць, будзем драцца! Хоць з адной галавой астануся, а ўсё з'ем!

Тады яны [а]пяць жа ўзяліcь біцца: біся-дзярыся, біся-дзярыся, яшчэ збіў Таратурак Юдзе-анціюдзе тры галавы, а ён убіў Таратурку ў зямлю па самы пояс.

— Цары-каралі дзяруцца і аддышку меюць, будзем аддыхаць!— просіць Таратурак Сабачы сын.

— Колькі ні аддыхай, а на абед паспееш.

— Паспею, а будзем аддыхаць!

Вылез тады Таратурак із зямлі, здзеў апаследні сапог і бросіў у братоў, зняў па самыя вокны хату, і сапог уляцеў у вакно і папаў у затылак Івану Кухаркінаму сыну; ну, століка не захваціў. Тады яны ўскачылі і смотраць на гэты столік, як прыметы пакажуць: ці жыў старшы брат, ай не? Пасматраць — з усіх чатырох вяшчэй кроў ідзець і на стол канула, ну са століка не канула.

— Ну, адначы,— баюць,— во што, брат: жыў не жыў большы брат, а пабяжым як можна паскарэй к калінаваму масту, к [а]гнянай рацэ.

Патом аглянуліcь, і яго жа обуў тут, і гавораць:

— Верна, не жыў наш брат, калі яго сапагі тутка!

Ну, схвацілі яны свае паліцы-булавіцы, маладзецкія забавіцы, і пусціліcь бегць к [а]гнянай рацэ.

— Ну, Юда-анціюда Беззаконная галава,— гаворыць Таратурак,— урэмя нам драцца!

— Ды й пара! Колькі ні аддыхай, а ўсё я цябе з'ем!

Ну, Таратурак відзіць гэта дзела, што яго брацця бягуць, і атвячаець яму смела:

— А не! Абжарэшся!

— Што ты,— гаворыць Юда-анцiюда,— смел стаў?

— А то, што я цябе не баюся, што я цябе зразу ўб'ю, на пахват мала!

— З чаго ты сілу ўзяў?

— А мне,— гаворыць,— бог даў!

І з аднаго змаху яму дзве галавы зняў. Тады і брацця яго падбеглі і давай яго ззаду валяць. А Таратурак Суччы сын упаў як мёртвы, што дужа ізмаяўся. Брацця яго з ахвоты началі яго рубіць паліцам[і]-булавіцам[і] і знялі яму чатыры галавы з плеч; астаецца ў яго тапер адна галава, самая набальшая — карнявая. І Юда-анцiюда Беззаконная галава апусціў рукі і прыпас свой бросіў аб зямлю і крыкнуў громкім голасам, прасіў прашчэння ў айца-мацеры і мілых сваіх сясцёр:

— Цяцінька і мамінька і сястрыцы! Прашчайце мяне, убіў мяне Таратурак Суччы сын, сільны магучы багатыр!

І яму зук дала ў гэтым маць яго, з таго града, адзе жылі Таратурак і брацця яго трое сутак.

Тады дабілі Юду-анцiюду Беззаконную галаву, ізнялі апаследнюю галаву. Тады Таратурак Суччы сын і гаворыць браццям:

— Во пачаму я падаўся Юдзе-анцiюдзе: во на тваёй ночы, Іван, я зняў мяньшому Юдзе-анцiюдзе дзевяць галоў, дзевяць хартоў, дзевяць сакалоў і дзевяць каней збіў! А на тваёй, Васілій Васільевіч, я ўбіў і ўтарога Юду-анцiюду і зняў яму дванаццаць галоў, убіў яго дванаццаць хартоў, дванаццаць сакалоў і дванаццаць каней! Во пачаму ў мяне на пяць галоў сілы не хваціла!

І тады січас узвараціў камень і паказаў ім абіду, тыя галовы, што зняў з Юдаў-анцiюдаў.

Послі ж таго пайшлі яны апяць у той горад, адзе Таратуркіны сапагі ляжаць. Яны леглі спаць, Іван і Васілій, а яму, Таратурку, некалі спаць, трэба дзела ўзнаць: дзе гэта дужа рыкнула голасам у тым у горадзе, як прашчаўся Юда-анцiюда. Ён пайшоў хліпапыствуя каля вакон, каля комнат. Прыходзіць к адной комнаце ў скрытым месце, каля зелянога саду, і слышыць чалавечым голасам разгавор. Ён падышоў бліжы таго к дзвярам: савет празносяць дзявіцы ўтрох адна з адной, як бы звесць з свету гэтых трох багатыроў.

Адна гаворыць:

— Я, сястрыцы, іх звяду су свету!

— А як жа ты звядзеш іх, калі яны сільныя, магучыя багатыры?

— Не, сястрыцы, звяду, яны не будуць ні знаць, ні ведаць! Яны пойдуць у такую-та зямлю, у такі-та горад; я гэта знаю, так я накіну на іх вялікі жар і сон, будуць яны бегць і валіцца, сон іх будзець кланіць, а жар паліць, а я,— гаворыць,— абярнусь у стадоль на горачцы, цясоваю краваткай, пуховай пярынай, шубай вызалачыванай, і будзець там оздух лёгкі, запах харошы. Тады яны прыбягуць туды, а я ўпрэд залячу; яны лягуць спаць на мне, на цясовай краваці, на пуховай пярыне; як уснуць, я іх задушу. Вот як я іх звяду!

А другая гаворыць:

— Не, сястрыца, ты не звядзеш іх су свету, а во я звяду!

— А чым ты іх звядзеш?

— Вот як звяду: накіну тожа пал і займу рэкі і азёры; і будуць яны бегць і валіцца, ну вады нігдзе не найдуць. А я абарачусь сама ключком, крынічнай вадзічкай, абрубік будзець сярэбраны, коўшычак залаты. Яны па коўшычку вып'юць, тады я іх разарву! Во як я іх звяду!

Ну, трэцяя гаворыць сястрыца:

— Вот я іх звяду!

— Ну, а ты як?

— А вот як: накіну на іх оздух лёгкі, запах харошы, оздух яблышны-вінаградны, а гэты дрэвы я паўністожу, сама абарачуся яблынай, разнымі яблычкамі самацветнымі, драгацэннымі. Як яны падайдуць і па яблычку з'ядуць, то я ў іх сэрца павырву!

Ну, маць іх гаворыць:

— Не, дзетушкі, вы іх не звядзеце, вот я іх звяду.

— А ты, матушка, як іх звядзеш?

— А вот як: абарачуся свіннёй, адзін лыч будзець рыць у небе, а другі ў зямлі, як іх наганю, то іх усіх і пражру — з'ем!

Праслухаўшы ўсё, Таратурак Суччы сын пайшоў к брацціям:

— Позна,— гаворыць,— тут спаць, жыва ўрэмя ў пахол ступаць!

Тады і пабяжалі яны з гэтага горада вон.

Бяжы яны, бяжы, бягуць і валюцца, сонца жарыць, сон клоніць, прыбягаюць к гэтай стадоле. Ну, браты яго гэтага дзела не знаюць.

— Брацец,— гаворацьу,— пазволь здзесь лягці заснуць, очынна здзеся прылесна: оздух лёгкі, запах харошы, цясовая кравaць з пуховай пярынай!

— Не,— гаворыць,— вы малыя браты, а я большы! Я першы засну!

Тады січас падымаў паліцу-булавіцу, маладзецкую забавіцу, як цісну́ў паліцай па ўзгалоўю, па цясовай краваці, па пуховай пярыне, так у кучу і ссадзіў зразу, патрушкі гэты ўмесцях злажыў. Утарой раз як цапнуў паліцай-булавіцай, толькі лужына крыві пацякла, і нічога не стала.

— Во,— гаворыць,— братцы, гэта не сон, а зрада наша!

І не захацелася ім спаць нікольки. Апяць пабяжалі. Бягуць і валюцца, уста ў іх смагай зараслі, піць смерць хочацца, нетуці на свеце вады нігдзе, ні ракі, ні возера, ні разнай узнорыны. Прыбягаюць к руччу з сярэбраным абрубцам, з залатым коўшычкам.

— Што,— гаворацьу,— старшы наш брат, смерць наша, пазволь напіцца па коўшычку вады!

— Не, братцы, я большы брат, я першы вып'ю коўшычак алі два.

Тады як цапнуў паліцай-булавіцай па гэтаму абрубцу, ён яго зламіў. Тады коўшычак палажыў і другі раз як цапнуў — нічога здзеся не стала: ні крыніцы, ні абруба, ні коўшыка, толькі рэзаная кроў пацякла руччом. А ім не стала ні жару, ні палу, і піць не захацелась. Тады апяць пабяжалі яны. Бягуць, оздух меюць лёгкі, запах харошы, есць жалаюць, ды нечага, тады прыбягаюць к яблыні: вочань красівая яблыня, яблыкі самацветныя, драгацэнныя, не то што рукам[і] іх рваць, мажно вустам[і] узяць. Браты апяць просяць Таратурку:

— Пазволь, брацец, з'есць нам па яблыку.

А ён ім атвячаець:

— Вы малодшыя браты, а я старшэй: перва я з'ем, можа два, а можа і тры.

Тады ён падскачыў к яблыні і цапнуў яе паліцай-булавіцай пад макушку, сучча гэта абламіў! За другі раз з пня зваліў. Тады ўзяў, умесцях злажыў і трэці раз як цапнуў паліцай-булавіцай — патудава й дзела не стала, толькі лужына крыві пацякла. А яны не хацелі разных хруктаў, а самі пабяжалі ўцякаць. Прыбягаюць яны к валоўніку, і ён меіць тысячу валоў і пяць соцень быкоў.

— Ну, здарова, валоўнік!

— Ну, здарова, Таратурак Суччы сын!

— Брат валоўнік, не бай, што мы тутацька ішлі: ці знаеш ты свінню? Яна гоніцца за нам[і]!

— Во, брат, Таратурак Суччы сын, як мне яе не знаць, калі я яе на дні па пяці разоў відаю. Толькі я яе не баюсь: у мяне валы харошы, а між таго валы-полы і быкі-кнарасы — на рагах падымуць яе, і нічога яна мне не здзелаець!

— Пажалуста, не бай, што мы тутацька ішлі!

— Пятнаццаць рублёў, тады не скажу!

Ён даў яму дваццаць рублёў.

— Скажу, што ішоў старык у пятнаццатым гаду з торбачкай і з кійком, хадзіць табе, баба, з торбай і з кійком!

Яны апяць пабяжалі. Прыбягаюць к конюху; ён меіць дзве тысячы канёў і паўтары тысячы жарабцоў-сіўцоў-бурцоў, вешчых каравульцаў.

— Здарова, конюх!

— Здарова, Таратурак Суччы сын, куды ідзеш, куды пуць дзяржыш?

— Эх, брат конюх, іду і сам не ведаю куды, дзяржу пуць для таго, і сам не ведаю для каго.

— Ды што ты мне ўрош: ты ўцякаеш ад ведзьмы-свінні!

— А ці знакома яна табе?

— А як жа яна мне не знакома? Ды я яе не баюся, у мяне коні харошы, а між таго жарабцы-сіўцы-бурцы падымуць яе на капытах ды на зубах.

— Брат конюх, не сказывай, што мы тутацькі ішлі!

— Пяцьдзесят рублёў, тады не скажу!

Ён даў яму сто рублёў.

— Скажу,— баіць конюх,— што ў дваццаць пятым гаду прайшоў старык.

Тады яны суткі ўбягаюць. Таратурак к зямлі прылягаець, ці слышыць вухам чалавечаскім, ці бяжыць свіння! Чалавечаскім вухам не слышыць. Тады прылёг сабачым вухам і слышыць: бяжыць свіння вужасна шпарка, аж зямля стонець! Тады яны давай шпарчэй таго ўцякаць. Прыбягаюць к кузняцу Саламону, і ў яго дванаццаць учыльнікоў-кузняцоў і ўсё сільных багатыроў. І ў гэтага кузняца ўсё жалезны тын, мядзяныя вароты, а падваротні з рыбій косці. Тады січас і гаворыць Таратурак Суччы сын:

— Кузнец Саламон! Атапры вароты!

— А што,— гаворыць,— ці папаўся, брат Таратурак, к ведзьме-свінні?

Ён яму адпёр вароты.

— Ну, што, брат, ізбаў ты нас ад ведзьмы-свінні, штобы йна нас не з'ела.

— Магу,— гаворыць кузнец Саламон,— толькі дай тышчу рублёў.

— Во табе, брат, дзве тышчы, толькі ізбаў!

Тады січас бяжыць свіння: адзін лыч рыець у зямлі, а другі лыч — у небе. Прыбягаець к валоўніку і стала ўдалі:

— Валоўнік, валоўнік, ці відзеў ты трох багатыроў?

— Не,— гаворыць,— ведзьма-свіння, не відзеў! Я бы і цябе не ўвідзеў, калі б ты на глазы не навярнулась. А прайшоў старык у пятнаццатым гаду з торбай і з кійком, і хадзіць табе тожа з торбай і з кійком навекі.

Яна бросілась к яму, а яе як паднялі валы-полы і быкі-княрасы на рагах сваіх, тады яна адтуль ходу! І прыбегла к конюху, а ён пасець канёў на рэстаньках.

— Конюх, конюх! Ці не відзеў ты трох багатыроў? Каторай яны дарогай ішлі?

— Я бы і цябе не відзеў, калі б ты на глазы не папала! А здзеся прайшлі ў дваццаць пятым гаду тры старыкі!

Яна і адтуль лызу. І прыбягаець к кузняцу Саламону.

— Кузнец Саламон, адпірай вароты!

— А нашто табе адпіраць?

— На то, што не сахраняй Таратурку Суччага сына: ён маіх трох сыноў і трох дачок звёў, і я яго звяду.

— Не, ведзьма, не звядзеш.

— Не, звяду.

— А чым табе адпіраць вароты, ты луччы ліжы вароты, а я табе Таратурку падам на лапаце.

Яна як салупнула, палавіна доскі ссадзіла — а яна ў тры аршыны была; другі раз як [с]алупнула і дзірку небальшую пралізала; трэці раз як салупнула і язык улажыла. А кузнец Саламон вялеў сваім масцярам распаліць красна кляшчэй і ўзяць каторыя малаткі палаўчэй і схваціць свінню. І схвацілі яны яе кляшчам[і] за язык увасьміх і давай задаваць малатком цяжолым: бей-бей — збілі на кабылу! І Таратурак Суччы сын узяў уздзечку і гэту кабылу забрытаў і спрасіў павесма льну і сам сеў вярхом і гаворыць:

— Еслі гэта добрая кабыла і ў ёй нетуці нічога свінога, то я павесма льну запалю і кругом тыну абскачу, і ён не згарыць.

Трэццю часць двара не аб'ехаў, а лён спыжэў.

— Што, братцы-таварышы, распякіце кляшчы ясней, зададзім ёй палаўчэй: яна ў нас тапер пад рукам[і] стала!

Схвацілі яе кляшчам[і] і давай біць: збілі яе на маленькую кабылку як бы трох лет. Тады Таратурак Суччы сын узяў павесма льну і зажог і кругом двара аб'ехаў, і палавіна не згарэла.

— Ну, тапер будзець яе біць!

Тады ўзяў сваіх братоў Івана і Васілія адправіў у айцоўскі дом.

— Ну, я,— гаворыць,— паеду дальшы таго!

Кузняцу Саламону выкінуў яшчэ дзве тышчы і сеў на гэту кабыліцу і паехаў у цёмны лес, у шчыры бор дарогай.

Праязджаець пятнаццаць вярстоў — стаіць сасна трыццаць абхватаў возле дарогі; на гэтай сасне сядзіць Дзед з нагаток, барада з лакаток, каліта дванаццаць ялавіц улязаець, меіць ён пры сабе пушку-свістушку-смалянушку дванаццаць сажон длі-ны, і ўся гваздзям[і] ўсажана вострымі:

— Здрастуй!— гаворыць Таратурак Суччы сын.

— А! Гэта ты, Таратурак Суччы сын! Ты мне многа ўрону надзелаў: звёў маю ўсю хамілію: сыноў, жану і дачок! І я цябе са свету звяду!

— Ну, не прыйдзецца, штобы ты мяне са свету звёў, стары дурак.

Тады ён гэтай пушкай-свістушкай-смалянушкай як смалянець з сасны — не папаў па Таратурку, а папаў па кабыле! Так кабылу і перарубіў папалам, як траву! Астаўся Таратурак без лошадзі! Скочыў ён к гэтаму дзеду на сасну, схваціў яго за бараду і ўдарыў яго галавой аб сасну! І давай яшчэ прыбаўляць сваёй паліцай-булавіцай. Галаву яго пабіў, бараду яго ўсю ізадраў, пушку-свістушку-смалянушку адабраў, каліту яго разадраў, гавядзіну пціцам варонам і сарокам аддаў, а сам і пайшоў пяшой.

Усходзіць ён к вялікаму полю, каля барскага двара, і відзіць: выносіць багатыр мех іржы, нямножка — толькі сто чацвярцей іржы; адсюль, з поля, бярэць стог хлеба і нясець дамоў і ўдарыць аб зямлю, змалоціць, і зярно высыплецца.

— Бог помач, Кораб Карабанавіч!

— Благадарыць, Таратурак Суччы сын. Што, брат, скажы ты пэўную праўду: куды ты йдзеш, куды пуць дзяржыш?

— А я іду туды — сам не знаю куды, пуць дзяржу для таго — сам не знаю для каго.

— Не, брат Таратурак! Я знаю, што ты ідзеш к Бабе Язе к Жалезнай назе! Вазьмі мяне ў таварышы!

— А, каму не нада таварышы, а мне пяць-шэсць! Ступай з богам.

І пайшлі Кораб Карабанавіч з Таратуркам у дружбе.

Праходзяць яны адны суткі — сеець Сяўбіт жыта: сто чацвярцей у сявалцы дзержыць на плячах, і жыта на зямлю брасаець, і ў цёмныя аблакі смотрыць: харошая луна ўзайдзёць — сеіць, плахая — стаіць.

— Нарадзі божа, Сяўбіт!

— Благадарыць, Таратурак Суччы сын! Куды ідзеш, куды пуць дзяржыш?

— А я іду туды — сам не ведаю куды, пуць дзяржу для таго — сам не знаю для каго.

— Не, я знаю, ты ідзеш к Бабе Язе к Жалезнай назе! Вазьмі мяне ў таварышы.

— А, каму не нада таварышы, а мне пяць-шэсць, ступай з богам!

Паснавіў Сяўбіт сявалку мяжой і ідзець у таварышы. Прайшлі яны не многа ўрэмя, відзяць, качаець Гаравік горы з адной стараны дарогі на другую, а з тэй на гэту.

— Бог помач, Гаравік!

— Спасіба, Таратурак Суччы сын. Брат Таратурак, ці не вазьмеш мяне к сабе ў таварышы?

— А што, брат, калі хочаш, пайдзём!

І Гаравік бросіў горы качаць, і пайшлі яны ўчацвярох. Прайшоўшы нямнога, ляжыць Абжора сярод дарогі. А гэта дарога ідзець чэраз возера. Ён нагнецца і адну палавіну вып'ець, а патом выльець у другую, а патом тутацькі нап'ецца і ў тую выльець.

— Здарова, Абжора! Пусці дарогу!

— А вазьмі мяне ў таварышы!

Узялі яны і Абжору. Ідзі-ідзі яны, ці мала, ці многа, а толькі ўвайшлі яны ў цёмны лес. Бяжыць Мароз настрэчу ім, аб'ініўшы, абдзелаўшысь, стрась сматрэць.

— Здарова, Таратурак Суччы сын!

— Здарова, сільны Мароз!

— Што, брат, вазьмі і мяне к сабе ў таварышы, і я к худой гадзіне табе прыгаджусь!

Узялі і яго. Тады січас ідуць яны ўшасцёх і ўвайшлі ў чыста поля, у зялёную дуброву. І стаіць бел шацёр, і ў гэтым шатры ляжыць Слон Іванавіч Адрубленая галава і дзяржыць пад сабой меч-самасеч і кап'ё даўгамернае. І тады ўблізь падходзіць Таратурак Суччы сын к Слану Іванавічу, і коціцца буйная га-

лава Слана Іванавіча к Таратурку і просіць нізкім паклонам і сэрцам пакорным:

— Таратурак Суччы сын, сільны магучы багатыр! Будзь ты такі добры, прыжыві ты мне буйную голаву, Слану Іванавічу, буду я за цябе стаяць, як сам за сябе!

— Ну, як жа мне прыжывіць табе буйную голаву? У мяне прыпасу такога нетуці.

— Вазьмі ты маё тулава багатырскае, павараці, і ёсць пада мною меч-самасеч і кап'ё даўгамернае, і ёсць у мяне добрая лошадзь багатырская, дарую яе табе, і меч-самасеч і кап'ё даўгамернае да жызні тваёй, толькі прыжыві мне буйную голаву. І ў мяне атрублена галава не ў учайнасці і сем лет, а атрубіў яе Варыён Анціёнавіч за нечаянасць сваю маім прыпасам, меччу-самасеччу, і за маю жану, за закон, за брак. Ну, и жану сваю аскарбіць не магу: яна к яму не прэлесна, і яна ўзята па няволі, не с вахоты. Паедзеш ты на маім добрым кані і з маім прыпасам, толькі як ты пад'едзеш пада град Варыёнаў — і ў яго вялікая крэпасць,— як вазможна, каня не жалей, а ў крэпасць на кані ўз'язджай. І ў яго ёсць дванаццаць псоў з жалезным[і] дзюбкам[і] — сільныя багатыры; як можна забей трох алі чатырох меччу-самасеччу! А наперад бросяцца к табе самыя злыя і сільныя. Тады ты ў град уязджай і, як траву, усіх паб'еш. Тады ты на крыльцо, на дванаццаты ітаж уязджай на кані, у белы каменны палаты, к Варыёну Анціёнавічу. І каня на крыльцы аснаўляй, вострым кап'ём дзверы мятай, а сам наперад не ступай і меч-самасеч нагатове дзяржы. А Варыён Анціёнавіч бросіцца к табе са сваім мечам-самасечам са сваіх белых каменных палат; тады ты вострай меччу мяжду яго рук брасай і яго меч перарубіш, і тады ты знімеш яму дванаццаць галоў змяіных. І ёсць у яго палатах калодзец і ў тым калодцы на дне дзве бутылі: у адной бутылі жывая вада, а ў другой мёртвая. І табе ўкажаць жана мая Саміїхліда Міхайлаўна. Тады яна паедзець з табой ка мне, Слану Іванычу, і прыжывіць мне буйную голаву!

Тады Таратурак Суччы сын паехаў к Варыёну Анціёнычу толькі адзін на добрым кані Слана Іванавіча, узяў меч-самасеч і кап'ё даўгамернае. Пад'ехаўшы к крэпасці, як пціца, узляцеў на крэпасць, і бросілісь к яму гэты псы, і ён зразу дзевяці псам галовы зняў і ў горад уз'ехаў; ускочыў на кані на дванаццаты ітаж, добра каня паснавіў на крыльцы і дрогнуў кап'ём у гэты дзверы. Зразу разляцелісь гэты дзверы на нескалькі долей, і бяжыць жа сам Варыён Анціёнавіч ужасна з вялікім са злом:

— Хто гэта такі тутыцька ёсць большы мяне? Хто гэта мог маю дзвер разбіць і крэпасць не адпіраць?

— А я,— гаворыць,— Таратурак Суччы сын, табе не жалаю са буйнай галавы шапкі ўзняць!

Тады выснавіў яму напярод кап'ё даўгамернае, а патом як ударыць сваім мечам-самасечам, і разрубіў меч Варыёнаў. Тады вочынна арабеў Варыён Анціёнавіч, прыкланяецца яму сваім[і] галовам[і].

— Не зрубі мае галовы, не пралівай крыві багатырскай, будзь ты мне старшым братам, а я буду малодшым, і павеляй ты ўсім маім [і]меннем.

— Не, не жалаю я гэтага,— атвячаець Таратурак,— а жалаю зняць твае галовы і прыдаць цябе злой смерці.

І зрубіў яму Таратурак усе яго дванаццаць галоў, і прабіў даўгамерным кап'ём яго рацівое сэрца, і праліў гарачую кроў. Січас гэта дзела вазнала Саміїхліда Міхайлаўна, што ён прыехаўшы ад Слана Іванавіча; ташчыць гэты дзве бутылі вады, і яму падаець і сама з ім на добрага каня садзіцца, і ўязджаюць з гэтых мястоў. Прывёз Таратурак Слану Іванавічу жывой і мёртвай вады і жану ягоную, і прылажылі яны яго голаву к яго тулаву, і палілі жывой вадой і лілі із бутылі ў вуста, і ў чэцверць гадзіны бог збавіў, і ён жыў стаў.

— Ну, брат Таратурак, спасіба табе, што ты прыжывіў мне маю буйную голаву.

Тады жану ў шатры аснавіў, а сам пайшоў з Таратуркам.

Ідуць яны ўсямёх, а Таратурак едзець на лошадзі. І прыязджаюць яны к Бабе Язе к Жалезнай назе. І ў яе дванаццаць дачок вочынна красівых, вужасна прыўкрасных. І кругом жалезны тын, і ўрыт каля крыльца мядзяны стоўб; і ўбіта ў ём сем калец; царскі сын каня прывяжаць за залатое кальцо; каралеўскі за сярэбранае кальцо, купечаскі — за медзяное, а прочых вяшчэй ніжы таго. Таратурак межа таго прывязаў свайго каня за ўсе сем калец, на вопісь не сматра. І сам пайшоў у белы каменны палаты. У палатах сідзяць дванаццаць дачок прыўкрасных.

— Здарова, дзяўіцы-красавіцы!

— Здарова, Таратурак Суччы сын!

— Дзе жа ваша матка?

— Матка разузнала вашы дзяла і паехала за мора, січас прыедзець, прывязець сто валоў к свадзьбе!

Скора прыйшлі і яго шэсць таварышаў: Кораб Карабанавіч, Сяўбіт, Гаравік, Абжора, Мароз і Слон Іванавіч.

— Ну, здарова, дзявіцы-красавіцы!

— Здарова, друз'я любезныя, як вас бог сабраў усіх умесцях?

Яны гавораць:

— Нас сабраў Таратурак Суччы сын!

Сей мінуты прыязджаець Баба Яга Жалезная нага, на ступе едзець, таўкачом паганяець, граблям[і] след заграбаець, а памялом замятаець. Як уз'ехала на свой двор і ўвідзела каня і што ён прывязан к усім кальцам:

— Не можна,— гаворыць,— узнаць, хто такі за маладзец прыехаў! Ну, толькі хто ні ёсць, а буйну галаву зніму і ўсторну на тыніну!

Тады січас улязаець яна ў дом свой:

— Што за багатыры тутыцька такія?

Яны атвячаюць:

— Здарова, Баба Яга Жалезная нага!

— Ну, я думала, хто такія маладцы, ажна гэта тут сільныя багатыры! Во што, дачунька, пратапі-ка ты байню для мілога дружка!

А ў яе байня ўся жалезная. Вытапіла дочка байню дужа жарка. Баба Яга і завець іх у байню. А Таратурак паслаў Мароза; ён як тропнуў-лопнуў, ахаладзіў байню, напусціў усю інею.

— Садзіся, зяцёк, паедзем у байню.

Селі Таратурак з Бабай Ягой на ступу і паехалі. Ён узяў з сабой паліцу-булавіцу і пушку-свістушку-смалянушку. Прыехалі яны ў байню, а тамка холадна. Вось ён як зачаў біць Бабу Ягу паліцай-булавіцай і пушкай-свістушкай:

— Што ты,— гаворыць,— нада мной насмешку робіш.

Тады загадала другую дачку тапіць байню, штобы тры сажані сажгла, штобы духу было. Як вытапілась байня, Таратурак апяць паслаў Мароз[а]. Ён як тропнуў-лопнуў — напусціў поўну снегу.

Паехалі апяць у байню Таратурак і Баба Яга. А тамка апяць холадна. Вот ён як начаў яе біць сільней таго:

— Што я, хлопец табе, ці што?

І дужа збіў бабу. Вось яна тады і гаворыць:

— Ну, зяцёк, тапер я сама буду тапіць: дванаццаць сажан дубовых дроў спалю, а ўсё ўблагатвару.

Натапіла яна байню і подступу нетуці. Таратурак паслаў Мароза. Ну, ён нічога не мог падзелаць — дужа жарка. Тады

паслаў Абжору: ён як начаў ліць вадой, абхаладзіў байню, а Мароз ільдом задзелаў.

— Ну, паедзем, зяцёк, у байню.

Селі яны на ступу і паехалі. А тамка адзін лёд. Тады ён яе яшчэ больш набіў. Ну, яна змірылась і давай дастаўляць разных піцяння і едзяння.

— Калі,— гаворыць,— ублагатварыш, то не буду біць, а не, то галаву зніму!

— Ублагатвару,— гаворыць.

Напякла яна і наварыла ўсяго, а Таратурак паслаў Абжору. Ён як начаў уплятаць, за адну шчаку вала, за другую два, і паглытаў усё. Яна другі раз напякла шчэ большы, а ён тожа ўсё паеў. Тады Баба Яга гэта дзела вузнала і ў трэці раз іх, акромі Абжоры, ублагатварыла. Яны там пілі і елі і гулялі. Напаследак Таратурак убіў Бабу Ягу і зняў ёй галаву і ўсторнуў на тыніну, а сам жаніўся на ейнай дачцы.

Таварышы яго пайшлі ў свае мясты, а ён прыязджаець з жаной к айцу. Царскі сын Васілій царствам правіць, і Іван Кухаркін за дворніка, а бацькі ў жывых нетуці. Ён жалаець, штобы браццця яму пакараліcь; ну, Царскі сын Васілій у гэтым дзеле не ў сагласіі. І просіць ён другіх царэй помачы проціў Таратуркі. Ну, Таратурак у гэтым дзеле не рабееець, на сваю сілу багатырскую надзёжу мееець, і на свой запас багатырскі; адсек Васілію Васільевічу галаву і стаў яго царствам павеляваць. А Йвана Кухаркіна сына ўзяў к сабе ў палаты. І жыў з ім у сагласіі.

## 10. ВЯЧОРКА, ПАЎНОШНІК І ЗАРАВЫ

Жыў сабе так мужычок з жаною. І пражылі да старасці, і ў іх не было дзяцей. Потым пры старасці лет баба гэта забрэменела і радзіла ў вадну ноч трох сыноў: большага сына радзіла вячэрняга, сярэдняга — паўношнага, і меншага — заравога. І бабушка-пупарэзніца налажыла ім усім імя тры Іваны: Іван Вячорка, Іван Паўношнік і Заравы Іван. Гэтыя Іваны раслі там не днямі, а проста часамі і ўвайшлі ў саваршэнныя лета і ўслыхалі, што ў цара хтось-та ўкраў тры дочары з дварца, і нязвесна хто, і дзе, і калі. Цар разаслаў там па ўсіх местах пасланцоў, ну толькі не маглі найціць. Ну, і даў послух, што як іх хто разы-

шча, дык аддасць іх замуж тым і палавіна царства аддасць. Ну, гэтыя Іваны давай прасіцца ў свайго айца разысківаць царскіх дачарэй. Бацька пазволіў.

— Калі,— гаворыць,— жаланне імееце, дык едзьце!

Тады меншы Іванька пайшоў к кавалю і заказаў сабе такую куцабу здзелаць — дванаццаць пудоў. Здзелаў каваль куцабу, ён падкінуў яе ў высату, падставіў калена, яна [а]б калена ўдарылась і пераламілась, гэта самая куцаба. Потым ён заказаў здзелаць куцабу ў дваццаць пяць пудоў. Падкінуў ён тую, тая і не пагнулась дайжа.

— Ну,— каець,— гэта мне будзець памочніца.

Заказаў тады здзелаць цэп некалькі сажаней. Прыходзе к айцу, к сваім братам, к гэтым двум Іванам, да і просяць у ватца благаславення іціць разысківаць дачарэй гэтых. Ацец іх благаславіў, і яны адправіліся ў пуць дарогаю.

Ішлі, ішлі яны там многа-мала ўрэмя і ўходзяць у лес. У лясу стаіць хатка на курынай ножцы. Яны заходзяць у гэту хатку, і меншы гэты Іван гаворыць на большага:

— Ты аставайся тут абед варыць, а мы пойдзем на ахвоту.

Тэй заняўся абед варыць і зварыў як следуе быць, і сеў, аддыхае ўжэ. І вылазе к яму з-пад печкі Сам з кокаць, барада з локаць, а вочы па яблыку. Узяў гэта ўвесь абед яго паеў і яго прыбіў: біў-біў, чуць жывога аставіў. Прыходзяць тыя браты — абедаць нечага. Яны засварылісь на яго:

— Што ты не нагатаваў да сіх пор абеду?

А ён атвяшчаець:

— Астаньцесь вы да наварыце.

А гэтага ім не сказуе, што з ім было,— няхай і яны палучаць тое, што з ім было. На другі дзень меншы Іван гаворыць сярэдняму:

— Ну, аставайся ты сягоння абед варыць!

Яны пайшлі на ахвоту, а ён астаўся абед гатовіць. І зварыў як следуе быць, і сеў, аддыхае ўжэ. І вылазе к яму з-пад печкі Сам з кокаць, барада з локаць, а вочы па яблыку. Узяў гэта ўвесь абед яго паеў і яго прыбіў: біў-біў, чуць жывога аставіў. Прыходзяць тыя браты — абедаць нечага. Яны засварылісь на яго:

— Што ты не нагатаваў да сіх пор абеду?

А ён атвяшчаець:

— Астаньцесь вы да наварыце.

А гэтага ім не сказуе, што з ім было, няхай і яны палучаць тое, што з ім было. На трэці дзень гавора:

— Ах, ступайце вы,— гавора,— на ахвоту, я накармлю вас,— гавора.

Іх адправіў на ахвоту, сам заняўся абед гатовіць. Згатовіўшы абед, лёг сабе і палежуе на лаўцы. Удруг вылазе з-пад печкі Сам з кокаць, барада з локаць, а вочы па яблыку і давай такім жа парадкам абед яго есць. Ён тады, многа не думаўшы, Іван гэты, і давай яго біць. Да тых пор біў, пакаміcь ён стаў яго прасіць:

— Не бі мяне,— гавора,— да смерці, буду я вам меншы самы брат і буду наўсягда слухаць вас.

Ну, сабраліся яны ўсе ў кучу і па[а]бедалі. Па[а]бедаўшы, адпраўляюцца яны ў ход, і тэй з імі. Ішлі, ішлі, ішлі, ішлі, падходзяць — стаіць дуб аграмаднейшы, і пад тым дубам пайшла нара, так, як калодзезь усё роўна. Удруг ён і гавора:

— Ну, хто з нас палезе ў гэту нару?

Тэй баіцца, другі баіцца.

— Ну, відна,— гавора,— лезць мне, меншаму брату.

Апусціў ён гэты самы свой цэп і гавора:

— Глядзіце ж,— гавора,— я апушчусь на тэй свет, і як таргану за цэп, вы мяне тады ташчыце.

От ён апусціўся і відзіць там такі ж свет, як ба й тут. Ён стаў хадзіць там, любапытстваваць і відзіць — стаіць медны дварэц. Ён падходзе к яму і нідзе не можаць дзвярэй найці. Замеціў ён у вадным месцы дзверы і атварыў гэты дзверы і стаў хадзіць па гэтых комнатах.

[У]друг заходзіць у вадну комнату, і сядзіць там ізмучаная царэўна. Узышоў ён туды, яна крэпка абрадавалась, што ўвідала рускага чалавека, і гаворыць:

— Ах, юнаша,— гавора,— як цябе господзь сюды занёс? Жалка мне,— гавора,— цябе, што ты тут прападзеш! Скора прыляціць шасціглавы змей, ён,— гаворыць,— цябе тут страбіць.

А ён атвяшчае:

— Ну, там як господзь дасць!

От яны первым доўгам селі, выпілі і закусілі як следуе, потым ён спрашуе ў яе, па якой дарозе ён будзець ехаць. Яна паказала яму тую дарогу. Ён пайшоў і сеў пад мастом. Удруг едзе змей. Уз'язджае на гэты масток, і спатыкнулася яго лошадзь. Ён тады гавора:

— Што ты,— гавора,— ненасытная лошадзь, спатыкаешся? Алі ты сабе праціўніка слышыш? Мне,— гаворыць,— пра-

ціўніка ніякага нету, толькі есць адзін Іван Заравы. Ну ён сам сюды не зайдзець, і яго воран сюды косці не занясець.

А ён яму атвяшчаець:

— Добрых малайцоў ніхто не водзіць, не носіць, яны самі заходзяць.

І вылез з падмосця.

— Ну, ці будзем біцца, ці мірыцца?

— Не затым я прыйшоў, каб мірыцца, а затым, каб біцца!

І схваціліся яны біцца.

І ўдарыў ён яго куцабою і збіў яму тры галавы. Потым змей яго ўдарыў — ён толькі абтрахнуўся. Тады рассярдзіўся Іван. Ударыў другі раз і збіў яшчэ дзве галавы. Потым змей просе яго:

— Давай, Іван, аддыхнём!

От ён січас патрабаваў у царэўны вады — сільныя і бяссільныя. Ну, царэўна яму падала ваду бяссільную, а Івану гэтаму падала сільныя вады напіцца. То змей гэты худжы аслаб, а ў Івана сілы шчэ прыбавілась. Тады ён узяў яго і напаследку ўбіў і тулавішча забросіў у роў. Прыходзе ў двор гэты і забірае гэту самую царэўну, і з сабой забрала яна сваё тамашняе плацця, разнае, і выйшлі з дварца. Астанавіліся, і Іван стаў сматрэць на гэты дварэц. Потым яна атвяшчаець, царэўна:

— Няўжлі табе жалка гэтага дварца?

— Да,— гавора,— дужа прыгожы дварэц.

І выняець яна яму платок.

— Махні,— гаворыць,— гэтым платком тры разы!

Ён махнуў платочкам, і гэты дварэц здзелаўся яечкам. Ён узяў гэта яечка, у карман уклаў. Адправіліся к гэтай самай нары. Да. Потым пасадзіў яе на стульчык і падвязаў к цэпу. Цісkануў цэп — яе паташчылі. Гэтыя, выташчыўшы, тры гэтых брата, каторыя там, і гавораць.

Тэй гаворыць: гэта мне будзе жана, тэй — мне.

— Ах,— гавора,— калі б нам усім траім дастаў па такой, то б было харашо.

Ну, і большы яе ўзяў сабе за жонку. І асталіся яны апяць ажыдаць. А меншы Іван адправіўся пуцём-дарогай шчэ дальшы. Ішоў, ішоў ён, да і відзіць — стаіць сярэбраны дварэц. Ён падходзіць к дварцу і стаў шукаць дзвярэй. Найшоў дзверы, атварыў, заходзе ў вадну комнату — няма нікога, ён у другую — няма нікога, потым у трэцюю — сядзіць [і]змучаная царэўна. Ён гавора:

— Здрастуй!— гавора.

— Здрастуй, здрастуй,— гавора на [а]твет.— Як цябе гасподзь сюды занёс? Няхай ужо я,— гавора,— пагібла тут, дак і ты, малады чалавек, тут пагібнеш.

— Ну,— гаворыць,— як бог дасць.

— От скора,— гаворыць,— прыляціць мой дзевяцігаловы змей. Ён,— гавора,— цябе ўб'ець.

— Ну, там,— гавора,— што бог дасць, а дай-ка, — гавора,— паесць.

От яны селі за стол, папілі, паелі як следуе, і потым яна гаворыць:

— Скора прыляціць,— гавора,— змей.

— Куды ж ён будзець ляцець?— спрашуе Іван.

— А вот тою, — гавора, — дарогаю, — паказуе яму ў вакно.

От ён адпраўляецца на тую дарогу і садзіцца такім жа парадкам апяць пад мастом. [У]друг едзе змей, і спатыкнулася яго лошадзь. Ён тады гаворыць:

— Што ты,— гаворыць,— ненасытная лошадзь, спатыкаешся? Алі ты сабе праціўніка слышыш? Мне,— гаворыць,— праціўніка ніякага нету, толькі ёсць адзін Іван Заравы. Ну, ён сам сюды не зайдзець, і яго воран сюды косці не занясець.

А ён яму атвяшчаець:

— Добрых малайцоў ніхто не водзіць, не носіць, яны самі заходзяць.

— Ну, выхадзі,— гавора,— сюды! Ну, ці будзем біцца, ці мірыцца?

— Не затым я прыйшоў, каб мірыцца, а затым, каб біцца.

І схваціліся яны біцца. Ударыў яго куцабою і збіў тры галавы ў яго. Потым змей яго ударыў — ён толькі абтрахнуўся. Тады рассярдзіўся Іван. Ударыў другі раз і збіў яшчэ тры галавы. Тады змей просе оддыху на пяць мінут.

— Ну, аддыхай,— гаворыць,— нячыстая сіла!

Змей патрабаваў у царэўны вады, сілныя і бяссілныя. Царэўна падала яму ваду бяссілную, а Івану падала сілныя вады. То ў Івана сілы прыбавілась, а змей шчэ худжы аслаб. Ударыў Іван і тыя галовы ўсе збіў. І закінуў яго ў роў у ваду, пад мост пад той. Тады прыходзіць у дварэц, у дварцы апяць выпілі і закусілі з царэўнай.

— Ну,— гаворыць,— цяпер пойдзем, а то мне ўрэмя няма — шчэ многа работы.

Да, выйшлі з дварца, астанавіўся Іван і гаворыць:

— Эка, які дварэц прыгожы!

— А жалаеш ты, штоб ён быў табе?

— Як бы не жалаць?

І выняець яму платок, і махнуў ён тры разы платочкам і здзелаўся гэты дом яечкам. Ён яечка гэта ў карман і адправіўся к гэтай нары. Пасадзіў яе на стульчык і падвязаў к цэпу. Ціскануў цэп — яе паташчылі.

— Ну,— гавораць,— слава богу, двом нам па нявесце ёсць! Будзем ажыдаць шчэ.

А Іван адправіўся апяць дальшы. Ішоў, ішоў, відзіць, стаіць залаты двор. Ён падходзіць к яму і гаворыць:

— То была красата дварцы, а гэты яшчэ красівей.

Потым стаў прыглядацца дзвярэй, найшоў дзверы, атварыў, усходзіць туды — сядзіць там ізмучаная царэўна. Ён гаворыць:

— Здрастуй,— гаворыць.

Яна [а]твяшчаець — чуць толькі ўжо душа сядзіць у ёй:

— Здрастуйце! Як цябе,— гаворыць,— бог данёс сюды?

— Да я прыйшоў,— гаворыць,— нарошня вас разысківаць.

— Да, друг,— гаворыць,— пагібнеш,— гаворыць,— і ты тут.

— Ну, я не затым прыйшоў, штоб пагібнуць, а затым прыйшоў, штоб вас адсюда вывесць.

От яны селі, закусілі харашэнька, як следуе, і потым яна гавора:

— Друг, схавайся,— гавора,— куды-небудзь, а то січас змей мой прыляціць — дванаццаць галоў, дык ён з'есць,— гавора,— і цябе і мяне!

— Ну, там,— гаворыць,— як бог дасць! Куды ён будзець ляцець?

— От па той,— гаворыць,— дарозе, адзе масток,— паказала яму ў вакно.

Ён адправіўся, сеў пад масток. [У]друг едзець дванаццацігаловы змей. Узъязджае на гэты масток, і спатыкнулася яго лошадзь. Ён гавора:

— Што ты,— гавора,— ненасытная лошадзь, спатыкаешся? Алі ты сабе праціўніка слышыш? Мне,— гаворыць,— праціўніка ніякага нету, толькі ёсць адзін Іван Заравы. Ну, ён сам сюды не зайдзець, і яго воран сюды косці не занясець.

А ён яму атвяшчаець:

— Добрых малайцоў ніхто не водзіць, не носіць, яны самі заходзяць.

І вылез з падмосця.

— Ну, ці будзем біцца, ці мірыцца?

— Не затым я прыйшоў, каб мірыцца, а затым, каб біцца:

за то што вы ўкралі ў такога-та цара тры дочкі, дык я прыйшоў іх адсюлецька ўзяць!

— Ну,— гаворыць,— ты двох братоў маіх убіў, ну мяне не заб'еш, я,— гаворыць,— усё гэта [а]дплачу!

І сталі біцца! І ўдарыў яго Іван Заравы і збіў яму тры галавы. Потым змей яго ўдарыў — ён толькі абтрахнуўся. Тады рассярдзіўся Іван. Ударыў Іван другі раз — збіў яшчэ тры галавы. Ударыў яго змей — і ўбіў яго па калена ў зямлю. Потым змей гаворыць:

— Ну што, ці дальшы будзем біцца, алі будзем,— гаворыць,— мірыцца?

— Не,— гаворыць,— я не затым прыйшоў, каб мірыцца.

[У]друг змей патрабаваў вады сілныя і бяссілныя. Царэўна падала яму ваду бяссілную, а Івану падала сілныя. Іванька паправіўся, парубіў яго на мелкія кускі і забросіў у чыстае поле. Тады ўвайшлі ў дварэц, выпілі і закусілі як следуець і адправілісь. Выйшаў Іван і астанавіўся і спрашуе гэтае царэўны:

— Эка,— гаворыць,— якія тут устройствы харошыя ў гэтым дварцы!

Яна атвяшчае яму:

— Ты, можа, жалаеш, штоб гэты дварэц быў у нас з табой?

— Як бы не жалаць,— гаворыць.

Вынула яна платок і дала яму, ён махнуў платком тры разы, і дварэц здзелаўся яечкам. Ён узяў гэта яечка ў карман уклаў. Адправіліся к гэтай самай нары. Потым пасадзіў яе на стульчык і падвязаў к цэпу. Ціскануў цэп — яе паташчылі. «Слава богу, ужо нам усім тром ёсць па нявесце!» І ўзялі і цэп яму туды кінулі — няхай ён там і астаецца. Іван гэты заплакаў сілна, як цэп гэты ўпаў: «Вот калі, гавора, я тут прапаў!» Паплакаўшы, пайшоў ён пуцём-дарогай. Прыходзіць — стаіць бальшы-бальшы дуб. І находзіць сілная граза; ён стаў пад гэтага дуба. Удруг на дубе закрычалі пціцы ў гняздзе. Ён, многа не думаўшы, узлез на дуба, зняў з сябе адзёжу і накрыў гэтых дзяцей. Удруг прылятае Жар-пціца і благадарыць яго:

— Спасіба табе, Іван Заравы — знае, як яго і зваць — за тое, што ты забярог маіх дзяцей, і не знаю, чым мне за гэта табе адплаціць.

— Не трэба мне,— гаворыць,— тваё нічога, толькі вынесь ты мяне на тэй свет.

— Ну,— гаворыць,— вынесу. Толькі нагатоў мне мяса дзве бочкі і вады бочку, то тады я цябе вынесу.

І паказала яму:

— Ідзі,— гаворыць,— вот за раку, там ёсць багаты такі старык, дак ты яго,— гаворыць,— папрасі быкоў на мяса, ён сляпы.

Ён пайшоў к старыку. Старык гэты гаворыць:

— Я дам табе,— гаворыць,— быкоў, толькі прапасцівi мне іх год!

Ну, дзелаць нечага, сагласіўся ён год прапасцівіць. І старык гэты яму гаворыць:

— Усюды ганяй, усюды пасі, ну на такі і такі луг не гані. Гэта ведзьмін луг, і яна цябе згубіць. Я быў пагнаўсь на тэй луг, дак яна і мне вочы выкалала. І я во ўжо трыццаць гадоў сляпы!

— Я не баюсь,— гворыць,— гэтага!

Звіў сабе пастуськую пугу і пагнаў прама на тэй луг пасцівіць быкоў. Прылятаець ведзьма на ступе і таўкачом паганяе, а мятлой след замятае і закрычала на яго:

— Ах,— гаворыць,— с... сын, хто табе дазволіў быкоў пасціць на маём лугу?

— Я,— гаворыць,— сам сюды прыгнаў, ні ў кога не спрася! Да падышоў к ёй бліжы і давай яе пугай гэтаю біць, склаўшы ўдвая. Біў, біў, потым яна стала ў яго прасіць:

— Пусці,— гаворыць,— мяне.

— Не,— гаворыць,— не а[д]пушчу, аддай,— гаворыць,— таго старыка вочы, тады,— гаворыць,— я цябе пушчу!

— Ідзі,— гаворыць,— у маю хату і пад падушкаю два ляжаць пузыркі з лекарствам, то ты памаж,— гаворыць,— адным і другім, то будзець старык гэты бачыць.

— Вот ён пайшоў у хату ў яе з ёю, узяў гэты два пузырка і прыйшлі к старыку. Адным пузырком памазаў — здзелаліс глаза, толькі ён не бача; другім памазаў — стаў бачыць. Тады ён яе ўзяў убіў. Тады старык гэты яму благадарыў за тое, што ён стаў бачыць.

— Бяры быкоў,— гаворыць,— колькі ўгодна, хоць і ўсіх за гэта.

От ён нарэзаў дзве бочкі мяса і насаліў. Да прыходзе к той к Жар-птіцы. Жар-пціца гаворыць:

— Ну, падвязуй мне гэты бочкі пад крылля.

Ён падвязаў.

— Ну, цяпер,— гаворыць,— трэцюю бочку вады.

Наліў ён вады, падвязаў трэцюю бочку к хвасту.

— Ну, цяпер,— гаворыць,— садзіся сам на мяне.

Сеў ён на яе, яна яму гаворыць:

— Сматры ж ты,— гаворыць,— як рот разіну, то ты кідай мне мяса ў рот.

От яна яго як панесла! Нясець, а ён гавядзіну ёй кідаець у рот. [У]друг кідаў, кідаў, не хватае мяса. І відаць ужэ свет гэты, а тут нету ў яе сілы ляцець. Ён многа не думаўшы, адрэзаў ёй свае ікры з нагі. Укінуў у рот. Праляцеў шчэ троху і такім жа, значыцца, манерам укінуў ёй і другія нагі ікру. Да, і вынесла яго на гэты свет!

— Дзе ты,— гаворыць,— мне смашныя такія гавядзіны найшоў пад пасля?

Ён паказаў ёй:

— Вот,— гаворыць,— я дзе ўзяў — з ног ікры!

Яна харкнула і выхаркнула гэта мяса.

— На,— гаворыць,— прыкладай к назе!

Ён прыклаў к адной назе і к другой, эдзелаліся яны нічым неўрадзімы. Тады ён яе паблагадарыў за гэта, і яна адправілась на тэй свет. А ён тады адправіўся ў тэй горад, дзе і цар пражываў. Зняў сабе хвацеру ў старэнькай старушкі. І потым пасылаець гэту старуху ііціць у горад, услыхаць, ці няма якіх навасцей. Яна прыходзе і расказуе яму, што ёсць слух: быўшыя прапаўшы ў цара тры дачкі разысканы. Дак будзець меншой дачкі паслязаўтра,— гаворыць,— свадзьба з тым, хто яе дастаў. Ну, потым назаўтра зноў ён пасылаець яе. Яна пайшла, стала там расслухваць навасці і прыходзіць к яму і расказуець:

— Вот,— гаворыць,— будзе свадзьба тады, калі найдзецца чалавек і саш'ець ёй такія башмакі, якія яна насіла ў змеявым доме. Тады ён гаворыць:

— Ідзі, бабка, к цару і скажы, што я магу пашыць такія башмакі.

Бабка пайшла к цару і гаворыць:

— Я,— гаворыць,— магу такія башмакі пашыць!

— Еслі толькі можаш, то я нараджу цябе, бабка, усім, што ты толькі пажалаеш.

Далі ёй грошай; яна прыносіць і гаворыць:

— Ну толькі,— гаворыць,— сматры ж, штоб ты мяне к смерці не падвёў.

Ён гаворыць:

— Не бось, бабка.

Строку было дадзена на трое сутак. Праходзяць суткі — сапожнік гэты не занімаецца работай; і ўтарыя тожа таксама не занімаецца. Баба гэта давай плакаць:

— Мяне цяпер за гэта,— гаворыць,— прэдадуць злой смерці.

Тады ён атвяшчаець:

— Не бось, бабка, заўтра навутра будуць гатовы — уставай і нясі!

От ён вечарам выйшаў з горада на поле, катануў гэта залатое яечка і здзелаўся залаты дварэц. Ён січас увайшоў у гэты дварэц, найшоў палусапожкі. Узяў іх, выйшаў з дварца, махнуў платочкам, і здзелаўся ён яечкам. Прынёс гэты сапожкі ноччу, паставіў на стол. Старуха навутра ўстала і абратна ўзяла гэты палусапожкі і нясець гэты палусапожкі к цару. Дзеўка тая ўбачыла палусапожкі і крэпка яна абрадавалась. І просіць свайго айца, штоб ён дазволіў патрабаваць яго сюды, хто шыў палусапожкі. Айцец січас паслаўшы карэту, і прыставілі яго ў дварэц. Увайшоў ён у дварэц, яна ўбачыла яго і гаворыць:

— Вот хто мяне дастаў, ну не тэй, з кім хацелі свадзьбу гуляць.

Ну, тут січас стаў айцец спрашваць, што з імі дзелаць? Січас прыказалі гэтых прывязаць к конскім хвастам і пусціць па полю. Прывязалі к хвастам і развалаклі па ўсяму полю. А з гэтай царэўнай павянчаліся, і аддаў яму цар палавіна царства, і сталі яны жыць ды й пажываць.

## 11. ПАДЗЕМНАЕ ЦАРСТВА

Жыў сабе цар. Было ў яго тры сыны: два разумных, а трэці дурак — Іванушка-дурачок. У гэтага цара белы мядзведзь з таго свету кажныя ночы коней краў. Часавыя стаяць каля стайні на часах і пілнуюць коней, і замкі замкнуты — а коней крадуць. І часавыя нікога не відзяць. Так цар і не ведаець гэтага, што коней у яго крадзець белы мядзведзь. Доўга ён краў гэтак: што ноч, то каня. Прыйдзець цар уранні, пашчытаець, палічыць — а каня й няма; што ноч, то каня й няма. Але-ткі старэйшы царэвіч кажаць:

— Ах, што будзець ды не будзець — пайду і я пілнаваць: можа я ўлаўлю, хто гэта коней крадзець!

Ну вот і пайшоў старэйшы царэвіч на стайню пілнаваць коней. Прыйшоў царэвіч на стайню, стаіць і воч не зводзіць — усё пілнуець. Але ў самую поўнач на мінутку задрамаў. Чуць вочы

звёў — а конь ужо ўкрадзен. Назаўтрага рана пайшоў цар лічыць коней. Лічыў, лічыў — усё-ткі аднаго каня няма. На другую ноч сярэдні царэвіч кажаць:

— Ах, што будзець ды не будзець — пайду-тка я пілнаваць: улаўлю, хто гэта так коней крадзець!

Пайшоў ён пілнаваць. Стаяў, стаяў, кажацца, цэлую ноч і воч не зводзіў — а каня нехта ўкраў.

На трэцюю ноч Іванька-дурачок кажаць бацьку:

— Пусці мяне, тат, пілнаваць на стайню!

— Дзе табе, дураку, пілнаваць? Калі ўжо разумныя пілнавалі, ды не ўпілнавалі — усё-ткі коней двох укралі,— а то табе ўжо ўпілнаваць!

Стаў Іванька прасіць бацьку, стаў прасіць. Ну, тэй кажаць:

— Ідзі сабе!

Тады Іванька-царэвіч пайшоў у кузню і сказаў кавалям дзелаць ляску дзесяць пудоў. Здзелалі яму кавалі ляску дзесяць пудоў. Іванька-царэвіч узяў гэтую ляску ў левую руку ды як кінець яе ўгору, дык яе тры часы не відаць было. Чэраз тры часы паказалася ляска: ляціць, ляціць, а Іванька-царэвіч падставіў мезяны палец — яна як ляцела ды ўдарылася аб палец, дак так і пераламілася! Тады Іванька-царэвіч кажаць кавалям:

— Здзелайце-тку мне ляску пятнаццаць пудоў!

Здзелалі яны ляску пятнаццаць пудоў. Узяў ён гэтую ляску, вынес на двор ды як кінець угору. Ляска як паляціць — ажна стала не відаць, ажна за воблакі заляцела! А тады ляціць, ляціць адтуль. Іванька-царэвіч падставіў калена. Яна як ляцела, дык як ударыцца аб калена, дык так уся чыста і разбілася, а калена цэла. Пайшоў Іван-царэвіч к кавалям:

— Скуйце-тку цяпер мне ляску дваццаць пяць пудоў!

Скавалі кавалі яму ляску дваццаць пяць пудоў. Узяў Іван-царэвіч гэтую ляску, вынес на двор ды як кінець яе ўгору. Ляска як паляціць — аж пад неба, аж дванаццаць часоў не відаць было. Як яна стала назад ляцець, Іванька-царэвіч падставіў лоб. Ляска як ляцела ды як ударыцца аб лоб — ды й адляцелася цэлая. Узяў тады Іванька-царэвіч гэтую ляску і пайшоў на стайню. Стаяў, стаяў, аж у самую поўнач вылязаець белы мядзведзь із зямлі. У гэтага мядзведзя вярста вуха! Толькі паказаўся белы мядзведзь, а Іванька-царэвіч як дасць яму ў лоб ляскай, дык ён і рынуўся ў зямлю ўзнова. Іванька-царэвіч тады прыйшоў у двор ды і лёг спаць. Назаўтрага ўранні цар кажаць:

— Ці хадзіў Іванька на стайню пілнаваць?

А яму кажуць:

— Іванька ж спіць!

— Ну,— кажаць цар,— я гэтак і думаў. Я думаў, што гэтак будзець.

Але пайшоў ён на стайню, стаў лічыць коней. Пасчытаў, палічыў — коні ўсе цэлы.

Тады стаў Іванька-царэвіч прасіць бацьку, каб здзелаў яму ланцуг тры вярсты і калаўрот, каб спусцііцца на тэй свет, забіць там белага мядзведзя. Цар прыказаў кавалям, слесарам, каб яны здзелалі такі ланцуг — тры вярсты. Як ён быў гатоў, Іванька-царэвіч стаў прасіць бацьку, каб яго спусцілі па ланцягу на тры вярсты ў зямлю ды каб паставілі ля ланцуга часавых пілнаваць, каб ніхто яго не прыняў, пакуль ён вернецца. Ну, цар распарадзіўся. Пайшоў тады Іванька з братамі к нары і кажаць:

— Жджыце ж мяне цэлы месяц, а як я дзёрну за ланцуг, вы і цягніце.

Ну, апусціўся ён у зямлю на тры вярсты і стаў на тым свеце. А браты асталіся ля нары. Хадзіў, хадзіў па тым свету Іванька-царэвіч і прыйшоў к меднаму двару. Прыходзіць ён туды, увайшоў у хату, ажна там сядзіць дзевушка-красотушка і вышываець. Увідзела яна Іваньку і кажаць:

— Здрастуй, Іванька-царэвіч!

— Здароў, дзевушка-красотушка!

— А куды цябе бог нясець, Іванька-царэвіч?

— Так і так: іду я біць белага мядзведзя, ён у майго бацькі папакраў коней!

— Дзякуй табе, Іванька-царэвіч,— кажаць дзеўка,— калі ты заб'еш яго. Гэта мой бацька. Але ён у вас коней крадзець, а нас ссысаець!

Дала яна яму есці, напаіла яго, накарміла яго і дарогу ўказала. Ну, пайшоў Іванька-царэвіч далей. Ішоў ён, ішоў, ішоў, ішоў — прыходзіць к сярэбранаму двару. Ён увайшоў у гэты двор, ажно там сядзіць дзевушка-красотушка, яшчэ прыгажэйшая за першую.

— Здрастуй,— кажаць,— Іванька-царэвіч!

— Здароў, красная дзевушка!

— А куды цябе бог нясець, Іванька-царэвіч?

— Так і так: іду, каб забіць белага мядзведзя, а то ён у майго бацькі крадзець коней.

— Я буду дужа рада, калі ты яго заб'еш: гэты белы мядзведзь — мой бацька, але ён у вас коней крадзець, а нас ссець!

Пасадзіла яна яго тады за стол, напаіла яго, накарміла яго і дарогу паказала. Пайшоў Іван-царэвіч далей. Ішоў-ішоў, ішоў-ішоў, прыходзіць к залатому двару. Увайшоў ён у гэты залаты двор. Сядзіць і ў гэтым двары дзеўка, ды такая прытожая! І чаравікі ў яе дыямантавыя. Увідзела яна Іваньку і кажаць:

— Здрастуй, Іванька-царэвіч!

— Здароў, дзевушка-красотушка!

— А куды цябе бог нясець, Іванька-царэвіч?

— Так і так: іду я ў ваша царства біць белага мядзведзя! Ён у майго бацькі коней крадзець.

— Гэты белы мядзведзь — мой бацька. Але я за цябе буду бога маліць, калі ты яго заб'еш, бо ён у вас коней крадзець, а нас ссецы!

Пасадзіла яна Іваньку-царэвіча за стол, накарміла яго, напаіла яго, паказала дарогу к беламу мядзведзю і кажаць:

— Ты ж глядзі: як будзеш падходзіць к яго двару ды ўвідзіш у двары агонь, дык не ідзі — божа цябе сахрані! А калі ўвідзіш, што толькі дым курыець, дык ідзі, бо ён тады спіць! Прыйдзі ў двор, вазьмі ў яго пад галавамі ключы ад склепа і ідзі ў склеп. У тым скляпу на правай руцэ стаяць бочкі сільныя, а на левай — слабіцельныя; ты слабіцелныя пастаў на правую руку, а сілу пастаў на левую руку!

Падзякаваў Іванька-царэвіч дзеўцы і пайшоў к беламу мядзведзю. Ішоў, ішоў і падыходзіць ужо к мядзведзеваму двару. Відзіць ён, што толькі дым курыець, вот ён і пайшоў у двор. Прыходзіць на двор, увайшоў у хату, а белы мядзведзь спіць. Іванька-царэвіч узяў ды выцягнуў із-пад мядзведзя ключы і пайшоў у склеп. Прыйшоў ён к склепу, адамкнуў, увайшоў у гэты склеп, ажно там стаяць бочкі па правай руцэ і па левай. Іванька-царэвіч узяў у тэй бочцы, што стаяла на правай руцэ, крант адпусціў і выпіў сілы. І здзелаўся крэпкім. Тады ўзяў тыя бочкі, што стаялі па правы бок, паставіў на левы, а што стаялі па левы бок, тыя паставіў на правы.

Развіднелася. Увідзеў Іваньку, царскага сына, белы мядзведзь як заравець:

— Чаго ты, Іванька, царскі сын, прыйшоў: біцца ай мірыцца?

— Ах ты, паганская сіла! Ты ў майго бацькі коней краў, а я з табой буду мірыцца? Ды не!

Сталі яны біцца. Біліся, біліся, Іван-царэвіч сваёй ляскай дваццаць пяць пудоў збіў белага мядзведзя. Сталі яны аддыхаць. Пабег белы мядзведзь скоранька ў склеп ды як хопіць

слабіцелнай вады заместа сілы, а Іванька-царэвіч хлябнуў сілы. Вот белы мядзведзь паслабеў, а Іванька, царскі сын, пакрапчэў. Сталі яны ўзнова біцца. Біліся, біліся, але-ткі Іванька, царскі сын, забіў белага мядзведзя! Забіў і закапаў у зямлю. Тады ён узяў сабе із склепа сілы і пайшоў назад. Ішоў-ішоў, ішоў-ішоў— падыходзіць к тэй дзеўцы, што двор залаты.

— Здрастуй, Іванька-царэвіч!

— Здароў, дзевушка-красотушка!

— Ну, а што? Ці памог бог забіць белага мядзведзя?

— Памог, я яго забіў!

— Ну, дзякуй жа табе, Іванька-царэвіч, за гэта!

Тады Іванька кажаць:

— А што, можа б ты пайшла ў наша царства?

Яна кажаць:

— А чаго ж я буду тут аставацца?

Вот яны і пайшлі з двара. Трошку адышліся — яна і глядзіць назад, на свой двор. Тады Іванька-царэвіч гаворыць:

— Можа, ты жалееш свайго двара? У нашым царстве ўва ўсім няма столькі золата, скалькі ў гэтым двары!

Як сказаў гэта Іванька-царэвіч, дык дзеўка абышла кругом двара тры разы, а тады баднула палцам у сцяну — увесь двор і зліўся ў залатое яйцо, і ў гэтым яйцы асталіся яе дыямантавыя чаравічкі. Яна і аддала гэта яйцо Іваньку. Тады пайшлі яны ўдвох. Ішлі, ішлі, прыходзяць к тэй дзеўцы, што двор сярэбраны. Яна кажаць:

— Здрастуй, Іванька-царэвіч!

— Здароў, красная дзевушка!

— А куды цяпер бог нясець?

— Я іду к бацьку ў сваё царства.

А тая дзеўка, што ішла з Іванькам, і кажаць:

— Хадзі і ты, сястрыца, чаго ты будзеш тут адна аставацца?

Яна і пайшла з імі. Але ўсё назад азіраецца. Іванька-царэвіч гаворыць:

— Што ты ўсё назад азіраешся? Можа, табе жалка твайго двара? У нашым ува ўсім царстве няма столькі серабра, скολькі ў гэтым двары!

Яна тады абышла кругом двара тры разы і баднула палцам у сцяну — і двор зліўся ў сярэбранае яйцо. Яна ўзяла і аддала яго Іваньку. Нясець ён ужо два яйцы — залатое і сярэбранае. Пайшлі яны далей ужо ўтрох. Ішлі, ішлі, прыходзяць к тэй дзеўцы, што медны двор.

— Здрастуй, Іван-царэвіч!

— Здароў, красная дзевушка!

— А куды цяпер бог нясець?

— Іду к бацьку ў сваё царства!

Тады сёстры гавораць:

— Хадзі ты, сястрыца, з намі; што ты будзеш тут адна аставацца?

Яна пайшла, але ўсё назад паглядаець. Іванька-царэвіч кажаць:

— Можа, табе жалка двара? У маім ува ўсім царстве няма столькі медзі, сколькі на гэтым двары!

Яна тады ўзяла ды абышла кругом двара тры разы ды пальцам бодзь у сцяну, дык так увесь двор і зліўся ў меднае яйцо. Яна ўзяла гэтае яйцо ды аддала Івану-царэвічу ў кішэнь. Стала ў яго ўжо тры яйцы. Пайшлі яны далей учацвярых. Ішлі, ішлі і прыйшлі к ланцугу. Іванька-царэвіч адну дзеўку падаў па ланцугу, тады другую, а тады трэцюю, ды толькі сам хацеў лезці, ажна браты ланцуг і падхвацілі. Што тут дзелаць? Стаяў ён, стаяў, думаў, думаў, а тады пайшоў назад. Ішоў, ішоў, прыходзіць к рацэ. Ідзець ён каля ракі — аж стаіць дуб з хату таўшчынёй. Паглядзеў Іван-царэвіч угору, відзіць на дубу кубло. Узлез ён к гэтаму кублу, аж там чатыры птушкіных дзяцёнкі. І запаўзла к ім змяя і аднаго ўжо з'ела. Іван-царэвіч узяў ды змяю забіў і закапаў у зямлю. Тады гэтыя птушаняты кажуць:

— Ты, Іван-царэвіч, цяпер, пакуль наша матка прыляціць, схавайся пад яйцовую шалупіну, бо яна як прыляціць, дык не разведаўшы цябе з'есць!

Іван-царэвіч схаваўся пад шалупіну і сядзіць. Аж во прылятаець матка. Носам кіў-кіў — нюхаець.

— Нешта тут русь-кось пахнець?

А птушаняты кажуць:

— Гэта ты по свету наляталася і рускага духу нанюхалася. У нас тут во змяя была, аднаго птушанёнка з'ела. Можа б і ўсіх нас паела, але адкуль бог наслаў Івана-царэвіча: ён гэтую змяю забіў. Што б ты, мама, здзелала Івану-царэвічу, каб ён назад вярнуўся ды тут быў?

— А я б яму ўсё тое здзелала, што б ён захацеў!

Тады яны кажуць:

— Ён жа тут, пад шалупінай сядзіць!

Вылез Іванька з-пад шалупіны, птах яму і гаворыць:

— Ну, што з мяне хочаш?

— Ды я болей нічога не хочу, каб толькі ты мяне вынесла ў маё царства!

Птах кажаць:

— Трудна гэта здзелаць, ды дужа трудна! Ну, але дастань ты мне васемнаццаць ялавак і васемнаццаць бочак віна, тады, можа, вынесу!

Пайшоў Іван-царэвіч шукаць, дзе дастаць васемнаццаць ялавак і васемнаццаць бочак віна. Пайшоў ён зноў каля ракі. Ішоў ён, ішоў, ішоў, ішоў — ажна стаіць хатка. Увайшоў ён у гэту хатку, ажна там сядзіць дзед з бабай. Увайшоўшы ў хатку, Іван-царэвіч кажаць:

— Ці не можна тут наняцца работаць?

А дзед кажаць:

— Зачым? Можна!

І стаў Іван-царэвіч у гэтага дзеда служыць. А дзед тэй ды лавіў рыбу, дык Іван-царэвіч паехаў з ім рыбу лавіць. Ну, лавілі, лавілі і налавілі столькі, што дзед увесь свой век лавіў, ды столькі ні разу не ўлавіў. На другі дзень павёз дзед у горад прадаваць гэту рыбу і прадаў да [а]дной рыбінкі. Узяў дужа многа грошай. Тады паехалі яны зноў рыбу лавіць і апяць налавілі дужа многа. Павёз дзед у горад прадаваць і не прадаў ні [а]дной рыбінкі — усю рыбу назад прывёз. Пытаюць яны ў яго:

— Зачым ты не прадаў ні [а]дной рыбінкі?

А ён кажаць:

— А затым, што ў горадзе пячаль-жалоба бальшая: прыслаў к цару шасціглавы змей, каб цар аддаў яму сваю дачку, а калі ды не аддасць, дак ён усё наша царства паесць. Дык вот у горадзе ўсе крамы замкнуты і няма ніякай продажы!

Тады Іван-царэвіч кажаць:

— Дайце мне лукошка, пайду я грыбоў набяру!

Дзед кажаць:

— Куды ты пойдзеш, не ведаўшы, ты заблудзіш!

— Ды не, я далёка дужа не пайду, толькі во ў гэты параснічак схаджу!

Узяў ён лукошка і пайшоў у лес. Як прыйшоў у лес, дык і пабег скарэй туды, куды павязлі царскую дачку. Толькі прыйшоў, аж ляціць шасціглавы змей.

— Во,— кажаць,— які харошы цар: я прасіў аднаго, а ён прыслаў двох!

— Ды не, нячысты дух,— кажаць Іван-царэвіч,— двум ты не радуйся!

Змей тады палядзеў:

— Ці гэта ты, Іван-царэвіч? Ці ты ж прыйшоў біцца, ці мірыцца?

— Не, біцца, дзе там ужо мірыцца!

— Ну, дзьмі палянку!

— Не, ты дзьмі, нячыстая сіла!

Змей як дунуў, дык на тры вярсты чыгунны мост выдуў. А Іван-царэвіч як дунуў, дык на шэсць вёрст выдуў медны мост. Ну, сталі яны біцца. Біліся, біліся, Іван-царэвіч адсек змею тры галавы. Тады змей кажаць:

— Стой, Іван-царэвіч, дай аддыхнуць! Цары, каралі ваююцца ды оддыху маюць, а мы не!

Сталі аддыхаць. Іван-царэвіч выпіў сілы і яшчэ пакрапчэў. Сталі ўзнова біцца, ён адразу і адсек змею ўсе тры галавы. Тады сабраў усе шэсць галоў, спаліў на асінавых дровах, а попел па ветру пусціў. Узяў ён тады сваё лукошка ды пайшоў скарэй к дзеду. А дзед кажаць:

— Нешта ж ты дужа бавіўся?

— А я троху заблудзіўся, дык забавіўся, пакуль двор знайшоў!

На другі дзень павёз дзед у горад рыбу і ўсю распрадаў. Налавілі яны тады зноў рыбы. Павёз дзед прадаваць і не прадаў ні [а]днои рыбінкі. Прыехаў ды кажаць:

— У нашым горадзе зноў бальшая пячаль-жалоба: дзевяціглавы змей прыслаў к цару, каб аддаў яму сваю сярэднюю дачку. А калі ды не дасць, дык змей усё наша царства выесць. Дык у горадзе ўсе крамы пазамкнуты і няма ніякай продажы!

Тады Іванька кажаць:

— Дайце мне лукошка, пайду-тка я грыбоў набяру.

Дзед з бабай кажуць:

— На чорта тыя грыбы! Яшчэ заблудзіш, як тэй раз.

— Не, трэба схадзіць: не набяру, дык хоць праходжуся, а то мне нешта тошна!

Узяў ён лукошка і пайшоў у лес. Як пайшоў у лес, дык і пабег скарэй туды, куды павязлі царскую дачку. Прыходзіць ён туды, ажна ляціць дзевяціглавы змей, агонь-дым з рота дышыць.

— Во,— кажаць,— які харошы цар: я прасіў у яго аднаго, а ён даў двох!

— Ну, нячыстая сіла, двум не радуйся!

— А зачым? Калі я нікога не баюсь. Толькі ёсць на свеце,

не ў нашым царстве, Іван-царэвіч, я яго баюсь. Дык яго сюды воран касцей не занясець!

— А добры моладзец сам зайдзець!— кажаць Іван-царэвіч.

— Ці гэта ты, Іван-царэвіч? Ну, ці прыйшоў біцца, ці мірыцца?

— Во, нячысты дух! Буду я з ім мірыцца!

— Ну, дзьмі палянку!

— Не, ты дзьмі, нячыстая сіла!

Змей як дунуў, дык на шэсць вёрст медны мост выдуў. Іван-царэвіч як дунуў, дык на дванаццаць вёрст сярэбраны мост выдуў. Ну, тады сталі яны біцца. Іван-царэвіч як дасць, дык адразу тры галавы проч. Выпіў ён сілы — і яшчэ тры галавы збіў. Тады змей кажаць:

— Стой, Іван-царэвіч, будзем аддыхаць. Цары і каралі ваююцца да оддыху маюць, а мы не!

Сталі аддыхаць. Іванька выпіў яшчэ сілы і яшчэ пакрапчэў. Сталі біцца ўзнова. Як біся, дык біся — адсек Іван-царэвіч і паследнія голавы! Тады сабраў усе дзевяць галоў, на асінавых дровах спаліў, а попел па ветру пусціў. Прыходзіць к дзеду, а дзед кажаць:

— Ну, во й апяць забавіўся!

— А гэта я троху заблудзіў!

На другі дзень павёз дзед рыбу і прадаў усю чыста. Налавілі яны тады ўзнова яшчэ болей. Павёз дзед прадаваць і не прадаў ні [а]дной рыбінкі. Прыехаў і кажаць:

— У нашым горадзе зноў пячаль-жалоба вялікая. Цяпер ужо дванаццаціглавы змей прыслаў к цару, каб цар аддаў яму меншую дачку на з'ядзенне. Дык у нашым горадзе ўсе крамы пазамкнуты і ніякай няма продажы!

Узяў Іван-царэвіч лукошка і пайшоў туды, куды павязлі царскую дачку. Толькі ён прыходзіць, ажна ляціць дванаццаціглавы змей. Смяецца ды й кажаць:

— Во, які харошы цар! Я аднаго прасіў, а ён прыслаў двох. Ну, але з'ем і двох!

— Ды не, абоіх не з'ясі, падавішся!— кажаць Іван-царэвіч.

— З'ем, бо я нікога не баюсь. Толькі ёсць на свеце, не ў нашым царстве, Іван-царэвіч. Тэй мяне падужаець, ды яго сюды воран касцей не занясець.

— А добры моладзец сам зайдзець!— кажаць Іван-царэвіч.

— Ці гэта ты, Іван-царэвіч? Ну, прыйшоў біцца, ці мірыцца?

— Во, нячыстая сіла! Буду з ім мірыцца!

— Ну, дзьмі палянку!

— Не, ты дзьмі, нячыстая сіла!

Змей як дунуў — на дзесяць вёрст сярэбраны мост выдуў. Іванька дунуў — на дваццаць вёрст залаты мост выдуў. Ну, сталі яны біцца. Іван-царэвіч адразу адсек змею тры галавы. Тады выпіў сілы і яшчэ адсек тры галавы. Як пачалі ўзнова біцца. Біліся, біліся, але-ткі Іван-царэвіч адсек змею яшчэ тры галавы. І сам дужа прытаміўся. Ён тады кажаць:

— Цары, каралі ваююцца ды ўсё-ткі оддыху маюць, а мы з табой не [а]ддыхаем!

Сталі яны аддыхаць. Аддыхнуў Іван-царэвіч, выпіў сілы і ўзнова пакрапчэў. Сталі біцца: збіў Іванька паследнія тры галавы. Сабраў усе дванаццаць галоў, спаліў на асінавых дровах і попел па ветру пусціў. Пайшоў ён тады з царскай дачкой к цару. Цар і кажаць:

— Ну, што ж табе даць, што ты маіх дачок ад смерці адратаваў?

— Нічога мне не трэба,— кажаць Іванька,— толькі дай мне васемнаццаць ялавак і васемнаццаць бочак віна!

Цар, звесна, січас вялеў усё гэтае даць.

Тады Іван-царэвіч пайшоў к свайму птаху. Там забіў ялавак і аддаў птаху і мяса, і віно. Тэй кажаць:

— Ну, садзісь цяпер на мяне. Ды глядзі ж: як я павярнуся на левы бок, ты мне давай ялаўку, а калі на правы павярнуся, дык давай бочку віна!

Сеў Іванька на птаха; узяў ён пад левае крыло ялавак, а пад правае віно і паляцеў. Ляціць ды ўсё паварачваецца то ў тэй бок, то ў тэй, а Йванька-царэвіч кідаець яму то ялаўку, то бочку віна. Ляцеў, ляцеў птах, нямнога ўжо даляцець, а ён з сілы збіўся, а ўжо ўсё і паедзена і папіта.

— Дай,— кажаць,— хоць трошку чаго падкрапіцца, бо нямнога ўжо ляцець!

Іван-царэвіч узяў ды скоранька выняў нож з кішаня, кавалак ікры адрэзаў ад нагі ды й укінуў птаху ў мялу. Птах і вынес яго на свет.

— Ах,— кажаць,— якога смачнага мяса ты даў мне ў паследні раз!

— Гэта ж я ад нагі кавалак ікры адрэзаў!— і паказаў ёй.

Яна тады кырханула і выкырхнула яго мяса, прылажыла к назе — яно й прыжыло.

Пайшоў Іванька-царэвіч па сваім царству. Ідзець, ідзець, і прысцігла яго цёмная ноч. Зайшоў ён у вадну хату, просіцца

начавацъ. Ажно там сядзіць царскі шавец ды плачаць. Іванька-царэвіч стаў пытаць у шаўца, чаго ён плачаць. Тэй паглядзеў на яго ды й кажаць:

— А ці ж ты не туташні? Царскія сыны дасталі дачок белага мядзведзя і хочуць з імі жаніцца, і старшы брат хочаць узяць меншую дачку белага мядзведзя. Яна сказала яму, каб ён дастаў ёй такія чаравікі, якія ў яе там былі, у яе царстве — дыямантавыя. Вот царскі сын прызваў мяне і вялеў здзелаць к заўтраму чаравікі з дыяманту. «А калі к заўтраму не пашыеш, дык мой меч — табе галава з плеч!» А як я іх буду шыць? Я іх век не пашыю!

Іванька-царэвіч кажаць:

— Ну, не плач! Можа знімець галаву, а можа й не. Лажысь-ка спаць!

Як усе ляглі, Іванька-царэвіч узяў залатое яйцо з кішаня ды тры разы кругом палцам абвёў ды бодзь! І здзелаўся залаты двор. Іван-царэвіч адамкнуў скоранька гэты двор ды й узяў дыямантавыя чаравікі. Тады тры разы кругом двара абышоў ды палцам бодзь! — і залаты двор зліўся зноў у залатое яйцо. Ён яго ўзяў і палажыў у кішэнь. А чаравікі прынёс у хату і павесіў на сцяне. Так уся хата і заззяла. Назаўтрага ўстаў шавец, відзіць — чаравікі вісяць. Дужа ён узрадаваўся і панёс чаравікі к царскаму сыну. Царскі сын паказаў іх дзеўцы. Тая кажаць:

— Гэта мае чаравікі!

Ды й пытаець у шаўца:

— Хто ў цябе начаваў?

Ён кажаць:

— Ніхто!

— Брэшаш, гэта мае пітаманныя чаравікі! Табе іх нехта прынёс. Ідзі, пазаві яго сюды!

Шавец пайшоў і пазваў Івана-царэвіча. Прыйшоў ён у дварэц і стаіць у парозе. Яна яго спазнала і кажаць на царскага сына:

— Не за цябе я пайду, а во за каго я пайду!

Выйшлі яны з дварца. Іван-царэвіч выняў залатое яйцо, абвёў каля яго тры разы палцам ды баднуў, дык стаў залаты двор. Яны ўвайшлі туды і сталі там жыць. Тады Іван-царэвіч пайшоў к сярэдняму брату, выняў сярэбранае яйцо. абвёў кругом тры разы ды баднуў, і стаў сярэбраны двор. Стаў у тым двары жыць сярэдні брат з сярэдняю дачкою белага мядзведзя. Тады ўзяў Іван-царэвіч ды пайшоў к большаму брату.

Выняў там з кішаня меднае яйцо, абвёў тры разы палцам ды баднуў, і здзелаўся медны двор. Стаў жыць у гэтым двары большы брат з большаю дачкою белага мядзведзя. Пайшоў тады Іван-царэвіч к бацьку, прыйшоў і кажаць:

— Здрастуй, бацюшка!

— Здароў, Іванька, мой сынок!

— За што ты мне гэтак зрабіў? Я ля цябе харашо дзелаў, а ты ўзяў ды ланцуг падхваціў, каб я адтуль не вярнуўся! А мяне бог усё-ткі прынёс!

А цар кажаць:

— Не, мой сынок! Гэта не я здзелаў, а браты твае. Ідзі ды й дзелай ім, што хочаш!

— Не ўжо,— кажаць Іванька.— Няхай ім бог дзелаець, што хочаць, а я не буду ім нічога дзелаць!

Ну, памірыліся яны і цяпер, мусіць, ладна жывуць.

## 12. ЦАР ВАСІЛЬ

У некаторым царстве, некаторым-та гасударстве жыў-быў цар Васіль. І нарадзіўся ў яго наследнік Васіль Васільевіч. Ен так не рос па гадах, як па часах, і стаў сільны, магушчы багатыр. Чэраз некалькі лет захацеў ён чыста поле ізведаць. Пайшоў ён на стайню, выбраў сабе добрага лошадзя-багатыра і спрашваець у ватца:

— Пазволь мне чыста поле ізведаць!

— Не, сынку. Ты яшчэ млад — лошадзь уб'ець.

Прайшло некалькі ўрэмя, спрашваець ён у другі раз пазваленння ў ватца. І пазволіў яму айцец. Тады ўзяў ён меч-самасеч і шчыт і паехаў у чыста поле. Выехаў ён у чыста поле і ўвідзеў лакары. І не ўвазнаў ён свайго войска і думаў ён, што гэта якія мухі. Ен узяў і палажыў чыста ўсё тое войска сваё: туды едзе — па правай руцэ, а адтуль едзе — па левай. Прыязджаець ён тады дамой к айцу. Айцец спрашваець:

— Дзе ты, мой дзетка, быў?

А ён адказваець:

— Выехаў я ў чыста поле, віджу — нейкія мухі ў будках сядзяць, дык я пабіў іх: туды едзе — па правай руцэ, а адтуль — па левай!

Выйшаў айцец на высокі балхон, узяў па[д]зорную трубу, пасматрэў у чыста поле і гаворыць:

— Сынку мой, сынку! Што гэта ты эдзелаў? Пабіў войска маё і сваё!

Было ў гэтага цара тры дачары, і гавораць яны айцу:

— Айцец! Нашто ты пускаў гэтага дурня ў чыста поле? Разве гэта багатыр? Вот ёсць сільны багатыр — Васіль-паляк Войстры каўпак на трыдзесятым царстве, на трыдзевятай зямліцы!

Тады Васіль Васільевіч рассярчаў на сваіх сясцёр і хацеў іх паўбіваць. А айцец не пазволіў:

— Як ты можаш, сынку, убіць дачарэй маіх, а сваіх сясцёр?

Тады ён гаворыць:

— Айцец, пазволь мне па свету паязджаць і свету павідаць, увідзець Васіля-паляка Войстрага каўпака, што ён за багатыр такі, што мне сёстры колюць ім вочы?

А айцец гаворыць:

— Сынку мой, сынку, як я табе пазволю? Я табе не пазволю: адзін ты ў мяне, а я стар — мяне прочыя цары магуць абідзець!

А ён гаворыць:

— Дзе я ні буду, а як пачую, што майго айца забіждаюць прочыя цары, дык я наеду, стапчу і саб'ю!

Тады айцец багаславіў яго:

— Толькі, дзетка мой, дзетка, не забывай мяне: што маё царства, то й тваё!

Ён гаворыць:

— Айцец мой, я цябе не забуду!

І ўзяў ён добрага каня-багатыра, кабяля, харта і сакала, пабагаславіўся ў ватца і паехаў у чыста поле, прама ў свет.

Прыязджаець ён у Васіля-палякова царства і відзіць: стаіць у яго на прывязі кабель у кабельні. Васіль Васільевіч гаворыць:

— Калі мой кабель выганіць кабяля із кабельні і станець на яго места, то я Васіля-паляка ўб'ю!

Кабель выгнаў і стаў на яго места. Тады прыязджаець к хартоўні, а хорт у хартоўні есць муку замешаную.

— Калі мой хорт выганіць яго харта із хартоўні і станець на яго места, то я Васіля-паляка ўб'ю!

І хорт выгнаў харта Васіля-паляка і стаў на яго места. Тады ён прыязджаець к сакольні, а сокал сядзіць у сакольні.

— Калі мой сокал выганіць сакала із сакольні і сядзець на яго места, то я Васіля-паляка ўб'ю!

І сокал выгнаў і сеў на яго места. Прыязджаець ён к канюшні, аж яго лошадзь стаіць у канюшні і есць яру пшаніцу.

— Калі мой лошадзь выганіць яго із канюшні, то я Васіляпаляка Войстрага каўпака ўб'ю!

Тады лошадзь Васіля Васільевіча выгнаў лошадзь Васіля-паляка Войстрага каўпака із канюшні і стаў есць сам яру пшаніцу. Тады Васіль Васільевіч пайшоў к Васілю-паляку Войстраму каўпаку ў палацы, а ён, багатыр, спіць трое сутак. Тады Васіль Васільевіч узяў свой меч багатырскі і хацеў яму зняць галаву. Пасля таго сам сабе абдумаўся:

— Які я багатыр, што я соннага чалавека, усё роўна што мёртвага, уб'ю?

Узяў і лёг на другой койцы аддыхаць. Як лёг, так і ўснуў багатырскім сном.

Сёстры ж Васіля Васільевіча прыляцелі ўпярод к Васілю-паляку Войстраму каўпаку і абвясцілі яму, што наш брат Васіль Васільевіч хочаць паспрабаваць тваіх сільных плеч!

А Васіль Васільевіч гэтага не знаў. Тады Васіль-паляк Войстры каўпак праснуўся і глядзіць, што ляжыць ён на другім ложку, і ўзяў меч-самасеч і хацеў зняць Васілю Васільевічу галаву, а тады абдумаўся:

— Што мне ўбіць яго ў маім доме, як зайца ў сіле́? Ён жа, малады юнаш, не ўбіў мяне соннага, і я не магу яго ўбіць!

Тады ён пайшоў паглядзеў свайго кабяля, аж ляжыць кабель чужы, ды не яго. Тады ён пайшоў у хартоўню, аж чужы хорт есць з карытца, ды не яго. Пайшоў ён к сакольні — сядзіць сокал у сакольні, ды чужы, а не яго. Пайшоў ён тады ў канюшню, аж чужы конь есць яру пшаніцу, ды не яго. Уходзіць ён у палацы, ажно Васіль Васільевіч устаў.

Тады Васіль-паляк Войстры каўпак гаворыць на Васіля Васільевіча:

— Які ты разбойнік уехаў!

А Васіль Васільевіч гаворыць яму:

— Я не разбойнік, а толькі мне за табой не можна праехаць па свету, што ты ўсім у прымеце. Не толькі каму, дык і дзевушкам. Дык я прыехаў сільных, магушчых плеч багатырскіх адведаць!

А Васіль-паляк Войстры каўпак гаворыць:

— Як жа ты мог майго кабяля выгнаць з кабельні?

— А я сказаў: калі мой кабель выганіць твайго кабяля із кабельні, то я цябе ўб'ю!

— Як жа ты мог выгнаць майго харта з хартоўні?

— А я сказаў: калі мой хорт выганіць твайго харта з хартоўні, то я цябе ўб'ю!

— Быў я ля сакольні, ажно сядзіць сокал чужы, ды не мой! Як жа ты мог майго сакала выгнаць?

— А я сказаў: калі мой сокал выганіць твайго сакала з сакольні, то я цябе ўб'ю!

— Тады я пайшоў у канюшню, ажно чужы конь есць яру пшаніцу, ды не мой. Як жа ты мог майго каня выгнаць?

— А я сказаў: калі мой лошадзь выганіць твайго лошадзя з канюшні, то я цябе ўб'ю. Ён і выгнаў. Паедзем-ка ў чыста поле сільных магушчых плеч узнаваць!

Тады січас падвялі ім добрых каней багатырскіх к высокаму балхону. Садзяцца яны на сваіх добрых лашадзей, не сматра ні варот, нічаго — чэраз зялезны тын і выехалі ў чыста поле. Васіля Васільевіча конь радучай рыссю едзець, а Васіля-паляка Войстрага каўпака на ўсю прыць лашадзіную. Раз'ехаліся яны ў чыстым полі, выставілі адзін к аднаму тупым канцом кап'і і ўдарылі адзін аднаго ў рацівыя сэрцы. Васіль-паляк Войстры каўпак зваліўся з свайго каня добрага, як сноп аўсяны! Тады Васіль Васільевіч спрашваець у Васіля-паляка Войстрага каўпака:

— Што табе — ці прыдаць смерці, ці жывата?

— Брат Васіль Васільевіч! Не прыдай смерці, а прыдай жывата — зачту я цябе за большага брата!

Тады Васіль Васільевіч узяў Васіля-паляка Войстрага каўпака за праву руку, падняў яго і пацалаваліся. І гаворыць Васіль Васільевіч Васілю-паляку Войстраму каўпаку:

— Будзь ты младшы брат! Не хваступай, што ты храбры і сільны воін, а то я цябе другім разам уб'ю!

Тады прыязджаюць яны ў дом Васіля-паляка Войстрага каўпака, папілі, пагулялі і кладуцца аддыхаць. І гаворыць Васіль-паляк Войстры каўпак:

— Заўтрашні дзень на нас нячыстая сіла — Баба Юга Зялезная нага на ступе едзець і зялезным таўкачом паганяець — нашлець войска!

— Э, брат Васіль-паляк Войстры каўпак! Маліся богу ды лажыся спаць. Я буду біць, прыкалачываць, а ты на бок з дарогі звалачываць!

Тады яны лятлі спаць.

Назаўтрага ўсталі раненька, умыліся бяленька, выйшаў Васіль Васільевіч на высокі балхон і глянуў на чыста поле — ажна ўсё роўна як цёмны лес, стаіць войска.

— Ну, брат Васіль-паляк Войстры каўпак, умывайся ды будзем есць. Наша ўсё поле занята: стаіць усё войска чужое, ды не наша!

Тады ўстаў Васіль-паляк Войстры каўпак, умыўся. Садзяцца на сваіх добрых лашадзей, узялі свае мячы і шчыты і паехалі ў чыста поле. Січас Васіль Васільевіч як ехаў, так і стаў біць: б'ець, прыкалачываець, а Васіль-паляк на бок з дарогі звалачываець. Пабіў, скалаціў Васіль Васільевіч усё войска, а Васіль-паляк на бок з дарогі звалачыў, а сама Баба Юга Зялезная нага пад зе́мелле ўвайшла.

Прыязджаюць яны дамоў: папілі, пагулялі і кладуцца яны спаць. Васіль-паляк Войстры каўпак гаворыць:

— Сянні сілнае войска была, а заўтра будзець двойнае!

А Васіль Васільевіч гаворыць:

— Васіль-паляк Войстры каўпак, маліся богу, кладзіся спаць!

Памаліліся яны богу і ляглі аддыхаць. Назаўтра Васіль Васільевіч устаець параньша, узяў па[д]зорную трубу і выходзіць на высокі балхон і відзіць ён, што найшло войскі ўдвое больш. Ён тады гаворыць:

— Эй, брат Васіль младшы! Уставай, а то нас забяруць сонных, калі мы будзем позна спаць!

Устаў Васіль-паляк Войстры каўпак, умыўся, богу памаліўся, пакушалі яны і паехалі ў чыста поле. Васіль Васільевіч б'ець, прыкалачываець, а Васіль-паляк на бок з дарогі звалачываець. Збілі, скалацілі, на бок з дарогі звалачылі і паехалі дамоў. Папілі, пагулялі, у карты пайгралі, і гаворыць Васіль Васільевіч меншаму брату Васілю-паляку Войстраму каўпаку:

— Што гэта, калі ўсякі дзень гэтак біцца нам? Гэтак мы з сілы выб'емся. Ці не ёсць у цябе камянная страла?

— Ёсць.

— Ну,— гаворыць старшы брат Васіль Васільевіч меншаму брату Васілю-паляку, — січас закамандуй сваім аквітантам, хай прыставяць камянну стралу!

Січас была камянна страла, і прыставілі яе к высокаму балхону. Тады Васіль Васільевіч, старшы брат, і гаворыць меншаму брату:

— Ну, Васіль-паляк Войстры каўпак, маліся богу, лажыся спаць, заўтра каб павутру каб параньша ўставаць!

Памалілісь богу і ляглі аддыхаць.

Назаўтра Васіль Васільевіч устаець раненька, мыецца бяленька, памаліўся богу, узяў па[д]зорную трубу і выходзіць на

высокі балхон. Глянуў у па[д]зорную трубу, ажна войскі наслана, як цёмная хмара, у сколькі рэдзей пабольш таго. Уходзіць ён тады ў дом і будзіць меншага брата, Васіля-паляка:

— Уставай, брат, а то нас забяруць сонных, калі мы будзем позна спаць!

Устаў Васіль-паляк Войстры каўпак, умыўся, богу памаліўся, паснедалі, пакушалі. Бярэць Васіль Васільевіч камянную стралу, усселі яны на добрых сваіх лашадзей і паехалі ў чыста поле ваяваць. Васіль Васільевіч зарадзіў камянную стралу, захацеў ён Бабу Югу Зялезную нагу ўбіць. Як ударыў ён яе ў рот, дык уніз выскачыла! Войска ж збіў, скалаціў, а Васіль-паляк на бок з дарогі звалачыў. Тады гаворыць Васіль Васільевіч меншаму брату, Васілю-паляку:

— Паедзем глядзець, адкуль войска выходзіць і куды Баба Юга правалілася скрозь донна. Агледзелі яны, што ёсць пячурка, адкуль войска выходзіць; туды і Баба Юга Зялезная нага правалілась. Тады яны паехалі ў палацы, папілі, паелі, у карты пагулялі. І гаворыць Васіль Васільевіч меншаму брату, Васілю-паляку Войстраму каўпаку, каб сырамаці накроіць і сшыць пас такі, адкуль войска выходзіць. Тады Васіль-паляк гукнуў свайго аквітанта і прыказаў, каб сырамаці накроена было і нашыта пасоў і прывезена к яго царскаму дому. Тады яны памаліліся богу і леглі спаць.

Назаўтра Васіль Васільевіч, старшы брат, устаець раненька і будзіць меншага брата, Васіля-паляка. Умыліся, богу памаліліся, паснедалі, і гаворыць Васіль Васільевіч меншаму брату, Васілю-паляку:

— Пойдзем пяшком, а нашы добрыя лошадзі няхай астаюцца, няхай ядуць яру пшаніцу.

Узялі яны січас і пайшлі, а за імі на конях сыраматны пас павязлі к тэй пячурцы, адкуль войска выходзіла і куды Баба Юга Зялезная нага правалілась. Січас і гаворыць Васіль Васільевіч меншаму брату, Васілю-паляку:

— Палязай туды, адкуль войска выходзіла і куды Баба Юга Зялезная нага правалілась!

А Васіль-паляк Войстры каўпак гаворыць:

— Васіль Васільевіч! Ты за мяне сільней і вумней, і табе палязаць туды і найці, адкуль войска выходзіла і куды Баба Юга Зялезная нага правалілась!

Тады Васіль Васільевіч падвязаў каля сябе сыраматны пас, узяў меч-самасеч і сказаў Васілю-паляку Войстраму каўпаку:

— Глядзі, брат, не зрадзь мяне. Калі калану рэмнем, каб выташчылі мяне вон!

Спусцілі тады Васіля Васільевіча пад зёмелле. Як спусціўся ён, дык і пайшоў. Прыходзіць ён на крыжавую дарогу: адна ўправа, другая прама, трэцця ўлева. Ён думаў, думаў, якой дарогай іці:

— Пайду правай дарогай! Калі па правай старане пайду, можа праў я буду!

Ідзі, ідзі, прыходзіць ён к кузніцы. Стаіць кузня — удоль тры вярсты, папярок паўтары. Улязаець ён у кузніцу, ажно там кавалёў няшчотна! Што раз стукнець малатком аб кувадла, то салдат, што стукнець, то салдат. Ён у іх спрашваець:

— Хто вас ставіў, нячыстая сіла?

А яны адказваюць:

— Не ты нас паставіў, не ты нас і знімеш!

Тады ён узяў свой меч-самасеч, збіў, скалаціў усіх чыста, кузніцу спаліў і попел здуў.

Пайшоў ён дарогай тэй самай, аж стаіць дом — удоль тры вярсты, упапярок паўтары, а ў тым доме швачкі шыюць: што раз кальнець к сабе ды ад сябе, то салдат з канём. Васіль Васільевіч і гаворыць:

— Хто вас пастнавіў, нячыстая сіла?

А яны кажуць:

— Не ты нас пастнавіў, не ты й знімаць будзеш!

Тады ён узяў збіў, скалаціў, пасек, парубіў, дом спаліў і попел здуў.

Узяў тады і пайшоў далі тэй самай дарогай. Сколькі ўрэмя йшоў, прыходзіць — стаіць хатка. І толькі там у тэй хатцы адна барышная. Ён гаворыць:

— Што ты тут адна жывеш? Я цябе ўб'ю!

А яна адказваець:

— Я такая самая царэўна, як і ты, толькі я забранка. Я сіл не маю такіх, як ты. Калі ты ўб'еш мяне, то і сам не разжывешся. А луччы набярысь у мяне розуму. Ты будзь мой муж, а я твая жана, і навучу я цябе розуму.

Тады січас ён і адказваець:

— Я, кажысь, сілен і разумен.

Тады яна яму гаворыць:

— Ты разумен і сілен на зямлі, а не пад зямлёй. Пад зямлёй нячыстая сіла разумней цябе!

Ну, памяняліс яны тады перснямі. Васіль Васільевіч і кажаць:

— Калі ты мая жана, дак навучы мяне розуму!

— А вот пойдзем з табой у падвал. Там стаяць віны ў бочках. Па правай старане стаяць віны, што вып'еш — пасілнееш, а па левай — паплашэеш і падурнееш!

Тады пайшлі яны ў падвал і перакацілі бочкі з правай стараны на левую, а з левай на правую.

— Ступай жа цяперацькі па гэтай самай дарозе і сустрэнеш ты Бабу Югу Зялезную нагу ў зялезнай ступе. І скажаш ёй: «Здароў, бабка!» А йна скажаць: «Здароў, машэльнік!» — і станець з табой біцца. Ты ж глядзі на тое віно, што мы налева перадзвінулі!

Пайшоў ён тэй дарогай і сустрачаець Бабу Югу Зялезную нагу ў зялезнай ступе.

— Здароў, бабка!

— А, здароў, машэльнік. Вайскі мае пабіў?

— Пабіў, бабка!

— Мяне забіць хацеў?

— Хацеў, бабка!

— Кузняцоў маіх пабіў?

— Пабіў, бабка!

— Кузню спаліў?

— Спаліў, бабка!

— Попел здуў?

— Здуў, бабка!

— Швальню маю спаліў?

— Спаліў, бабка!

— Швачак маіх пабіў?

— Пабіў, бабка!

— І попел здуў?

— Здуў, бабка!

— Ну, вот жа цяпер табе смерць, машэльнік!

— А не, бабка, як удасца!

— Ну, будзем жа біцца!

Ухапіла яна таўкач і пусціла па Васілю Васільевічу і хацела яго забіць. А ён прыгнуўся к зямлі, і таўкач пераляцеў. Тады яна пусціла ў яго ступу. І ступа пераляцела. Схапіліся тады яны біцца, і ўбіў ён яе па повяс у землю. А яна, вядома, нячыстая сіла, дык аджываець. Біліся, біліся, тады яна гаворыць:

— Цары-каралі б'юцца — пардон маюць, а мы з табой удваіх. Пойдзем вінца пап'ём!

І пайшлі яны ў падвал. Січас яна пабегла на правую старану, а яму кажаць па левай старане. Яна ж думала, што

вып'ець — пасілнееҵь, а ён паплашэеҵь, ажно яна паплашэла, а ён пасілнеў. Тады Васіль Васільевіч гаворыҵь:

— Ну, пойдзем, бабка, біҵҵа!

— Пойдзем, машэльнік! Ты мае вайскі пабіў?

— Пабіў, бабка!

— Мяне забіць хаҵеў?

— Хаҵеў, бабка!

— Кузню спаліў?

— Спаліў, бабка!

— Попел здуў?

— Здуў, бабка!

— Швальню спаліў?

— Спаліў, бабка!

— Швачак пабіў?

— Пабіў, бабка!

— Попел здуў?

— Здуў, бабка!

— Ну, пойдзем, машэльнік, біҵҵа!

Білісь, білісь, Васіль Васільевіч збіў Бабу Югу Зялезную нагу, скалаҵіў, у землю ўбіў. А яна, вядома, нячыстая сіла, аджыла і пардону просіць:

— Ай, Васіль Васільевіч, ҵары-каралі б'юҵҵа — пардон маюҵь. Пойдзем і мы з табой вінҵа пап'ём, памяркуемся!

А Васіль Васільевіч гаворыҵь:

— Пойдзем!

І пайшлі яны ў падвал. Яна на праву сторану, а ён на леву; ён быў сілен — пасілнеў, яна была плаха — яшчэ паплашэла. Выходзяҵь яны з падвалу і сталі біҵҵа. Дык Васіль Васільевіч збіў Бабу Югу Зялезную нагу, скалаҵіў у попел і попел здуў.

Тады ён вярнуўся к яе служэбҵы і гаворыҵь:

— Пойдзем, супруга мая, на наш свет! Благадарым ҵябе, што ты мяне наўчыла: я сілны, а можа б я й галаву палажыў!

Тады яны січас і пайшлі тэй самай дарогай, якой ён ішоў, к такавому месту, дзе ён спускаўся на рамянях. Калануў ён за тэй пас, а там часавыя стаяҵь як дзень, так і ноч, ждуҵь яго, Васіля Васільевіча. Тады ён гаворыҵь:

— Садзіся ў тыя раменння, ҵябе выҵягнуҵь на тэй свет!

А яна кажаҵь:

— Садзіся ты, каб не зрадзіў Васіль-паляк Войстры каўпак!

А ён кажаҵь:

— Ён пакляўся не зрадзіць мне. А то, барані божа, ты тут астанешся, а наскочыць нячыстая сіла, дык яна цябе забярэць!

Тады яна села, яе і выцягнулі. Січас, як выцягнулі яе, Васіль-паляк Войстры каўпак паглядзеў на яе і не хацеў рамення назад спускаць. Яна, як замеціла гэта, і гаворыць часавым:

— Сколькі ён сілы палажыў за вас, сколькі крыві праліў, а вы не хочаце яго выцягнуць! Я не магу без яго жыць!

Дык часавыя спусцілі рамення па яе прыказу, і толькі б яго сюды выцягнуць, а Васіль-паляк Войстры каўпак узяў меч і перасек рамення.

Васіль Васільевіч зваліўся пад земелле і чуць не ўбіўся ўсмерць. І думаець: што ежалі б мяне ўпярод выцягнулі, то я б яе не кінуў. А то яна кінула мяне — па ахвоце ці па няволі.

Пайшоў ён тады на ростанкі, узяў жалеечку і стаў іграць, сам сабе жуду разводзіць. Думаець сабе:

— Якой тут дарогай іці?

І пайшоў ён сярэдняй дарогай. Ідзі, ідзі, прыходзіць ён к ізбушцы. Аж каля тэй ізбушкі засеяна яра пшаніца. Уходзіць ён тады ў тую ізбушку, аж там аддыхаець старына.

— Здрастуй, старына!

— Здрастуй, бацькаў сын! Хто ты ёсць?

— А я ёсць Васіль Васільевіч Царскі сын!

— Як ты ішоў, яру пшаніцу не паламаў?

— А не, старына, цэла пшаніца, не паламаў. А ці няма чаго, старына, у цябе паесць?

— Бяры вячэрай: вунь стаіць на століку. Маліся богу, кладзіся спаць.

Васіль Васільевіч павячэраў, богу памаліўся і лёг спаць.

Назаўтра ўстаў раненька, памыўся бяленька, памаліўся шчырэнька і кажаць:

— Старына, што гэта ў вас валы зямлю паелі? Чаму не гоніце пасвіць?

— А, Васіль Васільевіч, гані іх, толькі каб яру пшаніцу не паламаў!

Ён узяў паспусціў валоў з ланцугоў ды прама ў яру пшаніцу: валоў пасець, у жалеечку іграець. Як ляціць нячыстая сіла — Смок з трыма галавамі: сіпіць па-змяінаму, равець па-звярынаму:

— Што ж ты, Васіль Васільевіч, пусціў валоў у яру пшаніцу? Ты вайскі пабіў?

— Пабіў!

— Кузню спаліў?
— Спаліў!
— Кавалёў пабіў?
— Пабіў!
— Попел здуў?
— Здуў!
— Швальню спаліў?
— Спаліў!
— Швачак пабіў?
— Пабіў!
— Попел здуў?
— Здуў!
— Матку забіў!
— Забіў!
— Ну, цяпер я цябе ўб'ю!
— Не, як удасца!

Цяпер яны січас сталі біцца. Білісь, білісь, дык Васіль Васільевіч збіў, скалаціў Праклятага Смока з трыма галавамі, спаліў і попел здуў. А галовы Праклятага Смока звязаў у кучы і ўскінуў на йзбушку. А старына гаворыць:

— Хто там? Каб ізбушку не заваліў!

— А не, гэта я, старына, надраў лык з лазы ды ўскінуў на [і]збушку.

— Добра, сынку: што летам прыспееш, то зімой купляць не будзеш! Ці загнаў валоў?

— Загнаў!

— Ці паламаў яру пшаніцу?

— А не, дзядуля, не паламаў!

— Ну, садзіся, сынок, вячэрай, маліся богу, кладзіся спаць!

Ён сеў, павячэраў і лёг спаць.

Назаўтра павутру ўстаў раненька, памыўся бяленька, памаліўся шчырэнька і кажаць:

— Дзядуля, я паганю валоў!

— Гані,— кажаць,— толькі яру пшаніцу не паламай!

— А не, дзядулька, не бось, цэла будзець.

Січас пайшоў, валоў з ланцугоў спусціў ды ў яру пшаніцу: ганяе па пшаніцы ды ў жалеечку йграець. А тут і ляціць нячыстая сіла — Смок з шасцьмі галавамі: сіпіць па-змяінаму, зароў па-звярынаму:

— Што ж ты, Васіль Васільевіч, пшанічку маю паеў?
— Паеў!
— Кузенку спаліў?

— Спаліў!
— Попел здуў?
— Здуў!
— Кавалёў пабіў?
— Пабіў!
— Швальню спаліў?
— Спаліў!
— Попел здуў?
— Здуў!
— Швачак пабіў?
— Пабіў!
— Матку забіў?
— Забіў!
— Брата забіў?
— Забіў!
— Ну, цяпер я цябе ўб'ю!
— Не, як удасца!

Як сталі яны біцца! Біліся, біліся, Васіль Васільевіч яго збіў, скалаціў, галовы яму звараціў, труп яго спаліў і попел здуў, а галовы ўсчапіў на лычка і, прыгнаўшы валоў, ускінуў на йзбушку, аж ізбушка закалацілась. А старына кажаць:

— Хто гэта там? Каб ізбушку не заваліў!

— А не, старына, гэта я троху надраў лычкаў!

— Ну, добра, сынку. Што летам прыспееш, то зімой купляць не будзеш. А волікаў ці прыгнаў?

— Прыгнаў!

— А яру пшаніцу ці не паламаў?

— А не, дзядуля, не паламаў!

— Ну, добра, сынок! Вячэрай ды кладзіся спаць!

Павячэраў ён і лёг спаць.

Назаўтра павутру ўстаў раненька, памыўся бяленька, памаліўся шчырэнька і кажаць:

— Дзядуля, я паганю валоў!

— Гані, сынку, толькі не паламай яры пшаніцы, а то і мне і табе тады места не будзець.

— А не, дзядуля, не бойся!

Пагнаў ён валоў у яру пшаніцу, пасець, у жалеечку заіграваець. Аж ляціць нячыстая сіла — Смок з дванаццацю галавамі: агонь-полымя з наздзёр сыпіць, сіпіць па-змяінаму, равець па-звярынаму.

— Што ты, нячыстая сіла, сіпіш па-змяінаму, равеш па-звярынаму?

— Ну што ж ты, Васіль Васільевіч, кузенку спаліў?
— Спаліў!
— Кавалёў пабіў?
— Пабіў!
— Попел здуў?
— Здуў!
— Швальню спаліў?
— Спаліў!
— Швачак пабіў?
— Пабіў!
— Попел здуў?
— Здуў!
— Матку забіў?
— Забіў!
— Двох братоў забіў?
— Забіў!
— Ну, цяпер я цябе ўб'ю!
— Не, як удасца!

Як сталі яны біцца! Біліся, біліся, Васіль Васільевіч шэсць галоў яму зняў, а ён яго па калені ў зямлю ўбіў. Тады Васіль Васільевіч гаворыць:

— Што ж ты, нячыстая сіла? Цары-каралі б'юцца і то пардон маюць, а мы з табой удвух б'ёмся і пардону не маем. У цябе дванаццаць галоў як цапоў, а ў мяне адна галоўка яка макоўка!

Пардон мелі, аддыхнулі і як сталі ўзноў біцца! Біліся, біліся, дык Васіль Васільевіч яму тры галавы зняў, а ён Васіля Васільевіча па повяс у зямлю ўбіў. Памеўшы ўзноў пардон, січас сталі апяць біцца. Біліся, біліся, Васіль Васільевіч напаследак тры галавы зняў, труп спаліў, галовы на лычка пачапаў, валоў у стадолу загнаў і галовы на ізбушку ўскінуў, аж столя ўвагнулася! А старына як закрычыць:

— Хто там ізбушку ламаець?
— Нябось, старына, гэта я лычкаў надраў.
— Ну добра, сынок, што летам прыспееш, то зімой купляць не будзеш. А валоў загнаў?
— Загнаў, дзядуля!
— А пшаніца ці цэла?
— Не, дзядуля, я ўжо ўсю пшанічку збіў, стаптаў і праклятых смокаў усіх трох забіў, і матку!
— Ну, дзіцятка, мне ўжо тут век векаваць, а ты ідзі гэтай дарогай, і там стаіць дуб на дванаццаць сукоў, і к тым сукам

прыкавана Жар-пціца. Ты сарві тэй дуб і ўсе ланцугі парві, і тады Жар-пціца цябе вывезець на тэй свет!

Тады паблагадарыў ён тэй старыне:

— Жыві,— кажаць,— з богам тутацька, а я пайду Жар-пціцу шукаць!

І пайшоў ён тэй самай дарогай прамой. Скора кажацца, не скора дзеецца. Ішоў ён, ішоў і прыйшоў к дубу. І відзіць ён, сядзіць Жар-пціца на дубе, на дванаццаці суках, прыкавана на дванаццаці ланцугах. Ён січас сарваў тыя ланцугі і спусціў Жар-пціцу. І гаворыць яму Жар-пціца:

— Ай, Васіль Васільевіч, што табе надабе за ўслугу?

— А звязі мяне на наш свет!

— Я і сама рада на свой свет вярнуцца! Садзіся лягенька, дзяржыся крапенька, паляцім. А куды ж цябе везць?

— А вязі к Васілю-паляку Войстраму каўпаку!

— А я і сама ў яго садзе радзілася!

Січас ён уссеў на яе лягенька і дзяржыцца крапенька. Яна тады як стала падымацца: падымалась, падымалась і вывезла на гэты свет. Прывозіць у Васіля-паляка Войстрага каўпака царства і спрашваець:

— Ці відзіш Васіля-паляка Войстрага каўпака царства?

— Відзець віджу, ды далёка!

Яна тады як ляцець, дык ляцець, падляцела бліжэй і ўзнова спрашваець у яго:

— Ці відзіш ты Васіля-паляка царства?

— Віджу, што саўсім блізка!

І стала яна апускацца. Пакуль спусцілася, дык яна ўвязла яго ў сад Васіля-паляка Войстрага каўпака.

— Ну, ляці ты сабе з богам! Ну, а куды ж мне іці? Пайду Васіля-паляка Войстрага каўпака ўб'ю і жану адбяру!

І сеў ён пад ягрыстам і відзіць, што яго жана ідзець з Васілём-паляком Войстрым каўпаком прахаджывацца. Тады ён сядзіць, сядзіць там і слухаець, якія яны рэчы будуць гаварыць. Праходзяць яны каля яго, і кажаць яна Васілю-паляку Войстраму каўпаку:

— За што ты яго, небараку, убіў? Ён скольки трудоў, сілы палажыў! Усю нячыстую сілу збіў! Ці ён-та пагіб, ці жывы? Каб ён дагадаўся ды левай дарогай пайшоў! Есць там на левай дарозе гара, а ў тэй гары стаіць багатырская лошадзь трыццаць тры леты. Вот бы тая лошадзь яго вывезла!

Тады Васіль Васільевіч, слыша гэты рэчы, захацеў дастаць каня. Пасядзеў ён там, пакуль яны прайшлі, і пайшоў узноў к

тэй яме. Звязаў там рамення і спісціўся на тэй свет. Прыходзіць ён к ростанькам, дзе тры ідзець дарогі: адна ўправа, другая прама, а трэцяя ўлева. І пайшоў ён па левай дарозе. Ішоў, ішоў і прыходзіць ён к гары. Прылажыў ён к сырой зямлі вуха — ажна лошадзь ржэць там, аж зямля-маць трасецца.

Тады ён папаў нейдзе лапатку і давай капаць гару. Раскапаў склеп, разламаў дзверы. І лошадзь яму дужа абрадаваўся і гаворыць:

— Ах, Васіль Васільевіч! Пусці мяне ў чыста поле пакатацца, шаўковай травы пад'есць і крынічных вод напіцца!

Тады ён пусціў каня, а конь прызабавіўся. Васіль Васільевіч заплакаў і гаворыць:

— Абманіў мяне добрая лошадзь! Хто цяпер мяне на тэй свет вывезець?

Конь счуў тое слова, бяжыць, аж зямля-маць дрыжыць, і гаворыць Васілю Васільевічу:

— Чаго ты саскучаў?

— А як жа: хто мяне на тэй свет вывезець? Я цябе дастаў і думаў, што ты мяне пакінуў зусім!

— Не, я цябе ва векі вечныя не пакіну. Я рад, што па сабе седака даждаў. Ну, садзісь лягенька, дзяржыся крапенька!

Сеў Васіль Васільевіч на лошадзя лягенька і стаў дзяржацца крапенька і спрашваець у каня:

— Куды мы паедзем?

— А паедзем чэраз сіняе мора!

Выехалі яны на гэты свет і едуць чэраз сіняе мора. Аж ідзець караб. Васіль Васільевіч спрашваець у каня:

— Які гэта караб ідзець?

А конь гаворыць:

— Ідзець Настася — пракрасна царэўна і тры палкі нянек, і тры палкі лялек!

— Ці няможна яе дастаць?

— Чаму няможна. Спусці сваю пяршчатку на караб і скажы: «Падайце мне маю пяршчатку!» Настася-Пракрася вышлець сваю няньку, а ты скажы: «Не мееш ты права маю пяршчатку падаваць! Даўжна Настася-Пракрася мне маю пяршчатку падаць!»

Тады ты яе бяры за руку і садзі на мяне. Ды толькі не цалуйся, а то ўтонем мы абодвы. У мяне ёсць брат на трыдзевятым царстве, на трыдзесятай зямлі, у гары. Вот на тым ты мог бы яе ўзяць і пацалаваць і чэраз мора праехаць. А я такія сілы не маю!

Пад'язджаюць яны к караблю, і ўраніў Васіль Васільевіч сваю пяршчатку і крычыць:

— Настася-Пракрася! Падай маю пяршчатку!

І яна січас загадала сваю няньку яму пяршчатку падаць.

А ён гаворыць:

— Ідзі проч, даўжна маю пяршчатку сама Настася-Пракрася падняць і ў мае белы рукі падаць!

Тады Настася-Пракрася яго пяршчатку падняла і яму ў белы рукі падала. Як толькі яна яму падала, січас ён яе схапіў і на каня ўссадзіў, і пацалаваліся! Як толькі з карабля далоў, дык конь і ўтануў. Яе ж карабельшчыкі падхапілі, а конь зусім утапіўся, Васіль Васільевіч і паплыў. Плыў, плыў, падплываець пад бераг і відзіць — ляжыць калцо. Ён тое калцо ўзяў, ажно гэта тростка. Нямножка яна весу — трыццаць пудоў. Тады ён выйшаў, добры маладзец, на бераг, перасушыў адзежу і лёг аддыхнуць. Аддыхнуўшы, ён узяў тростку і пайшоў. Ішоў, ішоў, прыходзіць к гораду, а тэй горад увесь у жалобе, увесь чорным сукном усланы. Тады ён прыходзіць к аднаму доміку, паставіў сваю тростку каля доміка, дык ажно домік закалаціўся! Уходзіць ён у тэй домік, ажно там старушка. Ён гаворыць:

— Здрастуй, старушка!

— Здрастуй, бацькаў сын!

— Што гэта ў вас за жалоба, што ўвесь горад засланы чорным сукном?

— Ай, дзіцятка, заўтрашні дзень царскую дачку павязуць на снядзенне Праклятаму Смоку!

Ну, папілі, паелі, богу памаліліся і леглі спаць.

Назаўтра яны ўсталі ранелька, умыліся бялелька, аж і царскую дачку павязлі на снядзенне Праклятаму Смоку. Васіль Васільевіч узяў свой меч-самасеч і тростку і пайшоў к сінему мору. А царская доч сядзіць ля мора і сілна плачаць. Ён падходзіць к ёй і спрашваець:

— Чаго, слішная царэўна, чаго плачаш?

А яна гаворыць:

— Чаму мне не плакаць, калі я Праклятаму Смоку на снядзенне вывязёна. Січас прыляціць і мяне пражрэць і цябе са мной. Дык няхай луччы мяне адну пражрэць, а ты ўхадзі!

— Нябось, падавіцца! Не толькі дваіх не пражрэць, дык і цябе адну не пражрэць!

Сядзяць, разгаварваюць. Аж ляціць Пракляты Смок па сінім моры: з наздзёр агонь-полымя свішчаць. Прылятаець к берагу і гаворыць:

— Садзіся, слішная царэўна, ка мне на язык. Я цябе праглычу!

А Васіль Васільевіч гаворыць:

— Не, выхадзі на сухадоль і пражырай мяне перві, тады яе!

Выйшаў ён на сухадоль і гаворыць яму:

— Васіль Васільевіч, дзьмі поле, станаві ток.

А ён кажаць:

— Дзьмі ты первы!

Смок як дунуў — на шэсць вёрст поле здуў і берагі ў моры пазалаціў. А Васіль Васільевіч дунуў — на дзевяць вёрст вычысціў поле, паставіў ток і пазалаціў берагі. Сталі яны біцца. Біліся, біліся, дык Васіль Васільевіч пасек яго, парубіў, на агні спаліў і попел здуў.

Распрашчаўся ён з царэўнай, а яна гаворыць:

— Ступай ка мне ў супружаства. Цяпер паўцарства тваё, а пасля смерці айца ўсё!

А ён гаворыць:

— Адбараніў я цябе ад злой смерці — не спорціў нічога вашаму цару, а твайму айцу. А ў мяне ў самаго ёсць царства!

Тады прыходзіць ён узноў к тэй старушцы і гаворыць:

— Адбараніў я вашу царэўну ад Праклятага Смока. Збіў яго, скалаціў, спаліў і попел здуў!

Прыйшла тая царэўна к айцу і гаворыць:

— Адбараніў мяне чужастранны чалавек, і не ведаю, хто ён такі. І прасіла я яго ў супружаства к сабе, дык ён сказаў, што ў мяне ёсць сваё царства. І спрасіла я ў яго: «Куды ты цяпер пойдзеш?», і ён сказаў: «Няўжлі мне няможна ў вашым горадзе пагуляць?»

Січас, як толькі яна расказала айцу гэтыя рэчы, што тэй чалавек ёсць у горадзе, січас цар паслаў найці яго. І адказваець тая старушка, у каторай ён захвацераваў, што ён у мяне. Тады цар пасылаець за ім парку коней. А ён гаворыць:

— Што, за мной парку толькі прыслалі? За маім кійком шасцёрку лашадзей трэба прыслаць! А за мной няхай прышлець тых коней і тую карэту, што на первы дзень вялікадня ездзяць!

Ну, прыслалі шасцёрку за кійком, а за ім сама царэўна прыехала ў тэй карэце, што цар ездзіць на вялікадні к абедні. Сталі падымаць яго тростку, і ніхто не паднімець. Тады ўзяў ён, сам узлажыў сваю тростку, а сам сеў з царэўнай. Пры-

язджаюць яны ў царскі дом, і цар сабраў бальшы банкет і сам не знаець, што з ім дзелаць. І гаворыць яму цар:

— Ідзі к маей дочары ў супружаства. Я табе даю цяпер паўцарства, а па смерці ўсё!

А ён яму адказваець:

— У вас па ўсяму царству няма лошадзя па мне!

Пагулялі, пабанкетавалі і адказваець ён цару:

— Я к вам прыбуду, не магу сказаць, ці надоўга, ці не, а сам пайду лошадзя шукаць!

Распрашчаўся ён з імі, узяў сваю тростку і пайшоў. Узяў па дарозе рыдзель пад паху і пайшоў у некаторыя царствы, у некаторыя гасударствы. Прыйшоў ён к тэй гары, дзе быў конь, прыклаў к зямлі правае вуха сваё і чуець, што яго лошадзь іржэць, ажно зямля-маць стогнець. Раскапаў ён гару, і стаіць лошадзь у склепе, чэраз трое дзвярэй замкнута. Тады ён дзверы паразламаў, замкі паразбіваў і адвязаў таго лошадзя. І рад тэй лошадзь, што па сабе седака знайшоў. Вывёў ён каня ў чыста поле пагуляць, шаўковай травы пад'есць і крынічнай вады напіцца. Пусціў яго Васіль Васільевіч, а сам і саскучаў. Як крыкнець маладзецкім посвістам, багатырскім поклікам, лошадзь [той] бяжыць, аж зямля-маць дрыжыць:

— Што ты, Васіль Васільевіч, саскучаў?

— Я думаў, што ты кінуў мяне!

— Я не кіну цябе ва векі вечныя!

Уссеў ён на добрага лошадзя і прыехаў ён у тое царства, ідзе адбараніў царскую доч ад Праклятага Смока. Распрашчаўся ён з імі і паехаў к айцу к свайму.

Тады січас едзець ён к сінему мору і гаворыць ён каню:

— Ці не можам мы дастаць Настасю-Пракрасю ў жану мне?

Ідзець караб, і ён на караб уз'язджаець і ўпусціў сваю пяршчатку і гаворыць:

— Настася-Пракрася, падай мне пяршчатку!

А Настася-Пракрася сказала няньцы падаць яму пяршчатку. А ён гаворыць:

— Не смей ты маей пяршчаткі падаваць! Даўжна Настася-Пракрася сама мне яе падаць!

Яна прыйшла, пяршчатку падняла і яму ў белы рукі падала. Січас ён яе за белу руку падхваціў і на каня пасадзіў, і з карабля на сіне мора паехаў. Сіне мора пераехаў, і прыходзяць у Васіля-паляка Войстрага каўпака царства.

Толькі ён у яго царства прыехаў, як два багатыры едзець проці яго і хочуць яны яго ўбіць. Гэтыя багатыры — два сыны

Васіля-паляка Войстрага каўпака. Тады ён ссадзіў сваю жану, а сам паехаў к ім насустрэчу і як стаў ён іх сцягаць сцяблінай, дык ён чуць не ўбіў іх. Тады яны вярнуліся к айцу к свайму, Васілю-паляку Войстраму каўпаку, і гаворапь:

— Ацец наш родны! Напалі мы на такога на багатыра, на разбойніка, што чуць ён нас не ўбіў!

— Дзеткі, верна, гэта вярнуўся мой брат большы! І выганіць ён із царства нашага не толькі вас, а і мяне.

А Васіль Васільевіч узяў жану сваю і прыязджаець у царства Васіля-паляка Войстрага каўпака.

— Здрастуй, мой меншы брат!

— Здрастуй, мой большы брат!

— Ну, што ж, ты хацеў мяне пагубіць і жану маю адабраў у мяне? Я б табе не прасціў, але дзеля жаны твае прашчаю. Яна мяне спасла ад смерці! Цяпер дзе мне аддыхнуць?

А Васіль-паляк Войстры каўпак кажаць:

— Ёсць у мяне караб такі, што як ты ўзыйдзеш на яго ды скажаш: «Ад берага»! — дык ён атойдзець. А калі аддыхнеш, дык скажаш: «К берагу, караб!» — дык ён і прыплывець к берагу.

Узышоў Васіль Васільевіч на караб і гаворыць:

— Ад берага, караб!

Ён і адышоўся ад берага. Пайшоў тады Васіль Васільевіч па караблю хадзіць. Зайшоў у адну каморку, у другую, у трэцюю, і ў кожнай каморцы па тросцы. Прылятаюць на гэты караб яго сёстры: адна ў адну, другая ў другую каморку, а трэцяя ў трэцюю. Тады зайшоў ён к большай сястры, выбіў яе, выбіў і руку адламаў. А яна абярнулась вутачкай і палящела. Тады прыходзіць ён у другую каморку, к сярэдняй сястры: парыў, парыў яе, адламіў ёй нагу і адправіў дамоў. Абярнулась яна вутачкай і паляцела. Заходзіць у трэцюю каморку, к меншай сястры. Парыў, парыў яе, адарваў ёй вуха. Яна абярнулась вутачкай і паляцела дамоў. Тады ён кажаць:

— К берагу, караб!

Выйшаў, сеў на каня, узяў жану і паехаў к Васілю-паляку Войстраму каўпаку. Гуляў, гуляў у яго, тады забраў у яго войска: тры палкі музыкі, тры палкі конніцы і тры палкі пешаходзі — і паехаў у двор. Прыязджаець к айцу к свайму. Маць і ацец яму сілна вазрадаваліс. Яны яго як з таго свету ждалі.

Адпісаў ацец яму ўсё сваё царства, і ён там царыць. І я там быў, мёд-віно піў, па барадзе цякло, а ў роце не было.

## 13. ГРЫФ

Было ў аднаго бацька тры сыны: двох разумных, трэці дурань. Тыя разумныя пайшлі ў свет шукаць службы, а дурны астаўся пры бацьку. Як тыя пайшлі, так ён як дзень, так ноч усё плакаў, нарэшце кажа да бацька:

— Тату, пайду я іх шукаць.

А бацька ўпярож не пускаў, нарэшце кажа:

— А ідзі, усё роўна ты дурны, то можа дзе прападзеш.

Ён пайшоў. Ідзе, так ідзе, ажно надышоў над озера, глядзіць, ажно там яго брат шлям возіць! Падышоў, засмяяўся і кажа:

— Хадзем, братко, шукаць серадольшага брата.

— Ідзі ты,— кажа,— к чорту, хоць ты мой брат!— і стаў яго лаяць, але ён канечне: ідзі, так ідзі.

Ажно той, не могучы адчапіцца, пайшоў. Прыходзяць над другое озера, ажно там і серадольшы брат шлямуе, так забралі яго і пайшлі дахаты. Ідуць, так ідуць, ажно ноч іх захапляе. Падышлі далей, стаіць будынак, уходзяць, ажно там нічога-нічагуценька няма, анно жывіна стаіць і стрэльбы вісяць. Пераначавалі, на другі дзень рана той дурны зняў дзве стрэльбы і кажа да серадольшага:

— Мы пойдземо на паляванне, а старшы будзе есці гатаваць.

І пайшлі. Старшы стаў варыць есці, ажно ўходзіць неякісьціць стары дзед, стаў нібы пацеры балбатаць, а потым просіць хлеба. Так той яму даў кусочак, але дзеду рукі так дрыжалі, што аж хлеб упаў на зямлю.

— Э,— кажа,— мусі, ты, дзеду, не надта галодны, калі хлеб кідаеш?

— А мае,— кажа,— дзеткі, гэта старасць, рукі дрыжаць, што не магу хлеба ўдзяржаць.

Ён нагнуўся паднімаць, а дзед яго як сцарапіць за карк: біў, біў, біў, біў, так, што ледва цёплага выпусціў. Потым паўедаў усё, што ён нагатаваў, і сам пайшоў. Той, няма рады, сцарапіўся неякасць з зямлі і зноў стаў гатаваць, але нібавам надыходзяць і браты:

— Чаму ты,— кажа,— есці не нагатаваў?

А яму было ўстыдна прызнацца дурню да гэтага, так кажа:

— Га, мае браткі, выбачайце: дровы надта сырыя былі, то не паспеў нагатаваць.

Назаўтра пайшоў ужо той дурны з старшым на паляванне, а серадольшага аставілі, каб есці гатаваў. Але і яму гэта сама прытрапілася: прыйшоў дзед, збіў на горкае яблыка, паўедаў усё і сам пайшоў. Прыходзяць тыя, ажно абеду няма:

— Чаму не нагатаваў?

— Га, браткі, наставіў,— кажа,— захацелася спаць, палажыўся, прачхнуўся, а тут усё паўкідала і папрыгарвала.

— А каб цябе!

На трэці дзень ужо астаўся дурны есці гатаваць. Так як тыя пайшлі, стаў гатаваць, ажно прыходзіць той самы сівы дзед і просіць хлеба. Дурань адразу дагадаўся, што гэта нячысты, але што быў надта дужы, так вызверыўся на дзеда і кажа:

— Вон, дзеду! Я сам хлеб купляю.

Але ён як стаў прасіць, як стаў прасіць, так дурань падумаў: «А чорт яго ведае, мо добры, мо кепскі, а хлеба заўсёды трэба даць». Так даў лусту, але дзеду рукі задрыжалі і ўпаў хлеб.

— Ай, дзеду,— кажа,— мусіць ты не надта галодны, калі хлеб кідаеш!

— Э,— кажа,— гэта старасць, не магу ўдзяржаць.

Дурны схіліўся па хлеб, а ён яго граб! за карк, але дурны як га! стаў на роўных нагах і узяў дзеда па-сваему! Біў-біў, біў-біў, скуру яму зжарыў, а па сярэдзіне хаты стаяла калода вялікая, так ён узяў сакеру, стукнуў у калоду, і зрабіўся равок, потым зачасаў кліна, прыцягнуў дзеда за бораду і бораду заклінаваў. Потым, як скончыў гатаваць, так зняў стрэльбу і пайшоў шукаць братоў. А ў той жа час нападаў снег маладзенькі, так значна было след. Хутка знайшоў братоў і ідуць дахаты. Прыходзяць, ажно няма ані калодкі, ані дзеда! Так яны па слядах за ім ідуць, ідуць, аж стаіць гара высока як завідаць! А ў той гары дзіра. Яны кажуць:

— Мусіць, у гэту дзіру ўлез дзед,— і паслалі серадольшага да места, каб купіў доўгага ланцуга. Нібавам прыносіць ён. Дурны ўзяў за канец ланцуга і кажа да іх:

— Вы мяне будзеце спускаць, а як не выстарчыць ланцуга, то галлё ламеце, даточывайце, а як страсяну за ланцуг, то выцягайце.

Яны гэтак зрабілі. Упусцілі яго, калі ён гляне, ажно на дне той ямы калодка ляжыць разбіта надвае, а ў калубелі ляжыць пабіты той дзед, дзве дзяўчат яго калышуць, а іх маці так сабе сядзіць. Як угледзела яго, так і пытае:

— Чаго ты прыйшоў?

— Прыйшоў,— кажа,— забіць гэтага гыцля нячыстага! Ен мае браты хацеў пабіць і мяне, але я яго апамог і яму таго нігды не дарую.

А яна кажа:

— Добра, анно паперастаўляй ты гэтыя дзве бочкі: у адной е моцная вада, а ў другой слабая, то як нап'ешся гэтае моцнае вады, то будзеш дужы, а ён яшчэ горш аслабее.

Ен паслухаў. А гэтыя паненкі і мацi аднаго разу збіралі грыбы, а дзед на іх надышоў і пазавалакаў у гэту яму, дзе як дзень, так ноч плакалі. Тым часам прачхнуўся дзед і давай біцца; ад пары да пары ўсё біліся, нарэшце-такі дурань апамог, забіў насмерць, спаліў і попел з ветрам пусціў. Тады збіраецца ісці назад, але яны давай прасіцца, каб іх на той свет выдастаў. Тады ён прывязаў калыску да ланцуга, усадзіў абедзве паненкі, страсянуў за ланцуг, так яны і выцягнулі іх. Так паненкі просяцца ў іх, каб яшчэ матку дастаць. Яны зноў спусцілі калыску, і дурны, каб сеў з маткаю, то выцягнулі б і яго, але ён анно мацеру ўсадзіў, страсянуў, і выдасталі. А браты як угледзелі тыя паненкі, так надта ў іх закахаліся да і не хочучы, каб дурань улазіў ім у дарогу, спусцілі калыску і пайшлі кажучы:

— Што нам з дурня, няхай прападае!

А гэтыя паненкі былі з двара і павялі іх да сваго палаца. Тым часам дурны ходзіць і плача, ходзіць і плача, аж угледзеў гняздо на дзераве, а ў том гняздзе грыфа дзеці — харошыя, аж зыяць! Ажно як раз у той час схадзілася бура, так ён скінуў з сябе куртку, акрыў гняздо, а сам сеў пад дзеравам. Ажно зрабіўся вецер — ляціць грыф. Прыляцеў, сеў на галіне, а агледзеўшы, што дзеці накрыты, кажа:

— О, каб я ведаў, хто то накрыў мае дзеткі, то я бы яму харашэнька падзякаваў бы.

А ён кажа з-пад хвойкі:

— Грыфе, найміласціўшы птаку, гэта я твае дзетачкі накрыў!

— Хто?

— Так і так.

— А чаго табе трэба?

— Хачу выйсці на той свет.

А грыф кажа:

— Добра, чалавечку, занясу це да сваго маёнтка, то ты зарэжаш два валы, после мяса парэжаш на кускі і ўложыш у дзве бочкі і гэта ўсё на мяне зложыш, а ў трэцю бочку вады нальеш, у той час сядзеш на мяне, і я цябе вынесу.

Ён так і зрабіў. Як меўся сядаць, грыф кажа:

— Помні, за кожным разам, як аглянуся, каб ты мне кінуў кусок мяса і ўліў чарпах вады.

Тады зняўся і паляцеў з дурнем. Ляцяць, ляцяць; што аглянецца, то дурань яму кусок мяса і чарпах вады. Нарэшце, пад канец забракла мяса, так грыф раз аглянуўся — ніц, другі раз— ніц, за трэцім разам дурань адрэзаў з свае нагі кусок ікры і кінуў грыфу, і зараз сталі на зямлі. Тады грыф кажа:

— Што ты мне такога салодкага на астатку даў?

А ён кажа: так і так. Так грыф хухнуў тры разы, і зноў нага такая сама стала. После грыф кажа:

— У тваіх братоў мае быць вяселле, але паненкі пахварэлі. На табе гэтых тры бутэлечкі, а ты іх выздаравіш.

Ён падзякаваў грыфу і пайшоў. Ідзе, так ідзе, зайшоў да карчмы і пытае ў жыдоўкі, што чуваць. Так і так, кажа:

— Мела быць у двары вяселле, да паненкі пахварэлі, і ніхто раданькі не дасць.

— Я ім,— кажа,— дам раду.

Жыдоўка гэта гаргетнула да бахура́, той сеў на каня ды й паехаў азнайміць да двара. Нібавам прысылаюць па яго каляску ў чатыры коні, а каляска аж зыіць ад золата. Ён сеў і паехаў. Як даў ім лекаў з тых бутэлечак, так адразу палепшалі. Яны яго пазналі, а браты не. Нарэшце паненкі ім сказалі, што гэта іх брат. Яны яго давай перапрашаць, але ён узяў старшага прывязаў каню да хваста і пагнаў, конь яго разбіў насмерць. А што мела быць яго жонка, то з ёю сам ажаніўся. І справілі велькае вяселле і жылі добра з серадольшым, што з другою ажаніўся. І я там быў, мёд, віно піў.

## 14. ІВАШКА МЯДЗВЕДЖАЕ ВУШКА

Жыў сабе так чалавек, і была ў яго хазяйка. І пайшла яна ў лес у грыбцы і заблудзіла. Налучыўся на яе той жа час мядзведзь. Ён яе ўзяў ды і ўзнёс яе к сабе ў лес і стаў, значыцца, з ей жыць. Пажыла яна гады тры і забрэменела ад яго. Радзіла яна сабе сына. Далі яны яму імя — празванне Івашка Мядзведжае вушка. Пабыў ён гады тры і рос не па гадах, да па часах, не па часах, да па мінутах. Да. Ён і гаворыць:

— Маць, я,— гаворыць,— не буду з табой жыць і з мядзведзем, ну, я ўвыйду ад цябе.

Пайшоў сабе, ідзець дарогай і страчае чалавека. Той гаворыць:

— Здрастуй,— гаворыць,— Івашка Мядзведжае вушка!

— Добрае здароўе,— гаворыць,— Дуб-Дубавік.

— А куды ты ідзеш?— пытае Дуб-Дубавік у Івашка Мядзведжага вушка.

Ну ён гавора:

— Пайду ў свет!

— Ах, брат, пайду і я з табой!

— Ну, пойдзем.

Колькі яны ўрэмя ішлі — стаіць апяць чалавек. Яны гавораць:

— Здрастуй,— гавораць,— Гара-Гаравік!

— Добрае здароўе, Івашка Мядзведжае вушка і Дуб-Дубавік! Ну, куды вы ідзеце?

— Ідзём у свет.

— Пайду і я з вамі!

— Ну, хадзі, — гаворыць гэты Івашка Мядзведжае вушка. Ну, яны пайшлі ўтрох. Ішлі, ішлі і нашлі яны сабе дом.

— Вот,— гавора,— братцы, во дзе цяпер будзем жыць.

Тады Івашка Мядзведжае вушка і гаворыць на Гару-Гаравіка:

— Ну, Гара-Гаравік, ты аставайся,— гавора,— абед варыць, а мы пойдзем на ахвоту.

Той січас узяў вала зарэзаў, аблупіў, у кацёл уклаў, цяпло расклаў і давай варыць. Толькі гэта гавядзіна закіпела, січас жа ідзе і стукае ў дзверы і кажа:

— Адчыні, хто ў маём доме ёсць!

[Гэта] Бяссмертны Кашчэй, ён сам з кокаць, барада з локаць. Ён яму адчыніў.

— Уссадзі,— гавора,— мяне на лаўку!

Ён узяў і ўссадзіў яго.

— Ну, дай мне,— гавора,— есць!

Ён яму і даў вала. Ён гэтага вала з'еў, тады ўзяў паласу ў яго выкраіў з плячэй, сам і ўляцеў. Ну, таму некалі дажыдацца, а трэба другога рэзаць вала — абед трэба гатаваць. Прыходжуюць яго таварышы, толькі што ён закіпеў.

— Ну,— гавора,— брат, давай абедаць!

Ён выняў саўсім шчэ сырое мяса. Яны сталі есць.

— Ах,— гавора,— як ты варыў, саўсім яно ў цябе сырое!

— Ах, братцы, пакудава дровы нарубіў, ну, братцы, запазніўся.

Ну, аднача ён таго не сказаў ім, што яму такая штука здзелана. Івашка Мядзведжае вушка гавора:

— Эх, брат, не стое табе! А ну-тка ты, Дуб-Дубавік, аставайся тут, ці не луччы ты згатовіш!

Дуб-Дубавік начаў пашыбчы варочацца. Вала зарэзаў, січас аблупіў, у кацёл уклаў яго, цяпло расклаў і стаў варыць яго і думае — як бы паскарэй. Січас жа і ляціць той самы змей, сам з кокаць, барада з локаць, Кашчэй Бяссмертны, і стучыць у дзверы:

— Хто ў маём доме ёсць, адчыні!

Ён яму адчыніў.

— Перасадзі мяне чэраз парог!

Ён перасадзіў.

— Ну, уссадзі мяне на лаўку!

Ён уссадзіў.

— Дай мне есць!

Ён яму даў есці. Кашчэй вала з'еў і апяць паласу выкраіў з яго і паляцеў. Той думаў: «От гора!» Начаў шчэ пашыбчы варочацца, зарэзаў другога вала, стаў гатаваць. Да січас яны і і прыходжуюць.

— Давай,— гавора,— брат, абедаць!

Ён вынімае — саўсім сырое. Івашка Мядзведжае вушка і гавора:

— Ах, брат ты мой! Я ж думаў, што ты палуччы згатуеш, ажно ты шчэ худжы! Аднак ідзіце вы сабе, братцы, на ахвоту, а я астанусь гатаваць, ці не луччы я вас згатую!

Івашка Мядзведжае вушка вала зарэзаў, уклаў у кацёл і начаў гатаваць. Развёў цяпло. Да. Толькі ён згатаваў, січас і ляціць [Кашчэй] і гавора:

— Хто ў маёй хаце ё, адчыні мне!

Ён гавора:

— Рукі не па[а]дсыхалі, калі трэба, дык адчыніш!

Ён адчыніў.

— А ну,— гавора,— перасадзі мяне чэраз парог!

Ён адказуе яму, што ногі не па[а]дсыхалі, пералезеш і сам.

— Уссадзі,— гавора,— мяне на лаўку!

Ён гавора:

— Ногі не па[а]дсыхалі, сам узлезеш!

— Дай мне,— гавора,— паесць!

— Калі нагатаваў, дык паеш! Я нагатаваў, ды не для цябе.

[Кашчэй] схваціўся да на яго. Тады Івашка Мядзведжае вушка ўхапіў яго за бараду да пацёг яго прама ў лес. Узяў раскалоў дуба да засадзіў яго бараду ў дуба, да й забіў клінам.

— Вот ты,— гавора,— тут пасядзі, пакуль таварышы прыйдуць!

Прыходзяць таварышы.

— Ну, давайце,— кажа,— братцы, абедаць! Вот я зварыў не так, як вы. А хаціце, братцы,— па[а]бедаўшы кажа,— паглядзіце, што я ўсадзіў у дуба — бараду ўшчаміў у дуба!

Прыйшлі яны ў тое места, пасмотраць, ажно яго нету. Вырваўся і паляцеў, барада ў дубе асталась. От яны і пайшлі.

— Пойдзем,— кажа,— братцы, паглядзім, куды ён пайшоў, віць кроў,— гавора,— ё!

От яны ўзялі і пайшлі. Увайшлі ў лес у вагромны. Тады Івашка Мядзведжае вушка гавора:

— Ну, Дуб-Дубавік, давай,— кажа,— дарогу!

Начаў Дуб-Дубавік ірваць дубы, дарогу прабіраць. Да. Прабралі дарогу, прыйшлі к бальшой гарэ.

— А ну, Гара-Гаравік, раскáпуй гару!

Гара-Гаравік раскапаў. Перайшлі яны гару — ляжыць бальшы камень. І пад тэй камень нара. Тады Івашка Мядзведжае вушка гавора:

— Вот, братцы, во ён куды палез. Ну, давай валоў рэзаць і пас сшываць. І ўпусціце мяне туды, я пайду яго шукаць. Ну, вы, братцы, тут даўжны быць круглы год, да гэтага ўрэмя, як мяне ўпусціце туды. Ну, а тады, братцы, як год выйдзе, вы даўжны прыбыць сюды, і я пас гэты скалатну, і вы мяне выцягніце.

Тады яны ўзялі валоў штук пятнаццаць зарэзалі, здзелалі пас, начапілі камень і ўпусцілі туды. І шчэ не хватае.

— Давай, братцы, яшчэ зарэжам штукі тры да пас надвяжам!

Ну вот, нашылі і ўпусцілі яго туды. Дасталі глыбіню.

— Ну вот, цяпер, братцы, пушчайце мяне туды. Толькі глядзіце ж, братцы, цяпер я вас прашу, штоб вы дзе былі, а ў той час, як мяне спушчаеце, чэраз год даўжны сюды прыбыць!

Упусцілі яго туды, ён і пайшоў. Находжуе — стаіць дом медны. Прыходзе ён у тэй дом, сядзіць там дзевушка.

— Ах,— гаворыць,— здрастуй, Івашка Мядзведжае вушка! Слыхом было слыхаць, а цяпер і ў глазы відаць. Зачым ты ходзіш сюды? Мы колькі ўрэмя жывом, мы рускага чалавека не

відалі. Ну, аднакава, ты сваю галаву занёс сюды,— мы жывом з Бяссмертным Кашчэем.

— Ну, я таго і ішчу.

— Ну, аднакава,— гавора,— давай мы з табой жаніцца!

— Не,— гавора,— я пайду Бяссмертнага Кашча шукаць!

— Эх,— гавора,— ты як пойдзеш, там шчэ красівей мяне ё, ты на мяне забудзеш!

— Не,— гавора,— я й цябе вазьму адсюль!

Ну, ён пераначаваў, назаўтрага ўстаў, памыўся, богу памаліўся і пайшоў. Прыходжуе, аж стаіць другі дом, сярэбраны.

— Здрастуй,— гавора,— дзеўка!

— Здрастуй, здрастуй, Івашка Мядзведжае вушка! Слыхом было слыхаць, а цяпер і ў глазы відаць. Зачым ты ходзіш сюды? Мы колькі ўрэмя жывом, мы рускага чалавека не відалі. Ну, аднакава, ты сваю галаву занёс сюды, мы жывом з Бяссмертным Кашчэем!

— Ну, я таго,— гавора,— і йшчу, я за ім і іду, за Бяссмертным Кашчэем.

— Ах, Івашка Мядзведжае вушка, давай,— гавора,— з табою жаніцца!

— Не,— гавора,— пайду падальш, пайду Бяссмертнага Кашча шукаць!

— Ах,— гавора,— ты як пойдзеш, там шчэ крашы мяне ёсць, ты і на мяне забудзеш?

— Не,— гавора,— я не забуду, я й цябе вазьму.

Да й пайшоў, пераначаваўшы. Стаіць трэці дом — дом залаты. Ён уходжуе ў той дом — сядзіць красівая дзеўка, вышывае.

— А, здрастуй,— гавора,— Івашка Мядзведжае вушка! Ці па волі, ці па няволі зайшоў сюды, буйну галаву,— гавора,— занёс? Здзесь Бяссмертны Кашчэй, дак ён цябе з'есць!

— Ну, я яго ішчу!

— Да ці ішчаш, ці не ішчаш, а ён тут не так, як на тым свеце, на гэтым свеце ён сільней! Ну, на ж ты,— гавора,— паеш, і здзелаю я цябе булаўкай і ўторну ў падушку.

— Ну,— ён гавора,— пажалуста, і распрасі, дзе яго,— кажа,— смерць.

У скорым урэмю прылятае Бяссмертны Кашчэй і гавора:

— Фэ, русь-кось пахне!

Ну, яна яму адказуе:

— Ах,— гавора,— душанька, ты па Русі лятаў, Русі набраўся, так табе бытта аддае тут. Я тут колькі жыву, а рускага чалавека не бачыла!

Унясла яна яму гарачых карцеч, ён наглытаўся. Лёг сабе і ляжыць. Яна гавора:

— Душанька, колькі мы з табой жывом! Ну, крый бог, нас хто пабідзе — крый бог твае смерці.

Ён зарагатаў:

— Ха-ха-ха, дура, мае смерці нету. Мая смерць — у моры скрыня, а ў скрыні заяц, а ў зайцу вутка, да, а ў вутцы яйцо, вот то мая смерць.

Да. Устаў і паляцеў гэты Бяссмертны Кашчэй. Яна тады яго і выпусціла, Івашку Мядзведжае вушка, і гавора:

— Знаеш,— гавора,— друг мой, дзе яго смерць? Яго смерць — у моры скрыня, а ў скрыні заяц, а ў зайцу вутка, а ў вутцы яйцо, штоб яйцо ты тое дастаў да ўдарыў яму ў лоб, от яму і смерць — дак ідзе ты дастанеш?

Ён узяў сабе ружайцо і пайшоў. Сколькі ён урэмя ішоў, што баліць ажно яго шкура, што ён есць хоча. Бягіць воўк. «Ах,— думае,— вазьму ўб'ю, хацяваўка наемся». Толькі ён злажыўся біць, а воўк і гавора:

— Ах, Івашка Мядзведжае вушка, не бі мяне, я табе пры злой гадзіне знадаблюсь!

Так Івашка Мядзведжае вушка і пайшоў, есць не захацеў. Апяць ішоў, ішоў, аж шкура яго баліць. Думае: «Ну, хто сабе нарвецца, уб'ю да з'ем». Бача, ляціць коршык. Ён склаўся і думае: «Уб'ю». Коршык яму гавора:

— Ах, Івашка Мядзведжае вушка, не бі мяне, я табе знадаблюсь пры злой гадзіне!

Так ён узяў і пайшоў і не захацеў есці. Сколькі ён урэмя ішоў, прыходзе к мору, аж ляжыць рак такі агромны; і ён думае: «Адсяку яго палавіну да з'ем. Вот жа папраўлюсь!»

Рак гавора:

— Ах,— гавора,— Івашка Мядзведжае вушка! Віць ты бачыш, што я гарую — палавіна на берагу, палавіна ў вадзе. Вот ты вазьмі кол да спіхні мяне ў ваду. Я табе ў злой гадзіне знадаблюсь: што табе трэба, то табе ад мяне будзе.

Івашка Мядзведжае вушка ўзяў кол і скаціў яго ў ваду. Ён гавора:

— Ну, благадарыць табе, Івашка Мядзведжае вушка, што табе трэба, сказывай!

— А вот што,— гавора,— мне трэба: я прыйшоў сюды за смерцю Кашча Бяссмертнага. Есць у моры скрыня, а ў скрыні заяц, а ў зайцу вутка, а ў вутцы яйцо!

— А вот,— гавора [рак],— я табе яе дастаўлю.

Так ён папоўз і цягне скрыню гэту перад сабою. [Івашка] узяў гэту скрыню, разбіў крышку, толькі адчыніў — заяц выскачыў і пабег.

— Ах, бог мой, дзе тэй воўк дзеўся, што казаў: «Я табе пры злой гадзіне знадаблюся»,— што каб ён мне ўлавіў гэтага зайца.

Так той жа час воўк і схваціў яго. [Івашка] яго ўзяў разадраў. Вутка з яго пыр — і паляцела. Ён стоючы і гавора:

— Дзе гэта дзеўся тэй коршык, каб ён мне яе ўлавіў.

Толькі ён сказаў — адкуль узяўся коршык, улавіў тую вутку. [Івашка] узяў разадраў тую вутку, узяў яйцо. Ну, яно гразнае. «Ах, панясу ў мора, памыю». Узяў, панёс. Стаў мыць, яйцо гэта пакацілася прама ў мора. Ён стоючы і кажа:

— Ах, божа мой, божа, што як ба тэй рак да мне гэта яйцо падаў!

Так і нясе той рак тое яйцо яму. Ён узяў і пайшоў. «Ну, слава табе, госпадзі». Прыходжуе прама к Бяссмертнаму Кашчу. Так як ішоў, так прама ў дом. Бяссмертны Кашч, як толькі ён увайшоў, ён глядзь на яго.

— А,— гавора,— ты тута, Івашка Мядзведжае вушка!

А ён гавора:

— А ўжо ж тут!

Так [Кашчэй] усхваціўся, прама к яму і кінуўся. [Івашка] яго ўдарыў тым яйцом прама ў лоб. Тады Бяссмертны Кашч кажа:

— Ах, вот мая смерць!

Убіў Бяссмертнага Кашча. Тады гаворыць:

— Ну, красная дзеўка, я цябе вазьму, а дому гэтага жалка, як мы дом забяром?

А яна гавора:

— Эх, я дом,— гавора,— січас забяру.

Узяла яйцо, абкатнула кругом. Так гэты дом увабраўся ўвесь чыста ў яйцо. Тады Івашка Мядзведжае вушка ўзяў яго ў кішэню ўклаў і пайшлі. Прыходжуюць к другому дому. То залаты ўзялі, а шчэ прыхождуюць к сярэбранаму.

— Што ж,— гавора,—красная дзеўка, я цябе забяру, а як жа дом забраць?

— Эх, гавора,— не беспакойся: я дом січас забяру!

Узяла яйцо, абкатнула кругом. Так гэты дом увабраўся ўвесь чыста ў яйцо. Тады Івашка Мядзведжае вушка ўклаў яго ў кішэнь і пайшлі. Прыходжуюць яны к трэцяму дому, к меднаму. Івашка Мядзведжае вушка і гавора:

— Ну вот,— гавора,— я цябе забяру, а як жа ты дом забярэш, дома шкода!

— Эх,— гавора,— я дом січас забяру.

Яна ўзяла яйцо, абкатнула кругом. Так гэты дом увабраўся ўвесь чыста ў яйцо. Тады Івашка Мядзведжае вушка ўклаў яго ў кішэнь, і пайшлі. Прыходжуе на тое места — акурат год. Узяў ён прывёў іх на тое места і пасадзіў гэту, з меднага дому, і тарגануў тэй пас. Яны ўзялі і пацягнулі. Выцягнулі і пачалі адзін з адным біцца. Тэй гаворыць:

— Гэта мне.

А тэй:

— Гэта мне.

І пачалі драцца. А дзеўка гэта гавора:

— Стой,— гавора,— не біцеся, там яшчэ крашы мяне ёсць.

Тады яны ўзялі апусцілі апяць пас. [Івашка] узяў пасадзіў з сярэбранага дому тую дзевушку. Яны патаскалі. Выцягнулі і пачалі апяць драцца. Тэй гавора:

— Мне.

А тэй:

— Гэта мне.

І пачалі драцца. А дзеўка гэта гавора:

— Стой,— гавора,— не біцеся, там яшчэ дзевушка крашы мяне ёсць.

Яны ўпусцілі пас, ён пасадзіў і трэцюю, што з залатога дому. Тады выташчылі.

— Ну, брат,— гавора,— гэта нам па адной, а трэцяя будзе нам за чалядку, служыць будзе нам. Ну яго, брат, упусцім пас і ўцягнем упол і пас перарэжам — няхай ён уб'ецца.

Да, упусцілі пас. Ён тады ўзяў, пудоў ля ста зачапіў камень і таргануў пас, і сам адышоў дужа далёка. Яны і патаскалі яго. Толькі ўпол света ўцягнулі — узялі пас перарубілі, так гудзець тэй камень назад. [Івашка] тады гавора:

— Ах, божа мой, вот ба гэта мне было!

Узяў ізбядніўся, што горка стала, зажурыўся і пайшоў адзін. «Ах, божа мой, во што то мне было. Не знаю, як ба мне на той свет дастацца?» Так, находжуе дужа хмара бальшая. Ён і думае:

— Ах, пайду я пад дуба схаваюся, штоба я не замяк.

Прыходжуе пад дуба і стаў і чуе: крычаць пціцы дужа крэпка. Ён тады:

— Ах, божа мой, іць пойдзе хмара, засячэ іх дождж! Узлезу я, іх прыкрыю.

Ён узлез на дуба і распяўся над гняздом і прыкрыў гэтых дзяцей, пакудава хмара не прайшла. Тады распагодзілась, ён узяў і злез, узяў і схараніўся. Нядоўгім урэмем ляціць пціца Палугрыца і спрашае:

— Ах, дзеткі мае, хто вас прыкрыў ад гэтыя хмары? Я ўжо думала, што вы жывы не будзеце.

Яны кажуць:

— Якійся,— гаворац,— чалавек!

Яна і крычыць:

— Ах,— гавора,— чалавек, абвясціся, што ты за гэта хочаш?

Ён адказуе пціцы Палугрыцы, што я нічога з цябе не хочу, толькі штоб ты мяне даставіла на тэй свет!

Во яна яму і гавора, што ідзі набі мне дзве бочкі мяса, дак я цябе дастаўлю!

— Толькі чым жа мне, якім цябе мясам?

— А вот бі лягушак, бі мышэй, бі гадаў, якую звярыну пападзеш, такую бі і складай у бочкі. Тады ка мне прыйдзеш і скажаш. Ну, я цябе панясу.

Пайшоў Івашка Мядзведжае вушка і начаў біць разныя разнасці: і вужоў, і лягушак, і мышэй, разная-разная, што толькі на свеце ёсць, і складаў у бочкі. Набіў і прыходжуе:

— Ну, я ўжо набіў.

Да. Апушчаецца пціца Палугрыца.

— Ну,— гавора,— падвязуй мне пад адно крыло бочку і пад другое, а сам садзісь пасярод. І сматры: управа гляну — з правай бочкі падай, улева гляну — з левай бочкі падай, і як гляну, так і кідай!

Ну і панясла яна. Начала пціца Палугрыца што далей, то вышай угару падымацца. Як яна на бокі пазірае, так ён гавядзіну кідае. Так ён кідаў, не большы ба ўжо сажэнь на пяць яго ўзнесць, ужо гавядзіны не стала. Пціца Палугрыца раз зірнула — няма, у другі бок зірнула — нету; пачала маленька ўніз апускацца. Да. Івашка Мядзведжае вушка ўрабеў. Січас узяў, адрэзаў свае ікры. Як яна зірнула, ён ёй і ўкінуў — так яна зразу сажэня на два ўгару ўсхвацілася. Зірнула яна ў другі бок — ён адрэзаў другія ікры і ўкінуў ёй у рот. Ну, яна яго ўжо вынесла. «Ну, слава табе, госпадзі!» Тады пціца Палугрыца гавора:

— Скажы ты мне: што колькі ты мне гавядзіны даваў — ну смашней гэтыя не было. Што гэта за гавядзіна?

А ён гавора, што я адрэзаў свае ікры.

— А ну, пакажы!

Ён узяў выставіў. Яна харкнула, яно зразу прырасло. Ён другую выставіў — яна зноў харкнула, і другая болька загаілась, яно і прырасло.

— Ну, толькі ідзі, пажалуста, паскарэй, ужо твае таварышы скора будуць жаніцца. Ну, яны б даўно жаніліся, ну толькі без цябе нічога не будзе!

Ён пайшоў, прыходжуе ў горад. І здзелаўся ён масцеравым — сапожнікам, шаўцом значыцца. Ну, аднак жа, ён шыць не ўмее — толькі ён стаў у яўрэя хваціраваць. І тая дзевушка, самая паследняя, што была ў залатым доме, гавора:

— Калі ты мне пашыеш такія чаравікі, як у мяне былі ў тым залатым доме, дак я тады ўжо — так таму і быць — што я з табой буду ўжо жаніцца.

Так гэты Дуб-Дубавік выйшаў на вуліцу і пытае:

— Хто во такія-то чаравікі справе, во столькі-то грошы дам.

А [яўрэй] гавора:

— Ах, Іванічка,— а ён здзелаўся Іванічка-п'янічка,— ах,— гавора,— Іванічка-п'янічка, дадзен заказ, штоб чаравікі такія і такія былі, як у гэтыя барыні,— дужа багата грошай дасць!

А ён яму гавора:

— Ідзі бяры задатак і гавары, што я спраўлю.

Ён пайшоў, узяў задатак, даў гэтаму Іванічку. І сказана так: штоб к такому-то ўрэмю былі чаравікі гатовы. А Іванічка напіўся, аб гэта не думае. Гэты яўрэй і гавора:

— Іванічка, што гэта будзе?

— А што?

— А як жа? Саглашаўся. Калі ўмееш шыць, дак і шый! Мне за гэта,— гавора,— голаву знімуць!

Ванька пайшоў, дом раскаціў, чаравікі выняў і аддаў:

— На, нясі! І будуць у цябе спрашваць, хто табе іх шыў — не шыў, а хто табе работаў іх? Ну, ты скажы, што ў мяне е Іванічка-п'янічка!

Жыд і панёс. Узялі гэтыя чаравікі, і дабраў ён сваю астальную плату. Яна гавора:

— Во гэта акурат як мае! Во цяпер я табе шчэ скажу: калі ты справіш мне такое плацце, як у мяне, так таму і быць, што будзем жаніцца з табою.

Ён, Дуб-Дубавік, выйшаў на базар і гавора:

— Эй, вы, партныя-гаспада, ці не можа хто з вас здзелаць такое і такое плацце?

Іванічка-п'янічка і гавора:

— Паднімайся,— гавора,— дзелаць і бяры задатку пабольш.
Да. Ён узяў задатку і прыходзе:
— На табе грошы, ну толькі ці здзелаем, Іванічка?
— Здзелаем, не бойся.
Ужо гэтаму яўрэю трэба несць, а тут плацце не гатова.
— Ах, Іванічка, што будзем рабіць?
— Я не знаю! Што ўмеў, то і здзелаў, ты паднімаўся!
Пайшоў Іванічка, раскаціў дом і выняў плацце.
— На, нясі, дабірай астальныя грошы!
Прынёс і аддаў.
— Вот гэта,— гавора,— маё!— яна ўжо.— От цяпер харашо! Толькі каб у мяне такі вянок быў! Калі скуеш, то ўжо пэўна, што мы з табой будзем вянчацца!
Ужо Іванічка перайшоў у кузніцу. Выйшаў Дуб-Дубавік на базар і кліча:
— Гаспада кавалі! Ці не можаце здзелаць вянок от такі-то, як у мае нявесты быў!
А пачом хто знае, які ён быў. Ужо Іванічка перайшоў у кузніцу і гавора:
— Кузнец! Ступай, паднімайся!
— Ох, Іванічка, як жа здзелаем? Мы здзелаем, які хочаш, а толькі як жа не бачыўшы? Ліцо пад ліцо не падвядзеш!
Ён гавора:
— Не бойся, бяры грошай паболі!
— Ну, харашо.
Ён пайшоў і падняўся.
— Я,— гавора,— зработаю.
— А! Зработаеш?
— Зработаю!
— Вот табе грошай столькі-то! Да сматры, штоба здзелаў.
Прыходжуе ў кузніцу.
— Давай, Іванічка, работаць! Я, брат, гэтага не ўмею, што ўмеў, то рабіў, а то я гэтага не знаю!
— Ты ж каваль, дак даўжон на ўсякія атлічыя работаць.
Напіўся Ванічка да спіць.
— Што, Ванічка, прачынайся, а то галава далой мне.
Да. Ванічка дамок раскаціў, вянок выняў, адташчыў:
— На,— гавора,— аднясі да астальныя грошы забяры!
[Каваль] панёс гэты вянок. І спрашуе ў яго яна:
— Хто ў цябе работае?
— Іванічка-п'янічка!

Запрагае лашадзей, едзе Ванічкі сматрэць. Гэта ўжо яна, яна, чый вянок, і спрашуе ў каваля:

— Дзе Іванічка-п'янічка?

Ванька гэта ўслыхаў, ён узяў січас лёг на стол, ж... выставіў. Пайшла яна ізноў к кавалю і спрашуе ў каваля:

— Скажы праўду, ці іменна гэта ён работаў?

— Я,— гавора,— вам не скажу — работаў ён ці не, толькі ён мне падае!

Яна абратна звярнулася, апяць там к яму. Ён апяць так і ляжыць. От яна на гэта не пасматрэла і прама ў ліцо паглядзела.

— Вот,— гавора,— друг мой любезны, іць я цябе колькі лет ажыдала!

Яны тое шчыталі, думалі, што канец яму там будзе, як ён туды паляцеў. Ну, а яна гэта ведала, што ён як-як да выкруціцца адтуль.

Ну, вот яны і павянчаліся. А Дуб-Дубавік і Гара-Гаравік павянчаліся з тымі меншымі. І сталі жыць да пажываць кожная ў сваём доме.

## 15. [МЯДЗВЕДЖАЕ ВУШКА]

Было ў маткі тры дачкі. Една шыла-вышывала, другая злотам акладала, а трэцяя ў скрыні складала. Яны жылі ў лесе, недалёка іх жыў мядзведзь. Хадзіў пад акно, каб як адну дачку ад маткі ўзяць. То ён ніяк не мог узяць. Прыслаў катка пад акно. Кот прыйшоў пад акно і гаворыць:

— Тылі-тылі, было ў маткі тры дачушкі, една шыла-вышывала, друга злотам акладала.

Старша выбегла за катом. Кот прапаў, а які-то клубочак пакаціўся ў норку. Яна за ім пабегла ў норку, аж там мядзведзь тчэ кросна і гаворыць ёй:

— Дзеўко-дзявіцо, ці не ўмееш кроснаў ткаць?

Яна кажа:

Чаму не ўмею, умею.

Мядзведзь кажа:

— На, патчы,— і даў ёй яблычка і кажа ёй:

— Ты ўсюды, усюды хадзі, толькі туды не ідзі, дзе лычкам завязана, маслам замазана, каўбасой зашчэплена.

Яна ўсюды хадзіла, захацела і туды пайсці. Там людзі нежывыя ляжаць, пабітыя. Яна нагнулася там паглядзець, хто там ёсць, і ўраніла яблычка. Яно памазалася ў кроў. Мядзведзь прыйшоў дадому, кажа:

— Дзеўко-дзявіцо, пакажы яблычка.

Яна паказала. Ён пагледзеў, што ў крыві, павёў яе туды і разадраў, голаў адсек. Прыйшоў кот ужо па другую пад акно. Яна выйшла, кот прапаў, і зноў клубочак пакаціўся ў норку. Яна пабегла за клубочкам, там мядзведзь кросна тчэ і кажа на яе:

— Дзеўко-дзявіцо, ці не ўмееш кроснаў ткаць?

Яна кажа:

— Умею.

Пачала ткаць. Даў ёй мядзведзь зноў яблычка другое і ёй прыказвае:

— Усюды, усюды хадзі, толькі туды не ідзі, дзе лычкам завязана, маслам памазана, каўбасой зашчэплена.

Яна ўсюды хадзіла і туды зайшла. Падышла сястры глядзець, ураніла яблычка. Яна яго падняла, абцірала, абцірала, што яно было ў крыві, паплакала, што і ёй будзе смерць. Прыйшоў мядзведзь дадому і кажа:

— Дзеўко-дзявіцо, пакажы яблычка.

Яна паказала, ён яе павёў туды, дзе яе сястра, і адсек ёй голаў.

Прыйшоў кот зноў пад вакно і трэцюю ўжо паклікаў. І трэцяя выйшла. Кот прапаў, толькі пакаціўся клубочак у норку. Яна за ім пабегла. Там мядзведзь сядзіць і кросны тчэ. І гаворыць:

— Дзеўко-дзявіцо, ці не ўмееш кроснаў ткаць?

Яна кажа:

— Умею.

І ёй даў яблычка і сказаў:

— Усюды, усюды хадзі, толькі туды не ідзі, дзе лычкам завязана, маслам замазана, каўбасой зашчэплена.

Яна ўзяла яблычка, палажыла на кроснах, а сама пайшла. Усюды хадзіла, усюды ўсё пабачыла, па сваіх сёстрах паплакала да і прыйшла ў тую норку. Прыйшоў мядзведзь і кажа:

— Дзеўко-дзявіцо, пакажы яблычка.

Яна паказала, яблычка было чыстае, то мядзведзь думаў, што яна там не была. То ён сказаў:

— Мы з табой пажэнімся.

Жылі яны там, жылі, быў у яе хлопчык, і было ў яго адно вуха мядзведжае — так яго звалі Мядзведжае вушка. Захацела яна, каб як уцячы да маткі да свае. Яна ўзяла Мядзведжае вушка, усадзіла ў купэрак і зачыніла. Прыйшоў мядзведзь дадому, яна яму кажа:

— Занясі маёй матцы попелу, яна прасіла, толькі не адчыняй, бо вецер разнясе.

Так мядзведзь панёс. А там быў не попел, а Мядзведжае вушка. Так ён нёс, нёс, захацелася яму паглядзець. А матка яго навучыла, як толькі будзе мядзведзь адчыняць, то ты гукай у купэрку: «А я чую, а я бачу, што ты хоч купэрак адамкнуць». Так мядзведзь пайшоў. Прынёс да маткі, паставіў да кажа цешчы:

— Я табе прынёс попелу.

Так яна кажа:

— Добра, прынясі яшчэ болей.

Там яго ўчаставала, упаіла, мядзведзь ідзе да калёсамі трасе. А яна яму ўперад сказала, што як занясець той купэрак, то будзе стаяць другі нагатованы. «Як прыйдзеш, так бяры другі і нясі, а мяне не зачапай і не гавары, бо я буду стаяць на жалобе на куце».

А яна ўзяла сноп саломы прыбрала і так завесіла, бытта сама сабе ў вочы. Мядзведзь прайшоў проці яе, не гаворыць, да ўзяў купэрак і панёс. Захацелася яму такі паглядзець, што там ёсць. А яна сама была ў тым купэрку і так гаворыць:

— А я чую, а я бачу, што ты хоч купэрак адамкнуць.

Так ён не адмыкаў і панёс. Прынёс аэноў да цешчы. То ён думаў, што яго яшчэ лепш участуюць, аж ён як толькі паставіў купэрак, то яго і калом прагналі і са двара з таго. Так ён пайшоў ужо плачучы.

Той Мядзведжае вушка быў надта дужы. Так выйдзе на вуліцу, то дзеці дзярэ, то бабы дзярэ старыя, а каторага як возьме за ножку да і пад неба падкіне. То ідуць на яго дзедушку і жаляцца. То ён адзін раз найшоў на вуліцы іголачку і кажа сваему дзедушку:

— Пайдзі, дзедушка, зрабі мне булаву семпудовую.

Дзедушка панёс к кавалю, то там з яго ўсе адно смех састроілі.

— Што ты, старык, зглупеў, каб з іголачкі да зрабіў булаву.

Так дзедушка і прыйшоў дадому. Такі ён сярдзіты на свайго ўнучка і кажа яму:

— Што ты, Мядзведжае вушка, выдумаў, паслаў мяне не знаць куды.

То ён яму гаворыць:

— Нясі, дзедушка, няхай кузнец варыць іголачку, то нешта будзе, а калі не хоч несці, то ўсё раўно, дзедушка, раздзяру цябе да й пад неба падкіну.

Зажаліўся дзедушка да й панёс азноў кузняцу, да і просіць кузняца:

— Пашкадуй мае старасці.

Кузнец пачаў варыць іголачку. Так зварыў семпудовую булаву. Так дзедушка ідзе дадому і смяецца, а Мядзведжае вушка страчае дзедушку да і гаворыць:

— А што, дзедушка, зварыў булаву? То дай я папробую, ці моцная.

Як падкінуў пад неба да падставіў мéзены палец, так булава зламалась.

— То, дзедушка, бяры гэтую булаву да нясі кузняцу, няхай ён яе пераварыць мацней, каб была пятнаццаць пудоў.

Дзедушка панёс, каваль варыў-варыў да наварыў, што ўжо дваццаць пяць пудоў важыць. Дзедушка ідзе да і плача, а Мядзведжае вушка страчае да і песенькі пяе:

— Чаго, дзедушка, плачаш?

— Ах, мой унучак, кузнец булаву пераварыў.

А Мядзведжае вушка ўзяў булаву да як падкінуў пад неба, а падставіў другі палец, так булава анно загнулась. То ён узяў адагнуў да й з дзедушкам распрашчаўся, да й пайшоў. Ішоў ён, ішоў, наўстрэчу яму чалавек ідзе:

— Куды ідзеш, Мядзведжае вушка?

— А ты куды ідзеш, Вярнідуб?

— От ідзем разам.

Ішлі яны, ішлі, ідзе ім наўстрэчу чалавек і пытае ў іх:

— Як вы завецесь?

Адзін кажа:

— Я Мядзведжае вушка.

А другі кажа:

— Я Вярнідуб. А ты як завешся?

Ён кажа:

— Я Вярнігара.

— То ідзем разам.

Ішлі яны, ішлі, зайшлі ў лес. Там стаіць хатка, а ў той хатцы нет нікога. Яны асталісь начаваць. Згатавалі сабе вячэру,

так выходзіць дзед з кокаць, барада з локаць, сем сот смаляной пугі. Як увайшоў, як залясяуў:

— Хто прыйшоў у маю хатку?

А Мядзведжае вушка як узяў булаву да як свіснуў, то дзед аж бораду задраў.

## 16. ВАСЬКА-ПАПЯЛЫШКА

От у некаторым царстве, некаторым гасударстве, можаць у том, у каторым мы жывём, жыў старык са старухай трыццаць тры гады. І не было ў іх дзяцей. Потым нарадзіўся ў іх сын. Рос ён не гадамі — гадзінамі, не гадзінамі — мінутамі. Да выросту сямі лет стаў ужо прасіцца ў свайго айца ў навучэнне, у школу. Айцец яго не мог запрасціць і даў яму волю, дазволіў яму ў школу хадзіць. Прабыў ён у школе тры гады. Стала яму дзесяць лет. Просіць ён свайго айца з'ездзіць у горад к кавалям, здзелаць балдаву па сіле маёй з дроціку, што ён найшоў у попеле. Рыўся пад ямачкай і найшоў дроцік. Ну, потым айцец паехаў к кавалям. Прэжда былі людзі вумныя, узналі, што ён чалавек не прастой, здзелалі яму балдаву дванаццаць пудоў з самай харошай сталі, ну не ўзялі яму работаць з яго зялеза. Потым прыходзіць айцец дамой. Ён сядзеў у вакна, ажыдаў айца, калі ён яму гасцінец гэты прывязець. Як уз'язджаець айцец на дом, ён узлязаець на лавачку і пайшоў кругом столу. Адрэзаў сабе скібачку хлеба і пасыпаў соллю, і ўкусіў тры раза, і выйшаў на двор. Узяў гэту балдаву і паважыў яе. І пусціў яе за-пад бóлакі. Яна як паляцела за балакáмі, многа ўрэмя праляцела, ён уходзіў у ізбу і прахаджваўся. Потым уходзіць на двор і свіснуў маладзецкім посвістам, багатырскім голасам — злятаець гэта балдава. І ён надставіў сваё калена правае, і гэта балдава рассыпалась над каленам на мелкія часці. Ён тады паклон даець бацюшку:

— Што, айцец мой мілы, пажалуста, прашу вас, каб неабхадзіма з майго зялеза здзелалі балдаву!

Так айцец апяць паехаў к кавалям і прасіў іх:

— Што ўгодна з мяне ўзяць, а здзелаць балдаву з гэтага зялеза, майго сына!

Каб яшчэ каваль не страціў, і ўторнуў у шчэлку гэты дроцік.

І потым абдумаўся сматрэць: нацэліваецца гэта зялеза браць у клешчы і класць на [а]гонь. То гэта зялеза яшчэ прыбавілась на пяць пудоў. І для таго, што дванаццаць малайцоў у дванаццаць малатоў дванаццаць сутак білі. А гэта зялеза ўсё прырастала, большала. Потым яны акончылі работу. І насільна дванаццаць чалавек усклалі на воз. Прывозіць айцец яго дамой. Выйшаў ён настрэчу свайму айцу і ўзрадаваўся сваёй рабоце. Потым жа ён апяць, не сматра нічаго, узлез на лаўку, адрэзаў партычку хлеба, пасыпаў соллю і ўкусіў яе тры раза. І выйшаў на дом і праходзіўся. Узяў гэту балдаву за канец і паважыў яе, і пусціў яе пад небяса. Потым уходзіць у ізбу, прыкланяецца айцу і матушцы сваёй:

— Благадарым вас за матушкіна паражджэнне, за бацюшкіна благаславенне, што я не магу з вамі жыць. А благаславіце мяне, я пайду сабе роўнасці шукаць!

Айцец благаславіў яго, азначаець яго:

— Кагда, сын мой мілы, цябе павіджу ў глаза?

Атвячаець ён яму:

— Бацюшка мой любезны, бацюшка мой радзімы! Ежалі я пападу сабе роўнасці ў скорасці, то ты не ўвідзіш мяне нікагда!

Па гэтаму па бацюшкінаму благаславенню ацец-маці плакалі сілна, што жалка свайго рабёнка, што ён так атвеціў ім. Потым ён усовесціў яго славясамі, што, бацюшка, цябе бог не аставіць і без мяне!

Тож бярэць сваю балдаву і ідзець. Заходзіць у Кірсон-горад, заходзіць к кавалю. І здзелаў сабе драцяную плець. І адправіўся пуцём у ход па сваёй дарозе. Ідучы пуцём, падходзіць у сілныя горы. Ажно там Гарын-багатыр бярэць на вілы горы і разнашуець, і раўняець паля, даліны, і пацеху сабе маець ад гэтага. Падходзіць к яму гэты Васька-Папялышка і чалом яму б'ець:

— Здрастуй,— гаворыць,— Гарын-багатыр!

— Здароў!

— Хацеў я тваёй сіле падзівіцца!

— Што,— гаворыць,— маёй сіле дзівіцца? Ёсць нейдзе Васька-Папялышка — у таго ўся сіла!

Ён яму адкрываець:

— Я самы!

— Ну, пойдзем,— гаворыць,— мы за таварышаў, удваіх!

Ён яго прынімаець, і ідуць удваіх. Уходзяць яны ў пушчу, на цёмны лес. Замячаець Васька-Папялышка, што Дубін-багатыр дуб выварачуець: вазьмець за макушку дуба і з корнем вы-

варачуець і размахуець. І гэта за пацеху сабе маець. Параўнялісь яны, два багатыры, і к трэцяму. Гэты жа Васька-Папялышка апяць жа чалом б'ець:

— Здрастуй,— гаворыць,— Дубін-багатыр!

— Здароў!

— Хацеў я тваёй сіле падзівіцца!

— Што,— гаворыць,— маёй сіле дзівіцца? Ёсць нейдзе Васька-Папялышка — у таго ўся сіла!

Ён яму адкрыў:

— Я самы!

— Ну, пойдзем жа мы за дружбу разам!

Сабралась іх тры багатыры: Васька-Папялышка і Гарын-багатыр, і Дубін-багатыр, і пайшлі дальшы. Заходзяць у такія крутыя горы і бальшыя рвы, аж там Камін-багатыр бярэць па тысячы пудоў камень у абедзве рукі і размахуець: камень аб камень пусціць — і яны разбіваюцца. І ён пацеху сабе адгэтуль маець. Потым яны ўтраём ужо яму чалом б'юць:

— Здрастуй,— гаворацъ,— Камін-багатыр!

— Здароў!

— Хацелі мы тваёй сіле падзівіцца!

— Э, што маёй сіле дзівіцца? Ёсць нейдзе Васька-Папялышка — у таго ўся сіла!

— А гэта ж я! А са мной і Гарын і Дубін!

— Да прыміце і мяне да кунпаніі!

— Ну, пойдзем за дружбу ўсе разам!

І пайшлі яны па гэтай пушчы. Находзяць хатку. Проціў гэтае хаткі стаіць баня. Потым яны падходзяць к гэтай ізбушцы, вот гэты Васька-Папялышка гаворыць:

— Вот, братцы, гэта йзбушка будзець пражыванне наша!

Потым астаець ён Гарына-багатыра ізбушку тапіць.

— А мы,— гаворыць,— пойдзем па ахоце прайцісь!

Астаўся гэты ў йзбушцы і затапіў яе. Пратапіў гэту ізбушку і вакошка расчыніў і жджэць сваіх таварышаў. Потым відзіць: аказыецца чатыры галубкі і садзяцца пры гэтай лазні і скідаюцца дзявіцамі. І затапляюць лазню і, пратапіўшы лазню, начынаюць парыцца. Як забачыў ён іх красату, і паўміў, каб іх заперць у лазні. Падышоў пад дзверы і падпёр дзверы плячом, каб іх задзержаць, пакуль таварышы прыйдуць. Ну, яны папарылісь, і ідзець старшая між гэтых сясцёр. Паспробавала адчыняць і гаворыць:

— Вот,— гаворыць,— мае сястрыцы: нейкі ўзгорак натоп, нельзя дзвярэй адчыніць!

Так шчаўком шчаўканула, дэверы адляцелі, а багатыр гэты адскочыў. І яна яму паклон б'ець:

— Здрастуй,— гаворыць,— Гарын-багатыр! Як, пачаму — па няволі алі па ахвоце ты тут ходзіш?

Ён атвячаець ёй:

— Не так па няволі, як па сваёй ахвоце!

Яна яго шчаўком убіла і пад вугол падклала. Потым самі скінуліcь галубкамі і паляцелі.

Ну, прыходзяць яны ■ ахвоты. Тыя ж пайшлі ў [і]збу, а Васька-Папялышка — у лазню. Паднімаець вугол і вынімаець Гарына-багатыра, і дунуў у вадно вуха яму і ў другое — і аджывіў яго. Потым пасядзелі яны і што прыстаралісь ужо на абед, то вялеў Дубіну-багатыру печку пратапіць і згатавадь на абед. Потым таго, пайшлі тожа ўтраіх на ахвоту. Гэты Дубін-багатыр астаўся печку тапіць тожа. Сухога дуба паламаў, у печку наклаў, пратапіў, што было згатаваў. Па ўпраўкі дзелам сеў сабе ў крэселца, вакошка адчыніў і смотрыць, ажыдаець сваіх таварышаў. Потым відзіць ён гэта самае дзела, стаццю: прылятаюць чатыры галубкі, скінулісь дзявіцамі, натапілі гэту лазню. Пратапёмшы і давай парыцца. Тожа гэты ўсматрыўся ў дзявіц і падумаў сабе, што пайду я сабе іх закутаю, пакуль таварышы прыйдуць.

Ну, узяў падпёр тожа плячом дзверы. І ішла другая сястра і таўханулась плячом у дзверы і гаворыць:

— Ах, мае сястрыцы, нейкая гнілая калода падкацілась пад дзверы, нільзя дзвярэй адчыніць!

Яна ж тожа шчаўканула шчаўком — дзверы адляцелі, багатыр адмахнуўся. Яна яму чалом б'ець:

— Стой,— гаворыць,— Дубін-багатыр, пачаму ты ходзіш — па няволі алі па ахвоце?

— Нет, не па няволі, як па сваёй [а]хоце!

Яна шчаўком ударыла і ўбіла і пад другі вугол паклала. Самі скінулісь галубкамі і паляцелі на места на сваё. Ідучы багатыры з ахоты, і ўсе тры: два ж пайшлі ў [і]збу, а Васька-Папялышка пайшоў у лазню; паднімаець вугол і вынімаець Дубіна-багатыра. І дунуў яму ў вадно вуха і ў другое — і аджывіў яго. Уводзіць у йзбу; пакушалі, што ім бог паказаў, і астанаўляюць Каміна-багатыра; самі тож пайшлі на ахоту, на пушчу. І апяць за імі гэты жа самы Камін-багатыр пратапіў [і]збушку, абед згатаваў і тож вакошка адчыніў і жджэць таварышаў. І тож прылятаець чатыры галубкі. Затапілі баню і, вытапіўшы, сталі парыцца. Ён усматрыўся ў іх і паўміў сабе:

— Пайду я закутаю іх, сабе на забаўку.

Пайшоў і падпёр дзверы плячом. Потым ішла ўжо трэцяя; таўханулася ў дзверы:

— Ах,— гаворыць,— сястрыцы, нейкі камень падкаціўся пад дзверы, няможна дзвярэй адчыніць.

Шчаўком як шчаўканула, ён і адляцеў. Яна яму чалом б'ець:

— Здрастуй,— гаворыць,— Камін-багатыр, як, пачаму ты ходзіш — ці па няволі, ці па [а]хоце?

— Не,— каець,— больш па ахоце, чымся па няволі!

Яна шчаўком шчаўканула, убіла яго, вугол падняла і яго падклала. Самі скінуліс галубкамі і паляцелі на сваё места. Скора кажацца, доўга дзеецца. Гэты ідуць з ахоты. Два ідуць у ізбу, а Васька-Папялышка пайшоў у лазню, падняў вугол, выняў Камін-багатыра, дунуў яму ў вадно вуха і ў другое. Аджывіў яго і павёў у ізбу. Потым папішчаваліся, што ім бог паслаў.

— Вот,— гаворыць,— рабяты, адпраўляйцеся вы на [а]хвоту, а вочарадзь мне печку гэту тапіць!

Тыя пайшлі, а ён тапіў не тапіў, узяў прадзіковіну гэту сматрэць. Тожа яны прыляцелі, паскідаліся дзявіцамі і затапілі гэту лазню. Ну, Васька-Папялышка не сагласен к ім ісці. А тожа яны ажыдалі яго. Ён прыгатаваў балдаву і драцяную плець палажыў ля сябе, і ажыдаець іх к сабе ў госці. Ну, то самая малая яе сястра ўзываець сваіх сясцёр:

— Пойдзем-ка к Ваську-Папялышку паваювацца!

Ён з бальшым удавольствам запрашаець іх. Уходзяць яны ў ізбу, нічаго не сматра. Ён згроб іх усіх чатырох у леву руку і ўзяў сваю драцяную плець, і начаў іх па-свойму катаць. І гаворыць:

— Прысягайце: будзеце нашы жоны алі нет? То перастану катаць!

Потым яны адпрашуюцца:

— Васька-Папялышка! Мы б са ўсею радасцю, ну наш айцец не такой! Ён нас усіх заваюець і нас назад адбярэць! І зноў нам жыцця не будзець! Хаця ж ты і дужа сілён і таварышы твае, ну ўсё ж ты атраждзёны і смяротны, а наш айцец ад Паганага Цмока і не смяротны! І ты яго не зваюеш!

Ён, на гэта не сматра, падальшы іх падзёргуваць узяў. І датуля біў, пакамесь яны далі клятву аб сабе: па кому зямлі з'елі, што мы сагласны жыць із вамі!

Потым таварышы яго прыходзяць. І ўзялі яны на радашчу пір піраваць, і піць, і гуляць. Потым выйшла із-за стала стар-

шая сястра прастудзіцца і завідзела сілнае воінства, прамагучую сілу, што ідзець к гэтай ізбе. Ускочыла яна ў ізбу і гаворыць:

— Мае сястрыцы і брахненькі! Вот пакамесь мы жылі! Вас айцец заб'ець і нас забярэць!

Ну, тая сіла ішла, аж маць-зямля стагнала. Потым Васька-Папялышка атвяшчыў:

— Што, рабяты, піце і гуляйце і дзела сатварайце, што я буду павеляць!

Ну, як узялі, падышла гэта сіла, стала хату разбіваць. То гэта хата толькі трасецца, а нічаго яе не бярэць. Час і другі Васька-Папялышка маўчаў. Потым высылаець Гарына-багатыра:

— Выхадзі на гэту сілу ламіць!

Гарын-багатыр як выйшаў, узяў на вілы гару, дык так усю сілу і закрыў! І гуляюць яны апяць жа, нічаго не сматра. Потым выйшла другая сястра на крылцо прастудзіцца. І глянула туды, што пабольшая сіла яшчэ ідзець, як ішла. Вот ускакуець яна ў ізбу і гаворыць:

— Вот,— гаворыць,— сястрыцы і брахненькі, не то была сіла! Вот ідзець сіла: не відаць ні зямлі, ні вады, ні леса — прамагучая сіла! От цяпер жысць наша неспадзежна!

Атвяшчаець ім Васіль-Папялышка:

— Што я вам сказую, рабяты, піце і гуляйце і маё дзела сатварайце, што я буду вялець!

Падышла гэта сіла, дык сталі гэту хатку ваюваць, што толькі калышыцца! А нічо́га ёй не ўрэдзяць. Потым Васіль-Папялышка высылаець:

— Камін-багатыр, выхадзі,— гаворыць,— гэту сілу паламіць!

Камін-багатыр як выскачыў, узяў камні і паўбіваў гэту сілу й усю паразмахаў.

Потым апяць яны пілі, гулялі. Пайшла трэцяя на крылцо прастудзіцца. І ўскакуець скорым поспехам, што яна ўвідзела:

— Вот,— гаворыць,— мае сястрыцы і брахненькі, то была сіла не сіла, а цяпер сабраў наш айцец сілу да белыя галавы (да бабскага палку), і сам услед з пужкаю едзець!

Васіль-Папялышка атвяшчаець тож:

— Не рабейце, рабяты, піце і гуляйце і дзела сатварайце, што я павялю!

Так гэта сіла і ўзяла гэту хатку сваімі парадкамі ваюваць. Той Васіль-Папялышка высылаець Дубіна-багатыра:

— А выйдзі-ка, Дубін-багатыр, гэту сілу паламіць!

Дубін-багатыр выйшаў і ўзяў два дубы за макушкі, і ўзяў кругом сябе водзіць — убіць гэту сілу ўсю! Потым апяць пілі-гулялі, нічаго не сматра.

Выйшла меншая сястра на крыльцо прастудзіцца. І глянула туды, аж едзець сам Паганы Цмок і з пужкаю. Убягаець яна скорым поспехам у [і]збу:

— Мае сястрыцы і брахненькі! Ідзець сам айцец сюды!

Той Васіль-Папялышка ідзець ваювацца сам з Паганым Цмокам. Стаў на стол і ўзяў свой із-за шыі платок і піўны стакан, і ўторнуў у столь нож, і павесіў платок. І прыказыець:

— Вот, братцы мае, піце-гуляйце і гэтага стака́на саберагайце! Як гэты стакан крыві найдзець і цераз пойдзець, то на памогу ка мне выбягайце!

Так яны пілі і гулялі й усе паваснулі. І як яны былі багатыры, дык яны па дванаццаць сутак спалі, а дванаццаць прасыпалісь. Васіль-Папялышка ваюваўсь-ваюваўсь з Паганым Цмокам, рассякаў яго на мелкія часці, ну ён крошка к крошцы зляпліваўся і апяць жа паўзець к яму. То й да таго ў гэтай [і]збушцы, што й па калені крові найшло. Тожа яму помачы нет. Да таго дзела, што Васіль-Папялышка ўмарыўся. І пасільнічаў яго Паганы Цмок — убіў. Увайшоў у вызбу, па[а]трубіў усім багатырам галовы, сонным, і замкнуў сваіх дачок, у запор узяў, на ланцугі, і павёў.

Так удруг — скора гэта кажацца, да не скора дзеецца,— [у]друг аткудава ўзялась кабыла, залатая шарсціна і сярэбраная, і пала перад Васькай-Папялышкай і стала ірзаць, капытамі біць, а ноздрамі попел сабіраць, каторы з яго сыпаўся. Ну й аджывіла яго. Ён уходзіць у ізбушку і бярэць сваіх таварышаў галовы і прытаркаваець к тулаву. І па тры раза дунуў і аджывіў іх. І распрашчэння про́сіць у іх:

— Братцы! Пілі-гулялі, майго дзела вы не споўнілі, хаціце сабе ідзіце сабе ўкучы алі ўрозь, а я [а]дзін пайду Паганага Цмока дабіваць!

Яны атвяшчаюць яму:

— Брат Васька-Папялышка, калі ты яго тут не памог, а ў яго царстве ты яму нічо́га не здзелаеш!

Ну, ён на гэта не самлеваўшыся, сеў на кабыліцу і паехаў. Пытаўся, прапытуваў яго гарадоў і яго царства і пайшоў. Падышоў к яго палатам і ўвайшоў у сад воўся. Сеў пад вінаградам і размысліваў сабе мыслі: якім образам — хоць далёка, але ёсць на яго смерць, што яго можна з свету збавіць? Выйшла

на крыльцо тая царэўна, што абяцала за ім замужам быць і пачала абіжацца на свайго айца:

— Які-та,— гаворыць,— наш бацька не любімы, не радзімы, што ён нас разарыў! Мы б не хацелі яго царства, ні гасударства, з багатырамі б жылі, ніякага гора не мелі!

Заслышаў Васька-Папялышка гэты глас і давай яго клічыць к сабе:

— От,— гаворыць,— любімая мая, я вас буду аднаго дзела прасіць! Каб ты разадзела гэту адзежу і надзела пачышчую і падступіць к свайму айцу з гаручымі слязамі, і спрасіць у яго, дзе яго смерць падзелась? Ну, тры раза,— гаворыць,— будзець шуціць, ■ за чацвёртым праўду скажаць!

Так яна тут здзелала. Скінула гэту адзежу, надзела другую, падышла к свайму айцу і ўкленчыла перад ім, заплакала гаручымі слязмі:

— Бацюшка мой мілы, бацюшка мой любезны, скажы ты мне, пажалуста, як я старшая твая доч: дзе твая смерць, адкуль,— гаворыць,— нам яе дажыдаць?

Атвяшчаець ён ёй:

— Доч мая мілая! Ёсць у табуне карова абгаджаная, у той каровы ў хвасце смерць мая!

Яна павялела яе абмыць і [а]бчасаць і падвяла к яму. А ён усмяяўся:

— Эх,— гаворыць,— дочар мая любімая: у бабы волас довег, вум каротак! Які я,— гаворыць,— буду пісацца несмяротнік, калі гэта карова січас падзець, дык і мне канец?

Потым яна ўспяшыла скорым спехам і атвясціла Васілю-Папялышку тыя словы. А прыказе ён ёй, што пачышчы адзежу надзеньце і яшчэ паласкавейшы паступіце і спытайце пра смерць!

Тож яна зноў надзела дарагую адзежу, падходзіла ізноў к свайму айцу і гаварыла:

— Айцец мой радзімы, айцец мой любімы! Полна вам шуціць! Скажыце мне — як я вашая старшая доч, адкуль мне вашай смерці ждаць? Не верыцца мне, каб яе не было, дзе-небудзь ды яна ёсць!

Тожа ён пачаў апяць жа шуціць:

— Вот,— гаворыць,— доч мая мілая, доч мая любезная, ёсць у стадзе крываротая каза, дык у яе ў рогі забіта мая смерць!

Яна вялела атыскаць крываротай казы ў табуне, вымыла, вычысціла яе і падводзіла к яму. Тожа ён усміхнуўся:

— Я табе сказаў, што ў бабы волас довег, вум каротак. Які я буду несмяротнік: ты бачыш, што гэта каза ледва ходзіць! Яна падзець, дык і мне канец?

Нічога яна не атвяшчала, пасляшыла яна к Васілю-Папялышку ў вінаград. І ўчыў ён яе дастаць [а]дзежу яшчэ луччую і падступіць к яму і прасіць гаручымі слязамі са трудамі. То яна дастала [а]дзежу яшчэ луччую і ўвабралась, і ўкленчыла, падступіўшы к айцу, заплакала, сашчапіўшы рукі:

— Бацюшка мой мілы, бацюшка мой радзімы! Скажы ты мне — як я старшая доч твая, дзе твая смерць? Адкуль мне яе дажыдаць?

Ён тады абсмяяў яе:

— Ёсць свіння абарваная ў стадзе: у яе пад хвастом!

Тож яна чацвёрты раз пайшла к Васілю-Папялышку. Ён каець:

— Дастань ты [а]дзежу, як на небе звёзды, і ўбярысь, і падступі пабліжы, і пакланіся паніжы, то я спадзяваюсь, што ён скажаць праўду!

Яна справіла адзежу такую па ўказу яго, Васіля-Папялышкі, і пайшла к свайму айцу. Падышла пабліжэйшы, пакланілась яму паніжы і стала слезна плакаць:

— Бацюшка мой любезны! Раскажы мне, а йдзе ваша смерць!

То ён думаў, думаў і ўздыхнуў:

— Вот,— гаворыць,— доч мая любезная, хаціцца табе маёй смерці даведацца. Ёсць у такіх-та і такіх-та гарадах крутая гара. У той гары ступа, а ў ступе заяц, у зайцу вутка, у вутцы яйцо, у яйцы смерць мая!

Так яна ўспяшыла к Васілю-Папялышку і ўзвясціла. Васіль-Папялышка, нічога не [а]жыдаўшы, здзелаў сабе кавырку і начаў гару капаць. Паганы Цмок узяў хвараць. Потым ён дакапаўся ступы. Дальшы капаць — заяц выпархнуў і пабяжаў; ён дальшы капаць — вылецела вутка. Потым ён дальшы капаць — находзіць яйцо, на самым дне, у шпунце, у ступе. Васька-Папялышка ўзяў гэта яйцо, перавярнуў ступу і ўзяў гэта яйцо паклаў на дно на ступу і ўдарыў кавыркай. Гэта яйцо на сколькі часцей разляцелась. І на столькі часцей гэтага цара, Паганага Цмока, разарвала. Васька-Папялышка прыйшоў у тое царства, жаніўся на той царэўне і астаўся там жыць.

## 17. ІВАН ПАДВЕЙ

Была сабе кунпанія ў каторым-та царстве, нязвесна ў каторым, у цара. Ну, была, значыцца, кунпанія — развёў сабе цар, абед справіў. Ну, адзін абіраецца і талкуець:

— Прашу вашай міласці, не прагневайцесь,— гаворыць,— я вашу хлеб-соль кушаю, вы не падумайце, каб я вам жалаў,— гаворыць,— а толькі ёсць у вас адна доч, і будзець яна ў цяжары, будзець яна мець у вас сына незаконна!

Цар так тэй старапеў.

— Па чым жа ты так увазнаў, што мая доч так будзець? Адна яна ў мяне доч, і так будзець не ў законе?

— А вот так,— гаворыць,— я ўвазнаў па вашых, значыцца, дзялах. Прашу вашыя міласці, штобы не прагневаліcь!

Тады тэй цар абдумаўся:

— Ах,— гаворыць, не сказаў ім нічога, рассярчаў, не абвясціў тым нічога, быццам аскарбілі яго,— маю хлеб-соль елі і аскарбілі мяне. Адкуль гэта можаць быць? З слуг не пасмееcompletely, а госці то ж сама падступкі не маюць!

Тады абдумаўся, сам сабою думае: «Чымсі я буду аскарбляцца, луччы я слуп замурую без вакон і без дзвярэй, і так, што ніхто падступкі не здзелаець, не падыдзець пад яе!

Адмураваў сабе слуп і січас і запёр яе з нянькай, з прыслугай, значыцца. Абдумалася яна:

— Госпадзі,— гаворыць,— госпадзі, за якую,— гаворыць,— мяне пакуту засадзілі сюды? Чым гэта я заслужыла? Госпадзі,— гаворыць,— госпадзі, хоць бы мне ўвідзець свет, як столькі я сяджу за нейкія пакуты?

Абдумалась:

— Ах, здаецца, хоць ба што-небудзь знайсці да мне сцен расшаваліць, свету ўвідаць!

Тады ўзяла найшла каля сябе іглу і давай раскалупваць каля сябе дзюрку ў сцяну. Калупала, калупала і пракалупала дзюрачку маленькую. І ўзрадавалася:

— О госпадзі! Хоць жа я нямножка, а ўвідала свету сабе!

Ад таго свету — вецер там павеяў — і яна сталася, што не ў такім ужо дзеле. Цераз колькі ўрэмя нянька яе ўзнаець, что як-то яна становіцца дужа груба. Уздзіўляецца гэта прыслуга гэта.

— Ах,— гаворыць,— Машка! Што гэта,— гаворыць,— вы сталі так грубы?

— Ах,— гаворыць,— бабачка мая, сама не магу ўвазнаць, з чаго гэта мне стала!

Данесла цару:

— Нешта,— гаворыць,— наша Машка нешта — я сама не знаю — так груба стала!

Тады ён сам сабе думаець:

— Ці не ў вобмашцы я гэта яе прыставіў? Можа, гэта не бабушка?

Што сам сабе не можаць разабраць вумом, што як гэта можаць быць. Трэба яе ўзяць да пасвідзецелеваць. Зазваў там каторага знаюшчага і пасвідзецеліў. Пасвідзецеліў, тады сам сабе: «Можа гэта ці не ў кунпаніі, тады як абедаў, можа ён дагледзеў гэту штуку, што ён мяне так аскарбіў».

Сам сабе абдумаўся і спрашыець:

— Сколькі то можаць хадзіць жэнскі пол у гэтым дзеле? Зра на чалавека нечага абдумліваць, што гэта можа адтуль, што я бяседу справіў!

Абдумаўшыся, сам сабе думаець: «Не магу я разабраць, трэба людзей распрасіць!» Ну, яму расказалі: «От столькі і столькі будзець хадзіць». Ну, як сасчыталі яму людзі, дак ёй месяца паўтара стала гэта пасля бяседы. Ну, ён абдумаўся: «Так таму ўжо і быць, відаць!»

Цераз сколькі гэта ўрэмя нарадзіўся гэты яго... унук ужо называць трэба. Тады ён сам сабе думаець: «Як нарадзіўся, узяць яго саскарбіць яго!» У некаторых стаў пытацца, у вумных людзей: «Што, як ба мне што зрабіць з гэтым?» Тады гэты суседзі, вумныя людзі, гавораць:

— Гэта не нада! Ужо што здзелалася, пушчай тое і будзець! Патаму за гэта ўжо вы будзеце вінаваты!

Тады ўзялі яго перахрысцілі. А як імя даць па отчаству, дак і самі не зналі.

— Ну, дадзім імя яму Іванюшка!

А яна расказала, як гэта ўсё дзеелась, што ён з падвею стаў. І наклалі званне: Падвей Іванюшка. Ну, не расцець ён так як па гадах, але ўсё роўна як па часах. Аддалі яго ў навукі — дзед абдумаўся. Так што цікава яму паказваецца, так што хто па сколькі вучыцца, а ён у час тое можаць паняцца. Цікаў вельмі. Выйдзець на прагулку гуляць, дак такія штукі выказываець, што к катораму пальцам прыкранецца, дак усё роўна ўбіваець яго. Возьмець такія штукі здзелаець: знімець у каго з галавы куражку, угол паднімець да яе пад угол падложыць. Яны, тыя вучанікі, абдумаліс:

— Як ён можаць такія штукі прыстаўляць адзін? От мы возьмем да яго ўсёй кунпаніяй накажам!

А бацькам баяліся жаліцца. А тады абдумаліся: «Не, не будзем нічога яму дзелаць!» Увазналі, што ў яго сіла такая ёсць. Ну, а ён зазываець іх:

— Што ж вы,— гаворыць,— хадзіце гуляць!

— Ну цябе к ліху з тваёю гульнёй! Што гэта за гульня, што калі прыкранешся, дак чуць жыў ад цябе, ці куражку знімеш да пад угол!

Так што ён расшуціўся, ну-тка за імі ўздагон. А яны:

— Ты нам гэта не таварыш!— гавораць. Да ўскрыкнулі. Як ускрыкнулі, так айцы гэтыя некаторыя пазамячалі.

— Што гэта вы,— гавораць,— дак і вы б яму якую штуку здзелалі.

— Калі ён,— гавораць,— у яго такія дурныя жарты! К каму прыкранецца, дак усё роўна ўбіваець, курашку зніменць да пад угол!

— А чаму ж вы ўпярод,— гавораць,— гэтага не аб'яснялі!

— Мы,— гавораць,— баяліся ўсякую вешч у вушы ўносіць!

Айцы тады даносяць гасудару, яго дзедушку. Гэты дзедушка веры ім не даў. Гэта не можаць быць. Так па[г]лядзіць на яго, дужа яму ўцешна на яго, што ён і навукамі дайшоў, і так маладзец. Ну, а яны гавораць:

— Не нада, штоб ён тутака быў, хай сабе асобя.

Думаў, думаў цар, але ўзяў сам сабе думаць: «Не буду я яго нікуды, хай сабе каля мяне будзець! Хоць ён і які ў навуках, але ўсё ж не ў законе!» І не паслаў яго ў школу.

Ну, цераз скольві ўрэмя выдаўся ён як ужо саўсім узрослы чалавек. Тады ён гаворыць:

— Дзедушка,— гаворыць,— што ж вы мяне нікуды не аддаецё ў навукі? Гэта ж,— гаворыць,— ці мне статак ганяць — з гэтае школы?

— Ах, мой унук! Ці паняўся ж ты,— гаворыць,— гэтай навукі, ці здаў ты акзамінт з гэтыя школы?

— А я,— гаворыць,— больш знаю, чым там яны вучаць! Вот па[г]лядзіце!

Сычас і здаець яму акзамінт. Дзедушка перш узрадаваўся: аддам, думаець. Але пасля абдумаўся:

— Не,— гаворыць,— хай будзець у мяне за прыслугу!

Ну, тады сам сабе думаець: «Што ж гэта, на яго жаліліся, а ён ніякіх заметак не дзелаець тут! Ну ж, няхай сабе, не буду яго прымушаць!»

Ну, значыцца, ляжалі ў яго там капоры. А Іванька гэты шчэ не відаў гэтых штук. Прыйшоў к гэтым капорам і дзівіцца:

— Што гэта за штука, што я яе шчэ не відзеў?

Але думаець: «Мусіць, яна не дужа цяжка, гэта штука?»

А яна будзець пудоў дзвесце. Баіцца ён свайго дзедушкі, каб не замеціў, але дужа хочацца пагуляць з ёй, з гэтай штукай. Тады ён узяў, разгледзеў, разгледзеў, ды сам сабе думаець: «Віць ён не ўвідзіць, ён няйнача шчэ аддыхаець. А як устанець, дак сапагі надзенець, я ўчую, як ён будзець хадзіць». А дзедушка, надзеўшы калёшы, ходзіць па хаце ды глядзіць на яго, што з гэтага будзець. А ён стаіць ля яе ды ўсё яе пакатыець патрошкі. Тады ўзяў гэту штуку, паставіў дубом яе. Паставіў дубом і каець:

— О, казалі, што цяжка, а яна тры хунты ці будзець, ці не?

Гэты дзедушка гаворыць:

— Іванька, што ты гэта дзелаеш? Гэта яна дужа цяжка.

А ён як спужаўся, як кінуў, дак яна ў чэцверць у зямлю ўвайшла. А сам адскочыў ад гэтага места. Тады абдумаўся гэты дзедушка: як бы яго сарваць як-небудзь, ссіліць, каб у яго такія сілы не было. Тады ён думаў, думаў, не мог дадумацца, як ба яму што-небудзь здзелаць. І засмуціўся.

А Іванька гаворыць:

— Дзедушка! Калі вы,— гаворыць,— сярдзіты на мяне, пусціце мяне ў белы свет! Чымсі вы будзеце сэрца імець на мяне!

— А вот,— гаворыць,— унук, загадаю я табе загадку! Калі ты можаш па маёй загадцы ўсё супоўніць, ну тады я магу цябе на свет любапытны пусціць!

— Ну, што ж вы такое мне абвесціцё?

— Ну, а вот такое дзела я табе абвяшчу: як у цябе такая сіла, дак вот, штоб ты мне на тры гады дроў мне расстараўся і вады. Тады я цябе пушчу!

Ну, Іванька гаворыць:

— Калі я гэта дзела здзелаю, каб і вы мне тое здзелалі, што я ў вас папрашу! Вы мне здзелайце такую,— гаворыць,— ляску з зялеза,— не нямножачка, на трыста пудоў!

От дзед гаворыць:

— Ну, здзелаю я табе такую ляску,— гаворыць.

Тады ён узяў:

— Ну, калі здзелаеце,— гаворыць,— дак падзелайце мне такія чапы ваду насіць; я ж гэтымі судамі не буду насіць,— гаворыць.

Тады ён узяў, пайшлі ў провар, пабралі тыя чапы і пачапілі яму. Так што прышодшы ён к вадзе, думаець сам сабе: «Гэта ж я сваімі вёдрамі тут вады не зачаплю, гэта ж мелка тут вада!» Прыйшоў к мору і гаворыць:

— От дзе вада, дак вада! І зачарэпнуць можна. І толькі ж,— гаворыць,— і не мелка тут!

Зачэрпнуў у моры вады і нясець. А дзед смотрыць, што ён так лёгка нясець. Прыносіць ваду:

— А што, дзедушка, ці пастроілі такую дзежку, куды вады ліць, калі захацелі, каб я вам на тры гады вады прынёс?

Ну, дзедушка абабраў там якую дзежку:

— Хай,— каець,— наліваець, а мы будзем адбіраць патроху! Усё ж такі скора не пушчу яго!

У здор, значыцца, пайшоў з ім. Тады гэты Іванька гаворыць:

— От, дзедушка, вы загрозілі мне, цяпер жа бярыце ваду! Я нанашу вады на тры гады, але куды вы яе ліць будзеце? Я тры судны прынясу — вам на тры гады!

— Ну, лі,— гаворыць,— у гэту дзежку.

Ён думаў, не падніменць ён гэтага чапа выліць. А ён узяў выліў адно вядро — чуць не поўна яго дзежка ад аднаго вядра, што ён намеціў на тры гады. А другое выліў, дак і чэраз пабегла.

— Ах,— гаворыць,— дзетухна, досыць вады,— гаворыць,— не трэба!

— Не,— гаворыць,— я шчэ толькі раз прынёс, а вы ўжо спадзеяцёсь, што досыць на тры гады. А я шчэ два разы прынясу! Хоць палац ваш заллю, а прынясу шчэ двое судоў!

Пайшоў, прынёс. І заліваець палацы! Разгуляўся дужа! Дзедушка тэй чуць рук яму не цалуець. Тады ўзяў, прыносіць вёдры гэты:

— Куды ж вам,— гаворыць,— паставіць?

Абдумаўся: «Эт жа ж і ён мне выгоду здзелаў, якую я прасіў!»

Ну, паставіў ля дзежкі і атвяшчаець:

— Трэба б было вам трэція прынесці, але няхай ужо, ладна, як вы просіце!

Тады гаворыць:

— От, ці маё ж дзела споўніцца, што я ў вас прасіў? Калі маё дзела не споўніцца, дак я ўсю ваду прынясу, дак вас, усё роўна як на чаўне, вас у мора знясу,— гаворыць.— Буду ўжо

вашага слова слухаць, што вы скажаце; а як разгуляюся, тады ўжо не па-маломў пойдзець,— гаворыць.

— Споўніцца, споўніцца,— гаворыць,— Ванюша!

— А што ж вам, дзедушка, што вы сказалі, што дровы вам трэба,— гаворыць.— А ў мяне ж сякеры нетуці такой,— гаворыць,— каб вам дровы наваляць!

Даець яму такую-то сякеру. Ён глядзеў, глядзеў:

— Ну,— гаворыць,— ці не сякера ж? Больш я,— гаворыць,— рукой вазьму, чымсь гэтай сякерай!

Як пусціў ён гэту сякеру — зганіў яе, — так яна ўсё роўна як муха паляцела.

— А можа,— гаворыць,— вы маіх дроў не хочаце? Гэта ж я гэтай сякерай не магу насеч!

— Не,— гаворыць,— мне дровы нада, дроў не дарую, дарма,— гаворыць,— што ты маю сякеру закінуў: рубай чым хочаш, мне дровы каб былі!

— Ох,— гаворыць,— дзедушка, не захочаце вы маіх дроў,— гаворыць. Узяў,— ну калі ж вы мяне не пусцілі,— пайшоў у пушчу-драмушчу — грамадная пушча.— Ну,— гаворыць,— тут па маёй сілёшцы і дроў няма! Гэткіх дроў я за тры гады не нанашу!

Сколькі то ўрэмя ён хадзіў, падходзіць к дубу. Ён яму выдарыўся не дужа вялік, ну але больш за другіх — у чатыры ахвата дуб быў. Ён яго з коранем выВернуў, узяў на плечы і нясець і к дзеду, дровы гэты. Пытаецца:

— Дзедушка, павузкія вы,— гаворыць,— вароты выстраілі: мае дровы не праходзяць праз вашы вароты!

А дзедушка думаець: «Няўжо ж такі ён слупы паразварачуець? Слупы ж у мяне крэпкія, каменныя!»

— А,— каець,— якіх ты сабе набраў дроў, такіх і нясі!

— Ах,— гаворыць,— дзедушка, я ж вам па ласцы, а вы ўсё на здор! Ну, глядзіце!

Узяў дуб на плечы; як пайшоў, так галлём слупы па [а]дзін бок і па другі бок і заваліў. Тады дзед гаворыць:

— Ну, я такіх дроў не жалаю,— гаворыць.

А ён атвяшчаець:

— Не,— гаворыць,— толькі ж шчэ адзін ахапачак, а шчэ ж два нада прынесці па вашаму ўказу! А я ж сякеры не маю дроў папарадчыць, дак трэба шчэ два ахапкі прынесці!

Як палажыў свайго дуба, к месту палажыў, дык заняў, што можа сто сажняў дроў стаяла, а ён адным дубам заняў! Як пры-

нес ён яшчэ два дуба гэткіх, дак заняў увесь двор, што не прайсці, не праехаць! Атвяшчаець дзед:

— Які жа ты,— гаворыць,— буян!

Атвяшчаець ён:

— От, дзедушка, калі б я свае штукі паказаў, тады б я быў буян, а цяпер я не буян, я толькі гуляюся!

— А зачым жа ты мне ўвесь двор загрудзіў?

— А вам,— гаворыць,— хацелася, каб я загрудзіў! Вы думалі, што я за пяць гадоў вам гэтага не спраўлю, ну я,— гаворыць,— за [а]дзін дзень усё справіў!

Уздумаў Іван, што траіх судзей вады шчэ не прынёс. Абдумаўся гэта, што ляскі мае няма шчэ. Тады ён узяў:

— Дзедушка,— гаворыць,— ці пастроілі ж вы мне ляску?

— Нашто табе ляска, можаш ты і так прайсці свет!

— Ну, а за што ж я вам служыў, што вы мне ляскі гэтак не пастроіце? Можа, вы за гэта разгневаліся, што я вам дзела не супоўніў, судзей вады не прынёс? Дак я вам супоўню! А мне ляска каб была.

Дзед гэты абдумаўся: «Што шчэ ад гэтыя вады хата не высахла, а шчэ як прынясець, дак размыець. Трэба яму ляску здзелаць! Ну, толькі на ліха яму такая ляска, у трыста пудоў! Здзелаю яму лясачку ў сто пудоў!»

Узяў сто пудоў зялеза, заказаў кавалям, сталі каваць яму ляску.

— От,— гаворыць,— табе, Іван, ляска работаецца, ці ўцешыцеся вы гэтаму дзелу?

— А калі вы па маёй просьбе ляску здзелаеце, дак падзякую, а калі не, дак пад такую штуку падсаджу вас, клінок падаб'ю, і будзеце вы сядзець там па век жысці свае! А я пайду так у свет! Гэта ля мяне не ляска, а так як розка.

— Іванька, вы ж толькі падзяржыце яе, я ж такую дзелаю, як ты казаў!

— Не, дзедушка, вы мяне не абманеце: у мяне прыметкі ёсць,— гаворыць,— я важыць не буду!

Ну, здзелалі кавалі ляску, прызываюць яго к гэтай лясцы, што, значыцца, не могуць павярнуць яе. Прыйшоў ён к гэтай лясцы, узяў яе як пусціў угору, дак яна зазвінела, як пчала,— угору пайшла. Пайшоў ён у хату, вады напіўся, выйшаў на двор, а яна шчэ толькі згары звярнулася. Ён палец наставіў, яна на палец ударылася і разбілась...

— От, дзедушка,— гаворыць,— якая ваша ляска! Прыбаўце,— гаворыць,— вагі столькі, як я гаварыў!

Ну, кавалі тыя ўжо й не рады, што пачалі гэту работу: то нельзя было павярнуць, а тут шчэ прыбаўляць нада! Ну, дзедушка каець:

— Прыбаўце яму яшчэ сто пудоў: мусіць жа ■ яго хваціць!

Прызываець яго туды:

— Акуратна,— гаворыць,— ля цябе саставілі, колькі ты казаў!

— А вот пасмотрым,— гаворыць.

Пусціў яе ўгару, сеў, пасядзеў, наставіў цэўку, руку, яна тож сама ўвагнулася ў дугу.

— Ляска-то ляска,— гаворыць,— яшчэ не зусім! Яшчэ многа трэба! Сколькі то я прасіў, столькі то няма!

Прыставілі яны яму шчэ трэцюю сотню. Ён узяў, на руцэ паважыў, кінуў угару, калена наставіў — яна чуць-чуць выгнулась.

— Папраўце,— гаворыць,— мне!

— Не, мы не можам павярнуць!

Ну, ён ім павярнуў, яны папраўлі. Прыйшоў ён к дзеду, падзякаваў за гэту ляску.

— Пабагаславіце мне дарогу на свет ісці!

— Як жа мне,— гаворыць,— цябе пабагаславіць? Хай ба ты ў мяне быў!

— Ах, дзедушка,— гаворыць,— не [а]дзін то,— гаворыць,— багатыр жыў там, дзе сілу сваю паказаў; але роўны роўнага збіраецца! Не то,— гаворыць,— багатыр, што многа хлеба і грошай маець, а то,— гаворыць,— багатыр, што ён здароў, от то,— гаворыць,— багач!

Цяпер узяў ён (дзед) абдумаўся:

— Дак не будзеце?

— Не!

— Ну, хай гасподзь вам пабаславіць!

Ну, рад ён, што яго на свет пусцілі. Пайшоў тады к матцы:

— Дзякуй вам, маменька, што вы мяне сазрадзілі!

Маменька за яго ўзялась:

— Хто ж мяне будзець прапітываць? У закон я не зайшла, цябе родзіла.

— Ах,— гаворыць,— матушка, тут мая не жысць з вамі! Дзедушка,— каець,— хай мая матушка ў вас застаецца!

Ну, матушка яго пабаславіла. Ён і пайшоў.

Як пайшоў, выйшаў: «Слава табе, госпадзі, што мяне на свет пусцілі! Які,— каець,— харошы свет, як макаў цвет!»

Ідзець ён дарогаю і думаець: «Іду то я, іду, да дзе ж ба мне найсці таварышаў? Што ж я адзін?» Уходзіць ён у нейкае ў царства, ажно там багатыр сабіраець каменне. Ну, такі камень, як будыня, коціць перад сабою ў лог. Узрадаваўся гэты Іванька: «Ціху! І гэта нічога сабе, што ён такія камушкі бярэць і зносіць».

Прыходзіць ён к яму:

— Здрастуй,— гаворыць,— Гаўрылушка!

— Здрастуй,— гаворыць,— Іванька!

— Па чом ты,— гаворыць,— увазнаў, што я Іван?

— А па чом ты,— гаворыць,— увазнаў, што я Гаўрыла?

— Багатыр багатыра,— гаворыць,— далёка знаець па духу.

Тады ўзялі:

— Ах,— гаворыць,— вам добра, вас на свет пусцілі; от мяне,— гаворыць,— от трэба гэтыя камушкі насіць, а не пускаюць!

— Ну, калі цябе,— гаворыць,— не пускаюць, ідзі са мной у таварышы! Крапчэй нас нікога ў свеце няма, што яны нам здзелаюць? Калі возьмуцца за нас, дак мы,— гаворыць,— аднной ляскай на пяць вёрст змахнём; дак от наша будзець тады воінства!

Тады ўзялі пайшлі.

— Ну, пойдзем,— гаворыць,— сабе! Я толькі,—гаворыць,— вас слухаю, а то,— гаворыць,— мяне не пускалі!

— А,— гаворыць,— пойдзем! З імі век не распрашчаешся, як з блохамі!

Узялі пайшлі. Нямножка то яны прайшлі, уваходзяць у другое царства. Ажно гэта то ж самае: стаіць багатыр, як уляжаць плячом у гару, так і турыць яе, дзе лашчына — зямлю раўнуець. Ідзець Іван і гаворыць:

— Аднач і табе харошая праца!

Узяўся з ім за руку і паздраставаўся. Стаў рассаветавацца:

— Сколькі ты на свеце гор спіхнуў?

Ён гаворыць:

— Ох, ужо,— гаворыць,— трыццаць гадоў я на свеце пражыў, дак не адна гара далаўкáх ужо стала! Рад бы адказацца, да няволя мая!

— Пачаму? Пачаму так гэта?

— То служба мая такая!

От ён гаворыць:

— Эх,— гаворыць, а няможна ж яе бросіць, гэту службу?

— Баюся,— гаворыць,— бросіць яе!

— Пакрэпчы нас нікога няма,— гаворыць.— Каго мы будзем баяцца? Пойдзем мы,— гаворыць,— у свет. Свет цяпер вольны, цяперашнім урэмем!

— Да, у свеце,— гаворыць,— мы слыхалі, нет багатыра палуччага, як вы, Іван! Мы б,— каець,— усякія штукі падзелалі, чымсі яны на нас такія пакуты панакладвалі!

— Ат, плюваць,— гаворыць Іван,— свет, як макаў цвет! Пойдзем пагуляем! А мы на гэту службу — забыць думаць!

І ўзялі пайшлі ў свет.

— От,— гаворыць,— толькі тры нас багатыры нашліся! Каб нам і чацвёрты такі багатыр найшоўся!

Тады гэты, Гаравы, гаворыць:

— Я,— гаворыць,— хацеў ба што заслужыць!

— А з нас заслугі хваціць,— гаворыць [Іван].— Іць,— гаворыць,— не [а]дну ж ты гару спіхнуў тут! Вот і заслуга,— гаворыць.

Тады прайшлі яны, ажно такі жа зноў багатыр находзіцца. Узяў — лес то грамадны, а ён за ма́кушкі іх — да знашуець у кучу.

— Здрастуй,— гаворыць,— Лесавы! Што ты,— гаворыць,— лес у кучу знашуеш? Здзелаўся быццам цыган!

— Ад дыму,— гаворыць,— закурыўся, ад агня, — гаворыць,— загарэў!

— Досыць табе гэта, макушкі,— гаворыць,— зносіць; умыйся ты,— гаворыць,— ды хадзі з намі! А то мы,— гаворыць,— утраіх усе белы, а адзін будзець нібыццам цыган межы нас!

Атвяшчаець ён яму, што не магу, гаворыць, бросіць гэтай службы!

— Пачаму так?

— А служба, — гаворыць, — не гаворыць. Лёгшы спаць — сон не бярэць, калі службы свае не супоўніўшы!

Атвяшчаець яму Іван:

— Ніколі мы свае службы не супоўнім! Але возьмем,— гаворыць,— сваю волю і пойдзем,— гаворыць,— у свет.

Гэты Лесавы абдумаўся, што нету ўжо больш пакрапчэйшых апрача нас! Пры таком нашам багацтве хто нам што здзелаець?

Іван спрашыець у яго:

— Ну, ці абдумаўся,— гаворыць,— Лесавы?

— Да,— гаворыць,— абдумаўся.

— Ці вы мяне ўвазналі, Івана?

— Да,— гаворыць,— увазналі! Я слышаў,— гаворыць,— што ў свеце нетуці пакрапчэй вас, Івана!

Ну, угаварыў яго, так ён і пайшоў.

— Толькі ўмыйся,— гаворыць.

— Чым жа як ба б мне тут умыцца, я дужа крэпка загарэў тут!

— Во,— гаворыць,— наша вада ўсё ачысціць.

Сматрыць ён, мыецца, а ўсё чоран. Выняў Іван з кішэні кавалак мыла:

— На-тка,— гаворыць,— з гэтым памыйся!

Стаў ён мыцца. Мыўся, мыўся.

— Ну,— гаворыць,— хоць чоран, а ўсё ж пахож на людзі,— гаворыць.

— Ну, слава богу,— гаворыць [Іван],— больш з нас багатыроў не нада! Каб нам дзе несхадзімую сыйці, найці сабе пасяленне!

А яны атвяшчаюць:

— Як жа,— гавораць,— а бываець нас не могуць спароць з такога пасялення?

— Іць павышы нашых багатырскіх сіл нету пакрэпчы,— гаворыць,— дак мы не баімся,— гаворыць,— нікога!

Тады яны прайшлі то пушчай такой грамаднай, можа яны сутак двое ішлі. Уходзяць, ажно яны там находзяць то нейкі хальварачак.

— Хто сабе,— гавораць,— не будзець у гэтым хальварачку, хто сабе не ўладзенец над ім, але больш не будзець, як мы!

Сталі яны любапыставацца па тым хальварку. Увайшлі яны ў [і]збу, ажно па гэтай ізбе ходзяць — нікога нетуці. Гэты[я] атвяшчаюць яму:

— Тут ніхто не жывець, мусіць!

— А нам,— гаворыць,— што за дзела! Хай сабе хто і жывець, а колі ён наш будзець!

Тады яны абдумаліся, пайшлі ў вабору. І кароў — дак няма, а валоў — дак адны толькі валы. І нязвесна, хто іх пасець, хто іх поіць і корміць. Тады яны ўзялі ўходзяць у ванбар. Ён запёрт. Прыходзіць Іван, бярэцца за клямку, так яно ўсё чыста адчыняецца перад ім. Уходзяць у ванбар, аж там і хлеб і крупы — усяго хватаець, што ім па надабнасці.

— Ну, пакаміcь мы,— гаворыць,— сваё нажывём, дак гэтага нам хватаць будзець усяго!

Сам ён астаецца бытта ўжо поўным хадзяінам, а яны яго прыслугі.

— От,— гаворыць,— братцы, мы багатыры ўсе роўны, ну толькі каму-небудзь нада большаму быць. Я і сам у свет пай-

шоў і вас пусціў. Калі б не пусціў, дак ба ваша несканчынае гора было! Братцы,— гаворыць,— цяпер жа што толькі я вам ні скажу, даўжны вы мяне паслухаць! Усяго з нас хватаець, і трэба ж к гэтаму старацца, каб і было!

Астаўляюць яны:

— Камянны, — гавораць, — Гаўрыла! Аставайся ты дома за повара, а мы пойдзем к гэтаму старацца: трэба ж,—гавораць,— расцерабіць, распахаць, засеяць!

Гэта ўжо пераначаваўшы. Тады яны ўзялі пайшлі.

— А што ж мне,— гаворыць,— на [а]бед прыстроіць вам?

— Схадзі ў хлеў, вазьмі ляску маю ды па ўху завалі,— гаворыць,— валу, так тады вазьмі яго, прынясі ў кухню, аббялі яго да ў кацёл,— гаворыць.

Пайшлі. Тады ён пайшоў той час у вабору, вала гэтага па́ лбу, на плечы, у кухню прынёс, аббяліў да ў кацёл. Так што ён ужо справіўся, сядзіць ля вакошка, паджыдаець іх. Ажно ляціць чатыры пташкі. Селі яны ля лазні, смотрыць ён, што й та з іх пакажацца? Тады відзіць: яны селі быццам то птушкі, абярнуліся чалавечацкай стацёю. Тады ён сабе думаець: «Ну, вот — іх чатыры і нас чатыры: мы падружымся з імі!» Смотрыць, што ж гэта яны будуць дзелаць?

Ажно яны адна бярэць дровы, другая ваду, трэцяя печку затапліець у лазні. Тады яму здалося: «Ну пастой жа, як яны вытапяць гэту лазню, тады я вазьму, падапру іх харашэнька ў лазні, пакуль падайдзець наша сіла. Тады мы іх забяром!»

Тады ўзяў гэта, значыцца, прахцікаваўся: яны сталі мыцца, запёрлісь, ён гэта ўзяў да знаружы і запёр іх, плячом улёг. Тады яны як умыліся, тады ў дзверы.

— Э,— каець,— сяструшкі! Гэта ж нас нехта падпёр!

Чуець ён голас. Цяпер:

— Э,— гаворыць,— не ўправіцца ён пералічыць, колькі на небе звёздаў, як будзець ляцець!

Як стукнула ў дзверы — дак ён не мог абразуміцца, скольki вёрст ляцеў. Тады ўзяў абдумаўся, устаў:

— Ах, госпадзі,— гаворыць,— каб я гэта ліха знаў, дак я б луччы іх не чапаў,— гаворыць.

Узяў пабег у ізбу па[г]лядзіць, ажно нічога няма, што ён варыў. Перша абдумаўся: «Можа валы лічаныя! Але няхай лічаныя там яны ці не лічаныя»,— пабег у вабору, вала гэтага на плечы, апяць на́нава кухню залажыў. І ўстарапіўся гэтаму, штоб яго таварышы не наказалі, што ён дзелаў? Спаў?

Тады ён узяў ды гаворыць:

— Гэта ўсякаму будзець, няхай усякі даведаецца! Не буду казаць,— каець,— хоць і накажуць!

Прабіваець дванаццаць часоў, прыходзіць Іван ужо са сваімі таварышамі.

— Эх,— гаворыць,— Камяннік ты! Нешта ты,— гаворыць,— так праспаў да дванаццаці часоў! Не мог кушання наварыць!— рассярчаў на яго.

Тады ён гаворыць:

— Вінават,— гаворыць,— перад вамі. Больш гэтак не буду!

Іван гаворыць:

— Хоць бы ты сабе й быў, дак другі раз цябе не пакіну! Раз дзела не супоўніў!

Тады ён і рад:

— Ну, балазé гэтак!

Тады ён узяў, Іван, гаворыць:

— Можа табе спрычына якая была, спрэча якая, мітрэнга, спрачаўся хто, дак ты мне аб'ясні,— гаворыць.

— Не,— гаворыць,— нічога не было!

Ну, гаворыць назаўтрага:

— Аставайся ты, Гаравы! Толькі,— гаворыць,— паспяшай, а то,— гаворыць,— трэба і аддыхнуць, і абжыдай, пакуль абед ваш! Гэта,— гаворыць,— нялоўка!

Гэты Гаравы сам сабе думаець: «Пагадзі, я параньшы спраўлюсь!»

Устаў раненька, пайшоў у вабору, валу гэтаму багатырскай ляскай у лоб, за хвост ды й на плячо. Прынёс на кухню ды ў кацёл! Так што ён справіўся і гаворыць:

— Э, што гэта Камяннік дзелаў? Я вот і справіўся, а шчэ чатыры часы да поўдня. А што ён дзелаў?

Сеў ля вакна і сядзіць, справіўшысь. Ажно — відзіць ён — а бач: ляціць чатыры птушкі. Тады ён узяў і гэта сабе думаець: «Што гэта з іх будзець?»

Відзіць ён гэта: селі яны ля лазні. «О,— сабе думаець,— мы тут хадзілі і не відзелі, што тут лазня ёсць!»

Тады яны ўзялі абярнуліся чалавечацкай стацёй. «Што такія гэта за птушкі, што яны чалавечацкай стацёй абярнуліся?» Выдрылася яму, што пярвейшыя ўжо паненкі. Сам сабе думаець: «От, тэтыя паненкі, іх чатыры і нас чатыры, але відаць, што толькі з бальшым прымусам іх узяць можна. А так, відаць, яны за нас не пойдуць. Узяць іх па ласцы з імі, дак яны, значыць, сур'ёзна паступяць, скажуць: «Ото мужык, халоп!

Па сэрцу падайду іх! Найдуць таварышы, пабяром іх! Гэта ўжо байкі, мы іх не пусцім!»

Тады яны сталі мыцца, а ён узяў і падпёр іх. Ды думаець: «Падпёршы палкай, чуць не буду, што яны гаварыць будуць; улягу плячом, дак плячо не палка — не зломіцца. Хоць пачую, што казаць будуць!»

Яны ўчулі.

— Ах, сястрыцы! Нехта ўзяў нас,— гаворыць,— падпёр!

— Ну,— гаворыць,— калі так, ён падпёр, на мала яго турнем,— вярсты на дзве хай адляціць ад нас!

Ён гэта слыхаець і сам сабе думаець: «Гара пакрэпчы вас была, да й то я на лог іх спіхаў. А вас ужо каб я пусціў! Гэта байкі на свеце»,— гаворыць.

Тады яны як ударылі яго, як паляцеў ён — на дзве вярсты. Тады ён, устаўшы ўжо, абдумаўся: «Няўжо ж такі я на дзве вярсты ляцеў? Каб мне гэта змераць, дак некалі — таварышы прыйдуць, скажуць, дзе ты быў? Не так ∎ крэпка ўдарыўся, як я атлуміўся з гэтага пабою!»

Прыбег ува двор — аж яго нічога няма, што ён варыў!

— Ну, вот — папраўся я цяпер!— гаворыць.— А жаліўшысь мне свайму хадзяіну, дак веры ня ймець, скажаць: «Гультай! Я думаў, што ты зробіш харашо, ажно ты шчэ папушчы!» Некалі мне доўга думаць, трэба апяць за дзела брацца! Ну, сказаць ім сваю прычыну стыдна. Трэба лепі маўчаць. Лепі сваё дзела спраўлю!

Пайшоў вала ўбіў знова, кухню залажыў — скора, ужо крута каля яго завіхаўся, каб хвалы сабе папасці сколькі-небудзь. Толькі засланіў, сеў ля вакна ды сядзіць. Прыходзіць хадзяін у дванаццаць часоў, смотрыць:

— Аднача ж,— гаворыць,— мой Гаравы троху,— гаворыць,— параньшы справіўся, але толькі,— гаворыць,— гультаіў троху!

Селі сабе, па[а]бедалі. Сталі аддыхаць сабе. Гаворыць Іван:

— Ну, хоць сабе аддыхнём,— гаворыць,— не пойдзем на работу, лепі заўтра параньшы ўстанем! Знайце ж, братцы, што заўтра Лесавы астанецца...

Назаўтрага ўранні ўсталі — астаецца Лесавы. Спрашыець у яго:

— Што, хадзяін, варыць?

— Іць наша кухня тож неперамянная, як мы самі нажывём тутацькі, тады будзем пераменіваць! А цяпер то ж самае бу-

дзець: у ваборы валоў хватаець, у ванбары круп тож хваціць — вот наша і ўсё!

І пайшлі ў лес. Тут Лесавы пайшоў у вабору, вала ўбіў, на плечы і прынёс яго. Сычас аббяліў, у кацёл яго.

— Аднача,— гаворыць,— усё адна да [а]дна яда,— гаворыць.— Каб не гэты валы, дык бы і есці нечага было!

Тады ўзяў:

— Аднача,— гаворыць,— што яны падзелаваюць! От жа,— гаворыць,— да паўдня часоў пяць, а я ўжо ўсё падзелаў! Памлееўь усё ў печы, нечага есць будзець! Каб я гэту штуку знаў, дак бы з першага дня стаў,— гэтак харашо!

Тады ён сядзіць гэта, высматруець, ажно ляцяць чатыры птушкі. Як селі — чатыры паненкі.

— Аднача ж,— гаворыць,— штукі. Шчэ я і не відаў гэтае лазні, а тут лазня!

Ажно відзіць: адна бярэць дровы, адна — ваду, а трэцяя печку паліць — праз дзверы відно.

— Ого,— кажаць,— гэта ж тут і памыцца можна!

Сабе думаець: «Пагадзі!» Вытапілі лазню яны, сталі мыцца. «Ну,— думаець,— ідзе яны за нас, за мужыкоў, пойдуць? Трэба з імі сур'ёзна — узяць падперці!» Тады ўзяў і падпёр ён іх. «Не гэтакія штукі — лес рваў з каранямі, у груд знашваў, а каб іх чатырох не прыдзержыць? Прыдзержу іх!» Падпёр, сам сабе думаець: «Я то падпёр, а можа і яны якія багатыркі, можа як дадуць, дак я і касцей не сабяру ўкучу!» Тады яны памыліся, стукаюць у дзверы.

— Ах,— гаворыць,— сястрыцы, падпёрты мы!

— Ну, што ж рабіць: падпёрты-падпёрты! Пападзёмся і мы ў іх рукі! Найдзецца такі мацымат, што й нас возьмець! Ну, а ад гэтага шчэ вырвемся!

Тады як далі гэтаму, не на многа ён ляцеў — на вярсту!

— Ах,— каець,— ці я бег, ці я ляцеў, дак і сам не ведаю!— гаворыць абдумаўшыся.— Ах,— гаворыць,— што ж я засядзеўся, каб жа і там што-небудзь не прастрочыць!

Наскакуець ён туды, толькі відзіць, што нехта быў да пайшоў, а штоб заметка — дак няма. Пасмотрыць ён, ажно нічога няма, што ён варыў! Тады ён гаворыць:

— Ах,— гаворыць,— аднача ж,— гаворыць,— таварышы! Адзін аднаму праўды не кажам! Хай ба яны мяне перасцераглі, хай ба я праўду знаў!

Узяў пайшоў, вала ўбіў, на кухню, агонь залажыў і апяць страпаць. Скора ўжо, пашці што параньшы ўсіх ужо. Сабе ду-

маецъ: «Заўтра ўжо астанецца, пэўне, наш хадзяін! Дак ён гэтыя штукі будзець знаць, а мы ўжо не скажам. Заўтра адзін каля [а]днаго пасмяёмся!»

Прыходзіць гэты Іван і смотрыць:

— Аднача ж,— гаворыць,— маладзец Лесавы! Справіўся! От гэта,— гаворыць,— маладзец, за ўрэмя!— гаворыць.

Па[а]бедалі, аддыхнулі ды саветуюцца:

— От, братцы,— гаворыць,— заўтра ўжо вы пайдзяцё ўтраіх, а я астанусь, троху аддыхну! Зварыць — няма нічога, а ў лясу карэння гэтага дурнога паплянтуй, дак троху ў плячах чуць!— гаворыць.

Гэтыя ж рана ўсталі, у лес пайшлі. А ён сам сабе думаець: «А я трошку шчэ паляжу, яшчэ рана кухню раскладаць!» Устаў і пайшоў сам у вабору, расчыніў вароты і гаворыць:

— Аднача ж,— гаворыць,— за тры дні парадашна мы валоў з'елі!

Прыходзіць к валу, шчаўчком яму ў лоб стукнуў — ад шчаўчка гэты вол заваліўся. Узяў за хрыбетную косць і нясець. Аббяліў, абдзелаў, улажыў у кацёл, кухню залажыў, стаў варыць.

— Аднача,— гаворыць,— мусіць, я надта рана залажыў,— гаворыць.— Дак гэта нялоўка будзець. Больш яны гулялі, як дзела супаўнялі!

Сеў і смотрыць.

— Ну іх к ліху і з работай з іхнай — століькі яны мне і там наработаюць! Бяздзельнае дзела — есць зварыць, і то яны мне к урэмю не супаўнялі! А ў лясу ўжо і зусім нічога не зробяць!

Сядзеў, сядзеў, нібыццам удрамаў трошкі. Чуець ён, ажно быццам-то як вецер зашумеў. Туды-сюды ён пасматрыць, палядзеў к лазні, ажно відзіць ён — чатыры паненкі стаіць. Глядзеў ён і сам сабе думаець:

— А бач, гэткія,— каець,— барышні! Ці яны ехалі, ці яны пехатой ішлі? Нада ж такі,— каець,— задрамаў, што не ўвідаў! Ну,— гаворыць,— пагадзі! Я іх,— гаворыць,— прыдзержу! Аднача, мусіць, то й мае,— каець,— з імі загулялісь, а мне й не пахваставалі! Загуляюцца з імі, а мне й не пахваставалісь! От жа,— думаець,— іх чатыры, нас чатыры. Яны ж, можа, каторы з іх прагуліваў, а я гуляць з імі не буду, а пабяру,— гаворыць,— калі ўдасца!

Паненкі пайшлі ў лазню, значыцца, а ён прыйшоў і стаў ля дзвярэй. Тады ўзяў і падпёр іх. А яны тож у скорасці:

— Ці не астаўся,— гаворыць,— тут іх хадзяін, тых, што з намі шуткі закідвалі?

Ён гэта і чуець.

— Іш,— гаворыць,— падляцы! Затым яны і апаздывалі!

Ну, папробавалі яны адчыняць.

— Не,— гаворыць,— сястрыцы, не ў тыя рукі мы папаліся. Няма ў свеце багацейшага, як Іван Падвей! Калі толькі ён гэта, дак не ўжо, не вырвешся! Ну, на шчасце,— гаворыць,— папробуем!

Як вытнула ў яго, дак усё роўна як у гліну ўвязла — і не шавяльнуўся. Гаворыць адна адной:

— Хоць нам усім гэта будзець, а толькі трэба паспробаваць гэта нам усякай!

Стукалі-стукалі, стукалі-стукалі — як у гліну! Тады тойчас узяў ён іх усіх чатырох.

— Ну,— гаворыць,— змірна,— гаворыць,— паненушкі! Вас чатыры, нас чатыры: от нас,— гаворыць,— будзець друж'я!

От, сам сабе аблюбапыставаў меншую. Прыходзяць таварышы, дзівяцца:

— Аднача ж,— гавораць,— як жа вам гэта папалася?

— Ах, вы,— гаворыць,— хахлы! Чаму ж вы мне раньшы не аб'яснілі?

Так гэты Іван распарадзіўся:

— От,— гаворыць,— каму была першая — таму тая, а другому другая, абярыце самі кажан сабе!

Пажаніліся яны і сталі жыць.

— Ну, гаворыць,— нам нільзя жаніцца; наш айцец,— гаворыць,— не то: вас паесць, паесць вас,— гавораць.

А Іван гаворыць:

— Няхай,— гаворыць,— будзем глядзець!

Ну, пажылі яны суткі. На другія суткі прыязджаець к ім Кашч, іхны айцец ужо. Крычыць гэты айцец громкім голасам:

— Адчыніце! Ну, толькі пакрапчэйшых тут няма жыталяў, апроч Івана Падвея! Той толькі вот адзін!

Гэты сыкнуліся к яму, як дзьмухнуў — дак як ком! Выходзіць к яму Іван.

— Ці не воран тваіх касцей занёс?— гаворыць.

— Добры маладзец,— гаворыць,— сам увесь свет абходзіць!

— Ну, што,— гаворыць,— ці будзем мы па ласцы, ці па сэрцу разбірацца?

— А што ж,— гаворыць,— ты ж ужо сэрца паказаў!

— Як?

— А так! Ты ж як дзьмухнуў, дак мае таварышы, як камары, паляцелі!

— Ну, дак будзем,— гаворыць,— драцца. Вот табе шасцігалоўны смок!

— Будзем!

Як узяў Іван сваю ляску, як махануў, так смоку галавы тры далоў! Тойчас як махнуў, так яшчэ тры далоў!

— Аднача, Іван, лепі па ласцы будзем разбірацца! З малай сілай я прыйшоў к табе!

Прыязджаець ён з дванаццаціғалоўным смокам.

— Іван, будзем мы,— гаворыць,— па ласцы разбірацца алі па сэрцу?

— Не,— гаворыць Іван,— шчэ ніколі па ласцы не разбіраўся!

Закалупяць і яго — і ён жа калупаецца.

Як стаў ён сваёй ляскай размахіваць, не памножка ён зімаў галовы — усяго па тры галавы. Зняў усе дванаццаць галоў. Як зняў гэты дванаццаць галоў, абдумаўся гэты Іван, сабе думаець: «Не дасць ён мне жыць! Ён мне будзець зло дзелаць! Трэба ўзяць да яго ўбіць саўсім!— думаець ён.— Калі ж ба і ён мяне не ўбіў, у сэрца ўвайшоўшы. Ёсць у мяне пляшка жывушчыя вады і пляшка гаюшчыя, вазьму я іх ля запаса ў кішэнь сабе!»

Тады ўзяў пляшкі пабраў і ну-тка ўдагон пусціцца за ім. Наганяець ён яго, сам сабе думаець: «Як свісну ззаду! Як дам у галаву, так ён уснець зразу!» Як даў яму па галаве, тады ён гаворыць:

— Ах,— гаворыць,— нешта ў мяне дрыжак!

Замахнуўся другі раз, дак ён:

— Ось якое ліха! Розачка па носу ўдарыла!

Адвярнуўся назад:

— Ох,— гаворыць,— Іван! Не стоіла было са мной чапацца!

Адвярнуўся, шчаўчком у лоб — Іванюшка ўснуў! А Кашч пайшоў назад і ўзяў сваю дачку меншую. Цяпер, пасвіць гэтага Кашча бабушка скот. Натрапіліся каровы на Іваньку, паднялі роў. Прыходзіць гэта баба к яму. А ён да хвастаўся, што быў крапчэй усіх Іван Падвей, а я ўбіў. І дачку меншую адняў! Дык баба чуць чула, што ўбіў, да не знаець адзе.

Ну, падышла яна к яму і дагадалася, што, мусіць, гэта Іван. Тады яна ўзяла ды сама сабе думаець: «Ці ёсць пры ім што?» Ну, яна паглядзела: у адным кішэні пляшку найшла і ў другім пляшку.

— Пагадзі ж,— гаворыць,— што гэта ў яго за зелле?

Узяла палец сабе разрэзала да з адные пляшкі памачыла — яно як бытта пачало згаівацца, выдавала так, што гоіцца. Яна з другой — дак не бы было там нічога. «Пагадзі ж!»

Яна ўзяла зубы разняла яму да з адные пляшачкі вады ўліла. Учула яна, што ён быццам-то падыхаваць стаў трошкі. Узяла другую пляшачку, тож сама ўліла яму — ён стаў прачухацца.

— Ах,— гаворыць,— як жа я смашна ўснуў!

Асматрэўся:

— О, я думаў, што маю ляску хто ўзяў, ажно мая ляска пры мне ляжыць,— гаворыць.

Тады бабушка атвяшчаець яму:

— Віць ты на век жызні тут уснуў, штоб я на цябе не натрапілася! От відзіш, і жану ж тваю ўзялі,— гаворыць.

— Узялі?

— Узялі!

— Ну, шкода,— каець,— ды не ведаю, як гэта павярнуць,— гаворыць.

Тады ён:

— Бабушка! Бабушка! Парадзьце мне, як ба мне гэту штуку паправіць?

А яна яму:

— От жа,— гаворыць,— Іван, вазьміся у яго за пастуха быць! І будзь як можна ласкавей, і пасі скот як найлепі! Ласка пасі! Бо ў яго ёсць казёл белы, рогі залатыя, дак ён яму ўсягды атвяшчаець, як хто пасець. Калі хто ці ўдарыць скаціну, ці што, дак ён і аб'ясняець Кашчу! Ну, а ён гаворку яго знаў. А я там падкачусь к тваёй жане: хай дапытаецца, дзе душа яго ёсць, што яго ніяк не ўб'еш, пакам яго душу найдзеш! Дачка будзець падпытываць у яго!

Тады ён узяў зрадзіўся з ім і стаў ганяць на пасту. А якім жа гэта толкам? Яна, дачка тая, начала плакаць, тужыць, што страх як.

— Аб чым ты,— гаворыць,— тужыш?

— Аб такім і такім дзелу: па вашай,— гаворыць,— душы! Дзе ваша душа?

А яна ўжо з ім пераведалася. Яна ўжо знаець, што ён на пасту ганяець у яе айца. Ну, а Кашч думаець:

— Я ж яго ўбіў, ён цяпер не [а]джывець ужо.

Тады ён абвясціў, што мая душа, гаворыць, у гальні, што каторым хату мятуць!

Яна ўзяла стужак накупляла, галéнь гэты ўвабрала, нянчыць яго і талкуець з гальнём з гэтым. Пачуў ён.

— А з кім ты гэта там гукаеш?

Атвяшчаець:

— З вашай,— гаворыць,— душою!

Уходзіць ён к ёй і смотрыць:

— А дзе мая душа?

— А вот жа, вы казалі, у гальні! Дак я галень прыбрала і гукаю!

Вырваў ён галень, гэты галень на зéмлю як кінуў, гэты галень і рассыпаўся.

— Вот,— гаворыць — якая душа!

Тады яна апяць стала плакаць.

— Аб чым, доч мая, так ты апяць сасмуцілася і плачаш?

— Я ўзрадавалася, што вашу душу найшла, прыбрала яе і стала гукаць, а вы яе ў мяне вырвалі і кінулі. Дак я аб гэтым смутна стала!

— Пачаму вы хочаце маю душу ўвазнаць? Вон,— гаворыць,— белая свіння ходзіць, дак у белай свінні мая душа,— гаворыць.

Яна ўзяла гэтую свінню, стужак насабірала, так што на халсту разныя штучкі падзелала меткамі разнымі, узяла тую свінню прыбрала і гукаець з ёй: гаворыць, радуецца, смяецца, талкуець із ёй. Так што ён узноў учуў.

— А з кім ты,— гаворыць,— доч мая, гукаеш?

— А з душой із вашай!

Ён уходзіць.

— Якая тут душа?

— А вы ж казалі, што ў белай свінні душа ваша, дак я мусіла вашу свінню прыбраць!

Так ён схапіў гэту свінню, як кінець, так гэта ўсё парассыпалась куды каторае. Тады яна стала плакаць, стала плакаць, дужа сільна! Тады ён атвячаець:

— Доч мая мілая, калі ты хочаш маю душу ўзнаць, яе,— гаворыць,— не то што, дак і воран, і тэй не можаць дастаць. Мая,— гаворыць,— душа ў моры, расказую табе ясценна, ясценна. І а штоб яе ўзяць, дак за прыслугамі не возьмеце — прыслуг многа ў мяне. Перва-наперва,— гаворыць,— слуга ёсць воран, другая прыслуга — сокал, затым ёсць у моры камушак, а ў тым камушку ёсць вутка, а ў вутцы яйцо, дак мая душа ў яйцы. Калі хочаш, вот дастань яе сабе там!

Тады яна прыходзіць — як-то там адкралася ад айца свайго,— прыходзіць і гаворыць:

— Іванюша, Іванюша! Далека яго душа, не дастанеш!—гаворыць.

— Хай сабе хоць у трэцім царстве, дак дастану!—гаворыць.

Тады прыгнаў гэты Іван з паствы, узяў сваю ляску маладзецкую ў руку і пайшоў. Толькі прыходзіць к мору, як дасць па мору — січас вада гэта разлягаецца і ён ідзець па сухапуццю. Спраўляецца гэты грук, хочаць крыкнуць. Просіць ён у яго, гаворыць:

— Не крычы, мілы! Ты цяпер у няволі,— гаворыць,— а я пушчу цябе на волю!

Ён гаворыць, атвяшчаець, што я баюсь тых прыслуг, дак я прападу! А ён атвясціў:

— Не бойся,— гаворыць.

Так гэты грук уцішыўся. Падходзіць ён к сокалу. Тэй, гэты сокал, толькі хочаць ускрыкнуць, свіснуць харашэнька, так ён гэтага сокала ўпрасіў — ён уцішыўся. Ворана ўпрасіў,— гаворыць,— і цябе прашу!

— Цяпер вы пасядзіце, пакуль я вазьму, а тады я вас,— гаворыць,— на волю пушчу!

Сокал яму атвясціў:

— Тут будзець,— гаворыць,— коршун, так што прасі яго,— гаворыць,— а то вутка ўвыйдзець ад цябе!

Дабраўся ён да коршуна і ўпрасіў гэтага коршуна. Як даў ляскай сваёй па моры — дабіваецца да таго, што голы камушак ля яго. Як ударыў ляскай па камушку, так камушак гэты разляцеўся! Тойчас вутка з камушка, коршун за яе да яму даў! Ён узяў гэту вутку, раздзёр яе папалам. І яйцо гэта за пазуху заклаў.

— Ну,— гаворыць,— братцы, прашчайце,— гаворыць,—і на свет любапытны ляціце!

— Прашчай,— гаворыць,— Іванька, дзякуй табе! Толькі ж, — гаворыць, — ні па чом не бі яго: ні пó галаве, ні па чом, прама ў грудзі цаляйце яму, абы б толькі тое яйцо разбілась!

Паляцелі, а ён пайшоў туды ва двор на сваю должнасць аццяць. Прыходзіць дамоў — толькі шчэ на золачак займацца стала. Пагнаў ён на пасту і стаў буяніць, стаў гэтых кароў пужкай сваёй сцябаць. Гэты казёл каець:

— Добра, добра!— каець.— Скажу я гэта свайму хадзяіну! Па ласцы ў нас доўга жывуць, па злабé,— гаворыць,— і мінут не бываюць!

Тады ён ужо прыцішыўся перад поўднем і гаворыць на казла на таго:

— Будзець і табе такая частка!

Падганяець пад двор да як секанець гэтаму казлу, дак аж рог зляцеў! Кашч гэта ўвідаў:

— Ах,— гаворыць,— як табе не совесна так біць скаціну! Калі ўжо найлюбейшаму майму — і то рог збіў!

Ён тады не слухаець да яшчэ яму рог збіў перад глазамі ў яго.

— Каб я знаў цябе гэткага, то б я цябе не дзяржаў бы гэткага!

Ён гаворыць:

— А не знаеш жа таго, што й на самаго пагібель прыйдзець!

А ён атвяшчаець:

— А што ж,— гаворыць,— будзець мне?

Тады ён падходзіць пад яго бліжэй, узяў гэта яйцо ў праву руку. Тады выдырылася гэтаму Івану, быццам то стаіць трысценная пуня — такой велічынёй! Ён абдумаўся, гэты Іван: «Хоць ён дужа вялік — ці ўб'ю, ці не ўб'ю, а тым часам вытну яму!»

Як вытнуў яму ў грудзь гэтым яйцом, так ён абясціў:

— Ах,— гаворыць,— Іван, Іван! Не знаў жа я, што ты аджыў гэта ўжо! От калі я сваю галаву палажыў!

І прапаў. А Іванюша на гэтым царстве і астаўся і па сей дзень жывець.

## 18. ПРА ТРОХ БРАТОЎ-АХОТНІКАЎ

Жыў мужык, было ў яго тры сына. Былі яны вялікія ахотнікі; ну як ахотаю ні займаліся, а не было нікаму шчасця. Яны як ездзілі па пушчам і заблудзіліся. Ездзілі тры дні і выбраліся на бальшую дарогу. Яны між сабою гаварылі:

— Пойдзем, браццяя, кажны сваей долі іскаць!

На бальшэй дарозе стаяў стоўб. Ад тога стаўба тры дарогі, а на тым стаўбу тры таблíцы: «Хто паедзець управа, сам будзець сыт, а конь будзець голадзен»; «Улева — лошадзь будзець сыта, а сам будзець голадзен»; «Трэцяю дарогаю хто паедзець, у Вахрамеевым царстве будзець царом».

Былі яны голас у голас, волас у волас, рост у рост як адзін. Іван Іванавіч быў старшы брат. Прыязджаець ён у Вахрамееўскае царства; прыняў яго цар:

— Як цябе зваць? Якія ты знаеш масцерства?

— А я самасільны ахотнік.

Цар яго высылаў на ахоту. Лес быў нісхадзімая пушча. Ідзець звер леў, як крутая гара, проці яго. Ён прылажыўся яго біць, а леў яму гаворыць:

— Не бей мяне, Іван Іванавіч, я табе дам свайго дзіцёнка — ён табе прыгадзіцца.

Маленька прайшоўшы, выходзіць к яму наўстрэчу мядзведзіца. Ён прылажыўся яе біць. Яна і гаворыць:

— Ах ты, Іван Іванавіч, не бей ты мяне; вот табе ў дар медзвянёнка — ён табе прыгадзіцца.

Ён яе не стаў біць. Маленька праходзіць, страчаецца воўк і гаворыць:

— Ах, Іван Іванавіч, не бей мяне!

[Іван яго] не стаў біць, а [ён] яму [даў] ваўчанёнка. Ён купіў сабе лошадзь. Яго лівянёнак, медзвянёнак хадзілі за ім усягда ўслед. Цар Вахрамей абвянчаў Івана Іванавіча на сваей дочке. Іван Іванавіч захацеў после свадзьбы праехаць на ахоту са львянёнкам, медзвянёнкам і ваўчонкам. Была ў гэтым царстве на северную старану захожая пушча. Жана і гаворыць:

— Друг мой мілы, не ездзі ты ў гэту пушчу! Там вялікія халады і лютэя марозы.

Ён ездзіў па старанам і рассуждаў сам с сабою: «Какой я ахотнік, када не буду ў гэтай пушчы».

Узяў і паехаў у гэту пушчу на северную старану. Як уехаў у лес, здзелалась цемень, халодны вецер і люты мароз. І здзелаўся яму вялікі блуд, заблудзіў ён у тым лясу і заначаваў. Відзіць ён, што ідзе-та аганёк далёка свеціцца.

— Ну-ка, леў, ты сілен і прытак, прынясі-ка нам агню! А ты, мядзведзь, прынясі-ка дроў! А ты, воўк, прынясі-ка парасёнка на вужын!

Леў агню прынёс, воўк парасёнка, а мядзведзь нанасіў дроў, а ён агню разлажыў. Сталі яны гэтага парасёнка гатуваць на вужын. У гэтым лясу жыла ведзьма, празывалась Баба Яга Касцяная нага; сама яна была смугаль, а глаза ў яе як вугаль. Толька яны сталі вужынаць, а яна нясецца, ажну трасецца:

— Ах, мілы мой начлежнік, абагрэй мяне, а то я змерзла!

— Ах, бабушка, падзі, грэйся!

— Нет, бацюшка, баюсь ахоты тваей!

— Нябось, бабушка, ступай, цэла будзеш!
— Нет, бацюшка, вырві пяць валаскоў са сваей галавы, з лашадзінай і са сваей ахоты.
Ён вырваў і падаў ей. Яна як дунула, так Іван Іванавіч і яго ахота акамянелі. А жана дажыдаець яго дамой.
Ішоў дарогаю Івана Іванавіча брат Даніла Іванавіч. Страчаецца з ім [ільвіца]. Ён хацеў убіць яе, а ільвіца гаворыць:
— Ах, Даніла Іванавіч! Не бей мяне: вот табе лівянёнак — ён табе прыгадзіцца!
Даніла Іванавіч не стаў яе біць, а лівянёнка ўзяў. Нямнога праехаўшы, страчаецца з ім мядзведзіца. Ён хацеў яе ўбіць, яна і гаворыць:
— Ах, Даніла Іванавіч, не бей мяне: вот табе ў дар медзвянёнка — ён табе прыгадзіцца.
Узяў ён медзвянёнка і паехаў дальшы. Страчаецца з ім ваўчыца і гаворыць:
— Ах, Даніла Іванавіч, не бей мяне: вот табе ваўчанёнка — ён табе прыгадзіцца!
Узяў ён ваўчанёнка і паехаў. Прыехаў ён у Вахрамеева царства. А царэўна думала, што гэта яе муж. А ён уваэнаў, што яна жана братняя. Яна яго цалавала, рукі к сэрцу прыжымала:
— Я думала, што ты аттуда не зварацішся: у нас аттуда звароту нету.
Яна яго паіла і карміла, белу ложу засцілала, спаць яго ўкладала і сама з ім лажылась. Ён між сабою клаў вострую меч нагалі:
— Ну, жана мая мілая, сяннішнюю ноч хто к каму паравернецца, таму галава проч!
Яны праляжалі, не шавяльнуліся. Рана павутру сабіраецца ён на ахоту. Яна яму гаворыць:
— Ах, мой мілы, не ездзі на северную старану: у нас аттэль нету звароту!
Ён ездзіў на ахоту і заехаў у тую пушчу. Стала яму там холадна і заначаваў там. Льва паслаў за агнём, мядзведзя за дравамі, а ваўка за парасёнкам. Сталі яны гатовіць вужын, як ляціць Бага Яга Касцяная нага, сама смугаль, а глазы як вугаль, нясецца, ажну трасецца:
— Ах, абагрэй мяне!
— Падзі, бабушка, грэйся!
— Нет, бацюшка, вырві пяць валаскоў са сваей галавы, з лошадзі і са сваей ахоты!

Ён вырваў і падаў ей. Яна як дунула, так Даніла Іванавіч са сваею ахотаю і акамянеў.

Ехаў па дарозе трэці брат Мікіта Іванавіч. Насустрэчу [ільвіца]. Ён хацеў убіць яе, а яна і гаворыць:

— Ах, Мікіта Іванавіч! Не бей мяне, а вот табе лівянёнка— ён табе прыгадзіцца!

Узяў ён лівянёнка і паехаў. Страчаецца мядзведзіца:

— Ах, Мікіта Іванавіч, не бей мяне: вот табе медзвянёнка— ён табе прыгадзіцца!

Узяў ён медзвянёнка і паехаў. Страчаецца з ім ваўчыца:

— Ах, Мікіта Іванавіч, не бей мяне: вот табе ваўчанёнка — ён табе прыгадзіцца.

Прыехаў Мікіта Іванавіч к гэтаму стаўбу, а ўжо гэты табліцы пасцерлісь. Гаворыць ён:

— Верна, маіх браццяў нету ў жывых! Паеду іскаць сваіх браццяў.

А быў ён сільны, магучы багатыр і храбры воін. Прыязджаець ён к Вахрамееўскай царэўне. Яна здзелалась рада, када яго ўвідала, і пачытала за свайго мужа. Цалавала, к сэрцу рукі прыжымала. Лажыцца ён спаць і кладзець меч пад галавы:

— Ну, жана, сяннішнюю ноч хто к каму пераверненца, таму галава проч.

Яны цэлую ноч не шавяльнуліся. Устаўшы, паехаў ён іскаць сваіх браццяў. Уехаў ён у пушчу на северную старану, пад'ехаў ён к гэтым камням. Паслаў льва за агнём, мядзведзя за дравамі, а ваўка за парасёнкам. Стаў гатовіць вужын. Як нясецца Баба Яга, ажну трасецца:

— Ах, мілы чалавек, пусці абагрэцца!

— Падзі, бабушка, грэйся!

— Нет, бацюшка, дай мне пяць валосікаў са сваей галавы, з лашадзінай, а такжа і са сваей ахоты.

Тада ён і гаворыць:

— Ну-ка, леў, і ты, мядзведзь, і ты, воўк, валакіце-ка яе на агонь!

Вот яна круцілась, круцілась, а яе ахота цярзаець: тада яна як закрычыць багатырскім голасам:

— Ах, Мікіта Іванавіч, не палі ты мяне: я тваіх усіх браццяў ужыўлю!

— Ну, ужыві!

Вот яна як дунула на гэты камні, так яны і здзелалісь людзьмі.

— Ну, Іван Іванавіч і Даніла Іванавіч, паліце яе!

Яе ўзялі і спалілі. Прыехалі яны ўсе трое ў Вахрамееўскае царства. Вахрамей сабраў вялікі бал, і былі ўсе каралі, гулялі яны кала мора (а Баба Яга жыла ў моры). Марская Чудовішча выкінула на бераг пісьмо. Яго і нашлі каралі, а ў ём напісана:

— Іван Іванавіч, Даніла Іванавіч і Мікіта Іванавіч! Як вы пагубілі маю маць, то я пагублю ваша царства, а еслі не хочаш, Вахрамей, штоба тваё царства пагібла, то вывезі сваю дачку ў залатом бярліне на край мора.

Цар Вахрамей пасадзіў сваю дачку ў залатой бярлін і паставіў на край мора. Вахрамей ускрыкнуў:

— Ах, брацця, ці не ўтушыце вы Чуда-Юда, як утушылі Бабу Ягу?

Яны падняліcь яго тушыць. Сталі ноччу кала гэтай карэты.

— Ну, ільвы, дзяржыце крэпка за заднія калёсы; а вы, мядзведзі, ляжце па краям; а вы, ваўкі, када выйдзець ён з мора, хватайце яго за шыю.

У самую поўнач стала валнавацца мора. Здзелалась землетрасенне. Выскачыў з мора, стаў цягнуць у мора бярлін, а львы не пускаюць.

— Ну, мядзведзі, садзіцесь вы яму на плечы, а вы, ваўкі, дзярыце яму ікры.

І парубілі яго на мелкія штукі. Прывязлі мядзведзі царэўну ў царскі дварэц і здзелалі вялікія багамаленні. Івана Іванавіча паставілі царом у Вахрамеевым царстве; Данілу Іванавіча ў Азію, а Мікіту Іванавіча ў Амерыку.

## 19. КІЕЧАК

Жыў стары кароль і меў два сыны. Жыў, жыў і памёр. Засталіся сыны яго самі сабой. Меншы старшому кажа:

— Пойдзем па свеце вандраваць, пабачым, як людзі жывуць.

І падаліся. Ішлі, ішлі. Прыйшлі да такой пустыні, што далей ісці няма куды. Старшы да меншага кажа:

— Утыкнем давай у адно дрэва нашы нажы. Які ножык заіржавее, таго з нас на свеце не будзе, а які будзе чысты, той жывы будзе.

Паляглі спаць паадзіночку. Раніцай старшы бяжыць да дрэва. Выняў нажы — яны чысты, але меншага брата няма. Не

знайшлі брацця друг друга і пайшлі ў розныя дарогі. А нажы засталіся там.

Прайшло тры гады. Старшы едзе і бачыць на дрэве чарапаху. Узяў вінтоўку і кажа:

— Ну, старая, што робіш? Старая не павінна быць на дрэве. Заб'ю.

Яна кажа:

— Не бі. Дам табе кіёчак, удар па той кучы каменняў і ўбачыш, што будзе.

Ён узяў, ударыў, бачыць вяселле. Тады прыстаў:

— Заб'ю, калі не зробіш жывымі ўсіх.

Яна махнула рукой. Народ ідзе ды ідзе, і раптам брат павітаўся:

— Ну, як жывеш?

— Ды вось, як заснуў і дагэтуль спаў, старая махнула — і прачнуўся.

— А ты ўн камнем быў.

Рашылі забіць старую. Старшы ўзяў і забіў. Яна прасілася, што не будзе, але ён забіў. Кажа:

— Колькі народу загубіла!

І пытае меншага:

— Як мы пойдзем цяпер — разам ці паадзіночцы?

Малодшы кажа:

— Не, хопіць, я цяпер дамоў пайду.

Старшы кажа:

— А я яшчэ пайду вандраваць.

Пусціўся ісці. Ідзе, бачыць на дарозе стаіць чалавек.

— Адкуль ты?

— А вось недалёка.

— Куды ідзеш?

— Можа чуў што?

— Не, толькі вось у нашай краіне ў караля ёсць дачка, выбірае жаніха: збірае ўсіх на гульбішча і выбірае.

Ён адзеўся ў парваную адзежу і пайшоў у кагал той. Прыйшоў. Там усе багатыя, пры часах, а ён (Янак звалі яго) абарваны. Але ж адзежа ідзе яму. Нявеста праходзіць усіх міма, яго ўбачыла і зарунілася. Князя сын хацеў жаніцца з ёй, ідзе следам і пытае:

— Чаго затлядзелася на трапішніка?

Яна села за стол і кажа:

— Папанька, я жадаю, каб гэтага хлопца прыўбралі і ён быў у нас кіраўніком.

Бацька кажа:

— Нашто табе абы-якія, ёсць і прыгожыя.

— Не, папанька, я прашу зрабіць так. Сказана мне, што магу выбіраць,— я і выбіраю.

Князі смяюцца ўсе, што трапішніка выбірае. Яна кажа:

— Хоць трапішнік, але падабаецца.

Адзелі яго, прывялі ў кабінет, ён пытае яе:

— Дык падабаюся я табе?

Яна кажа, што падабаецца. Ён махнуў тым кіёчкам, што дала яму старая,— птушкі разам прынеслі багатае адзенне і зброю.

— Вось я які. Я каралевіч з другога каралеўства. Брат пайшоў вандраваць, і я пайшоў і прыйшоў да вас.

Яна абвясціла, што не хоча ісці замуж за князёў. Князі раззлаваліся і пайшлі вайной.

Кароль кажа:

— Прапала маё каралеўства, калі бяруць вайной.

Ён кажа:

— Бацька, можаш спаць, нічога не думай, заўтра разбярэмся.

На яго наступаюць вайной. Ён не турбуецца. І пайшоў ваяваць. Як махнуў кіёчкам, так усіх каменнямі і зрабіў. Бацька думаў, што яго ў жывых няма, а ён ваюе. І перамог чатыры каралеўствы.

Наладзілі гучнае вяселле каралеўны з пераможцам. Потым малады кажа бацьку жонкі:

— Бацька, табе каралеўстваваць над чатырма каралеўствамі, а я пайду да брата пaглядзець наша каралеўства.

Жонка пачала плакаць, каб не хадзіў:

— А то і я пайду.

Ён кажа:

— Я пеша іду, цяжка будзе прайсці ваша і сваё каралеўства, я пасвяціў сябе вандраванню, каб пабудаваць людзям добрае жыццё і зрабіць усё кепскае добрым.

Яна збіраецца і кажа:

— Коней лепей запражы!

Ён узяў яе. Едуць. Праехалі яе каралеўства, едуць на яго. Прыехалі да таго дрэва — братаў нож заіржавеў. Значыць, загінуў брат. Прыязджаюць у палац. Увідалі, што меншы брат памёр у дарозе, а ў палацы жыве намеснік, якога паставілі браты, калі пайшлі вандраваць.

Цяпер гэты намеснік задумаў знішчыць старшага брата.

Прылятае птушка-голуб і брукуе:

— Есці ад намесніка нічога не бяры і глядзі, каб ён не застрэліў.

Ён пытае гэтага намесніка:

— Хочаш быць каралём на ўвесь час?

— Ды хачу, каб ты зноў пайшоў вандраваць.

— Ну, дык мы пойдзем вандраваць!

Махнуў кіёчкам і зрабіў «караля» кучай гною.

Жонка пытае:

— Скажы, мілёначак, што ў цябе за моц. Тады чатыры каралеўствы знічтожыў, зараз «караля» гэтага. Чым ты можаш валодаць?

— Так, ты мая жонка, але сказаць не магу, няможна.

Яна пытае:

— Ну, усё ж любіш мяне, паважаеш. Я табе ўсё гавару, а ты не.

Ён кажа:

— Я табе яшчэ скажу. Брат мой загінуў праз гэта. Я васкрасіў яго, а цяпер загінуў зноў; як загінуў брат, не магу пазнаць.

Яна дала супакоіцца і зноў пытае.

Ён кажа:

— Я скажу, але гэта такая рэч, што божа ўпасі, каб нікому не пазнаць, каб я знаў і ты. З гэтым кіёчкам я прайду ўвесь свет. Як махну да сябе — усе зверы ідуць да мяне і стаяць ля мяне, а адмахну — адыдуць. Калі захачу, зраблю ўсё дрэвамі, каменнямі.

Яна думае.

— Я ўжо ведаю.

І просіць:

— А пакажы кіёчак.

Ён кажа:

— Вось, жонка, я бачу, што ты не справішся; ты просіш такія рэчы, якія нельга паказаць мне. Гэта жыццё наша.

— Гэта цябе не датычыць.

Пачаў угаварваць. Яна кажа:

— А што, цябе апазнаюць, калі ты скажаш гэтыя рэчы?

Ён памаўчаў і кажа:

— Вось праз гэты кіёчак загінуў брат і стаў камнем. Убачыў я старую на дрэве і заўважыў, што яна чарапаха несправядлівая. Я хацеў забіць. Яна казала, што верне ўсіх знішчаных, і брат мой устаў. Рашылі забіць яе — і забілі. І кіёчак дастаўся мне. А старой косці ляжаць там.

Яна кажа:

— Бачу, што ты цяпер мой муж.

Потым думае яна:

— Хіба я не магу быць такой моцнай, як муж? Калі муж засне, я зраблю на ім, а потым адраблю. Я спрабую, а потым назад аддам.

Як махнула — і зрабіла яго на ложку мохам. А потым як не махае — не памагае. Дзень і ноч нічога не зробіць. На ложку мох. Сядзіць і плача. Моліцца, каб адмаліць.

— Аддам усё і не буду цікавацца, толькі б вярнуць яго. Ён усё чуе, але нічога не можа зрабіць. Яна ўсё плача. Потым напаў сон, і яна заснула. Паказвае ён ва сне:

— Дарагая жана. Звяла мяне, сумей і адвесці. Не махай у той бок, у які махала, а махай у другі.

Прачнулася, схапіла кіёчак, махнула і зноў не так. Яна кажа:

— Страбляю сябе. Ну, астатні раз спрабую! — махнула, і ўстаў муж. Ён кажа:

— Я ж табе казаў, але ж ты не слухала.

Яна думае:

— Цяпер, покуль жыць буду, ніколі не буду рабіць.

Сталі жыць і жыць.

Аднойчы ён кажа:

— Паедзем да бацькі ў госці.

Паехалі. Едуць так, едуць. Бачаць — рэчка. Трэба на мост ехаць. Бачаць, што бярвенні тоўстыя, а як ён едзе, яны расступаюцца і становіцца дарога. Яна пытае, чаму так. Ён кажа:

— Гэта табе здаецца.

Пад'язджаюць да ракі, трэба на мост ехаць. Ён у топла паехаў. Махнуў туды-сюды — стала канава. Праехаў — вада стала.

Зноў пытае яго:

— Муж мой каралевіч, чаму мы ехалі па мору, а стала канава, а потым зноў вада?

— Не, гэта ад хуткай язды табе здалося, а мы едзем па сухапуццю.

Едуць далей. Едуць да Нёмана. Вада быстрая. Ён кажа:

— Паедзем праз мост па Нёману.

А маста не было зусім. Ён махнуў і зрабіў мост. І перапрavіліся. Яна кажа:

— Муж мой, я ўсё ведаю. Кінь ты ў Нёман палку, а то мы ўсе загінем.

— Ну, супакойся, жонка, пабудзем у бацькі, зноў паедзем. Ніхто ў свеце мяне не знішчыць, пакуль кіёчак не пападзе ў чужыя рукі.

Едуць. Сустракаюць іх у густым лесе бандыты. Яна як убачыла і самлела. Ён кажа:

— Не трывожся, праедзем.

Ён кажа бандытам:

— Што вам трэба?

Яны кажуць:

— Чаго шукалі, то і дасталі, шукалі караля і знайшлі.

Ён памахаў, узяў і паставіў іх слупамі.

Едуць ля слупоў, яна і кажа:

— Госпадзі, божа, былі бандыты, сталі слупы.

Просіць мужа:

— Муж, дарагі, адрабі зноў. Шкада іх.

— Што іх шкадаваць. Многіх знішчылі яны.

Ад'ехалі вёрст шэсць, яна кажа:

— Зрабі зноў іх, яны не дагоняць.

— Ну, калі ты такая, зраблю.

Засвістаў вецер. Застала ноч. Чуюць топат. Ён кажа:

— Гэта так, як у лесе ехалі, шумеў лес, табе і здаецца зараз. А сам назад глядзіць. Едуць на конях бандыты і крычаць:

— Стой!

— Стану!

Махнуў — і яны застылі без руху. Ён просіць:

— Падходзьце.

Падходзяць. Ён кажа:

— Што вам трэба?

— Тваю смерць.

Ён кажа:

— Вось, дарагія, вас жонка выратавала першы раз, а цяпер хопіць.

Махнуў кіёчкам і зрабіў усіх бандытаў пыллю.

Прыехалі да бацькі. Яна з'явілася страшэнная. Бацька шкадуе яе. Яна кажа, што недаспала. Бяседуюць. Маці да яе прыстае:

— Ну, як відаць, жыццё тваё кепскае.

— Не, маманька, усё добра. Адна рэч мяшае.

— Ох, дачанька, трэба сказаць.

Бацька таксама патрабуе. Яна сказала. Калі ён лёг спаць, у яго аднялі кіёчак. Дочка кажа:

— Маманька, не рабі яго, а то зробіш і не адробіш.

Маці не цярпіцца, цікава. Усе заснулі. Яна ўстала і захацела спрабаваць.

Як махнула — палyглі ўсе каменнямі, а яна адна засталася. Як ні плакала — нічога не зрабіла. Хутка і яна загінула: сэрца разарвалася.

Жонка мужа дома выратавала, а прывезла да бацькоў — і сама загінула. Каб у маткі сэрца вытрымала, то і адрабіла б, а так усё каралеўства загубіла.

## 20. КАЦІГАРОШАК

Неўкаторым царстве і неўкаторым гасударстве, на мора-акеяне, на востраве на Буяне стаіць дуб зялёны, а пад дубам бык пячоны, і ў яго баку нож тачоны, і сейчас ножык дабываецца — ізволь кушаць! І то яшчэ не казка, толькі прыказка, а хто маю казку будзе слухаць, так таму собаль і куніца і пракрасная дзявіца, сто рублёў на свадзьбу, а пяцьдзесят на прагулянне.

Быў сабе мужык, і быў у яго саламяны язык, і меў ён два сына і адну доч; хаця яна стану простага, але неапісанай красаты. Айцец і маць былі дастатачны; паработалі яны сваё хлебапашаства сваім парадкам ва ўрэмені, і іх айцец гаворыць сынам:

— Дзеці, не нада спадзявацца на гэта, што ёсць, не спадзявацца на гэта, што зроблена, а нада шчэ прызапасіцца. Пушчай будзе!

Адпраўляюцца яны ў чужое панства на хлебапашаства і бяруць хлеба на тры дні.

— Кагда вы той хлеб з'ядзіце, вам сястра прынясець больш.

А ім было ісці так, як бы цераз Гарадзілаўскі лес. Сястра і гаворыць, што я не буду знаць, куды несці вам есці. Старшы брат гаворыць:

— Мы будзем для цябе дарогу адзначаць, будзем салому трусіць па гэтай дарозе, проста к нам прыйдзеш.

І яны пайшлі і дарогу азначылі; а ў том лесе быў глаўны змей і тыя разгаворы слыхаў і пераслаў дарогу ў свой дварэц. Як выйшла тры дні, адпраўляецца яна к ім з абедам.

Пайшла яна і прыходзіць проста ў змяіны дварэц. Пацярала пуць-дарогу і гаворыць:

— Куды я зайшла?

Выходзіць к ёй сяміглавы змей і гаворыць:

— Пайдзі, пайдзі сюды, умніца! Я цябе даўно дажыдаў, я да цябе даўно дабіраўся! Ну, як ты харошага айца і мацяры, яны цябе трымалі пад бальшым надзорам, я не мог да цябе дабіцца. Я бы не сматрэў, што ты простага роду, я бы табою не брэзгаваў, даўно была бы мая, а уж цяпер іменна мая! Забывай айца і маць, бо ты ўжо іх відзець не будзеш, а ў мяне будзеш ты ўсім давольна.

Брацця яе пахалі тры дні і не стала ім пішчы; яны бросілі пахаць і прыходзяць дамой і з вялікаю гразою к айцу і мацеры:

— Адчаго вы не прыслалі пішчы?

Айцец гаворыць, што вам сястра панесла такога-та дня. Яны гаворацъ к айцу:

— Кагда яе ўжо няма, то і не будзе.

— Я пайду,— сказаў адзін,— сваю сястру шукаць, хоць жызнь сваю палажу, а пайду шукаць.

Айцец гаворыць:

— Не ідзі, сынок, бо сваю жызнь кончыш, а яе ўжо не ўвідзіш.

А ён гаворыць:

— Пайду!

І прыходзіць ён к гэтаму самаму змею і відзіць яну на дварэ. Яна яму гаворыць:

— Зачым ты сюды прыйшоў? Ты сваю галаву палажыш. Я цяпер няшчасная, я цяпер не твая сястра, а ты не мой брат. Папалася я ў катаржныя рукі.

Брат гаворыць:

— Пушчай жа я здесь пагібну, абы я на цябе насматрэўся.

Яна яму гаворыць:

— Пастой ты здзесь, а я пайду спрашу, што ён скажа, што ты прыйшоў у госці.

Прыходзіць яна к змею ў спальню:

— Штоб ты, душанька, дзелаў, каб мой старшы брат у госці прыйшоў?

Ён гаворыць:

— За госця прыняў бы.

Яна выйшла і ўводзіць яго ў горніцу, ён устаець із койкі сваей і зачаў гадаваць яго, як добры чалавек.

— Ступай, жонка, прынясі жалезнага бобу і жалезнага хлеба... Ну, кушай, швагер.

Узяў яму ўрэзаў хлеба, ён узяў хлеба і зёрнушка бобу, падзяржаў і палажыў.

Змей гаворыць:

— Верна ты, швагер, сыт, бо ты гардзіш маім хлебам і солю. Пайдзем жа цяпер пасмотрым, ці ты багачы, ці я?

І павёў яго па ўсім харомам, і ёсць у яго ўсякага дабра відзіма і нявідзіма. Павёў яго ў канюшню к лашадзям, і стаіць у яго дванаццаць жарабцоў, і ўсякі жарабец на дванаццаць цапоў прыкован.

— Ну што, швагер, ты багачы ілі я?

Ён яму атвячаець:

— У мяне таго трэцяй долі няма, што ў швагра.

— Ну, пайдзі жа за мною, я табе пакажу штуку.

І прыводзіць яго к калодзе чатыры сажні таўшчыны, а дванаццаць дліны.

— Ці відзіш ты, швагрэ, тую калоду?

Ён яму гаворыць:

— Віджу.

— Еслі ты яну без тапара парубаеш, а без агню спаліш, так пайдзеш дамой.

А ён гаворыць:

— Хоць сейчас ты мяне парубі, а я гэтага не зраблю.

— Кагда ж ты гэтага не здзелаеш, полна табе сюда хадзіць, дураку — мужыку, саламянаму языку, а ты са мною пабратаўся! Калі ты мне брат, то і свіння сястра! Ты не толькі са мною рэчы гаварыць, не даўжон на мяне глазам пасматрэць, бо ты не дастоін сюды хадзіць і мой дом пакасціць!

І ўбіў яго і глазы выняў, улажыў у чарапок, а яго ўзяў за валасы і павесіў на бэльцы.

Цяпер і другі брат пайшоў шукаць сваёй сястры і найшоў яну на дварэ ў змея.

Яна яму гаворыць:

— Ах, брат! Уб'ець ён і цябе так, як першага.

— Пушчай уб'ець, абы я з табою відзеўся.

— Пастой жа тут, я пайду запытаюся, што ён скажа.

І прыходзіць яна к змею ў спальню. Ён устаець із сваей койкі:

— Што скажаш, жонка, віджу я твой усердны від і пакорнае ліцо.

— Ах, мілы мой муж! Што б ты рабіў, каб втарой мой брат у госці прыйшоў?

— Што б я рабіў? За госця прыняў бы.

Яна гаворыць:

— Можа прынялі б яго так, як першага.

— Я першага ўбіў, бо ён са мною грубіў, не ўмеў са мною чэсна абхадзіцца. Пушчай прыходзіць, гэтага я прыму.

Яна выходзіць на двор і гаворыць брату:

— Пакорна абхадзісь.

— Давай, жонка,— гаворыць змей,— жалезнага бобу і жалезнага хлеба.

Яна прыносіць паўхлеба і чашку бобу.

— Бо старшы твой брат недаволен быў, то можа мала было, вазьмі гэта, а прынясі больш.

А госць і ў рукі не ўзяў, гаворыць:

— Пакорнейша благадару, швагер, бо я есць не хачу.

— Пайдзем жа мы, швагрэ, пасмотрым на маё багацтва, ці ты багачы, ці я?

І павёў яго па ўсім сваім харомам, і відзіць ён, што змей багат, багат — незлічыта! Прыводзіць яго змей у сваю багатырскую канюшню. Стаіць дванаццаць жарабцоў, і каждая лошадзь на дванаццаць цапоў прыкована. Ён гаворыць змею, што ў мяне трэцяй долі таго няма.

— Ну, пайдзі ж, я табе пакажу штуку.

І паказаў яму калоду — чатыры сажні таўшчыны, а дванаццаць дліны, і гаворыць:

— Відзіш ты тую калоду? Еслі ты без тапара яну парубаеш, без агня спаліш, то пайдзеш дадому, а не то будзеш вісець з братам.

Швагер яму сказаў:

— Хоць сейчас убі, а не зраблю гэтага!

Тойчас змей яго ўбіў, умесце валасы звязаў і чэраз бэльку перакінуў. Прыходзіць ён у свае палаты і відзіць жонку ў бальшой таске і ў жалобе.

— Ах, мужу, ты мой мужу! Што ты мне зрабіў? Братоў убіў, я не маю больш ні роду, ні племені, толькі айца і маць. Прыдай і мяне злой смерці, пушчай не буду жыць!

— Нет, мілая! Я табе таго не здзелаю, а калі б дастаў айца і маць, то і іх убіў бы, то б ты ні аб ком не думала і вясельшая была б. Пушчай жа яны жывуць і клоч'я жуюць, а мы хлеб, бо ў іх нет.

Пайшла матка па ваду, узяўшы вёдра, і, набраўшы вады, ідзець дадому, вельмі плача і думаець яна сабе ўсердным думкамі:

— Ах, божа мой! Чаго я цяпер даждалася на старасці!

Узяў гасподзь яе ўсерднае ўздыханне, і ўдруг відзіць яна — каціцца гарохавае зернушка. Яна думаець сабе: «Гэта дар божы!» Узяла яго і з'ела. З гэтага зернушка ўдруг завязаўся ў яе рабёнак, і вынасіўшы сваё ўрэмя, дажыдаець, што доўжан ён нарадзіцца на сей свет.

Вот палеглі спаць, і ў самае паўночнае ўрэмя, на ўціхаміры і гласіць у яе ў брухе чалавечаскім голасам:

— Не спадзявайся мяне, маманька, у скорае ўрэмя, бо я зашчытнік буду вам і добрым людзям.

Панасіла яго яшчэ некалькі ўрэмені, і раждаецца ён на сей свет і расцець не па гадам, а па часам, як пшоннае цеста на дражджах; і пестуюцца і цалуюцца з ім, як не нада луччы, і даюць яго ў школу; каторыя вучыліся гадоў па тры-чатыры, а ён узнаў у адзін год, і не стала яму граматы. Прыходзіць ён з учылішча к айцу і мацеры:

— Ну, татанька і маманька, благатварыце маіх учыцелей, бо ўжо мне хадзіць у вучылішча поўна. Я благадара бога знаю больш іх. І прашу вас з усім усердзіем сказаць мне праўду, какой я ў вас ёсць? Чы я раждзён первы, чы паследні?

Яны гаворать:

— Ах, сыну наш мілы, ты ў нас паследні.

І сказалі яму па ісцінай праўдзе, што ў яго было два брата і сястра.

— А дзе ж яны дзеліся? Калі памерлі, то я не супраціўнік богу, а калі што зрабілася ад худых людзей, то я магу ўзыскаць.

Яны яму гаворать:

— Ах, сыну наш мілы! Як жа ты ўйдзеш і нас пры старасці, дрэўніх людзей, бросіш? Хто нас да смерці дахаваець?

Ён ім гаворыць:

— Чый вы прэждзе елі хлеб, той вас будзе харапіць, бо мяне вы не ўдзержыце, мяне людзі даўно ждуць. Ну, маманька і татанька, лажымся спаць: утра мудраней вечара; дасць бог дзень, дасць бог і пішчу.

Павутру ён устаў, умыўся і богу памаліўся і на ўсе чатыры стораны пакланіўся.

— Пазвольце, бацькі, мне перад паходам пагуляць.

Ну, пайшоў сабе на вуліцу гуляць і находзіць ён шпільку і прыносіць к айцу і мацяры.

Гаворыць ён айцу:

— На табе гэта жалеза, нясі да каваля і здзелай мне булаву сяміпудаву.

Айцец яму славесна не гаворыць, а толькі ў думках думаець: «Даў мне гасподзь дзецішча не так, як людзям; я ж давёў мяго да срэдственнага розуму, а ён цяпер і з мяне кпіць! Можаць лі то быці, штобы з шпількі была булава сяміпудава?»

Айцец, імеўшы бальшую сумму — залатую, сярэбраную і бумажную манету,— паехаў у горад, купіў жалеза сем пудоў і даў кавалю дзелаць булаву. Здзелалі яму булаву сяміпудаву і прывозяць дадому.

Пакацігарошак выходзіць з горніцы, бярэць сваю булаву сяміпудаву і слышыць нябесны штурм і пушчаець яну за облакі. І прыходзіць ён у сваю горніцу:

— Матка, на ў мяне ў галаве паішчы перад паходам, а то мяне бруд заесць, бо я млад юнаша.

Вот устаўшы з маткіных кален, выходзіць ён на двор і відзіць нябесныя тучы. Упаў ён да сырой зямлі правым вухам і, устаўшы, клічаць свайго айца:

— Бацька, падзі сюды, сматры, што шуме і гудзе, мая булава да зямлі ідзе.

Паставіў ён калена проціў сваей булавы; ударыла яго булава па калене і пераламалася папалам. Ён рассердзіўся на свайго айца:

— Ну, айцец, адчаго ты мне не здзелаў булавы з гэтага жалеза, што я табе даў; а калі б ты здзелаў, то яна не зламілась бы, толькі сагнулась бы! На ж табе гэта самае жалеза, ступай дзелай, свайго не прыкладай.

Кавалі ўкінулі жалеза ў агонь і зачалі малатамі біць і цягнуць і здзелалі булаву сяміпудаву, шчэ асталося.

Бярэць Пакацігарошак сваю булаву сяміпудаву і адпраўляецца ў пуць, у чыстую дарогу, і прыходзіць ён к гэтаму самаму змею сямігаловаму, дзе находзяцца яго браты і сястра.

Выходзіць яна к яму наўстрэчу, ён з ёй здароўкаецца і гаворыць:

— Здрастуй, мілая і радная сястра!

Яна атвячаець:

— Какой ты мне брат!

І ён падаець ёй айца і мацяры рукапісанне, што ён ёсць радной яе брат.

— Пастой жа ты, брацец, здзесь, а я пайду спрашу, што змей на атвет скажа.

Прыходзіць яна ў яго багатырскую спальню. Змей у яе спрашываець:

— Ах, жонка, ты да мяне не з вясёлым відам ідзеш!

— Я прыйшла да цябе, мой мужу, што мой самы меншы брат прыйшоў у госці.

— Аж у цябе не было больш братоў, як толькі два.

— Ён раждзён без мяне.

Зараз змей устаець і бярэць валшэбніцкую кнігу, смотрыць і мовіць да жаны:

— Ну, жонка, шчэ будзе ў цябе брат! Калі ён безурэменна ўрадзіўся, я з ім разгаварываць мала буду; ступай прызаві яго.

Пакацігарошак уходзіць да яго ў комнату:

— Здрастуй, швагер!

— Але ты шчэ млад, бо ў цябе мацярына малако на губах не засохла! Калі б цябе маць вынасіла шчэ дзевяць дзён, дзевяць часоў і дзевяць мінут, то б ты мой супраціўнік быў, але пагасці...

І становіць яму жалезнае крэсла. Як ён на крэсла сеў, крэсла і трэснула.

— А што, швагер, у лясу жывеш, а ў цябе крэсла худыя, ай лі нет у цябе плотнікаў харошых, штобы крэсла здзелалі пакрэпча?

Змей думаець сабе: «Верна, я папаўся ў добрыя клешчы».

— Ну, давай, жана, нам напіткаў і наедкаў.

Прыносіць яна рэшата жалезнага бобу і жалезнага хлеба.

— Ізволь кушаць, швагер!

— Благадару, швагер,— гаворыць Пакацігарошак,— я без усякай просьбы буду кушаць, так як у свайго, бо з паходу я есці хачу.

І стаў есць умесце з ім: той з'есць хлеба кусок, а гэты з'есць два.

— Даволен лі ты, швагер, у мяне?

— Даволен-недаволен — калі больш няма!

— Ну, пайдзем, швагер, пасмотрым на маё багацтва, ці ты багачы, ці я?

І павёў яго па ўсім сваім дабры.

— Як табе здаецца, у цябе больш ілі ў мяне?

— Я не багат, але ў цябе няма нічога!

Ён гаворыць:

— Ты, швагрэ, са мною грубіш. Ну, пайдзі ж, я табе пакажу штуку.

І прыводзіць яго к гэтай самай калодзе, куда і братоў прыводзіў, каторая чатыры сажні таўшчыны, а дванаццаць сажон дліны.

— Кагда ты яну без тапара парубаеш, а без агню спаліш, так пайдзеш дамой, а не — так будзеш там, дзе і браты!

— Не сярдзісь, дай мне дзела кончыць!— сказаў Пакацігарошак і ўзяў мезенным пальцам таркануў сію калоду, так яна ў мелкія друзгі паляцела, а як дзьмухнуў — попел стаў, аж не было!

— Ну што? Я сваё дзела споўніў.

— Пайдзем цяпер пабораемся, ці ты сільней, ці я?

Пакацігарошак гаворыць яму:

— Дай руку, я падзяржу, папробуемся так, хто сільне[й]!

А змей гаворыць:

— Дзе табе, малакасосу, за руку мяне брацы!

Ён кажа:

— Усё едзінственна нам пабіцца

— Ну,— гаворыць змей,— на табе руку.

Пакацігарошкава рука толькі пасінела, а змяїная рука з усімі пальцамі засталася ў Пакацігарошка.

— Аднача я тым недаволен,— гаворыць змей, і як дзьмухнуў — зрабіў медны ток. А Пакацігарошак як дзьмухнуў — зрабіў сярэбраны ток.

І схваціліся яны бароцца. Як дзьмухнуў змей, убіў Пакацігарошка ў сярэбраны ток, а Пакацігарошак як дзьмухнуў, убіў змея ў медны ток адразу па калена. Змей як дзьмухнуў другі раз — убіў Пакацігарошка па калена, а Пакацігарошак як дзьмухнуў другі раз, убіў змея па пояс. Змей гаворыць:

— Пастой, швагер, аддахнем.

— Шчэ не очань патамілісь,— кажа Пакацігарошак,— я з паходу, да і то не ўмарыўся.

Змей да яго гаворыць:

— Відна, швагер, я ў цябе пагіб!

Пакацігарошак кажа:

— Бо я за тым прыйшоў.

— Астаў мне сколькі-нібудзь жызні,— просіць яго змей,— і бяры сабе залатую, сярэбраную і бумажную маю казну, колькі ўгодна.

— Я б аставіў табе жызні на сколька-нібудзь, але ты мяне для первага случая абясчэсціў, назваў малакасосам, то мне очань цежало знесці. Нет табе прашчэння! Больш з табою і гаварыць не хачу.

Змей, упаўшы ў вялікую злобу, распусціў сваю кроў па ўсім сваім жылам, даў прастор сваім рацівым плячам і ўдарыў Пакацігарошка і ўбіў яго па пояс.

— Ну што, нацешыўся, швагер?— гаворыць Пакацігарошак.— Ды поўна мне з табою шуткі шуціць! Бо я, дурак, перад табою доўга балую, даўно бы нада цябе прыбраць.

Як ударыў яго Пакацігарошак трэці раз, убіў яго па самую шыю ў медны ток і бярэць ён сваю булаву сяміпудаву і кончыў яму жызнь. Ды ўзяўшы змея, замазаў яго зусім у медны ток.

І пайшоў Пакацігарошак у багатырскую канюшню, дзе сталі багатырскія жарабцы; узяўшы першага жарабца за хвост, ён дзёрнуў із яго тулуном шкуру, выпатрашыў яго і сам у гэтае тулабішча ўлез. Прылятае крук з кручанятамі і началі есці. Ён адно кручаня і злавіў за нагу, і гэты воран стаў чалавечаскім голасам гаварыць:

— Хто ў том тулабішчы есць? Акажысь.

— Я, Пакацігарошак.

Крук яму гаворыць:

— Што ты ад мяне жалаеш?

— Што я ад цябе жалаю? Прыстаў мне цалюшчай і жывушчай вады, а калі не даставіш, то сколькі вас есць — усе пагібнеце.

Тагда крук, узяўшы пузыркі, паляцеў за трыдзевяць зямель у дзесятае царства, іншае гасударства і дастаў вады з-пад вялікай стражы і прыносіць Пакацігарошку.

Палучыўшы сію ваду, Пакацігарошак для вернасці ўзяў яго дзіця за обе нагі і разарваў папалам.

— Я цяпер уверую, ці верная лі вада?

Ён адной вадой памачыў, стала кручаня цэла, а другою памачыў — і кручаня аджыло, стаў благадарыць і пусціў яму дзіця. Цяпер ён прыходзіць к сваім братам і ўзяў памачыў іх цалюшчаю вадой, і сталі яны цэлы, а другою памачыў — сталі жывы. І прыводзіць ён іх да сястры.

— Ну, сястра і брацця! Бярыце залатую, сярэбраную і бумажную казну, сколькі вам угодна, і нясіце дадому.

І пайшлі яны ўсе ўчацвяром.

Вот браты, увайшоўшы ў лес, і прывязалі Пакацігарошка к дубу.

— Браццы! Што вы робіце нада мною?

— Какой ты нам брат? У нас брата не было і не будзе.

Ён, адпусціўшы іх ад сябе на небальшое растаянне і ўзяўшы сабе вялікае злобіе, выкруціў дуб з корнем і павалок за імі. Выходзіць ён із лесу і, увідзеўшы свой дом, сваё жыцельства, прыходзіць дамой і крыкнуў на айца і маць:

— Ізвольце вам дроў!

— Ідзі, сынок, у хату.

А ён гаворыць:

— Я баюсь, калі ў лесе хацелі мяне спатрабіць, то ў хаце тым лучча. Прашчайце, айцец і маці, браццы і сястра! Жывіце сабе з богам.

Пайшоў ён назад. Шоў, шоў, і пападаецца яму наўстрэчу Вярнігара.

— Здрастуй, брат Пакацігарошак! Куды ідзеш, куды пуцьдарогу дзержыш?

А Пакацігарошак спрашывае ў яго:

— Хто ты есць такой?

Ён яму атвячае:

— Я есць сільна магушчы багатыр Вярнігара.

— Ці хочаш быць маім таварышам?— гаворыць Пакацігарошак.

А ён:

— Можна! Хачу табе служыць.

І пайшлі яны ўмесце. Шлі, шлі, і пападаецца ім наўстрэчу сільна магушчы багатыр Вярнідуб.

— Здраструйце, браццы!

— Здароў!

— Какія вы людзі есць?— спрашывае Вярнідуб.

— Пакацігарошак і Вярнігара.

— Куды ж вы ідзеце?

— Мы ідзем у такой-та горад. Змей людзей выядае, то ідзем яго біць.

— Ці нельзя мне к вам у таварышы прыстаць?

— Можна!— гаворыць Пакацігарошак. І прыходзяць яны ў горад і яўляюцца цару.

— Какія вы людзі есць?

— Мы сільна магушчы багатыры.

— Ці не можна вам сей горад зашчыціць? Унадзіўся змей і губіць многа народу, трэба яго пабядзіць.

— Нашто ж мы называемся сільна магушчы багатыры, штобы яго не пабядзілі?

Прыходзіць самая поўнач, і пайшлі яны пад калінавы мост, на огненну раку. Вот прыходзіць шасціглавы змей і астанавіўся над мастом, і сейчас конь заржаў, а сакол зашчабятаў, а хорт заскімліў. Ён каня ў лоб:

— Ты, чортава сцерво, не ржы, а ты, сакол, не шчабячы, а ты, хорт, не скімлі! Бо тут есць Пакацігарошак. Ну,— гаво-

рыць,— выхадзі, Пакацігарошак! Ліба будзем біцца, ліба мірыцца?

Гаворыць Пакацігарошак:

— Не затым добры маладзец ходзіць, штоб мірыцца, толькі затым, штоб біцца.

І началі яны стражацца. Пакацігарошак з таварышамі сваімі збілі ўтраіх змею па галаве.

Змей, відзеўшы, што, верна, трэба яму пагібнуць, гаворыць:

— Ну, браццы! Толькі Пакацігарошак мне цешаець, я бы з вамі з двума ўправіўся.

Вот яны сталі яшчэ стражацца і пабядзілі паследнія галавы, каня змяінага ўзялі ў стайню, сакала ў клетку, а харта ў псарню, а Пакацігарошак узяў павырэзваў языкі з усіх шасці галоў і палажыў сабе ў карман, і тулабішча скацілі ў вогненную раку. Прыходзяць яны к цару, і Пакацігарошак прыносіць яму языкі для іменнай праўды. Цар іх благадарыць:

— Віджу, што вы есть сільна магушчы багатыры і зашчытнікі горада і ўсяго народа! Што вам угодна піць і есць, бярыце ўсякія напіткі і наедкі бяздзенежна і бясплатна.

І з радасці ўдарыў ён публікацыю па ўсяму гораду, штоб былі адкрытыя ўсе трахціры, кабакі і малыя карчмы для сільна магушчых багатыроў. Вот яны хадзілі саўсюду, пілі, гулялі, прахлаждаліся і разнымі славамі забаўляліся.

Прыходзіць ноч, і ў самую поўнач ідуць яны пад калінавы мост на огненну раку, і ўдруг падходзіць сяміглавы змей. Сейчас конь заржаў, сакол зашчабятаў, хорт заскімліў. Змей сейчас каня ў лоб:

— Ты, чортава сцерво, не ржы, ты, сакол, не шчабячы, а ты, хорт, не скімлі! Бо тут есць Пакацігарошак. — Ну, — гаворыць ён,— вылазь, Пакацігарошак! Ліба будзем біцца, ліба мірыцца.

— Не затым добры маладзец ходзіць, штобы мірыцца, толькі затым, штобы біцца!

І началі яны стражацца, і збілі багатыры змею шэсць галоў; седзьмая засталася. Змей гаворыць:

— Дай-ка аддыхнем!

А Пакацігарошак гаворыць:

— Не дажыдай, каб я табе аддыхаць даў!

Сталі яны апяць стражацца, збіў ён і паследнюю галаву, павырэзваў языкі і палажыў у карман, а тулабішча бросіў у огненную раку. Прыходзіць к цару і прыносіць языкі для іменнай праўды.

У трэці раз тож паўночна ідуць яны к калінаваму масту і к огненнай рацэ, удруг падходзіць к ім дзевяціглавы змей. Сейчас конь заржаў, сакол зашчабятаў, а хорт заскімліў. Змей каня ў лоб:

— Ты, чортава сцерво, не ржы, ты, сакол, не шчабячы, а ты хорт, не скімлі, бо тут есць Пакацігарошак. А ну, вылазь, Пакацігарошак! Ліба будзем біцца, ліба мірыцца.

Пакацігарошак гаворыць:

— Не затым добры маладзец ходзіць, штобы мірыцца, толькі затым, штобы біцца.

І сталі яны стражацца, і збілі багатыры восем галоў, дзевятая засталася. Пакацігарошак гаворыць:

— Дай-ка аддыхнем, нячыстая сіла!

Яна гаворыць:

— Аддыхай не аддыхай, а са мною не свладзееш; ты і братоў маіх пабядзіў абманам, не сілаю.

Пакацігарошак не столькі ваюець, як думаець, як бы змея абмануць; аднача і здумаў і гаворыць:

— Да шчэ вашага брата многа есць і ззадзі — усіх прыбяру!

Удруг яна аглянулася, а ён і дзевятую галаву зняў, павырэзваў языкі, палажыў сабе ў карман, а тулабішча ў огненную раку бросіў. Прыходзяць яны к цару. Цар гаворыць:

— Благадару вас, сільна магушчы багатыры! Жывіце сабе з богам і з радасцю і з міласцю, а бярыце, сколькі вам нужна золата, серабра і бумажнай манеты.

Пасля сяго ўсе тры змяіныя жаны сышліся ў адно места і ўкладываюць между сабой савет:

— Адкудава яны ўзяліся, што нашых мужоў пабілі? Не жэншчыны мы будзем, еслі не звядзем іх са свету!

То меншая гаворыць:

— Ну, сястрыцы! Пайдзем мы на бальшой дарозе, куды яны будуцьісці. Я зраблюся пракраснаю койкаю, і яны, утаміўшыся, як сядуць на койкі, то ўсім тром будзе смерць!

А другая гаворыць к ей:

— Када ты ім нічога не зробіш, то я зраблюся яблынькаю над бальшою дарогаю, і як стануць яны ка мне падходзіць — возьме іх прыятны запах, а як папробуюць тых яблык, то ўсім будзе смерць!

Вот пад'язджаюць багатыры к пракраснай койке; Пакацігарошак махнуў па ей наўхрэст сабляю — дык палілася кроў!

Пад'язджаюць яны к яблыньцы.

— Брат Пакацігарошак, давай з'ядзім па яблычку,— гавораць багатыры, а ён кажа:

— Када можна, браццы, так з'ядзім, а када няможна, то дальш паедзем.

Выймае ён саблю і махнуў яблыньку наўхрэст, і палілася ўдруг кроў. Паспяшаець за імі трэцяя змяя і пусціла сваю пасць ад зямлі да неба. Відзіць Пакацігарошак, што ім каратко прыходзіцца; як спасцісь? Аглядаецца ён і ўвідаў, што яна на яго напіраець, і бросіў ёй тры кані ў рот. Паляцела змяя да сіня мора ваду піці, а яны ўшлі дальш. Наганяець яна абратна. Відзіць ён, што яна блізка, і бросіў ёй у рот тры сакалы. Апяць змяя да сіняга мора паляцела ваду піць. А яны ўшлі дальш. Аглядваецца Пакацігарошак, змяя апяць яго наганяець, і відзіць ён сваю няўстойку, узяў да бросіў ёй тры харты ў рот. Апяць яна да сіняга мора паляцела ваду піць, пакудава напілась, яны шчэ дальш ушлі. Аглядваецца ён і відзіць, што апяць яна даганяець; Пакацігарошак, узяўшы абоіх таварышчэй, і ўбросіў у рот. Змяя паляцела да сіняга мора ваду піць, а ён дальш. Даганяець яна апяць, ён аглядваецца, відзіць, што недалёка, і гаворыць:

— Госпадзі, сахрані мяне і спасі маю душу!

І відзіць ён уперад сабе жалезны завод і ўпадаець у гэтую кузніцу.

Кузняцы гавораць да яго:

— Што, чужастранны чалавек, так абрабеў?

— Пачценнейшыя гаспада! Сахраніце мяне ад нячыстай сілы і спасіце маю душу.

Яны ўзяўшы кузню заперлі наглуха.

— Аддайце маё,— гаворыць змяя.

Вот кузняцы гавораць ёй:

— Праліжы жалезны дзверы, а мы яго табе на язык паложым.

Яна пралізала дзверы і язык у сярэдзіну ўсадзіла. Кузняцы ўзялі ўтраіх гарачымі кляшчамі за язык і гавораць:

— Ступай, чужастранны чалавек, што хочаш з ёю рабі.

Ён выходзіць на двор і давай біць і пабіў на ёй шкуру да касцей, а косці да мазгоў і ўзяў яну з усім тулабішчам закапаў на сем сажон глубіны.

Вот ён і цяпер жывець да клоч'я жуець, а мы хлеб, бо ў яго нет! І я там быў, мёд-віно піў, па барадзе цякло, а ў губе не было.

# 21. КАЦІГАРОШЫНКА

Жыў купец з жонкаю, двумя сынамі і красавіцай-дочкай. На ўсё імушчаства купец накупіў тавараў і паплыў морам. Выскачыла пад тэй час непагадзь — бура, ад яе купец і затануў са ўсім дабром.

Купчыха дужа пячалілась і ташнавала па мужу. Яшчэ не аправілась ад гэтай бяды, глядзіць — за варотамі другая бяда.

Раз у ясны дзень дзеці яе прагулівалісь у сваім саду, за камяннной сцяной; аткуда ні вазьміся на тэй час, на ту мінуту люты змей Шкурупей; не ўспелі браццця абразуміцца ад страху, а ўж ён у цёмным воблаку панёс іх мілую сястрыцу.

Купчыха чуць не аслепла ад гора, усё плачучы; а браццця паехалі ў пуць-дарогу за сястрою.

Купчыха без сыноў жыла плоха, абядняла, сама таскала ваду. Тры гады мінула, як паехалі сыны; аб іх ні слуху, ні духу. Ідзець купчыха за вадою, прытамілась сільна, несшы поўныя вёдры; прыстоіла аддыхнуць: «Вот да чаго дажыла!»

Глаза ад бальшога гора і кручынушкі слязамі супоўніліся. Выкацілась слязінка із глаза і ў вядро канула, сію мінуту стала белай адборнай гарошынай. Спанравілась яна купчысе; та праглаціла яе і забрэменела, хоць і сама не знала, адчаго гэта.

Радзіўся мальчык на дзіва ўсім красівы, здаровы. Кумы знясли мальчыка хрысціць папу, тэй не хаціць:

— Не паверу, штоб такей здаравенны малец радзіўся ў старухі.

Цераз нескалькі дней поп сам наведаўся к купчысе; купчыха яму ўсё адказала, нічога не ўтоіла.

Поп мальчыка ахрысціў, назваў яго па случаю Кацігарошынкай.

Не па дням, а па часам рос Кацігарошынка, дайжа, так сказаць, па мінутам; учыўся ж харашо і скора пісаць і чытаць стаў не толькі што лучча за мальцаў, лучча саміх учыцеляў.

Таварышам гэта была завісна. Раз гэта із іх кампаніі і назаві Кацігарошку ...

За абіду паказалась Кацігарошку, к мацеры пабег, стаў жалавацца; жалкуецца і аб бацьку распрашыецьц.

Як услыхаў Кацігарошка, што сястру змей скраў — матка ўвесь расказ, усю історыю гнала па парадку,— гаворыць:

— Благаслвіце, матушка, у пуць-дарогу!

— Куды ты, сынок, паследняя мая радасць і ўцяшэнне?

— За сястрой! І не затрымаць вам мяне, мамінька,— луччы атстаўце!

Дала яму іголачку і сваё радзіцельскае благаславенне.

Із даму Кацігарошка ідзець к кузняцу:

— Перакуй на тросць іголачку!

Кацігарошка як падбросіць скованую тростачку, а ладонь падставіў — тростачка і сплюшчылась, у ёй была ажно дваццаць пяць пудоў.

Ізнову скаваў тростачку; аб багатырскае калена ўдарылась і зламалась.

Трэці раз выйшла добрая тросць: як падмахнуў яе ўверха Кацігарошка, ажно зазвізжэла да прама яго па галаве — асталась цэла, і галава тожа цэла, толькі воласы на ёй дрогнулі.

— Гэта тростачка па мне!

Зашагаў багатыр далей, у пуць-дарогу.

Даходзіць да большэй раўніны; там канюх стада лашадзей пасцівіць.

Як увідзеў Кацігарошку, канюх давай крычаць:

— Не хадзі, не хадзі: на верхняй дарозе жарабец цябе затопчаць.

А ён усё ідзець і ідзець. Як жарабец набросіўся, ён яго схватаў за хвост да аб землю ўдарыў і шкуру сташчыў.

— Во ты мне сваею лашадкаю хваліўся, а таперыча шкуркаю палюбуйся!

Плачаць канюх: загубіць яго тапер змей Шкурупей. Кацігарошка, як услыхаў аб Шкурупеі, рад, што на след напаў, ідзець к змею; на дарозе яшчэ аблупіў быка-бадуна, та ж сторыя і з баранам-бадуном.

Прыходзіць к возеру, у возера расцець магучы дуб, а пад тым дубам находзіцца мужаственны чалавек.

— Якога ты роду-племені?

— Завусь я Кацігарошынка, а іду я к змею Шкурупею. Вот ты мне пакажы дарогу.

— Пяцьдзесят лет я берагу возера свайго гаспадзіна, змея Шкурупея, і яшчо нікаму не паздаровілась, хто са мною ў бой уступаў. І ты, млады в'юнаш, лішышся січас жызні, еслі далей пайдзеш. Вот, вот сюда к возеру, а потым к дварцу, што віднеецца там, на гарэ, падляціць сам мой хазяін, люты змей Шкурупей. Ён на два аршыны вады выпіваець і на аршын зямлі паядаець, і крэпка-накрэпка ён прыказаў мне нікога не прапушчаць к яму ў дварэц.

Кацігарошынка задраўся с мужаственным чалавекам, забіў яго і ўж ідзець у Шкурупееў дварэц.

Там у вакна сядзела скучая Купчыхіна дочка; як увідзела чалавека, здзівілась і дужа абрадавалась.

Кацігарошынка шапку зняў, на галаву пісьмо ад мацеры ўзлажыў і стаў на каленках перад вакном.

Сястра ўзяла ў рукі пісьмо, нескалькі раз прачытала яго, ну ўсё яшчэ сумлівалась, што Кацігарошка яе брат, тады толькі паверыла там, як ён у дом увайшоў: замеціла яна, што ён на маменьку пахож.

— Пажалей ты сябе, Кацігарошка, і ўвыйдзі адсюль, пакуль яшчэ жыў; а браццю тваё тут уж жысць сваю прыкончылі.

— Не! Не за гэтым я сюды прыйшоў, і, пажалуста, сястрыца, не ізвольце сумлівацца: я з ім спраўлюсь.

Схавала сястра, як магла толькі, свайго брата. Ляціць січас змей, скінуўся чалавекам і стаў із сябе красівым і стройным молайцам.

— Хто-та ёсць у нас із рускіх!— сказаў змей.

— Гэта ты па Русі налятаўся, рускага духа нахватаўся!

Кацігарошынка не сцерпіў, крычыць змею:

— Гэта я прыйшоў к табе ў госці.

— А, гэты ты, Кацігарошка, ну, ідзі на глазы.

Кацігарошка ўсходзіць у комнату к змею са сваею тростачкаю.

— Ну, падаць нам абедаць!

Усе кушанні былі згатаваны як надабе быць, толькі напаследак Шкурупей справіў сабе алавяных, медных і чугунных арахоў; так кусаў ён іх, што яны скрыпелі то і дзела ў яго на зубах, а сам іскоса паглядаець на Кацігарошку, ці спужаўся ён.

— Ці відзіш ты, як я лушчу арахі?

— Ды віжу! Гэта мяне не ўстрашаець: грызі сабе.

— Ну, так пайдзём у поле ля паядзінка.

Прыйшлі ў поле.

— Дуй сабе поле.

— Ля мяне і гэта харашо.

Змей Шкурупей стаў дуць, і пад ім здзелалась зямля медная, а на ёй слядоў не відаць.

Кацігарошка дзярэцца тросцю, а Шкурупей — рукамі і нагамі; прытаміўся змей і на тры дні просіць воддыха.

Кацігарошка даець яму воддыха толькі на тры часы, з тым яшчэ, штоб Шкурупей указаў, куды ён падзяваў яго брацця.

Шкурупей не хаціць, быцца'к не знаець; потым вядзець Кацігарошку, а Кацігарошка дзяржыць яго за горла, штоб не ўвайшоў. Ідуць у сад.

Ля аграменнай дубовай калоды ўвідаў Кацігарошка сваіх брацціяў мёртвымі: воласы іх уціснуты ў расшчэп дубовай калоды — так таміліся яны доўга, пакамісць бядняжкі жысць сваю прыкончылі.

— Аджыві брацціяў, а то тут жа заб'ю цябе.

— Пазволь мне, Кацігарошка, із дому прынесць дзве бутылі.

Кацігарошка апяць ідзець за ім і за горла дзяржыць. Даставў змей бутылачкі і із адной піць хаціць — ужо к роту паднёс.

—Дай мне перва паспробаваць! — гаворыць Кацігарошка.

Як напіўся валшэбнай вады, Кацігарошка паслышаў у сабе яшчэ болей сілы і за хітрасць хацеў было змея забіць. Падашлі ізнову к мертвяцам, перва брызнулі на іх мёртвай вадой — яны сталі, слоўна як жывыя, толькі дыхання ў іх нетуці. Як брызнулі на мертвяцоў із другой бутылі — браццця ажылі; думаўшы, што іх ад смерці Шкурупей збавіў, сталі перад ім на каленкі і благадараць за збаўленне. На ту пору за абіду паказалась Кацігарошку, што яго браццця змею кланяюцца,— узяў яму жысць і прыкончыў сваёй тростачкай.

Сястра і браццця такея радыя павесяліліся, потым пусціліся у пуць-дарогу.

Астанавіліся прыддахнуць на зялёнай даліне, ля возера, пад тым самым дубам, ідзе стаяў мужаственны чалавек.

Путнікаў абняла ноч.

— Я не магу ішці далей!— гаворыць Кацігарошка.— Мяне сном атамліваець. Я засну здзесь пад цяністым дубам, прыхінусь к яму, абапрусь на сваю тростачку. Я сплю не па-вашаму — крэпка; дак я научу вас, як разбудзіць мяне, када прыйдзець урэмя трогацца ў дарогу: выбейце з маіх рук тростачку — я січас прашнусь.

Толькі прагаварыў гэта, а ўж сам храпіць багатырскім сном.

Браццця завідывалі яму, сталі міжда сабе рэч дзяржаць, якім родам Кацігарошку страціць.

— Нашоўся ж з віру чалавек і праславіўся! Не можаць быць, штоб ён нам брат быў: маменька наша ўжо ў такім возрасце, што дажа ніўвазможна і падумаць, штоб у яе дзеці радзіліся. Уб'ём-ка яго. Ну, адным махам, пажалуй, яго не заб'еш — тут ён прашнецца і нам не здабраваць тады. Во што, здзелаем валасяны канат, звяжам Кацігарошку па рукам і

нагам, прывяжам к дубу — сам ён не аслабаніцца і памрэць галоднаю смерцю.

Абкруцілі брацця Кацігарошку канатам, прывязалі к дубу, сястры ж вялелі маўчаць.

Вярнулісь старшыя сыны с сястрой к купчысе і хвалілісь, што са змеем справілісь і сястру аслабанілі.

Маць аб Кацігарошку распрашываць, а яны быцца'к нічога не знаюць і не ведаюць.

Прашнуўся Кацігарошка і гаворыць:

— Ах, як я спаў доўга!

Чутно яму, што прывязан; папяўся, пацягнуўся — дуб задрыжэў; як выпраміўся — дуб вырваў і пайшоў так к мацеры, а за сабою дрэва ташчыць.

Маці дужа зрадавалась, як увідзела Кацігарошку, а брацця хавацца.

— Выхадзіце, кайцесь, развяжыце мяне! Не выйдзеце, дужа плоха вам будзець.

Выйшлі і развязалі яго.

— Ну, прашчаю вам першую і паследнюю віну.

Пасля таго жылі харашо. Кацігарошку вялі за старшова.

## 22. КАЗКА ПРА ЗМЕЯ

Ото, паночку, лачну казаць табе гэту казку без прыказак, бо няма часу.

Жыў сабе на свеце бацька і маці, было ў іх два сыны і трэцця дачка. Сыны гэтыя былі такія рабацяшчыя хлопцы, што нават парабіўшы ўсю работу ў дамосцы, хадзілі парабкаваць і ў другое царства.

От раз і пайшлі яны ажно на тры дні і кажуць бацьком:

— Калі нас не будзе праз тры дні, то няхай Палаг'я (сястра іх) прынясе нам харчоў, а каб яна ведала, дзе мы прабаўляемся, то мы йдучы будзем цярушыць дарогаю салому.

Ну добра! От яны і пайшлі. Ідуць яны да йдуць і салому цярушаць да й прыгаварываюць:

— Ото наша Палаг'я йціме і дарогу бачыцьме.

А то бач, бра, гэта дзесь недалёка жыў змей з залезным языком, страшны, такі страшны, да ўсё хапаў ён маладых жонак да

дзевак і цягнуў у свой касцяны дварэц, а аттуль ужо ніхто не варочаўся.

От гэты змей падслухаў, як браты казалі, нашто яны салому па дарозе цярушаць; от ён узяў да й пазбіраў усю тую салому, пацярушыў дарогу к сабе ў дварэц і чакае Палаг'ю; думае сабе, як яна йціме к братом, то як раз зайдзе па саломцы к яму. Так яно і зрабілася. Прайшоў дзень — братоў няма, прайшоў і другі, трэці, а іх усё нямашака.

От бацькі, сабраўшы харчоў, пасылаюць дачку да й кажуць:

— Ты ж, донька, ідзі барджэй к братом з гэтаю ядою па той дарозе, што яны саломаю пацярушылі.

Палаг'я і пайшла; а яна была ўжо вельмі хароша — усе хлопцы за ёю бегалі, нават пан не даваў бацьком і ёй спакою, усё кажа:

— Хадзем ка мне, там табе вельмі хараша будзе.

А яна і не схацела.

Ідзе яна, ідзе, ажно бачыць той касцяны дварэц змееў; яна гэта барджэй назад... бяжыць, бяжыць, ажно чуе — штось так гудзе, гудзе, яна азірнулася — ажно змей; так ён яе схапіў да і панёс у той дварэц да і кажа:

— Я даўно ўжо да цябе дабіраўся, да толькі цяпер цябе схапіў; цяпер жа ты ўжо будзеш жыць са мною як жонка.

Яна ў слёзы, але што ж гэта паможа? Як мэртваму кадзіла...

Браты ж Палашчыны знайшлі сабе добрую работу ў нейкагась пана. Зарабіліся ў яго, і на чацверты дзень у іх ужо не хапіла хлеба; от яны, кінуўшы работу, пайшлі дадому, праклінаючы Палаг'ю і бацькоў, што яны не прыслалі харчоў.

От прыходзяць яны дадому да як паднялі ў хаце такі крык, лемент на бацькоў за хлеб, што й страх, а бедныя бацькі і роты пararззяўлялі, самі не ведаюць, што гэта такое за дзіва. Паслалі Палаг'ю к сыном, а яны яе нават у вочы не бачылі; от яны і кажуць так сыном, што мы яе выправілі да вас з хлебам яшчэ ўчора... Усе быццам-то адурнелі і стаяць белыя, белыя, як крэйда; мо б яны і доўга так стаялі, аднача старшы сын і кажа:

— Пайду я шукаць Палаг'ю!

Як сказаў, так і зрабіў, пайшоў. І ідзе ён, ідзе па той дарозе, што саломаю пацярушана, да й не прымеціў, што гэта не та дарога, кудою яны ішлі, і дайшоў да тых касцяных палацаў, ажно сустракае Палаг'ю. Яна яму і кажа:

— От так і так, папалася я, нясчасна, уцякай, бра, барджэй, бо змей цябе з'есць.

А той і кажа:

— Калі ж ужо ўцякаць, так уцякаймо разам!

А яна і кажа:

— Не, бра, ён чуе мой дух і дажэне мяне, а ты ўцякай!

Толькі што яна гэта сказала, ажно як загудзе, але моцна так, ажно іх аглушыла, глядзяць яны — аж то змей.

От Палаг'я і кажа яму:

— Гэта мой брат прыйшоў да нас!

— Добра,— кажа змей,— вядзі ж яго ка мне ў госці.

Той пайшоў. Прыйшоўшы дадому, змей і кажа:

— Жонка! Падай нам пасмакаваць залезнага бобу!

Тая прынесла. Змей як зачаў есці, ажно іскры з рота пасыпаліся, а той небарака ўзяў адну бабіну да чуць быў зубы сабе не паламаў. От ён гэтую бабіну і выкінуў з рота; змей, пабачыўшы гэта дзела, напаў на беднага хлопца:

— Чаму,— кажа,— не ясі, а кідаеш, не хочаш ля таго, што гэта маё?

Крычаў той змей, крычаў ды і кажа:

— Хадзем пабачымо маё багацтва!

Той пайшоў, а змей яго там за дваром і павесіў на вароцях. Прыйшоў да і кажа:

— Жонка, я твайго брата павесіў, бо ён не схацеў бобу есці.

А тая, бедная, і залілася дробнымі слязамі, але што ж? Паплакала, паплакала да і перастала.

Пайшла яна на другі дзень на шпацар на дарогу, ажно бачыць — другі брат ідзе, яе шукаючы. І той, небарака, не з'еўшы бобу, павіс каля брата.

Чакаюць бацькі сыноў дзень, чакаюць другі... так чакалі дзён з шэсць, а іх усё нямашака.

От аднаго разу, да свята, пайшла баба па ваду, ажно бачыць: каціцца па дарозе гарошак; яна яго падняла, паглядзела да й з'ела. Чуе яна праз колькі іх там дзён, што яна ў ценжы, а праз тыжнею два ці тры і абрадзіла хлопчыка, такога харошага-харошага і такога вялікага-вялікага! Да як толькі радзіўся, так зараз і закрычаў:

— Мамо, дай есці!

А голас такі грубы-грубы, ажно ўсе папужаліся, самі не ведаюць, што гэта такое за дзіва.

От той хлопчык расце не па днях, а па гадзінах і вырас за месяц такі вялікі, да й шчэ з барадою, ажно бацька яго баяўся. Думалі-думалі, як яго назваці, якое яму імя даць, да і назвалі яго Гарошкам.

От той Гарошак і кажа бацьком:

— Наце вам, бацькі, шпульку, ідзіце к кавалю; няхай ён выкуе з яе булаву ў сем пудоў.

Бацька і думае сабе: «Ото дурны які, з шпулькі, што паны сабе прышпуляюць кветкі альбо ўстонжкі, хоча зрабіць даўбешку ў сем пудоў!» Паківаў галавою да і паехаў у горад і купіў сем пудоў залеза да і загадаў кавалю выкаваць сыну даўбешку. Каваль каваў, каваў — насілу выкаваў. Бацька рад, што такі страх! Прыязджае дадому і скаціў з возу сыну тую даўбешку.

Гарошак як узяў тую булаву адною рукою да як шыбнуў яе ўгору, ажно яна ў неба схавалася. Кінуўшы доўбню, ён пайшоў сабе снедаць. Паснедаў, пагаварыў з бацькамі да й кажа:

— Ну, хадзем, бацько, на пагной, зараз булава вернецца.

Той бацька аж дрыжыць, але пайшоў. От прыйшлі яны на пагной, дак сын і кажа:

— Ото ж бач, тато, унь то штось чарнее ў небе, то мая булава ляціць.

Не паспеў бацька зірнуць, ажно булава ўжо так і загула каля іх, а Гарошак узяў да й падставіў калена, даўбешка, ударыўшысь аб калена, так і пераляцела напал, а Гарошак і кажа:

— А што, тато, бач, яку ты мне даўбешку зрабіў, ты бо, мусіць, не з тае шпулькі зрабіў, што я табе даў.

Бацька так пералякаўся, ажно, зубамі ляскаючы, сабе кусок языка адкусіў, але, аддыхаўшы трохі, зараз жа паехаў у горад і купіў у краме сем пудоў залеза а́глiцкага, і той самы каваль выкаваў з гэтага залеза новую даўбешку. Бацька, узяўшы тую даўбешку, прывёз яе сыну. Той зноў пастукаў яе як і першую, але даўбешка была моцная, так толькі загнулася трохі. Гарошак ажно павесялеў. Узяў даўбешку, струсянуў ею, ажно загуло, да й кажа:

— Ну, тато, пайду ж я цяпер сястру шукаць.

Ну, думае сабе бацька: «Божа табе памажы».

Гарошак, доўга не думаючы, узяў сваю кацавэльку да і пайшоў проста к змею; змей, пачуўшы сілу вялікую, выскачыў да яго і сустракнуў яго на дарозе.

Зірнулі яны адно на другое і маўчаць, так як бы папужаліся адно другога; а тут недалечка і Палаг'я стаіць. Гарошак глянуў і дагадаўся, што гэта, здаецца, яна, але нічога не сказаў. Чы доўга яны так стаялі, чы не, але змей і кажа сыну:

— Хадзем, браце, з'ядзім трохі бобу.

От яны і пайшлі, пасядалі на залезныя сталкі. Як толькі сеў Гарошак, дак той сталок так і пасыпаўся, а змей ажно здзівіўся і даў яму другі сталок, тэж залезны, але мацнейшы. Гарошак

сеў, [redacted] сталок той усё-такі трохі сагнуўся, і сталі есці залезны боб; елі, елі, пакуль усё ні [redacted]'елі

Змей ажно пачырванеў, так яму моташна стала, што знайшоўся чалавек, што нават дужэй яго. Круціўся ён, круціўся да і кажа Гарошку:

— Хадзем, бра, аглядзім маё багацтва.

— Добра!

Пайшлі. Прыходзяць яны ў гумно, на мясаідзавы ток, а з таго гумна відны былі вароця, а на тых вароцях вісяць два чалавекі ўжо, нежывыя. От ён і пытаецца:

— А хто гэта такі?

— А то,— кажа,— браты мае жонкі.

Гарошка ажно затрасло, і думае сабе: «От табе і раз — спазніўся»,— але зараз жа і кажа:

— Ах ты, змею негадзівы, такі да сякі, то ж ты маіх братоў павешаў!

Да як усхапіў яго за грудкі да і гэпнуў яго аб зямлю, ажно змей па пояс у той ток урэзаўся, а потым, схапіўшы сваю даўбешку, да як вурзнуў яму па пераносіцы, ажно юшка пацякла, а як дзвінуў яшчэ раз, дак той змей і саўсем кіркнуў.

Убіўшы таго змея, Гарошак пайшоў к сястрэ да і кажа:

— Я твой брат, а ты мая сястра. Змея твайго я ўжо ўбіў.

А тая і не верыць таму.

— Які,— кажа,— ты мне брат? У мяне больш братоў няма, як тыя, што на вароцях вісяць,— да і заплакала.

Гарошак успамятаваў братоў; пайшоў паздымаў іх з вароцяў, убіў вала, здзёр з яго шкуру, улез у тую шкуру да і ляжыць. Ажно прыляцелі вораны чорныя да і сталі кляваць тую шкуру, а той з-пад шкуры хап! да і паймаў ворана. Той бедны просіцца:

— Пусці мяне, што хочаш зраблю, да толькі пусці.

— А от,— кажа Гарошак,— прынясі мне жывое вады!

І калі воран падакляраваў, ён яго і пусціў.

Не ўспеў яшчэ Гарошак добра аглядзецца, ажно воран ужо і прынёс у дзюбе пляшачку жывое вады. Гарошак, узяўшы тую ваду, памачыў братом вадою вочы, дак яны і абжылі да і пытаюцца:

— Хто ты такі, каму нам дзякаваць?

А Гарошак і кажа:

— Я вам брат, і дзякуй ваша мне не патрэбна.

А яны не вераць да думаюць сабе: «Які ён нам брат? Адкуль ён узяўся?» Але ўсё ж такі падзякавалі, да давай божа но-

гі. Узяўшы Палаг'ю, і пабеглі дадому. Прыбеглі яны дадому да і кажуць бацьком, што з імі зрабілася і што той чалавек называе сябе іх братам. Бацькі, выслухаўшы ўсё, падзякавалі богу да і кажуць, што праўда, у нас радзіўся якісь вырадак вельмі дзіўны, а дзе ён цяпер?

А Гарошак пайшоў у стойла змяёва, выбраў сабе добрага каня і два хорты, што заўсягды цахлелі, і паехаў у свет, а дзе ён цяпер, дак і хто яго ведае? Мо, і цяпер дзесь ездзіць. А тыя бацькі з дзецьмі жывуць па-старому, толькі хлопцы не жаніхаюцца да Палаг'і.

## 23. ЧАВАЛАЙ

Жыў сабе дзед да баба. І быў у іх сын Іван. Жылі яны дужа бедна. Сам чалавек быў бальшы п'яніца, прапіў сваё ўсё, усякую худобу: і кароў, і коней, і авец, і свіней — усё. І нечым яму ўжо пахмяліцца. От ён і кажа:

— От, калі б хто мне паставіў гарнец гарэлкі, я б яму заставіў свайго сына Іваньку!

Быў там адзін хазяін, жалка яму стала хлопца.

— Аддай ты,— кажа,— яго мне. На табе пяць карбованцаў!

Узяў хазяін Іваньку к сабе. Пабыў там Іванька чатыры гады, увабраўся гадоў у пятнаццаць. От той хазяін і кажа:

— Ну што, Іван П'янішнін сын, ці паняўся ты чаго-небудзь?

Ён кажа:

— Слава богу, знаю ўжо, што мне трэба!

— Ну, калі знаеш, дык ідзі з богам!

Расшчытаўся хазяін, даў яму грошай на дарогу. Іванька падзякаваў і пайшоў. Ішоў, ішоў і сустракае якогась чалавека, нібыццам купца. От той купец і гавора:

— Здароў, хлопчык!

— Здароў, дзедка!

— Адкуль і куды цябе бог нясе?

— Адтуль і адтуль. Іду, ці не найме мяне хто.

— А ты наймаешся?

— Наймаюся!

— Ну, дык наймісь ка мне!

— Ну, дык чаму — можна!

Угаварыліся яны там за колькі і на якое ўрэмя. Харашо! Наняўся ён к яму і стаў служыць. Служыў, служыў — скора казка кажацца, да няскора дзела дзелаецца; скора бабка блінцы пячэ да апару ставе, так і гэта. Праслужыў ён шэсць гадоў. А гэты яго хазяін быў бальшы чараўнік — змей, да шчэ і крывы. От як прайшло шэсць гадоў, хазяін і пытае:

— Ну, што ты, Іван П'янішнін сын, ці паняўся ты чаго-небудзь?

— А цяпер я луч цябе ўжо знаю!

— Ну, калі знаеш луч мяне, дык ідзі сабе шукай другога хазяіна!

Адправіў яго і даў яму, уклаў у торбу бальшую кнігу.

— Глядзі ж,— кажа,— не разгартувай кнігі, а то я там січас буду і з'ем цябе!

А гэтай кнігай ён ды запрасціў яму дарогу. Ну, Іванька падзякаваў яму і пайшоў, куды вочы глядзелі. Ішоў ён, ішоў, ішоў, ішоў — увайшоў у лес. Ходзе ён па тым па лясу, ходзе то туды, то адтуда — усё па адным месту кружыцца. І дужа ён прытаміўся. Хоча есці — есць нечага, хоча піць — піць нечага. Кружыўся ён, кружыўся і прыблудзіўся ён к рацэ. Сеў ён аддыхаць. І раздумаўся, што ёсць у яго кніжка.

— Ах,— кажа,— гэта ж у мяне дзесь кніга ё! Дай-ка пагляджу, што гэта за кніга такая, што ён казаў у яе не глядзець.

От і разгарнуў ён тую кнігу. Толькі разгарнуў — аж як пайшоў скот, як пайшоў скот! Так і валіць! Там і каровы, там і авечкі, там і свінні, і разны скот! І навaліла яго столькі, што і пералічыць нельга. От ён і сам не рады, што разгарнуў тую кнігу.

— Ну,— думае,— што тут дзелаць з гэтым скатом?

Думаў, думаў, нічога не прыдумаў.

— Ну, што ж? Хоць як-небудзь буду жывы: вада ё, а скот буду рэзаць да есці!

Толькі ён гэта сказаў, а тут яго хазяін здзелаўся крывым воўкам і скача.

— Ну, што ж, Іванька П'янішнін сын! Нашто гэта ты кнігу разгарнуў? Я ж табе прыказваў, штоб ты не разгартуваў. А цяпер я цябе з'ем!

Спужаўся Іванька, як Чавалай сказаў: «Я цябе з'ем!»

— Не,— кажа,— не еш мяне, воўча-крываляччa!

— Не, з'ем!

— Не,— кажа,— з'еш лепш маю самую луччую скаціну!

— Не, я цябе з'ем!

— Ну, з'еш,— кажа,— па самай луччай скаціне ўсякага скоту!

Тады Чавалай кажа:

— Ну, вот што. Я цябе не буду есці, калі ты не будзеш жаніцца!

— Ну, як жа мне нежанатаму быць?

— Ну, дык з'ем!

— Ну,— кажа Іванька,— не буду жаніцца!

— Ну, аднача, глядзі: якногды станеш жаніцца, я тады цябе небеспраменна з'ем!

Тады Чавалай зайшоў скату наперад ды як хыркне, дак той скот увесь у кнігу. Згарнуў Іван кнігу і пайшлі. Вывеў яго Чавалай на дарогу і пайшлі: той сабе, а той сабе.

Ішоў, ішоў Іванька і прыйшоў дамоў, к сваім бацькам. Бача, жывуць яны дужа бедна: ні хляўка, ні гуменца. От ён і кажа:

— Ну-тка, тат, ідзі наймай у людзей хлявы да гумны.

Пайшоў бацька, панаймаў колькі там хлявоў ды гумнаў. Тады Іванька разгарнуў тую кнігу. От скот з яе і пайшоў, і пайшоў: сам поіцца, сам даглядаецца, сам у хлеў ідзе — каровы з каровамі, воўцы з воўцамі, свінні са свіннямі — і так увесь скот. І вот сталі людзі той скот купляць. Яны купляюць, а ён размножуецца. І так гады за тры стаў ён такім багатыром, што о-ё-ёй! Прачуліся людзі, сталі ўжо яго сватаць к сабе. От раз прыехалі к яму сватаць яго, а Іванька кажа:

— Не, не пайду!

Троху пагадзя едуць другія і сватаюць яго. Ён ім кажа:

— Не, не пайду. Мне прыказаў Чавалай, штоб не жаніўся. «А то,— кажа,— я цябе з'ем!»

— О, не,— кажуць сваты,— ё ў нас такія два стралцы, што скрозь іх ні вужака не прапаўзе, ні муха не праляціць, нішто. Не бойся!

— Не, баюсь, не пайду!

— Ну, не пойдзеш, дак не пойдзеш!

Адказаўся ён ад гэтых сватоў, аж чэраз малое ўрэмя прыязджаюць трэція:

— Пайдзі за нас!

— Не, не пайду: Чавалай мяне з'есць.

— Ой, ты гэтага баішся?

— Баюсь,— кажа.

— Ну, не бойся: ё ў мяне два хартовых сабакі — яны не прапусцяць нікога.

— Ну, калі так, пайду!

— Ну, вот, даўней ба ты так. Калі ж вянчацца?

— Ну, будзем у сераду!

Паехалі сваты, а Іванька стаў дажыдаць серады. Даў бог сераду, ён сеў і паехаў к нявесце. А там ужо сабраліcь як след, схадзілі к папу, дагаварыліcь. Запраглі тройку коней, селі на павозку. Толькі хацелі ехаць, аж тут, адкуль ні ўзяўся, бяжыць Чавалай.

— Ну,— кажа,— от цяпер я цябе з'ем!

Толькі хацеў яго есці, а Іванька саскочыў з павозкі да ворчыкавага каня тапаром па гужах! Да ўскочыў на яго, да як пусціцца ён на тым кані. Ехаў, ехаў, ехаў, ехаў, а Чавалай за ім бяжыць назіркам! Беглі, беглі — ён не ўцячэ, а ён не дагоне! Ехаў, ехаў Іванька да й каня ўжо перагнаў. Той конь зваліўся і лопнуў. Саскочыў ён з каня, заплакаў і пабег.

Бег ён, бег, бег, бег — ну, што дзелаць? Убег ён у чароты, у балоты, у такія, што ні сцежачкі, ні дарожачкі, у цямрэць у бальшую. А Чавалай усё за ім бяжыць. От Іванька бег, бег тым чаротам, бача — стаіць хатка. Ён к ёй. Толькі хоча ўвайсці ў яе, а яна і перакружыцца — к яму задам, а к чароту перадам. Ён зайдзе на той бок, а яна зноў перакружыцца к яму задам. Тут ён кажа:

— Хатка, хатка, перакружысь ка мне перадам, а туды задам!

Яна і стала так, як ён сказаў. Увайшоў ён у тую хатку, а там на печцы ляжыць Баба Яга да стогне.

— Здрастуй, бабулька!— кажа Іванька.

— Ох, ох, ох, ох! Здароў, Іван П'янішнін сын! Па гэтых пор тут яшчэ і рускага духу не было. Як гэта цябе бог занёс?

— Да вот, бабулька, такое і такое дзела: за мной пагон — Чавалай гоніцца!

— Ну,— кажа,— не журысь, Іван П'янішнін сын! Я тваё дзела папраўлю. Лажысь,— кажа,— спаць: ё ў мяне такі сабачка, што ў дзевяць вёрст звера пачуе.

— Не, бабулька, я есці хочу!

От яна з печкі злезла, п...ла, стол паддзернула, дала яму піцяння, ядзяння, разнага кушання. Ён харашэнька паядаў і лёг спаць. Спаў, спаў, тут січас сабака і забрахаў. От баба яго і будзе:

— Уставай, Іван П'янішнін сын! За табой пагон бяжыць. Ужо Чавалай блізка, за дзевяць вёрст!

Устаў Іванька, умыўся; дала яна яму акрайчык хлеба і кажа:

— Толькі не еш гэтага акрайчыка, хоць як будзе хацецца. Бяжы ж ты тудой і тудой: там далей будзе другая мая сястра!

Пабег Іванушка; бег, бег — аж стаіць хатка. Ён к ёй, а яна круціцца. От ён і кажа:

— Хатка, хатка, стань ка мне перадам, туды задам!

Яна стала. Увайшоў Іванька ў хатку — ляжыць на печцы Баба Яга да стогне.

— Здароў, бабка!

— Здароў, Іван П'янішнін сын! Што цябе сюды загнала?

— Так і так, бабка, тоніцца за мной Чавалай!

— Ну, я табе гэту бяду папраўлю. Лажысь спаць: ё ў мяне такі сабачка, што ў шэсць вёрст звера пачуе!

— Ох, не, бабка. Я выбегаўся, дужа есць хочу!

От яна з печкі злезла, п...ла, стол паддзернула, дала яму піцяння, ядзяння, разнага кушання. Ён паядаў і лёг спаць. Спаў, спаў, тут сабака і забрахаў. Яна яго і будзе:

— Уставай, Іванька П'янішнін сын: ужо Чавалай за шэсць вёрст!

Ён устаў, умыўся. Дала яна яму акрайчык хлеба і прыказуе, штоб ён не еў гэтага акрайчыка, хоць як есці будзе хацецца. І направіла яго да трэцяе сястры. Ён пайшоў. Ішоў, ішоў, прыходзе к трэцяй хаце. Увайшоў ён у яе так жа сама, як у тыя ўходзіў, і знайшоў і там Бабу Ягу.

— Здрастуй, бабулька!

— Ох, ох, ох, ох! Здароў, Іванька П'янішнін сын! Што цябе сюды занясло?

— Такое і такое, бабулька, дзела: гоніцца за мной Чавалай!

— Ну, я цябе навяду на пуць! Лажысь-ка спаць: ё у мяне такі сабачка, што ў тры вярсты звера ўчуе!

— Ох, не, бабулька, я дужа есць хочу!

От яна злезла з печы, п...ла, стол паддзернула, дала яму піцяння, ядзяння, усякага кушання. Ён паядаў і лёг спаць. Толькі задрамаў, аж тут і сабака брэша. От яна і будзе яго:

— Уставай, Іван П'янішнін сын, за табой пагон ідзе, Чавалай ужо за тры вярсты. Да як можна скарэй!

Ён устаў, умыўся. Яна дала яму трэці акрайчык хлеба і хусту.

— Ну, што,— кажа,— бяжы ты сюдой і сюдой, там табе будзе мора. Ты хустай махні, і здзелаецца табе мост. Ты па ім і пяройдзеш на той бок. Тады, як толькі пяройдзеш, махні хустай назад. І мост апяць пабурыцца. Тады як ты ляжаш спаць,

паклaдзi ўсе гэтыя акрайчыкі на хустку: адзін у канцы галавы, а тыя з абодвых бакоў.

Ён пабег. Бег, бег, відзе — мора. От ён шчэ здалека махае хустай. І здзелаўся яму мост. Ён чэраз мост і пабег. А Чавалай зусім яго даганяе: ужо сажнях у ста ад яго. Тут Іванька перабег чэраз той мост і махнуў хустай назад. Мост пабурыўся, Чавалай і ўпаў у мора.

Дужа змарыўся Іванька, захацеў ён спаць. От ён разаслаў хусту, паклаў тыя акрайчыкі — адзін у галавах, а два другія з абодвых бакоў — і лёг спаць. Як спаць, дык спаць, праспаў ажна дванаццаць сутак! Прачынаецца, аж стаяць над ім тры бальшыя сабакі.

— Ой, госпадзі, што гэта такое?

Ён думаў, што гэта Чавалай пераплыў чэраз мора. А сабакі кажуць:

— Не бойся, мы не крывы воўк, а мы твае слугі!

— Калі вы мае слугі, дак скажыце, як вас завуць?

Адзін кажа:

— Мяне завуць Вярнігор!

А другі кажа:

— А мяне — Ламікамень!

Трэці кажа:

— А мяне — Ламізялеза! Мы з тых акрайчыкаў, што табе далі тыя Бабы Ягі!

— Ну, калі так, дык пойдзем умесце!

І пайшлі яны ўчацвярых. Ішлі, ішлі, прыйшлі ў адно царства; аж там няма людзей, ні [а]дные душы. Яны ў другое — і там няма нікога, толькі царская сям'я адна. А гэта ўнадзіўся туды змей і павыеў тыя два царствы. Дабраўся ён да самога цара: хоць сам цар ідзі, хоць дачку вядзі. Прыходзе Іван, аж яны прыбіраюць царскую дочар весці туды ў нару змею. Ну, што тут дзелаць? Зжаліўся Іван і кажа:

— Ці не можна мне ісці памерацца з ім?

— Не,— кажуць,— з'есць і цябе!

— Ну,— кажа,— з'есць не з'есць, а пайду памераюсь!

От пайшла тая дзеўка туды к нары, сабраўшыся, як на смерць. А Іванька ўслед. Прыходзіць к нары, а там стаяў ля нары слуга. Як ногды хто прыйдзе к нары, дак ён возьме і шыбне ў нару к змею. Убачыў ён, што царэўна ідзе не [а]дна, і ўцёк за гару. Прыйшлі яны к нары. Змей пачуў і крычыць:

— Ну, падавай,— кажа,— рускае гавядла!

А Іван кажа:

— Не, пессяе мяса! Ад'еўся ты, цяпер падавішся!
— Ці гэта ты, Іван П'янішнін сын?
— Я,— кажа,— пессяе мяса. Выходзь сюды!
Тут ён як ляціць прама на Івана, хацеў яго пражэрць, а сабакі тыя верхі на яго, ды як узялі яго шкуматаць! Іванька тады давай ме́чам касіць і скасіў яму адзінаццаць галоў. Змей тады ў нару. А Вярнігор павярнуў гару, улезлі яны туды і давай там біць змея. Білі, білі, змей вырваўся і паляцеў у камянную гару. Падбег Ламікамень і разламаў камянную гару. Убеглі яны туды і сталі зноў біць змея. Тут ён у зялезную гару. Падбег Ламізялеза і разламаў зялезную гару. Сталі яны біць змея. Падскочыў тут Іван і зрубіў яму дванаццатую галаву. Змей і прапаў. Толькі здзелаў ён Іваньку тры раны. Зняла царэўна з сябе шаўковую хусту, парвала яе і ўвярцела яму раны. Пайшлі яны дамоў. Прайшоўшы трохі, селі на лугу аддыхнуць, ведама — замардаваліся.
— Ты, Вярнігор, пакуль мы біліся, аддыхаў, цяпер сцеражы. А мы пасля пабою, от цяпер аддыхнём!
Ляглі яны і заснулі. От царэўна і гавора Вярнігору:
— Лажысь і ты, а ўсё роўна я пасцерагу!
Лёг ён і заснулі на дванаццаць сутак. А слуга ж той падмеціў, што яны спяць, і пайшоў к ім. Стала царэўна будзіць Іваньку, будзіла, будзіла — не ўзбудзіла. Падбег слуга і зняў Іваньку галаву. А сам узяў царэўну і павёў дамоў.
— Ну,— кажа,— калі ты не скажаш, што я цябе збавіў ад змея, дак тут табе і смерць.
Спужалась царэўна:
— Добра,— кажа,— скажу!
А чэраз дванаццаць сутак прачнуліся сабакі. Паглядзяць, аж у Іванушкі галавы нямаш. Вот яны і закрычалі на Вярнігору:
— Мы ж астаўлялі цябе сцярэгці! А ты й не ўсцярог!
Той сабака плакаў, плакаў і пабег. Прыбягае к нары, аж паўзе гадзюка, а ўслед гадзючаня. Ён стаў на гадзючанёнка і хацеў яго разадраць. От гадзюка і стала яго прасіць:
— Не руш майго дзяцёнка, я над ім сем год сядзела!
Вярнігор і кажа:
— А дастань мне вады зрастушчыя і жывушчыя!
Яна папаўзла і прынясла вады. Пайшоў Вярнігор к Іваньку. Памазалі яны яго вадой зрастушчаю — галава зраслася з тулавам; памазалі вадой жывушчаю — Іванька ажывіўся.
— Ах,— кажа,— крэпка я заснуў.

— Крэпка,— кажуць яны,— і не ўстаў ба, калі б не мы!

От усталі яны і пайшлі к цару. Прыйшлі ў горад, зайшоў Іванька з сабакамі к аднаму дзеду. Дзед і кажа:

— Заўтра ў цара абед, царэўна ідзе за слугу, што збавіў яе ад змея.

От Іванька даў сабацы кайсцерку і паслаў яго к цару. Як убачыла царэўна сабаку, наклала яму поўну кайсцерку булак. На другі дзень паслаў Іванька другога сабаку, на трэці — трэцяга. Царэўна і ім панакладала поўны кайсцеркі. Тады пайшоў сам Іванька. Прыйшоў і сеў за адзін стол з старцамі. Стала царэўна сталы абыходзіць, прыглядацца — убачыла Іваньку. Стала яна гасцей частаваць: усім па [а]дной чашцы, а яму дзве; усім па [а]дной чарцы паднясе, а Іваньку — дзве. Убачыў гэта слуга, рассердзіўся і стаў цару жаліцца. От царэўна тады і кажа:

— Татка мой родненькі! Гэта ж во хто збавіў мяне ад змея, а не гэты лакей!

І расказала цару ўсё, што там было. Убачыў цар, што і раны ў Івана ўверчаны ў царэўніну хустку, і вялеў ён таму лакею галаву зняць. А Іван жаніўся на царэўне і сталі сабе жыць да пажываць.

## 24. АБ ГРЫФУ І ЧОРТАВЫМ ЗУБЕ

Нясла мыш зернятка канапель да й упусціла; вырасла ўжэ яно велька, так верабейчык прычапіўся да тае канапліны: мыш сабе, верабейчык сабе. Так мыш насклікала ўсялякага гадства, а верабейчык усялякага птаства. Судзіліся яны, судзіліся, нарэшце грыф як пачаў гваздзіць гадства, так усіх чыста выкараніў, а яны ж яму ўзялі да й усей пух аскублі так, што не мог ляцець. Ён гэта да гаспадара прыбег да й кажа:

— Перакармі мяне, нім адрасце пух, то ўжэ мы з табою памяргуемся.

— Добра.

— Анно,— кажа,— будзеш мне пячы штотыдзень дванаццаць хлябоў і два валы зарэжаш.

— Добра.

Перабыў ён шэсць нядзель; як было ў гаспадара дванаццаць валоў, так усе выразалі яму, да й усе судзіны паўпарожні-

валі. Нарэшце вылецеў, палятаў два дні, так жонка кажа да гаспадара:

— А ты, такі-гэтакі, паляцеў і табе хфігу паказаў!

— Ну што,— кажа,— зрабіць, я не ведаў, што ён мяне ашукае.

Ажно прылятае ён і кажа:

— Зарэжце мне апошнюю карову і апошняе печыва хлеба спячыце.

Яны так і зрабілі. Як з'еў, так палетаў зноў два дні і кажа:

— Седавіся на мяне!

Той сеў, да й паляцелі ў жоўту землю. Так ён [грыф] кажа:

— Злезь, ідзі ў той палац, там мая найстарша дачка замужам, да й скажы, што я гаварыў, каб яна табе што дала. А будзе яна табе даваць золата і што захочаш анно, але ты не бяры нічога, бо золата хутка разыдзецца, але папрасі, каб дала табе пудэлачка.

Той увайшоў, так яна паказала яму ўсё багацтва да й кажа:

— Бяры сабе, што хочаш.

А ён кажа:

— Я нічога не хачу, анно гэтага пудэлачка.

— А,— кажа,— гэтага я не магу даць, гэта мне татуля даў.

Той завярнуўся і пайшоў. Так грыф кажа:

— А што, дала?

— Не,— кажа,— не дала.

— Ах,— кажа,— каб такія дзеці не радзіліся. Едзьма далей.

Ён сеў, прыляцелі ў зялёну зямлю.

— Злезь, — кажа, — ідзі ў той палац, там мая серадольша дачка жыве, гэтак сама нічога не бяры, анно папрасі пудэлачка.

Ён уходзіць, тая так урадавалася:

— Бяры,— кажа,— што хочаш.

— Я нічога,— кажа,— не хачу, анно пудэлачка.

— А,— кажа,— пудэлачка не дам, я яго ад бацька дастала ў падарунку.

Той прыйшоў і кажа: так і так.

— Ах, каб такія дзеці,— кажа,— не радзіліся! Едзьма далей.

Прыляцелі ўжэ ў чорну землю.

— Ну, злазь,— кажа,— ідзі ў той палац, там наймельша мая дачка жыве: яна павінна даць, бо найлепша.

Ён прыйшоў і кажа: так і гэтак.

— Ах, — кажа, — шкада мне яго, але што рабіць; калі татуля кажа, то наце.

Да й аддала. Ён узяў да й прыходзіць да грыфа.

— А што,— кажа,— дала?

— Дала.

— Ну,— кажа,— то дзякуй богу! Нясі ж ужэ цяпер дахаты, анно,— кажа,— не адчыняй у дарозе.

Ён нясе, нясе, захацелася яму канешне адчыніць. Адчыніў, анно ж войска так і стала каля яго да й пытае:

— Што рабіць?

А ён кажа:

— Нічога.

І зноў зачыніў. Анно ж якраз па ту пору чорт падцыкнуўся і ўкраў у яго ключык. Агледзеўся ён — нямашака! Так ужэ шкадуе, анно ж чорт з-за плячэй кажа:

— Чаго вы, дзядзьку, шукаеце?

— Ля, ключыка згубіў ад гэтага пудэлачка.

— Дайце мне,— кажа,— тое, што вы ўдома не пакінулі, то аддам.

Той думае: «Ну то што ж я ўдома не пакінуў? Мо, жонка карову купіла, то няхай сабе бярэ» — да й кажа:

— Добра!

Так чорт зараз выняў валову скуру, выпісаў там нештась, ён мізінага пальца разрэзаў, падпісаўся, чорт зараз ключыка аддаў, пайшоў ён выскакуваючы дахаты.

Каля сяла адчыніў, войска каля яго стала, ідзе праз сяло, усе дзіваяцца, што гэта такое?! Анно ж бачыць — ідзе баба, радзюшкаю накрыўшыся, і двое дзяцей нясе на руках: адзін хлопчык, другая дзеўчынка. Ён пазнаў зараз, што гэта яго жонка, да й заплакаў. Потым падышоў да яе да й кажа:

— А то ж я твой мужык!

Яна так урадавалася, а аб дзецях нічога ён не спамінае. Анно ж тыя дзеці раслі не ле́тамі, але гадзінамі. У сем лет прыходзіць чорт, бацькі давай плакаць, але не было радачкі, так кажуць:

— Ну, ідзіце, дзеткі.

Чорт гэта іх ухапіў, папёр да пекла.

— Сядзіце,— кажа,— тут, а я пайду на вяселле.

Яны сядзяць, плачуць, анно ж прылятае конь:

— Седавецеся,— кажа,— дзеткі, на мяне, я вас выратую з гэтай бяды.

Яны паселі, ён іх завёз да й у землю схаваў. Прылятае чорт — няма іх там! Даўся ў вобалакі — няма; даўся ў землю — есцека! Так ён гэта ўхапіў іх да й кажа:

— Ну, калі вы гэтак другі раз зробіце, то я ўжэ вам не дарую — паб'ю!

Да й паляцеў. Сядзяць яны ў пекле і плачуць, анно ж прылятае галубок.

— Седавецеся, дзеткі,— кажа,— на мяне, я вас выратую.

Яны паселі, а ён іх занёс аж за аблокі.

Прылятае чорт — няма ў пекле. Даўся ў землю — няма, даўся ў вобалакі, ажно есцека!

— Ну, — кажа, — калі вы цяпер уцечаце, то не жыццё ваша!

Да й сам пакруціўся на вяселле. Сядзяць яны і плачуць, ажно прыбягае вол:

— Седавецеся,— кажа,— дзетачкі, на мяне, я вас выратую з гэтай бяды.

Хлопец-такі ўсё яшчэ думаў аб богу, а дзеўчына ўжэ заўсім на чортаву руку падавалася: хлопец — ехаць, яна — не, нарэшце селі-такі да й паехалі. Прывёз ён іх у пушчу, у хатку.

— Ну,— кажа,— тут хоць вас знойдзе, то не зачэпіць.

Да й сам згінуў.

А гэта не быў вол, анно анёл таксама, як той конь і галубочак.

Потым, няведама скуль, прыбеглі сабакі да хлопца, ён з імі хадзіў на паляванне, а гэта таксама былі анёлы. Адзін раз прыляцеў чорт да тае дзеўчыны да й кажа:

— Трэба нам яго з свету спратаць: як прыйдзе, то дай яму есці, мяса, усяго, потым дай шпільку з зубоў мяса выкалупаць, а я яго падцыкну, і ён праб'ецца.

Тая кажа:

— Добра.

Прыйшоў ён, яна накарміла, напаіла, потым кажа:

— Мо табе даць шпілечку з зубоў мяса выкалупаць?

— Дай,— кажа.

А тыя сабакі як скочуць на яе, так і разарвалі тую сукню, дзе шпілька была.

— Ах,— кажа,— каб іх хвароба! Чаму ты дзе іх не патраціш?

Потым чорт кажа да яе:

— Я перакінуся ў еленя, падыду пад хату, ён мяне нацкуе, я сабакі адвяду дзе далёка, а ты,— кажа,— напалі ў печы, і мы яго спячэм.

— Добра.

Анно ж прыбягае елень пад хату.

— А,— кажа,— братко, які елень харошы, трэ яго забіць, бо нат баязно выйці.

Той выйшаў, нацкаваў, сабакі пайшлі за ім, а чорт іх адвёў далёка, вярнуўся назад да й кажа:

— Ну, ужэ мы цяпер то спячэм цябе!

— Дайце ж,— кажа,— мне хоць памаліцца.

— Добра.

Выйшаў ён на двор, анно ж чуе, сабакі ляцяць, пастаяў яшчэ крыху да й увайшоў у хату.

— Ну,— кажа [чорт],— годзі, кладавіся!

Той палажыў адну ногу — «не так!», — другую — «не так!»,— кажа,— да й сам лёг: «О гэтак»,— кажа. А ён яго шусь! у печ да й закрыў.

— Хадзем,— кажа,— да бацькоў ужэ.

— Яшчэ,— кажа,— гэту ноч тут пераначуйма.

— Добра, няхай будзе і гэтак.

Анно ж прыляцелі сабакі, ён ужэ такі рад, што хоць не згінулі. Потым ляглі яны спаць, анно ж сніцца яго сястры: «Устань, выгарні попел, знойдзеш там зуба, так ушый яму ў подушачку».

Так устала, знайшла таго зуба, а як ужэ прыйшлі дахаты, так яна кажа да бацькоў:

— Трэба гэтыя сабакі замураваць, бо я іх надта баюся: раз мне сукню такую харошу раздзерлі.

Бацькі кажуць:

— Добра.

Да й узялі замуравалі, а яна гэта пашыла подушачку, ушыла таго зуба і паслала яму. Як ён заснуў, так і заснуў. Спіць і спіць, а сабакі енчаць, што не жарты! Нарэшце бацькі ўжэ кажуць:

— Трэба гэтыя сабакі адмураваць, мо якія добрыя.

Як анно адмуравалі, як ні дадуць яны ў вокна, у дзверы, проста да тае станцы, дзе ён спаў. Як прыляцелі, так тую падушачку і раздзерлі. Ён схапіўся:

— Ах,— кажа,— прылёг на мінютачку і то не далі спаць!

— Заснуў бы,— кажуць бацькі,— ты навекі, каб не гэтыя сабакі.

Давай шукаць, анно ж знаходзяць таго зуба. Яна тады прызналася да ўсяго шальмоўства, так яе зараз гэта на жалезныя бараны расцягалі, а самі жылі ўжэ шчасліва.

Сабакі тыя няведама дзе падзеліся.

## 25. СЫН ПРАДАДЗЁНЫ

Заняўся сабе мыш з вераб'ём ляда капанічыць. І нанялі яны тры пары быкоў ляда тое араць і жыта сеяць. Ну, узялі ляда ўзаралі, жыта пасеялі к налеццю. Жыта тое налета як ударыла — тры зярны! Яны два зярны падзялілі, а трэцяга ніяк не падзеляць.

Верабей гавора на мыш:

— Ты дзялі на́пал!

А мыш гавора:

— Ты дзялі на́пал!

Бо дружка дружке не вера. Верабей возьме зярно — паляціць угару, а мыш возьме зярно — палезе ў нару. Кінулі тады жэрабя, каму дзяліць трэцяе зерне. Жэрабя папала мышы дзяліць. Цяпер мыш узяла трэцяе зерне да й перакусіла, да не на дзве частачкі, да на тры. Зноў здзелалі між сабой спорку за трэцюю частачку зерня. Споравалі, споравалі і сучынілі між сабой драчу. Дралісь, драліcь — ніхто нікога не падолее.

— Ну,— гавора мыш на вераб'я,— вызывай ты сваю ўсю помач і я сваю бяру, і будзем ваяваць; хто каго пераб'е, такога і трэцяя частачка зерня.

Ну, як тэй верабей вазляцеў да засвістаў, дак уся и яму, якая толькі ёсць, лятучая пціца зляцелася. А мыш як запішчэла, дак уся чыста звярына к ёй сабралася: і ваўкі, і львы, і псы, і ўсякая гадзіна, што толькі на зямлі поўзае. Спрашуюць у іх:

— Аб чым трэбуеце скора, што нельзя было пры сабе нічога ўзяць?

— Вот,— кажуць яны,— перша мы не падзялілі трэцяга зерня, а далі не падзялілі трэцюю частачку зерня; дык трэба бітву здзелаць; хто каго атаб'е, таму трэцяя частачка зерня пападзе.

Ну, і давай драцца.

Ахотнік ідзе з ружжом па лесу і находзе перва-наперва на мышына звера і дзівіцца: «Што гэта такое? Колькі ў лясу хадзіў, з атрода не бачыў стolькі пабітага звера». І хацеў узяць любую сабе штуку — там ці аленя, ці рысь, ці што, да незмага: не панясе, не пацягне — увесь звер убіт. Цяперака, прайшоў ён гэтага звера бягучага, прыходзе на пцічага звера. І так жа сама ўвесь пцічы звер убіт. Ён стаў і дзівіцца: «Госпадзі, што гэта такое здзелана? Колькі было звера бягучага і паўзучага — увесь пабіт. Ну, гэты пабіт, а адчаго ж,— кажа,— лятучага звера пабіта?» Азірнуўся ён назад, ажно сядзіць арол на кусце

жывы. Ён злажыўся на яго, хацеў з ружжа ўбіць, а арол тэй атвяшчае:

— Ах, брат ахотнік! Не бі мяне, а вазьмі мяне дамоў, дак я знадаблюся табе калі-небудзь.

Ён гэта азірнуўся кружка сябе, хто гэта атвяшчае — і няма нікога. Ён тады злажыўся на яго другі раз. А арол зноў атвяшчае:

— Не бі мяне,— кажа,— а вазьмі к сабе і кармі мяне ярай пшаніцай і паі сладкай вадой, я табе знадаблюся.

Ён зноў-такі азірнуўся кружка сябе, хто гэта разгаваруець, ды й няма нікога.

— Ну,— гавора,— за трэцім разам уб'ю, дзелаць нечага!

Трэці раз злажыўся, а ён атвяшчае ізноў:

— Ну, брат ахотнік, не бі, я сам дамся жывы!

Узяў і зваліўся к яму з куста далоў.

—Ну, гавора,— вядзі мяне, брат ахотнік, дамоў. Я,— кажа,— хацеў у сваю старану ляцець, дамоў, да аборван увесь, не далячу!

Ён яго прыводзіць дамоў. Стаў яго карміць пшаніцай белай, сладкай вадой паіць. Год карміў яго — лаўкі прадаў з таварамі на яго за год. Зноў стаў другі год карміць. Пракарміў другі — дом прадаў за другі год. Хацеў ужо яго выпусціць, дак ён кажа:

— Кармі, кармі трэці год!

— Не, брат арол, не ў сілах я цябе карміць.

— Ну, што ж,— кажа,— у сілах не ў сілах, а трэба карміць. Я,— кажа,— усе твае труды ўзнясу: варачу,—кажа,— твае лаўкі, варачу,— кажа,— дом твой!

Ён узяў паставіў жану за работніцу, і сам пайшоў у работнікі: прадаў усё сваё імушчаства на арла. Пракарміў ён яго трэцяга паўгода, тады арол кажа:

— Выпусці-ка цяпер мяне сіл сваіх уваэнаць!

Ён узяў яго пусціў. Арол тэй паляцеў. Лятаў ён трое сутак. Хадзяін тэй заскучаў:

— Карміў,— кажа,— арла, сам і жана ў работнікі пайшлі, затраціў усё, і цяпер ні арла, ні хлеба — прапала ўсё!

На чацвертыя суткі выходзе хадзяін з горада глядзець арла, у які бок ён паляцеў, а ён і ляціць назад.

— Не, брат ахотнік, шчэ трэба два месяцы карміць!

Ён зноў два месяцы стаў карміць. Пракарміў яго два месяцы, тады арол гавора на хадзяіна на свайго:

— Бяры,— гавора,— ружжо сваё і торбу,— гавора,— сваю ахотніцкую бяры, і пойдзем з табой у дарогу!

Ён узяў торбу і ружжо і пайшлі за горад. Выйшаўшы з горада:

— Ну, садзісь,— кажа,— на мяне, хадзяін, паедзем,— кажа,— паскарэй!

Ён сеў на яго верхі. Тэй і падняўся ўгару пад зобалакі. Пад зобалакі падняўшы, пусціў яго далоў. Толькі б яму далоў упасць, а ён пад яго:

— Стой, брат, цэл будзеш! А ведаеш,— гавора,— як ты на мяне першы раз злажыўся? Якаво табе было? А? Ну, цяпер,— кажа,— паедзем паскарэй, а то жана есці хоча, а грошай няма, купіць не завошта!

Абшчапіўся ён за яго і пайшлі зноў у ход, пад зобалакі. Падняліся пад зобалакі, ён яго зноў пусціў далоў, ужо другі раз. Тады яму толькі б далоў упасць, ён зноў пад яго:

— Стой,— кажа,— дзяржыся за мяне, будзеш жыў! Ведаеш, як ты на мяне другі раз злажыўся?

Абшчапіўся ён зноў, і паехалі пад зобалакі. Падняліся пад зобалакі, ён яго зноў пусціў із зобалак. Толькі б яму трэці раз упасць далоў, ён зноў пад яго:

— Стой, брат, цэл будеш! А ці ведаеш,— кажа,— як ты трэці раз злажыўся на мяне? Якаво табе было? А? Вот так жа і мне! Цяперака сядзем з табой, пасядзім,— кажа,— аддыхнём, вады,— кажа,— нап'ёмся да пакурым. Слухай-ка, брат, што я цяпер буду гаварыць. Паедзем мы дальшы, будзе стаяць бальшы медны дом на тры вянцы, на тры крыльцы. У том доме будзе жыць мая большая сястра. Як прыедзем мы к таму дому да [а]пусцімся на землю, дак ты,— гавора,— бяры бічоўку, чапай мяне за шыю, і вазьмі,— кажа,— друка, і бі мяне міжда крыл, што ёсць сілы твае. Яна ўбача з трэцяга вянца і кінецца прама з вакна на землю і будзе цябе прасіць: «Дзе ты майго брата ўзяў і завошта ты яго так болна б'еш?» І будзе табе даваць і грошы і хлеба, ты нічога не бяры, а прасі тую скрыначку, што ў яе сярод двара ў каменным стаўпе замурована! Да глядзі не зявай!

Паляцелі яны дальшы. Ляцелі, ляцелі — стаіць бальшы медны дом на тры вянцы, на тры крыльцы. Яны спусціліс; узяў ахотнік бічоўку, зачапіў арла за шыю і б'е друком міжда плеч. Убачыла гэта з трэцяга вянца яго большая сястра, кінулась прама з вакна на землю і просе:

— Дзе гэта ты майго брата ўзяў? Завошта ты яго б'еш так? Я яго шэсць гадоў не бачыла, а ты прывёў яго ка мне! Што табе трэба, я табе заплачу, аддай мне яго, ці грошы, ці хлеба, ці

дом выстраіць, дак я магу выстраіць і сям'ю тваю сышчу і буду карміць да веку!

Ну, ён гавора:

— Мне не трэба ні грошы, ні хлеба, ні дом твой — аддай ты мне тую скрыначку, што ў цябе сярод двара ў каменным стаўпе замурована!

— Не, не,— кажа,— скрыначкі не аддам табе. Дзе ты яго ўзяў, туды і вядзі, як хочаш, так з ім і жыві!

Пайшлі яны з двара. То біў яго, на двор ідучы, а з двара ішоў — шчэ луччы біў. Вельмі заплакаў арол. Стала ёй жалка, вярнула назад іх:

— Выпіце,— кажа,— закусіце і грошай на дарогу вазьміце колькі трэба і адпраўляйцесь з богам!

Яны вярнуліся назад у дом, выпілі, закусілі на радасці з сваёй сястрыцай, грошай узялі на дарогу і адправіліся. Вывеў ён яго з яе дому ў стэп.

— Ну, зноў,— кажа,— садзісь на мяне, панясу,— кажа,— к сярэдняй сястрэ; можа, тая скрыначку дасць.

Цяперыча, пад'язджаюць яны пад сярэднюю сястру. Стаіць дом сярэбраны на тры вянцы.

— Ну,— гавораць,— прасі ў гэтай як ні можна! Як не [а]ддасць, дак нам трудна будзе!

Ён яго зноў зачапіў бічоўкаю за шыю і пачаў біць друком. Прыйшлі прама к ёй на двор. Яна ўбачыла з трэцяга вянца, кінулася з вакна на землю к ім і давай яго прасіць:

— Ах,— гавора,— чалавек, завошта ты так вельмі майго брата б'еш? Вазьмі з мяне,— кажа,— ці грошы, ці хлеба, ці што табе трэба да аддай мне яго. А калі не аддасі, дак не бі!

— Ну,— гавора,— мне не трэба ні грошы твае, ні хлеб, ні дом. Аддай мне тую скрыначку, што сярод двара ў каменны стоўп замурована!

— Не,— кажа,— не дам! Ідзе ўзяў, туды сабе і вядзі яго. Як хочаш, так з ім і жыві!

Ён узяў яго, павёў з двара і давай зноў лаганяць яго друком. Яна вярнула іх назад, напаіла, накарміла, грошай дала на дарогу і адправіла.

— А скрыначкі,— кажа,— не [а]ддам табе гэтай!

Ну, выйшлі яны з дому з яе ў стэп. Арол кажа:

— Садзісь,— кажа,— паляцім к трэцяй сястрэ, к самай меншай. Тая,— кажа,— калі гэтай скрыначкі не аддасць — кончана наша жысць, не пападзём і дамоў!

Ляцелі, ляцелі — стаіць залаты дом на тры вянцы, на тры крыльцы. Апусціліся на зямлю, падходзяць к двару. Ён зноў зачапіў бічоўкай арла за шыю, б'е друком і вядзе на двор. Яна ўбачыла з трэцяга вянца, з дому і кінулася на зямлю. Спрашуе:

— Адкуда, чалавек, узяў брата майго і завошта ты яго так вельмі б'еш?

Зразу заплакала, села на коленцы і просе:

— Бяры, што хочаш, і вядзі брата на двор!

Ён кажа:

— Калі аддасі тую скрыначку, што сярод двара ў каменным стаўпе замуравана, павяду і аддам брата, а калі не [а]ддасі тыя скрыначкі, не [а]ддам табе брата і на двор не павяду.

— Да вядзі,— кажа,— у горніцы: вып'ем, закусім, падумаем — можа й аддам!

Увайшлі ў комнаты, селі за стол, сталі выпіваць, закусваць і добрыя рэчы казаць.

— Дзе ж ты,— кажа,— брат, быў? Чаго ты к гэтаму чалавеку папаўсь?

— Да я,— кажа,— быў на воінстве — трэбавалі. Многа сілы пабіта, і я ўвесь быў паранят, да шчэ быў жывы. А гэты чалавек хадзіў з ружжом па лесу, убачыў мяне і хацеў убіць з ружжа. Ну, я стаў яго прасіць: «Не бі мяне, а вазьмі дамоў, кармі мяне і раны злячы і пер'я ўзрасці». Цяперыча, ён стаў зусім бедны, пакуль раны злячыў і пер'я ўзрасціў. Мы цяпер ідзём, дзе б заработать да яму ўбыткі ўплаціць. Ну, вот і прыйшлі к табе на абед: грошай няма, хлеба няма, каторыя суткі нічога не елі.

Ну, яны выпілі, закусілі. Арол стаў сам прасіць, а хадзяін быццам лёг п'яны спаць, а сам слухае, ці аддасць яна скрыначку. Ажно яна гавора:

— Не, не прыходзіцца яму аддаць!

Хадзяін тады ўстаець:

— Ну, пойдем,— кажа,— арол!

Узяў яго, зачапіў у комлатах за шыю бічоўкай і пачаў яго лупіць друком, да ўжо па чом папала. Вывеў яго з комлат, стаў ён з сястрой прашчацца, слёзна заплакаў. «Трэба аддаць! — сама сабе думае сястра. — А то заб'е брата!»

І вярнула іх. Вярнуліся назад, селі апяць за стол і давай зноў выпіваць, а яна пайшла за скарыначкай. Стоўп тэй разбілі, скрыначку ўзялі і ўцягнулі ў комлаты. Яна і кажа на таго ахотніка:

— Ну, распішыся, што нічога не будзеш маць на маім браце!

Ён чыркануў, узяў скрынку, усунуў у барсуччую торбу, узяў ружжо сваё, папрашчаўся з яго сястрой і папрасіў арла правесці яго, паказаць пуць-дарогу:

— Ну, брат,— кажа,— пакажы пуць-дарогу!

Ён кажа:

— Ідзі туды, куды глядзіш, куды твае вочы смотраць: не будзеш ні ўбіт, ні абіджан і дамоў прыйдзеш. Толькі глядзі, не [а]дчыняй скрынкі на дарозе. А як прыйдзеш дамоў у горад ды знáйдзеш жану, выйдзі з горада і адчыні скрынку сярод поля!

Ён сабе і пайшоў прама, куды вочы глядзяць, як арол яму расказаў. Ішоў ён, ішоў і абдумаўся: «Скрыначка лёгка, што ж я нясу? Можа, у ёй няма нічога. Трэба адамкнуць і паглядзець, што ў ёй ёсць». Выняў ён з торбы скрыначку, узяў і адамкнуў. Як адамкнуў, так січас і сталі яму горад строіць. Аж ён спужаўся. Пастроілі горад няма знаць з чаго такі, што і ў царстве іх не было такога. І няма яму ходу, некалі дамоў ісці — свой горад ёсць. Узнаў змей дванаццаціглавы, што на яго зямлі горад выстраен пачышчы яго. Пасылае пасланцоў сваіх спрасіць:

— Хто там без майго пазвалення выстраіў горад? Няхай ба спрасіўся, тады б строіў!

Пасланцы прыязджаюць і спрашуюць:

— Хто тут хадзяін?

— Я!

— А хто табе вялеў строіць тут?

— Гэта я тут па судзьбе выстраіў: мне не трэба было тут строіць, да судзьба адолела.

— Ступай,— кажуць,— к нашаму цару! Нам веляно прыставіць цябе туды на расправу!

— Я,— кажа— сам не пайду туды; няхай ваш цар сам прыходзе або прыедзе: у яго слуг і работнікаў багата, а я, як бачыце, адзін!

Адправіліся пасланцы назад к змею, звясцілі яму, што там столькі ўсякага страення і дабра, што ў змея і трэцяй часці таго няма, і сказаў хадзяін: «Няхай сам цар прыедзе ка мне».

Змей вялеў запрэгць коней і паехаў у горад.

— Адчаго ты,— кажа,— састроіў на маёй зямлі горад?

— Ваша царская міласць, мяне судзьба так адолела. Хадзіў я ў лес і найшоў ранятага арла, ускарміў я яго, адвёў дамоў, дак ён аддаў мне скрыначку і казаў на дарозе ў яе не глядзець, а

тады паглядзець, як прыйду дамоў. Ну, мне захацелась на дарозе есць, я ўзяў паглядзеў і сам не ведаю, як усё гэта здзелалась. Цяпер не знаю, што і дзелаць.

Змей тады кажа:

— Я табе ўсё зганю ўкучы, толькі што мне за гэта будзе?

— Я ж не ведаю,— кажа ахотнік.

— Аддай мне тое, што ў доме не ведаеш!

Ён думаў, думаў, перадумаў і гавора:

— Усё знаю.

Калі ты ўсё знаеш. дак табе ж луччы, а ты ўсё ж аддай тое, чаго не знаеш!

— Ну,— ён кажа,— аддаю, што дома не знаю.

Напісаў змей бумагу:

— Ну, цяпер распішыся!

Ён кажа:

— Я ж не магу распісацца, я ж няграматны.

— Ну,— кажа,— вазьмі ножык, прарэж на правай руцэ палец і пастаў тры хрэсцікі кроўю!

— Ах, няма ж у мяне ножыка, нечым палца прарэзаць.

Вот ён выняў свой ножык, ён узяў і парэзаў палец і паставіў тры хрэсцікі. Змей тады ўзяў і загнаў увесь горад у скрыначку.

— Ну, цяпер адпраўляйся дамоў!

Тэй усунуў скрыначку ў торбу і пайшоў. Прыходзе дамоў; жонка жыве ў суседзей, хлеба куска не мае. Ён давай к ёй прызнавацца, а яна к яму ніяк:

— Не,— кажа,— я не твая, ты не мой!

Пакуль ужо ён расказаў ёй, як ён паймаў арла, як яго яны кармілі, як на яго пракармілі і лаўкі і дом, як яны служыць пайшлі. Прызнала яна яго, ён яе за руку і павёў. Паглядзіць, а следам ідзе хлопчык. Ён і спрашуе:

— Які ж гэта хлопчык?

— Гэта ж,— кажа,— наш сын, што радзіўся без цябе!

Выйшлі яны з горада, прыйшлі ў стэп.

— Ну, садзіцесь да ешце!— дае ім свой хлеб падарожны.

— Да, тат, твае булкі не смашны, ці падавіцца імі?— кажа сын.

— То ж аб гэтым і заработкі ўсе? — спрашуе жонка.

— Не,— кажа,— стой!

Тады выняў скрыначку з барсуччыя торбы і адамкнуў. Як адамкнуў, дак адкуля-ка што ўзялося: такі горад прывукрасны, што і ў цара такога не было. Яны ўсе ходзяць і дзівяцца. Сын тады і кажа:

— Ну, тат, баслаўляй: ты з дарогі, а мне ў дарогу! Трэба іціць к дванаццацігаловаму змею!

А бацька й забыў пра гэта. Як ні жалка сына, а трэба знаражаць у пуць. Сабраўся ён і пайшоў. Ідзе ён па дарозе, уходжуе ў лес. У лесе стаіць хатка, маленькая, дзіравая. Ён уходзе у тую хатку — няма нікога. Хадзіў, хадзіў ён па хаце, захацеў пакурыць, да агню нямаш. Ён падышоў к ямцы, капнуў попел, а адтуль выскачыла баба саплівая. Выскачыла і кажа:

— Ах, унучак! Сядзь аддыш, змей цябе ўжо паджыдае. Да добра ты здзелаў, што ка мне зайшоў. Вазьмі вядро да зачэрпні ў рэчцы вады, а я табе абед звару!

Цяпер ён пайшоў, вады прынёс, яна абед зварыла. Селі, па[а]бедалі.

— Ляж, аддыхні, унучак, да вечара! Увечары пойдзеш.

Ён лёг, аддыхнуў. Прачнуўся, ажно ўжо вечар. Ён па хаце туды-сюды — нямашака бабы. Ён у ямку — яна зноў у ямцы. Выскачыла адтуль:

— Ах, унучак! Вазьмі вядзерца да зачэрпні ў рэчцы вады: я табе вячэрку звару!

Ён прынёс вады, баба зварыла вячэрацъ. Павячэралі і ляглі спаць. Назаўтрага ўстала і адпраўляе яна яго ў дарогу:

— Ну, унучак, ідзі ты к той рэчцы, што браў ваду, зайдзі вярсты за паўтары к правай руцэ. Там,— кажа,— стаіць бальшы куст. Ты ўлезь у тэй куст і сядзі. Будуць там ляцець дзве лябёдкі разам, а трэцяя ззаду адна. Яны як прыляцяць, адвяжуць крылля, скінуцца дзявіцамі і стануць купацца. Дак ты ў гэтых дзвюх нічога не бяры, а ў гэтыя, што ззаду будзе ляцець, вазьмі што-небудзь. Да не [а]ддавай, пакуль яна не скажа, што будзеш друг мой. Тады спрасі ў яе, як тэй агонь патушыць, што ў горадзе ў змея?

Пайшоў ён к рэчцы, знайшоў куст і схаваўся ў ём. Аж ляцяць дзве лябёдкі разам, а трэцяя ззаду. Пыляцела і стала кружыцца над кустом, ці няма там злодзея якога. Скінулісь яны тады дзявіцамі, павесілі адзежу на куст і сталі купацца. Ён і ўкраў у яе панчошку з правыя нагі. Вылезлі яны з вады, сталі адзявацца. Тыя ж дзве адзелісь і паляцелі, а гэта цап за панчошку — няма панчошкі з правыя нагі... Яна тады спрашуе:

— Эй, хто гэта ўзяў маю панчошку, аддай — нагараджу, чым хочаш.

Ён маўчыць. Яна апяць:

— Аддай,— кажа,— панчошку: як старшы мяне — айцец

будзеш мой, а меншы мяне — брат будзеш мой, а як роўны мне — друг мой!

Як назвала другам, ён і выйшаў з куста.

— А, гэта ты ўзяў! Мой бацька даўно цябе жджэць!

— Як жа мне астанавіць полама ў горадзе, у твайго бацькі?

Яна дала яму хустачку белую і кажа:

— Махні гэтай хустачкай на [а]бодвы бакі, як будзеш уходзіць у горад, і полама сцішыцца!

Ён узяў і пайшоў к бабе назад. Баба тая кажа:

— А што, ці ўзяў што, унучак?

Ён паказаў.

— Гэта праўда, унучак, гэтым агонь уняць можна. Ну, унучак, прынясі ж вядзерца вадзіцы, вячэрку згатовіць!

Ён прынёс, яна зварыла вячэраць, павячэралі і леглі спаць. Пераначаваў ён, назаўтра баба ізноў пасылае яго ў куст сцярэгць.

— Глядзі ж,— кажа,— змей паставе ў сваіх варотах стаўпы, што муха не праляціць і камар не прапаўзе міжда іх,— так яны шпарка б'юцца. Вот ты як украдзеш у яе з адзежы што-небудзь, дак і спрасі, як астанавіць гэтыя стаўпы?

Ён залёг у куст і зноў прысцярог яе: украў з нагі падвязку. Тады яна ізноў жа так вызываець:

— Калі старшы мяне — будзеш айцец мне, а меншы мяне — будзеш брат мне, а раўня мне — будзеш другам мне.

Ён і аявіўся. Яна яму і кажа:

— Чаму ты зразу не казаў тады, што табе трэба? І цяпер ухваціў!

Ён кажа:

— Зразу не ўсё скажаш! Трэба падумаць. А ты скажы-ка мне цяпер, як у твайго бацькі стаўпы астанавіць, што так шпарка б'юцца, што муха не праляціць і камар не прапаўзе?

Яна яму кажа:

— Як пойдзеш к варотам, дак скажы стаўпам: «А нуце, перакіньцеся левы на правы бок, а правы на левы!» Як перакінуцца яны, дак так і астануцца!

Ён пайшоў назад к бабе. Прыходжуе к бабе, а яна спрашуе:

— Што ж, ці дала яна табе што, ці на [а]твет сказала?

— Не, не дала нічога, а сказала, як прыйдзеш к варотам, дак скажы: «Ну-ка, перакінься левы стоўп на правы бок, а правы на левы!»

Баба кажа:

— Ну, лажысь спаць: яна сказала праўду!

На трэцяе ранне зноў баба пасылае:

— Ідзі яшчэ! Змей паставіў у дзвярах меч, трэба тую меч звярнуць!

Прыйшоў ён, лёг пад куст. Прыляцелі лябёдкі, сталі купацца, ён тады ў паследняй і украў засцяжку. Ізноў яна стала вызываць, хто ўкраў яе вешчы. Ён вызваўся. Яна тады кажа:

— Што ты мяне мучыш? Што табе яшчэ трэба?

Ён кажа:

— У доме твайго бацькі ў дзвярах стаіць меч. Як мне яе сустанавіць?

Яна тады дае яму персцень з правыя рукі і кажа:

— Як падойдзеш ты к дзвярам, дак там будуць мячы. Ты павярні персцень вочкам к ладоні, мячы тады абернуцца к табе тупым канцом, і ты пройдзеш у хату.

Прыходзе ён к бабе к той назад. Баба і спрашуе:

— Якую ж прымету дала яна?

Ён расказаў ёй, што яму лябёдка дала кальцо і сказала: «Як,— кажа,— прыйдзеш к дзвярам, перавярні яго вочкам к ладоні, тады меч вастрыём к змею перавернецца». Баба тады гавора:

— На ж, унучак, і мае тры прыметы. Як будзеш варочацца назад, яны табе прыгадзяцца!

Дала яму вузялок пяску і дала шчотку і грабёнку кляновую.

— Як, — кажа, — будзе за табой пагонь іціць, дак ты пяском назад пасып. Тады стане пясчанае мора. А як махнеш шчоткай, то здзелаюцца логі-балоты, яловы лес; а як махнеш грабёнкай, то здзелаецца пушча-драмушча, кляновая ўся. Тады ты можа ўцячэш ад яго дамоў!

Узяў ён гэты вешчы, паспасібкаваў і пайшоў у пуць-дарогу. Прыходжуе пад горад, так і бача, што агнянае полама наслана на яго. Ён узяў белую хустку, махнуў ёй на [а]бадвы бакі — полама і ўтухла. Уходжуе ён у горад к дому дванаццаціглавага змея, а ў яго варотах два стаўпы дружка аб дружку б'юцца, што муха не праляціць і камар не прапаўзе. Ён гэтым стаўпам кажа:

— Перакіньцесь левы на правы, правы на левы!

Яны перакінуліс і астанавіліс. Як яны толькі астанавіліс, ён махнуў рукой і пайшоў прама ў двор. Змей убачыў яго з вакна і кажа:

— Ах, ажыдаў, як салодкіх канхвет, да не прыйдзецца з'есць: патушыў агонь і стаўпы астанавіў. «Ну, да,— думаець сабе змей,— пастаўлю меч — наскочыш!»

Хлопец той прыйшоў к дзвярам, так січас персцень той перавярнуў на палцы вочкам к ладоні, меч і перавярнуўся змею ў грудзі. Увайшоў ён у хату і кажа:

— Здрастуй!

— Здрастуй, здрастуй! — гавора змей.— Ждаўся, ждаўся, да не даждаўся, хацеў із'есць, а,— кажа,— не з'еў — падавіўся табой. Ну, цяпер,— кажа,— як змог ты прыйціць ка мне ў дом, дак можаш цяпер і маім царствам правіць, як сам знаеш. Ёсць у мяне адна дачка незамужняя, дак я за цябе замуж аддам.

— Не,— кажа,— калі палавіну царства адпішаш мне і аддасі дачку замуж, дак буду царствам тваім правіць!

— Ну,— кажа змей,— няхай будзе так. Толькі во што я табе скажу: калі дачку маю меншую ўзнаеш, дак будзе твая, а як не, дак галаву ссяку.

Меншая дачка чула, што казаў бацька, і стала ёй жалка гэтага царэвіча. Убачыла яна яго і кажа:

— Як сабярэ нас бацька ўкучу трох, то будзе ў нас голас у голас, волас у волас, нага ў нагу і адзежа ў адзежу. Як паставе ён нас у рад, дак я пашавяльну ціхенька нагой. Ты тады і вывадзі мяне з раду і кажы: «Вот гэта яна». Паставе ён нас у другі раз у рад, дак у мяне будзе муха сядзець на галаве. Толькі не зявай, не дзівісь набок. А ў трэці раз зноў як паставе, дак глядзі харашэнька, я правым вокам маргну! Толькі глядзі,— кажа,— не празявай, а то ўсё прападзе.

Як яна сказала, так усё і было, ён тры разы яе і ўгадаў.

— Цяпер,— кажа змей,— трэба свадзьбу гуляць!

Паехалі к вянцу, павянчаліся. Павялі іх на ноч у клець да й замкнулі, каб яны не выйшлі. Назаўтрага змей пасылае пасланцоў, дружкоў:

— Ідзіце, узнайце, чаго іх так доўга няма?

Яны прыйшлі, а клець запёрта. Хадзілі яны, хадзілі, ніяк не можна дапытацца — запёрта. Улез адзін на столь, узяў стольніцу і ўсунуў туды галаву. А яна кажа:

— Вазьмі бацькаў меч да стань на часах, да рубі ім галовы!

Ён узяў меч і зрубіў яму галаву. Ён туды і ўваліўся. Тады палез другі — і яму так жа сама. І да тых пор стаяў, пакуль усім дванаццаці пасланцам галовы пазрубаў. Паскладаў ён тулавы хрэст-нахрэст, падняўся па іх даверху, вылез сам і жонку выцягнуў. Жонка тады тры разы плюнула, і пабеглі. А змей ждаў, ждаў і паслаў трынаццатага пасланца. Тэй прыходзе, бача — усё замкнута і забіта. Кінуўся наверх, аж там стольніца

выбіта. Ён туды галаву ўсадзіў, бача — многа народу пабіта. Хацеў ужо ісці, а далі спрасіў:

— Ці ёсць тут хто жывы?

— Ёсць,— кажуць там.— Мы, маладыя.

— А што ж вы не [а]дзываецесь?

— А шчэ,— кажуць,— рана!

Ён пайшоў к змею і кажа, што маладыя шчэ спяць.

— Ну, ступай жа, скарэй заві, а то галаву зрублю далоў.

Прыходзе ён і спрашуе:

— Ці скора вы?

— Падажджы трошкі, січас выйдзем. Ідзі дамоў, мы самі прыйдзем.

Пайшоў ён і сказаў змею. Змей паслаў ізноў, а слюна кажаць:

— Не ведаем, ці будзем-мы цяпер жывы.

Змей тады дагадаўся, што іх няма там, кінуў вяселле і пагнаўся ў пагонь:

— Дзе нападу, там і з'ем абоіх!

Дужа ўжо быў сярдзіт. А тыя беглі, беглі, яна кажа:

— Ах, мой мілы! Стань ты на правую нагу да паслухай, ці не шуміць дуброва, ці не стогне дарога, ці няма за намі пагоні?

Ён стаў і кажа:

— Ах, мілая, вельмі шуміць дуброва, вельмі стогне дарога!

— Гэта наш бацюшка за намі ў пагонь едзе. Ці ёсць у цябе прыметы, што табе баба-сапліўка давала?

— Ёсць!

— Сыпні ж,— кажа,— назад пяском!

Ён сыпнуў, і здзелалася назаду пясчанае мора. Пабеглі яны дальшы, а змей перабраўся чэраз пясчанае мора і зноў іх даганяе.

— Ну, цяпер,— кажа,— махай ззаду шчоткай!

Ён махнуў, і сталі логі да балоты, і лес яловы, такі гусценны, што і вуж не прапаўзе. Пабеглі яны дальшы, а змей перабраўся чэраз пушчу і зноў іх даганяе.

— Ну, цяпер махні грабёнкай кляновай!

Махнуў ён грабёнкай, і здзелалася пушча-драмушча кляновая. Перабраўся змей і чэраз пушчу-драмушчу кляновую.

— Ах,—кажа яна,— вельмі ж дуж, акаянны! І чэраз гэта перабраўся. Ну, цяпер я скінуся рэчкай, а ты будзеш вокунем. Ён скінецца шчукай і будзе цябе хватаць з галавы: «Вокунь, вокунь, стань ка мне бокам!» — А ты варочайся к яму задам і скажы: «Калі ты, шчука, вайстра, дак вазьмі мяне з хваста!» — А я ўсё буду ўсыхаць, дак ён астанецца ў гэтай рэчцы. Будзе

ў нас вады прасіць, а мы скажам: «Як не ўмеў дома ўміраць, дак будзеш на дарозе прападаць!»

Ну, так усё і было: змей гэты шчукай прапаў у высахшай рэчцы. Пайшлі яны далей, ішлі, ішлі, прыйшлі ў горад, ажно яго бацькі шчэ жывы. Сустрэцілі яго, заплакалі і кажуць:

— Ах ты, сын наш любы! Сколькі гадоў цябе не было!

— Ну,— кажа,— што было, то прайшло, а толькі, тат, за цябе да чэраз арла па чужой старане прыйшлось многа гора перацярпець. Ну, да цяпер,— кажа,— усё прайшло. Вярнулі мы ўсё, што затрацілі, а цяпер будзем жыць да пажываць да зноў дабра нажываць.

## 26. ПРА ІВАНА-ЦАРЭВІЧА І ДВАНАЦЦАЦІГАЛОВАГА ЗМЕЯ

Жыў-быў цар з царыцаю. Жылі яны ў згодзе і багацці. І вось на свеце стала суш, цар сабраўся і паехаў шукаць вады. Выехаў цар на лепшых сваіх конях, многа праехаў цар, стаміліся і коні, а вады нідзе не відно. Пад'язджае цар да пушчы і бачыць — стаіць калодзеж, абрадаваўся цар калодзежу і нагінаецца напіцца вады. Вада стаіць у самым версе калодзежа, але калі цар нагнецца, вада апускаецца да сярэдзіны. Так паўтаралася некалькі разоў. Зусім аслабеў цар без вады і гаворыць:

— Што за чорт сядзіць у калодзежы! Як толькі нагнуся напіцца, вада адступае да сярэдзіны.

У гэты час раздаецца голас з калодзежа:

— Цар Іван, я вам дам ваду, але распішыцеся сваёю ўласнаю крывёю за тое, чаго ў вас няма дома.

Думаў, думаў цар і адказвае:

— Усё ў мяне ёсць: землі, людзі, багацце.

Разрэзаў цар палец і распісаўся сваёю крывёю, затым напіўся сам і напаіў сваіх коней. Завярнуўся цар і паехаў дамоў, прывёз вады, а ў цара нарадзіўся сын. Ахнуў цар: «Вось на каго я распісаўся сваёю крывёю, на свайго роднага сына».

Пагараваў цар і скора забыўся аб гэтым. Ездзіць цар на ахоту, а сын расце не па часах, а па мінутах.

Паехаў аднойчы цар на ахоту ў лес, і тут раздаўся голас:

— Цар-царэвіч, калі вы прывязеце доўг?

Цар падумаў, што яму пачудзілася, ён жа забыўся, што распісаўся сваёю крывёю. Другі раз цар ізноў падумаў, што яму пачудзілася, аднак на трэці раз голас сказаў:

— Іван-царэвіч, калі свайго доўга не аддадзіце, наш меч — ваша галава з плеч.

Цар пытае, які за ім доўг, а голас адказвае:

— Помніце, у пушчы ля калодзежа вы распісаліся сваёю ўласнаю крывёю за тое, чаго ў вас не было.

Вярнуўся цар засмучаны, абняў сына і стаў плакаць.

— Дарагі мой сын. Калі была суш, я шукаў ваду і падпісаўся сваёю крывёю на цябе, а цябе не было на свеце. Ты павінен з'явіцца к калодзежу ў пушчы.

Доўга плакалі цар і царыца, сабралі сыну адзежу, харчы ў дарогу, і пайшоў царэвіч з царом у лес. Развітаўся царэвіч з царом, цар вярнуўся, а царэвіч рушыў далей, у пушчу. Падходзіць царэвіч да невялікага возера ў пушчы, у гэты час прылятаюць к возеру дванаццаць качак, ударыліся аб зямлю і сталі прыгажунямі-дзяўчатамі. Раздзеліся яны і пачалі купацца ў возеры, а царэвіч прыхітрыўся і ўкраў у адной дзяўчыны ўсю адзёжу. Пакупаліся дзяўчаты, выйшлі з возера, ператварыліся ў качак і паляцелі, а адна стаіць без адзёжы і просіць царэвіча:

— Аддай, царэвіч, маю адзёжу.

— Не, не аддам,— адказвае царэвіч.

— Аддай, я ведаю, куды ты ідзеш: ты ідзеш да майго бацькі, дванаццацігаловага змея, аддай, я навучу, як падысці да бацькі. Як будзеш ісці, трэба ісці на каленях, ён будзе крычаць: «Уставай, мой меч — твая галава з плеч»,— але ты не падымайся і так застанешся жывым.

Пад'язджае царэвіч к палацу дванаццацігаловага змея і ўпаў на калені, а змей крычыць:

— Уставай, брадзяга! Уставай, сукін сын!— але царэвіч не падняўся і так дайшоў да змея.

— Маладзец,— пахваліў царэвіча змей і адразу аддае загад замкнуць царэвіча за жалезныя рашоткі. Сумны сядзіць царэвіч, успамінае бацьку, маці, а тут у дванаццаць гадзін прыносіць слуга задачу, якую загадаў змей зрабіць царэвічу за ноч. Задача была такая, каб за ноч пабудаваў хрустальны мост, і калі змей будзе ісці па хрустальнаму масту, каб абапал цвілі сады, а калі будзе варочацца назад, каб мог яблыкі сарваць.

Сядзіць царэвіч сумны, а ў гэты час у адкрытае акно ўлятае качка і ператвараецца ў прыгажуню.

— Чаго плачаш, сумуеш, царэвіч?— пытае прыгажуня.

— А як жа не гараваць? Загадаў бацька збудаваць хрустальны мост, і калі будзе ісці, каб абапал цвілі сады, а калі будзе варочацца, каб мог нарваць яблык.

— Не сумуй, царэвіч, будзе зроблена.

Прачнуўся змей і бачыць: стаіць хрустальны мост, а абапал яго цвітуць сады. Пахваліў змей царэвіча, загадаў напаіць, накарміць і зноў пасадзіць за рашотку.

У дванаццаць гадзін з'яўляецца слуга і перадае загад змея:

— Заўтра будуць выстраены ўсе дванаццаць змеевы дочкі, і царэвіч павінен адгадаць, дзе самая малодшая дачка змея.

Перадаў загад слуга і пайшоў, а ў гэты час у адкрытае акно ўлятае качка і ператвараецца ў прыгажуню.

— Чаго сумуеш, Іван-царэвіч?

— А як жа мне не сумаваць? Загадаў бацька заўтра адгадаць, хто з вас дванаццаці самая малодшая.

— Я — самая малодшая, і я дам табе знак на твары. Пройдзеш адзін раз, другі, а на трэці я пушчу чырвонае пятно на шчацэ. Вот так ты мяне пазнаеш,— адказала прыгажуня.

Назаўтра выводзяць царэвіча, а перад ім стаяць дванаццаць прыгажунь, усе аднолькавага роста, твар у твар, волас у волас. Паглядзеў царэвіч і думае: «Каторая ж з іх малодшая?» Прайшоў ён раз перад імі, прайшоў другі, а на трэці раз убачыў на твары ў адной чырвонае пятно, узяў ён яе за руку і падвёў да змея і гаворыць:

— Вось твая малодшая дачка.

Пахваліў змей царэвіча, а сам думае, як гэта царэвіч так добра выконвае ўсе загады. І прыдумаў трэцюю задачу, каб зрабіў царэвіч яму боты з пяску. Яшчэ горш засумаваў царэвіч, як гэта зрабіць боты з пяску. Прылятае качка, ператвараецца ў дзяўчыну і пытае, якую загадаў бацька задачу.

— Загадаў бацька зрабіць яму боты з пяску.

Думала, думала дзяўчына і адказвае:

— Не, Іван-царэвіч, гэта я не магу зрабіць. Трэба нам уцякаць. Пойдзем у хлеў, возьмем лепшага каня і будзем уцякаць.

Насыпалі яны пяску ў хатцы царэвіча і плюнулі тры разы на пясок, а самі сабраліся і адправіліся ўцякаць.

Рана ўтрам прыходзіць слуга клікаць царэвіча, што ён не выходзіць выконваць загада змея, чаго не было раней. Паклікаў слуга, а слюна адказвае:

— Падымаюся.

Пачакаў слуга і кліча другі раз, а слюна адказвае:

— Адзяваюся.

Чакаў, чакаў слуга, а царэвіч не выходзіць; паклікаў ён трэці раз, а слюна пачала высыхаць і ціха шэпча:

— Умываюся.

Пайшоў слуга да змея і гаворыць:

— Не выходзіць царэвіч і адказвае ледзь чутна.

Загадвае змей зламаць дзверы ў хаціне царэвіча, а яго там няма.

Ідзе змей к дочкам, а там няма малодшай. Здагадаўся змей і кажа:

— Вот хто выконваў усе мае загады.

І загадаў слугам даганяць уцекачоў. Уцякае Іван-царэвіч з дачкою змея. Дачка прыклала вуха да зямлі і гаворыць:

— Нас даганяюць. Я стану лесам, а ты будзеш лесніком.

У гэты час пад'язджаюць слугі змея і пытаюць:

— Не праязджалі тут двое, дзяўчына з хлопцам?

— Не, не праязджалі,— адказвае ляснік.

Завярнуліся слугі, прыязджаюць к змею і гавораць, што толькі на іх шляху быў лес і там быў ляснік.

— Ах вы, нягоднікі, трэба было браць лесніка, лес ішоў бы за вамі. Даганяйце і бярыце іх,— загадвае змей.

Ізноў слугі змея даганяюць царэвіча з дачкою змея. Едуць, едуць царэвіч з дачкою, а яна і гаворыць:

— Паслухаю я, ці гоняцца за намі.

Прылажыла яна вуха да зямлі і чуе тупат коней. Дзяўчына гаворыць:

— Я стану калодзежам, а ты будзеш паіць кароў.

Толькі ўспела яна стаць калодзежам, а царэвіч вадапоем, пад'язджаюць слугі змея і пытаюць, ці не праязджалі двое, дзяўчына і хлопец.

— Не, не праязджалі, я тут стаю цэлы дзень, але ніхто не праходзіў і не праязджаў,— адказаў царэвіч.

Ні з чым вярнуліся і на гэты раз слугі змея і гавораць, што пыталі ў вадапоя, а ён за цэлы дзень не бачыў ні праезжых, ні пешаходаў.

— Ах вы, аслы, трэба было браць вадапоя, а калодзеж і каровы ішлі б за ім. Добра, я сам паеду даганяць.

Уцякаюць царэвіч з дзяўчынай, а іх даганяе бацька-змей.

— Паслухаю я, ці не гоняцца за намі,— гаворыць дзяўчына.

Прылажыла вуха да зямлі і закрычала:

— Нас даганяе сам бацька. Я стану царквою, а ты будзеш паліць свечкі.

Толькі яны ўспелі ператварыцца: яна — у царкву, а ён — старастам, пад'язджае змей да царквы, а ўзяць не можа.

— Дагадалася, што зрабіць. Ведае, што я не магу ўзяць цэркаў, што я нячысты дух. Будзь ты праклята,— сказаў змей, завярнуўся і паехаў назад, а цэркаў яшчэ стаяла цэлыя суткі: баяліся, каб не даганялі іх больш.

Цераз суткі ператварыліся яны ў людзей і паехалі далей. Пад'язджаюць к невялікаму царству, і царэвіч гаворыць, што недалёка і іх царства. Царэвіч гаворыць, што ёсць у гэтым царстве яго знаёмая царэўна, з якой ён сябраваў да таго, як паехаў к змею. Засумавала дзяўчына і гаворыць:

— Я табе жыццё выратавала, адраклася ад бацькі, а ты прыехаў у сваё царства і пакідаеш мяне. Ты забудзеш мяне.

— Не, не забуду,— адказаў царэвіч.

— Добра, як будзеш цалавацца ў доме, не цалуй малое дзіця, інакш ты забудзеш мяне,— гаворыць дзяўчына.

Пайшоў царэвіч, а дзяўчыну пакінуў адну. Зайшоў у дом, пачаў вітацца і пацалаваў малое дзіця і ў той жа час забыўся аб дачцы змея.

— Ах, якая я няшчасная, адна ў чужой старане,— і ў той жа час ператварылася ў белую розу і села пры дарозе, па якой хадзіў дзядок у царства бацькі Івана-царэвіча на работу. А царэвіч вярнуўся ў сваё царства цэлы, жывы. Усе рады і пачалі рыхтавацца да вяселля царэвіча.

Аднойчы дзядок варочаўся з работы і ўбачыў белую розу, хацеў яе зламаць, але не змог, тады вырваў з коранем і пасадзіў яе дома. Як стала расці кветка ў хаце, устане дзядок, а рана ўсё ў яго ёсць і есці, і піць. Здзівіўся дзед і расказаў на рабоце аб чароўнай кветцы. І вось навучылі дзеда прасачыць, хто ж прыносіць яму есці і піць. Паставіў ён свечкі і накрыў макатром, а ў поўнач, калі ўбачыў, што да стала рухаецца талерка, хуценька адкрыў і здзівіўся: перад ім стаяла прыгажуня-дзяўчына.

— Эх, дзед, што ты нарабіў, я б дагледзела цябе да смерці, а цяпер не ведаю, што мне рабіць.

Пагаравала дзяўчына, а затым пытае, што чутна ў царстве. Дзядок адказаў, што ўсе рыхтуюцца да вяселля царэвіча, і цар загадаў спячы ўсім каравай, але дзе я, бядняк, спяку каравай.

— Не гаруй, дзядок. Я спяку каравай, а ты аднясеш на вяселле.

— Добра, калі прымуць,— адказаў дзед.

— Прымуць, я спяку харошы каравай.

Спякла дзяўчына каравай, а сама ператварылася ў галубку і села ў сярэдзіну каравая. Назаўтра рана ўзяў дзед каравай і панёс на вяселле. Усе ўздзівіліся, што бядняк прынёс такі каравай, а цар прыняў яго першым і пачаў рэзаць. Калі цар разрэзаў напалавіну, адтуль вылецела галубка, стукнулася аб зямлю і стала прыгажуняю. Усе былі здзіўлены яе красатою. Стала прыгажуня перад царэвічам і кажа:

— Эх, Іван-царэвіч, я табе жыццё выратавала, а ты пакінуў мяне адну ў чыстым полі.

Не даў болей гаварыць царэвіч прыгажуні, выскачыў з-за стала, абняў яе і расказаў бацькам і гасцям, што прыйшлося яму перажыць і што прыгажуня яму дапамагала і выратавала жыццё. Нявесту царэвіча адправілі, а Іван-царэвіч стаў жыць з дачкою змея.

## 27. БАСНЯ ПРА ЧАРТА

Жыў-быў паляўнічы. Пайшоў ён раз на паляванне, пайшоў ён на паляванне, і захацелася яму піць. Прыйшоў ён да возера, стаў ён ваду піць, а нехта за бараду, нехта з возера. Ён кажаць:

— Пусці.

— Не пушчу.

— Пусці!

А ён кажаць:

— Не пушчу.

— Што ты хочаш, я табе тое дам, толькі пусці.

Ён кажаць:

— Тое мне дай, што ты дома не пакінуў.

Ён думаў, думаў: «Што ж я дома не пакінуў?»

Толькі ж не пакінуў дома ўсяго стрэльбу, стрэльба пры ім.

— Стрэльбу,— кажаць,— аддаць?

Ён кажаць:

— Не, не стрэльбу, тое, што ты дома не пакінуў.

— Пусці, аддам.

Сказаў ён яму, што аддасць. Пайшоў ён. Прыйшоў ён дамоў, а ў жонкі нарадзіўся сын. Ай-яй-яй, ходзіць, як зарэзаны, гэты чалавек, прама бядуе, не знае, што рабіць ужо. Нада аддаць сына. Падходзіць, а сын гэты стаў расці не па днях, але прама па часах — як час, так яму год, як два, так яму ўжо два

гады. Ну, вырас гэты сын сільна ж ужо вялікі. Завець яго бацька і кажаць:

— Мой ты сынок, прыйдзецца табе пайсці да чарта. Я цябе абяшчаў гэтаму чарту аддаць.

— Ну, нічога не паробіш,— сын кажаць.

Папрашчаўся дома. Плакалі-плакалі, плакалі-плакалі, папрашчаўся ён, пайшоў. Ідзець, ідзець, глядзіць ён: возера. У возеры купаюцца тры дзеўкі. Паглядзеў ён, паглядзеў, каторая самая страйнейшая дзеўка. Ён у яе сільна ўлюбіўся, у гэту дзеўку. Улюбіўся ён у яе і ўвідзеў, дзе яна раздзявалася, дзе яна адзежу сваю клала. Узяў ён гэту адзежу ейную і схаваў. Вот яны пакуль выкупаліся, прыляцелі надзявацца — нету адзежы. Вот яна сюды-туды — нету. Гэтыя надзеліся і паляцелі, а яна адна асталася. Што рабіць? Яна ў плач кінулася. Ён падходзіць да яе і кажаць:

— Я тваю адзежу ўзяў, у мяне твая адзежа.

Яна кажаць:

— Куды ты ідзеш?

Ну, ён сказаў:

— Куды я іду, да чарта іду. Мяне бацька аддаў яму, дык я мушу да яго схадзіць, бо калі яму не аддадуць сына, то ўсё роўна ён прыйдзець і задушыць нас, усіх у хаце падушыць.

Дык яна кажаць:

— Ты як прыйдзеш у хату, у сені, глядзі не йдзі пасярод у сенях, толькі ідзі беражком, бо як ты ўступіш на ягоны след, дак ён цябе адразу задушыць.

Ну, пагаварыў ён з ёй, яна яму расказала, як ісці да чарта. Аддаў ён адзежу, яна адзелася і паляцела дамоў. Паляцела яна дамоў, прыляцела. Ідзець і ён, ідзець у сені. Ідзець ён каля сцяны. Прыходзіць:

— Здрастуйце.

— Здрастуйце,— чорт кажаць.— Ну што, прыйшоў на работу?

Ён кажаць:

— На работу прыйшоў.

— Ну вот я табе січас загадаю работу. Там ёсць возера, ты ішоў каля яго, відзеў?

— Відзеў.

— Гэтае возера нада высушыць і ўзараць, і пасеяць пшаніцу, і зжаць, і змалаціць, і спячы булку хлеба мне і прынясці мне акурат, і прынясці акурат, а еслі ты гэта не зробіш, то я тады цябе задушу.

Ну што, пайшоў гэты, узяў каня з гліны, саху з гліны — усё глінянае, плуг, усё з гліны. Як стаў араць, разваліўся конь, разваліўся плуг — усё развалілася гэта. Ну, і што яму тады рабіць — сеў і плачаць. А там кажуць, у чарта таго:

— Нада нясці снедаць яму. Ну, хто панясець?

Яна ўжо шчык:

— Я панясу.

Панясла яна снедаць. Прыходзіць, а ён сядзіць і плачаць.

— Чаго ты плачаш?

— А як жа мне не плакаць: конь разваліўся, усё паразвальвалася, саха развалілася, і ўсё паразвальвалася, і я не маю, што рабіць.

Яна кажаць:

— Ціха, не плач, пад'еш.

Пад'еў. Узяла яго ў галаве шукаць. Цярэбіць, цярэбіць галаву, узяў ён і заснуў. Заснуў ён, а яна як свіснула, дык наляцела чарцей! Усё возера ўзаралі, высушылі гэта возера і пшаніцу пасеялі, і зжалі гэту пшаніцу, і булку гэту акурат спяклі і прынеслі і палажылі пры ёй гэты курачок. Ляжыць гэты курачок ужо. Ляжыць гэты курачок хлеба пры ім. А сама пайшла, пайшла і кажаць:

— Цяпер не йдзі, прыйдзеш увечара да мяне.

Ну добра, вот прыйшла яна дамоў.

— Ну, як там работа ідзець?

— Нічога, добра работа ідзець. Работаець ужо гэты.

Харашо. Прыходзіць дамоў, прыносіць булачку хлеба, гэты самы ўжо курачок прыносіць.

— Ну, маладзец, добра зрабіў. Цяпер назаўтра я табе яшчэ работу загадаю. Яшчэ камень там ёсць вялікі, вялікі камень. З гэтага каменя мусіш зрабіць палац, харошы палац штоб зрабіў.

Даў яму малаток з гліны, даў яму далато з гліны, усё з гліны яму даў.

— А не зробіш — я цябе задушу.

Пайшоў ён зноў. Як стукнуў малатком — малаток разваліўся, далато зноў глінянае ўсё паразвальвалася. Сеў ён і зноў плачаць. Тады яна прыходзіць узноў, есці яму прыносіць. Узноў сказалі ёй нясці есці. Прынесла яна есці.

— Ну, што ж у цябе здзесь?

— Нічога, відаць, ён мяне задушыць. Усё паразвальвалася: і малаток разваліўся, і далато развалілася, усё паразвальвалася, нічога няма.

— Ну, ціху, не плач, пад'еш.

Пад'еў ён. Села яна, узноў ён задрамаў. Яна зноў як свіснула, узноў чарцей як наляцела! Гэты камень разбілі, палац зрабілі, красівы-красівы палац. Праснуўся ён узноў, чарцей нікога не стала. Палац стаіць перад ім красівы. Яна кажаць:

— Прыйдзець бацька ўвечара палацу гэтага глядзець. Ты глядзі. Ён будзець пытацца, дзе тут вугол вышэйшы, а дзе ніжэйшы. Кажы: «Трошку адзін вугол правы ніжэйшы».

Прыходзіць бацька:

— Ну, дзе тут вугол адзін ніжэйшы? Не знаеш ты, каторы?

— Правы, знаю.

— Ну, добра, цяпер пайдзём дамоў.

Яны дазналіся, што гэта ўсё рабіла яна, не ён рабіў. Вот яны надумалі абаіх іх задушыць. Палажылі яны спаць іх увечары абаіх. А яна знаець, як яна чарціха, так яна знаець, што яны думаюць, іхныя мыслі. І вот яна тады зрабіла такія ўсходцы. Вот яны лягуць спаць, пытаюцца тыя:

— Ці спіцё вы? — матка пытаецца з бацькам.

А ўсходцы адказваюць:

— Не яшчэ.

Усходцы гэтыя гаворацьъ, а яны сабраліся і ходу, гэтая дзеўка і дзецючок, і ўцякаюць. Паляцелі яны, ішлі, ішлі, далекавата зайшлі ўжо, усходцы сціхлі. Матка як пачула: «Ці спіцё вы?» — маўчаць:

— Ай, скарэй хватай нож, рэж іх.

Ускочыў гэты чорт скарэй, хацеў зарэзаць, а іх ужо нету. Яна:

— Толькі цяпер гаварылі, ляці скарэй, недалёка, іх дагоніш.

Як паляцеў гэты чорт бягом даганяць. Чуець яна, зямля дрыжыць. Кажаць:

— Ай-яй-яй, ляціць мой бацька, даганяець і задушыць ён нас.

Абярнулась яна цэркваю, а яго папом і кажаць:

— Ты хадзі па цэркві, нічога не адзывайся, толькі ціханька свенці і свенці цэркву.

Прылятаець, астанавіўся чорт гэты:

— Поп, поп, ці не відзеў пары людзей? Поп, поп, ці не відзеў пары людзей?

Нічога не гаворыць, толькі ходзіць, свенціць і свенціць гэту цэркву. Папытаўся, папытаўся і паляцеў гэты чорт узноў. Прылятаець і кажаць:

— Нікога не дагнаў, толькі адна цэрква стаяла на дарозе і поп у царкві свенціць, нічога мне не сказаў.

— Дурак ты, гэта ж ён папом, а яна цэрквай. Ляці, рэж гэтага папа.

Паляцеў ён узноў. Яны ўзноў абярнуліся і зноў пайшлі дарогай. Ідуць, ідуць, чуець яна, узноў зямля дрыжыць. Кажаць:

— Ай-яй-яй, бацька ляціць узноў за намі, што рабіць? Цябе абярну я чупчыннікам, а я — кветачкай. І глядзі, калі ён будзець лавіць гэтую кветачку, ты не паддавайся, каб ён ніяк кветачкі не ўлавіў, а як зловіць, то зноў ён нас задушыць тады.

Прыляцеў чорт, лавіў, лавіў ён гэтую кветачку, ніяк не зла-віў. Абкалоўся, рукі, ногі ў кроў, чуць жывы, і паляцеў. Прылятаець узноў да яе:

— Знаеш што, толькі найшоў на дарозе кветачку, ну куды ж, я абкрывавіўся, кроў ліецца цурцом.

Яна кажаць:

— Дурак ты, гэта ж яна кветачкай, нада лавіць як-небудзь.

Паляцела яна, паляцела сама ўжо. Ну, ляціць. Чуець яна:

— Ой, матка ляціць, яна ўжо нас падушыць. Што рабіць?

Абярнулася яна ракой, а яго — селязнём.

— І глядзі, ты к берагу не падплывай, нізашто, усё пасярод плыві, пасярод, бо яна цябе зловіць, а зловіць, то табе ўжо канец будзець тады.

Ну, прыляцела, січас яна пазнала, што гэта дачка абярнулася ракой. Лавіла, лавіла, лавіла, лавіла яна гэтага селязня, не злавіла. Выняла тры пары арэшкаў і кажаць:

— Вот табе, мая дачушка, на пасагу, нічога ўжо, мы цябе не заб'ём, не зарэжам, ужо ты ад нас адышла. Жывіце вы ўжо. Гэта табе пасаг,— тры пары арэшкаў палажыла яна і паляцела яна, ужо сама матка.

Усталі яны і пайшлі ў свет. Ідуць, ідуць — чыстае поле, палянка. Разбіла яна адзін арэшак — палац стаў, красівы дом, разбіла другі арэшак — коні сталі, усё, каровы. Ну, і жывуць яны. І тады трэці арэшак разбіла — ежы, чаго хочаш. Сталі яны багата жыць. Хочацца яму да бацькі да свайго, каб бацька пазнаў, што ён жывы ёсць. І кажаць:

— Знаеш што, з'езджу я да свайго бацькі.

Яна кажаць:

— Ай, як ты паедзеш, ты мяне кінеш, не будзеш ты са мной жыць. Я сваіх бацькоў кінула, цябе выратавала. А ты кінеш мяне.

— Не, не кіну.

Паехаў. Прыехаў, бацька рад, сталі цешыцца, радавацца і сталі яго жаніць тамака ўзноў з другой дзеўкай.

А яна, чарціха, пазнала, што ён жэніцца. Вось і селі яны за стол з другой маладой прыбраўшыся. Чарціха січас разбіла гэты арэшак узноў — пара коней, села і паляцела ў пагон. Прылятаець, а паднялася бура, вея, света не відаць боскага. Яна ў парозе стаіць. Яна відзіць яго і ён відзіць яе, а яе ніхто не відзіць. Вот яна міргнула на яго, вызвала яго к сабе і кажаць:

— Як ты не паедзеш ка мне, усё роўна я задушу цябе.

Ён кажаць:

— Я не вінават, бацька мяне стаў жаніць, каб я цябе кінуў.

— Ну, дык садзіся на коні і паедзем, а калі не паедзеш, и задушу, усё адно задушу.

І паехалі. Уцёк ён адтуль з вяселля, а буру яна дала, вею, што света не відаць. А на вяселлі маладога не стала. Выйшаў на вуліцу і няма. Сталі шукаць. Шукалі, нідзе маладога не знайшлі, а ён завярнуўся і прыехаў з ёй і ўзноў стаў з гэтай чарціхай жыць-пажываць і багацця нажываць.

Усё, басня кончылася.

## 28. АБ КРАЛЕВІЧУ, ЧАРАЎНІКУ І ЯГО ДАЧЦЫ

У аднаго кроля быў маленькі сын, і хтосьціць ім сказаў, цо ён згіне. Як хлопец гэты падрос, то раз стаў прасіцца, жэб пайсці на паляванне. Кроль доўга не пушчаў яго, але потым даў яму людзей, войска і кажа:

— Но, ідзь, сынку, забаўся.

А тым людзям казаў, жэб яго пільнавалі. Хадзілі яны доўгі час па лесе, аж пад вечер абачыў той хлопец вельмі пекну пташку і вяліку, так зачаў за ёй ганіцца: ганіўся, ганіўся і заблудзіў.

Ходзіць, ходзіць, аж увайшоў на такі мост, жэ як ідзе ў адзін бок, то мост топіцца ў воду, як ідзе ў другі, то таксама. Няма яму дзе падзецца. Наканец прыходзіць якісь чалавек да яго і кажа:

— Я цябе даўно чакаў, ходзь за мною, то я цябе выведу на брэг.

Вывеў яго і кажа:

— Но, тэраз ходзь за мною, то я цябе завяду дахаты.

Завёў яго да свае хаты, казаў яму даць піць, есць і кажа:

— Ляж спаць, а заўтра дам табе работу: як зробіш, то будзе добра, як не зробіш, то табе будзе смерць.

Назаўтра збудзіў яго, казаў яму даць есць і павёў яго на работу. Завёў яго да леса, а там ляжаў агромны камень, і кажа:

— Як ты зробіш за дзень у гэтым камені дванасце пакоі заўсім, як трэба тылька ключы аддаць, то добра, а як не, то смерць табе зраблю.

І даў яму малаток, длутка і сам пайшоў. Той хлопец падзёбаў, падзёбаў, відзіць, жэ ніц не зробіць, сеў і плача. Аж прыносіць яму таго чараўніка́ дачка палудзень і кажа:

— Чаго ты плачаш?

— Ай,— кажа,— плачу: казаў мне твой татуля зрабіць дванасце пакоі, а я,— кажа,— не дам жаднае рады.

— Ай,— кажа,— ціха, не плач, сядзь і еш — я табе памагу.

Як хлопец з'еў, так яна кажа:

— Но, ляж тэраз, свайго гора засні.

Хлопец лёг і зараз заснуў, наплакаўшыся, а яна клікнула нячыстых духаў, як відзіш, так зрабілі дванасце пакояў у камені. Тады яна яго будзіць:

— Устань,— кажа,— бо я адходжу, на табе ключ. Як прыйдзе мой тата-чароўнік і запытае цябе, ці добра зрабіў, то скажы: «Усё добра, тылька една акенка крыва», бо як скажаш, цо добра, то будзе з табою кепска. А ключы няйначай як яму ў рукі дай, бо як дзе паложыш, то ён папсуе работу.

Аж над вечар ідзе той чароўнік да яго і пытае:

— А цо, добра зрабіў?

— Добра,— кажа,— тылька една акенка ў сёнках крыва стаіць.

Той чараўнік мовіць:

— Но, хлопча, добры з цябе майстар, ідзі тэраз дахаты.

Казаў даць яму піць, есць і кажа:

— Заўтра дам табе зноў работу, як зробіш, то будзе добра, як не, то смерць табе будзе.

Той пайшоў, лёг і спаў аж да свету. Назаўтра рана збудзіў яго чароўнік, казаў яму даць піць, есць, павёў яго да леса, даў яму шкляну сякеру і кажа яму:

— Ну, жэбы ты за дзень зрубаў той лес, ацерабіў і ў сажні злажыў, то будзе добра, а як не, то будзе табе смерць.

Чараўнік завярнуўся і пайшоў дадому, а гэты хлопец секануў у дрэва, сякера высыпалася, і няма чым рубаць. Так сеў і плача. Аж у палудзень прыносіць тая сама есць і кажа:

— Чаго ты зноў плачаш?

— А як жа мне не плакаць, кеды мне гэты твой татуля так націрае, мо я цябе венцы не забачу.

А яна:

— І, глупства, не бядуй, еш і ляж адпачыць, я табе памагу, але глядзі, абы ты аба мне не запомніў.

Так ён ёй прырэк, цо нігды не забудзе. Ён то пад'еўшы палажыўся і заснуў, а яна тым часам клікнула сваіх памочнікаў, так у окамгненне і сажні стаяць.

Тады яна:

— Уставай!— кажа.— А як прыйдзе чараўнік і запытае, чы добра зрабіў, то скажы: «Усё добра, тылька една сасна зламалася напалову». А не кажы, цо я табе памагаю, бо ён цябе будзе пытаць.

Прыходзіць чараўнік і пытае:

— А цо, добра зрабіў?

— Добра, тылька една сасна зламалася напалову.

— О,— кажа,— то ты мусіць лепшы майстар за мяне! Але мусіць табе мая дачка памагае?

— І, яшчэ то яна не памагала! Тылё прынясе палудзень, и з'ем, і зараз яна назад ідзе.

— Но, то ідзі дадому.

Завёў, накарміў, напаіў дасыта і кажа:

— Ідзі ж спаць, бо заўтра зноў чакае цябе работа.

Так то назаўтра даў яму напарстак, завёў яго да езёра:

— Вылі з езёра за дзень воду і дно пясочкам жоўценькім высып.

Ага, і казаў:

— Палічы рыбаў, колькі будзе велькіх, а колькі малых.

Той выліваў, выліваў напарсткам воду, але і знаку няма. Аж прыносіць яму тая есць, а ён плача.

— Чаго ты ўсё плачаш?

— А як жа мне не плакаць, то ж казаў мне напарсткам воду выліць, а я выліваю і знаку няма.

— Э, глупства, я табе памагу, але памятуй, жэбы ты мяне не забываў.

Ён пад'еў і палажыўся спаць. Як відзіш, так вада выліта і дно пясочкам высыпана.

Так яна кажа:

— Но, устань, але памятай, як прыйдзе татуля і запытае, чы зрабіў, кажы: «Зрабіў».— «А рыбу палічыў?»— «Палічыў: большай трыста шэсцьдзесёнт, а мнейшай не злічыў». Тады ён

табе скажа, жэ то не твая работа, але мая, то ты часам не кажы, цо то я зрабіла, бо было б з табою кепска. Но, а потым ён табе скажа, жэбы ты пазнаў, катора табе абед насіла, а нас ест седэм, то над маей галавою будзе муха летаць, а другі раз то з тылу будзе бела кветачка ў мяне; а трэці раз будзе на пазурку зялёна нітачка.

Сказаўшы гэта, пайшла яна. Небавам прыходзіць чароўнік і пытае:

— А цо, зрабіў?

— Зрабіў!

— Рыбы аблічыў?

— Аблічыў: большай трыста шэсцьдзесёнт, а мнейшай не аблічыў.

— О, мусіць то мая дачка зрабіла, то не ты?

А ён:

— Не, — кажа, — дальбог, яна тылька прынясла есці і зараз пайшла.

— Но, ідзі дадому: кеды ты пазнаеш, катора прыносіла палудзень табе, то я це ажаню з ею, а як не, то голаў адарву табе.

Пайшоў, прыходзіць, аж ён іх паставіў седэм паненак як една, жаднай змяны нідзе няма.

— Ну,— кажа,— выбірай!

Так ён прыгледзеў, над катораю муха летала, і кажа:

— О, гэта!

— Ну добра, ідзі спаць.

На другі дзень вывеў седэм як адзін крукоў і мовіць:

— Выбірай тэраз.

Так ён абышоў кругом, агледзеў белу кветачку і кажа:

— Гэта мая!

Чароўнік тылька галавою пакруціў і думае сабе: «Ну хітры, то хітры!».

Назаўтра выводзіць зноў седэм галубіц як една, ані змяны, і кажа:

— Ну, хлопча, выбірай, катора табе палудзень насіла.

Хадзіў ён кругом, хадзіў і агледзеў на пазурку зялёну нітачку, так кажа:

— Кеды не мылюся, то гэта мая!

А чароўнік:

— Но, но,— кажа,— ты лепшы штукар за мяне.

Назаўтра іх ажаніў, яны пайшлі спаць, а чароўнік казаў, жэб матка пільнавала, жэб часам не ўцяклі. А яго жонка сціха кажа:

— Мы ўцячэм, але паставім дванасце столкі, то гэтыя столкі будуць за мяне адказваць.

Паставілі дванасце столкі і самі ўцекі. Матка пытае:

— Галена, ты ест?

— Ест.

Так яна пытала дванасце разы, а столкі адказвалі, запытала трынасты раз — ціха. так яна крыкнула:

— Мужу, уставай, няма!

Так чароўнік:

— А лець прэндзей, маці, кеды ўпусціла, гані іх.

Так яна зрабілася цёмнаю хмураю і гоніць, аж дачка пачула і кажа:

— Гоніць нас маці, я,— кажа,— стану велькім лесам, а ты маленькаю пташачкаю, тылё не дайся ёй ухапіць.

Так стаў зараз велькі лес, а маленька пташачка летае па лесе. Стала баба за пташкаю ўганяцца, летала, летала — не ўхапіла. Вярнулася назад, а чароўнік пытае:

— А цо ж ты відзела?

— Так і так.

— А чом ты не брала, то ж гэта яны. Гані, бабо, зноў.

Баба зноў зрабілася цёмнаю хмураю і гоніць, а дачка зараз пачула і кажа:

— Ну, гоніць зноў, я зраблюся велькаю гарою і зарослаю церняю, а ты будзеш салавейчыкам, тылё не дайся бабе ўхапіць.

Так зараз стала велька гара, зарэсла церняю і тылька салавейчык спявае.

Хмура надышла, стала баба за салавейчыкам хадзіць: хадзіла, хадзіла, не дала рады прадзіраць гэтага церню калюшчага, так завярнулася і паляцела, а яны далей уцекі.

Прылятае дахаты, а ён:

— А цо, відзела?

— Так і так.

— Чом ты, дурная бабзно, не брала? А то ж гэта яны былі. Гані трэці раз, як знайдзеш, забірай.

Так баба ўзяла з сабою тры гарэхі і зноў гоніць іх, а дачка пачула і кажа:

— Я буду езёрам, а ты будзеш качурам, не дайся жа ты бабе ўхапіць.

Прыляцела баба, хадзіла кругом езёра, хадзіла і не ўхапіла.

— Ну, ты,— кажа,— мяне не шкадуеш, а я цябе шкадую: на табе, дочко, тры гарэхі, то яны табе ў няшчасці памогуць.

Даўшы, сабралася і паляцела, а яны з гарэхамі ўцекі. Прыйшлі блізка дому таго хлопца, так яна кажа:

— Я затрымаюся ў карчме, а ты ідзі дадому, тылё глядзі, жэб цябе бацькі не цалавалі, бо ты аба мне заўсім забудзеш.

Ён зайшоў, аж бацька з радасці давай яго цалаваць, так ён і чыста забыўся.

Пабыўшы трохі, мовяць, жэб ён жаніўся. Так ён і жэніцца.

Сабралася многа народу, а яна раскусіла едэн гарэх і выняла з яго сукню, як месяц, убралася і ідзе. А яго матка як абачыла яе, так зачала бедаваць, жэ ён як увідзіць такую пекну панну, то туюю пакіне. Так яна яе клікнула да пакою, дала ей такога віна: як выпіла, так легла і заснула. Тэды яны знялі з яе тую сукню і схавалі. Прабудзілася яна — няма сукні, так заплакала з гора і пайшла. Аж на другі вечар зноў з'язджаюцца, так яна раскусіла другі гарэх, дастала з яго сукню, як гвязды на небе, убралася і пайшла. Матка яго як яе абачыла, зноў таксама зрабіла. Тая назаўтра прабудзілася, але цо ж робіць — заплакала зноў і пайшла.

Ідзе, аж спатыкае неяку старую бабу. Баба падышла і пытае:

— Чаго ты, доньку, плачаш?

— Так і так, парадзь мне, бабко, цо мне зрабіць? Я яго ад смерці ратавала, я яму ў помачы ставала, а ён мяне забыў, хоць мы ўжо пажаніўшыся былі.

Так баба кажа:

— Убярыся ты ў кепска адзенне, напішы ліст, занясі і палажы пад люстэркам, дзе ён чэшацца, а ўвечар убярыся і ідзі.

Яна так і зрабіла, а ўвечар раскусіла гарэх, дастала сукню, як слонка, улажыла на се і ідзе. А ён, прачытаўшы ліст, даперу ўспомніў яе, так засмуціўся моцна, выйшаў на гуліцу і стаў пільнаваць. Пастаяў трохі, аж ідзе, так пацалаваў яе, перапрасіў і ідуць разам дахаты, а людзі дзівяцца, цо то за яснасць такая — аж відна, як удзень.

Увайшлі, яна пакланілася радзіцам, расказалі, цо было, і замест вяселля зрабілі тылька велькі баль.

На гэты баль і мяне там клікалі, казалі, жэб я ім паказаў камедыю, а я ім казаў, жэбы мне далі шкляныя боты, з масла капялюш і папяровы сурдут. Музыка то зайграла, я хацеў пайсці танцаваць, а шкадаваў, жэб не пабіліся боты, так адхіліўся, скінуў боты і ўцекі, бо хацеў паказаць дома, цо то за штука. Ішоў, ішоў, аж ноч заняла, лёг каля каменя начаваць. Дождж як пайшоў — чыста сурдут размок, я схапіўся і далей, аж тут

слонка як прыгрэла, капялюш растапіўся на галаве, так я няма цо абуў боты шкляныя і іду, аж спаткнуўся на камень, а яны дзын-дзын і пабіліся. Тады як давай ужо ісці босы, ішоў, ішоў, прыйшоў на свой пасеў і тутай сеў.

Байку вам сказаў, усё роўна як звязаў, а тыя ўсе жывуць, мёд, віно п'юць, а мне за тое, цо стуль уцёк, не даюць.

## 29. АДДАЙ МНЕ, ШТО Ў ДОМЕ НЕВЯДОМА

Ехаў багаты купец з торгу дамоў. Дарога ляжала чэраз пушчу: нідзе жывой душы не відаць.

Засцігла яго ноч на дарозе, цёмна, хоць вока выкалі, нічога не відна. Мусіў ён астанавіцца і заначаваць. Разлажыў ён агонь, спутаў каня, пусціў пасціся, а сам сеў каля агню, пячэць сала на ражончыку і вячэрае. За дарогу змарыўся ён, скора заснуў.

Прачхнуўся назаўтра, глядзіць і вачам не верыць: кругом яго вада агарнула, волны так і хлешчуць, вось-вось яго заль-юць. Спужаўся купец. «Прапаў я,— думае сабе,— не выбрацца мне адсюль». А вада ўсё прыбываець і прыбываець, волны ўсё вышэй і вышэй уздымаюцца. Аж бачыць ён — чалавек у чоўне плывець. «Дзякуй богу, ратунак паслаў!»

— Чалавеча, плыві скарэй сюды, бо ўтаплюся!— закрычаў як мага купец.

Човен павярнуўся ў яго сторану, і скора чалавек праплыў досыць блізка, але к берагу не падплыў, астанавіўся.

— Ратуй мяне, братко!— моліць яго купец.— Што хочаш вазьмі — ды ратуй.

— Добра,— кажа той чалавек,— я цябе ратую, але не дармо: аддай мне, што ў доме невядома.

Падумаў, падумаў купец: «Што ў мяне невядома? Здаецца, нічога такога няма. Што будзе, то будзе, а таргавацца некалі, трэба гадзіцца».

— Добра,— кажа,— толькі ратуй; бяры, што ў доме невядома.

— Мала што ты гаворыш! Гэта не парадак... Потым яшчэ зрачэшся. Вынь кусочак скуры, разрэж мезяны палец і напішы гэта. Так крапчэй будзе.

Купец так і зрабіў, кінуў у човен кусочак скуры. Той чалавек падняў яго і зарагатаў дзікім голасам.

Вады як бы і не было. Тады наш купец дагадаўся, што гэта не йначы, як нячысцік. Нечага рабіць, злавіў свайго каня, запрог яго і паехаў дамоў. Дарогай так яму маркотна зрабілася, што хоць памірай. Сэрца бяду вяшчуе. Паганяе ён каня як мага — дадому спяшаецца. Прыехаў дамоў, скарэй у хату. А ў хаце гасцей поўна, і жонкі не відаць.

— Здароў у хату,— кажа ён.— Што ў вас новага?

— Харошая навіна. Жонка твая радзіла сына,— сказаў хтосьці.

Як пачуў гэта купец, у вачах памуцілася, галава яго закружылася і абамлеў ён. Быў ён бяздзетны, сына бог паслаў, а ён яго запрадаў нячысціку! А госці думалі, што гэта ён з радасці.

Хлопчык урадзіўся такі прыгожы; рос, як цеста на дражджах. Называўся ён Юр'я. Аддалі яго ў навуку — усіх абагнаў у навуцы: такі ўжо ўрадзіўся да ўсяго здатны. Людзі радуюцца, глядзючы на яго, бацькам завідуюць, а бацька яго ўсе маркатнеў і маркатнеў. Сын дагадаўся, што тут штось не так, прыстаў раз к бацьку:

— Скажы, татко, чым ты недаволен мною, што я такога зрабіў, што ты мяне як бы не любіш?

Бацька маўчыць, толькі так жалосна глядзіць на яго.

— Хіба я не твой сын?— пытае ён.

— Не мой, сынок, запрадаў я цябе нячысціку, як яшчэ ты і не радзіўся...

І расказаў яму, як было дзела.

— Калі так, татка, дык бывай здароў!— сказаў сын.— Невядома, ці скора ўбачымся. Або галавой налажу, або тваю запрадажу разаб'ю.

Стаў ён сабірацца ў дарогу. Зрабіў сабе лук, настругаў стрэл, узяў кашулю ў запас, краюшку хлеба, кусок сала, трохі грошы і ціханька ноччу выйшаў, каб бацькоў пращчаннем не трывожыць.

Ішоў ён чы доўга, чы коратка, толькі прыйшоў к рэчцы. Мясціна выдалася такая прыгожая, што захацелася яму адпачнуць трохі. Лёг ён; аддыхае, хлебам з салам закусывае, аж бачыць — ляціць дванаццаць вутачак. Ён ужо схапіў было лук, каб застрэліць каторую-нібудзь, як сядуць на ваду, аж яны ўдарыліся аб зямлю і зрабіліся дзяўчатамі, ды такімі прыгожымі, што залюбавацца. Сталі яны купацца, а Юр'я ціханька падпоўз і сцягнуў адной плацце, каторае з краю ляжала. Пакупаліся яны, выйшлі з вады, сталі кадзявацца — адной адзёжы няма. Кідалася яна, бедная, і туды, і сюды — не найшла. Тыя

надзеліся, абярнуліся вуткамі, узняліся і паляцелі, а йна сядзіць і плачыць. На астатак стала йна выклікаць:

— Адгукніся, хто ўзяў маё адзенне! Калі ты старэй мяне — будзеш дзядзька мой, калі маладзей мяне — будзеш брат мой, калі роўня мне — будзеш мілы мой!

Тады Юр'я кінуў ёй плацце. Надзелася йна, выйшаў Юр'я к ёй, палічылі гады — роўня ёй. Пытае йна ў яго, хто ён і адкуль? Куды йдзець і зачым? Ён ёй усё пайстком і расказвае. Выслухала йна яго да канца і кажыць:

— Няйнача, як ты йдзеш к майму бацьку. Калі так — я твая слуга; а без мяне табе прапасці там. Так ужо не адзін прапаў. Бывай здароў, там убачымся, а цяпер мне трэба даганяць сваіх сясцёр.

Абярнулася вуткай і паляцела. У тую старану, куды йна паляцела, пайшоў і Юр'я. Прыйшоў ён к двару. Збудаван двор на гарах, і такі замчысты. Стукаець у вароты:

— Хадзяіна,— кажа,— хачу відзець.

Выйшаў сам хадзяін у дарагім убранні, золата так на ём і кіпіць.

— Чаго табе трэба?— пытае ў Юр'я.

— Так і так,— расказвае той,— шукаю свайго пана, каму мяне бацька запрадаў, як я яшчэ і не радзіўся.

— Я твой пан,— кажа нячысцік,— і хацеў ужо за табой ганцоў пасылаць, бо ты ўжо ў супоўныя леты ўходзіш, аж ты і сам з'явіўся на прыгон. Так і трэба, за гэта хвалю цябе.

— Прабачай, паночак, а чы маеш, пан, запіс ад майго бацькі?

— Ёсць і запіс, ёсць, ты мой із скурай. Калі ты мне будзеш верна служыць, аддам табе запісь і выпушчу на волю — ідзі куды хочаш; а будзеш аба мне нядбаць — з жывога скуру здзяру. Вот табе работа: скрозь ноч успашы поле, засей пшаніцай, сажні яе, змалаці, змялі і к ранку на заўтра напячы мне пірагоў. Зробіш — пойдзеш на волю. Работа лёгкая.

Сказаў так, завярнуўся і пайшоў сабе ў пакоі.

«Ну, загадаў загадку!— падумаў Юр'я.— Быў я ў бальшых навуках, а як гэта зрабіць — не знаю. Прапаў я саўсім».

Заплакаў ён і пайшоў брадзіць па двару. Так ён зайшоў на самы канец двара. Бачыць — стаіць хатка. Із вакна знаёмы голас завець яго:

— Юр'я, Юр'я! А на мяне і забыўся? Я табе дара́джу!

Глянуў ён — там паненка, што ён плацце схаваў, стаіць і завець яго. Увайшоў ён у хату і дзіву даўся: так прыгожа была

прыбрана. Паздароваўся ён з паненкай, расказаў, якую работу яму загадалі.

— Не бойся, спі спакойна, будзець зроблена. Я табе памагу. Без мяне не вынесці табе галавы на плячах. Тут так ужо многа народу загублена. Лажыся і спі.

Мусіў ён паслухаць паненкі, лёг спаць. Спаў крэпка, бо дужа змардаваўся дарогай.

А тая паненка ў поўнач выйшла на ганак, махнула тройчы пруточкам, і з'явілася трыццаць малайцоў: адзін пад адзін, стаяць, чакаюць прыказу. Сказала паненка — і пайшла работа: той пашаць, той сеець, той жнець, малоціць, меліць, пячэць... І пірагі ўдрух гатовы.

Прачхнуўся Юр'я зранку, першая яго думка: «Чы ёсць пірагі?» Аж бачыць — ляжаць на стале, і такія румяныя, пульхлыя... І паненка сядзіць каля іх.

— Не бойся,— кажа,— гатовы. Нясі толькі да столу.

Паказала яна яму тое места, дзе расла пшаніца, дзе салома зложана, дзе мякіна, каб была прызнака, калі бацька не дасць веры, што гэта яго, самаго Юр'і, работа. Падзякаваў ёй Юр'я і панёс пірагі да столу.

Прачхнуўся пан, выходзіць з пакою, бачыць — Юр'я стаіць з пірагамі.

— Гатовы,— кажа,— паночак! Як пан прыказаў, так і зроблена.

Паглядзеў нячысцік на пірагі, панюхаў, пакаштаваў — усё як трэба.

— Ну, маладзец ты, Юр'я. Работнік ты, як бачу, з нягоршых, відаць, што быў у навуцы. А я ўжо думаў, што быць тваёй скуры ў рабоце. Калі ж ты такі масцер, дык я за цябе дачку аддам. У мяне іх дванаццаць, усе на выданні, выбірай любую: каторую спадабаеш, тая і твая. Толькі бяда: не будзе дзе вам жыць, асобных пакояў няма. Але ты дасі рады: чалавек ты вучоны. Дык вот збудуй ты праз ноч каменіцу, каб было ў ёй столькі пакояў, сколькі дзён у гаду, каб столь была, як неба, каб хадзілі па ёй сонца, месяц і зоры, каб працякала кругом каменіцы рака, каб быў чэраз раку мост — залатая маснічына, сярэбраная маснічына, каб чэраз мост перакінулася вясёлка, а канцамі ў ваду ўпіралася. Адным словам, каб не стыдна было людзям паказаць. Збудуеш такі пакой, будзеш зяцем, не збудуеш — галавой паложыш. У мяне так: калі ласка — дык ласка, а гнеў — дык гнеў. А цяпер ідзі сабе.

Замаркоціўся наш Юр'я, пачуўшы такі прыказ.

«Вот каб ты лопнуў, нячыстая сіла!— падумаў ён сабе.— Што раз, то труднейшую работу загадываець! Што тут рабіць? Трэба ісці да паненкі, няхай вызваляе з бяды».

І пайшоў ён. Прыходзіць і расказвае ёй, якую работу загадаў яму бацька яе.

— Не пячалься, будзе зроблена. К сроку будзе гатова,— кажа йна,— а цяпер пахадзі па двару, быццам ты выглядаеш места, дзе будаваць.

Так ён зрабіў: хадзіў, брадзіў, выглядаў, а к вечару ціханька зайшоў у хатку паненкі. Яшчэ да поўначы было далёка, разгаварыліся яны.

— Чаму ты жывеш у гэтай хаце на адзіноцы, а твае сёстры жывуць з бацькам у камяніцы?— пытае Юр'я ў паненкі.

— А таму мяне на задворкі загналі, што ў мяне маткі няма, а мачыха. Яна з сваімі дачкамі ў пакоях раскашуецца, а мяне ў гэтым хлеўчыку пасялілі.

Пагаварылі, пагаварылі і спаць ляглі. У поўнач паненка ўстала, выйшла на двор, махнула тройчы пруточкам, і з'явілася трыццаць малайцоў, стаяць, чакаюць прыказу. І кажа йна ім:

— Збудуйце праз ноч такую камяніцу, каб было ў ёй столькі пакояў, сколькі дзён у гаду, каб столь была, як неба, каб хадзілі па столі сонца, месяц і зоры, каб абцякала кругом рака, каб быў праз раку мост — залатая маснічына, сярэбраная маснічына, каб праз мост перакінулася вясёлка і канцамі ў ваду ўпіралася.

Толькі сказала паненка — і пайшла работа: той піліць, той сячэ, той стружыць — к ранку будынак гатоў. Як сказана, так здзелана. Выйшаў Юр'я на двор, глянуў і залюбаваўся: стаіць будовіна пад самае неба, над будынкам вясёлка іграець, мост агнём гарыць. Увайшоў у сярэдзіну, глянуў уверх, чуць не аслеп: так сонца сіяець, зоры блішчаць.

Стаў Юр'я на масту, чакае пана. Аж скора і пан-нячысцік выходзіць. Глядзіць, любуецца. Паглядзеў, паглядзеў:

— Ну, маладзец Юр'я,— кажа ён,— варт дачкі, калі твая гэта работа. Нечага гаварыць — пастараўся. Што ж? Нікому — сабе. Але пакуль вяселле спраўляць, яшчэ табе работу маю. Ёсць у мяне конь добры, цаны яму няма, але не аб'езджаны. Аб'ездзі ты яго к вяселлю.

Нечага рабіць.

— Добра, пане,— кажа Юр'я,— заўтра аб'езджу.

Выйшла мачыха з сваімі дачкамі паглядзець будоўні. Убачы-

лі, і яны дзіву даліся; а як пачулі, што бацька даклераваў аддаць дачку за майстра, дык кожная захацела выйсці замуж. Асабліва жонка нячысціка хацела, каб яе каторай дачцэ дастаўся такі муж.

А наш Юр'я, як сцямнела, пацягнуўся к сваёй паненцы начаваць. Прыйшоў і кажа, якую яму работу загадаў бацька яе.

— Але я не баюся,— кажа ён,— гэта работа па мне: хоць якога каня аб'езджу.

— Не,— кажа паненка,— напярод не хваліся: гэта работа самая труднейшая! Ты думаеш, што гэта будзе конь настаяшчы? Не, гэта будзе сам мой бацька. Ён не верыць, што гэта ты сам будынак паставіў. Але не бойся! Я і тут рады дам. Спі спакойна.

Юр'я яе паслухаў, лёг спаць і такі здарава храпануў. Назаўтра будзіць яго паненка.

— Ідзі каня аб'язджаць,— кажа йна.— Вот табе мой цудоўны пруточак: калі конь занаровіцца, дык ты яго памеж вушэй сцебані гэтым пруточкам — усціхаміріцца.

І пайшоў Юр'я, узяўшы пруточак.

Увайшоў у стайню: стаіць конь — залатая шарсцінка, сярэбраная шарсцінка, вочы кроўю наліты, із наздрэй полымя шыбае, із вушэй дым валіць, і падступіцца няможна. Юр'я махнуў каля сябе пруточкам — і жар яго не бярэ; падышоў к каню — на дыбы становіцца, пад строп падскаквае, сесці не дае; а як заржаў — стайня трасецца. Юр'я як сцебане яго памеж вушэй, дык ён і на калені ўпаў. Юр'я скарэй на верх скок. Конь на дыбы, чуць-чуць яго не скінуў, але Юр'я не промах: давай яго хвастаць меж вушэй. Конь пад ім танцуе, а ён яго хвошчыць. І панёс яго конь, ляціць, чуць зямлі чапае і ўсё наравіць Юр'ю скінуць, каб капытамі раздавіць. А ён яго хвошчыць, а ён яго хвошчыць... Лятаў конь, лятаў па гарах, па балотах, чэраз лясы, але пад канец-такі змогся, павярнуў дамоў. Скора пайшоў шагам, так яны і на стайню прыехалі. Паставіў яго там Юр'я, а сам пайшоў па двару брадзіць, каго ні спаткае, ніхто з ім гаварыць не хоча. І пайшоў ён да паненкі.

— Ну, відаць, добрую задаў ты лазню майму бацьку, калі сам цэл вярнуўся! Лажыся спаць, бо ты, відаць, змардаваўся.

І ляглі яны спаць. Назаўтра ад бацькі пасланец прыходзіць, завець паненку ў пакой.

— Ну,— кажа яна Юр'ю,— скора і цябе пазавуць выбіраць сабе жонку. Мы ўсе на адно ліцо. Калі хочаш мяне выбраць, дык глядзі мне на лоб: у мяне на ілбе будзе муха сядзець.

Як яна сказала, так і сталася: скора пазвалі і Юр'я да пана. Спатыкае яго пан з завязаным лобам.

— Ну, мой зяць названы, выбірай сабе жонку: каторую спадабаеш — тая і твая. Як я сказаў, так і будзе.

Увайшлі ў пакой. Глянуў Юр'я — стаяць паненкі як адна. Паглядзеў, паглядзеў, убачыў муху на ілбе ў адной. Ён і хваць яе за руку:

— Вот,— кажа,— мая жонка.

— Гэта дык гэта,— кажа нячысцік,— у мяне дзеці ўсе роўны. Жывіце сабе на здароўе.

А мачыха аж пазелянела са злосці, што не яе дачку выбраў ён. «Ну, я ж над імі зымшчуся!» — падумала йна.

І пайшлі маладыя ў тую хатку начаваць, пакуль вяселле мае быць. Прыйшлі яны, тая паненка і кажыць:

— Будзем цяпер спаць, бо ў поўнач нам трэба ў дарогу пушчацца, трэба ўцякаць у тваю старану, а не то мая мачыха пагубіць нас.

Ляглі яны, адпачнулі трохі. У поўнач прачхнуліся і сабраліся ў дарогу. Паненка паплювала ў кожды вугал сваёй хаткі і Юр'ю сказала наплюваць. І пайшлі яны. Прайшлі парадашны кусок. Ужо і добры дзень настаў, ужо ўсе паўставалі. Чакаюць маладых — не ўстаюць. Паслалі будзіць.

— Уставайце,— кажуць пасланцы,— ужо дзень настаў.

— Зараз устанем,— адказвае сліна.

Ужо сонца пад поўдзень стала падбірацца. Узноў слугі прыйшлі.

— Уставайце,— клічуць,— бо ўжо скора поўдзень.

— Надзяваемся!— адказвае іх сліна.

Ужо і палуднаваць пара. Слугі прыходзяць, клічуць палуднаваць.

— Мыемся,— адклікаецца сліна.

Прыйшлі зваць іх на абед — сліна высахла, ніхто не адклікаецца. Выламалі дзверы — нікога няма. Як сказалі гэта нячысціку, як рассердзіцца ж ён, як расходзіцца ён, аж аб сценку галавой стаў біцца А мачыха крычыць:

— Пасылай ганцоў даганяць — чы жывых, чы мёртвых, а няхай іх прывядуць.

Пусціліся ганцы ўслед, ляцяць, як конь выскачыць можа. І Юр'я з паненкай бягуць як змога. Прылягла паненка вухам на зямлю, паслухала-паслухала:

— Ай,— кажыць,— ганцы за намі ляцяць, скора дагоняць, бежмо шпарчэй. А як нас дагоняць, я абярнуся авечкай, а цябе

абярну пастушком. Запытаюцца ў цябе, чы не бачыў ты, як ішлі мужчына з дзяўчынай? Кажы, што не бачыў.

Аж скора і ганцы паказаліся.

Махнула паненка пруточкам: сама зрабілася авечкай, а Юр'я — пастушком.

— Пастушок, чы не бачыў ты, як беглі мужчына і дзяўчына? — закрычалі ганцы.

— Я тут з малых дзён пасціў, а нікога такога не бачыў,— кажа так пастушок.

Ганцы і вярнуліся назад, бо думалі, што з дарогі збіліся, след страцілі. Вярнуліся і кажуць пану як і што:

— Нікога,— кажуць,— не відзелі, мае быць след страцілі чы не па той дарозе пагналіся, бо спаткалі мы пастушка і авечку, дык пастух нам сказаў, што ён з малых дзён тут пасціць, а нікога такога не бачыў.

— Гэта яны і былі! — закрычала пані.— Даганяйце іх шпарчэй і сячыце тапарамі.

Кінуліся ганцы назад удагонку, а ўжо Юр'я з паненкай тым часам далёка адбегліся. Бягуць яны, бягуць, аж чуюць зямля гудзіць. Прылягла паненка вухам к ёй:

— Гоняцца,— кажа.

Прабеглі яшчэ трохі, і ганцы паказаліся. Паненка махнула пруточкам: сама абярнулася садам, а Юр'я зрабіўся садоўнічым.

Пад'язджаюць ганцы і пытаюць:

— Чы не бачыў ты, як тут двое людзей беглі: мужчына і кабета?

— Не, нікога такога я не відзеў, а ўжо я тут даўно сад даглядаю,— так адказвае дагоншчыкам садоўнічы.

— А пастух чы не гнаў тут авечкі?

— І пастуха не бачыў.

Так ганцы дамоў і вярнуліся, бо думалі, што з дарогі збіліся. А Юр'я з паненкай пабеглі далей. А ганцы, прыехаўшы дадому, і кажуць панам як і што:

— Нікога не дагналі, як вадой разліліся. Спаткалі мы садоўнічага ў садзе, дык ён сказаў нам, што ніхто на той дарозе не бег, і пастух с авечкай не гнаўся. Мы і вярнуліся, бо што ж лавіць у полі вецер?

— Дурныя вы!— закрычалі на іх пан і пані.— Трэба было вам сеч сад і садоўнічага, бо гэта былі нашы ўцекачы. Не, кепская на вас надзея, трэба самім гнацца.

І кінуліся ўдагонку пан і пані з ганцамі: ляцяць — аж пыл курыць, аж зямля дрыжыць, аж гул ідзець. А ўжо Юр'я з паненкай пад дом падбіраліся; пачулі гул — шпарчэй бегчы пусціліся, бо дагадаліся, што бацька паненкін з мачыхай за імі гоняцца. А гул тым часам усё грамчэй і грамчэй ідзець...

— Не,— кажа паненка,— не дабяжым да твайго дому. Трэба хоць цябе ратаваць.

І абярнула сябе ракой, а Юр'ю рыбаловам. Аж скора і ганцы наскочылі і, ні слова не кажучы, давай сеч раку тапарамі. Так рака кроўю і паплыла. А Юр'я на другім берагу стаіць і рады даць не мажа, што рабіць, не знае.

— Акалявай, паганая!— кажуць паны рацэ.— А ты, зводыяш, беражыся: і да цябе дабяромся.

Сказалі так Юр'ю і дамоў павярнулі.

Чуець Юр'я, што стогнець рака:

— Ох, цяжка мне. Доўга мне яшчэ адлежвацца, раны гаіць, доўга с табой не відзецца. Ідзі, Юр'я, дамоў, толькі глядзі на мяне не забывай! А каб ты на мяне помніў, глядзі ні з кім не цалуйся. Пацалуешся — на мяне забудзеш. Наведывай мяне...

Пайшоў Юр'я дамоў ужо маркотны, думаў з жонкай вернецца, аж вот табе на...

Прыйшоў дамоў. Бацькі як убачылі яго — ад радасці як не ашалелі. Толькі дужа здзівіліся, што ён ні з кім цалавацца не хочыць, нават і з імі не пацалаваўся. Ну, што ж, мала што бывае? І стаў Юр'я дома жыць, бацькоў радаваць. А як настане субота — ідзе к рацэ, пагаворыць з ракой, возьмець ад яе кашулю чыстую на нядзелю, ёй чорную аддасць і пойдзе дамоў — усё чакае, пакуль раны паненкі паджывуць.

Так прайшоў ужо ладны час, рака стала чысцець, раны паненкі сталі гаіцца, аж такі прыпадак трапіўся: заснуў раз Юр'я, прыйшоў нейкі дзед і пацалаваў яго соннага. Прачхнуўся Юр'я і на паненку забыўся.

Прайшоў яшчэ час, і Юр'я задумаў жаніцца, а ўжо бацькі даўно яму дзяўчыну нагледзелі. Падабалася дзяўчына Юр'ю, і вяселле сталі гуляць. Вяселле было гучнае. Але Юр'ю штось маркотна, смутна, а сам не знае чаго. Сталі каравай мясіць, крачкі і зорачкі ляпіць Аж увайшла якаясь кабеціна і кажа йна:

— Дазвольце мне, каравайніцы, зрабіць вам селезня і вутачку на каравай.

Каравайніцы дазволілі. Вылепіла яна селезня і вутачку. Пасадзіла селезня на каравай маладога, а вутачку ў руках трымае, прыгаварвае:

— Забыўся, селязенька, як я цябе з няволі вызваляла!— ды ў галоўку яго клёў! — Забыўся, як я тваю галаву ратавала!— ды зноў у галаву яго клёў.— Забыўся, як я для цябе бацьку-матку пакідала, з табой уцякала!— ды зноў у галаву яго клёў.— Успомні, як я за гэта раны прынімала!— ды яшчэ ў галаву клёў.

Тут Юр'я ўсё прыпомніў, што з ім дзеялася, тады ён спазнаў і сваю паненку (а гэта была яна) і кінуўся ёй на шыю.

— Вот, бацькі, мая жонка!— закрычаў ён.— Яна мяне з няволі вызваліла!

І пасадзіў яе радам з сабой на места маладой, а ёй сплаціў пацеру і з-за стала вон. І доўга яны жылі, і шчасліва жылі.

## 30. ПРА ІГРА ІГРАВІЧА, ПРА СТАРЫКА ПАЛУГРЫМА

У адным дрэўнім царстве быў цар Ігра, імеў ён трох сыноў. Дажылі яны да саваршэнных лет, і старшы сын стаў прасіць благаславення ў атца павідаць чужых зямель, паказаць і сябе.

Ацец і дазволіў яму адпраўляцца ў чужэя землі. Сын сядлаець добрую лошадзь, садзіцца і адпраўляецца ў пуць. Прыбліжаецца к граніцы атцоўскага царства, а на граніцы стаіць дуб, на том дубу сядзіць старык Палугрым. Палугрым імеў пры сабе кнуцік дліною на сем вёрст; сам ён з вяршок, а галава з гаршок. Палугрым спрашыець, хто едзець, куды едзець, ці па хоці, аль па няволі. Каралевіч у атвет яму:

— Эка дзіковіна! Узабраўся на дуб! Як ба чалавек, а то мальчуган ростам з вяршок, а галава з гаршок! Еду туды, куды мне нада!

Услыхаў Палугрым дзерзкі атвет царэвіча, астанаўліець яго лошадзь, бярэць свой кнут і ўсыпаў царэвічу, сколькі прыйшлось, ізбяёдаваў яго ладна і вярнуў яго назад.

Царэвіч вазвраціўся к бацюшке-цару ў сваю сталіцу. Ацец дзівіцца, што сын яго царэвіч скора вярнуўся, і спрашыець:

— Што з табой случылась, што ты скора вярнуўся?

— Ах, бацюшка, на заставе, пры граніцы твайго царства, мне ўсе рэбра пераламалі — не магу ўжо далей ехаць, і пагэтаму счоў за лучшае вярнуцца.

Просіцца другой сын, сярэдні, у чужэя землі, павідаць і чужых заграгічных зямель і людзей да і сваю моладасць паказаць.

Бацюшка-цар дазваляець і гэтаму сыну адпраўляцца ў чужэя края.

Прыбліжыўся к тэй заставе і тому дубу і гэты сын. Слышыць, як з дубу крычыць яму Палугрым:

— Стой! Хто едзець? Куды едзеш? Ці па сваёй хоці, ці па няволі?

Царэвіч з гордасцю ўзглянуў на гэты дуб, відзіць мальчугана: сам ён з каршок, галава з гаршок, і гаворыць яму царэвіч:

— Эка дзіковіна какая! Туды еду, куды нада!

— Ну, калі так ты мне рачыш, то я з табой расшчытаюсь! Тут і пціца без мяне ні адна не пралятала, ні людзі не праязджалі.

Прыг з дубу да і начаў яго кляўміць, кнуцікам ахажываць: ізбіў царэвіча, як гамана.

Царэвіч ізбіты вазвраціўся ва сталіцу, к бацюшку-цару. Царэвіч расказаў яму ўсё, што з ім случылась у дарозе, адказаўся ад дальняй паездкі.

Спусця нескалькі гадоў младшы сын Ігра Ігравіч просіць благаславення ў атца павідаць чужых зямель і сябе паказаць. Цар сына благаславіў, і ён адправіўся ў дароту. Прыехаў ■ граніцы чужэй зямлі к тому дубу, а Палугрым і гаворыць царскаму сыну:

— Што, царэвіч Ігра Ігравіч, куды ты едзеш, ці па хоці, ці па няволі?

— Нет, Палугрым, не то шта па няволі, а па бацюшкінаму благаславенню: хачу праехаць у чужэя края, паглядзець і чужых зямель і сябе паказаць.

— Ну, знаю я тваё намярэнне, толька ты, царэвіч, на гэтай лошадзі не даедзеш, а вярнісь дамой і прасі ў свайго бацюшкі ту лошадзь багатырскую, на каторай ён ездзіў ад младасці да старасці!..

Вазвраціўшысь к атцу, расказаў усё, як паступіў з ім Палугрым, і просіць атцоўскай багатырскай лошадзі на праезд яму ў загранішныя края.

— Ну, сын мой мілы, адпраўляйся ж ты апяць к Палугрыму.

Увідаў Палугрым царэвіча і гаворыць яму:

— Што табе, царэвіч, сказаў твой ацец?

— Сказаў мне мой ацец, што лошадзь стаіць у берагу, у скляпу, а ключыкі ў вашай міласці.

Палугрым і гаворыць царэвічу:

— Я тапер знаю аб тваей паездке: ты едзеш па свету сябе паказаць і дружкі паіскаць.

Спрыгнуў Палугрым з дубу, адправіліcь к склепу. Адмыкаець лошадзь, а лошадзь ад дрэўнасці пасівела. Ігра Ігравіч, увідаўшы гэту багатырскую лошадзь, гаворыць ей:

— Служыла ты майму бацюшке ад младасці яго і да старасці, паслужы тапер і мне!..

— Нет, Ігра Ігравіч, я ўстарэла — не магу табе служыць, а пазволь мне ў чыстым полі пагуляць, яры пшаны паядаць, зямчужнай расы папіваць!

Царэвіч з Палугрымам і самі адправіліcь пагуляць і павесяліцца. Гулялі яны доўга і прыдоўга, а ў гэта ўрэмя і лошадзь ад'елась. Прыходзіць Ігра Ігравіч к тому месту, свіснуў багатырскім посвістам, маладзецкім голасам: лошадзь бяжыць, пад ёю зямля дрыжыць.

— Скажы жа мне напярод,— гаворыць лошадзь Ігры Ігравічу,— якую табе службу служыць?

— Я,— гаворыць царэвіч,— хачу чужых зямель павідаць, сваю красату паказаць.

— Ну, скідайся мухаю, палязай у маё левае ўха, а ў правае вылязай: тапер ты красіў і сілен, а тады яшчэ болей будзеш і красіў і сілен.

Вылез із вуха лошадзі царэвіч і ўпраўду стаў і сільней, і красівей.

— Садзісь лягенька і дзяржысь крапенька — паедзем!..

Усеўшысь на лошадзь, царэвіч прасціўся з Палугрымам і ўскакаў. У мінуту ўрэмені царэвіч Ігра Ігравіч праскакаў на багатырскай лошадзі адно чужое царства. Відзіць агромны дом. Астанавясь здзесь, прывязыець ён верную сваю лошадь, сам уходзіць у гэты дом: відзіць агромнага змея, змей жа гэты махаець жалам да верхняга на́валка. Царэвіч, не рабея, кла́дзець сваю шапку і нізка кланяецца змею. Змей скаціўся ў клубок, пакаціўся ў дальнія пакоі — і выходзіць прыкрасівая дзявіца. Дзявіца гаворыць царэвічу:

— Здрастуй, Ігра Ігравіч, куды ты едзеш, ці па хоці, ці па няволі?

— Я еду не па няволі, а па бацюшкінаму благаславенню.

— Знаеш лі, царэвіч: хто далека лятаець, тот сваю галаву цяраець, а пакорную і павінную галаву і меч не бярэць. Ты ку-

ды едзеш, туды ты на сваей клячы не даедзеш. Астаўляй яе ў маім двярэ, а я дам табе свайго добрага каня.

Паблагадарыў яе за ўслугу, сеў на дзіўнага каня і паскакаў у чацвертыя царства. Як воласу перагарэць, ён праскакаў па гэтаму царству, прыскакаў к заставе чацвертага царства, відзіць грамадны дом; прывязаў дзіўнага каня, сам пайшоў у тот дом. Пры ўходзе ў дом відзіць грамаднага змея, нічуць не рабея тога змея, кладзець сваю шапку к месту, нізка пакланіўся змею — змей звярнуўся ў клубок, пакаціўся ў заднія пакоі. Выходзіць прыкрасная дзявіца, і адкланіваецца ей Ігра Ігравіч. Дзявіца гаворыць яму:

— Куды едзеш? Ці па волі, ай па няволі?

— Не па няволі, а па бацюшкінаму благаславенству.

— Даляко, царэвіч, лятаеш, сваю голаву цяраеш; ну, а пакорную і паклонную галаву і меч не бярэць; толька ты на клячы куды едзеш, не даедзеш; а дзелаць уж нечага — думаю памоч табе: бяры майго быстрага багатырскага каня, а свайго астаў у канюшні.

Паблагадарыў дзявіцу-красавіцу, сеў на быструю лошадзь і паскакаў да следуюшчага чацвертага царства. Ехаў так быстра, што праехаў усё царства, як воласу перагарэць. Пад'язджаець к заставе, відзіць велікалепны дом. Астанаўліець быстрага багатырскага каня, уходзіць у дом, відзіць агромнага змея. Не рабеючы, кладзець сваю шапку і нізка кланяецца ён тому змею. Змей звярнуўся ў клубок і пакаціўся ў заднія пакоі. Яўляецца перад яго прыкрасівая дзявіца, ён адкланіўся ей. Дзявіца спрашыець у царэвіча, ці па хоці, аль па волі едзець і куды, і за чым. Царэвіч атвячаець прыкраснай дзявіцы:

— Я еду к мурамскаму цару прасіць рукі яго дочары Прыкраснай Ірыны.

— Знаю я гэтага цара: ён мне родны, но толькі ты на лошадзі не ездзі, а астаў яе ў мяне, а я табе дам уместа каня шацёр-самалёт, шапку-невідзімку і сапог-бісаног. Да сматры: як даляціш, не ўхадзі ў іх палаты, а астанавісь у іх зялёным саду, штоб яна ні твайго голасу не слыхала, ні твайго воласу не відала, а то яна цябе спатрабіць. Наблюдай яшчэ, як царэўна Ірына будзець ішіць на гулянне ў сад са сваімі прыслугамі і ўзойдзець у шацёр на оддых, тады ты скорым поспехам к ей у шацёр, паддахні і кольцы на кольцы паміняйся, квасу напейся і ўхадзі скарэй.

Выслушаў усё, што яму гаварыла і прысаветывала, паблагадарыў яе і сеў у самалёт, і паляцеў к мурамскаму цару, прыкрас-

най дочары яго Ірыне. Прыляцеўшы, ён астанавіўся ў царскім саду і выжыдаў выхаду царэўны, Прыкраснай Ірыны.

У поўдзень выйшла із дварца царэўна з прыслугамі пагуляць па саду і, нагуляўшысь, пайшла ў шацёр на оддых. Тут Ігра Ігравіч скорым поспехам уходзіць к ёй у шацёр такжа на оддых. Паддахнуўшы з ёю, нагаварыўшысь у волю, абмяніўся на кольцы, напіўся квасу і, не накрыўшы квашні, уляцеў у абратны пуць. Прыляцеў к прыкраснай дзявіцы, аткланіўшысь ей, вазвраціў ей самалёт, шапку-невідзімку і сапог-бісаног і благадарыць яе. Дзявіца прыкрасная (звалі яе Алёнай) сказала царэвічу:

— Даляко лятаеш і многа бед дзелаеш: квас піў і квашні не закрыў. Садзісь жа скарэй на каня свайго і скач скарэй, а то віць за табой будзець пагоня. Вот табе мая шчотачка. Як будуць цябе даганяць, брасай скора гэту шчотку — здзелаюцца мхі і балоты, а пака ганцы канавы пракапаюць, масты намасцяць, дарогі правядуць, ты ўсё царства праскачаш.

Даганяюць царэвіча ганцы, а царэвіч брасаець шчотку — дзелаюцца мхі, балоты, і пака ганцы правялі дарогі, ён ужо праскачыў усё царства. Пад'язджаець к заставе другога царства. Уходзіць ва двор, адкланіваецца прыкраснай дзявіцы, аддаець ей быстрага багатырскага каня і паклон ад сястры Алёны.

Другая дзявіца дала Ігры Ігравічу грабяшок.

— Будзець за табой пагоня, тады брасай гэты грабяшок: ад гэтага будзець ззадзі цябе агромны лес. Пака лес разрубяць і масты, дарогу здзелаюць, ты праскочыш у трэцяе царства.

Усеўся на лошадзь добры моладзец і быў такоў. Даганяець пагоня, царэвіч бросіў грабяшок, і вырас агромны густы лес. Пака ганцы зрубкай леса занімаліся, а царэвіч ускакаў у трэцяе царства.

Яўляецца к прыкраснай дзявіцы, аддаець паклон ад сястры. Прыкрасная дзявіца гаворыць:

— Ігра Ігравіч, за вялікаю бядой ездзіш ты па свету. Сматры не пацярай сваю галовушку; а бяда ў цябе ўжо на насу тваём. Вот жа табе ад мяне хустачку. Будзець за табой вялікая пагоня, ты не дапускай да сябе, брасай гэту хустачку. Загарыцца пазадзі цябе і зямля, і вада; пагоня ў агонь не пайдзець, а вазвраціцца васваясі.

Даганяець пагоня, царэвіч Ігра Ігравіч брасаець хустку: загараецца і зямля, і вада; ганцы ў агонь ужо не бросіліся, а толькі дзівуюцца. А Ірына гаворыць:

— Ну, Ігра Ігравіч, тапер-та ты ад маіх рук ускальзнуў, но дажыдай мяне з гасцінцам у тваём царстве.

Царэвіч пад'язджаець к старыку Палугрыму. Астанаўліець утамлёнага свайго вернага багатырскага каня, здрастуецца з Палугрымам. Палугрым радзёханек благапалушнаму вазвращчэнню Ігры Ігравіча.

— О, Ігра Ігравіч, даляко ты лятаеш, да і бед жа многа надзелаў: то-та маладосць — буйносць! Піў квас, да квашні не накрыў! Паязджай жа ты к атцу свайму: у вас бальшое бішчасце. Наляцеў у ваша царства заморскі Абжора — выядаець усё ў вашым царстве.

Даскачыў скорым поспехам да свайго царскага дварца, уходзіць ва дварэц, відзіцца з атцом і брацціямі. Началісь распросы а[б] пуцяшэствіі царэвіча; царэвіч ад ніці да ніці расказаў атцу а[б] сваём странстваванні. Ацец, нагаварыўшысь ■ сынам, гаворыць і а[б] сваём горы:

— Вот, сын, і ў мяне, у маём царстве сільныя бішчасця. Налятаець Абжора, па нескалькі куф водкі выпіваець і па нескалькі валоў паядаець.

— Бацюшка, прыкажыце здзелаць тры прута зялезных, булку хлеба і гарнец водкі.

Ляціць Абжора, як гром грыміць; яўляецца ва дварэц, як сенная капа, і ўходзіць у палаты, трэбуець папіць і паесць.

Яўляецца царэвіч Ігра Ігравіч з булкаю хлеба і гарцам водкі.

Абжора горда рачыць царэвічу:

— Што, ты шуціць уздумаў са мной: ці накорміш ты мяне гэтым кусочкам?

Царэвіч і гаворыць Абжоры:

— У нас была карова-абжора: ела ўсё па такой булке хлеба і піла па вядру вады марской, а патом аб'елась і апілась. Няўжо ж і на цябе не будзець акалявання?! Ведзь акалееш і ты!

Абжора і рачыць царэвічу:

— Ты са мной мала пагаварывай!

— Ну, калі ты, галубчык, такоў, то я з табой пабораюсь. Падайце-ка тры прута маіх.

Падаюць яму тры зялезных прута. Царэвіч давай яго бізуваць па хрыбетнай касці, збіў тры пруты, а Абжора не паяўся. Тады царэвіч патрэбаваў дзедушкіну булаву. Валакуць тую булаву дзесяць чалавек царскіх прыслуг. Абжора спужаўся ўжо булавы, крутнуўся ад царэвіча так сілна, што ў руках царэвіча астаўся і чэрап Абжоры, і паляцеў Абжора із царска-

га дварца. Пусціўся ў дагон за Абжорай, но відзіць, што яго не дагоніць; пусціў услед за ім дзядоўскую булаву, паляцела булава за Абжорай, як з руж'я пуля.

Відзіць Абжора, што яго дзела плоха, ударыўся аб зямель: зямля ад сільнага ўдара расступілась, і Абжора заморскі праваліўся сквозь землю. Загрымела ўслед за ім булава, і здзелалась на том месце окнішча. Ігра Ігравіч падходзіць к таму окнішчу, сматрыць туды і відзіць, што і канца-краю нету.

Прыходзіць ва дварэц і гаворыць атцу:

— Какаво, бацюшка, накарміў і напаіў заморскага Абжору! Ён як крутнуўся, у маіх руках астаўся і чэрап яго з валасамі; но бяду адну здзелаў — жалею і сам: булава дзедушкіна паляцела ў тартарары за Абжорай.

Ацец гаворыць царэвічу:

— Ладна, што ізбавілісь ад Абжоры, а булава хоць і прапала, небальшая тут яшчэ бяда.

— Ох, нет, бацюшка, я думаю булаву і там найціць.

— Ну, што ты чудзіш? — гаворыць цар свайму царэвічу.

— Бацюшка, прыкажыце здзелаць блок: я на блаку спушчусь і найду булаву.

Узяў руж'ё, зарадзіў і ідзець к блоку; праваждаюць яго ацец і брацця. Царэвіч просіць атца-цара:

— Бацюшка, як спушчусь я ў тартарары, ты пастаў старажамі ля блака́ не салдат, а сыноў тваіх — маіх браццяў: я калі дзёрну за вяроўку, то б яны мяне аттэль бы ташчылі.

Ну, так яго і спусцілі. Ён сашоў на тот свет і там начаў іскаць булаву. Іскаўшы булавы, найшоў гняздо птушанят і прыцэльваецца іх біць. Пцічаняты іспужалісь і затраслі сваімі крылушкамі, а ён адумаўся. Рашыўся ўзяць іх і карміць: можа, у іх нет ні атца, ні мацеры. Начаў іх карміць і паіць да ўзросту іх. Пціцы сталі палетываць, і слышаць яны, што ляціць іх маць-пціца — усяму свету хапатніца. Сталі яны дружка з дружкаю талкаваць:

— Што ты знаеш, сястрыца? Ляціць наша маць-пціца — усяму свету хлапатніца; яна, не растукаўшысь, не разгукаўшысь, Ігра Ігравіча спатрабіць; нада нам яго спратаць: хоць ён нас напугаў, да і памілаваў. А куды ж мы яго схаваем?

А падружка-пцічка атвячаець:

— А пад ту скарлупу, із каторай мы самі выхадзілі.

Так яго туды і спраталі. Прылятаець іх маць-пціца — усяму свету хлапатніца і гаворыць сваім пцянцам:

— Дзеткі мае, галубяткі, хто вас ускарміў і хто вас успаіў? Я тога і сама б аблагатварыла!

Дзеці-пцянцы і гаворацъ ёй:

— Хадзіў тут які-та ахотнік, хацеў нас з руж'я пабіць — нашы жылачкі ўсе пазамерлі; патом ён асумніўся, стаў нас карміць і стаў нас паіць, пакель мы ўжо сталі пералетываць.

— А дзе ж вы яго дзявалі?

— Мы спраталі пад ту скарлупу, з каторай самі выхадзілі.

— Ідзіце і завіце яго ка мне!

Пцянцы яго вядуць к сваей мацеры. Яна, гэта пціца, яго ўзнала і гаворыць:

— Здрастуй, Ігра Ігравіч! — А ён ёй:

— Здрастуй, пціца — усяму свету хлапатніца!..

— Віць ты, царэвіч, даляко лятаеш, да сваю голаву цяраеш, толька тым і бярэш, што пакорную і паклонную галаву і меч не бярэць. Ты тэй свет увесь аб'ехаў і сюды явіўся! Што ж табе нужна здзесь і зачым сюды ў гэты свет?

— Абжора занёс булаву; вот я прыйшоў атысківаць яе.

— Што ты пцянцоў маіх карміў і паіў, за то я цябе адблагадару. Ідзі і разысківай сваю булаву.

Ён прыходзіць к дому тога Абжоры, і на крыльцы сідзяць дзве дзевушкі, слёзна плачуць, і кавёр вышываюць, і яны так красівы, што адна другой красівей. Ён прыходзіць к ім і спрашыець у іх, якога яны звання і горада. Яны атвячаюць яму:

— Мы дзявіцы, адну завуць Марухай, а другую Насцюхай; звання мы царскага; украдзены заморскім Абжорай. Марушка царства Мятліцкага, а Насцюшка царства Ўюгіна.

— Скажыце мне, ці жыў Абжора?

Тыя дзявіцы атвячаюць:

— Жыў. Ён нядаўна сыскаўся і прынёс з сабою булаву; сам тапер аддыхаець і булаву ў угол паставіў.

— Я хачу яго відзець; пакажыце мне, ідзе ён аддыхаець.

Яны яго ўводзяць у спальню, а Абжора спіць. Ён узяў сваю булаву і адбіў Абжоры галаву.

— Вот, красавіцы-царэўны, Абжоры тапер ужо нет, я яго са свету зжыў.

— Ах, царэвіч, у яго ёсць старушка, та пахітрэй за яго, яе толькі дома нет. А мы парадзім табе, калі ты тут нас не аставіш, як справіцца са старухай.

Яны ўзялі залатыя ключы, пайшлі ў патайныя паграбы. У паграбах стаялі дзве куфы віна: на левым баку — сіла, а на правым — бяссілля.

— Вот, Ігра Ігравіч, пей віно з левай стараны, а з правай не трогай.

Ён як віна напіўся, падноснік пад ім зламіўся, — пачуяў ён у сябе болей сілы.

Перакацілі куфу з левай стараны на правую, а з правай на левую, заперлі патайны потраб і ўшлі; ключы павесілі на места і гаворадь:

— Прыйдзець старуха і вызавець цябе сражацца з сабой, і ты яе спашыбеш; яна папросіць у цябе роздуха і прыгласіць цябе папіць і пагуляць. Вазьмець яна залатыя ключы і пайдзець у патайныя паграбы, там ёсць дзве куфы віна, і прадложыць піць віно, а ты пей із бочкі на правай старане: тады яна аслабеець, а ты пасільнееш.

Патом узялі Ігра Ігравіча і спраталі. Ляціць старуха — з палёту сур'ёзна. Як вайшла ў комнату і гаворыць, што русь-кось пахнець. Атвячаюць ёй царэўны-красавіцы:

— Бабушка па Русі лятала да рускага духу набрала!

— Вы [хлусіце], вы мяне праводзіце.

А яны атвячаюць ёй:

— Нет, бабушка, мы гаворым табе праўду.

Глядзь — Абжора забіт.

— Хто ж гэта майго Абжору забіў?

— Прыходзіў якей-та чалавек за булавой, узяў булаву і адбіў дзедушке галаву.

Сейчас жа ўскачыла ў комнату Абжоры, яе мужа, і ўвідала, што Абжоры галава адбіта і ляжыць галава асоба, а тулава тожа асоба. Рассярдзілась дужа і прыйшла ў бальшую злосць, громка закрычала:

— Падайце мне яго сюды: я яго жыўцом з'ем.

Дзявіцы пазвалі Ігра Ігравіча; яўляецца к старухе.

— Эх, галубчык, ты тэй свет увесь аблятаў і на гэты прыйшоў; нет, нет, цяпер не выкруцішся. За што ты майго старыка ўбіў?

— За то,— кажыць Ігра Ігравіч,— што ён маю булаву ўнёс. Вот я ўзяў у яго сваю булаву і адбіў яму галаву.

— Ну, пайдзём-ка на расправу!

Выйшлі за варота, і гаворыць старуха:

— Ну-ка, Ігра Ігравіч, дуй поле — ток!

Ён як дунуў на дванаццаць вёрст, выдуў хруштальны ток. А яна дунула на дванаццаць вёрст — выдула ток чугунны; да і началі драцца. Царэвіч старуху збіў.

— Стой, Ігра Ігравіч, пайдзём пагуляем!

Старуха бярэць свае залатыя ключы, атвараець патайныя паграбы.

— У мяне здесь ёсць дзве куфы віна. З каторай стараны будзем піць віно: ці з правай, ці з левай?

— Я буду піць хоць з правай.

І як напіўся, яшчэ пасільней стаў, а яна сільна асалапела.

Царэвіч і гаворыць:

— Ну што, баб, адзе будзем ваявацца?!

А яна яму не вымавіла і славечка. Тады ён узяў яе за валасы, траханўў — і косці з кожы вытрас. Прышэдшы к пленніцам дзявіцам, і гаворыць ім:

— Ну, тапер я ўсіх сваіх і вашых урагоў пабядзіў. Тапер не бярыце ні злата, ні срэбра, а забірайце драгацэнныя камення!

І адправіліс утраём к блоку; узяў ён і сваю булаву.

Прышэдшы к блоку, садзіцца ў яго, а дзявіцы зарыдалі горкімі слязмі і гавораць яму:

— Мы табе ў тваем горы памаглі нашым саветам, і ты абяшчаўся вывесць нас на рускі свет, а между цем тапер пакідаеш нас. Луччы ты пасадзі нас на блок, а тады сам сядзеш: твае браццяя наверна пададуць табе блок.

Царэвіч прызнаў іх слава за праўду, пасадзіў дзявіц на блок і трахнуў ім. Браццяя яго і пацянулі. Давалаківаюць блізка ■ берагу і замецілі іх красату, і сталі друг з другам гаварыць:

— Ну, брат, ці нравяцца яны табе?

Атвячаець другі брат:

— Агу! А чаму ж? Якея прыгожыя красавіцы!

— Да во што, брат. Як нам брат явіцца, то ён возьмець адну сабе, а другую каму-небудзь із нас уступіць. А мы разрэжам вяроўку, выцянуўшы іх на край, і пусцім туды адзін блок. Тады гэты дзявіцы будуць нашымі жонамі, а брат навекі застанецца на том свеце.

Дзявіцы абразаваліс залатымі бярозамі і лісцямі на бярозах сярэбранымі і свіліс макушка з макушкаю, і окнішча гэта зарасло, і прызнакаў не [а]сталась. Тады яны спугаліс і самі да і думаюць, як ііць к атцу і што яму сказаць.

Прыходзяць к атцу і гавораць яму:

— Бацюшка, наверна, наш брат на том свеце ліба ўмер, а ліба ўбіт, окнішча зараўнавалась, і выраслі два памятніка залатымі бярозамі з сярэбранымі лісцямі, са світымі ўмесце макушкамі. Ігра Ігравіч, узнаўшы, што браццяя яго яму ізмянілі, адпраўляецца к пціцы — усяго света хлапатніцы, і гаворыць яму пціца:

— Што, Ігра Ігравіч, зрадзілі цябе твае братчыкі?

І ён заплакаў горкімі слязамі.

— Што ж дзелаць? Я надзееўся на іх не так, як на чужых, а яны ўтварылі мне зло хужы чужых.

— Но я твайму гору памагу: ты маіх дзяцей васкарміў і васпаіў. Ступай: набей мне пцічак і, сколька наб'еш, усіх на нітачку навяжы, а заўтра рана ка мне прыхадзі.

Ён набіў пціц цэлую нізку і прыходзіць к ёй. Яна і гаворыць яму:

— Садзісь на мяне лягенька і дзяржысь крапенька, а як замарусь, так кідай мне ў мой рот, штоб не аслабець.

Бярэць ён булаву і садзіцца на пціцу лягенька і дзяржыцца крапенька, і пайшлі на рускі свет. Вазнясла яго вочань высока і спрашыецць яго:

— Ідзе мы находзімся? Глянь уніз.

Ён паглядзеў уніз і гаворыць:

— Нічаго не відна, толька адна вада, як хрушталь,— знаць, мы над морам.

Яна сейчас перавярнулась уніз спіною, а ўверх нагамі — царэвіч і загрымеў, як камень у ваду. Тады ізноў падхваціла яго і пытаецць:

— А што, Ігра Ігравіч, як ты спужаўся?

А ён ёй атвячаець:

— Я так спужаўся, што нямнога ад смерці астаўся!

— Вот жа так і мае дзеткі ад цябе папужаліcь! Вот так-та хлеб-соль усягда аддаецца!

Вынесла на рускі свет і пусціла. Ён і пайшоў па гораду ка дварцу. Ідзець служба ў бож'ім храме, і пытаець ён:

— Які сягодня празднік?

Тут яму і атвячаюць:

— Наш цар па сыну сваем Ігры Ігравічу саракауст адпраўляець.

— Бейце ў калакала: Ігра Ігравіч жыў і ідзець дамой.

Цару аб ём далажылі, і ён выйшаў к сыну наўстрэчу, і радаваўся цар-бацюшка благапалушнаму вазвращчэнню сына.

Браты прыбяжалі, слёзна плакалі і рыдалі, на калені ўпадалі і гаварылі яму:

— Многа мы вінаваты прад табою, як і прад богам.

Ігра Ігравіч братам сваім прасціў іх віну. Завець цара-бацюшку і сваіх братцаў к тому месту, ідзе стаяць дзве бярозы. Прыходзяць к тому месту — стаяць дзве красівыя красавіцы. Падходзіць і Ігра Ігравіч і гаворыць ім:

— Здрастуйце, цесарэўны-пленніцы!

І яны яму пакланіліся. Бярэць ён за руку адну царэўну, Мархвуту, і гаворыць большаму брату:

— Вот табе нявеста; а за што — знай і свадзьбу іграй!

Тады бярэць за руку Настассю і гаворыць мяньшому брату:

— Вот і табе нявеста; а за што — знай і свадзьбу іграй!

— Ну, што ж ты, сынок,— гаворыць цар,— брацьцям нявест аддаеш, а сабе ніводнай не бярэш?

Ігра Ігравіч атвячаець:

— Бацюшка, аба мне не клапацiце: я сабе даўным-даўно найшоў.

Пайшлі яны ў свае палаты свадзьбы гуляць; гулялі яны месяц, а можа і нядзель дзесяць. У адзін дзень уся світа царская пайшлі ў зялёны сад гуляць, і толькі ў гэты дзень і час у гэта царства ўязджаець мураўская царэўна Алёна і пад'язджаець к царскаму саду са сваім сынам. Сын, увідаўшы царскую світу ў саду, гаворыць мацеры:

— Пасматры-ка, мамінька, як наш дзедушка гуляець з маім папінькай і з дзядзюшкамі па саду!

— Пачаму жа ты, мілы мой сыночак, знаеш, што гэтыя людзі твае дзедушка, папінька і дзядзюшкі?

Сын на гэта мацеры гаворыць:

— Эх, мамінька, воран ворана далеча відзіць.

Ігра Ігравіч узнаў Прыкрасную Алёну і скорым поспехам прама к ёй наўстрэчу, цалаваліcь у сахорныя уста, і прыняў іх да чэсці ў свае палаты, паказаў і расказаў атцу, што гэта Прыкрасная Алёна — яго нявеста. Нямала не медля, началі піва варыць і свадзьбу завадзіць Свадзьбу сыйгралі, піва папілі і месяца два і тры павесяліліcь. Цар-бацюшка аддаў яму (Ігры Ігравічу) палавіну царства.

Яны сталі жыць і быць і дабро нажываць.

## 31. БЯЗНОГІ БАГАТЫР

У неякім царстве, неякім гасударстве жыў-быў каваль да каваліха. Спарадзіла каваліха, на яе ліха, гожага хлапчука, да бязногага. Расце хлапчук не на радасць, а на гора. Ведама, калека зроду — якая радасць бацькам. Гадуецца ён як пакідзішча. Управіцца каваліха каля печы да й бяжыць у поле ці ў вагарод,

а хлапчук валяецца па зямлі ды смокча скарынку або жуе параную картоплю. Кінула яго раз каваліха на дзядзінцы, дак чуць яго свінні не з'елі. Не шкадуе каваліха, на яе ліха, свайго дзіцяці.

— Бо,— кажа,— якая з яго карысць? Калека не памога, а толькі абуза. Хоць бы яго бог з свету прыбраў.

А тут ён наперакор расце да таўсцее. Вырас ужо хлапчук нелапы, але не ходзіць, да толькі поўзае. Карміць яго кармі, а карысці з яго ніякае няма. Яшчэ гарэй пачала яго праклінаць матка да наракаць на бога, што даў ён сына не на ўцеху, як людзям, а на бяду. Слухаў, слухаў каваль праклёны дурное бабы, але нічога не мажэ парадзіць. Шкода яму хлопца, але ад бабы жыткі няма. От нарэшце не вытрымаў ён, запрог кабылку, пасадзіў на воз сына да й павёз яго ў лес. Завёз ён далёка ад вёскі да й хацеў там пакінуць сына на страту, але ўбачыў у лесе маленькую хатку. Улез ён у хатку, аж там нікога няма. Зірнуў ён туды-сюды — у хатцы ўсе е, а гаспадыні няма. От ён унёс сына ў хатку да там і пакінуў, а сам сеў на воз да па кабылцы, да па кабылцы. Патарахцеў ён хутчэй, не аглядаючыся, каб ніхто не дагнаў. Сядзіць хлапчук адзін у хатцы да разглядае, што там е. Толькі ось прыходзіць якісь старэнькі дзядок і просіць напіцца.

— Рад бы я даць табе напіцца,— кажа хлапчук,— да не магу хадзіць.

— Прáшкі,— кажа дзядок,— зачарпні да перш закаштуй сам, ці харошая вада.

А хлапчуку даўно піць хацелася, хлебануў ён да й выдундзіў нéмаль поўны корчык. Як выпіў, дак адразу пачуў у сабе такую сілу, што здаецца ўсю землю перавярнуў бы, каб толькі было аб што ўперціся нагамі. Напіўся дзядок да й кажа:

— Пі больш, бо табе трэ вялікая сіла,— да й знік, бацэ яго й не было.

Падзівіўся хлапчук, думаў, што гэта яму прыснілася, але бачыць, што ў яго здаровыя ногі, што ён так ідзе, што пад сабой й зямлі не чуе. Напіўся ён яшчэ тае вады, дак і чуецца, што яму няма раўні на ўсём свеце. Хацеў ён яшчэ больш наліць вады, да як узяўся за збан, дак і разгнёў яго, а вада вылілася. Схапіў ён вядро да й пабег да крыніцы. Шукаў ён яе, шукаў — няма, от бы ў землю праваліласся. Варочаецца ён да хаткі, аж і тая прапала. Ён туды, ён сюды, да так заплутаўся ў гушчэчы, што не ведае, куды йці. Пастаяў ён трохі да й пайшоў проста. Ідзе ён, а спераду пападзецца тоўстая хвоя або дуб, як печ. От схопіць ён адною рукою дзерава, дак тое й хрусне, бы саломіна.

Ідзе ён да варочае дзераўлякі, бацца там віхар праляцеў. А ён ломіць лес дзеля таго, каб зрабіць метку да ў другае туды не прыйсці. Доўга ён так ішоў, пакуль выйшаў на дарогу. А там паабапал дарогі ляжалі вялізазныя каменні, бацца валы. От і пачаў ён перакідаць тое каменне на дарогу, бы картоплю. Толькі ось едуць багатыры. Пад'ехалі яны да й супыніліся, бо нельга ехаць далей, каменне мяшае.

— Здароў, дзяцюк,— кажуць багатыры,— што ты робіш?

— Граю сабе,— кажа той хлапчук.

От багатыры злезлі з коней да хацелі апрастаць дарогу; узяліся яны за адзін камень, але не могуць яго й крэнуць. Падышоў тут хлапец да й згроб тое каменне ў роў.

— Паедзем з намі,— кажуць багатыры.

— Як жа я паеду, калі ў мяне няма каня, — адказвае хлопец.

— Выбірай сабе каня з нашых.

Пайшоў хлапец выбіраць сабе каня, але толькі паложыць каню на спіну руку, дак той і ўпадзе на пярэднія каленкі. Перабраў ён так усіх коней, а сабе не выбраў ніводнага. От пайшоў ён з багатырамі, тыя на конях, а ён пешкі. Толькі ось бачыць ён, што каля дарогі мужык скародзіць поле. Кабылка ў яго худая, маленькая, але жылістая. Палажыў ёй хлопец руку на спіну, а яна й не ўхмылілася. От пачаў ён таргаваць тую кабылку, але мужык не хоча яе аддаваць ні за якія грошы.

— Навошта мне грошы,— кажа ён,— яшчэ хто заб'е, а без канякі як я ўпраўлюся з гаспадаркаю. Без канякі й чалавек не чалавек.

— Памяняй сваю кабылку на каня,— кажуць багатыры,— бяры сабе на выбар, якога хочаш.

— Хто мяняе, у таго хамут гуляе,— кажа мужык.

Насілу багатыры ўламалі мужыка да за пару самых лепшых коней выменялі хлопцу тую кабылку. Сеў ён на тую кабылку, й паехалі яны далей. Толькі ось пад'ехалі яны к той вёсцы, дзе жыў хлопца бацька, да й сталі каля кузні каваць коней. Не пазнаў каваль сына — так ён змяніўся — да падкаваў і яго кабылку. От і просіць кавальчук, каб бацька выкаваў яму булаву. Сабраў каваль усе залеза да й выкаваў такую булаву, што ўтрох насілу яе варочаюць. Узяў кавальчук тую булаву, пакруціў яе адною рукою да як шыбануў угору, дак яна няведама дзе й дзелася. Стаяць багатыры да дзівяцца. Але ось па нямалым часе й гудзе тая булава, бы гром грыміць, ляціць уніз. Падставіў кавальчук калена. Ударылася булава аб калена да толькі скры-

вілася. Прыбавіў каваль яшчэ з пуд залеза да й выкаваў мацнейшую булаву. Падзякаваў кавальчук, узяў тую булаву да й паехаў з багатырамі ў свет. Прыехалі яны к аднаму цару й наняліся на службу. Па нямалым часе аб'явіўся там вельмі дужы змей і пачаў прылятаць да цягаць к сабе людзей. Багацька пахватаў ён людзей да й паеў іх. Нарэшце, захацелася яму царскага мяса, от і схапіў ён царэўну да й запёр к сабе ў лёху, але не есць, а трымае на закуску. Аб'явіў цар па ўсяму царству, што дасць таму паўцарства й аддасць замуж царэўну, хто яе выбавіць ад змея, а яго заб'е. Многа парывалася сілных багатыроў біцца з тым змеем, але ўсе яны там загубілі свае костачкі. Нарэшце вызваліся й тыя багатыры, што прыехалі з кавальчуком.

— Паедзем з намі,— кажуць яны кавальчуку.— Ты яшчэ малады, пара й табе шукаць славы. Паедзем, та мы цябе навучым, як біцца.

Згадзіўся кавальчук, і паехалі яны разам. От едуць яны да едуць і пад'язджаюць, аж растанцы на дарозе, й стаіць слуп, а на ём штось напісана. Быў з іх адзін пісьменны, от і пачаў ён чытаць. От і перачытаў ён, што хто паедзе направа, той дабудзе сабе славу, хто налева, знайдзе багацтва, а хто проста, таго спаткае смерць. І пачалі тут багатыры выбіраць, куды хто ахвоч ехаць. Выбралі яны ўсе дарогу направа й паехалі шукаць славы, толькі адзін кавальчук кажа, што ад смерці не адперці, дак лепш ехаць проста. Як ні адмаўлялі багатыры, а кавальчук упёрся да такі адзін паехаў проста. Праехаў ён трохі да й трапіў на тую самую хатку, куды яго завёз бацька бязногага. Прывязаў ён кабылку да й улез у хатку. Зірнуў ён у кут, аж там у запечку сядзіць вельмі старэнькая баба.

— Здарова была, бабко!

— Дзякуй табе, дзецючок. Куды бог нясе?— пытае яна.

— Паеду, бабко, проста.

— Не едзь, дзеткі, бо загінеш. Там змей з'есць.

— Не, бабко, паеду, хоць загіну.

— Шкода мне цябе, дзеткі. Ты быў у маей хатцы, дак ты мне бацца родны ўнук. Дак от жа слухай мяне. Што ты ні сустрэнеш на дарозе, дак не забівай, то яно табе ў дарозе да ў бядзе паслужыць.

Падзякаваў хлопец бабе да й паехаў далей. Толькі ён ад'ехаў ад хаткі, аж выскачыў заяц. Хацеў ён швырнуць у яго булавою, але той кажа:

— Не бі мяне, я табе ў бядзе паслужу.

Паехаў ён далей, а заяц бяжыць за ім на́зіркам. Толькі ось выскачыў воўк. Ён за булаву, а воўк кажа:

— Не бі мяне, буду табе патрэбен у бядзе.

Апусціў ён булаву да й паехаў далей. Бяжыць воўк на́зіркам. От пад'ехаў ён к каменнай гары. Няма як ехаць далей. Злез ён з кабылкі, пусціў яе на пашу, а сам пайшоў шукаць дарогі. Тым часам змей вылез з лёху жыраваць да якраз трапіў туды, дзе была кабылка. Бачыць воўк, што змей з'есць кабылку, от ён як напалохаў яе, дак яна й пусцілася наўцекача з усіх ног да тым часам і ўцякла ад змея. Пажыраваў змей да й вярнуўся к сабе ў лёху. От прыбег к хлопцу заяц да й паказаў яму тую шчыліну, дзе змей зачыніў царэўну. Пагрукаў хлопец булавою ў каменную сцяну, от там і паказалася царэўна да й кажа:

— Уцякай, бо змей з'есць.

А тут хлопец размахнуўся да як трэсне булавою аб сцяну, дык яе і высадзіў. Кінулася к яму царэўна на шыю да давай прасіць, каб давёз яе к матцы да к бацьку. Тым часам змей высунуў голаў праз шчыліну да й хацеў з'есці таго хлопца. Тут хлопец схваціў булаву да як рэзне па галаве змея, дак з яе і маскі пацяклі. От адрэзаў ён у змея язык да й палажыў яго сабе ў кайстру. Тым часам змей высунуў другую голаў. Хлопец і тую размажджыў да выразаў язык. Такім парадкам расквасіў ён змею ўсе дванаццаць галоў. Рада царэўна, што такі знайшоўся багатыр да й страціў ліхога змея. Спадабаўся ёй той хлопец, і абяцала яна, што пойдзе за яго замуж, як ён завязе яе к бацьку да к матцы. А што гэта праўда, дак яна разарвала хустачку да й дала хлопцу адну палавінку. Палажыў хлопец хустачку за пазуху да й лёг спаць, бо вельмі ўтаміўся, пакуль ухадзіў змея. Спіць хлопец багатырскім сном і не чуе, што бяда блізка. Тым часам тыя багатыры пад'ехалі туды, убачылі царэўну да й пачалі яе пытаць, як тое ўсё было. Расказала яна ўсё, як было, да й кажа, што пойдзе замуж за таго хлопца. Пазавідавалі яны хлопцу, падбеглі к яму соннаму да й забілі яго. Потым пачалі яны спрачацца, каму павінна дастацца царэўна. Доўга спрачаліся яны, нарэшце пачалі біцца, пакуль пазабівалі адзін другога. Застаўся толькі адзін самы дужы да спрытны. От ён прымусіў царэўну, каб яна сказала бацьку да матцы, што гэты багатыр забіў змея й выбавіў яе з няволі. Няма ёй чаго рабіць, трэ згаджацца, бо яе каханага хлопца няма ў жывых. От той багатыр пасадзіў царэўну на свайго каня да й павёз яе к цару. Тым часам заяц пабег да крыніцы, набраў там жывое вады ў рот, прынёс да й пырснуў хлопцу ў вочы. Ажыў той да й прахапіўся.

Зірнуў ён, аж царэўны ўжо няма. Дагадаўся ён, што тут было ліха, да чуць не заплакаў ад жалю. Хацеў ён хутчэй бегці к цару да расказаць там усю праўду, дак, ведама, пешкі далека не забяжыш хутка. Тым часам воўк пабег па лесе да й трапіў яго кабылку. Напужаў ён яе да й прыгнаў туды. Сеў гэта хлопец на кабылку да й паехаў хутчэй к таму цару. Прыязджае ён туды, аж там ужо ўсе гатовяцца к вяселлю. Пайшоў ён к цару да й расказаў яму ўсю праўду. Не мае цар веры да й пытае ў дачкі. Але, ведама, тая кажа толькі тое, што ёй вялеў казаць той багатыр. От цар вялеў за паклёп павесіць таго хлопца. Тут толькі пачалі яго пытаць, хто ён такі.

— Я,— кажа,— бязногі багатыр, а больш я вам нічога не скажу.

От ужо вядуць таго бязногага багатыра вешаць. А тым часам царэўна пайшла ў сад гуляць. Ідзе хлопец да й бачыць, што каля плоццЯ туляецца заяц. От ён выняў з-за пазухі тую хустачку да й кінуў зайцу. Схапіў заяц хустачку да й прымчаў к царэўне. Зірнула тая да чуць не абамлела.

— Чаго ты? — пытае цар.

Тут яна кінулася цару-бацьку ў ногі, расказала ўсю праўду да й пачала прасіць, каб не вешалі таго хлопца, каторы збавіў яе ад змея. От цар вялеў не вешаць таго хлопца, а прывесці яго ў палац. Прыйшоў ён з сваею кайстраю да й стаіць. Пачаў тут цар пытаць яго, як тое было. Расказаў ён усё, як было. А той багатыр кажа, што гэта няпраўда. Тады бязногі багатыр выцяг з кайстры змяіныя языкі да й пытае:

— А гэта што?

Змяшаўся той багатыр, а царэўна паказала бацьку абедзве палавінкі хустачкі. Тады ўсе паверылі. Таго ліхога багатыра павесілі, а бязногі багатыр жаніўся з царэўнаю да й заўладаў палавінаю царства. Справілі гучнае вяселле.

Я там быў і мёд піў, па барадзе цякло, а ў рот не папала.

## 32. АБ РЫЦАРУ, ЯК ЁН ЗАБІЎ ЗМЕЯ

Жылі сабе ў адной вёсцы двое людзей, і не было ў іх дзяцей, тылё нарадзіўся адзін сын і не меў жаднае владзы да трыдзесту лет.

Пайшлі яны аднаго разу ў поле жаць, а яго пакінулі дома зачыненага. Аж прыходзяць туды ўтрох людзі старыя і просяць у яго, жэбы даў ім цо напіцца. А ён кажа:

— Даў бы я вам, але не магу хадзіць.
Так яны кажуць яму:
— Папрабуй ты аднаею нагою, чы ты можаш ею рухаць.
Ён парухаў, аж пачуў, цо можа хадзіць. Так вельмі ўцешыўся і кажа:
— Чы многа вам трэба прынесці? Бо ест у нас віно, але ўнізе, у склепе.
Так яны кажуць:
— Вазьмі вядро і прынесь поўна.
Ён прынёс і кажа:
— Піце.
— Папрабуй сам напіцца.
Ён як узяў, так адразу цэла вядро і выпіў. Так яны кажуць:
— Прынясі два разы [с]толька.
Ён прынёс, так кажуць:
— Папрабуй,— а ён усё дачыста выпіў.
Так трэці раз кажуць яму:
— Ідзі і прынясі яшчэ два разы [с]толька.
Ён і тым разам выпіў усё. Тэраз пытаюцца ў яго:
— Ну, як, у цябе велька сіла ест?
— Чую,— кажа,— такую сілу, цо мог бы ўсю зямлю пераварнуць, жэб тылё далі мне такі стоўп.
Так яны пагаварылі з сабою ўтрох, жэ то замнога яму сілы будзе, і кажуць:
— Схадзі, прынясі віна яшчэ два разы [с]толька і выпі.
Ён выпіў, так пытаюцца:
— Ну, як цяпер чуеш сілу?
А ён кажа:
— Тэраз тылё палова засталося сілы.
Так кажуць між сабою: «Даволі будзе сілы для яго». І даюць яму шпільку з галоўкаю на канцы і кажуць, жэбы ён занёс да каваля і казаў куць датуль, аж стане седэм пудоў булавы. І кажуць:
— Каваль нех куе, а ты вярніся назад да нас.
Ён так і зрабіў. Прыходзіць дахаты, а яны яму кажуць:
— Гэты каваль то не будзе рабіць з гэтае шпількі, але зробіць з жалеза, то вазьмі тую булаву, выйдзі на двор, вазьмі за ценьшы канец і кінь угару і слухай, як яна будзе з высока ісці, то пачуеш шум, тэды падстаў калена, то яна разбіецца, калі не з шпількі зроблена.
Потым далі яму лук жалезны і дванасце куль і кажуць:

— Гэты лук то будзе табе на тыя разбойнікі, цо ў лесе ў таком месцы ест, а з гэтаю булавою то пойдзеш у поле, там расце шэсць дубэ, то паміж гэтымі дубамі ест жалезныя дзверы, ты тры разы ўдар у дзверы, то яны паб'юцца; а пад тымі дзвярамі ест яшчэ адны жалезныя дзверы, там будзе жалезна колка, то вазьмі за яго, то адчыняцца. А потым,—кажуць,—адчыніўшы тыя дзверы, свісні тры разы моцна, то выбежыць да це з-пад зямлі конь, то яго не выпусць наверх, бо не зловіш, тылько злаві за ўздэчку і выведзі яго на свет і тады сядай і едзь проста на сход слонка, бэз гэтыя лясэ, то едучы напаткаеш зараз дванасце разбойнікі, то зараз кладзі ў лук кулі і бі. Потым,— кажуць,— як пазабіваеш гэтых разбойнікаў, то едзь далей у лясэ, знайдзеш там дванасце дубэ агромных, а на іх гняздо, а ў том гняздзе змей будзе з аднаею галавою. Як будзеш пад'язджаць, то ён свісне, але ты не ўважай, бо табе свіст не ўшкодзіць, бо ты сільны. А як ён высадзіць голаў, то ты чым хутчэй кладзі кулю ў лук і пападай яму ў правае ока. Ён,— кажуць,— зараз упадзе на землю, тэды бяры яго, прывяжы да сядла і едзь з ім проста да кроля. Там у кроля будзе велькі баль і будуць з усюль рыцары, і кажан будзе хваліцца за свае сілы і адвагі, а ты ўвайдзі і ўсім пакланіся, а як будуць пытаць, хто ты ест, то ты скажы, цо я найсільнейшы з вас усіх. Пазней па балю будуць вызываць, жэбы з сабою прабаваліся, то ты вазьмі гэтага змея адвяжы ад сядла і кажы змею (бо ён не будзе забіты, тылё ранены), жэбы па-сваему свіснуў, то яны са страху пападаюць на землю, і ўжо ніхто з табою не будзе прабавацца.

І казалі ему, жэбы зараз нёс на поле радзіцам абед, і пайшлі самы. Як яны научылі, так ён і зрабіў. Занёс абед, прыносіць, аж радзіцы ўцешыліся і дзівіліся, цо то сталося, жэ ён можа хадзіць. А ён кажа:

— Ого, абачыце, які я яшчэ слаўны на цэла кралеўства стану.

Потым пайшоў да каваля, узяў булаву і зрабіў так, як яму казалі. Так тая з жалеза зламалася, і каваль мусіў выкуць яму нанава з тае шпількі. Так, узяўшы булаву, пайшоў, вывеў таго каня, сеў і паехаў.

Прыехаў у лес, пабіў разбойнікаў, потым раніў таго змея, прывязаў да сядла і паехаў. Прыязджае на кралеўскі двор, аж там рыцароў! Бавяцца, п'юць, банкетуюць. Так пакланіўся ўсім, а яны:

— Хто ты ест?

— Рыцар!

— Будзеш з намі прабавацца?
— Добра, тылё ходзьце, забачце, цо я прывёз.
Яны выходзяць, аж змей прывязаны да сядла, а голаў у яго, як цэбар, а пазурэ, як сашнікі! Так угледзеўшы, чыста патрупелі, а ён то на змея:
— Свішчы!
А змей як свісне, так яны як га! так і пападалі на зямлю.
Тады кроль казаў яму змея забіць і ажаніў яго з сваею дачкою. Вяселле было гучнае: і я там быў, мёд, віно піў, па ўсах пацякло, а ў губу не папала. Байка за байку запала, кавал носа адарвала, і канец тэму ўтрапеню.

## 33. ПРА ІЛЛЮШКУ

Жыў сабе старык са старухаю. Багатыя. На хутары жылі. Нарадзіўся ў іх сын Іллюшка і сеў у седнях — папрыгінала рукі і ногі. Прасядзеў трыццаць тры гады. Вот надась пайшоў бацька і матка ў ляда, а к яму прыйшлі тры старцы і гаворацць:
— Іллюшка, падары-ка нам чаго-небудзь.
— Рад бы я вас дарыць, дык я не магу ўстаць.
— Э,— гаворацць,— ты прытвараешся.
Не можа ўстаць ён.
— Пацягні-ка,— гаворацць,— нагу.
Выцягнулась.
— Пацягні другую.
І гэта выцягнулася. Ну і рукі так. Устаў.
— Чым вас адарыць?
— Бяры той таз, ідзі ў падвал і засілі віна нам.
Ён пабег, засіліў, уносе. Яны гаворацць:
— Выпі.
Ён выпіў.
— Ідзі, другі засілі.
Ён другі прыношае.
— Выпі і гэты. Ідзі, трэці засілі. Нас жа тры. Гэта ты як нам дорыш.
Ён уносіць і трэці.
— Выпі і гэты.
Ён і гэты выпіў.
— Ну як, ты цяпер чуствуеш сілушку ў сабе?

— Калі б у неба і ў зямлю стоўб і штоб было ў ім калясо, дык бы ўвесь свет перакруціў рукою.

Так яны глянулі адзін на аднаго:

— Ідзі,— гавора,— шчэ прынясі таз таго віна.

Ён уносіць.

— Выпі і гэты.

Ён выпіў.

— Ну цяпер, як чуствуеш сілушку?

— Палавіну,— гавора,— таго.

— Ну, хопіць з цябе. У баю нідзе не загінеш. Дажджэшся будучай нядзелі, папрасіш сто рублёў у бацькі грошай і ідзі ў горад. Дайдзеш да раскрэсаў недалёка ад торада, дык будзе старык везці касматага лашонка, дык ты яго штоб купіў. Ён запросіць з цябе сто рублёў. То будзе твой конь. Прывядзеш дамоў яго, пакорміш тры дні белаярай пшаніцай і тры зары на шаўковую траўку будзеш выводзіць, каб ён пакачаўся. Тады ты ўбачыш, што гэта за конь.

Зрабілася на ім залатая шарсцінка і срэбраная.

Ён просіцца ў бацькі:

— Пусці мяне ў свет пагуляць.

Вот ён сеў і паскакаў.

Ехаў, ехаў, вот раскрэсы, стаіць стоўб, на стаўбе табліца напісана: «Гэтай дарогай паедзеш — будзеш жанат, а гэтай паедзеш — будзеш багат, гэтай паедзеш — будзеш убіт». Ён падумаў: «Жаніцца я не хачу, багацтва мне не нада, паеду сюды, дзе буду ўбіт. Мне тры старцы гаварылі, што я ў баю не пагібну».

І пусціўся гэтай дарогаю. Ехаў-ехаў, выязджае на паляну, і выходзяць к яму дванаццаць разбойнікаў:

— Стой!

Ён стаў.

— Дзеньгі!

— У мяне мала дзенег. Усяго чатырыста рублёў. А сертучок мой каштуе тысячу рублёў. А каню майму цаны няма.

— Гэта нам,— гавора,— і нада.

— Гэта вам і нада?

Дмух на іх, так яны сып аб зямлю, без памяці ляжаць. Ён злез з каня, пападымаў іх.

— Вот што: еслі будзеце яшчэ гэта дзелаць, то жывых вас у другі раз не астаўлю.

Яны перад ім ком зямлі з'елі:

— Век болей гэтага дзелаць не будзем.

— Ну, ідзіце.

Сам пусціўся далей, а там далей Салавей-разбойнік звіў гняздо на дванаццаці дубах і жывець там. Ён свістам убіваў за тры вярсты людзей. Як толькі замеціў каго, так свісь — і няма яго. Вот Салавей бача: усаднік едзе не абы-які. Падпускае яго бліжай. Як свіснуў, дык конь на калені ўпаў. Ён, Ілля, спрыгнуў з каня:

— Стой, конь, не падай!

Нацягнуў свой лук і як рэзнуў Салаўя-разбойніка прама ў правае вока. Выбіў. Ён вобаратам на зямлю. Ілля пад'ехаў к яму і падвязаў яго к сядлу і паехаў у Кіеў у горад. Прыехаў туды к князю. Князь і спрашвае:

— Што гэта за звер?

— Гэта Салавей, каторы ўбіваў людзей.

— А, мы наслышаны былі аб ім. Загадай-ка яму свіснуць.

— Не, еслі загадаю, дык вас на свеце не будзе і ўвесь горад разрушыцца. Захавайцесь, калі хочаце пачуць, у падвал за трое дзвярэй. Дык я яму толькі на дзесятую долю загадаю прасіпець, а не пець.

Ён як засіпеў — не асталося ў цераме ні аднаго вакна. А яны ў падвале былі паглохлі. Тады ён узяў яго, як падшыбнуў угару, так ён упаў і разбіўся. А тут у князя два багатыры служаць: Алёша Паповіч і Дабрыня Нікіціч. Вот і Іллюшка к ім. Сталі ўтраіх тут служыць. Вот прыязджае сюды багатыр і раз'язджае па ўсіх іх палатах.

— А ну вылазь на бой каторы!

Алёша Паповіч выязджае к яму. Ён як чувікнуў Алёшу, дык той, як сноп. Выязджае Дабрыня Нікіціч. Ён і гэтага таксама ўбіў.

Выязджае Іллюшка. Як дзвігнуў, дык той, як сноп, пакаціўся. Сам астаўся служыць. Доўга ці каротка ён праслужыў там, прысылае бацька пісьмо: «Едзь дамоў. Мы паміраем. Некаму дабром будзе пользавацца». [Ілля] сеў на каня і паехаў дамоў. Ажаніўся і стаў жыць. Пражыў да старасці лет, стаў сівы. Вот заехаў багатыр у Кіеў-горад такі, што адна галава з сянны стог. Князя ў цюрму засадзіў, а яму прарэзалі ў цераме сцяну: у дзверы не пралазіў.

Ён прыказвае гораду, штоб дванаццаць печаў пяклі хлеба і падцёлка каб зажарылі, і кабана, і гуску, і вутку, і індыка, курыцу і бачонак віна. Гэта ён за дзень з'ядаў. Штоб гэта было кожны дзень. Так ён і жыве. Прыказаў, каб усе старцы ішлі к яму, ён іх будзе дарыць. Дачуўся аб гэтым Іллюшка, сабраў

сабе старцаву сумку, сеў на каня, паехаў апяць у Кіеў. Прыязджае туды, каня паставіў, сам пайшоў к цераму і просіцца:

— Адчыніце і падарыце старцу.

Ён з-за стала вылез, адчыніў яму дзверы, сам ізноў за стол і есць.

— Адкуль ты, брацец?

— Адтуль і адтуль.

— Во, мне гэта і нада. Вот скажы, брацец, там, гавораць, у вас ё багатыр Іллюшка. Раскажы, я цябе адару.

— Ёсць.

— Які ж ён? Такі, як я?

— Да не! Ён такі, як я. Каб у пару нас паставіў, дык сказалі б — гэта браты. Не разгадаць.

— Гэ... такі багатыр. А гавораць, сільны. Вот я, бачыш, па колькі ем і п'ю?

Іллюшка і гавора:

— У нас у канцы вёскі пан жыве, у яго многа кароў. Адна карова большая за ўсіх. Тры трэба каровы ўместа. Дык яна выпівае па тры бочкі брагі. А надысь узяла ды і чацвёртую выпіла. Узяла і лопнула. Каб і з вамі гэтага не здарылася.

Ён цап кінжалам і так туды ў яго. А [Ілля] кіў галаву — кінжал праляцеў міма. А ў Іллюшкі была сорак пудоў шапка. Ён цап тую шапку і як стукнуў яму, дык галава ўліпла ў сцяну. Выпусціў князя. Князь не знае, што яму рабіць. Сталі піць і гуляць. Князь і гаворыць:

— Вось тут у нас у лесе на паляне сільны-прасільны багатыр. Ён паша тую палянку.

[Ілля] пайшоў туды на паляну і бачыць: паша чалавек. Ад'ехаў недалёка ад дарогі, з сахой паша.

— Пачакай,— гавора,— хадзі-ка сюды. Скажы ты мне, тут гавораць, што на паляне ёсць сільны багатыр.

А ён адказвае:

— Я багатыр.

— Э-э-э, такі багатыр.

— Такі багатыр.

— Я ж цябе б як узяў, на ладоню пасадзіў і падшыбнуў пад хмару.

— А можа б я цябе падшыбнуў. Ідзі к маёй сошцы і папробай яе вытрусіць.

Ён падышоў к гэтай сошцы, ды і з месца не кране.

— Да,— гавора,— праўда твая, ты б мяне падшыбнуў.

Вот ён апяць пайшоў к князю і давай зноў пір піравапь. Прыйшлі з Кіева к князю пасланцы:

— Прыляцеў змей з дванаццацю галовамі і пасяліўся каля Лаўраў.

Іллюшка пайшоў туды. Узяў меч свой і як стаў біцца са змеем гэтым, ды рады няма. Ссячэ галаву, а яна зноў нарастае. Патуль біўся, пакуль сам па калені ўехаў у зямлю і зрабіўся каменем. Ён і цяпер стаіць там. Я сам там відаў яго.

І так расказваюць людзі, як ён уедзе ўвесь у зямлю, то і свету канец.

## 34. ЯК ІЛЛЯ МУРАМЕЦ ПАБЯДЗІЎ САЛАЎЯ-РАЗБОЙНІКА, АБЖОРУ, АЛЬКАДЗІМА

Жыў пад Бранскам мужычок, і толькі радзіўся ў яго сын, красцілі яго Іллёю. Рос Ілля трыццаць лет, недвіжым быў ні рукамі, ні нагамі. Толькі ацец яго сабраў талаку рассякаць ляда, дубы, гатовіў ён абед к талаке; маць пайшла ў чужэй двор сабіраць талаку, несць абедаць. Заходзіць к Іллі ў хату старычок.

— Здраствуйце вам!

Ілля атвячаець:

— Здраствуйце, дзедушка!

— Дай мне, галубчык, напіцца! Нет лі чаго ў вас?

— Дзедушка, я недвіжым ні рукамі, ні нагамі. Ёсць жа ў нас квасок папіць харошы.

— Абапрысь рукамі: можаць быць, прайдзеш.

— Не, дзедушка! Трыццаць лет уж я сіжу.

— Можаць, ты ўстанеш! Абапрысь, абапрысь рукамі!

Абпёрся Ілля рукамі і нагамі і падаець яму квасу кружку:

— Пей, дзедушка!

— Папей ты, галубчык, сам, Ілля!

Ён выпіў кружку квасу гэтага.

Спрашыіць старычок у Іллі:

— Як ты цяпер чуствуеш, Ілля Мурамец, у сябе сілу?

— Госпадзі, еслі бы гасподзь утвярдзіў стоўб у неба і землю, то б я мог мапь сыру землю павярнуць уверх нагамі!

— Чарпні, Ілля, яшчо квасу кружку!

Ён падаець дзедушке. Дзедушка ўзяў:

— На, пей палавіну кружачкі!

Ілля папіў палавіну кружкі.

— Як ты чуствуеш, Ілля, сілу?

— Госпадзі, палавіну сілы адбыло.

Не стала старыка ў ізбе. Прыходзіць маць Іллі з дзярэўні і абрадавалась, што сын ходзіць, і спужалась:

— Сыночак ты мой, хто цібе саздаў ногі і рукі?

— Маменька, саздаў мне гасподзь усё. —

Потым і гаворыць:

— Ну, маць мая, я абедаць сам панясу сваім рабочым к атцу.— Абчапіў ушаты вяроўкамі:

— Лей варыва гэта ў ушаты!

Налілі варыва. Падчапіў ён заборыну пад гэты ўшаты і ўзяў бачонак пяць вёдзер водкі, пяць хлебаў, узяў усё з сабою, прыносіць на дубы, на ляда к ім, паставіў за кустамі шалашок, варыва і водку і пайшоў к сваім туды, ідзе сякуць, расчышчаюць ляда.

— Бог помач вам, ацец!

Усе клікнулі:

— Благадарым пакорна, Ілля!

— Ну, пайдземце: я прынёс вам абедаць, кушаць і водачкі.

Прыходзяць к шалашу, сталі водку піць, сталі закусываць.

— Есце, добрыя людзі, і лажыцесь аддыхаць.

Па[а]бедалі і ляглі аддыхаць. Ён пайшоў на работу: дваццаць пяць дзесяцін за два часа вырваў дубоў, паўкладаў усё ў Дзясну да пазнасіў дубы. Прыходзіць к ім, рабятам.

— Ну, уставайце, ацец!—

Пааддыхнулі, усталі яны. Ілля і гаворыць:

— Ну, ацец, будзець з цябе гэтага, што наработана.

Глянулі: чыстае поле здзелана. Пайшлі дамоў. Рады ацецмаць, што сын ходзіць. Тада сын пасылаець атца к саседу. Ляжала кабыла трыццаць лет нагамі недвіжыма.

— Купі ты гэту кабылёнку, бацюшка!

— Нашто яна табе, сынок?

А Ілля зачасціў:

— Купі да і купі!

Пайшоў бацька к саседу.

— Здрастуйце вам!

— Здрастуйце!

— Што, брат, жыва лі твая кабыла?

— Я хацеў ужо ўбіць яе даўбнёю!

— Прадай ты мне яе!

— Нашто яна табе, калека, спанаравілась?

— Не мне яна спанаравілась, а майму сыну Іллюхі.

— Ну, давай пяцёрку!

Смехам сказаў. Вынімаець ён яму пяцёрку дзенег і аддаець яму на рукі. Тада прыходзіць дамоў:

— Ну, сынок, купіў кабылу!

— Купіў? Я сам за ёю пайду.

Прыходзіць на дом тэй, ідзе кабыла. Січас кругом яе абышоў:

— Польна, кабыліца, ляжаць — нада ў белы свет бяжаць!

Кабыліца сыкачыла, зарзала; ён яе авуздаў, прыводзіць дамой:

— Ацец, вы сказывалі: кабылёнка — калека, а вот яна, яна ўстала; я ўстаў, і яна ўстала... Ідзі, кабыліца, гуляць у чыста поле, адпраўляйся!..

Тада ён пайшоў, справіў сабе луку і стралу, справіў сабе багатырскае сядло і прывёў кабыліцу з поля, асядлаў яе, садзіўся на яе, браў сабе ў рукі стралу, луку, пад'язджаў к сваім радзіцелям, хадзіў у хату, маліўся богу і сказаў:

— Прашчайце, мае радзіцелі, ацец і маць!

— А куда ж ты, сынок, дзіця наша?

— О, я, ацец і маць, вам не карміліца! Благаславіце мяне ў белы свет ехаць і прашчайце!

Слышаў ён па вопісях, Ілля Мурам, што ёсць на Крывым лясу Салавей-разбойнік — нету пропуску там ні пяшком, ні на лошадзі, ніхто не прахадзіў міма яго бліз дванаццаць вёрст: свістам убіваў Салавей; затым туды і пропуску не было, ні ходу: баялісь Салаўя. Хацелася Іллю Мураму атведаць Салаўя, што за Салавей.

Пад'язджаў к Крывому лесу і спрашыець, ідзе Салавей-разбойнік жывець. Слышна, што ў гэтым лясу жывець, толькі нету ні ходу, ні езду: убіваець. І паехаў Ілля Мурамец ні пуцямі, ні дарогамі, а ехаў ён прама на яго, на Салаўя-разбойніка. Разбойнік слышыць: упрацiўнік едзець к яму, і ўдарыў громкі свіст, штоб яго ўбіць. Толькі яго лошадзь дрыганулась пад ім ад свісту. Пад'язджаець блізка. Відзіць Салавей-разбойнік, што едзець супрацiўнік блізка, ударыў свісцець яшчо паграмчэй: лошадзь Іллі пала пад ім на каленкі. Ён падхваціў лошадзь:

— Не рабей! Не так ты свісціш, Салавей-разбойнік!

Січас стральнуў, наведшы лук, яго ў глаз ударыў, ссадзіў яго з гнязда на дванаццаць дубоў, і зваліўся Салавей-разбойнік. Прывязаў яго к сядлу жывога і паехаў ён у царскі дом, к цару.

У каралеўскім доме багатырэй зборышча.

Едзець ён. Глядзяць багатыры з акна і ўдзіўляюцца, какой багатыр едзець, Салаўя-разбойніка вязець.

— Усе багатыры мы собраны, а хто ж ёсць яшчо багатыр па опісі, какей багатыр пабядзіў [Салаўя-разбойніка]?

А сільны багатыр магучы гаворыць у чуланчыку:

— Што, вы забылі пра Іллю? Ён даўно ўжо нарадзіўся, а не чудзіў яшчо нейдзе.

Бліз пад'язджаець варотам — навялі багатыры доскі чугунныя, кверху паднялі: када плахой к ім пад'едзець — даска раздавіць яму голаву. Уязджаў Ілля ў варота, і даска ўдарыла яго па шляпе; на ім шляпа чугунная — урада яму, галаве, не дала. Ілля злез з лошадзі, пусціў сваю кабыліцу, і яго кабыліца ўсіх лашадзей атагнала ад корму. Уходзіць Ілля ў дом. Багатыры гаворадь:

— Экай нявежа ідзець: твая лошадзь усіх лашадзей паатагнала!

— Здрастуйце ж вам усім! Нечага ссорыцца! Падвіньцеська, дайце мясцечка!

— Да скажы папраўдзе, хто ты такей прыехаў? Ты Мурам?

— Станем зюкаць, толькі дайце мясцечка!.. Чым хочаш называйце.

— Ідзе стаіш, там і сядзь!

— Вот, рабяты, я ёсць Ілля Мурам! Я не хачу садзіцца, ідзе стаю, а падвіньцесь, гаспада!

Як падвінуў — сцяна выскачыла вон, каторых пазадавіў, каторыя павыкаціліся.

Абжора-багатыр сядзеў асабліва; ён тры волы з'ядаў адзін, пяць вушатаў піва выпіваў. Гаворыць Абжора:

— Ілля Мурам, падайдзі ка мне, пабратаемся, парукаемся!

Ілля падходзіць к яму ў чуланчык, не быў яму паклонен, багатыру таму, называў яго Абжораю.

— Абжора, што ты сядзіш тут?

— Што такое гэта, Ілля Мурам, я ўпрацівен табе? Давай пабратаемся!

Ілля падаець яму руку; Абжора схватаў яго за руку рукацца. Не ўзлюбіў Ілля, што ён ціснець дужа, скінуў сваю шляпу з галавы леваю рукою, ударыў Абжору — пракаціўся Абжора скрозь сцяну. Далажылі каралю, што Ілля Мурам прыехаў, пабядзіў багатыроў, сільнага магучага багатыра шляпаю ўбіў. Кароль паслаў к Ілле людзей, штоб Ілля прама па чэсці прыйшоў к каралю, на ліцо. І ўзяў ён адвязаў ад сядла Салаўя-раз-

бойніка, засадзіў яго за пазуху; ну, прыходзіць у каралеўскі дом, здрастуецца з каралём:

— Здрастуй, кароль і каралеўна!

— Здрастуй, Ілля Мурам. Куды ты прыязджаў у мой дом, якім пуцём ехаў на Крывой лес, ка мне? Як цябе прапусціў Салавей-разбойнік?

— А што, вам хочацца разве Салаўя павідаць? Я міма яго ехаў, пабядзіў яго, яшчэ глаз выбіў. Дак во ён!

— Прыкажы яму, Ілля Мурам, свіснуць, як ён свісціць!

— Нет, вы не ўтрываеце ад яго свісту! Дайце мне вы, кароль і каралеўна, свае галавы пад пахі, а то плоха вам будзець!

Узяў галавы караля і каралевы пад пахі і прыказаў Салаўю самым малым свістком сыйграць. Салавей як свіснуў, паталок ад свісту разламіўся і крыша звалілась. Тада Ілля Мурам асярчаў на яго, узяў шаблю, парубіў Салаўя на мелкія штукі. Тада ўзяў крошачку, парубемшы, і дунець на крошачку — салавейкай та крошачка і паляціць, салаўём, а кажны салавейка з крошачку, а як чокнець — аглушаець, і пусціў іх усіх у свет. Тада адправіўся Ілля Мурам [ад] караля іскаць сабе супраціўніка. Паехаў у Кіеў, у ту сторану, ідзе, па слыхам, жывець Алькадзім, багатыр нязрашчы, сільны, магучы. Ілля іскаў яго па лесу: ён, Алькадзім, жыў у лясу. Алькадзіму снілась усё нешта, што ад Іллі ён памрэць. Толькі наняў ён загадзя сабе гроб дзелаць. Ілля едзець па лесу, слышыць бальшэй стукат, прыязджаець — дзелаюць гроб рабяты.

— Бог помач, рабяты!

— Благадарым пакорна, добры чалавек!

— На каго дзелаеце дамавіну?

— На багатыра Алькадзіма.

— Но вот жа я сам яго ішчу, ідзе ён находзіцца, на якім пуцю? Што ж вы так зажыва гроб дзелаеце няўмертваму?

— Яму ўва снях сказана ад Іллі Мурамца паміраць, так ён загадзя і заказаў.

— Дзелайце ж паскарэй, гаспада: сам я Ілля Мурамец, еду к яму ў госці.

— Паязджайце гэтай трапой, прама к яму ў госці і прыедзеце!

Дом агромны заперт накрэпка завалямі: нільзя к яму падыйціць. Ілля, ні на шта не ўпаваўшы, пачаў дзверы разбіваць, выспёткам разламаў семера дзвярэй.

— Здрастуй, багатыр Алькадзім!

— Здрастуй! Хто ты такой есць?

— Ілля Мурам.
— А, Ілля Мурам! Хадзі парукаемся!
Падаваў Ілля Мурам правую руку. Пажаў Алькадзім крэпка. Ілля Мурам не ўзлюбіў: браў левай рукой сваю шляпу і біў багатыра Алькадзіма — прыдаў яго смерці. Алькадзім кончыў жысць, а Ілля паехаў у свет іскаць бог знаець чаго.

## 35. ІЛЛЯ МУРАМЕЦ

Быў чалавек і баба. У іх радзіўся сын Ілля. Сын не хадзіў трыццаць гадоў. Пайшоў аднойчы бацька з мацер'ю да цэркві, а да сына прыйшоў стары і кажа:
— Адчыні мне.
Ілля кажа:
— Не магу ўстаць.
А ён кажа:
— Уставай, адчыні.
Устаў Ілля, адчыніў дзверы таму старыку і паставіў яму віна за тое, што ён устаў. Той стары мала піў. Адпіўшы частку, аддаў Іллі. Той выпіў віна бочку. Стары паставіў другую. Выпіў і тую. І пытае стары:
— Ці ты дужы, ці не?
Кажа Ілля:
— Дужы. Калі б быў слуп у зямлі, то перавярнуў бы ўсю зямлю.
— Ідзі,— кажа стары,— купі сабе коніка такога касматага ў адной бабы і кармі яго пшаном. Будзеш ездзіць на ім.
Ілля купіў коніка і карміў пшаном яго, і конік зрабіўся на ўвесь свет. І зрабіў сабе Ілля стопудовы лук і паехаў ён у чыстае поле.
Ідзе Ілля па чыстым полі, па каменных гарах і ўгразае яго конь па калена на каменнай гары. Паехаў Ілля ў Кіеў, а дарога была сказана яму на Чарнігаў. Ён паехаў і прыехаў да ракі. На рацэ трэба было зрабіць мост. Паставіў каня каля хвоі і давай рваць хвою. Нарваў хвоі, зрабіў мост на рацэ.
Пераехаў ён раку і пабачыў аднаго чалавека і пытае яго:
— Як тут, чалавеча, дарога на Чарнігаў?
Той чалавек кажа яму, што ён не пройдзе на Чарнігаў.
А ён кажа:

— Чаму?

Той кажа:

— Там змей, дванаццаць галоў мае. Ён за пяць вёрст чалавека свістам забівае. Там не праходзяць войскі. Ніхто не можа рады даць яму.

Ілля кажа:

— Я прайду.

Паказаў чалавек яму дарогу. Ілля паехаў.

Даязджае пяць вёрст да змея. Змей як свіснуў, яго конь на калена ўпаў.

Ён кажа:

— Чаго ж ты паў? Дам па вушах.

І далей паехаў. Праехаў адну вярсту: як даў змею з лука, адбіў шэсць галоў яму. Змей з дуба ўпаў, па-звярынаму зашаптаў. Прыехаў зусім Ілля да змея і разбіў яго на дробныя кавалкі.

З Чарнігава напрамак узяў на Кіеў. Заехаў у Кіеў і зайшоў у адну хатку, пытаюць яго там:

— Як ты ехаў?

А ён ім расказаў.

Там сядзелі ваенныя людзі. Яны кажуць:

— Ты разбіў неперlåможную сілу. Чым ты хочаш у нас быць?

Ілля кажа:

— Не хачу ніякай узнагароды ад вас.

Пабыў ён двое сутак у іх і паехаў далей.

Едзе ён па чыстым полі. Зноў з'ехаў на каменныя горы. Знайшоў таварыша — Зорку-багатыра. Зорка-багатыр меў дзвесце пудоў лук і быў яшчэ мацнейшы за яго.

Сказаў Зорка:

— Едзьма да майго бацькі ў госці. Як заедзеш да майго бацькі, то не давай яму рукі. Распячы стопудовы лук у агні і дай яму.

Паехаў Ілля. Распёк ён стопудовы лук, а стары быў сляпы, нічога не бачыў. І кажа Ілля:

— Здароў, стары.

І падаў яму лук. Стары кажа:

— Шчэ ты доўга на свеце будзеш, калі рука гарача.

Раздушыў ён лук.

Ілля і Зорка пабылі там два дні і паехалі далей.

І ехалі двое, Ілля і Зорка-багатыр, па чыстаму полю, па каменных горах. Знайшлі яны скрыню. Ілля кажа:

— Вось харошая труна!

Зорка кажа:

— Якраз будзе на цябе.

Ілля лёг у тую труну. На яго была завяліка. Вылез ён з труны і кажа:

— Зорка-багатыр, кладзіся ты. Пабачым, як табе прыйдзецца.

Зорка-багатыр злез з каня і лёг у труну і кажа:

— Зачыні,— якраз прыдалася.

Зачыніў Зорку-багатыра ў той труне, а той кажа:

— Адчыні, ужо будзе мне тут ляжаць.

А адчыніць не можа. Стаў жалезны абруч кругом труны.

Кажа Ілля:

— Няможна адчыніць.

— Бі булавою!

Ілля даў булавою па труне, і зрабілася тры абручы.

Кажа:

— Не магу разбіць.

— Бі далей.

Ілля даў яшчэ раз стопудовай булавой, і труна стала зусім жалезнай.

І сказаў Ілля:

— Я цябе ўжо не выратую.

Зорка-багатыр кажа яму:

— Сядзі каля мяне тры дні, пакуль пачне з мяне ісці рапа— сіняя, зялёная і белая. І за ўсю маю рапу будзеш мець маю сілу.

Ілля зрабіў так, як багатыр сказаў: з'еў рапу і стаў такі дужы, як Зорка-багатыр быў. Забраў каня Зоркі-багатыра, сеў на верх і паехаў.

Едзе ён зноў па чыстаму полю. Яго не можа смерць узяць. З'ехаў ён на жалезную гару і пабачыў: стаіць на гары кацялок невялічкі. Два літры вады ўвойдзе туды. Такі быў ён цікавы, той кацялок, што трэба бы яго ўзяць. Ілля нагнуўся з каня браць кацялок. Узяў за дужку і не падняў. І падумаў: «Як, такі дужы, што горы збіваў, а цябе такога малога не магу падняць».

Ілля злез з каня і ўзяў дзвюма рукамі і давай яго падні- маць. Як папнуўся Ілля, з вачэй кроў пайшла, а кацялка не падняў. І ад таго ў Іллі дзве часткі сілы не стала. Паездзіў ён два дні, ужо аслаб зусім і на каменных гарах памёр.

# 36. КІРЫЛА КАЖАМЯКА

Колісь быў у Кіеве князь, а быў каля Кіева змей, і кажнага году князь пасылаў яму дань. Давалі або маладога хлопца або дзяўчыну. А то прыйшла чарга і да дачкі самаго князя. Нечага рабіць: калі давалі гаражане, трэба і яму даваць.

Паслаў князь сваю дачку змею. А дачка была такая харошая, што і сказаць няможна. То змей яе і палюбіў. От яна да яго прылісілась да і пытаецца раз у яго:

— Ці е,— кажа,— на свеце такі чалавек, каб цябе падужаў?

— Е,— кажа,— такі ў Кіеве над Дняпром: як затопіць хату, то і дым аж над нябёсамі сцелецца, а як выйдзе на Днепр мачыць шкуры, то не адну нясе, а дванаццаць разам, і як набракнуць яны вадою ў Дняпры, то возьме і ўчапіцца за іх: ці выцягне? А ён-такі ж і не чуе, возьме і мяне з імі трохі на бераг і выцягне. Таго чалавека толькі мне і страшна.

Княжна ўзяла сабе гэта на душу і думае, як ёй карту да дому падаць і на волю да айца дастацца? А пры ёй не было ні душы, толькі адзін галубок. Яна выгадавала яго за шчаслівы і напісала да пана айца: «Гэтак і так,— кажа,— у вас,— кажа,— паночанку, е ў Кіеве чалавек, на імя Кірыла, а на прозвішча Кажамяка. Прасеце вы яго чараз старых людзей, ці не захоча ён із змеем пабіцца? Ці не зволіць мяне, бедну, з няволі выручаць? Прасеце яго, паночанку, і словамі і падарункамі, каб не абідзеўся ён за якое незвычайнае слова. Я за яго і за вас буду да веку богу маліцца».

Напісала так, прывязала пад крыло голуба да і выпусціла ў вакно. Галубок звіўся пад неба да і праляцеў да дому, на падвор'е князя. А дзеці самі ўглядзелі галубка.

— Бацько, бацько!— кажуць.— Ці бачыш, галубок ад сястры пpыляцеў?

Князь перш зарадаваўся, а дале падумаў, падумаў да і сумеўся: «Пракляты ўжо згубіў, відна, маю дачку!» А далей прыклікаў да сябе галубка, глядзь — ажно пад крылом картачка. Ён за картачку, чытае, што дачка піша. Той раз прызваў да сябе ўсю старшыну, сяк-так парадзіліся да і паслаў да Кірылы Кажамякі самых старых людзей. Прыходзяць яны да яго хаты, адчынілі памалу дзверы да і спалохаліс́ь. Дзівяцца, аж сядзіць сам Кажамяка і мне рукамі дванаццаць шкур. От адзін з тых пасланцоў кахі!—Кажамяка спалохаўся і дванаццаць шкур разарваў. Яны пакланіліся яму і гавораць:

— Князь з просьбаю к табе прыслаў нас.

А ён і не слухае, што чараз іх дванаццаць шкур парваў. Прасілі, прасілі да і пайшлі, панурыўшы галовы. Тады князь паслаў малых дзяцей. Тыя як сталі плакаць, то і сам Кажамяка не выцерпеў, заплакаў і кажа:

— Ну, ужо ля вас я зраблю.

Пайшоў да князя, узяў дванаццаць бочак смалы і дванаццаць воз канапель, абматаўся каноплямі і абсмаліўся смалою; узяў булаву пудоў з дзесяць і пайшоў біцца з змеем. Білісь, білісь Кажамяка з змеем, і такі Кажамяка забіў змея, вызваліў княжну і аддаў князю. Князь ужо не знаў, як яму і дзякаваць, чым яго і надарыць. Так ужо з таго-то часу і пачало звацца то ўрочышча, дзе ён жыў, Кажамякамі.

## 37. КІРЫЛА КАЖАМЯКА

Вось калісь так было на свеце, што быў змей-улан. Ён браў людзей у налог. А ў цара была вельмі красівая дачка. І змей хацеў яе як-небудзь унадзіць. Не стала людзей ужо, і цар аддаў дачку змею. За ёю пабег сабачка. Дык змей той улан жыў у пяшчэры, у зямлі. Сабачка жыве з дачкой. А дачка так мірна жыве з змеем. Яна пытаецца ўсё:

— Хто за цябе сільней?

Змей кажа:

— Ёсць такі. Яму сем год, завуць яго Кірыла Кажамяка.

Яна напісала пісьмо бацьку-цару, што змей-улан сказаў ёй.

Яна пытае:

— Як жа ўзнаць, дзе жыве той, хто сільней за цябе?

А змей і кажа:

— Вецер дзьме із севера, а дым ідзе з яго хаты проціў ветра, з юга.

Царэўна напісала гэта цару, каб людзі ішлі ўтрам і ўвечар і глядзелі, адкуль з печ ідзе дым. Пісьмо царэўна скруціла, прывязала сабачку, і сабачка аднёс цару.

Людзі хадзілі па гарадам і па сёлам. Прыйшлі ў адно сяло, аж дым з коміну ідзе проціў ветра. Яны зайшлі ў гэты дом. Дык хлопец якраз у гэта ўрэмя мяў сем шкур кароўіх у руках. Калі яны ўвайшлі, дык ён уздрыгануўся і ад гэтага страху парваў сем шкур. Яны спрасілі:

— Ты Кірыла Кажамяка?
— Да.
— Ну, дык ідзем і к цару.
От ён явіўся к цару. Ён загадаў цару, каб звілі дзесяць шнуроў з канапель. Вот звілі, уматалі яго ад галавы да ног канатамі. Ён уздрыгануўся, дык яны і парваліся. Дык ён тады загадаў, напрымер, дваццаць цапоў жалезных. Уматалі яго апяць з галавы да пят, ён уздрыгануўсь — ужо асталіся цэлыя. Тады ён завялеў, каб здзелалі саракапудовую жалезную булаву. Он падкінуў угору, яе, дык яна ляцела суткі ўгору, суткі з гары. Он паставіў калена, булава ўдарылася і разбілася на камочкі. Тады ён загадаў стальную булаву. Тожа здзелалі, ён і яе падкінуў. Яна такжа ляцела, ударылася аб калена і цэлая асталася.. Тады ён пайшоў к змяёвай пяшчэры. Када прыйшоў, сказаў:
— Ну, змей-улан, вылазь!
Тады змей спрасіў:
— А што ты прыйшоў, Кірыла Кажамяка, біцца ці мірыцца?
А ў змея было сем галоў, я забыў сказаць гэта.
Вот так. Змей тады вылез, паказаў голаву, схваціў хлопца лапамі — а ён уматаны ланцугамі — і не парваў. Кірыла падняў булаву і адбіў тры галавы і другі раз тры. Асталася адна. Трэці раз ударыў і тую збіў, паследнюю.
Тады Кірыла прыйшоў дамоў і лёг аддыхаць і сказаў мацеры, штоб сем сутак не будзіла і не гаварыла над ім. Тады маць семера сутак над ім сядзела, а на сёмыя суткі заплакала. Сляза ўпала на яго, апарыла яго, і ён памёр. І ўсё.

## 38. ПРА ШАЎРУКА

Як толькі белы свет урадзіўся, дык Шаўрук нарадзіўся. Сільны такі. От ён у Маскве жыў, тожа цару заявіў:
— Ой тым, цар-гасудар, найдзі мне барца, а як не найдзеш, дык Маскву разару і цябе ўб'ю.
От пачаў цар пісёмкі пісаць ды па гарадам рассылаць.
От найшлося два барцы — родных братцы. Ростам яны малёханькія, а грубіною балёханькія. Вот на іх былі шапачкі — ой, забыўся з якога краму,— шапачкі бархатовыя, а піджачкі шарсцяныя, а чобаты хромавыя. Вот яны йшлі ў Маскву, ляшкамі ўпіраліся, самі сабе ўдзіўляліся.

Ну, прыйшлі яны ў Маскву, далажылі цару, зайшлі ў трахцір ды пачалі выпіваць. Меншы брат хацеў пахваліцца ды пабег к Шаўруку.

Шаўрук ухваціў яго за руку ды пусціў яго аб зямлю, дык усяго ў зямлю забіў.

Тады выйшаў брат старшы ды й заплакаў:

— Ах ты, братка мой радной, да мы ў мамачкі адной, ты на сілу не чаяўся ды наперад хватаўся.

Ды ўхваціў Шаўрука за руку ды тожа забіў яго ў зямлю.

Тады Шаўрукова маць выйшла ды плакала ды праклінала братоў:

— Штоб вы болей не раджаліся, як вы майго роднага сыночка із свету зжылі.

Ды і ўсё.

## 39. КАВАЛЬ

У яком-тось царстве быў колісь вялікі голад, і не было чым жывіцца не толькі гаўяду, але й людзям. Паелі яны і той корм, што жывілася жывёла. От паміраюць людзі з голаду, бы аб осень мухі. Але адны паміраюць, а другія раджаюцца. І чым гарэйшы голад, тым больш раджаецца дзяцей. І вялеў цар забіваць малых дзяцей, каб не множыліся людзі, бо і гэтым няма чаго есці. От ходзяць царскія слугі да й забіваюць дзяцей або топяць іх у рацэ, бы шчанят. Плачуць, убіваюцца маткі, ломяць рукі да рвуць на сабе косы. Ведама, маткам заўжды дзяцей шкода. Але царскія слугі не маюць літасці — забіваюць дзяцей, льюць анельскую кроў.

От у том царстве тады жыла сабе адна жанчына. Яна ўжэ была тоўста, як яе гаспадара забралі ў маскале. Бачыць яна, што ўжэ ходзіць на часох да й баіцца, каб царскія слугі не забілі яе дзіцяці. Што тут рабіць? Куды тут схаваць дзіця, як яно родзіцца? Думала яна, думала да й надумалася. Надрала гэта яна пялёнак, наклала ў лубянку, закінула яе за плечы да й пайшла ў лес.

Ведама, лес вялік — няма яму ні канца, ні краю. Жыві ў ём хаць век — ніхто не трапіць. От ідзе тая маладзіца да йдзе, назбірае ягад, прагоніць смагу да й далей. І забралася яна ў такую гушчарню, што мо там ніхто й зроду не быў. Наглядзела

яна сабе дуплянатае дзерава, выкалупала ў ём парахню да й зрабіла там сабе хатку. Тут непадалечку была крыніца, а ў ёй такая чыстая вада, бы сляза. Жыве сабе ў том дупле маладзіца. З крыніцы п'е воду, а есць ягады да грыбы. Назапасіла яна трохі сабе грыбоў да ягад, назбірала арэхаў да ўсялякага карэння і чакае, покі прыйдзе пара. От сядзіць яна ў дупле да шые сабе сарочку. Тым часам выйшаў увесь запас грыбоў да ягад, і няма чым пасілкавацца. Высунулася яна з дзерава, узяла на плечы лубянку да й пайшла шукаць грыбоў. Ідзе яна да йдзе, да й узбілася на мядзведжае логва. Мядзведзіца пайшла шукаць жыўнасці, а тым часам на медзведзянят напаў шуляк і давай іх дзяўбаць. Убачыла тое маладзіца — шкода ёй малых дзетак,— ухапіла яна ламачыну да як сперазала таго шуляка, дак ён і ногі выпруціў. Тым часам падбягае мядзведзіца. Убачыла яна, што жанчына абратавала медзведзянят і дзякуе ёй: прыпадае к нагам да ліжа іх, раве, а слёзы з ачоў так і цякуць. От пайшла маладзіца ў сваю хатку, а мядзведзіца тым часамназіркам за ёю. Убачыла, куды ўлезла маладзіца, да й пайшла к сваім дзеткам.

Сядзіць сабе маладзіца, перабірае грыбы да пае песні. Толькі ось зірне яна, аж мядзведзіца сунецца з кустоў проста к дуплянатаму дзераву. Спужалася маладзіца, аж у жывату забурчала — не ведае, што рабіць. Тым часам мядзведзіца падышла к самаму дуплю, прыцягла маладзіцы на лубку свежых пластраў мёду, палажыла тут, а сама паўзком папаўзла назад. Убачыла тое маладзіца да й дагадалася, што гэта мядзведзіца ў падзяку дала гасцінца.

От жыве сабе маладзіца ў дуплянатым дзераве й не гáдкі: мядзведзіца кожын дзень прыцягне мёду. Потым яна пачала насіць пташэчыя яйца і другую жыўнасць. Але ось прыйшла пара й парадзіла тая маладзіца гожага хлопца. Зірне яна, аж у яго спераду на галаве сонейка, а ззаду месячык. Ззяе сонейка, аж вочы слепіць, нельга глядзець. От абвязала маладзіца галоўку свайму сынку хустачкаю да так і не здымае яе ні ўдзень, ні ўночы. Расце хлапчук, бы на дрóжджах: што дзень, та на пушку вырасце; у адно лецечка зраўняўся з маткаю. Тым часам насіла, насіла мядзведзіца ім жыўнасць, а нарэшце й сама з медзведзянятамі перабралася к таму дуплянатаму дзераву да й зрабіла каля яго сабе лагво. Грае сабе хлапчук з медзведзянятамі, сядзе на іх вярхом да й ездзіць, бы на каняцы.

К восені медзведзянята зраўняліся з маткаю й пайшлі самі шукаць жыўнасці. Тады хлапчук давай ездзіць на мядзведзіцы.

Спадабалася яму гэта. От пасадзіць ён на мядзведзіцу сваю матку, ускочыць сам і давай гасаць па лесе. Гэ пражылі яны лета. Падходзіць восень. Начынаюцца халады. От і ўздумала маладзіца йці ў сваё сяло. Сабраліся яны, злажылі сваё дабро ў лубяныя каробкі да й пайшлі да гасподы; а тут мядзведзі ўвязаліся й не пакідаюць ні на крок. От яны павесілі свае клункі на аднаго маладога мядзведзя, маладзіца села на мядзведзіцу, а хлопец на другога медзведзюка да й паехалі. Выбраліся яны з лесу на поле да й пад'язджаюць к сялу. Убачылі людзі мядзведзей, спалохаліся да наўцекача. Пабеглі ўсе з сяла, куды вочы глядзяць. Пад'ехала маладзіца к сваёй хатцы, ажно яна пустая. От злезлі яны з мядзведзей, знялі свае клункі да й пачалі аглядаць хату. Тым часам мядзведзі панюхалі сельскае паветрае да й патрухалі ў лес. Пачалі збірацца людзі да й не надзівяцца, што вярнулася маладзіца і прывяла такога гожага хлопца.

От жыве маладзіца з сынам у сваёй хатцы да даглядае хаджайства. Тым часам яе хлапчук пачаў пляскáць у кузні да й зрабіўся добрым кавалём. Пайшла аб том прачутка й дайшла да царскіх слуг. Ужэ даў бог зраджай, перасталі забіваць дзяцей, але царскія слугі кажуць, што Каваля трэ забіць, бо ён тады радзіўся, як велена было нішчыць дзяцей і што вінавата матка, нашто яна хавала і гадавала свайго сына. От судзілі, судзілі царскія слугі да й прысудзілі забіць таго Каваля. Пачула тое матка — плача, рукі ломіць, рве на сабе косы да ўбіваецца, да галосіць на ўсе сяло. А Каваль ані гадкі: пае песні, смяецца да разважае сваю матку. Толькі ось чуе ён, што ўжэ йдуць царскія слугі з войскам, каб яго знішчыць. От выкаваў ён сабе булаву ў дзесяць пудоў, падкінуў яе ўверх да й падставіў калена. Ударылася булава аб калена да й сагнулася ў дугу. Узяў ён больш залеза, выкаваў булаву ў сорак пудоў, падкінуў яе ўверх, наставіў калена да й чакае, што будзе. Чакаў, чакаў, аж няма булавы — яна ўсе ляціць уверх. Чакаў ён з рана аж да паўдня; толькі чуе — гудзе ў небе, бы гром грыміць, гудзе, ляціць тая булава ўніз. От ужэ сонейка заходзіць за лес, як тая булава падляцела да й ударылася аб калена. Бачыць Каваль, што ў ёй толькі ручка трохі пагнулася. От узяў ён тую булаву, заткнуў яе сабе за пояс да й пайшоў шукаць добрага каня, каб на ём ехаць у свет. Шукаў ён, шукаў, але якога каня ні знайдзе, як паложыць яму на спіну сваю далоню, дак конь і падзе на калені — не мажэ выдзержаць. Што тут рабіць? Не хоча Каваль пешкі йці ў свет, а не мажэ падабраць сабе каняку. Толькі ось едзе

анучнік, а ў яго карослівая кабылка. Падышоў Каваль да й палажыў ёй на спіну сваю руку. Стаіць кабылка й не варухнецца. Тады Каваль палажыў ёй на спіну сваю булаву. Стаіць карослівая кабылка, толькі трохі вушамі паківала. І прыстаў Каваль п анучніку, каб ён прадаў кабылку. От узяў анучнік за тую кабылку сто рублёў. Ён і зроду не меў [с]толькі грошай. Пайшоў анучнік падскакваючы. Тым часам Каваль сеў на карослівую кабылку, прывязаў к сядлу сваю булаву, папрашчаўся з маткаю да й паехаў сустракаць царскіх слуг і войска. От едзе ён шляхам, а насустрэк увесь шлях заняло войска.

— На бок, на бок!— крычаць яму.

А ён кажа:

— Не вялікія паны, й самі звернеце.

Тут накінуліся на Каваля маскале, а ён ухапіў аднаго за чуб да як замахнецца кругом сябе, дак войска пластом лажыцца. Убачылі другія, што бяда, да наўцекача. Тым часам Каваль як ехаў памаленьку, дак так і паехаў далей. От едзе ён да едзе й пад'язджае к высокай гары: няма як ехаць далей. Злез ён з кабылкі, пусціў яе пасціся, а сам лёг супачыць, падлажыўшы булаву пад голаў. Спіць сабе Каваль і не чуе, што на кабылку напала дванаццаць ваўкоў. Апанавалі яны кабылку адусюль і давай на яе кідацца. Заржала кабылка, заве Каваля на помач. Прахапіўся той, ухапіў булаву да як пусціць у ваўкоў, дак усіх разам і паклаў, а булава з разгону як урэзалася аб каменную гору, дак гара затраслася да й расселася надвое. От Каваль сеў на кабылку да й паехаў у тую шчыліну ў сярэдзіну гары. Уехаў ён туды, аж там цёмна, хаць ты вока выкаль, от яшчэ ўссунешся на якое падла. Развязаў тут Каваль спераду голаў, і заблісцела сонейка, стала відно, хаць ты голкі збірай.

От едзе ён да едзе; зірне ўперад аж бачыць — там гарыць агонь. Паехаў ён туды, пад'язджае бліжэй, аж гэта ззяе д'ямант. Ляжыць яго кусок, бы гарбуз, да так ззяе, батцэ агонь гарыць. Забраў Каваль той д'ямант да й паехаў далей. Але ось скора пад'ехаў ён к каменнай сцяне — нельга ехаць далей. От узяў ён булаву, размахнуўся да як ударыць, дак сцяна ўдрэбезгі й рассыпалася. Зірне ён, аж там палацы, да такія палацы, што паглядзі, дак аж галава кружыцца. Злез Каваль з кабылкі, пусціў яе на пашу, а сам пайшоў аглядаць тыя палацы. Ідзе ён да йдзе з аднае станцыі да другое, аж ім і лічбы й канца няма. У які бок ні зірне, усюды палацы, усюды станцыі адна за другою ў рад, бы ключ гусей. Дзверы адчынены й адна проці другое, дак як зірнеш у дзверы, а там усё дзверы, дзверы, дзверы,

усё меншыя, меншыя, пакуль здаюцца ў кулак і драбней. Але далей вока не схваціць. Тут адны станцыі кантовыя, другія доўгія да вузкія; е круглыя да такія вялізазныя, што й сцен не бачно. У адных сцены гладкія, craменныя, а ў другіх — батцэ туман, батцэ вясновыя хмаркі, як праз іх прасочвае месяц. Е й такія станцыі, што й саўсім сцен няма, толькі стаяць тоўстыя стаўпы, батцэ то на параслі хвоі, што галавамі ў самае неба ўпіраюцца да з богам жупяць. Дзіва: вокан няма, сонейка не бачно, а відно, хаць ты голкі збірай.

От ідзе Каваль, пастуквае сабе булавою да туды-сюды пазірае. Прайшоў ён трохі да й заплутаўся, стаіць, не ведае, адкуль прыйшоў і куды трэ йці ўпярод. Сумна яму стала ў пустых палацах. От стаў Каваль каля слупа да й думае. Але, ведама, чым больш чалавек думае, тым гарэй ён задурваецца й заплутваецца, бы муха ў павуценні. Стаіць Каваль і не ведае, што яму рабіць. Аж тым часам бяжыць мышка. Выскачыла яна з норкі, панюхала паветрае, палупала гойстрымі вочкамі, бы голкамі, хацела шукаць жыўнасці для дзетак, але ўбачыла Каваля, задзівілася, прысела на заднія лапкі да й сядзіць, вушкі развесіўшы. Зірнуў Каваль, усміхнуўся з дурное мышкі да й наступіў ёй на хвост. Ускочыла мышка, рванулася туды-сюды — хвост не пускае. От і давай яна прасіць Каваля, каб ён пусціў яе, абяцае памагчы яму ў прыгодзе. Усміхнуўся Каваль, што мышка думае яму, асілку, памагчы ў прыгодзе, але ўсё ж падняў ногу да й пісціў мышку. Пабегла яна ў сваю норку, а Каваль пайшоў далей. Толькі ён высунуўся ў другую станцыю, аж чуе: іржэ яго кабылка, заве на помач. Пусціўся ён бегці па голасу. Бег-бег, а з палацаў выбрацца не мажэ, бо, ведама, у харомах не разбярэ, адкуль ідзе голас. Яшчэ гарэй заплутаўся да й круціцца на адном месцы. А Кабылка іржала, іржала да й заціхла. Мабыць, яе ваўкі зарэзалі. Што тут рабіць? Шкода кабылкі, а тут з палацаў нельга выбрацца. Схапіў гэта Каваль булаву да давай малаціць у сцены. Як замахнецца да рэзне, дак каменныя слупы да сцены сыплюцца, бы пад церніцаю кастрыца. От пракладаў ён, пракладаў сабе дарогу, пакуль аж выбіўся з палацаў. Давай тут Каваль шукаць свае кабылкі, але ніяк не мажэ знайсці. Стаіць да чэша чупрыну. Але ось і бяжыць мышка. Вільнула яна хвастом да й кажа:

— Хадзі за мною, я пакажу тваю кабылку. Але яе ваўкі зарэзалі да й бебахі выпусцілі.

Пайшоў Каваль за мышкаю; прайшлі яны ганоў двое, аж ад Кавалёвае кабылкі толькі дрэбы ляжаць, а замяст трыбухоў

павук аснаваў павуценне да й чакае, покуль прыляціць пчала або муха. Шкода Кавалю кабылкі, такая шкода, што чуць ён не заплакаў. От сядзіць Каваль каля свае кабылкі да пазірае, што ёй ужэ мурашкі вочы выелі. Тым часам ляцела божая пчолка, шукала ў кветках мядку да й заплуталася ў павуценні. Б'еццa, гудзе пчолка, трапеча ножкамі да махае крыльцамі і ўсё больш заплутваецца ў павуценне. А тут убачыў тое павук, кінуўся на пчолку й давай яе грызці. Раве пчолка, аж лес дрыжыць. Пачуў тое Каваль, забыў і сваё ліха да й кінуўся ратаваць божую пчолку. Ухапіў гэта ён аберучкі павука за хвост да давай яго вадзіць кругом сябе; вадзіў, вадзіў да як рэзне галавою аб дуба, дак у павука і маскі выскачылі. Выпруціўся павук, толькі нагамі дрыгае. Дрыгаў ён, дрыгаў, аж у пояс выграб яму да й сакалеў. А Каваль тым часове пачаў разрываць на пчолцы павуценне й аслабаніў яе. Дзякуе пчала да й кажа:

— За тое, што ты мяне выратаваў з бяды, хадзем, я пакажу табе крыніцу з жывою вадою.

Падняўся Каваль да й пайшоў за пчолкаю, а яна ляціць упярод да толькі гудзе. Тым часове мышка залезла сабе к Кавалю ў кішэню да й сядзіць там, бы ў норцы. От і прыводзіць пчолка Каваля на высачэнную гору, спусцілася на зямлю да й аж шапка зваліласся, хацеў лезці на гору, дак няма за што ўчапіцца. От пчолка пасадзіла яго к сабе на плечы да й паперла на гору. Учапіўся Каваль аберучкі за пчолку, сядзіць да толькі ўхкае ад страху — ніколі ён гэ[так] высока не быў. От узнясла пчолка Каваля на высачэнную гору, спусцілася на зямлю да й паказвае на крыніцу. Зірне Каваль, аж з гары з-пад каменя жывая вада от так і свішча ўверх, бы з дудкі. Набраў Каваль у пляшачку тае вады, напіўся сам і мышку напаіў. Пасадзіла іх пчолка зноў на плечы да й паперла назад. Толькі яны ўзняліся, аж і ўсхадзілася такая бура, што дубы вырывае з карэннем, варочае каменне й аж горы хістае. Ухваціла тая бура пчолку разам з Кавалём і з мышкаю, ухваціла, закруціла, завярцела да й памчала чорт ведае куды. Прэ, аж табе ў вачу рабіць. Нясе іх бура, бы пярцэ, а Кавалю здаецца, што ён на месцы, а гэта другое ўсё бяжыць, ляціць, як голаў не скруціць. Бягуць горы высокія, бягуць моры глыбокія, бягуць лясы цёмныя, сенажаці вязкія, балота гразкія, бягуць палеткі пярэстыя да хаты курныя. Толькі сонейка яснае стаіць, бы ўкопана. І стала яно смутнае, крывавае, заплакала вочкі ясныя да й лінула слёзкі гарачыя. Льюцца яны, бы з вядра. Свету божага не бачно. Давай дождж прыбіваць іх уніз к зямлі. От ляцяць яны ўніз, бы

камень. Падляцелі ўжэ саўсім нізка. Каваль думаў, што як грымнуцца яны аб зямлю, та й з костачак толькі клек пацячэ. Тым часам пчолка растапырыла крылца да як загудзе, дак і супынілася да й памчала Каваля з мышкаю праці ветру. От спусцілася яна ў чужом краі, у далёкім царстве, ссадзіла Каваля і мышку з плеч да й кажа:

— Як будзе патрэба, та пазавеце мяне, а цяпер палячу я мядок збіраць да ў плястры наліваць.

Пры гэтых словах ввум да й паляцела. Пайшоў Каваль з мышкаю, куды вочы глядзяць. Ідзе ён, разглядае незнаёмы край, аж і сустракаюць яго тамашныя людзі. Ведама, людзі — па ўсяму свету еднаковыя людзі: усюдых жывуць, гаруюць, працуюць, маюць свой клопат, сваю плягу. Адны родзяцца, другія паміраюць. Бо калі б людзі не ўміралі, та б іх [с]толькі напладзілася б, што й зямля б не стрымала. Кожын хоча мацъ задзетак: хоча, каб яны карміліі на старасці, каб пры смерці закрылі вочы да каб маліліся да паміналі. Але от жыў у том краю цар. У яго быў удалы да прыгожы адзін сын да вельмі гожая дачка. Цар хацеў пакінуць сыну сваё царства, а дачцы выбіраў прыгожага да ўдалага жаніха. Толькі не было ў том царстве такога малайца, каб ён спадабаўся царэўне. І пачалі прыязджаць к ёй жаніхі з чужых царстваў, пачалі сватацца, але царэўна ўсё не згаджалася.

Тым часам пайшла раз царэўна ў сад гуляць. От гуляе яна, рве кветкі, спявае да пляце сабе вянок. Сплляла яна вянок, надзела на голаў да й хацела йці ў палацы; толькі ось адкуль ні вазьміся Баба Яга Касцяная нага на ступе едзе, таўкачом паганяе да памялом след замятае. Пад'ехала яна к царэўне, схапіла яе ў ступу да й памчала няведама куды. Расказваюць гэта людзі Кавалю да й кажуць, што пачаў цар ззываць багатыроў да асілкаў, абяцаў таму, хто верне царэўну, аддаць яе замуж і зрабіць начальнікам над усім царствам. Разышліся багатыры да асілкі па ўсём свеце, але аб іх няма й прачуткі. Тым часам царэвіч падабраў сабе дванаццаць дзецюкоў, дванаццаць малайцоў самых здатных да й пайшоў з імі ў свет шукаць сястры — прекраснае царэўны. Доўга не было аб ём прачуткі, але ось вярнуўся адзін дзяцюк, вярнуўся з ліхою весцю: расказаў ён, што Баба Яга завязла царэўну к Кашчэю Бяссмертнаму. Той запёр і трымае яе ў каменных палацах пад дванаццаццю замкамі. Кінуўся туды царэвіч з сваімі малайцамі, а Кашчэй Бяссмертны як дыхнуў, дак яны ўсе дванаццаць і сталі каменнем, а што толькі ён адзін стаяў за вуглом і спасся. Пачуў тое цар і запла-

каў з жалю, але не ведае, што парадзіць. Пачуў тое Каваль і захацелася яму найці да аслабаніць царэўну. Як задумаў тое, дак не мажэ ні піць, ні есці, й сон яго не бярэ. От ляжыць ён, падлажыўшы пад голаў булаву, ляжыць да ўсё думае. Думаў ён, думаў да й надумаўся йці к цару, толькі не ведае, што яму сказаць. Ведама, Каваль: ён ніколі й не бачыў цара, а не то каб што. От ляжыць ён, аж падбегла тая мышка да ўсё хвосцікам казлыча яго пад носам.

— Адкасніся! Чаго ты прычапілася? — кажа Каваль да й узяў яе ў жменю.

Тым часам мышка высунула з жмені мордачку да й пачала гаварыць:

— Не бойся цара,— кажа яна,— ён такі ж чалавек, бы й ты. Не бойся, толькі вазьмі мяне з сабою; я буду табе падказваць, бо я ведаю, дзе царэўна. Ведама, мне замкоў няма ж — ■ ўсюдых пралезу. Царэўна ў тых палацах, дзе ты наступіў мне на хвост. Кашчэй Бяссмертны запёр і трымае яе, каб ніхто не аслабаніў.

Абрадаваўся Каваль, пасадзіў мышку за пазуху да й пайшоў к цару. Ці доўга, ці мала ён ішоў, толькі ось прыводзяць яго к цару ў палацы. Спалохаўся Каваль, як убачыў цара, так спалохаўся, што не ведае, чаго ён і прыйшоў, але тут мышка давай яму шаптаць з-за пазухі да скрабціся, каб ён ачухаўся. Прыслухаўся Каваль, што яму падсказвае мышка, да й давай казаць цару смела, бы свайму брату. Выслухаў яго цар да й вялеў даць яму на выбар самага лепшага каня. Падзякаваў Каваль да й пайшоў у царскую стайню выбіраць сабе каня. Толькі не мажэ выбраць, бо як паложыць на спіну руку, дак кожын конь і падзе на калені. Сказалі аб том цару. От той вялеў аддаць Кавалю свайго каня, але мышка шэпча, каб Каваль прасіў таго каня, на каторым ездзіла царэўна. От Каваль і давай прасіць, каб яму далі таго каня. Пачуў аб том цар, падумаў трохі — бачыце, яму вельмі шкода царэўнінага каня — да й вялеў аддаць Кавалю таго самага каня, на каторым ездзіла царэўна. Сеў Каваль на каня, прывязаў к сядлу булаву, пасадзіў за пазуху мышку да й паехаў у свет.

От едуць яны да едуць. Нахапілася ноч, а тут цёмны лес кругом і канца яму нямаш. Сцямнела, хаць ты вока выкаль. Нельга ехаць далей. От каваль злез з каня, прывязаў яго к дубу, а сам выкрасаў агню, упёк ламачча да й лёг спачываць. Лёг да й заснуў, бы камень. Спіць Каваль і не чуе, што мышка з канём жупяць. Тым часам расказала мышка каню, дзе царэўна,

да й пасылае яго, каб ён збегаў за ноч туды да прынёс вестачку. Рад конь, хочацца яму ўбачыць царэўну, але не мажэ адарвацца, бо Каваль вельмі моцна прывязаў. Тым часам мышка ўзлезла на дуб да й перагрызла повад. Пусціўся конь бегці да так сунуў, што й птушка не дагоніць. Прыбег ён к той гары, дзе былі палацы Кашчэя Бяссмертнага, да й давай біць капытамі. Малоціць ён аб каменную гору, аж яна трасецца, бы яе трасца калоціць, але стаіць моцна. Бачыць конь, што нічога не зробіць, не разаб'е гары, от і пабег ён шукаць, ці няма шчыліны. Ведама, ва ўсём знайдзецца шчыліна або якая скáза, толькі трэ добра пашукаць. Забег ён з другога боку да й напаткаў тую шчыліну, што Каваль зрабіў, як ударыў булавою аб гору. Пусціўся бегці конь у тую шчыліну, умчаўся ў самыя палацы, грымаціць там, бы гром. Пачуў гэта Кашчэй Бяссмертны, сеў з Бабаю Ягою на ступу да й паехаў насустрэк. Тым часам ось конь і наскочыў на іх і давай капытамі малаціць па чом папала. Бачыць Кашчэй Бяссмертны, што тут непярэліўкі, схапіў таўкач да як ударыць каня па маскаўні, дак з таго й дух выперла. Паваліўся конь, задрыгаў нагамі, да й выпруціўся. Вышчарыў зубы Кашчэй Бяссмертны, зарагатаў, бы жарабец, да й паехаў з Бабаю Ягою аглядаць свае палацы.

От едуць яны да едуць і бачаць, што палацы хтось развярнуў і ў самой гары зрабіў шчыліну. Давай тут Кашчэй Бяссмертны зарабляць тую дзірку. От пачаў ён перш ламаць да цягаць туды каменне. Ці доўга, ці коратка ён тое рабіў, тым часове даў бог дзень.

Прахапіўся Каваль да зірнуў, аж няма каня. А мышка маўчыць, зубы сцяўшы, нічога не кажа — баіцца, каб Каваль ад злосці не забіў яе. Патужыў, патужыў Каваль, пасадзіў мышку за пазуху да й пайшоў пешкі. Але, ведама, у цёмным лесе, у нетры, йдзе, йдзе і ўсё на адном месцы круціцца. Заблудзіўся Каваль, сеў на калодзе да й думае а[б] прыгодзе. Уздумаў ён пра пчолку да й давай яе зваць на памогу. Пачула пчолка, прыляцела да й панясла Каваля з мышкаю на тое месца, дзе ляжалі дрэбы Кавалёвае кабылкі. От паднялася пчолка паверх лесу, перанесла цераз вялікія балота, цераз высокія горы за сіняе мора да й апусцілася ў лесе каля гары. Убачыў Каваль дрэбы свае кабылкі да аж заплакаў ад жалю. Дастаў ён з кішэні пляшачку з жывою вадою да й давай паліваць тыя косці. Толькі пакрапіў, аж ось так і расце мяса, расце шкура, вырасла цэлая кабылка, як была. Паліў ён яшчэ раз-другі, дак от кабылка

пырхнула да й паднялася на ногі. Падзякаваў тут Каваль пчолцы, сеў на кабылку да й паехаў, куды паказвала мышка.

От зноў пад'ехаў ён к гары, найшоў тую шчыліну да й пачаў абірацца па каменню. Спатыкаецца кабылка, бо Кашчэй Бяссмертны накідаў тут камення да й загарадзіў дарогу. Схапіў гэта Каваль булаву да й пачаў пракладваць дарогу. Як рэзне ён булавою, дак аж горы трасуцца. Пачуў тое Кашчэй Бяссмертны, пачуў, што й на яго прыйшло ліха, да й паехаў насустрэк. От з'еxаліся яны да й давай біцца. Біліся, біліся, аж горы растрыбушылі, развярнулі палацы, але ніхто адзін другога не мажэ асіліць. Бачыць Кашчэй Бяссмертны, што Каваль разбіў ступу, паламаў таўкач і чуць ужэ не рэзнуў булавою Бабу Ягу, бачыць, што не мажэ адалець, пусціўся наўцекача, схапіўшы Бабу Ягу на бярэмя. Зірнуў Каваль, што Кашчэй Бяссмертны пусціўся ўцякаць, не кінуўся яго даганяць, а паехаў у палацы шукаць царэўны.

От едзе ён да едзе, а мышка паказвае дарогу, аж бачыць — ляжыць выпруціўшыся яго конь. Злез тут Каваль з кабылкі, дастаў з кішэні пляшачку з жывою вадою да давай паліваць ею каня. Ажыў конь, падняўся на ногі да й заржаў ад радасці. Пачуў тое Кашчэй Бяссмертны і бачыць, што Каваль едзе проста туды, дзе на сямі замкох сядзела царэўна, зрабіў у палацах такую цемнату, хаць ты вока выкаль — нічога не бачно. От Каваль развязаў на галаве хустачку, дак сонейка й засвяціла, стала відно, хаць ты голкі збірай, да й паехаў далей.

Але ось пад'язджае ён к тым палацам, дзе царэўна, аж усе дзверы зачынены да й завалены каменнем. Злез тут Каваль з кабылкі й пачаў адкідаць тое каменне. Адкідаў трохі да й бачыць, што дзверы залезныя, таўшчэразныя, а на іх па сямі замкоў. Што тут рабіць? Думаў ён, думаў да й паслаў мышку праведаць, дзе царэўна. Пабегла мышка; ведама, яна ўсюдых знайдзе шчыліну да й праплішчыцца. Па немалым часе вярнулася мышка вельмі смутная да й кажа, што Баба Яга замарозіла царэўну. Пачуў тое Каваль, абазліўся, схапіў булаву да й давай перыць у сцену. Як рэзнуў раз-другі, дак сцяна і рассыпалася, бы порхаўка. Кінуўся Каваль туды, аж бачыць — ляжыць тут царэвіч, бы пласт. Баба Яга абярнула яго ў камень. Ляжыць царэвіч, бы жывы, а каля яго поруч у рад ляжаць адзінаццаць яго дзецюкоў — удалых багатыроў. Усе яны бы зробленыя з каменя. Агледзеў Каваль, памацаў гэтых каменных людзей да й пайшоў к царэўне. От уходзіць ён у тыя ледзяныя палацы, аж там усё з лёду, а мо гэта толькі ўсё перавярнулася ў лёд. От

стаяць ледзяныя дзераўлякі; яны аб'іневелі, батцэ ў вялікі мароз. Пад гэтымі дзераўлякамі стаіць ледзяная караваць, на ёй полаг, батцэ з інею сплецены. На караваці ляжыць царэўна, яна ўся й прасвечвае, ведама ледзяная, толькі зверху паў іней. Падышоў Каваль да як глянуў на царэўну, дак не мажэ й ачоў адвесці ад яе, такая яна гожая й так яму спадабалася. От стаіць Каваль на адном месцы, бы ўкопаны, а сонейка з яго лба так і свеціць, так і грэе царэўну. І пачала яна памаленьку таяць да таяць, пачаў лёд перш бялець, а потым чырванець. Па немалым часе ляжыць царэўна, бы жывая, толькі не дыша. Дастаў тут Каваль з кішэні пляшачку з жывою вадою да й пакрапіў царэўну. Странянулася яна, адкрыла вочы да й паднялася.

Тым часам растаў лёд ва ўсіх палацах. От адзелася царэўна, села на свайго каня, да й паехалі яны туды, дзе ляжаў царэвіч. Убачыла царэўна брата да давай над ім плакаць да ўбівацца. Думаў, думаў Каваль, што тут парадзіць, да нічога не прыдумае. От стаіць ён да глядзіць, як царэўна ўбіваецца. Тым часове сонейка грэе да грэе. От і пачаў камень мякчаць, пачаў царэвіч і ўсе яго таварышы зноў рабіцца людзьмі. Убачыў гэта Каваль, дастаў з кішэні пляшачку з жывою вадою да як пакрапіў іх, дак яны й ачухаліся да й ажылі. Многа тут было радасці, многа слёз. От і сабраліся ўсе яны ў дарогу. А мышка зноў залезла к Кавалю за пазуху да й сядзіць. Выбраліся яны з палацаў да й паехалі лесам. От едуць яны да едуць. А лес вялікі, што й канца яму няма. Толькі чуюць яны, аж Кашчэй Бяссмертны за імі гоніцца. Ад таго імпату ўсхадзілася бура; лес трашчыць, ломіцца, от так і кладзецца лоскам. Выступіў тут насустрэк Каваль; аж Кашчэй Бяссмертны так і кінуўся на яго да не ўспеў насесці, як Каваль сперазаў яго булавою. Ад першага разу ў Кашчэя Бяссмертнага трэснула галава да й раскалолася на дзве часці. От і пачалі Каваль з Кашчэем тузацца. Доўга яны вадзіліся. Дзе ступяць, дак там зробіцца такая выскаць або возера, што й да тых час яшчэ можна бачыць іх у лесе. Але ось Каваль папнуўся да й падгібаў Кашчэя пад сябе, наступіў яму на горла да й падняў булаву, каб расквасіць яму маскаўню. Бачыць Кашчэй, што прыйшлі яму капцы, давай ён прасіцца; абяцае, што больш ніколі не будзе чапацца, а пачне жыць толькі ў балоце. Пусціў яго Каваль да й паехаў скарэй к цару, каб абрадаваць яго, што найшліся дачка і сын. От прыехалі яны.

Цар вялеў зрабіць свята ва ўсём царстве, аддаў за Каваля замуж дачку-царэўну да й зрабіў яго начальнікам над усімі начальнікамі.

Пачаў Каваль жыць да пажываць да дабра нажываць. Толькі мышка так і асталася ў яго за пазухаю. Калі Каваль робіць дабро, то яна ціхенька сядзіць, а як пачне рабіць ліха, та мышка скрабецца за пазухаю, аж сэрца драпае вострымі кіпцюрамі. Доўга жыў Каваль, многа дабра зрабіў ён у том царстве. Яшчэ й цяпер яго людзі памінаюць. Людзі кажуць, што Каваль да самае смерці сам каваў і другіх вучыў кавадь залеза. Ён казаў, што ў каваля па локаць рукі ў золаце. От з тае пары й пачалі людзі каваць залеза да рабіць сабе ўсё, што трэ.

Але як ні добра было Кавалю з маладою жонкаю ў том царстве, як ні паважалі яго, ён усё-такі не забываў сваю радзіну. От раз зрабілася яму так моташна, што й жыць не мажэ: ходзіць засмуцоны, бы пад зямлёю. Пытае яго жонка, чаго ён такі смутны. Маўчаў ён, маўчаў да й кажа, што яму хочацца праведаць сваю родную матку, хочацца хоць разок зірнуць, што робіцца ў родным сяле. Давай тут жонка прасіць Каваля, каб ён павёз яе к сваёй матцы. Сабраўся Каваль у вялікую дарогу, забраў з сабою жонку да й паехаў.

Доўга яны ехалі, доўга блукалі па свеце, нарэшце прыбіліся ў тое сяло, дзе жыла матка. Састарэлася яна, згорбілася да й высахла ў шчэпку, а ўсё плакала па сыну, усё хацела ўбачыць яго перад смерцю. От прыехаў Каваль, найшоў матку ў старой хатцы да й кінуўся на шыю, давай яе абдымаць да цалаваць. Узрадавалася матка, пачала плакаць,— не мажэ і слова выгаварыць ад радасці. От пагасцяваў там Каваль доўгі час, научыў суседзяў, як каваць залеза да рабіць усялякае нажэндзе, а потым забраў матку да й паехаў у чужы край, у тое царства, дзе ўсе людзі роўна працуюць, з працы жывуць, адзін другому памагаюць, а затым і ліха не маюць.

Мо й праўда, што е такі край і такія разумныя да добрыя людзі, а мо яны дзе-кольвек толькі яшчэ будуць. Пабачымо ці бо пачуемо, калі будзем жывы.

## 40. КАВАЛЬ-БАГАТЫР

Жыў сабе каваль з каваліхаю. Пабраліся яны рана, але да самае старасці не мелі дзяцей. Вельмі гаравалі яны, што не даў бог ім уцехі. Горна, што ўсе людзі як людзі, а толькі іх пакараў бог. Чаго ні рабіла каваліха, к якім варажбітам ні хадзіла, якіх

зяллёў ні піла — нішто не памагае. Управіцца каваліха з гаспадаркаю, прыйдзе й каваль з кузні, сядуць яны вячэраць, каваль і кажа:

— Нешчаслівыя мы з табою, бабо! Хто нам на старасці вады падасць? Хто нам вочы закрые? Хто нас пахавае? Хто нас будзе памінаць?

Плача баба, й толькі ашчэ гарэй ёй моташна на сэрцы. От раз быў святы дзень. Вясна. Чуць зайшло сонца. Вечар цёплы, пагодны. Павячэралі каваль з каваліхаю да й паселі на прызбе. Сядзяць яны да завідуюць, як граюць на загумечы суседнія дзеці. Ужо пачало цямнець, на небе заблíскалі зоркі; хацелі яны йці спаць, як ось бачаць: паказалася на небе вельмі вялікая й ясная зорка.

— Мо гэта душачка майго дзіцяці? — думае каваліха.

Чуць яна гэта падумала, як тая зорка й пакацілася па небу: коціцца ўсё бліжэй да бліжэй і ўсё расце. От яна ўжо над самым сялом гарыць, бы капа сена. Спужаліся людзі, а зорка трэснула над самым сялом на кускі, толькі іскры пасыпаліся на зямлю, й патухла. От адна іскра ўпала кавалісе к самым нагам, от бы гарачы чырвоны каменьчык. Ляжыць каля прызбы каменьчык, ясны, як зорка. Спужаліся каваль з каваліхаю, а потым, як трохі ачухаліся, дак і кажуць у вадзін голас:

— Мо гэта бог нам даў дзіця.

Узяла каваліха той камень, палажыла яго ў пялёнкі і панясла ў хату. Толькі ўздула яна агонь да запаліла лучыну, бачыць, ажно праўда: у пялёнках ляжыць не камень, а такі гожы хлапчук, што няможна і сказаць. Не нарадуюцца каваль з каваліхаю — так і не лажыліся яны ўсю ноч. Расце хлопец, як рыжок. На трэці дзень ужо стаў бегаць кавальчук і йграць з дзецьмі на загумечы; толькі дзеці яго баяліся, бо ён каго хваціць, альбо піхне, та той і паляціць цераз голаў. Цераз нядзелю пайшоў ён ужо ў кузню памагаць бацьку й вучыцца каваць. Дзівіцца каваль, што яго сын такі панятлівы. А ён цераз нядзелю-дзве так навучыўся ўсё каваць, што мудрэй бацька. А сіла ў яго такая, што як дасць молатам, дак аж кавадла ў зямлю хаваецца. І празвалі людзі кавалёвага сына Багатыром. Вырас Каваль-Багатыр, набраўся сілы, й захацелася яму свету пабачыць і сябе паказаць. От і стаў ён збірацца ў дарогу. Як ні ўпрашалі яго бацька з маткаю, каб ён не пакідаў іх, не паслухаў. Кажа:

— Я цяпер пайду пагляджу свету й скора вярнуся памагаць вам на старасці.

І пайшоў Каваль-Багатыр у чужыя землі, к чужым людзям вучыцца, як дзе людзі жывуць. Ці доўга, ці коратка ён хадзіў, толькі ось вярнуўся да гасподы. Жаляцца яму бацька з маткаю, што, як яго не было, праявіўся страшны змей і многа людзей паеў альбо загроб к сабе ў цёмны лес. Абазліўся Каваль-Багатыр на змея, выкаваў сабе сакеру ў дзесяць пудоў і пайшоў шукаць таго змея. Ідзе ён да йдзе цёмным лесам і вайшоў у такую гушчэчу, што й свету божага не бачно́: нельга йці далей. Ухваціў Каваль-Багатыр сваю сакеру й давай паласкаць: што махне, дак дзесяць дубоў і паляціць, бы чараціны. Прачысціў ён сабе дарогу да й пайшоў далей. Ідзе ён да йдзе, аж і выбягаюць з-за кустоў дванаццаць разбойнікаў да ўсе разам і навaліліся на Каваля-Багатыра. Хваціў гэта ён самага старшага разбойніка за ногі да як махнуў кругом сябе, дак з усіх разбойнікаў і дух выперла.

Пайшоў ён далей. Падходзіць к рацэ. Рака глыбокая й шырокая — няма як перайці, а тут яшчэ каля берага высокая гара стаіць, а на той гары — тры дубы таўшчэразныя, як печ. Узышоў Каваль-Багатыр на тую гору, бачыць, ажно на тых дубах пугач звіў сабе гняздо й напладзіў дзяцей. Палез Каваль-Багатыр на дуб, далез да гнязда, бачыць, ажно там людскія дзіцячыя косці валяюцца. Пугач ухваціць дзіця, занясе яго ў гняздо, а там пугачанята й давай кляваць тое дзіця. Абазліўся Каваль-Багатыр, паскручваў пугачанятам галавы да й чакае, пакуль прыляціць сам пугач. Ось зашумеў вецер, засвістаў, і ляціць пугач, а ў лапах трымае дзіця. Падляцеў ён к гнязду да як убачыў Каваля, дак і кінуўся на яго, а дзіця й выпусціў з лап. Ухваціў гэта Каваль-Багатыр адною рукою дзіця, а другою пугача за горла й давай яго душыць.

— Не душы,— кажа пугач,— я табе памагу ў вялікай прыгодзе.

Змілаваўся Каваль і кажа:

— Ну, добра, я пушчу цябе, толькі ты аднясі гэтае дзіця на тое месца, дзе ўзяў.

Панёс пугач дзіця, а Каваль-Багатыр злез з дуба, сышоў з гары да як упёрся ў яе плячом, дак толькі зямля застагнала, й гара з дубамі пасунулася да й шабулдых у ваду. Зусім засыпалася рака. Няма як бегці вадзе, й пайшла яна на берагі, затапіла алёс і поле. Тут недалека ў нетры і тхлані сядзеў змей. Падышла вада, няма яму куды дзецца, й выйшаў ён у поле, да якраз і наткнуўся на Каваля-Багатыра. Біліся яны, біліся, але бачыць змей, што Каваль-Багатыр дужшы, і пусціўся ён уця-

каць. Дабег да свайго логва, зачыніўся й каладдзём закідаўся. Пайшоў Каваль-Багатыр яго шукаць. Лес густы, што не прайці, а тут яшчэ й ноч нахапілася. Лёг Каваль-Багатыр пад дубам, ляжыць і чуе, ажно начынаюцца грымоты. Зашумеў лес, загуў, жупіць рознымі галасамі. Але ось блiснула маланка й загрымела да так, што аж зямля задрыжала. Наляцеў вецер. Раве лес, стогне. Дубы трашчаць, хвоі стогнуць, а яліны схіляюцца чуць не да зямлі. А маланка блісне, блісне чуць не цераз усё неба, асвеціць цёмны лес, і зноў цёмна, як пад зямлёю. Але ось і пачаў пярун палыскаць: трэсне ў хвою, дак і распалосуе ад самага верху аж да карэння, трэсне ў дуба — расколе дуба, як цэўку.

— Ну,— думае Каваль-Багатыр,— у гэтую ночку не аднаму чорту дастанецца на абаранкі.

Лінуў дождж. Падняўся Каваль-Багатыр з-пад дуба, выбраў густую яліну й лёг пад ею, каб дождж не даставаў; ляжыць і любуецца, як пярун чарцей палюе. Паляжаў Каваль-Багатыр пад ялінаю да й заснуў, як малое дзіця. Добра яму спаць, як спяваюць буры й грымоты. Тым часам як пачаў пярун паліць у логва змея — загарэлася логва; насілу змей выскачыў. Ляціць ён да ляціць над лесам, а за ім такі віхар паднімаецца, што ўсе дзеравякі з карэннем выдзірае з зямлі. Падляцеў змей к таму месцу, дзе ляжаў Каваль-Багатыр, да й счуў яго носам, бы сабака. Давай гэта змей падкрадвацца к Кавалю-Багатыру, каб на яго соннага напасці. Падкраўся змей ужо саўсім блізка, а Каваль-Багатыр спіць, бяды не чуе. Рад змей: от, думае, калі капец ворагу. От ён ужо расчапіў лапы, разявіў горла, каб схваціць Каваля-Багатыра, але ось адкуль ні вазьміся пугач; падляцеў ён к Кавалю-Багатыру да як залопае крыламі над самым вухам — той і прахапіўся, адкрыў вочы да й абудзіўся. Зірне Каваль-Багатыр, ажно ў цемнаце вочы змея гараць, як вуголле; ухваціў гэта ён сваю сакеру да як махнуў, дак адразу сатнуў сем дубоў і голаў змею.

Вярнуўся тады ён да гасподы й давай ціха жыць да пажываць да дабра нажываць, да старэнькіх бацька з маткаю даглядаць да шанаваць.

## 41. АСІЛАК

Жылі сабе дзед да баба. Жылі яны ў згодзе: любіліся-кахаліся ўсё жыцце. Разам гаравалі, працавалі, разам аддыхалі. І былі шчаслівыя, толькі ў адном не даў бог ім уцехі — пражылі ўвесь век і не малі дзяцей.

— Хто нам на старасці вады падасць?—часта гаварыла баба й хвартухом уцірала слёзы.

— Не плач, бабо,— разважаў яе дзед,— ніхто, як бог. Ён міласлівы, мо яшчэ й парадуе нас на старасці.

Баба пакідала плакаць і ціхенька смяялася. Бывала, яе вочкі блішчаць ад радасці, дармо, што твар, бы ралля, увесь зморшчыўся. Ведама, чалавек ніколі не кідае надзеі на шчасце, бо без надзеі нельга жыць на свеце. Часта маладзіцы прасілі бабу, каб яна бабіла ў іх дзяцей. Але баба ўсё адпіралася, бо ведама, яна баялася, што як родзіцца ў яе дзіця, то яго будуць зваць бабічам да пасміхацца.

От раз дзед быў на гумне, а баба ўхаджалася каля печы, пякла аладкі. Толькі ось клубок агню ўскочыў праз вакно да й качаецца па хаце. Спалохалася баба, не ведае, што рабіць. Качаўся-качаўся клубок агню да й падкаціўся бабе пад ногі. Баба ўхвацілася за падол, але чуе — штось у яе паміж ног шалпоча. Не паспела баба ачухацца, як чуе, што ў яе штось залезла да й варушыцца ў лане́. І стала бабе так добра, што яна аж прысела. Млосць узяла бабу. Дацяглася яна да полу да й прылегла. Ці доўга, ці мала яна ляжала, толькі ось ачухалася трохі да й дзівіцца, што б гэта было.

Толькі ось зажадалася бабе, як жывое вады, то асяленца, то тарана, то оцту. Заганяла яна дзеда, каб ён даставаў ёй усё, чаго яна пражэцца. Пачала баба гаварыць маладзіцам, чаго ёй жадаецца, а тыя й кажуць, што гэта на маладое. Пасміхаюцца маладзіцы з старое бабы, а яна ўсё не верыць. Але ось жывот пачаў круглець. Паверыла баба, што яна чараватая, й рада, бы на свет нарадзілася.

Але ось і радзіўся ў яе такі гожы хлапчук, што ўсе й надзівіцца не могуць. Узялі яго бабіць; бачаць, аж у яго тры чортавы рабра. От батцэ абручы так і тырчаць. Падзівіліся бабы да й кажуць, што мабыць гэта будзе асілак. От расце хлапчук да сілы набіраецца. І скора ён стаў такі дужы, што яго ні адзін самы здаравенны мужчына не мажэ пабароць. Вырас асілак, вабраўся ў сілу й давай ён збірацца ў свет. Як ні ўпрашалі дзед з бабаю, каб ён не пакідаў іх на старасці,— куды там.

— Няма чаго мне тут з вамі сядзець да курэй заганяць. Я пайду шукаць варагоў і ці сам загіну, ці варагоў загублю.

Няма чаго рабіць — прыбралі дзед з бабаю свайго сынка ў вялікую дарогу й з плачам правялі яго за сяло. Тут яны папрашчаліся й вярнуліся да господы, бо далей не маглі йці,— вельмі ўжо былі старэнькія. [У]вайшоў Асілак — так яго ўсе называлі — у цёмны лес да так засвістаў, што аж лісце пасыпалася. Спалохаліся пташкі, пахаваліся ў веткі або ў лом. Спалохаліся дзікія звяры, пахаваліся, хто куды мог. Жыло ў гэтым лесе сем братоў, сем разбойнікаў. І ніхто не смеў прайці або праехаць праз той лес. Жылі яны там і нікога не баяліся. От пачулі разбойнікі той свіст і пайшлі проста на Асілка. Тым часам Асілак выйшаў на парасельку, наклаў агню, сядзіць сабе да на ражэньчыку пячэ сала. Тут яго разбойнікі й абступілі адусюль.

— Якія вы людзі й што вам трэ?— пытае Асілак.

— Хто ты такі, што пасмеў прыйсці ў наш лес? — пытае старшы разбойнік.

— Хто я — пазнаеш, як памераешся са мною сілаю, а лес не твой, а божы... Бог даў лес на патрэбу ўсім людзям.

— Гэта наш лес; гэта наша панства. Мы тут тўбальцы з даўніх час.

— Вы разбойнікі. Вы разбоем запанавалі гэтым лесам. А я прыйшоў, каб адабраць у вас божую пушчу й даць усім людзям.

— Гэ, які ты моцны! Давай перш паборамося, хто з нас дужэйшы.

— Давай.

Узяў старшы разбойнік залезную булаву ў дзесяць пудоў і стаў перад Асілкам. Асілак азірнуўся кругом, бачыць — непадалечку стаіць вялізазны дуб, што ўтрох не абняць. Ухваціў гэта Асілак таго дуба да й вырваў з карэннем.

Убачылі тое разбойнікі, спалохаліся й давай прасіцца, каб ён не губіў іх.

— Будзь у нас старшым, і тады мы ўсім светам запануем.

— Не,— кажа Асілак,— не затым я прыйшоў, каб светам панаваць, а затым, каб аслабаніць свет ад паноў, бо ўсякі чалавек сам сабе пан. А хто хоча быць панам над другімі людзьмі, той мой вораг.

І давай тыя сем братоў, сем разбойнікаў прасіцца, каб Асілак узяў іх к сабе ў таварышы.

— Добра,— кажа Асілак.

І пайшлі яны разам. Ідуць сабе яны да йдуць ад аднаго сяла да другога. І ўсюды Асілак усё адно кажа, што ўсе людзі самі сабе паны, што ўсё бог даў на патрэбу ўсім людзям. У яго адна прымоўка была. Ён яе заўжды гаварыў: «Еш хлеб і людзям дай» і «Жыві, спажывай, да людзей не ўжывай». Ведама, хто любіць кусацца, то й таго другія кусаюць.

І пачаў Асілак навучаць, каб людзі жылі ў згодзе да ў ласцы.

— Тады,— кажа,— ніякае ліха з імі не справіцца, бо згодная грамада, бы адзін вялікі чалавек, вялікі багатыр, дужэйшы ўсіх багатыроў.

Пайшла тая прачутка па ўсяму свету. Спужаліся паны й давай лавіць Асілка. Доўга яны шукалі яго да ўсё не маглі знайці. Але ось тыя сем братоў, сем разбойнікаў захацелі самі быць панамі, от яны згаварыліся й выдалі Асілка. Паны рады, называюць разбойнікаў сваімі братамі, чапкуюць перад імі й даюць ім маёнткі, многа грошай і ўсялякага дабра. Давай гэта разбойнікі падмаўляць людзей, каб яны выдалі мяцежніка Асілка. Адных падмовілі, другіх застрашылі, а трэціх падпаілі. Ведама, заўжды многа знайдзецца дурных людзей, што яны гатовы самі ў вяроўку лезці. Яны й сказалі панам, дзе жыве Асілак. Набралі гэта паны маскалёў і напалі на Асілка. А ведама маскаль. Яму як прыкажуць, та ён і роднага бацька зарэжа. Асілак тым часам нічога не ведаў і лёг на супачынак. Тут маскалі напалі на яго, скрампавалі вяроўкамі й вядуць к панам. Сабралося многа людзей. Шкода ім Асілка, да няма чаго рабіць. Не магуць адабраць у маскалёў добрага чалавека. Вядуць маскалі Асілка ў двор, а людзі цягнуцца ззаду. Мужыкі маўчаць, апусціўшы галавы, а бабы плачуць да божкаюць: «На каго ж ты нас пакідаеш? Хто ж нам скажа добрае славечка?»

Тым часам сабралося паноў, што хаць гаць гаці да па галавах хадзі. Бы ваўкі над падлам завылі, што Асілка злавілі. Смяюцца, жупяць, рукі паціраюць да якую прыдумаць кару выбіраюць. Адзін кажа — шкуру з жывога садраць; другі кажа — ганталёў у цела назаганяць; трэці кажа — павесіць за язык, каб увесь свет знаў, што пан, та не мужык; чацвёрты кажа — язык адрэзаць да ногі перабіць, каб не мог па свету хадзіць, не мог гаварыць да людзей вучыць. Пакуль яны крычалі да кару прыдумлялі, Асілак страпянуўся, вяроўкі парваў да й да людзей сказаў:

— Браткі, калі б паноў чорт узяў, то б свет бяды не маў, а без гарапашнікаў мужыкоў не было б ні хлеба, ні асьмакоў.

А каб гэтае ліха зламаць, трэ[ба] усім як адзін чалавек стаць, не грызціся праміж сабою да ад варагоў бараніцца гурбою.

Так сказаў Асілак і знік, толькі клубок агню з таго месца пакаціўся па зямлі. Спалохаліся паны й маскалі, стаяць да дрыжаць. Ачухаліся яны, азіраюцца, бы ваўкі ў ваўкаўні. А Асілак, кажуць, і да тых час па свету гуляе да людзей навучае. Але ведама, мужыкі дурныя праміж сабою грызуцца, перад панамі-варагамі гнуцца, самі сябе за губы трымаюць і дабра не маюць. Але пэўне, хутка тое будзе, што кожын сам сабе панам будзе. Усе людзі будуць роўна гараваць, будуць роўна панаваць.

## 42. ІВАНКА-ПРАСТАЧОК

У яком-тось краю жылі людзі, бы ў раю: гаравалі, працавалі да й бяды не малі. Свет вялікі; зямлі многа; усюды волна — працуй на хлеб, рабі да бога хвалі. І жылі там людзі ў ласцы, у згодзе, весь дзянёчак гаравалі, працавалі, а аб ночы аддыхалі. А прыйдзе бяда — у згодзе ратаваліся ў прыгодзе: бедным, хворым памагалі, дак і ўсе бяды не малі. Толькі ось адкуль узяўся й пачаў сюды лятаць страшны Змей; пачаў лятаць, пачаў дабро цягаць, а нарэшце й людзей хватаць да к сабе цягаць. Нахватаў ён людзей і давай будаваць сабе харомы. Нахватае адусюль людзей, згоніць іх у вадно месца да й прымушае будаваць харомы, акопваць іх канавамі, абсыпаць валамі да абгароджваць частаколам, каб ніхто не мог туды ўлезці. Будуюць людзі, капаюць канавы, насыпаюць валы зямлі, бы горы, й патуль гаруюць, пакуль там і загінуць. А Змей хватае да валочыць туды ўсё новых да новых людзей.

От набудаваў ён многа такіх агародаў, пралажыў паміж іх шляхі, лятае па іх да цягае ў вагароды й людзей і людское дабро. Працуюць людзі, загаруюць што-кольвек, а тут наляціць Змей, абярэ ўсё, бы пожар, да й запрэ к сабе ў вагароды, а людзі пухнуць ад голаду да мруць, бы мухі. І чым далей, тым гарэй: няма спасобу, няма ратунку ад ліхога Змея.

Тым часам тыя людзі, што іх Змей навалачыў у сваe харомы, жаруць сабе людское дабро, нічога не робяць да толькі сала гадуюць. Дак от не толькі Змей, але й яны, забыўшы сваіх бацькоў да братоў, пачалі па шляхах вылазіць з агародаў, бы

мурашкі з муравейніка, пачалі хадзіць па свету да адбіраць у людзей іх дабро. І стала людзям гарэй ад людзей, як ад Змея, бо, ведама, гэтых ліхіх слуг Змея вельмі многа. Яны бы плойма ўсюды находзяць людзей і адбіраюць у іх што запарвуць. Няма ў іх літасці — з жывога шкуру дзяруць. І пачалі яны лічыць людзей гарэй гаўяда, пачалі саромецца, што самі яны людзі, пачалі выдумоўваць сабе ўсялякія назвіска. Хто назваў сябе змеем, хто воўкам або мядзведзем ці другім зверам, хто арлом, коршакам ці другою птушкаю, хто якім-кольвек дзеравам, і гэ[так] яны ўсе далі сабе назвіска. Толькі людзей называюць яны проста людзьмі, батцэ гэта самае гарэйшае імя. Дак от скуль узяліся паны Свінскія, Ваўкі й другія.

Тым часам пастарэў Змей, абяссілеў і ляжыць, бы падла. Ляжыць ён на адном баку тысячу гадоў; і пачаў ён гнісці, пачаў так смярдзець, што аж нос верне. Разышоўся той смурод па ўсіх харомах, запаганіў увесь агарод. Свежаму чалавеку нельга падысці блізка к агароду, такі адтуль верне смурод, такі ліхі імпат ідзе ад таго Змея. Але паны абнюхаліся да й кажуць, што гэта пах, што гэта толькі дурныя мужыкі не знаюцца, што смярдзіць, а што пахне. Тым часам Змей усё гніе да гніе й так запаганіў агарод, што там і панам жыць няможна. Пачалі яны адсякаць у Змея гнілыя ногі або што другое. Адсякуць адно, а замест таго вырасце пяць, а то й больш. От бы адналеткі на пню. І разросся той Змей бы гара, разросся й абняў увесь агарод. Загніўся агарод, пайшла вонь на ўвесь свет. Прасмярдзеліся паны да й пачалі самі гнісці, бы падла. Яшчэ гарэй стала людзям, бо паны гніюць, ядзяць іх чэрві, точаць іх жукі; а што здаровыя, тыя ловяць людзей, цягаюць у вагароджу да прыказваюць абмываць той гной да карміць гэтае падла. От служаць людзі дохламу Змею, служаць тым гнілым панам, аддаюць ім апошняе, а самі ходзяць галодныя, халодныя да толькі за працаю свету божага не бачаць. Гэ[так] й жывуць яны ад веку да веку. Адны ўміраюць, другія раджаюцца, й нямашака ніякае палёгкі. І да таго дажыліся людзі, да таго падурэлі, што й не думаюць аб лепшым жыццю. Ім здаецца, што гэ[так] й трэ[ба], што йнак жыць, дак і свет звядзецца.

— Гэ[так] жылі нашы прадзеды і дзяды, трэ[ба] й нам уступіць у іх сляды,— кажуць людзі да й нічога не робяць, каб зрабіць лепшае жыцце.

Але ось радзіўся ў том краю хлапчук. Быў ён вельмі благенькі, вельмі худы; да от так як занядаў з маленства, дак так і астаўся на ўсё жыцце. Ні паны, ніхто яго не чапае, бо ён такі

нехлямяжы, што нікому непатрэбен. От ён і вырас ужо, але ўсё грае [redacted] дзецьмі бы маленькі. І празвалі яго людзі Іванкам-Прастачком.

От узімку сядзіць сабе Іванка-Прастачок на печы да з лучыначак цацкі складвае, а палетку пясочак перасыпае з дзецьмі. Так пражыў ён гадоў трыццаць. От раз сядзіць Іванка-Прастачок на зямлі каля прызбы да перасыпае пясочак, аж ідуць тры старцы. Прыйшлі яны [redacted] хаце да й селі на прызбе аддыхаць. У сяле ні жывое душы — пан усіх выгнаў на работу. Пуста, хоць падпалі. Сядзяць старцы на прызбе, аддыхаюць да насыпаюць у люлькі цюцюну. Хапіліся яны, аж няма агню, да й просяць Іванка, каб ён дастаў агню люлькі закурыць. Пабег Іванка ў хату, набраў у прыгаршчы жару да й прыносіць старцам. Закурылі тыя люлькі, падзякувалі Іванку да й пытаюць яго, што ён робіць.

— Пясочак перасыпаю,— кажа Іванка,— бо што ні рабіць, то ўсё на паноў тахціць. А нашы людзі дурныя, цягнуць жылы да са ўсяе сілы пнуцца, дзела спраўляюць, а ліха маюць, бо паны ўсё к сабе грабуць, з мужыкоў шкуры дзяруць, а то й саўсім іх к сабе бяруць, за свет заганяюць, б'юць, калечаць, мучаць, забіваюць і літасці не маюць.

Паслухалі тое старцы, галавамі паківалі, узяліся за штрументы да й зайгралі. Першы раз зайгралі — Іванку розум далі; другі раз зайгралі — у сэрца жаласці нагналі; трэці раз яны зайгралі — язык Іванку развязалі. Зніклі старцы, а Іванка-Прастачок стаў ужо не дурачок, стаў за дзела брацца да й у свет збірацца. Зрабіў дудку-весялушку да заграў сабе так жаласліва да так гожа, што не толькі людзі, а звяры й птушкі сталі яго слухаць, сталі ўкруг збірацца. І пачаў Іванка-Прастачок па свеце хадзіць, у дудачку граць, людзей збіраць да ім праўду казаць. Як заграе, дак і ўбачаць людзі, што вялікая крыўда на свеце, што адны пануюць, другія гаруюць; адны багацтву лічбы не маюць, другія з голаду падыхаюць. І разнёсся ад Іванкавае дудкі голас па ўсяму свету. Пачалі людзі к таму голасу прыслухацца да розуму набірацца; пачалі думаць да гадаць, як за праўду пастаяць. От учулі па палацах той вялікі голас да і спалохаліся слугі Змея, пачалі яны войска збіраць да Іванка-Прастачка шукаць. Чуюць голас на ўсходзе — шамелях яны туды. Палашы блішчаць, пікі, бы лес, тырчаць, гарматы грымяць, а Іванка не відаць. Стануць ціха, бы на паляванні, слухаюць, стаяць. Аж тым часам чуюць голас на заходзе — грае дудка-весялушка, грае, людзей навучае. Ідзе пошчак ад сяла да

сяла, па полю, па лесе ад краю да краю. Кінуцца яны на захад: гоняць коней, бягуць самі, шаблямі звіняць, на зві вецер з гармат страляюць, дак Іванка не спаймаюць. Гудзе дудка, грае: то засвішча, то, бы бусел, залякоча, то зацягне тонка, от бы павуціна, то так дробненька шчабеча, што ў паноў аж лыткі затрасуцца, а мароз бяжыць па спіне, батцэ мыш туды залезла да й скрабецца пазурамі. От з тых часаў слугам Змея ні ўдзень, ні ўночы ані збла спакою, бо бяды яны сабе чакаюць, бы вол доўбні.

Дудка свішча, дудка грае; пошчак па свету гуляе, людзей навучае. Яго не злавіць, ні з гармат не забіць. Ён волна па свету гуляе, ніякіх загародак не знае; хаць сам без цела, да вялікую сілу мае. Грае, грае, а як прыйдзе час, дак усіх ён параўняе. Ой ты, дудка мая, весялушка мая!

## 43. АСІЛАК-РАБОТНІК І ПОП

Пайшлі бабы ў лес збіраць ягады. Там напаў на іх мядзведзь. Бабы паўцякалі ўсе, а адну маладуху мядзведзь схваціў і панёс у сваю бярлогу. Там ён яе карміў, так што прайшло з паўгода. Маладуха ад мядзведзя стала бярэменна. І так мядзведзь у яе ўверыўся, што думаў, яна ад яго не ўцячэць. Пайшоў мядзведзь шукаць харчы далёка, а маладуха ўзяла дзіця і ўцякла. Ён вярнуўся назад, палядзеў у бярлозе — яе там няма; ён следам яе пабег даганяць. Дагнаў яе ў дзярэўні. Яна ўзышла на двор — мядзведзь за ёю. Мужыкі сабраліся, увідзя, што мядзведзь прыбег на двор, абступілі і забілі яго. Муж гэтыя маладухі жаніўся на другой, і ён сказаў ёй:

— Ідзі туды, дзе круцілася і прыжыла дзіця; я цябе — кажаць,— не знаю.

Тады яны сабралі людзей, штоб рассудзілі, як маладусе жыць, патаму што мужык яе не хочаць браць. Людзі сказалі так: штоб ён зрабіў ёй хату і даў гарод, так штоб ёй можна было пракарміцца з гэтым дзіцёнкам, што яна прыжыла з мядзведзем. Так ёй і прысудзілі. Сагласіўся на гэта мужык, сагласілася і яго жонка. Пастроілі ёй хату і далі гарод, і яна жыла з гэтым дзяцёнкам так годы два. Дзяцёнак гэты выйдзе, бывала, на вуліцу гуляць з дзецьмі — дзеці як прыйдуць к яму, дык ён каторага піхнець рукою, дык той адваліцца і ўдарыцца

крэпка аб зямлю. Бабы сталі к ёй прыходзіць і казаць, штоб яна не пушчала яго гуляць к іхнім дзецям, «а то ён нам, кажуць, пазаб'ець дзяцей». Адна баба кажаць, што майму дзяцёнку ўжо пяць гадоў, а твайму яшчэ два, і ён яго забіваець, як выйдзець на вуліцу.

Тады гэты малец і кажаць сваёй матцы:

— Што я буду ў цябе, мама, жыць? Пайду куды наймуся служыць.

Тады маці кажаць:

— Куды ты пойдзеш гэтакі малы?

А ён кажаць:

— Нічога, хоць хлеба кусок сабе зараблю.

І пайшоў. Па дарозе ідучы, стрэў папа. Поп кажаць:

— Куды ты, мальчык, ідзеш?

— Іду, бацюшка, кабы дзе наняцца.

— Найміся ў мяне,— кажаць поп.

— Наймуся,— кажаць мальчык.

— А чым жа цябе завуць?— кажаць поп.

— Мішам,— кажаць мальчык.

— Ну, садзіся!— кажаць поп.— Паедзем.

Мальчык сеў, і яны паехалі. Мальчык дужа быў цяжкі, што аж конь стаў пад пенай. Поп спрашываець:

— Чаго гэта наш конь пад пенай?

Мальчык кажаць:

— Гэта што мы дужа шыбка едзем.

А яны і ехалі ціха. Поп маўчыць, думаець, што гэта праўда, а таго не ведаець, што мальчык гэты быў дужа цяжак. Прывёз поп у двор яго, далі яму есць. Тады стаў казаць поп:

— Сколькі ж табе даць за год?

— Нічога не хачу ад вас, бацюшка,— кажаць мальчык,— толькі як адслужу год, дам у хрыбет раз табе, бацюшка, і матушцы раз.

Поп і сагласіўся, думае, што там гэта, калі дасць па разу ў хрыбет? А таго не ведаў, што як дасць па разу ў хрыбет, то й заб'ець; ён быў асілак, а поп думаў, што гэта просты мальчык.

Поп даець яму тапор і кажаць:

— Ідзі, Міша, дровы сеч.

А ён кажаць:

— Нашто мне, бацюшка, тапор? Я і так насяку.

Поп думаець:

— Як жа ён будзець сеч, гэткі малы?

Тады Міша пайшоў на вуліцу к дровам і возьмець палена тоўстае; як падымець яго да аб зямлю, дык яно і паламаецца на некалькі штук. Поп глядзіць у вакно і кажаць матушцы:

— Во нанялі мы сабе якога работніка, што без тапара дровы сячэць.

Гэта было зімою. Дажыдалі яны лета. Пасылаюць яны Мішу араць у поле; далі яму саху і каня і паказалі, куды ехаць араць. Міша запрог каня і начаў араць. Арэць Міша, і конь нісколькі не ўтаміўся, патаму што Міша сам больш пёр саху за каня. Прынёс поп Мішу абедаць і кажаць:

— До ўжо, Міша, араць! Адпрагай, хадзі абедаць.

Міша адпрог каня і пусціў ды як хлопнець ладонею па крыжу — конь і пакаціўся на зямлю. Поп кажаць:

— Што гэта конь паваліўся?

А Міша кажаць:

— Гэта ён качацца захацеў.

Міша сеў абедаць. Паабедаў і кажаць:

— Бяры-тка, бацюшка, саху, будзем араць.

Поп узяў саху, а Міша стаў у хамут і сталі араць. Аралі, пакуля сонца зайшло. Поп кажаць:

— Паедзем ужо ў двор, Міша.

Прыехалі ў двор, павячэралі, ляглі спаць. Бацюшка і хваліцца матушцы, што Міша дужа многа ўзараў, больш дзесяціны за дзень, і кажаць поп матушцы, што як задаў Міша каню па крыжы, так аж конь упаў на зямлю. Матушка і думаець, потым кажаць папу:

— Калі конь паваліўся ад яго ўдара, то нам як дасць у хрыбет па разу, дык і заб'ець нас. Во што мы яму здзелаем: у наш авёс ходзяць мядзведзі, дык мы яго пашлем ноччы і скажам: «Ідзі, Міша, і выгань кароў із аўса, а калі ўловіш, дык прывядзі ў двор адну карову».

Поп так і здзелаў: ноччы ўзбудзіў Мішу і кажаць яму:

— Ідзі, Міша, выгань кароў з аўса, а калі ўловіш, то прывядзі ў двор адну.

Міша ўстаў, узяў вяроўку і пайшоў кароў із аўса выганяць. Прыйшоў к аўсу, палядзіць — аж у аўсе мядзведзі. Ён як закрычаў:

— Куды ты!

Мядзведзі сталі ўцякаць, а аднаго ён улавіў да вяроўкай зачапіў і вядзець к папу. Прывёў і кажаць:

— Адчыніце, бацюшка!

Поп не адчыняець — баіцца. Тады ён як стукнуў нагою ў вароты — вароты адчыніліся, і як стаў цягнуць ў двор, а мядзведзь як упёрся лапамі ў шулы, аж шулы вывернуліся і забор зарыўся, а ў бацюшкі з матушкай аж гніды падохлі. Яны думалі, што ён з мядзведзем увесь двор зарыець. А Міша кажаць:

— Бацюшка! Дзе ж мне карову паставіць?

— У пуню пусці.

Міша прывязаў кароў (мядзведзя) і прыйшоў у комнату і кажаць:

— Матушка, ці даілі ж вы карову? Ідзіце даіць!

— А няхай так будзець,— кажаць матушка.

Бацюшка з матушкай надумаліся і кажуць:

— Ідзі ў мельніцу ўначы, там ёсць у дзесяцінніка і сышчы грошы, сто рублёў, а не аддасць ён грошай, дык ты прывядзі яго самога к нам.

А ў гэтай мельніцы днём малолі людзі, а ноччы — чэрці. Міша пайшоў у самую поўнач і кажаць:

— Адчыніце!

Чэрці не адчыняюць. Тады Міша як дасць нагою ў дзверы — дзверы атварыліся, ён вайшоў, а чэрці сталі разбягацца. Ён аднаго ўхваціў і кажаць:

— Гэта ты дзесяціннік гэтай мельніцы? Давай грошы! Бацюшка казаў.

Чорт маўчыць. Тады Міша павалок чорта к бацюшку. Прывёўшы, Міша кажаць:

— Я прывёў дзесяцінніка, дзе яго дзець?

— Скажы, няхай ідзець у пуню, пакуль я ўстану.

Міша павёў чорта ў пуню і прывязаў к мядзведзю, а сам лёг спаць. Бацюшка назаўтра ўстаў, палядзеў у пуню — аж там мядзведзь і чорт прывязаны за стоўб. Бацюшка відзіць, што нічога не зробіш з Мішам, стаў саветывацца з матушкай, што б з ім зрабіць, а год ужо канчаецца. Матушка гаворыць:

— Вот што мы з ім зробім: напішам яму бумагу, дадзім каня і цялегу і скажам яму: едзь, Міша, к гасудару і палучыш ты там наша жалаванне васемсот рублей, і тагды, пакуль ён прыедзець, мы выедзем у другое места, і ён нас не найдзець тут, як прыедзець назад,— гэтак мы і спасемся, можа, ад удара ў хрыбет.

Поп прызывае Мішу і гаворыць так:

— На табе бумагу, бяры каня і цялегу і едзь к гасудару; там ты палучыш нам жалаванне васемсот.

А Міша не браў ні каня, ні харошай цялегі, а ўзяў старыя калёсы, што навоз вазілі, запрог мядзведзя ў корань, чорта на прысцяжку і пакаціў к цару. Едзець ён прама пад крыльцо гасудара. Часавыя далажылі гасудару, што прыехаў малец на мядзведзю і чорту і хочаць іці прама к вам.

Цар сказаў:

— Спрасіце ў яго, чаго ён прыехаў?

А ён гаворыць:

— У мяне бумага ад папа, штоб [redacted] палучыў жалавання васемсот.

Часавыя ўзялі бумагу і панеслі гасудару. Гасудар прачытаў бумагу, адсчытаў васемсот, даў часавому і гаворыць:

— Аддай яму і скажы, штоб ён скарэй ехаў.

Міша, палучыўшы грошы, вярнуўся назад. Прыехаўшы к папу, ён узяў мядзведзя і чорта схаваў за асецъ, [redacted] сам прыйшоў у двор і відзіць, што поп сабраўся выязджаць: злажыў усё на вазы свае ўжо і пайшоў прашчацца з роднымі. А Міша ўзяў на вазу адзін мяшок, у каторым былі сухары, сухары ён некуды вытрас, а сам улез у тэй мяшок і ляжыць. Коні былі запражаны. Бацюшка з матушкай прыйшлі, селі на вазы; матушка села на тэй мяшок, у каторым быў Міша, і паехалі. На дарозе Міша стаў трашчаць. Матушка падумала, што ў яе ламаецца вось; яна стала казаць бацюшку:

— Бацюшка! У мяне нешта трашчыць; ці не вось хоча зламацца?

Поп прыйшоў і кажаць:

— Што ты выдумала?

А Міша як зашавяліўся ў мяшку, дзе матушка сядзела, так матушка саскочыла з калёс. Яны развязалі мяшок, палядзелі — аж там Міша.

— Ці ты тут?— кажаць поп.

— А каму ж я там буду служыць,— кажаць Міша.

А поп змоўчаў. Матушка тады села з бацюшкам і паехала напярод, а Міша за імі. На дарозе поп стаў гаварыць матушцы:

— Мы астанемся начаваць ля гэтага возера і паложым Мішу пасярод сябе. Як ён заснець, я табе падам руку пад Мішу, а ты мне сваю і ўкінем яго ў возера.

Міша гэта ўсё чуў, услед едучы. Прыехалі яны к возеру, адпраглі коней, селі, павячэралі і ляглі спаць, а Мішу палажылі пасярод.

Матушка з бацюшкам як ляглі, так і заснулі, а Міша не спаў. Ён перайшоў на край, а бацюшку на пасяродак палажыў

к матушцы, а сам ляжыць ціха, яны ж спяць. Праснулась матушка і падаець пад бацюшку руку Мішу. Міша ўзяў матушку за руку і ўкінулі бацюшку ў возера. Тады Міша і кажаць:

— Во як яму, матушка! Было не ехаць к возеру начаваць.

Матушка і гаворыць:

— Ці гэта ты, Міша?

— Я, матушка.

Яна села з Мішам і паехала абратна туды, дзе былі ўпярод. Слаўны быў Міша.

## 44. МЕДНАЕ ЧУДАВІШЧА

Неўкаторым царстве-гасударстве жыў цар мяністы. І быў у яго садок на тры вярсты шырыні, на тры вярсты даўжыні. І ў тым садку яблань: залаты лісток, сярэбраны лісток. Як зародзяцца яблыкі — залатое яблыка, сярэбранае яблыка. Так цар любуецца, уцяшаецца, што чышчы не нада. Але адзінажды саснілася царыцы ўва сне: што, ваша царска вялічаства, гэта вам ўцеха не ўцеха, а ежалі б вы гэты сад выкапалі, вымякчылі, узаралі да пасеялі пшаніцы, вот ба зарадзілась: залаты колас, сярэбраны колас, залатое зярно, сярэбранае зярно. Вот ба вам уцеха была!

Ну, царыца, устаўшы, стала цару дакладаць, што так і так: ува сне відзела, што ежалі б вы гэты сад выкапалі, вымякчылі, узаралі да пасеялі пшаніцы, вот ба зарадзілась: залаты колас, сярэбраны колас, залатое зярно, сярэбранае зярно. Ну, у цара салдатаў ня нет: сабраў страявых, радавых, атстаноўных. Ну, і выцерабілі, вымякчылі, вытраілі. Людзі сеюць пшаніцу, вот і цар пасеяў пшаніцы; людская толькі ўсхаджуець, а царская ўжо краску скідаець. Калі стала высыпаць — залаты колас, сярэбраны колас. Калі стала наліваць — залатое зярно, сярэбранае зярно. Так цар любуецца, уцяшаецца, што чышчы не нада. Часавыя стаяць кругом, берагуць. Але ўнадзіўся вор у пшаніцу — што ноч пярэйдзець, то ці паквултавата, то павыразана, ці паквултавата, ці павыразана. От гэта цару было ўжо дасадна. Ён тады давай загукваць ахвотнічкаў-салдатаў:

— Хто б гэта,— гавора,— убярог, што б угодна, нарадзіў бы тады!

Ён тады стаў салдатаў загукваць:

— Ці не можна, каб хто ўлавіў яго, нагараджу чым толькі пажалаеш?

Вот адзін адгукнуўся, гаворыць:

— Я ўберагу!

Вот былі ігрушы скачываныя, як церабілі, дуплінаватыя; от ён улез у дуплё і лёг там. Толькі пад поўнач шу-сь! прылятаець. Спусціўся. Давай ножычкам рэзаць да ў пучкі вязаць, давай ножычкам рэзаць да ў пучкі вязаць, нарэзаў столькі, сколькі яму сіла падняць. Толькі ж ён набраў пад крылля, стаў узнімацца, а ён з дупля да за бараду:

— Стой, дзедушка, не ўвыйшоў!

Ён крыкнуў на часавых — часавыя прыскачылі. А тут перад царскім вакном, і цар гэта пачуў, узрадаваўся, што шум гэтакі. Ён тады спрашуець:

— Хто ты там ёсць? — цар у яго.

А ён гаворыць, што я ёсць Медны Чудавішча. Ну, Медны не Медны Чудавішча — запёрлі яго на дванаццаць дзвярэй, на дванаццаць замкоў у склеп. Вот ён там сядзіць. Назаўтрага рассылаюць па царах, па каралях, па князях, каб з'язджаліся Меднага Чудавішча паглядзець. Вот яны паз'ехаліся — п'юць, гуляюць. А ў цара быў сынішка — мальчышка небальшы шчэ, малалетні. От ён ходзіць, верабейкаў страляець. І як даў прах той стрэлачцы заваліцца ў склеп туды. Ён хадзіў, хадзіў, шукаў, шукаў, але і плакаць стаў. От ён тады і спрашуець:

— Што ты, Іван Іванавіч, наськіх цароў царэвіч, што ты плачаш?

— Ах, дзедушка, я стрэлачку пацяраў!

— Іван Іванавіч, твая стрэлачка ў мяне!

— Дзядулечка, аддай ты мне яе!

— А вот, Іван Іванавіч, вазьмі адамкні дванаццаць дзвярэй і дванаццаць замкоў і выведзі мяне на вуліцу, тады я стрэлачку аддам!

— Як жа я цябе адамкну? Ключыкі ў маменькі ў кармане, і часавыя стаяць?

— А вот, Іван Іванавіч, ты ідзі к мамцы да па каленях пакаціся, скажы: «Галоўка мая баліць», — дык яна цябе станець гладзіць, галубіць, скажыць: «Дзіцятухно маё, бегаеш, праступдзіўся!» А ты ціханька ключыкі з кармана вынь. А тады ў царскую палату зайдзі, царскую каруну на сябе надзень. Тады па двару ідзі, рукамі памахавай і ключмі пабразгавай. Часавыя расступяцца тады!

Ну, вот ён пабег к маменьцы і пачаў гаварыць:

— Маменька, галоўка мая баліць.

Яна стала яго гладзіць, галубіць. Ён тады ціханька ключыкі вышаваліў з кармана, у царскія палаты зайшоў, царскую каруну на сябе надзеў. Тады па двары ідзець, рукамі памахаваець, ключмі пабразгаваець, часавыя расступіліся. Ён тады адамкнуў адны дзверы, другія... дванаццатыя і адамкнуў замок адзін, другі і дванаццаты, і вывеў яго на вуліцу. От ён яму стрэлачку аддаў, папрашчаўся і пайшоў. Толькі сказаў:

— Ну, Іван Іванавіч! Пры злой гадзіне спамяні мяне, я табе знадаблюся!

От яны пілі-пілі, гулялі-гулялі і паслалі Меднага Чудавішча каб прывесць. Тут кажуць:

— Яго нет.

— Как нет?

— Ваш жа сын яго выпусціў!

— Как выпусціў?

Тут січас часавым галовы на калодку, па[а]дсякаў. Так цару гэта абідна, усё адно як абман які. І хацеў сыну галаву адсеч. Тут цары, князі, каралі сталі цара адгаварваць:

— Як гэта можна, каб царскае калена ністожыць? А ежалі ён здзелаў такі праступак, вазьміце яго прагоньце ў белы свет!

От ён яго ўзяў і з двара сагнаў. Ён выйшаў на вуліцу, плачыць, не знаець, бедненькі, куды йці. Ідзець салдат Іванька:

— Эх,— гаворыць,— Іван Іванавіч, што ты плачаш?

— Эх, Іванька, служывы! Як мне не плакаць, вот? Праганяюць мяне ў белы свет, а я не знаю, куды йці!

— Эй, Іван Іванавіч! Прасі мяне толькі, Іваньку, за слугавіна, а свет вялік, у свеце людзей многа!

От ён вярнуўся на двор, сеў пад вакном на каленечках — яшчэ госці не раз'язджаліся — як стаў плакаць, як стаў прасіць — аддаў яму бацька Іваньку за слугавіна. От ён яму адзежу надзеў харошую, царскую, абчапіў яго лентамі; ён папрашчаўся і пайшоў.

От яны ішлі, ішлі, захацелася ім піць.

— Эх,— гаворыць,— Іван,— на слугавіна,— піць дужа хочацца!

— А вот, Іван Іванавіч, я ў паходзе хадзіў — тут ёсць калодзеж, вельмі глубок дужа, толькі вада хароша і кубачак там плаваець. Вот мы ленту за ленту пасчапаем, каторага спусцім, той нап'ецца, другому падасць!

Так і ёсць: прахаджваюць — аж вада глубока і кубачак ёсць.

— Ну-ка, Іван-слугавін, дай-ка я цябе спушчу, сам нап'ешся і мне падасі!

А тэй гаворыць:

— Эх, Іван Іванавіч! Ты мяне туды спусціш, а адтуль не выцягнеш: я цяжол. А як ты маленькі, я цябе туды ўпушчу і адтуль выцягну!

Ён падумаў, падумаў — гэта й праўда. «А як я яго адтуль не выцягну, куды я адзін пайду тады?» Вот тады лента за ленту, лента за ленту пасчапаў і ўпусціў яго туды. От ён напіўся, царэвіч, пачарпнуў, яму падаў. Іван Іванавіч напіўся, тады гаворыць:

— Ну, Іван-слугавін, цягні мяне!

— Не, не пацягну!

— Адчаго ж ты мяне не пацягнеш?

— А так, штоб я быў Іван Іванавіч, наськіх цароў царэвіч, а ты штоб быў у мяне слугавін і каб аддаў ты мне сваю адзежу і каб ты мяне абчапаў сваімі лентамі!

От ён думаў, думаў, плакаць спрабаваў, але думаець: «Чым тут прападаць, луччы ж па свеце хадзіць, за слугавіна хоць!»

— Ну, Іванька, цягні мяне! Аддаю табе сваю адзежу, паабчапаю цябе лентамі: будзеш ты Іван Іванавіч, а я буду Іван-слугавін!

От ён яго выцягнуў. Ён адзежу здзеў, на Іваньку надзеў царскую адзежу, лентамі абчапаў, а сам надзеў яго шынялёк і шапачку-хуражачку. Й пайшлі. От!

Яны ішлі-ішлі, ішлі-ішлі і праслухалі, што ў некаторым царстве-гасударстве хочаць цар дачку аддаць за зяця, на цары каранаваць. От яны з царства да царства, з царства да царства, дапытыючы прыйшлі да царскага дварца. Уходзяць у царскі дварэц, тут, звесна, чалавека па адзежы ўзнаюць — тут яму ўкланяюцца, каля яго вітаюцца і давай у царскія палаты прасіць іх.

— Ваша вялічаства! Слугавіна майго запрыце куды-небудзь у баню і часавых пастаўце, а то ён вор, шчэ што-небудзь украдзець!

От яго, Івана Іванавіча, заперлі, а самі там п'юць, гуляюць. От ён, цар гэты, гаворыць:

— Ёсць у мяне тры кабыліцы-небыльніцы на стайні. Хто трое сутак спасець і звядзець, за таго дачку аддам, і каб пазараньшы дамоў прываджуваў!

А яны не кабыліцы, да змяйё. От ён гаворыць:

— Э, у мяне слугавін усё гэта здзелаець!

Вот і гукаець:

— Ванька-слугавін, падзі сюды!

Ён прыхаджуець:

— Здрастуйце!

— Здрастуй! Вот на табе паўхунціка хлеба, і ёсць на стайні тры кабыліцы-небыльніцы, каб ты іх звёў у западныя луга, каб напасвіў і пазараньшы дамоў прываджуваў!

От яму далі хлеба паўхунта, ён у стайню ўвайшоў, адну раз дзёрнуў пад калені, другую два і трэцюю тры. Як сеў, шоўкавыя павады ў рукі ўзяў, як паехаў па паднябессю! Прыехаў у западныя луга — ссядаць не ссядаў, злязаць не злязаў, толькі шаўкавыя павады ў руках асталіся: кабыліцы-небыльніцы нязвесна дзе падзеліся! Ён хадзіў-хадзіў, хлеба паўхунта з'еў і плакаць ужо спрабаваў — маркотна. Але здумаў:

— Э, за каго гэта я труждаюся? Гэта я за Медную Чудавішчу труждаюся!

О, ён і яўляецца!

— Здрастуй, Іван Іванавіч. Пайдзём жа ў мой дом, сям'і маёй, жаны мае, сыноў маіх, дачарэй маіх павідаем!

Прыхаджуюць, аж стаіць медзяны дом на тры 'тажы, такі што а-я-яй. От яны ўходзяць у першую комнату — аж сядзіць жана.

— Жана мая намілейшая, укланісь Івану Іванавічу! Ён мяне з таго свету вызваліў!

Яна яму ўкланілася. Уходзяць у другую комнату — сядзіць дванаццаць дачарэй.

— Дачушкі мае намілейшыя, сакланіцесь Івану Іванавічу! Ён мяне з таго свету вызваліў!

Яны яму сакланіліся. Прыходзяць у трэцюю комнату — сядзяць дванаццаць сыноў.

— Сыны мае намілейшыя, сакланіцесь Івану Іванавічу! Ен мяне з таго свету вызваліў!

Яны сакланіліся.

— Ну,— гаворыць,— сыночкі мае! Ушасцёх ідзіце ў западныя луга кабыліц-небыльніц іскаць, ушасцёх ідзіце баню тапіць, нада Івана Іванавіча папарыць, малайцом наставіць!

От тыя пайшлі ў западныя луга, кабыліц-небыльніц іскаць, а гэтыя пайшлі баню тапіць. От многа-мала ўрэмя спусцёмшы, гэтыя прыходзяць, гавораць:

— Бацюшка, баня гатова!

От ён:

— Харашо,— гаворыць.

Узяў медзяную адзежу, медзяную шапку і павёў яго ў баню. Абмыў яго, абхоліў яго, з рукі на руку перамяняючы, і надзеў яму медзяную адзежу, медзяную шапку. Прыво́джуецъ дамой, пасадзіў яго на крэсла і даў яму стакан піва выпіць, каторае п'ецца на раштвеньскі дзень. Ён як выпіў, сілён стаў. Як пойдзець па масту, і мост угінаецца. Вот і гэтыя прыхаджуюць ушасцёх:

— Бацюшка, кабыліцы-небыльніцы ёсць!

— А дзе ж яны былі?

— А дзе ж яны былі: забраліся ў лазу, у мярэчу ў такую, што насілу палавілі.

— Ну, харашо, што палавілі! Прывяжыце іх, пушчай на небе звёзды лічаць, не падохнуць!

От яны іх прывязалі. А тут пілі-пілі, гулялі-гулялі.

— Ну, Іван Іванавіч, урэмя і адпраўляцца! І я знаю, што табе ў бані там маркотна; на табе старшае дачкі салхвэтку: што ты патрэбуеш, то табе й будзець!

От ён сеў і паехаў. Як ехаць дык ехаць, як ехаць дык ехаць, ён і на адной, і на другой, і на трэцяй, прыязджаець к дварцу. А яны на крылцы стаяць. Цар толькі плячмі ціснець, што адзежа харошая. А ён (Іванька) гаворыць:

— Во,— гаворыць,— я гаварыў — вор-машэннік, во якую адзежу ўвараваў!

— Да, да! І я віджу, што ўвараваў!

Ну, кабыліц-небыльніц зялезнымі прутамі дралі-дралі, дралі-дралі, у стайню заперлі і замкнулі: нашто лавіліся! А яго зноў у баню, і часавых паставілі. Толькі ў царскім дварцы спаць пaляглiся, ён січас за салхвэтку:

— Салхвэтка, салхвэтка, здзелай мне палацы луччы царскіх палат, і каб і сталы, каб і канапы, і стулля, і ўсё!

Так гэта ўсё і здзелалася. Тады гаворыць:

— Салхвэтка, салхвэтка, дай мне паўгарца спірту.

Так січас і ёсць. Ён тады крышку ўзяў, наліў, на двор вынес, па крысцы часавым даў, яны і пазаснулі: аружжы ў козлы, і спаць пaляглі. Царэўна глядзела, глядзела ў вакно, што ў бані бляск дужа бальшы:

— Ах, мамушка-нянюшка! Пойдзем мы вулушкамі-правулушкамі праведаем, як там Іван-слугавін пражываець?

— А пойдзем сабе, панна-царэўна!

Вот яны прыхаджуюць туды, а ён на канапе ляжыць, нібыцца што спіць. Яна пахадзіла, пахадзіла, тут на стале напіткі стаяць, усё — аж выйсці адтуль не хочацца.

— Ах, мамушка-нянюшка! Як ба яго разбудзіць?

— Не знаю, панначка-царэўначка! Возьмем дзверы адчыняць, яны задрыжаць, дак ён ці не прачнецца?

Толькі яны ўзяліся за дзверы, яны задрыжалі — ён і прачнуўся:

— Ах, ізвініце, панна-царэўна, што я задрамаў! Я ў бані, дык мне дасадна, маркотна, дак я...

— Да, да, Іванька-слугавін, і я віджу, табе тут дасадна!

Ну, селі піць-гуляць. От ён салхвэткай трэбаваў казакоў на кулачыкі і ўсякія камеды. От і ёй салхвэтка ўпадабала.

— Эх, Іванька-слугавін, прадай ты мне гэту салхвэтку!

— Нет, панна-царэўна, прадаць яе я не магу. Падарыць падару, [illegible] прадаць не магу!

— Ды што ты мне будзеш дараваць? Я не нішчая: я купіць магу!

— Не, панна-царэўна, я прадаць не прадам!

От яны пілі-гулялі, і стала зараць ужо. Яна распрашчалася і пайшла дамой. Ён тады салхвэтку склаў, тады, як была баня, і стала баня. Часавых парастаўкаў, ружжы ім падаваў — яны зноў сцерагуць яго. От развіднела. Ізноў завуць яго ў царскія палацы.

— Іванька-слугавін! Падзі сюда!

Далі яму хлеба паўхунціка.

— Ідзі на стайню, бяры тры кабыліцы-небыльніцы, вядзі на запаведныя лугі пасвіць! І каб параньшы дамоў прываджуваў!

Ён увайшоў у стайню, адну раз дзёрнуў пад калені, другую два і трэцюю тры. Як сеў, шаўковыя павады ў рукі ўзяў — як паехаў па паднябессю! Прыехаў у запаведныя луга — ссядаць не ссядаў, злязаць не злязаў, толькі шаўкавыя павады ў руках асталіся, кабыліцы-небыльніцы нязвесна дзе падзеліся! Ён хадзіў, хадзіў, хлеба паўхунціка з'еў і плакаць ужо спрабаваў — маркотна. Але здумаў: «Э, за каго гэта я труждаюся? Гэта я за Медную Чудавішчу труждаюся!»

Вот Медная Чудавішча яўляецца.

— Здрастуй, Іван Іванавіч! Пойдзем жа ў дом ка мне, баню вытапім, папарым, малайцом цябе наставім!

Прыходзяць — аж стаіць сярэбраны дом на тры 'тажы, такі, што аж зяяець. От ён тады гаворыць:

— Ну, сыночкі мае! Ідзіце ўдзевяцёх шукаць кабыліц-небыльніц, а ўтрох ідзіце баню тапіць!

От тыя пайшлі туда, тыя пайшлі туда. Многа-мала ўрэмя спусцёмшы, гэтыя ўтрох прыходзяць:

— Бацюшка, баня гатова!

— Ну, харашо!

Узяў сярэбраную адзежу, сярэбраную шапку, павёў яго ў баню: абмыў яго, абхоліў яго, з рукі на руку перамяняючы, і надзеў на яго сярэбраную адзежу, сярэбраную шапку. От пасадзіў яго на стул і даў выпіць стакан піва, каторае п'ецца на васкрэсны дзень на вялікі. Ён як выпіў, пасільнеў яшчэ. Як пойдзець па масту — мост угінаецца, як сядзець на крэсла — крэсла гнецца. От мала-многа ўрэмя спусцёмшы, гэтыя прыходжуюць.

— А што, ёсць кабыліцы-небыльніцы?

— Ёсць, бацюшка!

— А дзе ж яны былі?

— Да дзе ж яны былі: забраліся ў сіня мора пад камень, насілу палавілі.

— Ну, харашо, што палавілі, прывяжыце іх, пушчай на небе звёзды лічаць, не падохнуць.

От яны пілі-пілі, гулялі-гулялі.

— Ну, Іван Іванавіч, урэмя адпраўляцца!

От ён сеў і паехаў. Ехаў, ехаў на первай, на другой і на трэцяй — везці яго не хочуць, цяжол — дарма што змяйё. А яны на крыльцы стаяць, плячмі ціснуць, што гэтакая адзежа ў яго, пачышчы тыя, адным словам сярэбраная.

— Во, не казаў я вам, што вор-машэннік! Во якую [а]дзежу, яшчэ пачышчы ўвараваў!

— Да, да,— гаворыць,— і я віджу!

А царэўна, дык яна і вачмі праймаець. Вот тады кабыліцнебыльніц зялезнымі пруццямі дралі-дралі, дралі-дралі, у стайню заперлі і замкнулі. А яго зноў у баню адправілі і стражу паставілі.

Толькі ў царскім дварэ спаць паўляглiся, ён гаворыць:

— Салхвэтка, салхвэтка, падай мне палаты, луччы царскіх палат! Падай мне сталы, крэслы, канапы!

Яна січас! Тады гаворыць:

— Салхвэтка, падай мне паўгарца спірту!

Яна падала. Ён крышку ўзяў, на двор вынес, па крысцы ім (часавым) даў. Яны ружжы ў козлы і спаць паляглі. Во царэўна глядзела, глядзела ў вакно, што ў бані бляск дужа бальшы:

— Ах, мамушка-нянюшка, пойдзем мы вулушкамі-правулушкамі, праведаем, як там Іванька-слугавін пражываець?

— А пойдзем сабе, панна-царэўна!

От яны як ішлі, так прама туды. І ён не спіць:

— Здрастуй, здрастуй табе, Іванька-слугавін!

— Здрастуй, панна-царэўначка! Ах, як мне ў бані маркотна!

— Да, да, і я віджу, што табе маркотна тут!

— Ах, панна-царэўна, калі вы абвянчаецесь, хоць бы мяне з бані вызвалілі!

— Слухай, Іван-слугавін, не гавары ты мне гэтага! Я на таго мярзаўца сматрэць не хачу, я б луччы з табой абвянчалася!

— Э, панна-царэўна, што вам тое гаварыць, чаму не быць. Дзе вам за простага мужыка выходзіць!

Ну, толькі яны там пілі-пілі, гулялі-гулялі, і віна трэбаваў у салхвэткі, і казакоў на кулачыкі, і ўсяго — усё гэта ёсць. Упадабала ёй салхвэтка, што не растраццa!

— Прадай да й прадай, Іванька-слугавін!

— Не, панна-царэўна, прадаць я не магу! Падараваць падарую, а прадаць не магу!

— Да з якім гэта намярэннем ты падаруеш?

— А вот, панна-царэўначка, каб з вамі ноч начаваць!

— Ну, харашо! Толькі каб з ярымі свячамі, з вострымі мячамі!

Ну, ён аддаў:

— Харашо!

Січас як аддаў, як была баня, так і стала баня.

Стала віднець, ён часавых растуркаў, ружжы ў рукі падаваў, ізноў сцерагуць. Даў бог дзянёк, гукаюць яго зноў весці кабыліц-небыльніц у западныя лугі пасвіць. І каб пазараньшы дамоў прыводжуваў!

От яму далі хлеба паўхунта, ён у стайню ўвайшоў, адну раз дзёрнуў пад калені, другую два і трэцюю тры. Як сеў, шоўкавыя павады ў рукі ўзяў — як паехаў па паднябессю! Прыехаў у западныя луга — ссядаць не ссядаў, злязаць не злязаў, толькі шаўкавыя павады ў руках асталіся! Кабыліцы-небыльніцы нязвесна дзе падзеліся! Ён хадзіў, хадзіў, хлеба паўхунта з'еў і плакаць ужо спрабаваў — маркотна. Але здумаў: «Э, за каго гэта я труждаюся? Гэта я за Медную Чудавішчу труждаюся!»

Ён і яўляецца:

— Здрастуй, Іван Іванавіч! Пойдзем жа ў мой дом, пабываем, баню вытапім, малайцом цябе наставім!

Прыходзяць — аж стаіць дом залаты на тры 'тажы, што проста ззяець, як сонца!

— Ну, сыночкі мае! Ідзіце ўсе дванаццаць ў западныя лугі кабыліц-небыльніц шукаць; а вы, дачушкі, ідзіце ўсе дванаццаць баню тапіць!

Вот тыя пайшлі туда, тыя пайшлі туда. Многа-мала ўрэмя спусцёмшы, дочкі прыходжуюць:

— Бацюшка, баня гатова!

— Ну, харашо!

От узяў залатую адзежу, залатую шапку, павёў яго ў баню, абмыў яго, абхоліў, з рукі на руку перамяняючы, і надзеў залатую адзежу. Проста ён як сонца стаў. Прывёў ён яго дамоў, пасадзіў на стул:

— Што, Іванька, ці чуствуеш ты сілу ў сабе?

— Да як, дзедушка, не чуствую: калі б хто паставіў слуп, у землю канец і ў неба канец, і ўбіў калцо ў слуп, увесь бы свет абараціў.

Падумаў ён, падумаў: «Многа сілы яму даў!» Даў яму стакан віна, што на Юр'еўскі дзень п'ецца, вясною: у яго сілы адбыло:

— Будзець з цябе і гэтыя сілы!

Многа-мала ўрэмя спусцёмшы, сыны прыхаджуюць.

— А што, ёсць кабыліцы-небыльніцы?

— Ёсць,— гавораць,— бацюшка!

— А дзе ж яны былі?

— Да дзе ж яны былі: забраліся на неба за́ балакі, да насілу палавілі!

— Ну, прывяжыце іх, няхай на небе звёзды лічуць, не падохнуць!

От яны пілі-пілі, гулялі-гулялі.

— Ну, Іван Іванавіч, урэмя адпраўляцца! Прашчайся з маёй жаной, і з сынамі, і з дачарамі, а з табой мы шчэ ўвідзімся!

От ён папрашчаўся, сеў і паехаў. Ён і на [а]дной, і на втарой, і на трэцяй — не вязуць! От ён павады на плечы ўсклаў, іх і цягнець. Цар, царыца на крылцы стаяць, плячмі ціснуць, дзівяцца, што гэтакая залатая адзежа і кабыліцы яго не вязуць, а ён іх цягнець, павады на плечы ўсклаўшы. От як толькі кабыліцы-небыльніцы на двор, галовы на калодку і па[а]дсякалі і за плот пазакідалі: нашто лавіліся? А яго ў баню і часавых паставілі.

Вот у царскім дварэ толькі спаць паўляглiся, от ён гаворыць:

— Ах, рабяты-часавыя, пусціце мяне прахадзіцца вулушкамі-перавулушкамі!

— А можна, можна, Іван-слугавін! Разве ты нас не ўгасціў, ці што? Мы табой давольны!

От ён як ішоў, так прама і к царэўне. От яны пілі-гулялі, з салхвэткі трэбавалі і напіткаў, камедый разных, і ўсё. І свечы ярыя гарэць, і войстрыя мячы стаяць. Ну але ўрэмя ўжо і аддыхаць. Як толькі класціся, дык яна січас:

— Мамушка-нянюшка! Патушыце свечы васковыя і палажыце мечы войстрыя!

Вот тут ён рассярдзіўся, як шархнець за дзверы, як трахнець дзвярмі, дык і вокны, і дзверы — усё павысыпалась!

— Ах, мамушка-нянюшка, за што ён на мяне рассярдзіўся? Ці я яму прыкра што сказала?

— Не знаю, панна-царэўна, можа за гэта, што вы абяшчалі пераспаць з свячамі ярымі, з мячамі войстрымі, а цяпер вы вялелі патушыць свечы васковыя і палажыць мячы войстрыя. Дык можа за гэта...

Ну, толькі ў царскім дварцэ сталяроў-маляроў ня нет. Яна за ноч усё гэта наладзіла, каб бацька не знаў. А ён сам у баню і аддыхаець.

Даў бог дзянёк, цар тэй каець на гэтага салдата:

— Вот,— каець,— ідзець непрыяцель на трое сутак, і хто гэтага непрыяцеля зваюець, за таго сваю дачку аддам і царства перадам!

Вот ён ідзець, непрыяцель, аж зямелюшка калоціцца! Вот салдат выйшаў, пайшоў ваявацца. І ён выйшаў з бані. Гаворыць:

— Ах,— гаворыць,— каб мне Медная Чудавішча сюды! Паваяваўся б я кругом гэтага войска!

Ён і яўляецца:

— Здрастуй,— гаворыць,— Іван Іванавіч!

— Здрастуй!

— Вот, прывёў я табе каня-варанца — сярэдняга братца свайго, і меч-кладзянец, і раменную плець, і медзяную адзежу! Едзь,— гаворыць,— ты сілней за яго, і лошадзь твая сілней за яго — ты яго зваюеш!

Ён як пайшоў, пайшоў, на дарозе гэтага дагнаў — шчэ ён ідзець ваявацца,— пляцей з дзесятак яму даў — ён не знаець хто. Як прыехаў туды — каму руку, каму нагу, з'ехаўся з старшым, як шархнуў, так галава і пакацілася. Вот назад прыехаў к бані, адзежу здзеў, к сядлу прывязаў:

— Ступай, кося, гуляй да сілку сабірай! Калі мне нада будзеш, тады ка мне прыбудзеш!

Сам як лёг спаць на трое сутак. Як толькі ноч, так царэўна ідзецъ к яму, пілнуецъ; як зорачка, дамой ідзецъ — і бацька гэтага не знаець. От, на чацвёртыя суткі непрыяцель пасілнейшы ідзецъ, аж зямелюшка трасецца. От гэты пайшоў ваявацца, а Іван Іванавіч гаворыць:

— Эх, каб мне Медная Чудавішча сюды!

Ён і яўляецца:

— Здрастуй, Іван Іванавіч! Вот жа прывёў я табе каня-варанца, большага братца свайго, сярэбраную адзежу, меч-кладзянец і раменную плець. Едзь,— гаворыць,— ты сілней за яго і лошадзь твая сілнейшая, ты яго зваюеш!

Ён сеў і паехаў. Нагнаў гэтага ўзноў на дарозе — ён ідзець ваявацца, дык ён яму пляцей з дзесятак ускінуў! Цяпер туды прыехаў — каму руку, каму нагу; як з'ехаўся з старшым, як шархнуў, так галава і пакацілася! А сам тады брадучай стапой к бані прыехаў, адзежу здзеў, к сядлу прывязаў:

— Ступай, кося, гуляй, сілку сабірай!

Як лёг спаць, на шэсцера сутак. Як толькі ноч, царэўна прыходзіць, яго пілнуець, начуець, а як зорачка — дамой ідзець. І бацька гэтага не знаець. Вот на сядзьмыя суткі пасілнейшы ідзець непрыяцель: уся зямелюшка трасецца і калышыцца. Гэты зноў салдат выйшаў ваявацца. Ён жа выйшаў з бані:

— Ах, як я малады, каб мне конь вараны! Пакрасаваўся б, пакрасаваўся б каля гэтага войска!

Вот Медная Чудавішча і яўляецца:

— Здрастуй, Іван Іванавіч! Вот прывёў табе каня-варанца дзядоўскага, што век нікуды не трывожан яшчэ, і залатую шапку, і залатую адзежу, і меч-кладзянец, і раменную плець. Лошадзь гэта твая сілней яго лошадзі, ну ён сілней цябе. І я знаю, што ў цябе тыя салхвэткі нету, на табе меншае дачкі салхвэтку. І ежалі ён цябе ўпярод раніць, хапай як можна салхвэтку і крычы: «Салхвэтка, салхвэтка! Падай мне дванаццаць багатыроў!» Так яны як явяцца на тым месце і разарвуць яго. Цяпер папрашчаемся, больш мы з вамі не ўвідзімся!

От ён як сеў і паехаў ваявацца. Дагнаў зноў на дарозе гэтага — ідзець ваявацца. От ён яму пляцей дзесятак ускінуў, прыехаў туды — каму руку, каму нагу адламіў, як з'ехаўся з старшым, старшы яго як шархнуў — з сядла вон выбіў. Тады ён гаворыць:

— Салхвэтка, салхвэтка! Падай мне дванаццаць багатыроў!

Як выскачылі, як хапілі, на тым месцы разбілі на мелкія часці!

От ён тады сеў ужо, брадучай стапой едзець, і кроў з пляча плывець. Цар, царыца на крылцы стаяць і кланяюцца і просяць міласці, каб хоць на двор заехаў, рану ўвярцець:

— Хто за наша царства сваю гарачую кроў разліваець?

От ён на двор заехаў. Цар у дачкі хустку зняў з галавы, папалам разадраў, адной палавінай яму рану завязаў, а другую палавіну дачцэ аддаў. Цяпер персцень у дачкі ўзяў ды яму аддаў, на руку надзеў. Ён тады марш і паехаў.

Прыехаў к бані, адзежу здзеў, к сядлу прывязаў.

— Ідзі, кося, гуляй, сілку сабірай, а як нада будзеш, ка мне прыбудзеш.

А сам як лёг спаць на дванаццаць сутак. Тады царэўна пайшла паглядзець, аж і персцень яе і салхвэтка. Тады прыйшла і бацьку далажыла.

— Так і так: мой персцень у гэтага Івана-слугавіна і мая хустка, рана ўверчана!

Цяпер бацька пайшоў, цар, паверыў. Пазволіў тады ёй сядзець там пілнаваць і дзень і ноч, пакудава ён і праспаўся.

Як жа ён праспаўся, тады царскую карэту запраглі, к бані пад'ехалі ды яго ў карэту ўзялі, ды ў царскія палацы прывязлі, за стол за цясовы пасадзілі. Такжа і царэўну поплеч з ім пасадзілі, а з-за стала ў цэркву пайшлі і абвянчаліся і свадзьбу згулялі. А гэтага машэнніка на поле вывелі да расстралялі. Цар яму перадаў усё царства.

І я там быў, мёд-віно піў. Далі мне пірог — я за парог, далі мне хлеба крайчык, дык я пад вароты, як зайчык, марш і пайшоў.

## 45. БУЛАТ — ДОБРЫ МОЛАДЗЕЦ

Іван Іванавіч —рускі царэвіч быў прабальшы ахотнік у крэглі гуляць з хлопцамі. От ён раз, значыць, палкамі швыраў у крэглі, а йдзе жэншчына, бабка. Тая палка адскочыла да той бабцы па назе. Яна азірнулась назад, хто гэта швырнуў, ажно Іван Іванавіч — рускі царэвіч. Тады йна гавора:

— Іван Іванавіч, не са мною табе гуляць, а ёсць у цара Кірбіта царэўна Кірбітаўна, от з той табе пагуляць!

Ён сабе задумаўся: «І дзе ж мне разыскаць яе?» Сабе так думае. Прыйшоў дамоў, сабраўся ў дарогу і паехаў. От ён ехаў, ехаў колькі дней, сутак, і сам не знае, куды едзе.

— Што ж,— кажа,— ехаў я, ехаў, колькі дней, сутак ехаў, нічога не бачыў!

Паехаў дальшы і на трэція суткі прыязджае ў лес. Прыязджае гэта ён у лес, ажно стаіць хатка. Ён пад'язджае к хаце і гавора на лакея:

— Падзі, лакей, значыць, спрасі, дзе царэўна Кірбітаўна жыве!

Пайшоў лакей спрашываць; ён, не [а]жыдая лакея, сам саскочыў спрасіць. Уходзе ў тую хатку — там бабка.

— Здрастуй, бабка!

— Здрастуй, здрастуй, Іван Іванавіч — рускі царэвіч! Куды едзеш, Іван Іванавіч?

Ён гавора:

— Еду я к цару Кірбіту! Хачу доч пасватаць!

— Што ж ты,— гавора,— едзеш? Заязджай ка мне на хвацеру, я цябе навучу, як дастаць яе! Ёсць,— гавора,— у цара Кірбіта Булат—добры моладзец. Ён яго хоча, Булат — добры моладзец, скасаваць, значыць, цара Кірбіта; хоча яго збіць, зламаць і па коллю мяса патыркаць. Дак цар Кірбіт будзе прадаваць Булата—добрага молайца. Дак ты ідзі,— кажа,— на базар і як ты ўбачыш, хто будзе ў зялеззі акаван, дак таго і купляй!

Ён выйшаў на базар; хадзіў, хадзіў па народу — усё простанароддзе такое: вот хто як ба ў світцы, той у чакмяню, той у сюртуку, а з зялеззем не найдзе ніяк. Тады ён ужо хацеў дамоў ііціць, аж тут на яго і натрапіў: водзяць яго, у зялеззі ўкованы весь. Вот то, значыць, самы і Булат — добры моладзец. Цяпер ён, цар Кірбіт, яго прадае за то, што ён хоча яго збіць і зламаць, па коллю мяса патыркаць. Тады ён пайшоў на базар і ўбачыў, што цар Кірбіт водзе Булата — добрага молайца, у зялеззі акаван увесь, і прадае яго. Тады ён к цару Кірбіту падходзе і гавора:

— Здрастуй, цар Кірбіт! Прадаеш ты добрага молайца?

— Прадаю!

— Што ты за яго просіш?

— Сто рублей!

Яму падалося, што гэта дорага. Прыходзе ён з ярмалкі не купіўшы дамоў, і к бабцы на хвацеру. Бабка й гавора:

— Што ж ты, купіў Булата — добрага молайца?

— Не, бабушка, не купіў.

— Пачаму ты не купіў?

— Да падалося мне дорага!

— Як гэта ты?— кажа.— Што ён прасіў, тое ты даўжон заплаціць! Ну, павячэрай да лажысь спаць, а бог бацька!

Назаўтрага рана наставіла яму самавар, напаіла яго, накарміла.

— Ступай жа ты,— кажа,— на базар і ўбачыш цара Кірбіта, і глядзі ж, штоб ты беспрыменна купіў Булата — добрага молайца. Што ён будзе прасіць за яго, дак ты даўжон даваць!

Ну, ён пайшоў, напаў яго на базары і гавора:

— Здрастуй, цар Кірбіт!

— Здрастуй, Іван Іванавіч — рускі царэвіч!

— Цар Кірбіт, прадаеш ты Булата — добрага молайца?

— Прадаю!

— Што ты за яго хочаш?

— Дзвесце рублей!

Іван Іванавіч пасумліўся, не купіў — дорага, значыць. Прыходзе дамоў на хвацеру, бабка спрашуе:

— Іван Іванавіч — рускі царэвіч! Купіў ты Булата — добрага молайца?

Ён кажа:

— Не купіў!

— А зачым ты не купіў?

— Дорага спрашуе, зато, бабка, я і не купіў!

— Ах, ты,— гавора,— такі ты, сякі, глупы! Што я табе гаварыла, дак ты даўжон мяне слухаць!

Дала яму павячэраць, ён і лёг спаць. Ведама, із ярмалку ж позна прыязджаюць. Павутру яна яго ўзбудзіла, накарміла яго і напаіла.

— Ступай жа ты,— гавора,— на базар, Іван Іванавіч —рускі царэвіч! Будзе ён зноў яго вадзіць і што будзе спрашываць, тое даўжон плаціць! А калі ты яго не купіш, дак яго меч, а твая галава далоў з плеч! Ты заехаў не ў сваё ўжо царства. Што спрашуе, якія дзеньгі, даўжон плаціць!

Ён выходзе на базар:

— Здрастуй, цар Кірбіт!

— Здрастуй, Іван Іванавіч — рускі царэвіч!

— Прадаеш Булата — добрага молайца?

— Прадаю!

— Што ты за яго просіш?

— Трыста рублей!

Падымае вышай. Ён узяў трыста рублей і аддаў за яго, за Булата — добрага молайца. Тады ён узяў яго і павёў на хвацеру. Як ён быў, значыцца, акава́н, дак ён узяў яго за цэп да

як страхнуў, дак усё гэта аб'ехала. Тады ён прыходзе на хвацеру і прыводзе Булата — добрага молайца. Ён ідзе ўпярод, а Булат — добры моладзец ззаду. Тады бабка спрашуе:

— Ну, купіў ты Булата — добрага молайца?

— Купіў, бабка!

Тады Булат — добры моладзец спрашуе:

— Як ты, Іван Іванавіч — рускі царэвіч, хочаш дастаць царэўну Кірбітаўну?

Тады рускі царэвіч Іван Іванавіч і гавора:

— Булат — добры моладзец! Я не магу знаць, як яе дастаць!

— Цяпер,— гавора,— рад цар Кірбіт, што мяне прадаў! Ё ў яго сямікрылная лошадзь за дванаццацьмі вартамі. Калі ты сямікрылную лошадзь дастанеш, дак і царэўну Кірбітаўну дастанеш!

— Як жа,— гавора,— Булат — добры моладзец, мне яе дастаць?

— Ты гавары,— гавора,— «Ішоў цар Кірбіт у канюшню і мне вялеў»,— дак цябе тады прапусцяць!

Ён, значыцца, і ідзе ў канюшню. І гавора вартаўшчыкам:

— Здрастуйце, рабятушкі!

А яны гаворацъ:

— Здрастуй, Іван Іванавіч — рускі царэвіч! Зачым ты сюды ідзеш?

— Да ішоў,— гавора,— цар Кірбіт і мне вялеў!

Тады яны гавораць:

— Не, ён не йшоў!

А ён гавора:

— Не, ішоў і мне вялеў!

Ну, друг другу расказуюць каторыя вартаўшчыкі: «Я быў у ватлучцы, а ты заснуў; верна, цар Кірбіт ішоў і яму вялеў!»

Прапусцілі яго. Ну, яму первую было трудна прайсці, а тыя як па ганках ішоў. Прыходзе ён к паследней варце:

— Здрастуй, рабятушкі!

— Здрастуй! Зачым ты сюды йдзеш?

— А йшоў цар Кірбіт і мне вялеў!

А яны яго не пускаць; гэта, значыць, да лошадзі не дапускаюць. А ён гавора:

— Калі я прайшоў первую, што ён мне вялеў, і другую прайшоў, і ўсе, услед за ім!

Тады яны й гавораць друг другу:

— Верна, цар Кірбіт прайшоў, што ён ідзе. Калі первыя яго прапусцілі, дак нам ужо трэба прапусціць яго!

Ну, ён, цяперака, усе варты прайшоў і зайшоў у канюшню. Зайшоў у канюшню, повад адвязаў, сеў у стрэмя і паехаў. Значыцца, увараваў лошадзь. Прыязджае к бабцы к той. Бабка тая спрашуе:

— Дастаў лошадзь?

Гавора:

— Дастаў!

— Ну, калі ты лошадзь сямікрылную дастаў, дак і царэўну дастанеш!

— Як жа мне яе дастаць?

— А цар Кірбіт будзе імшу, па-нашаму — службу, правіць, што прадаў Булата — добрага молайца. Дак ён выйдзе ў касцёл богу маліцца, і ты йдзі ў касцёл. Тады ты ўбачыш царэўну Кірбітаўну, сваю нявесту!

Ну, імша адпраўляецца — значыцца, канчаецца служба. Усе павыходзілі, а Іван Іванавіч — рускі царэвіч астаецца ў касцеле. Тады яна яго ўвідзела, і яна асталась. Тады ён і гавора, Іван Іванавіч:

— Здрастуй, царэўна Кірбітаўна! Пойдзеш ты за мяне замуж?

— Для мілейшага друга з дзесятае ітáжы па палаценцу іспушчусь!

Прыходзе ён дамоў, Булат — добры моладзец яго і спрашуе:

— Відаў ты царэўну Кірбітаўну?

— Відаў,— гавора,— Булат — добры моладзец!

— Што яна табе аб'ясніла?

— Для мілейшага друга па палаценцу к табе іспушчусь!

— Ну, садзісь жа,— гавора,— пад'язджай к ёй!

Ён сеў і паехаў. Зраўняўся з гэтым вакошкам; яна пачула, што ён зраўняўся з яе вакошкам — штось дзелала там,— то яна ўзяла палаценца за шчыбелку зашчапіла і спусцілась к яму на стрэмя. Селі і паехалі. Ехаць дак ехаць, тады абнімае іх ноч. Булат — добры моладзец кацёл разбіў, іх накарміў і спаць палажыў. Чуе ён топ конскі і посвіст чалавечацкі. Чуе ён гэта дзела, ён сваю бронь узяў і на часах стаў. Шле цар Кірбіт роту салдатаў:

— Дзе нападзеце Івана Іванавіча — рускага царэвіча, штоб яго збілі, зламалі, па коллю мяса паторкалі, а царэўну да двара ўзялі!

Тады Булат — добры моладзец сустракае іх.

— Здрастуй, брат! Ці не відзеў ты Івана Іванавіча — рускага царэвіча і царэўны Кірбітаўны?

— А я,— гавора Булат — добры моладзец,— з імі еду!

Шатнуў сваёй броняй направа-налева, усіх ізбіў, аставіў усяго пяць чалавек і гавора ім:

— Ступайце, скажыце свайму цару Кірбіту, с... сыну, штоб ён болей не слаў, людзей не цяраў, а то ўсім гэта будзе!

А сам вярнуўся назад, іх пабудзіў, кацёл разбіў, накарміў, напаіў і на сямікрылнага каня ўссадзіў. Селі і паехалі. Ехаць дак ехаць, абнімае цёмная ноч. Ён узяў кацёл разбіў, накарміў іх, напаіў і спаць палажыў. Сваю броню ўзяў і на часах стаў. Чуе топ конскі і посвіст чалавечацкі — значыць, ідуць і свішчуць. Шле цар Кірбіт два палкі салдатаў.

— Дзе нападзеце Івана Іванавіча — рускага царэвіча, штоб яго збілі, зламалі, па коллю мяса паторкалі!

Ён іх сустракае.

— Здрастуй, брацец! Ці не відаў ты Івана Іванавіча — рускага царэвіча і царэўны Кірбітаўны?

— А я,— гавора Булат — добры моладзец,— з імі еду!

Ён сваёй броняй шатнуў направа-налева, усім галавы адкасіў, аставіў сколькі і кажа:

— Ідзіце скажыце свайму цару Кірбіту, с... сыну, штоб ён не слаў, людзей не цяраў — усім гэта будзе!

Сам назад вярнуўся, іх пабудзіў, кацёл разбіў, накарміў, напаіў, на каня ўссадзіў. Селі й паехалі. Ехаць дак ехаць, абнімае ноч. Сталі і заначавалі. Ён кацёл разбіў, накарміў іх, напаіў і спаць улажыў. Сам сваю броню ўзяў і на часах стаў. Чуе ён топ конскі і посвіст чалавечацкі. Шле цар Кірбіт тры палкі салдатаў, штоб яго збіць і зламаць, Івана Іванавіча — рускага царэвіча, і па коллю мяса паторкаць, а царэўну да двара ўзяць. Ну, ён іх сустракае. Яны гавораць:

— Здрастуй, брацец! Ці не відаў ты Івана Іванавіча — рускага царэвіча і царэўны Кірбітаўны?

— А я,— гавора Булат — добры моладзец,— з імі еду!

Сваёй броней шатнуў направа-налева, усім галавы адкасіў, аставіў толькі на [а]твет пяць чалавек:

— Ідзіце,— гавора,— к свайму цару Кірбіту, с... сыну, скажыце, няхай не шле, людзей не цярае — усім гэта будзе!

Вярнуўся назад, іх пабудзіў, кацёл разбіў, накарміў, напаіў, на каня ўссадзіў. Селі і паехалі. Ехаць дак ехаць, абнімае іх ноч. Іван Іванавіч — рускі царэвіч:

— Тут начаваць.

А Булат — добры моладзец:

— Праедам дальшы!

Той, значыцца, дальшы ехаць, а Іван Іванавіч — тут начаваць! Булат — добры моладзец рассердзіўся, узяў кацёл разбіў, накарміў, напаіў і спаць іх улажыў. А сам рассердзіўся, пайшоў на дарогу з голымі рукамі, як стаіць, не ўзяў броні. Чуе топ конскі, посвіст чалавечацкі. Сустракае іх — шэсць палкоў шле цар Кірбіт:

— Дзе нападзеце, яго збіце, зламайце, па коллю мяса паторкайце, а царэўну да двара!

Яны гавораць:

— Здрастуй, брацец! Ці не відаў ты Івана Іванавіча — рускага царэвіча і царэўну Кірбітаўну, і Булата — добрага молайца?

— Здрастуйце, здрастуйце! Я сам,— гавора,— Булат — добры моладзец!

Вот яны сталі яго ваяваць мятла́мі там, прочымі, а Булат — добры моладзец як хваціў дуба ў чатыры ўхваты за вяршыну да як пакаціў па іх, дак усіх чыста падушыў, пабіў, аж юшка з іх пацякла. Толькі аставіў дзесяць чалавек атвет ца́ру даць:

— Ступайце і скажыце свайму ца́ру Кірбіту, с... сыну, штоб болей не пасылаў, людзей не цяраў, а то ўсім гэта будзе!

Вярнуўся сам назад, іх узбудзіў, кацёл разбіў, накарміў-напаіў, на каня ўссадзіў. Селі і паехалі. Ехаць дак ехаць, абнімае ноч. Іван Іванавіч гавора тут начаваць, а Булат гавора дальшай ехаць. А Іван Іванавіч — тут начаваць! Ён узяў рассердзіўся: начаваць дак начаваць! Кацёл разбіў, накарміў, напаіў і спаць улажыў. А сам з голымі рукамі на дарогу пайшоў. Чуе топ конскі, посвіст чалавечацкі. Шле цар Кірбіт дзевяць палкоў салдатаў, штоб яго збіць, зламаць, мяса па коллю паторкаць, а царэўну да двара. Ён ідзе к ім без усякай броні, з голымі рукамі.

— Здрастуй, брацец! Ці не відаў ты Івана Іванавіча і царэўну Кірбітаўну, і Булата — добрага молайца?

— Здрастуйце! Я,— гавора,— Булат — добры моладзец!

Яны сталі яго ваяваць, а ён выхваціў дуб у восем ухватаў да павярнуў направа й налева — усіх іх і адкасіў. Толькі аставіў сляпых да храмых, каторыя не прыступіліся. Толькі тыя і асталісь. Ён ім гавора:

— Ідзіце і скажыце свайму цару Кірбіту, с... сыну, штоб ён болей не слаў, людзей не цяраў, а то ўсім гэта будзе!

А сам назад вярнуўся. Прыходзе, аж сямікрылнаму лошадзю галава проч, Івану Іванавічу — рускаму царэвічу галава проч, а царэўны Кірбітаўны саўсім няма — украдзена. Тады Булат — добры моладзец і гавора:

— Вот, Іван Іванавіч — рускі царэвіч, я казаў дальшай ехаць, а ты мяне не паслухаў! Што мне з вамі дзелаць: табе галава проч, сямікрылнаму лошадзю галава проч, а царэўны Кірбітаўны саўсім няма!

Узяў нож, пуза каню разрэзаў, трыбухі вываліў, сам у рэбры сеў. Ляціць крумкач стары і малады. Адзін гавора:

— Крум!

А другі:

— Сыр!

Малады сеў да клёў таго каня! А Булат — добры моладзец яго за нагу і схваціў! Стары спрашуе:

— Булат — добры моладзец, адпусці ты майго сына!

— А ты, вораня,— гавора,— па свету лятаеш, пабольшай за нас знаеш: ці ё вада гаюшчая і жывушчая?

Гавора:

— Ё! Падвязуй мне гаюшчую бутылачку пад правае крыло, а жывушчую пад левае!

Булат — добры моладзец спрашуе:

— Дзе яна ё?

— А за дванаццацьмі вартамі гаюшчая; тожа так і жывушчая!

Ён падвязаў яму бутылачкі, той воран і паляцеў. Прылятае к той крыніцы, дзе гаюшчая вада, апусціўся нізенька і ляціць. А вартаўшчыкі за ім гоняцца, хочуць паймаць яго. Ён праляцеў усе гэтыя варты і падняўся ўгору; навіс на тую крыніцу і ўзяў гаюшчай вады. Тады прылятае к той крыніцы, дзе жывушчая вада, і яе так жа набраў. Цяпер ён паляцеў назад. Пpыляцеў ён туды, таго ворана сына Булат — добры моладзец ўзяў і разадраў напалам яго. Тады зляпіў, памазаў гаюшчай вадой — загаілась, памазаў жывушчай — ажывіўся.

— Ну, ступай,— гавора,— з богам!

Пусціў яго. Тады ўзяў Івана Іванавіча — рускага царэвіча зляпіў, памазаў гаюшчай вадой — загаілась; памазаў жывушчай — ажывіўся. І каня так усё [а]дно. Тады й гавора Івану Іванавічу — рускаму царэвічу:

— Я табе гаварыў дальшай ехаць, а ты казаў тут начаваць. От, як ты мяне не паслухаў, то й сямікрылнай лошадзі галава была проч і табе проч. А дзе твая царэўна?

Ён гавора:

— Не магу знаць!

Ну, тады ён узяў кацёл разбіў, накарміў, напаіў, на сямікрылную лошадзь пасадзіў. Селі і паехалі. Ехаць дак ехаць —

стаіць змяіны дом, на дванаццаць паль. Ён так як ехаць, пад'ехаў к цару Ідалу і пайшоў к яму ў горніцу. А царэўна Кірбітаўна ўбачыла яго, дак яна рада яму. Тады выходзе цар Ідал, спрашуе яго:

— Зачым ты сюды прыйшоў?

Ён гавора:

— Якое табе дзела, што я прыйшоў?

Тады ўзяў сашкроб цара Ідала, падняў яго за валасы ўгору — сабраў усе косы — і пасадзіў яго на ладоню. Як ударыў ладоняю па ём, здзелаў яго, як... мацу, і кінуў яго за вакно. Як кінуў яго за вакно, расплыўся ён, як г... Тады царэўну за руку і павёў. Прывёў, на сямікрылную лошадзь уссадзіў, селі і паехалі. Абнімае ноч. Ён узяў кацёл разбіў, накарміў, напаіў і спаць палажыў. Сваю броню ўзяў, на часах стаў. Ляцяць пціцы райскія, пяюць песні царскія: «Нагатавала мачыха Івану Іванавічу — рускаму царэвічу абед з атрутаю: як ён із'есць, дак прападзе, а жонка яго будзе ў яе свінней пасць! А хто гэта чуе да адкажа, дак каменем стане!»

Ну, ён назад вараціўся, іх разбудзіў, кацёл разбіў, накарміў, напаіў і на каня ўссадзіў. Селі і паехалі. Ехаць дак ехаць, абнімае ноч.

— Іван Іванавіч, — гавора Булат — добры моладзец. — Тут трэба начаваць!

— Не,— кажа,— недалёка да двара, паедам дамоў!

А Булат гавора:

— Тут начаваць!

А ён не ўсхацеў. Тады царэўна Кірбітаўна гавора Івану Іванавічу — рускаму царэвічу:

— Калі б ён хацеў нас загубіць, дак ба ён упрэд нас загубіў. Ты яго не паслухаў упярод, дак і табе галава проч і сямікрылнаму каню галава проч, а я дзе была?

Ну й заначавалі.

Ён кацёл разбіў, накарміў іх, напаіў і спаць улажыў, а сам броню ўзяў, на часах стаў. Ляцяць пціцы райскія, пяюць песні царскія: «Нагатавала мачыха Івану Іванавічу шубу, залатая звязда і сярэбраная, з га́дамі з паўзучымі і з лятучымі. Як ён гэту шубу надзене, дак і прападзе, а жонка яго будзе ў яе свінней пасць. А хто гэта чуе да адкажа, дак ка́менем стане!»

Ён вярнуўся назад, іх узбудзіў, кацёл разбіў, накарміў, напаіў, на каня ўссадзіў. Селі й паехалі.

Цяперака Іван Іванавіч — рускі царэвіч прыязджае ка двару. Выносе мачыха шубу сыну, залатая звязда і сярэбраная,

штоб яму пачышчай надзецца і падысці к членам у сынот. Тады Булат — добры моладзец гавора:

— Дай-ка мне памерацць прэжда!

Да за тую шубу да ў лес. Там вываліла асінніку цэлую дзесяціну. Ён уклаў у васіннік шубу, тады яго падпаліў. Як сталі ляцець гады лятучыя, паўзучыя. Ён навязаў мяцёл, пазбіваў іх, пазмятаў, усіх папаліў і назад вярнуўся. Нясуць Івану Іванавічу — рускаму царэвічу абедаць яго мачыхі слугі. Ён гавора:

— Я свайму барыну ўгаджаў усю дарогу, дайце я паднясу і абед!

Узяў, панёс, упусціў і разбіў. Адратаваў яго ад дзвёх смярцей. Цяперака ночы даждаліся. Яму адводзяць комлату, Булату — добраму молайцу, штоб не спаць умесці з маладымі. А ён гавора:

— Я тут заначую, каля сваіх маладых!

А Іван Іванавіч — рускі царэвіч гавора:

— Ідзі, брат, табе там спакойна будзе!

— Не, я тут буду начаваць!

Тады царэўна Кірбітаўна гавора Івану Іванавічу — рускаму царэвічу:

— Калі ён тут хоча начаваць, то няхай начуе! Што за клопат, што муж із жаной начуе? Калі б ён хацеў нас страбіць, то б ён і прэджа загубіў!

Ён, значыць, заначаваў. Ноччы мачыха прысылае трох ідалаў, штоб Івану Іванавічу — рускаму царэвічу галаву адарваць, а царэўну Кірбітаўну ўзяць. Ідуць яны ў самую поўнач, вакошка выдралі і лезуць у вакошка. А ён сеў пад вакошкам. Ён ухапіў аднаго за галаву, галаву адкруціў! Тыя гаворац:

— Лезь, брат, ты!

Палез другі, ён і таму галаву адкруціў. Палез трэці, ён і трэцяму галаву адкруціў. Пайшоў на двор, вакошка ўставіў і стаўню прычыніў. Уходзе ў горніцу, запаліў свячу, смотра, ці не ўзбрызнула на іх кроў, штоб маім маладым стыда не было! А Іван Іванавіч прашнуўся. Зір: Булат — добры моладзец хацеў страбіць нас! Крыкнуў, гвалтнуў:

— Хацеў мне мечам галаву адсекці!

Загадаў па ўсяму царству кручча накаваць і Булата — добрага молайца ўсяго расцярзаць. Ну, звесна, у яго у час здзелана ўсё, гэта не ў нашчынца. Трэба яго ўжо вывесці ў чыстае поле і зачапіць яго і расцярзаць ва ўсе стораны. Тады ён сказуе:

— Дай мне, Іван Іванавіч — рускі царэвіч, богу памаліцца і сторыю расказаць! Вот,— гавора,— як я за вас страждаўся:

ляцяць пціцы райскія, пяюць песні царскія: «Нагатавала мачыха Івану Іванавічу — рускаму царэвічу абед з атрутай і шубу — залатая звязда і сярэбраная. Як ён той абед з'есць ці шубу надзене, дак прападзе, а жонка будзе ў мачыхі свінней пасць! А на трэцюю ноч пашле на яго трох ідалаў, штоб яму галаву адарвалі, і жонку ўзялі! А хто чуе да адкажа, дак каменем стане!»

Тады царэўна Кірбітаўна гавора:

— Вот слуга наша верная!

А ён ужо каменем стаў.

Чэраз год нарадзіўся ў іх сын. Тады Івану Іванавічу прыснілася:

— Вот сына страбі, вынь сэрца і намаж мяне, дак я тады стану жывым, і атрача́ тваё будзе жыва!

Ён і сказуе царэўне Кірбітаўне, а яна гавора:

— Ну, жаль Булата — добрага молайца, ну свайго чада-дзіцяці шчэ жальней!

— Паязджай ты, царэўна Кірбітаўна, у касцёл і я січас буду!

Цяпер яна адправілась на чацвёрцы ў касцёл, а ён слугам прыказаў: січас палажыць на стале рабёнка і адрубіць яму галаву, тады грудзі ўзрэзаць і ўзяць сэрца і памазаць Булата — добрага молайца тым сэрцам! А ён стаяў як выліты. Ну, як ён яго памазаў тым сэрцам, дак ён 'страхнуўсь і чалавекам стаў, як быў. Тады пайшлі яны ў касцёл. Царэўна Кірбітаўна ўбачыла, што Булат — добры моладзец ідзе: «Дак мае чады няма, стрэбляна»,— так яна ўпала на пол, спужалась. Тады ён гавора:

— Царэўна Кірбітаўна, не пужайся, твой сын які быў, такі і ё — народжан апяць. Вот нясуць тваю чаду нянькі ў касцёл!

Толькі яна яго ўбачыла, стала, значыцца, рада і весела: «Слава богу за ўсё!» А яго, рабёнка, значыцца, спярва страбілі і вынялі з-пад яго з-пад грудзей сэрца, а пасля прылажылі галаву і памазалі гаюшчай вадой — і загаілась, а тады жывушчай — ён і аджывіўся. Ну, памалілісь богу і паехалі ка двару і па радасці задалі пір на ўвесь мір.

І я там быў, і мёд-віно піў, і ў роце не было, і па парадзе не цякло.

## 46. ЛЯКАЙ-КАМЕНЬ

Быў адзін купец, і паехаў у другую зямлю купцаваць, і ўпадабаў сабе там паненку. Падмавіў яе і забраў з сабою. Прывёз дадому і ажаніўся. Жылі сабе добра, мелі ўслужнага лякая. Жылі блізка рок. Запрасілі радзіцы яе ў госці. Паехалі і забралі лякая з сабою. Ехалі цэлы месяц праз мора. Прысніўся лякаю сон: хто на акрэнце пераначуе тры ночы, будзе шчаслівы. Так лякай просіцца ў пана, каб пусціў на окрант начаваць. Пан яго пусціў. Прыйшоў ён на окрант начаваць, аж прылятае да яго пташка і гаворыць яму:

— Падобны да падобны, але ў жыццю няпэўны: прыедуць да берагу да сваіх радзіцаў, дадуць яму гарбаты з атрутай, а ёй на тры гады аўсянага хлеба дзеля ўстыду: чаго ад сваіх бацькоў уцякла; але хто чуе гэтае слова і адкажа, то па калена каменем абвернецца.

Прыходзіць другая ноч. Просіцца лякай зноў на окрант начаваць. Прыйшоў ён на окрант, аж прылятае пташка і гаворыць яму:

— Падобны да падобны, але ў жыццю няпэўны: прыедуць да берагу да сваіх радзіцаў, дадуць купцу такога каня, што як сядзе на яго, то ён яго па ўсім полі разносіць, а жонцы дадуць на тры гады аўсянага хлеба дзеля ўстыду: чаго ад сваіх бацькоў уцякла ў чужую зямлю; але хто чуе да адкажа гэта слова, то па пояс каменем абвернецца.

Прыходзіць трэця ноч. Просіцца ён зноў у сва[й]го купца на окрант начаваць. Толькі што прыйшоў на окрант начаваць, прылятае да яго пташка і гаворыць яму:

— Падобны да падобны, але ў жыццю няпэўны: прыедуць да берагу да сваіх радзіцаў, паложуць іх спаць у такі пакой, што там ёсць змяя пад падлогаю на дванаццаць галоў, і тая іх абоіх паесць; але хто чуе да адкажа гэта слова, то саўсім каменем абвернецца.

Прыехалі яны да берагу да сваіх радзіцаў, вайшлі да пакою. Даюць яму гарбаты з атрутай. Лякай казаў:

— Дайце, мне, я занясу сва[й]му пану, бо вашыя слугі не ўнаравяць.

Узяў ён тую гарбату, несучы наўмысня паклыпаў, упаў, выліў тую атруту і шклянка пабілася. Потым даюць яму каня такога, што яго па ўсім полі разносіць. Так лякай казаў:

— Дайце мне, я прывяду сва[й]му пану, бо вы не ведаеце, як падаць.

Узяў выастрыў меч, узяў таго каня, ведучы і прабіў.

Потым палажылі іх спаць у такі пакой, дзе ёсць пад падлогаю змяя на дванаццаць галоў. Так яны ляглі спаць, а лякай свечку запаліў і ў пакоі сядзеў цэлу ноч. У саму дванаццатую гадзіну падымаецца падлога і вылазіць тая змяя. Як цяў лякай, так за разом тры галавы сцяў. Потым другі раз, трэці і чацвёрты і саўсім пасёк, толькі кроў папырскала па пакоі. Ён нанасіў вады і вымыў пакой і ўвідзеў, што кроў капнула пані на лоб; так ён не меў як змыць, але прыйшоў і языком злізаў. Стаў ён злізываць, а пан яго ўстаў і ачнуўся і мысліў на яго, што ён прыйшоў паню цалаваць. Назаўтра ўсе паўсталі. Расказаў купец, што яго лякай прыхадзіў уночы паню цалаваць. Так асудзілі лякая за тое ўвязаці да слупа і пастраляці. Увязалі яго да слупа, так лякай стаў прасіцца:

— Не страляйце, пазвольце мне сон расказаць, што я сніў на акрэнце: першу ноч прыйшоў я на окрант начаваць, аж прылятае пташка і гаворыць, што падобны да падобны, але ў жыццю няпэўны: прыедуць да берагу да сваіх радзіцаў, дадуць яму гарбату [з] атрутаю, а ёй дадуць на тры гады аўсянага хлеба; але хто чуе да адкажа, то па калена каменем абвернецца.

Так як прыехалі да берагу, далі гарбату з атрутаю; я нёс тую гарбату, узяў шклянку, пабіў і выліў атруту.

Як гэта слова лякай казаў, так па калена ў камень абвярнуўся.

Потым гаворыць лякай:

— Я пайшоў на другую ноч на окрант начаваць, аж прылятае да мяне пташка і гаворыць мне: «Падобны да падобны, але ў жыццю няпэўны: прыедуць да берагу да сваіх радзіцаў, дадуць яму такога каня, што яго па ўсім полі разнясе. Так я ўзяў таго каня і прабіў. Але хто чуе да адкажа гэты слава, то па пояс каменем абвернецца».

Як толькі казаў, так і абярнуўся. Потым яшчэ гаворыць:

— Пайшоў я зноў начаваць на окрант, аж прылятае пташка да мяне і гаворыць: «Падобны да падобны, але ў жыццю няпэўны: прыедуць да берагу да сваіх радзіцаў, паложаць іх спаць у такі пакой, дзе ёсць змяя на дванаццаць галоў і яна іх абоіх паесць, але хто чуе да адкажа, так заўсім каменем абвернецца». Палажылі спаць. Так я ўзяў выастрыў меч і сядзеў ноч, пільнаваў; як вылезла змяя, так ёй усе галовы пасцінаў і яе заўсім пасёк. Стаў вымываць пакоі і пырснула кроў на лоб пані, так я языком злізаў тую кроў, а пан казаў, што цалаваў.

І як казаў усе гэтыя словы, так і заўсім абвярнуўся ў камень.

Паглядзелі потым усе суддзі, каторыя судзілі яго расстраляць, у том пакоі і знайшлі пасячоную змяю. І тады ўсе ўверылі яго славам. Так выязджае дахаты купец у сваю старану і пашкадаваў сва[й]го лякая, што ён яму верна служыў; той камень забраў і павёз. Прывёз да сваей хаты камень той, палажыў яго ў станц'ю, і ён ляжаў.

У сем гадоў прысніўся купцу сон, што каб зарэзаў сваіх двох дзяцей і тою кроўю пашмараваў бы той камень, так лякай аджыў бы.

Так ён узяў два сыны свае, завёў да лядоўні і абодва зарэзаў. Вышмараваў тою кроўю камень. І стаў лякай з каменя і гаворыць:

— Ах, як я смачна заснуў.

А купец яму адказывае:

— Дзе ж ты заснуў, калі ты быў сем гадоў каменем; так я ўзяў свае два сыны, зарэзаў і пашмараваў тою кроўю камень, і ты з каменя зноў адвярнуўся.

Так лякай гаворыць, што няпраўда: «Ідзі, пакажы ты мне сыны свае, дзе яны ляжаць».

Прыходзяць яны да лядоўні, адчынілі лядоўню, відзяць — абое тыя хлопчыкі жывыя. Так яны ўсе з радасці ўзялі тыя хлопчыкі, прывялі да пакояў і там па сягодняшні дзень жывуць.

## 47. АБ СВІНЫМ КАЖУШКУ

Быў сабе дзед з бабаю, і была ў дзеда дачка і ў бабы дачка. Баба сваю дачку і надта песціла, а з падчарыцы збыткавалася: сваю дачку па хфэстах, кірмашах, вяселлях і ўсюдачкі вазіла, а дзедавай то з свіное скуры зрабіла кажушка, ды й яна ў ём цёнгле ў хаце сядзела.

Было то аднаго разу, якраз на каляды, паехала баба з дзедам, узяўшы сваю дачку, да касцёла, а сіраціну так, як заўсюды, пакінула ў хаце ды й яшчэ дала ёй мерку маку, змяшаўшы з попелам, каб яна яго чыста перабрала. Плакала яна, бедна, плакала, а потым падумала сабе: «Ці так, ці так я гэтага маку не перабяру, пайду хоць крышачку на матчыну магілку, мо мне лягчэй будзе».

Пайшла яна на магілу, так плача, так плача, ажно маці пытае:

— Ці дуброва шуміць, ці дарога звініць, ці то ж маё дзіця радзонае плача!

Так яна ёй адказала:

— Ні дуброва шуміць, ні дарога звініць, але тваё дзіця радзонае плача.

Тады гэта маці выйшла з магілы, паглядзела, што яе дзіця такое абдзертае, такое чорнае, цёмнае, няшчаснае, ды й яшчэ яна пачала казаць, што ёй мачаха мерку маку пакінула перабіраць.

Маці гэта пайшла ў магілу, вынесла ёй вязку адзежы, калі то зняць, такое харошае! сукняў, залатыя чаравічкі, усяго ўсялякага — і вывела яшчэ за сабою зайчыка ды й кажа:

— Ну, ідзі ж, маё дзіця мілюсенько, у лес, там стаіць сосна дупляста, паскладай ты гэты ўборы ў тую сосну, а ў некаторыя ўбярыся сама, сядай на зайчыка і едзь да касцёла, то яшчэ паспееш на мшу, а мак ужэ твой перабраны.

Ну, так гэта яна пайшла хутчэй, увабралася, улажыла чаравічкі залатыя ды й паехала на зайчыку. Ажно як увайшла яна ў касцёл, то зрабіўся такі бляск ад яе сукні, што людзі адны другіх не бачылі. А быў якраз на тую пору кралевіч у касцеле, ён аж спалохаўся, бо ніколі гэтакае не бачыў. Яна гэта крышачку пабыла, пабыла ў касцеле, потым выйшла, села на зайчыка ды й паехала. Ну, так яна прыехала да тае дуплястае сосны, раздзелася, усадзіла туды зайчыка, апранула на се свінога кажушка, прыйшла дахаты ды й села сабе.

Прыходзяць тыя бацькі з касцёла, паглядзела мачаха, што мак перабраны, анно галавою закруціла. Ну, так гэта сіраціна стала пытаць:

— Мая мамачко, што вы там сягонні чулі да бачылі?

— Ужэ ты таго,— кажа,— не будзеш бачыць, што мы бачылі, такі бляск біў па касцеле.

На другі дзень выбіраюцца зноў яны, так ужэ яна просіцца, так просіцца:

— Вазьмеце мяне з сабою, няхай і я пагляджу таго дзіва.

А мачаха калі то ні зікне, калі вызвярыцца на яе да яшчэ ўсадзіла ёй грымака ў плечы:

— Куды,— кажа,— табе, Свіны кажушку! Мая дачка ні табою, а ніц там не значыць; будзе зле цябе даволі, што табе сягонні работы не пакіну — сядзі так!

Ды й паехалі самі. Яна ж гэта, крышку паждаўшы, пайшла зноў сабе да дупла, яшчэ харошчую сукню апранула, села на зайчыка ды й паехала. Як увайшла ў касцёл, так яшчэ горай, як учора, усім очы засланіла ад вялікага бляску. Ну, так усенькія людзі ды й сам кралевіч не мог сабе да галавы розуму прыставіць, хто бы то быў такі? Думаў, гадаў — прыдумаці не мог.

Тым часам яна то памаліўшыся, выбегла, села на зайчыка ды й паехала. Тыя бацькі прыехалі, ажно ўжэ дзеўка ў свіном кажушку, як нібы то тое, ды й яшчэ пытае:

— А што, — кажа, — мо сягонні была тая паненка свяцяшча?

А мачаха нешта не рада была, анно зікнула на яе:

— Што табе за дзела, Свіны кажушку!

Ну, на трэці дзень зноў бацькі выбіраюцца, так ужэ яна іх просіць, каб узялі, але мачаха як вызверылася на яе, так яна і асела. Прыязджаюць да касцёла, анно ж ужэ кралевіч у брамах поўныя карыта смалы панастаўляў на яе. Ажно і яна прыехала, схапілася хутчэй з зайчыка, пераскочыла цераз карыта, увайшла ў касцёл, ажно дубальт дубальтамі горшая яснасць ад яе зрабілася. Так кралевіч ды й усей народ нават і адных пацераў не маглі згаварыць, бо ўсё на яе зырылі. Ну, так па мшы выходзіць яна, пераскочыла праз адно карыта, праз другое, а ў вапошнім неяк пакаўзнулася, ды й угразіла яе залаты чаравічак у смале. Так яна з вялікага поспеху няма што чаравічка не вымала да хутчэй паехала. Ну, так кралевіч, таго чаравічка ўзяўшы, давай то ездзіць на доўкалічнасць ды й мерыць, да чые нагі прыпадзе. Аб'ездзіў усюды — не! не прыпадае да нічые. Урэшце, прыехалі ў тое сяло, дзе Свіны кажушак жыве. Ходзяць яны па сяле мерачы, а мачаха то хутчэй сірацiну навярнула карытам, а сваёй дачцэ хутчэй ногі памыла ды й папрыплесквала, каб былі маленькія.

Ажно ўходзяць жа ў хату: прымерылі старой — нічога, прымерылі дачцэ — не, не прыпадае. Ну, так кралевіч пытае:

— Мо ў вас яшчэ якая жонка ці дзеўчына е?

Так мачаха:

— Не,— кажа,— німа больш нікагусенька.

Анно адзін сусед кажа:

— А дзе ж ваша дурная падзелася, трэба і на яе змераць.

Так яна пад карытам:

— Госьдзека я!

Ну, так адвярнулі карыта, вылезла яна, улажылі чаравічак, ажно якраз прыпаў на ногу! Ну, так усенячкім дзіва такое стала, а кралевіч кажа:

— Ну, цяпер садавіся за мною ў залаты коч, будзеш маею жонкаю.

Ну, так яна то села, ды й паехалі. Ехалі то яны каля дупластае сосны, яна то злезла, скінула з се кажушак, да то злажыла залатыя шаты, забрала зайчыка і ўсенячка, ды й патарахцелі. Прыехаўшы то, кралевіч пусціў погаласку ўсім панам; каб з'язджаліся на вяселле, так і мачаха, даведаўшыся, таксама паехала паўзіраццa, вядома, як заздрона на тыя дзівавіска. Ажно такое было вяселле, і лепша быць не можа.

Утэды мачаха з вялікага жалю, вярнуўшыся дахаты, дачцэ голаў скруціла, а сама на перасове павесілася.

## 48. АБ БРАТУ, ШТО СЯСТРУ ЗА ЖОНКУ ЎЗЯЎ

Быў сабе чалавек з жонкаю, а было ў іх двое дзяцей — дзеўчына і хлопчык. Хлопец быў пекны, а дзеўчына яшчэ харошайшая: зорка ў лобе, а месячык у патыліцы. Ну, так як бацькі падаўміралі, яму трэ жаніцца, ён усюдачкі аб'ездзіў — нідзе пад свой густ не найшоў. Утэды давай то ён на яе налягаць ды й кажа:

— Сястронко, жанімся, ты мне за ўсіх найлепш да душы прыпала.

А яна:

— Што ты,— кажа,— здурэў, ці што! Дзе ты гэта чуў, каб брат з сястрою жаніўся?

Асё ж ён, канешне, нарог, так яна кажа:

— Пажджы, хіба пайду да матулі папытаюся.

— Ну добра,— кажа,— ідзі.

Яна то німа што, пайшла ды й давай рэўня плакаць на магіле. Асё ж маці кажа:

— Ці дождж ідзе, ці раса падзе, ці маё дзіця рэўня плача?

Так яна адказвае:

— Ні дождж ідзе, ні раса падзе, да тваё дзіця рэўня плача.

Так маці кажа:

— Ціха, не плач, не плач, дачушко!

— Як жа мне не плакаць,— кажа,— калі брат сястру за жонку хоча ўзяць.

Так маці:

— Ну,— кажа,— то ты ж яму загані, няхай ён табе справіць такую сукню, як на небе зоркі.

Так ён ездзіў, ездзіў, урэшце і найшоў. Прывёз, так кажа:

— Ну, так цяпер будзем жаніцца.

А яна кажа:

— Не, братко, пайду яшчэ да мамы, запытаюся.

Пайшла на магілу ды й давай плакаць, так маці кажа:

— Ціха, дачушко, не плач, няхай яшчэ ён табе справіць такія чаравічкі, як на небе месяц.

Ну, так яна прыйшоўшы кажа: так і так; так ён зноў стаў ездзіць, шукаў, шукаў, такі і найшоў. Прывозіць ды й кажа:

— Ну, сястронко, расчыняй каравай!

— Дзе да караваю, пайду да мамы спытаю!

Пайшла на магілку ды й зноў стала вычытваць, так маці кажа:

— Ну, дачушко, нічога ты яму не ўрадзіш, хіба жанецеся.

Ну, так у ніўбаўкі паехалі ўжэ і да шлюбу. Прыехалі з касцёла, так, паабедаўшы, яна то зачынілася да стала бы-то ложкі мыць у каморцы, ды й усё кажа: «Расступіся, сырая зямліца, расступіся — брат сястру за жонку ўзяў!»

Асё ж ён то яе жджэ, жджэ, ля, ужэ і спаць пара, так падходзіць пад дзверы ды й пытае:

— А што, сястронко, зараз ты ўправішся, бо ўжэ і да гумна пара?

— Зараз, братко, зараз!— ды й кажа: «Расступіся, сырая зямліца, расступіся — брат з сястрою хоча спаць!»

Ну, так у том маменце зямля расступілася, так яна кажа:

— Расступіся, зямліца, расступіся, каб я па костачкі ўпала!

Так яна як бач і па костачкі стала. Утэды яна зноў:

— Расступіся, сырая зямліца, каб я па калені ўпала!

Так гэта зямля яшчэ расступілася, яна то па калені ўжэ стала. Асё ж зноў брат падышоў пад дзверы ды й просіць:

— Сястронко, не баўся, хутчэй, бо ўжэ позна.

— Зараз, братко, зараз!— ды й кажа: расступіся, зямліца, каб я па пояс у землю ўпала!— После,— па шыю,— кажа,— асё ж, нарэшце, і цела запала, ды й пайшла крось зямлі.

Асё ж брата нецярплівасць узяла, так пытае:

— Ці зараз?

Асё ж не чутно! Калі ён то ўходзіць — німа яе! Так паслаў служку пад землю ды й кажа:

— Або ты яе забі, або жывую прывядзі, а як не, то мой меч зніме табе голаў з плеч!

Так той німа што, пайшоў. Ідзе так ідзе, ідзе так ідзе, асё ж нагнаў яе ды й расказвае ёй: так і так, так і так. Асё ж там недалёка гоўца пасуць, так яна просіць:

— А мой ты саколіку, пайдзі ты гэту гаўцу лепш зарэж да ўкрываў тваго меча, каб яму што было паказаць.

Ну, так ён гэта ўчыніў ды й з закрываўленым мечам вярнуўся да яго. Прыходзіць, асё ж брат узяў меча: біў, біў, біў, біў, аж забляяла. Утэды кажа:

— Няпраўда, ты яе не забіў, гані зноўсь, а як не заб'еш, то мой меч затне табе голаў з плеч.

Так ён і пагнаўся, даганяе ды й кажа:

— Ну, німа што, цяпер то мушу ўжэ вас з свету збавіць, бо як цябе не заб'ю, то мяне з свету збавіць!

Так яна адказвае:

— Хіба ты разрэж маго мізінага палца, абкрываў меча ды й гэдак ідзі да іх.

Ну, ён, гэтак і зрабіўшы, пайшоў да яго. Прыходзіць, так брат біў, біў, біў, біў, біў таго меча, пакуль заплакаў чалавечым голасам, ну і ўтэды даў ужэ веры.

Тым часам яна ідзе так ідзе, ідзе так ідзе, аж стаіць дуб на залатом кубку. Так падышла да яго і кажа:

— Адчыніся, дубку на залатом кубку,— ідзе пані да разбірання!

Ён адчыніўся, яна ўвайшла, разабралася, улажыла кажух ды й пайшла. Ідзе так ідзе, асё ж стаіць двор, так яна туды пайшла ды й стала прасіцца на службу, а пані адказвае:

— Калі мне ўжэ цяпер не трэба слугаў,— але сын як улёг, так яна згадзіла яе.

Надышла святая нядзелька, усе ідуць і едуць да касцёла, а яна і не думае. Асё ж, як усё ўхадзіла, так пайшла да таго дуба ды й кажа:

— Адчыніся, дубку на залатом кубку,— ідзе пані да разбірання, і дай мне адзежу, каляску, коні ды й хфурмана!

Ну, так дуб адчыніўся ды й даў ёй сукню, як зоркі, а чаравікі, як месяцы.

Села яна ў каляску ды й паехала да касцёла. Як угледзеў яе той паніч, так вельмі раскахаўся, але яна перад людзьмі борздзенька ўскочыла ды й паехала.

На другую нядзелю ён ухітрыўся, узяў каля парога смалы наліў. Так трэба ёй уступіць у тую смалу, ды й чаравічак астаў-

ся. Яна то ўцекі, а той паніч за чаравічак ды й стаў з ім ездзіць па свеце і шукаць, дабіраць такой нагі.

Ездзіў рок, другі, але нідзе не найшоў. Ну, так ён прыязджае засмучаны дахаты, а яна давай то прасіць:

— Пакажце, панічынку, я памераю.

А ён кажа:

— Э, што ты, твая нага не такая зграбна!

А после такі даў.

Калі то яна зложыць, асё ж якраз! Так ён лап! за яе ўхапіўся ды й кажа:

— Ага! То гэта ты!

І ажаніўся з ею.

## 49. МАРЫСЯ

Памерла адна жанчына і пакінула сваёй маленечкай дачцы цялушачку. Калі памірала гэта жанчына, яна казала дачцы:

— Гадуй, Марыся, сабе цялушачку, і як будзеш замуж ісці, гэта будзе табе пасаг.

Бацька ажаніўся з другой, і дзяўчынка стала падчарыцай. А мачыха мела сваіх дзве дачкі. Марыся была вельмі харошая, а бабіны дочкі былі нехарошыя, і да іх хлопцы не туліліся. Бачыць мачыха, што Марыська абсаджвае яе дачок, і злуе на Марысю. Аднаго разу высылае яе на луг кароў пасвіць і авец, і свіней разам, як на хутары, і дае ёй кудзелю, каб да вечара спрала і ў маткі зматала і выбеліла.

Пасе дзяўчынка кароўку і гэту кудзелю прадзе. Як глянула на сонца, гаворыць:

— Сонца нізка, вечар блізка, а кудзеля не спрадзена. Ах, божа мой, божа, будзе мне ад мачыхі.

Цялушачка яе падышла і кажа:

— Вазьмі лепей праспіся, а работа твая будзе зроблена.

Марыся заснула, а кароўка ўзяла гэту кудзелю і ніткі, патрасла на рагах, і зрабіліся з кудзелі маткі выбеленыя.

Прыганяе падчарыца быдла дахаты, мачыха стаіць ля варот і чакае. І падае яна мачысе маткі на рукі. Мачыха аж зялёная стала ад злосці.

— Хто табе гэта зрабіў?

— Мамачка, я сама зрабіла.

— Лжэш, нехта табе зрабіў.

На другі дзень выслала мачыха з ёю на луг сваю дачку і зноў загадала спрасці да вечара кудзелю і ў маткі зматаць і выбеліць.

І зноў пасе Марыся кароў і кудзелю прадзе, а бабіна дачка сочыць за ёю. Глянула падчарыца на сонца і гаворыць:

— Сонца нізка, вечар блізка, а кудзеля-то не скончана.

Цялушачка ўчула гэта і кажа:

— Сядзі, кудзелю прадзі і спявай песні — бай-бай, а потым засыпай. Засні, вочка, засні, другое.

Як казала, заснулі абедзве дзяўчынкі. А цялушачка прыйшла да прасніцы, кудзелю на рогі ўзяла, зрабіла маткі выбеленыя.

Марыся прачнулася і будзіць мачысіну дачку:

— Уставай, дахаты пара! Работа мая скончана.

Гэтая як заснула, убачыла, што ўся кудзеля спрадзена і маткі выбеленыя, дык падумала: «Я спала, а яна зрабіла».

Прыганяюць дзяўчынкі каровак і авечак дахаты, а мачыха стаіць ля варот і чакае. Зноў падае ёй Марыся выбеленыя маткі. Мачыха ўжо не пытаецца ў падчарыцы, а пытаецца ў сваёй дачкі:

— Хто памог ёй зрабіць гэтыя маткі?

Гэта бабіна дачка і кажа:

— Мамачка, яна сама зрабіла.

Мачыха не верыць.

— Лжэш! Нехта ёй зрабіў.

— Дальбог, яна сама зрабіла.

На трэці дзень высылае мачыха на луг разам з Марысяй сваю старшую дачку і дае кудзелю, каб Марыся спрала, у маткі зматала і выбеліла.

Пасе Марыся кароўкі і авечкі і кудзелю прадзе, а бабіна дачка сочыць за ёю. Глянула падчарыца на сонца і кажа:

— Сонца нізка, вечар блізка, а кудзеля-то не спрадзена.

Цялушка ўчула гэта і кажа:

— Сядзі, кудзелю прадзі і спявай песні — бай-бай, а потым засыпай. Засні, вочка, засні, другое.

І заснулі абедзве дзяўчынкі. Гэта цялушачка прыйшла, патрэсла кудзелю на рагах сваіх, і зрабіліся маткі выбеленыя.

Прачнулася Марыся і будзіць гэтую,

— Уставай, ужо пара дахаты ісці. Работа мая скончана.

Гэтая ўстала і ўбачыла, што ўся кудзеля спрадзена і маткі ўжо выбеленыя, дык яна думае: «Я спала, а яна зрабіла».

Калі прыгналі яны каровак і авечак дахаты, зноў мачыха спытала, хто дапамагаў Марысі, але мачысіна дачка сказала:

— Яна сама зрабіла. Дальбог, сама!

І мачыха яшчэ больш раззлавалася.

На чацвёрты дзень мачыха зноў дае падчарыцы кудзелю і сама ўжо ідзе з ёю пасвіць.

Дзяўчынка прадзе кудзелю і пяе песні, а мачыха сочыць за ёю. Глянула Марыся на сонца і кажа:

— Сонца нізка, вечар блізка, а кудзеля-то не спрадзена.

Цялушачка ўчула гэта і кажа:

— Сядзі, кудзелю прадзі і спявай песні — бай-бай, а потым засыпай. Засні, вочка, засні, другое.

Як казала, заснулі абедзве — дзяўчынка і мачыха.

Потым прачнулася падчарыца і будзіць мачыху.

— Уставай, дахаты пара, работа мая скончана.

Мачыха ўстала, паглядзела на выбеленыя маткі і гаворыць:

— Цяпер-то я ведаю, хто гэта зрабіў: цялушачка прыйшла, патрэсла кудзелю на рагах сваіх, і зрабіліся маткі.

А гэтая мачыха была ведзьмай, яна мела трэцяе вока на патыліцы. І гэтае трэцяе вока цялушачка не замовіла, бо не ведала аб ім.

Прыгналі каровак і авечак дахаты, і мачыха кажа:

— Зараз гэтую цялушачку зарэжу.

Марыся абняла цялушачку, пацалавала яе і стала плакаць.

— Вось, мая цялушачка, праз мяне ты смерць дастанеш сёння.

— Не плач, мая дзяўчынка, гэта так суджана. Але як зарэжа мяне мачыха, вазьмі мае капыткі і рожкі і ў зямлю закапай каля студні.

Мачыха зарэзала цялучашку, потым паварыла мяса. Наеліся бабіны дзяўчынкі з маткай мяса і пaляглі спаць. А падчарыца закапала ў зямлю капыткі і слязамі сваімі тую зямлю паліла.

І за адну ноч вырасла з тых капыткоў і рожак залатая яблынька з залатымі яблычкамі. На галінках гэтай яблынькі сядзяць пташкі нябесныя і спяваюць. А ў студні, блізка якой вырасла гэтае райскае дрэва, вада перамянілася на віно і паверх віна плавае залаты кубак.

Тоўпяцца людзі навокал залатой яблынькі — цуд! А ў той час прыгожы крулевіч быў на паляванні і ўгледзеў на хутары натоўп людзей і заехаў туды. І ўехаў проста ў натоўп.

Хацеў схапіць залатое яблычка, але пташкі нябесныя ўспырхнулі і галінкі з яблычкамі падняліся высока ўгору.

Хацеў ён зачэрпнуць кубак віна, але кубак затануў. Як адышоў, галінкі зноў апусціліся на дол і пташкі зноў селі і сталі спяваць. І зноў выплыў кубак у студні. А так моцна жадаў крулевіч папрабаваць залатое яблычка і цудоўнае віно, што сказаў:

— Дзяўчына, якой прыйдзецца сарваць для мяне залатое яблычка і даць мне кубак віна са студні, будзе маёй жонкай.

Мачыха кажа старшай дачцы:

— Ідзі, мажа, табе дадуцца яблычкі.

Як падышла бабіна дачка, нябесныя пташкі з яблынькі паўцякалі і яблынька падняла галінкі ўгору. Падышла да студні, хацела кубак дастаць, а кубка ўжо няма. Як адышла, пташкі зноў селі на яблыньку і сталі спяваць і залатыя яблычкі нізка апусціліся. І кубак у студні выплыў наверх.

Тады мачыха гаворыць на малодшую дачку:

— Мажа, табе прыйдзецца залатое яблычка сарваць і кубак віна дастаць.

Меншая падышла — галінкі падняліся ўгору, а пташкі паляцелі — не дастане. І кубак у студні таксама не даўся бабінай дачцы. А як адышла, яблычкі апусціліся і кубак выплыў.

А там людзі адзін за другім пачалі падходзіць да яблынькі і студні, і нікому не даліся яблыкі, і нікому не даўся кубак.

І сталі людзі гаварыць паміж сабой:

— А мажа падчарыцы прыйдзецца дастаць залатое яблычка і залаты кубак віна.

І пытаецца, дзе падчарыца. Бабіны дочкі кажуць:

— У хляве яна.

Пачуў гэта крулевіч і загадаў выпусціць падчарыцу. Адчынілі хлеў. Яна выйшла і як глянула на крулевіча, аж у яе сонца ў вачах бліснула. Ён і гаворыць:

— Панка, прошу вас сарваць залатое яблычка і дастаць кубак віна.

Як падышла яна да яблынькі, яблынька галінкі апусціла зусім нізка, і яна сарвала два залатых яблыка. Потым падышла да студні і зачэрпнула поўны кубак віна і паднесла віно і яблычкі крулевічу. Ён выпіў віно, закусіў яблычкам і сказаў:

— Дзякую вам, мая панна. Чакайце сватоў.

І ад'ехаў.

Вось назаўтра прыязджаюць сваты. Мачыха замкнула падчарыцу ў хлеў, а сваю старшую дачку ўбрала так, як была ўбрана падчарыца. І павяла сваю дачку да сватоў. Сваты падумалі, што гэта і ёсць нявеста.

Настаў дзень шлюбу. Мачыха зноў убрала сваю старшую дачку так, як была ўбрана Марыся, а Марысю замкнула ў курнік. Крулевіч адразу не пазнаў ашуканства, падзівіўся толькі, чаму нарачоная яго зрабілася такой нехарошай. І сумна задумаўся.

А ў Марысі быў пеўнік. Яна давала яму пшанічкі, дык пеўнік яе любіў. Падскочыў раптам пеўнік да крулевіча і тузае яго:

— Ко-ко-ко!

— Што такое стала з пеўнікам?— думае крулевіч.

Пеўнік дзюбнуў крулевіча і адбег. Крулевіч тады за пеўнікам. Зноў пеўнік дзюбнуў крулевіча і адбег. Крулевіч яшчэ зрабіў некалькі крокаў. А потым узняўся пеўнік на скрыдле і ўскочыў на страху хлява і закрычаў:

— Ко-ко-ко!

Жаніх ужо сочыць за пеўнікам. А пеўнік саскочыў з страхі і пад курнік.

Крулевіч думае: «Можа, падмянілі маю нявесту? Можа, яна ў курніку запёртая, як тады?»

Ён адчыніў курнік, аж яна ў курніку.

Тады ў бабінай дачкі адабралі заручальны пярсцёнак, што паслаў крулевіч Марысі. Павёз крулевіч Марысю да сябе ў палац. Там убралася яна. І ўзяў ён з ёю шлюб.

А залатая яблынька ў гэту ноч знікла, і віно ў студні зноў перамянілася на ваду.

Пажыў крулевіч з маладой жонкай год. Прыйшла вайна, крулевічу ваяваць трэба. А Марыся ўжо загрубела. Сабраў крулевіч войска, развітаўся з жонкай і паехаў на вайну.

Зараз прыйшла Марысі пара радзіць. Мачыха ўдалася за бабку і зноў падмяніла падчарыцу. Палажыла яна замест Марысі на ложка сваю старшую дачку, а Марысю вынесла ноччу сонную з палацу і павезла да мора. Кінула яе ў мора і закляла ў марскую рыбу.

Вайна скончылася. Прыязджае крулевіч. Яго сустрэла мачысіна дачка з сынам на руках. Прымячае ён, што паблажэла «жонка». Дык ён сабе думае: «Вось радзіла дзіця і паблажэла».

А мачыха кожны дзень насіла дзіця на бераг мора. Прыйдзе да мора і кліча:

— Марыся, рыбка, плыві шыбка, твой сынок плача.

Тая і плыве морам, аж вада на абодва бакі разбіваецца. Прыплыве да берага, бярэ дзіця і сосіць. Потым кажа:

— Няхай не плача, плач яму не паможа.

Пасосіць і зноў у ваду. А мачыха дахаты.

Аднаго разу паляваў крулевіч блізка мора на качак. Аж глядзіць — нясе цётка яго дзіця. Прынесла да мора і кліча:

— Марыся, рыбка, плыві шыбка, тваё дзіця плача.

Падкраўся крулевіч зусім блізка і схаваўся ў кустах.

Калі прыплыла рыба і стала сосіць дзіця, ён пазнаў сваю сапраўдную жонку. Хацеў ён кінуцца да яе, але стрымаўся. Ен яе пазнаў з твару, але яна была цяпер рыбай. І парашыў крулевіч ісці да ксяндза парадзіцца, што рабіць. Моцна ўсхваляваўся ён.

Назаўтра прыйшоў ён да ксяндза і расказаў яму ўсё. Ксёндз згадзіўся ісці туды разам з крулевічам і сказаў:

— Вазьму свянцонай вады і буду свянціць гэтую рыбу.

Прыйшлі яны да мора, схаваліся ў кустах і чакаюць. І дачакаліся. Прынесла мачыха дзіця і стала клікаць:

— Марыся, рыбка, плыві шыбка, твой сынок плача.

Бачаць — плыве рыба, аж вада на абодва бакі разбіваецца. Прыплыла да берага і ўзяла дзіця сосіць. І кажа:

— Плач не плач, нічога не паможа.

Тады ксёндз выскачыў з куста і махнуў на рыбу крапідлам і апрыскаў яе свянцонай вадой. І адразу Марыся абярнулася, як і была, жанчынай. Кінуўся крулевіч да жонкі. Абняліся, пацалаваліся яны. А мачыха перапалохалася і збянтэжылася. Няма ёй чаго казаць.

Калі яны прыбылі ў палац, крулевіч загадаў прагнаць бабіну дачку, а мачыху пасадзіць у вастрог. І пытаецца ён у сваёй жонкі Марысі, што рабіць з мачыхай: ці павесіць яе, ці расстраляць? Ну дык яна кажа:

— Я дарую ёй усё, няхай і бог даруе.

Але бог не дараваў. Мачыха ў той жа дзень захварэла і праз месяц памерла ў страшэнных пакутах. А Марыся з крулевічам жылі сто гадоў і былі шчаслівыя.

## 50. КАЗКА ПРА СІРОТКУ ДАРОТКУ

Вот так было. Былі, канешне, не старыя людзі. Каля іх была малая дзяўчынка. Яна звалася, тая дзяўчынка, Дароткай. Вот як памерла матка, ажаніўся бацька з другою. Яна вельмі такая нелагодная была, гэта мачыха. Вядома ж, ад мачыхі ўсё найбольш пападаецца, рэдка калі сіраце ў дабрату. А ў гэтай

мачыхі была свая дзяўчынка. Дзяўчынка гэта называлася Ганька. Гэта ж была сіротка Даротка, а тая была Ганька-гулянька, бо яна ўгулівала болей, ніколі яе нідзе не пасылалі, ні на якую работу, пакуль яна расла, малая была. А як падрасла, то ўсё роўна яна гуляла, а сіротку Даротку з малых дзянькоў пагналі на пасту.

— Гані, сіротка Даротка, на пасту і не думай, што ты будзеш там сядзець ды толькі на карову глядзець. Нада, каб ты яе папасціла і работу зрабіла, і ні ябы-якую работу. Вот бяры кудзелю, і вялікую кудзелю, і штоб ты яе зараз у дзень спрала і выткала, і выбеліла, у трубачку скруціла і дамоў прынесла.

Вот так. Тады гэта сіротка Даротка моцна ж устрывожылась — як жа ж яна гэта зробіць. Гоніць карову, і такая смутная. Кароўка кажыць, вядома ж у басні, кажыць:

— Што ж ты, сіротка Даротка, такая невясёлая?

— Ды як жа быць вясёлай,— адказваець,— я ж гэтага не зраблю, што мне мачыха заказала. Яна ж мяне саб'ець на горкае яблыка.

— Нічога, сіротка Даротка, не бядуй. Вазьмі мяне добранька папасі, тады спацькі ляж.

Вот так яна, гэтая дзяўчынка, і зрабіла, гэта сіротка. А там блізка мора было, гэта каля мора пасвілася яна. Напаіла яе і накарміла. Выйшла тая кароўка да мора і кажыць:

— Дзеўкі марскія, да выйдзіце, да паслухайце тэй сіроткі Даroткі.

Вот. Січас на заваланне і ёсць гэтыя сорак дзевак, сорак верацён. А красавіцы ўсе такія, як на падбор, проста ўглядзенне. Ну што ж, січас усе як вылезлі, усё зрабілі і ў трубачку скруцілі, і яшчэ гэтай кароўцы на рожкі палажылі. Палажылі на рожкі, і гоніць гэта сіротка Даротка кароўку. Рада, прыгнала; глядзіць мачыха і вачам не верыць:

— Што ж тут, адкуль бярэцца, як гэта можа стацца такое? Гэта ўжо нядобра нешта.

І думаець: «Не, гэта што, яна ж уславіцца моцна з гэтага. Да што ж мая Ганька-гулянька? Нада сваю прыгнаць, няхай і мая гэтак прыкладаецца, дакуль жа будзе ґарсаць па вёсцы без работы».

Вот так. І ўзяла ж яна ўжо сваю выправіла.

— Гані, Ганька-гулянька, на пасту і папасі карову. Як сабе хочаш: пасі не пасі, але каб гэта зрабіла і ты, а то ж будзець стыдна табе проціў сіроткі Дароткі.

— Добра ж, мама, добра, зраблю, зраблю.

І пагнала. Гоніць, хлісць гэтаю папугаю па карове.

— Го, тутака будзеш агіляцца, ідзі, каб цябе воўк.

І гэдак яе ўсё, а гэту кудзеліну валачэць пад пахай. Ну што ж. Ні яна гэту карову пасець, ні на яе глядзіць. І тут села, узяла неяк сукам нейкім круціць, ужо ж не верацёнам, дзе ж ёй верацёна брацъ. Ды смактала, смактала гэту кудзеліну, звайлачыла. Нічога не палучаецца. І кінула, закляла ўсё чыста.

— Го, якая тут ужо работа мне, нагрузіла гэтак матка мая родная.

І гоніць. Карова тошчая, не напіўшыся, не наеўшыся, і малака мала дала. Што ж гэта такое? Вачам не верыць матка.

— Чаму ж так палучылася?

— Ай, мамка, каб яе ваўкі, такую карову. Я ўзяла трошку адышлася, дык яна мне сасмактала гэтую кудзеліну, і во якая шкода.

— Ну, нічога, дачушка, не ўнывай. Мы яе тут скора зарэжам, рашымся з ёю.

Ах, як жа ж устрывожылася сіротка Даротка. Падышла, кароўку абняла:

— Мая кароўка, мая малоўка, што ж я рабіць буду без цябе, я ж прападу.

Дак кароўка кажыць ёй у атвет:

— Нічога, сіротка Даротка, не бядуй. Толькі будзь такая ўжо акуратная і глядзі, штоб ты не прамаргала гэтага дзела. Як будуць мае чароўцы разбіраць, ты да іх прыглядайся: там будзець зярнятка і шалупінка. І пасадзі іх, дзе тваё жаланне.

Яна тады ўжо задумалася: «Як жа тут мне прыступіць к гэтай рабоце, ці дадуць?» Аж тут надта цяжка не было, на горшую работу і пхалі гэту дзяўчынку. Січас яна стала разбіраць чароўцы, так і знайшла зярнятка і шалупінку.

Ну й яна ціханька, нікому не кажучы, як найшла гэта ўсё, й тую шалупінку, і тое зярнятка, пасадзіла пад акном. І ўлажыла гэтую шалупінку, арэхавую такую, і там сталася крынічка. І гэта дрэўца січас жа вырасла. І такое красівае, такія яблыкі! Ну што дух такі ад іх прыятны, такі запах. Вось жывуць яны, глядзяць, што гэта такое: прыляціць мачыха вырваць яблык — ніяк не можа. Як толькі падойдзець, руку працягнець — яблыкі ўгару. Падляціць Ганька-гулянька, як толькі падляціць — знова таксама. Падойдзець сіротка Даротка — да яе апусцяцца тыя яблычкі ўніз. Яна і вадой поіць усіх, яна і яблыкамі корміць. Вот едзець пан. Едзець пан, слухаець, што ж тут так пахнець, нідзе такога запаху прыятнага нет з дрэў, як тут. І відзіць, што

проста з крыніцы б'е такое нейкае фантанам. І вады яму захацелася выпіць і каб яблыка тое з'есці. Заскочыў у хату і кажыць:

— Ці можна мне яблычка гэтага вырваць?

— Папрабуй.

Вот ён падняў руку, гэтыя яблыкі тожа шух! і пайшлі, падняліся ўгару. Ён прыйшоў:

— Што ж такое? Усё ж такі нада каштаваць мне іх, нешта яны мне непаслушныя ўжо. А хто мне гэта яблыка дасць пакушаць, я таго за жану вазьму.

А такі багаты, красівы пан. Вот яна:

— Ідзі,— на сваю дачку,— Ганька-гулянька.— Яны ўжо падраслі, тыя дзяўчынкі.— Ідзі!

Паляцела, нават і не ўпіралася надта. Січас яна тут хоп яблыкі рваць. Зноў уверх гэтыя сукі. Мак кубкам зачарэпаць гэтай вады — а не. Яна са злосці давай палкамі шпуляць на яблыню. А яна ўверх, уверх і пайшла ўгару, сама яблынька гэта. Ганька хацела засыпаць гэту крынічаньку, а тая сама закрылася вечачкамі. Ну што ж, няма рады. А нада гэтых яблыкаў. Ужо выходзіць каляі ісці гэтай сіротцы Даротцы. Як выйшла, як падняла руку, гэтыя яблычкі апусціліcь аж да зямлі. Яна нарвала, вады зачарэпнула і прынесла, угасціла гэтага пана. Вот гэты пан пакушаў, пaглядзеў на красату — красівей за гэтую самую Ганьку-гулянъку — і сказаў:

— Вот тут не абідна ўжо: чаго я дабіваўся, таго і дабіўся. Я сказаў, хто мне падасць гэтых яблыкаў, я таго і замуж забяру.

Вот ён і высвабадзіў Даротку з сіроцтва і з пакуты.

## 51. КАЗКА ПРА ЗАЛАТУЮ ЯБЛЫНЬКУ

Жыў дзед і баба. І былі ў іх дочкі: дзедава дачка і бабіна. Дзедаву дачку звалі Галя, а бабіну — Юля.

Баба сваю родную дачку песціла, а дзедаву хацела, каб са свету звесці.

Пайшоў аднойчы дзед на кірмаш і купіў бычка-трацячка. Прывёў дамоў і кажа:

— Будзеце пасвіць яго па чарзе.

Пагнала першы дзень бычка пасвіць дзедава дачка. Мачыха дала ёй верацяно і кудзелю.

— Глядзі,— кажа,— каб за дзень усю кудзелю спрала, кросны выткала, палатно выбеліла і ўвечары дамоў прынесла.

Вывела Галя бычка з хлява і пагналя яго на пашу. Гоніць яна бычка і плача.

А бычок пытаецца:

— Чаго ты плачаш?

— А як жа мне не плакаць? Загадала мне мачыха гэты мех кудзелі спрасці, кросны выткаць, палатно выбеліць і ўвечары дамоў прынесці. Ці я ж зраблю гэта за дзень?

— Не плач,— адказвае бычок,— я табе дапамагу.

Прыгнала Галя бычка на пашу. Наеўся бычок і кажа:

— Кладзі мне ў правае вуха кудзелю і верацяно. А сама хукні ў левае вуха і глядзі, што будзе.

Зрабіла гэта Галя і глядзіць. А там — кудзеля прадзецца, кросны ткуцца, палатно беліцца.

Як усё было зроблена, выняла Галя гатовае палатно і пагнала бычка дамоў.

Мачыха сустрэла яе на двары і спытала:

— Спрала кудзелю?

— Спрала,— адказала Галя і падала ёй гатовае палатно.

Мачыха аж за галаву ўзялася, такую работу зрабіла яе падчарыца.

Прыйшла чарга гнаць бычка бабінай дачцы. Дала і ёй маці кудзелю.

Узяла Юля дубец і пагнала бычка. Гоніць ды ўсё б'е яго дубцом. А бычок пачаў кідацца туды-сюды. Бегала Юля за ім і верацяно згубіла.

Прыгнала яна бычка на голы выган, а сама спаць уклалася. А бычок кудзелю ў гразь утаптаў.

Прачнулася Юля, глядзіць,— кудзеля ў гразі. Схапіла яна дубец і пачала бычка біць. Прыгнала дамоў бычка, а маці пытае:

— Ну як, зрабіла работу?

— Ды не — бычок вінаваты.

Узлавалася мачыха, пайшла да дзеда і кажа:

— Зарэж, дзед, бычка!

Пачула гэта Галя, пабегла ў хлеў да бычка, абняла яго за шыю і заплакала.

— Чаго ты плачаш?— пытаецца бычок.

Расказала яму пра ўсё Галя.

— Не плач,— кажа бычок.— Як мяне зарэжуць, вазьмі маю печань, там знойдзеш залатое зярнятка. Пасадзі тое зярнятка каля хаты.

Галя так і зрабіла.

Вырасла з зярнятка яблынька з залатымі яблычкамі.

Ехаў аднойчы з вайны малады гусар. Спыніўся і хацеў сарваць яблыка, але яблынька раптам паднялася.

Убачыла праз акно Галя і кажа:

— Пайду я сарву яму яблычак.

А мачыха як закрычыць:

— Я табе галаву сарву!

Паслала яна Юлю. Падышла яна да яблыні, а тая і паднялася ўгору. А тут якраз хадзіў па двары пеўнік і закукарэкаў:

— Дзедава дачка над ночвамі сядзіць, а бабіна хоча яблыкі яе сарваць ды за пана замуж выйсці.

Пачуў гэта гусар і пайшоў у хату. Знайшоў дзедаву дачку і вачэй ад яе адарваць не можа. Папрасіў яе гусар, каб яна сарвала яму залаты яблык.

Падышла Галя да яблыні, і ўсе яблыкі ўпалі да яе ног. Сабрала яна іх і панесла гусару. Гусар пасадзіў яе на каня побач з сабою і павёз да сваіх бацькоў.

Тым часам злая мачыха не магла заснуць ад зайздрасці. Аднаго разу кажа яна сваёй дачцы:

— Схадзі да сястры ў госці. Пакліч яе купацца і ўтапі.

Так і зрабіла Юля. Чакаюць дома Галю — няма. А малы сын плача, ніхто суцешыць не можа. Узяла яго нянька і пайшла ўздоўж рэчкі. Пачула Галя плач і кажа:

— Ой, цяжка мне выйсці да сына.

Пачуў сын матчын голас і яшчэ мацней заплакаў.

Выйшла маці з вады, накарміла сына — ён і заснуў. А сама назад пайшла.

Вярнулася нянька дамоў і расказала ўсё гэта.

Назаўтра сам бацька пайшоў да рэчкі. Пачула яго голас Галя і выйшла на бераг. Пакарміла сына, і ён заснуў. Тады муж ёй даў залаты яблык. Як толькі яна ўкусіла залаты яблык — адразу апрытомнела.

Прыйшлі яны дамоў і зноў сталі жыць добра і шчасліва.

## 52. ІВАН БЕЛАРАСЕЙСКІ

Неўкаторым-то царстве, неўкаторым-то гасударстве жыў так кароль. І празванне яму далі Беларасейскі. І сам ён Іван, і сын у яго тож Іван быў. Жывуць да пажываюць, ядуць хлеб да паядаюць. І сын гэты яго бальшы быў ахвотнік дужа, хадзіў усё па [а]хвоце. І многа разоў хадзіў, то нічога й не відзеў. Адзін раз пайшоў, папаў мужычка-худачка на полі аручы. Кабылка яго дрэнная, жарабочак у яе харошы. Упадабалася гэта Івану Іванавічу. Давай ён у мужычка-худачка спрашваць:

— Прадай мне, мужычок-худачок, гэтага жарабочка!

— Ах, панічок, я сам рад, што даждаў.

Адказуець яму панічок, што ты шчэ не даждаў, шчэ толькі ўвідзеў.

— А прадай, прадай,— каець,— я табе многа грошай дам!

— А колькі ты мне дасі?

— Ды колькі я табе дам — я табе дам сто рублей!

А бывала ж руб[ель] і то бальшыя грошы, а сто рублей — гэта ўжо дужа многа. Падумаў, падумаў гэты мужычок:

— А, аддам,— каець,— няхай сабе!

— Да ты,— каець,— купіш сабе за гэтыя грошы чатыры кані, а захочаш два, дак ты хазяйства сабе нажывеш.

Ну, і аддаў. Ён забрытаў яго і павёў, так што кабыла гэта не зарзала, жарабочак не запішчэў. Потым прыводзіць дамоў, паставіў на стайню. Потым, тую ж самую ноч, сасніласяя яго бацьку Івану, што купіў твой сын жарабка сабе на спамінання, а бацькавай галаве на сцянання! Цяпер ён устаў, сядзіць і думаець: «Што з гэтага будзець? Вазьму-тка я соннік, пагляджу, ці не ўвіджу я што пра гэта!»

І так ён сабе разабраў, што гэта нехарашо-такі яму. Тады ён думаець сам сабе: «Ну, лепі ж вазьму я яго да маленькага страчу, утаплю, хоць не так мне жалка будзець!»

Даў бог дзень, от ён удзень пазваў яго к сабе:

— Іван,— каець,— хадзі-тка я табе нешта скажу!

Ён прыйшоў:

— А што, тата, скажаш?

— Пойдзем-тка,— каець,— з табой, пакажу я табе граніцу на моры, бо ты яшчэ мал, а я стар, часам скора памру, ты не будзеш ведаць нічога!

— А пойдзем, тата!

Яму не так гэта граніца, як абы бегчы. Пайшлі. Ідзець ён сабе да й раздумаўся гэты бацька, што плахія такія думкі ў яго

на мазгах. Ідзець сабе ўтупіўшысь, нікуды не глянець. А гэты Іван, яго сын, усё бегаець: у вадзін бок забяжыць, у другі забяжыць. Потым забег — стаіць ябланка, а на ёй ёсць яблачкі, ён узяў шыбнёў і стаў шыбаць і яблачкі збіваць. Ябланка гэта яму гаворыць:

— Іванька, Іванька, ах ты каралевіч! Не збівай ты маіх яблачак. А от ёсць на мне сухое суччa, вазьмі наламай ты два пучкі, навяжы, адзін падвяжы пад адну паху, а другі пад другую — табе ўсё-ткі и ночы к цёмнай згодзіцца!

Ён здзелаў, наламаў, навязаў і пад пахі падвязаў. І пабег услед за бацькам. Бацька на яго ўсердзэіўся, зачым ён абы-куда забягаець:

— Зачым ты,— каець,— забягаеш, чаму ты не йдзеш услед за мной?

— А я,— каець,— забягаў туды-сюды, яблачкі збіваў!

А гэтага не сказаў!

— Ну, хадзі,— каець,— барджэй!

Ну й прыходзяць к гэтаму мору да й к сіняму.

— Ну вот,— каець,— па[г]лядзі-тка, дзе граніца; ву-у-н, ву-у-н белы камень!

— Дзе, дзе?— каець.— Я не віджу!

— Да вун,— каець,— падыдзі пабліжы!

А там зусім ніякага й каменя не было дажа, на белым моры. Ён падышоў да й нагнуўся і [г]лядзіць у мора. Ён яго ўзяў да й піхнуў, бацька сына, а сам, каб не бачыць і не чуць, як ён крычаць будзець, ні крыку да й ніякага голасу («Можа, пажалею, думаець сабе, дак каб не выцягць») і пабег адтуляцькі.

Ну, як ён упаў у мора, дак яго рыбіна вялікая і ўжрала. Патом, ён занімаўся папяроскамі — ужо курыў,— і была ў яго сярнічка, і ёсць у яго з гэтае ябланкі суччa два пучкі, от ён і стаў цяпло там класць. Разлажыў цяпло, нож выняў, стаў яе рэзаць тамака, печ і есці. Пранасіла яна яго там дзень, а можа два, не магла вытрымаць, што ёй, значыцца, дужа жарка. Яна ўзяла яго карханула да й вон на бераг. Ну, а якая там на ём была адзежа, дак і пагніла. І астаўся ён голы. І думаець ён тады сабе на беразе: «Куды мне ісці, што рабіць, дамоў мне ісці, дак не ўтапіў бацька, дак засячэць або завесіць; пайду куды вочы глядзяць». Надумаўся: «Пайду на шлях, па-простаму на гасцінец. Хай там-такі болі людзі ходзяць і ездзяць і сядзяць ля дарогі, і можа хто мяне возьмець». І пайшоў і сеў. Па[г]лядзеў, па[г]лядзеў — не чуць нікога да й не відаць, хацеў ужо ўбрацца адтуль ісці, але думаець сабе: «Не, пасяджу яшчэ троху». Ажно

пачуў — нехта стучыць, едзець. Потым і ўвідзеў — аж з бальшой карэтай. І так яму стала тады стыдна.

— Не,— кaeцъ,— гэтых прапушчу, сыду на бок, захаваюсь, бо гэта або які пан, або кароль,— сам сабе думаець.

Узяў ды сышоў на бок ды сеў пад куст, схаваўся. Бег з імі маленькі сабачка; як узбег на гэты след, прыбег да й брэшаць на гэтага Іваньку на каралевіча. Ажно й то ехаў кароль, другі. Ну, сабачка гэты брэшаць на яго. Гэты кароль каець:

— Стой,— на хурмана́.— Ідзі ты,— каець,— па[г]лядзі, гэта сабака не так брэшаць, там нехта ёсць.

Ён злез, гэты хурман, і пайшоў. Прыходзіць туды, аж хлопчык голы сядзіць. Тады ён кажаць:

— Хлопчык нейкі голы сядзіць!

— Які сабе,— каець,— ёсць, вядзі яго сюды!

Ён яго ўзяў і прывёў к гэтаму каралю.

— Чым цябе,— каець,— завуць, хлопчык?— кароль пытаецца ў яго.

— А?— каець,— Што? Мяне чым завуць? Мяне завуць Іванам, і бацьку тожа майго Іванам!

— А яшчэ чым?

— Каралевічам.

— А,— ён каець кучару,— гэта, пэўна, мой сын, у мяне ж акурат такі сын. Як ты,— каець,— прыйшоў сюды?

— Да я,— каець,— і сам не знаю,— салгаў,— хто мяне сюды ці прынёс, ці прывёз!

— Ну, які ён сабе ёсць не ёсць, павязу дамоў.

Увярцеў, у сваю карэту ўсадзіў, і паехалі. Ехалі праз мястэчка праз якое, ён яму ўзяў да адзежу і купіў, якраз на яго. Прывозіць дамоў, аж і свой сын ёсць дома. Як прывёз, злучыў, дак і не ўвазнаець, каторы сын родны, каторы находны.

— Ну,— каець,— які сабе ёсць не ёсць, гадуйся,— каець,— няхай адзін сын будзець родны, а другі находны.

І ўдаліся яны волас у волас, голас у голас, ліцо ў ліцо, і ўсё як адзін. Ну, і жывуць яны, гадуюцца, і ніколі яны ні за штс не сварацца, вот як дзеці, вядома. Ніколі. Так адзін аднаго і завуць: ты брацец родны, а ты брат находны. Ну, жылі, ужо яны і параслі, і стары ўжо стаў гэты кароль. Вядома ж, скора казка кажацца, да не так яно скора дзеецца, як кажацца. Гэты кароль ужо стаў дужа стар.

— Ну вот, дзеці, што я вам скажу: адзін сын родны, а другі находны, і распішу я вам сваё каралеўства папалам, і каб вы па маей смерці жылі-пажывалі і часта мяне паміналі.

Ну, пражыўшы нямнога, і памёр, распісаўшы ім сваё каралеўства гэта. Ну, жывуць яны, пажываюць і часта бацьку памінаюць. А ўсё-такі межда сябе харашо жывуць, ніколі не сварацца. Жывуць і пажываюць і ўсё бацьку памінаюць. Ну, потым, пражылі колькі і кажуць самі межда сябе ўдвух, разгаваруюць:

— Што ты,— каець,— ведаеш, брат родны, я думаю, каб мы каторы жаніліся.

— І я хацеў,— каець,— табе, брат находны, даўно гэта казаць! Я-ткі думаю: ты, брат находны, жанíся!

— А не, брат родны, ты ўсё-ткі родны, а я находны: табе трэба ўперад жаніцца, а я толькі буду за свата табе; я-такі ведаю дзеўку добрую!

— Ну, няхай сабе буду і я; а дзе ж ты ведаеш і дзеўку?

— А ведаю,— каець,— далёка: ёсць у некаторым царстве, у некаторым гасударстве, ці можа ў том, у яком мы жывём, і ёсць нейкі кароль, і ёсць у яго адна дачка. Пойдзем ёй у сваты, не так паедзем, а пойдзем. Схадзі ты,— каець,— на места!

— Чаго ж я пайду?

— Купі,— каець,— там шэрага сукна, простага мужыцкага!

— Да на што табе, ці ў нас надзець нечага?

— Не, я хочу гэтакага!

Паслухаў ён, пайшоў, гэты брат родны. Купіў гэтага сукна, шэрага, простага, мужыцкага. Купіў, прыносіць дамоў. Ну, пазвалі краўца, і пашыў гэты кравец сярмяжку з гэтага сукна і шапку. Пашыў, і ён надзеў, гэты брат находны.

— Во цяпер,— каець — ці ладна?— каець на брата.

— Якое ладна, дужа дрэнна, сусім нельзя выйці і на людзі. Мы ж такі названыя каралевічы, а гэтак надзеўшыся дрэнна ў сярмягу.

Ён каець:

— Няхай сабе! Ты ж, брацец, будзеш маладзенец, дак ты надзеньсся ладна, а я ўжо вядомы сват!

Ну, вот надзеў гэтую сярмягу, гэтую шапку да й кажаць:

— Ну, цяпер жа ты мяне не заві ні Іванам, ні братам, а заві што Івашка Шэра сярмяжка. Цяпер мяне ўсюдах будуць звацЬ!

Ну, выбраліся і пайшлі ў сваты. Потым падышлі пад гэта каралеўства, куды яны ўжо йшлі ў сваты, і паслалі пісьмо наперад, падышоўшы ўжо троху. Палучыў гэты кароль пісьмо гэта ад іх, што ідзём к табе ў сваты Беларасейскія каралевічы. Потым яны ідуць, ідуць і прыходзяць у такую пушчу, у драмушчу, што

ні ўздумаць ні ўзгадаць і ні ў казцы сказаць, аж у тэй пушчы ляжыць чалавек, надзеўшысь дужа крэпка: штаны суконныя, кажух цёплы, армяк добры і шапка вушатая. Ляжыць да ўсё крычыць — а гэта дзеялася ўлегку — да й крычыць:

— А-ай, сцюдзёна, а-ай, сцюдзёна!

— Ты схадзі-тка,— каець брат родны,— па[г]лядзі.

— А не, ты не заві мяне братам, скажы: «Схадзі-тка, сват, па[г]лядзі!»

— Ну, схадзі, сват, па[г]лядзі, што там такое, мусіць, ён нам знадабіцца.

Ну, брацец находны пайшоў, па[г]лядзеў.

— Што ты гэта,— каець,— ляжыш так надзеўшысь, гэта ж дужа жарка: у нас сарочкі на спінах, і то нам цяжкі.

— Ну, а мне,— каець,— зімой цёпла, не то цёпла — саўсім горача.

— Хадзі-тка,— каець,— з намі, можа мы цябе нагрэем.

— Ну, пайду!

Устаў і пайшоў разам з імі. Ну й прайшлі колькі там урэмя — не так то скора дзеецца, як скора кажацца,— прыходзяць у такое поле вялікае, што ні ўздумаць, ні ўзгадаць і ні ў казцы сказаць. На тым полі тож поўзаець і ўсё сабіраець разных там і жаб і казявак, разнае там паскудства, там і жукоў, і мух там, і крычыць: «Есці»! Бо яго ўжо мужыкі выгналі із дзярэўні, што ён усё па[а]б'ядаў і ніколі не наеўся. Тады ён каець, Івашка гэты Шэра сярмяжка:

— Што я,— каець,— усё цябе буду слухаць,— схадзі-тку ты па[г]лядзі, што там за чалавек такі?

Пайшоў гэты маладзенец і па[г]лядзеў. Каець:

— Чалавек сабіраець усё да есць і крычыць: «Есці!»— Чаго ты крычыш,— каець,— ты ж бы пайшоў у дзярэўню да й пад'еў хлеба!

— А мне,— каець,— хлеба многа трэба!

— Ну, дак хадзі ты з намі, можа мы цябе накормім!

— О-ё-ёй, зачым,— кажаць,— пайду!

Ну, ідуць учатырох ужо разам. Прайшлі колькі ўрэмя знова — не так жа скора дзеецца, як скора кажацца,— прыходзяць апяць у пушчу ў драмушчу, што ні ўздумаць, ні ўзгадаць і ні ў казцы сказаць. І потым крычыць там «Піць!» і якраз па бараду ў вадзе стаіць у вазяру. І пачулі гэтыя ж сваты, што ён крычыць: «Ай, піць, ай, піць!» Кажаць гэты ўжо Івашка Шэра сярмяжка:

— Сходзі-тка ты — каець,— па[г]лядзі, хто гэта там крычыць і дзе.

Пайшоў гэты маладзенец туды і па[г]лядзеў, аж стаіць чалавек у вадзе і па самую бараду ды й крычыць:

— Піць!

— Ая-яй,— каець,— чаго ты крычыш гэта, у вадзе стоючы? Трошку прысядзь, не болі як на вяршок, дак і нап'ешся.

— Ага,— каець,— дзякую табе за тваю добрую ласку, я ж як нап'юся, дак усю ваду і вып'ю, а тады другі раз што я буду піць?

— Да ну-тка, ну,— каець,— сагніся трошку да й вады напіся!

— А што ж ты мне дасі тады, як я вып'ю?

— Ну вот!

— Глядзі ж, каб праўда гэта твая была.

Ён прыгнуўся, як смаргануў, дак усю адразу і праглынуў. Асталіся там ракі і рыба, і жабы! Гэты Аб'ядала туды тады да ну-тка церабіць, церабціь. Паеў усё, пачысціў. Тады ён:

— Ну, што ты, Апівала, напіўся?

— А дзякуй табе за добрую ласку, напіўся. Што я буду ў другі раз піць? Напіўся не напіўся, толькі разазліўся!

— Ну, хадзі разам, можа напоім мы цябе! А ты, Аб'ядала, наеўся?

— Ах, каб я,— каець,— наеўся, то б я і саўсім рассеўся!

— Ну, пойдзем разам усе.

— Да ўжо цяпер каб вы і не хацелі мяне ўзяць, дак ба я пайшоў.

Ну й пайшлі разам. Ішлі яны некалькі ўрэмя — не так жа скора дзеецца, як скора кажацца,— і падходзяць к гэтаму каралю. І прызнаваюцца, што такія і такія ідуць сваты к табе ў сва́ты. Ён кажаць ім:

— Хадзіце, хадзіце, я доўга жду гэтакіх, я ля вас ужо, ля падарожных людзей, прыгатовіў ужо лазню!

— Ох, дзякуй табе: нам гэта дужа добра падарожным людзём, што мы к вам ідзём.

— Ну, хадзіце, хадзіце барджэй.

От яны падходзяць; яшчэ можа вёрст пяць было ад гэтай лазні, а лазня гэта цугунная да так натоплена, што аж чырвона. От ім так горача дужа. А гэты Мароз рад:

— О, тут нагрэюся!

Ну, гэты Івашка Шэра сярмяжка каець:

— Ну, Мароз, паскарэй жа грэйся, паскарэй, а то нам гара́ча. Гэты Мароз, пакінуўшы іх, да шчэ бліжы пабег к гэтай лазні, узяў да штаны здзеў да як пусціў дух, так у гэтай лазні ужо вада замерзла. Так яны ўсе туды бягом, от і сталі там стукаць гэтымі катламі. А тады кажуць:

— Вот, кароль, не сабраў ва ўсім сваім каралеўстве дроў і лазні не натапіў харашо!

— Ну, аднака сваты!— гэта кароль ужо каець.

— Ну, сваты не сваты, калі б не сваты, к табе б у сваты не йшлі.

— Ну, цяпер вам можа хочацца выпіць?

— О-ё-ёй, зачым!

— Ну, калі вып'еце, колькі ёсць у маім дварцу віна і гарэлкі, усю калі вып'еце, дак аддам дачку за вас замуж!

— Ну, што будзець? Апівала, ці бярэшся ты?

— Пап'ём (шэпчуцца). Вы толькі што смашнейшае, тое піце, а мне ўсё кідайце.

Ну й пайшлі яны ў парадак. Вялеў гэты кароль, колькі ёсць віна і гарэлкі, вялеў выставіць на двор. Ну, яны выпілі там: Апівала ўсё папіў, яны мала пілі. Аб'ядала жджэць, ці скора дадуць есці. Папілі ўсё, тады і кажуць яму:

— Ах ты, кароль, кароль! На пяць чалавек ты й то ж не сабраў напаіць, нам яшчэ мала.

— Ну, аднача сваты!— гэты кароль ужо каець.

— Ну, сваты не сваты, калі б не сваты, к табе б у сваты не йшлі.

— Ну, цяпер есць ці хочаце?

— О-ох, зачым? Памыўшыся да напіўшыся дак добра б пад'елі!

Прыказаў гэты кароль сваім слугам — колькі ёсць у яго валоў, кароў, усіх парэзаць, катлы на дварэ павесіць і мяса гэта паварыць і сватоў накарміць. Ну, парэзалі, паварылі. Сватоў кармілі да не накармілі. Аб'ядала гэты і пайшоў па-своему:

— Вы,— каець,— выбірайце сабе, што патлусцей, а мне,— каець,— усё кідайце: і косці, усё!

Ну, і папілі і паелі ўсё гэта. Тады кажуць:

— А-ай! Кароль, кароль! Не сабраў чым і сватоў накарміць. Елі, елі і не пад'елі!

Ну, кароль гэты і кажаць:

— Аднача сваты!

— Ну, сваты не сваты, калі б не сваты, к табе б у сваты не йшлі.

— Ну, цяпер сабе можаце адпраўляцца і там на якое чысло можаце прыехаць, саўсім на вяселле!

Ну, яны з гэтым з каралём распрашчаліся і пацалаваліся. Пайшлі назад сваёй дарогай. Прыходзяць жа к таму месту, дзе крычаў піць Апівала, пайшоў узноў у сваё тое вазяркó — вады ўжо поўна.

— Дзякуй вам, што вы мяне хоць раз напаілі!

Улез — як крычаў, так і крычыць — «піць!» Гэтыя астальныя пайшлі далі сваёй дарогай. Прыходзяць жа ўзнова к таму месту, дзе крычаў тэй Абжора. І пайшоў:

— Дзякуй вам, што вы мяне хоць раз накармілі на маім вяку!

Ну, і пайшлі астальныя дальшы дарогай сваёй. Прыходзяць знова к таму месту, дзе гэты Мароз казаў «сцюдзёна».

— Дзякуй вам,— каець,— што мяне на маім вяку хоць раз вы нагрэлі!

І пайшоў. Як крычаў, так і крычыць. А гэтыя ж удвух браты пайшлі дамоў, брат родны і знаходны. Прыйшлі дамоў, многа не думаўшы, паехалі на вяселле. Брат гэты родны кажаць:

— Ах, брацец знаходны, паедзем мы на вяселле, дак скінь ты гэту сваю сярмяжку, а то будзець нам дужа стыдна.

А ён каець:

— А няхай сабе, які свату стыд!

Потым, не доўга думаючы, сталі яны сабіраць прочых каралёў на вяселле, вяселле гуляць начынаць. Ну, і сабраліся ехаць. Ну, як увідзелі, што ён гэтак надзеўшысь, Івашка Шэрая сярмяжка, нашто ён нам гэтакі? Будзець нам дужа стыдна, што мы едзем, прыбраўшыся дужа прыгожа. А тэй жа кажаць:

— Як жа нам ехаць без свата? Мы яго схаваем міжда нас, ён нікому не будзець відзен!

— Не,— каець,— будзем з карэт вылязаць, будзець усякаму відаць!

Ну, потым узялі-ткі яго. Едуць, едуць да ўсё пагаваруюць:

— Не, нешта нам нехарашо! Возьмем да яго засячом, а то ён нас дужа стыдзіць!

— Ай не,— каець,— куды мы паедзем без яго? Усё-ткі ён наш папутчык, ён жа наш сват!

— Не, хоць так скінем!

— Ну, кідайце, толькі бы не губіце,— усё тэй маладзён іх просіць.

А ён сядзіць, бытта бы і нічога не чуець. Ён-то не дужа іх баіцца. Потым не ўцерпелі, узялі скінулі з свае карэты. Ён бег-

чы ўслед, да: «Ах, божа мой, божа мой, за што я так гарую? Дай мне, божа,— каець,— каня, каб палепі за іх». Так і даў бог яму. Ён сеў, за сватамі і паехаў. І такі ён, што ні ўздумаць, ні згадаць, ні ў казцы расказаць, што прама вот пазлачана ажно. І наперад заехаў ім. Як было ім стыдна, дак яшчэ болі стала, што гэтакі сярмяжка да едзець на таком добрым кані. Потым яны кажуць:

— Не, мы-такі ўсё яго засячом, гэтага Івашку Шэрая сярмяжка!

— Ай ну, братцы, ну што вы кажаце,— маладзенец гэтак,— дос[ыць] вы яго раз скінулі. Лепі мы ўзнова возьмем яго, а гэтага каня пасярод возьмем, ён будзець усіх акрашаць, як будзець ехаць.

Ну, потым яны паслухалі гэтага маладзенца, яго к сабе ўзялі, а гэтага каня межда сваіх упраглі. І паехалі дальш. І недалека ўжо да гэтага караля, пасылаюць яны папераду пісьмо, каб кароль прыслаў пад маладога коней, бо далекая пераездка. А то іх ужо быццам-то прысталі. Потым уехалі ў нейкае мястэчка, і жыў там каваль, і ўсё каваў і прыковываў, і пляскаў і прыплёсківаў. Гэты Івашка кажаць:

— Стойце,— каець,— тут! Тут мне адна вешч трэба.

Ён злез, ідзець к гэтаму кавалю.

— Памагай бог!— гаворыць.

— Дзякуй, Івашка Шэрая сярмяжка!

— Паслухай ты мяне, што я табе скажу!

— Ну-тка, што?

— Скуй ты мне аброць, каб-такі па крайней меры пудоў з дванаццаць!

— Ого, нашто табе гэтакая?

— Што табе да гэтага, мне трэба — табе не знаць, а мне не сказаць, нашто гэта!

— Э,— гэтыя думаюць сабе, каторыя ехалі ўжо сабраны дружына,— гэта ж ён нешта знаець! А мы яго шчыталі за такога чалавека, за дрэннага.

Потым яны паехалі далей. Скаваў каваль аброць, ён кавалю за гэту аброць тое даў, што ён сказаў. Ад'ехалі трохі ад гэтага каваля, прысылаець кароль пад маладога кабылу, што з дванаццаці чартоў скаваўшы, каб яна ўжо маладога разнясла і развязла, каб ніколі яго не ўвідаць і не спазнаць. О-ох! Яна бяжыць і гагочыць. Гэты малады хацеў на яе сесць.

— Не, брат родны, стой, не садзіся, я-тку сяду, яе аб'еду!

Узяў, сеў на свайго каня і наўпроці яе паехаў. Яна падбегла к каню, як свіснула ў ноздры — конь гэты і паваліўся, а ён на яе ўсхваціўся, гэты Івашка Шэрая сярмяжка. Ну, і забрытаў. Ну-тку ехаць да й паганяць. От яна яго як падняла, дак аж пад вобалакі. Тут гэты маладзец думаець: «Вот прапаў». Ну, аб'ехаў яе, так збіў, што саўсім яна ўжо і павалілася. Ну, і на сваіх коней і паехалі. Прыязджаюць туды, к гэтаму каралю.

— От, дзякуй табе, наш сват, падаслаў нейкую чаплю пад маладога, і прыстала саўсім. Мусіць, ужо пушчэйшых і не было!

— О-ого,— кажаць,— сваты аднача.

— Ну, сваты не сваты, калі б не сваты, дак к табе б у сваты не йшлі. Ну, будзем начынаць вяселле гуляць.

О й сталі і вяселле гуляць, і маладых гэтых звянчалі. Потым звянчаўшы, па-нашаму сказаць — па[а]бедалі. Ну, па[а]бедаўшы, яна ўжо гаворыць, гэта каралеўна:

— Ах, Іванька, Іванька, пойдзем мы на й трэцюю атажу пакачаем кулю!

А ён прыказаў, Івашка Шэрая сярмяжка:

— Глядзі, ты пілнуйся мяне, можа я забуду, дак ты пілнуйся, адзін нікуды не хадзі.

Потым жа яна выбіраець такі час, што гэты сват некуды адвярнуўся, адышоў. І падгаварыла яго, свайго мужа:

— Пойдзем, пакачаем з табой кульку!

Ну й пайшлі на трэцюю та́жу. Прывяла яго к такой кульцы, што як пакаціла ды й сказала: «Перанімай!» — дак яна і ўдарылася ў сцяну, і адзе́ржылася там. Ну і добра, што ён не стаў перанімаць, а то б яму там усё. Тады яна каець:

— Каці ка мне!

А ён сядзіць над ей і не скрануў. Агледзеўся гэты Івашка Шэрая сярмяжка, што няма брата роднага, ён і туды і туды, а потым пабег на трэцюю тажу і папаў, і так сказаў па-простаму:

— Ах, братова, братова, ён шчэ страміцца, а вы ўжо павялі яго кульку качаць! Да ў нас не гэдак качаюць!

— А ну-тка, як?

— А во як.

Да як ударыў нагой гэтую кульку, дак яна ў дварцы колькі сцен праламіла і ў горад праваліла.

— Вот як у нас качаюць! А ён шчэ страміцца. Ён ба шчэ лепі пакаціў!

Ну, потым згулялі вяселле, тут жа і адправіліся, забраўшы яе з сабою. Ну, і паехалі і прыехалі ў свой дварэц. Потым яна думаець: «Стой, як бы мне цябе ўлавіць!»

А ў яе тож была шабля пудоў восем. Ну, ён як лёг спаць на сваёй пасцелі, вяселле згуляўшы, як гарэла цяпло, ён туды клаўся, як і трэба; а як патушылі цяпло, ён перавярнуўся: дзе галава, там ногі палажыў, а дзе ногі — там галаву. Потым яна падкралася, як секанула — не па галаве, да па нагах — і адсекла ногі. І сама скрылась, пабегла. Ён жа і не закрычаў, і не заякатаў. А потым ён устаў да й папоўз з гэтага дому тож на дарогу, на гасцінец. От там многа ён і мучыўся, там ужо крычаў і якатаў. Аж тож ідзець адзін бязрукі. І пачуў ён, бязрукі: нехта крычыць і якочыць. І пытаецца:

— Хто тут крычыць да якочыць яшчэ?

І то ж усё ноччу дзеялась. Той бязногі пытаець:

— А хто ідзець?

— Да я, бязрукі!

— Ах, божа мой,— каець,— бедны бязрукі, ну, я бязногі, хужы.

А ён падышоў: «Ага, праўда, мучышся!»

— Ну, што,— кажаць бязрукі на бязногага,— каб пайшлі мы ўмесце?

— Я ж не магу. Ці здужаеш жа ты мяне несці?

— Па[г]ляджу!

— А ну,— падышоў к яму,— а ну-тка, бярыся, бязногі, мне за шыю.

Так ён ашчапіўся і сталі гаманіць, так хай сказаць.

— Куды мы цяпер, бедныя людзі?— ужо бязрукі кажаць на бязногага.

А бязногі кажаць:

— Дзякуй богу, што ты трапіўся; цяпер я ведаю, куды мы пойдзем. Пойдзем дужа ў бальшую пушчу, у такую, што несхадзімую.

А бязрукі тады ў бязногага пытаецца:

— А што мы там будзем робіць?

— А будзем людзей разбіваць ды й грошы адбіраць, праходжых і праезджых.

— Ого! Ты маладзец! А я ж такі ўсё думаю: як жа нам хлеба зарабіць? Гэдак толькі.

Гэты бязрукі кажаць:

— І потым праўда!

Ну, й пайшлі яны. І началі: які чалавек едзець, яны, што

ёсць у яго,— адбяруць—абы пан, абы жыд, абы купец — хто ні папала ім. Потым як зажылі грошай многа, падходзіць ужо восень, сцюдзёна ўжо стала. Гэты бязногі кажаць:

— Што мы будзем рабіць: ужо ж зіма?

— Я ж не ведаю, што рабіць!

— Каб мы сабе хату збудавалі!

— А добра будзець!

Аж едзець каваль некуды на кірмаш. Вязець тапароў дужа многа. Ну, вот яны многа не бралі, а штук па пяць.

— Ну вот, цяпер пойдзем у лес.

Падносіць бязрукі бязногага к дрэву, бязногі дрэва зваліць, адсячэць, бязрукі бязногага панясець, а бязногі рукамі тож дрэва цягнець. Ну, і насеклі лесу і нацягалі ў груд і прыймаюцца хату будаваць. Хату збудавалі і печ зляпілі, ну, і жылі дальш, пажывалі. І ўсё грошы адбіралі. Толькі ўжо сталі ў жыдоў, у купцоў і ў паноў, у папоў — у каго былі грошы. А які бедны ідзець чалавек, дак яны шчэ яму дадуць. Потым ім стала дрэнна жыць: што патомяцца, прыйдуць, трэба хату тапіць, есці варыць, многа трудоў дужа, беспакойства.

— А што ты ведаеш, бязрукі?

— А што, бязногі?

— Што я табе скажу.

— А ну-тка, кажы!

— Я думаю, каб мы хадзяйку сабе дзе выстараліcь! Ужо зіма стала!

— А дзе ж мы выстараемся?

— Да вот, бяры-тка мяне да нясі!

— Пойдзем!

А гэта дзеялася ў каляды.

— А куды мы пойдзем?

— Ды пойдзем у дзярэўню!

— А калі мы пойдзем?

— Ноччы; там будуць ігрышча ў карчме. Там будуць, дзевак многа будзець, і яны будуць гуляць, а тады выйдуць на двор халадаць, а мы падойдзем да пад вуглом станем, да каторую-небудзь ухапім. Ото нам будзець хадзяйка; да ў гэтакі лес занясём, яна не будзець ведаць куды.

Потым пайшлі к гэтай карчме. Ажно і праўда: іграюць і скачуць, і выбеглі дзеўкі на двор. Адна там трошку далі адышла, яны схапілі й панялі. Так што ніхто і не чуў і не бачыў. Што яна спужалася, дак нічога і не гаворыць. Потым бацька тужыць — дочка прапала. А матка плачаць, што й немаведама,

дзе дзелась сы йгрышча — ніхто не чуў і не бачыў. І не знаюць, як яе памінаць, ці яе хаўтуры адпраўляць. Так патужылі да паплакалі, на гэтым і асталося. А бязрукі і бязногі дзеўку панясьлі. І прынясьлі ў сваю хату і кажуць ёй:

— Нябось, нябось, будзець табе добра ў нас. Будуць якія жыды дарогай везці муку, крупы, мы адбяром і сюда к табе прынясем, а ты напячэш і наварыш, сама пад'ясі і нас накорміш.

Пражыўшы троху, агледзелася яна, абдумалася. Перш задумалася, засмуцела, аж схудзела, а потым забылася, да й паправілася, пасыцела. Ну і жывець, і харашо. Потым, пражыўшы, унадзілася к ей баба. І так прывыкла, што ўжо сама сабе кажаць баба, што ўжо ніхто мяне не адучыць адгэтуль. А якая баба?— Юга! Да шчэ к таму ў яе зялезна нага, на зялезнай ступе ездзіць, зялезнымі таўкачамі паганяець і нукаець, і панукаваець, і ўсё к гэтай дзеўцы. Прыязджаець яна к ей ноччы, як пойдзець бязрукі з бязногім грошы адбіраць, а дзеўка адна астанецца. От яна тады едзець. І прыедзець к гэтай хаце і першы раз скажаць:

— Дзеўка, маё дзіцятка, адчыні мне!

Яна адчыніла і бабу ўпусціла.

— Вот, паішчы, маё дзіцятка, у галаве.

Яна яе пачала йскаць, а яна дудку прыправіла к сэрцу да давай кроў ссаць. Ну, і нассалася. Потым на гэту ступу села і паехала. Прыходзяць гэты бязрукі з бязногім, ужо як даў бог дзень:

— Ну, гатова яда?

— Гатова, дзядзечкі!

Ну, пад'елі, ляглі спаць. Выспаліся, па[а]бедалі, потым скора вечар падышоў, узнова пайшлі ў свой абход. Гэта баба ўзнова ноччы прыязджаець к гэтай дзеўцы да й гукаець яе: «Адчыні дзверы». Яна адчыніла.

— Ішчы, с... доч, у мяне ў галаве!

Тады ўжо прывыкла баба, смела. Яна і ішчыць, а яна кроў ссець у яе. Потым за гэтых два разы ўжо гэты бязрукі з бязногім узналі, што гэта дзеўка белая, чуць ходзіць. І гаворыць бязрукаму:

— Што гэта, брат, наша дзеўка гэта худая, што яна аж валяецца. Я думаю, ці не ты, брат, з ёй!

— І што ты гэта, брат? Я гляджу да думаю, ці не ты гэта з ёй!

— Я — не!

— Ну, і я — не! Будзем-тка ў яе пытацца, чаго яна?

— Ну, будзем. Дзеўка, чаго гэта ты такая худая, ці табе хлеба мала, ці чаго?

— Ай, дзядзенькі, не ведаеце вы...

— А што?

— Як вы пойдзеце толькі, а ка мне баба прыедзець, нейкая Юга, да йшчэ ў яе зялезна нага, на зялезнай ступе едзець, зялезнымі таўкачамі паганяець, і нукаець і панукаець, скажаць: «Адчыні мне!» Тады прыдзець да кроў маю цягнець, ссець!

— Ага, пастой-тка,— кажуць,— мы яе ўловім. Ну, мы сягодняшню ноч не пойдзем нікуды, а гэту бабу ўловім!

Ну, прыйшла ноч, яна лягла, гэта дзеўка, спаць, а яны сталі гэту бабу пілнаваць. Аж так пад поўнач едзець! Дзеўка адчыніла. А яны яе харашэнька ўзялі ды ў зялезную ступу ўсадзілі ў гэтую, што яна ехала, да й давай таўчы. Таўклі, таўклі, многа дужа.

— Стойце, бязрукі з бязногім, не біце мяне, не таўчыце мяне! Я вам што-небудзь скажу!

— Што ты нам скажаш?

— Харошае! Толькі пусціце мяне — будуць у вас і рукі і ногі!

— А ну-тка,— яны ўжо кажуць,— ну-тка, тады пусцім!

— Хадзіце за мной.

Яны ідуць, яе дзержаць. Прыводзіць яна іх к калодзежу.

— От, мачыце тут — рукі і ногі будуць.

Гэты жа бязрукі хацеў скарэй туды рукі ўткнуць свае, цыбы, а тэй каець:

— Не, брат, стой!

Узяў адарваў сук із дрэва із лістом і памачыў: сычас жа іссох, саўсім!

— Стой, брат, бі бабу болі!

Давай-тка горшы папярэдняга біць, як уперад шчэ білі. Білі, білі, потым яна просіцца ў іх:

— Стойце, бязрукі і бязногі, будуць у вас рукі і ногі!

— Ну, добра!

— Хадзіце за мной.

Прайшлі троху, ажно шчэ калодзеж.

— Вот тут,— каець,— мачыце!

Гэты жа ўзнова бязрукі хацеў узноў скарэй, а бязногі каець:

— Не, брат, стой, трэба і тут па[г]лядзець.

Узяў гнілы пень адламіў да ў гэту ваду памачыў. Сычас атросткі пайшлі. Пусціў сучча, атросткі — і зялёны!

— Ну вот, мачы цяпер!

Памачылі! Рукі і ногі ў іх сталі.

— Бі бабу болі! Цяпер нам лепі, ужо з рукамі і з нагамі! Давай-тка біць; білі-білі, білі-білі і пакінулі чуць што жывую. Тады каторы быў бязрукі да на бязногага:

— Што мы, брат, будзем з ей дзелаць, ці пакінем?

— Э, брат, пакінуўшы, яна аджывець тут!

А ў тым лесе тамака некалі дзелалі дуб людзі, дак пні такія шырокія, дужа бальшыя дубовыя.

— От што мы, брат, зробім із ей!

— А што?

— Возьмем пень гэты рашчэпім, кління нацешым, а ў бабы гэтыяваласы доўгія. Каля кління абкруцім да ў шчэлку ў гэту й загонім!

— А, брат, гэта добра!

Узялі і здзелалі гэтак, засадзілі гэту бабу туды. Потым пайшлі. І рады яны, што ў іх ёсць рукі і ногі. Прыходзяць дамоў у сваю хату. Дзеўка каець:

— А што, дзядзенькі, дзе баба?

— Ну, баба,— каець,— ніколі не выйдзець, мы яе ў добрае места пасадзілі!

— А дай жа божа!

— Пень дубовы,— каець,— раск[л]япілі, да яе каля кління валасы абкруцілі, да яе туды й засадзілі.

Дзеўка кажаць:

— А ці жыва йна?

— Ды,— каець,— трошку, чуць-чуць жывая!

— Ах, дзядзенькі, яна аджывець!

— Не можна быць! Яна там ссохнець і здохнець!

— От, схадзіце толькі, па[г]лядзіце, што няма яе!

— А што ты думаеш, пойдзем-тка, брат, а можа і праўда! Да й пайшлі. Прыходзяць туды, к гэтаму месту — аж няма ні бабы, ні пня! Аж яна як аддыхнула, дак пень вырвала із валасамі і пацягнула!

— Ну, што, пойдзем, брат, шукаць, бо будзець і нам трудна. Яны гэта следам, аж прыходзяць: такі дом вялікі, каменны, мураваны! Уходзяць туды, ажно дзеўка такая прыгожая, печку топіць і бліны пячэць. Яны кажуць:

— Здарова табе, дзеўка!

— Здарова, добрыя малайцы! Чаго вы ходзіце?

— Аднаго дзела шукаем.

— Ага! Я ведаю! Гэта вы маю матку забілі! О, яна добра

чухаець з вашых рук! Ну, пастойце; калі возьмеце мяне замуж каторы, дак пакажу, дзе яна. А не возьмеце, дак яна аддыхнець, разарыць вас, прама паесць!

— Возьмем! Пакажы, а дзе яна?

— Да он, у тым і тым,— каець,— пографе!

Ну, вот яны з напалу як ускочылі на яе, дак прама і разарвалі, не далі ёй паправіцца. Ну, да й груд там асінавы быў такі, вядома, у лесе. Яны запалілі, яе на груд ускінулі, яна й згарэла. То ўжо не [а]джывець вавек, ніколі. Ну, вот і прыходзяць к ёй назад.

— А што, што здзелалі з маёй маткай?

— Да няма ўжо!

— Ну вот, я цяпер з вам[і] пайду!

— А не, чаго ж табе ісці, ты тут абажджы!

— Не, пайду!

Яны кажуць самі межда сябе:

— Ну, няхай! Ну, хадзі!

Ну й прыходзяць к сваей ужо хаце. Тады:

— Ну што, брат, ты ведаеш: табе трэба жаніцца,— бязрукі на бязногага.

— Не, брат, у мяне многа дзялоў! Табе дак яно прыходна! Мне, брат, яшчэ трэба даведацца, як мой брат жывець родны!

Так, многа не гаварыўшы, гэты кажаць:

— Ну і няхай сабе!

— Ну, брат, а трэба ж нам сваю дзеўку,— каець,— аднесці к яе бацьку!

— Ну, аднясём!

Там што было ў іх ужо грошай многа нажыўшы, яны ўзялі гэтай дзеўцы — не то што там лічылі або што,— так гарцы два або тры адсыпалі ёй.

— Ну,— кажуць,— дзеўка, ідзі сабе к бацьку!

— А, дзядзенькі, я ж не ведаю дарогі, я ж ба даўно ўцякла ад вас!

А! Ну, яны адняслі яе к бацьку і яе бацьку падзякавалі. Ну, і пайшлі. Прыйшлі дамоў, заняліся вяселле гуляць. Згуляўшы вяселле, тэй кажаць, што быў бязрукі:

— Ну, брат, будзем жа дзяліцца!

— А будзем сабе!

— Будзем грошы дзяліць!

— А, брат, нашто яны мне? Ты іх і не нясі, я калькі-небудзь вазьму сабе на дарогу! Няхай у цябе будуць. Я, бог ведаець, калі шчэ буду займацца жыццём.

Ну і разышлісь. Падзякавалі адзін аднаму і разышліся. Тэй застаўся там, бязрукі, а бязногі пайшоў. Прыходзіць к свайму каралеўству, дзе гадаваўся, к брату роднаму. Аж яго брат свіней пасціць!

— Што, брат, ужо свіней пасціш?

— А здароў, здароў, брат знаходны!

— Здароў, брат родны, дажыўся!

— А дзякуй табе, брат знаходны, ты мяне дужа наставіў на жыццё!

Ужо бытта сварыцца.

— Ну дак, што ж я,— каець,— што ж я ведаў гэта? Дай-ка мне,— каець,— пугу!

— Не, падажджы, брат. Мы шчэ хочам з табой пагаварыць, брат находны!

— Ну, што?

— Дзе ты быў дагэтуль?

— Дзе быў? Хадзіў ногі зарабляць!

— А дзе твае ногі? У цябе ж твае ногі і былі і ёсць?

— А, ёсць, гэта ж я заробіў сабе ногі. Твая ж жонка мне адсекла ногі. Хацела галаву адсеч, да дзякуй богу, што ногі. Ну, потым, во цяпер, дай-тка, дай пугу! Усё пугу дай!

— Не, брат, падажджы, я табе раскажу шчэ [а]дно!

— Ну што?

— Дужа мне худа жыць!

— Да я ведаю, што худа!

— Не ўсё ты ведаеш: вот яшчэ ёсць у гэта свіння во белая, дак я пастаянна ёй цалую. Як прыгоніш дамоў, яна січас: «А, с... с..., прыйшоў! Белка, расстаў ногі, цалуй, с... сын».

— Ну, цяпер дай-тка, дай,— каець,— пугу!

Усё пугу даходзіць!

— Ну, на! А як жа,— каець,— куды ж я пайду?

— Да ідзі-тка к кавалю, здзелай-тка там пруцікі са тры такога мяккага зялеза і са тры сухога, крушнага!

Ён пайшоў і здзелаў гэтых шэсць пруткоў у каваля і прыходзіць к яму.

— Ідзі ж ты,— каець,— узлезь на лазню да й сядзі там пакуль што, жджы там, пакуль што будзець! Дай-ка мне сваю адзежу!

Ну, й перамянілі яны адзежу, тэй таго надзеў, а тэй таго. Ну, потым і адправіўся на гэту лазню, пайшоў, гэты пастух. А ён січас кол на плечы, да й ну-тка гэтых свіней біць да гнаць да-

моў. І ўзганяець на двор, а яна гэта і пачула, што свінні пішчаць, скагочуць, выйшла на ганак да й глядзіць. Аж ён гоніць і б'ець.

— А,— каець,— с... сын, ці ты ўжо гэтак! А, с... сын, пастой, дагэтуль ты й жыў!

— А воўк цябе еш з свіннямі! Дакуль я буду пасціць?

— Вот я цябе,— каець,— засяку!

— Чорт цябе забяры: раз уміраць!— каець.

Потым прынімаецца к яму. А ён каець:

— А ўжо падажджы, не сячы мяне, а лепі скажы вытапіць лазню, дак вымыюсь,— нечага рук ніхто не будзець шкарэдзіць нада мной, мыць, так прама ў ямку і зарыеш!

— А,— каець,— праўда; дзеўка, ідзі тапі лазню, хай гэты с... сын, хай адмыецца.

Ну, потым вытапіла лазню. Ну, ён пайшоў мыцца. І там доўга сабе сядзіць. Яна ждала, ждала — няма! Эх, рассердзілася дужа. Ухапіла сваю шаблю і пабегла са злосці. Як бегла, толькі яна ў дзверы, а ён яе за косы ды аб землю, ды ну-тка!

— Ах, госпадзі, падай-тка мне,— гаворыць,— пруточкі са тры, харошанькіх, суханькіх.

А яе мужык адтуль з лазні — кідзель адтуль зверху. Як стаў ён яе біць, а яна крычаць, да шчэ к таму якатаць:

— Ай-яй, зязюлечкі, а кукулечкі, а галубчык мой! Не буду! Ніколі не буду, буду пачытаць за караля і ўзываць каралём!

— Не! — паламаў гэтыя пруткі. — Падай-тка яшчэ мякчэйшых, божа мой!

Ён тады пялёх яшчэ тры пруткі яму. От ён тымі яшчэ большы! Як стаў біць — б'ець да й прыказуець:

— О табе пастух, о табе свінапас! Во табе: Белка, расстаў ногі — цалуй, с... сын, Белцы пад хвост! Я табе ўсё зважаў, колькі год цярпеў, усё спрабаваў, што з цябе будзець!

— Міленькі,родненькі! Ніколі гэтага не будзець болей!

— Не, няпраўду ты кажаш.

Яна яму ногі цалуець, пальцы накрыж складаець і перад ім прысягаець! Ну і пусціў! От яна ідзець: ах! ах! ах! ах! Як прыйшла дамоў:

— Ах, запрагайце коней, едзьце па караля, барджэй толькі.

А ён каець:

— Ну, брат, лезь барджэй з лазні!

І ўзнова перамянілі адзежы, усякі сваю надзеў. Палез тады тэй брат находны на лазню, а гэты ўжо сядзіць так. Аж січас за ім прыязджаюць.

— Ах, брат, я ж баюсь яшчэ астацца без цябе!

— Ну, нічога, будзець харашо!

— Ты, брат, будзь тут, жыві!

— Не, брат, няможна, мне трэба йці к свайму бацьку даведацца, як ён: ці жыў ён, ці не? Ну, аставайся здароў!

І прыехалі, яго ўзялі.

— Ну, а ты, брат, ідзі здароў, находны!

Вот ён астаўся, харашо яму стала жыць: сталі яго пачытаць і каралём звааць усе, а не то што яна адна... А тэй і пайшоў сабе, і бытца што канавалам. Прыходзіць у якую дзярэўню і кажаць:

— Няма ў вас жарабкоў класці, лягчаць?

— Не, у нас няма.

Пайшоў далей. Прыходзіць у сваё каралеўства і ўсё пытаецца, у якую дзярэўню прыйдзець:

— Ці не ёсць у вас жарабцоў класці?

— Няма, добры канавал! У нашага караля ёсць, ужо гадоў трыццаць стаіць на стайні жарабок, ды ніхто яго не паложыць і не палягчаець.

— Ну, што так?

— Так, што ён неплатны, жарабок гэты, але заветны: хто злягчаець, дак каралю галаву знімець, а калі не, дак каралёва меч, а канавалава галава з плеч, да на тычыну і ўсторнуць!

— Ого, ну вот яшчэ якія дурні! Што то за канавалы, што жарабка не злягчаць!

Мужыкі кажуць:

— А не! Не гэтакія прыходзілі, а то найшоўся нейкі курган!

Ён нізкі быў.

— Ну, няхай сабе курган! А я-такі ўсё яго пакладу і злягчаю!

Мужыкі гэтыя кажуць:

— Ах, ну-тка ідзі: ужо там дзевяць тычын з галовамі, толькі ўжо тваё няма!

— Да й пайду!

— Э, нейкі,— каець,— курган найшоўся, хваліцца во тут!

От і пайшоў. Прыходзіць у свой дварэц. Ажно сядзіць яго бацька на ганку сівы-сівы, да ўжо дужа стары.

— Здарова табе, кароль!

— Здарова, добры канавал!

— Казалі мне мужыкі, што ў цябе ёсць жарабок у стайні не злягчаны?

— Ёсць! А ты злягчаеш?

— Злягчаю!

— Ну, глядзі-тка! Толькі вот адна тычына засталася, мусіць, тут твая галава будзець!

— А ўжо па[г]лядзім!

— Злягчаеш ты майго жарабка, дак мне галаву знімеш, а не злягчаеш — дак мая меч, а твая галава з плеч, і вот на тычыну от на гэту!

А ён каець:

— Ну вот, па[г]лядзім!

Як засвістаў — а стайня мураваная, і дзверы зялезныя. А жарабок як заржаў — а стайня тады папалам і разваліласяǃ А жарабок з цэпа сарваўся і к яму тады прыскочыў, да й загагатаў яшчэ больш!

— Ціху, ціху, мой жарабок, ціху!

От тады бацька і спужаўся. От які папаўся. Ён яго сваёй ладонню па задку ўдарыў, ён стаў і ногі расклаў, ён яму і..., ён яго і злягчаў, стоючы, не клаўшы. Ну й падносіць к гэтаму каралю, ды к бацьку свайму:

— Ці знаеш ты мяне, кароль, хто я ёсць?

— Не знаю і не ведаю!

— Сын жа я твой!

— Ага, сынок, праўда твая, да не мая. Усё-ткі ж вот сон спраўдзіў. Ну вот, воля твая, што хочаш, то роб са мной.

Ён узяў на прадмет да й палец сабе адсек.

— Вот, слухай, бацька, што гэта ніколі нідзе не было, а будзець, дак не ведаю, ці будзець, ці не, што каб сын бацьку галаву адсек.

Вот ён узрадаваўся, бацька, і рад, што сына дастаў. Быўшы ўтапіў, а то і жывы стаў. Вот з радасці бацька справіў пір на ўвесь мір, і ўсе людзі піравалі, пілі, гулялі. І я яшчэ там быў, мёд-віно піў, па барадзе цякло, а ў рот не папала.

## 53. ДУРНЫ СЫН

Адзін цар меў тры сыны: адзін дурны, а двох разумных. Як уміраў іх бацька, казаў ім прыхадзіць па адной ночы каждаму начаваць на магілу. Першую ноч старшаму. Старшы не пайшоў, дурнога паслаў. Прыйшоў дурны на магілу, а бацька пытае:

— Каторы прыйшоў?

А ён кажа:

— Дурны.

Бацька даў яму палачку і казаў:

— Як махнеш гэтай палачкай, што захочаш, тое будзеш мець.

На другую ноч зноў трэба было ісці серадольшаму, а той дурны пайшоў.

Як лёг ён, так бацька пытаецца:

— Каторы прыйшоў?

Так ён кажа:

— Дурны.

На трэцю ноч трэба было дурному ісці. Прыйшоў, лёг на магіле. Бацька пытае:

— Каторы прыйшоў?

Кажа:

— Дурны.

Даў яму трэцю палачку:

— Як махнеш, што захочаш, то будзеш мець.

У другом царстве, у другога караля была дачка. Кароль яе засадзіў на трэця пентра і казаў:

— Хто даскочыць на трэця пентра, так палову каралеўства дастане і жаніцца будзе з дачкою.

Кароль выдаў баль і прасіў усіх, каб прыязджалі. Так тыя браты два прыбраліся і паехалі на той баль. Брат іх, той дурны, выйшаў за браму і махнуў палачкай: і яму конь асядланы, і ён убраны. Сеў на каня, даганіў сваіх братоў, па тры разы бізуном даў і сам паехаў напярод. Прыехаў да крулеўны і скачыў на перша пентра з канём. На другі дзень браты зноў коні асядлалі і паехалі Дурны зноў выйшаў за браму, махнуў палачкай: яму конь асядланы, і ён прыбраны. Сеў, паехаў, дагнаў сваіх братоў і зноў па тры разы бізуном ім даў. Прыехаў там і скачыў на другое пентра. А браты абачылі і паехалі назад. Ён дагнаў іх і зноў даў па тры разы бізуном. Дурны пытаецца ў іх, што там чулі. Яны кажуць:

— Дурны, ты не кажы нікому, нас неякі чужастранец як дагнаў, як ні забіў.

На трэці дзень сядлаюць коні і браты едуць. Дурань выйшаў за браму, махнуў палачкай: яму конь асядланы, ён убраны. Сеў, паехаў, даганіў братоў і зноў па тры разы бізуном даў. Прыехаў да крулеўны і даскачыў на трэця пентра. Крулеўна яму прыбіла пячаць на лобе. Пасля кароль выдае баль і просіць усіх на баль, каб найсці таго, катораму крулеўна прыбіла пячаць

на лобе. Усюды шукалі і не найшлі. Прыехалі да дурнога, знялі шапку, найшлі пячаць на лобе і пазналі, што той, каторы даскачыў на трэця пентра, і забралі яго, і павязлі да цара. Далі яму кватэру, бо цар не меў часу рабіць вяселле, бо падхадзіў непрыяцель.

Цар мусіў ісці біцца з непрыяцелем, ваяваў. А той дурны выйшаў за браму і махнуў палачкай: і яму конь асядланы, і ён убраны. Паехаў ваяваць. Як махнуў палачкай — забраў у плен непрыяцеляў. На другі дзень пайшоў цар ваяваць.

Дурань выйшаў за браму, махнуў палачкай: яму конь асядланы, ён убраны. Сеў і паехаў. Прыехаў, махнуў палачкай і забраў непрыяцеляў у плен. Гэтага дурнога прасілі на абед. Ён сказаў:

— Не маю часу, з далёкіх старон, трэба ехаць дахаты.

На трэці дзень зноў ваюе цар. Дурань выйшаў за браму, махнуў палачкай: конь асядланы, ён убраны. Сеў і паехаў. Прыехаў, аж караля забіраюць у плен.

Ён як махнуў палачкай, забраў непрыяцеля ў плен. А дурному секануў казак палашом і расцяў ногу. Так цар скінуў хустку з шыі і абвязаў дурному ногу. Прыехаў дурны дахаты і палажыўся ў сваім пакоі. Выдае цар баль. Сабраліся ўсе, і пасылае цар па дурнога на абед. Ён кажа:

— Не магу ісці, бо сёк у жыда дровы і адсёк ногу.

Цар забірае казакоў, ідзе да дурнога клікаць на абед. А ён кажа:

— Не магу ісці, бо адсёк ногу.

Цар пытае:

— А дзе ты адсёк?

— Сёк у жыда дровы і ўсёк ногу.

Цар кажа:

— Пакажы ногу.

Ён паказаў ногу, і царска хусцінка завязана каля нагі. Так цар урадаваўся, яго пацалаваў. Казаў запрагчы коні, прывязці яго на баль і сказаў усім:

— Мой зяць адагнаў непрыяцеляў.

Па гэтым балю цар сказаў:

— Прашу я ўсіх на вяселле: буду жаніць дачку; хоць ён дурны, а не зробіць таго і разумны.

Зрабіў цар вяселле, і ўсе былі на балю. Паблагаславіў іх і здаў крулеўства на дурнога.

## 54. ВАНЕЧКА-ДУРАЧОК

У бацькі жылі тры сыны. Два разумныя, трэці Ваня дурны. Пры смерці бацька гаварыў, каб да яго тры ночы прыходзілі: спачатку старшы, потым млачшы, потым Ванечка дурны.

Пасля смерці трэба было на першую ноч ісці старшаму брату. Але старшы брат баяўся першы ісці. Ён даў дзесяць рублей Ваньку, каб ён схадзіў за яго. Ваня пайшоў. Прыйшоў на могальнік, узлез на крыж і пасвіствае. У дванаццаць часоў ночы чуе — трашчыць, пішчыць, ламаецца ўсё.

Устае бацька і гаворыць:

— Сын старшы.

Ніхто не аказваецца.

— Сын млачшы.

Ніхто не аказваецца.

— Ванечка-дурачок.

— Я, тата!

— На табе чырвоную хустачку.

Ваня ўзяў хустачку і пайшоў дахаты. Прыходзіць дахаты і кажа:

— Болей я ніколі не паеду на могальнік.

Прыходзіць ноч ісці млачшаму сыну. Млачшы сын просіць таксама Ванечку. Ванечка не ідзе. Млачшы сын дае яму дваццаць пяць рублей. Ванечка паслухаў і пайшоў. Сеў на крыж і пляце лапці. У дванаццаць часоў ночы чуе трэск, піск. Кругом ломіцца ўсё.

Бацька пытае:

— Сын старшы. Сын млачшы. Ванечка-дурачок?

— Я, тата!

— На табе чорную хустачку.

Ваня завярнуўся і пайшоў дахаты. Надыходзіць ноч Ванечку ісці. Ён просіць братоў:

— Схадзіце, братцы.

Браты не пайшлі. Завярнуўся ён і пайшоў на могальнік. Прыйшоў, укленчыў каля крыжа. У дванаццаць часоў ночы трашчыць кругом.

Бацька пытае:

— Сын старшы. Сын млачшы. Ванечка-дурачок?

— Я, тата!

— На табе белую хустачку.

Ванечка ўзяў і пайшоў.

За некалькі дзён цар паставіў на трэці ітаж дачку і сказаў:

— Хто даскочыць, той з ёй ажэніцца.

На першы дзень браты едуць. Ванечка-дурачок таксама просіцца. Але браты сказалі:

— Ты, дурны, ідзі грыбы збіраць.

Ванечка завярнуўся і пайшоў у лес з кошыкам.

— Кашолачка, пакаціся, поўна грыбоў набярыся.

Махнуў чырвоным платочкам — чырвоны конь ляціць. Сеў на каня, плётку ўзяў у рукі і паехаў. Дагнаў братоў. Намясіў іх і паехаў. Ускочыў на першы ітаж. Тады саскочыў і паехаў назад. Узяў кашолку і пайшоў дахаты варыць грыбы. Варыць грыбы. Прыязджаюць браты. Ванечка пытаецца:

— Ну, што там, братцы, хто даскочыў чы не?

Браты кажуць:

— Нейкі гіцаль нас збіў, на чырвоным кані.

Ванечка дурны кажа:

— Гэта я, братцы.

Старшы брат кажа:

— Што там з дурным гаварыць.

На другі дзень паехалі ізноў браты. Ванечка прасіўся, але яго не ўзялі. Ён пайшоў у лес, махнуў чорнай хустачкай — прылятае чорны конь. Ён сеў, узяў плётку, дагнаў братоў, узяў бізун і давай мясіць сваіх братоў. Паехаў, ускочыў на другі ітаж. Саскочыў, завярнуўся і паехаў у лес. Узяў кошык і пайшоў дахаты. Пачаў варыць грыбы. Прыязджаюць браты. Ванечка пытаецца:

— Ну, хто ж там даскочыў, можа?

Брат кажа старшы:

— Нейкі чорт і сёння нас пабіў — на чорным кані.

Ванечка дурны кажа:

— Гэта я, братцы.

Младшы брат кажа:

— Ай, што з дурнем гаварыць.

На трэці дзень браты збіраюцца, дурны просіцца:

— Братцы, вазьміце мяне.

Але яго не бяруць. Браты паехалі. Ваня ўзяў кошык і пайшоў у лес. Махнуў белым платочкам. Прылятае конь белы. Ён сеў на каня, узяў плётку і паехаў. Дагнаў братоў і давай мясіць. І ўскочыў на трэці ітаж. Царава дачка адбіла на лэбе сонца і пярсцёнак узлажыла на палец. Саскочыў і паехаў назад. Завярцеў палец, завярцеў лэб і паехаў дахаты. Пачаў варыць грыбы. Прыязджаюць браты на конях. Дурны пытаецца:

— Ну, хто там, братцы, даскочыў?

Браты гавораць:

— Нейкі даскочыў і нас намясіў.

Браты пытаюцца ў дурнога:

— Што ў цябе палец заверчаны і лэб?

Дурны кажа:

— Узлез на елку, углядаўся, хто даскочыў, зваліўся, разбіў лэб і палец зламаў.

Зварыў грыбы, паелі. Дурны ўзлез на печ і стаў разварачваць палец. На ўсю хату засвяцілася. Браты кажуць:

— Ты там, дурны, не спалі хату.

Цар сказаў, каб на другі дзень прыязджалі сляпыя, кульгавыя, дурныя і разумныя. На другі дзень браты збіраюцца. Дурны таксама просіцца, каб яго ўзялі. Яму далі худобу, што возяць ваду, паехаў дурны. Спачатку сталі разглядаць цар і доктар разумных, потым кульгавых, сляпых і дурных. Прыходзяць да Вані, пытаюцца:

— Што ў цябе з пальцам і лэбам?

А ён гаворыць, што лез на сосну, зваліўся, зламаў палец, лэб пабіў. Доктар стаў глядзець. Развярнуў палец, і ўвідзелі пярсцёнак. Развярнулі лэб — засвяціла сонца.

Ажанілі дачку царову з дурным. Павёў дурны царову дачку да сябе. Прыходзіць дахаты. Разумныя браты не даюць варыць у печы. А дурны залез на печ і ляжыць. Жонка дурнога плача. Дурны кажа:

— Чаго ты плачаш? Зараз яны будуць плакаць. Лезь да мяне на печ.

Яна ўзлезла на печ, дурны кажа:

— Но, печ.

Печ і паехала. Браты просяць дурнога, але дурны нічога, паехаў на печы аж да цара, у печы варыцца, дым ідзе, а дурны з жонкай едзе па вёсцы. Прыехаў да цара на падворка. Злезлі з печы і пайшлі ў хату. Сталі піць і цяпер яшчэ п'юць.

## 55. ЯК ДУРАНЬ З КРАЛЕЎНАЮ АЖАНІЎСЯ

Быў сабе адзін гаспадар, меў ён трох сыноў: два было разумных, а трэці дурны. Прыйшла пара бацькаві ўміраць; уміраючы, прыказаў ён разумным сыном, каб кажнюсенькі з іх па тры ночы прыходзіў начаваць на яго магілу. Прыйшла перша

ноч старшаму сыну, ён вельмі баіцца ісці на могліцы, давай то прасіць сва[й]го дурнога брата:

— Братко,— кажа,— што ты захочаш, усенька таке дам, анно ідзі і пераначуй за мяне.

— Ну, добра,— кажа,— пайду.

Той прыйшоў на бацькаву магілу, лёг ды й спіць, ажно ў глухую поўнач кліча бацька па імені старшага сына. Так то дурны зараз адазваўся, а нябожчык яго па голасе не пазнаў ды й вывеў яму сівага каня з магілы. Так той гэта сеўшы паехаў. Стаяла ў лесе пустая хатка, там ён гэтага каня паставіў, а есці яму не трэба было даваць. Перад светам прыходзіць дахаты знябожыўшыся, ажно пытаюць у яго браты:

— А што ж ты там чуў? Што бачыў?

— Ой,— кажа,— няхай бог сцеражэ, крые, ратуе, што я там бачыў! Як зачалі,— кажа,— мярцы з магілаў вылазіць, і наш бацька з імі, як зачалі біцца, то я мусіў татка бараніць, то яны,— кажа,— мяне чыста сцягалі і стурзалі.

Так браты гавораць самі з сабою:

— А што? Добра, што не мы пайшлі туды, бо ён дурны, то ніц не знае, а мы бы ад страху не вытрывалі б.

Так як прыйшла другая ноч, так зноў ён дакляруе ды й кажа:

— Я табе часць свае гаспадаркі аддам, анно ты ідзі.

Упіраўся дурань доўга, але, наканец, пайшоў, а бацька, зноў думаўшы, што гэта старшы сын, выслаў яму скрыню грошай і на трэцюю ноч таксама даў скрыню адзетку. Ну, як ужэ прыйшла калейка на серадольнага сына, так ён таксама ўмалёгаў таго дурнога, а ён нібы ўпіраўся, нібы запіраўся, а, бало, як анно выйдзе з хаты, то ў сабе смяецца з сваіх братоў. Серадольшага таксама бацька не пазнаў ды й таго самага дабра надаваў, што і старшаму, а дурны браў анно ды й насіў у пустую хату.

Было гэта аднаго разу, што пайшла чутка, што дзесь у неякагосьціка караля есць адна толькі дачка і тая нігды не смяецца. Кароль гэта агаласіў, што хто яго дачку рассмешыць, то яго зяцем будзе ды й і кралеўства сваё яму перадасць.

Ну, так усенькія туды з'язджаліся, дзе хто які быў, вычоўпалі, хто што здумаў, а такі яе рассмешыць не маглі. Так, нарэшце, паехалі ўжэ і тыя два браты, пакінуўшы ў хаце на пячы дурнога, бо ўжэ як ім той страх перайшоў, то яны яго зноў, як здохлага сабаку, апусцілі і ніколі ложкі стравы не падкінулі. Як ад'ехаліся яны крышку ад хаты, так дурны, даведаўшыся аб усём, выйшаў гэта на выган, а там хадзіў конь карослівы.

паршывы, такі страшны, што на яго было гадка глядзець, да, сеўшы гэта на яго, неякаю другою дарожкаю шмігенуў да кралеўскага палацу.

Ну, так што ён робіць: як пад'ехаў пад той палац, так узяў ды й адвярнуўся да галавы задам, а ўсё далонямі каня па задзе плешча да ўсё паганяе, едучы проста пад ганак. Так кралеўна як глянула на гэта, так і на весь двор зарагатала, а ён завярнуўся ды й паехаў назад.

Покі браты разумныя даехалі, то ўжэ было па ўсём і нікагусенька не было пад ганкам.

Але той кароль зноў пачаў вычвараць, бо не хацелася яму шукаць такога зяця, што на паршывым каню прыехаў. Так давай ён муравацъ высокі, высокі стоўп, такі, што і пташцы даляцець туды трудна, і ўсадзіў туды сваю дачку, улажыўшы ёй неякісьціць пярсцёнак на палец, ды й агаласіў:

— Хто так высока выскачыць, што маю дачку пацалуе і жуковіну з пальца зніме, то той будзе маім зяцем.

Так зноў туды, як цёмная хмара, народ з'язджаўся: скакалі, падскаквалі — той варочаўся, скруціўшы карк, той руку, той ногу, а ніхто-такі туды дастацца не мог. Ну, так дачуліся аб том яго браты ды й сталі выбірацца. Ледзьве што яны ад хаты ад'ехалі, дурны гэта з печы да да пустой хаткі, а прыбраўшыся ў бацькоўскі адзетак, сеў то на сівага каня ды й паляцеў, як маланка. Наганіў ён зараз сваіх братоў, яны аж очы ў стоўп паставілі, як глянулі на яго ды й кажуць:

— Куды нам туды даступіцца, калі там гэтакія рыцары з'язджаюцца! Ну, але хацямсе паедзем паўзірацца на тое дзівавіска.

Яшчэ яны туды не даехалі, як ужэ дурны даляцеў ды й, на сівым каню выскачыўшы, кралеўне буські даў ды й тую жуковіну з пальца схапіў, а сам жа так хутка паляцеў, што кароль ледзьве ўспяшыў сказаць:

— Проша своего зяця нарэнчонэго прыехаць на трэці дзень да мне на обяд!

Тыя браты яго, прыехаўшы на кроляў двор, ані следу нічога не засталі, толькі чулі гутарку, што там шчаўплося.

Дурны, прыждаўшы трэцяга дня, злазіць то з печы ды й кажа:

— Ну, браткі, дзякую вам за хлеб і за соль, бо ўжэ я вашае ласкі не патрабую.

Так яны на гэта анно асмяхнуліся, глянуўшы адзін на другога, а ён гэта шабалдых, шабалдых да пустой хаткі, прыбраў-

ся, умыўся, учасаўся ды й прыбраўшыся паехаў на сівым каню да сва[й]го цесця нарачонага. Прыехаў туды, пасадзілі яго на покуце, ён то стаў паказваць усю сваю прыгоду, потым папрасіў, каб цесць паслаў па другога каня і па ўсё яго багацтва, а сам застаўся ўжэ ў палацы. Не доўга ждучы, надышло ўжэ і вяселлечка. А якое гучнае, якое шумяшчае было тое вяселле! Усе аж гвіжалі там! Скаромнага панасмажвалі цабры, кадушкі, ражкі, што аж ложкамі сёрбалі; гарэлкі місамі на сталох стаяла; усяго: пірагоў грэцкіх, пшонных, што і за сабакамі пускалі імі, бо і так іх даволі было. А саломы пананосілі ў пакоі, што па пахі чалавеку было, і ўсе так спалі покатам. А і шаўцы там нямала зарабілі, цёнгле ладуючы госцям чаравікі і боты, бо нямала натапталі скачучы праз цэлы месяц на том вяселлі.

А і я там была, мёд, віно піла, у губе не было, па барадзе цякло.

## 56. ТРЫ НОЧЫ НА МАГІЛЕ АЙЦА

Жыў сабе такі купец, значыцца, бальшы багатыр, і было ў яго тры сынаўё: два сыны жанатых і разумных, а трэці сын халосты і дурань. Ён дурань, да вочань сілен крэпка. Цяпер прыйшлося гэтаму бацьку ўміраць. Ён гаворыць:

— Ну-ка,— гаворыць,— сыны мае пралюбезныя! Я,— каець,— паміраю, а вы [а]станецёся,— гаворыць,— у жыцці! І,— кажыць,— прыхадзіце ка мне на могалку начаваць тры начы: большаму — гаворыць,— на перву ноч, а сярэдняму,— гаворыць,— на другую ноч, а дурню,— каець,— на паследнюю ноч. І як будзеце ісці, кажыце: «жоўты пясок, рассыпайся, грабова дошка, адчыняйся, бацька, з мяртвых уставай!»

Ну, цяпер гэтых жонкі ў голас, не хочуць пускаць, кажуць:

— Прасі як-небудзь дурня, ці не пойдзець ён за цябе,— на большага жонка ўжо.

А дурань гэты на печы ляжыць. Цяпер ён кажыць:

— Ах, брат, схадзі ты за мяне к бацьку на ноч, ты-тку,— кажыць,— смялейшы!

— Гэ,— кажыць,— каб ты не дваждаў, каб я за цябе ішоў на ноч! Прыйдзець мая ноч, тады я й пайду!— кажыць.

— Брацец,— гаворыць,— родны, схадзі!

Ён тады кажыць яму:

— Няхай,— кажыць,— жонка пашыець торбу, у тры па-лы,— кажыць,— і дай,— кажыць,— дзве булкі хлеба — вы мне есці не даецё,— дак ■ пайду тады!— кажыць.

Сычас гэта, не доўга думаючы, торбу яму пашылі, дзве булкі хлеба ўклалі — пайшоў ён іграючы. Ён часта на жалейцы іграў, гэтак іграў, што нявможна і ў свеце сыскаць.

Прыходзіць на могалку:

— Жоўты пясок, рассыпайся, грабова дошка, адчыняйся, бацька, з мяртвых уставай!

Так гэта і расчынілася. І ўстаець ён з мяртвых.

— Ах,— кажыць,— сынок, што ж ты,— кажыць,— прыйшоў? Я ж казаў большаму прыходзіць!

— Гэ,— кажыць,— яны бацькі свайго баяцца, а я не баюсь, дак я,— кажыць,— прыйшоў, пачалі мяне прасіць!

— Ну,— кажыць,— добра! Ну, вот жа,— кажыць,— сынок, ёсць,— кажыць,— у зялёных лугах, у сцідзёных вадах конік-бурац, вешны кавурац. Дзень,— каець,— буяець, ноч гуляець, а як крыкнеш — да добрага малайца прыбываець! Ну,— каець,— цяпер вот ты,— кажыць,— крыкні, свісні — ён да цябе прыбудзець. Ты на ём пакрасуйся і пусці яго ў зялёныя лугі, у сцідзёныя воды,— гаворыць.— Ну, а цяпер,— кажыць,— кажы за мной: «Бацька, з мяртвымі кладзіся, грабова дошка, зачыняйся і, жоўты пясок, засыпайся!»

Ён гэтак сказаў, бацька з мяртвымі лёг, грабова дошка зачынілась і жоўты пясок засыпаўся. Ён адышоў, як крыкнуў багатырскім голасам, свіснуў маладзецкім посвістам — прыбыла да яго лошадзь: збруя латна, скап'ё булатна, конь багатырскі. Ён цяпер у лева вуха ўлез, а ў права вылез — абярнуўся каралевіч такі, што ў свеце не сыскаць. Уссеў на яе і паляцеў у свет. Тры разы пераляцеў, увесь свет абляцеў — да зямлі тры разы даткнуўся толькі. Цяпер на гэта месца на самае прыехаў, дзе ўссядаў; у права вуха ўлез, у лева вылез — абярнуўся зноў такі старац, як і быў. І гаворыць:

— Лошадзь мая пралюбезная! Ідзі,— гаворыць,— у зялёныя лугі, у сцідзёныя воды, дзень буяй і ноч гуляй, як крыкну, да добрага малайца прыбывай!

Пусціў яе ў чыстае поле, а сам торбу на плечы і пайшоў дамоў. Прыйшоў дамоў ды на печ; ногі на грады, а сам на печы лёг ды іграець у жалейку. Вот ужо браты кажуць:

— Вот, нашага дурня д'яблы не ўзялі, ідзець ужо, у жалейку іграець! Яго,— кажыць,— і не задавіў там ніхто!

Ну, цяпер другая ноч прыйшла ўжо — сярэдняму ісці. Ён іх крэпка застрашыў, што ўжо не пайду, кажыць, за другога. Яны як пакоцяцца з жонкай, брат тэй і жонка:

— Брацец, родны, схадзі,— кажыць,— схадзі!

— Га, не пайду,— каець,— каб вы не даждалі! Схадзіце самі сабе!— каець.

На том сталі, што ўпрасілі-такі яго.

— Ну,— каець,— няхай жонка торбу ў тры палы шыець і дзве булкі хлеба дасць, ужо пайду, што рабіць!

Яны яму после бацькі хлеба не даюць, дак ён у іх есці спрашыець, каб ужо далі. Сычас дала яму жонка торбу і дзве булкі хлеба ўклала. Так ён і пайшоў.

Прыходзіць на могалку:

— Жоўты пясок, рассыпайся, грабова дошка, адчыняйся, бацька, з мяртвых уставай!

Сычас рассыпаўся і пясок, і дошка расчынілась, і бацька ўстаець.

— Што ж ты,— кажыць,— сынок, чаму ж сярэдні сын не прыйшоў?

— Гэ! Яны бацькі свайго баяцца, а я не баюсь, дак я пайшоў узнова!

— Ну вот жа,— кажыць,— ёсць,— кажыць,— узнова ў зялёных лугах, у сцідзёных вадах конік-бурац, вешны кавурац, пушчэйшы трошку таго; то ж няхай і той табе застаецца, калі яны мяне баяцца! Ты,— кажыць,— на ім што хочаш, дак застанеш. Ну, а цяпер, сынок, кажы апяць за мною: «Бацька, з мяртвымі кладзіся, грабова дошка, зачыняйся, жоўты пясок, засыпайся». А ты палюбуйся з ім і адпраў яго зноў у поле!

Ён гэта сказаў, бацька з мяртвымі лёг, грабова дошка зачынілася і жоўты пясок засыпаўся. А сам і пайшоў. Адышоўся, як свіснець маладзецкім посвістам, крыкнець багатырскім голасам — прыбыла да яго лошадзь: збруя латна, скап'ё булатна, конь багатырскі. Ён цяпер у лева вуха ўлез, а ў права вылез — абярнуўся каралевіч такі, што ў свеце не сыскаць. Уссеў на яе і паляцеў у свет. Тры разы пераляцеў, увесь свет абляцеў — да зямлі тры разы даткнуўся толькі. Цяпер на гэта месца на самае прыехаў, дзе ўссядаў; у права вуха ўлез, у лева вылез — абярнуўся зноў такі старац, як і быў. І гаворыць:

— Лошадзь мая пралюбезная! Ідзі,— гаворыць,— у зялёныя лугі, у сцідзёныя воды, дзень буяй і ноч гуляй, як крыкну, да добрага малайца прыбывай!

Рыззе сваё надзеў, а лошадзь пусціў. Жалейку ў рукі, торбу на плечы і прыйшоў дамоў.

— От,— кажыць,— ён нідзе не прападзець!

Сам пад грады, ногі на грады, і іграець на печы ў жалейку. Ну, цяпер прыходзіць яго ноч ужо.

— От, цяпер,— кажыць,— прыходзіць мая ноч! Я,— кажыць,— не буду вас прасіць, сам пайду!

Цяпер устаў з печы, торбу на плечы, жалейку ў рукі і пайшоў на могалку іграючы. Прыходзіць:

— Жоўты пясок, рассыпся, грабова дошка, адчыняйся, бацька, з мяртвых уставай!

Ну, гэтак усё: жоўты пясок рассыпаўся, грабова дошка адчынілась, бацька з мяртвых устаець:

— От ты,— кажыць,— сынок, усё адзін ходзіш! Ну,— кажыць,— што меў ім даць па каню, няхай табе ўсе тры кані. Есць,— кажыць,— у чыстым полі, у зялёных лугах, у сцідзёных вадах конь шчэ троху пушчэйшы. Ты на ём палюбуйся і адпраў зноў у поле. Цяпер,— кажыць,— пращчай, сынок, на век вешны! Імееш ты цяпер свайго каня, што табе быў наміргован, дак цяпер у цябе будзець тройка коней ужо!

Ну, цяпер ён кажыць:

— Бацька, з мяртвымі кладзіся, грабова дошка, зачыняйся, жоўты пясок, засыпайся.

Бацьку адправіў, а сам і пайшоў. Адышоўся ад бацькі, як крыкнець, як свіснець багатырскім голасам, маладзецкім пасвістам — прыбыла да яго лошадзь. Пушчэйшая ўжо далёка. Ён у лева вуха ўлез, а ў права вылез — абярнуўся каралевіч такі, што ў свеце не сыскаць. Уссеў на яе і палящеў у свет. Паездзіў, палятаў, палятаў, прыехаў на места на тое на само. У правае вуха ўлез, у левае вылез — абярнуўся зноў такі старац, як і быў.

І гаворыць:

— Лошадзь мая пралюбезная! Ідзі,—гаворыць,— у зялёныя лугі, у сцідзёныя воды, дзень буяй і ноч гуляй, а як крыкну, да добрага малайца прыбывай!

Пусціў яе ў чыстае поле. А сам торбу на плечы, жалейку ў рукі і пайшоў.

Прыходзіць дамоў:

— От,— кажуць,— наш дурань! Нідзе не прападзець!

Цяпер дзе-та, у яком царстве, у яком гасударстве, скінулася царэўна, аб'явілася і ўлезла на трэці атаж і села на вакошку і такую аб'яўку пусціла: хто яе там застанець і пацалуець, таму ўсё царства астанецца па смерці бацькі, і яе мужам будзець.

Цяпер гэтакі паблікат пайшоў, каб кожан туды прыязджаў, і там будзець скакаць і яе заставаць гэта. І братом яго велена, каб яны ехалі на гэта дзіва глядзець. А ён, дурань, просіцца ў братоў:

— Ах,— кажыць,—браты вы мае родныя! Вазьміце вы мяне з сабой, хай і я па[г]ляджу гэтага дзіва!

— Э, ты,— кажыць,— дурак ты, дурак! Куды ты паедзеш? Хіба табе работы дома няма? От, я табе работу,— кажыць,— дам, калі табе нечага робіць дома!— большы брат кажыць гэтак.

Пайшоў, узяў два гарцы маку ды два гарцы пяску ды ўкучу змяшаў:

— Вот,— кажыць,— пакуль мы прыедзем, каб ты гэта перабраў, да каб чыста было,— гэты асобенна, а гэты асобенна!

Ён тады ўзяў у торбу ўсыпаў:

— Хай табе вочы,— кажыць,— выбярэць! Што ж рабіць — трэба выбіраць!— кажыць.

У голавы ўклаў да й лёг. Ляжыць сабе мак гэты, сохнець пад бокам на печы. Яны паехалі, а ён сплёў сабе каробку, пайкі ў два, у грыбы сходзіць; прынясець грыбоў — тады нявесткі дадуць яму есці, а не прынясець — так не дадуць.

Ну, цяпер знаець ён тое ўрэмя, што яны там ужо, пазаехалі, што там ужо дзіва гэта ёсць, можа паўмесяца ждаў ён там ці колькі, тады ён злез з печы, мак гэты з пяском у каробку ўклаў, жалейку ў рукі і пайшоў у лес, торбы пабраўшы свае.

Прыходзіць ён дзе там, на тэй на луг, дзе яму следуець ужо; як крыкнець, свіснець — прыбылі да яго лошадзі ўсе тры.

— А,— кажыць,— лошадзі мае пралюбезныя! У таком-та царстве, у таком-та гасударстве скінулася царэўна, узлезла на трэці атаж і села на вакошку і такую аб'яўку пусціла: хто яе там заставіць і пацалуець, таму ўсё царства астанецца па смерці бацькі, і яе мужам будзець. Ці не маглі б мы,— гаворыць,— туды заехаць і з ей павідацца?

Большы лошадзь атвяшчаець:

— Што,— гаворыць,— будзець урэмя, ды не цяпер,— гаворыць.— Едзь ты,— гаворыць,— на малой лошадзі цяпер; ну, зніміся ты за вярсту!— гаворыць.— Ды,— гаворыць,— не вітайцеся з ей. Так як будзеш ляцець, так і паляці!— гаворыць.

Ён тады ў свайго лошадзя ў лева вуха ўлез, у права вылез — абярнуўся каралевіч такі, што ў свеце не сыскаць: чыст, на ім адзежа, што ў свеце няможна сыскаць такія. Як пусціў — тыя

ехалі можа месяц, паўтара месяца, а ён у тры часы стаў там. Як ляцеў, так каля яе ног, каля самых абляцеў!

Яны:

— Лаві! Лаві!

А ён як ляцеў, так і паляцеў — быў да й няма. Прылятаець на тое места, як свіснуў, як крыкнуў — прыскочылі тыя лошадзі. Ён у права вуха ўлез, у лева вылез — як быў старац, так і ёсць. І большы лошадзь усе парадкі парадчыць. Ён тады каець:

— Лошадзь мая пралюбезная! Ёсць жа ў мяне работа: два гарцы маку і два гарцы зямлі, да ўкучы!— гаворыць.— Як ба мы яе павыбралі?— каець.

Цяпер большы лошадзь гаворыць:

— Ну,— гаворыць,— раздзірай на посцілкі свае торбы,— гаворыць,— і сцялі посцілкі на зямлі, высыпай,— гаворыць,— мак гэты на посцілкі!

Ён сычас высыпаў гэты мак на посцілкі. Лошадзі тыя ў ноздры як дунулі — і разлучылі гэты мак: мак асобенна, пясок асобенна. Прыносіць дамоў, набраў каробку грыбоў тую, сам на печ, мак у голавы. Нявесткі атвяшчаюць:

— Ці выбраў,— кажыць,— ты мак? Будзець табе,— кажыць,— ад іх, як прыедуць.

— А хай вам вочы выберэць! Павыбраў, — кажыць, — і мак, і грыбоў во набраў.

От, цяпер, прыязджаюць браты і кажуць сваім жонкам:

— Божа! Божа! Што там было! І падскаквалі,— кажуць,— і ўсё. А адзін царэвіч,— кажуць,— дак увесь у золаце, як скакнуў, дак да ног даскочыў! «Лаві, лаві! Дзяржы, дзяржы!» — а ён і паехаў. Тут-тут пацалаваць яе, да,— гаворыць,— і паляцеў!

Ну, цяпер яна не ўрымсціць гэтага, што ён гэтакі. Аявіла паблікат, каб узноў з усяго царства што да душы кожан хадзяін быў. А сама на чацвёртым атажы ўжо села на вакне.

Ну, цяпер, з'езд стаў, едуць усе — дзесятнікі выганяюць, з'езд такі, што божа мой! Ну, едуць гэтыя ўжо браты.

— «Вазьміце,— кажыць,— мяне з сабой. Хай я па[г]ляджу гэтага дзіва!

— А дурань ты гэтакі-такі! Куды ты,— кажыць,— паспееў? Табе,— кажыць,— работы няма дома! От я табе,— кажыць,— работу дам!

Пайшоў, тры гарцы маку і тры гарцы зямлі і ўкучу змяшаў:

— Каб мне,— кажыць,— перабраны быў, пакуль я прыеду!— гаворыць.

Большы ўсё брат гэтак. А сам і паехаў. Ён тэй пясок сушыць на печы.

Цяпер ён ведаець, што блізка ўжо ўрэмя тое, ёсць ужо там сыборышча. Сычас злязаець з печы, каробку на плечы, мак у посцілку, у каробку, і пайшоў у лес. Прыходзіць на тэй луг, як свіснець, як крыкнець — прыбылі да яго лошадзі.

— Ну, чаго жалаеце?

— Ды,— гаворыць,— ці не ўрэмя нам ехаць?

Большы конь адказуець:

— Успеем,— гаворыць,— шчэ! Цяпер,— гаворыць,— павышы йна ўзлезла! І едзь ты,— гаворыць,— на сярэднім,— гаворыць,— кані! І тож,— кажыць,— блізка каля яе, да не вітайся з ей — успеем вітацца!

Так сычас ён лашадзей тых адправіў у чыстае поля, у зялёныя лугі, у сцідзёныя воды, а сам сярэдняй лошадзі ў лева вуха ўлез, у права вылез і стаў каралевіч такі, што сыскаць няможна! Адзяянне чыста, што й сказаць няможна. Сеў і паехаў. Тож ехалі па месяцу, па паўтара месяца, а ён за паўтара часа стаў там. Як ляцеў, падняўся каля яе, каля самае ўжо каля палавіны — тут вітацца б ужо, ды не вітаўся,— і паехаў прама. Тут:

— Лаві-лаві! Лаві-лаві!

А ён і паляцеў! За паўтара часа назад звярнуўся. Ну, тут толькі як — і распусцілі зноў усіх,— як ён паляцеў, там з вакна яна саскочыла, і распусцілі ўсіх. А ён прыскочыў на сваё места, як свіснуў, як крыкнуў — прыскочылі тыя лошадзі. Ён у права вуха ўлез, у лева вылез — як быў ашарпаны, такі і стаў зноў. Ён тады кажыць:

— Лошадзі мае пралюбезныя! Ёсць жа ў мяне работа: тры гарцы маку і тры гарцы пяску, да ўкучы. Ці не маглі б мы мак так разабраць?

Цяпер большы лошадзь гаворыць:

— Ну,— гаворыць,— раздзірай на посцілкі свае торбы,— гаворыць,— пасцялі посцілкі на зямлі, высыпай,— гаворыць,— мак гэты на посцілкі.

Ён сычас высыпаў гэты мак на посцілкі. Лошадзі тыя ў ноздры як дунуць! Туды-сюды, туды-сюды, туды-сюды, мак тэй разабралі і пайшлі. Ён мак у каробку, грыбоў набраў і прыйшоў дамоў. Тры часы прамедліў толькі. Прыносіць грыбы гэтыя:

— Наце,— кажыць,— хай вам бог не паможыць! Дзень правёў, пакуль мак перабраў, во грыбоў назбіраў — вы ўсё кажаце, што нічога не роблю.

27. Зак. 270

Прыязджаюць яго браты. Пачалі жонкам расказваць:

— Божа мой! Якія штукі там былі! Якое як, як ляталі, як што! Адзін,— кажыць,— царэвіч падняўся, тут-тут-тут пацалаваць! Да не! Падняўся,— кажыць,— і паляцеў пад небясá!

А дурань кажыць:

— Ох,— кажыць,— ці не быў і я там?

— Гэ! Ты дурань! Ці перабраў ты мак?— кажыць.— От я табе перабяру, калі ты не перабраў!

— Э,— кажыць,— павыбраў, хай табе вочы выберэць! А я павыбраў мак і грыбоў нанасіў!— кажыць.

Ну, цяпер, тут не доўга ждучы, сычас трэці паблікат: каб узнова збіраліся ўсе! А яна ўзлезла на пяты [а]таж на вакошка. Ну, й ім прыказ гэтакі цвёрды, каб усе былі, да душы каб былі, усе хадзяіны каб былі, усякі каб ішоў.

Просіцца ён у іх:

— Братцы,— кажыць,— вазьміце вы мяне раз! Хоць я дзіва гэтага па[г]ляджу!

Большы брат кажыць:

— Агу! А вот я табе работы дам, калі табе работы няма! Пайшоў, чатыры гарцы маку і чатыры гарцы пяску прынёс:

— На, перабяры! А то,— кажыць,— печы ўсё пілнуеш!

Ён на посцілку ўсыпаў да й пад голавы на печ, сушыць на печы.

Знаець ён тое ўрэмя, ведаець, што ёсць ужо там сыборышча. Сычас злезаець з печы, каробку на плечы, мак у посцілку, у каробку і пайшоў у лес. Прыходзіць на тэй луг, як свіснець, як крыкнець — прыбылі да яго лошадзі:

— Ну, чаго жалаеце?

— Ды,— гаворыць,— ці не ўрэмя нам ехаць?

Большая кажыць лошадзь:

— Урэмя,— кажыць,— мы цяпер усё ўрэмям здзелаем.

А яна [царэўна] узлезла на пяць атажоў на вакно ды й села. А ён каробку пад куст, а сам у лева вуха ўлез, у права вылез. Як вылез — быў царэвіч, а то ўжо ў свеце няма лепш яго ўжо. У вадзін час прыехаў туды. Як падняўся і павітаўся з ею і прыдзéржыўся. І яна яму пячатку прыклала: першую ў патыліцы, другую на лоб. Ён і паляцеў. Тут:

— Лаві! Лаві!

Да й некага лавіць — ён быў, да няма! Ну, цяпер, прыляцеў на места, у права вуха ўлез, у лева вылез — абярнуўся зноў такім паршывым, як і быў. Гаворыць:

— Лошадзі мае пралюбезныя! Ёсць жа,— гаворыць,— у нас работа: пяць гарцаў,— гаворыць,— маку і пяць гарцаў пяску: трэба нам яго перабраць.

Цяпер, большы лошадзь гаворыць:

— Ну,— гаворыць,— раздзірай на посцілкі свае торбы,— гаворыць,— пасцялі посцілкі на зямлі, высыпай,— гаворыць,— мак гэты на посцілкі!

Ён сычас высыпаў гэты мак на посцілкі. Лошадзі тыя ў ноздры як дунуць! Туды-сюды, туды-сюды, туды-сюды, мак тэй разабралі і пайшлі. Ён іх адпусціў.

Лошадзі,— гаворыць,— пралюбезныя! Ідзіце ў зялёныя лугі, у сцідзёныя воды!

Узяў каробку, пайшоў у лес, грыбоў набраў. І здаў бабам грыбы гэты і мак. А сам ажыдаець братоў, на печы лежучы, мак у галавы. Прыязджаюць браты. Пачалі жонкам расказваць:

— Божа мой! Якія штукі там былі! Якое як, як лята лі, як што! Адзін,— кажыць,— царэвіч падняўся і павітаўся з ею. А яна яму пячатку прыклала.

А дурань кажыць:

— Ох,— кажыць,— ці не быў і я там?

— Гэ! Ты дурань! Дзе табе быць? Ці перабраў ты мак?— кажыць.— От я табе перабяру, калі ты не перабраў!

— Э,— кажыць,— павыбраў, хай табе вочы выберэць! А я павыбраў мак і грыбоў нанасіў!— кажыць.

Гэта ім дзіва, што як ён выбраў мак гэты:

— Ну, дось з цябе работы стала, відаць!

Ну, цяпер, гэта царэўна пусціла паблікат, каб к ей явіўся гэты жаніх яе. Перва-наперва зазвала з панства, з больших памешчыкаў, вобыск пусціла. Абгледзела — няма яго. І розыск распусціла назад гэтых. Цяпер з шляхтаў, а после з купцоў, з мужыкоў, з усякіх-усякіх — шукала йна ўсіх. Цяпер з нішчых, дзе які ні быў, ды каб сабраныя былі ўсе. Усе ўбогія пасабіраліся — якія б сабе ні было,— дурныя, якіх-якіх толькі, абы б толькі чалавек, дак усіх сабіралі.

— Ну,— кажыць,— браты, тады я прасіў, каб вы мяне ўзялі, а цяпер я й без вас пайду! Мажа, йна і ка мне ці не прызнаецца!— кажыць.

Узяў жалейку ў рукі, марш і пайшоў. Прыходзіць у чыстае поле, у зялёныя лугі, у сцідзёныя воды. Як крыкнуў, як свіснуў багатырскім голасам, маладзецкім посвістам — прыбылі да яго лошадзі ўсе тры:

— Ах, лошадзі мае пралюбезныя! Сабіраюць усіх туды, і нішчых, ці не можна б і нам туды дастацца?

А большы лошадзь атвяшчаець:

— Цяпер табе трэба ехаць на меншым лошадзю! І ты,— гаворыць,— не ўбірайся ніяк.

А меншаму лошадзю кажыць:

— Ах,— кажыць,— брат мой любезны, падвязі яго пад такую і такую ізобку, пад лазеньку — там лазенька стаяла недалёка ад дварца, за вярсту, — падвязі пад лазеньку і кінь там!

А яму гаворыць:

— А ты,— гаворыць,— узлезь на цапкі, ногі на грады і іграй у жалейку! Цябе,— гаворыць,— найдуць тамацькі.

Ён сеў на каня і паехаў, прыехаў пад лазеньку, увайшоў у яе, узлез на цапкі, лёг на цапкі, ногі на грады, пад столь. Іграець у жалейку. А сам каравы, паршывы — страшна глядзець на яго! Сахронь божа! Здаецца, няможна б было пашчытаць яго за чалавека! Ну, яна цяпер усіх гэтых нішчых перагледзела сама з дзеўкай. Няма яе жаніха! Тады гаворыць там які ўбогі, напрымер, дзеўцы расказуець:

— Вот,— кажыць,— у лазні там іграець нейкі, так у свеце няма такія музыкі, як там у лазні!

Дзеўка гэта атвячаець ёй [царэўне], што, гаворыць, у лазні ляжыць на цапках, іграець у жалейку, у свеце не чуць такея музыкі, як ён.

Яна сама марш з дзеўкай у лазню ў гэту. Адчыніла — гэтак іграець прыгожа, што сахронь божа! Няможна ўцерпець, здаецца! Ухапіла, залабіцу яму падняла — тут пячатка яе, і тут яе. Зняла яго адтуль, вядзець за руку к бацьку ўжо. Ён зробіўся такім дурным:

— Не пайду,— упіраецца, не йдзець!

А яна яго вядзець — абшарпаны, абодраны,— божа ратуй! Няможна на яго глядзець. Бацька ўзяў пляваць на яе!

— Ну,— кажыць,— татулька, як сабе хочаце, а гэта,— гаворыць,— мой.

Ну, цяпер, у яго былі, у гэтага цара, шчэ дзве дачкі замужніх, да то былі за вінішых царыкоў паддаваны, напрымер. Ну, узыскаў ён гэтых царыкоў на вяселле ўжо — гэта дачка жэніцца ўжо з гэтым. Цяпер ён пры старасці лет.

— І вот,— гаворыць,— зяці мае пралюбезныя: ёсць у каторым-та царстве, у каторым-та гасударстве свінка — залатая спінка, носам арэць, а нагамі барануець, і ззаду хлеб расцець за ей — можна самому цару есці. Каторы,— кажыць,— заста-

нець яе і прывядзець гэту свінку, так таму,— гаворыць,— усё царства апішу!

Ну, цяпер, гэтыя царыкі абодвы гэты:

— Ну, што,— гавораць,— трэба ехаць. Бацькі трэба слухаць! А бог ведаець, дзе яна, у каторым царстве тая свінка!

Цяпер і яна на яго — гэты зяці ўвабраліся, узялі сабе войску, музыку — марш і паехалі па свінку па гэту. А яна на яго:

— Ну, што ж,— кажыць,— ці не з'ездзіў ба ты, ці не дастаў ба?

— Што ты?— кажыць.— Барані божа, куды я паеду? Няхай яны едуць, прывязуць свінку! Выдумалі што — свінку нейкую, ідзе яе возьмеш? Я,— кажыць,— ні за што не паеду, барані божа!

Яна і заплакала. Падаждаўшы так, з паўгода можа прапусціў, тады ўздумаў:

— Душка,— кажыць,— душка! Схадзі ты,— кажыць,— к бацьку, вадапойныя кабылкі папрасі, паеду,— кажыць,— і я за свінкай!

— Дурань ты,— кажыць,— дурань! Тэя ўжо можа вязуць, а ты ўздумаў ехаць!

— Няхай сабе,— кажыць,— вязуць! Схадзі-тка ты,— гаворыць,— к бацьку. А не дасць, дак я пяшком пайду!

Цяпер, яна пайшла к бацьку:

— Татулька,— кажыць,— просіць мой дурань хоць вадапойныя кабылкі: хочыць і ён ехаць!

— Э,— кажыць,— уздумаў! Ну, ды схадзі,— кажыць,— на стайню, няхай дадуць хурманы якога яму каня там!

Прывялі яму якую там кабылёшку. Ён выйшаў з пакою, к галаве сеў плячмі, а хвост у рукі, ды ладоняй па заду, па заду! Б'е тую кабылёшку. І паехаў.

— Во,— кажуць,— дурань па-дурному і ездзіць!

Выехаў дзе ў алешнік тамацькі, саскочыў з гэтага каня, ухапіў за хвост, як траханець — косці вытрас:

— Сарокі, вароны!— гаворыць.— Вам свежае мяса, а табе, кусця, вешная накрыўка!

А тады як крыкнуў багатырскім голасам, свіснуў маладзецкім посвістам — прыбылі да яго лошадзі.

— Ах,— гаворыць,— лошадзі мае пралюбезныя! У каторым-та царстве, у каторым-та гасударстве ёсць свінка — залатая спінка, носам арэць, нагамі барануець, а ззаду хлеб расцець — можна самому цару есці! Ці не можам мы,— гаворыць,— яе застаць?

Цяпер лошадзь большы атвячаець:

— Зачым,— гаворыць,— цар наш найяснейшы? Можам,— гаворыць,— застаць. І едзь ты,— гаворыць,— на меншай лошадзі!

І даў яму лошадзь, едвабны шнурок і кожаны бізун і гаворыць на лошадзя:

— Ты дратуй яе нагамі, а ты сячы яе бізуном, пакуль яна здасца вам!

Цяпер ён у лева вуха ўлез, а ў права вылез і здзелаўся такім каралевічам, што і сказаць няможна. Сеў на каня і паляцеў. І прамінуў ён іх у паўдарогі шчэ.

Як прыляцеў, ажно гэта свінка носам арэць, нагамі барануець. Ён напаў на яе, як узяў яе сеч, як узяў яе сеч! Конь капытамі, а ён бізуном. Свінка гэта:

— Ах,— кажыць,— заморскі чалавек, што ты з мяне хочаш?— гаворыць.— За што ты мяне стаў так забіваць?— гаворыць.

— Здайся,— гаворыць,— свінка, бо ўб'ю цябе, не пушчу цябе жывое!

Датуль яе біў, пакуль яна здалась. Тады сеў, на едвабны шнур зачапіў і вядзець яе. Сычас чуець ён, што яны гэта едуць ужо туды. Ён з дарогі ў бок з'ехаў, у права вуха ўлез, у лева вылез — абярнуўся зноў паршывым такім, як і быў. Цяпер ён, значыцца, абярнуўся такім самым, у лахмоцці ў такім, як і быў, гэты дурань, свінку гэту прывязаў на едвабным шнуру, свінка гэта сваім парадкам ўзяла работаць зямлю гэта: носам арэць, нагамі барануець, ззаду хлеб расцець і паспяваець — самому цару можна есць яго. А ён цеплушко расклаў у гэтых дубках ды ў жалейку іграець, на баку ляжыць. Ажно наехалі гэтыя швагры яго і з сваім войскам і ўвідзелі гэта: у дубках у гэтых цяпло гарыць. Цяпер яны пасылаюць лакея:

— А ідзі,— гавораць,— па[г]лядзі, што-та за [а]гонь гарыць там, у дубках у гэтых?— гавораць.— Трубачку закуры і ідзі і распытайся, хто там такі гэта?

Цяпер гэты лакей прыходзіць і ўзнаў яго. Свінка прывязана, а ён на баку ляжыць, у жалейку іграець. Лакей гэты прыходзіць к ім:

— Што там за [а]гонь?

— Да,— гаворыць,— наш дурань вядзець гэту свінку ўжо!

— Як можна быць?— гавораць.— Пойдзем мы,— гавораць,— па[г]лядзім. Альбо мы,— гаворыць,— па чэсці як у яго выпрасім, альбо мы яе адбяром у яго!

Прыходзяць к яму:

— Здрастуй, швагра!

— Здаровы, — гаворыць.

— Ці ты ўжо,— гаворыць,— свінку вядзеш?

— А вяду,—кажыць.— Я [а]дну сабе,— кажыць,— узяў, а там,— кажыць,— многа свінак ходзіць яшчэ. Едзьце і вы, вазьміцё сабе!

— Да не,— кажыць,— што ты ўрош, швагра, яна там,— гаворыць,— адна такая была! Ну, што,— гаворыць,— швагра, аддай нам свінку!

— А не,— кажыць,— вы сабе з'ездзіце, другую возьмеце сабе! А я гэту павяду к бацьку. Ці ўсё ж,— кажыць,— вам: і я павяду к бацьку!

Цяпер ён думаў, думаў, што тут здзелаць? Просяць не дай бог як: мы табе тое дадзім, мы табе тое! Потым таго, гаворыць:

— Ах, бог з вамі! — гаворыць. —Калі адрэжаце мне на назе па палцу па медным, дак вазьміце сабе!

Яны гэта думалі, думалі, узялі што здумалі: свае дахтары, сваё ўсё — нічога!— думаюць.

Узялі адрэзалі па палцу.

— Ну,— гаворыць,— бярыце, вядзіце!

Узялі, павялі свінку. А сам ён астаўся ля гнюшка́ ля таго. Пасядзеў ці паляжаў ён колькі там, адвялі яны ад яго можыць вярсту, можыць болі, тады ён як свіснець на лошадзь — прыскочыла к яму лошадзь. Ён у вадзін час дома стаў. Яны ехалі паўгода, а ён за тры дні справіўся. Прыехаў дамоў, лошадзь пусціў у зялёныя лугі, у сцідзёныя воды, и сам ідзець, у жалейку іграець.

— Вот,— кажыць,— дурань! Каня, —кажыць,— нейдзе спратаў і ідзець, і свінкі не вядзець, і іграець у жалейку!

Жонка пытаецца яго, гаворыць:

— Дзе ж ты быў, дзе ты лошадзь дзеў?— гаворыць.

— А што?— кажыць.— Я ехаў, ехаў, лошадзь упала, дак я і кінуў яе; прапала, дак я і вярнуўся. Ці мне пяшком ісці?

Ажыдаець ён ужо тых. Жонка плачыць:

— От,— кажыць,— і хваліся мне бацьку табою! Выпрасіла,— кажыць,— у бацькі лошадзь, і ты паехаў, і лошадзь прапала нейдзе! А тыя свінку прывядуць, і бацька царства ім апішыць, а нам нейдзе будзець — хоць ты па кусках ідзі! — гаворыць.

— Ну, няхай сабе, і нам нейдзе будзець места!

От, тыя прыводзяць яны месяцы цераз два ўжо свінку. І такея радасці там, божа сахрані! Сярод дзядзінцу прывязалі, перад пакоем, свінка тая работаець сваім парадкам. Ну, сычас радасці такея; тут гэта цар справіў вечарынку, напрымер: зяці прывялі, значыцца, свінку. І гэта, значыцца, пазбіраліся госці, прочыя каралі, глядзець свінку, што то такое.

Ну, цяпер, гаворыць:

— Ну што, зяці мае пралюбезныя!— гаворыць.— Ёсць у каторым царстве, у каторым гасударстве,— гаворыць,— кабыліца з дванаццацьмі жарабцамі. Яна ходзіць і замузда́на, закілза́на, і пад сядлом. І дванаццаць жарабцоў ля яе! Калі тую,— гаворыць,— кабыліцу ўловіце і прыведзяцё ка мне — ваша царства! Я толькі буду з кавалка хлеба ў вас сядзець!

Яны-то муляцца, самі з сабой гавораць:

— А што,— кажыць,— дурань,— кажыць,— і гэта дастанець! От бяда, — кажыць. — Ну, што, — кажыць, — дзелаць! Застанець, будзем узноў прасіць у яго — ці па чэсці,— гавораць,— ці па сэрцу, а ўсё неяк дастанем у яго!

Ну, сычас адпраўляюцца яны зноў. Пабольш войска з сабой узялі. А гэта дужа далёка, нязвесна, у каторым царстве. На цэлы год забіраюцца. Тады жонка:

— Што ты,— кажыць,— ведаеш? Ці не з'ездзіў бы ты па кабыліцу па гэту?

— Гэ! Божа сахрані! Як мне,— кажыць,— ехаць? Ці ў мяне конь ёсць, ці ў мяне войска? Куды мне ехаць?

Тоя-сёя пачаў. Ён абаждаў таго, после таго месяца паўтара.

— Душка,— кажыць,— душка! Схадзі к бацьку!— кажыць.

— Чаго?

— Папрасі,— кажыць, —вадапойныя кабылкі! З'ездж у і я па кабыліцу!

— Дурань ты, дурань! Яны ж нейдзе вядуць ужо!

— А, вядуць! Добра, устрэну на дарозе, дак і я вярнуся, калі вядуць!

Цяпер яна не хочыць ісці к бацьку. Нацяўся на тое, што схадзі!

— Да мне,— кажыць,— страмна за цябе хадзіць, дзеставаць: апяць прападзець кабыла!

— Ну,— кажыць,— схадзі!

Прыходзіць:

— Татулечка! Дай,— кажыць,— ізноў кабылу якую, хоць вадапойную: хочыць ехаць мой дурань па кабыліцу!

Ну, ён толькі насмяяўся з гэтага.

— А схадзі,— кажыць,— хай дадуць яму якога там каня! Няхай,— кажыць,— папробуець ехаць! Яшчэ,— кажыць,— звядзець, нейдзе здохнець, назад прыйдзець пяшком!

Сычас хурманом сказала, асядлалі яму лошадзь і вядуць пад ганак. Ён гэта ўссеў на галаву плячмі, а за хвост рукамі ўзяўся, і лошадзь гэту па заду рукамі! І пае-е-е-хаў за вароты.

— От,— кажыць,— дурань! Па-дурному і ездзіць.

Ён выехаў у дубкі, з гэтыя лошадзі саскочыў. За хвост! Косці вытрас.

— Сарокі, вароны! Вам свежае мяса! А табе, кусця, вешнае пакрывала!

А сам як крыкнець багатырскім голасам! Свіснець маладзецкім посвістам — аяўляюцца к яму лошадзі.

— Лошадзі мае пралюбезныя! Ёсць у каторым-та царстве, у каторым-та гасударстве кабыліца з дванаццацьмі жарэбчыкамі. І замуздана, і закілзана, і пад сядлом. Ці не магом мы яе застаць?

Большы лошадзь атвячаець яму, гаворыць:

— А з чым жа ты,— гаворыць,— па яе едзеш? Гэта ж кабыліца — наша родна матка! І нас,— гаворыць,— тры адлучана ад яе, а дзевяць жарабцоў пры ей-то!

І гаворыць:

— Вярнісь ты, папрасі ў свайго, жану сваю папрасі, каб яна спрасіла ў бацькі дзядоўскага бязмена!— гаворыць. А той бязмен пудоў трыццаць!— ехаць па кабыліцу ўжо па тую.

Вярнуўся ён дамоў:

— Душка,— кажыць,— душка! Схадзі ты,— кажыць,— к бацьку, папрасі дзядоўскага бязмена!

Гэты цар і засмяяўся з гэтага, што ён, кажыць, кабылу заб'ець там тую дзядоўскім бязменам. І ён, дурань, яго не падзействуець.

— А,— гаворыць,— няхай прыйдзець возьмець, калі яму трэба дзядоўскі бязмен!

Сычас, дзе-то ён там ляжыць у клеці, бязмен гэты.

— А вот,— гаворыць,— падзі вазьмі, калі табе трэба!

Ён сычас пайшоў, добры маладзец, ухапіў на руку і ўзяў з ім папіраццa, заместа ляскі. Цяпер цар гэты атвяшчаець:

— Ну, ні ў ком ты лашадзей папрыбіраў маіх, ажно ты нічога малец!

Прыбыў ён к сваім лашадзям. Лошадзь большая атвяшчаець:

— Ну,— гаворыць,— садзісь,— гаворыць,— ты на мяне і сматры,— гаворыць,— як прыедзем мы к ей, к кабыліцы, дак яна даўно,— гаворыць,— мяне відзела, дак яна з радасці,— гаворыць,— можыць з'есці нас! Яна,— кажыць,— і закілзана і замуздана,— гаворыць,— уся збруя пры ей; ходзіць трыццаць тры гады з дзевяцімі жарабцамі, а нас тры адлучана ад яе. Дак ты,— гаворыць,— я як буду ляцець, дак поплеч стану з ей, яна станець нюхацца са мной, а ты як-небудзь хватайся,— гаворыць,— садзісь на яе! Як толькі ўскочыш на яе, так яе бязменам і лупі межы вуш! Датуль яе лупі, пакуль яна табе здасца. Яна,— гаворыць,— панясець цябе пад небяса, а ты ўсё лупі яе, пакуль здасца. А я буду прасіць: «Матушка, здайся, а то,— гаворыць,— заб'ець цябе!...»

Ну, так і стала. Ён як ускочыў на яе, падняла яго пад небяса! А ён яе хвошчыць.

— Ах,— гаворыць,— які гэта ўссеў на мяне!— гаворыць. Трыццаць тры гады езджу, ніхто не садзіўсь на мяне. Які гэта?

А ён просіць, лошадзь гэты:

— Матушка, здайся,— гаворыць,— а то заб'ець.

— Ну,— гаворыць,— стой, Іван Іванавіч, не бі мяне!

Яна ўжо яго назвала Іван Іванавіч.

— Хадзіла,— гаворыць,— па волі, а цяпер буду пад няволяй!

Ён цяпер едзець на кабыліцы на гэтай, а дзевяць жарабцоў ідуць услед за імі, а яго лошадзь дзесятая. Едзець ён, ажно чуець — едуць гэта швагры яго па кабыліцу па гэту. Ён сваю лошадзь пусціў у чыстыя лугі, зялёныя травы з'ядаць, а гэту кабыліцу прывязаў. Ажно сычас яны пасылаюць лакея — увідзелі дымок: ён расклаў дымок і сядзіць ля кабыліцы ля тыя.

— Ідзі,— гаворыць,— па[г]лядзі,— на лакея,— непрыменна гэта дурань вядзець кабылу ўжо!

Лакей гэты падходзіць:

— Пазвольце,— гаворыць,— піпачку закурыць!

— Ізволь,— гаворыць,— пакур!

Узяў цяпла і пайшоў ад яго. Прыходзіць.

— А што?— гавораць.

— Да што,— гаворыць,— вядзець кабыліцу і дзевяць жарабцоў ля кабыліцы!

— А ля яе ж было дванаццаць жарабцоў?

— Нету!— гаворыць.— Толькі дзевяць, а дзесятая кабыліца!

— Ну што,— гаворыць,— пойдзем?

— Пойдзем ужо прасіць яго, на вошта сойдземся?— гавораць.

Прыходзяць к яму:

— Здрастуй, швагра!

— Здароў, швагры!

— Ці ты ўжо кабылу вядзеш?— гавораць.

— А,— каець,— я сабе ўзяў,— каець.— Там многа коней ёсць,— каець,— ходзяць. Я сабе кабылу ўзяў, дзевяць жарабцоў за ей ідзець!

— А ну, швагра,— гавораць,— дось табе смяяцца з нас!

Ён ім атвяшчаець:

— Што ж,— гаворыць,— за смех? Пры той жа кабыле дванаццаць жарабцоў, а я толькі— каець,— узяў з дзевяцьмі жарабцамі. Дак тая кабыліца нейдзе там яшчэ ваша!

— Ну, швагрaчка!— гавораць. — Хай тая там будзець, и ты нам спусці гэту.

Ён гэта думаў, думаў, просяць дужа яго крэпка.

— Ну,— гаворыць,— адрэжу я па палцу на руцэ, па медзянам, да й бярыце сабе!

Яны гэта абдумаліся:

— Ну што,— гавораць,— у нас свае дахтары, сваё зелле, усё сваё — сычас гэта ўслед загоіцца! Што нам гэта? — каець.— Адрэжам!

Адрэзалі па палцу. Ён гэты палцы пазбіраў і ў каліту. У каліту ўлажыў, а ім кабылу аддаў. І павялі яны ад яго.

— Ну,— каець,— швагра, паедзем разам!

— А я,— гаворыць,— вам не таварыш; вы мяне адтуль не водзіце і адгэтуль не паведзяце!

[У]зялі ад яго кабылу і павялі гэту. Ён часы два прамедліў там, пасля прызваў сва[й]го лошадзя, ускочыў на лошадзя і прыляцеў дамоў: чацвёра сутак ён прамедліў. Ідзець, бязмен на плячах нясець, у жалейку іграець, і ідзець сабе па двару па царскім. Яна сустракаець яго:

— Дзе ж ты,— каець,— лошадзя дзеў, дурань ты?

— А што ж,— гаворыць,— ляску сваю,— гаворыць,— вёз і сам уссеў, дак яна й прапала!— гаворыць.— Вярнуўся я! Куды ж я,— гаворыць,— пяшком пайду?

От так яна ўзнова ў голас. А ён сабе гэтак сама на ложку, жалейку ў рукі, іграець сабе.

— От, толькі,— гаворыць,— ты на гэта!

Цяпер, цераз месяц прыводзяць тыя кабылу і дзевяць жарабцоў ля яе. Гэтакія радасці, музыка тут ідзець за гэтай кабы-

ліцай, іграець тут! З'езд гэтакі сматрэць гэтых лашадзей, што прывялі! Бог знаець, якая лошадзь. Сабралося прочых каралёў! І будзець гэты цар апісваць царства сваё ўсё зяцём сваім гэтым.

— Ну, што,—гаворыць,—зяці, я [а]бдумаўся!—гаворыць.— Ёсць то,— каець,— у каторым царстве, у каторым гасударстве стаіць,— гаворыць,— леў ля студні, ля калодзезя па-простаму, прыбіты на дванаццаць ланцугоў. А яму пастаянна як дзень, так ноч шэсць чалавек ваду ллюць з студні. А ён п'ець услед як дзень, як ноч. І ўсе з свае нпэрыі балесці сцягуець і з народу, і з скату. Вочань крэпка там здаровы і скот і народ. Калі,— гаворыць,— вы гэтага лева ўкрадзеце адтуль і прыведзяцё мне,— гаворыць,— усё ваша!— гаворыць.— Усё царства ваша! І я,— гаворыць,— буду на ласкáвым хлебе, тады ўжо сядзець у вас!

Ну, што ж? Яны абдумаліс гэта:

— Пакуль мы даедзем, дак дурань ужо будзець весці. А мы,— гаворaць,— як-небудзь у яго вымарачым!

Так яны ўзгарачыліся.

— Ну,— гаворaць,— застанем! Як-як, а застанем,— гаворaць,— і лева ўжо.

Забралі войска пабольшы з сабой і музыку, зайгралі з двара і паехалі. Цяпер жана к яму гаворыць:

— Ах, дурак, дурак, што з цябе будзець? Толькі,— гаворыць,— ляжыш,— гаворыць,— у жалейку іграеш! От яны прывядуць лева,— гаворыць,— і ўсё,— каець,— царства застанецца ім, а мы з табой па кусках пойдзем!

— Ах,— каець,— душка, душка! Ці па кусках людзі не ходзяць? А ўсё ж такі хлеб ядуць!— каець.

Ну, яна на гэтым і астанавілась. Цяпер ён, падаждаўшы месяца паўтара ці два там, надзеецца, што яны ўжо пад'язджаюць блізка к леву к гэтаму, і гаворыць:

— Душка! Схадзі-тка к бацьку, папрасі зноў мне кабылёшкі вадапойныя, папрабую зноў ехаць па лева.

— Я не пайду,— каець,— болей прасіць і бацькі нарушаць,— каець.— Калі хочаш,— каець,— ідзі пяшком!

— Ну,— гаворыць,— прашчай жа! А ўжо ж пайду хоць пяшком!

Папрашчаўся з жаной і пайшоў. Адышоўся ён сколькі тамацькі, тады дзе яму там выпадалася, прызваў сваіх лашадзей к сабе, усіх трох на раду. Большы лошадзь атвяшчаець ды сярэдняй лошадзі ўжо раіць, як што дзелаць:

— Едзьце вы,— гаворыць.— Як пад'едзеце блізка пад яго, так,— гаворыць,— няхай ён у лева вуха ўлезець, а ў права выле-

зець. Абернецца ён,— гаворыць,— асілкам і чыста [а]дзежа на ём купечацкая,— каець.— Каня астаў у лугах, а сам пешшу ідзі. [Я]к прыйдзеш ты к гэтай студні, к леву к гэтаму, так ты сычас нанімайся ў гэтага цара адзін спайваць гэтага лева. І гэты леў знаець, аб чом ты прыйшоў. І гэты цар цябе наймець; патаму ён наймець, што ў яго дванаццаць чалавек выходзіць у суткі тольki ваду ліць — дзве перамены. А ты наймешся адзін, дык ён табе дужа дорага будзець у год плаціць. І патом таго ўначы нара́дзішся з левам, як што дзелаць, леў табе нарадзіць!

Ён сычас і паехаў. Лошадзь пусціў у поле, сам прыходзіць к студні, к леву к гэтаму:

— Здрастуй,— гаворыць,— рабяты!

— Здароў, здароў,— гавораць.

— Ну, што ж,— гаворыць,— рабяты, што вас шэсць чалавек налiваеце гэта ваду ўсё?

— Да нас,— каець,— дзве перамены. І заўсёды,— гавораць,— усё дванаццаць чалавек у суткі выходзіць.

— А я ж,— гаворыць,— аб'явіце,— гаворыць,— свайму цару: я адзін змоўлюсь паіць яго.

— Да,— гавораць.— Да нічога не здзелаеш адзін!

— Да, брат, не ваша дзела!— гаворыць.— Я адзін сагла-шусь!

Там сычас гэты начальнік пайшоў і аб'явіў гэта цару. Гэты цар із мілай ахвотай: што выходзіць работнікаў, а то адзін!

Зняў з яго пробу: выпрабуем дні два, тады будзем змову дзелаць! Ён сычас і ўзяў з паўдня гэта дзела дзелаць. Ілле з гэтага калодзезя ваду. І леў гэты не мог зпіць вады тыя. Упраўляюшчы гэты пайшоў к цару і гаворыць:

— Не ўправіцца,— каець,— леў піць, як ён работаець!

Так сычас астанавіліся яны нанач. Астанавіліся і згаварыліся з гэтым левам. Гаворыць:

— У маім царстве лаўчэй будзець, будзець табе выгада лучча!

Так гэты леў і здаўся.

— А што ж ты зробіш?— гаворыць.— Віць ты мяне не адарвеш адгэтуль!— каець.— Лезь ты ў маё ў левае вуха, а ў правае вылезеш, абернешся ты багатырскай мухай!

І гэта дзеялася ў дванаццатым часу, у поўнач.

— І ляці ты,— каець,— у пакой. Адчыняць лакеі пакой, і,— каець,— там пад ложкам ляжыць дзядоўскі,— каець,— молат. Ты,— каець,— гэты молат ухапі і тахці яго,— гаворыць,— сюды! Толькі не зачапісь нідзе там, як будзеш несці сюды!

Ён так і здзелаў. Сычас абярнуўся мухай і ўляцеў у пакой. Так сычас цар угадаў:

— Ах,— каець,— сычас нейдзе,— каець,— багатырская муха зазвінела,— каець.

А ён сычас пад ложак сеў, муха гэта. Патом таго, як ухапіў ён гэты молат, лакеі пакой адчынілі: вячэру давалі. Як ухапіў молат гэты з-пад ложка, як зачапіўся за што там, за сухвет — і заваліўся ўвесь палац гэты, і пабіў усіх там. Прынёс к гэтаму к леву, у права вуха ўлез, у лева вылез — абярнуўся малайцом, чыстым такім, што... Ухапіў, ланцугі па[а]дбіваў, лошадзь сваю гукнуў к сабе, ускочыў на лошадзь і паехаў у сваю старану. І лева павёў. Цяпер ён знаець тое, што недалёка едуць швагры яго ўжо па лева. Ён тады лошадзь пусціў у поле, цяплушко расклаў, лева прывязаў на ланцугу, а сам на баку лёг і траець у жалейку. Едуць яго швагры, увідзелі гэты дым.

— А от, якраз,— кажуць,— лева вядзець дурак наш!

На лакея гавораць:

— Ідзі, закуры трубку,— гавораць,— пасматры: непрыменна ён вядзець лева!

Лакей гэты прыходзіць:

— Здрастуй, царэвіч,— гаворыць.

— Здароў,— гаворыць,— здароў!

— Пазвольце,— гаворыць,— цяплушка ўзяць, піпачку закурыць?

— А можна,— гаворыць,— за [а]гонь,— гаворыць,— ніхто грошай не бярэць!

Ён сычас, цяпер, прыходзіць лакей гэты:

— Вядзець,— гаворыць,— дурак лева ўжо!

Ну, радзіць-радзіць:

— Пойдзем,— каець,— прасіць, можыць як выпрасім? Ну, што,— гавораць,— здрастуй, швагра!

— Здаровы,— гаворыць,— швагры, здаровы!

— Ці ты ўжо,— гавораць,— вядзеш лева?

— А я,— каець,— свайго ўзяў! А там,— гаворыць,— ёсць болі, і вам будзець!— гаворыць.

— Ай,— гавораць,— швагра, швагра! Дось табе шуціць каля нас!

— Да ну,— гаворыць,— якія шуткі!

— Ну, швагра! Аддай нам і гэта ўжо!

— О,— каець,— усё вам да вам! Няхай жа я хоць адну вешч прывязу к бацьку!

— Ну, што хочаш, швагра, а нам яго спусці.

— А,— каецъ,— што з вамі робіць? Калі на спіне выражаце па паласе кожы ад шыі да пят, на вяршок, дак,— каецъ,— вазьміце сабе.

Яны гэта думалі-думалі, думалі-думалі!

— А, хай рэжыць!— гаварацъ.— Свае дахтары, залечым якнебудзь! Сваё ўсё!

Ён узяў — далі яму — узяў і выдраў па паласе ў абодвых. Скруціў у трубачку, уклаў у каліту ў сваю. Лева адчапіў з ланцугом, аддаў ім на рукі:

— Вядзіце,— каецъ.

А сам астаўся там. Адвялі ад яго лева гэтага, можыць, вярсты дзве ці тры, тады лошадзь прызваў, ускочыў і паехаў на лошадзі. Пад'язджаецъ — з лошадзі, сваё адзенне надзеў, што ад жаны адходзіў, ідзецъ цераз двор, у жалейку іграецъ!

— О,— каецъ,— дурань ужо ідзецъ! За тры дні па лева схадзіў. І куды,— каецъ,— папінацца ўжо, пяшком хадзіць! Каня,— каецъ,— не далі яму!

А жана плачыць:

— От,— каецъ,— пустасмешнік ты: толькі,— каецъ,— смяюцца людзі каля цябе! Із тваёй,— каецъ,— работы!

— Ну што,— гаворыць,— хай смяюцца! Не ўсім жа,— каецъ,— плакаць: каму трэба смяяцца, каму трэба плакаць!

— А от жа,— каецъ,— ацец ім царства папішыць, а нам і не будзецъ нічога!

— А хай,— каецъ,— усё ж і на нас успомніць! Кавалак які зямлі дасць!

— А толькі,— каецъ,— ты на гэта,— каецъ,— і адбаеш!

От, сычас тут, цераз месяц вядуць лева з музыкай. І тут радасці такія сустракаюць іх тут. Божа! Сабралася тут народу, купцоў тут, з усіх — [г]лядзецъ гэтага дзіва, які ён, гэты леў, звер. І справіў гэты цар баль. І трэба ўжо апісваць сваім зяцём царства яго. Па канчанні гэтай балі — апіска ўжо. Цяпер ён, цар, на дачку каецъ:

— Схадзі ты па свайго дурня,— каецъ,— чаму ён не йдзецъ?

А ён к ім не йдзецъ, ён у сваёй комлаце. Прыходзіць.

— Ну, чаго ты?— каецъ.— Ішоў ба ты паслухаў рашчоту, як там на яком ты суснаванні будзеш жыць?

Пайшоў ён, за печ залез да й стаіць за печчу. О, цяпер на іх:

— Ну,— каецъ,— зяці, сабірайцеся!— гаворыць.— От,— гаворыць,— я ў вас застаюсь на ласкавым хлебе жыць, а вам здаю ўсё сваё царства!

А ён атвяшчаець:

— А мне, што, татулька, будзець?

— А табе? Што ж табе будзець? Нічога табе не будзець! За печчу не зарабляюць,— каець.— Хто трудзіцца на свеце,— каець,— тэй тое і маець!

Ён тады:

— А якія іх,— гаворыць,— татулька, труды? Па[г]лядзі,— каець,— татулька, ці ёсць у іх на нагах па палцу за свінку,— каець.

Сычас сапагі далоў здзелі, пасматраць — ажно ў іх няма па палцу. А ён тады з каліты шавэль-шавэль! Палцы тыя выняў...

— Во, гэта,—каець,—аднаго палец, а гэта другога. Цяпер,— каець,— тата па[г]лядзі ў іх за кабыліцу, ці ёсць у іх на руцэ палцы?

Выняў тыя палцы:

— У гэта,— гаворыць,— аднаго палец, у гэта другога — за кабылу. От,— каець,— татулька, па[г]лядзі, ці ёсць у іх спіны,— каець,— за лева, як яны лева засталі!

Тады выняў гэтыя кружнікі, скуру, папрыкладалі к іх спінам — іх скура!

— А што ж яны,— каець,— татулька, прывялі яны кабыліцу. У яе ж доўжна быць дванаццаць жарабцоў, а яны прывялі толькі дзевяць. А дзе ж тры яшчэ? А тры,— гаворыць,— у мяне!

Тады як выйшаў на двор, як крыкнуў, як свіснуў — прыбылі да яго лошадзі ўсе тры. І спусціў ён укучу ўсіх лашадзей гэтых. Гэтыя лошадзі — такея радасці, што сышліся ўкучу ўсе — нюхаюцца! І аднае шэрсці, аднаго росту, аднаго лоску — усё. Тады гэты цар за іх гэтыя ўхваткі, за гэтаку боль узяў іх на конскія хвасты папрывязаў і на кавалкі разадраў па чыстаму полю. А гэтаму ўсё царства сваё папісаў. І цяпер ён жывець там. І казцы гэтай канец.

## 57. ШЫВАР-МАЛАДЗЕЦ

У каторым-та царстве, ну толькі не ў том, у каторым мы жывём, жыў сабе дзед ды баба. Жылі яны дужа доўга, ну не было ў іх дзяцей. Пад старасць не маглі яны ўжо сваімі трудамі бальшымі зарабіць сабе хлеба; вот дзед і наняўся ў пана за лесніка быць. Ідзець ён раз па лясу каля бальшога балота. Відзіць, па-

ляцела з гэтага балота вутка. Пайшоў ён па балоту і відзіць у кусце дванаццаць вуціных яец. Ён узяў іх і панёс дамоў. Прынёс дамоў гэтыя яйцы і кажаць бабе:

— На табе, баба, гэтыя яйцы, спражы ты мне яешню!

Тая баба стала на яго крычаць:

— Што ты, дурак, гаворыш? У нас няма дзяцей, а ты хочаш, каб я табе спякла яешню. Ідзі прынясі лубку, я буду выседжваць дзяцей!

Дзед пайшоў прынёс лубку, паслаў саломы, паклаў яйцы. Села баба на яйцы і сядзіць. Сядзі, сядзі тая баба — ісседзелася на таўкач, а дзяцей не вывела. Сядзі, сядзі баба — ісседзелася на ложку і вывела адзінаццаць сыноў, а дванаццатага Івана Шывара — добрага малайца. Не растуць яны па гадах, а растуць па чыслах і выраслі бальшыя. Тады гавораць яны бацьку:

— Ідзі, тат, папрасі ў пана дванаццаць дзесяцін ляда!

Пайшоў дзед к пану, стаў прасіць; прасіў, прасіў і выпрасіў ляда. Прыходзіць дамоў і гаворыць:

— Ну, сынкі, пан даў нам дванаццаць дзесяцін лесу. Ідзіце сячыце яго!

— Ідзі ж, татка, у кузню, здзелай нам дванаццаць тапароў па дванаццаць пудоў!

Пайшоў дзед у кузню, здзелаў дванаццаць тапароў па дванаццаць пудоў; хацеў прынесці, ды ніводнага не падняў. Прыходзіць дамоў і кажаць:

— Здзелаў я тапары, ідзіце, бярыце!

Пайшлі сыны, узялі тапары і пачалі сеч лес. Сталі сеч: каторы сячэць, каторы дзярэць, і высеклі за дзень дванаццаць дзесяцін лесу. Прыйшлі дамоў і гавораць:

— Ну, тат, мы ўжо павысеклі ўвесь лес. Ідзі цяпер к пану, папрасі дванаццаць бочак аўса!

Пайшоў дзед к пану, стаў прасіць аўса; прасіў, прасіў — даў пан аўса. Прыйшоў ён дамоў:

— Ну, кажаць,— ідзіце, бярыце авёс, пан даў!

Узялі яны авёс і за [а]дзін дзень засеялі ўсё сваё поле. Тэй авёс як рэсці дык рэсці — стаў ужо паспяваць. На табе: унадзіўся нехта ў гэты авёс, стаў яго біць, ламаць, пустошыць. Сталі сыны тыя пілнаваць аўса. Адзін пілнаваў — не ўпілнаваў, другі пілнаваў — не ўпілнаваў, і так усе. Наканцы, пайшоў пілнаваць Іван Шывар — добры маладзец. Прыйшоў ён у вавёс. А пасярод аўса стаяў бальшы дуб. От ён у гэты дуб наторкаў зялёнага аўса, сеў покала дуба і пілнуець. У самую поўнач прыбягаець у вавёс кабыла, а за ёю прыбеглі дванаццаць жарабцоў — залатая

шарсцінка, сярэбраная шарсцінка, залаты капыток, сярэбраны капыток. Прыбегла кабыла к дубу і стала рваць з дуба авёс. Тут Іванька Шывар — добры маладзец схваціў яе за грыву і стаў біць. Біў ён яе, біў, убіў па калена ў зямлю і гаворыць:

— Ага, будзеш хадзіць у мой авёс?

— Буду!

Стаў ён зноў яе біць. Біў, біў, убіў па бруха:

— А што, будзеш хадзіць у мой авёс?

— Буду!

Ён яе знова стаў біць. Біў, біў, убіў па вушы.

— А што, будзеш хадзіць у мой авёс?

— Не, не буду!

Ён тады выцяг яе з зямлі, сеў і паехаў. За кабылай пабеглі і ўсе жарабцы. Прыязджаець ён дамсў. А ў іх ды не было хлява. Пайшлі яны к другому хазяіну, знялі ў таго з зямлі новы хлеў і загналі туды коней. А гэтыя коні былі бальшога ведуна-чараўніка. Стаў ён іх шукаць і найшоў у Івана Шывара — добрага малайца. Прасіў ён, прасіў, каб аддалі коней яго, ну Іванька Шывар гаворыць:

— Твае коні знішчожылі мне ўвесь авёс. Я табе іх не дам, а бяры сабе кабылу!

Тэй сеў на кабылу і паехаў. Ці многа, ці мала пражыўшы, сталі браты шукаць, каб ім дзе-небудзь ажаніцца. Паехалі яны ў дарогу. Ехалі, ехалі, прыязджаюць на калінавы мост. Іванька Шывар — добры маладзец увідзеў на мосце залатое пяро і хацеў яго ўзяць. А конь яму гаворыць:

— Не руш гэтага пяра, а то будзець дужа бальшая бяда!

Ну, ён не паслухаў і ўзяў. Прыехалі яны к адной бабе, к сястрэ таго чараўніка, а ў яе ды было дванаццаць дачок. Яна як уазнала, што гэтыя коні яе брата, і высватала за іх сваіх дачок. Ноччы паляглі браты спаць з гэтымі дочкамі і заснулі. Яна ж паглядзела і гаворыць:

— Ага, вы ў майго брата адабралі коней, вот я цяпер вам пазнімаю галовы: мой меч, а вам галава з плеч!

А Іванька Шывар ды й пачуў гэтыя словы. Устаў ён ціханька з пасцелі, пайшоў на двор, стаіць там і цяжанька ўздыхаець. А конь яго і пачуў:

— Чаго ты, Іванька Шывар, уздыхаеш!

— Ды як жа не ўздыхаць: казала баба, што яе меч, а нам галава з плеч!

А конь кажаць:

— А што, я табе гаварыў, каб ты не браў пяра! Вот цяпер загубіць вас баба. Ідзі скарэй, скажы братам, каб яны знялі сваю адзежу ды надзелі на дзевак, а іхныя сабе надзелі!

Ён тады пабег скарэй к братам і кажаць:

— Скарэй вы перадзеньце ім свае адзежы, а іхныя сабе надзеньце!

Яны ўзялі перадзеліся і зноў заснулі. Прыходзіць баба і давай сеч сваіх дачок; пасекла, пасекла і пайшла. Браты тады скарэй на коней ды ўцякаць! Назаўтрага ўвідзела баба, што дачок засекла, села ў ступу і пабегла іх даганяць. Чуць-чуць не дагнала Іваньку Шывара — добрага малайца, але ён успеў пераскочыць чэраз калінавы мост. Вывернуўшыся, ён ёй крычыць:

— А што ж, баба, чаму не лавіла мяне?

— А ты, Іванька Шывар — добры маладзец, коней звёў?

— Звёў, бабушка!

— Дочак маіх з'еў?

— З'еў, бабушка!

— Ну, прашчай!

— Не, не прашчай, а шчэ ў госці дажыдай!

А сам і паехаў. Ехалі яны ўмесце, ехалі і заехалі ў чужыя землі, у іншае царства. І нанялісь у таго цара за работнікаў: браты на таку малаціць, а Іванька Шывар сад пілнаваць, і ім было хужы, а яму лепі. Сталі яны яму завідаваць, што яму лепі, а ім хужы, і сталі гаварыць:

— Як бы нам яго ці забіць, ці зарэзаць?

А другія кажуць:

— Ці зарэзаць, ці забіць — грэх, а луччы скажам цару, што ў тэй бабы, дзе мы жаніліся, ёсць самапітны жбан: што болі п'еш, то болі хочацца. Дык цар яго пашлець туды, а там яна яго заб'ець!

Прыйшоў цар на ток, яны і гавораць:

— Вот што, цар: дзе мы жаніліся, ёсць самапітны жбан. Дык Іванька Шывар вам яго даставіць.

Прызваў цар Іваньку і гаворыць:

— Што ты, Іванька Шывар — добры маладзец, шчыра мне служыш?

— Шчыра!

— Да яшчэ не саўсім! Вот мне гаварылі твае браты, што ў тэй бабы, дзе вы жаніліся, ёсць самапітны жбан. Каб ты мне яго дастаў! А не даставіш, дык мой меч, а табе галава з плеч!

Выйшаў Іванька Шывар на двор і цяжанька ўздыхнуў. А конь пачуў, што ён так цяжка ўздыхаець, і гаворыць:

— Што ты, Іванька Шывар, так цяжка ўздыхаеш?

— Як жа мне не ўздыхаць? Цар казаў, што ў тэй бабы, дзе мы жаніліся, ёсць самапітны жбан. Дык каб я яго даставіў, а калі не дастаўлю, дык яго меч, а мне галава з плеч!

— А што, Іванька, я табе казаў, каб ты не браў пяро, а ты не паслухаў мяне, узяў. Вот табе цяпер! Ну, да гэта бяда невялікая, я табе ў ёй памагу, а будзець бяда большая! Ідзі ты скажы цару, каб даў нам тры дні паесць, папіць і пагуляць і каб даў дванаццаць валоў па дванаццаць пудоў, а то ў тые бабы ёсць шэсць катоў, што з'ядаюць даразу чалавека.

Ну, паелі яны тры дні, папілі, пагулялі ды ўзялі дванаццаць валоў па дванаццаць пудоў і паехалі к тэй бабе. Прыехалі яны к калінаваму масту, конь і гаворыць:

— Вот у бабы цяпер з коміну іскры сыплюцца, а як станець дым ісці тады ты мяне гукні — я пайду пахаджу трохху!

Сеў ён на камень і глядзіць. Глядзеў, глядзеў — усё ўперад іскры сыпаліся, а во сычас стаў і дым ісці! Ён свіснуў, конь прыбег і гаворыць:

— Садзісь жа скарэй, бяры валоў і паедзем!

Узяў ён валоў, сеў на каня, і паехалі. Прыехалі яны туды, сталі ў сянёх — баба спіць. Ён тады пайшоў скарэй па самапітны жбан. Толькі ўвайшоў, а каты к яму. Ён скарэй узяў шэсць валоў ды ў запечку ім торкнуў. Сталі яны есць, а ён ухапіў самапітны жбан ды ўцякаць. А каты з'елі тых валоў ды за ім; а ён яшчэ ўторкнуў ім па валу, а сам і паехаў. Прашнулася баба, бачыць — няма самапітнага жбана! Села на ступу, таўкачом паганяець, памялом услед замятаець — едзець у дагоню. Даганяець Іваньку, вот-вот ухваціць Іванькавага каня за хвост, але тку ён пераскочыў чэраз калінавы мост. Пераехаўшы чэраз мост, вывернуўся ён к бабе, а баба кажаць:

— А што, Іванька Шывар, конеў звёў?

— Звёў, бабушка!

— Дочак маіх з'еў?

— З'еў, бабушка!

— Самапітны жбан звёз?

— Звёз, бабушка!

— Ну, прашчай!

— Не, не прашчай, а шчэ ў госці дажыдай!

І паехаў. Прыехаў к цару, аддаў самапітны жбан. То было яму харашо, а то яшчэ палепшала. А братам як было, так і было. Тады яны сабе думаюць:

— Як бы нам яго страбіць: ці зарэзаць, ці забіць?

А другія гавораць:

— Ці зарэзаць, ці забіць, — грэх, а луччы скажам цару, што ў тэй бабы ёсць самадуды. Вот цар яго пашлець, дык, можа, яна яго цяпер заб'ець.

Прыйшоў цар на ток, яны і гавораць:

— Вот што, цар: у тэй бабы, дзе мы жаніліся, ёсць самадуды: што болі йграеш, то болі хочацца. Вы пашліце Іваньку Шывара, ён вам іх даставіць!

Прыйшоў цар дамоў і гаворыць:

— Што, Іванька Шывар — добры маладзец, шчыра ты мне служыш?

— Шчыра і верна, ваша царскае вялічаства!

— Ну, не саўсім яшчэ. Вот у тэй бабы, дзе вы жаніліся, ёсць самадуды. Дык ты мне іх дастаў, а калі не даставіш, то мой меч, табе галава з плеч!

Выйшаў Іванька Шывар — добры маладзец на двор, так цяжанька ўздыхаець. А конь яго пачуў і спрашыець:

— Чаго, Іванька Шывар, так цяжка ўздыхаеш?

— Як жа мне не ўздыхаць, калі сказалі браты, што ў тае бабы, дзе мы жаніліся, ёсць самадуды, і цар сказаў мне даставіць, а калі не дастаўлю, то яго меч, а мне галава з плеч.

— А што, Іванька, я казаў — не руш пяра! А ты не паслухаў — вот табе і бяда. Але я ў гэтай бядзе табе памагу, а будзець табе яшчэ большая бяда! Ідзі скажы пану, хай дасць нам тры дні папіць, паесць, пагуляць і хай дасць нам тры гарошыны па тры пуды, а то ў бабы ёсць тры мухіны, што адразу чалавека з'ядаюць!

Даў ім цар тры дні папіць, паесць, пагуляць і даў тры гарошыны па тры пуды. Пагулялі яны і паехалі. Ехалі, ехалі, прыязджаюць к калінаваму масту. Конь гаворыць:

— Я ж пайду, пахаджу трошку, а ты сядзь на камень і глядзі, бо цяпер з коміна сыплюцца іскры, а як станець дым ісці, то ты свісні, я й прыбягу!

Сеў ён на камень, глядзеў, глядзеў, усё іскры сыплюцца. Ажно во пайшоў і дым. Ён свіснуў, конь прыбег і кажаць:

— Садзісь скарэй ды паедзем!

Сеў ён на каня і паехалі. Прыязджаюць туды, баба ляжыць на койцы, каля яе самадуды, а на іх мухі сядзяць. Конь кажаць на Іваньку Шывара — добрага малайца:

— Кідай ты адну гарошыну мухінам!

Ён кінуў, мухіны сталі есць гарошыну, а самадуды і зайгралі. Баба кажаць:

— Цішыце вы, мне й так тошна!

Кінуў Іванька другую гарошыну, мухіны сталі яе есць, а баба знову гаворыць:

— Цішыце вы, мне й так тошна!

Кінуў Іванька пасляднюю гарошыну, мухіны зноў кінуліся есць яе, а самадуды зайгралі. Тады баба ўзяла ды іх пацёрла, яны перасталі йграць, баба й заснула. Іванька Шывар — добры маладзец схваціў самадуды і паехаў. Прашнулася баба, убачыла, што няма самадудаў, села на ступу, таўкачом паганяець, памялом услед замятаець і пабегла ўдагон. Чуць не ўхваціла яна Іваньку Шывара, але ён ужо пераехаў чэраз калінавы мост. Вывернуўся ён к бабе, баба і крычыць:

— Што, Іванька Шывар — добры маладзец, коней звёў?

— Звёў, бабушка!

— Дочак маіх з'еў?

— З'еў, бабушка!

— Самапітны жбан звёз?

— Звёз, бабушка!

— Самадуды ўзяў?

— Узяў, бабушка!

— Ну, прашчай, Іванька Шывар — добры маладзец!

— Прашчай, бабушка!

Паехаў ён к цару, аддаў самадуды. То было яму харашо, а то шчэ палепшала. Тады браты гаворыць самі з сабой:

— Во, як яму ўсё ўдаецца! Як бы нам яго страбіць: ці зарэзаць, ці забіць?

А другія кажуць:

— Не, зарэзаць ці забіць — грэх, а луччы скажам пану, што як мы ехалі, дык відзелі — плаваець у чавеньчыку Дзеўка-Красаўка. Дык ён яго пашлець за ёй, ён не даставіць і сам згінець!

Прыйшоў цар на ток, яны і гавораць:

— Вот што, ваша царскае вялічаства: як мы ехалі, дык відзелі: плаваець у чавеньчыку Дзеўка-Красаўка, ды такая прыгожая, што і сказаць няможна. Пашліце Іваньку Шывара, ён вам яе даставіць.

Прыйшоў цар дамоў. Прыйшоў дамоў і гаворыць:

— Што ты, Іванька Шывар — добры маладзец, шчыра і верна мне служыш?

— Шчыра і верна, ваша царскае вялічаства!

— Да яшчэ не саўсім. Вот што браты твае гаварылі: як вы ехалі, дык відзелі, што ў чавеньчыку Дзеўка-Красаўка плаваець. Дык каб ты мне яе даставіў. А калі не даставіш, то мой меч, табе галава з плеч!

Выйшаў Іванька Шывар на двор і цяжанька ўздыхнуў. Конь блізка быў, пачуў, што ён так цяжка ўздыхаець, і гаворыць:

— Што ты, Іванька Шывар, так цяжка ўздыхаеш?

— Як жа мне не ўздыхаць? Сказаў цар, каб я даставіў яму Дзеўку-Красаўку, а калі не дастаўлю, дык яго меч, мне галава з плеч!

— А што, Іванька! Я табе казаў, каб ты не браў залатога пяра, а ты не паслухаў — вот табе і бяда. Ну, ды гэта шчэ не бяда, а будзець табе яшчэ большая бяда. Хай нам дасць цар тры дні папіць, паесць, пагуляць і хай дасць нам тавараў усякіх крамных і бочку з дванаццаццю зялезнымі вабручамі і дванаццаць валоўіх шкур і разных напіткаў, наедкаў.

Пайшлі яны, пагулялі, узялі бочку, і шкуры, і тавары, і напіткі разныя і паехалі. Ехалі-ехалі, ехалі-ехалі, прыязджаюць к мору. Тады Іванька Шывар — добры маладзец узяў развесіў тавары на дубах ля берагу ды паставіў напіткі, наедкі, а сам схаваўся. Дзеўка-Красаўка ўвідзела тавары, пад'ехала бліжы к берагу, паглядзела, паглядзела і паехала. Ездзіла, ездзіла, узнова прыехала к гэтым дубам. Выйшла на бераг, разгледжваець тавары. І ўвідзела разныя напіткі і наедкі. Стала яна піць-есць, упілася і заснула. Тады конь гаворыць:

— Бяры яе, садзі ў бочку і абвівай валоўімі шкурамі!

Ён узяў уклаў яе ў бочку, увярцеў у дванаццаць шкур і павёз. На дарозе бачыць ён — бяжыць парсюк, залатая шарсцінка, сярэбраная шарсцінка і кажаць:

— Іванька Шывар — добры маладзец, не кажы, што я пабег гэтай дарогай, а скажы, што другой!

Паехалі яны дальшы, бяжыць пастух.

— Іванька Шывар — добры маладзец, скажы, куды пабег парсюк?

Іванька Шывар не паказаў яму тую дарогу, па якой пабег парсюк, ды паказаў другую. Пастух і пабег. Паехалі яны ўзнова. Ехалі, ехалі, стала яна прашынацца. Як павярнулася — шэсць зялезных вабручоў пераламіліся і шэсць валоўіх шкур перарваліся. І апяць заснула. Прыехалі яны ў двор: як павярнулася — шэсць зялезных вабручоў пераламіліся і шэсць валоў'іх шкур перарваліся, і яна выйшла з бочкі. Цар і павёў яе ў пакой.

Іваньку Шывару то было харашо, а то шчэ палепшала. Цар хацеў на той Дзеўцы-Красаўцы жаніцца, а яна кажаць:

— Калі дараставіш мне з мора залатую скрынку маю і сярэбраны ключык, дык пайду за цябе, а не даставіш, дык не пайду!

Пазваў цар Іваньку:

— Ну што, Іванька Шывар, шчыра і верна мне служыш?

— Шчыра і верна, наша царскае вялічаства!

— Ну, ды шчэ не саўсім: дастаў ты мне з мора залатую скрынку Дзеўкі-Красаўкі і сярэбраны ключык. А калі не дастанеш, дык мой меч, табе галава з плеч!

Выйшаў Іванька на двор і цяжанька ўздыхнуў. Конь недалёка быў, пачуў, што ён так цяжка ўздыхаець, і гаворыць:

— Чаго ты, Іванька, Шывар — добры маладзец, так цяжка ўздыхаеш?

А ён кажаць:

— Як жа мне не ўздыхаць, калі сказаў цар, каб я даставіў з мора залатую скрынку Дзеўкі-Красаўкі і сярэбраны ключык, а калі не дастаўлю, то яго меч — мне галава з плеч.

— А што? Ці табе не казаў, каб ты не браў залатога пяра. А ты не паслухаў, узяў — вот табе і бяда. Гэта бяда дык бяда, і я скажу, што бяда. Ну, ды йдзі, скажы, хай дасць нам тры дні папіць, паесць, павесяліцца!

Ну, папілі яны тры дні, паелі, пагулялі, павесяліліся і паехалі. Ехалі, ехалі, прыехалі яны к таму мору. Конь і гаворыць:

— Ну, я пайду трошку пахаджу, а ты ляж і ляжы. І будзець тут ісці цэлае стада ракаў, дык ты не бяры ніводнага рака, а толькі ззаду будзець ісці крывы маленькі рачык, дык ты яго і ўлаві. Стануць тады ракі прасіць цябе, каб ты пусціў яго, а ты не пускай, скажы, каб прынеслі табе тыя вешчы!

Вот Іванька Шывар лёг і глядзіць. Глядзеў,глядзеў — паўзуць ракі, цэлае мора! І ён не браў ніводнага, а ўвідзеў, што назадзе паўзець крывы маленькі рачык, ён яго і ўлавіў. Сталі тады тыя ракі прасіць яго, каб ён аддаў ім рачыка:

— Аддай,— кажуць,— нам гэтага рачыка, гэта наш брат меншы!

Ён гаворыць:

— Не, не [а]ддам: дастаньце мне з мора залатую скрыначку і сярэбраны ключык Дзеўкі-Красаўкі!

Паплылі яны іскаць тых вяшчэй. Іскалі, іскалі — не найшлі. Ажно бяжыць парсюк — залатая шарсцінка, сярэбраная шарсцінка і гаворыць:

— Што табе, Іван Шывар — добры маладзец, трэба тут?

— Ды трэба мне дастаць у моры залатую скрыначку і сярэбраны ключык Дзеўкі-Красаўкі. Ды вот ракі йскалі, не найшлі!

Як сказаў ён так, гэты парсюк боўць у мора і паплыў. Паплыў і паплыў, і ракі за ім — і цягнуць залатую скрыначку і сярэбраны ключык. Узяў Іванька гэтыя вешчы, аддаў ім крывога рака, падзякаваў і паехаў.

Прыехаў к цару, аддаў вешчы. Ну, гэта Дзеўка-Красаўка не любіць цара, ды любіць Івана Шывара — добрага малайца. Вот тады ўжо і цар стаў шукаць злучая, каб як-небудзь яго страбіць. Прыказаў ён сваім слугам падаіць дванаццаць кабыл і вялеў гэта малако спарыць, ускіпяціць. Тыя ўскіпяцілі малако; прызваў цар Івана і гаворыць:

— Я хачу цябе пакупаць у кабыліным малацэ!

Выйшаў Іванька Шывар на двор і цяжанька ўздыхнуў. Конь блізка быў, пачуў, што ён так цяжка ўздыхаець, і гаворыць:

— Што, Іванька Шывар — добры маладзец, так цяжка ўздыхаеш?

— Як жа мне не ўздыхаць? Сказаў цар, што хочаць мяне ў кабыліным малацэ пакупаць. А яно такое жаркае, што няможна падысці к яму!

— Глядзі ж, Іванька Шывар, як скажуць табе лезць у кацёл, дык ты, напрамілуй бог, прасі: прывядзіце мне майго каня, хай жа ён паплачаць па мне.

Вот пайшлі яны к катлу. Іванька стаў прасіць цара, каб прывялі яму каня:

— Хай жа ён паплачаць па мне!

Тады цар гаворыць:

— Ну, ідзіце, прывядзіце яго каня!

Прывялі слугі каня; ён падышоў к катлу і ўпусціў тры слязіны лёду па тры пуды. Іванька ўскокнуў у кацёл, пакупаўся там і вылез. І то быў красіў, а то шчэ пакрасівеў. Бачыць цар, што Іван Шывар — добры маладзец папрыгажэў у малацэ, захацеў ён і сам пакупацца і гаворыць слугам:

— Падойце вы зноў дванаццаць кабыл і нагрэйце малако, як тады награвалі.

Слугі падаілі дванаццаць кабыл і спарылі малако. Прыйшоў цар к катлу, а к яму і падысці нельзя ад жару.

— Ну,— каець,— прывядзіце ж і мне із стайні самага лепшага каня, хай ён па мне паплачаць!

Тыя слугі пайшлі, прывялі каня, а конь не йдзець к катлу, бо дужа жарка, а толькі скачаць каля катла. Цар ждаў, ждаў ды і ўскочыў у кацёл і спарыўся там...

А Дзеўка-Красаўка з Іванам Шыварам — добрым малайцом ажанілася і цяпер жывуць. І здзелалі пір на ўвесь мір. І я там быў, мёд-віно піў, па вусам цякло, а ў рот не папала.

## 58. КАНЁК-ГАРБУНОК

У аднаго бацькі было тры сыны: два разумныя, а трэці Іван-дурачок. Бацька іх жыў вельмі бедна. Калі сыны падраслі, бацька адправіў іх служыць да аднаго пана. Сыны праслужылі рок у пана, і пан спытаў у іх.

— Што вам даць за вашу службу?

— Па валу,— адказалі разумныя браты.

— А мне прыгожую капейку,— адказаў Іван-дурачок.

Пан даў старэйшым братам па валу, а Івану-дурачку пятак. Разумныя браты павялі валоў да бацькі, а Іван-дурачок купіў сабе булку, ідзе ды есць і на ўсю вуліцу спявае.

На другі рок бацька зноў адправіў іх служыць да таго ж самага пана. Праслужылі яны рок, і пан зноў у іх пытае:

— Што вам даць за вашу службу?

— Па каню,— адказалі разумныя браты.

— А мне дай залатога каня,— адказаў Іван-дурачок.

Разумным братам пан даў па каню, а Івана-дурачка прагнаў са свайго двара.

Браты селі на коней і едуць, а Іван-дурачок ідзе пехатой. Браты пасмяяліся над ім ды паехалі сабе. Іван-дурачок ішоў, ішоў ды бачыць: ходзіць стада коней па лузе. Ён зайшоў у стада, выбіраў, выбіраў сабе каня і выбраў самага малога, самага худога ды з гарбом на спіне. Але як сеў Іван-дурачок на гэтага каня, так конь стаў увесь залатым. Праехаў ён некалькі вёрст — і адзенне і зброя на Івану-дурачку таксама сталі залатымі. Іван-дурачок даганяе сваіх братоў. Калі яны ўбачылі яго, то адзін стаў на правым баку дарогі, а другі — на левым. Браты аддалі салют Івану-дурачку, а самі падумалі:

— Якісьці цар паехаў.

Іван-дурачок памінуў іх і паехаў дадому. Як уз'ехаў ён на падворак, так і конь стаў худы, а Іван апынуўся ў той самай вопратцы, у якой быў.

Прыехалі браты і сказалі:

— Ну і дурак ты, Іван! Чаму ты з намі не ішоў, хаця б цара бачыў на залатым кані, у залатым адзенні, пры залатой зброі.

А Іван-дурачок прамаўчаў і нічога не адказаў.

Прабылі сыны рок дома, і бацька задумаў ажаніць двух разумных. Вось ён паклікаў іх да сябе і кажа:

— Едзьце, сыны мае, і пашукайце сабе жонак.

Браты селі на коней і паехалі, а Іван-дурачок паехаў следам за братамі. Па дарозе конь спытаў у Івана:

— Зрабіць цябе залатым?

— Не трэба,— адказаў Іван.

Вось прыехалі яны да аднае жанчыны і пытаюць:

— У якой жанчыны ёсць дочкі, падобныя адна на адну?

— У мяне ёсць дочкі, падобныя адна на адну,— адказала жанчына.

— Пойдзем, паглядзім?— спыталі браты.

— Пойдзем,— адказала жанчына.

Браты ўвайшлі ў хату з жанчынай, а Іван-дурачок астаўся каля коней. Дочкі паглядзелі на братоў, а браты — на дочак, і адны адным панравілісь. Селі рабіць запоіны. У хату ўвайшоў Іван-дурачок. Браты пасадзілі яго паміж сябе, а ён толькі прыглядаецца ды прыслухоўваецца да размоў братоў і сясцёр. На стол жанчына паставіла гарэлку і ежу, а Іван устаў і выйшаў да свайго каня. Конь сказаў Івану:

— Глядзі, Іван, браты твае прыехалі ў сваты да ведзьмы. Яна хоча ашукаць іх і зарубіць іх шабляю. Калі нальюць табе першую чарку гарэлкі, ты не пі яе, а вылі пад стол і не дай гэтай ведзьме гарэлку сабраць пад сталом, бо яна стане шчоткай. Дадуць табе першую ложку макаронаў, вылі іх таксама пад стол. З гэтых макаронаў стане ложка. Калі табе дадуць ложку кашы, то і кашу кінь пад стол. З гэтай кашы стануць відэльцы. Усе гэтыя рэчы сабе забяры.

Іван прыйшоў у хату. Браты садзяць яго зноў паміж сябе, але ён сеў з краю стала. Івану налілі чарку гарэлкі, але ён яе выліў пад стол. З гэтай водкі зрабілася шчотка. Ведзьма хацела ўхапіць гэту шчотку, але Іван ухапіў яе хутчэй ведзьмы. Івану падалі ложку макаронаў, але ён іх таксама выліў пад стол. З макаронаў стала ложка. Ведзьма хацела ўхапіць гэтую ложку, але Іван першым ухапіў яе і схаваў у кішэнь. Івану падалі ложку кашы, але ён і кашу выкінуў пад стол. З кашы сталі відэльцы.

Ведзьма хацела іх ухапіць сабе, але Іван хутчэй ухапіў іх і схаваў у другой кішэні.

Пасля запоін ведзьма палажыла спаць братоў у адной комнаце, а дочак у другой. Івану-дурачку адвялі месца ў сенях і паклалі спаць на лаўцы. Іван зноў выйшаў да свайго каня. Конь яму сказаў:

— Глядзі, Іван, ведзьма загубіць тваіх братоў. А каб яна іх не загубіла, перанясі братоў на ложкі, дзе спяць сёстры, а сясцёр — на ложкі братоў.

Іван увайшоў у хату, улёгся на лаву і прытварыўся, што спіць. Ведзьма заснула. Іван перанёс братоў на ложкі, дзе спалі сёстры, а сясцёр на ложкі, дзе спалі браты. Пры гэтым Іван нідзе не бачыў трэцяй, самай малодшай, самай прыгожай дачкі, якую ведзьма называла Алена.

Усе спяць а Іван не спіць. Апоўначы ўстае ведзьма, бярэ шаблю і ідзе ў тую комнату, дзе павінны былі спаць браты. Там ведзьма пасекла сваіх дочак замест братоў і зноў улеглася спаць. Іван-дурачок устаў, пабудзіў сваіх братоў і сказаў:

— Ідзіце і паглядзіце, што ведзьма зрабіла са сваімі дочкамі.

Браты, увайшоўшы ў комнату, убачылі парубленых на кавалкі дочак.

— Вось што з вамі хацела зрабіць ведзьма,— адказаў Іван.

Браты падзякавалі Івану, хутка сабраліся і паехалі ўцякаць ад ведзьмы. Іван сеў на свайго канька, пад'ехаў да акна і крыкнуў:

— Няма тваіх дочак, ведзьма!

Ведзьма ўсхапілася, хутка ўвайшла ў комнату, дзе павінны былі спаць дочкі, а іх там няма. Яна ў другую комнату, а там ляжаць парубленыя на кавалкі яе дочкі.

Ведзьма ўселася на памяле ды давай даганяць Івана з братамі. Паглядзеў Іван назад і бачыць, што ведзьма даганяе яго. Ён і пытаецца ў Канька-Гарбунка:

— Што рабіць, Канёк-Гарбунок?

— Кінь назад шчотку,— адказаў канёк.

Іван кінуў шчотку, і з гэтай шчоткі стала вялікая-вялікая гара. Пакуль ведзьма пералязала гэту гару, браты разам з Іванам ад'ехалі некалькі дзесяткаў вёрст. Азірнуўся Іван назад і бачыць: ведзьма даганяе іх.

— Што рабіць?— зноў пытае Іван у Канька-Гарбунка.

— Кінь ложку,— адказаў Канёк-Гарбунок.

Іван кінуў пазадзі сябе ложку, і з гэтае ложкі стала яшчэ

большая гара. Ведзьма перабіралася, перабіралася і перабралася. Паглядзеў Іван назад і бачыць, што ведзьма зноў іх даганяе.

— Што рабіць, канёк? Ведзьма нас зноў даганяе,— сказаў Іван каньку.

— Кінь назад відэльцы,— адказаў Канёк-Гарбунок.

Іван кінуў відэльцы. З відэльцаў утварылася мора, ды такое вялікае, што ведзьма не змагла яго пераплыць і павярнула назад. Прыехала ведзьма дадому і сваю самую прыгожую дачку Алену пасадзіла ў залатую клетку і замкнула яе. Клетку яна паставіла на кухні.

Браты прыехалі да бацькі, расказалі яму, як яны папалі да ведзьмы, як яна хацела іх знішчыць і як іх выратаваў ад смерці Іван. Бацька і разумныя браты сталі вельмі шкадаваць Івана-дурачка. Але яны шкадавалі яго толькі рок, а на другі рок забыліся пра дабрату Івана і сталі збыткаваць яго. Паклікаў бацька да сябе Івана ды і кажа яму:

— Сёння цябе адпраўлю на службу, а заўтра адпраўлю і тваіх братоў. Збірайся хутчэй ды паедзеш, бо сам бачыш, як збыткуюць з цябе браты.

Іван сеў на свайго Канька-Гарбунка ды паехаў. Едзе, едзе, аж бачыць: на дарозе ляжыць залатая падкова. Іван пытае ў каня:

— Узяць гэту залатую падкову або не?

Конь адказаў:

— Возьмеш — будзе худа, не возьмеш — будзе горш.

Іван узяў падкову і едзе далей. Бачыць, на дарозе ляжыць залатое пяро. Іван зноў пытае ў Канька-Гарбунка:

— Узяць гэтае залатое пяро або не?

— Возьмеш — будзе худа, не возьмеш — будзе горш,— адказаў Канёк-Гарбунок.

Іван узяў залатое пяро, палажыў яго за пазуху і едзе далей. Бачыць, ляжыць на дарозе залаты волас. Іван зноў пытае ў Канька-Гарбунка:

— Узяць гэты залаты волас або не?

— Возьмеш — будзе худа, не возьмеш — будзе горш,— адказаў Канёк-Гарбунок.

Іван узяў залаты волас і едзе далей. Ехаў ён, ехаў і прыехаў да таго самага пана, у якога ён калісьці служыў.

Пан адправіў яго служыць на канюшню. На канюшні Іван убачыў, што панскія парабкі коней не кормяць, а толькі свечкі каля коней паляць. Ад гэтых свечак коні і сыты былі. Іван так-

сама не карміў свайго каня, хаця пан даваў яму такую ж свечку, і ў яслі паклаў залатую падкову. Вось пан пакідае аднаго парабка даведацца, чым Іван корміць свайго каня. Парабак высачыў, чым корміць Іван свайго каня, і прынёс пану падкову. Калі Іван прышоў да Канька-Гарбунка, той сказаў:

— Парабак узяў падкову і занёс пану. Замест падковы палажы цяпер у яслі залатое пяро. Я буду ўглядацца на яго і буду сыты і так я вельмі хутка папраўлюся,— сказаў Канёк-Гарбунок, калі Іван прыйшоў у канюшню.

На другі дзень парабкі ўбачылі ў яслях залатое пяро, забралі яго і занеслі пану. Калі Іван прыйшоў да свайго Канька-Гарбунка, конь сказаў:

— Парабкі ўзялі залатое пяро і занеслі пану. Цяпер палажы ў яслі залаты волас. Я буду ўглядацца на яго і буду сыты.

Іван палажыў у яслі залаты волас, але парабкі забралі залаты волас і аднеслі яго пану. Пан паклікаў да сябе Івана і кажа:

— Ты, Іван, павінен мне дастаць таго каня, ад якога гэта залатая падкова. (Пан паказаў Івану залатую падкову). Вось што, калі дастанеш гэтага каня, даю табе трэцюю частку свайго маёнтка, а калі не дастанеш, то пакараю цябе смерцю.

Іван прыйшоў да Канька-Гарбунка і расказаў яму плачучы, што загадў яму пан.

— Не плач, Іван. Той конь жыве ў ведзьмы, да якой у сваты ездзілі твае браты. Сядай хутчэй ды паедзем,— сказаў Канёк-Гарбунок.

Па дарозе конь расказаў Івану, што ведзьма будзе спаць, калі прыедзем, што шабля будзе ў ведзьмы ў правай руцэ, а ключы ад стайні ў правай кішэні.

Вось Іван прыехаў да ведзьмы. Ведзьма спіць. Іван узяў шаблю і пераламаў яе напалавіну, забраў ключы з правай кішэні і хутчэй да стайні. Адамкнуў стайню, забраў каня і хутчэй да свайго Канька-Гарбунка. Праязджаючы каля акна, Іван крыкнуў:

— Няма твайго каня, ведзьма!

Ведзьма падхапілася і пачала шукаць сваю шаблю. Пакуль яна знайшла сваю шаблю, зварыла яе ў кузні, Іван ужо быў далёка. Ведзьма не змагла яго дагнаць. Прыехаў Іван да пана і аддаў яму каня.

Пан падзякаваў Івана і сказаў:

— Цяпер ты павінен дастаць мне тую качку, ад якой гэтае залатое пяро. Калі дастанеш, то аддам табе палавіну свайго маёнтка, а калі не дастанеш, пакараю цябе смерцю.

Заплакаў Іван і пайшоў да свайго Канька-Гарбунка.

— Чаго плачаш, Іван?— пытае Канёк-Гарбунок.

Іван расказаў, якую задачу задаў яму пан. А канёк адказаў:

— Не плач, Іван. Тая качка ў ведзьмы. Ведзьма зараз спіць, ключы ў яе цяпер у левай кішэні, а шабля ў левай руцэ. Сядай, хутчэй паедзем.

І яны паехалі. Прыехалі хутка. Ведзьма спіць. Іван увайшоў у хату, забраў шаблю, перабіў яе на дзве часткі і выкінуў у акно. Забраў ключы, хутка адамкнуў клетку і забраў залатую качку. Праязджаючы каля акна, Іван крыкнуў:

— Няма тваёй качкі, ведзьма!

Ведзьма падхапілася і пачала шукаць сваю шаблю. Пакуль яна знайшла сваю шаблю, зварыла яе ў кузні, Іван быў ужо далёка. Ведзьма не змагла дагнаць яго. Прыехаў Іван да пана і аддаў яму качку. Пан падзякаваў Івану і сказаў:

— Цяпер ты павінен мне дастаць тую дзяўчыну, з якой гэты залаты волас. Калі дастанеш, дам табе палавіну свайго маёнтка і каня, а калі не дастанеш, пакараю цябе смерцю.

Іван заплакаў і пайшоў да свайго Канька-Гарбунка.

— Чаго плачаш, Іван?— спытаў яго Канёк-Гарбунок.

Іван расказаў яму, якую задачу загадаў яму пан. Канёк сказаў:

— Тая дзяўчына ў ведзьмы. Яна сядзіць у залатой клетцы, а клетка тая на кухні. Калі мы прыедзем, ведзьма будзе спаць. Ключы ведзьма трымае цяпер у зубах, а шаблю пад бокам. Сядай ды хутчэй паедзем.

Іван сеў на Канька-Гарбунка, і яны паехалі. Па дарозе Канёк-Гарбунок сказаў:

— Калі ты ўбачыш Алену, толькі з ёй не пацалуйся, а то ўсё прападзе.

Прыехалі хутка. Іван зайшоў у хату. Ведзьма спіць. Іван выцягнуў шаблю з-пад бока і пераламаў яе на тры часткі. Забраў ключы і хутчэй на кухню. Адамкнуў ён залатую клетку. З залатой клеткі выйшла Алена. Яна была такая прыгожая, што Івану так і хацелася пацалаваць яе, але ён устрымаўся.

Іван забраў Алену, пасадзіў яе на каня і, праязджаючы каля акна, крыкнуў:

— Няма тваёй дочкі, ведзьма!

Ведзьма падхапілася. Пакуль яна знайшла сваю шаблю, зварыла яе ў кузні, Іван быў ужо далёка. Ведзьма яго даганяць на памяле, але ў дарозе яна захварэла і памерла.

Іван прывёз Алену да пана. Пан як паглядзеў на Алену, так адразу і задумаў ажаніцца на ёй. А Алена адказала:

— Я ведаю, пане, што ты задумаў, але я павінна выйсці замуж за таго, хто прывёз мяне сюды.

Пан паклікаў Івана да сябе і сказаў:

— Ты, Іван, рашыў усе мае задачы, а цяпер адкажы, якой смерцю цябе пакараць?

— Пайду папытаю свайго Канька-Гарбунка,— адказаў Іван.

— Ідзі!— сказаў пан.

Іван прыйшоў да Канька-Гарбунка і пытае яго:

— Скажы, канёк, якую смерць мне выбраць?

А Канёк-Гарбунок яму ў адказ:

— Няхай пан цябе ў малацэ зварыць.

На другі дзень Іван прыйшоў да пана і сказаў:

— Хачу, каб ты мяне, пане, у малацэ зварыў.

Пан загадаў падаіць усіх сваіх кароў і наліць бак малака ў дзвесце вёдзер, а пад бакам раскласці вялікі агонь.

Малако закіпела. Да бака падышоў пан. Слугі прывялі Івана. Іван папрасіў пана, каб ён дазволіў яму развітацца са сваім Каньком-Гарбунком. Пан дазволіў яму. Іван падышоў да Канька-Гарбунка, абняў яго за шыю і горка заплакаў.

— Не плач, Іван,— сказаў Канёк-Гарбунок.— Я тое малако хутка астужу.

Іван разам з Каньком-Гарбунком падышлі да бака з малаком.

Канёк-Гарбунок стаў каля бака, а Іван пачаў распранацца. Канёк-Гарбунок дыхнуў так, што ўвесь жар малака ўцягнуў у сябе. Іван прыгнуў у бак з малаком. Ён пакупаўся ў малацэ і выйшаў з бака такім прыгожым, што ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць.

Пан падышоў да Івана. Ён убачыў яго прыгожым, маладым, высокага росту. Пану захацелася зрабіцца такім жа прыгожым, і ён крыкнуў:

— Зараз і я стану маладым і прыгожым!

Пан нават забыўся распрануцца і кінуўся ў бак з малаком. Канёк-Гарбунок выдыхнуў усю жару ў бак з малаком, і яно зноў закіпела. Хутка выплыла наверх толькі адзенне пана.

Слугі, убачыўшы гэта, заскакалі ад радасці.

Іван узяў Алену пад руку і павёў яе ў палацы пана. Там яны зрабілі вяселле. Іван застаўся гаспадарыць у маёнтку пана. Пры ім сяляне сталі жыць багата і шчасліва.

## 59. ТРОМ СЫН БЕЗЫМЁННЫ

Неўкаторым царстве, неўкаторым гасударстве, не іменна ў том, у каторым мы жывём, жыў сабе старык са старухай. І ў іх не было дзяцей. Послі, пад старасць, даў бог ім: радзіла старуха сына. Пайшлі яны за бабаю — баба не йдзець бабіць, удзіўляецца гэтаму, што баба век не раджала, а пад старасць радзіла. Ну, баба гэта не пайшла бабіць. Пайшлі кумоў зваць — і кумы не пайшлі хрысціць. Пайшлі к папу — поп не ўзяў хрысціць. Астаецца гэты младзенец нехрашчоны. І ўзрос ён ужо мальчышка парадашны, стаў на вуліцу хадзіць. Сталі яго мальчышкі зваць Безымённым. Прыходзіць ён дамой і гаворыць сваёй мацеры і айцу:

— Матушка, пачаму гэта мяне завуць мальчышкі Безымённым?

Маць уздахнула:

— Мой ты сынок! Я цябе радзіла, пайшла бабу зваць — баба не пайшла; пайшла кумоў зваць — і кумы не пайшлі; к папу паняслі — і поп не стаў хрысціць!

— Матушка,— гаворыць,— сшыйце вы мне світку і пояс, купіце і шапачку і чабаты!

Тады яны справілі яму, ён адзеўся і прашчаецца з імі і адпраўляецца ад іх. Маць заплакала слёзна і сказала:

— Мой сынок! Пад старасць бог даў нам цябе на пацеху, а ты нас пакідаеш?

Ну, пайшоў ён пуцём-дарогай і зайшоў у лес. Ішоў лесам трое сутак. І найшоў у лесе — стаіць хатка. У гэтай хатцы спасаліся тры пустэльнікі. Ён прыхадзя к ім, укланіўся ім. І сталі яны ў яго апрашываць:

— Адкуда ты, малады юнаш, і па якой няволі зайшоў сюды?

Ён расказаў ім гэту абвязнасць сваю, што ён нехрашчоны на свеце ёсць, што не пайшла баба к яму, кумы не пайшлі і поп не стаў хрысціць. Тады яны яго ўзялі ахрысцілі і далі яму імя Тром сын — усім тром пустэльнікам, значыцца.

Ну, сталі яго пітаць і сталі яго грамаце ўчыць. Быў ён у іх у навуцы лет не меншы дзесяці. І здзелаўся ён парнюга ўжо парадашны. Грамаце ён давучыўся як следуець — яны яго давучылі. Тады й просіцца:

— Айцы мае радзімыя,— гаворыць,— пусціце мяне на сей свет, свету павідаць!

— Харашо, Тром сын, мы цябе пусцім, калі не будзеш на чужое добрае завісен.

Тады занясλі яму напярод, куды ён будзець ехаць, тры клункі серабра і далі яму каня несядланага і немузда́нага — занясλі серабро і пасыпалі. Ён і паехаў.

Даехаў ён да первыя клункі і січас давай у карманы набіраць гэтага серабра. А яны глядзяць. Яны, усматра гэта, і гавораць:

— Не, Тром сын, варацісь-ка назад, не пара табе ад нас ад'язджаць, яшчэ ты завісен на чужое дабро!

Тады ён апяць служыў у іх год. Год выйшаўшы, апяць просіцца ў айцоў:

— Айцы мае радзімыя, айцы мае міласэрныя, пусціце мяне на сей свет, свету павідаць!

Яны апяць:

— Харашо, Тром сын, мы цябе пусцім, калі не будзеш на чужое дабро завісен!

Цяпер занясλі апяць тры клункі золата і далі яму каня несядланага і немузданага. Ён даехаў да первыя клункі і січас давай у карманы набіраць гэтага золата. А яны глядзяць. А яны смотраць усё. Цяпер яны апяць:

— Варацісь, Тром сын, назад, не пара шчэ табе ад нас ад'язджаць.

Ён вараціўся, апяць год у іх служыў. Адслужомшы год, апяць просіцца так жа:

— Айцы мае радзімыя, айцы мае міласэрныя! Пусціце мяне на сей свет, свету павідаць!

Тады яны далі яму каня — засядлалі і замуздалі. І занясλі тры ношкі руж'яў і павесілі на дрэве. Даязджае ён да гэтых руж'яў, аблюбаваў сабе адно ружжо і ўзяў сабе толькі адно, і паехаў з ружжом з гэтым. Яны скрычалі на яго:

— Тром сын! Варацісь назад, от мы цябе цяпер пусцім, благаславім!

Ён вярнуўся. Благаславілі яго, ну і сказуюць яму:

— Будзеш ты ехаць чэраз гэты лес, трое сутак будзеш ехаць, і выедзеш ты з гэтага лесу пад сталішны горад, так ба, як пад Піцірбург. І будзець там бальшая гара, і на гарэ на гэтай будзець Жар-пціца. Ты раз разгонься на кані, не ўловіш яе. Тады і другі раз, і тожа не ўловіш. А ў трэці раз ты скакнеш і ўхваціш Жар-пціцу за хвост і вырвеш тры пяра. І палож іх ты сабе ў карман. А каня пусці ў запаведныя лугі, у скрытныя. А сам ідзі ў горад і паявіся к цару. У цара каросλівыя лошадзі. Ён ужо іскаў, іскаў лекарэй — ніхто не можаць вывесці гэтыя каросты. І ты вазьміся гэтых коней лячыць. Ну, і толькі,— гаво-

раць,— зарою вячэрняю і вутранняю гэтымі пёрышкамі патры іх — і здзелаюцца коні такія, што люба сматрэць на іх!

Ну, тады ён адкланяўся ім і паехаў. А яны прыказалі:

— Якая табе будзець патарочка няшчасная, ты выйдзі з горада і скрыкні свайго каня, і ён к табе прыбудзець, і ён табе будзець савет даваць!

І паехаў ён. Ехаў трое сутак; выязджаець ён к гэтай гарэ к крутой. І лятаець Жар-пціца. Ён раз разагнаўся—не паймаў. Другі раз разагнаўся — не паймаў. Трэці разагнаўся — вырваў з хваста тры пёрушкі. І пусціў свайго каня ў скрытыя луга, а сам пайшоў к цару ўва дварэц. Дакладуюцца цару, што вот найшоўся які-та масцер, што ён можаць каросту вылечыць з лашадзей. Прызываець яго цар к сабе і апрашываець:

— Можаш ты, брацец, вылечыць?

— Магу, ваша нпіратарскае вялічаства!

І адпраўляецца ён на канюшню. Дажыдае ён вячэрняе зары, і ўзяў ён гэтымі пёрышкамі коней гладзіць. І січас кароста гэта аблезла, і здзелаліс коні, што люба глядзець. І апяць, даждаўшы вутраннія, тожа так здзелаў. Дакладываюць цару кучары, каторыя пры ём служылі ўпярод:

— Ваша нпіратарскае вялічаства, вы цяпер вашых коней не ўвазнаеце!

Цар не мог уцярпець, пайшоў сматрэць. Паглядзеў на коней і ўзрадаваўся. І прызывае Тром сына к сабе і спрашывае:

— Тром сын! Чым мне цябе за гэта нградзіць і пажалаваць?

Ён сказуе:

— Ваша нпіратарскае вялічаства! Нічаго я не хачу вашага жалавання і награды, а буду служыць пры вашай канюшні!

Цар цяпера прызывае ўсіх кучароў сваіх, каторыя яму прэжде служылі, і прыказуе ім, штоб яны яму павінаваліс і слушалі яго, а еслі не будуць, то катай іх, як сам знаеш!

І гэтыя кучары абідзеліс за гэта, што можа каторы служыў гадоў па дваццаць пяць, а ён сягодні паступіў, і к яму пад начальства ііціць. Ну, цяперыча і сталі радзіцца міжда сабою: якую б яму падвесці штуку, штоб яго із свету збавіць? І пайшлі яны яго караўліць, чым ён гэтых коней лечыць. І не спалі яны ўсяе ноч. Дождаліся яны зары; Тром сын січас вынімае гэты тры пёрышкі і стаў коней гладзіць. І ўся канюшня загарэлася, як ад агня — ясна здзелалась.

Тады як цар устаў, так яны пайшлі к яму.

— Ваша царскае вялічаства,— гавораць,— Тром сын не сваею,— гавораць,— сілаю лячыў коней! Як ён выняў тры пёрушкі нейкіх, дык мы думалі, што ўся канюшня загарыцца!
Цар прызваў цяпер Тром сына к сабе і спрашуе ў яго:
— Тром сын, што, чым ты лячыў коней?
— Есць у мяне з Жар-пціцы тры пёрушкі!
— Ну і ступай, чым лячыў, тым і лячы!
Тады яны апяць абдумаліся.
— Пойдзем, скажам цару, што ён, п'яны прыйшоўшы, хваліўся, што я магу Жар-пціцу дастаць,— гаворыць,— таё, з каторыя пёрушкі вырваў.
Прызывае яго цар к сабе і гаворыць яму:
— Тром сын, ты ўчара́ п'яны прыйшоў і хваліўся, што магу Жар-пціцу дастаць?— гаворыць.
Тады ён гаворыць:
— Не магу, ваша царскае вялічаства! Як жа можна дастаць?— гаворыць.
На [а]твет сказуе цар:
— Еслі ты не дастанеш мне Жар-пціцы — мая меч, твая галава будзець з плеч!
Тром сын тады заплакаў і пайшоў з горада вон.
І скрычаў сваега добрага каня:
— Конь мой мілы, конь мой любы! А дзе б ты быў, штоб ка мне прыбыў!
Бягіць к яму конь, і бягіць і ржэць. І прыпаў на каленках перад ім.
— І што,— гаворыць,— Тром сын, табе бяда?
— Бяда,— гаворыць,— конь добры мой! Загадаў мне цар загадку, не знаю, як яе й перацярпець!
Конь яму сказаў:
— Не рабей, Тром сын! Гэта не бяда, а бяда шчэ ўся ўперадзе! Скажы цару, штоб ён здзелаў гэтакія напіткі, саставіў, штоб адно аднаго сладжэй было і п'яней. І няхай ён табе дасць вянчальную скацерсць, каторая на стале была, як ён вянчаўся. І няхай скуець тры пруты жалезных: адзін сабе прут вазьмі, другі кучару, а трэці хвалетару. І карэту няхай запрагуць самую пярвейшую. І паязджай туды к гарэ к той. Там стаіць дуб. І на дубе яна там начуець. І ты прыедзь і рассцялі гэту скацерсць пад дубам, і пастаў гэтыя напіткі ўсе, і падкрый іх! Тады кучары няхай ад'едуць адтудава, і сам ляж у скрытным месце і ляжы да ўрэмя. Яна як устанець, так і зляціць на гэту скацерць і станець гэтыя напіткі кушаць. І здзелаецца яна п'яна, і тут жа

яна пераваліцца, ляжыць, ляжáць будзець. Тады ты прыхадзі і бяры яе ў левую руку і згарнувай скацерць гэту і забірай кубкі і нясі ў карэту. І паязджай пашыбчэй — кучара па плячах сцягай прутом, а кучар няхай лашадзей сцягаець і хвалетара також. І будзець яна скідавацца змяёю там і ўсякай гадасцю: жабай, яшчаркай, мышшу — ну, ты яе не пускай, у руках,— гаворыць,— дзяржы ды й дзяржы!

Ну, ён так і сказаў цару. Цар гэтыя саставы ўсе саставіў і прыдастаўку яму даў як следуець поўную. І паехаў ён пад дуба пад гэтага. І разаслаў скацерць гэту, і паставіў гэтыя кубкі з наліўкамі. І сам адышоў у водаль, лёг і кучароў адагнаў адтуль, штоб яна не відала іх. Тады яна, даждаўшысь зары, і злятаець яна з дуба, увідзеўшы гэтую скацерць і наліўкі — кубкі гэтыя стаяць. І падляцела січас к кубкам к гэтым, і стала кушаць напіткі гэтыя. І здзелалась яна п'яна, і січас жа на скацерць на гэту брык!— і завалілась. Тады падбягаець Тром сын і бярэць яе ў левую руку, і скрычаў кучароў, штоб пад'язджаў сюды паскарэй! Тады, згарнуўшы скацерць і кубкі гэтыя, і ў карэту кладзець. І сам з ёю садзіцца, з Жар-пціцай. І зачаў сцягаць кучара прутом жалезным, а кучар лашадзей, а хвалетар тожа лашадзей.

А з яе хмель січас выйшаў, яна стала скідавацца ўсякай гадасцю. А ён дзяржыць у руках, не пускаець — не [а]брабеў. Яна ізноў стала Жар-пціцай, як была на сваём месце. Прывозяць яны яе ў царскі дом. Падаець ён яе цару — і дайжа ўвесь дварэц засіяў. Тады цар спрашуе ў яго:

— Чым цябе жалаваць за гэта, Тром сын?

— Нічога не хачу, ваша царскае вялічаства, апяць іду служыць пры сваёй доўжнасці, апяць на канюшню!

Ну, цар дужа даволен астаўся Тром сынам. І гаворыць:

— Глядзі ж ты за кучарамі харашэнька, катай іх маёй рукою!

Ну, ён пайшоў па канюшні, дзе непарадкі найдзець, паложыць кучара да штук пяцьдзесят-шэсцьдзесят закоціць:

— Знайце! Вы мне находзіце дарогу, і я вам найду!

Ну, цяперыча сабраліс гэты кучары і гаворадь:

— Ён нас прагоніць, прыйдзецца ісці проч ад яго.

На гэты случай здзелалась, тры дні і тры ночы было затменне. І адгадаваў цар, і нахадзіў такіх людзей, і па кнігах шукаў, адчаго б гэта тры дні і тры ночы затменне было? Кучары гэтыя апяць сабраўшыся.

— Пойдзем,— гаворацъ,— заўтра к цару і скажам, што ён прыйшоў п'яны і хваліўся, што ніхто не можацъ узнацъ, адчаго затменне было тры дні і тры ночы,— ні цар, ніхто, а я,— гаворыцъ,— магу ўзнацъ!

Пайшлі яны к цару:

— Ваша царскае вялічаства! Учора прыйшоў Тром сын п'яны і гаворыцъ: што вот наш цар не мог узнацъ, адчаго тры дні і тры ночы затменне было, а я,— гаворыцъ,— магу ўзнацъ!

Прызываецъ яго цар:

— Тром сын! Што ты ўчара́ п'яны гаварыў?

— Нічога не гаварыў, ваша царскае вялічаства.

— А ты,— гаворыцъ,— гаварыў, што магу ўзнацъ, адчаго тры дні і тры ночы затменне было!

— Як жа можна,— гаворыцъ,— ваша царскае вялічаства, узнацъ божую луну?

— Не, Тром сын! Еслі ты не ўвазнаеш, то мая меч, а твая галава далоў з плеч!

Пайшоў Тром сын, заплакаўшы, апяцъ з горада вон. І скрычаў свайго добрага каня:

— Конь мой мілы, а дзе б ты быў, калі б ка мне прыбыў!

Конь бяжыцъ, капытом зямлю б'ецъ:

— А што,— гаворыцъ,— Тром сын, табе бяда?

— Бяда,— гаворыцъ,—конь мой мілы!

— Не тужы,— гаворыцъ,— Тром сын! Гэта не бяда, бяда яшчэ ўперадзе будзецъ! Скажы цару, няхай табе клубок ссучыцъ у тры ніткі: нітка залатая, нітка сярэбраная і шаўковая. І пусці гэты клубок, будзецъ ён каціцца ўперадзі, і ты ўслед ідзі! І ён пакоціцца к сонцавай матцы. І там ты ўвазнаеш, адчаго тры дні і тры ночы затменне было!

Цар яму, не доўга думаючы, ссучыў клубок гэты. І выйшаў ён за горад, і пусціў клубок гэты. І пакаціўся гэты клубок, і ён услед за ім ідзецъ. Коціцца гэты клубок — стаяцъ два калодзезя із вадою, абое поўны. І ля калодзезей стаіцъ старуха з вядром: і з аднаго бярэцъ, у другі іл'ецъ, і ў том не прыбаўляецца і ў том не ўбаўляецца — і абое поўны. Ён прыходзе к ёй:

— Памагай божа табе, старушка!

— Спасіба! Куды цябе гасподзь нясецъ, Тром сын?

— А йду,— гаворыцъ,— к сонцавай маці спрашывацъ, чаго тры дні і тры ночы затменне было!

— Памянісь,— гаворыцъ,— Тром сын, і аб маю душу,— гаворыцъ.— Пакуль ба мне гэтыя калодзезі пераліваць?

— Харашо,— гаворыцъ.

Прыка́чуецца апяць — б'юцца воран із выдрамі. Кроў ■ іх плывець. Ён падходзе к ім, гавора:

— Памагай бог!

— Куды цябе бог нясець, Тром сын?

— А йду,— гаварыць,— к сонцавай маці спрашываць, адчаго тры дні і тры ночы затменне было!

— Памяніся,— гаварэць,— і аб нашу душу: дакуля нам біцца? Пазабіваліся,— гаварэць,— да палусмерці, няма знаць за што!

— Харашо,— гаварыць.

Цяпер пакаціўся клубочак і прыкачуецца — стаіць тын. І старык бегаець каля яго: адну старану паднімець — другая валіцца; ён тую паднімець — тая валіцца! Бегае з аднаго боку на другі і не паставіць ніякім родам!

— Памагай бог, старычок!

— Здароў, здароў, Тром сын! Куды цябе бог нясець?— гаварыць.

— А йду,— гаварыць,— к сонцавай матцы, адчаго тры дні і тры ночы затменне было!

— Памянісь,— гаварыць,— Тром сын, і аб маю душу: дакуль ба мне гэты тын паднімаць?

— Харашо,— гаварыць,— памянусь.

Пакаціўся клубочак гэты апяць. Прыкачуецца ён у дзярэўню. І бегаець мужык па дзярэўні, і саджаець кулакі ў вокны — у адныé тарканець у вакно ды к другей пабяжыць, у другі тарканець, к трэцяй пабяжыць. Бегаець ды й усё. Тады ён гаворыць:

— Памагай бог табе!

— Здарова, здарова, Тром сын! Куды цябе гасподзь нясець?

— А йду к сонцавай матцы, чаго затменне было?

— Памянісь,— гаварыць,— там аб маю душу, дакуля б кулакі гэта мне саджаць у вокны?

— Харашо,— гаварыць,— памянусь.

Пакаціўся клубочак гэты апяць. Прыкачуецца ён к мору. Цераз мора ляжыць Кіт-рыба, і па ёй дайжа калявіны выбіты, едучы на калёсах.

— Памагай бог табе, Кіт-рыба!

— Здарова, здарова, Тром сын! Куды цябе бог нясець?

— А к сонцавай матцы, чаго затменне было?

— Памянісь там аб маю душу, пакуля б мне тут ляжаць? Хоць ба гасподзь мне пазволіў другім бокам паварацішча!

— Харашо,— гаворыць,— памянусь...

Перакаціўся ён цераз мора, і пакаціўся ён у дубнік — быў дубнік сільны там — лес дубовы.

І прыкачуецца — у лясу ў том стаіць хатка. І яна ўся — сцены па[а]бпалены, па[а]бсмалены. Укачуецца ў хатку клубочак, і ён услед за ім. Страчаець яго сонцава матка, старушка, і спрашуе яго:

— Тром сын, ці па хоці ты, ці па няволі ідзеш?

— Маць,— гаворыць,— старушка, не так я па хоці, як па няволі! Хачу,— гаворыць,— сваю душу спасці ад нахалныя ад смерці!

Расказаў сваю абіду:

— Павялеў мне цар увазнаць, адчаго тры дні і тры начы затменне было? А не ўзнаю, дык царскі меч, а мая будзець галава з плеч!

Тады яна яго папаіла і пакарміла, дала яму есць і напіцца як следуець. На ноч яна яго завярнула ў дванаццаць кож і палажыла яго ў скрыню ў бальшую. І расказаў ён ёй усе гэтыя традухты:

— Вот, матушка-старушка! Як ішоў я сюды, і прыкаціўся мой клубочак к калодзезям. І стаіць там старушка з вядром і пераліваець ваду із аднаго калодзезя ў другі, і абое поўны. А тады прыкаціўся клубочак — б'юцца вораны з выдрамі, аж кроў плывець. А тады бегае старык каля тыну і ніяк яго не паставе, а другі бегае па дзярэўні і кулакі торкае ў вокны. А тады прыкаціўся клубочак к мору. І ляжыць Кіт-рыба цераз мора, і па ёй дайжа калявіны выбіты ад абоддзяў. І прасілі яны спамянуць іх душы, паколь ім гэты мукі цярпець?

Ну, яна гэта выслухала, увярнула яго ў дванаццаць кож і палажыла яго ў скрыню. І паслала сабе пасцель на скрыні і гаворыць:

— Слухай, тут я буду ў сына апрашаваць! Я сама яго сянні дажыдаю на ноч — яго тры дні дома не было.

Цяпер, як соўнушка заходзіць, стала хата лопаць — трэсь-трэсь, трэсь-трэсь! Ускакуець ён у хату:

— Здрастуй, матушка мая!

— Здароў, мой сынок! А йдзе цябе гасподзь носіць?

— Ах, матушка, не спрашывайце мяне! А я ў дасадзе ў бальшой!— гаворыць.

Дала яму вячэраць. Ён павячэраў, іляглі спаць на гэтай скрыні. Тады маць гэта нямножка паляжала, [у]друг і здрыгнулася, іспужалася быдта. Сонца апрашуе:

— Чаго вы, матушка, гэта спужаліся так?

— Мой сынок! Відзела я ўва сне, што тры дні і тры ночы затменне было. Пачаму гэта так?

— Матушка,— гаворыць,— вы не знаеце мае дасады: ёсць у моры Пракрасная Настасся. Я хацеў мора выпаліць і за сябе Пракрасную Настассю ўзяць, у супружаства сабе. [Да]к я мора трое сутак паліў. І не выпаліў, і Пракрасную Настассю не ўзяў!..

Апяць паляжаўшы, маць апяць здрыгнулася. Апяць ён спрашуе:

— Матушка, чаго вы гэта пужаецеся?

— Увідзела ўва сне, мой сынок, кажацца, цераз мора ляжыць Кіт-рыба, па ёй калявіны выбіты. І яна ляжыць і не шавяльнецца.

— А вот, матушка,— гаворыць,— яна многа людзей праглынула, паела, дайжа караблі паела. Калі б яна выхаркнула хоць трэцюю часць, ёй ба бог грахоў адпусціў ба!

Апяць матушка паляжала, апяць здрыгнулася. Сонца спрашуе:

— Матушка, чаго вы так сягонні пужаецеся?

— Мой сынок! Відзела я ўва сне: старык бегае,— гаворыць,— па дзярэўні, саджаець рукі ў вокны.

— Адтаго, матушка,— гаворыць Сонца,— што людзі ў яго прасіліся на ноч, а ён не пусціць. Цераз гэта многа людзі рук і ног па[а]дмаражавалі. Калі ён пакаецца, бог грахі яму адпусце.

Апяць маць паляжала, здрыгнулася.

— Чаго вы, матушка?

— Ах, мой сынок, відзела я ўва сне: кажацца, вораны з выдрамі б'юцца, аж кроў плывець. За што ім гэта так?

— Адтаго,— гаворыць,— матушка, што не следуець дзве пары кумоў браць на [а]днаго рабёнка, а то яны за хрэсніка дзяруцца: тэй к сабе цянець, а тэй к сабе! Няхай яны пакаюцца, бог грахоў ім адпусціць!

Апяць матушка здрыгнулася, паляжаўшы.

— Ах, мой сынок! Відзела я, што старык тын дзержыць і ніяк не ўдзержыць. Адчаго гэта?

— Адтаго,— гаворыць,— матушка, што на гэтым свеце ён казаў: абы як-небудзь тут пражыць, а на тым свеце хоць тын падпіраць! А таго не знаець, як яго падпіраць. Няхай пакаецца, бог яго грахоў прасціць.

Апяць маць здрыгнулася.

— Ах, мой сынок! Відзела я ўва сне, што баба ваду з калодзезя ў калодзезь пераліваець, і абое поўны. Адчаго гэта?

— А вот адчаго,— гаворыць,— матушка: людзі хлябалі вадзічку, а яна ела малачко. У чужых каровак адбірала. Каб яна пакаялася, бог ба грахоў адпусціў ба!

Ну, пагаварыўшы, і заснулі. Тады як соўнушка ўсходзіць, і січас распрашчаўся з маткай і пайшоў:

— Прашчай, матушка!

Тады яна адпіраець скрыню гэту і выпушчаець яго вон, з кож выварачваець. І апрашуе яго:

— Ну, слыхаў ты, Тром сын?

— Слыхаў,— гаворыць.

І пайшоў ён, адправіўся. Распрашчаўся, паблагадарыў ёй за хлеб-соль.

Прыходзіць ён к Кіт-рыбе. Кіт-рыба спрашуе:

— Ну, што, Тром сын, ці спрасіў ты аб мяне?

Тут ён гаворыць:

— Дай, Кіт-рыба, перайду, тады скажу табе!

Ну, перайшоў і гавора:

— Пакайся ты сваім грахам, выхаркай хоць трэцюю часць людзей і караблёў, што ты праглаціла, тады цябе гасподзь прасціць, грахам тваім!

Пайшоў дальшы. Прыходзіць ён, адзе бегаў старык пад аконню. Старык апяць абарачаецца:

— Здароў, здароў, Тром сын,— гаворыць.— Ці памянуўся ты аб маю душу?

— Памянуў,— гаворыць.— І штоб ты,— гаворыць— людзей пускаў на ноч начаваць, тады цябе гасподзь прасціць тваім грахам!

Апяць пайшоў ён да гэтых да выдраў і вараноў.

— А што, Тром сын, ці памянуў нашу душу?

— Памянуў,— гаворыць.— Пакайцеся сваім грахам,— гаворыць,— то бог прасціць грахам вашым, і прыкажыце, каб па дзве пары на [а]днаго рабёнка не браць кумаўства!

Прыходзіць ён к тыну к гэтаму. Старык апрашуе апяць:

— Тром сын, ці памянуўся ты аб маю душу?

— Памянуўся,— гаворыць.— Ну й пакайся сваім грахам, цябе гасподзь прасціць.

Пайшоў ён да калодзезя. Старусе гэтай гаворыць, што перастань ты гэта дзелаць, малокі адбіраць, і пакайся сваім грахам, цябе бог прасціць.

Пайшоў ён да цара. Паяўляецца к цару. Цар з ім паздароўкаўся:

— Ну, што, Тром сын, ці ўвазнаў ты, адчаго тры дні і тры ночы затменне было?

— Увазнаў,— гаворыць,— ваша царскае вялічаства: ёсць у моры Прекрасная Настасся, і хацела Сонца мора выпаліць і за сябе Прекрасную Настассю ўзяць у супружаства!

І гэтым цар быў крэпка даволен і апрашуе:

— Тром сын! Чым цябе жалаваць?

— Нічога, ваша царскае вялічаства, не хачу, хачу пры сваёй доўжнасці служыць апяць.

Пайшоў ён на канюшню і паглядзеў за парадкамі, і ўзяў гэтых кучароў апяць па-свойму залівать ім. Ну, яны апяць сабраліся, апяць сталі разгавор мець:

— Як нам яму здзелаць падкоп апяць?

Адзін гавора:

— Пойдзем заўтра к цару, братцы, і скажам, што ён можаць дастаць Прекрасную царэўну, каторую Сонца не магло ўзяць!

Ну, пайшлі і сказалі цару. Цар прызывае яго к сабе, Тром сына, і спрашуе:

— Што ты ўчара́, Тром сын, гаварыў п'яны вечарам?

— Нічога я не гаварыў, ваша царскае вялічаства!

— Не, ты,— гаворыць,— гаварыў, што я магу дастаць Прекрасную Настассю, каторую і Сонца не няло!

— Ваша царскае вялічаства! Як жа можна: калі божая луна,— гаворыць,— не няла, а я як жа магу дастаць?

— Не, можаш! А еслі не дастанеш, то мая меч, а твая галава будзець з плеч!

Пайшоў Тром сын, заплакаўшы, ад яго, із горада вон. Прайшоўшы і скрычаў свайго добрага каня:

— Конь мой мілы, адзе б ты быў, ка мне прыбыў!

Конь бяжыць, капытом зямлю сячэць:

— Што, Тром сын, табе бяда?

— Бяда,— гаворыць,— конь мой мілы!

— Гэта не бяда,— гаворыць,— Тром сын, а бяда шчэ ўперадзе́ будзець. Скажы цару свайму, каб ён шаўковы шацёр сшыў і каб ён тавару краснага наклаў туды: там шалей, платкоў, каснікоў, стужак — разнага. І няхай дасць стулоў некалькі штук, і карэту запражэць, шасцёрка лашадзей каб была і каб кучар быў і з хвалетарам. І тры прута жалезных вазьмі. І паедзеш ты к мору, і разапнеш свой шацёр, і разложыш тавары свае там. І кучароў адашлеш водаль у скрытае места, каб яны

сталі. А сам сядзь у стула і сядзі. Яна ў суботу будзець праязджаць два разы па мору. Адзін раз яна праедзець — нічога не скажаць, а аттудава павароціцца, будзець ехаць і апросіць у цябе: «Гаспадзін купец, якімі ты таварамі таргуеш?» Ты ёй на [а]твет скажы: «Ізвольце, Пракрасная Настасся, прыехаць к берагу, тады я з вамі паталкуюся!» Тады яна прыедзець к берагу, і бяры яе за лодку і смо́ргай яе на бераг. І бяры яе за косы і сячы жалезным прутом да тых пор, пакуль яна прысягнець і ком зямлі з'есць, што я буду твая, а ты мой! Саджай яе ў карэту тады і паязджай у царскі двор, дамой яе вязі сабе!

Цяпер конь распрашчаўся з ім:

— Прашчай, Тром сын, калі будзець табе бяда, ізноў трэбавай мяне!

Пайшоў Тром сын к цару і сказаў яму гэту прыдастаўку прыставіць усяе: здзелаць і шацёр, і тавар набраць, карэту і лашадзей шасцёрку, двух кучароў, усё. І адправіўся ён у дарогу. Прыязджае ён к мору, знімаець свой шаўковы шацёр, раскладаець свае разныя тавары.

Тады яна едзець у адзін край, нічога не сказала; праехаўшы, паварацілася назад і спрашывае ў яго:

— Гаспадзін купец, якімі таварамі таргуеш?

— Ізвольце, сударыня, сюды пабліжы, што я буду крычаць там, таргавацца з вамі!

Прыязджае яна к берагу, ухваціў ён за лодку і выташчыў яе на бераг у лодцы. І ўзяў яе за косы і ўзяў яе прутом жалезным гэтым пахаджваць. І яна атвячаець:

— Тром сын, за што ты мяне так б'еш?

— Я б'ю цябе за гэта, кагда ты мне прысягнеш, што будзеш мая супруга, то я цябе не буду біць!

Пракрасная Настасся на гэтым была сагласна. Дала яму бальшую клятву і брала яго за руку, і цалавала яго ў вуста. І скрычаў ён сваіх кучароў. Кучары прыязджаюць, тады ён бярэць свой шаўковы шацёр і складаець свае красныя тавары, і кладзець ён у карэту. І садзіцца з ёй у карэту, і адправіўся ён к цару. Прыязджаець ён ува дварэц і з Пракраснай Настассяй. Цар яго страчаець з бальшым давольствіем і ўзірнуў на яе красату і благадарыў Тром сына за прыстаўку за яго. І апрашываець апяць Тром сына:

— Чым цябе нараградзіць?

— Не хачу ніякай награды, ваша царскае вялічаства, пайду апяць пры сваёй доўжнасці служыць!

Пажыўшы цар з ёй там мала-многа, улюбіўся ён у Пракрасную Настассю. Січас сваю жану спатрабіў, вумерла яна, і на ёй хочаць у супружаства ўступіць. Царыца гэта памерла і пахараніў яе. Ён з ёй мееңь саюз, у супружаства яе ўзяць. Яна яму на [а]твет:

— Гасудар,— гаворыць,— міласлівы! Калі ён даставіў мяне, я,— гаворыць,— шчэ дзявіца не саўсім у красе — мае красы тут і палавіны няма са мной, дык няхай дастанець і маю красату!

Прызывае Тром сына:

— Ну, Тром сын, калі ты мяне даставаў, дастань жа і маю красату!— гаворыць.— Ступай к мору і скажы Кіт-рыбе, каб яна маю скрыню выкінула із мора. А ў той скрыні ёсць вутка, а ў вутцы яйцо — там маё і ліцо,— гаворыць.

Тром сын січас адпраўляецца к мору. Прыходзіць ён к Кіт-рыбе.

— Кіт-рыба,— гаворыць,— выкінь скрыню Пракраснай Настассі з мора!

Кіт-рыба атвеціла яму:

— Тром сын,— гаворыць,— адыдзі на сем вёрст ад мора, а то патанеш: разліў здзелаю бальшы!

Тром сын адышоў на сем вёрст ад мора. Кіт-рыба павярнулася, січас разліў здзелала на сем вёрст ад мора. Выкінула яна гэту скрыню. Наскочылі гэтыя самыя выдры і разадралі гэтыя завесы, скрыню гэтую адпёрлі. Вутка вырвалася із скрыні і паляцела. А дзе не быўшы, вараны гэтыя січас за вуткаю. І разарвалі гэту вутку. Яйцо вывалілась, да й у мора апяць. Ён апяць к Кіт-рыбе:

— Кіт-рыба, яйцо ўвалілась у мора!

Кіт-рыба прыказала раку разыскаць яйцо гэта. Рак гэты разыскаў яйцо і нясець у сваіх кляшнях на бераг і падаець Тром сыну ў рукі. Тром сын паблагадарыў і пайшоў з гэтым яйцом да Пракраснай Настассі. Цяпер Пракрасная Настасся гэта яйцо разбіла — была красіва, яшчэ пакрасівела! Цар не налюбуецца на яе красату. І просіць яе ў супружаства, каб павянчацца.

— Не, не пара́ яшчэ, ваша царскае вялічаства: шчэ мае нямаш вясёласці.

Прызывае к сабе Тром сына апяць:

— Ідзі, Тром сын, калі ўмееў дастаць мяне і маю красату, дастань і маю вясёласць. На табе,— гаворыць,— платок. Ёсць у такіх-та мястах воўк. То мой брацец. І ў яго ёсць мае гуслі самагранныя. І на табе платок гэты, і вазьмі з сабою тых, като-

рыя былі табе злачынцы. Тады ён станець дзелаць самагранныя гуслі, ты пастаў свяціць аднаго. Ён будзець свяціць і як задрэмлець, то ён яго з'есць тады. Тады ён у цябе будзець прасіць: «Давай свяціць каго!» Ты другога пастаў. І тэй задрэмлець, і таго з'есць. Ты й трэцяга заставіш — і таго з'есць. Тады ён заставіць цябе свяціць. І прыкажа табе: «Сматры, Тром сын, не драмлі, то я й цябе з'ем». Тады калі табе задрэмлецца, дык ты спрасіся ў яго ўмыцца, і скажы так: што я ішоў пуцём-дарогаю, пазапарошыў свае глазы, прамыць мне трэба! Цяпер ты як памыешся, вынь платочак гэты і стань уціраццa ім. Тады ён узнаець, што й то мой платок,— ён табе дасць самагранныя гуслі гатовыя!

Тром сын адправіўся, узяў з сабой сваіх злачынцаў, трох кучароў, і адправіўся туды, адзе яна паказвала находзіцца яе брат. Прыходзіць ён туды, ён заснуўшы быў. Прашынаецца ён ад сна [а]д крэпкага і апрашывае:

— Што ты, Тром сын, прыйшоў?

— Прыйшоў я к вам, здзелайце мне самагранныя гуслі!

— А ці ёсць каму свяціць, Тром сын?

— Ёсць,— гаворыць.

Сычас ён аднаго кучара падаець свяціць. Тэй свяціў, свяціў — задрамаў. Ён яго з'еў. Просіць ён другога святца́. Ён і другога даў. І другі задрамаў. Ён з'еў і яго. Падаець ён і трэцяга. Ён і таго з'еў.

— Цяпер,— гаворыць,— Тром сын, станавісь сам свяціць.

Стаў Тром сын свяціць. Да тых пор свяціў, дакуль сільная драмота на яго напала. Тады ён гаворыць:

— Пажалуста,— гаворыць,— пазвольце мне глазы прамыць! Ішоў я па дарозе, запарошыў свае глазы — пылі набілася!

Воўк яму пазволіў памыцца. Ён памыўся, тады вынімае гэты платок шаўковы і стаў уціраццa. Ён узглянуў на гэты платок:

— Ах, Тром сын! Чаму ж ты мне не сказаў? Гэта сястрыца паслала за гуслямі за самаграннымі. Я ж ба даўно табе гатовыя даў ба, а то яна будзець сярдзіцца!

Выносіць яму самагранныя гуслі гатовыя. Узяў ён гуслі і пайшоў ад яго, распрасціўся з ім. Ідучы, ён у самагранныя гуслі і зачаў іграць. Ідзець старык з дубінкаю. І пачуў гэту ўмілную ігру, і стаў ён плясаць. І ён пляшаць, і дубінка пляшаць. Падходзе гэты старык, гаворыць:

— Ах, Тром сын! Аддай ты мне гэтыя гуслі самагласныя!

— А ты мне што дасі?— Тром сын спрашуець.

— Дам табе гэту дубінку,— гаворыць.— Яна хоць якую сілу паб'ець!— гаворыць.— Хоць тут дванцаць карпусоў прыгонь, дык яна табе іх і пакалоціць і памалоціць!

Аддаў Тром сын самагласныя гуслі — узяў сабе дубінку. Прайшлі яны скольк там урэмя, Тром сын гаворыць:

— Што мы гэта з табой здзелалі? Нашто мы аддалі самагранныя гуслі. Нам не пры чым будзець і павесяліцца з табой. Бяжы-тка ты,— гаворыць,— адбяры іх у яго!

Дубінка гэтая пабегла і начала гэтага старца хлястаць (пульгаць):

— Аддай,— гаворыць,— самагранныя гуслі, а то я цябе заб'ю!

Тэй старык аддаў, бросіў, і сам драла. А дубінка падхваціла гэтыя самагранныя гуслі ды к Тром сыну прынесла.

Ідуць яны апяць, іграюць і пляшуць, весяляцца. Ідзець каробашнік із каробкай. І ўслыхаў умілную ігру гэту і стаў ён плясаць. І плясаў, што проста аж на ём рубашка мокра стала. І просіць у яго самагранных гусляў гэтых:

— Тром сын, аддай мне самагранныя гуслі гэтыя!

Тром сын спрашуе:

— А ты мне што дасі?

— Дам я табе от,— вынімаець з каробкі скрыначку такую і адпёр гэту скрыначку: як паваліла адтуда войска, нясметная сіла. Выступіла бальшая сіла! Гэтаму Тром сын абрадаваўся. Сычас і скрычаў:

— Убірайся на сваё места,— яны й скрылісь.

Тады аддаў каробашнік гэту скрыначку, а ён яму самагласныя гуслі. Тады пайшоў Тром сын з скрыначкай і з дубінкай. Прайшлі яны многа лі — багата, апяць Тром сын гаворыць на дубінку:

— Дубінка,— гаворыць,— вот у нас войска свая,— гаворыць,— паіграць нам не ўва што! Бяжы,— гаворыць,— дубінка, апяць адбяры самагранныя гуслі.

Дубінка гэтая сычас паскакала і нагнала каробшчыка гэтага і начала яго хлыстаць без міласці:

— Аддай нашы самагранныя гуслі!

Тэй, бросіўшы гуслі, сам наўхадака́.

Ідуць яны апяць пуцём-дарогаю, прыходзяць — пасець пастух скаціну. Ён і зайграў каля пастуха. Пастух давай скакаць! І скакаў проста да тых пор, пакуда замарыўся.

— Ах, Тром сын! Дай ты мне самагласныя гуслі!

— А ты мне што дасі?

— Дам табе гэту пугу!— гаворыць.

Пуга была длінная.

— Колькі разоў замахнеш, столькі і табуноў будзець скату!

Тром сын узяў аддаў самагласныя гуслі гэтыя. А сам узяў пугу гэту. І пайшлі пуцём-дарогай. Прайшлі яны нямнога ўрэмя, і Тром сын гаворыць:

— Дубінка, ідзі ты адбяры самагласныя гуслі!

Дубінка гэта сычас пабяжала і начала пастуха гэтага ганяць кругом стада. Пастух гэты вярцеўсь, вярцеўсь — бросіў самагласныя гуслі. Прыносіць ён гэтыя самагласныя гуслі.

Ідуць яны дарогаю, іграюць. Едзець чалавек так сілна багаты, на купца паходж. І ўслыхаў гэту ўмілную ігру і стаў скакаць. Скакаў, скакаў і замарыўся.

— Ах, Тром сын, аддай ты мне гэтыя самагранныя гуслі!

— А ты мне што дасі?

— Дам от табе скацерсць!

Сычас разаслаў яе, скацерсць, на зямлі, і адкудава ўзялісь кушання на скацерсці, напіткі ўсякія разныя.

— От ты дзе захочаш, рассцялі — будзець табе піцяннё-едзяннё!

Аддаець Тром сын самагласныя гуслі, бярэць з сабой скацерсць. І пайшлі яны пуцём-дарогай. Прайшлі нямнога яны, апяць:

— Дубінка, ідзі адбяры самагранныя гуслі,— нам не пры чым павесяліцца!

Нагнала дубінка гэтага купца і стала яго валяць беспашчадна. Бросіўшы гэты купец самагранныя гуслі і сам наўхадака́. Прыносіць гэта ён самагранныя гуслі. І пайшлі пуцём-дарогай.

Ідуць яны каля господскага дома, строяць плоцьнікі комнаты памешчыку. Ён зайграў у самагранныя гуслі ў гэтыя — усе плоцьнікі бросілі сякеры і зачалі скакаць усе. І да тых пор скакалі, што й пазамарыліся ўжо. Выходзіць стары плоцьнік, каторы быў глаўны майсцер:

— Ах, Тром сын,— гаворыць,— аддай нам гэтыя самагласныя гуслі!

— А ты мне што дасі?

— Дам табе гэту сякеру. Адзе ты задумаеш сабе хоць дварэц царскі, дык яна за ноч табе зработаець!

Аддаў гэты самагранныя гуслі, узяў сякеру і пайшоў пуцём-дарогай. Прайшлі.

— Дубінка,— гаворыць,— што мы йдзём, мы саўсім пазаўнылі! Ідзі адбяры самагранныя гуслі!

Дубінка сычас паскакала туды, к плоцьнікам, і зачала гэтых плоцьнікаў валяць па-свойму:

— Аддайце нашы гуслі самагласны!

Плоцьнікі гэтыя закрычалі на майстра:

— Аддавай,— гавораць,— іх, аддавай! А то яна нас пазабіваець!

Выносіць ён самагласныя гуслі. І бярэць дубінка гэта і пайшла сабе к Тром сыну. Ну, цяпер Тром сын сказуе:

— Ну, цяпер мы ва ўсём поўным сабраніі. Пайдзём.

І пайшлі яны цяпер да сталішнага горада, адзе і Настасся Пракрасная і цар.

І прыходзяць яны туды. Так была рака тута, і царскі двор на [а]дзін бок ракі, а ён па другую старану наўпраціў вялеў сякеры выстраіць за ноч другі дварэц луччы таго. Сычас скацерсць гэту разаслаў тут. Падзелалась усё ў яго: і напіткі, і кушання, і ўсё ў яго. Скрынку адпёр — выступіла войска. І паставіў ён часавых увяздзе, як і быць, па-ваеннаму. І падзелаў ён павароў і ўсякіх слуг — усё акурат ёсць. І пугаю замахнуў нескалькі разоў, і стала ската ў яго пропасць на [а]боры: і кароў, і свіней, і быкоў, і [а]вец — і ўсяго.

Прашнуўся цар і смотрыць у вакошка, і крэпка ён спужаўся:

— Што гэта такое дзелаецца ў маём царстве? За адну ноч здзелалася?

І пайшоў ён будзіць Пракрасную Настассю:

— Душанька мая,— гаворыць,— што гэта ў нашым царстве дзелаецца?— гаворыць.

Узглянула яна ў вакошка і атвячаець яму:

— Я знаю, хто гэта ваюець,— гэта Тром сын ваюець.

Цар сычас пасылаець сюды свайго слугу:

— Няхай Тром сын прыйдзець ка мне!

Тром сын пішаць яму бумагу: «Годзе мне к вам хадзіць, а прыйдзіце-ка вы ка мне!»

Ён ужо не баіцца. Цар вялеў кучарам лашадзей запрэч і садзіўся з Пракраснай Настассяй, і паехалі туды ва дварэц. Стрэў ён іх із чэсцю, аддаў ім паштэнія. Тады і пайшлі расхаджувацца па ўстройству. Абгледзела яна яго парадкаў, астанавілася ў вадном месце і выхваціла ў цара меч ад боку і сычас Тром сына гэтага галаву далой зняла з плеч, парубіла яго на буйныя кускі. І вялела із харошага калодзезя нанасіць вады чыстыя ў кацёл. І палажыла гэтага мяса яна сама, і рукі закасала ўжо, і вялела падлажыць агня. І ўскіпяціла гэту ваду. Сычас мяса гэта выцягнула вон, і нанасілі вады халодныя чыстыя апяць. І яна

сама ўзяла перамыла гэта мяса і ўзяла яна, часткі зложыла апяць, як яно было, частка к частцы, і мёртваю вадою спарснула — ён саснаваўся, як ёсць чалавек. Жывою спарснула апяць— ускочыў Тром сын як ада сна. І дужа красіў ён! Быў красіў, а тут такія красаты прыбыло, што божа!

Цар глянець, глянець на яго і на сябе ў зеркала — няма такія красаты. Тады й гаворыць:

— Пракрасная Настасся! Здзелай і мяне такім, як яго!

— Харашо,— гаворыць.

Узяла меч яго, сычас галаву далой з плеч яму зняла і на мелкія часці парубіла і сабакам па[а]ддавала. А на ём тады з божжу помаччу павянчалася. І здзелаўся ён царом, а яна царыцай. І сталі тым царствам уладзець.

## 60. НЯЗНАЙКА

У аднаго кроля нарадзіўся сын, і таго самага дня прывяла кабыла жарэбчыка. Кралевіч рос мінютамі і вырас на харошага кавалера, а жарэбчыка любіў без канца і называў сваім равесьнічкам. Кроль тым часове застарэў, а кралёва пачала задавацца з папом і знелюбіла сва[й]го сына. Аднаго разу кралевіч выйшаў сабе пахадзіць, а поп з кролеваю ўрадзілі, каб яго як страціць, зле таго што баяліся, каб не казаў аб усём бацьку. Ідзе кралевіч назад і заходзіць да свайго равеснічка, глядзіць, ажно жарэбчык надта смутненькі, так пытае:

— Чаго ж, мой конік, такі смутненькі? Чы на сябе, чы на мяне смерць чуеш?

— Не,— кажа,— на вас! Як вы прыйдзеце да палацу, то ваша матка будзе вам даваць абед, то вы яго не ешце, а ўсё за акно выкіньце.

— Добра.

Прыходзіць, ажно мацi:

— А мой сыночак! Яно захадзілася, яно есткі хоча: на, з'еш крышку.

А ён — шусь! за акно і выкінуў. Так у момант цэлы палац разарвала. А маці:

— Ах! Мой сыночак, што ж ты зрабіў?

— Ніц, мамачко, абы вы былі, то будзе і другі палац.

На заўтрашні дзень, зноў пахадзіўшы, зайшоў да равеснічка, а той яшчэ маркотнейшы:

— Чаго ж ты, коніку, такі смутненькі? Чы на се, чы на мяне бяду чуеш?

— Не,— кажа,— на вас: як вы прыйдзеце, то будуць вас выпраўляць да купальні і каб вы разбірацца селі на камені, то вы не седавецеся, анно скіньце кашулю і на той камень кіньце.

— Добра.

Прыходзіць, ажно маці так ужэ:

— А мой сыночак! А мой залаценькі! Яно закурэла, ідучы, ідзі ж да купальні, выкупайся, а як будзеш разбірацца, то сядзь сабе на камені.

— Добра, мамачко.

Прыйшоўшы, зняў кашулю, як кінуў на камень, так яго як бач і разарвала. Ён прыйшоў і кажа: так і так.

— А сынку! А галубочку! Добра што ты не седавіўся.

На трэці дзень заходзіць ён да жарэбчыка, ажно ен пад сабою зямлю ўжэ выбіў — такі смутны.

— Чаго ж, ты коніку, такі смутненькі, на каго ты бяду чуеш?

— Цяпер то ўжэ на сябе, а после на вас. Ваша маці дагадалася, што я вас наўчаю, і хоча мяне страціць, то вы набярэце грошай, і як будуць мяне з стаенкі выводзіць, то папрасеце, каб пазволілі вам на мне паездзіць.

Ён гэтак і зрабіў. Назаўтра выводзяць жарэбчыка, а ён просіць:

— Мамачко, пазвольце мне паездзіць.

— Добра, сыночку.

Ён схапіўся на коніка, а конь як знімецца, як ні пойдзе з ім разам паверх палацаў і нёс, нёс і занёс у другую землю да кралеўскага гароду. Так ён з вялікага змэнчання ўпаў, а конік кажа:

— Як будзе вам мяне на што трэба, то свісніце тры разы.

І сам паляцеў. Спаў, спаў, прачхнуўся, ажно глядзіць, зыіць у яго нештась на галаве. Вырваў валасочка, ажно ён залаты! А гэта конік яму так зрабіў. Пасядзеў крышачку на травіцы, ажно ідзе агроднік. Падышоў і пытае:

— Хто ты?

— Не знаю!

Так агроднік завёў яго да кроля. Кроль пытае:

— Хто ты?

— Не знаю!

Так кроль разгневаўся і казаў яго на гарачай блясе стаўляць, а ён усё не прызнаецца, так кроль, няма рады, пусціў яго, і ён быў пры том агродніку і звалі яго на дварэ Нязнайкам. Аднаго разу кажа ён да агродніка:

— Ведаеце вы, дзядзюшку, трэба кролю якую штуку зрабіць.

— То якую ты зробіш?

— Паглядзеце! Праз ноч стане такая яблына: кара срэбна, яблыка залатыя, а як укусіць, то ў губах растане.

— Пагледзімо!

На заўтрашні дзень, калі агроднік гляне, ажно ўсей сад зыіць — такая харошая яблына прэд кралеўскім акном стаіць! А гэта ўсё зрабіў яго конік. Як кроль угледзеў, так заклікаў агродніка і кажа:

— Гэта ты зрабіў?

— Я!

— Ну, то глядзі, каб праз ноч усюды была агарода срэбна, а на версе галачкі залатыя. А як гэтага не зробіш, то мой меч зніме табе голаў з плеч.

Так агроднік, няма рады, кажа:

— Добра.

После прыходзіць да Нязнайка і кажа:

— А каб цябе так і гэтак! Як я це не знаў, то і бяды не знаў, а цяпер кроль казаў так і гэтак зрабіць!..

— Не бойцеся, дзядзюшку, будзе ўсё.

Так увечары свіснуў на коніка, а як той прыляцеў, так кажа:

— Зрабі так і так, так і так.

— Добра.

І калі кралевіч гляне, ажно ў вока мглені ўсё стала. Так спакойны ўжэ пайшоў спаць. На заўтрашні дзень кроль глядзіць, ажно агарода срэбна аж зыіць. Утэды кроль казаў заклікаць агродніка і вынадгарадзіў яго. Жыў ён там, так жыў, ажно дачуваецца, што тры змяі — адзін з трыма, другі з шасцьма, а трэці дзевяцьма галавамі — хочуць тры кралеўскіх дочак з'есці і што казалі сабе: першага дня найстаршу прывезці, другога сярэдню і трэцяга ўжэ наймeншу. Выйшаў Нязнайка ўвечары за сад, свіснуў на каня і кажа:

— Мой коніку, станьмо ў прыгодзе кралеўскай дачцы, бо яе хоча змей з трыма галавамі з'есці.

Так конік гэта зараз даў яму срыбну адзежу і сам срыбным зрабіўся. Злажыўшы адзежу, сеў і паехаў паверх лясоў. Пры-

язджаюць туды, ажно найстарша сядзіць і плача. Паждаўшы крыху, выходзіць з лесу змей з трыма галавамі. Утэды кралевіч выняў мечык і скочыў з конікам да яго і давай сеч. Змей яго пазурамі, а ён яго мечам. Сёк, сёк, нарэшце, ссёк тры галавы, але і змей яму зрабіў пазурамі на твары добру цацку. Так кралеўна, угледзеўшы яго акрываўленага, узяла хустачку і перавязала яму твар, после давай дзякаваць. Ён зараз гэта паехаў назад. Прыехаўшы, зняў адзежу, аддаў коніку, а сам, як нідзе не быўшы, ходзіць па гародзе. Кралеўна пайшла сабе напрашкі пехтам.

Тым часове неякісь прыблуда кадлуб спаліў і па вадзе рассеяў, а галавы пазбіраўшы, панёс на кралеўскі дварэц, стаў прэд кролем і кажа:

— От, я змея забіў і ад смерці дачку вашу выбавіў!

Кроль ужэ такі рад, дае яму піць, есць і просіць, каб яшчэ ў яго пабыў і тыя дачкі абараніў ад змяёў. Так той згадзіўся на гэта. На заўтрашні дзень павезлі ўжэ сярэдню, і той з ёю паехаў. Тым часам Нязнайка свіснуў на коніка, злажыў залатую адзежу, катору конік прынёс, прывязаў да боку залаты меч, сеў і паехаў. Прыязджае, ажно кралеўна сядзіць на том самом каменю і плача, а той прыблуда нейдзе ў кусты залез. Нібавам вылазіць з лесу змей з шасцьма галавамі і кажа:

— Забіў ты майго брата, але мяне не апаможаш!

— Папрабуем!— і выняўшы залаты мечык, скочыў да яго. Сёк, сёк, сёк: пяць галоў ссёк і ўжэ шосту меў ссячы, а змей — чарап! за нагу, а конік — грызь! змея за голаў і кінуў яго пад ногі. Утэды кралевіч пад'ехаў да кралеўны, а яна яму падзякавала, зняла хустачку, перавязала ногу ды й пайшла да палаца, а ён сеў і як пад'ехаў пад сад, так аддаў адзежу конікаві і зноўсь сабе ходзіць. Тым часам прыблуда, як яны адышліся, зрабіў таксама і прыносіць голавы да кроля. Кроль ужэ не ведае, як яму дзякаваць: корміць, поіць, грашыма і ўсялякімі багацтвамі абсыпвае. На трэці дзень вязуць ужэ з прыблудаю найменшу дачку. Як анно павезлі, Нязнайка свіснуў на коніка, злажыў той раз дыямантовую адзежу, прывязаў дыямантовы мечык, сеў і паляцеў паверх лясоў. Стаў на том месцы, ажно прыблуды ані знаку, анно кралеўна сядзіць і плача. Тут, дзе быўшы, выходзіць страшны, аграмністы, з дзевяцьма, як цэбры, галавамі змей. Так кралевіч, выняўшы мечыка, скочыў да яго. Секліся, секліся, кралевіч чыста ўмарыўся, а яшчэ ўсіх галоў не адсёк, але змей горш яшчэ ўтаміўся, так кажа:

— Стой, будзем аддыхаць!

Кралевічу таго і трэба. Аддыхнулі крыху і зноў давай біцiся. Біліся, біліся, аж змей кралевіча чарах! пазуром за мізіны палец і раздзёр, але кралевіч замахнуўся і апошню голаў яму сцяў. Так зараз пад'ехаў да кралеўны, а ў яе не было хустачкі, так з каптаніка аддзерла кусочак, абвярцела палец ды й свайго пярсцёначка насадзіла, бо не было ў яе нітачкі. Утэды Нязнайка, сеўшы на коніка, паехаў, але той раз адзежы не скідаў і коніка не адпраўляў, але ў гэтым усём лёг у саду, а конік над ім стаіць. Тым часам прыблуда вылез з кустоў, спаліў зноў кадлуб, рассеяў попел па вадзе і, пабраўшы голавы, пайшоў на кралеўскі двор. Як сказаў, так кроль давай яму дзякаваць, трахтаваць, а найменша кралеўна кажа:

— Пайду я а Нязнайкі пагляджу.

Прыходзіць ды й стала над ім як урыта, бо заміж Нязнайкі спіць той самы, што яе ад смерці збавіў! Так зараз гэта пайшла да бацька і расказала аба ўсём. Утэды яго дваране на руках занеслі да палацаў. Ён прачхнуўся, ажно каля яго ўсе стаяць і дзякуюць. Дзе быўшы, таго прыблуду звязалі, на жалезныя бораны расцягнулі, а Нязнайка ажаніўся з найменшаю кралеўнаю і па смерці кроля сам панаваў.

## 61. ІВАН І КУСЮЛЬКА

Жыў сабе дзед і бабка. І быў у дзедкі сынок Іванька. Аддалі яны яго ў школу, а самі даглядалі хадзяйства. Вот раз ажарабілася ў іх дома кабыла. А дзеду трэба было ехаць у хуру. Прыходзе Іванька із школы, бацька яму кажа:

— Мой сын, некаму кусюлькі даглядаць: ты ў школе, я еду ў хуру. Ці нам парабка наняць, ці луччы кусюльку прадаць?

— Не, татка, не прадавай, я сам буду даглядаць, прыйшоўшы з школы!

Вот, паехаў бацька ў хуру, а Іванька стаў сам даглядаць кусюльку: уранні ўстане, дагледзе яе і пойдзе ў школу; прыйдзе са школы і зноў зайдзе к кусюльцы. І дужа яе харашо даглядаў. От, прыходзе ён раз так з школы, заходзе к кусюльцы, а яна па шчыкалаткі ў крыві стаіць. Ён тады спрашуе ў яе:

— Кося мая мілая, кося любімая, чаго ты так скучаеш?

— А як жа мне не скучаць: у твае мачыхі сянні бальшая бяседа: хоча яна цябе страціць. Тады хто мяне даглядаць будзе?

— Ну, а што гэта будзе? Як яна мяне страціць хоча?

— А нічога не будзе. Нагрэла яна табе чаю. Як увойдзеш ты ў хату, дык табе яго і пададуць. А ты не пі, а стань піць ды нібытцам-та і ўпусці!..

Ушоў Іванька ў хату і кажа:

— Дай мне, мам, абедаць!

Яна дала яму абедаць. Толькі ён стаў есці, аж яна кажа:

— Ах, галоўка бедная, забылася табе чайку даць, папіць з холаду!

— А давай цяпер, матушка!

Падносе яна яму чаю. Вот ён узяў, казаў бы піць да бытцам ненарошна і ўпусціў.

На другі дзень ідзе Іванька са школы і зноў заходзе к кусюльцы. Па[г]лядзеў, а яна па калена ў крыві. От ён і спрашуе:

— Кося мая мілая, кося любімая, чаго ты так скучаеш?

— А чаго я скучаю: у твае мачыхі сянні шчэ большая бяседа, і цябе хочаць страціць. Хто мяне тады даглядаць будзе?

— Як жа яна мяне хоча страціць?

— А спякла яна табе піражок. Як увойдзеш ты ў хату, дык яна дасць табе піражок. А ты не еш, ды сабацы аддай, дык убачыш, што будзе сабацы. От, тое б і табе было!

Ушоў ён у хату і кажа:

— Дай мне, матушка, паабедаць!

Падала яна абед. Цяпер, сеў Іванька абедаць, а яна і кажа:

— Вот! Забыла табе даць піражка з разнымі зеллямі!

Дала Іваньку піражок; ён разламіў і аддаў сабацы. Той сабака січас і здох. Іванька ўзяў яго за хвост і цягне з хаты. Маці дажыдаецца, што й яму так будзе. А ён сабаку выцяг, памыў рукі ды за стол. Паядаў сабе і пайшоў. Назаўтрага пайшоў у школу, адбыў там дзень, а ўвечары ідзе дамоў і заходзе к сваёй кусюльцы. Ажно яна стаіць у крыві па пуза. Ён тады кажа:

— Кося мая мілая, кося любімая, чаго ты так скучаеш?

— А чаго я скучаю: апяць хоча цябе мачыха страціці!

— Чым жа яна хоча мяне страціць?

— А вот чым: будзе ў вас сянні сыбота, а вы будзеце баню тапіць. От, як пойдзеш ты ў баню, мачыха дасць табе белую рубашку. Ты як надзенеш яе, дык і канец!

Прыйшоў Іванька ў хату, мачыха і пасылае яго ў баню і дае яму белую рубашку перадзецца. Пайшоў Іванька ў баню,

памыўсь ды й надзеў зноў чорную рубашку, а гэтыя рубашкі і не надзеў. Прыходзе дамоў, от мачыха і спрашуе:

— Што ж ты ў чорнай рубашцы, і дзе ж ты тую рубашку дзеў?

— А толькі стаў, матушка, грэць над печкай, што яна халодная, [illegible] яна й згарэла!

На другі дзень пайшоў ён у школу, перабыў там дзень, а ўвечары ідзе дамоў і заходзе к кусюльцы. Ажно яна стаіць у крыві па шыю.

От, ён кажа:

— Кося мая мілая, кося любімая, чаго ты так скучаеш?

— А чаго я скучаю: у твае мачыхі сянні яшчэ большая бяседа: хочуць яны цябе страціць. Дык ты пі і не ўпівайся, еш і не ўядайся, спі і не ўсыпайся, а слухай, што будзе!

— А што будзе?

— Ды нічога не будзе. Хочуць яны цябе зарубіць. Дык ты паляжы ды й выйдзі на двор, а на места сябе палож свой патрэт.

Ушоў Іванька ў хату, напіўся, наеўся і лёг нібытцам-та спаць. Тады мачыха пайшла к сваім бахурам і кажа:

— Ідзіце, адсячыце яму галаву.

От, Іванька ўстаў да на тым месце, дзе спаў, палажыў свой патрэт, а сам выйшаў з хаты. Прыйшлі тыя ў хату, вынялі тапор і давай яго секці.

— Ну,— кажа мачыха,— будзе!

Кінулі яны тапор, сталі піць ды гуляць, аж Іванька ў хату:

— Здароў, мам!

Тыя глядзяць: «Што гэта такое, госпадзі? Мы яго засеклі, а ён жыў!»

І пабеглі ўцякаць. Прайшло там колькі днёў, прыехаў бацька з хуры. Вот мачыха пайшла к суседцы. Прыйшла і жаліцца:

— От, хацела я свайго пасынка страціць, да не страціла ніякімі зеллямі. Што ні здзелаю, ён усё ведае!

А суседка кажа:

— Е ў вас такое лаша́. Яно ўсё яму гавора!

— Як жа ж мне яго страціць?

— Трэба зарэзаць!

— Як жа яго зарэзаць?

— А ты вазьмі ды нібытцам захварэй ды й скажы, што табе нараена почкай лашонкавай мазацца!

Вот, ідзе Іванька са школы і заходзе к кусюльцы: ці хораша яна дагледжана. Не вера бацьку. Заходзе к кусюльцы, аж яна стаіць уся ў крыві, толькі вушы тырчаць. Ён падышоў і кажа:

— Кося мая мілая, кося любімая! Чаго ты так скучаеш?

— А чаго я скучаю? Я цябе ад смерці адратавала, а цяпер мне ўжо прападаць!

— Дык як гэта?

— А так: мачыха нібытцам захварэла і кажа на бацьку, што прыраена ёй зарэзаць кусюльку і яе почкай мазацца!

— Дык што й то будзе?

— А што будзе: як прыйдзе ён мяне рэзаць, дык прасісь праехацца на мне ў апошні раз.

Ушоў Іванька ў хату, а бацька нож іструць. Ён спрашуе:

— Нашто ты, тат, нож іструш?

— А, мой сынок, маці твая захварэла, дык прыраена кусюльку зарэзаць, штоб почкай мазацца, дык яна тады ачуняе!

— А, татачка! Як жа яго рэзаць? Яно такое харошае!

Выйшлі яны на двор. Іванька і кажа:

— Дай-ка, татка, я на ём праеду ў апошні раз!

Сеў на кусюльку, выехаў за вароты:

— Ну, прашчавай, татка! Папомні ты: я буду ногі мыць, а ты тую ваду будзеш піць!

Як махне — толькі тады яго й відзелі.

Паехаў Іванька вуліцай; выехаў за вуліцу, едзе і едзе. Заехаў ён у такую нецерадзь! Ляжыць камень.

— Злазь-ка, Іван,— кажа кусюлька,— падымай-ка камень!

Ён злез, падняў камень, а там яма.

— Лезь-ка туды, паспытай-ка вады з дзвёх дзежак!

Вот, ён паспытаў. Кусюлька кажа:

— Вылазь-ка, зава́люй камень!

От, ён заваліў. Сеў на кусюльку, кусюлька і кажа:

— Не, не ўдзержу. Злась-ка! Лезь ізноў ды выпі з трэцяе дзежкі пяць разоў!

Ён выпіў, вылез назад. Січас завярнуў камень, сеў на кусюльку.

— Вот цяпер самы раз!— кажа кусюлька.— Ну, як жа мне цяпер цябе несць: ці вышай лесу, ці ніжай?

— А цяпер як хочаш нясі!

Яна й панясла яго вышай лесу. Ехалі яны, ехалі і прыехалі ў царскі горад.

— Ну,— кажа кусюлька,— цяперака мяне пусці, а калі трэба буду, выйдзі толькі да свісні — я й прыбягу!

Пусціў тут Іванька кусюльку, а сам пайшоў, купіў сабе шубу зялёную і ходзе па гораду. От, ідзе горадам. Хто папытае: «Адкуль ты?»— дык ён кажа: «Зялёная, зялёная!»

Дайшоў ён так да цара. Цар і пытае:

— Адкуль ты?

Ён кажа:

— Зялёная, зялёная!

От, цар і кажа:

— Што гэта за дурак такі? Ну, калі зялёная, дык наймісь ка мне ў сад!

Іванька і наняўся ў сад. Здзелаў сабе курэнь у саду да й жыве. Дык у яго ніхто ніводнага яблычка не ўкрадзе. Ну, і было ў цара тры дачкі, і яны носяць яму, кажная па чарадзе, абедаць у сад. Прайшло ці многа, ці не, толькі прыслана к цару ад змея на шасцёх галавах па большую дачку:

— Калі не [а]ддасі дачку, то сам як прылячу, дак не стане твайго й царства!

От, цар нарэзаў валоў, сабраў абедню, назбіраў людзей. Вядуць ужо большую цараву дачку к змею, плачуць. І салдаты ідуць з змеем ваявацца. Пачуў Іван, што плачуць, выйшаў у поле, крыкнуў да свіснуў маладзецкім посвістам да багатырскім голасам — вот січас конь і тут. Прыбег і пытае ўжо:

— Што ты, Іван Іванавіч — купечацкі сын, з мяне трэбуеш?

— Што ж я з цябе трэбую? Павялі цараву дачку к змею на шасцёх галавах, дык хочу паваявацца.

— Ну, улазь-ка мне ў левае вуха, а ў правае вылазь!

От, ён як вылез, дык такі маладзец!

— Ну, садзісь на мяне!

Ён як сеў верхі, січас іх і перагнаў. Прыехаў і стаў каля рэчкі. Аж едзе й змей на шасцёх галавах. Убачыў Івана і кажа:

— Што ты, Іван Іванавіч — купечацкі сын, з мяне трэбуеш?

— А як жа, пессее мяса, не трэбуецца мяне!

— Ну, што ж ты — біцца ай мірыцца?

— Добрыя малайцы ніколі не мірацца, а на́баля б'юцца!

— Ну, дзьмі-ка ток, Іванька!

— Не, дзьмі-ка ты, пессее мяса!

От, змей як стаў дуць, дык як ток гліняны, а Іван стаў дуць, дык зялезны. Вот, як пачалі ваявацца, дык зямля-маць затраслася. Конь збіў тры галавы, а Йванька тры ссек. Крыкнуў тады салдатам:

— Паліце тут, размятайце!

А сам сеў ды й паехаў. Ад'ехаўшы, каня пусціў у поле, а сам шубу зялёную надзеў і лёг у курэнь.

Прайшло колькі там урэмя, прысылае к цару па сярэднюю дачку змей ужо на дзевяцёх галавах. От, цар сабраў апяць

абедню, нарэзаў валоў, назваў салдатаў. Зноў вядуць, галосяць. Учуў Іванька, што вядуць, галосяць, выйшаў на ганкі, як крыкнуў да свіснуў маладзецкім посвістам, багатырскім голасам — вот конь і тут.

— Што ты з мяне трэбуеш, Іван Іванавіч — купечацкі сын?

— А што я з цябе трэбую? Прыйшоў па цараву дачку змей на дзевяцёх галавах, дык я хо́чу паваявацца!

— Улазь-ка ў правае вуха, а ў левае вылазь!

— От, ён як вылез — такі маладзец! Як сеў ды як паехаў — усіх перагнаў. Прыехаў і стаў каля рэчкі. Аж во, едзе й змей, такі, што на дзевяцёх галавах.

— Што ты, Іван? Трэбуецца цябе тут?

— А як жа, пессее мяса, не трэбуецца мяне!

— Ну, што ж ты, біцца ай мірыцца?

— Добрыя малайцы ніколі не міравца, а на́баля б'юцца!

— Ну, дзьмі ток!

— Не, дзьмі-ка ты, пессее мяса!

Вот змей як стаў дуць, дык зялезны, а Іванька як дзьмухнуў, дык сярэбраны. От, як сталі біцца, дык зямля-маць затраслася. Што конь пазбіваў галовы, а што Йванька пазрубліваў. Убілі таго змея. От, Іванька і крычыць:

— Рубіце, паліце, дзьміце!

А сам сеў і паехаў. Даехаў да кураня, каня пусціў, а сам шубу зялёную надзеў і лёг. Толькі ўснуў, аж і едзе змей на дванаццацёх галавах па меншую дачку. Прыйшоў ад яго пасол і кажа на цара:

— Луч аддавай дачку, а то сам як прыйдзе, дык ужо не дажыдайся!

Вот цар плача. Сабраў ён абедню. Людзі збіраюцца весць меншую яго дачку, а дачка дзень і ноч богу моліцца:

— Госпадзі! Калі б і мяне той адратаваў, хто маіх сясцёр адратаваў!

Вот яе вядуць, яна плача і людзі плачуць. Зачуў Іванька, што цараву дачку вядуць і плачуць, от ён выйшаў і крыкнуў да свіснуў маладзецкім посвістам да багатырскім голасам — от, конь і тут. Прыбег і спрашуе:

— Іван Іванавіч — купечацкі сын, нашто трэбуеш?

— А нашто я цябе трэбую: апяць прыехаў па цараву дачку змей на дванаццацёх галавах!

— Ох, Ваня, плоха ж наша дзела будзе! Ну, да нічога: улазь-ка ў левае вуха, а ў правае вылазь!

От, ён як вылез, дык стаў такі маладзец, такі маладзец!

— Ну, на-ка ж табе тры пляшачкі: адну пляшку сам вып'еш, а другую мне ў глотку выллеш, а трэцюю ў рану ўллеш!

Сеў ён і паехаў. Прыехаў і стаў каля рэчкі. Вот ён і едзе на дванаццацёх галавах і крычыць з сэрца:

— Што ты, Іван? Трэбуецца цябе суды?

— А як жа не трэбуецца!

— Ну, дзьмі ток!

— Не, пессее мяса, дзьмі-ка ты ток!

Вот ён як стаў дуць, дык медны, а Іван як дзьмухнуў, дык залаты. Вот і сталі ваявацца. Ваяваліс, ваяваліс — Іван і ўмарыўся.

— Ой,— кажа,— дай аддыхнуць!

— Не,— кажа змей,— нельзя, а то ты аддыхнеш, то зноў будзеш ваявацца!

Выпіў Іван адну пляшку, і сталі ваявацца. Ваяваліс, ваяваліс, от змей і гавора:

— Дай, брат, аддыхнуць!

— Не, пессее мяса, ваюйсь!

Даў ён каню пляшку выпіць, і сталі зноў ваявацца. От Іван зваяваў змея, а ён параніў яго ў руку. Уліў Іван ваду з трэція пляшкі ў рану і крычыць:

— Эй, падай трапку!

Вот царава дачка і нясе яму шаўковенькую хустку. Ён завязаў руку і крычыць:

— Паліце тут, размятайце!

А сам сеў на каня і паехаў. Прыехаў к кураню, каня пусціў, а сам шубу зялёную надзеў і лёг у курэнь. Вот як заснуў, дык на дванаццаць сутак. А царава дачка, вярнуўшысь, прыносе яму ў курэнь абедаць. Прыходзіць туды, а ён спіць, а на руцэ ў яго яе шаўковая хустка. Будзіла яна яго, будзіла — не ўзбудзіла і пайшла дамоў. Вот ідуць яны ўжо самі будзіць. Будзілі-будзілі — не ўзбудзілі. Ідзе старэнькі дзядок:

— Не будзіце яго! Ён выспе дванаццаць сутак, сам устане!

Вот як выйшла дванаццаць сутак, пайшлі яны ў курэнь і сталі яго будзіць. Ён січас і ўстаў. Павялі яго к цару. Дазнаўся ён, што гэта Іван пабіў змяёў, і звянчаў яго з сваёй меншай дачкой. Згулялі яны вяселле і жывуць. Чараз колькі днёў ці, можа, гадоў успомніў ён на свайго бацьку. Захацеў ён паглядзець свайго старога хадзяйства і кажа сваім:

— Трэба мне свайго бацькі адведаць!

Яны й зажурыліс і гавораць:

— Ты ж як паедзеш, дык і не прыедзеш!

— Не,— кажа,— зачым не прыеду? Прыеду!

Ну вот, запраглі яму тройку коней, падушак намасцілі. Выйшаў ён на ганкі і кажа:

— Не трэба мне гэтыя коні, у мяне свой ё.

От, як крыкнуў багатырскім голасам да маладзецкім посвістам — конь і тут: падышоў пад ганкі і стаў. Ён сеў і паехаў, да прама чараз забор. Ехаў, ехаў, прыязджае ў сваё сяло. Бача — нічога няма з іхняга хадзяйства, і трава парасла. Ён тады спрашуе:

— Дзе тут такі і такі старык жыве?

— А ў папа ў парабках!

— А жонка яго дзе?

— А ў багача ў няньках.

Вот ён і паехаў да папа. Як даехаў, так у двор і ўехаў. Прыходзе ў хату і просіцца пераначаваць. Ну, яго пусцілі. І прыйшлося яму начаваць укучы з бацькам. Іван Іванавіч з дарогі захацеў вымыць ногі і вялеў прынесць сабе вады. Вот перад тым, як лажыцца, ён і вымыў ногі. Ляглі спаць. Ноччы бацька прашнуўся і захацеў ён піць. Шукаў ён, шукаў вады і знайшоў тую, што Іван ногі мыў, да й узяў і напіўся. Назаўтрага ўранні прашнуліся, паглядзеў Іван — вады адпіта. Ён тады спрашуе:

— Хто маю ваду піў?

Старык глядзеў, глядзеў да кажа:

— Я піў!

От Іван Іванавіч і гавора:

— А ці помніш ты, як сын табе сказаў, што ён будзе ногі мыць, а ты будзеш тую ваду піць? От, яно так і ёсцека: я ўчора вымыў ногі, а ты той вады і напіўсь. Я ж твой сын!

Стаў тады бацька прасіцца, штоб яго прасціў. Ну, сын яго прасціў. Прывялі тады матку яго. Вот ён прывязаў яе к конскаму хвасту, конь яе і разнёс чыста ўсю. А сам узяў бацьку свайго і паехаў зноў к цару. І сталі там усе ўкучы жыць да пажываць да дабра нажываць.

## 62. ДРА-ПТАХ

Жыў-быў так сабе адзін багаты чалавек. І было ў яго тры сыны: старшы быў разумны, сярэдні так сабе — ні туды, ні сюды, а меншы быў дурачок — Іван-дурачок. Быў у гэтага багатыра сад прабалшэнны-вялікі, а ў саду яблынка стаяла — яблычка залатое, яблычка сярэбранае. Скора казка кажацца, ды не скора дзела дзеецца: унадзіўся ў гэты сад нейкі злодзя, кожныя ночы ў садзе бываець, залатыя і сярэбраныя яблычкі аббіваець, сучча абламуець. Стаў дзед радзіцца з сынамі, як бы гэтага злодзю ўлавіць. І парадзіліся так, што трэба ім гэтыя ябланкі пілнаваць: уперад пойдзець большы сын, за большым сярэдні, а меншаму хоць ісці после ўсіх, а хоць саўсім не ісці. Ну, пайшоў на першую ноч злодзю пілнаваць большы сын, разумны-та. Хадзіў, хадзіў ён па саду. Як пад поўнач — захацелася яму спаць. Ён і заснуў. Назаўтрага рана прыходзіць бацька ў сад, бачыць — яблыкі абкляваны, сучча аббіты, а вартаўшчык нічога не чуў, не бачыў. Стаў ён сварыцца на сына, што ён нікога не ўпілнаваў, ды дзелаць ужо нечага. На другую ноч ісці ў сад сярэдняму сыну пілнаваць злодзю. Тэй пайшоў, хадзіў, хадзіў па саду, богу маліўся, а як пад поўнач — і заснуў. Прыходзіць рана бацька — узнова яблыкі пакляваны, сучча аббіты, а сын нічога не чуў, не відзеў. Пасварыўся ён на яго ды й пайшоў. Даў бог змяркание, прыходзіцца чарада Івану-дурачку ісці злодзю пілнаваць. Ён просіцца ісці, а бацька кажаць:

— Куды табе, дураку, ісці! Калі разумныя хадзілі, не ўлавілі, а табе ўжо ўлавіць!

Але-тку як-ніяк ды ўпрасіўся. Пайшоў ён у сад, богу памаліўся, узлез на яблыну, сеў на вілачках і сядзіць. Сядзеў, сядзеў — нікога няма. Аж у самую поўнач ляціць Дра-птах — асвяціла ўвесь сад, ды як затарарахаець! Стала яна сучча аббіваць, яблыкі кляваць, а ён мецiўся, мецiўся ды як хапіць Дра-птаха за хвост. Ён ірвануўся і паляцеў, толькі пяро асталася ў Івана-дурачка. Даў бог дзень, прыходзіць бацька ў сад, відзіць — і яблыкі цэлы і сучча не [а]ббіты.

— Ну,— каець,— нікога не было, затым і цэлы!

І не даў веры Івану-дурачку, што ён бачыў Дра-птаха. Прыходзіць Іван-дурачок у хату, вынуў пяро Дра-птаха з-за пазухі, так усю хату і асвяціла, аж ззяець. Як толькі бацька ўвідзеў пяро, захацелась яму як-ніяк улавіць Дра-птаха. Вот ён насу-

шыў сухароў і распусціў сваіх сыноў па ўсіх старанах. Большаму даў сухароў большы:

— Табе,— кажаць,— трэба за ўсіх большы ісці!

Сярэдняму даў сухароў сярэдне:

— Табе трэба ісці сярэдня!

А Івану-дурачку даў за ўсіх менш.

— Табе трэба за ўсіх менш ісці!

Пайшлі ўсе тры браты ў дарогу. Ішлі, ішлі, патаміліся і есці захацелі. Большы сеў ля возера, есць сухары, вадой запіваець. Аж прыбягаець воўк:

— Чалавечак, дай мне хлебца хоць разоў з пяток укусіць!

А тэй кажаць:

— Ах ты, ваўчышча-дурнішча, ты ідзе быў, туды й ідзі! А мне дарога яшчэ вялікая, мне самому трэба.

— Дай,— каець,— на злую гадзіну і я табе знадабен буду!

— О, знадабнік найшоўся! Ідзі сабе, убірайся!

Воўк пабег дальшы. Бяжыць, бяжыць, бачыць — сярэдні брат ля ракі сухары есць, вадой запіваець. Прыбег к яму:

— Добры дзень табе, чалавечак!

— На здароўе!

— Дай мне, чалавечак, хоць разкі на тры ўкусіць хлеба!

— Ах ты, ваўчышча-дурнішча! Ты ідзе быў, туды й ідзі, а мне дарога яшчэ вялікая, мне самому трэба.

— Дай,— каець,— чалавечак: на злую гадзіну я табе знадабен буду!

— Убірайся ты, гэткі знадабнік! Ты во пад'ясі ды й пойдзеш сабе, куды захочаш, а мне трэба во ісці шукаць Драптаха!

Пабег воўк дальшы, аж відзіць — сядзіць меншы брат, Іван-дурачок, над вадой, есць хлеб і вадой запіваець. Прыбег ён к яму:

— Добры дзень табе, Іванька!

— На здароўе!

— Ці не даў бы ты мне сколькі-небудзь хлебца ўкусіць?

— Зачым? Можна, садзісь во ды й еш, до будзець!

Сеў воўк і еў, сколькі хацеў. Пад'елі, тады воўк кажаць на Івана-дурачка:

— Садзісь на мяне, Іванька, ды паедзем, куды табе трэба!

— Ды бог з табой, ідзі сабе, куды йшоў; я й пешкі пайду.

Стаў адгаварвацца. Воўк узнова гаворыць:

— Садзісь, Іванька! Ты толькі сядзі ды дзяржысь, я сам цябе дастаўлю, куды трэба!

Сеў Іванька на ваўка і паехаў, як птушка ляціць. Ехалі, ехалі, прыехалі ў іншае царства. Стаў воўк пад плотам і гаворыць Іваньку:

— Ты ідзі цяпер к цару ў двор. Там будзець склеп на дванаццацера дзвярэй, на дванаццацера замкоў, на дванаццацера старажоў: у тым склепе Дра-птах сядзіць. Зараз будуць гнаць царскіх коней на ваду паіць. Я свісну, сабяруцца мае брацці і пагоняць тых коней. Слугі прыбягуць іх адбаранівать, і старажы тыя прабягуць, ты й ідзі проста ў склеп: табе ўсе дзверы расчыняцца, усе замкі адамкнуцца. Толькі глядзі: Дра-птах прыгож, а клетка яшчэ прыгажэй; ты Дра-птаха вазьмі, а клеткі не бяры, а то сычас як толькі возьмешся за клетку, так усе дзверы пазачыняцца, усе замкі замкнуцца!

Пайшоў Іванька к царскаму двару, ажно тут гоняць царскіх каней. Воўк свіснуў, сабраліся яго брацці і пагналі тых каней. Усе пабеглі з двара іх адбаранівать, а Іван тым часам у склеп. Яму ўсе дзверы адчыніліся і ўсе замкі адамкнуліся. Увайшоў ён туды, так яго ўсяго і асіяла: Дра-птах прыгож, а клетка яшчэ прыгажэйша! «Як яе пакінуць? Вазьму!» І цап за клетку. А тут усе дзверы хляп-хляп — пазачыніліся, усе замкі замкнуліся. Прыбеглі старажы і ўзялі Івана. Білі яго, дралі яго і цару даставілі. Цар яго судзіў тры дні, а тады на волю адпусціў. Прыйшоў Іван к ваўку і плачаць, і жаліцца на сваё бесталанне.

— А я ж табе казаў, не руш клеткі! Ну, але не плач, ідзі другім разам за Дра-птахам; зараз узнова будуць коней гнаць!

Пайшоў Іванька з плачам у другі раз за Дра-птахам. Ды ўжо не хватаўся за клетку і прынёс Дра-птаха к ваўку.

— Ну,— кажаць воўк,— паедзем дальшы! Садзісь паскарэй ды дзяржысь пакрапчэй!

Сеў Іванька на ваўка і паехалі. Ехалі, ехалі і прыехалі ў трэцяе царства. Стаў воўк у алешнічку і гаворыць Іваньку:

— Тут во ёсць крыніца. Ідзі ты к крыніцы, і будзець ісці туды за вадой царская дачка, а за ёй вёдры будуць каціцца. Ты рукаў знімі ды ўсё кланяйся, і як будзець яна ля цябе ісці, ты яе рукавом захваці, а рукамі, хронь божа, не хватай! Ды галаву завярні ад яе, а то яна цябе вачамі з'есць!

Пайшоў Іванька к крыніцы, бачыць: ідзець царская дачка, а за ёю вёдры коцяцца; от ён стаў кланяцца, рукаў наставіўшы. Яна гаворыць:

— Што ты да мяне маеш, Іванька?

А ён кланяўся, кланяўся ды як хваціць яе рукамі... Яна яго

ўзяла на рукі, як малага дзяцёнка, ды й аднесла к цару. Цар яго наказаў ды й пусціў:

— Глядзі, Іванька, другі раз не пападайся!

Прыйшоў Іванька к ваўку і плачаць, і жаліцца, што яго цар набіў. А воўк кажаць:

— А ты мяне не слухаеш, так табе й трэба. Ну, але дось плакаць, ідзі ў другі раз к крыніцы ды глядзі ж, рукамі не хватай яе і галаву завярні, а то яна цябе вачамі з'есць!

Пайшоў Іванька к крыніцы, убачыў царскую доч, захваціў яе рукавом і прынёс к ваўку.

— Ну, садзісь на мяне, Йванька, паскарэй ды дзяржысь пакрапчэй, паедзем дальшы!

Сеў Іванька, дзяржыць у руках і царэўну і Дра-птаха, і прыехалі яны ў чацвёртае царства. Стаў воўк пад плотам і гаворыць на Іваньку:

— Ну, Іванька, ты ж ідзі к цару ў двор; там у стайні стаіць конь — залатая шарсцінка, сярэбраная шарсцінка і вазок з рыб'ей косці. Зараз пагоняць валоў паіць; я свісну, сабяруцца мае брацці і пагоняць валоў. Слугі ўсе пабягуць са двара валоў адбараніваць, а ты тым урэмям ідзі ў стайню і вазьмі каня і вазок з рыб'ей косці, ды там дужа не заглядывайся, а то ўзнова ўловяць!

Ну, Іван пайшоў, і ўсё так і стала: узяў ён каня — залатая шарсцінка, сярэбраная шарсцінка і вазок з рыб'ей косці, сеў на вазок і прыехаў к ваўку.

— Ну,— цяпер,— гаворыць воўк,— паедзем дамоў!

Сеў Іванька з царэўнай у вазочак, Дра-птаха ўзяў і паехалі, і воўк бяжыць. Дарогай памяняліся яны перснямі: царэўна дала яму свой, а ён ёй свой. Даехалі яны да таго места, дзе Іванька хлебам карміў ваўка, воўк і гаворыць на Іваньку:

— Глядзі ж, Іванька! Не давайся, каб яна галаву табе чесала, а то як станець яна ў цябе йскаць, ты заснеш, а браты прыйдуць і цябе загубяць!

Папрашчаўся з імі і пабег. Праехаўшы трошку, стала царэўна прасіць:

— Дай я ў цябе пайшчу.

Іванька стаў адказвацца, але-ткі яна яго ўгаварыла. Стала яна йскаць яму, ён і заснуў. Ажно як раз едуць браты. Увідзелі, што ён вязець Дра-птаха і каня — залатая шарсцінка, сярэбраная шарсцінка і царскую дачку, і хацелі яго зарэзаць. Тады

царэўна стала таўхаць Іваньку пад бок, каб узбудзіць. А браты гавораць:

— Калі ты яго ўзбудзіш, дык наш меч — табе галава з плеч!

Тая саўсім спужалась, а большы брат і адсек Іваньку галаву. Селі яны і паехалі.

А Іванька як ляжаць дык ляжаць — разняслі крукі яго й костачкі па чыстаму полю. Ажно прыбягаець туды, на тое места воўк. Стаў ён збіраць костачкі, адну к адной прыкладваць, стаў збіраць і злажыў усяго ўместа, толькі аднаго мезінага палца не хваціла. Узяў воўк лазінку, выстругаў палачку і прыклаў гэту палачку у руцэ. Тады дыхнуў на косці, Іванька і ўстаў, і палачка тая здзелалась палцам!

— Ах,— кажаць,— як я смашна заснуў!

— Не,— кажаць воўк,— ты не спаў, а цябе большы брат забіў, бо ты мяне-ткі не паслухаў!

Здзелаў тады воўк Іваньку скрыпку з лазінкі і кажаць:

— У цябе ў дварэ вяселле ідзець: большы брат бярэць царскую дачку замуж за сябе. Дык ты йдзі і іграй там у дварэ на гэтай скрыпачцы. Яны стануць зваць цябе, каб ты ішоў на вяселле к ім іграць: будзець зваць сярэдні брат — не йдзі, будзець зваць старшы — не йдзі, ну, пазавець бацька, тады йдзі — бацьку паслухай!

Пайшоў Іванька ў двор у свой, зайшоў у сад і стаў рыпаць, седзя пад яблынкай, рыпаець ды й рыпаець. Пачулі гэта ўсе, што ён рыпаець у садзе, сталі прасіць, каб ён ішоў на вяселле йграць. Уперадзе стаў прасіць сярэдні брат — ён не паслухаў, не пайшоў; тады прыйшоў большы — ён не паслухаў, не пайшоў; пасля ўжо прыходзіць бацька. Ён паслухаў бацькі, пайшоў. Сеў у запечку і стаў рыпаць. Рыпаў, рыпаў, сталі яму паднасіць гарэлку. Паднёс сярэдні брат — ён не бярэць, паднёс большы — не бярэць, паднёс бацька — і ад бацькі не прыняў. Мусіла паднесці яму гарэлкі царская дачка. Ён узяў гарэлку выпіў, а ў чарку палажыў тэй персцень, што яна яму дала. Яна як увідзела свой персцень, і крыкнула:

— Во мой мілы друг! Во гэты,— каець,— дастаў Дра-птаха, дастаў і мяне, дастаў і каня — залатая шарсцінка, сярэбраная шарсцінка, і вазок з рыб'ей косці! Як мы ехалі, дык ён заснуў, а большы брат забіў яго ды сказаў, што гэта ён усё дастаў!

Кінулась к яму на шыю, заплакала. Бацька як пачуў гэта, сычас вялеў прывязаць тых братоў к конскім хвастам, а Іванька жаніўся з царскай дачкой і стаў жыць ды пажываць, ды дабра нажываць, а ліха збываць.

## 63. ВОЎК

Быў адзін бацька і меў трох сыноў: двох разумных, а адзін дурны. Заставіў іх бацька пільнаваць сады. Старшы пайшоў перш пільнаваць, узяў і заснуў, і яблыка абарвалі. На другу ноч пайшоў другі, і той заснуў, і яблыка чыста абарвалі. На трэцю ноч паслаў бацька дурня пільнаваць. Дурань узяў [redacted] сабою шчотку, сам сеў, шчотку падпёр пад бараду, за нагу прывязаў да яблані сам сябе і зачаў драмаць. Штырхануў барадою ў шчотку і прачхнуўся: відзіць — на яблані пташка прыляцела з другога царства і абрывае яблакі. Ён хацеў яе злавіць і не злавіў, толька адну пе́рынку вырваў і заткнуў яе за шапку. Прыходзіць назаўтра да бацькі. Пытаецца бацька яго:

— Дзе ўзяў гэту перынку?

А ён адказывае:

— Прылятала пташка ўночы і абрывала яблакі.

Так бацька паслаў усіх трох сваіх сыноў, каб яны даставілі з другога царства тую пташку. Так яны выйшлі ўсе тры і знайшлі тры дарогі: адзін пайшоў на дарогу, дзе шчасце, другі пайшоў так сама, а трэцяга, дурня, выправілі на такую дарогу, што смерць. Дурань ішоў тры вярсты да лесу і спатыкае яго воўк. Пытае яго:

— Дзе ідзеш, дурань?

А ён адказывае:

— Бацька нас выслаў, каб мы даставілі тую пташку, што ў нас абарвала яблакі.

Так воўк на яго кажа:

— Я цябе йз'ем.

А ён адказывае:

— Еш, маеш волю.

Потым воўк гаворыць:

— Сядай на мяне і паедзем.

Едуць яны і прыязджаюць у другое царства, дзе ёсць у двара Жар-пціца. Так воўк кажа на дурня:

— Ідзі ў гэты дварэц і там у клетцы сядзіць Жар-пціца, не бяры яе з клеткаю, але бяры без клеткі; як возьмеш з клеткаю, так цябе там зловяць.

Дурань пайшоў у двор і знайшоў у саду стаячы клетку, у той клетцы сядзіць Жар-пціца. Так ён паглядзеў, што клетка харашэйша за пташку, і ўзяў з клеткаю. Пры той клетцы былі ўвя-

заны звонкі — і зазвінелі. Ачуліся ўсе ў дварэ, злавілі дурня і сказалі яму:

— Прыстаў нам з трэцяга царства лятучага каня, так аддамо табе гэтую пташку.

Так ён выйшаў з двара, ідзе да ваўка і плача. Так воўк кажа на яго:

— Я цябе йз'ем.

А ён адказывае:

— Еш, маеш волю.

Так воўк на яго гаворыць:

— Сядай на мяне, паедзем.

Едуць яны, едуць і прыязджаюць у трэцяе царства да двара. Воўк яму кажа:

— Ідзі ў двор да стайні, там стаіць конь; не бяры яго з вабруцьмі, але бяры без абруцей.

Так ён прыйшоў да стайні, увідаў, што вобруць харашэйшы за каня, так ён узяў з вабруцьмі яго і вывеў са стайні. Яго злавілі і сказалі яму:

— Дастаў нам з чацвёртага царства паненку, так мы табе аддамо каня.

Так ён ідзе да ваўка і плача. Воўк кажа на яго:

— Я цябе з'ем.

А ён адказывае:

— Еш, маеш волю.

Так воўк на яго гаворыць:

— Сядай на мяне і паедзем.

Едуць яны так, едуць, прыязджаюць да таго двара, а ў том дварэ тры паненкі. Выйшлі яны купацца. Воўк кажа:

— Я буду чайкаю, а ты сядзь і едзь праз гэтую раку.

Прыехаў ён да іх. Яны просяцца, каб павазіць у чайцы.

Села старшая, і ён павазіў і прывёз на бераг. Узяў другую і тую павазіў і пусціў. Трэцюю як узяў, так перавёз на сваю старану. Селі на ваўка і прыехалі да таго двара. Так воўк зрабіўся паненкаю, і ён аддаў ваўка таго, а яму далі каня. Воўк гаворыць на яго:

— Як ад'едзеш палавіну вярсты, так успомні аба мне і скажы: «Ах мой сівы воўк, да дзе ж ты астаўся!»

Так яны едуць і прыехалі больш як тры вярсты, а аб ваўка запомніў. Потым успомніў і сказаў:

— Ах, мой серы воўк, дзе ты астаўся?

Аглянецца назад, відзіць воўк бяжыць, язык высалапіў і даганяе іх. Дагнаўшы, гаворыць на дурня:

— Я цябе з'ем.

А ён адказывае:

— Еш, маеш волю.

І прыехалі яны ўсе да двара. Воўк зрабіўся канём, і ён таго каня аддаў, а яму далі Жар-птіцу. Ён узяў Жар-птіцу і паненку, на каня селі і паехалі. Ад'ехалі больш як тры вярсты і ўспомніў ён аб ваўку і сказаў:

— Ах, мой сівы воўк, а дзе ж ты астаўся?

Аглянецца назад, аж воўк бяжыць. Прыбягае да іх і гаворыць:

— Я цябе з'ем, нашто ты мяне забыў.

А ён адказывае:

— Еш, маеш волю.

Так воўк гаворыць:

— Ну, едзьмо разам.

Прыехалі яны блізка сва[й]го двара. Так воўк гаворыць яму:

— Глядзі ж ты, не засні тут, бо як заснеш, так прыйдуць браты твае, прыйдуць і цябе заб'юць, а гэтае ўсё забяруць і прыставяць да сва[й]го бацькі, і яны будуць жаніцца з гэтаю паненкаю.

А сам воўк узяў і пайшоў у лес ад іх. Надышла ноч, ён узяў і заснуў. Прыйшлі браты, яго забілі, завалаклі яго ў лес і кінулі пад куст. Самі забралі ўсё, даставілі да бацькі сва[й]го, і стаў адзін жаніцца з тою паненкаю.

Прыходзіць воўк да таго дурня, знайшоў яго лежачы пад кустом і толька завыў. Відзіць воўк: чалавек барануецъ на полі, а сам адышоў ад каня ў лес. Воўк прыбег да таго каня і заеў. Наляцела крукоў да таго каня. Воўк узяў самае старшае кручаня схапіў і сказаў крукам:

— Прынясеце мне жывушчай крыві, так аддам вам кручаня.

Яны прынясли яму жывушчай крыві. Ён узяў тую кроў, памазаў таго каня, і конь устаў. Потым пайшоў да таго чалавека, што забіты, памазаў яго кроўю, і стаў жывы. Так воўк гаворыць яму:

— Ідзі дахаты, там ужо ў вас вяселле: твой брат жэніцца з тою паненкаю, што ты яе вёз; здайся там убогім і скажы, няхай табе прынясе маладая хлеба; як яна будзе падаваць табе хлеба, так ты ёй дасі гэтую палавіну пярсцёнка, што вы разламалі на паловы.

Ён так і зрабіў.

Прыходзіць туды, здаўся ўбогім: згаварыў пацеры і просіць, каб яму прынясла маладая хлеба. Прыносіць маладая хлеба, па-

дае ўбогаму, а ён выняў з кішэні палавіну пярсцёнка і падаў ёй. Успомніла яна, што ў яе ёсць другая такая палавіна пярсцёнка і зложыла разам абедзве — злучыліся.

Так тады ўзнала яго, што гэта ён яе прывёз; адкінулася ад таго нарачонага, а з ім узяла і ажанілася.

## 64. АБ ТРОХ БРАТОХ І ВОЎКУ

Меў адзін бацька тры сыны: двох разумных, а трэцяга яны перазвалі дурнем, хоць чорта ён дурны быў. Анно ж трапілася, што кралеўна не магла за нікога замуж пайсці, бо ўсе ёй выдаваліся брыдкія, так кроль расказаў усім, хто хоча з кралеўнаю ажаніцца, каб упярож пайшоў да такої і такої крыніцы (а да яе не дапускалі нячыстыя) і ўмыўся таею вадою, то такім пекным стане, што адразу да душы ёй прыпадзе. Той бацька даведаўшыся аб гэтым, напёк ламункаў да й выправіў найстаршага да тае крыніцы. Ідзе ён, так ідзе, анно ж спатыкае воўка, так воўк пытае:

— Куды ідзеш?

— Туды і туды.

— Што нясеш?

— Ламункі!

— Дай мне крыху.

— А хваробу табе ў бок! А мне што будзе?

Той воўк пабег. Ішоў ён, так ішоў, даходзіць да таго месца, а там горач такая, што проста не вытрымаць, так няма рады, мусіў назад вярнуцца. Так бацька зноў напёк ламункаў і выправіў сярэдняга сына. Той таксама спаткаў таго воўка да й не даў яму ламункаў, так і ён анно набільніцы прынёс дахаты. Ну, так бацька кажа:

— Цяпер трэба, каб наш дурны папрабаваў шчасця.

— Эх,— кажуць,— куды ён, тату, пойдзе: ні яго носам да ля не дайшлі, а ён дойдзе!

— А што вам да таго, няхай ідзе, мо хутчэй дзе згіне.

— Хіба так!

Ну, так бацька напёк ламункаў да й выправіў яго ў дарогу. Ён пайшоў; ідзе, так ідзе, анно ж спатыкае таго воўка.

— Куды ідзеш?

— Да крыніцы!

— Што нясеш?

— Ламункі.

— Дай мне крыху з'есці.

— Добра,— і, гэта, сеў, наламаў, наклаў, накарміў таго воўка, і як сам наеўся, так устаў і кажа:

— Ну, братко, аставайся здаровы, мо ўжэ не ўгледзімся ніколі.

А воўк кажа:

— Седавіся на мяне!

Той сеў, як бач, так і ўгледзеў тую крыніцу. Тады воўк кажа:

— Злезь і ўлезь мне ў лева ўха, а праз права вылезь.

Той так зрабіў: улез, вылез, калі гляне, анно ж сябе не пазнаў — стаўся такою мараю! Тады воўк кажа:

— А маеш бутэлечку?

— Маю.

— Ну, то ідзі да іх: ты будзеш такі сам, як і яны, яны це не пазнаюць. Анно глядзі, каб стаў задам да тае крыніцы, то і яны пастануць задам, так ты вазьмі спусці бутэлечку нізначне, набяры з між ног вады і пад паху падцягні леваю рукою, анно праваю не бяры, бо яны паадварочваліся б і ўгледзеўшы, што ты гэтакі, укінулі б цябе туды.

Той так і зрабіў: прыйшоў, яны агледзелі, што чужы, усё яго пхаюць да тае крыніцы; калі падыдзе бліжай, анно ж там вада аж кіпіць да й плавае незлічона моц трупаў паразварваных, каторых яны туды накідалі. Так ён гэта адвярнуўся, і яны паадварочваліся да й пачалі шалець, а ён гэта хутчэй набраў вады, да дай божа ногі! Прыбягае, анно ж воўк жджэ:

— А што, як там?

— Людска!

— Лезь жа мне ў права ўха, а праз лева вылезь.

Ён так зрабіў і як бач зноў стаў такім самым. Так воўк:

— Ну, то седавіся на мяне.

Ён гэта сеў, ажно як бач, так сталі каля хаты. Тады воўк кажа:

— Злезь і ідзі дахаты, а як чаго будзе табе патрэба, то анно падумай аб том, то мецьмеш.

Той уходзіць у хату, а тыя пытаюць:

— А што, як?

— Ці хто яго нат што бачыў — такая пеката!

— А што, дурню, анно дармо падбіўся — ідзі малаціць!

Той пайшоў, малоціць, после думае сабе:

— А мо гэта вада якая нядобра?

Так выняў гэта з-за пазухі, пырснуў на се і стаў такім харошым, якога яшчэ не было і не будзе на гэтым свеце, а адзежа

тая на ём аж зыіць. Так гэта ўвайшоў у хату, а бацька з братамі шапкі з галоў пасхватвалі і думаюць сабе: «Скуль гэта з'явіўся гэтакі харошы паніч?» После бацька на старшага кажа:

— А закліч нашага дурня, няхай і ён пагледзіць.

А дурань не хацеў, каб яго пазналі, так пачуўшы, выбег і давай качацца па таку. Той прыходзіць, анно ж ён ляжыць:

— Уставай,— кажа,— дурню, абач, які паніч да нас прыйшоў.

Яны прыходзяць, анно ж нікога нідзе няма і ніхто не ведае, дзе падзеўся. А, такое ім дзіва!..

У якісь час кроль расказаў, каб усе чыста сабраліся там і там. Так браты яго паехалі, а яго не ўзялі. Ён гэта падумаў аб кані, анно як бач стаў і конь. Тады ён сеў да й заехаў яшчэ ўпярож ад братоў туды. Усё там пхаецца, то туды бяжыць, то сюды, людзі яго ганяюць, таўкуць:

— А ты,— кажуць,— куды гэта тут, шасталапо, прэшся!

А ён на гэта не зважае да й лезе смаліцаю. Нарэшце, выходзіць кралеўна: усе зараз гэта сталі ў шар, а кралеўна ідзе да й глядзіць на ўсіх. Як была ўжэ блізка яго, так ён пырснуў на се вадою, так стаў такім харошым, што аж людзі дзівам дзівяцца. Кралеўна падышла, глянула і кажа:

— Гэта будзе мой!— і дала яму аднаго пярсцёнка, а другі такі самы ў яе быў на пальцы. Ну, так як ён пярсцёнка ўзяў, так няведама дзе згінуў; людзі яго шукаюць усюды — няма! А ён сеў на таго воўка да й паехаў. Прыязджаюць браты, а ён вылегуецца на печы:

— Ну, што ж ты тут, дурню, бачыў?— Печ, а мы бачылі кралеўну і паніча харошага, каторы калісьці нашым кролем будзе, бо ўжэ заручыліся.

А ён таго пярсцёнка абвярцеў быў лапінкаю; так захацелася яму паглядзець, калі адверціць — анно ж цэла хата і зазыяла. Так бацька давай крычаць:

— Што ты там, дурню, забаўляешся з агнём? Хочаш хату спаліць?!

Браты таксама населі на яго: ты такі-гэтакі, і на гэтым скончылася. Пабыў ён у хаце якісь час, захацелася яму кралеўну ўгледзець, так паехаў на кралеўскі двор, стаў каля калодзезя і стаіць. Анно ж нібавам выбегла кралеўна з конавачкаю па воду, а ён кажа:

— Няхай кралеўна пазволіць, то я выцягну.

Так яна, нічога не кажучы, паставіла конавачку, ён наліў і дае ёй, а яна не хоча браць, так ён ніўэнак укінуў туды пяр-

сцёнка і адышоўся, тады яна ўзяла конавачку ў рукі. Тады ён кажа:

— Чаго мяне кралеўна гэтак гадзіцца, а то ж я ваш кавалер

Яна анно заўстыдалася да й пабегла, вылівае воду, анно пярсцёнак бульт! і ўпаў! Тады яна пазнала і дагадалася ўсяго. Так выйшла да яго і кажа:

— Што гэта такое, я дала харошаму пярсцёнка, а ты такі брыдкі? Скуль у цябе гэты пярсцёнак узяўся? Мо ты ўкраў або дзе найшоў?

Тады ён усё расказаў, наліў з бутэлечкі тае вады, паўмываліся і сталі найхарошайшымі людзьмі ў свеце. Нібавам было і вяселле. Па вяселлі непрыяцель увайшоў да гэтага краю, так ён паехаў разам з войскам на вайну, да й ссёк іх так, што ні адзін не выйшаў. Так кроль кажа:

— Гэта я і маё войска пабіла, а не ты.

А ён:

— Такой бяды,— кажа,— няхай будзе і так.

После зноў была вайна, так ён не паехаў, але як асталося разам з кролем з дзесяцёх ужэ, тады выляцеў да й пабіў непрыяцеляў дачыста. Тады кроль думае сабе: «Я ўжэ стары і то не дам рады, а ён малады, і то як бач паб'е: пачакай, трэба яго зрадзіць!» Так гэта казаў выкапаць шырокі і глыбокі роў да й кажа:

— Пераскоч ты конна праз гэты роў.

Так ён падумаў аб кані — як бач конь стаў. Так ён сеў і пераскочыў. Кроль думаў, што таксама пераскочыць, так гэта бараскочыў. Кроль думаў, што таксама пераскочыць, так гэта баоўх! разам з канём і забіўся, а ён з кралеўнаю і цяпер яшчэ жыве.

## 65. ІВАН І НАСТАСЯ

Неўкаторым царстве, неўкаторым гасударстве, ну не ў том, у каторым мы жывём, было ў цара тры сыны: два разумных, а трэці дурачок. Цяпер, была Настася-царэўна, чэраз тры царствы ў чацвёртым. І ў яе быў сад, і ў том садзе разныя яблыкі. Цяперыцька, цар паслаў свайго большага сына, разумнейшага, к ёй за яблыкамі. Цяперыцька едзець ён па дарозе. І прыехаў, значыцца, к каменю — ляжыць камень, а ад таго каменя тры дарогі. І на камені літары напісаны: «Адной дарогай ехаць, дак

разбойнікі заб'юць, а другою дарогаю паехаць, звяр'ё з'есць, а трэцяю дарогаю паехаўшы, каню будзець што есць, а самому нечага». Ну, ён цяпер назад і вярнууся дома.

Цяпер другога сына паслаў. Тожа й тэй так. К таму камню прыехаў, пабыў-пабыў, прачытаў, і тэй вярнууся. Цяпер дурак давай папрасіўся:

— Пусці мяне, тат!

Ён яго ўнімаць:

— Куды ты, дурак,— гаворыць,— паедзеш? Калі разумнейшыя вярнулісь, а то ты паедзеш.

Ну, ён давай прасіцца, давай прасіцца — бацька і пусціў, і лошадзя даў, і пусціў. Цяперыцька ён прыехаў к таму каменю, к пісанаму, перачытаў тую надпісь і адважыўся: паехаў тэю дарогай, адзе напісана, што каню будзець што есць, а самому нечага.

Едзець ён адны суткі — пераехаў адно царства. Стаіць хатка на курынай ножцы, а ў тэй хатцы Баба Яга Касцяная нага. От ён папрасіўся на ноч, яна пусціла, [у]благатварыла і каня перамяніла. Дала яму ступу, ён на ступе едзець, качаргой паганяець, памялом след замятаець, каб і следу не знатно было. Сеў ён на ступу і паехаў.

Ехаў, ехаў, зноў суткі праехаў — стаіць хатка на курынай ножцы. У тэй хатцы другая Баба Яга. Пусціла яго на ноч, ублагатварыла, тую ўзяла ступу, а сваю дала. Паехаў ён дальшы. Ізновацька суткі ехаў. Усё да Настасі тэй дабіраецца. Стаіць трэцяя хатка на курынай ножцы, і там Баба Яга. Пусціла яна яго на начлег, ублагатварыла і дала свайго каня. На чацвёртыя суткі прыязджаець ужо ў горад, у тэй-то, адзе Настасі-царэўны сад.

Прыязджаець у тое царства к Настасі, а там ляглі спаць на дванаццаць сутак, у том царстве. Ён уехаў — ні варот не шукаў, нічога, чэраз крэпасць пераляцеў. І ў горніцу ўвайшоў, і не чуў ніхто — спяць усе. Тады ўвайшоў у вадну горніцу — спіць дзеўка. «Ці гэта Настася-царэўна? Не, не гэта! Гэта слуга яе»,— сам сабе гаворыць, сам сабе адказуець. Ну, цяперыцька ўвайшоў у другую горніцу, і там дзеўка спіць. «Ці не гэта Настасяцарэўна? Не, не гэта, гэта яе слуга самая верная»,— сам сабе адказуець. Цяпер увайшоў у трэцюю горніцу, адзе то Настася спіць. Ён улюбаваў у яе і грэх памеў з ёй. І яна не чула, не знала. Цяперыцька ён пасля гэтага і з канём у сад пайшоў. Пайшоў у сад і нашчыпаў разных-разных тры вузельчыкі, тры платочкі. Нашчыпаўшы, напісаў ён табліцу ў садзе: «Што вот такі

і такі Іван Іванавіч-царэвіч у яе садзе быў, яблык нашчыпаў і з Настасяй соннай грэх меў». Прыходзіць цяпер к каню, а конь гаворыць:

— Не, многа ты награшыў, не магу цябе везць! Загіблі мы [а]бое тут: і ты, і я.

— Што ж дзелаць, конь мой верны?

— А што ж дзелаць: ідзі ў лазню, грахі змывай! Пацей крэпка ў духу.

Ну, цяпер пайшоў ён у лазню. Мыўся, мыўся, прыходзіць к каню, конь гаворыць:

— Не,— каець,— троху змыў, а найболі асталось. Ідзі шчэ змывай, да найболі потам штоб выходзіла з цябе!

У другі раз паслаў яго. Прыходзіць ён другі раз з бані к каню, цяперыцька лошадзь каець:

— Дзве долі змыў грахоў, а трэцюю — ідзі мыйся! Змыеш,— гаворыць,— дык паедзем, а то пагіблі!— гаворыць.

Пайшоў ён і трэці раз. Мыўся-мыўся, пацеў-пацеў, прыходзіць з лазні к каню:

— От жа,— каець,— цяперыцька змыў, да не ўсё! Цяпер выедзем з саду, выедзем і з гораду, толькі адным валаском хвастом зачэпім за крэпасць, дык затрасецца горад і прашнуцца ўсе.

Сеў ён на лошадзя, узяў яблыкі і паехаў. Дак ён валаском хвастом зачапіў крэпасць. Так яна ўся й закалацілась: і горад, і крэпасць, і сад — усё. І папрашыналісь усе:

— Што тут такое? Якая трывога?

Бегалі-бегалі, і горніцы расчыняты, і ў садзе вараўство ёсць. Бегала яна, бегала, пакуль прачытала табліцу тую. Тады кінулась удагон за ім. Бегла-бегла, не дагнала, толькі крыкнула громкім голасам:

— Іван Іванавіч-царэвіч! Ажыдай мяне на дванаццаты год у госці.

Ну, ён як паехаў, мінуў тыя два дваркі, што пасля заязджаў, туды едучы, а ў трэція заехаў, каня таго аддаў, а свайго ўзяў і паехаў. Цяперыцька прыязджаець у сваё царства, і захацелася яму спаць. Думаець: «Нікога я тут не баюся, у сваём царстве засну!»

Ён заснуў, і лошадзь увыйшла. Цяперыцька два браты тыя ездзілі па [а]хоце. І напалі цяпер яго соннага. І напалі, што і яблыкі вязець к айцу к свайму. Цяперыцька радзяцца між собку:

— Што нам дзелаць з ім? Што мы нічога не прывязлі, а ён яблыкі прывёз! Будзець нам ад айца, ён усё царства яму аддасць! Нума,— каець,— яго заб'ём, а яблыкі гэтыя самі паднясём, што мы самі дасталі іх!

А другі каець:

— Не, біць нільзя, і нам не памагецца, а нума мы вочы выкалем яму луччы!

Узялі яму вочы выкалалі, і яблыкі тыя забралі, і яго кінулі. Ён прашнууся — няма ні лошадзя, няма ні яблык, няма нічога, і не бачыць нічога.

Цяперыча сляпуючы як іціць дак іціць — прыходзіць к рацэ. Ну, цяпер каля ракі папаў човен, што па вадзе ездзяць. Пад човен узяў да й лёг — човен апракінут: «Хто-хто прыйдзець к гэтаму чоўну, нападзець мяне!»

Цяперыцька ляжыць ён і чуець — трое (нячысцікаў) з вады выйшла, на човен селі і гаворацць. А ён чуець усё. Цяпер адзін гаворыць:

— Братцы,— гаворыць,— што гэта за раса сянні: хоць які сляпы, толькі б ямкі абы былі, дак расою памазаць і бачыць будзець!

А другі гаворыць:

— Гэта што? А вот я,— гаворыць,— у том-та царстве, знаю, вады няма ўвоўся, з чужых царств ваду навозяць. А там ба, калі б яны зналі гэта да звілі вяроўкі з лык з сырых, ды там у варотах стаіць куст, дык як ба яны дванаццаць пар валоў запраглі да тэй куст з карэннем вырвалі, дак ба было вады разліўное мора!

А трэці гаворыць:

— Есць і ў том у том царстве царэўна дужа нездарова і трэці год — асталіся адны косці толькі. А ёй пользу можна лёгка даць: брала яна прычасць у гасподнім храме і заблюла яна крошачку. Ды ў голавы пад падушку ў трапачку схавала яна. Цяпер гэта шчура выпарала яе, праела трапачку, і крошачка гэта ўпала пад мост у шчэлачку. А курапа, найшоўшы яе, і з'ела. Цяпер яна раздулася такая бальшая, з карову, мост падымаець, ды яе ніхто не відзіць. А ў ей (царэўны) толькі адзін дух да шкура. Вот цяперыцька якую пользу ёй даць: калі б хто мост падняў да курапу разрэзаў да ў шкуру ў яе царэўну завярнуў, дык ба яна шчэ луччы стала, як была!

Цяпер усе разам з чоўна боўць, боўць, боўць у ваду і пайшлі, немаведама і хто, і які, і што. А ён пад чоўнам сядзіць сляпы.

Цяпер ён з-пад чоўна вылез, Іван Іванавіч-царэвіч, да рукою па траве павадзіў да вочы памазаў. Ён расой памазаў вочы свае і стаў шчэ ярчэй глядзець, як упярод, калі шчэ вочы былі ў яго, — ад расы ад тае́.

Цяпер пайшоў ён у тое царства, адзе вады няма, лазовага кусту сматрэць. Ён увайшоў у тое царства і гаворыць:

— Вы вадою нуждаецесь — я вам дам ваду!

Зацееў з суровых лык з сырых канаты віць, і дванаццаць пар валоў каб было харошых. Яны гэта прыгатовілі. Ён на луг павёў валоў тых і запрагаець валоў у куст у тэй канатамі, каб куст тэй вырваць. Тады пазачапілі гэты куст, запраглі, як крыкнулі — вырвалі тэй куст. Вырвалі тэй куст, вада тая так і пайшла з-пад куста ўгару — і па ўсяму царству. Яны сталі яго нагараджаваць, даваць грошы. Ён нічога не бярэць. І пайшоў у тое царства, адзе царэўна нездарова сілна.

І ўвайшоўшы ў тое царства, да йшоў і пахваліўся, што царэўна нездарова, я магу помачы даць!

Яго тады ўзялі на лашадзей і к ей павязлі. Цяперыцька даставілі к ёй, яна нічога — ляжаць адны косці. Ён тады павялеў мост разабраць пад ёю. Як мост разабралі і ўвідзелі: ляжыць тая курапа, як карова, дужа бальшая. Павялеў разрэзаць яе, дак дух тэй выйшаў; а яе напранулі, голую, кожай тэй. За трое сутак кожа тая немаведама стала — ці ў яе ўрасла, ці дзе, яна шчэ красівей стала, як была. Цяперыцька яму даюць награды і хочуць, штоб ён за сябе яе ўзяў і палавіна царства штоб узяў, а ён атвяшчаець:

— Не нада мне гэта нічога, у мяне свая ў госці прыедзець.

І выйшаў ужо дамоў к айцу.

І прыходзіць ён, не ўвазнаюць яго. У работнікі наняўся, у ватца. Куды яго цяперыцька — у вінніцу, у гарэлашную паставіць! Паставілі заціраць затор; як толькі дзе тарканець, дык і дзірка ў чапу і клёпка вон. Цяпер дос яго туды. Ён сілна крэпак, няхай ён у вінніцу дровы носіць. Зацеялі яго дровы насіць у вінніцу. Ён сажань адразу падвяжыць, унясець да тады і сядзіць, гуляець ужо. Прайшло так дванаццаць гадоў. Наязджаець ужо Настася-царэўна і з сынамі і з войскаю. І пастроілісь яны за ракою, астанавілісь. І сын ужо крычыць:

— Няхай ка мне Іван Іванавіч наўстрэчу выйдзець, ацец мой, а то я ўсё тут і паразару і паразаб'ю, еслі яго не [а]тоймшчыце!

Ён, цар тэй, сурадзіў наўстрэчу сына таго, што вочы калоў. Цяпер ён ідзець наўстрэчу, сын тэй крычыць:

— Во, ідзець мой дзядзюшка, каторы майму айцу вочы калоў!

Да ўзяў яго за руку, замахнуўся і закінуў немаведама куды. Ізновацька крычыць:

— Айцец мой наўстрэчу няхай выйдзець, а то клад усякаму дам!

Ён, нечага дзелаць — адзе таго брація — ізноў другога сына сурадзіў так наўстрэчу. Ён ідзець, а тэй крычыць:

— Во мой дзядзюшка ідзець, каторы майму айцу вочы калоў! Не,— каець,— падайце мне майго бацюшку, што ў нас яблыкі ў садзе браў!

Цяпер ужо цар тэй спужаўся:

— Адзе яго брація?

Узяў ужо ўва ўсіх пытацца:

— Што тут здзелаць?

А ён гаворыць:

— Я помачы дам!

— Што хочаш бяры,— гаворыць,— толькі дай помачы!

Ён узяў, у гразь пабдзелаўся, у вінніцы ў твань, увыйшоў у грошы ды грошай поўны карманы панасыпаў, колькі яму трэба — цар ужо не жалеець. Тады ён павялеў, каб харошы мост быў адсыпан, і пайшоў, як быў і вінніцы, так і пайшоў.

Ідзець да з кішаня грошы бярэць ды варміі тэй сыплець. Тыя бяруць грошы ды кланяюцца, хапаюць грошы тыя.

— Во,— каець,— ідзець бацюшка мой! Які ёсць ды ёсць, ды айцец мой!

Ён прыйшоў к Настасі, парукаўся і павёў к айцу, і з варміяй павёў к айцу. І стаўся на царстве том, а бацьку далоў.

## 66. ІВАН ІВАНАВІЧ — РЫМСКІ ЦАРЭВІЧ

Жыў сабе адзін цар. Імеў ён у сябе аднаго сына і тры дачкі. Цяпер ён — да й жа ён памёр у старасці. Мала ён пражыў; не знаў ён, што так скора дасць бог смерць,— не даў ён ніякага парадку свайму сыну .Застаўся ён малалецен ад яго, а дзеўкі гэтыя парадашныя, на выданні ўжо. І жыў ён без бацькі паўтара гадá, з дзеўкамі. Потым прыходзяць к яму тры чалавекі:

— Здрастуй,— каець,— Іван Іванавіч — рымскі царэвіч!

— Здрастуйце,— гаворыць,— здрастуйце! Ну, што ж вы ка мне,— каець,— прыйшлі?

— А мы прыйшлі,— кажуць,— у сваты: аддай,— каець,— большую сястру за нас!
— Да за каго ж за вас аддаць?
— За ўсіх за нас!
— Каторы ж вы,— гаворыць,— жаніхі?
— Да ўсе мы,— каець,— жаніхі!
— А каторыя сваты?— каець.
— Усе мы,— каець,— сваты!
Ну, ён думаў-думаў, аддаў. Узялі яны сястру большую, павялі з сабой. На другі дзень вечаро́м зноў прыходзяць утрох:
— Здрастуй, швагра!
— Здрастуйце! Ну, чаго вы,— гаворыць,— прыйшлі?
— Да прыйшлі ў сваты: аддай,— каець,— сястру за нас, другую!
— За каго ж за вас аддаць?
— За ўсіх за нас: мы ўсе жаніхі,— каець,— і сваты!
Ну, аддаў ён і сярэднюю. Узялі яны, павялі з сабой. На трэцюю ноч то ж сама прыходзяць яны ўтрох:
— Здрастуй, шва́гра!
— Здароў, швагры!
— Аддай,— каець,— сястру й трэцюю за нас!
— За каго за вас,— каець,— аддаваць? Я не ведаю, хто з вас жаніхі, хто сваты.
— Усе мы,— гаворыць,— жаніхі і сваты!
Тады ён думаў-думаў і аддаў. Аддаўшы сястёр усіх трох, думаў-думаў ён,саскучаў адзін. Хадзіў-хадзіў: «Што тут дзелаць? Паеду ў белы свет шукаць сясцёр!» Сам не ведаець куды. Прыходзіць ён у стайню, хацеў паехаць куды — усе коні паўпада́лі на́ нагі, ніводзін не падліцаець яго везці, не можаць ніводзін. Цяпер ён як пайшоў на горад: ходзіць, тужыць, ташнуець. Сустракаець ён на горадзе бабку. Ідзець бабка — гадоў трыста ёй было.
— Здрастуй, бабка! — гаворыць.
— Здароў, здароў, Іван Іванавіч — рымскі царэвіч! Чаго ты тужыш, аб чым ташнуеш, Іван Іванавіч?
— Ах, бабка мая,— гаворыць,— пралюбезная, тужу і ташную: аддаў сваіх сясцёр,— гаворыць,— усіх трох сваіх, і не ведаю, куды, што, як. Хацеў ба,— гаворыць,— праведаць, дзе, пашукаць ба іх на свеце, увайшоў у стайню — ні [а]дзін конь не стаіць у стайні: усе паўпадалі на ногі. Ніводзін,— гаворыць,— конь не падліцаець мяне везці!— гаворыць.

Яна цяпер яму атвяшчаець, гэта бабка:

— Ах,— каець,— Іван Іванавіч — рымскі царэвіч: ідзі ты,— каець,— на свой двор, і ў цябе,— гаворыць,— на дварэ стаіць слуп, і пад тым слупом,— гаворыць,— склеп, а ў тым склепе,— гаворыць,— стаіць лошадзь, збруя латна, скап'ё булатна — конь багатырскі. Стаіць ён ужо трыццаць тры гады. Ты яго,— гаворыць,— вызваль адтуль, ты на ём можаш праехаць!

Ён цяпер гэтай бабцы падзякаваў:

— Дзякуй табе, бабка пралюбезная, за тваю раду!

Прыходзіць ён дамоў, на дварэ стаіць слуп. Ён, добры маладзец, выняў тэй слуп, відзіць — пад слупом склеп. Ён склеп адчыніў, сказуець яму лошадзь так:

— Ах,— каець,— Іван Іванавіч — рымскі царэвіч! Дзякуй табе, што ты мой вызваліў дух: я тут доўга прастóяў,— гаворыць.— А цяпер,— гаворыць,— мы з табой свету павідаем!

Ён яго выхваціў адтуль, выняў тую збрую, просіцца ён у яго да ветру прагуляць:

— Я,— гаворыць,— зусім заплесневеў, тут стоя! — гаворыць.

Так ён яго і пусціў на волны свет. Гэта лошадзь лятала-лятала па свеце, потым у тры часы к яму прыбыла. Атвяшчаець яму:

— Іван Іванавіч — рымскі царэвіч! Вазьмі ты з сабой пара сакалоў,— птушак такіх, і пара хартоў,— гаворыць,— і паедзем у белы свет, па свету любаваць!

Так ён яго і пусціў на волны свет. Гэта лошадзь лятала-лясвет. І ў яго пры лошадзі ўся збруя вісіць. Едуць яны, едуць, уз'язджаюць на такое поле — гэтакае незмярнóе поле! А на тым полі войска пабіта, што конь ідзець па шчоткі ў крыві. Ён уз'ехаў пасярод войскі тыя і пытаецца:

— Ах,— гаворыць,— ці не ёсць хто тут, сярод гэтыя войскі, недабіты, раняты альбо бязрукі, ці не мог ба ён мне,— гаворыць,— атвеціць, хто гэту войску выразаў, столькі людзей палажыў гэтак?

Ажно ўстаець — з цугун галава, а па ложцы вочы:

— Здрастуй, Іван Іванавіч — рымскі царэвіч!

— Здрастуй!

— Чаго блудзіш,— гаворыць,— чаго шукаеш, чаго ты пытаеш?

— Я,— гаворыць,— шукаю й пытаю, хачу ўзнаць, хто гэта войска выразаў гэтак?

Ён гаворыць:

— Нечага ні шукаць, ні пытаць — аб'едзь тры разы вакруг войска, дык ты яго след увідзіш: бы ён ці па крыві, ці па сухому — дык усё па шчоткі конь ідзець. Дык ты яго найдзеш! На што,— гаворыць,— быў я сілен, да галавой налажыў і войску ўтраціў, а нічога не падзелаў!

Сам сычас атвеціў яму, так сычас ізноў там і лёг, гэты самы! А ён уз'ехаў на гэты след і паехаў гэтым следам. Едзець, едзець, уз'язджаець шчэ на большае поле. Ажно па тым полі шчэ паўтары часці войскі паложана, як тое. Ён уз'ехаў пасярод войскі:

— Ах,— гаворыць,— ці не ёсць тут які недабіты або бязвокі? Ці не мог ба ён мне атвеціць, хто тыя войскі выразаў гэтак?

Ажно ўстаець і гаворыць яму — з цэбар галава і, як ба сказаць, вочы па чом у яго былі — ну, хай па лжыцы вочы. Атвяшчаець:

— Здрастуй, Іван Іванавіч — рымскі царэвіч! Чаго блудзіш, чаго шукаеш, чаго ты пытаеш?

А ён атвяшчаець:

— Да езджу,— гаворыць,— пытаю й шукаю, хацеў ба я знаць, хто гэтыя войскі павыразаў гэтак?

Ён яму атвяшчаець:

— Іван Іванавіч — рымскі царэвіч! Нечага ні шукаць, ні пытаць — аб'едзь вакруг войскі, яго след знашно: ці па сухой зямлі, ці па крыві — усё конь па шчоткі ідзець у зямлі!

Ён падзякаваў і паехаў. Найшоў яго след і паехаў яго следам. Едзець, едзець, уз'язджаець яшчэ на большае поле. Аж на тым полі ўжо ў тры часці войскі паложана болей, як гэта. Ён уз'ехаў пасярод войскі гэтае і пытаець, гаворыць:

— Ці не ёсць тут які недабітыалі які-небудзь можа закраўся так, хто б мне атвеціў, хто гэту войску павыразаў гэтак?

Устаець к яму — з кацёл галава, а па цабру вочы:

— Здрастуй,— гаворыць,— Іван Іванавіч — рымскі царэвіч!

— Здароў,— гаворыць,— здароў!

— Чаго ты ездзіш, чаго шукаеш, чаго пытаеш?

— Да езджу,— гаворыць,— шукаю і пытаю, хачу знаць, хто гэту войску павыразаў гэтак?

— А калі хочаш, дак пападзеш яго,— каець.— Я,— каець,— быў чалавек, а з ім во і войску пацяраў і галавой налажыў, а нічога з ім не падзелаў! Тройчы,— каець,— аб'едзь вакруг войскі, яго след знашно: ці па сухой зямлі, ці па крыві — усё па калені конь ідзець у зямлі!

Тады ён аб'ехаў каля войскі, папаў гэты след і гэтым следам і паехаў. Едзець, едзець і відзіць — багатырскі дым ідзець. Дык

ён уз'язджаець туды, дзе дым ідзець, аж там тры елкі ўкучы стаяць, і між елак багатырскі слупок стаіць і гарыць цяпелца, багатырскі дым ідзець.

— Ну,— каець,— гэта баявіцель той.

Прыязджаець ён к гэтым елкам, ссеў з каня і пусціў яго, а сам зайшоў к гэтаму цяпелцу туды. Ажно гэты багатыр спіць, бяссмертна спіць — утаміўся крэпка дужа. Ён цяпер узяў, яго збрую і ўсё абабраў, нічога каля яго не пакінуў. Цяпер пайшоў да збрую з лошадзя падчэпліваў і адышоў далёка ад лашадзей і ўкапаў у зямлю. Ну, цяпер гэтак ён зрабіў,— у яго пара сакалоў і пара хартоў і ў яго пара сакалоў і пара хартоў. Ён тады пусціў сваіх сакалоў на яго. Сакалы гэтыя біліся-біліся, біліся-біліся, потым таго, што спіць, узялі змагаць яго сакалоў. Як толькі змагаць сталі, так узялі паляцелі гулядь, лётаць і сталі дружыць крэпка. Тады ён узяў успусціў хартоў на хартоў. Харты гэтыя як узяліся грызціся, грызліся-грызліся, грызліся-грызліся — таго харты змагаюць яго хартоў. Цяпер, як толькі, значыцца, змаглі, сычас узялі па ласцы гуляць і бегаць і адзін з адным жартаваць. Цяпер узяў лашадзей па[а]двязваў і пусціў адзін на [а]днаго. Гэты лошадзі як сталі біцца — біліся-біліся, біліся-біліся — таго конь змог яго каня. Як змог, сычас сталі адзін аб аднаго часацца, лізаць — па ласцы сталі жыць. Цяпер ён думаў, думаў, але ўзяў пераксціўся:

— Госпадзі,— каець,— багаславі! Памажы, божа!

Прыйшоў, развёў руку, як ударыць у вуха яго! Спіць, ані не чуець! Ён другі раз развёў руку — як дасць яму! Спіць, ані не чуець! Трэці раз:

— Ах,— каець,— тваю такую!

Як пекануў — тэй усхваціўся. Як усхваціўся, сычас за [з]брую — няма збруі. Яны наўгрудкі як сцапіліся, пачалі вадзіцца. Вадзіліся-вадзілсія, вадзіліся-вадзіліся, ён, добры маладзец, на ўхваткі быў масцер — падхваціў яго пад нагу, зваліў неяк. Як зваліў, сызорык выхваціў з кішэні — рэзаць яго. Расхінуў грудзі, ажно — жэншчына!

— Ах, тваю такую! Жэншчына, а так ваюецца!

— Стой,— гаворыць,— Іван Іванавіч — рымскі царэвіч! Я пароўніцы сабе шукала — слава богу, найшла! Будзем мы з табой сярдэшня жыць!

Так ён сычас гэта дзела сустанавіў. Селі яны, паздароўкаліся адна з адным і давай разгаварваць. Яна яго завець у сваё царства, а ён яе ў сваё:

— Паедзем,— каець,— ка мне!

Ну, на том стала, што яна яго перапёрла: паехалі ў яе старану. Цяпер, прыехалі ў яе царства, а ў яе быў бацька ста́ранькі-ста́ранькі. Цяпер, яна яму пазволіла:

— Хадзі,— гаворыць,— Іван Іванавіч, усюдах хадзі, толькі каля гэтыя хізобкі не хадзі!

Паказала яму так хізобку маленькую — лычкам завязана, ступай зака́чана. Цяпер, яны ходзяць дзень, і два, і тры: паказвала, дзе хадзіць яму, дзе не хадзіць. Ну, потым пусціла яго ўжо на волю, аднаго хадзіць. Ён гэта сабе думаець — так магнушшы яго цягнець: «Што гэта, што няможна мне ля тые хізобкі йці?» Узяў і пайшоў. Толькі ідзець ля тые хізобкі, ажны атвяшчаець у гэтай хізобцы:

— Ах,— гаворыць,— Іван Іванавіч — рымскі царэвіч! Адчыні ты,— гаворыць,— гэту хізобку, спусці ты,— каець,— хоць дух мне! Я табе,— каець,— век прадоўжу! Смерць — мая сястра, я табе век прыбаўлю другі жыць!

Ён цяпер узяў, скраўся як-небудзь, лычка гэта адвязаў, ступу адкаціў і адчыніў хізобку. Калі па[г]лядзіць, аж на сцяне гваздамі прыбіт такі маладзец — чысты, прыгожы — нячыстая сіла гэта. І конь на ланцугах прывязаны стаіць. А яе бацька дужа быў сільны асілак, багатыр быў. А гэты нячыстая сіла заляцаўся к тэй царэўне. Дык бацька гэты ўзяў да яго к сцяне і прыкаваў на шэсць гваздоў: адзін гвозд у ногі, склаўшы ногі, тады ў сярэдзіну, проці сэрца гвозд, і ў лоб гвозд, і па руках, па ладонях, па гвазду. Тады ён гэта спужаўся, узяў дзверы яму адчыніў — дух яму спусціў, так сычас зачыніў, лычкам завязаў, ступай закаціў, і сам быў — да й няма — адгэтуль! І гэтак стаў ён смуцен, што божа мой! А ён да яму атвеціў:

— І табе гэтак будзець, як і мне! І я быў з чалавека!

Ну, уходзіць яна, у яго пытаецца:

— Чаго ты сасмуціўся,— гаворыць,— Іван Іванавіч, ці не быў ты каля хізобкі?

— Ды не, чаго мне іці, куды мне не трэба? Так сасмуціўся!

Ну, потым ён знова ходзіць сабе, ходзіць, цягнець яго магнуш, каб апяць праведаць хізобкі тыя. А яна ўзяла пілнаваць ужо. Ён хадзіў, хадзіў, знаець тое, што яна пілнуець яго — якто ён скраўся. Ідзець каля гэтыя хізобкі, ажно ён спрашыець:

— Ах,— каець,— Іван Іванавіч — рымскі царэвіч! Зайдзі,— каець,— у хізобку, вырві ў мяне хоць з сэрца гвозд! Мая сястра — смерць,— каець,— я табе трэці век прыбаўлю насупраці твайго!

Ён сычас лычка адвязаў, ступку адкаціў, увайшоў у гэту

хізобку, зачапіў нагцямі за гвозд за гэты, вырваў гвозд з сэрца ■ яго. А сам быў — і няма. Зачыніў хізобку зноў. Цяпер ходзіць ён, так сасмуцеў, што гвалт. Яна ў яго пытаець, каець:

— Іван Іванавіч — рымскі царэвіч! Чаго ты смуцен так! Ці не ходзіш ты там, каля хізобкі каля гэтыя!

— Да не,— каець,— што мне прыйшлося хадзіць!

— Я,— каець,— думаю, што ты каля гэтыя хізобкі ішоў,— можа, зданнё табе здавалась?

— Да не,— каець.

Не прызнаецца. Тады ён хадзіў-хадзіў, хадзіў-хадзіў па двары там, узнова яго цягнець, каб каля тыя хізобкі ісці. А яна ўзлезла на трэці атаж на вакошка і пілнуець гэта яго: куды гэта ён, дзе ён ходзіць? Ажно сычас яна й не ўпілнавала яго: забег ён ў гэту хізобку. Просіць ён яго, каб са лба вырваў гвозд. Ну, ён вырваў, запёр, закаціў хізобку.

— Ну,— каець,— будзеш ты чатыры вякі жыць: адзін свой, а тры маіх ужо!

Сычас і сасмуціўся ён так, што ўжо не можаць хадзіць зусім. Ну, яна гэта і ўзнала, што мусіць ён праведаў гэтыя хізобкі. Цяпер яна давай яго пілнаваць яго гэтак, што куды толькі ён павернецца, яна сычас і відзіць яго — на вачах пасець. Ажно ён гэтак хадзіў-хадзіў, хадзіў-хадзіў — сычас за хізобку за гэту, адчыняць. Яна як увідзела, сычас праз вакошка да к яму. Прыбягаець туды, а ён ужо з рук вырваў два гвазды яму. Як толькі яна гэта на парог туды к яму, а ён гэта павырваў гвазды. Так ён сычас з ног сам гвозд вырваў, саскочыў да ў лошадзя ланцугі троп! Вывеў вон лошадзя, а яна на парозе.

— Ну,— каець,— слава богу, чаго хацеў, таго й застаў!

Ухваціў яе да на каня, і пайшоў пад нябяса! А ён і застаўся адзін! Агу! Як застаўся ён адзін, спужаўся дужа:

— Што я зрабіў гэта?

Дык ён тады полы падкасаў да за ёй уздагон. Ну, дзе ж ты дагоніш: тэй на кані да й пайшоў пад нябяса, а ён і каня не ўзяў свайго — адрокся ўсяго! Як дасць пяшком! Бег-бег, бег-бег, узбягаець ён на поле, на чыстае поле. Аж на гэтым полі стаяць каменныя палацы, гэтакія, што там агледзецца ад іх. Убягаець ён у гэтыя палацы, у вадны дзверы, у другія і ў трэція — ажно сядзіць за столам яго меншая сястра, кніжку чытаець, і гэтак-та сілна плачыць. Ускочыў ён у пакой ды кажыць:

— Здарова, сястра!

— А, здароў, здароў, брацец,— гаворыць,— з вумом,— каець,— жану нажыў, але бязумна зжыў!

— А дзе ж твой,— каець,— муж?
— А,— каець,— пабег за тваёй жаной, за сваёй сястрой уздагоны!
А то быў Вецер, сястры яго муж. Ён тады:
— Прашчай,— каець,— сястра!
Знова, полы падкасаўшы, пабег. Як бегчы дык бегчы, як бегчы дык бегчы, як бегчы дык бегчы, узбягаець ён — яшчэ поле большае і палацы мудрэйшыя за гэтых, пазлачаныя вокны. Убягаець ён у гэтыя палацы, ажно сядзіць яго сястра сярэдняя за столам і кніжку чытаець і сілна плачыць:
— Здрастуй,— каець,— сястра!
— Здароў, здароў, брацец! З вумом жану нажыў, але бязумна зжыў!
— А дзе,— каець,— твой муж?
— Ды за тваёй жаной, за сваёй сястрой уздагоны пабег!
А гэта Віхор быў.
— Ну, прашчай,— каець,— сястра!
Папрашчаліся, і пайшоў знова, полы падкасаўшы. Цяпер ён узноў, як бегчы дык бегчы, як бегчы дык бегчы, узбягаець ён яшчэ на поле — гэтакае поле, што чыстае, гараватае, прачыстае! І гэтакія палацы — разгледзіцца проста. Прыбягаець ён к гэтым палацам, уходзіць ён у адну комлату, у другую, у трэцюю заходзіць — ажно сядзіць яго сястра большая за столам, кніжку чытаець і гэтак-та сілна плачыць, што бядоўна!
— Здарова, сястра!
— А, здароў, здароў, брацец! З вумом жану нажыў, але бязумна зжыў!
— А дзе,— каець,— твой муж?
— Ды пабег уздагоны за тваёй жаной, за сваёй сястрой!
Пташачы цар быў.
— Ну, прашчай, сястра!
Папрашчаліся і пабег. Як бегчы дык бегчы, як бегчы дык бегчы — прыбягаець ён к мору. Бегаець каля мора: некуды ўжо іціць дальшы. Ажно стаяць яго швагры, усе ўкучы і разгаварують адзін з адным. Прыходзіць ён к ім:
— Здрастуйце, швагры!
— Здрастуй, здрастуй. А,— каець,— з вумом жану нажыў, да бязумна зжыў! Што нам рабіць з табою?
— А што ж,— каець,— швагры: што хочаце, то й робце са мной! Было ёй аявіць мне гэта! А то ён сказаў, што і я быў чалавекам і табе,— каець,— будзець гэта! Я пачом знаў?

Цяпер Вецер каець:

— Я б,— каець,— яе выкруціў у яго з рук, ну яна цяжала́ дужа — не паддзержу яе!

Віхор тож сама:

— Я б,— каець,— тож выкруціў яе, завінтаваў ба яго, закруціў, да тож не ўдзержу: ці так — прапала, ці так — прапала!

А Пташачы цар:

— Тож ба,— гаворыць,— і я наслаў ба,— гаворыць,— кручча, варання, вочы б выдралі яму; ну, што ж,— гаворыць,— цяжо́ла, няможна паддзержыць яе: хоць так — прапала, хоць так — прапала!

Ён цяпер каець:

— Ах, швагрочкі вы мае любыя, ці не можаце вы мяне перабавіць на той бок мора? Няхай ба,— каець,— дзе яна прападаець, хай ба і я прападаў там! Мне ж,— каець,— аднако́ва ўжо!

Цяпер Пташачы цар:

— Ну,— каець,— пагадзі, ты цяжол, мы цябе не перанясём,— гаворыць. — А ёсць,— каець,— у мяне такая пціца, што як сядзець, дак сем маргоў лесу бгаець пад сабой толькі. От тая,— гаворыць,— цябе перанясець!

Сычас як узяў ляску, як крутнець, як матнець, як крыкнець... Божа вялікі! Як узяло гэта вараннё сабірацца, розныя пціцы! А яе нямашацькі, тыя птушкі!

Ён ізноў тропнець, як лопнець, крутнець палкай — яшчэ ў большую рэдзь зляцелася птаства, а яе няма. Трэці раз як крыкнець, тропнець, лопнець ляскай — прыляцела! Ён тады хацеў яе наказваць. Яна давай прасіцца ў яго:

— Ах,— гаворыць,— ваша нпяратарства! У вас,— каець,— ёсць дзеткі, вы ж такі за імі глядзіце, так не пакідаеце, і ў мяне,— гаворыць,— дзеткі дробныя, трэба ж ім прыгатаваць што. Я знаю, што вы мяне ў дарогу адпраўляеце. А цяпер жа,— каець,— вы мяне з чым выпраўляеце ў дарогу? Харошы хадзяін выпраўляець батрака, дак хлеба даець і навары там даець якія-небудзь, усё так не выпраўляець!

— А што ж табе трэба на дарогу?

— Ды якія-небудзь,— гаворыць,— гавядзіны бачонкі са два!

Тут сычас ён, птаства гэтага набілі, варання якога, таго-сяго, наскублі, наклалі ёй два бачонкі, два паўрэзы парадашных. Ну, цяпер устанавілі на крылля, і ўссеў гэты Іван Іванавіч — рымскі царэвіч і бачонкі гэты дзяржыць. І яна яму атвяшчаець:

— Што,— гаворыць,— глядзі ж ты,— гаворыць,— я буду іці-іці, іці-іці, як толькі зір набок, дык ты мне шчэр мяса ў дзюбку, дык я й далей,— гаворыць.

Ну, яны й паляцелі. Дык ляціць-ляціць, ляціць-ляціць, а далі зір назад! Ён ёй торк у дзюбку — яна й далей. Агу! Ён торкаў, торкаў, па[а]ддаваў усё. А тут толькі бераг відаць шчэ; як вокам скінуць, дак бераг толькі. Агу! Нечага яму даваць. Глядзела яна, глядзела ўсё: зір назад — няма нічога, зір назад — няма нічога! Яна й ніжы, яна й ніжы. Тады ён узяў, з нагі сапог зняў, сваю ікру адрэзаў ды ў рот ёй! Павышала троху. Іці-іці, апяць зір назад — няма нічога, зір назад — няма нічога! Тады ён сапог другі ізняў, другую ікру адрэзаў, таркануў ёй у рот. Паднялася яна вышы. Да ўжо на бераг выходзіць саўсім. Тады яна отвяшчаець яму, што, ну, ідзі здароў, а я ўжо, можа, мяне так бог перанясець цераз мора!

Ну, як перанясла яна яго, ссеў ён. Яна гаворыць:

— Ну,— каець,— што ты мне за мяса даваў напаслé?

— Што я табе даваў? Мяса ўсё даваў!

— Не,— каець,— ты прызнай, бо будзеш не чалавекам!

Ён тады каець:

— Ікры табе даваў свае!..

— Ну,— каець,— здзявай сапагі!

Ён здзяваў. Яна карханула, ікры тыя выкархнула. Ён прылажыў, яна дмухнула — яно й прыжыло. Тож і другую таксама:

— Прыкладавай!

Ён прыклаў. Яна дмухнула, і прыжыло.

— Цяперыча,— гаворыць,— ідзі з богам, а я палячу к дзяцём к сваім; можа, мяне так бог перанясець!

Папрашчаліся адзін з адным і разышліся.

Цяпер ён як іці дык іці, іці дык іці — двое сутак не еў ужо, як выйшаў. Абнімаець яго цёмная ноч. Сычас ён заходзіць дзенібудзь у лясок там. Стаіць там у краі асіна, бальшая асіна, пра[а]громная. Ён пад гэтай асінай расклаў цяплушкó і лёг наўзлакотках. Аблакціўся і думаець, як што бог дасць. Ажно сычас у гэтай у васіне птушачкі такія, сінічкі называюцца, ціўкаюць у гэтай асіне. Цяпер ён думаў, думаў, але думаець: «Палезу! Можа, гэта мне паслаў гасподзь на прапітанне. Палезу, дастану іх, абсмалю і з'ем, хоць трошачку не так буду есць хацець!»

Падлязаець ён туды і стаў іх браць адтуль. Яны атвяшчаюць яму:

— Ах,— гавораць,— Іван Іванавіч — рымскі царэвіч! Ты на нас,— каець,— не хацеў глядзець, а цяпер табе прыйшлося есць

нас. Ды не руш нас: мы табе будзем знадобны,— каець,— а ты будзеш нашымі малітвамі сыт!

Ён цяпер і кінуў, не браў іх, лёг. Так яму есці не захацелася, і сыт ён даволна. Назаўтрага ўстаець рана, памыўся, богу памаліўся, марш і пайшоў. Як іці дык іці, іці дык іці, у каго спытаецца:

— Сколькі вёрст да такога й такога?

— А,— каець,— вёрст пяцьсот, а можа,— гаворыць,— шэсцьсот будзець да яго!

Абнімаець яго ўзнова цёмная ноч; сколькі ён там за дзень убег, бог яго знаець; заходзіць ён у дубнік — ідзе і раскладаець цяпло. А есць хочыць дужа. Расклаў ён пад дубам цяпло, гэты дуб прыгрэўся, ажно ў гэтым дубе пчолы гэтыя, палявыя. І зашумелі яны там у вуллі. Ён тады слухаў, слухаў, а тады:

— Ах, госпадзі! Можа мне гэта на ўпітанне бог паслаў! Палезу! Вазьму галавешку якую і палезу! Можа тут мёд ёсць: дастану, акраплюся за сколькі днёў!..

Пчолы гэтыя атвяшчаюць яму:

— Іван Іванавіч — рымскі царэвіч! Не руш ты,— гавораць,— нас! Ты на нас, бывала, не хацеў глядзець, а цяпер табе прыйшлося нас есць,— гавораць.— Ты будзеш,— гавораць,— нашымі малітвамі сыт: маліся богу да лажысь спаць. А мы табе будзем знадобны,— гавораць.

Так ён сычас богу памаліўся і спаць лёг. Назаўтрага рана ўстаець, памыўся, богу памаліўся, марш і пайшоў дарогай. Як іці дык іці, як іці дык іці — абнімаець яго знова цёмная ноч. Ідзець ён па ўзбярэжжу, каля мора. Чыстае, нічога няма, толькі адзін камыш гэты, трыснік, значыцца. Ён тады ўзяў, цяпло выкрасаў, трысніку гэтага наламаў і расклаў на беразе агнюшок. Ажно з мора рак марскі паўзець на бераг! Гэткі бальшушчы, сахрані бог. Ён тады гэтага рака ляскай падчапіў — варух у вагонь.

— Хоць я гэтага рака з'ем,— гаворыць.

Гэты рак атвяшчаець яму:

— Ах,— каець,— Іван Іванавіч — рымскі царэвіч,— гаворыць.— Я,— каець,— выйшаў з мора заморскага чалавека глядзець, што тут за людзі,— гаворыць,— а ты мяне ў вагонь вернеш! Ты на нас упярод не хацеў [г]лядзець, а цяпер табе прыйшлося есці нас. Да ты маімі,— гаворыць,— малітвамі сыт будзеш. А я табе,— гаворыць,— знадобен буду!

Цяпер ён зняў яго з агня, ён і папоўз у мора. А ён памаліўся, спаць лёг. Назаўтрага ўстаў рана, богу памаліўся, марш і

пайшоў. Прыходзіць ён туды, дзе яго жана, у самае поўдня. Ажно таго нячыстага духа няма дома: паехаў на паляванне. Яна гаворыць тады — не то рада стала, не то не:

— А, бач,— каець,— ты мяне і тут найшоў!

— А найшоў жа,— каець.

— А што ж будзець, што ты мяне найшоў: ты мяне адгэтуль не возьмеш!..

Дала яму есць там, пакарміла яго, і пачалі яны радзіцца:

— Што,— каець,— здзелаем: сабяромся,— каець,— сумочкі,— гаворыць,— возьмем і пойдзем!

Ну, набралі харчы з сабой і пайшлі дарогай. А ў гэтага нячыстага духа, у яго было пяцьсот галубоў, і ўсе белыя, адзін у вадзін. Цяпер, быў у яго адзін голуб такі ў пяцёх сотах тых, што абы якая прычына, дык ён сычас паляціць і раскажаць. Гэты голуб к яму пралятаеў і кажаць:

— Прыйшоў,— каець,— з-за мора нейкі чалавек, узяў тваю жонку за руку і павёў,— каець.

А ён атвяшчаець:

— А бач,— каець,— ці ён і сюды прыйшоў? Як ён перабыў сюды?

Сычас ён прыпусціў на лошадзі, даганяець іх, узяў яе за руку, а на яго кажаць:

— Ну,— каець,— калі ты тут будзеш хадзіць, дык не то маіх,— каець,— чатыры вякі, а й свайго,— каець,— не дажывеш веку!

Яе ўзяў з сабою ды й павёз, а ён застаўся. Ён сеў, думаў-думаў, думаў-думаў, што тут здзелаць? Узяў назад узнова пайшоў к ёй. Пераначаваў дзе-небудзь, а назаўтрага ён раненька на паляванне паехаў знова, а ён к ёй. Ну, што ж наругацца, весць? Радзілі-радзілі, дык ён і гаворыць:

— Папрасі ты яго, як ба ён мяне на тэй бок мора перабавіў. Гэта што нічога не будзець — не возьмець ён яе адгэтуль.

Ну, дала яна яму паесць што-небудзь і ўсадзіла яго дзе-небудзь ускрыта. Прыязджаець ён увечары з поля.

— А што ж,— пытаецца,— быў заморскі чалавек тут?

Яна атвяшчаець:

— Ды вот відзіш,— гаворыць,— ён ля цябе дабрату здзелаў, вызваліў цябе, дык бы і ты яго на тэй бок мора перабавіў як-небудзь!..

— Большы я яго ніяк не перабаўлю,— гаворыць,— акрамя,— гаворыць,— ёсць мой брат, жывець за пяцьсот вёрст ад мяне, дык,— гаворыць,— ёсць у майго брата лошадзь такая, і яны з

маім канём браты. Мой,— гаворыць,— конь пераляціць увесь свет — пяць раз даткнецца да зямлі, а яго пераляціць, братні конь, увесь свет — тры разы даткнецца да зямлі. Дык калі ён,— гаворыць,— украдзець таго каня, дык заедзець. Большы ніяк няможна!

А ён гэта й чуець. Назаўтрага пераначавалі, марш гэты нячысцік — паехаў знова на паляванне. Яна яго тады, увязала яму ў хусту харчы там скалькі-небудзь і расказуець яму гэта. А ён гаворыць:

— Я сам чуў усё гэта,— гаворыць.

Папрашчаліся і пайшоў ён. Як іці дык іці, іці дык іці — абняла яго цёмная ноч. Пераначаваў ён ноч гэту, дзе-небудзь аддыхнуў у камышы ў гэтым, устаў назаўтрача, памаліўся богу й пайшоў. Ідзець ён, ажно пасець старычок коней, стары-стары дзед. Заходзіць ён к гэтаму дзеду:

— Здрастуй, дзед!

— Здрастуй, здрастуй, Іван Іванавіч — рымскі царэвіч! Куды ты,— каець,— ідзеш, дзіця? — на яго.

— Так і так,— гаворыць,— дзядулька, іду я к гэтаму нячыстаму духу на службу!

А ён атвяшчаець яму, дзед гэты:

— Не, дзіця,— каець,— у яго,— каець,— ёсць тры кабылкі, і яна, баба, яго жана, нанімаець пастуха ў поле іх ганяць, кабылак гэтых. Дык,— гаворыць,— у яго паркан вайстраколам абгароджан, зялезны тын кругом дварца, і на ўсякай вастраколіне па галаве стырчыць. А адна вайстраколіна пустая,— гаворыць,— то пэўна твая там будзець стырчаць галава. Дак от, дзіцятка,— гаворыць,— у яе ёсць тры кабылкі; а то не кабылкі, ды яе дочкі, дык іх ніхто не ўпасець. Змовіцца пасці, як не ўпасець, дык яна галаву адрубіць і на вайстраколіну ўсторкнець. Папрабуй,— каець,— ідзі!

Ну, цяпер, сычас ідзець ён над вечар у гэты двор. Ажно гэта баба сустракаець, жонка таго: едзець на зялезнай ступе і зялезным таўкачом паганяець.

— Здрастуй, бабка!

— А здароў, здароў, заморскі чалавек! Далёка ж ты зайшоў,— гаворыць.— Чаго ж ты,— гаворыць,— жалаеш тут?

— А от, бабка, службы пытаюся: ці не выслужыў ба дзе каня сабе пераехаць на той бок мора!

— А вот, дзіцятка, у мяне ёсць тры кабылкі пасціць. Калі,— гаворыць,— упасеш тры дні, дык дам табе кабылку, а не ўпасеш, дык галаву на вайстраколіну пасаджу тваю!

— Ну, што ж рабіць: трэба паспрабаваць гэтага шчасця! Упасу дак упасу, а не ўпасу, дак што ж рабіць,— гаворыць.

Прыходзіць ён у дварэц, выдаець яна абед яму — што толькі ён пажалаў, дык яна ўсё даець.

— Ну,— каець,— цяпер аддыхні, заўтра раненька пагоніш,— гаворыць.— Яны кабылкі смірныя,— гаворыць,— дак ты іх і ўпасеш!

— Ах,— ён ей атвяшчаець,— што ж,— каець,— аддыхаць, бабка, няма ў мяне ні путца, ні абротачкі, з чым жа пасціць?

— А вот, добра,— каець,— хадзяйскае дзіця,— каець.

Узяла яму пянькі на левы палец трыццаць беркаўцоў з інбару выкінула. А ён, добры моладзец, згроб на плечы і панёс.

— Ага, —каець,— дзіцятка, і ты не плахі малец!

Звіў сабе пугу, павіў вабраці, путы, там павіў, ізвіў пугу, такую, што!.. Памачыў у купу мазі тройчы — і купа суха. Ну, назаўтрага, пераначаваў, і выпраўляець яна яго ў поле гнаць. Дала яму харчы ў торбу, усё там і выпраўляець гнаць у поле. А ён прыходзіць толькі к варотам, адчыніў вароты ў стайні, а яны — пррр! як блохі — ведама, нячыстыя дзеці! — і паляцелі.

— Э,— каець,— бабка, ваўкі ж іх упасуць гэткіх!

— Нічога,— каець,— дзіцятка: яны там дзе сабяруцца на лажок, на лукамор'е і будуць хадзіць!

Ну, й пайшоў ён. Агу! Ён хадзіў-хадзіў, хадзіў-хадзіў да паўдня — няма кабыл, прапалі! Цяпер ён ідзець каля гэтай асіны, дзе сінічкі тыя былі, ажно ляцяць сінічкі:

— Іван Іванавіч, чаго ты шукаеш, чаго тужыш, чаго ты бядуеш?

— Ах,— гаворыць,— сінічкі мае,— гаворыць,— любыя! Змовіўся кабылак пасціць, да вот бяда,— гаворыць,— дзень хаджу, і няма іх нідзе!

— Гатуй вабраці,— гавораць,— мы табе іх папрывалакуем— яны ўсе нашы дуплі пазаймалі, нам нейдзе жыць!

Сычас ён аброць наставіць, а яны як уплятуцца ў яе, цягнуць яе к яму! Ён яе ўвяжыць, укруціць у вяроўкі, дзяржыць гэту, а яны другую валакуць. Папрывалакувалі ўсіх трох к яму. Ён іх паўвязваў, паўкручваў, звязаў іх гэтак, што няможна ніяк ім разарвацца. І гоніць іх перад сабой у гэты дварэц. Пугай як смальнець-смальнець! Дык яны аж пішчаць! Ажно гэта бабка сустракаець:

— А дзіцятухна! Памаленьку ж ты, яны маладзенькія!

—А, — каець, — бабка, во гэта, — каець, — горшая!

Ды як дасць-дасць, дык яна аж пішчыць! Упёр іх у стайню і замкнуў.

— Ну, дзіцятка, от адзін,— каець,— дзянёк і ўпасціў! Гэта ты шчэ першы пастух гэтакі!

А гэты нячысты дух ездзіў на паляванне. Дык конь як разгуляўся і зваліў яго. Дык ён яго ўбіў троху. І цяпер сам хварэець, а гэту лошадзь узяў укапаў у зéмлю дагары скап'ём — храбтом уніз, значыцца, а ногі ўгору. І наваліў на яго каменнем. Ён гэту лошадзь узяў выкапаў із зямлі, каменне адвярнуў тое і пастанавіў яго ў стайні; насыпаў яму аўса там, і сам прыходзіць к бабе к гэтай. Ажно гэтыя дочкі плачуць у пакоі там. А ён слухаець пад дзвярмі. Яна іх вучыць:

— Ах,— каець,— дзетачкі, хавайцеся як-небудзь па дуплях, па пячэрах! Во ўжо дзень упасціў, а шчэ два як упасціць, дык ужо катору-катору, а трэба аддаць,— гаворыць.

Ён цяпер:

— Бабка,— каець,— трэба занесці кабылкам піва!

— А вот,— каець,— добра, дзіцятка, добра! Хадзяйскі сын! Вазьмі,— каець,— ключы да ўлі ім там у яслі!

Ён жа не панёс ім, ды каню гэтаму. Назаўтрага, даў бог дзень, сычас ён устаець да сонца, а бабка тая нагатавала яму ўжо ядзення, наскладала ў торбачку.

— От,— гаворыць,— дзіцятухна, палучай,— гаворыць,— торбачку і гані,— гаворыць,— з расою, на расу іх!

Так ён сычас тады падходзіць толькі к дзвяром, а яны — сычас пррр! паляцелі, як блохі, на мора.

— От,— каець,— бабка, і пасі іх, як хочаш!

— А,— каець,— дзіцятка, там найдзеш іх, яны будуць там па лукамор'ю хадзіць,— гаворыць.

Агу! Ён хадзіў-хадзіў дзень — нідзе няма кабылак. Ідзець ён каля дуба, каля таго, ідзе пчолы, аж яны ляцяць, пчолы.

— Ах,— каець,— заморскі чалавек! Чаго ты тужыш, чаго шукаеш?

— От,— каець,— змовіўся кабыл пасці, дык цэлы дзень не найду. Выскачылі із хлява ўранні, дык няма нідзе!

— А,— каець,— гатуй,— каець,— вабрацí, мы табе іх папрывалакуем! Яны ў нас усе дуплі ў дубах пазаймалі!

Як уплятуцца ў іх — цянуць усіх трох. Ён іх паўкручваў, паўвязваў і гоніць перад сабой. Як дасць-дасць пугай, дык яны аж пішчаць. Сустракаець гэта баба яго:

— А дзіцятухна, памаленьку ты іх, яны ж маладзенькія!

— Ах,— каець,— бабка, во гэта,— каець,— горшая!

Ды як смальнець! Яны аж пішчаць. Прыгнаў і загнаў у хлеў і запёр усіх трох.

— От, ужо два дні ўпасціў, дзіцятка!

Даець яму вячэраць; ён павячэраў, богу памаліўся і лёг спаць. Даждаўся ён трэцяга дня. На трэці дзень:

— Ну,— каець,— дзеткі, хавайцеся,— каець,—у мора, па норах, па пячэрах, туды-сюды, бо калі сянні ўпасціць — катору-катору трэба аддаць яму!

Так ён сычас толькі к варотам прыходзіць з гэтай бабай, аж яны вароты выбілі і пайшлі, паляцелі! Хадзіў ён, хадзіў дзень, хадзіў-хадзіў — нідзе няма! Ідзець ён каля мора, ажно паўзець рак гэты.

— Ах,— гаворыць,— заморскі чалавек, чаго ты тужыш, чаго ты шукаеш?

— Ах,— гаворыць,— рак мой пралюбезны! Змовіўся кабыл пасціць, ды не магу знайсці іх, пахаваліся нейдзе!

— А,— каець,— твае кабылкі мне норы пазанімалі. Гатуй,— каець,— вараці, я іх табе папрыцягую!

Гэты рак як упляцецца — валачэць! Ён увяжыць, укруціць — забрытаў усіх трох, пасцягваў яму! Ну, й гоніць іх дамоў ды дасць-дасць! Сустракаець яго баба гэта за тры вярсты шчэ:

— А дзіцятухна,— гаворыць,— а памаленечку ж ты! А не бі ж ты іх! А дзіцятухна!

А ён смаліць!

— Во гэта,— каець,— воўк яе рэж, горшы за ўсіх!

Загнаў-такі іх у хлеў, упёр іх. Каня падгадаваў, а сам пад дзверы, слухаець. Ажно яны галасам галосяць, дочкі: ніводна не хочыць. Тады старуха ўжо тая:

— Дзіцятухна,— каець,— ездзіў на паляванне хадзяін мой, і конь разгуляўся, упудзіўся, і ён яго,— гаворыць,— забіў. Дык ён яго ўкапаў у зямлю. Знайдзі яго ды садзіся і едзь!

А ў яго ўжо выкапаны! Так ён сычас падзякаваў гэтай бабе, на каня ўссеў. А гэтаму нячыстаму духу далі ведама, што такі і такі ўзяў каня і паехаў. Дык ён як ударыў у слуп, мур — слуп заваліўся, і яго забіў.

Цяпер, ён прыехаў к жане, сычас, многа не медліўшы, ухапіў жану і пабег. А гэты голуб троп-троп і паляцеў.

— Ах,— гаворыць,— прыехаў заморскі чалавек, ухапіў вашу жану на лошадзь і павёз!

— Ну,— гаворыць,— цяпер яго!— гаворыць.

То ж яны ўдваіх усселі, і ён, нячысцік, як прыпусціў на сваёй лошадзі,— наганяець іх. Цяпер, гэта лошадзь як заржэць пасвойму:

— Ах,— каець,— брат мой родны! Ён мяне за тры дні выкарміў, выпаіў, што [illegible] ў таго нячыстага духа век пражыў, не відзеў гэтага, што ён мне даваў! Падніміся ты,— гаворыць,— пад небяса, разгуляйся і перавярніся дагары скап'ём і скінь ты нячыстага духа з сябе і ўдар яго,— гаворыць,— скап'ём дагонь у галаву!

Гэта лошадзь як разгулялася, як паднялася пад небяса, дык ён яе дзяржаў-дзяржаў — яна яго як збросіла з сябе ды дагнала яго, ды як ударыць у галаву капытамі, так ён і ўпаў на зямлю. Яны сычас пассядалі з каня, гэту нячысту сілу парубілі на кавалкі, цяпло расклалі і спалілі яго. Раздулі тэй попел, а самі паехалі к бацьку. І цяпер жывуць там у яе царстве.

## 67. ІВАНЬКА

Жыў дзед із бабай, і было ў іх тры дачкі й сын. Дзед і баба памерлі, засталісь дзеці адны. Прылятае к ім у паўдня пісьмо, каб было піце́ння-ядзе́ння. Яны нагатавалі і пайшлі ў сад гуляць. І змарыў іх сон; яны звязалісь паясом і заснулі. Прашнулісь, аж большую дачку ўкраў змей. На другі дзень апяць прылятае пісьмо, каб было піцення-ядзення. Яны нагатавалі і пайшлі ў сад гуляць. Іх узноў ізмарыў сон, яны звязаліся паясом і заснулі. Прашнуліся, аж ужо сярэднюю дачку ўкраў змей. На трэці дзень узноў прылятае ўпаўдня пісьмо, каб было піцення-ядзення. Яны нагатавалі і пайшлі ў сад гуляць. Ізмарыў іх узноў сон; увязалісь яны паясом і заснулі. Прашнуліся, аж меншую дачку ўкраў змей. Адзін застаўся Іванька. Пахадзіў ён, пахадзіў па саду, паплакаў, да дзелаць нечага. Быў у яго конік, сеў ён на коніка і паехаў у свет шукаць сваіх сясцёр.

Ехаў ён, ехаў з рання да вечара, абняла яго цёмная ноч. Пад'язджае ён к гораду, аж змей абкруціўся вакруг гарада́ і хвост у зубы ўзяў. І паджаў Іванька каня так, што конь пераляцеў чараз змея і не зачапіў змея. Едзе Іванька, аж стаіць дом. І бача ён, што на трэцім атажу сядзіць яго сястра, шые-вышывае і дужа плача. Заехаў Ванюша ў дом, паздраствуваўся з сястрой і кажа:

— Садзісь, сястра, на каня, паедзем!

Яна кажа:

— Баюсь! Ці ўцячом, ці не, а тады будзе шчэ горай!

— Не бойсь,— кажа Ванюша,— садзісь!

Села яна на каня і паехалі дамоў. Аж даганяе іх змей. Адабраў сястру ў яго, а яму кажа:

— Глядзі, каб гэтага болей не было, бо ўб'ю!

Застаўся Іванька ўзноў адзін. Плакаў, плакаў і пайшоў назад, к сястрэ. Прыйшоў і маўчыць. Тады дала яму сястра клубочак і кажа:

— Куды гэты клубочак будзе каціцца, туды й ты йдзі!

Ён узяў і пайшоў. Ішоў, ішоў і зайшоў к сярэдняй сястрэ і доўга з ёй не разгавараваў. Дала яму тая сястра паўсцінку і шарсцінку. І пакаціўся клубочак далі. Каціўся-каціўся, прыкаціўся к трэцяй сястрэ. Ён і туды прыйшоў моўчкі. Гэта сястра дала яму залатую трысцінку. Пакаціўся клубочак далей, аж сядзіць на камені баба і дзелае панчоху. Ён кажа:

— Здрастуй, бабка!

— А здароў, здароў! Куды йдзеш, дзіцятка?

А ён кажа:

— Ды йду, бабка, у найму!

— А, наймісь у мяне кабыліц пасціць: тры дні адпасціш, возьмеш каня сабе любога!

Наняўся Іванька кабыліц пасціць. Як выгнаў за вароты, дык яны й паляцелі,— толькі ён іх і бачыў. Тады ён пайшоў за кусцікі, наклаў цяпелца, ізняў дудачку і іграе. Даў бог вечар, а кабыліц няма. Тады ён узяў паўсцінку і шарсцінку, прыпёк к цяплу — кабыліцы й сталі сабірацца са мхоў, з балотаў. Адрэзаў ён дубіну, як стаў біць кабыліц! Біў-біў, дабіраецца да меншай. А меншая кабыліца кажа:

— Не бі мяне, Іван Іванавіч, буду я табе ў вялікай прыгодзе!

Ну, пагнаў ён іх у двор. Прапасціў тых кабыліц тры дні. Тады баба сказала яму прывезці воз шупшынніку. Ён паехаў ў лес, прывёз воз шупшынніку, а баба вытапіла лазню зялезную, пагнала кабыліц парыць шупшыннікам. Парыла, парыла, дабіраецца да меншай. Менша кабыліца кажа:

— Я ім казала, каб яны ўцякалі ад Іванькі, а яны на ім вешаюцца!

Ну, баба яе за гэта не біла. Ну, адпасціў тры дні, заве баба яго ў стайню ўжо каня, значыцца, выбіраць. Меншая дачка сычас-яму кажа:

— Ты не бяры тых коней, каторыя харошыя, а бяры таго коніка, што пад сцяной ляжыць, карузленькі!

Прывяла яго баба ў стайню, аж там поўна коней. Тая баба кажа:

— Выбірай сабе луччага каня!

А ён узяў да гэтага карузленькага ташча. Вывалак яго за вароты, ён сычас стаў дужа добры конь. Сеў ён на яго і паехаў, па пяцьдзесят вёрст за час ехаў. Ад'ехалі сколькі там, той конь гавора:

— Іван Іванавіч, пусці мяне назад, я адаб'ю дванаццаць жарабцоў, адассу дванаццаць кабыліц!

Ён яго пусціў. І так жа сама і на другі дзень і на трэці. І здзелаўся яго конь багатыром. Паехалі яны тады к большай сястрэ. Прыязджае туды, а змея дома няма. Ён узяў сястру і паехаў. Прылятае змей і кінуўся на стайню і пытаецца ў каня:

— Ці ёсць звёзды на небе, ці ёсць хадзяйка ў дварэ?

— Звёзды на небе як былі, так і ёсць, а хадзяйкі ў дварэ нямашака!

— А ці магом дагнаць?

— Дагнаць-то магом, але ўзяць не магом!

Змей сеў на каня і дагнаў Іваньку з сястрой. Тады конь Іванькаў кажа змею:

— Не лезь, а то нагой кіўну, хвастом падхвачу, на мак рассяку!

А змей не слухае, ды к яму. Конь той нагой як кіўнуў, хвастом як махнуў, падхваціў змея і рассек на мак!

А Іванька тады паперавозіў сясцёр дамоў і жывуць цяпер умесце.

## 68. ЯНКА І КАРАЛЕЎНА

Жыў стары, меў тры дзяўчыны і сына Янку. У яго не было жонкі, у гэтага старога, і сам ужо аслабеў. Старасць падышла, смерць наблізілася. Ён свайму сыну і гаворыць:

— Ну, сынку, глядзі, як пасля маёй смерці прыйдуць сваты, аддавай большую сястру. Прыйдуць другія — аддавай селядоршую. Прыйдуць трэція — аддавай меншую.

У кароткі час стары памёр.

Прылятае Воран Воранавіч у сваты. Аддаў Янка большую. Прылятае Арол Арловіч — аддаў ён селядоршую. Прылятае

Судак Судаковіч — аддаў і меншую. Аддаў, а сам не ведае, куды аддаў. Захацеў паехаць да іх у госці, наведацца, ды не ведае, куды ехаць. Рашыў пайсці пашукаць і пайшоў.

Ішоў ён, ішоў, бачыць — на дарозе чэрці б'юцца. Знайшлі тры рэчы і не могуць падзяліць: шапку-невідзімку, боты і бронь-каналет. Як падышоў ён да гэтых чарцей, дык яны абрадаваліся. Вось адзін гаворыць:

— Як, паляшук, падзеліш нам тры рэчы?

Ён прыступіў дзяліць:

— Бяжыце,— кажа,— за пяць кілометраў: які прыбяжыць уперад, дык таму дзве рэчы, а які пасля, дык адну.

Яны і згадзіліся. Пабеглі. Ён боты на ногі, шапку на галаву, сеў на бронь-каналет і паляцеў. Прыбеглі чэрці на тое месца. Адзін кажа:

— Вось і падзялілі: асталіся без нічога.

Доўга ці коратка ляцеў Янка, бачыць — штосьці віднеецца. Ён і пытаецца ў бронь-каналета:

— Што гэта? Ці сонца ўсходзіць, ці агонь гарыць?

Бронь-каналет кажа:

— Гэта агонь гарыць у палацы тваёй большай сястры.

— Ну, дык вось ляці туды і спускайся.

Спусціўся бронь-каналет. Пайшоў паляшук у палац. Сястра ўбачыла брата і абрадавалася.

— Добра, братка, што ты да мяне прыбіўся. Але прыляціць мой муж Воран Воранавіч, дык ён цябе заб'е, калі ўбачыць.

Яна яго накарміла і ў асобную бакоўку зачыніла. Прылятае Воран Воранавіч. Адно ўступіў у палац і кажа на жонку:

— Ах, які тут рускі дух пахне.

— Мілы ты мой, ты па свеце лятаў, рускім духам насякнуўся, табе і цяпер пахне.

Дала яму есці і за вячэрай давай успамінаць пра брата:

— Вось астаўся ў мяне адзін брат. Што было б, каб ён прыляцеў да нас у госці?

Ён кажа:

— Што было б? Ну, выпілі, пагулялі б ды павесяліліся.

Дык яна прызнавалася, што брат тут.

— Заві яго сюды!— кажа Воран Воранавіч.

Зачалі піць і гулялі тры дні: выпівалі, спявалі, весяліліся. Прайшло тры дні, брат гаворыць:

— Ну, сястра, я ад цябе пайду.

Развітаўся і адходзіць. Яна вынімае рушнік і кажа:

— На табе, братка мой родны, ён табе ў дарозе спатрэбіцца.

Паляцеў да другой сястры. Таксама было і ў другой сястры — жонкі Арла Арловіча. І яна такі самы ручнік яму даравала. Сеў на бронь-каналет і паляцеў да трэцяй сястры. Убачыў агонь і пытаецца ў бронь-каналета:

— Ці сонца ўсходзіць і заходзіць, ці што?

Бронь-каналет адказвае:

— Гэта ў тваёй меншай сястры ў палацы агонь гарыць.

Гэты палац быў каля мора. Увайшоў ён у палац. Сястра абрадавалася, што ўбачыла брата:

— Ах, братка мой родны, добра, што ты прыбіўся да мяне. Але прыляціць мой мужык Судак Судаковіч, ён цябе забіць можа.

Напаіла брата, накарміла і ў асобную бакоўку схавала.

Мора ўсхвалявалася. Судак Судаковіч успляснуў хвастом, зрабіўся малайцом і ідзе ў свой палац. Увайшоўшы кажа:

— Ах, як тут рускім духам пахне.

Жонка гаворыць:

— Мілы мой, ты па моры плаваў, рускім духам насякнуўся, табе і цяпер пахне.

Дала яму есці. І пытаецца, што б было, калі брат прыляцеў бы да іх.

— Ды нічога не было б: выпілі б, пагулялі б ды павесяліліся.

Ну, дык яна паклікала брата, і яны пачалі піць, гуляць, весяліцца. Пры выпіўцы, пры размове брат кажа:

— Ну, я астаўся адзін цяпер. Як бы і мне ажаніцца і жыць?

Судак Судаковіч падумаў і гаворыць:

— Ёсць у адным каралеўстве каралеўна, але не з такім шчасцем-доляй дабіцца яе. Нас было трох братоў, не такіх, як ты, ды і то не дабіліся, дык і табе не раю думаць аб гэтым.

Але брат распытаў, дзе, у якім каралеўстве знаходзіцца яна.

Развітаўся з сястрой і адыходзіць. І яна дала яму ручнік.

— На, братка родны, ён табе ў дарозе спатрэбіцца.

Сеў на бронь-каналет і паляцеў. Доўга ці коратка ён ляцеў, бачыць — нешта віднеецца. Ён і пытае ў бронь-каналета:

— Гэта сонца ўсходзіць ці агонь гарыць?

— Гэта,— кажа бронь-каналет,— агонь гарыць у палацы каралеўны.

— Ну, дык вось, ляці туды і спускайся.

Спусціўся бронь-каналет. Паляшук пайшоў у палац, а каралеўскія слугі не пушчаюць яго. Ён кажа слугам, што прыехаў

у сваты. Ну, тады прапусцілі. А ў той каралеўны была яма. Як хто прыедзе ў сваты, дык кіне ў тую яму і есці нічога не дае. Як кіне свежага чалавека, дык тыя, што там знаходзяцца, яго раздзяруць і ядуць. Захацела каралеўна, каб з'елі і гэтага свата. Ну, і скамандавала слугам кінуць яго ў яму. Яго і кінулі.

Праз некалькі гадзін яна кажа на слугу:

— Пайдзі паслухай, што ў яме робіцца.

А як слуга пайшоў, дык выняў ён ручнік. Як страсянуў, дык з таго ручніка і піці, і есці, і музыка — чаго хочаш. Як пайшоў слуга каралеўскі слухаць, не наслухаецца музыкі, не адходзіць ад ямы. Потым прыходзіць да каралеўны. Яна пытаецца:

— Чаго там доўга быў?

— Вось, каралеўна, каб вы пайшлі, дык і вы доўга былі б: не наслухаецца, не нацешыцца, так цудоўна там музыка іграе.

Пайшла каралеўна туды паглядзець. Папраўдзе, гуляюць у яме, п'юць, пяюць, іграюць. Ну, яна кліча яго:

— Янка, што ў вас?

— А вось з гэтага ручніка ўсе.

Каралеўна пытае:

— Можа, гэты ручнік прадажны?

— Не,— гаворыць,— не прадажны, але заветны.

— А як яго завясціць?

— Няхай каралеўна па калені мне свае ногі пакажа, дык і аддам.

Ну, яна паказала калені і забрала ручнік. Забрала і думае: «З'ядуць яго цяпер».

Зноў выправіла слугу паглядзець. А ён другі ручнік страсянуў — яшчэ лепей там стала гуляць і банкетаваць. Уведала аб гэтым каралеўна і сама прыходзіць і пытае:

— Ці прадажны ў вас ручнік?

— Не прадажны, а заветны. Няхай каралеўна па пояс сваё цела пакажа, дык і аддам.

Ну, як паказала, ён і аддаў.

А ён ужо трэці ручнік страсянуў, дык у яме яшчэ лепей стала.

Зноў каралеўна выпраўляе слугу паглядзець, што ў яме робіцца. А потым сама пайшла і кліча:

— Што ў вас, Янка, такое?

А ён паказвае ручнік.

— Вось ужо апошні.

— А як яго завясціць?

— Няхай каралеўна ўся пакажацца.

Ну, яна падумала і згадзілася. Зайшлі яны ў асобны пакой. Яна яго абняла і пацалавала.

— Вось,— гаворыць,— будзеш мне мужам.

Пажаніліся і давай жыць.

Выбіраецца каралеўна ў сад гуляць, аддае яму ключы і кажа:

— Куды хочаш ідзі, а ў гэты пакой не заходзь.

Яна выйшла, дык ён падумаў: «Чаму сюды не заходзіць?» Зацікавіла яго, ён і зайшоў. Як адчыніў пакой, бачыць — вісіць там змей. Падвязаны пад рукі вісіць.

Змей давай прасіцца:

— Адчапі мяне. Будзеш ты за тое жыць тры вякі. Адчапі мяне.

Ён падумаў: «Добра тры вякі пражыць». Узяў ды і адчапіў. Як адчапіў, дык змей і папёр у сад за каралеўнай і панёс яе.

Астаўся ён без нічога. Рашыў садзіцца на бронь-каналет і ляцець шукаць жонку. Доўга ці коратка ён ляцеў, бачыць, віднеецца нешта. Ён пытае бронь-каналет:

— То сонца ўсходзіць ці агонь гарыць?

Бронь-каналет кажа:

— Гэта агонь гарыць у царстве змея.

— Дык вось ляці туды і спускайся.

Ён пайшоў у палац змея, але яго дома не было, толькі каралеўна. Ён з сваёй жонкай на бронь-каналет і паляцелі. А ў змея быў конь лятучы, што ўсё відаў. І гаворыць змею:

— Вашай новай жонкі няма.

— А дзе яна?

— Янка забраў яе, на бронь-каналеце паляцелі.

Дык змей пытае ў каня:

— Ці паспеем ніву ўзараць, засеяць і піва варыць?

— Уга, паспеем.

Ніву ўзаралі, засеялі, піва напіліся і давай даганяць. Дагналі Янку, і адняў у яго змей жонку і сказаў:

— Вось ты ўжо адзін век пражыў.

І другі раз Янка прыляцеў да змея і ўкраў каралеўну. І таксама было. Змей сказаў:

— Вось ты ўжо другі век пражыў.

А трэці раз змей дагнаў яго і сказаў:

— Ты пражыў сваё!

І забіў яго, і закапаў, і слуп паставіў, і табліцу напісаў: «Янка-паляшук за жонку-каралеўну загінуў». А бронь-каналет змей забраў з сабой.

На другі дзень Воран Воранавіч, Арол Арловіч і Судак Судаковіч ездзілі на палявакне. Падышлі пад гэты слуп, прачыталі гэту табліцу і пазналі, што гэта іхні швагер забіты. Так Судак Судаковіч гаворыць:

— Казаў я яму, што не з яго шчасцем-доляй дабіцца гэтае каралеўны. Вось і загінуў за яе.

Сталі яны адкапваць яго магілу. Адкапалі. А ў іх была жывая і мёртвая вада ў флягах. Яны мёртваю скрапілі — раны загаіліся. Крапянулі жывой — аджыў. Развіталіся з ім швагры і паехалі ў сваю дарогу.

Ну, што ж, у яго бронь-каналета ўжо няма. Давай ісці, але не ведае, куды ісці. Доўга ці коратка ён ішоў і падышоў пад балота. А там чорт лазу цягнуў ды загразнуў у багне і не выцягне пука лазы. Ну, ён задумаў дапамагчы чорту. Як памог, дык выратаваў чорта, і пук удвух выцягнулі яны.

— Ну,— гаворыць чорт,— я ведаю, куды ты ідзеш. Вось ідзі на той футар. Там жыве ведзьма. Яна будзе даваць службу на тры дні і абяцаць табе каня. Дык ты згаджайся. Я табе дапамагу.

Падыходзіць пад тую хату, а яна жалезным парканам агароджана і на кожным жалезным коліку чалавечая галава. На адным няма галавы. Ён падумаў: «Мая ўжо тут будзе».

Усё ж такі зайшоў у хату і пытаецца ў бабы:

— Можа, якая служба ёсць?

Яна гаворыць:

— Ёсць. Калі ўпасеш у мяне тры дні каня, дам чаго хочаш, а як не ўпасеш, будзе твая галава на калу.

Ну, і дала яму весці пасціць каня. Ён павёў, а той чорт ужо кліча яго. Чорт зрабіў загароду з дроту, як на вайне. Упусцілі туды каня і пільнуюць яго. Конь біўся, біўся і прапасціўся цэлы дзень. Як узяўся Янка весці каня, дык чорт сказаў:

— Кладзіся спаць у стайні. Ведзьма прыйдзе туды біць гэтага каня, чаму не ўцёк.

Ён так і зрабіў і есці не ўзяў. Лёг у стайні. Прыходзіць уночы баба і давай біць каня. Б'е і пытае:

— Чаму не ўцёк?

А конь гаворыць:

— Як я ўцяку? І там колецца, і там колецца.

На другі дзень ён зноў павёў каня пасвіць і прапасвіў таксама, ужо без чорта.

На трэці дзень ведзьма нагатавала яму і смажанага, і варанага і сонных капель напусціла ў яду, каб ён заснуў і ўцёк конь.

Пабыў ён тры дні галодны і з'еў усё, што яму дала яна. І калі стаў пасвіць, захацелася яму спаць. А чорт збоку гаворыць:

— Не палохайся, чалавек, я пільную.

Ну, і прапасвіў чорт увесь дзень. На адыходзе чорт гаворыць яму:

— Глядзі ж, каб гэтага самага каня ўзяў сабе. Гэта баба так яго саб'е, што ён будзе выглядаць горш за ўсіх яе коней. Гэты конь — меншы брат каня змея, але гэты конь яшчэ малады, і калі выгадуецца, будзе лятаць па паветру.

Завёў каня, павячэраў і лёг спаць. Устаў раніцай і гаворыць на бабу:

— Ну, ужо я іду.

— Я табе абяцала і што хоч дам.

— Мне каня трэба.

Вывела яна шмат каней і таго горшага, якога збіла.

Ён кажа:

— Вось, бабуля, мне гэтага найгоршага.

Дык яна:

— Бяры лепшага, куды заедзеш на ім?

— Хопіць з мяне і гэтага.

Ну, яна і аддала яму. Паехаў.

Доўга ці коратка ён ехаў, конь кажа:

— Я слабы яшчэ. Я ведаю, куды ты хочаш ехаць — да змея па сваю каралеўну. Але я не спраўлюся з маім лятучым братам — гэта мой брат у змея. Дай ты мне месяц адпачынку, а сам ідзі да якога-небудзь дзядзькі, папрацуй у яго. На адыходзе прасі, каб табе вяроўкі далі, а я буду на гэтым месцы пасвіцца.

Ён злез з каня і пайшоў у вёску. Зайшоў у першую хату:

— Можа, у вас якая праца ёсць? Папрацаваць магу месяц.

— Чаму не,— кажа нейкі дзядзька,— працы хапае. Аставайся.

Прабыў Янка ў яго месяц і гаворыць:

— Ну, я ўжо ад вас адыходжу.

Дзядзька кажа:

— Трэба табе заплаціць.

— Дайце мне вяроўкі.

Дзядзька смешкі састроіў:

— Што ты, хочаш павесіцца?

Пажартаваў гаспадар, потым даў яму вяроўку і хлеба на дарогу і яшчэ заплаціў за добрую працу.

Пайшоў Янка на тое месца, дзе пасвіўся конь. Конь гаворыць на яго:

— Садзіся на мяне і прывязвайся да мяне моцна.

Конь як пайшоў, ажно вецер засвістаў. Даляцеў конь да палаца змея куды хутчэй, чым бронь-каналет. Янка злез з каня і пайшоў у палац. Змея якраз не было, толькі каралеўна. Забраў яе, пасадзіў на каня, і паляцелі.

Конь змеяў і кажа змею:

— Няма ўжо нашай гаспадыні-каралеўны.

Змей пытае:

— А дзе ж яна?

— Зноў гэты паляшук забраў.

— Ды я ж забіў яго.

— Швагры яго адкапалі, ажывілі, і ён паехаў.

— Ці ўправімся мы ніву ўзараць, зжаць, піва напіцца?— пытае змей.

Конь кажа:

— Якое там піва! Не паспеем і чаю напіцца.

— Ну, дык давай даганяць.

Даганялі, даганялі і блізка ўжо пад'язджаюць. Конь, на якім Янка ехаў, адвярнуўся назад і гаворыць на каня змея:

— Брат даражэнькі, я гэта ж вязу рускага чалавека, а ты вязеш нячыстую сілу на сабе. Спатыкніся на левую нагу, скінь змея.

Змееў конь спатыкнуўся і як кінуў змея, дык і ўстаць той не можа. Янка саскочыў з каня і дабіў нячыстую сілу. Забраў і гэтага каня. Сам сеў на яго, а каралеўне аддаў свайго, і прыехалі яны хутка ў свой палац жыць.

Можа і цяпер жывуць, не ведаю.

## 69. ПРАКРАСНАЯ ДЗЯВІЦА АЛЕНА

Жыў сабе цар. І меў ён сабе пяцера дзяцей. Первы сын радзіўся, нязвесна дзе дзеўся, а чэцьвера жыўшых астаўшыся — тры сястры, брат адзін. Потым памерла царыца і ўслед цар. Да. І гасудар прыказаў свайму сыну, гэтаму младшаму, і сказаў яму, што сматры, мой сын, я памру, сматры, мой сын, за сваімі сястрамі, і як будуць сватацца, дак глядзі не выбірай, за пергага аддавай,— хто б ні прыйшоў, да!— ён гавора.

Ну, памёр цар, асталісь дзеці адны. Дайшоў ён сваіх лет, справіў ён сабе ружайцо. І ён за[а]хвоціўся на [а]хвоту прайці.

Прайшоў нямнога ад дому, вярсты ў дзве, сустракае старычка. Ён здрастуецца з ім, з старычком:

— Здрастуй,— гавора,— старычок!

— Здрастуй,— гавора,— Маладзенец царскі сын!

Ён спрашывае, старычок:

— Куды ты йдзеш, царскі сын?

— А йду на [а]хвоту. А ты куды ідзеш, старычок?

— А іду к табе ў сваты к большай сястрэ. Варацімося назад гарэлку піць!

— Да, айцец мне прыказаў, штоб я не адказваў. Пойдам,— кажа,— назад!

Ну, яны варацілісь назад дамоў, аж няма большай сястры— няма дзе дзелась. Яны туды-суды, гукаць яе, шукаць па двару там, па саду, ну, нідзе не знайшлі, — немаведама, дзе дзелась. Асталісь яны ўтраіх жыць. Пражылі яны год. Ён апяць пайшоў на [а]хвоту. І апяць нямнога прайшоў, апяць сустракае старыка. Потым ён спрашывае, старычок:

— Куды йдзеш, Маладзенец царскі сын?

— На [а]хвоту, а ты куды, дзедушка?

— Я іду ў сваты к тваёй сярэдняй сястрэ. Варацімося назад дамоў, гарэлку піць!

— Варацімось! Аднак мне бацька прыказаў не [а]дказваць. У мяне шчэ засталось дзве!

Ну, прыходжуюць яны ў дом — нету той сярэдняй сястры.

— Дзе яна?

— А не ведаю!

Ну, шукалі яе, гукалі і не знайшлі. Асталісь яны ўдвох жыць. Ну, й апяць яны пражылі год пасля таго. І случылась яму апяць іціць на [а]хвоту. Нямнога ён прайшоў, апяць вярсты дзве, і апяць сустракаецца з старыком.

— Здрастуй,— гавора,— дзедушка!

— Здрастуй, здрастуй, Маладзенец царскі сын! Куды йдзеш?

— На ахвоту! А ты куды, дзедушка?

— Я іду ў сваты к тваёй меншай сястрэ!

— Ах, дзедушка-галубчык, у мяне ж толькі адна асталась. Ну, а толькі па бацькаваму вяленню, дак я не магу адказаць!

Варацілісь яны ў дом — няма нікога. Ён шукаў, гукаў яе ў доме, па саду — няма! Ён плакаў, плакаў і астаўся адзін ужо. Да, ён тожа так сабе абдумаўся: «Пайшлі мае сёстры так замуж, пайду і я так у сваты: каго ні сустрэну, вазьму: ці жыдоўку, ці цыганку, каго сустрэну». Вот ён сабраўся і пайшоў.

Ішоў, ішоў, бача ён — ідзе жэншчына з маладзенцам малым шчэ, шчэ толькі тры нядзелі, як нарадзіўся на гэты свет. Ён прыбліжаецца к ёй бліжы.

— Здрастуй табе, бабка!

— Здрастуй, Маладзенец царскі сын!

— Што ж ты,— гавора,— удава ці замужняя?

Яна яму атвяшчае:

— Я ўдава!

— Ну, калі ты ўдава, дак ты будзеш мая жана!

А маладзенец на руках гавора:

— Не,— гавора,— Маладзенец царскі сын, не будзе мая матушка твая жана. Твая жана за трыжды-дзевяць зямель, на дзесятым царстве, у белай Беляіне, у белым шатры, прыўкрасная дзявіца Алена. То твая жана, а мая матушка не будзе твая жана!

А ён адказуе:

— Як жа мне туды даступіцца?

А ён атвяшчае:

— Ідзі нагамі, глядзі вачамі, так і дайдзеш!

Вярнуўся ён у свой дом, сабраўся ўжо палуччы, набраў грошай з сабою і пайшоў. Ішоў, ішоў ён, двое сутак. На трэція суткі ўбачыў ён дом харошы, прыўкрасны. І захацелась яму зайсці ў гэты дом. Заходжуе ён у дом, аж там напят палажок пасярод двара. Ён прыходзе к гэтаму палажку і смотра, што гэта такое дзелаецца. Аж там спіць чалавек. Ён зняў з плеч шаблю да хацеў яго зарубіць. А тады паглядзеў на яго, а ў яго від такі, як у яго: волас у волас, голас у голас, ліцо ў ліцо, чаботы як адно, і ружжы як адно, і шаблі як адна, і шапкі ўсё адно як адна. Ён тады яго абжалеў і падумаў, што і ён такі гарэтнік, як і я. І не зарубіў яго. Лёг каля яго і заснуў. Ён заснуў, а цераз паўчаса той прашнуўся. Прашынаецца той і хацеў яго зарубіць. А пасля абдумаўся: «Да што ж? І ён на мяне найшоў на соннага і мог мяне зарубіць, а не зарубіў, не чапаў. І я яго не буду чапаць. Няхай ён прашнецца, тады мы пабачым, што ён за чалавек. І ён такі гарэтнік, як я!» І пайшоў у дом. Прашнуўся царскі сын, аж выходзе і той із дому. Ну, ён яго спрашуе:

— Ах, брат ты мой, галубчык, як цябе бог суды занёс?

— А вот па такому і такому злучаю!

— Ну, добра, хадзі ж, мы з табой пап'ём, пагуляем!

Селі яны піць, гуляць, двое сутак гулялі. І прызналі адзін аднаго. На трэція суткі большы брат гавора:

— Ну,— гавора,— брат, едзь ты сабе з богам, а мне трэба ваяваць, на войну ехаць!

А ён яму адвясціў:

— Ах, брат, аддыхні трохі, давай я за цябе паеду!

А ён гавора:

— Калі ласку, брат, маеш, едзь сабе!

Да. Ён тады яму сказаў:

— Глядзі ж, брат, усіх будзеш біць, усіх ваяваць, а толькі адзін будзе ў белым плацці, таго,— гавора,— не трогай!

Да. Вот ён і паехаў. Уехаў у войска і пачаў касіць: па правы бок — як мякіна, а па левы — як салома. Дабраўся да таго, хацеў біць, а пасля абдумаўся: «Ах, брат мне гаварыў, штоб я яго не трогаў!» Узяў павярнуў, паехаў к брату. Прыязджае ён к брату, селі яны піць, гуляць. Спрашуе той:

— А што, брат, адваяваўся?

— Адваяваўся!

— А таго ж не чапаў?

— Не, брат, не чапаў!

— Ну й,— гавора,— малайчына!

Двое сутак пілі, гулялі, добрыя мыслі малі, на трэція большы брат гавора:

— Ідзі, брат! Мне апяць трэба іці на вайну!

Да. Ён апяць яму гавора:

— Ах, брат, аддыш ты, давай я шчэ раз з'езджу за цябе!

А ён гавора:

— Калі ахвоту маеш, едзь сабе!

Вот ён і паехаў. І ён яму прыказаў:

— Глядзі ж, брат, усіх бі, усіх вакой, толькі адзін будзе ў зялёным плацці, то таго не чапай!

Вот ён і паехаў. Прыязджае ён у войска і пачаў касіць: па правы бок — як салома ляціць, а па левы — як мякіна. І да тых пор касіў, пакуль дабраўся да гэтага мальчыка ў зялёным плацці. Ён дабраўся да яго і абдумаўся: «Ах, брат мне сказаў, штоб я не чапаў яго!» Узяў аставіў і вараціўся назад к брату. Яны апяць селі піць, гуляць. І той спрашуе:

— Ну што, брат, адваяваўся?

— Адваяваўся!

— А таго не чапаў?

— Не, не чапаў!

— Ну й малайчына, што не чапаў!

Ну, яны селі піць, гуляць, двое сутак пілі, гулялі, добрыя мыслі малі, а на трэція суткі большы брат гавора:

— Ідзі ты, брат, сабе ўжо з богам, а мне трэба ў войска!

— Ах, брат, дай я з'езджу за цябе ў трэці раз; усё раўно ў мяне час е, а ты аддыхай!

— Ну, едзь сабе, брат, калі ахвоту маеш, толькі ўсіх бі, усіх ваюй, а адзін будзе ў красным плацці, таго не чапай!

Дак ён і паехаў! Уехаў у войска і пачаў касіць: направа — як салома, налева — як мякіна ляціць. Усіх пабіў, пакасіў, дабраўся да таго й таго зарубіў — дужа, бач, рассярчаў. Ён варочіцца назад, селі піць, гуляць.

— Ну, што ж, брат, адваяваўсь?

— Адваяваўсь!

— А таго ж не чапаў?

— Не, брат, зарубіў!

— Ах, брат,— гавора,— што ты яго зарубіў? Хто ж нам за яго атвеце?

— Што ж, хто атвеце: я зарубіў, я й атвечу!

— Ну,— гавора,— бог з табой!

Селі, гэта, яны піць, гуляць, двое сутак папілі, пагулялі, добрыя мыслі памалі, а на трэція гавора:

— Ідзі ты брат, а мне ізноў нада ў войска!

Ну, той паехаў, а ён сабе пайшоў сваёй дарогай, куды бог даў. Ну, ён і пайшоў.

Ішоў ён сутак двое, а на трэція суткі абначыўся. І ўстаў параньшы, і ўбачыў ён харошы, пракрасны дом. Заходжуе ён у гэты дом; у гэтым доме сядзіць глаўны пташкін цар, што над усімі пташкамі. Ён уходжуе ў гэты дом і гавора:

— Здрастуй, пташкін цар!

— Здрастуй, здрастуй, Маладзенец царскі сын! Куды бог нясе?

Ён яго атвяшчае:

— Ах,— гавора,— вы такія прахаджалыя людзі, усюды бывалі, усё відалі, ці не відзелі, дзе жыве за трыжды-дзевяць зямель у трыдзесятым царстве, у белай Беляіне, у белым шатры сядзіць дзевушка, Пракрасная Алена?

Ну, ён гавора:

— Ах, брат ты мой, я першы раз ад цябе слышу. Ужо я прахаджаў і праязджаў, ну гэтага не слыхаў! А потым, абгадзі, брат, трошкі!

Выходжуе на крыльцо да крыкнуў і свіснуў — сабіраецца к яму ўсё птаства. Яны ўсе сабіраюцца к яму:

— Ох, цар наш, зачым ты нас трэбуеш?

— Ах, птаство, вы ўсюды лятаеце, можа вы дзе відалі, ці слыхалі, дзе жыве за трыжды-дзевяць зямель у трыдзесятым царстве, у белай Беляіне, у белым шатры сядзіць пракрасная дзевушка Алена?

Ну, яны гавораць:

— Мы ўжо пралёталі дале́ка, увесь белы свет, а толькі ад вас перва чуем. Не відзелі нідзе,— гавораць.

Да. І ён атвяшчае яму:

— Ідзі, брат, сабе з богам, калі найдзеш!

Яны папрашчалісь, ён і пайшоў сабе сваёй дарогай. Ішоў суткі, ішоў другія, на трэція бача — стаіць дом, пракрасны, харошы. Ён заходзіць у гэты дом, ажно ў гэтым доме сядзіць звярны цар. Ён і спрашуе:

— Аб чом, брацец, прыйшоў?

— Да так зайшоў. Толькі вы не прагневайцесь, аб чым я вас буду спрашываць?

— А ну, брат, атвяшчай!

Ён гавора:

— Вы-такі такія людзі, што ўсюды ходзіце, бегаеце, ці не чулі вы, ці не бачылі дзе, на трыжды-дзевятай зямлі, у дзесятым царстве, у белай Беляіне, у белым шатры сядзіць прыўкрасная дзевушка Алена?

Ён і гавора:

— Ну, брат,— гавора,— я ад цябе першы раз гэта слышу; я ўжо прабегаў увесь свет, а толькі нідзе не чуў, не бачыў. А протчым, абгадзі трошкі!

Выходжуе ён на крылцо, свісне да крыкне — збягаецца ўсё звяр'ё к яму: сабакі, ваўкі, медзвядзі́, і ле́вы, і лісы, і ўсё. Яны гавораць яму:

— Аб чом нас, цар, трэбуеш?

— Ах вы, зверы бягомыя, ці не чулі, ці не бачылі, што на трыжды-дзевяць зямель, у дзесятым царстве, у белай Беляіне е прыўкрасная дзявіца Алена?

— Не,— гавораць,— першы раз ад вас чуем. Ужо мы ўсюды бегаем, а не бачылі і не чулі нідзе! А потым,— гавораць,— е ў нас старая мядзведзіца, сем лет на [а]дном баку ляжыць, тая можа ці не знае, тую спрасіць!

Ён і крыкнуў, і свіснуў! Падымаецца яна на ногі, бягіць к яму, аж косці бражчаць. Яна яму атвяшчае:

— Ах, цар, нашто ты мяне трэбуеш, патрывожыў маю старасць?

— Ну, старушка, нізвіні, слухай, што я цябе буду спрашываць!

— Нуце, спрашуйце ў мяне!

— Ты-такі старая жэншчына, у маладосці многа прабегала, многа бачыла,— ці не знаеш ты, дзе на трыжды-дзевяць зямель, у дзесятым царстве, у белай Беляіне, у белым шатры е прыўкрасная дзявіца Алена?

А яна атвяшчае:

— Я,— гавора,— з маладосці прабягала часта тудой, я,— гавора,— знаю, дзе яна жыве!

Да. Ён ёй атвяшчае:

— Вядзі,— гавора,— старушка, во гэтага чалавека туды! Толькі табе ў прыказе, штоб усё было благапалушна!

А яна адказуе:

— Не бойцесь, будзе ўсё сахранна!

Да. Пайшлі яны абодвы. І не даходзячы так вёрст пяці ці шасці, яна гавора:

— А што,— гавора,— Іванька, відзіш ты цяпер яго?

— Не,— гавора,— не віджу, шчэ харашо не замечу!

Яны пайшлі па бліжнасці. Прайшлі яшчэ вярсты тры, яна апяць паказуе:

— Ну што, Іванька, бачыш цяпер?

— Цяпер,— гавора,— бачу!

— Ну, калі бачыш, дак ідзі сабе!

А сама варацілася назад яна. Вот ён і пайшоў.

Уходжуе к ёй, у ей балаган.

— Здрастуй,— гавора,— дзевушка, Прыўкрасная Алена!

— Здрастуй, здрастуй, мальчышачка — царскі сын! Я знаю, зачым ты прыйшоў: хочаш мяне за жану ўзяць. Харош-прыгож мальчышачка, ну толькі гэта не прыйдзецца: зачым ты майго брата зарубіў?

Ён ёй атвяшчае:

— Ах,— гавора,— вінават, да не праклят! Я зарубіў, й атвечу!

Яна яму атвяшчае:

— Стой жа,— гавора,— цяпер! Толькі што мне цябе жалка, а то б ты атвеціў ба і прапаў. На ж табе пару простых нажоў, і стрэнеш ты бабку старэнькую, маленькую і з зялезнай трасцінаачкай. І ты,— гавора,— будзеш з ёй стракацца, і ты скажаш: «Здрастуй, бабка, мая галубка!»

Цяпер яна яму сказала:

— Як ты скажаш: «Здрастуй!», яна табе скажа: «Здрастуй, здрастуй, с... сын, нашто ты майго сына зарубіў?» А ты ёй скажы: «Ах, бабка, мая галубка, прасці мне!» Яна скажа: «Прашчу, толькі пакланіся ў ногі!» Дак глядзі,— гавора,— будзеш ты кланяцца ёй, дак,— гавора,— нізка не кланяйся, а то яна цябе трасціной як покне, дак і ўб'е. А ты не дужа сагінайся, да хвацi яе гэтымі нажамі пад пахі, дак яна і скіпіць!..

Ну, ён пайшоў. Ішоў, ішоў, сустракаецца баба з зялезнай трасціначкай.

— Здрастуй,— кажа,— бабка, мая галубка!

— А здарова, здарова, с... сын! Гэта ты майго сына зарубіў?

— Ах, бабка, мая галубка, прасці мне!

— Ну,— гавора,— паклонішся ў ногі, дак прашчу!

Ён толькі нібытцам стаў кланяцца да і хваціў яе нажамі гэтымі. Яна там і скіпела на нажах. Ён яе бросіў і вараціўся назад. Прыходзе ён узноў к гэтай.

— Ну, што — гавора,— запароў?

— Запароў!

— Ну, вот,— гавора,— цяперака будам з табой жаніцца!

Ну, яны, даждаўшыся скрасення, і пажаніліся. І пажылі яны два дні. Яна яму дае ключы:

— Ідзі,— гавора,— мой мілы, палюбуйся па маім жыцелству, па саду, па вінаграду. Толькі ўсюдах хадзі, усюдах любуйся, толькі там будзе стаяць хатка, лычкам завязана, г... замазана, дак у тую не глядзі. А то ўсюдах сабе любуйся хадзі!

Ну, ён і пайшоў, любаваўся ў гэтым саду. Дайшоў да гэтай хаткі, і ўзяла яго цікавасць:

— Як гэта можа быць? Я ўжо цяпер хадзяін і каб я не глядзеў у гэту хатку!

Ну, узяў гэта г... абцёр, лычка развязаў і глядзіць. Аж там змей кіпіць у катле. Ён тады гавора:

— Здрастуй, здрастуй, Іван Іванавіч царэвіч!

— Здрастуй, здрастуй, змей! Зачым ты сюды папаў?

— Ах, брат ты мой, ратуй ты мяне адсюль: дарую табе тры смерці!

Ну, ён падумаў, падумаў: «Во, тры смерці даруе — гэта я доўга буду жыць! Адратую я яго!»

— Як жа мне цябе адсюль ратаваць?

А ён гавора:

— Падай мне, брат, вядро гарэлкі і торбу сухароў, трэба мне пакрапіцца!

Ён яму падаў вядро гарэлкі і торбу сухароў. Ён выпіў, закусіў, тады гавора:

— Хадзі, брат, ка мне сюды, падай мне руку!

Ён падходзе к яму, падаў яму руку — аж ён так і выскачыў, і паляцеў! Пакуль ён зачыніў, гэта, дэверы, г... замазаў, лычкам завязаў, прыходзе ў дом, ажно ўжо няма жонкі: змей ухваціў і панёс у сваё царства. А ён да спрэжда хацеў яе ўзяць, дак яе матка была сілней за яго, дак яна і ўсадзіла яго ў гэта пекла. Ён паплакаў, паплакаў, сабраўся і пайшоў зноў у свет белы, шукаць яе. Вот і пайшоў.

Ішоў ён суткі, ішоў другія, а на трэція суткі ўбачыў ён зялёны дом з жалезнай крышай, пракрасны, харошы! Ён заходзе ў гэты дом, аж там яго сястра большая сядзіць. Ушоў ён, яны адзін на [а]днаго зірнулі і заплакалі абодвы:

— Ах, брат! Даваў табе бог шчасця, да не ўмеў ты яго шанаваць, што не саблюў ты, што яна табе прыказала!

Ён гавора:

— Ну што ж, сястра, гора, да нечага дзелаць! Трэба йцiць шукаць яе!

— Да,— гавора,— знайдзеш, да не вазьмеш: ён — гавора,— уб'е цябе, закалоце!

— Ну што,— гавора,— сястра, дзелаць: уб'е, дак и ёй не буду рупіцца тады, а яна мне!..

Яна яго садзіць, напрымер, угашчэнне дзелаць: напаіла, накарміла. Ён гэта сабіраецца іціць:

— Прашчай, сястра!

А яна гавора:

— Ах, братка мой любы, хоць ба ты шчэ трошкі ў мяне пагасцяваў, да я баюся, што мой мужык цябе ўб'е! Мой мужык — Гром!

— А я, сястра, пайду ўжо!

— Не, брат, стой, я цябе схаваю!

Узяла і схавала яго пад койку. Удруг пад паўдня стучыць, грыміць — і ўходзе ў дом. Пахадзіў па комлаце, пахадзіў і гавора:

— Ах, жана мая любая, русь-кось пахне!

— Ах, мой муж любы, муж мой дарагі: ты па свету лятаў, русі-косі набраўся, яна табе і тут пахне!

— Ну, нічога,— гавора,— давай абедаць!

Удруг селі яны абедаць, от яна як узяла адну ложачку, сычас у яе сляза і пакацілась. Ён у яе спрашуе:

— Ах, жана мая любая, жана мая дарагая, пачаму вы плачаце?

А яна гавора:

— Як жа мне не плакаць, колькі нас было ў ватца, дак не толькі не ўбачымся, а дажа не ўчуем, дзе каторы пражывае!

Ён і гавора:

— Ах, дурні вы,— гавора.— Разве вы ў худое места папалі? Што вам тут худа?

А яна гавора:

— Што калі б мой брат цяпер прыбыў, як ба мы яго прынялі?

— Вот дура баба: хіба ў нас хлеба-солі няма? Мы б папілі, паелі, добрыя мыслі памелі б!

А яна гавора:

— Ён,— гавора,— тут, я яго схавала!

А ён тады гавора:

— Эй, шур'як, вылазь! Дзе ты,— гавора,— схаваўся?

От як крыкнуў ён: «Шур'як, вылазь!» — ён і вылез з-пад пола. От ён паздраствуваўся, пасадзіў за стол, селі піць, гуляць на трое сутак: пілі, гулялі, добрыя мыслі малі. На чацвёртыя суткі ён гавора:

— Ну, шур'як, ідзі сабе з богам, куды табе трэба, а мне трэба йці ў белы свет!

Ну, потым ён пайшоў. Ідзе суткі, ідзе другія, на трэція ўбачыў дом, прыатлішны, харошы. Заходжуе ён у гэты дом, аж там сядзіць яго сярэдняя сястра. І гэту знайшоў. Ну, яны зірнулі адзін на адзін і заплакалі.

— Ах, братка ты мой родны! Даваў табе бог шчасця-долю, да не ўмеў ты шанавацца, не ўмеў слухаць яе! Прапаў ты цяпер!

— Ну што ж,— гавора,— будзем дзелаць: прапаў дак прапаў! Пайду шукаць яе!

— Да,— гавора,— знайдзеш, да не вазьмéш, ён цябе ўб'е!

— Ну што ж дзелаць: уб'е не ўб'е, а хоць рупіцца адзін аднаму не будам!

Ну, яна трошкі яго папаіла, пакарміла.

— Ах, мой брат! Пагасцяваў ба ты ў мяне, дак баюся, што мой мужык, Мароз, замарозе цябе!

— Ну што ж, сястра, я пайду!

— Ну не,— гавора,— я цябе схаваю!

І схавала яна яго пад койку. Вот сонюшка ўстае, абвутрыла, Мароз растаў і ідзе ў хату. Пахадзіў, пахадзіў па хаце:

— А што, жана, русь-кось пахне!

А яна яму атвяшчае:

— Хадзілі па беламу свету, русі-косі набраліся, і тут пахне!

— Ну, нічога, гэта ўсё пустое, давайце абедаць!

Ну, яны селі абедаць. Яна як узяла першую ложачку, зачарэпнула і скушна заплакала.

— Жана мая любая, жана мая дарагая, чаго ты скушна плачаш?

— Як жа мне,— кажа,— друг мой мілы, не плакаць: колькі нас было ў бацькі, і нязвесна, хто дзе знаходзіцца. Ці давядзецца пабачыцца, ці не?

— Во,— гавора,— дурні вы, хіба вы ў худое места папалі!

— А што б вы,— гавора,— здзелалі, каб мой брат цяперака прыбыў?

— Ах, ты жана-дурань: хіба ў нас хлеба-солі няма? Мы б папілі, паелі да добрыя б мыслі памелі!

А яна гавора:

— Ён жа,— гавора,— тут! Я яго схавала!

Ён тады гавора:

— Эй, шур'як,— гавора,— дзе ты? Вылазь!

Ён сычас і вылажуе. Як вылез, сычас паздароўкаліся, павіталіся і селі піць, гуляць на трое сутак. Пілі, гулялі, добрыя мыслі малі, а на чацвёртыя суткі ён сабіраецца ў дарогу.

— Ну,— гавора,— швагра, ідзі сабе з богам, куды табе трэба, а мне трэба ў белы свет іціць!

Яны як папрашчаліся, пайшлі. Ён з сястрой папрашчаўся, пайшоў. Ішоў суткі, ішоў другія, на трэція бача — стаіць дом харошы, атлішны. Заходжуе ён у гэты дом, ажно яго самая младшая сястра ў гэтым доме. Як увайшоў ён у дом, зірнулі яны адзін на адзін і заплакалі.

— Ах, братка ты мой родны, даваў табе бог шчасця-долю, да не ўмеў ты шанаваць!

— Ну што ж,— гавора,— сястра, пайду цяпер шукаць яе!

— Да найці ты найдзеш яе, да ўзяць не вазьмеш! Ну,— гавора,— брат ты мой, сядзь ты ў мяне пагасцюй!

Сеў ён, папіў, паеў і хоча іці.

— Ах, братка мой любы, хацела б я, каб ты пагасцяваў, да баюся, каб мой мужык Дождж цябе не засек!

— Ну, дак што,— гавора,— дак я пайду!

— Не, пастой-ка, я цябе схаваю!

Ну й схавала яго пад койку. Так пад паўдня хмары разыш-

лісь, пагода ўстанаўляецца — ідзе Дождж. Пахадзіў, пахадзіў па хаце:

— А што,— гавора,— жана, русь-кось пахне!

— Ах, муж мой любы, муж мой дарагі, ты па свету лятаў, русі-косі набраўся, яна табе і тут пахне!

— Ну, нічога,— гавора,— давай абедаць!

Селі яны абедаць, яна адну ложку зачарэпнула і заплакала. Ён ёй гавора:

— Жана мая любая, жана мая дарагая, чаго ты плачаш?

— Як жа мне не плакаць: колькі нас было ў ватца, а цяпер мы і не ўчуем, дзе каторы прабывае, не толькі пабачыцца!

— Ах, якая ты дурань! Так вас бог любе! Разве вы ў худое места папалі?

А яна гавора:

— Што, калі б мой брат цяпер прыбыў, як ба мы прынялі яго?

— Ах, дурань-баба, хіба б мы хлеба-солі не знайшлі б? Папілі б, паелі, добрыя б мыслі памелі б!

А яна гавора:

— А ён жа тут!

От ён гавора:

— Вылязай, швагра, дзе ты схаваўся!

Ён вылез. Удруг яны пазнакоміліся, павіталісь, селі піць, гуляць. Пілі, гулялі, добрыя мыслі малі трое сутак. На чацвёртыя яны прашчаюцца. Младшая сястра прыгатовіла яму на дарогу.

— Ну,— гавора,— ідзі сабе, шур'як, з богам, куды ідзеш, а мне трэба ў белы свет іці!

Папрашчаўся ён, пайшоў. Ішоў, ішоў ён трое сутак, на чацвёртыя бача — стаіць дом прабальшы, агромны, каменны! І ён сам сабе думае: «Зайду-тка я ў гэты дом, падзіўлюсь, што тутака дзелаецца!» Заходзе ён у гэты дом, аж яго там жана сядзіць. Ён як увайшоў у комлату, яна гавора:

— Ах, муж мой любы, даваў нам бог шчасця-долю, да не ўмеў ты шанаваць, не ўмеў мяне слухаць! А цяперака ты мяне адсюля не вазьмеш, ён цябе ўб'е!

Ён яе абняў і гавора:

— Ах, жана мая любая, даўжно прапаў! А пойдам на шчасце!

А яна яму атвяшчае:

— Не,— гавора,— мой муж, ён нас дагоне, дак цябе ўб'е!

— Ну, што ж, уб'е дак уб'е, хоць адзін аб адным рупіцца не будам!..

І пайшлі яны адтуля. Пайшлі яны з таго дому; удруг у поўдні прылятае змей у дом. І ў яго быў хлопчык-служыцель. Прылятае і спрашуе:

— Хлопча, хадзяйка дома?

— Не,— гавора.

— А дзе ж яна?

— Ушлі!

— Ну, што ж,— гавора,— дагонім?

— Да,— гавора,— дагонім. Прэждзе выкапаем ляда, да пасеем жыта, да ўбяром, да памалоцім, да спяком хлеб, да з'ядзім — і то ў паўдарогі дагонім!

Ну, яны завінуліся ляда капаць. Выкапалі ляда, пасеялі жыта; жыта тое паспела, яны яго ўвабралі, памалацілі, намалолі мукі і напяклі хлеба. З'елі той хлеб і паехалі даганяць. У паўдарогі й дагнаў. Як дагнаў, так спусціўся:

— Ах, ты прывалокся суды! Ну, дзве смерці табе даруюцца. а шчэ адна астаецца. Трэба было цябе тады ўбіць і цяпер во; а шчэ раз прыйдзеш, дак шчэ тую падарую. А ў трэці раз прыйдзеш — уб'ю!

А сам узяў жонку і паляцеў назад. Ён астаўся адзін. Пастаяў, пастаяў, паплакаў, паплакаў да вярнуўся і ён туды назад к ёй. Прыходзе ён назад к ёй і гавора:

— Ах, жана мая любая, пойдам шчэ на шчасце!

— Не,— гавора,— муж мой любы, муж мой дарагі, ён нас дагоне і цябе ўб'е!

— А можа не ўб'е!

Упрасіў яе, узялі апяць пайшлі з ёй. Ну, ён апяць прылятае дамоў, змей:

— А што, хадзяйка дома?

— Не, няма!

— А дзе ж яна?

— Ушлі!

— А мы іх дагонім?

— А прэждзе выкапаем ляда, да пасеем пшаніцу, да памалоцім, намелем, да хлеба напяком, да з'ядзім — і то ў паўдарогі дагонім!

Ну, завінуліся яны ляда капаць, пшаніцу сеяць. Выкапалі ляда, пасеялі, увабралі тую пшаніцу, памалацілі, намалолі мукі, напяклі хлеба, з'елі і паехалі даганяць і ў паўдарогі дагналі. Ён яму і гавора:

— А што,— гавора,— ты не каешся? Ну, першы і пасledні раз ты тут! Як прыйдзеш шчэ — беспрыменна ўб'ю!

Ну, узяў жану і паляцеў, ён і астаўся адзін. Пастаяў там, паплакаў: што тут дзелаць? Пайду апяць к ёй!

Прыходзе ён апяць к ёй:

— Хадзем,— гавора,— усё адно мне прападаць!

Ублагаў яе; апяць пайшлі. Ён прылятае ў поўдні на другі дзень і пытае ў хлопчыка:

— А што, хлопча, хадзяйка дома?

— Не, няма, ушлі!

— А ці дагонім мы іх?

— А выкапаем упярод ляда, панасеем проса, да ўбяром, да натаўком, да кашы наварым, да паядзім — і то ў паўдарогі дагонім!

Ну, давай завінацца каля ляда. Насеялі проса, натаўклі, кашы наварылі, пад'елі, паехалі даганяць — у паўдарогі дагналі.

— Ну,— гавора,— пасledні раз ты хадзіў!

Як спусціўся, сычас яго ўбіў, на мелкія часці парубіў і па полю раскідаў.

Ну, гэта ўрэмя хадзілі яго швагры па беламу свету і ўсё гэта бачылі. Вярнулісь дамоў і расказуюць жонкам:

— От жа,— кажа,— няма вашага брата — убіў змей!

Яны ўзялі дома падзелалісь ластаўкамі: адна ўзяла жывыя вады, другая мяртвыя, прылятаюць туды, сабралі кусочкі і складуюць, як ён быў. Сычас склалі, гаюшчыя вады далі — ён зросся, жывушчыя далі — ён аджывіўся:

— Ох,— кажа,— як я доўга спаў!

Ну, яны сталі яму гаварыць:

— Ах, брат, ты не спаў, а цябе змей парубіў на мелкія часці. Гэта шчэ харашо, што ён так здзелаў; а калі б ён убіў да на [а]гні спаліў, то б мы нічога не здзелалі!

Ну, ён гавора:

— Ну, ужо ці спале, ці не, а пайду ўзноў на шчасце, што бог дасць!

А яны яго просяць:

— Братка, не йдзі, ён спале!

— Ну, ужо ці спале, ці не, а пайду!

Ён з імі папрашчаўся і пайшоў-такі назад к ёй. Ну, прыходжуе ён узноў к ёй, яна плача.

— Хадзем, жана!

А яна яго просе:

— Не, цяпер я ўжо з табой не пайду, я цябе луччы тут схаваю пакуль што!

Ну, яна яго схавала. Удруг ён прылятае ў поўдні. Прыляцеў і селі абедаць. Па[а]бедалі і ляглі спаць. Ляглі аддыхаць, яна гавора:

— Ах, мой муж мілы, мой муж дарагі! Няхай той муж мой жыў быў, дак ты мне праўды не казаў, а цяпер таго мужа няма: і скажы ты мне, па якому случаю ў цябе такая сілная крэпасць, што ніхто табе не дасць рады?

А ён ёй атвяшчае:

— Маё здароўе і сіла ўсё ў моры! Там,— гавора,— у моры ляжыць вол, а ў валу заяц, а ў зайцы вутка, а ў вутцы яйцо, ў яйцы ўсё здароўе маё і сіла сядзіць там! Калі б хто тое яйцо дастаў да ім мяне ўдарыў у лоб алі ў грудзі, тут ба мне і канец!

Ну, ён, як аддыхнуўшы, паляцеў, а яна яго тады ўзбудзіла і гавора:

— Ну, муж мой любы, муж мой дарагі! Сабірайся,— гавора,— туды й туды! Калі найдзеш,— гавора,— гэтага дзела, астанешся шчасліў!

Напякла яму, наварыла і выправіла. Сабраўся і пайшоў. Ідзе сабе дарогай, аж б'юцца два каршукі і так сілна б'юцца, што невазможна іх разбараніць. Ён іх іспрашуе:

— Ах вы, ястрабы, ястрабы! За што вы так болна б'яце́сь?

— Ах, Іван Іванавіч царэвіч, мы дужа крэпка есці хочам, дак мы каторы каторага заб'ём, таго з'ядзім!

Ён атвяшчае ім:

— Стойце ж вы, ястрабы, не біцеся, хадзіце ка мне!

Яны прыхаджа́юць к яму; ён сычас развязаў торбачку, вынімае з торбы два кускі мяса і дае ім. Яны наелісь і благадараць яго:

— Ну,— гавора,— благадарым пакорна, Іван Іванавіч царэвіч, што накарміў ты нас; будам мы за тваё ўгашчэнне табе ў бальшой прыгодзе за гэта!

Вот яны папрашчалісь; пайшоў ён зноў. Ідзе ён па дарозе, бача — б'юцца два сабакі, і так сілна б'юцца, што няможна іх разбараніць. Ён падходжуе к ім пабліжы:

— Ах вы, псы, вы, псы! За што вы так болна б'яцесь?

— Ах, Іван Іванавіч царэвіч, мы дужа крэпка есці хочам, дак мы каторы каторага задавім, таго й з'ядзім!

Ён атвяшчае ім:

— Стойце ж вы. псы, не біцеся, хадзіце ка мне!

Яны прыхóджуюць к яму; ён торбу развязаў, па кавалку хлеба ім даў, па кавалку гавядзіны. Яны наеліся.

— Ну,— гавора,— Іван Іванавіч царэвіч, благадарым пакорна, што ты нас накарміў; будам мы табе ў бальшой прыгодзе за гэта!

Ну, пайшоў ён далі! Падходжуе к мору, бача — б'юцца дзве выдры, і так сілна б'юцца, што няможна іх разбараніць. Падходжуе ён к ім бліжы:

— Ах вы, выдры, выдры, за што вы так б'яцесь?

— Ах, Іван Іванавіч царэвіч, дужа крэпка мы есці хочам; дак мы каторая каторую задавім, тую і з'ядзім!

Ён гавора:

— Стойце ж вы, выдры, не біцеся! Хадзіце ка мне!

Яны прыходжуюць к яму, ён торбу развязаў, вынімае два кавалкі мяса і дае ім. Яны наеліся і благадарацъ:

— Спасіба табе, Іван Іванавіч царэвіч, што ты нас накарміў! Будам мы табе ў бальшой прыгодзе!

Распрашчаліся, ён і пайшоў. От ён падходжуе к мору. Пакуль дайшоў, дак ужо вада па рот панімае. Ідзе ён і плача, і гавора:

— Госпадзі, што ж мне цяперака дзелаць?

Ідзе, ідзе, ажно стаіць вастравок. Зірнуў ён на правую старану, ажно сядзіць старычок-дзядок на гэтым вастравочку. Падходжуе ён бліжэй і гавора:

— Здрастуй, дзедка, мой галубчык!

— Здрастуй, здрастуй, Іван Іванавіч царэвіч! Як цябе бог суды прынёс: ці сам ты прыйшоў, ці табе хто паказаў?

— Не, сам,— гавора,— дзедка, прыйшоў!

— А пачаму ж ты суды прыйшоў?

— Ах, дзедка, мой галубчык, ці не бачыў ты, ці не чуў, дзе тут у моры ё вол, а ў валу заяц, а ў зайцы вутка, а ў вутцы яйцо, а ў яйцы змеева сіла. Дак як ба мне яго дастаць?

— Не знаю, нябожа, першы раз ад цябе чую!

Ён стаў, заплакаў каля яго, засмуціўся. Ён яму гавора, дзядок гэты:

— Калі б ты даў мне што-небудзь паесць, то б я табе памог, а то я тры дні не еў!

Ён гавора:

— Ах, дзедка, мой галубчык, во,— гавора,— еш колькі хочаш!

Знімае яму торбачку і дае. Ну, ён паставіў яму гэту торбачку, дзед той еў і не еў.

— Ну,— гавора,— завязуй, нябожа, сваю торбачку!

Ён узяў завязаў.

— Ну-ка, нябожа, вазьмі ўт гэту доўбню і ідзі па маіх вусах, куды я дмухну, і як дайдзеш да канца вусоў, толькі скажы: «Вух-ці!» — дак ён к табе выскача. Толькі ты яго даўбнёй у лоб бі!

От ён і пайшоў. І забыўся, як гэта трэба сказаць. Дайшоў да канца, тукае, люкае, а ніяк не прыпомне, як трэба сказаць. Ён хадзіў, хадзіў, умарыўся ўжо да смерці. Ідзе назад: «Вух-ці, як я ўмарыўся»,— кажа.

А ён і выскакуе. От ён яго ў лоб. Ён і заваліўся.

— Ну, слава табе, госпадзі!

Узяў ён ножык, разрэзаў пуза, толькі хацеў узяць зайца, а заяц як вырвецца, як махане ад яго!.. Уцёк. Ён устаў і плача:

— Вот табе і на! Толькі найшоў, і няма! Гэта бягушчая звярына пабегла — і няма хто яе паймае!

Ідзе і плача. Толькі прайшоў шагоў дзесяць, [а]зірнуўся назад, аж ташчуць гэтыя сабакі зайца і гаворацы:

— На табе, Іван Іванавіч царэвіч, за тваё ўгашчэнне, за твае труды!

Да. Ён ім падзякаваў, узяў зайца, разрэзаў пуза, толькі хацеў узяць вутку, а вутка — коўзь! паляцела ўгару! Да. Ён ужо рукі апусціў і плача:

— Бог знае, гэта была бягучая звярына, дак паймалі, а гэта ўжо лятучая: гэту ніхто не паймае!

Ідзе і плача. Прайшоў ён не большы шагоў з дзесяць, аж чуе — шуміць угары. Ён глянуў — аж нясуць каршукі вутку тую! І гавораць:

— На табе, Іван Іванавіч, за тваё ўгашчэнне, за твае труды!

Ён гэту вутку ўзяў, пуза разрэзаў, стаў яйцо браць, а яно якся каўзанулась, яйцо гэта,— пайшло на дно мора! Бросіў ён ужо ўсё, адчураўся ўсяго і пайшоў ужо з таго места саўсім. «Верна мне ўжо прапасць тут!»

Толькі ён пайшоў з таго места, выйшаў на бераг з вялікаю журбою, аж ступае адзаду. Азірнуўся назад — аж нясуць выдры яйцо.

— На табе, Іван Іванавіч царэвіч, за тваё ўгашчэнне, твае труды!

От ён яйцо ў пазуху ўлажыў і пайшоў туды. І прыходзе ён тады к жане.

— А што, мілы друг, дастаў?

— Дастаў!

— Ну, цяпер слава богу, калі дастаў!
Ну, ён яе просе:
— Хадзем,— гавора.
— Ну, цяпер ужо хадзем на шчасце!
Сабраліся і пайшлі. Прылятае ў паўдня змей і пытае ў хлопчыка:
— А што, хлопча, хадзяйка дома?
— Не, ушлі!
— А дагонім мы іх?
— Дагонім, да не возьмем!
Ну, яны паляцелі, дагналі.
— Ах, ты,— гавора,— нячыстая сіла! Ты апяць жыў! Шчасце тваё, што я тады цябе парваў на кавалкі, а не спаліў у агні! Ну, да я цяпер цябе спалю!
Толькі ён стаў падхаджуваць, а ён выхваціў яйцо з-за пазухі да бэх у лоб яму! Ён і заваліўся. Ён тады на мелкія часці парубіў яго, да на [а]гонь, і спаліў. І з сваёй жаной пайшлі ў свой дом і сталі там жыць. І цяпер жывуць.
І я ў іх там быў, мед-гарэлку піў, і ў роце не было, і па барадзе не цякло. Была ў мяне смаляная кабылка, рэпянае сядло, з пастарнаку канчук. Свіння адкуль узялася — за канчук! І цяпер у яе хвастом тырчыць. Прыляцеў дзяцел: чык-блык, давай мой башлык! Да й украў сядло, і цяпер у яго галава красна. Сонейка ўгрэла, і кабылка растала. І няма нідзе нічога...

## 70. АДЗІНЮК

Быў сабе чалавек з жонкаю, і было ў іх тры дачкі. Аднаго разу стары пайшоў у лес рубаць дрова, каб было чым палудзень зварыць. Рубае ён там, рубае, аж прыязджае да яго паніч і кажа:
— Што ў цябе дома есць, аддай мне.
А ён кажа:
— У мяне няма нічога, анно тры дачкі і жонка.
— То аддай мне найстаршу дачку.
А чалавек:
— Не дам, у мяне анно іх трох.
А той:
— На табе грошы з мяшком: хочаш бяры, хочаш не — тваё дачкі не будзе.

Сказаўшы тое, пакінуў яму грошы і паехаў. Ажно выйшла найстарша дачка на надворак, а той паніч перакінуўся львом, цап! за яе да й у ногі. На другі дзень пайшоў стары зноў дрова рубаць, ажно прыязджае другі паніч і кажа:

— Аддай мне, што ў цябе дома есць.

— Не дам, у мяне дома анно баба і дзве дачкі, бо трэцюю паніч ухапіў.

Так ён кажа:

— На табе з мяшком грошы: хочаш бяры, хочаш не — дачкі не будзе — і паехаў.

Ажно выйшла на надворак сярэдняя дачка, а той паніч перакінуўся ў велярыба, цап за яе і панёс.

На трэці дзень зноў прыйшоў стары рубаць дрова, ажно прыязджае трэці паніч і кажа:

— Аддай мне, што ў цябе дома есць!

— Не дам, у мяне дома анно баба і адна дачка, бо дзвюх панічы ўхапілі.

Так ён кажа:

— На табе з мяшком грошы: хочаш бяры, хочаш не — дачкі не будзе.

После пад'ехаў проста пад яго хату, ажно якраз выходзіць наймельша дачка, так ён як бач перакінуўся арлом, цап за яе і панёс. Так после нарадзіўся ў старога сын і рос не гадзінамі, але мінютамі. Аднаго разу той хлопец пайшоў на вёску, а хто яго ўгледзіць, то ўсё называе Адзінюком. Так ён, прыйшоўшы дахаты, кажа:

— Мамачко, чаму гэта мяне завуць Адзінюком?

— Таму, што ў це было тры сястры, але як усіх панічы пакралі, то ты адзін застаўся і зле таго Адзінюком цябе называюць.

А хлопец:

— Пайду,— кажа,— іх шукаць.

Так зараз узяў хлеба і солі грудачку ў торбу да і пайшоў. Ідзе, ідзе, ажно ўгледзеў двох паршучкоў б'ючыся, так ён кажа:

— Чаго вы б'ецеся?

— А мы,— кажуць,— знайшлі тры рэчы.

— Якія тыя рэчы?

— Шаблю, дыван, што як на ім сядзеш і скажаш: «Дыван, дыван, нясі мяне там і там»,— так ён і занясе, і плашч, што як акрыешся ім, то ніхто цябе не ўгледзіць.

Так ён кажа:

— Я мо вас рассуджу, анно разбяжэцеся і бяжэце да мяне.

А паршучкі як беглі да яго, так ён мечыкам чах! чах! і пасякаў ім галавы, а сам прывязаў да боку меч, акрыўся плашчам, сеў на дыван і кажа: «Дыван, дыван, нясі мяне да найстаршай сястры!»

Так як бач і стаў на яе надворку. Выйшаў, а сястра яго шыла, так ён то голку ёй зломіць, то нітачку парве і не дае шыць. Ажно яна дамыслілася і пытае:

— Хто тутакава есць? Акажыся!

— Я,— кажа,— сам наймельшы брат твой, што после радзіўся.

— А як ты,— кажа,— называешся?

— Янко́ Адзінюк.

Так яна ўцешылася, давай брата частаваць; п'юць, ядзяць, аж бачаць — ляціць Леў. Так яна:

— Дзе ты,— кажа,— братко, схаваешся, бо як Леў прыбяжыць, то ён цябе і мяне з'есць.

А ён кажа:

— Не бойся!

І гэта кажучы, акрыўся плашчам і сеў у куточку. Ажно прылятае Леў: страсянуўся, павесіў скурку на цвічку і перакінуўся ў вока мглені ў пекнага паніча. Дала яна яму вячэраць, а после, як паклаліся, так яна кажа:

— Цо бы то, мэнжу, было, жэб хто з моей родзіны пшышэд?

А ён кажа:

— Га, у бабы волас доўгі, але ўм карноткі! Чаму не, рад быў бы.

А яна:

— Прыйшоў,— кажа,— да мяне мой братка Ясюк.

— А дзе ж ты яго схавала? Пакажы!— і давай клікаць: «Ясюк, Ясюк, пакажыся!»

Так ён і паказаўся. Пабыўшы ў іх якісь час, так Леў кажа:

— Мо табе тут смутна, то на табе адну шарсцінку, а як табе якая бяда станецца, то ты вымеш яе і скажаш: «Льве швагжэ, пшыбывай мне ў памочы».

Так ён падзякуваў, сеў на дыван і кажа: «Нясі мне да сярэдняй сястры!»

Так як га! Дыван і занёс яго. Як уляцеў дахаты, то сястра яго прала, так ён ёй то нітку парве, то верацёнца вырве. Так яна кажа:

— Хто тутакава такі есць?

— Я, Янко́, твой брат наймельшы!

— Я,— кажа,— не мела нігоднага брата.

Так ён кажа:
— Я после радзіўся.
— То пакажыся!
Як ён паказаўся, так дала яму есць, піць і кажа:
— Дзе я цябе схаваю, як пшыплыве Вялёрыб?
— Не бойся!
Ажно глядзяць — плыве, аж хата дрыжыць. Так ён узяў плашчам накрыўся і сеў у куточку. Тым часам Вялёрыб прыплыў, вылез з вады, страсянуўся, так як бач луска апала, а ён зрабіўся панічом і сваю луску павесіў у сенях на цвічку. Увайшоў у хату, яна яму дала вячэраць, а па вячэры палажыліся спаць. Так яна кажа:
— Што гэта было б, каб хто з мае радні прыйшоў?
А ён кажа:
— У бабы волас доўгі, але ўм карноткі! Як жа ж не, рад быў бы!
А яна:
— Прыйшоў,— кажа,— мой брат наймельшы Янко.
— Пакажы.
Так яна стала клікаць:
— Янко, Янко, пакажыся!
Так ён скінуў плашч і паказаўся. Пабыў там якісь час, аж Вялёрыб кажа:
— Мо табе тут маркотна?— і даў яму адну луску і кажа:
— Як табе якая бяда станецца, то, выняўшы луску, скажы: «Вялёрыб швагжэ, ставай мне ў памочы!»
Янко падзякуваў; пажагнаўся, стаў на дыване і кажа: «Дыван, дыван, нясі мяне да наймельшай сястры!» — і ў вока мгле-ні стаў у яе. Аж яна панчошку робіць. Так ён ёй то пруток выцягне, то панчошку з рук вырве. А яна:
— Хто тут? Хто то мяне зачапае?
— Я, твой брат наймельшы!
— Калі я жаднага брата не мела.
А ён кажа:
— Я после радзіўся і называюся Янко.
— Ну, то пакажыся!
Ён скінуў плашч і паказаўся. Яна гэта зараз дала яму есці, піці і кажа:
— Дзе я це, бедна, схаваю, як мой муж Арол прыляціць?
— Не бойся!
Глядзяць, аж і Арол ляціць, так Янко накрыўся плашчам і сеў у куточку. Нібавам уляцеў Арол, страсянуўся, зрабіўся

харошым панічыкам, а пер'е сваё ў сенях на цвічку павесіў. Па вечэры ўжэ, як ляглі спаць, так яна кажа:

— Цо бы то, мэнжу, было, жэб хто з моей родзіны пшышэд?

А ён кажа:

— У бабы волас доўгі, але ўм карноткі! Чаму ж? Рад быў бы!

Так яна кажа:

— Прыйшоў да нас Ясюк, мой наймельшы братка.

— То закліч яго.

Як яна пачала клікаць, так скінуў плашч і паказаўся. Пабыў там у іх колька дні, аж Арол кажа:

— Мо табе абрыдла ў нас?

Так даў яму адну пе́рынку і кажа:

— Як табе якая бяда станецца, то ты вымі гэту пе́рынку і скажы: «Орле швагжэ, пшыбывай у памочы!»

А ўсе яго тры швагры: Леў, Вялёрыб і Арол — ваявалі на бяссмертнага цара, так ён стаў на дыван і кажа: «Дыван, дыван, нясі мяне да бяссмертнай царыцы!»

Як пе́рынку спаліць, так і стаў у яе. Царыца ў ём надта закахалася. Як нацешыліся сабою, так яна кажа:

— Дзе я цябе, мой міленькі, схаваю, бо як мой муж прыйдзе, то ён мяне і цябе заесць.

А ён кажа:

— Не бойся, дам сабе раду.

Нібавам глядзяць, ажно едзе цар, так ён баржджэй сеў у куточку і накрыўся плашчам. Утом уходзіць цар і кажа:

— Вэ, вэ, не слыхана, не відана, нешта жывым духам смярдзіць!

А яна:

— Жадан птах не пшэлецял пшэз тэн дах, не тылько жэб хто пшышэд.

Павячэраўшы, ляглі спаць, а Адзінюк сядзіць сабе ў куточку і слухае, што яны гавораць. Назаўтра рана, як паехаў цар ваяваць з яго швагрaмі, так Янко пытаецца ў царыцы:

— Дзе тва[й]го мужа смерць?

А яна кажа:

— Не ведаю.

Так ён кажа:

— Як ён прыбяжыць, то ты ў яго папытайся.

— Добра.

Аж вечарам прылятае цар і кажа:

— Давай есці!

Павячэраўшы, як ляглі спаць, так яна кажа:

— Скажы мне, мой мужу, дзе твая смерць?

— Мая смерць у шаблі.

Так гэта назаўтра, як ён пабег, яна зараз увабрала шаблю ў стужкі, у кветы, паставіла люстэрка, узяла ксёнчку і стала мадліцца. Утом прыходзіць яе мужык і кажа:

— Што ты гэта робіш?

— Я мадлюся, каб тваё жыццё даўжэйша было.

— Калі мая смерць,— кажа,— не ў шаблі, але ў стрэльбе.

Так назаўтра, як цар паляцеў ваяваць, яна таксама ўвабрала стрэльбу і стала мадліцца. Аж надвечар прыходзіць цар і кажа:

— Што ты гэта, жонко, робіш?

— Мадлюся,— кажа,— да стрэльбы, каб тваё жыццё даўжэйша было.

— Калі мая смерць не ў стрэльбе, а ў валовым рогу.

Так яна назаўтра ўвабрала таксама рог і стала мадліцца. Аж надвечар прыбягае цар з вайны:

— Што ты, жонко, робіш?

— Ля, а тож мадлюся да рога, каб тваё жыццё даўжэйша было.

— Калі мая смерць не ў валовым рогу, але на мору стаіць цэрква, а ў ёй свечка на сто пудоў, а ад гэтай цэрквы ключы ў качкі на моры; каб хто тую качку разадраў, то дастаў бы з ёй яйцо, а каб хто тое яйцо пабіў, то дастаў бы ключы ад цэрквы і, адчыніўшы цэркву, каб хто тую свечку згасіў, то я ўмёр бы.

На заўтрашні дзень, як ён пайшоў ваяваць, яна давай Янку расказваць, што так і так, так і так. Ён гэта, не доўга ждучы, сеў на дыван і кажа:

— Дыван, дыван, нясі мяне на мора, дзе стаіць цэрква!

Як сказаў, так як бач і стаў каля тае цэрквы. Тады выняў шарсцінку і кажа:

— Льве швагжэ, пшыбывай мне ў памочы!

Так Леў каля яго і стаў. После выняў луску і кажа:

— Вялёрыбе швагжэ, пшыбывай мне ў памочы!

Так Вялёрыб і прыплыў зараз да яго. Нарэшце выняў пёрынку і кажа:

— Арол швагер, пшыбывай мне ў памочы!

Так у том маменці і Арол прыляцеў. Тады Вялёрыб злавіў качку і падаў Льву, а Леў раздзёр тую качку, так Янко пабіў яйцо, дастаў ключа і адчыніў цэркву і патушыў. Нім гэта ста-

лася, цар бег дадому крычучы: «Я ее заем! Я ее заем!», але ўтом Арол якраз згасіў свечку, так цар упаў на парозе і скіпеў. Тады Янко Адзінюк ажаніўся з таею царыцаю, і ўсе швагры да таго палацу пасходзіліся, жылі разам і дабра набывалі.

## 71. ІВАН ІВАНАВІЧ КУПЕЦКІ СЫН

Неўкаторым царстве, неўкаторым гасударстве жыў сабе адзін купец багаты. І радзіўся ў яго адзін сын на радах. І быў ён шчасліў, і харош, і прыгож. І рос ён не па гадах, а па часах, не па часах, а па мінутах. У навуку падаўся і навуку скора прайзайшоў. І потым пайшоў на прагулянне і ўзяў з сабой палачку. Як шыбнуў тую палачку, яна як паляціць на трыдзевятае царства і папала Бабе Юзе ў нагу. Тады яна атвяшчаець:

— Ах, Іван Іванавіч, не са мной табе жартаваць: ёсць Бела поле, на Белым полі стаіць ложа, на тэй ложы ляжыць слішна панна, у галавах стаіць конь, із лубкі жар есць! Во з тэй табе жартаваць!

Потым ён прыходзіць дамоў і гаворыць:

— Айцец мой родны! Ты мяне спладзіў і выгадаваў, пусці мяне, з кім я хачу жаніцца! Аб'явілася мне, што ёсць Бела поле, на Белым полі ляжыць ложа, на тэй ложы ляжыць слішна панна, у галавах стаіць конь, із лубкі жар есць!

Потым айцец яму атвяшчаець:

— Бяры грошай, колькі трэба, і лошадзь і садзісь і паязджай!

От ён узяў грошай і лошадзь і паехаў. Ехаў ён цэлы дзень, і абнімаець яго цёмная ноч. Ну, увідзеў ён маленьку хатку на курынай ножцы. Заходзіць ён у гэту хатку, там дзядок маленькі, з клубочак.

— Здрастуй, дзедушка!

— А, здрастуй, здрастуй, Іван Іванавіч купецкі сын! Куды ж едзеш, куды пуць дзержыш?

— Еду, дзедушка, на Бела поле, да не знаю, дзе Бела поле. Ці не знаеш ты, дзедушка?

— Не,— каець,— не знаю; аслі,— каець,— знаюць — слугі мае. Абначуй,— каець,— заўтра пасматрым!

Ён заначаваў. Даў бог дзень, устаў гэты дзед. Устаў, як свіснуў — і валіць пташкі, як ёсць на свеце — і маленькія, і вялікія.

— От вы, слугі мае,— каець,— усюды лятаеце, і па лесу, і па полю, усе пуці-дарожкі знаеце, а ці не знаеце, дзе Бела поле?

— Не,— гаворадь,— дзедушка, не знаем!

Потым ён гаворыць:

— Ах, Іван Іванавіч купецкі сын! Паязджай дальшы, не магу,— каець,— не знаю!

От ён уссеў і паехаў. Апяць дзень ехаў тожа. Абнімаець яго ноч. Прыязджаець ён апяць — стаіць хатка на курынай ножцы. Тады ён зайшоў, а ў тэй хатцы дзядок маленькі, з клубочак.

— Здрастуй, дзедушка!

— Здрастуй, Іван Іванавіч! Куды едзеш, куды бог нясець?

— А еду, дзедушка, на Бела поле. Знаеш, дзедушка, дзе Бела поле?

— Не, не знаю; аслі знаюць — слугі мае! Абначуй жа,— каець,— а заўтра паглядзім!

Даў бог дзень. Гэты дзед як свіснуў — і валіць звяр'ё!

Як ёсць на свеце звяр'ё, дак усе сабралісь — і маленькія, і вялікія.

— Ах, дзедушка,— гаворадь,— не,— каець,— не знаем, дзе Бела поле ёсць!

Потым ён гаворыць:

— Ну, Іван Іванавіч, паязджай дальшы,— не знаюць, не ведаюць!

Потым ён узнова і паехаў. Апяць цэлы дзень ехаў, абнімаець яго цёмная ноч. І відзіць ён — стаіць хатка на курынай ножцы. Усходзіць ён у тую хатку, а ў тэй хатцы сядзіць дзядок маленькі, з клубочак.

— Здрастуй, дзедушка!

— Здрастуй, здрастуй, Іван Іванавіч купецкі сын! Куды едзеш, куды пуць дзержыш?

— Ах, еду, дзедушка, на Бела поле, да не знаю, дзе яно, гэта Бела поле. Ці не знаеш ты, дзедушка?

— Не, не знаю; аслі знаець — слуга мая. Ну, абначуй,— каець,— заўтра знаць будзем усё!

Ён абначаваў. Даў бог дзень; от назаўтрага дзедушка выйшаў, як свіснуў — дак найшло вобалака; цёмна ноч — а то шчэ цямней стала. Тады ён спрашыець у яе:

— Слуга мая верная, ці не знаеш ты, дзе Бела поле?

— Як жа я,— каець,— не знаю: я цяпер чэраз яго йшла!

— Ну, — каець, — Іван Іванавіч купецкі сын, станавісь на крылышка ёй, яна цябе занясець на Бела поле. Толькі не сказывай, што відзіш Бела поле. Яна цябе будзець спрашываць: «Што, Іван Іванавіч, ці відзіш Бела поле?» Атвяшчай ёй, што не віджу!

От ён стаў ёй на крылышка, яна яго і панесла. Несла-несла, несла-несла, прынесла к Беламу полю.

— Іван Іванавіч, ці відзіш Бела поле?

— Не, не віджу!

Яна шчэ пранесла троху.

— Іван Іванавіч, ці відзіш Бела поле?

— Не,— каець,— не віджу!

Пранесла яшчэ трошкі і спрашыець у трэці раз:

— Іван Іванавіч купецкі сын, ці відзіш Бела поле?

Яму здзецца, што ён мінуў, праходзіць Бела поле, дак ён гаворыць:

— Віджу!

Яна й спусціла яго. І спусціла ў такія мхі, у балоты, што ні самому прайсці, ні каня правесць. Ішоў ён, ішоў, выбраўся на Бела поле. Увідала яго гэта панна і гаворыць:

— Здрастуй, здрастуй, Іван Іванавіч купецкі сын!

— Здрастуй, здрастуй,— гаворыць,— панна!

— Ах,— гаворыць,— я даўно цябе паджыдала, ледзве даждала!

— А я даўно еду, ледзве-ледзве даехаў да цябе!

Ну, потым яны папілі, пасаветавалі і пераначавалі. Даў бог дзень, яна тады січас — пасаветавалі тожа йзноў — тады садзіцца на тую лошадзь на сваю, што з лубкі жар есць, і гаворыць:

— Я ж паеду на прагулянне, а ты ўсюдах хадзі, толькі ў вадно места не хадзі — у тую комлату, што дзверы г... замазаны, лычкам завязаны, туды не хадзі!

Сама села на каня і паехала. Конь тэй паверх лесу падняўся і пайшоў па ветры. А ён астаўся хадзіць без яе і не пайшоў туды. Потым яна прыязджаець увечару; ну, папілі, паелі, пасаветавалі, апяць пераначавалі. Даў бог дзень, яна садзіцца на гэту лошадзь.

— Ну, — гаворыць, — Іван Іванавіч купецкі сын, садзяржы свой дзень апяць: не хадзі туды, дзе табе не паказана. А я паеду на прагулянне!

От ён дзень хадзіў, хадзіў і сцерпіў. От яна прыязджаець увечару.

— Ну, харашо, Іван Іванавіч купецкі сын, сутрываеш сваё сумленне харашо!

Апяць папілі, пагулялі, пасаветавалі і заначавалі. Назаўтрага даў бог дзень, яна апяць так жа сама:

— Ну, Іван Іванавіч, я паеду на прагулянне, а ты судзяржай апяць сваё сумленне!

І паехала. Ён хадзіў, хадзіў, і ўдруг, так з паўдня, пад вечар сам на сябе думаець: «Што ж я, усюдах хаджу, усё ведаю, а там я не магу знаць, што там дзеецца?»

Ён прыходзіць туды, пасматрэў, аж там Паганы Кашчэй на ланцугу прывязан! Потым ён атвяшчаець, як засматрэў яго:

— А, здрастуй, здрастуй, Іван Іванавіч купецкі сын!

— Здрастуй,— каець.

— Пажалуйце, Іван Іванавіч, спусціць мяне з гэтага места, а цябе дарую трыма смярцямі.

Ён сабе надумаўся, так пастаяў сабе, надумаўся: «Ох, мой бог! Гэта ж я доўга жыць буду на свеце: трыма смярцямі даруець! Спушчу!»

Узяў дзверы адвязаў і яго спусціў. Як яго спусціў, ён — як яна ехала з прагуляння — абняўся з ёй і сеў, і сталі гуляць.

— А ты,— гаворыць,— Іван Іванавіч купецкі сын, не суйся к нам, бо яна мая!

Потым яна, панна гэта, адышлася ад Кашчэя і накарміла яго, Івана Іванавіча, і дала яму месца, дзе начаваць. Потым пераначавалі, даў бог дзень, ён уснуў, гэты Паганы Кашчэй. Ён тады яе на сваю лошадзь і давай уцякаць. У Паганага Кашчэя быў сокал і собаль. От гэты сокал засвістаў, собаль завыў, и конь зарзаў.

— Ты, воўча мяса, чаго ржэш? А ты, пессе мяса, чаго выеш? А ты, совіна пер'е, чаго свішчаш?

— А чаму ж нам,— каець,— не рзаць, і не выць, і не свістаць, калі нашыя панны няма!

— Ну, нічога,— каець,— дагонім, адбяром — будзець наша!

Ён уссеў на лошадзь і дагнаў.

— Ну, Іван Іванавіч, перваю смерцю табе дараваў, больш,— каець,— не суйся, бо я цябе ўб'ю!

От ён яе ўзяў і паехаў. А ён назад вядзецца з канём. От яна замеціла яго, ізнова дала яму месца, накарміла яго, ён абначаваў. Даў бог дзень, ён, Кашчэй Паганы, апяць уснуў. Тады ён за яе і ўвёз. Тады сокал засвістаў, собаль завыў, конь зарзаў.

— Чаго ты, воўча мяса, іржэш, а ты, пессе мяса, чаго выеш? А ты, совіна пер'е, чаго свішчаш?

— Як жа нам не рзаць, не выць і не свістаць, калі нашыя панны няма!

— Ну, нічога, дагонім, адбяром!

Удруг садзіцца на гэту лошадзь і даганяець яго. Дагнаў і адабраў.

— Ну, помні ж,— гаворыць,— Іван Іванавіч купецкі сын, што табе дзве смерці даравау! Болі не суйся ка мне, бо я цябе ўб'ю!

А потым як схваціў яе, так і паляцеў. Ён за ёй тожа апяць прывёўся. Яна яго ўсмо́трыла, што ён апяць ёсць, тады яна яго накарміла, напаіла, апяць месца дала — начуй! От ён переначаваў. Даў бог дзень, Кашчэй Паганы заснуў. Тады ён яе ўзяў і паехаў. От сокал засвістаў, собаль завыў, конь зарзаў.

— Ты, воўча мяса, чаго ржэш? Ты, пессе мяса, чаго выеш? Ты, совіна пер'е, чаго свішчаш?

— А чаму ж нам на рзаць, і не выць, і не свістаць, калі нашыя панны няма!

— Ну, нічога, дагонім, адбяром!

Сеў на гэту лошадзь і даганяець яго. Дагнаў, січас і адабраў.

— Ну,— каець,— помні, Іван Іванавіч купецкі сын, што я цябе паследней смерцю даравау, большы не суйся, бо ўжо заб'ю!

Ухваціў яе і паехаў. Ну, а Іван Іванавіч купецкі сын забіў сваю лошадзь, ведама, прыстаў зусім — уцякаў. Тады ён чуць вядзецца з ёй, ажно ляціць воран з сваімі дзяцьмі.

— А, здрастуй, здрастуй, Іван Іванавіч купецкі сын!

— А,— каець,— здрастуй!

— Будзь ты,— каець,— ласкаў, пакармі маю сілу: многа ляцеў і шчэ далёка ляцець. Я за тваю дабрату ўдружуся табе ў патрэбе!

Ён узяў гэтага каня кінуў. Крук гэты напітаўся, пад'еў і паляцеў. А ён і пайшоў сам туды апяць. Яна яго ўберагла, што ён ёсць, апяць прыйшоў, тады яму дала — пакарміла яго, дала месца. Пераначавалі. Даў бог дзень, Кашчэй Паганы ўснуў. Ён узяў яе і павёў. Потым сокал засвістаў, собаль завыў, конь зарзаў. Ён прашнуўся.

— Ты чаго, воўча мяса, іржэш? А ты чаго, пессе мяса, выеш? А ты чаго, совіна пер'е, свішчаш?

— Як жа нам не рзаць, і не выць, і не свістаць, калі нашыя панны няма!

— Ну, нічога, дагонім, адбяром!

Сеў на каня і даганяець іх. Яе ўхваціў, а яго як ударыў, дак ён і рассыпаўся,— убіў яго.

Потым гэты крук, дзе быўшы, ляціць сюды.

— Ах, — гаворыць, — Іван Іванавіч купецкі сын! Я ж табе казаў: не суйся сюды, палучыш смерць!

Потым узяў сваю сілу і думаець: «Што з ім робіць? Трэба яго аджывіць!»

— Ну,— каець,— нада,— каець,— жывушчыя,— каець,— і гаюшчыя вады дастаць!

От ён узяў, свайму дзяцёнку пляшачкі падвязаў пад крылля. Гэты ўзяў і паляцеў. Там баўтануўся, зачэрпнуў гаюшчыя вады і жывушчыя і паляцеў. Покуль ён прыляцеў, дак яны яго зла-жылі ўместа, як быў ён. Потым прылятаець гэты кручанок, прыносіць ваду жывушчую-гаюшчую. Узялі палілі гэтай вадой гаюшчай — згаіўся, жывушчай — аджывіўся. Быў маладзец, а то шчэ палуччаў. Потым ён гаворыць:

— Ох, — гаворыць, — як я доўга праспаў!

А крук яму атвяшчаець:

— Ну,— гаворыць,— Іван Іванавіч купецкі сын! Яна бу-дзець рада, што ўбачыць цябе, што ты прыйшоў, а ты спрасі ў яе, ад каго ён такога каня маець, што няможна ад яго, няможна ўцеч! Гэта ўжо Паганага Кашчэя. Ну, потым ён прыходзіць туды, яна:

— Ах, слава богу,— гаворыць,— што цябе бог вараціў! Як цябе бог вараціў?

— Ну, я ўжо табе сказываць не буду, як вараціў, да вара-ціў! А вот,— гаворыць,— скажы ты мне, панна, ад каго ён гэта-кага каня маець, што ад яго няможна нікаму ўцеч?

Яна яму атвяшчаець:

— Вот, Іван Іванавіч купецкі сын: ёсць на трыдзевятым царстве Баба Юга, а ў яе ёсць дзевяць кабыл. Дак хто тры дні спасець, такога каня будзець мець!

От ён туды і пайшоў. Тады ідзець ён первым доўгам чараз раку — ідзець рэчка сілная дужа,— ажно ля рэчкі плешчацца рыбка. Потым яна атвяшчаець:

— Ах, Іван Іванавіч купецкі сын, укінь мяне ў ваду; я та-бе пры злой гадзіне знадаблюсь!

Ён яе ўзяў, укінуў у ваду і пайшоў. Ідзець ён, ажно два ваўкі б'юцца за адну костку:

— Ах, Іван Іванавіч купецкі сын, падзялі ты нам гэту костку!

Ён узяў гэту костку і падзяліў ім. Яны з'елі костку і пабеглі. І ён пайшоў. Ішоў, ішоў, ідзець па лясу; лес такі буйны! Ажно два шаршні б'юцца за адно дуплё.

— Ах,— каець,— Іван Іванавіч купецкі сын! Падзялі нас дуплямі! Мы табе пры злой гадзіне знадабімся!

Ён тады ўзяў аднаго пакінуў у гэтым дупле, а другога занёс у другое. А сам і пайшоў. Прыходзіць туды, к гэтай Бабе Юзе, што на трыжды-дзевятым царстве жывець. Тады яна атвяшчаець:

— А здрастуй, здрастуй, Іван Іванавіч, здрастуй, купецкі сын! Ну, што ж ты ка мне прыйшоў, коней пасвіць? Вот спасеш тры дзянькі, возьмеш коніка на выбор!

От ён заначаваў. Даў бог дзень, яна тут што-небудзь яму есці прыгатовіла; сама ўзяла зялезных прутоў пук і пайшла іх наказваць. А ў яе была нявестка. То ж яна змяя, а нявестка богу верыла. То ж нявестка атвяшчаець:

— Ах,— гаворыць,— Іван Іванавіч, калі хочаце дастаць што-небудзь, дак некалі дужа есці: паслухай, дзе яна ім скажаць хавацца!

От ён паслухаў. Яна гаворыць:

— Хавайцеся па балата́х у раку, каб ён вас не найшоў, каб к вечару ў двор не прыйшоў!

Потым яна ўбягаець у хату, ён абедаець.

— Ах,— каець,— што ж ты,— каець,— Іван Іванавіч, няскора ясі?

Нявестка атвяшчаець:

— Як жа яму скора есці, ён даўно з двара не еўшы; у яго ў роце папорцілася ад сухога хлеба!

Потым яна выпраўляець яго ў поле, гнаць кабыл. Даець яму сыру санлівага, хлеба драмлівага. Потым ён як выйшаў, яна вароты адчыніла, яны як вырваліся — паверх лесу і паляцелі, толькі ён іх і відзеў! Потым ён і пайшоў. Ішоў, ішоў, нямнога прайшоў, захацелась яму дужа есць. Ён узяў гэты сыр з'еў, хлеб з'еў, лёг і заснуў. Як спі дак спі — да самага вечара. Прашнуўся, ідзець і плачаць. Ідзець каля рэчкі, гэта рыбка троптроп!

— Чаго, Іван Іванавіч купецкі сын, плачаш?

— Ах,— гаворыць,— кабыл сваіх утраціў!

— Не бойсь,— каець,— не ўтраціў, стой,— гаворыць,— наперадзе!

От яна, гэта рыбка, як шавальнулася, як страпянулася, толькі спрасіла, дзе яна прыказала хавацца. Як сабрала сваю

сілу, як зачала трапятацца, зачала трапятацца — і выгнала гэтых кабыл із вады! Потым ён прыганяець дамоў гэтых кабыл.

— Ну,— гаворыць,— харашо, харашо, Іван Іванавіч купецкі сын! От спасеш тры дзянькі, возьмеш коніка на выбор!

Ну, ён заначаваў. Яна яму есці тут дала... Пераначаваўшы, назаўтрага, даў бог дзень, яна ўдруг яму есці дала, а сама ўзяла зялезных прутоў пад паху пук і пайшла наказваць іх. Нявестка атвяшчаець:

— Ах, Іван Іванавіч купецкі сын! Калі хочаш што дастаць, дак ідзі паслухай, дзе яна казала ім хавацца!

Ён пайшоў паслухаў. Яна наказыець, што хавайцеся па мхах, па балотах!

Пайшоў ён, гэта, паслухаў, сеў, апяць абедаць. Яна прыходзіць у хату:

— Ах, што ж ты,— каець,— Іван Іванавіч, няскора ясі!

А нявестка атвяшчаець:

— Як жа яму скора есці, калі ў яго ў роце ўсё папорцілась ад сухога хлеба!

Ну, тады даець яна яму сыру санлівага, хлеба драмлівага і выпраўляець ужо ў поле:

— Ну, ступай жа пасвіць ужо!

Вароты адчыніла, яны як вырвалісь — паверх лесу і паляцелі. Толькі ён іх і відзеў! Потым ён ішоў, ішоў, як захацеў есці! З'еў гэты хлеб, гэты сыр, так лёг і заснуў. Як спі дак спі — да самага вечара. Прашнуўся — няма кабыл. От ён ідзець і плачаць. Ажно бяжыць воўк:

— Чаго, Іван Іванавіч купецкі сын, плачаш?

— Ах,— каець,— кабыл сваіх утраціў!

— Ну, нічога, стой напѐрадзе, пілнуй — прыгонім!

Гэты воўк як заскуголіў, завыў, сабраў сваю сілу. Пайшоў па мхах, па балотах, кабыл гэтых і выгнаў. Ён прыганяець іх у двор.

— А, здрастуй, здрастуй, Іван Іванавіч! От харашо, два дзянькі спасвіў, трэці як спасвіш, возьмеш коніка на выбор!

Ну, дала яму есці што-небудзь; ён пад'еў і заначаваў. Даў бог дзень; яна дала яму снедаць, а сама зялезных пруткоў пук пад паху і пайшла іх наказваць. Тож нявестка яму гаворыць:

— Ах,— гаворыць,— Іван Іванавіч купецкі сын, калі хочаш гэта дастаць, дак ідзі паслухай, куды яна ім скажаць хавацца!

Ён пайшоў, ажно яна ім кажаць, што хавайцеся па дуплях, па [а]сінніку, па дуплях!

Ну, добра. Сама ўходзіць у хату, а ён есць.

— Ах,— каець,— як ты няскора ясі!

А нявестка атвяшчаець:

— Яму ж,— каець,— няможна скора есці: у яго ў роце ўсё папорцілась за дарогу ад сухога хлеба!

Ну, тады даець яна яму сыру санлівага, хлеба драмлівага і выпраўляець пасвіць. Адчыніла вароты, яны як вырваліся — паверх лесу і паляцелі. Толькі ён іх і відзеў. Ну, пайшоў ён услед. Ішоў, ішоў і захацеў есці. От ён сыр тэй з'еў, хлеб з'еў, як лёг, дак і заснуў. Прашнуўся, ажно ўжо сонца заходзіць. От ён ідзець і плачаць. Гэты шарсцень ляціць і спрашыець:

— Іван Іванавіч купецкі сын, чаго ты плачаш?

А ён гаворыць:

— Чаму мне не плакаць, калі я сваіх кабыл утраціў!

— А дзе яна казала ім хавацца?

— А па лесе, па дуплях, па [а]сінніку!

Гэты шарсцень сваю сілу як гукнуў, загудзеў, стаў шчыпаць, ведама ўжо, кусацца і выгнаў іх.

— Ну, стой,— каець,— Іван Іванавіч, наперадзе,— прыгонім!

От ён і прыгнаў іх у двор. Яна:

— А, здрастуй, здрастуй, Іван Іванавіч купецкі сын! От харашо! Тры дзянькі спасвіў, возьмеш коніка на выбор!

Дала яму есці чаго-небудзь, а сама пайшла. Нявестка атвяшчаець яму:

— Глядзі ж ты,— каець,— Іван Іванавіч купецкі сын: ёсць у куточку ў стайні маленькі жарабёначак, няпошлы, недалужлы ўжо. Дак яна з усіх харошых коней сілу адбярэць да на яго, аднаму яму. Глядзі ж,— каець,— яна цябе будзець адбіваць: бяры,— каець,— харошага, сядзеш і паедзеш! А ты не слухай, вазьмі маленькага, гэты ля цябе будзець луччы харошага!

Ну, ён пайшоў у хлеў, узяў гэтага жарабёнка малага і вядзець. А яна ўбачыла:

— Ах,— гаворыць,— Іван Іванавіч! Які ты чалавек худы, не[а]бразованы — узяў такога каня! Ты ж ба ўзяў харошага, каб уссеў і паехаў!

А ён атвяшчаець:

— Ну, у нас быў які ўгавор: на выбор каня браць? Я й узяў на выбор па сваёй любові, каторы мне ўлюбіўся, такога я і ўзяў!

— Ну, нечага дзелаць!

Ён яго і павёў. Як весці дак весці, як весці дак весці — аб-

німаець яго цёмная ноч. Ён, узяўшы, цеплышко высек, разлажыў і сеў, заначаваў. Тады жарабёначак гэты атвяшчаець яму:

— Хазяін мой верны, пусці мяне пакатацца па мянтузнай расе, па шаўковай траве!

Ён яго пусціў. Конь узяў пакатаўся, пакатаўся і пабег назад. А ён пераначаваў; назаўтрага даў бог дзень, сонца ўзышло, а яго няма. Ён і сумеўся. Потым бяжыць гэты конь, пад ім зямля дрыжыць; і па сянной капе зямлю капытамі варочаець:

— Хазяін мой верны, бяры,— каець,— вядзі мяне, я шчэ цябе не звязу — у мяне сіла не ўся!

Яны вялі, вялі дзень. Абнімаець іх цёмная ноч, ён цеплышко высек, разлажыў і заначаваў. Жарабёнак гэты атвяшчаець:

— Хазяін мой верны, пусці мяне пакатацца па мянтузнай расе, па шаўковай траве!

Ён яго пусціў. Узяў тэй конь пакатаўся, пакатаўся і пабег назад. Назаўтрага, даў бог дзень, ужо сонца абутрала парадашна — няма яго каня! Ён сядзіць ля цеплышка і сумеўся. Аж бяжыць яго конь, ажно зямля дрыжыць і па нáбальшым капяку зямлю капытамі варочаець.

— Хазяін мой верны, бяры мяне, вядзі,— я шчэ цябе не звязу: сіла мая не ўся!

Ён яго ўзяў і павёўся. Вядзі, вядзі — цэлы дзень. Абнімаець іх цёмная ноч. Ён цеплышко высек, разлажыў і заначаваў. Конь гэты атвяшчаець:

— Хазяін мой верны, пусці мяне пакатацца па мянтузнай расе, па шаўковай траве!

Ён яго пусціў. Тэй конь пакатаўся і пабег назад. Назаўтрага, даў бог дзень — няма яго каня; ужо й сонца абутрала — няма; агу, бальшое ранне ўжо — няма каня; ужо й пад поўдня сонца — няма каня! Ажны ён к поўдню бяжыць, аж зямля дрыжыць і па цэламу стогу зямлю капытамі варочаець.

— Ну,— каець,— во цяпер, хазяін мой верны, вырві ў мяне з персці трыжды-дзевяць шэрсці і садзісь на мяне, паедзем!

Тады ён у яго вырваў з персці трыжды-дзевяць шэрсці і сеў на яго і паехаў:

— Во, цяпер,— каець,— уся мая сіла! Вот, хазяін мой верны, як мы прыедзем, будзець яна нам рада. І спрасі ты ў яе, каб яна ўзяла тэй платок, што з Паганым Кашчэем на вянцы стаяла!

От як ён прыехаў, дужа яна была яму рада. Ён ёй сказаў, каб яна ўзяла тэй платок, што з Паганым Кашчэем на вянцы

стаяла. Ну, тады яе ўзяў і павёз. Січас конь зарзаў, сокал засвістаў, собаль завыў. Ён прашнуўся:

— Ты чаго, воўча мяса, іржэш? А ты, пессе мяса, чаго выеш? А ты, совіна пер'е, чаго свішчаш?

— А чаму нам не рзаць, і не выць, і не свістаць, калі нашыя панны няма!

— Як можна быць? Я ж яго ўбіў, разбіў на дробны мак!

— Не,— каець,— жыў!

— Ну, нічога,— каець,— адбяром!

— Не,— каець,— не [а]дбярэш!

От ён сеў і паехаў. Гэты конь падняўся высока, што купецкі сын едзець з ёй ужо, з паннай з гэтай, а тэй, Кашчэя, шчэ вышай! Гэты конь, Івана купецкага сына, атвяшчаець:

— Паднімісь павышы мяне і страханісь, аб сырую зямлю яго ўдар, нячыстую сілу, каб ён разбіўсь. А мы з табой будзем умесце жыць!

От ён як падняўся вышай яго, страхануўся, ударыў Паганага Кашчэя аб сыру зямлю — разбіў яго на крошкі, драбней маку!

От яны ўсселі адзін на [а]днаго, а другі на другога і паехалі. А яму дастаўся і сокал, і собаль, усё ўжо яго, што ўсё дастаў, на чом налягаў. І паехаў к бацьку, і сталі жыць-пажываць, дабра нажываць.

І я там быў, мёд-віно піў, па барадзе цякло, у роце не было. Далі мне пірог — я за парог; далі мне смык — я пад вароты шмык.

## 72. ЖАДНЫ БАБЫЛЬ

Жыў сабе бабыль і не імеў у сябе лошадзі. Пайшоў у лес дровы рубіць. Найшоў ён сухую ліпу, падходзіць к ёй і стукаець у яе раз, два і тры. Яму хто-та із ліпы і гаворыць:

— Мужычок, што табе нада?

Ён іспужаўся гэтага чалавека, аддаліўся ад ліпы і думаець, што гэта б значыла. Падумаў, падумаў, падходзіць апяць к ліпе і [а]твячаець тому голасу:

— Хачу ліпу зрубіць сабе на дровы, атапляць печ і саграваць дзяцей!

Голас яму апяць гаворыць:

— Ідзі дамой: у цябе ў тваём доме ўсяго davольна: і ската, і дроў, і ізба твая цяпла, і дзеці сагрэлісь.

Прыходзіць дамой, жана яго ўстрэціла на дварэ і гаворыць яму:

— У нас адразу ў доме нашым усяго многа: і ската, і хлеба, і дроў, і ізба наша такая цёплая; хадзі скарэй дахаты і сагрэйся!

Пасідзеў мужычок у сваёй цёплай хаце, палюбаваўся скацінкаю да і гаворыць жане:

— А што ты думаеш? Нас усё беспакояць нашай дзярэўні выбарныя: давай ім і то, і то. Пайду-ка я к ліпе.

Прыйшоў к ліпе і стукнуў у ліпу раз і два. З ліпы чалавечаскі голас яму і гаворыць:

— Што табе нада, бабыль?

Мужычок і гаворыць:

— Прыхадзіў я тады рубіць гэту ліпу сабе на дровы, а як ты якей-та сказаў мне: «Не рубі ліпы на дровы, ідзі дамой, у цябе ўсяго davольна: і ската, і хлеба, і дроў, і цёплая хата»,— так і запраўду случылась. Я цяпер думаю, як бы мне быць выбарным — не хачу я ламаць шапкі перад дзеравенскім нашым выбарным.

Голас яму ў атвет:

— Ідзі апяць дамой, і будзець па твайму жаланню.

Ён і пайшоў дамой. Прыходзіць дамой, жана гаворыць яму:

— Прыхадзіў к нам стараста — трэбуюць цябе на гаспадскі дом.

Ён пайшоў туды, а там была дзеравенская сходка, і ізбралі ўсею дзярэўняю выбарным.

Прахадзіў нямнога месяцаў у доўжнасці выбарнага — наскучыла яму гэта сабачая доўжнасць: бегаць па дзярэўні, выбіраць дзеньгі на валасных і пісарэй. Пайшоў апяць к той ліпе: «Знаць ужо, што ў той ліпе не прастой голас!»

Прыходзіць і стук у ліпу, із ліпкі голас спрашыець:

— Што прыйшоў і што табе нада, бабыль?

— Хачу,— гаворыць,— быць старастаю ў сваёй дзярэўні.

Із ліпы яму голас атвячаець:

— Ідзі дамой: будзеш і старастаю.

На тот жа дзень і ўпраўду яго ўсею дзярэўняю паставілі старастаю. Нямнога ён пабыў у гэтай доўжнасці, падумываець, што ў гэтай доўжнасці не нажывеш дзенег; задумаў адказацца і адказаўся. Прыходзіць к ліпе і просіць доўжнасці ўпраўляюшчага ў багатага гаспадзіна. Стук тапаром у ліпу, із ліпы голас спрашыець:

— Што нада?
— Хачу быць упраўляюшчым у багатага пана.
— Ну, ідзі, заўтра будзець твае дзела.
Назаўтра трэбуець яго багаты гаспадзін і спрашыець у яго сагласія быць у іменіі ўпраўляюшчым; ён сагласіўся з радасцю і стаў распараджацца хазяйствам барскім. Тут-та ён нескалькі гадоў пражыў і нажыў бальшы капітал, а нажыўшы многа дзенег, адказаўся ад доўжнасці. Задумаў бабыль быць багатым гаспадзінам. Прыходзіць дамой і гаворыць жане:
— Ці цэла тая ліпа, ці не зрубіў то хто яе? Ці даўно ты была ў лясу?
Жана атвячаець:
— Цэла, ніхто не зрубіў!..
— Ну, пайду к ліпе!
Стукнуў у ліпу.
— Што табе нада?
— Хачу быць багатым гаспадзінам і заўладзець іменнем тога багатага гаспадзіна, адзе быў я многа гадоў упраўляюшчым.
— Ідзі, і будзець па твайму жаланню!
Адправіўся ў дом тога гаспадзіна і зарандаваў яго іменне. Начаў распараджацца іменнем, стаў ва ўсё ўсматрывацца, пералічываць свае даходы. Пажыўшы бальшыя годы, зашумеў бабыль. Задумаў гаспадзін бабыль быць царам. Ідзець к ліпе і стук тапаром у ліпу. Тут спрашыець голас:
— Што нада?
— Хачу быць царам, штобы мне вінілісь усе народы.
— Ідзі, і будзеш царам.
Прыйшоў ва іменне, і трэбуюць яго ва сталіцу каранавацьва цара. Накрасаваўшысь на белым свеце царам, захацеў быць богам, а жана была б багіняю, а дзеткі бажаняткамі. Прыехаў на родзіну, пайшоў гуляць па полю і заходзіць к ліпе і стукнуў у ліпу. Голас громка і сярдзіта гаворыць яму:
— Бабыль-цар, што табе нада?
— Накрасаваўся я на белым свеце царам, а хачу тапер быць раўным богу.
— Нет, цар, раўным богу быць табе нільзя, а будзь тапер мядзведзем, штоб цябе на ланцугу павадзілі да вязінаю павазілі! Будуць цябе людзі баяцца, но будзеш і ты людзей баяцца.
Адышоў бабыль-цар, здзелаўся мядзведзем, жана мядзведзіцай, а дзеці медзвежанятамі і пайшлі па лесу, і тапер ходзяць страшылішчамі.

## 73. ШЭСЦЬ РЫБІН

Каля берага мора на высокім падгорку стаяла хатка, мохам заросшы, з маленькім ваконцам, з паламанымі дзвярамі. У гэтай хатцы жылі дзед і баба. Бабка была вельмі старэнькая. Ей было больш чым сто год. Валасы ў яе былі сівыя, твар увесь у зморшчынах. І была яна бяззубая, гарбаценькая. Дзед быў трошкі шустрэйшы за бабку, але сілы ў яго было вельмі мала. Усё жыццё сваё дзед праводзіў за рыбалоўляй. Кожну раніцу, як толькі развідняецца, бярэ ён вудачку і ідзе да сіняга мора. Бабка ў той час каля ваконца чакае дзядка.

Аднаго разу пайшоў дзедка на рыбку і, як спусціў вудачку, адразу ў яго руках пачулася нешта цяжкое. Падняў ён вудачку да бачыць, што аж шэсць рыбін учапілася. Вельмі ўзрадаваўся дзедка. А потым раптам бачыць — стаяць перад ім царэўны вельмі харошыя. Валасы на іх шаўковыя, з залатымі каронамі. Сталі яны ўсе перад дзедам, нізка пакланіліся, і адна з іх гаворыць:

— Бацька ты наш родны! Ты нас вызваліў. Нас сюды вадзяны цар усадзіў. Бяры каторую за дачку да сябе.

— Як я вас павяду ў такую хатку?

— Нічога,— кажуць,— не журыся. Як будзеш падыходзіць да сваёй хаткі, убачыш на зямлі кіёчак. Махнеш ім у правы бок — перад табой стане царскі палац. Махнеш ім у левы бок— адчыніцца брама залатая.

Выслухаў дзед гэтыя словы і агляну́ўся вакол, ■ царэўнаў ужо і няма.

Узяўшы вудачку, ідзе дзед дамоў. Глядзіць — на сцежцы ляжыць кіёчак. Падняў ён кіёчак і махнуў у правы бок. Перад ім стаў царскі палац, і такі прыгожы, што ні ўздумаць, ні ўзгадаць, толькі ў казцы сказаць. Узмахнуў у левы бок — перад ім адчынілася залатая брама. Дзед аж здзівіўся, што перад ім такое царства адчынілася. Не верыцца яму, што ён тут будзе жыць. Увайшоў у гэты царскі палац і бачыць — сядзіць яго бабка ўся ў золаце. Дзед аж ахнуў.

— Вось, баба, цяпер мы пацарствуем!

І стаў дзедка царом, а бабка царыцаю. Тыя царэўны, якіх дзед вырataваў, павыходзілі замуж за царэвічаў і прыязджалі вельмі часта да дзеда і бабкі ў госці. І доўгі час дзед і баба жылі, віно пілі і шчаслівы былі.

## 74. КУПЧЫК НЕБАГАТЫ

Як жыў купец ды памёр. І асталася ў яго жана і маленькі сынёначак. Тады, уміраючы, ён сказаў жане:

— Помні, жана любезная, калі ён вырасцець, у саваршэнныя леты выйдзець, тады яму перадай грошы на рукі і ўсё маё імушчаства!

І так гадоў да семнаццаці быў ён у мацеры. І просіць ён у маменькі:

— Маменька мая любезная, дай мне сто рублей: пайду на базар што-небудзь купіць.

Маменька дала яму сто рублей, і пайшоў ён на рынак. Хадзіў, хадзіў па рынку цэльны дзень, і не спазрыўся яму ніякі тавар. Толькі ён відзіць — носіць мужык ката. Ён гаворыць:

— Што табе за ката, мужычок?

— Сто рублей!

Ён выняў яму з кармана сто рублеў і аддаў за ката. Прыходзіць дамоў, і маць яго спрашыець:

— Сынка мой вазлюбленны, якога ж ты тавару закупіў?

— Купіў звярушку!

А маць гаворыць:

— Гэта ж ты ката купіў!

А ён гаворыць:

— Якая мне штука трапілась, такую я і купіў!

Маць кажаць:

— Сынку мой, сынку, дурны твой розум!

Тады яны павячэралі, ляглі спаць. А назаўтра паўтру ён знова просіць у маткі сто рублей. А матка гаворыць:

— Сынка мой, ты яшчэ такую глупасць купіш, як учорась!

Ён і гаворыць:

— Што мне спазрыцца, тое я куплю!

Тады матка дала яму сто рублей, і пайшоў ён на рынак. І хадзіў ён цэльны дзень, і нічога яму не трапілася. Ідзець ён дамоў, а чалавек вядзець сабаку. Ён спрашыець:

— Што ты вядзеш?

— Сабаку!

— Што, ты яго прадаеш?

— Прадаю!

— Што ты за яго хочаш?

— Сто рублей!

Тады ён аддаў сто рублей таму чалавеку за сабаку. І прыйшоў ён дамоў з сабакай. Маць у яго спрашыець:

— Якога ты тавару закупіў?
— Сабаку!
— А што аддаў?
— Сто рублей!
Стала яна браніцца:
— Вот, сынку, глупы твой розум: учора ты купіў ката, а сягоння сабаку. Вот дзвесце рублей з кармана!
Тады ён кажаць:
— Маць мая, маліся ты богу, кладзіся спаць!
Назаўтра ўстаець ён раненька, памыўся беленька, памаліўся шчыранька і просіць у маткі яшчэ сто рублей. А матка кажаць:
— Сынку мой, сынку! Ты ўжо занёс дзвесце рублей і яшчэ сто рублей!
А ён кажаць:
— Маць мая, можаць пры худой гадзіне знадабны будуць!
Тады маць яму выняла сто рублей і падала. Ён у яе ўзяў і пайшоў на рынак. Хадзіў, хадзіў, і нічога яму не трапілась купіць. К вечару дзела — трапіўся яму нейкі пан і кажаць яму:
— Малады парань! Ці не дастаў бы ты ў склепе ў барыні ўмершай залаты персцень? Што хочаш, я табе заплачу, хоць тышчу рублей, толькі дастань мне, падай!
А ён гаворыць:
— Адчаго, можна!
Тады ён узяў адамкнуў склеп і ўпусціў яго туды, а дзверы замкнуў. Пайшоў ён па грабах, ажно ляжыць паня ўмершая, а залаты персцень ажно зіяець у яе на руцэ. Ён укленчыў перад ёй і паматіўся і гаворыць:
— Пазволь мне персцень з рукі зняць!
Тады ўзяў яе за правую руку і зняў персцень. І тады ўкланіўся ёй нізенька ў ногі і пайшоў к дзвярам і стучыць у дзверы:
— Пусці мяне вон, я ўжо персцень дастаў!
А пан гаворыць:
— Падай мне персцень сквозь дзверы ў балонку!
А ён кажаць:
— Я табе не падам! Перша ты мяне выпусці і заплаці грошы, тады я табе аддам!
Ён жа яго не пускаець, а ён персня не даець. Тады ён, седзючы там, зняў персцень з пальца, з рукі на руку перакінуў, і стала перад ім тры малойцы. І спрашуюць у яго:
— Паня-Іваня, што за ўслугу нада?
А ён ім гаворыць:
— Разбіце гэты склеп і дастаўце мяне ў вайцоўскі дом!

Тут тыя добрыя малойцы разбілі склеп і даставілі яго ў вайцоўскі дом к мацеры. Тады ж маць у яго спрашыець:

— Сынку мой, што ж ты за сто рублей купіў?

— Нічога па маёй натуры не трапілася, маменька! Маліся богу, лажыся спаць: заўтра паўтру, маменька, будзець мудрэй вечара!

Узяў персцень з рукі на руку перамяніў, і стала перад ім тры малойцы і спрашываюць:

— Паня-Іваня, што за ўслугу нада?

А ён сказываець ім:

— Штоб за ноч дом быў выстраен такі, што ні ўздумаць-згадаць, толькі ў прыказцы сказаць!

Яны яму гавораць:

— Паня-Іваня, лажыся спаць: за ноч усё будзець!

Лёг ён спаць. Назаўтра ўстаець і відзіць ён, што ён і маць спяць у пярынах, прыслуга ў іх ёсць — і кухары, і лакеі. Маць спрашыець:

— Сынку мой, сынку, адкуль табе гэта бог даў!

Ён і гаворыць:

— Маменька мая, што я ад бога задумаю, тое мне бог і дасць!

Тады ж ён, перабыўшы дзень, і к вечару дзела, гаворыць:

— Маменька мая, маліся богу, лажыся спаць: заўтра паўтру мудрэй вечара будзець!

Тады ён узяў перакінуў персцень з рукі на руку, выскачыла перад ім тры малойцы і спрашываюць у яго:

— Паня-Іваня, што нада за ўслугу?

Ён і гаворыць:

— Каб было шасцёрка лашадзей і поезд харошы: кучары, лакеі і хвалетары, каб мацеры маёй адзежа была харошая к цару ехаць у сваты!

Тады яны сказалі:

— Паня-Іваня, маліся богу, лажыся спаць: будзець табе паўтру ўсё!

Тады ж ён устаў паўтру і пасматрэў — стаіць прыгната шасцёрка лашадзей з кучарамі, з лакеямі, з хвалетарамі, і мацеры адзежу прывязлі. Маць устала і гаворыць:

— Сынку мой, сынку, адкуль табе шчасця даў бог?

Тады ён гаворыць:

— Ну, маменькая мая, убірайся і едзь к цару ў сваты. Я думаю ўзяць за сябе яго доч!

Тады маць гаворыць:

— Сынку мой, дзе цар аддасць за цябе доч?

— Ну, маменька, аддасць не [а]ддасць, а сватацца надабі!

Маць яго прыбралася, адзелася і паехала. Прыязджаець туды к цару, а цар у яе спрашыець:

— Аб чым ты прыехала, купецкая жана?

Яна яму адказыець:

— Прыехала ў сваты за свайго сына!

Цар гукнуў доч сваю і сказыець:

— Вот купецкая жана прыехала ў сваты за сына свайго!

Яна яму адказыець:

— Я тады пайду за яго, калі будзець дом чышчы нашага айца, і выстраіць мост ад нашага дома і да яго — сярэбраная штынпальная і залатая штынпальная, сярэбраная масціна і залатая масціна, тады я пайду за яго замуж!

Паехала яна дамоў і сыну сказываець:

— Сынку мой, дзе нам узяць царскую доч і здзелаць тое па яе загадцы?

А ён ёй адказываець:

— Маць мая, маць, маліся богу і лажыся спаць: заўтра паўтру мудрэй вечара!

Увечары ж ён кальцо перакінуў з рукі на руку, і стала перад ім тры малойцы і спрашываюць у яго:

— Паня-Іваня, што за ўслугу нада?

— А вот што: каб паўтру мост быў выстраен — залатая штынпальная, сярэбраная штынпальная, залатая масціна, сярэбраная масціна, ад нашага дома ды да царскага!

— Паня-Іваня, маліся богу, лажыся спаць — будзець усё!

Тады ён устаў раненька, паглядзеў, ажно мост выстраен, ажно зіяець! Будзіць ён матушку і кажаць ёй:

— Маменька, паязджай к цару ў сваты па гэтаму масту!

Яна ж устала, адзелася і паехала. Прыязджаець к цару. Цар выходзіць на высок балхон, узяў па[д]зорную трубу і сматрыць: ажно мост ад яго крылца і да купецкага выстраен, ажно зіяець!

І спрашыець ён доч сваю:

— Відна, табе ісці за Іваньку, купецкага сына!

Доч яго гаворыць:

— Калі ж ён хітрэц ды мудрэц, то няхай ён разным вінаградам абсадзіць паабапал маста, і як мы будзем ехаць к вянцу, каб цвіцеў, а ад вянца — каб адцвіцеў, і каб мы маглі кушаць ужо плады!

Тады ж маць яго з гэтымі славамі ўзяла і паехала дамоў. Прыязджаець дамоў, і сын у яе спрашыець:

— А што, ці высваталась?
А йна кажаць:
— Загадала загадку не гаразда харашо: каб ты высадзіў паабапал маста вінаградам: к вянцу едзя, каб цвіцеў, а ад вянца — ужо елі б плады!
Ен тады кажаць:
— Маліся богу да кладзіся спаць: заўтра паўтру будзець мудрэй вечара!
Ён сычас персцень перакінуў з рукі на руку, і стала перад ім тры малойцы і спрашываюць:
— Паня-Іваня, што за ўслугу нада?
— Вот,— гаворыць,— каб разнымі вінаградамі абсадзілі паабапал маста: каб к вянцу едзя, цвіцелі, а ад вянца — адцвіцелі і ўспелі плады, каб мы кушалі!..
Назаўтра ўстаець, выйшаў на высок балхон, смотрыць — па [а]беіх старанах абсоджана разнымі вінаградамі. Ён тады кажаць:
— Матушка, ступай адзявайся і едзь к цару ў сваты!
Тады яна паехала к цару ў сваты, і кажаць ёй цар:
— Ну, што ж? Хочаш ты са мной сватаўство завясці?
А яна яму кажаць:
— Жалаець мой сын доч вашу ў супружаства ўзяць!
Тады цар вызываець сваю доч і кажаць:
— Якую загадку загадываеш, а ён тое супаўняець. Відаць, што вы будзеце супруга яго, а ён ваш!
Яна тады загадку загадываець:
— Калі ж ён мой супруг, дык каб былі ў яго лашадкі палуччы вашых, на якіх вы едзеце на паску к абедні; карэта каб была палуччы вашай; дом чышчы вашага, піцяннё і едзяннё палуччы нашага. І калі ўсё гэта за ноч будзець здзелана, дык назаўтра няхай прыязджаець к вянцу; а як прыедзем з вянца, каб сталы былі засланы прасцірадламі, піцяннё і едзяннё панастаўлена!
Тады цар кажаць:
— Калі ты мая сваццця, то няхай усё гэта ў вас за ноч будзець, дык заўтра к вянцу прыязджайце!
Прыязджаець яна дамоў, а сын выскакваець к ёй наўстрэчу і спрашыець:
— Ну што, маменька?
А яна гаворыць:
— Сынку мой любезны, загадала царэўна загадку не гаразда харашо: каб к заўтраму ў нас былі лошадзі палуччы іхных; карэта, збруя — каб пачышчы царскай!

— Маць мая радзімая, маліся богу, лажыся спаць: паўтру будзець мудрэй вечара!

А ён, добры маладзец, узяў, персцень з рукі на руку перакінуў, і выскачылі тры малойцы і спрашываюць у яго:

— Паня-Іваня купецкі сын, што за ўслугу надабі?

А ён ім сказываець, што заўтра я буду прынімаць законны брак, дык каб лошадзі, карэта, кучары і лакеі палуччы царскіх былі, каб пакуль я з вянца прыеду, каб сталы былі закрыты дарагімі прасціраддамі і піцяннё і едзяннё палуччы царскага пастаўлена! Яны яму адказываюць:

— Маліся богу, лажыся спаць: за ноч усё тваё дзела супоўніта будзець!

Тады ён пайшоў спаць. Назаўтра ўстаў ён раненька, умыўся беленька, выйшаў на падворыцу, аж відзіць, што ўсё тое супоўніта, што царэўна прыказала. Тады яны ўвабраліся і паехалі к цару законны брак прынімаць. Выйшла тая царэўна, пасматрэла, ажно відзіць, што ўся яго дружына ўвабрана палуччы айцоўскай. Што рабіць? Айцец пабагаславіў тады законны брак прынімаць. Туды яны едуць — разныя хрухты цвіцяць, а пакуль іх абвянчалі, дык ужо ўсе хрухты паспелі, і сталі яны шчыпаць і кушаць. Абвянчаўшысь, яны ў цара пабалявалі, пагулялі і паехалі ў двор. Цар жа паслаў за імі царамонію і сам паехаў асматрэць іх з усёй сваёй світай.

І відзіць, што ў яго зяця ўсё пачышчы і палуччы, чым у яго самаго. І гаворыць ён:

— Сынку мой і доч мая, багаслаўляю я вас усім добрым шчасцем!

Тады цар пабыў там са сваёй світай, пагуляў, паехаў у свой царскі дом. Ну, сколькі яны жылі там, нескалькі гадоў благапалучна. Ён жа, Іван купецкі сын, нічога худога не думаець, а йна ўсё думаець, каб з ім разлуку мець і перакінуцца к праклятаму цару. І стала яна з ім добры рэчы гаварыць:

— Друг мой і супруга мая! Што ж гэта мы адзін з адным жывём і праўды не кажам? Адкуль ты гэтакага багацця ўзяў і розуму набраўся?

Тады ён ёй адказыець:

— Жана мая і супруга! Нашто вам таго дапытывацца, чаго нельзя знаць?

А йна яму гаворыць:

— Калі ты мой друг, а я твая, дык даўжон мне праўду сказаць; а калі не дакажаш мне праўды, дык я выйду к свайму айцу!

Тады ён ёй адказыець:

— Калі ты хочаш знаць гэта дзела, толькі каб гэта зналі мы ды бог трэці, нікому не кажы: ні айцу роднаму, ні мацеры!

І селі яны разныя п'яныя віны распіваць, і стала яна разныя харошыя рэчы гаварыць. Папіўшы він разных і п'яных, і ляглі яны аддыхаць.

— І скажы ты мне, друг мілы, адчаго ты стаў багат і адкуль ты розуму набраўся?

Ён жа ёй адказыець:

— Ёсць у мяне на правай руцэ персцень, і як я яго толькі зніму з пальца і з рукі на руку перакіну, дык сычас выходзяць тры малойцы і дастаўляюць яны мне ўсё, што нада!

Тады як заснуў ён багатырскім сном, яна сычас узяла, зняла з рукі ў яго персцень і з рукі на руку перакінула, і сычас выскачылі тры малойцы і спрашываюць:

— Царэўна наша, што за ўслугу вам надабі?

А йна гаворыць:

— Каб гэты дом, і са мной, і ўсё яго багацце перанясли к нявернаму цару, к Праклятаму Цмоку, а яго пакінулі ў бацькіным доме з яго матушкай!

Назаўтра ўстаець ён раненька і відзіць ён, што няма таго нічога, што ў яго было, толькі ён у вайцоўскім доміку. Цар жа выйшаў на высок балхон і відзіць ён, што няма ні мосту, ні разных вінаградаў, ні зяцева двара. Тады ён паслаў ведамнасць:

— Калі ёсць хто жывы — зяць ілі доч мая, дык прыстанавіць іх ка мне!

Калі ж яны асматрэлі, то ўвідзелі, што няма ні царэўны, ні двара, а толькі зяць адзін з матушкай сваёй. Тады ўзялі яго, добра малойца, і прыстанавіліналічна к цару. І спрашыець яго цар:

— Дзе ты падзеў сваю жану, а маю дочар?

Узяў цар і вялеў замураваць яго ў стоўб і здзелаць адно маленька вакошка і падаваць яму ў тое вакошка хвунт хлеба і хвунт вады.

— Ён, відаць, бальшы хітрэц!

Тады на другі дзень агледзеўся кот і пёс, што няма іхнага хадзяіна. І пёс кажаць кату:

— Пойдзем іскаць сваю царэўну!

А кот яму адказыець:

— Харашо, што ты вялік і дуж, можаш пераплысць чэраз сіне мора!

А сабака яму кажаць:

— Калі я пераплыву, то і цябе перавязу!

Тады яны ўзялі бросілі старуху, яго маць, і пайшлі із дому к сіняму мору. І кажаць сабака на ката:

— Садзіся на мяне і дзяржыся!

Паплыў сабака па сіню мору. Плыві, плыві і пераплылі яны на тэй бок. Вылезлі на бераг, кот саскочыў, сабака страхануўся, і пайшлі яны шукаць царэўну. Беглі, беглі і прыбягаюць к тым самым палацам, што былі ў Івана купецкага сына. Тады сычас улязаюць яны ў дом, і абрадавалась ім царэўна.

— А,— гаворыць,— коцька мой і кабелька мой, як гэта вы мяне найшлі?

Кот стаў мышэй біць да ў касцёр складаць, а сабака стаў на кухні кухару паўміскі мыць. Кухар і лакей жалеюць сабаку, а царэўна ката. Тады кот тэй прыладзіўся: яна спіць, а ён ціханька зубкамі тое кальцо калышы, калышы, і здзеў ён тое кальцо. Як здзеў, дык ён сычас гаворыць сабаку, што кальцо ўжо ёсць, пойдзем дамоў, каб хадзяіна нам захапіць жывога!

Тады яны як пудзь, дык пудзь і прыбеглі к сіняму мору. Тады сабака гаворыць на ката:

— Садзіся на мяне, паплывём, толькі харашо дзяржы персцень, не выпусці!

Сычас тады плыві, плыві, і спрашыець сабака ў ката:

— Кот, ці ёсць персцень?

А кот маўчыць. Тады сколькі яшчэ праплылі, і спрашыець узноў сабака ў ката:

— Ці ёсць персцень, а то я цябе ўтаплю!

А кот забаяўся, каб ён яго не ўтапіў, і кажаць:

— Ёсць!

Ды персцень і ўпусціў у мора. Як прыплылі яны к берагу, дык кот саскочыў ды на ель. А сабака спрашыець:

— Ча ты, кот, ускочыў на ель?

А кот кажаць:

— А што ж? Як стаў ты спрашываць, ці ёсць персцень, а я сказаў: ёсць, а персцень у мора!

Тады сабака кажаць кату:

— Лезь далоў, пойдзем мы сабе новага хадзяіна шукаць!

І пабеглі. Як бяжы яны, бяжы, прыбягаюць яны к рыбаку: сабака сцеражэць двор, а кот ачышчаець дом. Хадзяйка рада катом, а хадзяін сабакам. Тады раз улавіў тэй хадзяін бальшога шчупака, і стала тая хадзяйка чысціць таго шчупака, і найшлі ў сярэдзіне ў яго персцень і кажаць хадзяіну:

— Якога гэта ты шчупака ўлавіў, што ён праглынуў персцень!

І паклала яго на паліцу. А кот тое дзела відзеў. Ну, павячэралі яны і ляглі спаць, а кот не забыўся тое дзела, узяў перрсцень у рот і выскачыў у балонку. І гаворыць сабаку:

— Хадзі, пойдзем! Персцень ёсць! Каб нам свайго хадзяіна захапіць жывога!

Тады яны як пудзь, дык пудзь і прама ў тое царства, дзе ён жану сабе браў. І прама прыбягаюць к таму слупу, дзе ён умурован. Палез кот па слупу к тэй шыбе, куды яму падаюць есць. Услыхаў Іван Іванавіч купецкі сын, што к яму лезець яго кот, і разбіў ён шыбу і стаў гладзіць ката, а кот стаў яму кланяцца і ўсунуў яму персцень у руку.

Іван Іванавіч як увідзеў персцень, дык дужа абрадаваўся і з рукі на руку перакінуў, і стала перад ім тры малойцы і кажуць:

— Паня-Іваня купецкі сын, што за ўслугу надабі?

Тады ён кажаць:

— Каб гэту турму разбілі і мяне дастанавілі к маёй мацеры ў бацькаў домік!

Сычас узялі яны турму разбілі і таго часу яго дамоў дастанавілі. Маць даждала сына, абрадавалась яна і кажаць:

— Сынку мой, сынку, як цябе бог мілуець?

Ён жа кажаць:

— Малісь, мамка, богу, лажыся спаць, вутра вечара мудраней!

І ўзяў ён персцень, з рукі на руку перакінуў, і стала перад ім тры малойцы і спрашуюць у яго:

— Паня-Іваня купецкі сын, што табе за ўслугу надабі?

Ён жа ім кажаць:

— Каб дом мой дастанавілі на тое места, дзе ён быў; і каб жану маю прыстанавілі ў мой двор разам, сонных, з Праклятым Цмокам; і каб цесць мой, цар, а яе айцец, прыбыў сюды з усёй сваёй світай!

А малойцы яму кажуць:

— Маліся богу ды кладзіся спаць: вутра мудранее вечара!

Назаўтра, устаўшы, відзіць ён, што ён у тым самым доме, і яго жана спіць з нявёрным царам, з Праклятым Цмокам. Прыехаў цар асматрываць яго і сваю дачку. Іван Іванавіч купецкі сын тады гаворыць:

— Айцец мой і цар! Вот вы мяне казнілі, а што ваша доч, з кім яна жывець?

Тады цар прыказаў няверната цара, Праклятага Цмока, парубіць, спаліць і попел здуць, а яе прывязаць к лашадзіным хвастам і ў чыстае поле пусціць і разарваць.

А Івану Іванавічу купецкаму сыну сказаў:

— Жыві цяпер з богам, багаслаўляю цябе, і выбірай сабе жану ўва ўсім маім царстве.

## 75. АБ ОХУ І ЗАЛАТОЙ ТАБАКЕРЦЫ

Быў сабе сірацінa, леснікоў сын. Бацькі яму паўміралі і цалюсенька радзіна. Жыў ён адзінокі, як калок у чыстым полі, анно для разыграцы гадаваў ён сабе кошачку: бало дзе ён пахіліцца, то яна за ім усюдачкі выскакам. Аднаго разу пайшоў ён у лес прынесці сабе з бярэмечка драўцоў. Ідзе ён сабе, потым сеў на пні, а што яму цяжка было на сэрцы, так ён сабе охнуў моцненька, аж у том маменце выскоквае з-пад таго пня якісь барадач ды й пытае:

— Маладзік, чаго патрабуеш?

Так той сірацінa здзівіўся моцна, а гэты чалавечак кажа:

— Я Ох называюся, і ты мяне па прозвіску клікаў, мусіш мне цяпер сказаць, чаго хочаш, бо я табе і пардону не дам.

Так наш сірацінa, падумаўшы, сказаў:

— Цяпер то я нічога не патрабую, анно калі маеш што з'есці, то дай мне, бо я вельмі згаладнеў.

Так той Ох вынес яму хуценька з-пад пня скібку хлеба і міску стравы. Так хлопец то пад'еўшы, падзякаваў харашэнька і ўжэ яму весялей-такі на сэрцы стала. Прыйшоў дахаты, перабыў дзень, другі, ды й зноў яму голад дакучае; прыдумаў ён сабе аб том пяньку, так, гэта, пайшоўшы на тое месца, клікнуў: «Ох!» А той выскачыў ды й зноў яго накарміў, аж кішка прутам стала. Ад тае пары той сірацінa заўсёдачкі да Оха хадзіў есці, аж адзін раз кажа яму Ох:

— Мой сынку, не ўтруджай ты мяне цёнгле, дам я табе залатую табакерку, а як табе будзе чаго патрэба, то як ты,— кажа,— адамкнеш гэту табакерку, то мой падданы стане перад табою ды й зробіць усё тое, што ты яму прыкажаш.

Як даў яму табакерачку, так ён і пайшоў вясёленькі, і ўжэ ад тае пары бало як яму чаго захочацца, адчыніць табакерачку, так і стане перад ім на ўслугі некісь чалавечак ды й усё робіць

што ён яму прыкажа. Ажно аднаго разу, узяўшы сваю табакерку і кошачку, пайшоў ён сабе мандруючы. Ідзе ён, так ідзе праз шмат местаў, двароў і сялоў, праз цёмныя бары ды й прыходзіць да незмяронага мора ды й угледзеў там на берагу рыбачку, што вална выкінула. Узяў ён тую рыбку ды й кашкянуў нагою назад у мора, бо яму шкада стала, што яна даходзіла ўжэ на слонку. Тады гэта рыбка, высадзіўшы голаў з вады, кажа яму:

— Дзякуй табе, малойча, што ты мяне ад смерці збавіў, можа я табе калі стану ў прыгоданьцы,— ды й сама плюскéць! у воду. Так ён то сам да се ўсмехнуўся ды й думае: «Нашто мне твая ласка, калі ў мяне ў кішэні прыгоданька!» Ідзе ён далей, ажно выбягае з норкі мышка, а яго котачка цап! за тую мышку. Так яму шкада гэтае мышкі стала, так узяў ад кошачкі ды й усадзіў у сваю торбачку, даўшы ёй скарыначку хлеба, каб мела што есці. Ён усяго шкадаваў, што было адзінока, бо яму заўсёды было на памяці яго горачка. Ідзе ён, так ідзе, ажно над морам стаіць вялікі кралеўскі палац. Так ён зайшоў да благенькае хатачкі ды й просіцца тае сям'і нанач. Яны яго радыя прынялі, ды й як разгаварыліся, кажуць яму, што тутака жыве кароль вельмі багаты, а ў яго то калісь была адным адна дачка, вельмі хароша, а і тую нешта парвала ў глухую поўнач ды й занясло серад мора на вялікую купіну, на каторую ніхто ані дайсці, ані даплыўсці не можа, бо яна заклята. Ды й яшчэ кажуць, што той кароль абгаласіў, што калі хто да яго дачкі дойдзе і забачыць, ці яна яшчэ жыва, то ён за таго аддасць яе і ўсё кралеўства апіша. І кажуць, што нямала ўжэ было пахопных, разулітных, а такі ж адзін з іх на тую купіну за вялікаю валнею на вадзе дастацца не мог. Так той сірацiна, падумаўшы, кажа ім:

— Азнаймце каралю, што я туды дастануся, а ўзаўтра, пакуль слонка зыдзе, кароль сваю дачку ўгледзіць.

Ну, так яны хутчэй то далі знаць, так кароль вялеў, каб сірацiну прывялі зараз перад яго вочы.

Ён, паглядзеўшы на яго, сцiснуў плячыма, пакруціў галавою ды й думае сабе: «Няўжэ ж гэтакі нігеда мог бы тое ўчыніць, чаго мудрыя рыцары не даказалі?»— ды й потым кажа:

— Ну, хлопча, то-та ты маш выбавіць маю цурку? То-та ты мне жыця прыложыш?

— Я,— кажа,— найяснейшы кролю!

— Ну, кеды так,— кажа,— то патжайсе, каб у ютжэ, пукі я ўстану, каб моя цурка была ў мне, а іначай то раскажу цебе расцёнгнонць на жэлезны броны.

— Будзе, найяснейшы кролю!

— Ну, ну, забачым твою камед'ю!

Ён то вышэчы, узяў адчыніў сваю табакерачку ды й прыказвае таму:

— Ну, мой ты мілюсенькі, глядзі ж,— кажа,— ты цяпер, каб стаў заўтрачка да свету вылажаны мост ад кралеўскага палацу да заклятае купіны з залатымі парэнчамі, ды й каб шэсць коні ў залатом кочу чакалі на мяне.

Так той кажа:

— Добра, усё стане!

Тады ён сабе лёг ужэ спаць спакойна. Назаўтра сіраціна прабудзіўся, глядзіць, аж усё стала як прыказаў, так ён то зараз сеў у залаты коч ды й што найхутчэй паехаў па кралеўну.

Прыязджае ён на тую закляту купіну, глядзіць, ажно там вялікі замак, а ў ём тая кралеўна. Яна то ўгледзеўшы яго, не магла сцешыцца, аж ёй мглосна стала, бо ўжэ яна даўно людзей не бачыла. Ён то як уляцеў да яе, так кажа:

— Сядайце, паненко, паедзеце да о́тца сва[й]го.

Так яна то хутчэй скочыла ды й як маланкаю прыляцелі пад акно, дзе сам кароль спаў.

Кароль то, пачуўшы грукат, схапіўся пад акно, ажно бачыць: той сіраціна яго дачку як зорку з коча выхватвае; так думаў, што гэта ўсё ўва сне, ды й з радасці не ведаў, як іх сустрачаць; абымаў, цалаваў ды й годзі. Утэды сіраціна памаленечку вышэчы, адчыніў табакерачку ды й кажа:

— Знясі ж ты гэты мост і спрач усё!

Так у той мамент, як пе́рынку асмаліць, усё знікла.

Кароль ужэ нацешыўшыся, няма што, стаў круціць галавою аб вяселлі. Вяселле справіў ім добра, усяго было, анно птушынага малака бракавала. Яшчэ перад вяселлем кароль усенечка аддаў ім, а сам пры сваіх дзецях сядзеў, як у бога за плячыма. Ажно кралеўне нешта ў хвасце закруціла, ды й стала прасіць, маліць сва[й]го мужа:

— Каб гэта,— кажа,— мы пераехалі жыці да таго заклятага замка на купіну.

Так ён, няма што, выняў сваю табакерачку, зноў усё стала— той коч, яны сеўшы ды й паехалі.

Пераехаўшы туды, ужэ таго моста не знімалі: бало штодня сабе то бацька да іх, то яны да бацька ездзілі ў гасціну. Было ім добра тамака, як у раі, бо як чаго забракуе, адчыніць табакерачку, ды й усё стане.

Але знаць было, што ён ёй не быў вельмі да душы. Аднаго разу зачала яна плакаць ды й прасіць, каб ён сказаў, якім спосабам мае ўсё, што захоча. Ён доўгенька ўпіраўся, але яна стала яго страшыць ды й кажа:

— Я зараз умру, як ты мне не скажаш.

Так ён, няма што, прызнаўся ды й паказаў ёй табакерачку, а яна яму прысягнула, што нігдачкі яго не зрадзіць.

Адзін раз сіраціна выбіраўся ехаць з каралём на паляванне, так узяў ён мышку, кошачку з сабою, а аб табакерачцы чыста забыўся.

Анно што з'ехаў з моста, аглянуўся, ажно той мост ужэ зняты! Цапнуўся да кішэні:

— Ах, ліхачко, няма табакеркі! От табе,— кажа,— і прысяга жончына! От, я яе пашкадаваў, а яна цяпер мяне навекі згубіла!

Ходзіць ён над морам, плача, тужыць, рукі ломіць, ажно адзываецца з торбы мышка:

— Не плач,— кажа,— так, не журыся, анно раскажы мне сваю прыгоду, мо я табе ў чом параджу.

Так як ён расказаў сваю бяду мышцы, так яна пагаварыла нешта з кошачкаю, сама села на яе, ды й паплылі на тую купіну. Дастаўшыся да таго замка, кошка схавалася, а мышка ўбегла да кралеўны пакою ды й там прагрызла дзірку ў кубле, у каторым ляжала табакерка, ды й узяўшы гэта яе ў зубкі, села на кошку, ды й гэта хутчэй паплылі да сваго пана.

Даплываюць яны ўжэ да берагу, ажно пытае кошачка мышкі:

— А табакерку маеш?

Яна кажа:

— Маю,— ды й у том табакерка плюсь! у мора.

Так кошачка са злосці хацела ўжэ задушыць мышку, але пан ёй не пазволіў. Ходзіць ён, небарака, задумаўшыся, аж з мора вытыкае рыбка галоўку ды й пытае:

— Чалавечку, чаму ты,— кажа,— так сумуеш? Раскажы мне, мо я табе стану ў прыгодзе, бо і ты мне колісьціць, як я ляжала на пяску, ад смерці выбавіў.

Як сіраціна расказаў ёй аб табакерцы, так рыбка кажа:

— У мяне такіх табакерак есць што незлічона, я буду табе выкідаць на бераг, а ты пазнавай, катора будзе твая, то ты сабе вазьмі, а мне мае назад паўкідай.

Выкідала яна яму табакеркі срэбныя, залатыя, дыямэнтавыя і ўсялякага калібру, аж паміж імі знайшоў ён і сваю. Так падзя-

каваўшы рыбцы, зараз гэта адчыніў сваю табакерачку ды й гэта вялеў, каб у глухую поўнач быў замак абложаны надаўкол саломаю, ламатою ды й спалены разам з кралеўнаю; а сам зараз то пайшоў з кошкаю і мышкаю мандраваць па шырокаму свету, шукаючы лепшых людзей.

## 76. АБ СМУШЧЭННІКУ МІЛЛЯНЕ

У некатарым царстве, у некатарым гасударстве, у том, у яком мы жывём, вызываўся адзін Міллянам, а ён не быў Міллянам, а быў смушчэннік. Гэты смушчэннік вёў знакомства ■ купцом, і толька ў гэтага смушчэнніка не было ні кучара, ні лакея, а сам і за кучара, і за лакея. Вот ён, быўшы ў купца, і гаворыць яму:

— Гаспадзін купец, надабен ба мне які-нібудзь хлапец у кучара і ў лакеі: ці не знаеш ты тут кога ў горадзе?

Купец і гаворыць смушчэнніку:

— У нашым горадзе ёсць бедная старуха, у ёй ёсць сынішка, можна ёй пагаварыць: можыць быць, яна і сагласіцца табе аддаць яго.

Разыскалі старушку і гаворáць ёй:

— Старушка, вот Міллян нуждаецца ў лакеі і кучары. Застаў-ка ты свайго сына к яму, а не то саўсім прадай.

— Ах, бацюшка мой, а як жа мне без сынка быць? Хто мяне будзець вадзіць па міру?

Міллян з купцом і гавораць ёй:

— Ты палучыш бальшыя за сына дзеньгі, хадзіць па міру болей не будзеш. Аддай, аддай сына, старуха!

Міллян даець ёй, старусе, сто рублей, сто рублей на пракармленне, да сыну сто рублей у год. Старуха сагласілась і аддаець сына Мілляну. Сына старухі звалі Валадзімірам.

Бярэць Міллян Валадзіміра, садзяцца на лашадзей, прашчаюцца са старухаю і [а]дпраўляюцца ў пуць.

Едуць Міллян з Валадзімірам дзень, другой, трэці і болей, і болей. Дзе ўздумаець Міллян астанавіцца і накарміць лашадзей і паесць ім самім, там на тым месце яўляецца агромны прыўкрасны дом; у гэтым доме для іх і напіткі, і наедкі разныя, каням іх і сена, і аўса, а як уязджаюць са двара, дом тот ісчазаець, так што нетуці ніякіх прызнакаў двара.

Валадзімір усё гэта замячаець да і падумываець: што-та будзець далей? Міллян Валадзіміра дужа жалеў за то, што ён служыў яму верна і чэсна: спаў Валадзімір з хазяінам Міллянам у мяккіх пасцелях умесці; пілі, елі, чаго душы хацелась.

У Мілляна на палцу кальцо залатое. У адну ноч Міллян з Валадзімірам уляглісь спаць. Заснуў яго хазяін Міллян, а Валадзімір не спаў, а задумаў, як ба тое залатое кальцо ў Мілляна ўкрасць. І ўкраў залатое калечка, выйшаў на крылечка, перакінуў з рукі на руку залатое калечка — і ўдруг яўляюцца к яму тры малайцы і гаворaць яму:

— Што, Валадзімір, прыкажаш дзелаць?

— Аддаліць мяне,— атвячаець Валадзімір,— за Карпацкія горы!

Яны, тры молайцы, і гаворaць Валадзіміру:

— Харашо! Ісполнім тваё прыказанне!

Устаець Міллян, завець к сабе Валадзіміра, а Валадзіміра нет.

Міллян доўгае ўрэмя праваждаў, усё Валадзіміра паджыдаў. Ждаў ён Валадзіміра і доўга, а Валадзіміра як нет і ўсё нет. Хваціўся Міллян залатога кальца: калечка залатога нет; ён і дагадаўся, што Валадзімір кальцо яго ўкраў, і гаворыць сабе: «Ну, машэннік, заставіў тапер мяне тры года пастрадаць».

У Мілляна была кніга іраціцкая. Ён бярэць гэту кнігу і начынаець чытаць, і гаворыць яму тая кніга:

— Валадзімір, твой кучар і лакей ужо далёка, ён ужо праехаў Карпацкія горы.

Валадзімір узнаў, што Міллян да яго дабярэцца і будзець яму ад Мілляна плоха, разрэзаў на назе бальшой палец, пад кожу заторнуў залатое кальцо, кальцо схаваў далёка.

Міллян адправіўся за Карпацкія горы адысківаць Валадзіміра. Шоў ён тры гады, находзіць Валадзіміра, гаворыць яму:

— Хто цябе сюды даставіў і зачым ты мяне бросіў?

Спрасіў также ў яго:

— А дзе ж маё кальцо?

Валадзімір і гаворыць Міллянy:

— Кальца я ў цябе не браў — у мяне яго нету; а хто мяне сюды даставіў, я і сам не знаю, не знаю, як здзесь аявіўся; не гневайся, мой ты дзядзюшка: я прад табою ні ў чом не вінават.

Міллян начаў яго біць-калаціць і збіў на горкае яблака, а Валадзімір толька і гаворыць яму:

— Не знаю, не ведаю!

Ад бальшога ўжо сэрца Міллян стукнуў а[б] земель сваею нагою, і ў зямлі здзелалась бальшая шчэль — зямля раздваілась; схваціў Валадзіміра за галаву і бросіў у гэту шчэль. Валадзімір праваліўся ў тартарары; тады ўдарыў нагу аб нагу, зямля саедзінілась умесці, і пропасці не стала; а Валадзімір там і застаўся. Захацелась Валадзіміру там есць — ён ужо ачуняў ад бойла. Там тож усяго многа, і драгацэнных камней, а есць нечага. Аташчаў бедны Валадзімір, а кальцо залатое і пазабыў, што яно ў палцы зарасло. Толька ўвідзеў ён там рэчку, а па другую старану рэчкі спелы-праспелы вінаград; ён скінуў з сябе ўсё, раздзеўся і паплыў па рэчцы к вінаграду.

Прыплыў ён к берагу — бераг крутой, ухваціўся за бераг — бераг абрушыўся і садраў кожу з пальца; яўляюцца к яму тры малайцы і гаворацъ яму:

— Што, Валадзімір, прыкажаш нам здзелаць?

Валадзімір і гаворыць ім:

— Штоб выташчылі на бераг!

Яны падхвацілі яго пад рукі і выташчылі із рэчкі. Просіць іх Валадзімір, штоб яны яму далі піць і есць. Атвячаюць яму тры малайцы:

— Нет, мы тут не можам цябе ні накарміць, ні напаіць: здзесь ёсць сільней і пазнатней нас. А вот мы табе пасаветуем, што здзелаць. Тут ёсць алмазкі сярэбраныя і залатыя, усё новыя — ты іх не бяры, а ішчы алмазкі маленькія і старанькія, вазьмі яе сабе і берагі яе: будзець табе служыць тады сівенькі старычок.

Найшоў ён дрэнніhькую, старанькую алмазачку, цярнуў аб рукаў, і яўляецца прад яго старанькі старычок і гаворыць яму:

— Што табе надабі?

— Хачу піць і есць, прыгатоў мне, віць я аташчаў.

Ён пад'еў, падпіў і старыка паблагадарыў і пайшоў прагуляцца. Набраў узел драгацэнных каменняў, разных драгацэннасцей; цярнуў ён алмазкаю — явіўся апяць к яму старычок і спрашыець у яго, што Валадзімір прыкажаць здзелаць. Валадзімір спрашыець:

— Ці можаш на тот свет даставіць?

Старычок яму ў атвет:

— Магу!

— Ці жыва мая маць, скажы мне?

— Жыва.

— Я хачу ляжаць на адной лажніцы з мацер'ю, дастаў мяне к ёй!

Старык сагласіўся іспалніць яго слова і даставіў яго к мацеры.

Маць яго ўстала рана, відзіць такога ўкрасівага молайца на яе лажніцы — сільна ўжаснулась і гаворыць:

— Госпадзі, твая воля! Хто гэта ўкрасівы, адкуль ён і зачым тут улёгся — няхай ба я была маладая, а то віць старуха!

І дзівіцца сабе. Валадзімір і гаворыць мацеры:

— Матушка, ты не ўзнаеш мяне, сына вашага?

Яна і гаворыць яму:

— Як я магла ўзнаць? Ты тады быў маленькі, а тапер куды які маладзец узяўся — кроў з малаком.

— Ах, матушка, чужыя людзі і вырастуць, і выгладзяць — выўчаць, як на свеце жыць!

Паблагадарыў Валадзімір і друга Міллянава, купца тога горада, каторы памог Мілляну сгаварыць яго і маць у кучара і лакеі. Мала-многа пажыў Валадзімір з мацер'ю на хвацеры, наступілі ражэственскія празднікі; гаворыць сын мацеры:

— Матушка, я, імея савяршэнныя годы, думаю жаніцца. У нашага цара ёсць дочка; як ба ты схадзіла к цару ў сваты, папрасіла рукі дочары царскай!

Маць і гаворыць яму:

— Што ты задумаў, мой сынок? Ці можыць стацца, штобы цар выдаў за цябе сваю доч?!

— Матушка, пасланца не б'юць і не вешаюць. Вазьмі гэты мой узялок і нясі к цару: када цар прымець гэтыя вешчы, аддасць за мяне і доч сваю!

Старуха, маць яго, адправілась з узялком, з вяшчамі к цару ў сваты. Прыходзіць ка дварцу, стала дабівацца, як ба відзець самаго цара. Яе дапусцілі к цару. Цар спрашыець:

— Што табе нужна, старуха?

Яна гаворыць цару:

— Свет ты наш, вялікі гасудар, прынесла табе ад сына майго гасцінец і прыйшла прасіць за сына майго рукі тваёй царскай дочары.

Цар бярэць узел, паглядзеў: драгацэнныя вешчы; паслаў за міністрам. Перагаварыў цар з міністрам, із узла вылажылі на паднос усе драгацэннасці — драгацэнныя вешчы ўсе цару панаравілісь, і вялеў міністару прыбраць у царскі кабінет, а старусе сказаў цар:

— Ідзі з богам: су ўрэменем тваё дзела будзець!

Прыйшла дамой і гаворыць сыну:

— Ну, сынок, цар вешчы ўсе прыняў, а мне сказаў: «Ідзі дамой, старуха: дзела тваё будзець».

Вялось гэтаму многа-мала ўрэмя, цар выдаець сваю доч у чужую зямлю за каралевіча і пра старуху забыў. Пайшла старуха ў горад; відзіць, што на ўсіх уліцах прыбіты афішкі, штоба ўсе купцы адпускалі б хлеб без платы, а стоімасць і калічаства хлеба запісываць у кнігах: после свадзьбы царэўны будзець уплачываць дзеньгі купечаству сам цар. Прыходзіць маць у хвацеру і гаворыць сыну, што відзела і што слышала ў горадзе.

— Вот, сын, абмануў нас цар! Выдаець доч сваю за каралевіча ў чужую зямлю; прапалі твае драгацэнныя вешчы!

Сын мацеры атвячаець:

— Пускай сабе выдаець, за кога хочыць! Не хлапачы, матушка!

Выходзіць доч царава за каралевіча. Паехалі ў божы храм пад вянец; перавянчалісь і началі гуляць свадзьбу. Многа было гасцей у дварцы на свадзьбе царскай дочкі. Наступіў вечар.

Валадзімір цярнуў алмазку аб рукаў — яўляецца к яму старанькі старычок і гаворыць:

— Што прыкажаце дзелаць, Валадзімір?

Валадзімір і прыказыець старыку:

— Сягодня царская доч выйшла замуж, дак ты нявесту, царскую доч, палажы на маю лажніцу ка мне, а каралевічу стаяць у маёй кварціры на часах!

Усё гэта так і случылась. Утрам Валадзімір бярэць алмазку, трэць аб рукавы. Явіўся яму старычок і спрашыець:

— Што прыкажаце дзелаць?

— Адвядзі царэўну з каралевічам у царскі дварэц!

Явілісь навутра маладыя ва дварэц і не смотраць адзін на другога, як будта і век не відалісь друг з дружкаю. Дружка дакладаець цару:

— Свет вялікі цар, каралевіч з вашай дочар'ю ў бальшом несагласіі.

Цар рачыць дружку:

— Пусць пабудуць і пазнакомяцца да следуюшчага дня!

Наступіла ноч. Валадзімір прыказыець апяць старычку:

— Ступай ва дварэц, прывядзі царскую доч у маю лажніцу і каралевіча ў маю хвацеру; угасціць каралевіча піцяннем і едзяннем как нільзя хужы, пасадзіць яго ў другой комнаце, штоба царская доч і я каралевіча відзелі!

Навутра прыказыець старыку адправіць іх абоіх ва дварэц. Каралевіч з царскаю дочар'ю не глядзяць друг на друга і не

юцяцца адзін к другому. Падходзіць ацец царэўны з дружком маладых к каралевічу і дочары сваей; а каралевіч падаець на калена перад царом:

— Памілуйце, бога радзі: я хоць і перавянчаўся з вашаю дочар'ю, но жыць з ёю не сагласен, і яна мне не нужна!

Цар удзівіўся і спрашыець у каралевіча:

— Што гэта значыць? Чым мая доч табе не нравіцца?

А каралевіч цару атвячаець:

— У вашым царстве ёсць які-та Валадзімір, ён ужо дзве начы жыцця мне не даець.

Доч цара, увідаўшы атца, такжа гаворыць:

— Бацюшка, што хочаце са мной дзелайце — воля ваша! Я з каралевічам жыць не буду.

Цар сільна агарчыўся, чуя іх такія рэчы, і даў ім разводную.

Каралевіч палучыў разводную ад цара, адправіўся ў свае царства. Цар прызываець свайго міністара і саветуецца з ім, што тут дзелаць са Валадзімірам. Міністар уталкаваў цару:

— Свет вялікі гасудар, ці не тот гэта Валадзімір, каторага маць прыхадзіла к табе з вузлом дарагіх вяшчэй і разных драгацэннасцяў?

Цар і ўздумаў пра старуху-маць, сваху Валадзіміра, і як ён даў ей наканец слова, што будзець усё па яе жаланню су ўрэменем.

— Так-та, цар, не праў і ты сам: даўшы слова, дзяржысь! Надабна за Валадзіміра і выдаць доч!

Цар пасылаець веставога за Валадзімірам, штоб ён явіўся на ліцо ва дварэц к цару. Валадзімір прыходзіць к цару, пакланіўся яму, гаворыць:

— Здрастуй, свет вялікі гасудар!

Цар яму гаворыць:

— Валадзімір, ты хочаш маю доч узяць замуж?

— Хачу! — атвячаець цару Валадзімір.

— Ну, а калі так ты хочаш, я аддам за цябе маю доч, на таком толька ўсловіі: калі ты пастроіш для дочары маёй дварэц луччы і красівей майго дварца, і штоб была ўліца ад майго дому да твайго вымашчана дарагімі каменнямі!

Валадзімір атвячаець цару паклонам і што ён усе прыказанныя царом условія выпаўніць. Маць Валадзіміра спрашыець:

— Што табе бог даў? Чаго трэбаваў ад цябе цар?

А ён мацеры рачыць:

— Усё, слава богу! Не скучай, матушка! Свадзьба мая будзець: я на царскай дочары жанюсь.

Наступаець вечар. Валадзімір выходзіць на крыльцо, бярэць сваю алмазку, трэць аб рукаў. Яўляецца старычок.

— Мілы мой старыкашка, ісполні мае прыказання: заўтра на ўтра штоб быў мне велікалепны дом, якога нігдзе яшчэ не бывала — пяціатажны, у тысячу вакон, увесь штоб быў золатам ацянут: і сцены, і крыша, і ўнутры такжа; штоб уліца ад царскага дварца да дварца была выслана дарагімі заморскімі каменнямі; штоб на ўліцы сабралісь народы па сямі чалавек разных інаверцаў, штоба ў каждага было па торбачцы, золатам напоўненай; штоб ля мяне быў бярлін залаты, калёсы пярэднія сярэбраныя, а заднія залатыя, лошадзі самыя луччыя, упраж залатая і кучара адзеты ў самы луччы касцюм.

Рана ўтрам следуюшчага дня Валадзімір выходзіць на вуліцу, відзіць: дом яму прыгатоўлен велікалепны, падаюць шасцёрку лашадзей, садзіцца ў бярлін і едзець к цару ва дварэц за царэўнаю вянчацца.

Паехаў ён не вуліцаю, а равамі, гарамі, разнымі вярцепамі; а людзі разных вер высыпаюць услед за ім із торбачак золата, як мякіну. Тронуўся за ім народ падбіраць дзеньгі — золата, і ўсе крычаць Валадзіміру «ура!».

Емпіратар услышаў на горадзе сільны шум, пасылаець свайго пасланца ўзнаць, што такое случылась у горадзе.

Пасланец царскі ўвідзеў Валадзіміра, як ён мчыцца па гарам і вярцепам, увідзеў, як і ў народ разных вер сыплюць дзяньгамі, як мякінай; вярнуўся пасланец назад і дакладаець цару аба ўсём, што відзеў, і ізвяшчаець цара аб прыездзе Валадзіміра ва дварэц.

Прыехаў і Валадзімір ва дварэц, уходзіць ва царскія палаты; цар прымаець яго да чэсці вялікай, і началі свадзьбу завадзіць; паехалі ў божы храм, прынялі законны брак. Перавянчалісь і вярнулісь ва дварэц і сталі весяліцца; гулялі свадзьбу месяц і два. Цар падпісаў Валадзіміру палавіну свайго царства і аб'явіў подданным велічаць Валадзіміра каралём. Адгуляўшы свадзебку, пераехаў Валадзімір з каралеваю ў каралеўскі дварэц, узяў к сабе і матушку сваю, старуху, і началі жыць і пажываць.

Цар відзіць, што малады кароль з яго дачар'ю жывуць дружна, стаў наязджаць к ім кажды дзень і глядзіць не наглядзіцца на мілых яму маладых. Міллян, астаўшыся за Карпацкімі гарамі, уздумаў аб Валадзіміры, што ён, праваліўшысь ў тартарары, дзелаець там. Бярэць Міллян сваю ірацічаскую кнігу і чытаець; а кніга гэта ірацічаская і талкуець Міллянy-смушчэнніку, што

Валадзімір ужо жаніўся на царскай дочары, што яго із тартарары вывеў стары старычок; што яму алмазка ва ўсём павінуецца і памагаець; Міллянава кальцо на ём, ну ён ім не дзействуець.

Міллян-смушчэннік і сам насабіраў алмазаў цэлую карзіну і прыходзіць у то царства, у тот горад, дзе жыў Валадзімір, яўляецца к цару. Ізлішняя каралева, жана Валадзіміра, сядзела на крыльцы. Смушчэннік ідзець з карзінкаю алмазаў. Каралева і гаворыць свайму мужу, што прыхадзіў какой-та чалавек і гаварыў громка:

— У каго ёсць старыя алмазкі, будзем мяняць на новыя, прыдачы нічога не будзем браць!

Кароль і гаворыць каралеве:

— Можа, табе прыздалось так?! Хто будзець [мяняць] харошыя і дарагія вешчы на старыя?!

Міллян ужо навёў ташнату на Валадзіміра, маладога караля. Валадзімір, устаўшы рана, пачуўстваваў сільную ташнату і гаворыць сваёй каралеве:

— Так што-та мне скушна і грусна: пайду к бацюшку прагуляюсь і развяду маю таску.

Жана яму і гаворыць:

— Ідзі, прайдзісь, скука, можа, і пройдзець!

Прыходзіць к бацюшку-цару, сказыець яму пра сваю скуку-таску; ці нет чым жуду-гора развясці?

— Ідзі ў мае зялёныя сады: там многа звярэй — ты пагуляй і там!

У гэта ўрэмя праходзіць па царскаму дварцу Міллян і апяць так жа громка крычыць, зазывае мяняць старыя і гразныя алмазкі на новыя залатыя і сярэбраныя, без усякай прыдачы. Слыша гэта, каралева пасылаець сваю служанку пазваць гэтага чалавека на ліцо к каралеве.

— Ну, ты абменіваеш старыя алмазкі на новыя, а ў майго мужа ёсць старая алмазка; сагласен ты абмяняць на новую?

Міллян з радасцю абменіваець алмазкі: бярэць сабе ад каралевы алмазку старую, а ёй даець новую залатую. Па выхадзе із дварца Міллян бярэць старую алмазку, трэць аб рукаў, і яўляецца к яму стары старычок і гаворыць:

— Што прыкажаш дзелаць, Міллянушка?

Міллян і гаворыць старыку:

— Перанясі мяне з маладою каралеваю за Карпацкія горы, і штоб на тры сажані ў зямлі быў здзелан дом і нас там памясціць; а дом Валадзіміра, маладога багатыра, быў разрыт, і вуліцу ўнічтожыць, а самае места ўплантаваць.

Цар, цесць караля, рана вутрам сматрыць у падзорную трубку і не відзіць Валадзіміравых палат. А сам Валадзімір гуляець у саду царскім. Трэбуець цар міністара, застаўляець яго пасматрэць, ці ёсць дварэц караля Валадзіміра. Міністар прысматрэўся і кажыць цару:

— Цар, свет вялікі, і ўпраўду ведзь дварца нет!

Паслалі пасланца, пасланец утвярждаець цару, што дварца нету, і тое самае места, ідзе быў дварэц, уплантавана. Міністар талкуець цару:

— Пасляць пасланца ў зялёны сад за каралём і ўзнаць, ці там ён ілі нету яго там.

Пасланец царскі находзіць караля Валадзіміра і завець яго к цару-бацюшку. Січас яго арыставалі. Цар, разгневаны ўвесь, гаворыць:

— Якой ты мне здзелаў пазор: ты навек убіў маю доч!

І прысудзіў зняць з яго голаву; но Валадзімір упрасіў цара не сымаць з яго галавы, а закупарыць яго ў мрамарны стоўб.

— Можыць быць, дзела перадзелаецца, і я апраўдаюсь!

Валадзімір, сідзя ў стаўбе, вынуў залатое кальцо, пералажыў з рукі на руку, і тры малайцы явілісь к яму і гаворань:

— Што табе нужна, Валадзімір?

— Скажыце мне, адзе мая жана, каралева, находзіцца?

Яны і атвячаюць:

— Твая жана даўно ўжо за Карпацкімі гарамі, у доме на тры сажані ў зямлі, з Міллянам-смушчэннікам.

— Тапер снясіце мяне ■ Міллянy за Карпацкія горы: хачу я павідаць маю каралеву і ўзнаць, што там дзеецa з ею.

Яны яго ў мінуту туда за горы даставілі і навялі падзорныя трубы, і відзіць ён сваю каралеву, відзіць і Мілляна: Міллян-смушчэнік сагляшаець каралеву быць яму жаной, і па сяму-та страшчаець яе разнымі страсцямі: ён скідываўся і звярамі і змяямі — усё яе пугаў і страшчаў, а каралева ўсё-такі не саглашалась быць яго жаною.

У адно ўрэмя Міллян, здзелаўшысь змеем, выляцеў із падзямелля, асталась у доме адна каралева. Валадзімір, у падзорную трубку гледзючы, і ўсё гэта відзіць.

Вазгарэўся Валадзімір вялікай жаласцю к сваей каралеве: бярэць залатое кальцо, перакладываець онае з рукі на руку — явілісь к яму тры малайцы і гаворань:

— Што прыкажаш дзелаць, Валадзімір?

Ён просіць іх савета:

— Ці можна яму ўвайці к каралеве?

Тры малайцы гаворацъ яму:

— Здзелайся мухаю, улятай у дом; туда прыляцеўшы, прымеш від чалавека, можаш пагаварыць з ёю, сколькі ўгодна: у гэта ўрэмя Міллян уляцеў і няскора будзець.

Яна, каралева, увідаўшы Валадзіміра, узрадавалась, гаворыць яму:

— Благадару цябе, мой мілы, што ты навясціў мяне ў бальшэй скуке!.. Як цябе гасподзь сюда прынёс?

Кароль Валадзімір ёй рачыць такжа:

— Як ты, мілая мая, сюда заляцела?

Яна расказала яму, як Міллян абмяніў ёй алмазік і як ён яе мучыць і страсціць.

— А дзе ж мой находзіцца стары алмазік?— гаворыць ёй Валадзімір.

— У гартані Мілляна,— гаворыць каралева.

— Вот жа табе мой савет, слушай, каралева. Явіцца Міллян, заплач горкімі слязамі; Міллян цябе будзець спрашываць аб тваёй пячалі і будзець спрашываць, што табе нада ад мяне; а ты скажы яму, штоб ён дастаў рускага віна бутыль і дзевяць стаканаў; налівай усе стаканы віном рускім, выпі первы стакан сама, а астальныя восем стаканаў штоб ён выпіў, прыглашай яго к гэтаму! У паследні васьмой стакан усып яду, да сматры, угашчай яго палуччы і будзь з ім ласкава; ён як ап'янеець, то вып'ець і васьмой стакан з ядам.

Явіўся к ёй Міллян. Каралева скушна і грусна. Міллян і гаворыць:

— Што ты, каралева, усё скучаеш: аль табе нету піцення і ядзення, аль я хужы твайго Валадзіміра?

— Ну, знаць, так і быць,— гаворыць каралева,— я адсель буду твая! Дай жа тапер на радашчах вып'ем рускай водкі, і прыгатоў дзевяць стаканаў.

Міллян здзелаўся воранам і паляцеў у раздабытак; чрэз нескалькі мінут накаціў цэлы падвал рускай водкі. Паставілі дзевяць стаканаў і бутыль водкі.

Каралева наліла ўсе стаканы водкаю:

— Ну, тапер пап'ем, пагуляем!

Бярэць яна первы стакан і п'ець:

— За здароўе тваё, Міллянушка!

Потым і гаворыць:

— Ну, Міллянушка, галубчык мой, большы і не ўгашчай: я, як жэншчына слабая — з мяне і будзець прадавольна-давольна, а ты як здаровы мужчына, пі ўсе астальныя!

Сама жа каралева яду ў пасledні стакан і ўсыпала, да так лоўка, што ён і не замеціў. Міллян выпіў стакан, два і тры і павесялеў; а каралева яшчэ болей яго лашчыць і разнымі шуткамі смяшыць яго. Ён, развесяліўшысь, усе стаканы дапіў і астальны з ядам, і як толькі дапіў, так яго і разарвала. Кароль Валадзімір у падзорную трубку глядзеў і ўсё гэта відзеў; а як яго, Мілляна, разарвала, ён тады бярэць залатое кальцо, з рукі на руку пералажыў — явілісь тры малайцы і гаворацць яму:

— Што прыкажаце дзелаць?

Валадзімір гаворыць ім:

— Даставіць яго к каралеве!

Тры малайцы сію мінуту і зняслі яго каралеве. Ён як прыйшоў, узяў із гартані Мілляна свой алмазік. Прыказаў нанасіць дроў, саарудзіць касцёр, вазлажыць на касцёр труп Мілляна і сажэч яго, а пепел ад трупа ўсыпаць у мора, штоб і ў зямлі не было і пылінкі яго трупа. Бярэць алмазку, трэць аб рукаў; явіўся к яму стары старычок:

— Што прыкажаце дзелаць, міласцівы кароль Валадзімір?

— Штоб былі і напіткі, і наедкі, і разныя разнасці: хачу э маёй каралевай павесяліцца і пагуляць.

Па слову яго ўсё явілась. Сталі піць і гуляць і весяліцца. Павесяліўшысь, алмазкаю цернуў аб рукаў — явіўся апяць старык, спрашыець:

— Што яшчэ здзелаць надабі?

— А во што: штоб у маём царстве быў апяць такі ж дварэц, і такая жа ўліца, як і прэжда; штобы была нам і пасцель мяккая — усё гэта штобы было ў адну ноч, і штоб мне з маёю каралеваю ва дварцы начаваць!

Слова сказана, і дзела здзелана. Кароль са сваею жаною начуець у сваім дварцы. Цар, ацец каралевы, утрам рана ўстаўшы, к немаламу ўдзіўленню яго відзіць каралеўскі дварэц. Цар прызываець свайго міністара і гаворыць яму:

— Пасматры-ка, як слоўна дварэц маей дочары каралевы!

Міністар паглядзеў да і пацвярджаець слова цара:

— Дзіўлюсь і я нямала: учора я ехаў там, нічога сабе было, а тапер віджу і ўпраўду дварэц тэй самы, які быў.

— Ну, усё-такі паслаць пасланца, штоб ён узнаў верна.

Паскакаў пасланец к дварцу; відзіць — окала дварца стаяць часавыя. Яўляецца пасланец к цару і ізвяшчаець цара:

— Дзяйствіцельна, дварэц тэй самы і стаяць часавыя.

Цар ад радасці пабяжаў пяшком к дочары ва дварэц. Кароль

з каралевай замецілі, што бягіць к ім іх бацюшка-цар; выбягаюць к яму наўстрэчу і сталі цалавацца-мілавацца.

— А як я рад, што віджу вас такімі, якімі ўжо і не думаў відзець!

Кароль Валадзімір, пака цар разгаварываў з дочар'ю, алмазкаю цярнуў аб рукаў, прыказаў старыку, штобы ў зале бальшым былі сталы дубавыя, накрыты скацерці шаўкавыя і прыгатоўлены напіткі заграніншыя: і шымпачыны, і рамавіны, і разнае такжа едзяннё, штоб каралю з каралеваю і з бацюшкай-царом павесяліцца. Усё было гатова. Кароль Валадзімір прыглашаець к сталу цара і сваю любезную каралеву. Ну, да і на славу ўжо пагулялі. Так-та яны гулялі месяц, два і пяць. Былі ў цара ў бацюшкі і там пакуцілі ўволю. Кароль стаў апяць пажываць у сваім царстве благапалушна: усё была ціха.

У Мілляна-спакусіцеля быў родны брат Ісавул, а Ісавул быў такі ж спакусіцель, як і брат яго Міллян. Ён імеў у сябе такжа дрэўнюю кнігу іратніцкую. У адно ўрэмя Ісавул чытаў сваю кнігу іратніцкую, яна яму і гаворыць:

— Брата твайго Мілляна даўно нету на свеце, яго істрабіў кароль Валадзімір за жану сваю; жывець ён, кароль, за Карпацкімі гарамі.

Ісавул, учуўшы гэта ад сваёй кнігі аб пагібелі брата Мілляна, стаў дабірацца да царства Валадзімірава і дабраўся. Прыходзіць ён у манастыр к ігуменні. Ігуменння была набажна, прынімала к сабе і храмых, і сляпых, і калек, і ўбогіх і давала ўсім пользу. Ісавул, пабыўшы ў ігуменні раз, і два, і нескалькі раз, выбраў удобнае ля сябе ўрэмя, задушыў яе, а сам надзеў манашаскую яе манцію, праабразіў сябе ў ігуменню і адправіўся па дамам лячыць бальных. Праходзіць окала царскага дварца. Каралева, увідаўшы ігуменню Ісавула, прыгласіла к сабе ў палаты. Быў ужо вечар. Каралева любіла гаварыць і слушаць разгаворы а[б] душаспасенні і прыгласіла ігуменню начаваць у дварцы.

Ігуменння Ісавул абрадавалась прыглашэнню каралевы і заначавала. Многа гаварылі яны аб разных вяшчах, і ігуменння начала хваліць яе мужа і караля ў том, што ў іх і дварэц велікалепны, і ёсць у іх ва дварцы ўсе рэдкасці. Каралева і гаворыць ігуменні:

— Ах, матушка ігуменння, мой муж што толькі ўздумаець, усё здзелаць можыць!

— Нет, каралева, ваш муж яшчэ не ўсю праўду вам сказаў і аднаго дзела не дастаў!

А каралева спрашыецъ у Ісавула-ігуменні:

— Якога дзела?

— А вот якога дзела. Ёсць на небе Кам-пціца, пад тэю пціцаю яйцо. Вот калі ён то яйцо дастанець, тады яйцо ўсю праўду скажыць, і то яйцо будзець свяціць ва дварцы як дзень, так і ноч, точ у точ як жаркае сонца.

Ігумення Ісавул, пераначаваўшы ў дварцы з каралевай і назюкаўшысь давольна, адправілась па дамам горада. Караля самаго ва дварцы тады не было. Каралева па разгаворы з ігуменняй здзелалась ужо гнеўнаю к свайму мужу-каралю. Яўляецца ва дварэц муж каралевы. Замеціў, што каралева вочань гнеўна, спрасіў яе:

— Чаго ты так, мілая мая, гнеўна ка мне?

— Як жа мне на цябе, дружок, не гневацца? Ты ўсёй праўды не гаворыш, хоць і ўсё знаеш.

— Якой, якой?! Гавары, мая мілая.

— А вот, ёсць на небе Кам-пціца, пад тэю пціцаю ёсць яйцо. Як дастаць тое яйцо, то яно будзець свяціць нам дзень і ноч.

— О! — атвячаець саманадзейны кароль,— мне нічога не стоіць дастаць гэта яйцо, дастану!

Бярэць сваю алмазку, трэць аб рукаў — яўляецца старык. Кароль і гаворыць старыку:

— Ёсць на небе пціца Кам, пад тэю пціцаю яйцо; дастань то яйцо, прынясі к нам ва дварэц; яно будзець свяціць дзень і ноч!

Выслушаў старык прыказанні караля і гаворыць:

— Вот я здзелаў цябе каралём, а тапер назаву цябе дураком. Што толька я мог табе дастаўляць, усягда дастаўляў і ні ў чом не [а]дказываў, а цяпер ты мяне застаўляеш ідзіць на неба і прынесць табе яйцо — зняць з неба сонца і луну і прынесць табе ва дварэц. Я не магу быць большы бога, а хто табе сказаў і ўнушыў такую блаж?

— Святая ігумення Ісавул, гэта баба, а бабе, даўжно, уж чорт!

— Ігумення гэта не ёсць ігумення, а Ісавул, брат Міллянаў, а святая ігумення, удаўленая Ісавулам, ляжыць пад мастом у сваёй кельні. Ісавул гэты пад відам ігуменні, ужо ўдаўленай, ходзіць па дамам лячыць бальных, ён нікога не лечыць, а дабіраецца да галавы каралёвай і тваёй, носіць меч пад манціей з намярэннем, калі яго пазавеце ва дварэц, зняць з вас голавы. Вас прадасцерагаючы, саветую імець і вам востры кінжал і дзяржаць

пры сабе на ўсякі дурной случай, як будзець Ісавул к вам ва дварэц. Вот што, здзелай-ка так, Валадзімір-каралёк! Заві заўтра ■ сабе ігуменню Ісавула ва дварэц; скажы ёй, што ў цябе баліць галава; а як прыйдзець ігумення Ісавул лячыць цябе ад галаўной болі і будзець ён чытаць над тваёю галавою, то ты старайся леваю рукой дзяржаць яго меч, ■ праваю рукою бяры свой кінжал і развалі яму бруха ад нізу да верха; тады із шасці сажаней дроў здзелай касцёр, павалі на касцёр і сажгі, а ад трупа Ісавула пепел пусці на мора.

Кароль прыказання старыка старога іспоўніў у точнасці і такім родам істрабіў ігуменню Ісавула; а ў канцы канцоў, пабядзіўшы ўсіх сваіх урагоў, царстваваў длінныя годы; подданныя яго яму радавалісь, і ўсе таржаствавалі. Царства яго ўсягда было і мірна, і ціха, і спакойна.

## 77. ЛАДЗЬКА

Жылі сабе тры браты; аднаго звалі Ладзька. Жылі яны бедна, не было ім ні ў чым удачы. Вот і пайшлі яны ў свет долі іскаць. Ішлі, ішлі, прыходзяць у лес. Відзяць — стаіць хатка. А ў гэтай хатцы жыла ведзьма, што людзей ела, і ў яе было тры дачкі. Сталі яны прасіцца нанач, а ведзьма кажаць:

— Калі будзеце з маімі дачкамі спаць, дык начуйце.

Нечага ім рабіць, недзе начаваць, яны кажуць:

— Ну, будзем!

Пусціла іх ведзьма нанач і паклала большую дачку з большым братам, сярэднюю з сярэднім, а меншую з Ладзькам. Яны ўсе заснулі, а Ладзька не спіць. Чуець ён, што ведзьма выйшла з хаты, і думаець сабе: «Мусіць, нешта тут будзець!» Стаў ён пытацца ў меншай сястры, як яны жывуць, што ў іх ёсць?

Яна яму кажаць:

— Ёсць у нас конь — сярэбраная шарсцінка, залатая шарсцінка, залаты капыт, сярэбраны капыт; ёсць у нас гусelькі самаграныя: самі йграюць, самі скачуць — ні піць, ні есць не хочацца, толькі люба слухаць, і ёсць у нас шарынка: хоць якая будзець рака, а калі махнеш гэтай шарынкай наперад, дык мост станець, а як махнеш назад, дык узнова рака станець!

— А йдзе яна ляжыць?— пытаецца Ладзька.

Яна яму сказала, а пасля і заснула. Вот Ладзька ўстаў і выйшаў вон. Паглядзіць — ува йстопцы агонь гарыць. Ён па-

дышоў к вакну, пагледзеў ува йстопку, ажно там ведзьма нож істрыць! Тады ён прыйшоў у хату ды ў яе дачок хусткі зняў з галоў і панадзяваў братам і сабе надзеў на галаву хустку, а ведзьміным дачкам панадзяваў шапкі і ціханька лёг. Прыходзіць ведзьма і шчупаець: чыя галава ў шапцы, таму галаву проч, чыя галава ў шапцы, таму галаву проч і па[а]дразала ўсім тром дачкам галовы! Сама пайшла за лучынкай. а Ладзька ўстаў, шарынку ўкраў, разбудзіў братоў ды кажаць:

— Ну, братцы, пойдзем, наўцёкі, а то будзець худа!

І пайшлі яны ўцякаць. Увайшла ведзьма з лучынкай у хату, спляснула рукамі і зарула, што парэзала сваіх дачок. Пабегла яна даганяць братоў, а яны прыбеглі к агнянай рацэ, а маста няма. Ладзька махнуў шарынкай, і мост стаў. Толькі яны перайшлі чэраз раку, Ладзька махнуў шарынкай назад, і маста не стала. А тут і ведзьма ўслед гоніцца. Прыбегла, а маста нямашацькі. Яна крычыць:

— А што, Ладзька, украў шарынку?

— Украў, бабка!

— А што, Ладзька, парэзаў маіх дачок?

— Не, бабка, сама парэзала!

— А ці прыбудзеш ты ка мне?

— Чаму, бабка?

Вярнулася ведзьма ў двор, а яны пайшлі сабе дальшы. Вот яны ішлі-шлі, ішлі-шлі, прыходзяць к каралю. І сталі ў караля служыць. Старшым братам было плоха жыць, а Ладзьку добра: яго кароль любіў. Сталі яму браты завідваць і захацелі яго з свету збыць. Вот яны і кажуць каралю:

— Ладзька табе верна служыць, а праўды не кажаць: ёсць у ведзьмы конь — залатая шарсцінка, сярэбраная шарсцінка, залаты капыт, сярэбраны капыт. Ён табе гэтага каня дастаць можаць!

А самі думаюць: цяпер ён ад ведзьміных рук не выйдзець!

Кароль прызваў Ладзьку і гаворыць яму:

— Ты мне верна служыш, а праўды не кажаш! Ёсць у ведзьмы конь — залаты капыт, сярэбраны капыт, залатая шарсцінка, сярэбраная шарсцінка! Каб ты мне яго дастаў!

Ладзька сабраўся і пайшоў у дарогу. Прыходзіць к ведзьме, ажно яе ў дварэ няма — у чорта на радзінах гуляець: зваў яе чорт у бабкі, у яго рабёнак радзіўся. А конь за дванаццаці дзвярамі, за дванаццаці замкамі. Ладзька як махнуў шарынкай — замкі проч, і дзверы расчыніліся. Ён узяў каня і паехаў. Прыйшла ведзьма дамоў — каня няма. Пабегла яна ў пагонь за

Ладзькай. А Ладзька пад'ехаў к агнянай рацэ і як махнуў шарынкай, дык мост стаў, а пераехаўшы махнуў назад — рака стала. Прыбягаець ведзьма к рацэ, відзіць, што гнацца далі некуды, стала ля ракі і крычыць:

— А што, Ладзька, ukраў шарынку?

— Украў, бабка!

— А што, Ладзька, украў каня?

— Украў, бабка!

— А што, Ладзька, парэзаў маіх дачок?

— Не, бабка, сама парэзала!

— А ці прыбудзеш ты ка мне?

— Чаму, бабка!

Прывёў Ладзька каня к каралю, было яму харашо жыць, яшчэ палуччала! Тады браты гавораць каралю:

— Ладзька табе верна служыць, а праўды не кажаць. Есць у ведзьмы гуселькі самаграныя: самі йграюць, самі скачуць, ні піць, ні есць не хочацца, толькі люба слухаць. Ён табе можаць іх дастаць!

Кароль пазваў Ладзьку і гаворыць:

— Ты мне верна служыш, а праўды не кажаш! Есць у ведзьмы гуселькі самаграныя: самі граюць, самі скачуць, ні піць, ні есць не хочацца, толькі люба слухаць. Каб ты мне іх даставіў!

Узяў сабе Ладзька торбу, краюшку хлеба, жменю гароху і пайшоў к ведзьме. Прыходзіць к ёй у хату, ажно яна ляжыць на лаўцы і засыпаець, а гуселькі ляжаць на стале. Ён падкраўся і кінуў адну гарошыну на йструны. Йструны зазвінелі, а ведзьма кажаць:

— Іш, муха — злая духа! І яна гуляць захацела!

Ён другую гарошынку кінуў, а ведзьма ўзнова тое самае гаворыць, толькі цішэй. Ён, пагадзя, трэцюю гарошынку кінуў. Ведзьма нічога не кажаць — спіць. Ён схваціў гуселькі ды наўходы! А ведзьма прашнулася ды яго і паймала. І хацела згатаваць і з'есці. Аж прыбягаець чорт і просіць ведзьму на хрысціны. А яна кажаць:

— А не, не пайду: я свайго злачынца паймала, трэба яго з'есці!

А чорт яе давай прасіць, давай маліць:

— Мы яго, — каець, — у яму запром, каменнем ды паленнем завалім, а пасля з ім разбяромся!

Ведзьма паслухала. Усадзілі яны яго ў яму ды й завалілі, а яна пайшла на хрысціны. А Ладзька ўзяў шарынку, як мах-

нецъ — рад камення, рад палення далоў! Пазмахаў усё, і сам вылез. Увайшоў у хату, а гуселькі ляжаць на стале. Ён іх схваціў і пабег уцякаць. Прыходзіць ведзьма — ні Ладзькі, ні гуселек няма. Яна пабегла ў пагонь, а Ладзька ўжо перайшоў чэраз агняную раку, махнуў шарынкай назад — маста не стала. І некуды ведзьме далі гнацца! Стала яна пры рацэ і крычыць:

— А што, Ладзька, украў шарынку?

— Украў, бабка!

— А што, Ладзька, украў каня?

— Украў, бабка!

— А што, Ладзька, украў гуселькі?

— Украў, бабка!

— А што, Ладзька, парэзаў маіх дачок?

— Не, бабка, сама парэзала!

— А ці прыбудзеш ты ка мне?

— А чаго я к табе прыбуду: ці вуглоў тваіх глядзець?

Ведзьма тут са злосці ўдарылася аб зямлю і разбілася! А Ладзька пайшоў у двор. Ідзець ён, ідзець дарогай — гуселькі самі йграюць, самі скачуць, ні піць, ні есць не хочацца, толькі люба слухаць! Устрачаець Ладзька чалавека. А ў гэтага чалавека кій. Чалавек убачыў гуселькі і кажаць:

— Давай памяняем кій на гуселькі!

— А які твой кій?

— Мой кій такі, што хоць якое войска, толькі скажы: «Кій, мой верны слуга, пабі гэта войска!» — ён і паб'ець!

Памяняліся яны. Ладзька троху прайшоў, і паказалася яму скушна без гуселек, ён і кажаць:

— Кій, мой верны слуга! Ідзі забі гэтага чалавека і адбяры гуселькі!

Кій пайшоў, чалавека забіў і гуселькі адабраў. Ідзець Ладзька. Гуселькі іграюць, кій скачаць, а наўстрэчу яму ідзець чалавек з пугай.

— Давай,— каець,— памяняем пугу на гуселькі!

— А што твая пуга?— пытаецца Ладзька.

— А мая пуга такая, што толькі скажы: «Пужка-пасвістушка, падымі гэта войска!» — і хоць якое пабітае войска, дык яна падымець!

Памяняў Ладзька гуселькі на пужку і пайшоў. Прайшоў Ладзька троху, скушна яму стала. Ён і кажаць кію:

— Кій, мой верны слуга! Ідзі гэтага чалавека забі і гуселькі адбяры!

Кій пайшоў і гэта здзелаў. Ідзець Ладзька далі: гуселькі йграюць, кій скачаць, пужка свішчыць — вясёла яму! А наўстрэчу чалавек з сякірай ідзець.

— Памяняем,— каець,— сякіру на гуселькі!

— А што твая сякіра?— пытаецца Ладзька.

— А мая сякіра такая, што калі ёй прыкажаш, то хоць які дом за нач зрубіць.

Памянялі яны. Прайшоў троху Ладзька — скушна яму стала. Ён і кажаць кію:

— Кій, мой верны слуга! Ідзі гэтага чалавека забі і гуселькі адбяры!

Кій чалавека забіў і гуселькі адабраў. Ідзець Ладзька: гуселькі іграюць, кій скачаць, пужка свішчыць, сякіра за поясам тырчыць — вясёла яму! Прыходзіць ён на каралеўскае поле, абнімаець яго цёмна ноч. Кажаць Ладзька сякіры:

— Зрубі мне за ноч дом, палуччы каралеўскага!

Яна і зрубіла. На другі дзень устаў кароль, відзіць, што стаіць на яго полі дварэц, і пасылаець узнаць, хто там ёсць і каб ён к каралю явіўся.

— Якую ён праву меў без майго пазвалення строіць дварэц на маёй зямлі?

Пасланцы пайшлі, а Ладзька павялеў кію з двара іх прагнаць. Усердзіўся кароль, паслаў войска. Як увідзеў Ладзька, што войска ідзець, дык ён і сказаў кію:

— Кій, мой верны слуга! Ідзі пабі гэта войска!

Кій пайшоў і пабіў усё. Кароль паслаў войска яшчэ большы, а кій і тое пабіў. Пайшоў тады сам кароль к Ладзьку з паклонам і стаў яго прасіць міласці. Ладзька кажаць:

— А што будзець — я табе ўсё войска падыму?

Кароль кажаць:

— Што хочаш бяры, толькі падымі!

Ладзька кажаць:

— Аддай за мяне сваю дачку замуж і аддай мне гэта ўсё поле, дзе стаіць мой дварэц!

Кароль сагласіўся. Вот Ладзька кажаць:

— Пужка-пасвістушка, падымі ўсё гэта войска!

Пужка як стала бегаць ды свістаць — усё войска ўстала! Скора яны сыгралі свадзьбу.

І я там на вяселлі быў, мёд-віно піў, па вусам цякло, а ў роце не было. Далі мне скавараду — я пабегаў па гараду, далі мне чапялу — я пабегаў па сялу, а далі мне смык — я за вароты шмык! І ўцёк.

# 78. З РОГА ЎСЯГО МНОГА

Калі так жыў сабе дзед з бабай. І ў іх не было нічога, толькі адна лубачка жыта. Тады дзед кажаць бабе:

— Бабка, бабка, што мы будзем дзелаць з гэтым жытам?

А баба кажаць:

— А йдзі ў пруд, змялі там жыта, хлебца спячом!

Пайшоў тады дзед у пруд, змалоў гэта жыта і ідзець дамоў. Ідзець дамоў і зайшоў у карчму. А муку паставіў на заваліне ля карчмы. Адкуль узяўся вецер і раздуў тую дзедаву муку. Узяў дзед лубку і пайшоў дамоў.

— Бабка, бабка, што мы будзем дзелаць? Паставіў [redacted] муку на завалінку, а вецер раздуў яе!

— А йдзі, дзедка, не даруй яму!

Пайшоў тады дзед шукаць ветра. Ішоў-ішоў, ішоў-ішоў, бачыць — хатка. Узяў ён тую хатку за вугал і стаў абарачываць. А вецер крычыць:

— Не буры маю хатку! А на табе акрайчык хлебца: што ты будзеш яго есці, то ён будзець бо́льшыць!

Пайшоў дзед дамоў і зайшоў к куме нанач. Стаў ён есць тэй хлеб, а ён не менеець, ды болеець. Ноччу кума ўзяла, адрэзала акрайчык свайго хлеба і адмяніла: яго ўзяла сабе, а свой дала яму. Прыходзіць дзед дамоў, сталі яны есці тэй акрайчык і з'елі!

Тады баба кажаць:

— Ідзі, дзедка, не даруй ветру!

Пайшоў дзед узнова. Ішоў, ішоў, знайшоў ветраву хатку, узяў яе за вугал і стаў абарачываць. Тады вецер гукаець:

— Чалавек, чалавек, не буры маю хатку, а на табе бараньку. Як ты скажаш: «Баранька, страханіся, высып злата-серабра!» — ён і высыпець.

Гэты дзед узяў бараньку і пайшоў дамоў. Пайшоў дамоў і зайшоў апяць к куме нанач. Пасядзеў трошку і ўздумаў, ці праўда гэта, што яму сказаў вецер. І кажаць куме:

— Дай мне, кумачка, дзяругу!

Тая кума дала яму дзяругу. Ён паставіў бараньку на дзяругу і кажаць:

— Баранька, страханіся, высып злата-серабра!

Баранька страхануўся і высыпаў золата і серабра. Кума гэта ўбачыла і ноччу замяніла барана. Назаўтрага дзед узяў кумінага бараньку і пайшоў дамоў. Прыходзіць дамоў, паставіў бараньку на дзяругу і кажаць:

— Баранька, страханіся, высып злата-серабра!

А баранька тэй стаіць, як дурак! Праганяець тады баба ўзноў дзеда:

— Ідзі, не даруй ветру!

Пайшоў дзед апяць к ветравай хаце і стаў яе апяць за вугал абарачываць. Вецер гэта ўбачыў і крычыць:

— Чалавек, чалавек, не буры маю хату. На табе ражок, цяпер тваё ўсе вернецца, толькі скажы: «З рога ўсяго многа!»

Пайшоў тэй дзед дамоў, заходзіць узноў к куме. Пасядзеў троху і гаворыць:

— Вот, кумка ты мая! Ёсць у мяне ражок, ён што толькі захочаш, дасць, толькі скажы, кумачка: «З рога ўсяго многа!» — тут усяго будзець!

Вот дзед выйшаў на двор, а кума зараз і кажаць:

— З рога ўсяго многа!

Як толькі яна гэтак сказала, як выскачыла з яго, як сталі яе біць! Білі, білі, а яна крычыць. Уходзіць дзед.

— Ай, кумок, ратуй мяне! Аддам табе акрайчык і бараньку, каб толькі яны кінулі біцца!

Тады дзед кажаць:

— Ох, усе ў рог!

І яны ўсе пазахаваліся. Аддала тады кума і акрайчык, і бараньку, дзед узяў і пайшоў дамоў. Прыйшоў дамоў і стаў жыць. І стаў ён такім багатым, што ні здумаць, ні згадаць, ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць! Ну, й звеснае дзела: калі ён такі багаты, дык ён і дружыў з багатымі. Раз іздзелаў дзед пірушку і сазваў сваіх таварышаў-багатыроў. Тады яны на гэтай пірушцы паўпіліся. А адзін не. Вот леглі яны гэта спаць, а тэй узяў гэты хлеб і бараньку і к сабе дамоў. Назаўтрага агледзеўся гэты дзед — няма ні бараньки, ні акрайчыка. Дзед тады запрог каня і паехаў к таму пану. Тэй пытаецца ў дзеда:

— Што ты мне, дзед, прывёз?

А дзед кажаць:

— Прывёз табе ражок!

— Пакажы, які?

Дзед паказаў. Тады пан спрашуець:

— Што з ім дзелаюць?

— А вот што, паночак, скажы толькі «З рога ўсяго многа!» — дык ён і дасць.

Пан зараз і кажаць:

— З рога ўсяго многа!

Як выскачылі яны, як началі яго аплітываць! Пан гэты кажаць:

— Ай, дзедка, ратуй! Аддам бараньку твайго, і акрайчык аддам!

А яны яго аплітуюць! Тады ўжо дзед узмілаваўся над ім і кажаць:

— Ох, усе ў рог!

Яны ўсе і пахаваліся. Узяў тады акрайчык, і бараньку, і ражок і пайшоў дамоў. І стаў тады дзед жыць сам па сабе, не стаў дружыцца ні з кім.

## 79. ЯНАЧКА

Жылі два браты. Адзін багаты, а другі бедны. Бедны ўсё робіць, а есці няма чаго. І жонка яму, і людзі гавораць:

— Пайдзі ў свет, можа заробіш ці выпрасіш што-небудзь.

Згадзіўся Янaчка з гэтым і пайшоў. Ішоў, ішоў, ці доўга, ці коратка — невядома. Сустрэўся з старым чалавекам. Чалавек пытаецца:

— Куды ты, Янaчка, ідзеш?

— Іду ў свет, можа што зараблю ці ў людзей дастану. Так збяднеў, што ні есці, ні насіць.

Чалавек даў яму абрусік і кажа:

— Прыйдзі дамоў, пасцялі на стол і скажы: «Абрусік, абрусік, дай есці!»

Ён падзякаваў і пайшоў. Адышоўся ад чалавека, пaслаў абрусік і кажа:

— Абрусік, абрусік, дай есці.

На абрусіку паявілася ўсё, нават і віно. Янaчка пад'еў, а астатняе ў кішэні забраў.

На дарозе стаяла карчма, і там жыў Шлёма. Янaчка думае: зайду.

Янaчка любіў выпіць. Шлёма кажа:

— Дзень добры, Янaчка! Дзе гэта хадзіў, можа чарку вып'еш?

— А добра б было.

Як выпіў Янaчка трохі, а тады больш і больш, і заснуў на стале ў Шлёмы. Шлёма выцягнуў у Янaчкі абрусік з-за пазухі і паклаў сабе, а Янaчку просты абрусік паклаў.

Прыйшоў Янaчка дамоў, папрабаваў абрусік, абрусік нічога не дае. Зноў плачуць дзеці і жонка, есці няма чаго. Пайшоў

Яначка ў свет. Прайшоўшы, сустрэўся зноў з чалавекам. У чалавека была з сабою авечка.

— Куды ты, Яначка, ідзеш?

— Іду ў свет, можа зараблю ці выпрашу хлеба, няма чаго есці.

Чалавек даў яму авечку.

— Вядзі яе дамоў і скажы: «Авечка, дай есці».

Яначка, прайшоўшы трохі, не вытрываў і сказаў:

— Авечка, дай мне есці.

Авечка забляяла і страсянулася. Пасыпаліся грошы — золата і срэбра. Яначка набраў кішэні і пайшоў радасны.

Зноў зайшоў да Шлёмы.

— Дзень добры, Яначка! Можа, чарку вып'еш?

— А давайце.

Шлёма ставіць, а Яначка п'е і плаціць, і заснуў Яначка на стале. Авечка стаяла на двары прывязана. Шлёма забраў авечку сабе, а сваю прывязаў на тое месца. Прачнуўся Яначка, за авечку і пайшоў дамоў. Прывёў і кажа:

— Авечка, дай есці.

А авечка крычыць, каб ёй есці далі. Паглядзеў, паглядзеў і зарэзаў авечку. З'елі мяса і зноў няма чаго есці. Пайшоў Яначка ў свет. Прайшоўшы, сустракаецца зноў з чалавекам.

— Куды гэта, Яначка, ідзеш?

— Іду ў свет, каб дзе зарабіць ці выпрасіць хлеба, няма чаго есці.

Чалавек даў яму дубінку.

— Папрасі,— кажа,— у гэтай дубінкі, яна дасць есці.

Яначка падзякаваў і пайшоў. Прайшоўшы, не вытрымаў і давай прасіць:

— Дубінка, дай есці.

А дубінка як стала біць па руках, па нагах, па галаве. Яначка крычаў і давай прасіцца. Дубінка перастала. Зноў зайшоў да Шлёмы.

— Дзень добры, Яначка! Можа і сягоння чарку вып'еш?

Яначка адказвае:

— Хто яго ведае.

Шлёма бярэ ў яго дубінку.

— О! Якая дубінка ў цябе!

А дубінка як стала Шлёму біць! Пакаціўся Шлёма і крычыць:

— Яначка, ратуй! Яначка, бяры свой абрусік, сваю авечку!

Января забраў абрусік, авечку, дубінку і пайшоў дамоў. Тут стаў абрусік даваць усяго, а авечка як страсянецца — срэбра і золата. У Янгачкі стала ўсяго многа, усе чыста адзетыя, у хаце стала багата.

Стаў цікавіцца старэйшы брат. Яначка расказаў, адкуль у яго бярэцца багацце. Дачуўся аб гэтым пан. Прыйшоў да Яначкі ды і кажа:

— Ты не можаш карыстацца гэтымі рэчамі, просты чалавек. Аддавай гэта мне, а то я цябе пакараю.

— Ну што ж, бяры,— кажа Яначка.

Аддаў Яначка абрусік і авечку, а дубінка асталася. Устроіў пан пір на ўвесь мір. Абрусік дае ўсяго яму. Гасцей у пана поўна. Не выцерпеў Яначка і пайшоў да пана з дубінкаю.

— Дубінка, памажы!

Як стала дубінка біць усіх гасцей на сталах, па талерках і паноў па лбе. Скрывіла ім морды. Крычаць, просяцца паны ў Яначкі. А фурман запрог пару коней ды на воз авечку і Яначку.

І жыве цяпер Яначка з дубінкай і ніякіх паноў не баіцца.

## 80. ЯК МАРОЗ ЧАЛАВЕКУ НАГАРАДЗІЎ ЗА ПШАНІЦУ

Адзін чалавек пасеяў пшаніцы, надышоў Мароз і змарозіў, так ён што робячы, пайшоў да бога на скаргу. Ідзе так, ідзе, ажно спатыкаецца з неякімсь старэнькім чалавекам:

— Куда ідзеш?

— Да бога на скаргу!

— На каго?

— Пасеяў,— кажа,— пшаніцы, і мне Мароз змарозіў.

А гэта быў Мароз, так давай у яго прасіць:

— А мой братко! А мой родзенькі! Не скарж мяне перад богам, дам ужо,— кажа,— табе, што ты сам схочаш.

— Добра.

— Ну, то хадзі да мае хаты.

Завёў яго ў хату, а там на сцяне вісіць торба. Мароз зняў і кажа:

— Вазьмі яе сабе, што схочаш, яна табе дасць.

— Ого,— кажа,— яшчэ то не давала!

— Лезь за стол!

Чалавек сеў, а Мароз:

— Торбачка, дай есці!

Так зара выскачыла з яе двох хлопцаў з талеркамі, стол заслалі, есць, піць настаўлялі. Той проста выдзівіцца не можа. Як ужо наеўся, напіўся, так то ўсё як га! у торбачку схавалася. Так узяў яе падзякаваў Марозу і пайшоў. Прыходзіць дахаты, а жонка на яго як напусцілася:

— А ты п'яніцо, такі-гэтакі! Я нядужа, мушу на дзела хадзіць, а ты будзеш валачыўся? Яшчэ я з голаду буду здыхаць!

— Не бойся нічога, лезь за стол!

— Ля, то што ж я буду стол грызці?

— Лезь!

Яна ўлезла, а ён:

— Торбачка, накармі маю жонку!

Так у маменці выскачыла двох, яшчэ двох і зноў стол заслалі, тую накармілі, напаілі, і ўсё зноўсь у торбачку схавалася. Ажно едзе наменік (карбовы), пад'ехаў пад акно і пытае:

— Ці ў дома Пятрук?

— У дома!

— Хадзі, гыцлю, да мяне!

— Ого, яшчэ то я ні ішоў! Ты да мяне ідзі.

Той увайшоў:

— Лезь,— кажа,— за стол!

Той залез.

— Торбачка, накармі яго!

Так зара з торбы чатырох выскачыла, таго накармілі, напаілі і зноўсь усё пахавалася, як бы нічога не было. Наменік вырачыў очы і выдзівіцца не мог. Прыехаўшы да двара, зара сказаў пану. Так пан выслаў акомана паглядзець, ці ён не махлюе. Акоман сеў на каня ды й на вёску. Пад'ехаў.

— Ці ў дома,— кажа,— Пятрук?

— У дома!

— Хадзь сюды!

— О, няхай пан да мяне лепш прыйдзе!

Акоман увайшоў, а той яго таксама накарміў, напаіў. Той, прыехаўшы, ідзе да пана і кажа:

— Праўда, каб пан ведаў, як трахтуюць: віно, мёд, піва, усялякія закускі.

Так пана цікавасць узяла, паехаў туды, і як Пятрук яго накарміў, напаіў, так кажа:

— Пятрук, дам табе за гэта пару валоў і коней і па бочцы ўсяго збожжа.

А Пятрук быў п'яны, так кажа:

— Добра, няхай пан бярэ.

Пан узяў, сеў і паехаў. Нібавам прывозяць збожжа, коні, валы вядуць. Пятрук такі рад! Ажно як выцверазіўся, памігаваў: «А, кепска зрабіў!» Так ідзе да пана, але пан і гаварыць не хоча. Так што робячы, пайшоў да Мароза. Як прыйшоў, так Мароз пытае:

— А чаго хочаш?

— Пан,— кажа,— забраў торбу: або дайце другую, або пайду да бога на скаргу!

— А знаешся ты добра з панскім лёкаем?

— Каб не знаўся! То ж то мой кум.

— Ну, то я табе дам другую, але ўжо не з талеркамі, але з бізунамі.

— Добра.

Мароз даў яму зусім такую саму і кажа:

— Папрасі ты лёкая, каб табе тую аддаў, а гэту на тое месца палажыў.

— Добра.

Падзякаваў і пайшоў. Занёс да таго лёкая, дакляраваў даць на барыш, анно каб торбу змяніў. Лёкай так і зрабіў. Ажно вечарам наз'язджалася да таго пана шмат гасцей з усяго света. Так пан кажа:

— Торбо, торбо, накармі іх!

Як бач з торбы выскачыла двох з бізунамі і давай іх акладаць. Паны, дзе каторы мог, праз окна, усюдою ўцякаюць, а яны іх лупяць і лупяць! Нарэшце ўсе ўжо паразбягаліся і кленучы паехалі, а гаспадару такі ўстыд, хоць уцякай!

## 81. ЧАРАДЗЕЙНЫЯ ЯБЛЫКІ

У мужыка курыца знясла пару яечак у тарговы дзень. Ен гэту пару яечак панёс прадаваць. Спрашыецъ яўрэй:

— Нет лі чаго прадажнага?

Жыду гаворыць мужык:

— Пара яечак ёсць.

— Што ты за іх хочаш?

— Пяцьдзесят рублей.

— Свіння мужык! Па капейцы яечка.

Мужык пайшоў, ідзець кала лавак. Купец увідаў і спрашыець мужыка:

— Што прадаеш?

— Пару яечак.

— Што табе за іх?

— Пяцьдзесят рублей. На гэтых ціплятах подпісь: када ціпляткі выйдуць, тады тых ціплятак абжарыць, з'есць крылушкі і ножкі: ад гэтага будзець са сну сто залатых яўляцца пад падушкай.

— Вот табе, брат, пяцьдзесят рублей, вот табе чэцверць іржы награды, і цябе прашу: нясі іх дамоў, падсып пад наседку, і када гэты ціпляткі выйдуць, то тада прыхадзі ка мне: я табе дам крупы.

Гэты мужык наседачку пасадзіў, і вывела курыца пару ціплятак. Ён пайшоў, гэты мужык, к купцу. Купец даў яму крупы, даў яму і мукі і што яму была нужна — усяго даў.

Када мужык прыйшоў дамоў і расказаў жане, то яна рада.

— Слава богу, што бог паслаў нам талань такую.

(Мужык не знаець, што гэта ўгодныя яечкі былі).

Када ціпляткі папавыйшлі, ім ужо тры нядзелі, мужык прыходзіць к купцу.

Купец мужыку гаворыць:

— Вот табе, брат, вала на гавядзіну і дзесяць вёдр віна, вот табе мукі чэцверць.

Даець яму крупы пяць пуд, і іменна штобы была ўсяго дастатачна.

— Здзелай бал, прыгласі і мяне будта бы і папрасі купцоў, маіх бліжніх суседзяў, штоба мне не стыдна была к табе прыехаць на бал, а мне тваё ўгашчэнне нікакое не нада, толькі для мяне пару ціплятак тых зажар.

Гэта было прыгатавана ўсё. З'ехалісь, каторыя былі запрошаны, пілі, гулялі. Наканец, када адышоў стол, тады ён, гэты купец, гаворыць:

— Пажалуйце, хазяін, мне тых жараных ціплят!

Падалі яму ціплят. Пасматрыць на ціплят — аборваны крылушкі і ножкі. Купец за гэта асярчаў і гаворыць:

— Самыя нужныя аборваны, за каторыя стоіць мне пяцьдзесят рублей,— крылушкі і ножкі.

Ад бальшэй дасады купец паехаў і мужыка гэтага разбраніў. Мужык гэты начаў следаваць, хто такі гэта здзелаў, ціплят абарваў. Сын яго, мальчышка, аказалась, абарваў. Ён на яго злы год, што таперыча ён яго жывога не пусціць, якую ён

праказію здзелаў. Гэты мальчышка спужаўся і даў ходу, забяжаў у дальнюю дзярэўню.

Пераначаваў. Пераначаваўшы, забраўся падалі, астанавіўся ў аднэй удавы. Та яго ўзяла к сабе:

— Жыві ў мяне, пасі ў мяне скот!

Жалела яна яго і прыглядала, як свайго рабёнка. Нескалькі лет ён пражыў, сталі яго людзі стыдзіць:

— Табе стыдна жыць у яе і пасцівіць скот.

Ён падумаў і гаворыць:

— Цётка, не буду я ў цябе жыць, пайду я ад цябе.

— Пагадзі торговага дня.

Торговы дзень прыйшоў. Яна сказала:

— Пайдзём са мною ў горад, я адпушчу цябе.

Пайшлі яны ў горад, купіла яму адзёжу, усю, як даўжно, з ног да галавы, і купіла яму лошадзь і сядло, і сто залатых дала яму на дарогу, а гэтага яна яму не сказала пра яго талань, што ён, як паспіць, так у яго пад падушкай сто залатых яўляецца.

Сказаў ён цётцы:

— Благадару і прашчай!

І паехаў. Нескалькі ўрэмя праехаў, заязджаець ▪ яўрэю і спрашыець, ёсць лі авёс і сена і яму абед. Яўрэй [а]твячаець:

— Міленькі, усё ёсць ля цябе.

Ён застанаваўся, начаў абедаць і лошадзь карміць; па[а]бедамшы, захацеў аддыхнуць: устаў, расплаціўся за абед і паехаў. Нескалькі ўрэмя праехаў, захацеў спаць. Ён астанаваўся, з лошадзі сядло зняў, падлажыў сядло ў головы і лёг спаць, лошадзь навязаў. Прашнуўся над вечар, начаў лошадзь сядлаць, пасматрыць — пад сядлом сто залатых. Ён дзеньгі ўзяў, сеў і паехаў.

— Слава богу, яшчэ дзеньгі ёсць.

Паехаў апяць к яўрэйцы, ідзе лошадзь карміў, а яўрэйка найшла пад падушкай сто залатых. Як к яўрэйцы прыехаў, так яго ўстрачаець яна і гаворыць:

— Якой ты чалавек, што мне здзесь якую бяду заставіў?

— Яку бяду?

— А сто залатых забыў пад падушкаю.

— Я за імі і прыехаў.

Дзеньгі палучыў і, узнаўшы аб сваім шчасці, начаў збіраць дзеньгі, сабраў множаства і ўздумаў жаніцца з гэтакім шчасцем.

Праслыхаў: у аднаго цара ёсць дачка, катораяне хаціць за беднага іціць.

— За таго пайду, хто мяне заморыць у горніцы дзяньгамі: кожын раз, як па горніцы перайду, дваццаць пяць рублей вымай!

Гэты чалавек адазваўся, прыехаў к ёй і гаворыць:

— Сагласен.

І начала яна хадзіць па комнатам. Як раз перайдзець, то дваццаць пяць рублей, сколькі раз перайдзець, усё па дваццаць пяць рублей. Дак яна хадзіла, хадзіла і шчот мінула, а ён усё па дваццаць пяць рублей плаціў за кажны раз і шчот пацяраў. Тада яна замарылася, патрэбавала крэсел.

— Садзісь, мой друг! Ты мой жаніх!

Патрэбавала водкі і начала яго гасціць. Да таго гасціла, пакуль ён здзелаўся хмялён, а тады начала распрашываць:

— З якога звання?

— Ды проста із мужыкоў.

— Ідзе казну такую ўзяў небнакнавенную?

— А я з'еў у двух ціплят крылушкі і ножкі, ад гэтага ў мяне здзелалась талань: пад барадою вырасла костачка маленькая за шкурай.

Яна яго парадкам распрасіла, а тады яго начала спаіваць: да таго напаіла, што ён з крэсла ўпаў і здзелаўся без чуўствія.

Тада царская доч з-пад барады вынула костку, прыказала яго выташчыць вон, бросіць, як свінню, у роў.

Ён усё спаў. Як прашнуўся, відзіць, што лішыўся шчасця, і пайшоў беднячком.

Нескалькі ішоў — дзяруцца тры браты. Ён к ім падышоў і гаворыць:

— Братцы, за што вы дзярэцесь?

Яны яму адказыюць:

— Помер наш ацец, і засталіся тры вешчы: машна-трасейка, шапка-невідзімка і трэцяя — плець. Машна-трасейка — што болей трасеш, то болей дзенег; шапка-невідзімка — надзень яе на галаву, і тады, што хочаш, бяры; плець — махнеш батаўём, прадставіцца кабыла, а хлопнеш — дык дзеўка. Кабылу прадаш — дзеньгі; дзеўку прадаш — дзеньгі; шапку-невідзімку надзенеш — ніхто не ўвідзіць.

— Вы не дзярыцесь, я вас рассужу. Аддайце мне ўсе гэтыя вешчы.

Яму аддалі.

— Самі ж адыдзіце к тому дзераву і бягіце ка мне. Тада, каторы ўпярод прыбягіць, тому ўсе тры вешчы.

Яны так і здзелалі. Як аддаліліс ад яго, ён узяў шапку-невідзімку надзеў; яны яго не відалі, усё дуракамі стаялі.

Пра царэўну ўздумаў, адправіўся к ёй, абазваўся жаніхом.

Тада яна начала хадзіць цераз комнату; патуль хадзіла, пакуль затамілась, а ён усё клаў па дваццаць пяць рублей. Патрэбавала крэслы і села з жаніхом. Жаніх думаець:

— Тада яна мяне абманіла, ну таперыча не [а]бманіць.

Патрэбавала водкі і начала жаніха сва[й]го паіць. Жаніх павесялеў; тада начала яна распрашываць:

— Якога ты звання і йдзе столькі дзенег набраў?

Ён усё ёй адкравенна парасказаў. Царэўна разгарэлась на яго вешчы, штоба іх адабраць. Начала болей яго спаіваць; да таго спаіла, што ён з крэсла ўпаў; тада яна ўсе тры вешчы адабрала, яго раздзела, прыказала:

— Выташчыце яго на двор і бросьце яго ў роў, як свінню.

Прашнуўся няскора, пaглядзіць: чыст, як ліпінку абадралі — наг і благ, яко нет нічаго. Пайшоў у поле, хаціць есць. Знайшоў у полі яблань, на тэй яблыні яблычкі крупныя. Ён узрадаваўся, што хоць жа яблык пайдаець. Сарваў яблыка і з'еў — вырас у яго рог на лбу да самых ног. Ён паваліўся, думаець: «Было няшчасце і гора, тапер пагарчэла: за рогам прайціць нельзя — як пайдзеш, а рог упіраець у зямлю». Ён палоз бокам, увідаў на полі яблынку з мелкімі яблычкамі. Ён яблычка сарваў і з'еў — у яго рог адваліўся.

Ён тады гаворыць:

— Пастой жа, вешчы мае не прападуць, што мяне царэўна абабрала хмельнага.

Ён узяў з гэтай яблынкі вырваў пяць яблык і пайшоў у горад, спрасіў, у каторую царкву ездзіць царская світа. Яму там паказалі. Ён сабе купіў столік, на вуліцы паставіў і палажыў пяць яблык і сядзіць.

Када царэўна, нарачоная нявеста яго, ехала к абедні і ўвідзела на вуліцы яго з яблыкамі, пасылаець служанку сваю:

— На вот табе дзенег, служанка!

Прыходзіць служанка к гэтаму прадаўцу, каторы ля століка прадаець яблыкі, і спрашыець:

— Прадаеш яблыкі?

— Прадаю.

— Што ж ты возьмеш за яблыкі?

— Мне табе не прадаць. Гэта не ля цябе — каму нада, той сам купіць.

Прыйшла служанка і даклáдаець:

— Гаспажа, вот так і так.

Царская дачка па ўсяму гораду запрасціла таргоўлю, штоба, пака абедня не [а]дыдзець, то ва ўсім горадзе штоба прадажы не была ні на адну капейку!

Када абедня адышла, царская дачка пад'язджаець к гэтаму прадаўцу, каторы яблыкамі таргуець.

— Прадай яблыка!

— Купіце!

— Дорага лі яно?

— Дваццаць пяць рублей.

Царская дачка яблычка купіла. Узяла яго ў платок, заварацíла, павязла яго дамоў. Прыехамшы, пайшла ў сваю спальню і ўдзіўлялася, смотручы на гэта яблыка, адкуль гэта такое яблыка зарадзілася — очань крупна і харошы наліў, і начала яго кушаць.

Скушала гэта яблыка — вырас у яе рог да самых ног, і сядзіць яна, як чучала. После таго прыйшоў цар і смотрыць на сваю дачку і спрашыець, што с табой здзелалась. Яна [а]твячаець:

— З'ела яблыка, дак вот адтаго ў мяне і вырас рог.

Цар начаў адысківаць урачоў, дзядоў, бабак, штоба маглі гэты рог у дачкі яго зняць, і ніхто не мог гэтага рога зняць. Палавіну гасударства аддаваў, толькі рог сымі.

Жаніх, каторага яна абманіла, адазваўся:

— Я магу ізняць з царэўны рог, толькі штоба ў доме не было ні адной душы: толькі яна, царская дачка, да я, а часавыя штоба былі на дзвярах, штоб нікаго не прапусцілі ні ў дом, ні з дому. Сроку я даю два часа; як два часа пакончыцца, тады прашу іціць у дом.

Гэты жа жаніх нарачоны прыходзіць к царэўне.

— Харашо ль табе гэтакаю ўродаю быць? Успомні прэжнія дзяла, як мяне абідзела: вынула ў мяне з-пад барады шчасце, яшчо адабрала машну-трасейку, шапку-невідзімку і плець. Дак вот я цябе прашу пакарочы, штоба была меней клопатаў: аддай мае ўсе гэты вешчы, тады ў цябе рага не будзець.

Яна сагласна аддаць:

— На вот табе ключыкі, прыйдзі ў спальню маю і там у шкатулцы ляжаць усе твае вешчы.

Ён пайшоў з ключамі, шкатулку знайшоў, атварыў і ўсе вешчы свае знайшоў і забраў. Тады прыходзіць к ёй і гаворыць:

— Благадару, што аддала. Пака ж таперыча з'еш меленькае яблычка.

З'ела царэўна мелкае яблыка, у яе рог адваліўся, і гаворыць ёй:

— Ну што, нявеста нарачоная, якаво табе з рогам было жыць? Вот так і я ад вас пастрадаў, дак яшчо табе не ўсе страдання.

Узяў нарачоны жаніх за́ касы і пачаў яе плеццю драць, скольki хацеў. Яна справіла крык. Часавыя гаворaць, што крычыць царэўна. Тут далажылі, пасматрэлі на часы, што двух часоў нету:

— Ён, верна, адразаець рог.

Ён жа яе дзярэць плеццю. Як ададраў, тады ўдарыў яе батаўём, і здзелалась царэўна кабыліцай.

Тэй адходчык надзеў шапку-невідзімку і пабяжаў із даму, кала часавых прабяжаў, яны не відалі.

Два часы прайшло, уходзіць туды ў дом сам ампіратар. Пасматрыць: яго дачкі нетуці, толькі што ляжыць на палу рогаграмадны, а па залу ходзіць кабыліца пегая.

Цар важаснуўся, што гэта значыць такавое. Прыказаў гэту кабылу звесць на канюшню. І многа ўрэмя гэтага працякло, цар абвясціў па ўсяму гасударству, што прапала дачка.

Кабыліцу пегую падкавалі, а па царскай дачцы памяць — сабор началі строіць. Тада цар заявіў не то, што па сваім гасударству, так па ўсех землях:

Хто ба мог маю дачку атыскаць, то я аддаю ўсё сваё гасударства на вешную дзяржаву, а за таго б дачку аддаў!

Сыскаўся тэй самы, што плеццю яе ададраў, гаворыць:

— Цар, я вашу дачку адышчу.

— Што возьмеш за гэта?

— Пегую кабыліцу, болей з вас нічога не вазьму.

Цар абідзеўся:

— Што з мяне мала бярэш?

Як кабыліцу аддалі яму, павёў яе ў кузніцу, раскаваў і паставіў на навоз, пакуль капыты зараслі.

Тады прыходзіць к кабыліцы, хлопнуў плеццю — і стала яна дзявіцаю. Цар стаў рад і яго прызнаў за зяця, і ўсю дзяржаву яму адказаў, і дачку за яго сваю аддаў.

Я там быў, мёд-віно піў; даў мне сінь кахтан, куды пайду, гаворaць: «Сінь—харош, сінь—харош», а мне кажысь: «Скінь да палож!»

## 82. ПАПОЎ ПАРУБАК

Жыла сабе ўдава, во так, як бы ў нас у Соіне. І быў у яе адзін сын. Жылі яны бедна, і есць нечага было. От яна гаворыць:

— Ідзі, мой сын, ты ўжо ў лятах, ці не заробіш ты чаго-небудзь на прапітанне!

Ну, ён пайшоў к дзяку. А ў прэжняе ўрэмя былі дзеньгі дорагі. Прыходзіць к дзяку.

— Здрастуй!

— Здрастуй! Што ж ты прыйшоў?

— А я прыйшоў, ці не нанялі б мяне ў работнікі?

— Ну, мне нужан работнік. А ці будзеш ты верна служыць?

— Буду, бацюшка, старацца з усердзіем!

— Ну, служы! І дам табе жалавання адну дзенежку ў год!

— Ну, добра, спасіба і за гэта.

І астаўся служыць, на год стаў. І такім самым манерам ён праслужыў год. Дзяк даець яму адну дзенежку. Ён зайшоў к калодзезю, к мацеры не захадзя, і ўкінуў яе ў ваду і каець:

— Калі я верна служыў, то мая дзяньга будзець навярху, а няверна — то затонець.

Яна і ўтанула. Праслужыў ён яшчэ год, утары ўжо. Палучыў дзенежку і зноў пайшоў к гэтаму самаму к калодзезю і ўкінуў яе ў ваду.

— Калі я верна служыў,— каець,— то мая дзенежка не затонець!

Кінуў, а яна і ўтанула. Астаўся ён і на трэці год. Пайшоў з той дзенежкай к калодзезю і бросіў і тую ў ваду:

— Калі ж я няверна служыў бацюшку, то пусць мая і астальная тонець дзяньга, а калі верна, пусць усе тры паднімуцца наверх!

Яны і ўсплылі. Ён, палучомшы гэтыя ўсе тры дзенежкі ў рукі, пайшоў па дарозе пакупаць тавару на гэты тры дзяньгі. Устрэціў трапашніка, первы яму быў па пуці.

— Здрастуй!

— Здароў!

— Ці няма ў цябе на мае дзеньгі тавару?

Тэй адкрыў свой яшчык, скрыню, паказаў яму разныя ленты, стужкі, кралі, персні. Ён пасматрэў і гаворыць:

— Гэта не па маёй таргоўлі! Ці няма такіх вяшчэй, каб ка мне прынадляжала — каб ка храму?

Тэй адкрыў яму ладун — яшчычак.

— Вот гэта мне,— каець,— вешч нужная і ля бога,— гаворыць,— угодная, еслі я буду ўгодзен!

І купіў за ўсе тры дзенежкі ў яго ладану. Пайшоў у чыстае поле па дарозе і расклаў аганёк на кургане, і ўсыпаў гэты ладан на агонь. Гэты дымок пайшоў пад небяса. І ўслышан быў голас невідзімы:

— Што табе нада, чалавеча?

А ён адазваўся:

— Жалаю,— гаворыць,— дзве дудачкі, каб маглі йграць, пад імі маглі горы і ляса плясаць і што перад імі стаіць!

Ну, і відзіць, што падаюць дзве дудачкі перад ім, нязвесна кім зброшана іх. Ну, ён паблагадарыў бога за такую пасланую вешч, яму жалаемую, і пайшоў. Ідзець далей і прыходзіць к сваёй мацеры. Тая дужа ўзрадавалась, што ўвідзела яго ў добрым здароўі, і стала распрашваць:

— Што ж ты, сынок, заслужыў, сколькі пользы мы будзем імець з гэтага, што ты тры гады праслужыў?

Ён гаворыць:

— Маць мая дарагая, не прынёс січас пользы табе, а надзеюсь скора мець ад бога пользы.

— Ну, што ж ты дзелаў?

— А так і так...

Ну, пажыўшы малое ўрэмя, гаворыць:

— Маць мая дарагая! Пайду апяць к гэтаму самаму свайму хазяіну служыць.

— Бог благаславіць цябе.

Ну, ён і адправіўся ізноў. Прыходзіць к бацюшку і начаў мець дагавор з ім, у наймы пастухоў з ім. Бацюшка дужа рад быў гэтаму дзелу — яму пастух нужан быў. Дагаварыліся яны, значыцца, па заслузе заплата, а рашчот у канцы лета. Ну, ён наняў і дагаварыў, і ён пагнаў у поле скаціну яго. Сеў на кургонушак і зайграў у гэты дзве дудачкі свае. Як зайграў, дык скот стаў танцаваць, а тады і ляса, і горушкі, і ўсё. Танцавалі, пакуль з сіл выбілісь. Едва ён іх прыгнаў удвору. Ведама, не піўшы, не еўшы. Увідзела гэта матушка і бацюшка, сталі яго браніць:

— Як гэта ты напасціў скот, што і бакі ў іх пустыя?

Ён каець:

— Бацюшка і матушка! Параньшы ўставайце і прысматрыйце за мной, куды я скот ганяю.

А ў іх быў садок, у гэтага ў дзяка. І возле тута агрысту дужа многа. Назаўтрага ён скот не гнаўшы, забраліся мальчыкі з дзярэўні вараваць гэты агрыст. Бацюшка і матушка пабеглі ў сад, каб іх захваціць. Пастух гэта змеціў і січас начаў у дудачку іграць, а бацюшка з матушкай давай у вагрысце танцаваць. Ён іграець, а яны танцуюць. Патом яны сталі яго прасіць, што здзелай міласць, астаў. Ён ім атвяшчаець:

— Я тры гады вам праслужыў, і што вы назначалі, то я браў, а цяпер пажалуйце, што я стану трэбаваць, то я вам астаўлю.

Ну, яны, бацюшка, сказуець:

— Што ж ты жалаеш?

— Па пяцьдзесят р[ублёў] у год.

Бацюшка сагласіўся яму дзеньгі аддаць, а дзела пайдзём дахадзіць судом, што я па[а]бадраўся ўвесь. Заплаціў дзеньгі і пайшлі на суд. Ідуць. Ідуць і сустракаюць ганчароў на дарозе. Вазы іх былі цяжолы, а калявіны глыбокі, не хочыць ніхто з дарогі варачаць. Бацюшка крычыць:

— Вярні з дарогі!

Ганчары крычаць:

— У бацюшкі воз-то не цяжол, і вы людзі духоўныя, вы наша відзіце палажэнне, цяжолых вазоў!

Бацюшка відзіць, што яны людзі быццам то нягордыя, злез з воза і пайшоў к ім любапыстваваць. А вазы стаяць. Патом яны ўзглянулі і гаворацць:

— Што ў вас, бацюшка, як быдта вы па[а]бодраны ўсе?

— А вот так і так...

— Хто ж вас застаўляў у вагрысце танцаваць?

— Када ён зайграець, то нільзя вытрымаць.

Ну, і тыя сталі прасіць:

— Пажалуста, зайграй і нам.

Ён зайграў, яны і пайшлі ўсе танцаваць. Танцавалі да тых пор, што і гаршкі ўсе чысценька пабілі на куламес, і яны скачуць, і гаршкі, і чарапкі, і ўсё. Скакалі, скакалі, пакуль з сіл выбіліся, просяць яго ўжо, каб перастаў. Ён каець:

— А дасцё па пяцёрачцы, дык перастану.

Яны кажуць:

— У нас няма, мы гаршкі не прадавалі.

— Ну, няхай сабе, вы не без грошай!

Яны далі яму пяцёрку, ён і перастаў іграць. Пайшлі і гэтыя са сваёй абідай. Едуць — дзяк з матушкай і ганчары. Ну, й па-

том сустрачаюць дзехцяроў. Дзяк жа маўчыць ужо з матушкай, ну, а ганчары гавораць; як жа сваю абіду не расказаць?

— Ну, здароў!

— Здароў! Куды вы?

— А, такое і такое дзела...

— Да пайграй,— гавораць,— пажалуста, і нам!

Ён стаў іграць, а яны як пайшлі танцаваць! Дык і пабілася і паразлівалася ўсё чысценька, і ўсе ў дзёгаць паўдзелаліся, як чэрці. Ён стаў трэбаваць дзеньгі, а яны сталі бажыцца і клясца, што няма грошай. Ён іх адпусціў. І пайшлі ўсе ўмесце на суд. Ну, яны ўжо так условілісь, каб нікому не гаварыць, затрудне233 ній не дзелаць начальству. І прыйшлі ў губерню. І просяць, каб далажылі губерні начальніку, што больш нільзя нікому гэтага далажыць. Далажылі губерні начальніку. Тэй падазваў к сабе і сказыець:

— Што гэта за такое за чуда з вас? І хто вас, такіх дурняў, застаўляў у такія дзяла паступаць! Ён,— гаворыць,— з дручком над вамі не стаяў! Ніякай яму наказі за гэта нету, і вы можаце адпраўляцца па мястам. І я вот січас тожа папрашу сыграць.

Ну, тыя адышлі, а гэты гаворыць, удовін сын:

— Вы мяне не даўжны прасіць, а я даўжон вашага прыказу слушаць, вы нашы начальнікі.

Ну, тут ужо вызваў ён жану сваю, дачарэй, усіх дзяцей сваіх.

— Ну-ка, сыграй!

Ён начаў ім іграць, яны началі ўсе кучкаю танцаваць. Да таго ўжо, што крычаць:

— Перастань!

А ён каець:

— Я за музыкай упярод і не слыхаў.

Ну, і наградзіў яго крэпка:

— Даўжно быць, ты ў бога быў дастоін!

А тыя так і пайшлі дамоў, без усякага ўсяго.

## 83. АБ ТОКАРУ І ЗЛОТНІКУ

Быў токар і злотнік, зышліся разам да карчмы, дзе зачалі выпіваць. Выпіўшы добра, токар кажа:

— Я лепшы майстар!

А злотнік:

— Не, я за цябе лепшы!

Ну, так слова за слова і давай біцца.

Пабіліся добра, а то было ў сталэчным месце, так кажуць:

— Ідзем да кроля, няхай нас рассудзіць.

Прыйшлі да кроля, кроль пытае:

— Хто вы такія?

Так адзін кажа:

— Я злотнік.

А другі:

— Я токар.

— А чаго вы хочаце?

— Так і так.

— Но,— кроль кажа,— добра, за два тыгодні зрабі ты, злотнік, сваю добру штуку, а ты, токар, сваю, то я забачу, хто з вас лепшы майстар і тэды вас асуджу.

Пайшлі яны дадому; злотнік абмысліў, зрабіў залатую рыбку, што як пусціць у воду, то яна ходзіць, як жывая; а токар вырабіў такога галубка на шрубе, як закруціць у адзін бок, то ён дагары ляціць, а як адкруціць назад, то ўніз. Га, так нясуць яны свае штукі да кроля.

Прыйшлі, так то кроль казаў у ва́зу вады наліць, рыбку ўпусціць — аж ходзіць, як жывая!

Той зноў пакручывае шрубу — галубок рвецца дагары: добрыя штукі!

— Но майстры,— кроль кажа,— выходзьце до сандо́вэй салі, там бэндзем сондзіць вас.

Пайшлі яны там, кроль адзяваецца, а кроляў сын, едэнастолетні хлопчык, схапіў у рукі гэтага галубка, выйшаў на двор, узяў яго між ногі і давай круціць шрубу.

Як-то накруціў моцна, як пойдзе галубок з ім угару — панёс і панёс, як можна окам скінуць!

Зараз зачалі крычаць, кроль кінуў суд, выскачыў на двор — няма!

Рассылае сваіх слуг па ўсём свеце, жэб хоць косці найшлі; шукалі-шукалі — няма.

А ён тым часам ляцеў-ляцеў, і як ужэ збіўся аж пад само слонка, так дапіро трэцяга дня прыпомніў сабе, цо трэба назад адкручваць.

Зачаў адкручваць назад, аж апушчаецца, да й то спусціўся пад неякі дом і стаў.

А было то рана, стаіць хлопчык бедны, галодны і плача, аж ідзе купец, паўважаў на гэта дзіця, зачаў распытываць — не знае мовы яго, потым іннаю моваю і нарэшці натрапіў. Ну, так пытае:

— Скуль ты?

А ён:

— Не ведаю.

Ну, забірае яго да се, накарміў, напаіў, зачаў яго гадаваць; відзіць, цо то цікáвы хлопец, так то падучыў яго крыху чытаць, пісаць і потым узяў яго ў сваю краму, спрэдаваць ружныя рэчы.

Там былі скрыпкі і ружныя інструмэнты; ён-то навучыўся так пекне граць на скрыпцы, жэ цэло места сходзілася слухаць і купавалі ў той краме — а божа! Но, у том месце такжа быў кроль і залажыў баль, так пытаў, жэб добрага музыкі, аж яму мовяць, жэ е ў аднаго купца людскі музыка.

Прысылае кроль фурмана, вязе яго, аж там блізка кралеўскага палацу стаіць шэсцьпянтрова вежа. Так ён у фурмана́ пытае:

— Цо гэта? Хто тут жыве?

Так фурман кажа:

— Тут на шостым пёнтру кралеўна ест.

— А чаго яна там жые?

— А то для таго,— кажа,— панічыку, жэ яна як радзілася, то бабка прыёмна сказала, жэ то будзе велька шэльма, так кроль баяўшыся, жэбы яна глупства не зрабіла, то казаў вымураваць гэту вежу, і яна там жые ўжэ лят за дванасце, тылька старая баба носіць ядзенне і ўчыць цо трэба, а кругом стаіць варта, жэб баба каго не ўпусціла.

Так ён ніц на гэта не кажа, тылька занатаваў сабе. Заехаў да палацу, граў там цэлу ноч, ну і яго адвезлі зноў да купца, але яму ўсе ў галаве гэта кралеўна, як бы да яе дабрацца. Потым то падумаў, злажыў галубка і ўвечар выйшаў з крамы, накруціў, сеў і паляцеў. Абляцеў кругом гэту вежу, абгледзеў, а жэ окна былі з сярэдзіны паўстаўляны, так ён на мур сеў і ўглядаецца.

Аж выходзіць з другога пакою паненачка пекна, як кветка серад летка. Пахадзіла яна, пахадзіла і пайшла; тэды ён праз акно ўкінуў рукавічку і сам паляцеў.

На другі вечар прылятае назад, паглядзеў, цо акно не зашчэпена, так адчыніў пацiху, узлез, аж там на стале стаіць віно ў бутэльцы і печань добра; выпіў, закусіў і думае сабе: «Пайшоў бы я там, але баюся, жэб не нарабіла крыку».

Аж адчыняюцца дзверы, і ўходзіць яна. Забачыла яго, так спалохаўшыся, стала крычаць, бо яна нігды не відзела мужчыны. Так ён кажа:

— Ціха, ціха, я такі сам чалавек, як ты, не бойся.

Яна-такі баялася, не хацела падходзіць да яго. Але ён ёй расказаў, што і ён кролеў сын, да й з якога кралеўства, усё..., а потым кажа:

— Але ты бабе не кажы, цо я тут прыляцеў, бо мяне ўхопяць і страцяць.

Ну, так яна падышла ўжэ да яго бліжай, пасядзелі, потым пахадзілі, і яна ўсё дзівілася, чом ён мужчына, а яна дзеўчына. Так ён ёй расказаў, наўчыў, чаму то так, і, нядоўга пачакаўшы, пайшлі яны спаць. Палягли крыху, але жэ ёй гэта падабалася, так то стала яго прасіць, жэбы ён застаўся назаўша з ею.

Но, але ён вытлумачыў ёй, жэ няможна, бо як даведаецца кроль, то страціць іх абое. Але кажа:

— Я да це буду прылятаць, тылька ўначы, але памятуй, не кажы нікому, жэбы ніхто не ведаў.

Но так пажагналіся, ён сеў на галубка і паляцеў дадому. Яна назаўтра дзень казала бабе, жэбы прынесла больш віна і ядзення, і ён ужэ летаў і летаў да яе.

Яны так пекне мілаваліся, цалаваліся, але ж потым баба пазнала, цо кралеўна пабрухацела, сказала кролеві, так кроль на бабу:

— Хіба то ты, ведзьмо, каго пусціла; павешу бабу!

І то казаў бабу ў астрог усадзіць, а да дачкі пасладь дохтара, жэб паглядзеў, чы то праўда. Дохтар то забачыўшы:

— Праўда,— кажа,— міласцівы кролю, дачка ваша ў цяжку.

Но, так то кроль збірае зараз раду і кажа:

— Мóі панове, як то можа быць, тож то поветжны птак тэго не зробі, а мэншчызна там не ўлезе?

Так то сенаторы кажуць:

— Трэба, міласцівы кролю, на ўсе окна смалы наліць, то пазнаем, чые там слядэ будуць.

— Добра.

Но, так і зрабілі, а ён-то не агледзеўся, прыляцеў уначы і на акне слядэ зрабіў, так яны і пазналі, жэ гэта чалавек.

Так то назаўтра дзень кроль казаў, жэбы ўсіх з цэлага места вызваць і забачыць, у каго рукі або ногі ў смале. Но, так і зрабілі, і кралеўну стуль звялі і кажуць:

— Пазнавай жа, каторы ў цябе быў?

Але яна яго, вядома, шкадавала, хадзіла, хадзіла, кажа:

— Няма!

Ну, так кроль кажа:

— Таіш, шэльмо, то цябе едно повесім.

Тэды то яна:

— Но, кеды гіноньць, то разам: он ест тутай!

І пайшла, узяла за руку і вядзе.

Так то — зараз і асудзілі іх павесіць абое. Тэды ён кажа:

— Добра, няхай будзе і так, тылька пазвольце ёй пажагнацца з айцом і з маткаю, а мне хоць з цэлым светам і з ею.

Кроль пазволіў. Ну, так ён да яе падышоў, абняў яе нібыто пацалаваць, як закруціў шрубу галубку — пайшлі ўгару!

Тут крычаць:

— Трымайце! Лапайце!

А ён крыкнуў: «Пацалуй мне ў..., найяснейшы кролю!»

І паляцелі! Ляцяць яны, ляцяць, аж яна кажа:

— Кепска мне, стань!

Так ён апусціўся ўніз і папала ў лесе. Тэды яна кажа:

— Но, мой міленькі, буду дзіця радзіць!

Так ён то прэндзей узяў, агню разлажыў лом і сам на галубка, да да места.

Прыляцеў, распытаў, дзе баба: яна выйшла, а ён яе хапіў, да то на галубка і п-а-анёс! Так то баба і замглела, бо думала, цо яе чорт хапіў.

Прылятаюць, аж кралеўна ўжэ дзіця родзіць. Яны там пасядзелі тры дні, ён бабу адставіў назад, потым забраў яе, дзіця і павёз да бацька.

Спусціўся рыхтык у сад кралеўскі, аж чуе, у месце барабаняць, людзі ідуць грамадаю, так то пытае:

— Цо там такое!

— Гэто, паночку, токара вязуць вешаць, за то, цо ён зрабіў такога галубка, каторы панёс кро́левага сына.

Так ён кажа:

— А, змілуйцеся, хутчэй, хутчэй дайце знаць кролеві, жэб не павесілі таго токара, бо кралеўскі сын ест.

Сказалі, кроль зараз забараніў, ён прыходзіць да бацька, а той, забачыўшы яго, давай то цалаваць, абымаць, аж ён кажа:

— Я не едзін тут: е ў садзе мая нажэчона.

Кроль то хутчэй паслаў па яе, прывялі да палацу, распытаў сына аб цэлай прычыне, зараз казаў іх да касцёла і шлюб ім далі.

Васэле выправілі такое гучнае, усе кролі былі там і ксёнжэнта, і паны і таго на той ахт папрасілі, хто гэту байку казаў. Трахтавалі нас мёдам, вінам, па барадзе і ўсах цякло, а ў губе-то і ніц не было.

Каментарыі[1] гэтага тома беларускіх казак будуюцца ў асноўным па схеме, прынятай у папярэднім томе «Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі». У каментарыях даецца парадкавы нумар і назва казкі, вызначаецца яе сюжэтны тып па паказальніку казачных сюжэтаў Андрэева-Аарнэ[2]. Калі нумары паказальніка Андрэева не супадаюць з нумарамі апошняга выдання міжнароднага паказальніка казачных сюжэтаў Аарнэ-Томпсана[3], адзначаюцца таксама нумары па паказальніку Томпсана. Затым паведамляюцца крыніца, з якой узяты твор, і яго пашпарт у наступным парадку: хто запісаў казку, калі, дзе і ад каго яна запісана. Калі ёсць адпаведныя матэрыялы, даюцца кароткія звесткі пра казачнікаў. Далей у каментарыях адзначаюцца варыянты твора, у першую чаргу беларускія, рускія і ўкраінскія. У сувязі з тым, што рускі казачны матэрыял у асноўным улічаны ў паказальніках Андрэева і Пропа[4], а ўкраінскі ў значнай частцы сістэматызаваны Андрэевым[5], у адпаведных выпадках спасылкі даюцца не на першакрыніцы, а на гэтыя працы. Пры ўказанні польскіх варыянтаў спасылкі даюцца таксама не на першакрыніцы, а на паказальнік Ю. Кржыжаноўскага[6].

У каментарыях да асобных казак прыводзяцца кароткія звесткі аб гісторыі і геаграфічным распаўсюджанні гэтых твораў, падкрэсліваюцца іх адметныя рысы ў параўнанні з казкамі іншых народаў, даюцца патрэбныя тлумачэнні. Пры неабходнасці матэрыялы міжнароднага паказальніка сюжэтаў АТ удакладняюцца або дапаўняюцца.

---

[1] Каментарыі падрыхтавалі Л. Р. Бараг і К. П. Кабашнікаў. Аўтары выкарысталі свае друкаваныя і рукапісныя працы, у прыватнасці: Л. Г. Бараг. Сюжеты и мотивы белорусских волшебных сказок. У кн.: Славянский и балканский фольклор. М., 1971, стар. 182—235, а таксама сабраныя імі матэрыялы для паказальнікаў казачных сюжэтаў.

[2] Н. П. Андреев. Указатель сказочных сюжетов по системе А. Аарне. Л., 1929. Агульнапрынятае абазначэнне паказальніка — АА.

[3] The Types of the folktale. A Classifikation and Bibliography Antti Aarne's Verzeichnis der Märchentypen (FFC N 3). Translated and enlarged by Stith Thompson. Second Revision. Helsinki, 1961. Агульнапрынятае абазначэнне паказальніка — АТ.

[4] В. Я. Пропп. Указатель сюжетов. У кн.: Народные русские сказки А. Н. Афанасьева в трех томах, т. 3. М., 1957, стар. 454—502.

[5] Н. П. Андреев. К характеристике украинского сказочного материала. У зб.: С. Ф. Ольденбургу. М.—Л., 1934, стар. 60—72.

[6] J. Krzyżanowski. Polska bajka ludowa w układzie systematycznym, t. I—II. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1962—1963.

У каментарыях прыняты наступныя скарачэнні назваў навуковых прац і фальклорных зборнікаў:

Андр., Укр.— Н. П. Андреев. К характеристике украинского сказочного материала. У зб. : С. Ф. Ольденбургу. М.—Л., 1934, стар. 60—72.

Афанасьев — Народные русские сказки А. Н. Афанасьева. Подготовка текста и примечания В. Я. Проппа, т. I—III. М., 1957.

Бараг — Л. Бараг. Народные сказки, легенды, предания и были Башкирии. Уфа, 1969.

Балашов — Д. Балашов. Сказки Терского берега Белога моря. Л., 1970.

Бел. эпас — Беларускі эпас. Мінск, 1959.

Бессараба — И. В. Бессараба. Материалы для этнографии Херсонской губернии. Сборник ОРЯС АН, т. 94, № 4, Пг., 1916.

Верхратський, 1899 — Іван Верхратський. Про говор галицьких лемків. Львів, 1899.

Верхратський, 1901 — Іван Верхратський. Знадоби для пізнання руських говорів. Львів, 1901.

Галиця — Казки зелених гір. Казкар Михайло Галиця. Запис текстів, упорядкування та вступна стаття П. В. Лінтура. Ужгород, 1969.

Гиряк — Українські народні казки Східної Словаччини. Упорядкування, післямова та коментарі М. Гиряка, т. 2. Пряшев, 1966.

Гиряк, 1968 — Гора до неба. Українські народні казки Східної Словаччини. Запис текстів, упорядкування і загальна редакция М. Гиряка і Н. Гиряк. Ужгород, 1968.

Гиряк, 1969 — М. Гиряк. Українські народні казки Східної Словаччини, т. III. Пряшев, 1969.

Господарев — Сказки Филиппа Павловича Господарева. Запись текста, вступительная статья и примечания Н. В. Новикова. Петрозаводск, 1941.

Гринченко — Б. Гринченко. Этнографические материалы, собранные в Черниговской и соседних с нею губерниях, вып. I—II. Чернигов, 1895, 1897.

Гринченко, Казки — Б. Гринченко. Українські народні казки, вибрані для дітей. Київ, 1917 (3-е вид.).

Гулевіч — Беларускія казкі, запісаныя ад Пятра Гулевіча. Зборнік склаў П. Ахрыменка. Мінск, 1963.

Дідо-всевідо — Дідо-всевідо. Закарпатські народні казки. Запис текстів та упорядкування П. В. Лінтура. Ужгород, 1969.

Дмитриев — М. А. Дмитриев. Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края. Вильно, 1869.

Добровольский — В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. I. СПб, 1891.

Драгоманов — Малорусские народные предания и рассказы. Свод М. Драгоманова. Киев, 1876.

Еремин, Фалев — С. Еремин, И Фалев. Русская диалектология. М.— Л., 1928.

Етногр. зб.— Етнографічний збірник. Видає. Етнографічна комісія наукового товариства імені Т. Шевченка у Львові. За редакцією В. Гнатюка, т. I—XXXVIII. Львів, 1896—1916.

Игн. з Никлович — Казки. Зобрав Игнатий з Никлович. Львів, 1861.

Казки Буковини — Казки Буковини. Записав та впорядкував М. Івасюк. Ужгород, 1968.

Казкі пра жывёл — Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі. Складальнік К. П. Кабашнікаў. Мінск, 1971.

Калін — Закарпатські казкі Андрія Каліна. Запіс текстів та вступна стаття П. В. Лінтура. Ужгород, 1959.

Карский — Е. Ф. Карский. Материалы для изучения белорусских говоров, т. I—V. СПб, 1898—1903.

Королович — Три золотих слова. Казки В. Короловича. Запіс текстів та упорядкування П. В. Лінтура. Ужгород, 1968.

Королькова — Русские народные сказки, рассказанные А. Н. Корольковой. Составитель и ответств. редактор Э. В. Померанцева. М., 1969.

Кравченко — Этнографические материалы, собранные В. Г. Кравченко в Волынской и соседних с ней губ. «Труды общества исследователей Волыни», т. V. Житомир, 1911; т. XII, Житомир, 1914.

Кругляшова — В. П. Кругляшова. Фольклор на родине Д. Н. Мамина-Сибиряка. Свердловск, 1967.

Кулиш, Записки — Записки о Южной Руси. Издал П. Кулиш, т. I, СПб, 1856; т. II, СПб, 1857.

Кулиш, Предания — Украинские народные предания. Собрал П. Кулиш, кн. I, М., 1847.

Левченко — Казки та оповідання з Поділля. Упорядкував М. Левченко вип. I—II. Київ, 1928.

Малинка — А. Н. Малинка. Сборник материалов по малорусскому фольклору. Чернигов, 1902.

Манжура — Сказки, пословицы и т. д., записанные в Екатеринославской и Харьковской губерниях И. И. Манжурой. Харьков, 1890.

Милорадович — В. Милорадович. Казки та оповідання, записанные на Лубенщине. Полтава, 1913.

Никифоров — Севернорусские сказки в записях А. И. Никифорова. Издание подготовил В. Я. Пропп. М.— Л., 1961.

Никифоров, Опись — Опись сказочного собрания А. И. Никифорова. У кн.: Севернорусские сказки в записях А. И. Никифорова. Подготовил В. Я. Пропп. М.— Л., 1961, стар. 343—380.

Померанцева, Башк.— Русское народное творчество в Башкирии. Под общей ред. Э. В. Померанцевой. Уфа, 1957.

Померанцева, Яросл.— Песни и сказки Ярославской области. Под общей ред. Э. В. Померанцевой. Ярославль, 1958.

Потявин — Народная поэзия Горьковской области. Составитель и ред. В. Потявин, вып. I. Горький, 1960.

Пропп — В. Я. Пропп. Указатель сюжетов. У кн.: Народные русские сказки А. Н. Афанасьева в трех томах, т. 3. М., 1957, стар. 454—502.

Романов — Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. III. Витебск, 1887; вып. IV, Витебск, 1891; вып. VI, Могилев, 1901.

Романов, Материалы — Е. Р. Романов. Материалы по этнографии Гродненской губернии, вып. I—II. Вильно, 1911—1912.

Рудченко — Народные южнорусские сказки. Издал И. Я. Рудченко, вып. I—II. Киев, 1869, 1870.

Сержпутовский — А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков. СПб, 1911.

Сержпутоўскі, Казкі — А. К. Сержпутоўскі. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета. Л., 1926.

Ск. Верховины — Сказки Верховины. Закарпатские украинские народные сказки. Составитель И. М. Чендей. Ужгород, 1970 (2-е изд.).
Укр. казки — Українські народні казки, легенди, анекдоти. Упорядкували Г. Сухобрус, В. Юзвенко. За редакцією П. Попова. Київ, 1957.
Хрэстаматыя — Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогii. Пад рэд. Р. І. Аванесава і М. В. Бірылы. Мінск, 1962.
Чубинский — Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западно-русский край. Материалы и исследования, собранные П. П. Чубинским, т. II, СПб, 1878.
Чудинский — Е. Чудинский. Русские народные сказки. М., 1864.
Шейн — П. В. Шейн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. II, СПб, 1893.
Шухевич — Гуцульщина. Написав В. Шухевіч, т. V. Львів, 1908.
Яворский — Ю. Я. Яворский. Памятники Галицко-русской народной словесности, вып. I. Легенды, сказки, рассказы и анекдоты. Киев, 1915.
Якимович — Белорусские народные сказки. Пересказ Алеся Якимовича. Минск, 1968.
Якімовіч — Каток — залаты лабок. Беларускія народныя казкі. Пераказ і апрацоўка А. Якімовіча. Мінск, 1955.
Ястребов — Материалы по этнографии Новороссийского края, собранные в Елизаветградском и Александрийском уездах Херсонской губ. В. Н. Ястребовым. Летопись историко-филологического общества при Новороссийском университете, III. Одесса, 1894, стар. 59—260.
Barag — Belorussische Volksmärchen. Herausgegeben von L. G. Barag. Berlin, 1971 (5-е выд.).
Barącz — Ks. Sadok Barącz. Bajki, freszki, podania, przysłowia i pieśni na Rusi. Lwów, 1886.
Federowski — M. Federowski. Lud białoruski na Rusi Litewskiej, t. I—III. Kraków, 1897—1903.
Gliński — A. Gliński. Bajarz polski. Zbiór pieśni, powieści i gawęd ludowych, t. I—IV. Wilno, 1853.
Karłowicz — J. Karłowicz. Podania i bajki, zebrane na Litwie. Zbiór wiadomośći do antropologii krajowej, t. XI. Kraków, 1887; t. XII, 1888.
Klich — Edward Klich. Teksty białoruskie z powiatu Nowogródzkiego. Materyały i prace Komisyi językowej, t. II. Kraków, 1903.
Kolberg, 1888 — O. Kolberg. Lud, t. IV. Pokucie. Kraków, 1888.
Kolberg, 1889 — O. Kolberg. Baśnie z Polesia. Zbiór wiadomośći do antropologii krajowej, t. XIII. Kraków, 1889.
Kolberg, 1891 — O. Kolberg. Przemyskie. Kraków, 1891.
Kolberg — O. Kolberg. Chelmskie. Kraków, 1891.
Kolberg, 1907 — O. Kolberg. Wołyń. Kraków, 1907.
Krzyżanowski — Julian Krzyżanowski. Polska bajka ludowa w układzie systematycznym, t. I—II. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1962—1963.
Moszyńska — Bajki i zagadki ludu ukraińskigeo. ZWAK, IX, 1875.
Nowosielski — A. Nowosielski. Lud ukraiński, jego pieśni, bajki, podania, klechdy, zabobony, obrzędy, zwyczaje, przysłowia, zagadki i t. d., t. I—II. Wilno, 1857.
Rokossowska — Z. Rokossowska. Bajki (skazki) ze wsi Jurkowszczyzny. Materyały antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne, t. II. Kraków, 1897.
Weryha — Podania białoruskie, zebrane przez Władysława Weryhę. Lwów, 1889.

## ІНШЫЯ СКАРАЧЭННІ

АІМЭФ — Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР
бел.— беларускі
в.— вёска
вар.— варыянт
вобл.— вобласць
вол.— воласць
воп.— вопіс
вып.— выпуск
г.— год
гл.— глядзі(це)
г. нар.— год нараджэння
губ.— губерня
друк.— друкуецца
зап.— запісаў(ла)
зб.— зборнік
л.— ліст
літ.— літаратурны
літоўск.— літоўскі
м.— мястэчка
нар.— народны
п.— павет
параўн.— параўнай(це)
пас.— пасёлак
польск.— польскі
р-н — раён
руск.— рускі
склад.— складальнік
с/с — сельсавет
ст.— стагоддзе
стар.— старонка
сш.— сшытак
т.— том
укр.— украінскі
ф.— фонд

### 1. Як тры змяі тры кралеўны на той свет пахваталі

АА 300 А+301 А+554 (часткова). Federowski, I, стар. 126—130, № 345. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Краснае Сяло Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Пятрыны Чырвонікавай.

Бел. вар. сюжэтнага тыпу 300 А «Пераможца змея»: Чубинский, стар. 129—130, № 45, Кобрынскі п.; Шейн, II, стар. 170—172, № 82, Слуцкі п.; стар. 276—279, № 133, Ігуменскі п.; Романов, III, стар. 99—100, № 14, Сенненскі п.; стар. 148—154, № 19, Рагачоўскі п.; стар. 217—218, № 32, Сенненскі п.; Романов, VI, стар. 36—60, № 5, Горацкі п.; Klich, стар. 159—160, № 1, Навагрудскі п.; Federowski, I, стар. 120—124, № 342, Ваўкавыскі п.; стар. 124—126, № 343, Ваўкавыскі п.; Weryha, стар. 19—24, № 4; Karłowicz, 1887, стар. 237—238, № 5; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 1, сш. 31, стар. 7—13, Вілейскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 49, сш. 19, л. 1—12, Свірскі р-н; Сержпутовский, стар. 11—14, № 5; Сержпутоўскі, Казкі, стар. 47—52, № 23, Слуцкі п.; Господарев, стар. 197—217, № 7; Barag, стар. 111—120, № 6, Любчанскі р-н. Проп адзначае звыш 50 руск. вар. гэтага сюжэта: Пропп, стар. 464. Акрамя таго, гл.: «Советский фольклор», 1936, № 3—4, (15 тэкстаў), а таксама Никифоров, № 106. Укр. вар.— 24 (Андр. Укр., а таксама Дідо-всевідо, стар. 64—70).

Бел. вар. сюжэта 554 «Удзячныя жывёлы»: Романов, III, стар. 133—142, № 17, Быхаўскі п.; стар. 196—198, № 26, Быхаўскі п.; стар. 325—326, № 72, Сенненскі п.; Романов, VI, стар. 36—60, № 5, Горацкі п.; стар. 81—88, № 8, Быхаўскі п.; стар. 88—90, № 9, Клімавіцкі п.; стар. 225—233, № 25, Чэрыкаўскі п.; стар. 327—335, № 35, Аршанскі п.; Добровольский, стар. 478—491, № 13; стар. 492—495, № 14, Ельнінскі п.; Federowski, I, стар. 124—126, № 343, Ваўкавыскі п.; Federowski, II, стар. 55—56, № 47, Ваўкавыскі п.; Kolberg, 1889, стар. 206—207, № 6; Сержпутоўскі, Казкі, стар. 47—52, № 23, Слуцкі п.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 40, сш. 12, Дзяржынскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 4, сш. 1,

стар. 1—5, Дзятлаўскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 49, сш. 19, л. 1—14, Свірскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 46, сш. 1, л. 1—15, Глыбоцкі р-н. Параўн.: Сержпутовский, стар. 11—14, № 5; стар. 112—114, № 58; стар. 152—166, № 72. Руск. вар. сюжэта 554 — звыш 20 (Пропп, стар. 475; Никифоров, № 73). Укр. вар.— 16 (Андр., Укр.).

Бел. вар. сюжэта 301 А («Тры царствы»: Романов, III, стар. 78—85, № 10, Сенненскі п.; стар. 85—88, № 11, Сенненскі п.; стар. 88—92, № 12, Рагачоўскі п.; стар. 92—99, № 13, Быхаўскі п.; стар. 154—164, № 20, Рагачоўскі п.; Романов, VI, стар. 130—146, № 15, Сенненскі п.; стар. 347—354, № 37, Чэрыкаўскі п.; Шейн, II, стар. 102—110, № 53, Барысаўскі п.; стар. 133—135, № 60, Ваўкавыскі п.; стар. 149—151, № 70, Гродзенскі п.; Добровольский, I, стар. 455—467, № 10; стар. 501—510, № 17; Federowski, I, стар. 132—135, № 348, Ваўкавыскі п.; Federowski, II, стар. 87—90, № 64, Сакольскі п.; Klich, стар. 139—140, № 1, Наваградскі п.; Karłowicz, 1887, стар. 237, № 5; Barag, стар. 54—68, № 3; Господарев, стар. 324—329, № 18; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 11, сш. 4, л. 22—34 (у спалучэнні з 301 * С); ф. 13, воп. 10, № 49, сш. 16, л. 6—19, Мінская вобл.; ф. 13, воп. 10, № 46, сш. 3, л. 1—12, Пліскі р-н. Літ. пераказ: Якімовіч, стар. 238—254. Проп, аб'ядноўваючы сюжэты 301 А і 301 В у адзін — 301, адзначае звыш 70 руск. вар. і каля 10 тэкстаў, якія набліжаюцца да гэтага сюжэтнага тыпу. Яшчэ 5 тэкстаў у зб. Нікіфарава (№ 36, 77, 79, 109, 131). Укр. вар. звыш 30 (Андр., Укр.).

У першакрыніцы замест паўтарэння аднолькавых эпізодаў М. Федароўскі робіць завагу: «і гэтак далей (як вышэй)». У мэтах захавання мастацкай цэласнасці твораў складальнікі тома ўзнаўляюць гэтыя эпізоды па першаму апісанню. Такая работа праведзена паслядоўна і ў іншых тэкстах, дзе ёсць адпаведныя ўказанні збіральнікаў.

*Рэнчнік* — ручнік.
*Сломка* — саломінка.
*Пажагнацца* — развітацца.
*Жэбы* — каб.
*Назмысне* — наўмысля, знарок.
*Дыхтар* — скажонае *рыхтык* — дакладна.
*Кантэтны* — задаволены.
*Утрахтаваць* — пачаставаць.

## 2. Браты-багатыры

АА 300 А+303 (няпоўн.). Гулевіч, стар. 42—50. Зап. у 1957 г. у пас. Гацкае Нісімкавіцкага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай вобл. ад казачніка Пятра Іосіфавіча Гулевіча (1870—1957). Біяграфічныя звесткі і некалькі казак, запісаных ад яго, надрукаваны ў зб.: Беларускія казкі, запісаныя ад П. Гулевіча. Мінск, 1963.

Вар. сюжэта 300 А адзначаны ў каментарыі № 1.

Бел. вар. сюжэта АА 303 «Два браты»: Добровольский, стар. 478—491, № 13; Романов, III, стар. 133—142, № 17, Быхаўскі п.; Klich, стар. 159—161, № 1, Наваградскі п.; Господарев, стар. 60—85, № 2; стар. 324—328, № 18, АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 49, сш. 28, л. 1—12; Мядзельскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 49, сш. 19, л. 1—14, Свірскі р-н. Руск. вар.— 44 (Пропп, стар. 465; Никифоров, № 73; Никифоров, Опись — 6 запісаў). Укр. вар.— 8 (Андр., Укр.), а таксама: Дідо-всевідо, стар. 109—116; Гиряк, 1968, стар. 6—18.

### 3. Кабылін сын

АА 300 *В (=АТ 300 А)+*1084 I (=АТ 1082 А). Романов, VI, стар. 248—254, № 27. Зап. Е. Р. Раманаў у Бялынічах Магілёўскага п.

Бел. вар. сюжэта 300 *В: Романов, III, стар. 88—92, № 12, Рагачоўскі п.; стар. 110—120, № 15, Сенненскі п.; стар. 120—133, № 16, Клімавіцкі п.; Романов, VI, стар. 254—262, № 28, Мсціслаўскі п.; стар. 262—276, № 29, Гарадоцкі п.; параўн. таксама стар. 1—7, № 1, Чавускі п.; стар. 335—340, № 36, Рагачоўскі п.; Добровольский, стар. 405—410, № 5; стар. 410—416, № 6, Смаленскі п.; стар. 416—433, № 7; стар. 433—444, № 8, Ельнінскі п.; Federowski, I, стар. 131—132, № 347, Ваўкавыскі п.; Хрэстаматыя, стар. 243, Петрыкаўскі р-н; Господарев, стар. 324—328, № 18; Barag, стар. 54—68, № 3; АІМЭФ, ф. 13, воп. 6, № 7, сш. 2, л. 32—40, Бялыніцкі р-н; ф. 8, воп. 1, № 2, л. 22—33, Жыткавіцкі р-н; Літ. пераказ гл.: Якимович, стар. 198—217. Руск. вар.— 35 (Пропп, стар. 464; Никифоров, № 36, 55, 66). Укр. вар. сюжэта 300 *В каля 30. Акрамя тэкстаў, улічаных у паказальніках Больтэ-Поліўкі і Андрэева, адзначым: Ск. Верховины, стар. 203—207, 396—401; «Дідо-всевідо», стар. 64—70; Гиряк, 1968, стар. 76—90.

Матыў цудоўнага нараджэння, які звычайна з'яўляецца першай часткай сюжэта АА 303, уласцівы многім іншым беларускім чарадзейным казкам: Романов, III, стар. 110—120, № 15; Романов, VI, стар. 130—146, № 15; стар. 354—360, № 38; стар. 146—149, № 16 і інш. Многім усходнеславянскім казкам гэтага тыпу ўласцівы таксама заключны эпізод: герой знаходзіць паратунак у кузні і з дапамогай кавалёў перамагае змяіху. Незвычайны тут эпізод спеваў-спаборніцтваў, які сустракаецца ў казках пра дурнога чорта (АА *1084 I). Бел. вар. гэтага сюжэта: Добровольский, I, стар. 649—650, № 8; Federowski, III, стар. 196, № 377.

### 4. Іван Сучкін сын Залатыя пугавіцы

АА 300 *В+513 А. Романов, III, стар. 110—120, № 15. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х г. XIX ст. у в. Чарнагосце Сенненскага п. Магілёўскай губ.

Гл. заўвагу № 3. Бел. вар. сюжэта 513 А «Шэсць цудоўных таварышаў»: Романов, III, стар. 120—133, № 16, Клімавіцкі п.; Романов, VI, стар. 254—262, № 28, Мсціслаўскі п.; стар. 262—276, № 29, Гарадоцкі п.; стар. 276—286, № 30, Чавускі п.; стар. 426—440, № 47, Сенненскі п.; Добровольский, стар. 416—433, № 7, стар. 433—444, № 8, Ельнінскі п.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 6, № 7, сш. 2, л. 32—40, Бялыніцкі р-н.

Проп адзначае 19 руск. вар. сюжэтнага тыпу 513 А (стар. 472). Гл. таксама: зб. «Сов. фольклор», № 4—5, стар. 231—238; Никифоров, Опись. Укр. вар.— 18 (Андр., Укр.; Калин, стар. 56—60; Гиряк, стар. 218—230, № 63). Польск. вар. — 16 (Krzyżanowski, I, стар. 165—166).

Казка мае шмат агульных рыс з руск. і ўкр. творамі гэтага сюжэтнага тыпу, але разам з тым захоўвае эпізоды, якія рэдка сустракаюцца ў казачным эпасе ўсходніх славян. Мар'я-царэўна, давсдаўшыся, што Сучкін сын высватаў яе за старога дзеда, уцякае, перакінуўшыся спачатку ў месяц, потым у лебедзь, рысь; яе шукае і знаходзіць асілак, перакінуўшыся паслядоўна ў зорку, сокала, ваўка (параўн. сюжэт АА 329).

*Пушчэй* — параўнальная ступень ад прыметніка *пушчы* — хужэйшы. (Заўвага Е. Р. Раманава).

*Забарасні (забарсні)* — верхнія дзірачкі ў лапцях, скрозь якія працягваюцца аборы.

*Мяліца* — мялка, прыстасаванне, у якім пераціраюць, мнуць лён. Тут перан. *пашча*.

## 5. Суччы сын

АА 300 *В+*313 І (=АТ 313 Н*). АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 6, л. 61—64. Зап. М. Мяровіч у 1945 г. у в. Горка Плешчаніцкага р-на Мінскай вобл. ад Еляневіча Рыгора Паўлавіча, 1870 г. нар.

Вар. сюжэта 300 *В адзначаны ў каментарыі № 3.

Бел. вар. сюжэта *313 І «Уцёкі ад ведзьмы»: Романов, III, стар. 60—63, № 56, Гомельскі п.; стар. 63—65, № 7, Рагачоўскі п.; стар. 164—172, № 21, Быхаўскі п.; Добровольский, стар. 455—467, № 10; стар. 501—510, № 17, Ельнінскі п.; Federowski, I, стар. 95—96, № 286, Ваўкавыскі п.; стар. 120—124, № 342, Ваўкавыскі п.; Federowski, II, стар. 54—55, № 46, Ваўкавыскі п.; стар. 68—69, № 54, Ваўкавыскі п.; стар. 108—112, № 77, Ваўкавыскі п.; стар. 327, № 386, Ваўкавыскі п.; Господарев, стар. 197—217, № 7; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 24, сш. 1, л. 6; ф. 13, воп. 10, № 50, сш. 15, л. 1—7. Руск. вар.— каля 20 (Пропп, стар. 466).

Гэты тэкст — адзін з апошніх запісаў казкі. Захоўваючы традыцыйную сюжэтную схему, казачнік пазбягае дэталізацыі, што некалькі збядняе твор.

## 6. Пра Івана-Дарагана

АА 300 *В+513 А+302. Бел. эпас, стар. 132—144. Зап. С. І. Васілёнак у 1949 г. у в. Рудня Нісімкаўская Чачэрскага р-на Гомельскай вобл. ад казачніка Пятра Іосіфавіча Гулевіча.

Вар. сюжэта 300 *В і 513 А адзначаны ў каментарыях № 3, 4. Сюжэт АА 302 мае дзве разнавіднасці («Смерць Кашчэя ў яйку» і «Смерць Кашчэя ад каня»), якія звычайна самастойна не распрацоўваюцца і ўваходзяць у розныя казкі як эпізоды.

Бел. вар. першай разнавіднасці сюжэта 302: Романов, III, стар. 67—73, № 8, Сенненскі п.; Романов, VI, стар. 1—7, № 1, Чавускі п.; стар. 117—123, № 13, Сенненскі п.; стар. 123—130, № 14, Мсціслаўскі п.; стар. 130—146, № 15, Сенненскі п.; стар. 225—233, № 25, Чэрыкаўскі п.; стар. 245—246, № 27, вар., Сенненскі п.; стар. 340—347, № 36а, Быхаўскі п.; Federowski, I, стар. 116—120, № 341, Ваўкавыскі п.; Господарев, стар. 218—238, № 8.

Эпізод «Смерць Кашчэя ад каня» сустракаецца ў наступных казках: Романов, VI, стар. 105—117, № 12, Чэрыкаўскі п.; стар. 327—335, № 35, Аршанскі п.; Сержпутовский, стар. 152—166, № 72, Слуцкі п.; Barag, стар. 264—273, № 27, Ганцавіцкі р-н. Поўныя звесткі аб руск. казках тыпу 302 дадзены ў артыкуле М. Новікава «О специфике образа в восточнославянских сказках. Кащей Бессмертный» («Русский фольклор», т. X, 1966, стар. 149—175), дзе адзначана 40 вар. Укр. вар.— 10 (Андр., Укр., а таксама: Дідо-всевідо, стар. 64—70, 180—186; Гиряк, 1968, стар. 76—90).

У казцы Гулевіча сюжэт 302 набывае адметныя рысы, своеасабліва распрацоўваецца: каб перамагчы бессмяротнага цара, трэба патушыць стопудовую свечку, якая стаіць у замкнёнай царкве, а ключ ад царквы — у яйку, яйка — у вутцы. З эпізодаў, якія характарызуюць асаблівасці творчай выдумкі казачніка, варта адзначыць таксама вызваленне Іванам-Дараганам сонейка, месяца і зорак, знойдзеных ім у кішэнях пераможаных сыноў Кашчэя. Традыцыйныя асаблівасці казачнага стылю спалучаюцца тут з сучаснай лексікай.

## 7. Іван-дурак

АА 300 *В+301 А. Романов, III, стар. 88—92, № 12. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х гг. XIX ст. у в. Станькава Рагачоўскага п. Магілёўскай губ. ад пастуха Івана Іванова, 26 г., непісьменнага.

Першы сюжэт не разгорнут і ў самым пачатку казкі зліваецца з сюжэтам пра тры царствы.

Вар. адзначаны ў заўвагах № 3 і № 1. Казка некалькі адрозніваецца ад іншых вар. гэтых сюжэтных тыпаў асобнымі мастацкімі дэталямі. Браты Івана не забіты, а трапляюць у склеп. Бойка са шматгаловымі змеямі адбываецца ў чыстым полі; матку Іван знаходзіць на высокай гары, а не ў падземным царстве. Дамоў ён трапляе з дапамогай чароўнай піпкі, з якой выходзяць дванаццаць молайцаў (параўн. АА 563, 564). Кантамінацыя сюжэтных тыпаў АА 300* В+301 з'яўляецца традыцыйнай для ўсходнеславянскіх казак і адзначана яшчэ ў некаторых бел. тэкстах: Романов, III, стар. 154—164, № 20; Романов, VI, стар. 340—347, № 36а, стар. 347—354, № 37; Добровольский, стар. 410—416, № 6; Barag, стар. 54—68, № 3.

*Курэц* — карэц, конаўка.

## 8. Іскарка-парубак Дзевічы сын

АА 675+300 *В+513 А. Романов, VI, стар. 254—262, № 28. Зап. Е. Р. Раманаў у канцы XIX ст. у Вахоцкай вол. Мсціслаўскага п. Магілёўскай губ. ад Н. Аляксеева, 45 г.

Бел. вар. сюжэта АА 675 «Па шчупаковаму павяленню»: Карский, Материалы, II, стар. 42—44; Federowski, I, стар. 175—176, № 582, Ваўкавыскі п.; Federowski, II, стар. 37—38, № 38, Ваўкавыскі п.; Господарев, стар. 249—254, № 10. Руск. вар.—14 (Пропп, стар. 478; Никифоров, № 10; Никифоров, Опись). Пералік укр. вар. гл.: Яворский, стар. 327. Вар. сюжэта 300 *В адзначаны ў каментарыі № 3, вар. 513 А — у каментарыі № 4.

Асноўны змест казкі — барацьба героя-асілка са шматгаловымі змеямі, якія «канчаюць народ». Гэта тэма ўласціва гераічнаму эпасу ўсходніх славян. Як прыклад можна прывесці вядомую быліну аб змаганні Дабрыні Нікіціча са змеем. Можна меркаваць, што вытокі гэтага быліннага сюжэту ляжаць у казачным эпасе. Звяртаюць на сябе ўвагу некаторыя мастацкія дэталі казкі, якія не сустракаюцца ў іншых творах. Асілак і яго праціўнікі паказваюць на месце сваю сілу: сіла першага — «як лебядзінае пяро», сіла ворагаў — «з бабіну ростам», «як валоўскі арэх», «як хунтовае яблыка».

## 9. Таратурка

АА 300 *В+513 А. Романов, VI, стар. 262—276, № 29. Зап. Е. Р. Раманаў у канцы XIX ст. у Гарадоцкім п. Віцебскай губ.

Вар. сюжэта 300* В адзначаны ў каментарыі № 3, сюжэта 513 А — у каментарыі № 4.

Казка з'яўляецца далёкім вар. папярэдняга твору, ад якога адрозніваецца некаторымі мастацкімі вобразамі. Дзед з нагаток, які сядзіць на сасне ў трыццаць абхватаў і пушкай-свістушкай-смалянушкай забівае людзей, нагадвае быліннага Салаўя-разбойніка. Каларытныя вобразы цудоўных памочнікаў: Кораб Карабанавіч малоціць адразу сто чацвярцей — стог хлеба, а Сяўбіт у сявалцы носіць сто чацвярцей і засявае зямлю. Эпізод прыезду Таратуркі і яго памочнікаў да Бабы Ягі нагадвае казкі тыпу АА 327 В «Мальчык з пальчык і яго браты ў ведзьмы»; эпізоды сустрэчы Таратуркі з «валоўнікам» і «конюхам», пастухамі незлічоных статкаў маюць некаторае падабенства да казак АА 545 В «Кот у ботах»; эпізоды дабывання меча, які ляжыць пад багатырскай Адрубленай галавой, і ажыўленне Слана Іванавіча маюць паралелі з эпізодамі казак тыпу АА *650 II «Еруслан Лазаравіч».

*Думчыя, райчыя, гадчыя* — ад думаць, раіць, гадаць (заўвага Е. Р. Раманава).

*Салупаць* — лізаць, высоўваць язык.

## 10. Вячорка, Паўношнік і Заравы

АА 301 А+АТ 321. Романов, VI, стар. 347—354, № 37. Зап. Е. Р. Раманаў у канцы XIX ст. у в. Палуж Чэрыкаўскага п. Магілёўскай губ. ад М. Іванова, 35 г.

Вар. сюжэта 301 А адзначаны ў каментарыі № 1. Эпізод нараджэння трох братоў — Вячоркі, Паўношніка і Заравога ўласцівы толькі казкам усходніх славян пра тры царствы.

Сюжэт АТ 321 «Юнак служыць у сляпога дзеда» адзначаны ў фальклоры розных народаў, нярэдка ў кантамінацыі з сюжэтам пра тры падземныя царствы. Бел. вар.: Романов, III, стар. 78—88, № 10а, 10б. Руск. неапублікаваныя вар.: Никифоров, Опись, стар. 356, № 51. Укр. вар.— 3 (Андр. Укр.).

## 11. Падземнае царства

АА 301 А+АА 300 А. Романов, III, стар. 78—85, № 10. Зап. К. Анікіевіч у 80-х гг. XIX ст. у в. Цюцькі Сенненскага п. Магілёўскай губ.

Вар. сюжэта 301 А і 300 А адзначаны ў каментарыі № 1. Уступны эпізод гэтай казкі: тры царэвічы па чарзе вартуюць стайню, з якой белы мядзведзь крадзе коней,— не мае адпаведнікаў у іншых апублікаваных тэкстах.

*Пітаманны* — сваёй работы, набыты ўласнымі клопатамі.

## 12. Цар Васіль

АА *650 II (=АТ 650 А)+301 А+300 А. Романов, III, стар. 99—110, № 14. Зап. В. Г. Пляшчынская ў 1886 г. у в. Дуброва Астравенскай вол. Сенненскага п. ад В. Цыбуна, 56 г.

Бел. вар. сюжэта АА *650 II «Еруслан Лазаравіч»: Романов, VI, стар. 262—276, № 29, Гарадоцкі п.; Гулевіч, стар. 17—37, Чачэрскі р-н. Руск. вар.— 14 (Пропп, стар. 474). Вар. сюжэтаў АА 301 А і 300 А адзначаны ў каментарыі № 1. У гэтым тэксце сюжэт ускладняецца асобнымі эпізодамі, якія не сустракаюцца ў іншых бел. казках. Эпізоды вызвалення цудоўнага каня і прыгажуні царэўны Настассі маюць некаторае падабенства да казак тыпу «Канёк-гарбунок» (АА 531), але атрымалі творчае развіццё.

*Аквітант* — ад'ютант.

*Повяс* — пояс.

*Рыдзель* — драўляная акаваная лапата.

*Лакары* — лагеры (заўвага збіральніка).

## 13. Грыф

АА 301 А. Federowski, I, стар. 132—135, № 348. Зап. М. Федароўскі ў в. Рудаўка каля Свіслачы Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад А. Жукоўскага.

Вар. сюжэта адзначаны ў каментарыі № 1. Гэты тэкст не вылучаецца складанасцю і паўнатой, але цікавы некаторымі падрабязнасцямі і мастацкімі дэталямі, якія надаюць казцы своеасаблівую афарбоўку.

*Упераж* — спачатку.

*Шлям* — ціна, глей.

*Шлямаваць* — вывозіць глей.

*Гыцаль* — чалавек, які адлоўлівае сабак; нягоднік.

*Апамог* — тут: перамог.

*Бахур* — малады яўрэй, які прысвяціў сябе вывучэнню талмуда. (И. Носович. Словарь белорусского наречия. СПб, 1870).

## 14. Івашка Мядзведжае вушка

АА 650 А+301 В+302. Романов, VI, стар. 340—347, № 36а. Зап. Е. Р. Раманаў у канцы XIX ст. у в. Новая Быч Быхаўскага п. Магілёўскай губ. ад П. Іванова, 45 г.

Бел. вар. сюжэта 650 А «Юнак-асілак»: Романов, VI, стар. 36—60, № 5, Горацкі п.; стар. 130—146, № 15, Сенненскі п.; стар. 354—360, № 38, Мсціслаўскі п.; Шейн, II, стар. 36—42, № 19, Горацкі п.; Federowski, II, стар. 332—333, № 390, Ваўкавыскі п.; Klich, стар. 134—136, № 1. Параўн.: Сержпутовский, стар. 87—90, № 48; стар. 149—152, № 71; стар. 152—166, № 72, Слуцкі п. Руск. вар. сюжэта 650 А — 28 (Пропп, стар. 477, Никифоров, № 109; Никифоров, Опись — два тэксты). Укр. вар.— 28 (Андр., Укр.; Гиряк, 1968, стар. 93—110).

Бел. вар. сюжэта 301 В: Дмитриев, стар. 146—162, № 1; Романов, VI, стар. 117—123, № 13, Сенненскі п.; стар. 123—130, № 14, Мсціслаўскі п.; стар. 130—146, № 15, Сенненскі п.; стар. 146—149, № 16, Клімавіцкі

п.; стар. 318—327, № 34, Рагачоўскі п.; стар. 354—360, № 38, Мсціслаўскі п.; Шейн, II, стар. 86—88, № 45, Барысаў; стар. 110—116, № 54, Гомельскі п.; Добровольский, стар. 410—416, № 6, Смаленскі п.; Klich, стар. 134—136, № 1, Навагрудскі п. Параўн. таксама: Чубинский, II, стар. 229—231, № 61.

Вар. сюжэта 302 адзначаны ў каментарыі № 6. Кантамінацыя 301+302 сустракаецца яшчэ ў тэкстах: Романов, III, стар. 67—73, № 8; Романов, VI, стар. 123—140, № 14.

## 15. Івашка Мядзведжае вушка

АА 311+301 В (няпоўны). Klich, стар. 134—136, № 1. Зап. Э. Кліх у 1901 г. у в. Крылоўшчына Навагрудскага п. Мінскай губ.

У казцы цікавы пачатак, які нагадвае сюжэт *333 II (=АТ 332 Н*).

Бел. вар. сюжэта 311 «Мядзведзь і тры сястры»: «Маяк», 1844, т. XV, стар. 22—25; т. XVI, стар. 76—80 — пераказы на руск. мове; Federowski, II, стар. 39—42, № 40, Ваўкавыскі п.; Klich, стар. 159—160, № 2, Навагрудскі п.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 31, сш. 17, л. 1—7, Маладзечанскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 46, сш. 7, л. 5—7, Мядзельскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 50, сш. 9, л. 3—6, Заслаўскі р-н. Руск. вар.— 9 (АА, стар. 28; Померанцева, Башк., № 28; Померанцева, Яросл., № 4; Никифоров, Опись — 11 неапубл. казак). Укр. вар.: Ястребов, стар. 203—206, № 15; Barącz, стар. 42. У польск. матэрыяле адзначана 13 вар. (Krzyzanowski, I, стар. 93—94), у якіх дзеючымі асобамі з'яўляюцца тры сястры і чарадзей або чорт, ці чалавек з зялёнымі вусамі.

Вар. сюжэтаў 301 В адзначаны ў каментарыі № 14. У тэксце Кліха сюжэт абрываецца эпізодам у лясной хатцы, які не мае звычайнай разгорнутай эпічнай формы.

*Купэрак* — скрыня (заўвага збіральніка).

*Залясную* — замахнуў (заўвага збіральніка).

Э. Кліх адзначае два вар. прозвішча аднаго з персанажаў: Скокаць — з Кокаць.

## 16. Васька-Папялышка

АА 301 В+302. Параўн. таксама: АА 650 А. Романов, VI, стар. 123—130, № 14. Зап. Е. Раманаў у другой палавіне XIX ст. у в. Старое Сяло Мсціслаўскага п. Магілёўскай губ. ад З. Іванова, 43 г.

Вар. сюжэта 301 В і 650 А адзначаны ў каментарыі № 14, сюжэта 302 — у каментарыі № 6.

Казка вылучаецца маляўнічасцю і падрабязнай распрацоўкай некаторых традыцыйных эпізодаў, напрыклад вырабу ў кузні булавы, змагання з багатыркамі — дочкамі Паганага Цмока. Імя Папялышка сустракаецца і ў іншых бел. і ўкр. казках (Шейн, II, стар. 62—65, № 30— Іван Папялышка). Яно, як адзначаў А. А. Патабня ў «Этимологических заметках», мае адпаведнікі ў славянскім фальклоры.

*Партычка* — частка, кавалачак.

## 17. Іван Падвей

АА 650 А+301 В+302. Романов, VI, стар. 130—146, № 15.

Зап. Е. Раманаў у другой палавіне XIX ст. у в. Машканы Сенненскага п. Магілёўскай губ. ад Я. Пятрова, 29 г.

Вар. сюжэтаў адзначаны ў каментарыях № 14 і № 6.

Усходнеславянскім, асабліва бел. і ўкр., казкам пра юнака-асілка ўласціва падкрэсленая сацыяльная накіраванасць: герой змагаецца з царом, панам або папом і перамагае сваіх ворагаў. Іван Падвей — адзін з выдатных вобразаў бел. казак, які многімі рысамі нагадвае герояў былiннага эпасу.

*Вобмашка* — памылка.

*Суды* — два вядры.

*Мітрэнга* — перашкода, непакой, клопат.

*Плянтаваць* — расцярэбліваць, выкарчоўваць.

*Галень* — венік.

## 18. Пра трох братоў-ахотнікаў

АА —. Параўн.: АА 303 і 554. Добровольский, стар. 492—495, № 14. Зап. У. Дабравольскі ў в. Бердзябякі Ельнінскага п. Смаленскай губ. ад В. Міхайлава, ад якога запісана звыш 10 казак, цікавых кампазіцыяй, маляўнічымі падрабязнасцямі, эмацыянальнасцю дыялогаў. У іх сустракаюцца своеасаблівыя рыфмаваныя стылістычныя формулы, як напрыклад у гэтым тэксце: «Баба Яга Касцяная нага, сама была смугаль, а глазы ў яе, як вугаль».

Сюжэт гэтай казкі не адлюстраваны ў паказальніках, але мае агульныя рысы з сюжэтнымі тыпамі АА 303 і 554. Як і ў казках тыпу АА 303, Баба Яга чаруе двух братоў, ператвараючы іх у камяні, малодшы брат выратоўвае іх і забівае Ягу. Бойка са Змеем (Цудам-Юдам) адбываецца пасля таго, як браты вярнуліся ў Вахрамееўскае царства. Героям дапамагаюць удзячныя жывёлы, што набліжае казку да сюжэтнага тыпу 554.

Вар. сюжэта 303 адзначаны ў каментарыі № 2, сюжэта 554 у каментарыі № 1.

*Бярлін* — каралеўская карэта (*берла* — скіпетр, знак каралеўскай улады).

## 19. Кіёчак

АА —. АТ —. Параўн. АА 303 і 304. Друк. з архіва Л. Барага. Апубл. на нямецкай мове: Barag, стар. 199—205, № 18. Зап. Л. Бараг у 1945 г. у в. Дзярэчын Зэльвенскага р-на Гродзенскай вобл. ад І. Ю. Макея, 53 г., рабочага хлебапякарні. Ад яго ж запісана каля 30 казак, якія амаль цалкам складаюцца з дыялогаў. Надаючы традыцыйным сюжэтам асаблівую займальнасць і драматызм, І. Ю. Макей скарачаў некаторыя эпізоды, часам змяняў паслядоўнасць іх.

Вар. сюжэта АА 303 адзначаны ў каментарыі № 2.

## 20. Кацігарошак

АА *312 I (=АТ 312 Д)+300 *В. Дмитриев, стар. 146—162, № 1 (=Афанасьев, I, стар. 254—263, № 134). Зап. М. Дзмітрыеў у сярэдзіне XIX ст. у Навагрудскім п.

Бел. вар. сюжэта *312 I «Брат выратоўвае ад змея сястру і братоў»: Шейн, II, стар. 89—91, № 46, Ігуменскі п.; стар. 149—151, № 70, Гродзенскі п.; стар. 172—178, № 83, Мазырскі п.; Добровольский, стар. 624—631, № 37; Карский, Материалы, III, стар. 122—123; Federowski, I, стар. 110—111, № 338, Ваўкавыскі п.; стар. 111—113, № 339, Ваўкавыскі п.; Federowski, II, стар. 84—85, № 62, Ваўкавыскі п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 2, л. 22—33, Жыткавіцкі р-н; ф. 13, воп. 8, № 3, спр. 7, л. 4—8, Антопальскі р-н. Руск. вар.— 8 (Пропп, стар. 465). Укр. вар.: Игн. з Никлович, стар. 60—64; Афанасьев, I, № 133; Драгоманов, стар. 255—256, 260—262; Чубинский, II, № 61—63; Гринченко, I, № 165; Гринченко, Казки, стар. 99—107; Шухевич, V, № 59, 69; Етногр. зб., VII, № 27, 33; XIV, № 30; XXIX, № 20; Кравченко, 1911, № 120, 121; Левченко, № 471, 513, 514.

Вар. сюжэта 300 *В адзначаны ў каментарыі № 3.

*Штурм* — шум, бура, навальніца (заўвага збіральніка).

*Друзгі* — трэскі (заўвага збіральніка).

*Тулун* — мяшок без разрэзу зроблены са скуры якой-небудзь жывёлы (заўвага збіральніка).

## 21. Кацігарошынка

АА *312 I. Добровольский, стар. 624—630, № 37. Зап. У. Дабравольскі ў другой палавіне XIX ст. у Смаленскай губ.

Вар. сюжэта *312 I адзначаны ў каментарыі № 20. Гэты тэкст вылучаецца цікавымі бытавымі дэталямі. Пакуты ўдавы-купчыхі, адмаўленне папа ахрысціць яе сына перададзены маляўніча і рэалістычна. Этымалогію імя змея Шкурупей некаторыя даследчыкі звязваюць са словам «скарпіён». Змей Шкурупей упамінаецца ў некаторых беларускіх замовах.

## 22. Казка пра змея

АА *312 I. Шейн, II, стар. 172—178, № 83. Зап. валасны пісар у другой палавіне XIX ст. у Петрыкаўскай вол. Мазырскага п. Мінскай губ.

Вар. сюжэта *312 I адзначаны ў каментарыі № 20. У гэтым вар. вобраз змея надзелены выразнымі рысамі прыгнятальніка-рабаўніка. Зачын казкі з'яўляецца традыцыйным для казачнага стылю беларускага Палесся.

*Бра* — усечаная форма ад *брат* (заўвага збіральніка).

*Устонжкі* — стужкі (заўвага збіральніка).

*Пагной* — угноеная ворная зямля (заўвага збіральніка).

*Кацавэлька* — булава (заўвага збіральніка).

*Сталкі* (сталок) — табурэткі.

*Мясаідзавы* — у тэксце пасля гэтага слова стаіць пытальнік.

*Цахлець* — яхкаць, адрывіста брахаць.

## 23. Чавалай

АА —. АТ —. Першая частка казкі набліжаецца да тыпу АА 313 В, другая — да АА 300 А. Романов, III, стар. 73—77, № 9. Зап. Яўцей Лобзікаў у 1886 г. у в. Перарост Гомельскага п. ад сваіх бацькоў.

Бел. вар. сюжэта 313 В «Цудоўныя ўцёкі»: Добровольский, стар. 568—585, № 28; Federowski, II, стар. 243—244, № 248, Слонімскі п.; стар. 62—65, № 51, Ваўкавыскі п.; Шейн, II, стар. 31—36, № 18, Горацкі п.; Романов, III, стар. 55—59, № 5, Сенненскі п.

Казкі пра вучня чарадзея, які парушыў забароны адкрываць чарадзейную кнігу і жаніцца, ёсць таксама і ў укр. фальклоры: Рудченко, I, № 58; Ястребов, № 13; Малинка, стар. 279—282; Яворский, № 6. Гэты матыў часта сустракаецца ў заходнеславянскіх казках.

Вар. сюжэта 300 А адзначаны ў каментарыі № 1.

*Ногды* — часамі, выпадкам.

## 24. Аб грыфу і чортавым зубе

АА 222 *В (=АТ 313 В)+313 В+ *314 I (=АТ 314*, 313*)+ +315 А (=АТ 315)+1199+327 С. Federowski, II, стар. 62—65, № 51. Зап. М. Федароўскі ў другой палавіне XIX ст. у в. Кусінцы Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Ю. Баярчука.

Казка — адзін з яркіх прыкладаў складанай кантамінацыі, дзе арганічна спалучаюцца розныя сюжэтныя тыпы.

Бел. вар. сюжэта 222 *В «Вайна птушак і звяроў», які звычайна адыгрывае ролю ўступу да казак тыпу 313: Добровольский, стар. 568—585, № 28; Шейн, II, стар. 31—36, № 18, Горацкі п. Руск. вар.— 18 (Пропп, стар. 463).

Бел вар. сюжэта 313 В адзначаны ў каментарыі № 23. Проп, аб'ядноўваючы ўсе разнавіднасці сюжэтнага тыпу 313, адзначае 74 руск. вар. Апрача іх, гл.: Никифоров — 5 вар.; Кругляшова — 1; Королькова — 2. Укр. вар.— 45 (Андр., Укр.; Ск. Верховины, стар. 196—203; 356—361; 375—380; Дідо-всевідо, стар. 90—94; 99—109; 186—190). У польск. матэрыяле адзначана 18 тэкстаў тыпу 313 А, 1 тэкст 313 С, але няма 313 В (Krzyżanowski, I, стар. 95—96).

У эпізодах выратавання дзяцей з пекла ўдзельнічаюць конь, голуб, вол (АА *314 I). Параўн. эпізод «Бычок-выратавальнік дапамагае дзецям выратавацца ад злодзея» ў казках розных тыпаў, асабліва 315: Романов, III, стар. 49—67, № 4—7, Сенненскі, Гомельскі і Рагачоўскі п.п.; Federowski, I, стар. 120—124, № 342, Ваўкавыскі п.; Federowski, II, стар. 65—69, № 52—54, Ваўкавыскі п.; Господарев, стар. 197—217, № 7. Руск. вар.— 16 (Пропп, стар. 466; Никифоров, Опись — 4 неапубл. запісы).

Сюжэт АА 315 А «Звярынае малако» ў гэтым тэксце распрацоўваецца ў адпаведнасці з агульнай накіраванасцю твора і пазбаўлены некаторых уласцівых сюжэтнаму тыпу матываў.

Бел. вар.: Романов, III, стар. 67—73, № 8, Сенненскі п.; Добровольский, стар. 495—498, № 15; Federowski, I, стар. 120—124, № 342, Ваўкавыскі п.; Federowski, II, стар. 65—67, № 52, Ваўкавыскі п.; стар. 68—69, № 54, Ваўкавыскі п.; стар. 69—71, № 55, Ваўкавыскі п.; стар. 71—74, № 56, Ваўкавыскі п.; стар. 85—87, № 63, Ваўкавыскі п.; Weryha, стар. 19—24, № 4, Лідскі п.; Господарев, стар. 197—217, № 7; АІМЭФ, ф. 13,

воп. 10, № 40, сш. 12, л. 1—6, Дзяржынскі р-н. Руск. вар.— 50 (Пропп, стар. 466; «Сов. фольклор», 1936, № 3—4, два вар.; Бараг, № 5; Никифоров, № 114; Никифоров, Опись — два тэксты. Укр. вар.— 24. Апрача тэкстаў, адзначаных у дадатку да зб. Яворскага (стар. 319), гл.: Кравченко, стар. 134—144, № 117—118; Ск. Верховины, стар. 232—243; Дідо-всевідо, стар. 79—80.

У фінале казкі арганічна спалучаюцца эпізоды, уласцівыя творам тыпу 1199 і 327 С. Вар. апошняга тыпу адзначаны ў зб.: «Казкі пра жывёл», стар. 487. Апрача таго, гл.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 44, Пастаўскі р-н; ф. 13, воп. 1, № 2, л. 29—30, Брэсцкі р-н; ф. 13, воп. 3, № 7, сш. 9, л. 1—3, Дзяржынскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 4, сш. 10, л. 2—7, Навагрудскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 12, сш. 8, л. 5—10, Валожынскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 24, сш. 6, л. 16—25, Валожынскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 26, сш. 2, л. 11—15, Свіслацкі р-н; ф. 13, воп. 10, № 28, сш. 8 ,л. 1—5, Дзятлаўскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 40, сш. 30, л. 5, Маладзечанскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 40, сш. 37, л. 1—5, Бярэзінскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 40, сш. 46, л. 3—8, Маладзечанскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 50, сш. 8, л. 1—5, Крупскі р-н.

*Нім* — тут: пакуль.

*Памергавацца* — тут: разлічыцца.

*Пудэлачка* — скрыначка.

*Да тае станцэі* — да той кватэры.

## 25. Сын прададзёны

АА 222 *В+313 В. Романов, III, стар. 172—180, № 21б. Зап. Петрашэнь у 80-х гг. XIX ст. у в. Мяркулавічы Рагачоўскага п. Магілёўскай губ. ад І. Зубарэнка, 44 г.

Вар. адзначаны ў заўвагах № 23 і 24. Эпізод «Акунь і шчука» («Вокунь, вокунь, стань ка мне бокам...») з'яўляецца традыцыйным для ўсходнеславянскіх казак тыпаў 313 і 325.

Е. Раманаў адзначае, што казка распаўсюджана ў Магілёўскай губ., у прыватнасці ў Гомельскім, Рагачоўскім, Быхаўскім, Сенненскім, Аршанскім і Магілёўскім пп.

*Налецце* — наступны год.

## 26. Пра Івана-царэвіча і дванаццацігаловага змея

АА 313 А і С. АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 23, сш. 6, л. 28. Зап. І. А. Шынгель у 1967 г. у в. Лявонавічы Нясвіжскага р-на Мінскай вобл.

Бел. вар. сюжэта АА 313 А і С: Романов, III, стар. 164—172, № 21, Быхаўскі п.; стар. 180—181, № 21в; Романов, VI, стар. 495—507, № 57, Чэрыкаўскі п.; Шейн, II, стар. 31—36, № 18, Горацкі п.; стар. 285—296, № 136, Барысаўскі п.; Добровольский, стар. 568—585, № 28; Federowski, II, стар. 150—154, № 124, Сакольскі п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 44, Пастаўскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 40, сш. 20, л. 1—7, Рудзенскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 40, сш. 8, л. 6.

Руск. і ўкр. вар. сюжэта 313 адзначаны ў каментарыі № 24.

## 27. Басня пра чарта

АА 313 С. АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 44, л. 1—7. Зап. К. П. Кабашнікаў у 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага р-на Віцебскай вобл. ад У. С. Рамбальскай, ад якой запісана яшчэ некалькі чарадзейных казак і казак пра жывёл. Рамбальская вядома ў Груздаве не столькі як казачніца, колькі як адмысловая ткачыха. Яе паэтычныя творы вылучаюцца сярод запісаў апошніх год паўнатой, захаваннем многіх мастацкіх асаблівасцей традыцыйных казак і разам з тым творчай імправізацыяй.

Вар. адзначаны ў каментарыі № 26.

*Курачок* — маленькі бохан хлеба, з апошняга кавалка цеста.

## 28. Аб кралевічу, чараўніку і яго дачцы

АА 313 С. Federowski, II, стар. 150—154, № 124. Зап. М. Федароўскі ў другой палавіне XIX ст. у в. Ходараўка каля Сухаволі Сакольскага п. ад Ф. Дзежкі.

Гл. заўвагі № 24 і 26. Гэты вар. адрозніваецца ад іншых эпізодамі выканання героем цяжкіх даручэнняў (параўн.: АА 465 А).

*Длутка* — далатцо.

*Тэраз* — зараз, цяпер.

*Кеды* — калі

*Тылё* — столькі

*Венцы* — больш, болей.

*Прэндзей* — хутчэй.

*Даперу* — толькі тады.

*Бабзно* — збіральнік пасля гэтага слова паставіў клічнік, звяртаючы ўвагу на незвычайнасць формы. Слова гэта мае некалькі значэнняў. Тут хутчэй за ўсё зневажальнае ад *баба*.

## 29. Аддай мне, што ў доме невядома

АА 313 С. Шейн, II, стар. 285—296, № 136. Зап. А. Е. Багдановіч у другой палавіне XIX ст. у м. Халопенічы Барысаўскага п. Мінскай губ. ад Р. К. Асьмак.

Гл. заўвагі № 24 і 26. У гэтым вар. мацней, чым у іншых, падкрэслены сацыяльныя супярэчнасці эпохі прыгону.

*Пайстком* — па парадку.

*Замчысты* — добра ўмацаваны, трывалы.

## 30. Пра Ігра Ігравіча, пра старыка Палугрыма

АА *313 І+301 А. Добровольский, стар. 455—467, № 10. Зап. У. М. Дабравольскі ў канцы XIX ст. у в. Бердзябякі Ельнінскага п. Смаленскай губ.

Вар. сюжэта *313 І адзначаны ў каментарыі № 5, а сюжэта 301 А — у каментарыі № 1. Асобныя эпізоды казкі нагадваюць быліны «Ілья і Салавей-разбойнік», «Ілья і Ідалішча паганае». Вобраз Абжоры мае падабенства з былінным вобразам Ідалішча. Сцэна сустрэчы Ігра Ігравіча з Абжо-

рам вельмі блізкая да такой жа сцэны з быліны аб Ільі Мурамцу, нават дыялогі амаль аднолькавыя («У нас была карова-абжора... а патом аб'елася і апілася... Акалееш і ты!»). Гэты эпізод арганічна ўваходзіць у мастацкую структуру казкі пра падземнае царства: Абжора разам з булавой праваьваецца на «той свет», куды следам спускаецца Ігра Ігравіч. Вобраз старыка Палугрыма, які сядзіць на дубу пры граніцы царства, адпавядае вобразу былiннага Салаўя-разбойніка, але намаляваны як традыцыйны казачны вобраз старэнькага дзядка «сам з вяршок, галава з гаршок».

*Рачыць* — гаварыць.

*Гаман* — па тлумачэнню Насовіча, паходзіць ад уласнага імя *Аман* і азначае *пагарджаны чалавек*.

*Асалапела* — аслупянела.

## 31. Бязногі багатыр

АА —. АТ —. Параўн.: АА 650 А, 300 А, 554. Сержпутоўскі, Казкі, стар. 47—52, № 23. Зап. А. К. Сержпутоўскі ў пачатку XX ст. у в. Чудзін Слуцкага п. Мінскай губ. ад Данілы Куляша творчы партрэт якога збіральнік даў у прадмове да свайго першага зборніка казак (1911 г.). У сюжэтнай канве гэтага твора можна адзначыць звенні, якія звязваюць яго з былінным эпасам, у прыватнасці з былінамі пра Іллю Мурамца.

Вар. сюжэта 650 А адзначаны ў каментарыі № 14, сюжэтаў 300 А і 554 — у каментарыі № 1.

*Прашкі* — хлусня, глупства.

*Разгнесці* — расціснуць.

*Корчык* — памянш. ад *карэц* — конаўка, кубак.

## 32. Аб рыцару, як ён забіў змея

АА *650 I (=АТ 650 А). Federowski, II, стар. 82—84, № 61. Зап. М. Федароўскі ў другой палавіне XIX ст. у в. Ходараўка каля Сухаволі Сакольскага п. Гродзенскай губ. ад Ф. Дзежкі.

Бел. вар. сюжэта *650 I «Ілля Мурамец»: Романов, III, стар. 259—262, № 44, Быхаўскі п.; Добровольский, стар. 397—402, № 2; Barag, стар. 126—129, № 8, Кобрынскі р-н; Бел. эпас, стар. 57—61; Гулевіч, стар. 9—16, Чачэрскі р-н. Руск. вар.— 32 (Пропп, стар. 476; Потявин, № 1—4; Никифоров, № 27; Королькова, стар. 25—33). Укр. вар. адзначаны ў аглядзе В. Каллаша «К малорусским легендам об Илье Муромце» («Этнографическое обозрение», 1889, III, стар. 205). Гл. таксама: Левченко, № 436; Укр. казкі, стар. 126—132.

Водгукі сюжэта пра Ілью Мурамца сустракаюцца ў заходнеславянскіх (чэшскіх) і прыбалтыйскіх казках (гл.: Narodopisny sbornik», 1889, III, стар. 115, № 1; Сб. материалов по этнографии, издаваемый при Дашковском музее, II. М., 1887, стар. 144—151, № 99), а таксама ў казках некаторых народаў СССР (гл.: А. М. Астахова «Народные сказки о богатырях русского эпоса». М—Л., 1962).

*Не меў жаднае владвы* — не меў ніякай улады.

*Без гэтыя лясэ* — праз гэтыя лясы. У польскіх гаворках сустракаецца ўжыванне замест *прав*. Лічыцца парушэннем літаратурнай нормы.

## 33. Пра Іллюшку

АА *650 I. Беларускі эпас, стар. 57—61. Зап. С. I. Васілёнак у 1949 г. у в. Рудня Нісімкаўская Чачэрскага р-на Гомельскай вобл. ад П. I. Гулевіча (1870—1957).

Гэта найбольш позні і разам з тым найбольш поўны вар. бел. казкі пра Іллю Мурамца. Тут арганічна аб'яднаны эпізоды, уласцівыя тром былінам аб Іллі Мурамцу: «Першая паездка Іллі Мурамца», «Ілля і Ідалішча Паганае», «Святагор». Паўторны запіс казкі ад П. Гулевіча, зроблены ў 1957 г., адрозніваецца ад запісу 1949 г. асобнымі дэталямі. У прыватнасці тут зменена канцоўка.

Вар. сюжэта *650 I адзначаны ў каментарыі № 32.

*Надась* — гэтымі днямі, надоечы.

*Засіліць* — ужываецца ў розных значэннях, у даным выпадку *зачэрпаць*.

## 34. Як Ілля Мурамец пабядзіў Салаўя-разбойніка, Абжору, Алькадзіма

АА *650 I. Добровольский, стар. 397—401, № 2. Зап. У. М. Дабравольскі ў другой палавіне XIX ст. у Смаленскай губ.

Вар. сюжэта *650 I адзначаны ў каментарыі № 32. У гэтым тэксце некалькі іншае, чым у папярэдніх вар., спалучэнне матываў білліннага эпасу. Прымеркаванасць падзей да канкрэтных мясцовасцей нагадвае некаторыя былінныя тэксты і даўнія празаічныя пераказы былін, у якіх подзвігі Іллі Мурамца таксама звязаны з Браншчынай.

*Выспёткам* — ударам нагі.

На стар. 308 замест «Салаўя-разбойніка» ў першакрыніцы памылкова надрукавана «Іллю Мурамца».

На стар. 310 замест *паехаў у свет* у першакрыніцы *паехаў у смерць*.

## 35. Ілля Мурамец

АА *650 I. Друк. з архіва Л. Барага. Апубл. на нямецкай мове: Barag, стар. 126—129, № 8. Зап. Л. Бараг у 1947 г. у в. Дзівін Брэсцкай вобл. ад А. Касенчука, 1901 г. нар., які доўгі час працаваў каменшчыкам у Ковелі, Беластоку, Брэсце. У роднай вёсцы вядомы як добры казачнік. Ад яго запісаны казкі «Царэўна-Марэўна», «Кацігарошак», «Шчаслівае дзіця» і шэраг казак-анекдотаў.

Вар. сюжэта *650 I адзначаны ў каментарыі № 32.

## 36. Кірыла Кажамяка

АА 300 А. Шейн, II, стар. 170—172, № 82. Зап. О. Барысевіч у другой палавіне XIX ст. у в. Іодчыцы Слуцкага п. Мінскай губ.

Распрацоўка сюжэта 300 А ў гэтым творы істотна адрознівае яго ад змешчаных у пачатку зборніка казак пра змеяборцаў і набліжае да паданняў і да героіка-эпічных твораў.

У Лаўрэнцьеўскім летапісу пад 992 годам ёсць «Сказание о Кожемяке», якое, бясспрэчна, узнікла на падставе народнага падання. Яго ўплыў адчуваецца на творах больш позняга часу, у прыватнасці на запісаным У. Дабравольскім паданні аб Меркурыі Смаленскім, які выступае як асілак Кажамяка. Асабліва блізкія ўсходнеславянскія казкі пра Кажамяку да падання маскоўскага Ніканаўскага летапісу XVI ст. пра асілка-кажамяку Яна. Яны маюць таксама сувязь з паданнямі і легендамі пра Змяёвы вал на Кіеўшчыне, які нібыта атрымаўся з гіганцкай баразны, узаранай асілкам.

Бел. вар.: Романов, III, стар. 217—218, № 32, Сянно; Чубинский, II, стар. 129—130, № 45, Кобрынскі п.; Добровольский, стар. 379, № 19; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 34, сш. 2, л. 31, Хойніцкі р-н. Укр. і руск. вар.: Кулиш, Предания, I, стар. 67—69; Драгоманов, стар. 248—249; Nowosielski, стар. 278—284; Афанасьев, I, стар. 327—328, № 148.

## 37. Кірыла Кажамяка

АА 300 А. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 34, сш. 2, л. 31. Зап. Я. А. Васілеўская ў 1950 г. у в. Веляцін Хойніцкага р-на Гомельскай вобл. ад С. П. Гардзейчыка, 1878 г. нар.

Гл. каментарый № 36.

## 38. Пра Шаўрука

АА —. АТ —. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 34, сш. 2, л. 37—39. Зап. Я. А. Васілеўская ў 1950 г. у в. Веляцін Хойніцкага р-на Гомельскай вобл. ад С. А. Гардзейчыка, 1878 г. нар.

Гэты твор — прыклад пераходу эпічнай паэзіі ў казачны эпас. Яшчэ Я. Карскі падкрэсліваў вялікае падабенства апублікаванай П. Шэйнам песні «Сяўрук» да гістарычных песень аб Маструку Цямрукавічу (гл.: Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, ч, 1, стар. 492—493). Пачатак песні ён параўноўвае з «старынай аб Салаўю Будзіміравічу». Карскі дадаваў, што прозвішча Сяўрук вельмі часта сустракаецца ў беларусаў. Такім чынам, можна канстатаваць, што перад намі ўсе асноўныя звенні ланцуга, які звязвае эпічную паэзію і беларускую казку: гістарычная песня аб Маструку Цямрукавічу (гл.: Н. Е. Ончуков. Печорские былины, СПб., 1904, стар. 307, 363, 397; А. Ф. Гильфердинг. Онежские былины, т. I, изд. 4, М.—Л., 1949, стар. 257), беларускія варыянты гэтай песні і нарэшце распрацоўка гэтага сюжэта ў казцы.

## 39. Каваль

АА —. АТ —. Параўн.: АА 650 А, 554, 410. Сержпутовский, стар. 152—166, № 72. Зап. А. К. Сержпутоўскі ў пачатку XX ст. у в. Вялікі Рожын Слуцкага п. Мінскай губ. ад казачніка Рэдкага, якому ў той час было каля 100 гадоў. У прадмове да зборніка А. Сержпутоўскі адзначыў сувязь казак Рэдкага — выдатнага бел. казачніка — з палескай фальклорнай традыцыяй, а таксама асаблівую схільнасць Рэдкага да філасофскіх разваг. Аб мастацкім стылі яго казак падрабязней гл.: Л. Бараг. Беларуская казка. Мінск, 1969, стар. 51—55.

Вар. сюжэтаў 650 А і 554 адзначаны ў заўвагах № 14 і № 1.

*Гадка* — турботная думка.

*Жыве і не гадкі* — жыве і не турбуецца.

*Сказа* — пашкоджанне.

*Кладзецца лоскам* — покатам, упокат, павалам на зямлю.

*Нажэндзе* — прылады.

## 40. Каваль-Багатыр

АА—. АТ—. Параўн.: АА 650 А, 300 А, 554, Сержпутовский, стар. 11—14, № 5. Зап. А. К. Сержпутоўскі ў пачатку XX ст. у в. Вялікі Рожын Слуцкага п. Мінскай губ. ад казачніка Рэдкага.

Вар. сюжэтаў 300 А і 554 адзначаны ў каментарыі № 1, а сюжэта 650 А — у каментарыі № 14. Казачнік таленавіта распрацоўвае традыцыйныя казачныя матывы і легендарныя народныя ўяўленні пра волатаў і асілкаў, надаючы твору сацыяльнае гучанне. У вобразе асілка-каваля адбіліся настроі бел. вёскі напярэдадні рэвалюцыйных падзей 1905 г.

*Алёс* — багна, зыбкае месца.

*Жупіць* — размаўляць.

## 41. Асілак

АА—. АТ—. Сержпутовский, стар. 87—90, № 48. Зап. А. К. Сержпутоўскі ў пачатку XX ст. у в. Вялікі Рожын Слуцкага п. Мінскай губ. ад казачніка Рэдкага.

Традыцыйны вобраз асілка ў гэтай казцы набывае новыя рысы — рысы народнага заступніка, трыбуна. Казка істотна адрозніваецца ад класічных твораў пра пераможцаў змея сваёй пабудовай: вялікае месца займаюць тут маналогі Асілка, менш увагі надаецца дзеянню.

*Параселька* — памянш. ад *парасля* — малады сасоннік.

*Тубальцы* — мясцовыя жыхары, тутэйшыя.

*Маскаль* — салдат.

Стар. 332 — у першакрыніцы, відаць, дапушчана памылка: надрукавана *божы ай*.

## 42. Іванка-прастачок

АА—. АТ—. Сержпутовский, стар. 149—152, № 71. Зап. А. К. Сержпутоўскі ў пачатку XX ст. у в. Вялікі Рожын Слуцкага п. Мінскай губ. ад казачніка Рэдкага.

Традыцыйны матыў змеяборства АА 300, 301 у казцы атрымаў новую трактоўку, успрымаецца як адлюстраванне барацьбы з няроўнасцю, з сацыяльным злом і яго носьбітамі.

*Тахціць* — тут у сэнсе гадзіць, рабіць на карысць панам.

*Пошчак* — рэха.

*Ані збла спакою* — ані трошкі спакою (*збло* — сцяблінка).

## 43. Асілак-работнік і поп

АА 650 А+1132. Шейн, II, стар. 36—42, № 19. Зап. Н. О. Нікалаевіч у другой палавіне XIX ст. у в. Святошыцы Горацкага п. Магілёўскай губ.

Вар. сюжэта 650 А адзначаны ў каментарыі № 14.

Бел. вар. АА 1132 «Уцёкі ад работніка»: Шейн, II, стар. 230, № 106, Барысаўскі п.; Чубинский, II, стар. 336, № 85, Брэсцкі п.; Federowski, III, стар. 89—91, № 180; Barag, стар. 89—91, № 73, Ганцавіцкі р-н. Руск. вар.— 25 (Пропп, стар. 487; Никифоров, № 8; Никифоров, Опись — 8 неапубл. запісаў).

У казцы ярка праявілася пераасэнсаванне традыцыйнага сюжэта. Антыпанская і антыклерыкальная накіраванасць твору ўзмацняецца ў выніку кантамінацыі сюжэтаў, адзін з якіх можна аднесці да тыпова чарадзейных, а другі — да бытавых.

## 44. Меднае Чудавішча

АА 502. Романов, VI, стар. 395—404, № 43. Зап. Е. Р. Раманаў у канцы XIX ст. у в. Папова Слабада Чавускага п. Магілёўскай губ. ад Н. С. Высоцкага, 75 г., непісьменнага.

Бел. вар.: Афанасьев, I, стар. 219—223, № 126; Шейн, II, стар. 52—55, № 24, Рэчыцкі п.; Добровольский, стар. 444—454, № 9; стар. 471—477, № 12, Ельнінскі п. Руск. вар.— 7 (Пропп, стар. 472; Никифоров, № 77; Балашов, № 6, 40). Укр. вар.— 8 (Андр., Укр.; Ск. Верховины, стар. 327—329; Галиця, стар. 56—74).

Асобныя матывы сюжэта, распаўсюджанага не толькі ў Еўропе, але і ў Азіі, Амерыцы, вядомы па старажытных ісландскіх сагах і рыцарскіх раманах. У апошняй частцы казкі дзеянне развіваецца, як у казках тыпу «Нязнайка» (532), што характэрна для ўсходне-славянскай казачнай традыцыі.

*Мяністы* — славуты, выдатны, знатны.

*Паквултавата* — скажонае ад *гвалтаваць* — зламаць, стаптаць.

*Скачываныя* — адцаць, скалечаныя.

*Западныя* — нізкія.

*Мярэча* — непралазнае балота, зараснік.

## 45. Булат — добры моладзец

АА 502+516. Романов, VI, стар. 7—14, № 2. Зап. Е. Р. Раманаў у канцы XIX ст. у в. Купрэеўка Гомельскага п. Магілёўскай губ. ад Кузьмы Андрэева, 70 г., непісьменнага.

Вар. сюжэта 502 «Меднае чудавішча» адзначаны ў каментарыі № 44.

Бел. вар. сюжэта 516 «Верны слуга»: Романов, VI, стар. 1—7, № 1, Чавускі п.; стар. 101—106, № 11, Гомельскі п.; Романов, IV, стар. 143—149, № 83, Сенненскі п.; № 84, Гомельскі п.; Weryha, стар. 35—38, № 8, Лідскі п.; Karłowicz, 1888, стар. 28—30, № 66; Barag, стар. 134—141, № 10, Мастоўскі р-н Гродзенскай вобл. Параўн. таксама: Добровольский, стар. 327—331, № 21. Руск. вар.— 8 (Пропп, стар. 473; «Русское народное творчество в Татарской АССР», склад. В. Ф. Паўлава. Казань, 1955, стар. 242—250). Яшчэ два тэксты маюць далёкае падабенства да гэтага сюжэтнага тыпу (Пропп, стар. 473). Укр. вар.: Чубинский, II, № 80; Етногр. зб., I, № 22, XXV, № 25; Яворский, № 38; Королович, стар. 34—43. Польск. вар.— 13 (Krzyzanowski, I, стар. 167—168).

Разам з еўрапейскімі Томпсан адзначае таксама індыйскія, арабскія, лацінаамерыканскія тэксты, але вобразы, падобныя вобразам герояў бела-

рускай казкі, сустракаюцца толькі ва ўсходнеславянскім фальклоры, дзе, дарэчы, адсутнічаюць некаторыя матывы, звычайныя для еўрапейскіх казак пра вернага слугу.

*Нáшчанец* — свой чалавек, такога ж роду, маёмасці, звання.

### 46. Лякай-камень

АА 516. Weryha, стар. 35—38, № VIII. Зап. У. Вярыга ў канцы XIX ст. у Лідскім п. Гродзенскай губ.

Вар. адзначаны ў каментарыі № 45.

*Окрант* — карабель.

### 47. Аб Свіным кажушку

АА 510 A. Federowski, II, стар. 100—102, № 73. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Дварчаны Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Магдусі Крэўчыкавай.

Бел. вар.: Federowski, II, стар. 98—100, № 72, Ваўкавыскі п.; стар. 102—103, № 74, Ваўкавыскі п.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 40, сш. 7, л. 4—6, Маладзечна; ф. 13, воп. 10, № 50, сш. 4, л. 3—9, Ашмянскі р-н; ф. 13, воп. 1, № 2, л. 15—16, Брэсцкая вобл. Проп адзначае 6 руск. вар. (стар. 472). Апрача таго, гл.: Балашов, № 25, 53. Укр. вар.: Драгоманов, стар. 177—183, 361—362; Чубинский, II, № 18; Гринченко, Казки, стар. 84—85; Етногр. зб., XXIX, № 43—44; Укр. сказки и легенды. Сб. сост. Г. Петников. Симферополь, 1971, стар. 72—77.

У заходнеславянскіх і заходнееўрапейскіх зборніках казкі гэтага тыпу сустракаюцца часцей. Напрыклад, польскіх казак пра Золушку апублікавана 18 (Krzyzanowski, I, стар. 162—163). У гэтым бел. вар. адчуваецца глыбокая сувязь з нацыянальнай фальклорнай традыцыяй, з песеннай творчасцю беларусаў. Дыялог маці і дачкі («Ці дуброва шуміць...», «Ні дуброва шуміць...») нагадвае некаторыя сірочыя, купальскія і інш. песні (П. Бессонов. Белорусские песни. М., 1871, стар. 43, № 78; Романов, I—II, стар. 86).

*Цёнгле* — увесь час.
*Зле цябе* — з цябе.
*Дайкалічнасць* — наваколле.
*Коч* — карэта.
*Дзівавіска* — відовішча.

### 48. Аб брату, што сястру за жонку ўзяў

АА *722 (=AT 313 E*)+510 B. Federowski, II, стар. 103—105, № 75. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Новікі Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Зосі Седачыхі.

Сюжэт *722 «Сястра прасела» распрацоўваецца пераважна ў усходнеславянскім, польскім і літоўскім фальклоры. Бел. вар.: Federowski, II, стар. 106—108, № 76, Ваўкавыскі п.; стар. 108—112, № 77, Ваўкавыскі п.; Weryha, стар. 55—59, № 14, Лідскі п. Руск. вар.— 6 (Пропп, стар. 480, Никифоров, стар. 359).

Бел. вар. сюжэта 510 В «Свіны чахол»: Романов, III, стар. 304—306, № 64, Быхаўскі п.; стар. 292—295, № 60б, Сенненскі п.; Романов. Материалы, стар. 368—370, № 13, Пружанскі п.; Federowski, II, стар. 106—108, № 76, Лідскі п. Проп адзначае 9 руск. вар. гэтага сюжэта (яшчэ чатыры маюць вельмі агульнае падабенства). Гл. таксама: Никифоров, № 61; Балашов, № 4. Укр. вар.: Афанасьев, II, № 291; Чубинский, II, стар. 73, № 18; Етногр. зб., т. XII, № 159; т. XXIX, № 43; Barącz, стар. 94; Левченко, № 567.

*Рэўня плакаць* — горка плакаць.

*Загані* — тут: загадай.

*У ніўбаўкі* — неўзабаве.

## 49. Марыся

АА 511. Друк. з архіва Л. Барага. Апубл. на нямецкай мове: Barag, стар. 232—239, № 23. Зап. Л. Бараг у 1947 г. у в. Сямернікі Ашмянскага р-на ад Макара Іванавіча Спірыды (1867—1950).

Ураджэнец в. Сямернікі М. І. Спірыда з 1893 па 1910 г. працаваў у ЗША на тэкстыльных прадпрыемствах. Там, сумуючы па радзіме, ён расказваў сваім землякам беларускія казкі, разам з імі спяваў народныя песні. Вярнуўшыся на радзіму, ён папаўняе свой рэпертуар, хутка становіцца прызнаным у вёсцы казачнікам. Ад Спірыды ў 1947 г. запісаны розныя казкі: чарадзейныя, легендарныя, сацыяльна-бытавыя. Гэтыя творы прасякнуты лірызмам, тонкім гумарам.

Бел. вар. сюжэта 511 «Аднавочка, двухвочка і трохвочка»: Романов, III, стар. 289—292, № 59, Рагачоўскі п.; стар. 292—295, № 60б, Сенненскі п.; Добровольский, стар. 153—154, № 88; стар. 154—157, № 89, Бельскі п.; Шейн, II, стар. 91—92, № 47, Ваўкавыскі п.; стар. 94—97, № 49, Віцебскі п.; стар. 97—98, № 50, Барысаў; Federowski, II, стар. 48—51, № 43, Ваўкавыскі п.; стар. 51—52, № 44, Ваўкавыскі п.; стар. 53—54, № 45, Ваўкавыскі п.; Weryha, стар. 59—62, № 15, Лідскі п.; Kolberg, 1889, стар. 204—205, № 4; Karłowicz, 1887, стар. 246—247, № 12; АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 44 — чатыры тэксты з Пастаўскага р-на; ф. 13, воп. 1, № 2, л. 15—16, Брэсцкая вобл.; ф. 13, воп. 8, № 4, сш. 25, л. 12—13, Мінскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 1, сш. 6, л. 17—19, Дзятлаўскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 11, сш. 1, л. 17—25, Баранавіцкі р-н; ф. 13, воп. 10, № 21, сш. 11, л. 14—24, Бярэзінскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 32, сш. 5, л. 1—5, Карэліцкі р-н; ф. 13, воп. 10, № 40, сш. 4, л. 9; ф. 13, воп. 10, № 40, сш. 7, л. 1—3, Маладзечна; ф. 13, воп. 10, № 46, сш. 12, л. 1—5, Вілейскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 49, сш. 9, л. 1—8, Іўеўскі р-н. Руск. вар.—12 (Пропп, стар. 472; Балашов, № 134). Укр. вар.——да 10, польск.— 8 (Krzyżanowski, I, стар. 164—165, № 511).

## 50. Казка пра сіротку Даротку

АА 511. АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 44, л. 8—14. Зап. Г. Барташэвіч і К. Кабашнікаў у 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага р-на Віцебскай вобл. ад Я. М. Альфер, 1908 г. нар., ад якой запісана яшчэ некалькі казак і шмат песень. Я. Альфер творча адносіцца да традыцыйнай спадчыны, удала імправізуе, па-майстэрску расказвае казкі, часта ўключае ў іх песні і прыпеўкі.

Вар. адзначаны ў каментарыі № 49.

### 51. Казка пра залатую яблыньку

АА 511. АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 11, сш. 1, л. 17—25. Зап. С. Смаршчок у 1967 г. у в. Уцёс Баранавіцкага р-на ад В. Стрэльчык, 1916 г. нар.

Вар. адзначаны ў каментарыі № 49.

### 52. Іван Беларасейскі

АА 930+519+513 А. Романов, VI, стар. 426—440, № 47. Зап. Е. Р. Раманаў у другой палавіне XIX ст. у м. Абчуга Сенненскага п. Магілёўскай губ. ад селяніна Філонава, 28 г., малапісьменнага.

У казцы арганічна аб'яднаны тры сюжэты, але падпарадкаваныя адзінай мастацкай задуме; распрацоўваюцца яны своеасабліва. Так, сюжэт 930 «Свайго лёсу не мінеш» распрацаваны толькі ў агульных абрысах як зачын казкі, асноўны змест якой набліжаецца да тыпу 519 «Сляпы і бязногі». Параўн.: Романов, VI, стар. 440—447, № 49, Гомельскі п.; Шейн, II, стар. 62—64, № 30, Рагачоўскі п.; Weryha, стар. 48—51, № 12, Лідскі п.; Klich, стар. 139—140, Навагрудскі п.; Karłowicz, 1888, стар. 269—272. Руск. вар. сюжэта 519—19 (Пропп, стар. 473; Балашов, № 54). Укр. вар.: Кулиш, Записки, II, стар. 59—82.

Вар. сюжэта 513 А адзначаны ў каментарыі № 4.

*Шыбнёў (шыбень, шыбіна)* — кароткая палка.

*Крушнае* — ломкае.

*Шкарэдзіць* — пэцкаць, забруджваць.

На стар. 386 пасля слова *стыдна* ў першакрыніцы ў дужках даецца «няўвага».

### 53. Дурны сын

АА 530 А=АТ 530. Weryha, стар. 75—77, № XXIII. Зап. У. Вярыга ў 1884 г. у Лідскім п.

Бел. вар. сюжэта 530 «Сіўка-бурка»: Дмитриев, стар. 166—168, Навагрудскі п.; Романов, VI, стар. 81—88, № 8, Быхаўскі п.; Добровольский, стар. 590—594, № 30; Federowski, II, стар. 90—91, № 65 (у кантамінацыі з АА 300 А), Ваўкавыскі п.; стар. 91—93, № 66 (у кантамінацыі з АА 559), Ваўкавыскі п.; стар. 94—96, № 68, Ваўкавыскі п.; Чубинский, II, стар. 278—281, № 73, Кобрынскі п.; Klich, стар. 152—153, № 4, Навагрудскі п.; Kolberg, 1889, стар. 201—202, № 2; Karłowicz, 1887, стар. 283, № 38; Господарев, стар. 145—150, № 5; Хрэстаматыя, стар. 182—184, Валожынскі р-н. Руск. вар. — звыш 20 (Пропп, стар. 473; Никифоров, № 111, 125; Балашов, № 144). Укр. вар.—18. Акрамя адзначаных Андрэевым у заўвагах да другога тома казак Афанасьева (1938 г., стар. 589) 10 тэкстаў, гл. таксама: Ск. Верховины, стар. 251—259; Казки Буковини, 1968, стар. 103—112; Дідо-всевідо, стар. 132—142; Гиряк, 1969, № 1.

*Пентра* — паверх.

### 54. Ванечка-дурачок

АА 530 А. Хрэстаматыя, стар. 182—184, № 325. Зап. А. Р. Мурашка ў 1953 г. у в. Дзесятнікі Валожынскага р-на.

Вар. адзначаны ў каментарыі № 53. Заключны эпізод нагадвае казкі тыпу 675 «Па шчупаковаму паваленню».

## 55. Як дурань з кралеўнаю ажаніўся

АА 559+530 А. Federowski, II, стар. 91—93, № 66. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у Дварчанах ля Свіслачы Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Марысі Гарбачыхі.

Вар. сюжэта 530 А адзначаны ў каментарыі 53. Бел. вар. сюжэта 559 «Маўклівая царэўна»: Романов, VI, стар. 81—88, № 8, Быхаўскі п.; стар. 88—90, № 9, Клімавіцкі п.; Добровольский, стар. 620—622, № 35; Federowski, II, стар. 93—94, № 67, Ваўкавыскі п.

Руск. вар.— 5 (Проп, стар. 475). Укр. вар.— 7. Яны пералічаны ў каментарыях Андрэева да другога тома казак Афанасьева (выд. 1938 г., стар. 649). У польскіх зборніках казак гэтага тыпу не адзначана.

*Знябожыцца* — знябыцца.

*Мярцы* — нябожчыкі.

*Умалёгаць* — упрасіць.

*Гвіжаць* — пішчаць.

*Хацямся* — хоць.

## 56. Тры ночы на магіле айца

АА 530 *В=АТ 530 А. Романов, VI, стар. 470—485, № 53, Зап. Е. Р. Раманаў у канцы XIX ст. у Абчугскай вол. Сенненскага п. Магілёўскай губ.

Бел. вар.: Чубинский, II, стар. 274—276, № 71, Кобрынскі п.; Добровольский, стар. 594—597, № 31, Бельскі п.; Шейн, II, стар. 50—52, № 23, Ігуменскі п.; Господарев, стар. 145—150, № 5. Руск. вар.—30 (Пропп. стар. 473; Никифоров, № 111, 125). Укр. вар.: Ск. Верховины, стар. 251—259.

*Грады* — падвешаныя да сцяны жэрдкі, на якія вешаюць цыбулю, бялізну, розныя рэчы.

*Паблікат* — тут у значэнні *загад, распараджэнне*.

*Лазенька* — тут хутчэй за ўсё лазня для сушкі ільну.

*Цапкі* — жэрдкі ў лазні, якія можна састаўляць разам. На іх ставілі снапы для прасушкі.

## 57. Шывар-маладзец

АА 531+327 В. Романов, III, стар. 239—244, № 39. Зап. П. Кучынскі ў другой палавіне XIX ст. у г. Сянно Магілёўскай губ.

Бел. вар. сюжэта 531 «Канёк-гарбунок»: Афанасьев, I, стар. 219—223, № 126, Навагрудскі п.; Романов, III, стар. 228—232, № 37, Рагачоўскі п.; стар. 232—238, № 38, Сенненскі п.; стар. 247—250, № 41, Сенненскі п.; Романов, VI, стар. 276—286, № 30, Чавускі п.; стар. 286—297, № 31; Аршанскі п.; стар. 360—370, № 39, Аршанскі п.; Шейн, II, стар. 50—52, № 23, Ігуменскі п.; стар. 74—80, № 39, Ігуменскі п.; стар. 271—279, № 133, Ігуменскі п.; стар. 279—283, № 134, Слуцкі п.; Federowski, II,

